Райнэр Ліндэр

# Гісторыкі і ўлада



Rainer Lindner

# Historiker und Herrschaft

Nationsbildung und Geschichtspolitik
in Weißrußland
im 19. und 20. Jahrhundert

---

R. Oldenbourg Verlag München 1999

Райнэр Лінднэр

# Гісторыкі і ўлада

## Нацыятворчы працэс і гістарычная палітыка ў Беларусі XIX—XX ст.

Мінск
2005

УДК 947.6+[323+323.1](476)[091]:930.1(476)
ББК 63.3(2)4
Л59

*Бібліятэка часопіса „Беларускі Гістарычны Агляд“*
*Серыя:* Альбарутэніка

**Ліндproperэр Р.**
Л59 Гісторыкі і ўлада: нацыятворчы працэс і гістарычная палітыка ў Беларусі XIX–XX ст./Пер. з ням. Л. Баршчэўскага; нав. рэд. Г. Сагановіча. Выд. 2.— СПб., Неўскі прасцяг, 2005. — 540 с.
(Бібліятэка часопіса „Беларускі Гістарычны Агляд“)

ISBN 5-94716-035-8

Кніга нямецкага гісторыка Райнэра Ліндпэра з'яўляецца першым даследаваннем узаемадачыненняў гістарычнай навукі і палітыкі ў Беларусі. Бесстароннe аналізуючы шматбаковую сувязь паміж гісторыяй, фармаваннем нацыі і дзяржаўнай палітыкай, аўтар стварае панараму інстытуцыйна-кадравых і канцэптуальна-зместавых пераменаў у беларускай гістарыяграфіі ад яе станаўлення да нашага часу.
Выданне разлічана на гісторыкаў, культуролагаў і палітолагаў.

**УДК 947.6+[323+323.1](476)[091]:930.1(476)**
**ББК 63.3(2)4**



ISBN 5-94716-035-8

# Змест

# Прадмова да другога беларускага выдання

Дзякуючы беларускай версіі „Гісторыкаў і ўлады“ мая кніга знайшла тых чытачоў, для якіх яна пісалася. Тое, што пасля трох гадоў выходзіць яе другое выданне, мяне як аўтара глыбока кранае. Я ўдзячны выдаўцам і чытачам. Кніга не страціла ні сваёй актуальнасці, ні сваёй аўдыторыі, паколькі Беларусь усё яшчэ не прыйшла да самой сябе. Беларуская нацыя ўсё яшчэ ў станаўленні, і ўмовы для гэтага ўсё яшчэ не палепшалі. Краіна, у якой закрываюцца свабодныя універсітэты і нацыянальныя ліцэі, яшчэ не спазнала свабоды нацыянальнага самавызначэння. Краіна, у якой як і сотню гадоў таму, калі ўпершыню выйшла „Наша Ніва“, газету з такой назвай вымушаюць закрывацца на падставе тых жа абвінавачванняў, рызыкуе спыніцца ў часе. Пасля з'яўлення першага выдання кнігі ў сённяшняй Беларусі ўлада зноў замінае гісторыкам займацца іх прафесіяй. Метады абыходжання з інтэлектуаламі і палітычнай апазіцыяй часам падобныя на тыя, якія апісаны ў першых раздзелах гэтай кнігі. У школы, універсітэты і на прадпрыемствы вернута ідэалагічная апрацоўка. Афіцыйны погляд на гісторыю ў сённяшняй Беларусі прадэманстравала ўрачыстае адкрыццё мемарыяльнага комплексу „Лінія Сталіна“. Урад, палітычная актыўнасць якога арыентавана на састарэлыя сімвалы і нормы мінулага, магчыма, здольны ўтрымаць сваю цяперашнюю ўладу, але будучыні ён гэтым вызначыць не можа. Я прысвячаю гэтае выданне вучаніцам і вучням Беларускага ліцэя імя Якуба Коласа. Іх пакаленню будзе належаць будучыня.

Гэрлінген, на Каляды 2005 г. *Райнэр Ліндпэр*

# Прадмова да беларускага выдання

У гістарычных вобразах нацыяў і дзяржаваў знаходзіць сваё адлюстраванне не мінуўшчына, „якая яна была“, але хутчэй, дух часу „якім ён ёсць“. Гісторыкі не робяць рэканструкцыяў гістарычных светаў, а куды ў большай ступені ствараюць новыя „рэчаіснасці“. Крыніцы, праз якія свет, што адышоў у нябыт, звяртаецца да нас з-пад пёраў (альбо з друкарак кампутараў) гісторыкаў, дбайна выбіраюцца. Гісторыкі — гэтаксама як пісьменнікі ды публіцысты — належаць да інтэрпрэтацыйнай эліты, паслугамі якой панавальны ўладны рэжым карыстаецца перадусім тады, калі яго гістарычная альбо актуальная легітымнасць знаходзіцца пад пытаннем. У гісторыі XX ст. шмат прыкладаў таго, як узнікае таталітарны рэжым, як ён рэгенеруецца і якое месца ў яго ўмацаванні адыгрываюць ідэалогіі, сімвалы і вобразы гісторыі. Эпоха імперыяў скончылася з 1991 годам. Пачалася эпоха глабалізацыі. У Еўропе ёсць дзяржавы, што рэпрэзентуюць адначасова старую і новую эпохі. Пра адну з гэтых дзяржаваў і яе гісторыю вядзецца гаворка ў гэтай кнізе.

З аднаго боку, Беларусь у 1991 г. належала да эпохі імперыяў, што набліжалася да свайго канца. Вылецеўшы з арбіты сканалай Савецкай імперыі, краіна выправілася ў невядомую і няпэўную незалежнасць. Перапыненая гісторыя і аслабленае праз унутраную і вонкавую каланізацыю нацыянальнае самаўяўленне стаялі на дарозе да ўласнага дзяржаўнага развіцця. Больш як праз дзесяць гадоў пасля пачатку зменаў Беларусь хоць і здолела сцвердзіць сябе як дзяржава, ды не змагла пазбавіцца ад праблем, што абцяжарваюць яе існаванне. Палітычная, эканамічная і культурная спадчына імперыяльнай мінуўшчыны да сёння засталася тут. З іншага боку, Беларусь цяпер — фармальна незалежная дзяржава ў эпосе глабалізацыі. Яна знаходзіцца — з усімі сваімі вялікімі культурнымі традыцыямі ды асаб-

лівасцямі — у пошуку свайго месца ў зменлівай архітэктурнай пабудове Еўропы. Геапалітычнае становішча паміж „Расіяй і Еўропай" — хутчэй дадатковы шанец, чым абцяжарвальны чыннік. Калі Еўрапейскі Звяз пашыраецца да заходняй мяжы Беларусі, пад рукамі апынаюцца новыя магчымасці. Беларусь здолее выкарыстаць гэты шанец, калі сур'ёзна ўспрыме гістарычны досвед ужывання знешнімі сіламі гвалту на сваёй тэрыторыі, досвед стану бездзяржаўнасці і небяспекі аўтарытарнага кіравання. Гэтая кніга прапануе пэўную сістэматызацыю этапаў і з'яваў развіцця культуры гісторыяпісання і выкарыстання ў Беларусі гісторыі ў палітычных мэтах, пачынаючы з сярэдзіны XIX і сканчаючы завяршэннем XX ст.

З часу выхаду гэтай кнігі ў 1999 г. у мюнхенскім выдавецтве „R.Oldenbourg" прайшлі чатыры гады. У асноўных яе тэзах ніякіх змен не адбылося! Таму я свядома адмовіўся ад умяшальніцтва ў тэкст. За тое, што з'явілася ідэя перакласці маю цюбінгенскую дысертацыю на беларускую мову, я ўдзячны самім беларускім калегам, якія ў размовах альбо — як у выпадку з прафесарам Уладзімірам Снапкоўскім і д-рам Сяргеем Новікавым — у сваіх рэцэнзіях выказаліся пра маю працу. Перадусім хачу выказаць падзяку д-ру Генадзю Сагановічу — за той імпэт, з якім ён узяўся за выданне кнігі на беларускай мове. У Лявоне Баршчэўскім гэтая праца знайшла капітальнага перакладчыка. Фонду Роберта Боша (Штутгарт) я выказваю сваю падзяку за шчырую падтрымку ў фінансаванні выдання гэтай кнігі — гэтаксама як менавіта гэты фонд зрабіў магчымым з'яўленне кнігі „Handbuch der Geschichte Weißrußlands", выдадзенай пад рэдакцыяй Дытрыха Байраў і Райнэра Ліндпэра ў 2001 г. у Гётынгене (выдавецтва „Vandenhoeck & Ruprecht"); маё мюнхенскае выдавецтва „R.Oldenbourg" вельмі хутка дало сваю згоду на пераклад. За гэта шчыра дзякую.

Разам з усімі ўдзельнікамі праекта я таксама спадзяюся, што кніга знойдзе ў Беларусі зацікаўленае кола чытачоў. Гэта б добра стасавалася з маёй цікаўнасцю да Беларусі, якая перасягае мае чыста навуковыя інтарэсы. Я прысвячаю беларускае выданне ўсім тым сябрам і калегам у Беларусі, якія суправаджаюць мяне на гэтым шляху.

Гэрлінген, на Сёмуху 2003 г. *Райнэр Ліндиэр*

[1] Параўн. працы, што працягваюць тэму: Lindner, Rainer. Besieged Past. National and Court Historians in Lukashenkas Belarus // Nationalities Papers 27 (1999). C.631—648; *Яго ж.* Nationalhistoriker im Stalinismus. Zum Profil der akademischen Intelligenz in Weißrußland, 1921—1946 // JBfGOE 47 (1999). C.187—209; *Яго ж.* Continuity and Change in Post-Soviet Historiography. The Case of Belarus // Sakwa, Richard (рэд.). The Experience of State-Building in Eastern Europe. London, 1999. C.62—71; *Яго ж.* Падручнікі гісторыі ў Беларусі // Інстытут міжнароднага даследавання школьных падручнікаў імя Георга Экерта; Германская камісія ЮНЭСКО; Беларуская камісія па справах ЮНЭСКО (выд.) Гісторыя штодзённасці і правы чалавека. Мінск, 2000. C.47—72; *Яго ж.* Беларускія гісторыкі пад Сталіным // Беларускі Гістарычны Агляд / Belarusian Historical Review. 1999. Т.6. Сшытак 2. C.365—395; *Яго ж.* Gelehrtenleben zwischen den Zeiten: Der weißrussische Historiker Mitrofan V. Dounar-Zapol'ski // Даследчык гісторыі трох народаў: М.В.Доўнар-Запольскі. Гомель—Рэчыца, 2000. C.23—40; *Яго ж.* Geschichte und Geschichtsbetrieb im Weißrußland der Stalinzeit // Zeitschrift für Ostmitteleuropaforschung 50 (2001). C.198—213; *Яго ж.* Нацыянальныя і „прыдворныя" гісторыкі „лукашэнкаўскай" Беларусі // Гістарычны альманах (Гародня). 2001. № 4. C.198—215; *Яго ж.* The Lukashenka Phenomenon // Balmaceda, Margarita M.; Clem, James T.; Tarlow, Lisbeth L. (рэд.). Independent Belarus. Domestic Determinants, Regional Dynamics and Implications for the West. Cambridge, Mass., 2002. C.77—108.

# Прадмова

Гэтая праца прысвечана суадносінам гістарыяграфічнай навукі і палітыкі ў Беларусі ад позняга царызму да канца XX ст. Навізна даследавання для нерасійскай перыферыі царскай імперыі і Савецкага Саюзу, а таксама для постсавецкіх краін палягае, у прыватнасці, у тым, што тут гаворка ідзе пра гісторыю ўзаемадачыненняў паняццяў станаўлення нацыі, гістарычнага самаўсведамлення і палітычнай улады. Аб'ектам вывучэння ў вузкім сэнсе ёсць узнікненне гістарычнай навукі ў правінцыі, яе інстытуцыянальнае і кадравае забеспячэнне, узаемаперасячэнне нацыянальных і інтэгральных канцэпцыяў гісторыі, а таксама ступень уплыву на гэта вырашальных палітычных чыннікаў і дзеячаў. На падставе выкананага даследавання робяцца высновы адносна арганізацыі навуковай працы і гісторыкаў, а таксама палітычнай гісторыі і гісторыі ідэяў перыяду з XIX ст. да постсавецкай Рэспублікі Беларусь пад кіраўніцтвам прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі. Гэткім чынам у працы адлюстроўваецца ў найважнейшых рысах і сучасная гісторыя Беларусі.

Кніга ўяўляе сабою крыху скарочаную і апрацаваную версію маёй доктарскай дысертацыі, што была прадстаўлена да абароны на факультэце гістарычных навук універсітэта Эбергарда Карла ў Цюбінгене. Словы маёй удзячнасці належаць майму навуковаму кіраўніку і акадэмічнаму выкладчыку, прафесару Дытрыху Гаеру (*Dietrich Geyer*). Дзякуючы ягонаму адчуванню перспектыўнасці вывучэння ўзаемадачыненняў палітыкі і гістарыяграфіі ва ўмовах змены ўладаў была сфармуляваная галоўная ідэя гэтай працы; праз яго знакамітыя паметкі алоўкам яна ў вельмі значнай меры выйграла. Прафесару Дытрыху Байраў (*Dietrich Beyrau*) з Цюбінгена я хацеў бы выказаць падзяку за шматлікія крытычныя пытанні, якія дазволілі мне больш дасканала прыгледзецца найперш да падсавецкага перыяду гісторыі. Разам з прафесарамі Анзельмам фон Дзёрынг–Мантойфелем (*Anselm von Doering–Manteuffel*) з Цюбінгена і Лутцам Рафаэлем (*Lutz Raphael*) з Трыра ён дамогся ўключэння гэтай працы ў перспектыўныя рабочыя планы выдавецтва „R.Oldenbourg". У першую чаргу дапамогу ў тым, каб рукапіс ператварыўся ў кнігу, мне аказала спадарыня Кордула Губэрт (*Cordula Hubert*). Набор тэксту быў зроблены з велікадушнай дапамогай кампаніяў і фірмаў *DaimlerChrysler AG*, *H.F.&Ph.F.Reemtsma GmbH* і *Robert Bosch GmbH*, за што ім асобна дзякую.

Шматлікія асобы і інстытуцыі апекаваліся гэтай працай на ўсіх стадыях яе выканання. Крытычнае прачытанне ўсяго тэксту было даверана майму калегу з Цюбінгена доктару Ёргу Бабэроўскаму (*Jörg Baberowski*) і прафесарам Міраславу Гроху (*Miroslav Hroch*) з Прагі, Андрэасу Капэлеру (*Andreas Kappeler*) з Вены і Раману Шпарлюку (*Roman Szporluk*) з Гарварда. Вялікая колькасць іх заўваг была

мною з удзячнасцю прынята. Спадарыня Крыстына Кірштайн (*Christine Kirschstein*) з Эбэнгаўзэна з уласцівай ёй руплівасцю прачытала апошнюю карэктуру. Удзел у працы Даследчага інстытута міжнароднай палітыкі і бяспекі Фонду „Навука і палітыка" даў магчымасць мне, гісторыку, бліжэй пазнаёміцца з праблемамі даследавання сучаснасці і сучаснай палітыкі ва Ўсходняй Еўропе. За гэта, а таксама за мажлівасць працяглы час набываць неабходны досвед у Эбэнгаўзэне я ўдзячны прафесару Клаўсу Зэгбэрсу (*Klaus Segbers*) з Берліна, разам з якім я займаўся ўпарадкаваннем „постсавецкіх галаваломак", доктару Альбрэхту Цункеру (*Albrecht Zunker*) з Эбэнгаўзэна і доктару Клаўсу, барону фон дэр Роп (*Klaus Freiherr von der Ropp*) з Бона. Фонд Фрыдрыха Эберта ў межах сваёй Праграмы дапамогі спашукальнікам навуковых ступеняў аказваў падтрымку ў падрыхтоўцы маёй дысертацыі (чэрвень 1995 — чэрвень 1997 г.) і фінансаваў навуковую камандзіроўку ў ЗША. За сяброўскі прыём у Інстытуце ўкраінскіх даследаванняў (Гарвард, ЗША) выказваю падзяку д-ру Любамыру Гайду (*Ljubomyr Hajda*). Гэтая камандзіроўка дазволіла ліквідаваць прабелы ў пошуку некаторых крыніц і зрабіла магчымым вызначыць украінскую перспектыву ў параўнальным даследаванні. Універсітэцкаму Звязу Цюбінгенскага універсітэта я мушу выказаць падзяку за магчымасць прыняць удзел у V Сусветным кангрэсе Міжнароднай Рады Цэнтральна- і Ўсходнееўрапейскіх даследаванняў (International Council for Central and East European Studies), пад час якога я змог прэзентаваць першыя вынікі сваёй працы. Я таксама хацеў бы падзякаваць калегам з Цюбінгенскага Інстытута ўсходнееўрапейскай гісторыі і краіназнаўства за створаную там прыемную і заахвочвальную да працы атмасферу.

Даследаванне грунтуецца на вывучэнні архіўных і бібліятэчных матэрыялаў у Беларусі, якое доўжылася не адзін месяц. Без прыязнай дапамогі супрацоўніц Нацыянальнага Архіва Рэспублікі Беларусь Ірыны Каўганавай і Святланы Кныш я, напэўна, ніколі б не здолеў пазнаёміцца са шмат якімі дакументамі былога партыйнага архіва. Супрацоўнікі Інстытута гісторыі Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі д-р Павел Лойка, д-р Генадзь Сагановіч, д-р Андрэй Кіштымаў і д-р Ігар Чаквін пашырылі маю цікавасць да гісторыі і культуры Беларусі і аказалі мне значную дапамогу. Мой сябар і калега з Беларускага Дзяржаўнага Ўніверсітэта д-р Тадэвуш Навагродскі аддаў часу на апрацоўку літаратурных крыніц і капіяванне. Таксама іншыя сябры — прафесар Арлен і спадарыня Людміла Кашкурэвічы, д-р Вольга Загарульская і д-р Аляксандр Коўзік, д-р Ірына Бугрова, Іна Войціхава і Марына Кныш — увесь час клапаціліся пра разнастайнасць майго побыту ў тыя доўгія дні, якія мне давялося праседзець у архівах.

Мае бацькі, Крыста і доктар Франк Лінднэры, не толькі заўсёды прыязна ставіліся да маёй зацікаўленасці навуковай працай і на адлегласці падтрымлівалі яе, але і дапамагалі мне пры вычытцы рукапісу. Аднак галоўны цяжар, звязаны з выкананнем гэтай працы, мусіла вынесці мая жонка, доктар Крыстыяна Фрыдэрыка Ліндмэр, якая ў апошнія чатыры гады разгрузіла мяне ад шмат якіх турбот і — разам з нашым сынам — увесь час аказвала мне маральную падтрымку. Ёй я прысвячаю сваю кнігу.

Гэрлінген, Каляды 1998 г. *Райнэр Ліндмэр*

# Уводзіны

> „Асаблівасцю гістарыяграфіі Беларусі з'яўляецца працяглае панаванне ў ёй дзвюх антыбеларускіх канцэпцыяў — вялікапольскай і вялікарасійскай, якія ў канчатковым выніку зводзяцца да адмаўлення самога факта існавання беларускага этнасу, яго мовы і культуры і прызнання Беларусі часткай Польшчы ці Расіі, а беларусаў — галіной, адпаведна, польскага альбо рускага «племені». [...] У такіх умовах першачарговая задача беларускіх гісторыкаў як у галіне даследаванняў, так і ў развіцці гістарычнай адукацыі ў рэспубліцы — адраджэнне нацыянальнай канцэпцыі гісторыі Беларусі“ [1].

Такую выснову зрабіў мінскі акадэмічны гісторык Міхась Біч у жніўні 1991 г. пад уражаннем абвяшчэння дзяржаўнай незалежнасці Беларусі. Тады яшчэ не было відавочным, што нават праз пэўную колькасць гадоў афіцыйная гістарычная канцэпцыя не займее фірменнага знака нацыянальнай гістарыяграфіі. Дзеля адраджэння культуры гістарычнай навукі на падмурку дасавецкіх традыцыяў, якое назіралася ў іншых краінах — спадчынніцах былога Савецкага Саюза, палітычная ўлада ў Мінску дагэтуль выказала мала разумення. Асабліва пасля абрання ўлетку 1994 г. Аляксандра Лукашэнкі першым прэзідэнтам краіны нацыянальная гістарыяграфія і дзяржаўная палітыка пайшлі рознымі шляхамі. Пачынаючы з 1996 г. яны апынуліся ў стане адкрытай канфрантацыі. Своеасаблівым чынам зноў актуалізаваліся даўнейшыя погляды беларускай гістарыяграфіі. Прыхільнікі „нацыянальнай канцэпцыі беларускай гісторыі“ цяпер усвядомілі, як іх „папярэднікі“ — мысляры дасавецкага і раннесавецкага часу ўступалі ў спрэчкі з велікарускімі інтэрпрэтацыямі гістарычнай мінуўшчыны. Гісторыяпісанне, здавалася, зноў згубілася ў непрыміральных супярэчнасцях нацыянальных і імперскіх узораў інтэрпрэтацыі, якія, пачынаючы з XIX ст., у аднолькавай меры надавалі абрысы гістарычнага вобраза Беларусі і скажалі гэты вобраз.

Дагэтуль ані беларускія, ані заходнія даследчыкі яшчэ не выказваліся грунтоўным чынам пра ўзаемадачыненні палітыкі і гістарычнай навукі ў Беларусі. Выкананыя праз істотныя прамежкі часу ўласныя сістэматызавальныя працы па беларускай гістарыяграфіі ў значнай ступені пакідалі па-за дужкамі як прадмет разгляду палітычныя рамачныя ўмовы тых альбо іншых гістарычных даследаванняў. Нельга таксама не заўважыць, што ўсе без вынятку такія працы выразна выяўлялі палітычныя перакананні іх аўтараў альбо вынікі палітычнага ціску іхняга атачэння. Першым выказаўся наконт уласнай „беларускай гістарыяграфічнай школы“ ў 1922 г. Уладзімір Пічэта — вядомы і на Захадзе даследчык гісторыі Беларусі эпохі позняга царызму і раннесавецкага часу. Паводле яго меркавання, станаўленне гэтай школы адбывалася пачынаючы з канца XIX ст.[2]. Выдадзеныя асветніцкімі таварыствамі, археалагічнымі камісіямі альбо паасоб-

[1] Біч М. Аб нацыянальнай канцэпцыі гісторыі і гістарычнай адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь // БГЧ. 1993. №1. С.15—24; тут цыт. с.15.

[2] Пичета В. Историография Беларуси // *Яго ж.* Введение в русскую историю (источники и историография). Москва, 1922. С.178—191.

нымі даследчыкамі публікацыі крыніц, а таксама першыя манаграфічныя і абагульняльныя працы спрычыніліся да таго, што з імперскай гістарыяграфіі змагла вылучыцца рэгіянальная беларуская гістарычная навуковая школа, якая здолела захаваць сваю самастойнасць і пасля 1917 г.[3] Калі ў канцы 20-х г. XX ст. у Беларусі таксама пачалася барацьба на „гістарычным фронце", дасавецкая і раннесавецкая гістарыяграфія была заклеймаваная прапагандыстамі новай гістарычнай канцэпцыі як прадукт польскіх, расійскіх альбо беларускіх нацыянал-дэмакратычных фальсіфікацыяў[4]. Нават паміж абодвума нарысамі У.Пічэты, прысвечанымі беларускай гістарыяграфіі, якія выйшлі, адпаведна, у 1922 і 1942 г., месяцца сусветы, пасля таго як іх аўтар у 1935 г. вярнуўся з высылкі і атрымаў працу ў Маскве[5]. Зробленае ім азначэнне гістарыяграфіі ў БССР („духоўнае дзіця Кастрычніцкай рэвалюцыі") істотна не мянялася ў працах з нагоды юбілеяў, што рэгулярна і ва ўнісон гаварылі пра тое самае цягам наступных дзесяцігоддзяў[6]. У выдадзеным у 1986 г. даследаванні З.Ю.Капыскага і В.У.Чапко болей не згадваліся імёны такіх выбітных беларускіх нацыянальных гісторыкаў дасавецкага і раннесавецкага часу, як У.М.Ігнатоўскі і В.Ю.Ластоўскі[7]. З сярэдзіны 80-х г., аднак, быў створаны цэлы шэраг хранталагічна ўпарадкаваных дысертацыяў, невялікага аб'ёму манаграфіяў і іншых прац, у якіх прапаноўвалася сістэматызацыя ў пытаннях беларускай гістарыяграфіі перыяду з канца XVIII ст. да 1917 г.[8], міжваеннага часу[9], пасляваеннага дзесяцігоддзя[10], а таксама шасці-

[3] Па гэтым пытанні і па праблеме публікацыі крыніц за падсавецкім часам найважнейшай застаецца праца: Улащик Н.Н. Очерки по археографии и источниковедению истории Белоруссии феодального периода. Москва, 1973.

[4] Шчарбакоў В.К. Класавая барацьба і гістарычная навука на Беларусі. Менск, 1934.

[5] Пичета В.И. История Белоруссии в советской историографии // Двадцать пять лет исторической науке в СССР / Под ред. В.П.Волгина, Е.В.Тарле, А.М.Панкратовой. Москва—Ленинград: ИИАН СССР, 1942. С.179—188.

[6] Пьянков А.П. Основные этапы в развитии белорусской историографии // Наука в БССР за 30 лет. Мінск, 1949. С.456—471; Перцаў У.М., Краўчанка І.С., Капыскі З.Ю. Гістарычная навука за сорак год // Навука ў Беларускай ССР за 40 год. Мінск, 1958. С.64—89; Карпачев А.М., Копысский З.Ю., Кравченко И.С., Марченко И.Е. Советская историография Белоруссии. Мінск, 1967 (=Очерки истории исторической науки в СССР. Т.7: Материалы к обсуждению. Москва: ИИАН СССР, 1968); Капыскі З.Ю., Карпачоў А.М., Краўчанка І.С., Марчанка І.Я., Мітрафанаў А.Р. Беларуская гістарычная навука // Навука БССР за 50 год. Мінск, 1968; Достижения исторической науки в БССР за 50 лет. Мінск, 1970; Достижения исторической науки в БССР за 60 лет. Мінск, 1979.

[7] Копысский З.Ю., Чепко В.В. Историография БССР: Эпоха феодализма. Мінск, 1986.

[8] Карев Д.В. Белорусская историография в конце XVIII— начале XX вв. Дисс. док. ист. наук. Гродно: ГрДУ, 1995 (неапублікаваны рукапіс, захоўваецца ў Бібліятэцы НАНБ); *Яго ж.* Белорусская историография конца XVIII— нач.XX веков. Политика царизма и формирование исторической науки Беларуси // Наш радавод. (Гродна), 1993. Кн. 5, ч.2. С.234—393. Спасылкі на змену польскай дамінанты „беларускай" гістарыяграфіі на расійскую ў пачатку XIX ст. гл.: *Яго ж* Беларуская і польская гістарыяграфія ў XVI—XX стст. // Б/А. Вып.3. Мінск, 1994. С.242—251.

[9] Михнюк В.М. Становление и развитие исторической науки Советской Белоруссии (1919—1941 г.). Мінск, 1985.

[10] Храпко Л.П.Развитие исторической науки в БССР (1945—конец 1950-х годов). Дис. канд. ист. наук. Мінск, 1989 (неапубл. рукапіс, захоўваецца ў дысертацыйнай зале

дзесятых[11], семідзесятых[12] і васьмідзесятых[13] гадоў. У залежнасці ад беспасярэдніх палітычных умоў узнікнення гэтыя працы адлюстроўвалі надзвычай асцярожнае дыстанцаванне ад палітычна матываванага ціску, які аўтары адчувалі ў перыяд паміж 1985 і 1997 г. Найноўшае абагульненне гістарыяграфіі гісторыі Беларусі пераважна прасякнута духам „нацыянальнай гістарыяграфічнай канцэпцыі", пачаткі якой тым часам пачалі ўвязвацца з „узнікненнем беларусазнаўства напрыканцы XVIII ст.". З гэтага гледзішча ўжо сярэднявечныя хронікі альбо гістарычныя працы ранняга Новага часу, прысвечаныя Вялікаму Княству Літоўскаму, з'яўляюцца неад'емнай часткай „гістарыяграфіі Беларусі". Гэтым самым сучасныя нацыянальныя гісторыкі далучаюцца да гістарыяграфіі часоў БССР і да выказаных постфактум прэтэнзіяў на гісторыю беларускіх земляў з найдаўнейшых часоў[14].

Заходнія даследчыкі з даўніх часоў неаднаразова займаліся праблемамі разумення і функцыянавання гістарычнай навукі ў царскай імперыі і ў Савецкім Саюзе. Пры гэтым пасля першапраходніцкіх прац Анатоля Мазура (*Anatole Mazour*) і іншых вельмі хутка аўтары пачалі засяроджваць сваю ўвагу на асобах альбо на пэўных тэматычных колах[15]. Галоўная ўвага прытым была скіраваная пераважна на навуковыя цэнтры метраполіяў і на праблему ўзаемадачыненняў

Бібліятэкі НАН Беларусі); *Яе ж.* Стварэнне „Гісторыі БССР" як важнае дасягненне гістарычнай навукі // Весці АН БССР (Серыя гуманіт.навук). 1986. № 1. С.53—61; *Яе ж.* Падрыхтоўка навуковых і навукова-педагагічных кадраў гісторыкаў Беларусі (1944—1960 г.) // Тамсама. 1987. № 6. С.59—66.

[11] Леоновец В.Т. Организация и развитие исторической науки в БССР (1961—1970 г.). Дисс. канд. ист. наук. Мінск, 1987 (неапубл. рукапіс, захоўваецца ў дысерт. зале Бібліятэкі НАН Беларусі); *Яго ж.* Удасканальванне арганізацыі гістарычнай навукі ў БССР (60-я гады) // Весці АН БССР (Серыя гуманіт. навук). 1986. №1. С.73—79.

[12] Шевчук И.И. Развитие исторических наук в БССР (70-е годы). Дисс. канд. ист. наук. Мінск, 1989 (неапубл. рукапіс, захоўваецца ў дысерт. зале Бібліятэкі НАН Беларусі); *Яе ж.* Арганізацыя гістарычнай навукі ў БССР (70-я гады) // Весці АН БССР (Серыя гуманіт. навук). 1988. № 3. С.65—71.

[13] Михнюк В.М., Петриков П.Т. Историческая наука БССР, 80-е годы. Мінск, 1987. Вельмі карыснае выданне таксама: Докторские и кандидатские диссертации по историческим наукам БССР 1944—1987 г.: Библиогр. указатель (2-е изд.) / Сост. В.Н.Михнюк, Л.Н.Новицкая. Издание Государственной библиотеки им. В.И.Ленина и Ин-та истории АН БССР, Мінск, 1988; акрамя таго, пра месца беларускай інтэлігенцыі ў агульнагістарычным працэсе гл.: Корзенко Г.В. Научная интеллигенция Белоруссии в 1944—1990 г. (подготовка, рост, структура). Мінск, 1995.

[14] Гл. энцыкл. артыкул *Гістарыяграфія гісторыі Беларусі* // ЭГБ. Т.3. Мінск, 1996. С.15—31. Тут асобна вылучаныя наступныя раздзелы: „Гісторыя Беларусі ў летапісах і хроніках" (*Г.Штыхаў*), „Гістарыяграфія гісторыі Беларусі ў 16— пач. 20 ст." (*Дз.Караў*), „Расійская гістарыяграфія гісторыі Беларусі" (*З.Капыскі, Г.Штыхаў*), „Станаўленне нацыянальнай гістарыяграфічнай канцэпцыі" (*М.Біч*), „Гістарыяграфія гісторыі Беларусі старажытных часоў і сярэднявечча (да канца 13 ст.) у працах 1920— пач. 1990-х г." (*Г.Штыхаў*), „Гістарыяграфія гісторыі Беларусі 14—18 ст. у працах 1920— пач.1990-х г." (*П.Лойка*), „Гістарыяграфія гісторыі Беларусі 19— пач. 20 ст. у працах 1920— пач. 1990-х г." (*М.Касцюк*), „Гісторыя Беларусі ў даследаваннях беларускай эміграцыі" (*Г.Сяргеева*).

[15] Mazour, Anatole G. Modern Russian Historiography. A Revised Edition. Westport, Conn.— London, 1975³.

навукі і палітыкі[16]. Калі не браць пад увагу даробак нацыянальных эміграцыйных цэнтраў[17], даследчыкі, якія пішуць на заходніх мовах, толькі зрэдку выказвалі сваю зацікаўленасць нерасійскай гістарыяграфіяй. Доўгі час перашкоды такім ініцыятывам стварала прыцягальнасць цэнтраў — Масквы і Санкт-Пецярбурга (Ленінграда); сваю ролю адыгрывалі і моўныя бар'еры, якія змяншалі магчымасці разумення. Шмат якія з наяўных працаў, часта задуманых у якасці параўнальных, прысвечаныя перш за ўсё тлумачэнню тэкстаў альбо гісторыі пэўных інстытуцый. Сапраўдныя палітычныя варункі функцыянавання гістарычнай навукі паводле афіцыйных тлумачэнняў апарата паноўнай улады і без ведання архіваў было цяжка вызначыць[18].

Да нешматлікіх вартых узгадвання абагульняльных прац па гісторыі Беларусі дагэтуль дадаюцца толькі паасобныя, несістэматызаваныя звесткі з бела-

[16] У якасці прыкладу гл.: Shteppa, Konstantin F. Russian Historians and the Soviet State. New Brunswick, NJ., 1962; Marko, Kurt. Sowjethistoriker zwischen Ideologie und Wissenschaft. Aspekte der sowjet-russischen Wissenschaftspolitik seit Stalins Tod, 1953—1963 (Abhandlungen des Bundesinstituts zur Erforschung des Marxismus, Bd.7). Köln, 1964; Heer, Nancy Whittier. Politics and History in the Soviet Union. Cambridge, MA., 1970; Pundeff, Martin (рэд.). History in the U.S.S.R. Selected Readings. San Francisco, CA., 1976; Baron S. H., Heer N. W. (рэд.). Windows on the Russian Past. Essays on Soviet Historiography since Stalin. Columbus, Ohio, 1977; Barber, John. Soviet Historians in Crisis, 1928—1932. London, 1981; Musterd, Carla. De Waarheid in Pacht. Studies over geschiedschrijving in de Sovjet Unie. Bergen, 1985; Black, Cyril E. Understanding Soviet Politics. The Perspective of Russian History. Boulder, Col., 1986; Sanders, John Thomas. The Past in the Service of the Future: Russian Historians and Russian Society, 1880—1930. PhD. Stanford University, Ann Arbor, 1989. Абагульненне англа-амерыканскіх даследаванняў падсавецкай гістарыяграфіі раннесталінскай эпохі прапануецца ў працы: Enteen, George. Soviet Historical Scholarship of the 1920s and 1930s in the Light of Anglo-American Historiography // Schelbert L., Ceh N. (рэд.). Essays in Russian and East European History. New York, 1995. С.217—239. З прац, што апошнім часам з'явіліся на нямецкай мове, увага якіх засяроджана на маскоўскіх і ленінградскіх інстытутах і спецыяльных цэнтрах даследаванняў гл.: Hösler, Joachim. Die sowjetische Geschichtswissenschaft 1953 bis 1991. Studien zur Methodologie- und Organisationsgeschichte (Marburger Abhandlungen zur Geschichte und Kultur Osteuropas, Bd.34). München, 1995.

[17] Прыкладам тут могуць быць даследаванні з украіністыкі: Doroshenko, Dmytro. A Survey of Ukrainian Historiography // The Annals of the Ukrainian Academy of Arts and Sciences in the U.S. 5-6 (1957). С.9—304; Pelenski, J. Soviet Ukrainian Historiography after World War II // JBfGOE 12 (1964). С.375—418; Полонська-Василенко Н. Українська історіографія. Мюнхен, 1971; Myhul, Ivan. Politics and History: A Study of Soviet Ukrainian Historiography, PhD. Columbia University, New York, 1973 (неапубл. рукапіс); Subtelny, Orest. Die gegenwärtige Situation der ukrainischen Historiographie: ein Überblick // Hausmann G., Kappeler A. (рэд.). Ukraine: Geschichte und Gegenwart eines neuen Staates. Baden-Baden, 1993. С.350—369. Нацыянальны погляд у нядаўняй працы: Potul'nyc'kyj, Volodymyr. Das ukrainische historische Denken im 19. und 20. Jahrhundert. Konzeption und Periodisierung // JBfGOE 45 (1997) 1. С.2—30.

[18] Найперш: Tillet, Lowell. The Great Friendship. Soviet Historians on the Non-Russian Nationalities. Chapel Hill, NC., 1969; Martiny, Albrecht. Das Verhältnis von Politik und Geschichtsschreibung in der Historiographie der sowjetischen Nationalitäten seit den sechziger Jahren // JBfGOE 27 (1979). С.238—272; Kappeler, Andreas. Die Historiographien der nichtrussischen Völker der RSFSR in den siebziger Jahren // JBfGOE 29 (1981). С.53—79; Lüdemann, Ernst. Zur „Lösung der nationalen Frage“ in der sowjetukrainischen

рускай гістарыяграфіі[19]. На гэтых працах ляжыць адбітак гледзішча альбо патрыятычнай дыяспары, альбо сацыялістычнай гістарыяграфіі[20]. Толькі з „вяртаннем гісторыі“ ва Ўсходнюю Еўропу на Захадзе, а найперш у нямецкамоўных краінах, узрасла цікавасць да гісторыі і культуры Беларусі[21]. Пасля распаду савецкай імперыі, рэгіяналізацыі і ўзнікнення самастойных дзяржаўных утварэнняў болей немагчыма было стварыць ніякай дзяржавы з дапамогай гістарыяграфіі метраполіі. Заходнія даследчыкі Ўсходняй Еўропы мелі шанец пераадо-

Geschichtsschreibung nach 1956 // FOG 40 (1988). C.229—305; Kerner M., Stopinski S. Der Umgang mit der eigenen Geschichte. Selektive Wahrnehmung der Vergangenheit in den baltischen Republiken // Osteuropa 41 (1991). C.602 і наст.; Schwedisches Zentralamt für Universitäts- und Hochschulwesen u.a. (Hg.) Das Geschichtsbild in den Ostseeländern 1990. Stockholm, 1991; Velychenko, Stepan. National History as Cultural Processes: the Interpretation of Ukraine's Past in Polish, Ukrainian and Russian Historiography. Edmonton, 1992; *Яго ж.* Shaping Identity in Eastern Europe and Russia. Soviet Russian and Polish Accounts of Ukrainian History, 1914—1991. New York, 1993; Astourian, Stephan H. In Search of their Forefathers: National Identity and the Historiography and Politics of Armenian and Azerbaijani Ethnogeneses // Schwarz D. V., Panossian R. (рэд.). Nationalism and History. The Politics of Nation Building in Post Soviet Armenia, Azerbaijan and Georgia. Toronto, 1994; Jones, Stephen F. Old Hosts and New Chains. Ethnicity and Memory in the Georgian Republic // Watson, Rubie S. (рэд.). Memory, History and Opposition under State Socialism. Santa Fee, NM., 1994. C.149—165. Грунтоўны аналіз нерасійскай гістарыяграфіі, які абапіраецца на архіўныя матэрыялы, гл. у: Meurs, Wim P. van. The Bessarabian Question in Communist Historiography. Nationalist and Communist Politics and History Writing (East European Monographs, Vol. 387). New York, 1994.

[19] Vakar, Nicholas P. Belorussia. The Making of a Nation. A Case Study. Cambridge, MA., 1956; Kosman, Marceli. Historia Białorusi. Wrocław etc., 1979; Zaprudnik, Jan. Belarus. At a Crossroads in History. Boulder, Col., 1993. На дваццатым ст. і Чарнобыльскай катастрофе сваю ўвагу засяроджвае Дэвід Марплз (Marples, David R. Belarus. From Soviet Rule to Nuclear Power. London, 1996). На нямецкай мове ёсць аглядныя працы, якімі можна карыстацца толькі ў абмежаванай меры: Engelhardt, Eugen Freiherr von. Weißruthenien. Volk und Land. Berlin—Amsterdam—Prag—Wien, 1943; Baranowa M.P., Pawlowa N.G. Kurze Geschichte der Belorussischen Sozialistischen Sowjetrepublik. Jena, 1985.

[20] Найперш гл. у перакладзе: Pičeta, V. Die weißrussische Geschichtsforschung 1922—1928 // SRU 1 (1929). C.661—666 і 823—827; Varonič, A. The History of Belorussia in the Works of Soviet Historiography // BR 2 (1956). C.73—97; Stankevich, Jan. The Soviet Falsification of Belorussian History // BR 4 (1957). C.56—82; Backus, Oswald P. The History of Belorussia in Recent Soviet Historiography // JBfGOE 11 (1963). C.79—96; Zaprudnik, Jan. Interpretation of the Grand Duchy of Lithuania in Recent Works of Belorussian Historians // Ziedonis A. (рэд.). Baltic History. Columbus, Ohio, 1974. C.61—67; Ignatenko, I. Belorußland // Gesellschaftswissenschaften, Sonderheft: Geschichtswissenschaften in der UdSSR. Moskau, 1976; Behrendt, Lutz Dieter. Zur Entwicklung der Geschichtswissenschaft in der BSSR // Bolk, Franz (рэд.). Zur Geschichte der BSSR und der deutsch-belorussischen Beziehungen. Kolloquium der Sektion Geschichte: 30. und 31. Oktober 1979 (Wissenschaftliche Beiträge der Friedrich-Schiller-Universität Jena). Jena, 1981. C.112—120; Aleksandrowicz, Stanisław. Sowjetische Forschungen zur Geschichte der belorussischen Städte in der Periode des Feudalismus // Donnert E., Krause H.-T., Schaaf H.-W. (рэд.). Die sowjetische Geschichtswissenschaft. Leistungen und internationale Wirksamkeit, Teil 1—4 (Martin-Luther-Universität Halle-Wittemberg, Wissenschaftliche Beiträge 1979/40). Halle/Saale, 1979. Teil 4. C.104—116.

[21] Lindner, Rainer. Neue Forschungen zu Weißrußland // ZfG 42 (1995). C.259.

лець страчаныя арыенціры толькі ў выпадку, калі яны самі пачалі б „рэгіяналізавацца“ і займацца новымі дзяржавамі ды іх гісторыяй[22]. У 1991 г. Дытрых Гаер канстатаваў, што заходнім даследчыкам „у вялікай ступені яшчэ невядома“, „як рэагуюць прафесійныя гісторыкі ў Кіеве, Львове, Мінску альбо Казані на адраджэнне нацыянальна-гістарычных міфаў і ідэалогіяў“. Хоць тым часам стала вядомай, прынамсі, танальнасць актуальных гістарычных дыскурсаў[23], апошнія ўсё ж такі не знаходзяцца ў стане гістарычна суаднесеных з ранейшымі канцэпцыямі гісторыі. У сітуацыі з Беларуссю пры гэтым паўстала пытанне, у якой меры ў асяродку адукаваных людзей перыферыйнай нацыі, што этнічна і культурна была блізкай расійскаму дамінантнаму цэнтру, у перыяд, пачынаючы з канца XIX ст., змагла сфармавацца асаблівая гістарычная альбо нацыянальная свядомасць[24]. Вырашэнне гэтага пытання аказалася тым больш неабходным, што гісторыя рэгіёну і яго насельніцтва ў большай ступені, чым іншыя сферы, не ўпісвалася ў класічныя нормы якой-кольвечы нацыянальнай гістарыяграфіі. Згодна з традыцыяй, беларусы як на Захадзе, так і ў гістарыяграфіі суседніх нацыяў, прылічваліся да „малых“, „маладых“, „плебейскіх“ і „негістарычных“ нацыяў[25]. Вердыкт пра „негістарычнасць“ вынікаў не ў апошнюю чаргу з факта адсутнасці ўлас-

[22] Geyer, Dietrich. Osteuropäische Geschichte und das Ende der kommunistischen Zeit. Vorgetragen am 28. Oktober 1995 (Sitzungsberichte der Heidelberger Akademie der Wissenschaften. Philosophisch-historische Klasse 1996, 1). Heidelberg, 1996.

[23] *Яго ж.* Perestrojka in der sowjetischen Geschichtswissenschaft // *Ён жа* (рэд.) Die Umwertung der sowjetischen Geschichte (Geschichte und Gesellschaft, Sonderheft 14). Göttingen, 1991. С.9—31 (у гэтым выпадку гл. с.15). Для „мінскіх гісторыкаў“ аўтар ужо ў 1994 г. прапанаваў пэўныя абагульненыя назіранні; гл.: Lindner, Rainer. Nationsbildung durch Nationalgeschichte. Probleme der aktuellen Geschichtsdiskussion in Weißrußland // Osteuropa 44 (1994) 6. С.578—590; *Яго ж.* Нязменнасць і змены ў постсавецкай гістарыяграфіі Беларусі // Кантакты і дыялогі. 1996. №3. С.20—25; *Яго ж.* Continuity and Change in Post-Soviet Historiography. The Case of Belarus // Sakwa, Richard (рэд.). The Experience of State-Building in Eastern Europe. London, 1999. S.62—71.

[24] Ужо наўрад ці магчыма даць агляд літаратуры па праблеме канструявання нацыянальнага і „вынаходніцтва нацыі“; яе змест паступова страціў сваю навізну. Інавацыі можна знайсці ў наступных працах: Andersson, Benedikt. Die Erfindung der Nation. Zur Karriere eines folgenreichen Konzepts. Frankfurt am Main, 1988; Hobsbawm E., Ranger T. (рэд.). The Invention of Tradition. Cambridge, 1983; Hobsbawm, Eric. Nationen und Nationalismus. Mythos und Realität seit 1780. Frankfurt am Main, 1991. Да праблемы калектыўнай памяці гл.: Assmann J., Hölscher T. (рэд.). Kultur und Gedächtnis. Frankfurt am Main, 1988. У кантэксце пытання „малагістарычных нацый“ таксама прыцягвае ўвагу: Berding, Helmut (рэд.). Mythos und Nation. Studie zur Entwicklung des kollektiven Bewußtseins in der Neuzeit. Frankfurt am Main, 1996. Акрамя таго: Tacke C., Haupt H.-G. Die Kultur des Nationalen. Sozial- und kulturhistorische Ansätze bei der Erforschung des europäischen Nationalismus im 19. und 20. Jahrhundert // Hardtwig W., Wehler H.-U. (рэд.). Kulturgeschichte heute. Göttingen, 1996. С.235—283.

[25] Chlebowczyk, Jozef. On Small and Young Nations in Europe. Wroclaw, 1980; Rudnytsky, Ivan. Observations on the Problem of „Historical“ and „Non-Historical“ Nations // HUS 5 (1981) 3. С.358—368; Brunn, Gerhard. Historical Consciousness and Historical Myths // Kappeler, Andreas (рэд.). The Formation of National Elites (Comparative Studies on Governments and Non-Dominant Ethnic Groups in Europe, 1850—1940, Vol. 6). Adelshot, NY, 1992. С.327—338. Пра тэрмін „плебейская нацыя“ гл.: Drahomanov, Mykhailo. Le letteratura di una nazione plebea (1880) — цыт. паводле: Rudnytsky, Ivan. Op.cit. С.361.

най пісанай гісторыі да XIX ст. Калі ж і ў Беларусі напрыканцы XIX ст. пачалі з'яўляцца свае інтэрпрэтацыі мінуўшчыны, адразу ж на беларускую нацыю, якая знаходзілася на стадыі фармавання, распачаўся магутны палітычны і культурны ціск усталяваных нормаў, што доўжыцца да цяперашняга часу.

У гэтым месцы, уласна, пачынаецца наша даследаванне. У ім разглядаюцца дачыненні паміж гісторыяпісаннем і культурай гістарычнай навукі, з аднаго боку, і паноўнымі ў Беларусі ўладамі, з другога боку, у перыяд з канца XIX да канца XX ст. У якасці сацыяльнай і палітычнай гісторыі ідэяў гістарычнага развіцця[26] тут прасочваюцца зменлівыя нацыянальныя, палітычныя і інстытуцыянальныя варункі беларускай гістарыяграфіі ў апошні перыяд існавання царскай імперыі, у часы СССР, а таксама ў позне- і посткамуністычную эпоху. Пры гэтым найперш даследуюцца гістарычныя канцэпцыі прафесійнай гістарыяграфіі і навукова-папулярнай публіцыстыкі. У полі зроку таксама знаходзяцца школьныя дапаможнікі, помнікі і іншыя сродкі гістарычнай культуры і стварэння гістарычных стэрэатыпаў. Неаднароднасць, расколатасць вобраза беларускай гісторыі ў працах навукоўцаў гэтай краіны ўзнікла на размежаванні розных гістарычных канцэпцый. Нацыянальная гістарыяграфія пры гэтым па-ранейшаму вызначаецца палітычнай дамінантай і знаходзіцца ў стане канфрантацыі з афіцыйнай гістарыяграфіяй улады. Будучы ўспрыманай як функцыя нацыянальнага альбо палітычнага жыцця гісторыя не даследавалася, а канструявалася і дэманталася, была аб'ектам палітычнага гандлю альбо рабілася простай канстатацыяй. Гэтае зарыентаванае на гісторыю „вытаргоўванне" індывідуальных і калектыўных уласных і чужых вобразаў, якое рэгулярна назіралася ва Ўсходняй Еўропе ў час пераломных падзей XX ст. не толькі ў канкрэтным выпадку з Беларуссю, тут інтэрпрэтуецца як гістарычная палітыка[27].

Праца, што складаецца з чатырох частак, паказвае, які ўплыў на незавершанае станаўленне беларускай нацыі мелі нацыянальная інтэрпрэтацыя гісторыі й палітыка ўладаў у дачыненні да гістарычнай навукі. Выбраныя ў якасці аб'екта разгляду чатыры перыяды, што даследуюцца, — апошні перыяд існавання царызму, ранне-, позне- і постсавецкі — ні ў якім разе не павінны трактавацца як спроба перыядызацыі беларускай гістарыяграфіі. Гэта, хутчэй, тыя адрэзкі часу, паміж якімі знаходзяцца нервавыя кропкі ў стасунках гісторыі і палітыкі ўлады ў дачыненні да гістарычнай навукі. Калі, аднак, прыняць пад увагу найноўшыя прапановы па перыядызацыі, то будзе няцяжка ўбачыць, што выбра-

[26] Па гэтай праблеме прыцягваюць увагу працы: LaCapra D., Kaplan S. L. (рэд.). Geschichte denken. Neubestimmungen und Perspektiven moderner europäischer Geistesgeschichte. Frankfurt am Main, 1989; тут, сярод іншых артыкулаў: LaCapra, Dominick. Geistesgeschichte und Interpretation, c.45—86); Iggers, Georg G. (рэд.). Geschichtswissenschaft im 20. Jahrhundert. Göttingen, 1993. Гл. таксама карысную спробу тыпалагізацыі гісторыі гістарыяграфіі ў Гёслера (Hösler, Joachim. Op. cit. — C.5 і наст.).

[27] Канцэптуальныя вызначэнні, што ляжаць у падмурку такога разумення гл. у: Binder B., Kaschuba W., Niedermüller P. „Geschichtspolitik": Zur Aktualität nationaler Identitätsdiskurse in Europäischen Gesellschaften // Kaelble H., Schriewer J. (рэд.). Gesellschaften im Vergleich: Forschungen aus Sozial- und Geschichtswissenschaften. Frankfurt am Main, 1998. C:465—508.

ныя для аналізу ў гэтай працы адрэзкі часу супадаюць з этапамі і паваротнымі пунктамі ў развіцці гістарыяграфіі ў XX ст. Паводле вызначэння гродзенскага гісторыка Дзмітрыя Карава этап узнікнення і інстытуалізацыі беларускай гістарыяграфіі доўжыўся да 1920-х г. Другі этап меў месца ад пачатку 30-х да сярэдзіны 50-х г. XX ст., а трэці этап прыпаў на час да сярэдзіны 80-х г. Хоць сталінізм у навуцы пасля перыяду адлігі паступова губляў сваю сілу і можна было адзначыць большую аўтаномнасць у працы гісторыкаў, прыглушэнне дагматычных пастулатаў і імкненне да большага прафесіяналізму, тым не менш, пасля смерці Сталіна не магло быць гаворкі пра трывалую „лібералізацыю грамадства" і навук. Пяты этап, які ў вялікай ступені вызначаецца амбівалентнасцю, працягваецца і ў дзевяностыя гады[28].

У аналітычнай частцы працы ўвага засяроджваецца на тых тэматычных колах беларускай гістарыяграфіі, якія перыядычна рабіліся актуальнымі і высвятлялі нацыянальныя прэтэнзіі да ўсходнеславянскай гісторыі. Да традыцыйнага пераліку гэтых тэм належаць: вызначэнне гістарычна-этнічнага паходжання, раннесярэднявечная гісторыя Полацкага княства, XVI ст. як „залаты век Беларусі" ў складзе Вялікага Княства Літоўскага, гісторыя XIX ст. з яе стрыжнявой датай, 1863 годам, а таксама — дадаткова для апошніх раздзелаў — гісторыя БССР пад час „Вялікай Айчыннай вайны" з эмацыйным націскам на партызанскім руху.

У першым раздзеле, прысвечаным апошняму перыяду існавання царызму, звяртаецца ўвага на сімбіёзнае паралельнае развіццё працэсу станаўлення нацыі і новай гістарыяграфіі, якое назіралася, пачынаючы з сярэдзіны XIX ст., у большасці „малых народаў" Усходняй Еўропы. Беларускія тэрыторыі не былі ў гэтым сэнсе нечым асаблівым. Прафесійныя гісторыкі і аўтары абагульняльных прац у межах „паўночна-заходніх правінцый" царскай імперыі і па-за імі стваралі гістарычныя вобразы, якія ваганіся паміж вялікапольскай, вялікарускай і нацыянальнай беларускай арыентацыямі. З'яўляючыся часткай перадрэвалюцыйных адукаваных колаў, палітычна заангажаваныя кан'юнктурныя гісторыкі — прадстаўнікі віленскай інтэлігенцыі трымалі выразную дыстанцыю ад афіцыйнай і, тым самым, прарасійскай, дзяржаўнай дактрыны. Па-за гэтым у іх тэкстах можна ўбачыць паралелі з нямецкім гісторыяпісаннем кайзераўскай імперыі. Рамантычна-нацыянальная, з ідэалізацыяй Сярэднявечча гістарыяграфія Гайнрыха Лудэна (*Heinrich Luden*), альбо прусацэнтрычныя працы Ёгана Густава Дройзэна (*Johann Gustav Droysen*), Гайнрыха фон Трайчке (*Heinrich von Treitschke*) і Гайнрыха фон Зюбэля (*Heinrich von Sybel*), у якіх створана нацыянальная гісторыя малой Нямеччыны з прускім дамінаваннем перыяду ад Сярэднявечча да ўтварэння імперыі[29], мелі свае ўсходнееўрапейскія адпаведнікі: не толькі

[28] Караў Дз. Беларуская гістарыяграфія XX ст. — адна з крыніц фарміравання менталітэту нацыі // БГЧ. 1995. № 3. С.99—107. Такі пункт погляду знаходзім ужо ў артыкуле: Шыбека З. Этапы навукова-асветнай дзейнасці беларусаў у новы час (XIX—XX стст.) // Б/А. Вып.1. Мінск, 1990. С.57—64. Адначасова, у савецкай манеры, гл.: Петрыкаў П.Ц. Перыядызацыя гістарычнай навукі ў БССР // Весці АН БССР (Серыя гуманіт. навук). 1990. №6. С.52—65.

[29] Падрабязна пра гэта гл.: Hardtwig, Wolfgang. Erinnerung, Wissenschaft, Mythos. Nationale Geschichtsbilder und politische Symbole in der Reichsgründungsära und im Kaiserreich // *Яго ж.* Geschichtskultur und Wissenschaft. München, 1990. C.224—263.

ў вялікарасійскай гістарыяграфіі Сяргея Салаўёва, Васіля Ключэўскага альбо Паўла Мілюкова[30], але і ў нацыянальнай гістарыяграфіі ўкраінца Міхайлы Грушэўскага альбо беларусаў Мітрафана Доўнара-Запольскага ды Вацлава Ластоўскага.

Рамантызавальная „сіла ўяўлення"[31] ў гісторыкаў з ускраін Расійскай імперыі атрымала свае дзейсныя моцныя імпульсы найперш з глыбінь нацыянальнай эмацыйнасці. У дачыненні да пераважна данавукова-публіцыстычных гістарычных твораў, напісаных на беларускіх тэрыторыях ў эпоху позняга царызму, будзе высветлена, што ў іх — у большай ступені, чым у Заходняй Еўропе — выявіліся паралельнасць, а ў шэрагу выпадкаў і перапляценне пазітывісцка-дакументальнай і нацыянальна-рамантызавальнай гістарыяграфіі[32]. Інтэрпрэтацыі гісторыі, у суправаджэнні маралізатарскіх, эстэтызавальных і часам метагістарычных катэгорыяў, узнікалі ў літаратурна-мастацкім асяроддзі, галоўным медыумам якога была публіцыстыка. Ужо ў першым, а яшчэ выразней у наступных трох раздзелах мы імкнёмся паказаць, што нацыянальная канцэпцыя гісторыі грунтуецца „відавочна заўсёды толькі на адмыслова падабраных эпохах і матывах" агульнай гісторыі нацыі[33]. Тут мае быць высветлены той факт, што для дасавецкага часу выключна значную ролю адыгрываў якраз даробак даследчыкаў з пазабеларускіх земляў. Нярэдка, аднак, за гэтым хаваліся, альбо і адкрыта выказваліся, гістарычныя прэтэнзіі на гэтыя тэрыторыі. Карціна, натуральна, засталася б няпоўнай без увагі на расійскую, польскую, украінскую і заходнюю (нямецкамоўную) гістарыяграфію.

Другі раздзел прысвечаны ў асноўным разгляду беларускай нацыянальнай гістарыяграфіі ў сталінскім Савецкім Саюзе ў перыяд з 1921 да 1944 г. Тут будзе

[30] Пра стан даследаванняў расійскай гістарыяграфіі канца XIX— пачатку XX ст. гл. дысертацыю Томаса Бона: Bohn, Thomas. Russische Geschichtswissenschaft von 1880 bis 1905. Pavel N. Miljukov und die Moskauer Schule. Köln—Weimar, 1998.

[31] Тлумачэнне гэтага паняцця гл. у: White, Hayden. Metahistory. Die historische Einbildungskraft im 19. Jahrhundert in Europa. Frankfurt am Main, 1991. Акрамя таго гл.: *Яго ж.* Die Bedeutung der Form. Erzählstrukturen in der Geschichtsschreibung. Frankfurt am Main, 1990. Гл. таксама: Fulda, Daniel. „Wissenschaft als Kunst". Die Entstehung der modernen deutschen Geschichtsschreibung 1760—1860. Berlin, 1996.

[32] У параўнанні з працэсам фармавання гістарычнай навукі як акадэмічнай дысцыпліны, што пачаўся ў Англіі паміж 1860 і 1870 г., гістарыяграфія Расійскай імперыі не выглядае надта адсталай. Параўн.: Fuchs, Eckhardt. Wissenschaft, Positivismus und Geschichtsschreibung in England // ZfG 42 (1994) 3. С.197—216, тут цытуецца с.201; акрамя таго гл.: Osterhammel, Jürgen. Epochen der britischen Geschichtsschreibung // Küttler W., Rüsen J., Schulin E. (рэд.). Geschichtsdiskurs. Bd.1: Grundlagen und Methoden der Historiographiegeschichte. Frankfurt am Main, 1993. С.157—188. Датычна ўспрымання пазітывізму, гістарызму і веры ў прагрэс у расійскай гістарыяграфіі параўн., на прыкладзе прац Ключэўскага і Карэева: Sanders, John Thomas. Op. cit. Акрамя таго гл.: Hecker, Hans. Russische Universalgeschichtsschreibung. Von den „Vierziger Jahren" des 19. Jahrhunderts bis zur sowjetischen „Weltgeschichte" (1955—1965). München—Wien, 1983.

[33] Пра гэта гаворыцца ўжо ў: Lemberg, Eugen. Die Rolle des Geschichtsbewußtseins in Ostmitteleuropa // Birke E., Lemberg E. Geschichtsbewußtsein in Ostmitteleuropa. Ergebnisse einer wissenschaftlichen Tagung des J.-G. Herder-Forschungsrates über die geistige Lage der ostmitteleuropäischen Völker. Marburg, 1961. С.30—45.

закранутая праблема, якім чынам адбывалася размежаванне нацыянальнай гістарычнай канцэпцыі, што напачатку дынамічна выбудоўвалася, і новапаўсталай падсавецкай гістарычнай канцэпцыі. Адначасова робіцца спроба, на прыкладзе развіцця беларускай навукі і як унутраных, так і публічных дыскусій, ахарактарызаваць сталінізм як „новую палітычную культуру“ (Р.Стайтс (*R.Stites*)), якая прынцыповым чынам змяніла і змест, і знешнюю форму гістарычнага дыскурсу[34]. Аналагічна таму, як з часоў нэпа назіраўся працэс пралетарызацыі партыі і бюракратычнага апарату, у беларускім навуковым ландшафце, што знаходзіўся ў стадыі фармавання, таксама пачаў моцна адчувацца прыток прадстаўнікоў тых груп грамадства, якія традыцыйна не ўваходзілі ў лік адукаваных. Сялянскія сыны без гімназічнага альбо універсітэцкага досведу патрапляліна пасаду дырэктара Інстытута гісторыі Беларускай Акадэміі навук. Другі „адукацыйны шлях“, нібы прыступкамі кар’ернай лесвіцы, пралягаў для шмат каго з беларускіх навукоўцаў-гуманітарыяў праз партыйную школу. Мэтай гэтай часткі нашай працы будзе вывучэнне канфліктаў пакаленняў і ідэалогіяў у навукова-гуманітарнай сферы аднойз нерасійскіх падсавецкіх рэспублік. Праз гэта адначасова выяўляюцца найноўшыя магчымасці даследавання адукаваных груп насельніцтва ва ўмовах таталітарнага рэжыму і перспектывы развіцця нацыянальнай правінцыі[35]. Вызначэнне сутнасці палітыкі ў дачыненні да навукі і культуры ў 1920-я і на пачатку 1930-х г. у нерасійскай рэспубліцы стварае, апроч таго, шматабяцальную мажлівасць прывязкі „імперыяльнага феномена“ (Ё.Бабэроўскі) сталінізму да канкрэтнай гістарычнай мясцовасці і выяўлення ідэалагічных, партыйна- і асабовапалітычных наступстваў узаемадачыненняў цэнтра і правінцыі[36]. Прафесійныя гісторыкі ў якасці прапагандыстаў і рэтранслятараў ідэяў належалі да групаў, за якім пільна назірала партыя; пры гэтым галоўны цэнтр меў абавязак нагляду за мясцовымі перыферыйнымі цэнтрамі.

Уведзеныя тут упершыню ў шырокі ўжытак дакументы часу і архіўныя матэрыялы не пакідаюць ніякіх сумневаў у тым, што ўзгадаваная ў самой Беларусі адукацыйная і партыйная эліта здолела ўжо ў 20-я г. усталяваць тут нашмат больш дасканалую сістэму цэнзуры і даносніцтва, чым гэта калі-кольвечы ўдалося б зрабіць маскоўскаму цэнтру. У дадатак спрацоўваў чыннік, што для маладога пакалення гісторыкаў праз ідэалагічна-канфармісцкія дзеянні ў значнай меры ўзрасталі шанцы зрабіць кар’еру, якія яно ў большасці выпадкаў умела выкарыстаць. Чаму ж у такім выпадку яно не пазбегла рэпрэсіяў другой паловы 30-х г. — гэтая праблема таксама мусіць быць вырашаная з апорай на дакументы. Этап адносна малаканфліктнага суіснавання буржуазных і новых падсавецкіх пакаленняў навукоўцаў, пад час якога „буржуазныя вучоныя“ займалі пасады

[34] Stites, Richard. Stalinism and the Restructuring of Revolutionary Utopianism // Guenther, Hans (рэд.). The Culture of the Stalin Period. London, 1992. С.78—94, у гэтым выпадку гл. с.80, 85.

[35] Beyrau, Dietrich. Bildungsschichten unter totalitären Bedingungen. Überlegungen zu einem Vergleich zwischen NS-Deutschland und der Sowjetunion unter Stalin // AfS 34 (1994). С.35—54.

[36] Baberowski, Jörg. Wandel und Terror: Die Sowjetunion unter Stalin 1928—1941. Ein Literaturbericht // JBfGOE 43 (1995). С.97—129, у гэтым выпадку гл. с.102.

рэктараў у новазаснаваных універсітэтах і акадэміях 20-х г., зрабіў магчымым нечаканы інавацыйны парыў і прадуктыўнасць беларускай гістарыяграфіі.

Памылковай высновай ранейшых даследаванняў было тое, што іх аўтары часта хацелі выдаваць паняцце „нацыянальнай каранізацыі", пад якім абагульнялася раннесавецкая нацыянальная палітыка, за доўгатэрміновую, загадзя вызначаную стратэгію савецкага кіраўніцтва. Гэтаксама, як пазнейшая сталінская „рэвалюцыя зверху" не праводзілася паводле нейкага распрацаванага плана, так і „каранізацыя" павінна разглядацца хутчэй як прамежкавае развязванне праблемы пад час сітуацыі міжуладдзя[37]. Дамінаванне нацыянальна-гістарычных узораў інтэрпрэтацыі ў беларускай гістарычнай і літаратурнай навуцы было не гэтулькі наступствам паслядоўнай нацыянальнай культурнай палітыкі, колькі, хутчэй, вынікам працягу актыўнай дзейнасці старога пакалення навукоўцаў. Калі сталінская сістэма ў другой палове 20-х г. ідэалагічна і кадрава ўмацавала свае пазіцыі, яна здолела замяніць на стрыжнявых пасадах кіраўнікоў адпаведных інстытуцыяў[38]. У працэсах супраць прадстаўнікоў акадэмічнай і мастацкай інтэлігенцыі на пачатку 30-х г. быў вызначаны парадак будучага абыходжання з адукаванымі людзьмі. Побач з гісторыяй інстытуцыяў і гістарычнымі канцэпцыямі беларускай гістарыяграфіі ў калектыўна-біяграфічным раздзеле на асобных прыкладах рэпрэзентуецца надзвычай неаднародная раннесавецкая супольнасць гісторыкаў і адначасова абмалёўваецца сацыяльны і ідэйны профіль прафесійнай нацыянальнай інтэлігенцыі часоў сталінізму.

У трэцім раздзеле працы, як ахоплівае перыяд ад Другой сусветнай вайны да пачатку „адлігі" (1944—1954), напачатку разглядаюцца змены гістарычнай канцэпцыі пасля „ўз'яднання" БССР з „Заходняй Беларуссю", як вынік заключэння ў 1939 г. пакта паміж Гітлерам і Сталіным, і досвед сусветнай вайны. Пры гэтым мы імкнуліся выявіць не толькі вынікі беспасярэдняга ўздзеяння вайны і акупацыі на гістарычную навуку ды структурныя змяненні апошняй у першым пасляваенным дзесяцігоддзі. У гэткай самай меры ў даследаванні засяроджваецца ўвага на чарговай міфалагізацыі гісторыі пад знакам партызанскага руху. Неабходна будзе паставіць пытанне: ці Другая сусветная вайна і беларускі вызвольны чын, які сучаснымі гісторыкамі ў значнай меры ўслаўляецца ў нацыянальных катэгорыях, не пацвярджаюць таксама ў дачыненні да шматнацыянальнай імпе-

[37] Новая дыскусія адлюстраваная найперш у: Levin, Moshe. The Making of the Soviet System. Essays in the Social History of Interwar Russia. London, 1985; Siegelbaum, Lewis H. Soviet State and Society between Revolutions, 1918—1929. Cambridge, 1991. І тут гаворка ідзе пра „энергічнае ажыццяўленне" каранізацыі як уклад у „росквіт нацыянальна-культурнай ідэнтычнасці" — гл. с.22; Bonwetsch, Bernd. Der Stalinismus in der Sowjetunion der dreißiger Jahre. Zur Deformation einer Gesellschaft // JfhK (1993). С.11—36. У беларускай гістарыяграфіі з сярэдзіны 1990-х г. пытанні сталінізму закранаюцца досыць вяла — параўн.: Касцюк М. Сталіншчына і Беларусь // БГЧ. 1995. №1. С.98—106.

[38] Enteen, George M. Marxist Historians during the Cultural Revolution // Fitzpatrick, Sheila (рэд.). Cultural Revolution in Russia, 1928—1931. Bloomington, Ind., 1978. С.154—168, у гэтым выпадку гл. с.158. Пра сацыяльныя аспекты, акрамя таго, гл. раздзел.: Professors and Soviet Power // *Яго ж.* Education and Social Mobility in the Soviet Union, 1921—1934. Cambridge, MA., 1979. С.64—86.

рыі, Савецкага Саюзу, тэзу, што адстойваецца найноўшымі даследчыкамі нацыяналізму, пра нацыю як „змагарную супольнасць"[39]? Гэтаксама як італьянскія камуністы здолелі прыстасаваць міф „супраціўлення" (*resistenza*) як акт найвышэйшага ўзлёту нацыянальнай гісторыі і ідэалагічнае крэда заснавання Рэспублікі пасля 1946 г. і, гэткім чынам, гісторыяпісанне, прысвечанае супраціўленню, доўгі час дамінавала ва ўсёй італьянскай гістарыяграфіі, так і ў БССР мела месца цесная сувязь паміж ваенным досведам, партызанскім міфам і квазінацыянальнай гістарыяграфіяй. У абедзвюх краінах сёння толькі нешматлікія гісторыкі працуюць над гістарызацыяй гэтага міфа і, тым самым, над яго разбурэннем[40]. Акрамя таго, на прыкладзе адной кніжнай гісторыі паказваюцца і ацэньваюцца ў духу найноўшых, аргументаваных з культурна-гістарычнага гледзішча даследаванняў рытуальныя дзеянні з перакананнямі, што мелі месца ў гуманітарных навуках апошніх гадоў сталінскай эпохі.

У другой і трэцяй частках працы, дзе ўтрымліваюцца выказванні, актуальныя не толькі для беларускага асяроддзя, а і ў дачыненні да ўсёй нерасійскай гістарыяграфіі пры сталінізме, адначасова асвятляюцца пытанні гатоўнасці ў варунках таталітарнага рэжыму інтэлектуалаў-прафесіяналаў ісці на кампраміс са сваімі перакананнямі і мець рознагалоссі. Гэтая праблема з нядаўняга часу зрабілася таксама аб'ектам зацікаўлення і для нямецкай гісторыі навукі — у дачыненні да эпохі нацыянал-сацыялізму, у выніку чаго з'явіліся шматлікія абагульняльныя публікацыі і манаграфіі[41]. Для непасрэднага параўнання нямецкай і падсавецкай гістарычнай навукі ў 1930-х і 1940-х г. тут, відавочна, бракуе месца. Дастаткова будзе заўважыць, што — адначасова з апанаваннем падсавецкіх навук ваяўнічай ідэалогіяй і палітычнымі рэпрэсіямі — аналагічныя працэсы назіраліся і ў нацыянал-сацыялісцкай Нямеччыне. Таксама, як у сталінскім Савецкім Саюзе, у гітлераўскім Райху ўзаемадачыненні гістарычнай навукі і палітыкі выліліся ў гісторыю разнастайнага супрацоўніцтва і ўзаемнага падпарадкавання. Даследчыкі старажытнасці, этнолагі, гісторыкі-медыявісты, спецыялісты па найноўшай гісторыі альбо гісторыкі Ўсходняй Еўропы — усе яны дэ-

[39] Гэтае паняцце гл. у Хагэна Шульцэ: Schulze, Hagen. Staat und Nation in der europäischen Geschichte. München, 1995. С.126. Параўн., у сувязі з гэтым, таксама змястоўнае абагульненне найноўшай літаратуры ў: Langewiesche, Dieter. Nation, Perspektiven, Nationalstaat: Forschungsstand und Forschungsperspektiven // NPL (1996). С.190—236.

[40] У дачыненні да Італіі параўн. контраверсійную кнігу Рэнца Дэ Фелічэ: De Felice, Renzo. Rosso e Nero. Roma, 1995. Як гэта таксама будзе паказана на прыкладзе найноўшых беларускіх прац, і Дэ Фелічэ часткова пачынае разбурэнне міфа „супраціву".

[41] Грунтоўна пра гэта ў: Schönwalder, Karen. Historiker und Politik. Geschichtswissenschaft im Nationalsozialismus. Frankfurt am Main—New York, 1992; Camphausen, Gabriele. Die wissenschaftlich historische Rußlandforschung im Dritten Reich, 1933—1945. Frankfurt am Main—Bern—New York—Paris, 1990; Wegeler, Cornelia. „...wir sagen ab der internationalen Gelehrtenrepublik". Altertumswissenschaft und Nationalsozialismus. Das Göttinger Institut für Altertumskunde 1921—1962. Wien—Köln—Weimar, 1996; Kröger M., Thimme R. Die Geschichtsbilder des Historikers Karl Dietrich Erdmann. Vom Dritten Reich zur Bundesrepublik. München, 1996; Königs, Dietmuth. Joseph Vogt — Ein Althistoriker in seiner Zeit. Basel, 1995; Volkmann, Hans-Erich. Von Johannes Haller zu Reinhard Wittram. Deutschbaltische historiker und der Nationalsozialismus // ZfG 45 (1997) 1. С.21—46.

манстравалі ад пачатку 30-х г. „прыстасоўванне навуковага пазнання — пастаноўкі пытанняў і фармуляванне адказаў — да дамінавальных тэндэнцыяў часу“[42]. Пасляваенная гістарыяграфія Захаду і Ўсходу дагэтуль яшчэ недастаткова выразна звяртала ўвагу на тое, што ў 1941—1945 г. вялася не толькі вайна ўзбраенняў, але і „вайна гісторый“. Гісторыкі па абодва бакі фронту ў значнай ступені прымалі ўдзел у справе „гістарычнай“ легітымізацыі вайны — у якасці акадэмічных даследчыкаў альбо агітатараў у акопах і траншэях[43].

Пасля кароткага нарыса далейшага развіцця беларускай гістарычнай навукі ў 50— 80-я г. XX ст. увага канцэнтруецца на працягу традыцыяў і пераменах у беларускім гісторыяпісанні і гістарычных канцэпцыях перыяду з 1988 г. да сённяшняга дня. Калі падсавецкае грамадства пачало гістарызавацца знутры і з боку геаграфічных межаў, яго заняпад ужо быў прадвызначаны. Як і ў іншых постсавецкіх краінах пасля атрымання імі незалежнасці[44], у Беларусі гісторыя таксама ўсё ў большай ступені рабілася прадметам палітычных дыскусіяў і асяроддзем нацыянальнай сэнсатворчасці. Той ціск, прымус да перамен, пад якім з таго часу апынуліся постсавецкае грамадства і ягоныя гісторыкі, Майкл Канфіна (*Michael Confino*) трапна назваў „тэрорам гісторыі“[45]. Гісторыя сама дыктавала неабходнасць перагляду зместу памяці і — прынамсі, у нацыянальных паўграмадствах — выпрацоўкі новага гістарычнага канона. З самага пачатку на долю гістарычнай навукі і публіцыстыкі, а таксама аўдыторных заняткаў па гісторыі, музейнай, помнікавай і святочнай культуры прыпадала вырашальная роля ў „пераацэнцы“ гісторыі. Аднак з перспектывы ўзаемадачыненняў палітыкі і гістарычнай канцэпцыі трэба глядзець на Беларусь як на асаблівы выпадак.

Як ужо падкрэслівалася вышэй, пачынаючы з 1994 г., афіцыйная палітыка ўсё больш аддалялася ад нацыянальнай версіі гісторыі. У гэткай самай малой ступені сярод большасці насельніцтва здолела пашырыцца нацыянальная інтэрпрэтацыя гісторыі й сучаснасці. Стан гістарычнага і светапогляднага вакууму, характэрны для апошніх падсавецкіх гадоў, прывёў погляды посткамуністычных гісторыкаў не толькі да іх растварэння ў нацыянальным і дэмакратычным бачанні, але і — як паказвае беларускі прыклад — даў магчымасць пэўным неа-

[42] Цытата ўзятая з працы: Schönwalder, Karen. Op. cit. С.268.

[43] Пад час падрыхтоўкі да друку гэтай працы ў аўтара ў стадыі напісання знаходзіўся артыкул з рабочай назвай „Вайна гісторый. Гісторыкі пад Сталіным і Гітлерам“. Агульныя падыходы да гэтай праблемы прапануюцца ў: Koenen, Gert. Bolschewismus und Nationalsozialismus. Geschichtsbild und Geschichtsentwurf // Vetter, Mathias (рэд.). Terroristische Diktaturen im 20. Jahrhundert. Strukturelemente der nationalsozialistischen und stalinistischen Herrschaft. Opladen, 1996. С.172—207.

[44] Новыя перспектывы ўзніклі ўжо пад час гістарычнай дыскусіі апошніх гадоў існавання савецкай сістэмы. Сярод шматлікіх іншых прац па гэтай тэме параўн.: Davies, Robert W. Perestrojka und Geschichte. Die Wende in der sowjetischen Historiographie. München, 1989; Geyer, Dietrich (рэд). Op. cit. З нядаўніх прац, з разглядам шырэйшай перспектывы, гл.: Friedrich C., Menzel B. (рэд). Osteuropa im Umbruch: Alte und neue Mythen. Frankfurt am Main etc., 1994.

[45] Confino, Michael. Present Events and the Representation of the Past. Some Current Problems in Russian Historical Writing // Cahiers 35 (1994) 4. С.839—868.

савецкім утопіям зноў набыць дзейсную сілу[46]. Таму ў гэтым раздзеле апавядаецца пра „спрэчку беларускіх гісторыкаў" 1996—97 г., унікальную для ўсіх краін постсавецкай прасторы, якую трэба разглядаць у якасці беспасярэдняга выніку палітыкі новага беларускага прэзідэнта ў дачыненні да сістэмы кіравання і да гісторыі.

У больш шырокім плане пазнавальны інтарэс гэтага даследавання скіраваны на бесперапынныя тэндэнцыі развіцця беларускай гістарычнай канцэпцыі, якая ўжо напрыканцы існавання Савецкага Саюзу засведчыла сваю пераемнасць з традыцыямі дасавецкага і раннесавецкага часу. Пры гэтым было відавочным, што беларускія, украінскія і расійскія нацыянальныя гісторыкі пачалі займацца трактоўкай падобных міфалагем ды гістарычных стэрэатыпаў. Тым, чым для калег у Кіеве і Львове былі спадчына Кіеўскай Русі і казацка-гетманскай дзяржавы, для гісторыкаў з Масквы і Санкт-Пецярбурга — міф „Трэцяга Рыма", пра цароў альбо пра вялікія вызвольныя войны супраць „татарскага ярма" і арміяў Напалеона ды Гітлера, для гісторыкаў з Мінска і Горадні сталі значыць Полацкае княства альбо „беларуска-літоўскае Вялікае Княства". Калі паглядзець на гэтую праблему больш уважліва, то пачынае кідацца ў вочы, што ўкраінскія і расійскія гісторыкі зрабілі дзейснымі ўзаемныя гістарычныя прэтэнзіі. А ў гісторыі як адмысловай дысцыпліне ў беларускіх універсітэтах і акадэміях — як гэта мела месца ў дасавецкі і раннесавецкі перыяд — пачала выпрацоўвацца канцэпцыя дыстанцыянавання ад гістарычнай Расіі (Русі)[47].

Разуменне гісторыі, якое ў любым грамадстве выяўляецца з дапамогаю розных сродкаў камунікацыі — школьных падручнікаў, прэсы, палітычных выказванняў, а таксама ў літаратуры, радыё, тэлебачанні, кінематографе, — тут ад-

[46] Пашырэнне тэмы ў: Suny, Grigor. The Revenge of the Past. Nationalism, Revolution and the Collapse of the Soviet Union, Stanford, CA., 1993; Geyer, Dietrich. Der Zerfall des Sowjetimperiums und die Renaissance der Nationalismen // Winkler A., Kaelble W. (рэд). Nationalismus—Nationalstaat—Supranationalität. Stuttgart, 1993. C.156—186. Акрамя таго гл.: Geyer, Dietrich. Nation und Nationalismus in Rußland: Historische Essays. München, 1996. C.100—113.

[47] Szporluk, Roman. National History as a Political Battleground: The Case of Ukraine and Belorussia // Pap, Michael S. (рэд). Russian Empire: Some Aspects of Tsarist and Soviet Colonial Practices. Cleveland, Ohio, 1985. C.131—150; Gestwa, Klaus. Zum gegenwärtigen „öffentlichen Gebrauch" der Geschichte des Zarenreiches: Nationale Emotionen und neo-russophile Tendenzen // GWU 44 (1993) 5. C.273—286; Lindner, Rainer. Die Väter Solzhenizyns. Bemerkungen zum russischen Konservatismus in Geschichte und Gegenwart // Osteuropa 44 (1994) 12. C.1101—1116; Kohut, Zenon. History as a Battleground: Russian-Ukrainian Relations and Historical Consciousness in Contemporary Ukraine // Starr, S.Frederick (рэд). The Legacy of History in Russia and the New States of Eurasia (The International Politics of Eurasia, Vol. 1). Armonk, NY.—London, 1994. C.123—145; Lindner, Rainer. Nationsbildung durch Nationalgeschichte... (op.cit.); Sahm, Astrid. Politische Konstruktionsversuche weißrussischer Identität. Zur Bedeutung des Rückgriffs auf Geschichte für die unabgeschlossene weißrussische Nationsbildung // JBfGOE 42 (1994). C.541—560. З апошніх працаў гл.: Wilson, Andrew. National History and National Identity in Ukraine and Belarus // Smith G., Law V., Wilson A., Bohr A., Allworth E. (рэд). Nation-building in the Post-Soviet Borderlands: The Politics of National Identities. Cambridge, 1998. C.23—47. Параўнальны аналіз сучасных нацыянальных гістарыяграфіяў у Расіі, ва Украіне і ў Беларусі паказвае, што толькі нацыянальнарасійская грунтуецца на антызаходніх пастулатах.

люстроўваецца толькі часткова, найперш што датычыць школьных падручнікаў і публіцыстыкі. Пры аналізе гістарычных канцэпцыяў гэтая праца абмяжоўваецца разглядам друкаваных выказванняў гісторыкаў і публіцыстаў, а таксама галасамі, што прагучалі ва ўнутраных дыскусіях і дайшлі да нас у выглядзе архіўных дакументаў. Пры гэтым найперш выкарыстоўваліся абагульняльныя працы беларускіх гісторыкаў па „нацыянальнай і дзяржаўнай гісторыі Беларусі", а таксама паасобныя публікацыі, што звярнулі на сябе значную ўвагу. У дасавецкі і постсавецкі час пісаная гісторыя стваралася пераважна на старонках гістарычных і культурніцкіх часопісаў, якія, у сувязі з гэтым, прыцягвалі нашу асаблівую ўвагу. Гістарычныя вобразы мастацкай літаратуры, наадварот, разглядаліся намі толькі ў выключных выпадках. Найноўшыя даследаванні, між тым, звяртаюцца таксама да тэмы „несанкцыянаваных" альбо „падпольных" інтэрпрэтацыяў гісторыі ў грамадствах сацыялістычных дзяржаваў. Паралельна з маналагічнымі гістарычнымі тлумачэннямі і выпетранымі моўнымі канструкцыямі афіцыйнай гістарыяграфіі заўсёды існавала прыватная памяць[48]. Гэтая з'ява, як і паралелі з іншымі культурнымі прасторамі, разглядаюцца тут толькі пабежна[49].

Корпус крыніц, на якіх грунтуецца гэтая праца, складаецца з адпаведных вызначанай тэме тэкстаў гісторыкаў і публіцыстаў, а таксама з надрукаваных і ненадрукаваных дакументаў, у якіх больш падрабязна разглядаюцца зменлівыя ўзаемадачыненні гістарыяграфіі і палітыкі. Да гэтага дадаюцца паведамленні і агляды, што характарызуюць нацыянальнае, сацыяльнае і культурнае поле атачэння гістарыяграфіі. Адначасова, праз прыцягненне школьных падручнікаў, матэрыялаў помнікавай і святочнай семантыкі, а таксама — у паасобных выпадках — мастацкай літаратуры, характарызуецца паводле яе крыніц зменлівая гістарычная культура Беларусі. Пад час сваіх шматмесячных навуковых камандзіровак у Мінск я меў магчымасць карыстацца фондамі Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь (НАРБ), Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі і Бібліятэкі Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі. Аўтару — першаму заходняму навукоўцу

[48] Lewis, Bernhard. History: Remembered, Recovered, Invented. Princeton, NJ., 1975; Halbwachs, Maurice. The Collective Memory. New York, 1980 (першае выд. 1950); Butler, T. (рэд). Memory: History, Culture and the Mind. Oxford, 1989; Le Goff, Jacques. Geschichte und Gedächtnis. Frankfurt am Main—New York, 1992. У якасці прыкладу гл. зборнік: Watson, Rubie S. (рэд.). Op. cit.

[49] Johnson, Richard etc. (рэд.). Making Histories. Studies in History-writing and Politics (Center for Contemporary Cultural Studies). Minneapolis, MI., 1982; rappaport, Joanne. The Politics of Memory: Native Historical Interpretation in the Columbian Andes. Cambridge, 1990; Unger, Jonathan (рэд.). Using the Past to Serve the Present. Historiography and Politics in Contemporary China. New York—London, 1993; Kovac, Dušan. Philosophie und Mythologisierung der slowakischen Geschichte // ÖOH 35 (1993) 4. С.517—536; гл. таксама іншыя даследаванні на прыкладах сітуацыі ў Манголіі, Кітаі, Чэхаславакіі і былой Югаславіі: Watson, Rubie S. (рэд.). Op. cit.; Kleinert, Claudia. Die Revision der Historiographie des Osmanischen Reiches am Beispiel von Abdülhamid II. Das späte Osmanische Reich im Urteil türkischer Autoren der Gegenwart (1930—1990) (Islamkundliche Untersuchungen, Bd.188). Berlin, 1995; Mannová E., Daniel D. P. (рэд.). A Guide to Historiography in Slovakia (Studia Historica Acta Slovaca, Vol. 20). Bratislava, 1995; Duara, Prasenjit. Historicizing National Identity, or Who Imagines What and When // Eley G., Suny R. G. (рэд.). Becoming National. A Reader. Oxford, 1996. С.151—201.

— быў забяспечаны доступ да спецыяльных фондаў былога партыйнага архіва. Побач з невычарпальнымі фондамі бібліятэкі Інстытута ўсходнееўрапейскай гісторыі і краіназнаўства, Баварскай Дзяржаўнай бібліятэкі ў Мюнхене, а таксама Дзяржаўнай бібліятэкі „Пруская культурная спадчына“ (*Preußischer Kulturbesitz*) у Берліне, з вялікай эфектыўнасцю былі скарыстаныя зборы бібліятэкі Лемана і Батлера (Калумбійскі універсітэт, Нью-Ёрк) і бібліятэкі Ўідэнэра (Гарвардскі універсітэт, штат Масачусетс). Дзякуючы бібліятэцы Ўідэнэра праца ўзбагацілася асабліва праз наша знаёмства з праектам „Савецкая грамадская сістэма“ (*Project on the Soviet Social System*).

Яшчэ колькі словаў пра складанасці з транскрыпцыяй. Традыцыйная шматмоўнасць і нацыянальная разнастайнасць на тэрыторыі, якую займае з 1991 г. незалежная рэспубліка *Беларусь*, змушае нас мець справу галоўным чынам з беларускімі, рускімі, польскімі, габрэйскімі ўласнымі імёнамі і назвамі. Дзе гэта было мажліва, мы імкнуліся перадаваць імёны асоб і назвы мясцовасцяў адпаведна з гучаннем у транскрыпцыі іх нацыянальнасці, а таксама згодна з *сённяшняй* геаграфічнай прыналежнасцю. Таму ў тэксце і ў спасылках да яго могуць неаднаразова ўзнікаць розныя варыянты напісання імёнаў альбо геаграфічных назваў. У тэксце мы імкнёмся арыентавацца на адзінае, а менавіта беларускамоўнае напісанне, пры гэтым у спасылках цытаванне ідзе паводле арыгінальнай крыніцы.

Вядомыя і шырокаўжывальныя геаграфічныя назвы — такія, як *Wilno* (Вільня), *Lemberg* (Львоў), *Minsk* (Мінск; у беларускім перакладзе для перыяду да 1939 г. ужываецца гістарычная назва „Менск“. — *Заўвага перакладчыка*) — у нямецкім тэксце пададзеныя паводле арфаграфіі слоўніка Дудэна, у той час як мы давяраем разуменню няспрактыкаванага нямецкага чытача паслядоўна намі ўжываныя назвы кшталту *Hrodna* (Гродна), *Mahilёй* (Магілёў) альбо *Vicebsk* (Віцебск), упершыню пададзеныя паводле беларускага гучання. Гэта робіцца не таму, што аўтар імкнецца фармальна падладзіцца да навуковай мовы новай беларускай гістарыяграфіі, а проста ў якасці спробы абмежаваць той тэрміналагічны разнабой, якога ўвогуле ў дадзенай сітуацыі немагчыма пазбегнуць[50]. Беручы пад увагу патрабаванні цэласнасці тэксту, мы, акрамя таго, таксама спыніліся на скразным ужыванні нямецкіх тэрмінаў *Weißrußland* (Беларусь) і *weißrussisch* (беларускі).

[50] Адзін прыклад павінен растлумачыць наша імкненне да адзінага напісання. У царскай імперыі назвы горада і цэнтра губерні перадаваліся як *Могилев (Mogilev)*. У 1920-х г. афіцыйнай назвай горада-цэнтра акругі стаў *Магілёў (Mahilёй)*. Да канца падсавецкага часу ўжываліся беларуская і расійская транскрыпцыі гэтай назвы — *Магілёў/Могилев (Mahilёй/ Mogilev)*. З 1990 г. — цяпер датычна ўсіх перыядаў гісторыі — у тэкстах гісторыкаў гаворка ідзе пра *Магілёў (Mahilёй)*. У цэлым транскрыпцыя адпавядае найноўшай кніжнай нямецкамоўнай публікацыі пра Беларусь: Holtbrügge, Dirk. Weißrußland. (Beck'sche Reihe, 863: Länder). München, 1996. Варыянты нямецкіх назваў Беларусі *Weißruthenien*, *Belorußland* або, сёння афіцыйная, *Belarus* не ўжываюцца.

# I. Станаўленне нацыі і нацыянальная гісторыя ў апошні перыяд існавання царскай імперыі

## 1. Сацыяльныя, нацыянальныя, палітычныя і інтэлектуальныя перадумовы

### *1.1. Прычыны запаволенасці працэсу фармавання беларускай нацыі*

Адміністрацыйна вылучанай „Беларусі“ да 1918 г. не існавала[1]. Тэрыторыі з пераважна беларускім насельніцтвам да падзелаў Рэчы Паспалітай напрыканцы XVIII ст. у большасці належалі Польшчы, а дзвесце гадоў раней — Вялікаму Княству Літоўскаму. Пасля падзей 1863 г. новыя паўночна-заходнія правінцыі Расійскай імперыі — Віленская, Менская, Віцебская, Магілёўская, Гродзенская губерні — сталі аб'ектам узмоцненай русіфікатарскай палітыкі з боку новай імперскай метраполіі. Яшчэ пачынаючы з 18 ліпеня 1840 г., згодна з *Указам* цара Мікалая І, каралася само афіцыйнае ўжыванне паняцця „беларускі“. Якраз у другой палове XIX ст. у дачыненні да Беларусі выразна выявілі сябе наступствы яе прамежкавага размяшчэння — паміж праваслаўнай Расіяй і каталіцкай Польшчай.

У асяроддзі тонкай праслойкі адукаваных гараджан, якія пераважна былі выхадцамі са спаланізаванай шляхты, тым не менш пачыналі фармавацца пачаткі нацыянальнай свядомасці. Тым часам прыгоннае сялянства заставалася ва ўладзе традыцыйных моўных і рэлігійных повязяў. Пераважная большасць яшчэ ў XX ст. называла сябе хутчэй сялянамі пэўнай вёскі, жыхарамі сваёй мясцовасці, *тутэйшымі*, чым „беларусамі“, „палякамі“ альбо „расійцамі“. Для нацыянальнай арыентацыі ў сэнсе беларускай нацыянальнай ідэнтычнасці пасля пяцісотгадовай гісторыі, на якую вялікі ўплыў мелі літоўскі, польскі і габрэйскі чыннікі, не існавала ніякіх перадумоў. Гэтая сітуацыя мела тым больш трывалы характар пасля 1839 г., калі, пасля 243 гадоў свайго існавання, уніяцкая царква стала ахвярай царскай забароны і пачалася палітыка канфесійнага дапасавання да праваслаўя.

Апроч прамежкавага геаграфічнага становішча, важкую ролю ў дачыненні да самавыяўлення беларускага элемента і нацыянальнай беларускай ідэі адыгралі

[1] Пад „Беларуссю“ тут разумеецца тэрыторыя ў большасці населеных беларусамі Віленскай, Менскай, Гродзенскай, Магілёўскай і Віцебскай правінцыяў. Пра перадгісторыю гэтага пытання гл.: Thaden, Edward C. Russia's Western Borderlands, 1710—1870. Princeton, NJ., 1984. C.32—55, 121—143, і Weeks, Theodore R. Nation and State in Imperial Russia: Nationalism and Russification on the Western Frontier, 1863—1914. DeKalb, Ill., 1996. C.196 і наст.

неспрыяльныя дэмаграфічныя, сацыяльныя і соцыякультурныя варункі[2]. Адсталасць сельскай гаспадаркі і беднасць сялянства мелі гэткі самы негатыўны ўплыў, як непісьменнасць і знікненне беларускай долі ў гарадскім насельніцтве, яго сярэднім класе і яго традыцыйных прафесіях. На магчымасцях канцэнтрацыі і без таго абмежаванага фізічнага, а адсюль і інтэлектуальнага беларускага патэнцыялу таксама адмоўным чынам адбівалася адсутнасць уласнага адміністрацыйнага і культурнага цэнтра[3]. Хоць у паўночна-заходніх правінцыях царскай імперыі беларусы складалі большасць насельніцтва, а тэрыторыя іх рассялення пераважна ахоплівала гэтыя рэгіёны, на пачатку XX ст. яны яшчэ не ўтваралі кансалідаванай нацыянальнай групы і ў абсалютнай большыні заставаліся неўспрымальнымі да нацыянальных ідэяў.

Даць рэальную ацэнку становішча беларускіх частак насельніцтва напрыканцы XIX ст. аказалася — як гэта ёсць і ў дачыненні да „маларасійскіх" (украінскіх) тэрыторыяў — складанай справай. У выніку спецыфічнага мяшанага характару геаграфічна-палітычных і культурных пераходных рэгіёнаў ды памежных зонаў, а таксама хуткіх перамен у пытаннях гістарычна-дзяржаўных повязяў статыстыка перапісу 1897 г. можа праліць святло на нацыянальны склад насельніцтва толькі праз самавызначэнне апытаных паводле іх роднай мовы.

Быць асабліва асцярожнымі ў абыходжанні з вынікамі перапісу насельніцтва прымушае пададзеная лічба колькасці нярускіх, якія назвалі расійскую мову сваёй роднай мовай. У той час як рознымі даследчыкамі неаднаразова рабіліся крытычныя заўвагі наконт таго, што праз вылучэнне ў перапісных анкетах паняцця „родная мова" замест паняцця „нацыянальнасць" колькасць беларускамоўных, а, адпаведна, і палічаных у якасці беларусаў аказалася зменшанай на карысць расійцаў, у найноўшых працах гэтыя лічбы разглядаюцца як „дастаткова верагодныя"[4].

Пры ўсім тым этнічная самасвядомасць беларусаў праз увядзенне беларускай мовы ў анкеты перапісу атрымала пэўнае ўзмацненне. У табл. 1 паказана размеркаванне насельніцтва беларускіх правінцыяў паводле полу і пісьменнасці. Асобна вылучаныя паказчыкі доляў гарадскога насельніцтва сведчаць, акрамя таго, пра нізкую ступень урбанізацыі гэтых тэрыторыяў у канцы XIX ст. Пераважна аграрная структура беларускай часткі насельніцтва стварала дадатковую

[2] Пра сацыяльнае становішча ў беларускіх правінцыях гл.: Vakar, Nicholas P. Belorussia... (op. cit.). С.65 і наст. і: Zaprudnik, Jan. Belarus... (op. cit.). С.45 і наст.

[3] Параўн.: Guthier, Steven L. The Belorussians: National Identification and Assimilation, 1897—1970. Part 1, 1897—1939 // SS 29 (1977) 1. С.37—61 (у гэтым выпадку гл. с.39). Даследаванне С.Л.Гут'ера грунтуецца на выніках перапісаў насельніцтва ў Расійскай імперыі і Савецкім Саюзе і прысвечана праблеме соцыякультурных змен і тэндэнцыяў развіцця беларускай долі насельніцтва.

[4] Крытыку звестак вынікаў перапісаў у дачыненні да беларусаў як крыніц гл у: Bauer H., Kappeler A., Roth B. (рэд.). Die Nationalitäten des russischen Reiches in der Volkszählung von 1897. Bd.A (Quellen und Studien zur Geschichte des östlichen Europa, Bd.33). Stuttgart, 1991. С.170 і наст. Пры аналізе вынікаў перапісу 1897 г. аўтары далучаюць да пяці беларускіх губерняў і Ковенскую губерню. Агульны крытычны разбор ужывання ў перапісе класіфікацыі паводле „роднай мовы" гл. тамсама, том B, с.137—158.

перашкоду для пашырэння ведаў і разумення ідэнтычнасці нацыянальнага ці якога-кольвечы іншага характару. У гэтым сэнсе можна разглядаць Беларусь у якасці мікрасвету адсталага аграрнага грамадства апошняга перыяду царскай імперыі.

| Губерня і цэнтр губерні | Насельніцтва | | | | Насельн. | Пісьменныя | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | мужчынск. | пісьм. | жаноч. | пісьм. | Разам | разам | у % |
| Менская | 1.069.445 | 272.086 | 1.078.176 | 109.086 | 2.147.621 | 381.172 | 17,75 |
| Менск | 115.166 | 61.472 | 109.779 | 40.093 | 224.945 | 101.565 | 45,15 |
| Магілёўская | 827.690 | 213.558 | 859.074 | 72.318 | 1.686.764 | 285.876 | 16,95 |
| Магілёў | 74.900 | 41.056 | 72.287 | 25.627 | 147.187 | 66.683 | 45,30 |
| Віцебская | 736.882 | 219.931 | 752.364 | 147.023 | 1.489.246 | 366.954 | 24,64 |
| Віцебск | 109.795 | 60.148 | 106.124 | 39.018 | 215.919 | 99.166 | 45,93 |
| Гродзенская | 815.833 | 313.044 | 787.576 | 154.463 | 1.603.409 | 467.507 | 29,16 |
| Гродна | 135.321 | 75.331 | 119.270 | 47.768 | 254.591 | 123.099 | 48,35 |
| Віленская | 790.880 | 274.343 | 800.327 | 183.248 | 1.591.207 | 457.591 | 28,76 |
| Вільня | 100.866 | 58.573 | 96.315 | 42.527 | 197.181 | 101.100 | 51,27 |

**Табл. 1**: Насельніцтва беларускіх губерняў і цэнтраў губерняў паводле полу і пісьменнасці (тых, хто ўмее чытаць) (1897 г.)[5].

Найноўшы аналіз вынікаў першага перапісу насельніцтва, акрамя таго, паказаў, што беларусы, у адрозненне ад любой іншай з колькасна большых нацыянальнасцяў царскай імперыі, жылі на тэрыторыі свайго першапачатковага засялення. Вось жа, 92,54 % усіх беларусаў Расіі сапраўды мелі месца жыхарства ў вялікім рэгіёне Беларусі і Літвы, г.зн. у шасці паўночна-заходніх правінцыях. У той самы час на тэрыторыях, якія тады прылічваліся да Украіны (Адэская губерня адносілася да Новай Расіі), жыло толькі 60,21% ад агульнай колькасці ўкраінцаў. Большую шчыльнасць этнічнага засялення, паводле гэтых звестак, мелі толькі грузіны (99,12%), балгары (98,87%) і малдаване (96,26%). Нават у Польшчы жыло толькі 85,18% этнічных палякаў[6]. Паводле сваёй роднай мовы 5 885 548 чалавек назвалі сябе беларусамі. 97,09% ад іх агульнай колькасці жыло ў сельскай мясцовасці; не нашмат меншаю была доля ўкраінамоўных украінцаў сярод сельскага насельніцтва Украіны (94,39%). Большую долю сельскага насельніцтва ў сваім складзе мелі толькі малыя народы — такія, як жамойты (98,00%) і горныя таджыкі (100%). Да апошніх, зрэшты, сябе прылічвалі два са 125 мільёнаў ахопленых перапісам жыхароў імперыі[7].

[5] Лічбавыя звесткі прыведзеныя паводле: Документы и материалы по истории Белоруссии / Под ред. В.Н.Перцева и др. Т.3: 1900—1917 г. Мінск, 1953. С.257. Калі сюды далучыць звесткі па Ковенскай губерні, агульная колькасць жыхароў складзе 10.062.811. Параўн.: Bauer H., Kappeler A., Roth B. (рэд.). Op. cit. — Bd.B. C.40.
[6] Тамсама, с.76.
[7] Тамсама, с.69.

З гледзішча прыналежнасці да сацыяльных груп і саслоўяў высокая доля (92,16%) сялян сярод беларусаў, якая перавышае адпаведны паказчык ва ўкраінцаў, ні ў якім разе не выглядае чымсьці незвычайным.

| Нацыянальнасці | Менская губ. Менск | Магілёўская губ. Магілёў | Віцебская губ. Віцебск | Гродзенская губ. Гродна | Віленская губ. Вільня |
|---|---|---|---|---|---|
| Беларусы | 1.633.091<br>26.665 | 1.389.782<br>44.152 | 788.599<br>28.738 | 705.045<br>22.996 | 891.903<br>15.057 |
| Расійцы | 83.999<br>43.770 | 58.155<br>19.167 | 198.001<br>47.787 | 74.143<br>38.125 | 78.623<br>36.178 |
| Украінцы | 10.069<br>1.559 | 3.559<br>1.157 | 420<br>346 | 362.526<br>5.925 | 913<br>654 |
| Габрэі | 343.466<br>132.278 | 203.507<br>77.082 | 174.240<br>112.480 | 278.542<br>146.907 | 202.374<br>85.250 |
| Палякі | 64.617<br>16.124 | 17.526<br>4.086 | 50.377<br>17.633 | 161.662<br>32.162 | 130.054<br>52.780 |
| Латышы | 1.686<br>181 | 7.027<br>376 | 264.062<br>3.286 | —<br>— | —<br>— |
| Літоўцы | —<br>— | 3.600<br>1.200 | 2.253<br>327 | 3.366<br>93 | 279.720<br>3.581 |
| Татары | 4.059<br>2.135 | —<br>— | —<br>— | 2.420<br>1.736 | 1.969<br>1.223 |
| Немцы | 3.987<br>1.341 | 1.806<br>658 | 7.361<br>4.393 | 10.284<br>4.725 | 3.873<br>2.250 |
| Іншыя | 6.706<br>3.027 | 1.802<br>389 | 3.951<br>931 | 5.421<br>1.922 | 1.778<br>1.024 |

**Табл. 2: Нацыянальнасці ў беларускіх губернях (1897 г.)[8].**

З іншага боку, на беларуска-літоўскіх тэрыторыях доля спадкаемнай шляхты ў агульнай колькасці насельніцтва была вышэйшай (3,02%), чым ва Украіне (0,95%). Дакладна кажучы, гэтая розніца колькасна складае 141 500 асоб, прытым, што на ўкраінскіх тэрыторыях жыло амаль што на 7 мільёнаў чалавек болей. Пры гэтым вызначальнай з'яўляецца не толькі лічба палякаў. Таксама суадносіны сярод спадкаемнай шляхты паміж беларускамоўнымі і ўкраінамоўнымі складаюць 1,57% беларускіх да 0,39% украінскіх шляхцічаў[9]. У дадатак да гэта-

[8] Тамсама, с.30. У гэтай табліцы кожная ніжняя лічба ў графе таксама адносіцца да гарадоў — цэнтраў губерняў.

[9] Тамсама, с.360 і наст., 380 і наст. Крытычна гледзячы на цытаваныя крыніцы, трэба ўзяць пад увагу, што, паводле Брыгіты Рот, „прылічванне ў значнай ступені альбо цалкам спаланізаваных прадстаўнікоў спадкаемнай шляхты да беларускамоўных можа быць ацэнена як палітычна матываваная, антыпольская акцыя [гл.: Roth, Brigitte — тамсама, том A, с.171 (Dokumentation: Sprachen)]. Пры параўнанні адпаведных паказчыкаў па беларускіх губернях з паказчыкамі па ўкраінскіх гэтая заўвага, аднак, не выглядае рэлевантнай, бо падобныя маніпуляцыі, відавочна, маглі ра-

га працэнт пісьменных на беларускіх тэрыторыях істотна перавышаў адпаведны працэнт ва Украіне. Там сярод прыкладна 12 мільёнаў жыхароў, старэйшых за 10 гадоў, 77,04% не ўмелі чытаць, у той час як у Беларусі пра такое становішча сведчыла толькі 65,55% апытаных. Пры гэтым на сваіх тэрыторыях сярод тых, хто назваў сваёй роднай мовай беларускую, доля тых, хто не ўмее чытаць, была меншай (79,82%), чым працэнт непісьменных (83,00%) сярод тых, хто лічыў сваёй роднай мовай украінскую[10]. Апошняя лічба павінна даць уяўленне пра тое, у якой ступені значнай была доля беларусаў сярод прадстаўнікоў „свабодных прафесій", да якіх прылічваліся, акрамя лекараў, настаўнікаў ды адвакатаў, таксама работнікі мастацтваў і навукоўцы. Калі ў гэтай прафесійнай групе (разам 33 177 занятых, 1,31% ад агульнай іх колькасці) тыя, хто назваў сваёй роднай мовай беларускую, складалі, разам са сваімі сямейнікамі, 5279 чалавек (0,47% усіх беларускамоўных занятых), дык, напрыклад, сярод габрэяў, якія назвалі сваёй роднай мовай ідыш, адпаведная лічба складала 15 721 (3,62%)[11].

Горад — як камунікацыйны цэнтр, як месца абмену ідэямі й інтэлектуальны базіс любой нацыі, у гэты час не знаходзіўся ў распараджэнні беларусаў; дакладней кажучы, беларусы не маглі выкарыстаць горад як прастору стварэння супольнасці. Іх доля ў агульнай колькасці насельніцтва вялікіх гарадоў (больш за 20 тыс. жыхароў) склала толькі каля аднаго працэнта, у той час як 25% прадстаўнікоў небеларускіх нацыянальнасцяў жылі менавіта ў такіх гарадскіх цэнтрах і складалі там каля 9/10 ад усёй колькасці насельніцтва. З прыкладна дзесяці мільёнаў сельскае жыхарства складала 88,24% і толькі 11,76% насельніцтва мела гарадское месца жыхарства. Гарады былі галоўным чынам месцам жыцця і працы габрэяў. Габрэі, якія гаварылі на ідыш, складалі 14,05% насельніцтва. Самае цікавае, што большасць іх (56,46%) усё ж такі жыла ў сельскай мясцовасці, а меншасць (43,54%) — у гарадах[12].

Толькі Вільня — на мяжы XIX і XX ст. адзіны вялікі горад Паўночна-Заходняга краю — здолела зрабіцца арганізацыйным цэнтрам вузкага кола беларускай інтэлігенцыі. Прытым у 1832 г. тут быў зачынены універсітэт — адзіная вышэйшая навучальная школа паўночна-заходніх правінцыяў. Маючы 150 тысяч жыхароў — прыкладна столькі, колькі Ташкент альбо Тыфліс, — Вільня ў канцы XIX ст. валодала істотнымі інфраструктурнымі перадумовамі для фармавання беларускай і габрэйскай нацый. Наймацнейшыя групы насельніцтва тут утваралі габрэі (40%), палякі (31%), расійцы (20%) і беларусы (4,2%). Літоўцы не мелі істотнага значэння. Вышэйшы за сярэдні быў у Вільні таксама паказчык адносна долі адукаваных і пісьменных жыхароў. Колькасць тых, хто ўмеў чытаць па-расійску, у кожным разе складала 52%, а не ўмелі чытаць 39% віленцаў. Доля тых, хто займаўся „свабоднымі прафесіямі", дасягнула 3,54% — амаль што ўзроўню Варшавы (3,59%). Між тым, уражвае той факт, што з 4228 працуючых беларускамоўных жыхароў разумовай працай займаўся прыкладна такі самы пра-

біцца і ў дачыненні да Украіны. Па праблеме суадносін у структуры беларускай шляхты гл.: Eberhardt, Piotr. Przemiany narodowościowe na Białorusi. Warszawa, 1994.

[10] Тамсама, с.236 і далей.

[11] Тамсама, с.308 і наст., 334 і наст.

[12] Тамсама, с.215 і наст.

цэнт асоб (2,98%), колькі іх было сярод польскамоўных працуючых (3,11%)[13]. Пасля заканчэння Першай сусветнай вайны горад адышоў да новазаснаванай Літоўскай дзяржавы, затым стаў польскім і тым самым быў страчаны як нацытворчы для беларусаў.

Жыццёвую прастору беларусаў стваралі вёска і мястэчка — г. зн., тыя жыццёвыя асяроддзі апошняга перыяду існавання царскай імперыі, у якіх не была выпрацавана камунікацыйная структура. Тут у распараджэнні людзей не было ў якасці сродкаў альбо асяродкаў камунікацыі ані газет, ані поўных сярэдніх школ ды іншых адукацыйных установаў, ані таксама прадпрыемстваў[14]. Больш-менш буйныя гарады былі, як паказвае табл.3, арэаламі, дзе пераважалі іншыя, а не беларуская, мовы. У буйнейшых гарадах Беларусі, што знаходзіліся ў цэнтры вызначанай царыцай Кацярынай II зоны аселасці габрэяў, выразна пераважала доля габрэйскага насельніцтва.

| Горад | Колькасць насельніцтва | Беларуская мова | Расійская мова | Польская мова | Ідыш |
|---|---|---|---|---|---|
| Вільня | 154.532 | 4,2 | 20,0 | **30,9** | 40,0 |
| Менск | 90.912 | 9,0 | 25,5 | 11,4 | 51,2 |
| Віцебск | 65.871 | 12,2 | **28,9** | 5,0 | 50,8 |
| Гродна | 46.919 | 11,6 | 22,4 | 14,5 | 47,7 |
| Магілёў | 43.119 | **29,8** | 15,9 | 3,1 | 49,8 |
| Гомель | 36.775 | 17,6 | 19,4 | 4,3 | 55,4 |
| Бабруйск | 34.336 | 4,9 | 28,3 | 3,1 | 60,2 |
| Пінск | 28.368 | 5,0 | 12,8 | 6,8 | **73,9** |
| Полацк | 20.294 | 15,4 | 17,4 | 4,5 | 61,3 |

**Табл. 3: Размеркаванне моўных груп у гарадах з насельніцтвам больш за 20 000 чалавек (1897 г., у працэнтах)[15].**

Пры ўсіх крытычных засцярогах адносна верагоднасці крыніцы адмовіцца ад вынікаў „перапісу" 1897 г. для вызначэння этнічнай структуры насельніцтва немагчыма. У дадзеным кантэксце нас цікавіць толькі інтэлектуальная мабільнасць жыхароў пяці беларускіх правінцыяў. Вынікі дазваляюць рабіць высновы пра памеры і асаблівасці мэтавай групы, да якой павінны былі звяртацца гісторыкі, публіцысты і літаратары. Стывен Гут'ер (*Stephen Guthier*), які прытрымліваецца камунікацыйнай мадэлі Карла Дойча (*Karl Deutsch*), ужо звяртаў увагу на тое, што, нягледзячы на колькасную перавагу беларускага насельніцтва ў паўночна-заходніх правінцыях, перадумовы для нацыянальнай мабілізацыі людскіх масаў былі як найбольш неспрыяльныя: „Калі браць пад увагу нацыянальную самасвядомасць, наяўнасць адукаванага персаналу і фінансавых рэсурсаў, беларускі народ адставаў ад усіх іншых нацыянальнасцяў рэгіёну — з выняткам, магчыма, літоўцаў"[16]. Паказаныя вышэй малая колькасць беларусаў у гарадах, ма-

[13] Звесткі адносна Вільні гл. тамсама, с.409, 428, 461, 472.
[14] Guthier, Steven L. The Belorussians... (op. cit.). C.44.
[15] Тамсама, с.45. Звесткі паводле перапісу 1897 г.
[16] Тамсама, с.41.

лая — якая, да таго ж, мела тэндэнцыю да знікнення — доля іх удзелу ў гарадскіх сферах атрымання даходаў (прамысловасць, рамёствы, транспарт) і ў тых групах, што займаюцца „свабоднымі прафесіямі" (юрыспрудэнцыя, паліцыя, медыцына, адукацыя, навука, мастацтва), павінны быць названыя ў якасці галоўных прычын такога становішча.

| Насельніцтва/ Выпускнікі школ | | Віцебская губ. | Гродзенская губ. | Менская губ. | Магілёўская губ. | Віленская губ. |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Мужчыны | | 842.500 (918.000) | 921.100 (994.500) | 1.274.600 (1.413.100) | 984.800 (1.099.000) | 893.500 (968.600) |
| Жанчыны | | 852.800 (915.900) | 885.900 (957.200) | 1.264.500 (1.400.300) | 1.007.800 (1.115.900) | 893.600 (958.300) |
| Разам | | 1.695.300 (1.833.900) | 1.807.000 (1.951.700) | 2.539.100 (2.813.400) | 1.992.600 (2.214.900) | 1.787.100 (1.926.900) |
| Скончылі пачатковую школу, на 1000 чал.; 1905 і 1911 г. | Мужчыны | 44,3 (55,8) | 63,7 (62,2) | 56,9 (61,5) | 76,7 (81,7) | 38,1 (30,2) |
| | Жанчыны | 15,9 (22,6) | 22,9 (21,0) | 28,9 (16,5) | 13,9 (24,8) | 13,1 (9,9) |
| | Разам | 30,0 (39,2) | 43,7 (42,0) | 32,9 (39,1) | 44,9 (53,0) | 25,2 (20,1) |
| Разам выпускнікоў школ, на 1000 чал.; 1905 і 1911 г. | Мужчыны | 52,2 (61,0) | 75,2 (65,5) | 67,1 (68,4) | 84,5 (86,9) | 53,8 (37,8) |
| | Жанчыны | 20,2 (28,3) | 26,2 (24,9) | 16,2 (22,7) | 17,3 (28,5) | 16,5 (11,5) |
| | Разам | 36,1 (44,7) | 51,5 (45,6) | 41,2 (45,7) | 50,5 (57,5) | 35,2 (24,7) |

**Табл. 4: Доля тых, хто закончыў школу, у агульнай колькасці насельніцтва беларускіх губерняў (1905 і 1911 г.)**[17].

Важным паказчыкам стварэння перадумоваў паспяховага нацыяўтварэння і, адпаведна — для гэтага кантэксту — здольнасці ўспрымання інтэлектуальных прапановаў, без сумневу, з'яўляецца паказчык пісьменнасці насельніцтва. І ў гэтым аспекце выразна відаць, што беларусы — у адрозненне ад палякаў, габрэяў, літоўцаў і расійцаў — толькі ў вельмі малой ступені мелі дачыненне да складу тых, хто ўмее чытаць і пісаць, у згаданых пяці губернях. Апытанні, зробленыя ў 1897 г., выявілі, што тры з чатырох беларусаў ва ўзросце паміж 10 і 49 гадамі не ўмелі ні чытаць, ні пісаць альбо чагосьці аднаго з названага. Толькі 22,4% беларускага насельніцтва пяці губерняў — менш за чвэрць — маглі стаць першаснымі адрасатамі літаратуры і публіцыстыкі, у той час як сярод іншых буйных нацыянальнасцяў тут усё-такі палова (51,5%) чытаць і пісаць умела. Натуральна, што доля непісьменных жыхароў надалей меншала і патрэба ў адукацыі ва ўсё большай

[17] Документы и материалы (op. cit.). С.269—283; Ежегодник России, 1906 г. Санкт-Петербург, 1907. С.304; *Тое самае.* [Санкт-Петербург], 1912. С.115.

ступені ўспрымалася і на сельскіх тэрыторыях — уласна месцах існавання беларускага насельніцтва. Як можна бачыць з табл. 4, у некаторых правінцыях колькасць выпускнікоў школ у 1905—1911 г. вырасла, адначасова ў іншых заўважалася яе змяншэнне.

Пастаянныя адукацыйныя прапановы да 1919 г. не сягалі ўзроўню, вышэйшага за гімназіі ды настаўніцкія семінарыі[18]. Установаў вышэйшай адукацыі з часу закрыцця Віленскага універсітэта на загад цара Мікалая I (1832 г.) тут ужо не існавала. Таксама размешчаная ў памяшканнях былога універсітэта абсерваторыя, якая выкарыстоўвалася для навуковых даследаванняў, мусіла спыніць сваю дзейнасць у 1883 г. Толькі пасля ўзнаўлення Польскай дзяржавы і далучэння да яе Віленскага павета ў 1919 г. універсітэт быў адноўлены і атрымаў імя Стэфана Баторыя. Менавіта апошні ў 1578 г. у выніку пашырэння ўплыву Контрэфармацыі надаў заснаванай на сем гадоў раней езуіцкай калегіі прывілей акадэміі. Універсітэт, які яшчэ ў XVIII ст. называўся „Галоўнай школай Вялікага Княства Літоўскага", пасля апошняга падзелу Рэчы Паспалітай у 1796 г. быў перайменаваны ў Галоўную Віленскую школу, а ў 1803 г. рэарганізаваны. Да гэтага часу тут існавала таксама заснаваная езуітамі ў 1586 г. „Віленская акадэмічная друкарня", у якой друкаваліся найбольш значныя працы па гісторыі Літоўскага Вялікага Княства. Да свайго закрыцця універсітэт у якасці цэнтра Віленскай навучальнай акругі паспеў зрабіцца асяроддзем фармавання краёвага, протанацыянальнага патрыятызму, які ўзгадоўваў сябе дзеля захавання культурных і гістарычных традыцыяў Вялікага Княства Літоўскага і рэгіёну як такога. У гэтай прасторы знаходзілі сваіх прыхільнікаў польскі, літоўскі і беларускі элементы. Арганізацыйным цэнтрам гэтай дзейнасці з 1817 г. было таемнае студэнцкае таварыства „сяброў навук" (*філаматаў*, пазней, з 1820 г., *філарэтаў*). Да іх вядучых прадстаўнікоў належалі, акрамя народжанага ў Беларусі польскага паэта Адама Міцкевіча, беларуска-польскія аўтары і патрыёты Т.Зан, Я.Чачот і А.Ходзька. Закрыццё універсітэта, важнага арганізацыйнага цэнтра паўстання 1831 г., годам пазней выглядала амаль што лагічна[19]. Ліквідацыя Віленскага універсітэта была практычна незаменнай стратай для беларускага руху і таксама для гістарычных доследаў, якія тады пачыналіся. У кожным разе на пачатку вясны 1908 г. камісія, якая складалася з афіцыйных асоб генерал-губернатарства і некалькіх прадстаўнікоў віленскай інтэлігенцыі, выклала свае меркаванні наконт узнаўлення дзейнасці універсітэта. Сярод найважнейшых патрабаванняў было: забяспечыць большую падтрымку вывучэнню беларускай

[18] Адзіная беларуская гімназія на гэтай тэрыторыі была адчыненая, з ініцыятывы Івана Луцкевіча, толькі 1 лютага 1919 г. у Вільні, і мела ў першы год свайго існавання крыху болей за 350 вучняў. Гл. успаміны аднаго з навучэнцаў: Багдановіч Я. Беларускі прытулак у Вільні і Віленская Беларуская гімназія // *Яго ж.* На жыццёвым шляху: Успаміны. Мінск, 1992.

[19] Параўн.: Kosman, Marceli. Uniwersytet Wileński, 1579—1979. Wrocław etc., 1981; История Вильнюсского университета, 1579—1979. Вильнюс, 1979. Акрамя таго, грунтоўны артыкул пра Віленскі універсітэт гл. у: ЭГБ. Т.2. Мінск, 1994. С.287 і наст. Пра закрыццё ўстановы гл.: Beauvois, Daniel. Lumières et société en Europe de l'Est: L'Université de Vilna et les écoles polonaises de l'Empire russe (1804—1831). Vol. 1, 2. (Atelier Reproduction des Thèses Université de Lille III, 1977). Lille, 1977.

мовы і гісторыі краю. За стварэнне гістарычна-філалагічнага факультэта актыўна выступаў, сярод іншых, рэдактар тады яшчэ маладога тыднёвіка „Наша Ніва" А.М.Уласаў. Паводле ягонага меркавання, гэта было неабходным, бо мова і гісторыя „беларусаў і ліцвінаў" яшчэ мала вядомыя; асабліва недастаткова дасследаванымі з боку навукоўцаў застаюцца сярэднявечныя літоўска-польскія стагоддзі[20]; гісторыкі маглі б рабіць свае доследы „ў сарцавіне краю", балазе ў іхнім распараджэнні былі б надзвычай багатыя фонды Віленскага Цэнтральнага архіва. Ідэя ўзнаўлення працы Віленскага універсітэта, аднак, у варунках царскай улады ўжо не магла ажыццявіцца.

Віленская навучальная акруга, што існавала ў 1803—1917 г., пачынаючы з 1863 г. была аб'ектам , які накрывала моцная русіфікацыйная хваля; вельмі значную ролю ў гэтым сучаснікі і пазнейшыя пакаленні гісторыкаў прыпісвалі генерал-губернатару графу М.М.Мураўёву, празванаму „катам Вільні". Былі зачыненыя шматлікія прыватныя сярэднія і пачатковыя школы. На іх месцы заснаваны рускамоўныя сельскія школы. З прычыны адсутнасці *земстваў*[21] на беларускіх тэрыторыях не было таксама і *земскіх школ*. Каб стварыць перашкоды мясцоваму жыхарству ў наведванні гімназіяў і іншых поўных сярэдніх навучальных устаноў, на пачатку 1880-х г. тут былі адчыненыя царкоўнапрыходскія школы, якія рабілі магчымым толькі атрыманне пачатковай адукацыі крыху павышанага ўзроўню. Польская і літоўская мовы як мовы навучання ў рэгіёне былі забароненыя. Аднак удалося прадухіліць друкаванне па-літоўску не лацінскімі, а кірылічнымі літарамі[22].

У 1915—1917 г. зафіксавана існаванне 89 беларускіх дзяржаўных школаў і настаўніцкіх семінарыяў. Сюды адносіліся таксама 13 мужчынскіх і 17 жаночых гімназій, 7 рэальных школаў і адна гандлёвая школа. Да гэтага трэба дадаць прыватныя школы, якія падзяляліся на тры ступені. У цэлым у беларускамоўных школах непасрэдна перад пачаткам Першай сусветнай вайны зарэгістравана 31 328 вучняў усіх ступеняў[23]. Настаўніцкія інстытуты, што ўзніклі да 1918 г., несумненна адыгралі важную ролю ў тым, што ўдалося павысіць якасць школаў і заняткаў і забяспечыць кадрамі пабольшаную колькасць вучняў. Аднак да канца царскага панавання агульная колькасць „настаўнікаў", што не мелі педагагічнай адукацыі, усё ж такі яшчэ перавышала колькасць прафесійна падрыхтаваных педагогаў[24]. Побач з дзевяццю настаўніцкімі семінарыямі, якія часткова

[20] Аб Віленскім унівэрсітэце // НН. №12, 6.06.1908. С.5—6.

[21] У Віцебскай і Магілёўскай губернях толькі ў 1911 г. у кантэксце зямельнай рэформы П.А.Сталыпіна была ўведзеная сістэма земстваў. Параўн.: Weeks, Theodore R. Op. cit. C.131 і наст.

[22] Пра адукацыйную палітыку гл. арт. Гвіда Гаўсмана (*Hausmann, Guido*) у: Bauer, H., Kappeler A., Roth B. (рэд.). Op. cit. Bd.A. C.330 і наст.

[23] Гл.: Снапкоўская С.В. Ля вытокаў нацыянальнай педагогікі. З гісторыі школы і педагагічнай думкі Беларусі канца XIX — пачатку XX ст. Мінск, 1995. С.15. *Ад перакладчыка:* У названай працы С.В.Снапкоўскай гаворыцца даслоўна: „Ва ўрадавых і прыватных сярэдніх вучэбных установах навучалася ўсяго 31 328 чалавек" — г.зн. тут не гаворыцца пра *беларускамоўныя* школы.

[24] Гэтак, колькасць настаўнікаў без адпаведнай кваліфікацыі ў Магілёўскай губерні ў 1913 г. усё яшчэ складала 73%: гл. тамсама, с.16.

функцыянавалі з канца XIX ст., пачынаючы з 1910 г. былі адчыненыя тры інстытуты названага тыпу: у Віцебску (1910 г.), Магілёве (1913 г.) і Менску (1914 г.). У Менскім педагагічным інстытуце ўжо ў 1918 г. выкладалі такія гісторыкі, як У. М. Ігнатоўскі альбо гісторык мовы і этнолаг Я.Ф.Карскі. Акрамя гэтага, у Менску, пачынаючы з красавіка 1918 г., прапаноўваліся курсы беларускага краязнаўства, якія ў значнай ступені былі навучальнымі ўстановамі гістарычнага кірунку. Беларускі гісторык, які шмат гадоў выкладаў у Кіеве, М.В.Доўнар-Запольскі ў 1918 г. увайшоў у камісію па падрыхтоўцы стварэння беларускага універсітэта ў Менску. Сябрам гэтай камісіі быў і Я.Ф.Карскі. Толькі праз тры гады, у 1921 г., у падсавецкім Менску ўдалося адчыніць універсітэт. А яшчэ „Беларускі народны універсітэт", заняткі якога былі арганізаваныя з 11 ліпеня да 12 жніўня 1918 г., здолеў, у кожным разе, прапанаваць для 57 настаўнікаў з акупаваных беларускіх тэрыторыяў серыю лекцыяў па гісторыі Беларусі[25]. На пытанне наконт падручнікаў па гісторыі беларускіх земляў для школ і вышэйшых навучальных установ адказаць лёгка: іх не было. Калі ў паасобных даследаваннях, прысвечаных перыяду з 1915 да 1921 г., усплывае колькасць 19 (у 23 асобных публікацыях)[26] падручнікаў — дык пры гэтым маюцца на ўвазе „Гісторыі" Ластоўскага і Ігнатоўскага — г.зн. працы, якія былі ўсё-такі разлічаныя на шырэйшыя колы публікі, але не былі напісаныя як навучальныя дапаможнікі. Школьныя падручнікі па гісторыі, якія выкарыстоўваліся і ў якіх „Заходняя Русь" ішла асобнай рубрыкай, збольшага наследавалі афіцыйным вялікарасійскім узорам інтэрпрэтацыі „западно-руссизма", але яны таксама ўтрымлівалі — часта ў завуаляванай форме — недвухсэнсоўныя ўказанні на адрозную інтэрпрэтацыю гісторыі, у якой паказваліся адрозненні паміж расійцамі і беларусамі[27]. Гэтак, на-

[25] Пад час чытання гэтага цыкла лекцыяў прафесар Пічэта ўпершыню прапанаваў урыўкі са сваёй ёмістай „Гісторыі Беларусі": Пичета В. История белорусского народа // Курс белорусоведения. Лекции, читанные в Белорусском народном университете в Москве летом 1918 года. Москва: Отдел просвещения национальных меньшинств Наркомпроса — Белорусский отдел, 1918—1920. С.1—84. У іншых лекцыях разглядаюцца сацыя-геаграфічныя і антрапалагічныя варункі беларускай гісторыі, разам з гісторыяй адукацыі, з беларускай мовай, літаратурай і тэатрам, а таксама з беларускім нацыянальным і рэвалюцыйным рухам. Частка тэкстаў была апублікаваная — гл. тамсама.

[26] Гэтыя і іншыя лічбы прыведзеныя ў кн.: Калубовіч А. Крокі гісторыі. Дасьледаваньні, артыкулы, успаміны. Беласток—Вільня—Менск, 1993. С.50 і наст.

[27] Прадстаўнікі гістарыяграфічнай традыцыі „западно-руссизма" паказвалі гісторыю заходніх правінцыяў царскай дзяржавы выключна як частку гісторыі Расійскай імперыі альбо гісторыю дачыненняў з Расіяй. Афіцыйнымі, неаднаразова выдадзенымі падручнікамі гісторыі былі: Турцевич А.О. Русская история (в связи с историей Великого княжества Литовского): курс III класса гимназий и реальных училищ). Вильна, 1897 (усяго разам 15 выданняў); *Яго ж.* Краткий учебник русской истории: Учебник для приходских школ. Вильна, 1903 (разам 9 выданняў); *Яго ж.* Хрестоматия по истории Западной России. Учебное пособие для учеников старших классов средних учебных заведений составил А.Турцевич, преподаватель Виленской 1-й гимназии и Виленской рим.-кат. духовной семинарии. Вильна, 1892. Абагульненне наконт сітуацыі з падручнікамі напрыканцы існавання царскай імперыі гл.: Фукс А.Н. Историографическое значение учебных пособий по русской истории для средних заведений (90-е г. XIX в. — 1917 г.). Дис. канд. ист. наук . Москва, 1983 (неапублікаваны рукапіс). Пра беларускага настаўніка гісторыі з Вільні А.В.Турцэвіча гл.: Снап-

стаўнік віленскай гімназіі А.В.Турцэвіч у прадмове да сваёй шырока распаўсюджанай „Хрэстаматыі па гісторыі Заходняй Расіі", якая актыўна і досыць доўга выкарыстоўвалася і ў XX ст., з пафасам гаварыў пра „нацыянальна-патрыятычную місію расійскай школы". Паводле ягонага меркавання, найперш у заходніх правінцыях імперыі павінна аддавацца найпільнейшая ўвага выкладанню „айчыннай гісторыі" на аснове новых навучальных матэрыялаў, бо тут „у выніку вядомых нацыянальных дачыненняў маладое пакаленне ўнутры існуючага грамадства ўсё часцей сутыкаецца з тэндэнцыёзным выкладам альбо і зусім са скажэннем гістарычных фактаў"[28]. Карыстаючыся нагодай конкурсу, натхняльнікам якога быў генерал-губернатар Мураўёў, па распрацоўцы падручніка расійскай гісторыі, што „павінен быў найперш адпавядаць патрэбам паўночна-заходніх правінцый", Турцэвіч падрыхтаваў гэты збор дакументаў і тэкстаў, які ахопліваў перыяд ад старажытнасці да Берасцейскай уніі 1596 г. Тлумачэнні, што звязвалі паміж сабою ўрыўкі з тэкстаў-крыніц, між тым, ні ў якім разе не адлюстроўвалі толькі думкі прадстаўнікоў школы „западно-руссизма". Такім аўтарам, як М.Кастамараў альбо Ў.Антановіч, які былі універсітэцкім настаўнікам Доўнара-Запольскага ў Кіеве, у 800-старонкавым томе было аддадзена столькі месца, колькі вядучаму прадстаўніку „западно-руссизма" М.В.Каяловічу[29]. Пачыналася „Хрэстаматыя", якая ўпершыню зрабіла даступнымі шырэйшым колам грамадскасці таксама перакладзеныя на расійскую мову ўрыўкі арыгінальных тэкстаў — як, да прыкладу, Літоўскіх Статутаў,— з артыкула М.І.Пятрова, узятага з выдадзенай у 1890 г. П.М.Бацюшкавым калектыўнай манаграфіі „Беларусь і Літва". У ім ужо самы першы сказ не пакідаў сумневаў, што ў кантэксце гісторыі паўночна-заходніх правінцыяў, населеных беларусамі як дамінантнай групай насельніцтва, гаворка ідзе, пэўным чынам, пра „беларускую гісторыю". Як гэта здаралася і ў іншых аўтараў, гэты падручнік утрымліваў у сабе больш, чым абяцалі яго назва і прадмова.

Побач з пастаянна дзейнымі адукацыйнымі ўстановамі і праектамі ў здольнай да асветы часткі насельніцтва меліся нешматлікія ўстановы пазашкольнай адукацыі і праводзення вольнага часу з элементамі навучання, а ў дадатак, — як гэта паказана ў табл.5 — пэўная інфраструктура па распаўсюджванні беларускай друкаванай прадукцыі[30]. У 1901—1916 г. у паўночна-заходніх правінцыях выходзіла 156, пераважна расійскамоўных, газет і часопісаў[31]. Сярод іх таксама

коўская С.В Op.cit. С.110 і наст. Тут таксама спасылка на немалы ўклад В.Ластоўскага ў справу нацыяналізацыі беларускай школы. Са сваёй „Кароткай гісторыі Беларусі" ён падрыхтаваў некалькі гістарычных эпізодаў і біяграфіяў у якасці кароткіх тэкстаў для школы („Князёўна Рагнеда", „Бітва каля Магільні", „Вітаўт і Ягайла"). Акрамя таго, ён склаў першы беларускі лемантар (Першая чытанка, кніжыца для беларускіх дзетак дзеля иавукі чытаньия. Вільня, 1915). Гл. тамсама, с.58.

[28] Турцевич А.О. Хрестоматия... (op. cit.). С.III і наст.

[29] Працы Каяловіча дэталёва асвятляюцца ў параграфе 2.1 гэтага раздзела.

[30] Звесткі ўзятыя намі з выданняў: Летапіс беларускага друку. Ч.IV: Пэрыядычны друк на беларускай мове. Менск, 1927; Кнігі Беларусі. Зводны каталог. Мінск, 1986. С.264—272; Документы и материалы... (op. cit.). С.247.

[31] Спіс перыядычных выданняў, з указаннем месцаў, дзе яны выходзілі гл. у: Документы и материалы... (op. cit.). С.305—309. Пра ролю друку ў пашырэнні ведаў на бела-

ва ўсё большай колькасці ўзнікалі перыядычныя выданні на беларускай мове. Гэта, вядома, мела ўплыў на грамадскую акцэптацыю беларускай мовы як мовы зносін па-за сялянскім асяроддзем. Нягледзячы на тое, што тагачасныя выданні друкавалі беларускамоўныя тэксты часткова кірылічнымі, а часткова лацінскімі літарамі, само іх з'яўленне сведчыла, што русіфікацыя да 1905 г. дайшла ў пэўным сэнсе да свайго канцавога пункту.

| Установы | Віцебская губ. | Гродзенская губ. | Менская губ. | Магілёўская губ. | Віленская губ. |
|---|---|---|---|---|---|
| Бібліятэкі | 11 | 6 | 4 | 7 | 7 |
| Чытальні | 9 | 3 | 6 | 3 | 5 |
| Бібліятэчныя абанементы | 1 | 1 | 2 | 3 | 2 |
| Газеты | 2 | 2 | 1 | 1 | 1 |
| Часопісы | – | 1 | – | – | 1 |
| Друкарні | 11 | 9 | 10 | 11 | 5 |
| Літаграфскія мануфактуры | 3 | 3 | 3 | 1 | 1 |
| Тыпа-літагр. мануфактуры | 1 | 2 | 1 | 1 | – |
| Фоталабараторыі | 10 | 11 | 10 | 9 | 5 |
| Музеі | 1 | – | – | 1 | – |
| Тэатры | 2 | 3 | 4 | – | 1 |
| Народныя дамы | – | 1 | – | 1 | – |
| Цыркавыя памяшканні | 1 | 2 | 2 | – | 1 |

**Табл. 5: Прэса і ўстановы культуры ў беларускіх губернях (1906 г.)[32].**

Найважнейшым беларускамоўным перыядычным выданнем да 1915 г. быў, без сумневу, шматстаронкавы ілюстраваны тыднёвік „Наша Ніва“, што выходзіў з 1906 г. у Вільні. З ягоным выхадам адначасова звязаныя пачаткі беларускай гісторыі гістарыяграфіі. Тут упершыню „люду беларускаму“ на беларускай мове была нададзена гістарычнасць, а беларускай мове — якасці літаратурнай, здольнай да стварэння тэкстаў, г.зн. тое, што ў папярэднія часы альбо зусім не было аб'ектам дыскусіяў, альбо пастаянна аспрэчвалася. Этап фармавання нацыі, акрэслены ў постсавецкай нацыянальнай беларускай гістарыяграфіі як „нашаніўскі перыяд“, у 1918 г. дасягнуў свайго найвышэйшага і адначасова заключнага пункту — абвяшчэння 25 сакавіка 1918 г. Беларускай Народнай Рэспублікі. Не выпа-

рускіх тэрыторыях да 1917 г. параўн.: Березкина Н.Ю. Роль печати в распространении научных знаний в Белоруссии, 1861—1917 г. Мінск, 1990. Паводле гэтай крыніцы, колькасць выдадзеных у беларускіх друкарнях навучальных, навукова-папулярных і спецыяльных кніг (на расійскай мове) узрасла з 315 (1861—1900 г.) да 658 назваў (1900—1917 г.); Тамсама, с.14 і наст.

[32] Документы и материалы... (op. cit.). С.279 і наст. Лічбы ўзятыя з выдання: Ежегодник России, 1906 г. (op. cit.). С.103. Пра адукацыйна-палітычную сітуацыю ў 1904—1916 г. гл. падбор дакументаў у: Документы и материалы... (op. cit.). С.257—309.

дае дзівіцца таму, што з беларускага гледзішча ў гэты час бралася пад увагу толькі магчымасць узнаўлення Вялікага Княства Літоўскага ў выглядзе канфедэрацыі. Мадэль самастойнай беларуска-літоўскай дзяржавы для патрыятычных колаў не ўяўлялася ані залежнай ад Польшчы, ані залежнай ад Расіі.

| Перыядычнасць выхаду | Назва | Час і месца выдання |
|---|---|---|
| штотыдзень | „Вольная Беларусь“ | 1917—18, Менск |
| штотыдзень | „Беларусь“ | 1905, Менск |
| штотыдзень | „Беларуская Зямля“ | ?, Менск |
| штодзённа | „Беларускі Шлях“ | 1918, Менск |
| штомесяц | „Грамада“ | 1917, Менск |
| штотыдзень | „Крыніца“ | 1917, Петраград—Менск—Вільня |
| штомесяц | „Лучынка“ | 1913—14, Менск |
| тры разы на тыдзень | „Звон“ | 1919, Менск |
| штомесяц (1 раз) | „Варта“ | 1918, Менск |
| штотыдзень | „Наша Доля“ | 1906, (Вільня) |
| штотыдзень | „Наша Ніва“ | 1906—15, Вільня |
| штомесяц (1 раз) | „Kryvičanin“ | 1918, Вільня |
| два разы на тыдзень | „Homan“ | 1916—18, Вільня |
| штогод | „Беларускі каляндар“ | 1910—14, Вільня |
| штотыдзень | „Biełarus“ | 1913—14, Вільня |
| штотыдзень | „Беларуская Ілюстрыраваная Часопісь“ | 1918, Вільня |
| штотыдзень | „Чэмер“ | 1910, Вільня |
| адзін раз | „Крапіва“ | 1912, Вільня |
| штомесяц | „Саха“ | 1912—15, Вільня—Менск |
| адзін раз | „Вольная Думка“ | 1911, Капыль |
| штомесяц | „Вольны край“ | 1917, Ігумен |
| адзін раз | „Kolas bialaruskaj niwy“ | 1913, Гродна |
| ? | „Свабода“ | 1902 (1903), Вільня |
| штотыдзень | „Родны Край“ | 1919, Слуцк |
| адзін раз | „Самасейка“ | 1914, б.м. |
| штотыдзень | „Беларускае Слова“ | ?, Кіеў |
| штотыдзень | „Беларусы ў Адэсе“ | ?, Адэса |
| адзін раз | „Раніца“ | 1914, С.-Пецярбург |
| штотыдзень | „Дзяньніца“ | 1916, Петраград |
| штотыдзень | „Чырвоны Шлях“ | ?, Петраград |
| штотыдзень | „Świetač“ | 1916, Петраград |

**Табл. 6: Перыядычныя выданні на беларускай мове (1900—1918).**

У якасці галоўнага каардынацыйнага органа шматлікіх беларускіх нацыянальных арганізацый[33] пад час іх „з'езда" ў сакавіку 1917 г. быў утвораны Беларускі нацыянальны камітэт[34], які праіснаваў некалькі месяцаў. Праграма дзейнасці гэтага камітэта выказвала адназначную падтрымку „пабудове федэратыўнага, дэмакратычнага і рэспубліканскага ладу ў Расійскай дзяржаве свабодных народаў". Аднак уплыў Беларускай Сацыялістычнай Грамады[35] пасля выбараў у органы мясцовага самакіравання, што адбыліся ўвесну і ўлетку 1917 г., і ва Устаноўчы сход (кастрычнік таго ж года) увесь час змяншаўся. Абсалютную большасць галасоў атрымалі бальшавікі (55%) і сацыялісты-рэвалюцыянеры (28%), да якіх, як вядома, блізка стаяла і БСГ. Таму няма ніякага дзіва, што ў выніку Кастрычніцкага перавароту ў Петраградзе адбылося моцнае выцясненне кіроўных груповак БНР, Рады і БСГ[36].

Тым не менш, на скліканым пасля 14 лістапада 1917 г. у Менску Першым Усебеларускім з'ездзе, у якім бралі ўдзел 1872 прадстаўнікі разнастайных аб'яднанняў і беларускіх арганізацый, было абвешчана права на самавызначэнне ў самым шырокім плане і пераход да дэмакратычнага рэспубліканскага ладу. Хоць з'езд і быў 18 снежня разагнаны бальшавіцкімі камісарамі заходніх правінцый, у падполлі прадоўжыла сваю дзейнасць Рада Першага Усебеларускага з'езда. Пад час наступу нямецкіх войскаў у лютым 1918 г. становішча бальшавікоў у заходніх правінцыях пагоршылася. 19 лютага Менск быў заняты. Крыху пазней найбольш аўтарытэтныя беларускія патрыёты звярнуліся з асабістай падзякай за „вызваленне Беларусі" да кайзера Вільгельма II у спадзеве на нямецкую дапамогу і абарону іх „памкненняў да ўмацавання незалежнасці і непадзельнасці краю ў цес-

[33] Да 1918 г. па-за БСГ утварылася некалькі іншых палітычных груповак: марксісты, што адкалоліся ад БСГ (І.І.Луцкевіч, А.І.Луцкевіч і інш.), утварылі Беларускую сацыял-дэмакратычную работніцкую групу — БСДРГ (1915—1918); Беларуская сацыял-дэмакратычная рабочая партыя — БСДРП (1917—1918) арыентавалася ў асноўным на бальшавікоў. 1918 год быў годам заснавання і аднаўлення дзейнасці шматлікіх нацыянальных палітычных партыяў у беларускіх правінцыях. У гэтым месцы іх трэба згадаць хоць бы па назвах: Беларуская народная партыя сацыялістаў — БНПС (1917—1924); Беларуская партыя сацыялістаў-рэвалюцыянераў — БПСР (1918—1924); Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя — БХД (1917—1940; да 1940 толькі на ўсходнепольскай тэрыторыі); Беларуская сацыял-дэмакратычныя партыя — БСДП (1918—1924). У гэтым кантэксце важным з'яўляецца тое, што ўсе беларускія гісторыкі і публіцысты, што працавалі да 1917 г. і самі ўвасаблялі першы перыяд беларускай гістарыяграфіі, належалі да сяброў, а ў большыні выпадкаў — і да кіраўніцкага складу гэтых партыяў.

[34] Пра склад і дзейнасць названага камітэта гл.: Турук Ф. Белорусское движение. Очерк истории национального и революционного движения белоруссов. Москва, 1921 (рэпрынт: Мінск, 1994). С.33; а таксама: Сташкевич Н.С. Приговор революции. Крушение антисоветского движения в Белоруссии, 1917—1925. Мінск, 1985. С.57 і наст.

[35] У выпадку з БСГ гаворка ідзе пра першае аб'яднанне, утворанае з палітычнымі мэтамі, у назве якога прысутнічала слова „беларускі". Яно ўзнікла ў 1903 г. на базе арганізацыі-папярэдніцы — *Беларускай Рэвалюцыйнай Грамады*. Падрабязна пра гэта гл. у параграфе 1.2 гэтага раздзела.

[36] Пра перадгісторыю 1917 г. у блізкай да краху царскай імперыі, у тым ліку ў Беларусі, гл. нядаўнюю працу: Altrichter, Helmut. Rußland 1917. Ein Land auf der Suche nach sich selbst. Paderborn etc., 1997. С.479 і наст.

най лучнасці з Германскай імперыяй". „Толькі пад абаронай Германскай Імперыі бачыць край сваю добрую долю ў будучыні"[37]. Перамовы ў Брэст-Літоўску, што адбыліся неўзабаве, толькі павялічылі настроі „ірэдэнты" сярод беларускай інтэлігенцыі.

Прыняўшы Ўстаўную грамату ад 25 сакавіка 1918 г., колішнія актывісты БСГ абвясцілі Беларускую Народную Рэспубліку самастойнай дзяржавай. У Радзе БНР сабралася нямала гісторыкаў і публіцыстаў, якія — гэтак, як В.Ю.Ластоўскі альбо браты Луцкевічы — выйшлі з „нашаніўскага кола" і былі прасякнутыя яго атмасферай. БНР была мёртванароджаным дзіцём: расійскія, польскія, украінскія, літоўскія тэрытарыяльныя прэтэнзіі і прэтэнзіі на апякунства над Беларуссю; да таго ж, інтарэсы немцаў як акупацыйнай улады неслі пагрозу незалежніцкім намаганням беларускай Рады — гэтаксама, як нацыянальна-габрэйскія і сацыялістычныя перакананні, якія было цяжка прывесці ў стан згоды з беларускай незалежнасцю. У той час, як БСГ, унутры якой утварыліся антаганістычныя групы інтарэсаў, распалася на тры фракцыі, на кіраўнічым узроўні таксама ўзніклі два лагеры: адзін, хутчэй, левага кшталту, зацікаўлены ў цесных повязях з Расіяй, і фракцыя, утвораная з прадстаўнікоў маёмнага саслоўя і ўзначаленая былым дэпутатам Расійскай Дзяржаўнай Думы Скірмунтам, які бачыў будучую пратэкцыяніскую ўладу ў Германіі і не прымаў альтэрнатывы ў выглядзе бальшавіцкага калектывісцкага сацыялізму. З цяжкасцямі ў чэрвені 1918 г. удалося ўтварыць кааліцыю абедзвюх плыняў, якая часова забяспечыла стабільнасць далейшага існавання ўраду БНР. Старшынём гэтай урадавай кааліцыі быў абраны пісьменнік і публіцыст Я.Ю.Лёсік. Улетку 1918 г. Рада БНР стварыла консульствы ў суседніх дзяржавах і паслала шэраг дыпламатычных місіяў у Заходнюю Еўропу. Калі ж, урэшце, у лістападзе 1918 г. у Германіі пачала мяняцца палітычная сітуацыя, ініцыятыву ў Беларусі перахапілі камуністы. Сябры Рады 3 снежня 1918 г. ад'ехалі ў Вільню ці выехалі на эміграцыю. Паасобныя функцыянеры ўраду БНР, у т.л. яго старшыня Лёсік і былы выдавец „Нашай Нівы" Уласаў, засталіся ў Менску, каб знайсці пагадненне з новымі ўладамі, якія 12 снежня атабарыліся ў Менску, а 1 студзеня 1919 г. абвясцілі стварэнне Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі Беларусі[38].

[37] Цыт. паводле: Engelhardt, Eugen Freiherr von. Op. cit. С.112 і наст.

[38] Пра палітычную гісторыю 1917—1919 г. параўн.: Vakar, Nicholas P. Op. cit. С.93 і наст.; Самы лепшы агляд з падрабязнай бібляграфіяй па гісторыі БНР прапануецца ў артыкуле А.М. Сідарэвіча ў: ЭГБ. Т.1. Мінск, 1993. С.384—391. Акрамя гэтага, апублікаваныя шматлікія выказванні сучаснікаў і ўспаміны сяброў ураду БНР, напр.: Цвикевич А. Краткий очерк возникновения Белорусской Народной Республики. Киев, 1918; Варонко Я. Беларускі рух ад 1917 да 1920 году: Кароткі агляд. [2-е выд.]. Коўна, 1920.; Турук Ф. Op. cit. С.42—72; Луцкевіч Ант(он). За двадцаць пяць гадоў (1903—1928). Успаміны аб працы першых беларускіх палітычных арганізацыяў: Беларуская Рэвалюцыйная Грамада, Беларуская Сацыялістычная Грамада. Вільня, 1928. З раннесавецкага гледзішча: Чарвякоў А. За Савецкую Беларусь. Мінск, 1927.

## 1.2. Пратэставыя настроі і „вучоны" нацыяналізм у „паўночна-заходніх" правінцыях

Гістарыяграфія напрыканцы царскай эпохі была адной з функцыяў палітычнага жыцця. Як на ўзроўні імперыі, так і ў нярускай перыферыі погляды на гістарычныя падзеі былі ў цеснай повязі з актуальнай самасвядомасцю палітызаванай інтэлігенцыі. У „безгістарычных" этнасаў імперыі, што знаходзіліся ў стадыі нацыянальнага станаўлення, напрыканцы XIX ст. сфармавалася рэгіянальнае гісторыяпісанне. Сваімі зборамі матэрыялаў і манаграфіямі па гісторыі, культуры, мовах, рэлігіі навукоўцы і самавукі паспрыялі ажыўленню абуджаных у пачатку стагоддзя, а з 1907 г. зноў „прыціснутых да зямлі рухаў за аўтаномію ўкраінскага, беларускага і літоўскага кшталту"[39]. Усё часцей гісторыкі, этнографы і літаратары ўключаліся таксама ў бягучую, штодзённую палітыку. На беларускіх і ўкраінскіх тэрыторыях вучоныя стаялі перад 1917 г. на чале не толькі малых партыяў і палітычных суполак. Аж да першай паловы 20-х г. яны да таго ж фармавалі кіраўніцкі персанал у народных камісарыятах і адукацыйных установах. Нямала было і такіх, якія зрабіліся бальшавіцкімі функцыянерамі.

Рэгіянальныя інтэрпрэтацыі мінуўшчыны былі часткай гісторыі заняпаду царскай імперыі. Выкліканы структурнай неаднароднасцю эканомікі і грамадства сістэмны крызіс, нягледзячы на рэфарматарскі штуршок 1860-х г. і мадэрнізацыю гаспадаркі напрыканцы XIX ст., паглыбляўся і ўсё болей выразна выяўляў агульныя заганы ў развіцці краіны. Гэтая адсталасць рана ці позна павінна была прывесці да мабілізацыі сіл супрацьдзеяння, якія выходзілі на авансцэну з сельскіх і урбанізаваных асяродкаў[40]. Натуральна, што на этапе канфрантацыйнай мабілізацыі і на долю рускай, і на долю нярускай інтэлігенцыі прыпадала вырашальная роля. На ўзроўні цэнтра, а яшчэ ў большай ступені на рэгіянальным узроўні ўтварыўся альянс гульцоў супрацьлеглага лагера, якія, не ў апошнюю чаргу праз свой надзвычай аморфны сацыяльны і нацыянальны склад і, як вынік гэтага, свае вельмі розныя інтарэсы, рабілі выпады супраць кансалідацыйных стратэгіяў позняга царызму.

Гэткую самую істотную ролю адыгрываў і той чыннік, што тыя тры ініцыятыўныя групы, якія актыўна спрычыніліся да распаду познецарскай імперыі, — ліберальныя чыноўнікі, радыкальныя сацыялісты, патрыёты-нацыяналы — таксама былі беспасярэдне звязаныя з дэзінтэграцыяй шматнацыянальнай імперыі: гэты працэс, здаецца, паўтарыўся ў познесавецкую і постсавецкую эпоху. Вось жа, калі на падмурку наспелых сацыяльных, эканамічных і грамадскіх праблем утварыўся надрэгіянальны патэнцыял супраціву і калі, адначасна, вузкая праслойка інтэлігенцыі нацыянальных ускраін імперыі ўсвядоміла гістарычную і культурную вагу сваіх народаў у якасці палітычнага капіталу, тады ў аўтакратычнай Расійскай царскай дзяржавы наўрад ці засталіся шанцы на далейшае існа-

[39] Geyer, Dietrich. Der russische Imperialismus. Studien über den Zusammenhang von innerer und auswärtiger Politik 1860—1914. Göttingen, 1977. C.227.
[40] Hildermeier, Manfred. Die Sozialrevolutionäre Partei Rußlands: Agrarsozialismus und Modernisierung im Zarenreich. Köln—Weimar, 1978. C.17.

ванне. Названыя тры групы дзейнічалі як на цэнтральным, гэтак і на рэгіянальным узроўні[41]. На прыкладзе беларускіх земляў можна прадэманстраваць тое, што ў неаднародным асяроддзі навукоўцаў, сацыял-рэвалюцыйных і нацыянальных энтузіястаў фармуляваліся не толькі беларускія незалежніцкія патрабаванні. Адначасова тут узнікалі і цыркулявалі першыя нацыянальнамоўныя інтэрпрэтацыі беларускай гісторыі.

*Па-першае: чыноўніцкі лібералізм і ліберальныя партыі ў Беларусі.* Узрастанне жадання перамен у асяроддзі царскіх службоўцаў і прафесараў у сярэдзіне XIX ст. было адначасова на той момант найменш небяспечным, а на працяглую перспектыву найбольш пагрозлівым складнікам пратэставага лагера. У той час як тэрарыстаў і замахоўцаў каралі шыбеніцай, самадзяржаўю не ўдавалася проста так расправіцца з чыноўнікамі і публіцыстамі, якія мелі на мэце змяненне, а не знішчэнне існуючай сістэмы; ды, урэшце, яно, што датычыцца бюракратыі, было залежнае ад апошняй. Ад часу вялікіх рэформаў эпохі Аляксандра II сярод адукаваных слаёў грамадства ўсё выразней гучала патрабаванне магчымасці гаварыць свае слова ў палітыцы. Са з'яўленнем асвечанага чыноўніцтва ў маналіце бюракратыі таксама ўзніклі расколіны. У структурах земстваў і ўпершыню там згуртаванай крытычна настроенай інтэлігенцыі ў 1860-х г. паўстаў структурна яшчэ слабы лібералізм. Тэарэтычны штуршок у гэтым кірунку далі напрацоўкі спецыялістаў у галіне дзяржаўнага права школы гісторыі права, што гуртаваліся вакол Б.Чычэрына і адстойвалі ідэі канстытуцыйнага самадзяржаўя[42]. У процілегласць тым, хто жадаў радыкальна змяніць свет, прыхільнікі *земскага лібералізму*, якія рэкрутаваліся перадусім з асяроддзя разначыннай інтэлігенцыі (юрысты, дактары, настаўнікі), былі зацікаўленыя ў правядзенні „рэформаў зверху“, ініцыяваных самой царскай дзяржавай і яе службоўцамі — гэткіх, як увядзенне самакіравання і права пастанаўлення судовых рашэнняў.

Побач з гэтым, талерантна ўвасобленым лібералізмам, які ў 1902 г. праз выданне часопіса „Освобождение“ і стварэнне „Союза Освобождения“ нарэшце здолеў займець свае арганізацыйныя формы, існаваў звязаны з вялікімі адукацыйнымі ўстановамі студэнцкі і вучоны лібералізм, які часткова плаўным перацяканнем знаходзіў уваход у гэтыя цэнтры альбо саслізгваў у лагер тэрору. Хваляванні ў вялікіх універсітэтах імперыі, што мелі месца на пачатку 1899 г., урэшце выявілі выспелыя пратэстныя настроі акадэмічнай інтэлігенцыі[43]. У той час, як у Кіеве 17 лютага студэнты і выкладчыкі распачалі „страйк“, у беларуска-літоўскіх губернях такога развіцця падзеяў не назіралася, бо тут да гэтага часу ўжо не існавала універсітэта, які мог бы зрабіцца абароненай інтэграцыйнай

[41] Г.Альтрыхтэр даследуе, у межах агульнай тэмы „Грамадства ў стане хваляванняў“, рабочыя, салдацкія, сялянскія і буржуазныя рухі; параўн.: Altrichter, Helmut. Op.cit. С.268—398.

[42] З апошніх прац гл.: Walicki, Andrzej. Filozofia prawa rosyjskiego liberalizmu. Warszawa, 1994.

[43] Гэтую дату называюць „пунктам адліку“ расійскай рэвалюцыі 1917 г. — гл.: Pipes, Richard. Die Russische Revolution. Bd.1: Der Zerfall des Zarenreiches. Berlin, 1992. С.22; Kassow, Samuel D. Students, Professors, and the State in the Tsarist Russia. Berkeley, CA etc., 1989. С.88—140.

прасторай для аднадумцаў. У іншых вышэйшых навучальных установах заходніх і паўднёва-заходніх правінцыяў — напрыклад, у Харкаве ці Варшаве — найбольш выказваліся нараканні на „безгласность". У 1905 г., калі крызіс самадзяржаўя ўпершыню дасягнуў значных маштабаў і спарадзіў паўканстытуцыйную сістэму ўладарання, ліберальны лагер стварыў свае першыя дзейныя партыі — „кадэтаў" і „акцябрыстаў".

Ліберальная дыскусія мела, вядома, і нацыянальнае вымярэнне: нярэдка ў цэнтры ўвагі таксама апыналіся заходнія правінцыі — як культурная мяжа паміж лацінскім Захадам і ўсходнім праваслаўем. Гэтак, галоўнай мэтай дэбатаў, што вяліся ў 1904 і 1905 г. паміж польскімі і расійскімі лібераламі, было вырашыць шматвяковую спрэчку пра межы паміж Польшчай і Расіяй, а таксама пра „культурную прыналежнасць" нацыяў, што жывуць у прымежных землях, асабліва беларусаў і ўкраінцаў[44]. Па меры таго як польскія і расійскія лібералы рознай партыйнай прыналежнасці на неафіцыйных канферэнцыях у Парыжы (лістапад 1905 г.) і Маскве (красавік 1906 г.) дамаўляліся пра ўзаемадачыненні, пра „аўтаномію польскага каралеўства" і „новы федэратыўны статус Польшчы", беларускае пытанне ўсё часцей трапляла ў поле зроку. Новым у гэтых дыскусіях было тое, што абодва бакі з 1903 г. бачылі сябе ў стане канфрантацыі з фактам існавання беларускай палітычнай партыі, якая дамагалася „тэрытарыяльнай незалежнасці" — з 1906 г., у больш кампрамісным плане, „тэрытарыяльнай аўтаноміі"[45].

Найважнейшы, з беларускага і ўкраінскага гледзішча, вынік гэтых дыскусіяў, якія вяліся з канца XIX ст., быў не палітычнага характару. У значна большай ступені выказаныя ўзаемныя тэрытарыяльныя прэтэнзіі ўдзельнікаў палітычных дыскусіяў ажывілі навуковы інтарэс польскіх і расійскіх этнографаў, мовазнаўцаў і гісторыкаў. Хоць і гэтыя даследаванні памежных рэгіёнаў і іх насельніцтва найперш былі стымуляваныя палітычнымі амбіцыямі, іх вынікам неўзабаве сталі некаторыя важныя публікацыі ды ўзнікненне, гэткім чынам, зыходных падставаў для рэгіянальнай даследніцкай дзейнасці — і не ў апошнюю чаргу ў галіне гістарыяграфіі[46]. З прычыны асаблівай сацыяльнай структуры насельніцтва беларускіх земляў, а таксама адсутнасці нацыянальнай эліты, тут толькі ў малой ступені магла фармавацца нацыянальна-ліберальная самасвядомасць. Да прыкладу, *кадэты*, якія першапачаткова дзейнічалі на агульнаімперскім узроўні і на вялікарасійскі капыл, мелі параўнаўча малы прыток сваіх прыхільнікаў з Паўночна-заходняга краю. Кадэцкія групоўкі заходніх правінцыяў былі створаныя польскімі і, перадусім, габрэйскімі ўдзельнікамі; расійскія лібералы, адпа-

[44] Милюков П.Н. Национальный вопрос: Происхождение национальности и национальные вопросы в России. Прага, 1925. С.154.

[45] Пра першую беларускую „партыю", *Беларускую Рэвалюцыйную Грамаду*, гл. ніжэй, у гэтым параграфе (с.48). Наконт дыскусіяў лібералаў параўн. абагульняльную працу: Zaprudnik, Jan. Political Struggle for Byelorussia in the Tsarist State Duma, 1906—1917, PhD. (New York University 1969). Ann Arbor, 1970. C.62 і наст. Ва ўрыўках гэтая праца перадрукоўвалася ў: JBS — гл.: *Яго ж*. The Struggle for Byelorussia's Autonomy in the First State Duma (27 April / 10 May—7 / 20 June 1907) // JBS 2 (1971) 3. C.290—298; *Яго ж*. Representation of Byelorussia in the Third Duma (1 November 1907—9 June 1912) // ibidem 4/5 (1984) 3—4. C.33—38.

[46] Параўн. высновы ў параграфе 1.3 гэтага раздзела.

ведна з іх доляй у агульнай колькасці насельніцтва (менш за 5%), амаль не былі рэпрэзентаваныя[47]. І тым не менш, у беларускіх правінцыях мела месца прадстаўніцтва амаль што ўсіх партыяў. Асабліва дзякуючы ўзнікненню — у выніку разнастайных сустрэч і канферэнцыяў — рэгіянальных платформаў прадстаўнікі шляхты і дробнабуржуазныя інтэлектуалы польскага ды іншага этнічнага паходжання траплялі ў ліберальныя партыі і партыі правай арыентацыі.

У Першай Думе — пачынаючы з вясны 1906 г. — мелі свой працяг дэбаты лібералаў адносна гістарычных прэтэнзіяў на паўночна-заходнія правінцыі. Дэпутаты з беларускіх губерняў, незалежна ад таго, што ў іх шэрагах дамінавалі прадстаўнікі польскай альбо шляхецка-спаланізаванай арыентацыі, актыўна намагаліся надаць вялікае значэнне справам рэгіёну і беларусаў[48]. Адначасова сацыяльнае паходжанне і палітычныя перакананні дванаццаці беларускіх дэпутатаў у цэлым адлюстроўваюць запаволенасць нацыятворчага працэсу ў беларусаў: усе дванаццаць былі сялянамі альбо мелі сялянскае паходжанне; у іх была толькі пачатковая й — у адным выпадку — агульная сярэдняя адукацыя. Васьмёра сярод іх лічыліся беспартыйнымі, хоць чатыры дэпутаты з гэтай групы сімпатызавалі поглядам кадэтаў. Астатнія чатыры належалі да „трудавікоў". У складзе дэпутатаў аж да часу Чацвёртай думы і яе роспуску ў лютым 1917 г. істотным чынам нічога не мела змяніцца[49]. Тым самым сапраўдныя і паказаныя ў думскай статыстыцы паходжанне і нацыянальную прыналежнасць дэпутатаў можна лічыць прататыпічнымі для ўспрымання беларускага этнасу на пачатку XX ст., прынамсі, сярод расійскіх і польскіх лібералаў. Акрамя таго, шмат што дазваляе сцвярджаць, што расійскі і польскі лібералізм на беларускіх землях пэўным чынам накладаліся адно на адно. Польскі адвакат А.Лядніцкі (*Aleksandr Lednicki*), які жыў у Беларусі і быў абраны ў першую Дзярждуму ад памеснага дваранства Менскай губерні, быў квазі-персаніфікацыяй гэтай сітуацыі[50].

Дзякуючы менавіта ягонаму пасярэдніцтву адбылося так, што польскія і расійскія ліберальныя партыі — гэта былі Прагрэсіўна-дэмакратычны саюз і кадэты — пайшлі на збліжэнне ў нацыянальным пытанні[51]. Пачынаючы з 1905 г.,

[47] Emmons, Terence. The Formation of Political Parties and the First National Elections in Russia. Cambridge, MA—London, 1983. С.176 і наст.

[48] Побач з Раманам Скірмунтам, баронам Эдуардам фон дэр Ропам і князем Геранімам Друцкім-Любецкім варта назваць „найлепшага прамоўцу Думы" А.Лядніцкага. Параўн.: Zaprudnik, Jan. Political Struggle for Byelorussia... (op.cit.). С.80 і наст.

[49] Гэтыя звесткі ўтрымліваюцца: Тамсама, с.75 і наст. Аўтар прааналізаваў розныя крыніцы звестак і высветліў, што два беларускія дэпутаты запісаныя ў якасці паляка і расійца, адпаведна, шляхецкага і мяшчанскага паходжання. Раман Скірмунт, постаць якога як ідэолага „літва-русізму" яшчэ будзе цікавіць нас ніжэй, будучы памешчыкам з Менскай губерні, традыцыйна запісаны палякам. Яго думскі калега і апанент, прадстаўнік процілеглай і больш уплывовай плыні, „западно-руссизма", кадэт Аляксей Валковіч праз сваё мяшчанскае паходжанне быў залічаны ў расійцы.

[50] Ужо ў сваіх палітычных прамовах перад 1906 г. Лядніцкі неаднаразова выкладаў свае погляды па нацыянальным пытанні, параўн.: Mowy polityczne Aleksandra Lednickiego. T.1: Przed zwołaniem Dumy. Kraków, 1906.

[51] Пра Лядніцкага і польскі лібералізм гл.: Stegner, Tadeusz. Polnische liberale Parteien auf der politischen Landkarte des Königreiches Polen zu Beginn des 20. Jahrhunderts // Fleck H. G., Kolodziejczy R. (рэд.). Liberale Traditionen in Polen (Texte zu Theorie,

Лядніцкі на дваранскіх сходах, а з 1906 г. з трыбуны Дзярждумы, а таксама ў фракцыі аўтанамістаў, актыўна выступаў у падтрымку прыгнечаных нацыянальнасцяў, трымаючы найперш у полі ўвагі этнічную цераспалосіцу свайго рэгіёну. Ён пазбег уступлення ў кола польскіх дэпутатаў, узначаленае нацыянал-дэмакратам Раманам Дмоўскім (*Dmowski*), шукаючы „супранацыянальнай“ атмасферы лагера аўтанамістаў, дзе ён, у той самы час, меў на сваім баку дэпутатаў ад паўночна-заходніх правінцыяў барона Эдуарда фон дэр Ропа, Рамана Скірмунта альбо князя Друцкага-Любецкага[52].

Інтарэсы гэтага кола групаваліся вакол ідэі гістарычнага ўтварэння, непадзельнай Рэчы Паспалітай, пры гэтым, вядома, аб'ектам рэфлексіі рабіліся і няпольскія нацыянальнасці — беларусы, літоўцы і ўкраінцы[53]. Блізкасць поглядаў на нацыянальнае пытанне, што панавала сярод польскіх і беларускіх лібералаў, а таксама нацыянальна настроеных патрыётаў іншай палітычнай арыентацыі, побач з агульнай вызвольнай рыторыкай 1905—1907 г. грунтавалася на істотнай прычыне: ва ўсіх нярускіх нацыяў — як багатай на магутную гісторыю польскай, так і структурна слабой і ўспрыманай у якасці „безгістарычнай“ беларускай нацыі — не было сваёй дзяржавы. Ідэолагі гэткіх неаднолькавых нацыяў былі змушаныя шукаць развязанне праблемы свайго нацыянальнага існавання па-за варыянтамі нацыянальна-дзяржаўнай мадэлі[54]. Гэтай мадэллю для лібералаў і сацыялістаў як польскіх, так і беларускіх, былы нацыянальная ці, адпаведна, тэрытарыяльная аўтаномія. Польскі ліберал Лядніцкі ў Думе заклікаў „рускі народ“ мець больш разумення да патрабаванняў нярускіх нацыянальнасцяў“. Павінна адбыцца „не толькі вызваленне класаў, але і вызваленне народаў“[55]. Відавочна, што пачынаючы з 1905 г. галоўнай задачай нярускіх лібералаў зрабілася злучэнне сацыяльных патрабаванняў з нацыянальным пытаннем.

Неабходна выразна зазначыць, што ліберальныя плыні, партыі, фракцыі абмяжоўвалі ў вертыкальным кірунку ўздзеяння ўсёўладдзе імператара і дзяржаўнай бюракратыі і прэтэндавалі на права голасу ўнутры палітычнай сістэмы. Адначасова дыскусіі, якія, па гарызанталі, вяліся паміж лібераламі розных нацыянальнасцяў і з розных рэгіёнаў імперыі, прывялі да ўзнікнення кааліцыі інтарэсаў для рэалізацыі ідэі нацыянальнай аўтаноміі ў межах імперыі. Прэтэнзія на атрыманне аўтаноміі ўнутры імперыі як цэлага, заснаваная на гістарычным факце існавання польскай шляхецкай рэспублікі, мусіла быць прывабнай мэтай даследаванняў таксама для беларускіх гісторыкаў і тых польскіх прадстаўнікоў гістарычнай навукі, працы якіх былі прысвечаныя Беларусі.

Geschichte und Gegenwart des Liberalismus, Friedrich-Naumann-Stiftung, Bd.1). Warszawa, 1994. С.59—80, у гэтым выпадку гл. с.63; Wise, Andrew Kier. The Search for Slavic Unity: Aleksandr Lednicki and the Russian Revolution of 1905 // The Polish Review 48 (1997) 1. С.29—44.

[52] Пра намаганні віленскага біскупа барона Эдуарда фон дэр Ропа ўвесці беларускую мову ў каталіцкую багаслужбу гл: Смалянчук Аляксандр. Біскуп Эдвард Роп // БГЧ. 1994. №3. С.108—112.

[53] Zaprudnik, Jan. Political Struggle for Byelorussia... (op. cit.). С.98.

[54] Stegner, Tadeusz. Op. cit. С.70.

[55] Государственная Дума. Первый созыв. Стенографический отчет. Т.1. Санкт-Петербург, 1906. С.103, 3.05.1906.

*Па–другое: радыкальныя сацыялісты і сацыялісты–рэвалюцыянеры ў Беларусі.* Найбольш выразнымі формамі адмаўлення ад падпарадкавання ў апошні перыяд існавання царскай імперыі былі радыкальны сацыялізм і эсэраўскі тэрор, які, пачынаючы з 80–х г. XIX ст., знаходзіў сваіх ахвяр як у цэнтры, так і ў правінцыі[56]. Рух народнікаў і іх узброенае крыло, „Народная воля", зрабілі гвалтоўны чын апрабаваным сродкам палітычнага пратэсту. Таму падсавецкай гістарыяграфіяй яны не ў апошнюю чаргу разглядаліся як тыя арганізацыі, што зрабілі важкі ўклад у падрыхтоўку рэвалюцыі. Тым часам нацыянальна арыентаваныя гісторыкі ў Менску і Гродне адзначаюць той факт, што Ігнат Грынявіцкі, які здзейсніў замах на Аляксандра II, быў з нараджэння беларусам і нашчадкам шляхецкай сям'і з Менскай губерні.Таксама ў больш–менш буйных гарадах беларуска–літоўскага рэгіёну, пачынаючы з другой паловы 1870–х г., паўсталі народніцкія арганізацыі: гэта мела месца ў Менску, Магілёве, Віцебску, Гродне, Пінску і Слуцку[57]. Гэтыя арганізацыі падтрымлівалі сувязі з заснаванай у 1876 г. санкт–пецярбургскай галаўной арганізацыяй „Зямля і воля". Пасля яе падзелу ў 1879 г. і пасля распаду пляханаўскага „Чорнага перадзелу" бальшыня прафесійных рэвалюцыянераў з тых, хто нарадзіўся ў беларускіх правінцыях, — гэткія, як Рыгор Ісаеў, Геся Гельфман ды Ігнат Грынявіцкі — перайшла на пазіцыі „Народнай волі".

Пры больш дэталёвым разглядзе радыкал–сацыялістычных акцыяў пратэсту на нярускіх ускраінах імперыі можна вылучыць іх дзве асаблівасці: вялікая доля гвалтоўных дзеянняў у іх ды іх ранні пачатак. Большасць зарэгістраваных у Расійскай імперыі ў 1895—1900 г. дэманстрацыяў (59) адбылася на вуліцах і пляцах Каралеўства Польскага (25), прыбалтыйскіх правінцыяў і Украіны (па 9), Беларусі (7) і Фінляндыі (6). Ва ўнутраных губернях Расіі іх было налічана толькі тры[58]. Гэткім чынам выявіўся падвойны стымул да вызвалення ад залежнасці. Сацыяльная і нацыянальная дыскрымінацыя адчувалася, і таксама ў першую чаргу існавала патрэба правядзення наступальных акцыяў пратэсту пад сацыяльнымі і нацыянальнымі лозунгамі. Гэтак, не мог не выклікаць наступстваў той факт, што, напрыклад, сярэдні гадавы даход фабрычных рабочых у беларускіх правінцыях на мяжы стагоддзяў складаў на 31% меншую суму, чым адпаведныя даходы іх калегаў у цэнтральных расійскіх губернях[59].

[56] Пра тэрарызм як еўрапейскую з'яву параўн.: Mommsen W. J., Hirschfeld G. (рэд.). Social Protest, Violence and Terror in Nineteenth– and Twentieth Century Europe. New York, 1982. Першае абагульняльнае даследаванне належала пяру былога шэфа паліцыі Расійскай імперыі, гл.: Spiridovich, A. Histoire du terrorisme Russe, 1886–1917. Paris, 1930. Акрамя таго гл.: Venturi, Franco. Roots of Revolution. A History of the Populist and Socialist Movement in Nineteenth Century Russia. New York, 1970; Naimark, Norman M. Terrorists and Social Democrats. The Russian Revolutionary Movement Under Alexander III. Cambridge, MA., 1983; Geifman, Anna. Thou Shalt Kill: Revolutionary Terrorism in Russia, 1874—1917. Princeton, NJ., 1993.

[57] Zaprudnik, Jan. Belarus. At a Crossroads in History (op. cit.). C.59.

[58] Гл.: Kappeler, Andreas. Rußland als Vielvölkerreich. Entstehung, Geschichte, Zerfall. München, 1994 (2.Ausgabe). C.268. Звесткі трэба адносіць да еўрапейскай часткі Расіі.

[59] Звесткі паводле: Бич М.О. Рабочее движение в Белоруссии в 1861—1904 г. Минск, 1983. С.38. Агульны агляд развіцця прамысловасці і сельскай гаспадаркі на бела-

Гэтыя акалічнасці спрыялі павышэнню дзейснасці сацыялістычных і сацыял-радыкальных ідэяў. Арганізаваныя ў адпаведнасці з інтарэсамі згуртаванні — як, прыкладам, партыя сацыялістаў-рэвалюцыянераў (ПСР) — утвараліся напачатку на надрэгіянальным узроўні, перш за ўсё ў Санкт-Пецярбургу. Натуральна, што ідэі гвалтоўных дзеянняў былі для іх бліжэйшымі за ідэі лібералізму. ПСР вышуквала малааплачваных, зацятых вясковых настаўнікаў, а таксама „ахвочых да дэбатаў студэнтаў, прыхільных да асветы рабочых, афіцэраў лінейных войскаў“[60] альбо здольных на самагубчыя ўчынкі радыкалаў, якіх нярэдка разрывала бомбамі разам з іхнімі ахвярамі. Адзначыць трэба тое, што гэтая партыя разгарнула сваю дзейнасць у нярускіх правінцыях і пры гэтым у аднолькавай меры рабіла стаўку і на тэрор, і на агітацыю. З аднаго боку, у выніку гвалтоўных дзеянняў эсэраў і ў беларускіх губернях лічбы ахвяр былі значнымі, а вязніцы безнадзейна перапоўненымі[61]. З іншага боку, Беларуская рэвалюцыйная грамада (БРГ) — заснаваная ў 1902 г. на базе пецярбургскай арганізацыі-папярэдніцы, Гуртка беларускай народнай асветы — імкнулася да пэўнага ажыўлення і згуртавання нацыянальнага „руху“, які да тае пары быў ізаляваны і складаўся з нешматлікіх патрыятычна настроеных асобаў. Гэта не ў апошнюю чаргу вынікала з таго факту, што названая групоўка была духоўна блізкаю з сацыялістамі-рэвалюцыянерамі, Польскай сацыялістычнай партыяй (ППС), а таксама з Усеагульным габрэйскім рабочым саюзам у Літве, Польшчы і Расіі (Бундам)[62]. Сацыялістычныя перакананні ў сялянскім пытанні маглі тут быць спалучаныя з

рускіх тэрыторыях да пачатку Першай сусветнай вайны прапанаваны ў нядаўна выдадзенай працы Інстытута гісторыі Акадэміі навук Беларусі: Нарысы гісторыі Беларусі. Т.1. Мінск, 1994. С.401—416.

[60] Geyer, Dietrich. Die russische Revolution. Historische Perspektiven und Probleme. Göttingen, 1985 (4). С.41.

[61] У разлічанай на 206 вязняў Дзвінскай турме (Віцебская губерня) на пачатку 1906 г. утрымлівалася 608 асуджаных.

[62] На гэтую тэму параўн.: Новина (=Луцкевіч) Антон. Белорусы // Формы национального движения в современных государствах. Австро-Венгрия, Россия, Германия. Под редакцией А.И.Кастелянского. Санкт-Петербург, 1910. С.383—395, а таксама ўспаміны асобных дзеячаў БРГ: Бурбіс А. Беларуская сацыялістычная грамада ў першым перыядзе яе працы (1903—1907) // Беларусь. Нарысы гісторыі, эканомікі, культурнага і рэвалюцыйнага руху. Менск, 1924. С.177—181; Луцкевіч Ант. За дваццаць пяць гадоў (op. cit.). Багатыя на інфармацыю таксама працы: Канчер Е.С. Белорусский вопрос. Сборник статей. Петроград, 1919 і Турук Ф. Белорусское движение (op. cit.). Найноўшае абмеркаванне гэтага пытання ў Беларусі гл.: Коршук У.К. З гісторыі Беларускай сацыялістычнай грамады // (Выд. МА РБ, БДУ, ІГ АНБ). Гістарычная навука і гістарычная адукацыя ў Рэспубліцы Беларусь. Новыя канцэпцыі і падыходы. У 2 ч. Ч. 1. Гісторыя Беларусі. Мінск, 1994. С.138—150, а таксама артыкул „Беларуская сацыялістычная грамада“ ў: ЭГБ. Т.1. Мінск, 1993. С.410—413. Акрамя таго існуе некалькі заходніх даследаванняў нацыянальнага і палітычнага руху на беларускіх землях перад Першай сусветнай вайною: Scheibert, Peter. Der weißruthenische politische Gedanke bis 1919 // Jomsburg. Völker und Staaten im Osten und Norden Europas 2 (1938). С.335—354 (асобны адбітак: с.2—21); Engelhardt, Eugen Freiherr von. Op. cit. С.85—91; Vakar, Nicolas. Op. cit. С.75—92; Zaprudnik, Jan. Political Struggle for Byelorussia... (op. cit.); *Яго ж*. Belarus. At a Crossroads in History (op.cit.). С.62—65. Нядаўняя праца: Mark, Rudolf A. Die nationale Bewegung der Weißrussen im 19. und zu Beginn des 20. Jahrhunderts // JBfGOE 42 (1994) 4. С.493—509.

„краёвасцю", протанацыянальным рэгіяналізмам, укаранёным у вясковую культуру і фальклор. Слабаструктураваны беларускі патрыятызм, здавалася, напачатку ўвогуле ўзгадоўваўся ў межах сялянска-сацыялістычных праграмных пастулатаў эсэраў і польскіх сацыялістаў. Першыя беларускамоўныя, звязаныя з ідэяй нацыянальнага адраджэння тыднёвікі былі выдаваныя рэдактарамі, што належалі да новага беларускага руху альбо і ўзначальвалі яго[63].

Хоць заснавальнікі БРГ знайшлі сваё месца за сталом сярэдняй часткі сям'і[64], хочучы таго альбо не хочучы, арганізацыя мусіла выконваць тую ініцыятыўную функцыю, якую ўзяла на сябе „Революційна Українська партія" (РУП) — заснаваная на два гады раней першая палітычная партыя Ўсходняй Украіны. Прычыны палітызацыі людзей палягалі ў саміх варунках іх сацыяльнага і нацыянальнага жыцця. Вызваленне сялянства, індустрыялізацыя, урбанізацыя, камерцыялізацыя сельскай гаспадаркі і пашырэнне адукацыі спрычыніліся да дынамізацыі развіцця шматнацыянальнай дзяржавы, асабліва яе перыферыі[65]. Таксама істотнае значэнне ў справе мабілізацыі адукаванай часткі грамадства нярускіх этнасаў, акрамя таго, мела несупынная, а з другой паловы XIX ст. узмоцненая, палітыка русіфікацыі, якая, у сваю чаргу, вяла да ўзмацнення сацыяльна і нацыянальна матываваных супярэчнасцяў. Вільня і Менск зрабіліся зборным рэзервуарам руху сацыяльнага пратэсту апошняга перыяду існавання царскай імперыі. Габрэйскі Бунд невыпадкова быў у 1897 г. заснаваны менавіта ў Вільні і разгарнуў з 1898 г. як частка сацыял-дэмакратыі актыўную дзейнасць у Паўночна-Заходнім краі[66]. Расійская сацыял-дэмакратычная рабочая партыя (РСДРП) з ініцыятывы Бунда правяла ў 1898 г. у Менску імправізаваны ўстаноўчы з'езд і неўзабаве арганізавала свае ячэйкі ў еўрапейскай частцы Расіі[67]. Таксама Сацыял-дэмакратыя Каралеўства Польскага і Літвы (СДКПіЛ) была створаная ў 1900 г. у Менску[68]. Шмат якія дзеячы Партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў надрэгіяналь-

[63] Параўн. высновы, зробленыя ў параграфе 1.1 гэтага раздзела.

[64] Гэты фігуральны выраз ужывае Н.Вакар: Vakar, Nicolas. Op.cit. С.84. Р.А.Марк ужывае недакладную назву, як яна гучыць у Энгельгарта: Беларуская Рэвалюцыйная Партыя — гл.: Mark, Rudolf A. Op.cit. С.507.

[65] Так лічыць А.Капэлер, гл.: Kappeler, Andreas. Rußland als Vielvölkerreich... (op.cit.). С.262.

[66] Найноўшы нарыс гісторыі Бунда ў беларускіх правінцыях прапануецца ў: ЭГБ. Т.2. Мінск, 1994. С.126—132. Цяпер маецца яшчэ артыкул: Ліпецкі Э. Бунд // БМ. 1996. №3. С.11—13. У 1847—1873 г. у Вільні існавала адна з дзвюх на тэрыторыі Расійскай імперыі рабінскіх семінарый. Другая знаходзілася ў Жытоміры. Гл.: Dohrn, Verena. Das Rabbinerseminar in Wilna (1847—1873). Zur Geschichte der ersten staatlichen höheren Schule für Juden im Russischen Reich // JBfGOE 45 (1997) 1. С.379—400.

[67] Першыя беларускія мясцовыя арганізацыі РСДРП пачалі ўзнікаць у канцы 1903 г. Паўночна-заходні камітэт РСДРП быў створаны ў траўні 1904 г. Пра гісторыю сацыял-дэмакратыі і бальшавікоў у Беларусі ў перыяд да 1917 г. гл. выбарку крыніц у кн.: Документы и материалы... (op. cit.). С.337—357; 459—495; 675—722; 849—865. Дагэтуль найлепшы агляд дзейнасці беларускіх арганізацыяў РСДРП зроблены А.С.Каралём у: ЭГБ. Т.1. Мінск, 1993. С.141—148.

[68] Пра дзейнасць польскіх партыяў у беларускіх правінцыях, а таксама пра арганізаваную пальшчызну да першай паловы 1920-х г. параўн.: Jurkiewicz, Jan. Rozwój polskiej mysli politycznej na Litwie i Białorusi w latach 1905—1922. Poznań, 1983. С.36

нага маштабу — гэткія, як В.С.Мінор, А.В.Бонч-Асмалоўскі, Р.А.Гершуні альбо Я.Л. Юдалеўскі[69] — паходзілі з беларуска-літоўскіх губерняў і належалі, як Бонч-Асмалоўскі, а з 1900 г. таксама Гершуні, да Рабочай партыі сацыялістычнага вызвалення Расіі, што была таксама заснаваная ў Менску ў 1895 г. Гэтая суполка, якая, поруч з Паўночнай арганізацыяй Бунда і паўднёвымі групамі сацыялістаў-рэвалюцыянераў, павінна была стаць важнай папярэдніцай ПСР, у асноўным і падрыхтавала глебу для аграрна-сацыялістычных ідэяў ПСР. Хоць практычная дзейнасць ПСР у Беларусі праз адсутнасць вясковай грамады і слабое развіццё пралетарыяту „ўяўляла сабою сумнае відовішча"[70], Вільня і Менск, з прычыны сваёй аддаленасці ад цэнтраў імперыі, адыгралі істотную ролю ў працэсе станаўлення партый. Усе вялікія сацыялістычныя пратэстныя партыі імперыі былі заснаваныя тут альбо — як у выпадку з эсэрамі — атрымалі значныя, не ў апошнюю чаргу таксама асабістыя, імпульсы з беларускіх правінцый[71].

Побач з тэарэтычнымі дыскусіямі ў хоры аднолькава настроеных рэгіянальных партыяў Беларуская сацыялістычная грамада — гэтак пасля свайго першага з'езда пачала называць сябе БРГ — імкнулася прыўлашчыць сабе агульнадэмакратычныя лозунгі. Надзённыя заявы і праграмы былі сінтэзаваныя з дэкларацыяў ППС і ПСР[72]. Гэта асабліва датычыла рэфармавання аграрнага сектара, дзеля чаго ў сакавіку 1905 г. пад назвай Беларускі сялянскі саюз была створаная адмысловая платформа з прадстаўнікоў БСГ і ПСР. Да праграмных пастулатаў 1906 г., побач з нацыянальна-культурнай аўтаноміяй і вылучаным у 1905 г. патрабаваннем пераўтварэння Расіі ў федэрацыю дэмакратычных рэспублік, належалі: сучаснае выбарчае права, полавая, нацыянальная, рэлігійная і расавая роўнасць. Апроч таго, беларуская нацыянальная школа з выкладаннем на беларускай мове, а таксама імкненне да ажыўлення нацыянальнага друку павінны былі зрабіцца асноўнымі тэмамі перыядычных выданняў, што пачалі выходзіць пасля з'езда. На сваім другім з'ездзе БСГ далучыла таксама патрабаванні бясплатнай народнай адукацыі, васьмігадзіннага працоўнага дня і перадзелу зямлі на карысць малазямельных і беззямельных сялян. У фонды, якія меліся быць адмыслова дзеля гэтага створаныя на ўзроўні вобласці, павінна была перайсці зямля, атрыманая ад буйных землеўладальнікаў і царквы. Беларускія сацыялі-

і наст. Пра польскі нацыянальны рух у Беларусі і Літве ў пачатку XX ст. гл. нядаўнюю працу: Смалянчук А. Польскі нацыянальны рух на Беларусі і Літве напярэдадні і ў перыяд рэвалюцыі 1905—1907 г. Дыс. канд. гіст. навук. Мінск: БДУ, 1995 (неапубл. рукапіс).

[69] Гл.: Hildermeier, Manfred. Op. cit. C.404—412; пра А.В.Бонч-Асмалоўскага гл.: ЭГБ. Т.2. Мінск, 1994. С.57 і наст.; пра Р.А.Гершуні гл. тамсама, с.525.

[70] Так выказваецца аўтар у: Hildermeier, Manfred. Op. cit. C.235—239, тут цытуецца с.237. У дачыненні да агітацыі сярод рабочых ён называе ў якасці выняткаў Браиск (1000 сяброў) і Дзвінск (450 сяброў). Што да сялянства беларускіх губерняў, дык партыйныя інфарматары гавораць пра „надзвычай нізкі стан свядомасці" — гл.: Тамсама, с.238.

[71] Таксама менш вядомая Габрэйская незалежная рабочая партыя, якая дзейнічала насуперак Бунду, была заснаваная ў Менску ў 1901 г. Вылучыўшы ідэю грамадзянскага сіянізму, у год свайго заснавання яна атрымала вялікі прыток прыхільнікаў з першасных арганізацыяў Бунда. Гл.: Нарысы гісторыі Беларусі. Т.1 (op. cit.). С.374 і наст.

[72] Некаторыя сябры БСГ прыйшлі сюды з ППС. Параўн.: Mark, Rudolf A. Op. cit. C.507.

сты хацелі паступова адмежавацца ад аграрна-сацыялістычных ідэяў эсэраў не толькі гэткім чынам. Працяг аддалення ад ПСР і зблíжэння з ППС адбываўся пасля таго як, пачынаючы з 1906 г., ужыванне тэрору ў якасці палітычнага сродку стала дапускацца толькі „ў мэтах самаабароны“[73].

Выяўляецца, што барацьба за нацыянальнае вызваленне ў большасці няроскіх рэгіёнаў імперыі сыходзіла найперш з сацыяльных патрабаванняў. Гэты факт сведчыць пра дзве рэчы: з аднаго боку і ў самую першую чаргу, партыя была рэгіянальным сацыяльным рухам, інтэграваным у асяроддзе імперыі, які толькі ў другую чаргу пераследаваў нацыянальныя мэты. З іншага боку, слушнай — калі браць пад увагу беларускую сітуацыю і не зважаць на постсацыялістычны пафас — з'яўляецца найноўшая нацыянальна-гістарычная інтэрпрэтацыя БСГ як стрыжня „нацыянальна-вызвольнага руху“ ў Беларусі на пачатку XX ст., бо гэта была адзіная арганізацыя, якая магла рэпрэзентаваць асаблівыя інтарэсы рэгіёну і паўнавартасна ўдзельнічаць у дэбатах ПСР з яе надрэгіянальным дыяпазонам дзеяння. Другі апазіцыйны ўзровень сярод падданых імперыі ў правінцыі быў актыўны ў непараўнальна большай меры, чым думскія лібералы з беларускімі мандатамі. Даследаванні беларускімі аўтарамі гісторыі свайго рэгіёну і сваёй нацыі, што пачаліся каля 1905 г., былі і змястоўна, і персаналіямі аўтараў звязаныя з сацыялістычнымі групамі дыскурсу. Калі лідэры БСГ — гэткія, як браты Іван і Антон Луцкевічы — і не пісалі менавіта самі на гэтыя тэмы, дык яны прапаноўвалі розным даследчыкам магчымасці публікавацца на старонках сваіх друкаваных органаў і праз гэта адначасова абуджалі ў іх цікавасць да сваіх ідэяў.

*Па-трэцяе: студэнты і нацыянальныя патрыёты ў Беларусі.* Для нашага кантэксту асабліва важнай з'яўляецца трэцяя група інтарэсаў, якая складалася з нярускай інтэлігенцыі. З сем'яў пераважна [колішніх] уніяцкіх святароў і дробнай шляхты выходзілі шматлікія гімназісты, студэнты, маладыя навукоўцы, асветнікі і публіцысты, і яны ўяўлялі сабою значны мабілізацыйны патэнцыял. Без сумневу, слушнай будзе заўвага, што ідэалогія шматлікіх этнасаў мультынацыянальнай імперыі, якія знаходзіліся ў працэсе нацыятворчасці, была ўзгадаваная ў першых дзвюх названых вышэй групах — лібералізму і радыкальна-сялянскага сацыялізму. Гэта асабліва справядліва ў дачыненні да кіраўнічага кола БСГ. Адзначанае з канца XIX ст. сінтэзаванне даробку (прота)нацыянальных традыцыяў у мастацкай літаратуры, этналагічных і філалагічных палявых даследаваннях, а таксама ў гістарыяграфіі, што пачынала развівацца, было, гэткім чынам, дапоўненае праз артыкуляванне асаблівых рэгіянальных інтарэсаў у межах скіраваных на дзеянне палітычных аб'яднанняў. Шмат што гаворыць за тое, што прадстаўнікі нярускіх адукаваных слаёў таксама падступаліся да горла імперыі ў апошні перыяд яе існавання.

Найбуйнейшым сярод гэтых „таемных таварыстваў“ у 80-я г. XIX ст. была, несумненна, група, якая вызначыла сябе адказнай за выданне „Гомон. Белорусское революционное обозрение“. Яе карэспандэнты вялі свае пошукі як у беларуска-літоўскіх, так і ва ўкраінскіх правінцыях. У гэтым часопісе спалучаліся

[73] Перадрук праграмы БСГ 1906 г. гл.: Программа Белорусской социалистической громады // Веснік БДУ [Серыя гуманітарных навук]. 1993. №1. С.60—70.

між сабою ідэі сацыялістаў–рэвалюцыянераў з рэгіянальнымі краёвымі патрабаваннямі беларускіх патрыётаў. Цэнтральнай ідэяй быў „прынцып абласной самастойнасці як падмурку для будучага федэратыўнага палітычнага ладу". У другім выданні гэтая рэгіянальна–нацыянальная палітычная прэтэнзія была выразна сфармуляваная ў спалучэнні з праблемай беларускай мовы: „Беларуская мова з часам можа атрымаць такое ж права і грамадзянства, як і мова маларуская". [...] Усе гэтыя асаблівасці абгрунтоўваюць права Беларусі „на аўтаномную федэратыўную самастойнасць у сям'і іншых народнасцяў Расіі"[74].

Ініцыятыўныя групы, што ўтварыліся на пачатку XX ст. і выйшлі пераважна са студэнцкіх гурткоў[75], абмяркоўвалі нацыянальнае пытанне таксама пад час тэарэтычных дыскусіяў. Іван Луцкевіч, які належаў да найбольш магутных прамоўцаў БСГ і маладабеларускага нацыяналізму, пад псеўданімам „Шчасны" браў удзел у Канферэнцыі нацыянальных сацыялістычных партыяў (што адбылася ў красавіку 1907 г.). Там сабраліся выключна партыі сацыялістычнага кірунку[76].

[74] Цыт. паводле: Нарысы гісторыі Беларусі. Т.1 (op.cit.). С.345, 354. Іншыя, друкаваныя пераважна беларускімі студэнтамі ў пецярбургскім падполлі ўлёткі–памфлеты і часопісы, утрымлівалі падобныя, скіраваныя на палітычную і культурную аўтаномію звароты: „Да беларускай моладзі", „Да беларускай інтэлігенцыі", „Лісты пра Беларусь. Ліст першы", „Пасланне да землякоў–беларусаў" (за подпісам „Шчыры беларус"). Усе выключна выданні, у т.л. і „Гомон", выйшлі на расійскай мове; гл.: Тамсама, с.351.

[75] Былі праведзеныя калектыўна–біяграфічныя даследаванні беларускай патрыятычнай інтэлігенцыі, згодна з якімі са 120 асоб, што да 1914 г. „належалі да ядра Грамады і/альбо прымыкалі да яе ў арганізацыйным плане ці як публіцысты", было зафіксавана: 51 вучань школ альбо студэнт, 11 настаўнікаў, 10 службоўцаў, 9 пісьменнікаў альбо публіцыстаў, 6 навукоўцаў. Рэшта мела цывільныя, мастацкія альбо рамесныя заняткі. Параўн.: Mark, Rudolf A. Op. cit. C.508. Увесь час гаворка ішла пра „нашаніўскае пакаленне". Сацыяльнае паходжанне найважнейшых аўтараў і стваральнікаў тыднёвіка і патрыятычнага краязнаўчага руху даследавана Янам Станкевічам — гл.: Станкевіч Ян. Беларускае нацыянальнае адраджэньне (1902—1915) // *Яго ж.* Зь гісторыі Беларусі. Мюнхэн, 1958. С.59 і наст. Паводле яго, сялянскае паходжанне мелі К.Міцкевіч (Якуб Колас), М.Гарэцкі, Э.Будзька, Я.Лёсік і інш.; з вясковай [дробнай маёнткавай] шляхты паходзілі В.Ластоўскі, І.Луцэвіч (Янка Купала), інж. Л.Вітан–Дубейкаўскі і інш., з рабочых — А.Гарун, З.Жылуновіч. Найбольш цесныя повязі з „Нашай Нівай" мелі, аднак, дробныя шляхціцы І. і А.Луцкевічы, Ал. Пашкевічанка (Цётка), А.Уласаў і інш. Да буйной шляхты можа быць прылічаны граф Б.Эпімах–Шыпіла. Гл.: Тамсама, с.76.

[76] Дэбаты, што вяліся на канферэнцыі, адлюстроўваюць розныя дэфініцыі паняцця нацыі ў ПСР і іх партнёрскіх партыяў па нацыянальным пытанні. Арыентуючыся на аўстра–марксісцкае разуменне экстэрытарыяльнай аўтаноміі, Сацыялістычная габрэйская рабочая партыя вуснамі свайго вядучага прадстаўніка Барысава (Ратнэра) выказала пазіцыю, супрацьлеглую пазіцыі эсэраў. Галоўны тэарэтык апошніх Чарноў бараніў канцэпцыю тэрытарыяльна вызначанай аўтаноміі. Да аднае думкі канферэнцыя не прыйшла. Пра падыходы эсэраў да нацыянальнага пытання параўн.: Heller, Klaus. Revolutionärer Sozialismus und nationale Frage. Das Problem des Nationalismus bei russischen und jüdischen Sozialdemokraten und Sozialrevolutionären im Russischen Reich bis zur Revolution 1905—1907. Frankfurt am Main, 1977; пра канферэнцыю гл. с.150—155. Багатая на інфармацыю таксама праца: De Keghel, Silke–Isabelle. Sozialrevolutionäre Partei und nationale Frage in Rußland vor dem ersten Weltkrieg. Tübingen, 1993: Wissenschaftliche Zulassungsarbeit (неапубл. рукапіс), у гэтым выпадку гл. с.33 і наст.

На падставе выказванняў Івана Луцкевіча па пытаннях нацыі й мадэлі аўтаноміі, зафіксаваных у пратаколах гэтай канферэнцыі, можна ўзнавіць вобраз гістарычных канцэпцыяў, што тады пераважалі таксама ў беларускіх інтэлектуальных асяродках. Пераважала культурніцкае разуменне нацыі, якое акцэнтавала ўвагу на мове, культурных традыцыях, але таксама і на „агульнасці лёсаў" людзей. Адначасова з боку БСГ, як і з боку Сацыялістычнай габрэйскай рабочай партыі („СЕРП"), тэрытарыяльны падыход, які шматлікія сябры ПСР і ППС разглядалі як стрыжань нацыянальнага самавызначэння, лічыўся хутчэй другарадным. У пытанні правоў на нацыянальную аўтаномію, якое зрабілася стрыжнявым пытаннем палітычных дыскусіяў эсэраў, выявіліся аналагічныя палярныя рознагалоссі[77]. Пры гэтым пазіцыя беларускай Грамады і яе прадстаўніка І. Луцкевіча адначасова дапускае права на жыццё высноваў наконт гістарычнай лакалізацыі Беларусі і беларусаў, зробленых яе нацыянальнай інтэлігенцыяй. У той час як ППС і ПСР у якасці партый, што прадстаўлялі палякаў і расійцаў, выступалі за тэрытарыяльна вызначанае права на аўтаномію, габрэі і беларусы мелі процілеглы погляд на гэтую праблему.

Ідэолаг „СЕРП" і колішні рэдактар часопіса „Гомон" Х.Ратнэр, да якога, па сутнасці, далучыліся прадстаўнікі „малых" нацый, выступаў за аўтаномію, угрунтаваную на індывідуальным выбары прадстаўніка той альбо іншай нацыянальнасці і на незалежных карпаратыўных інстытуцыях нацыянальнасцяў. Самі нацыі меліся самавызначыцца ў якасці юрыдычных асобаў. Нацыя разглядаецца ў такім выпадку як супольнасць, у якую ўступаюць паводле ўласнага перакanання. Адпаведным чынам, у этнічна неаднародных рэгіёнах павінны існаваць розныя нацыянальныя парламенты („Соймы"), у той час як на монаэтнічных тэрыторыях адміністрацыйныя і нацыянальныя інстытуцыі мусяць быць тымі самымі[78]. Гэткі праект, натуральна, не мог прывесці партыі ні да якага рэальнага развязку. Істотным ёсць тое, што тут мы бачым існаванне атмасферы тэарэтычнага пошуку, у якой развівалася думка эсэраўскіх партыяў у нацыянальных катэгорыях пасля 1905 г. Вартымі ўвагі ў гэтым кантэксце з'яўляюцца не столькі вынікі такіх дыскусій, колькі сам факт іх правядзення ў дзяржаве, дзе дагэтуль дамінавала руская ўлада.

Яшчэ ў XIX ст. у Расійскай імперыі існавалі самае меншае тры праблемныя зоны, у якіх найбольш выразна выяўляла сябе гатоўнасць насельніцтва да пратэсту: Каўказ, прыбалтыйскія правінцыі (Эстляндыя, Ліфляндыя, Курляндыя) і Каралеўства Польскае[79]. Ва ўсіх гэтых трох рэгіёнах, дзе цягам стагоддзяў дамінавалі ўмацаваныя рэгіянальна альбо нацыянальна ідэнтыфікаваныя суполь-

[77] М.Хільдэрмаер звяртае ўвагу на тое, што сацыял-рэвалюцыйная афарбоўка ўсіх нацыянальных рухаў апошняга перыяду існавання царскай імперыі была суадказнай за іх „незавершаны характар"; гл.: Hildermeier, Manfred. Verhinderte Nationen: zu einigen Merkmalen und Besonderheiten nationaler Bewegungen in Russland und der Sowjetunion // AfS 34 (1994). С.1—17, [тут] с.9.

[78] De Keghel, Silke-I. Op. cit. С.38—46. Тут выкарыстаныя дакументы канферэнцыі; гл.: Протоколы конференции российских национально-социалистических партий, 16—20 апреля 1907 г. Санкт-Петербург, 1908.

[79] Параўн.: Ascher, Abraham. The Revolution of 1905. Vol. 1: Russia in Disarray. Stanford, CA., 1988. С.152 і наст.

насці, дэкрэтаванае ўвядзенне расійскай мовы, праваслаўя, а таксама кіраўнічых структур непазбежна вяло да ўзнікнення канфліктаў. У Польшчы, асабліва пасля падзеяў 1863 г., праводзілася ўзмоцненая палітыка русіфікацыі. Выкладанне польскай мовы было забаронена ў школе, як і выкладанне каталіцкай рэлігіі. Не паспела прайсці і двух месяцаў пасля Крывавай нядзелі ў Санкт-Пецярбургу, як у вялікіх гарадах беларуска-літоўскага рэгіёну[80], Вільні і Коўне, таксама было запатрабавана звольніць з працы настаўнікаў, якія неабярэжліва абыходзіліся з рэлігійнымі і нацыянальнымі пачуццямі сваіх вучняў. Акрамя таго, быў выдадзены дазвол размаўляць у навучальнай установе па-польску альбо па-літоўску і праводзіць заняткі на гэтых мовах; настаўніцкія пасады цяпер таксама магі займаць нерасійцы. Прэтэнзіі былі выказаныя і да школьных падручнікаў, „у якіх гістарычныя ацэнкі тэндэнцыйна скажаюць праўду“[81]. Аўтары і палітычныя дзеячы, што знаходзіліся пад уплывам БСГ і яе надзіва доўгатрывалага органа друку, тыднёвіка „Наша Ніва“, актыўна выступалі як за вырашэнне сацыяльна значных праблем, гэтак і за „раўнапраўнае існаванне самастойнай беларускай нацыі“. Гэты набор тэзаў да 1918 г. у адпаведных публікацыях паўтараўся ў розных варыянтах, а з 1915 г. спалучаўся з канкрэтным патрабаваннем „поўнай дзяржаўнай незалежнасці Беларуска-Літоўскай дзяржавы“ з Соймам у Вільні.

Палітыка царскага рэжыму, гэткім чынам, ужо на пачатку стагоддзя і асабліва пасля падзей 1905 г., — мусіла браць пад увагу не толькі памкненні да сацыяльнага вызвалення, але і нацыянальны рух нярускіх нацыяў, які ўвесь час мацнеў. Першай прынцыпова важнай рэакцыяй на тэктанічныя зрухі ў манархіі быў Кастрычніцкі маніфест, які і зрабіўся пралогам да канстытуцыйнага эксперыменту ў царскай імперыі апошняга перыяду існавання. Яго аўтар, міністр фінансаў граф Сяргей Вітэ, напачатку імкнуўся дамагчыся таго, каб цар падпісаў нашмат больш радыкальны праект. Для гэтага кантэксту цікавым выглядае той факт, што Вітэ ў якасці стрыжнявой думкі свайго праекту вылучаў свабоду, а гісторыю выкарыстоўваў дзеля абгрунтавання традыцыі ўкаранёнасці названай думкі. Складзеная ім кароткая храналогія развіцця ідэі свабоды ў Расійскай дзяржаве была падобная на паказ дынастыі гістарычных асоб, якія выклікалі сімпатыю. Вольналюбныя грамадзяне раннесярэднявечных Ноўгарадскай і Пскоўскай рэспублік былі пастаўленыя на чале шэрагу, у які таксама ўваходзілі запарожскія казакі, прыгонныя-ўцекачы і стараверы, апроч таго, яшчэ дзекабрысты і петрашэўцы. Пасля таго як Кастрычніцкі маніфест фактычна пакінуў сістэму самадзяржаўя некранутаю, Вітэ ў сваім другім праекце, што ў асноўным быў падрыхтаваны земскім лібералам В.Д.Кузьміным-Караваевым, даў азначэнне ўраду як прамежкавай сіле паміж самадзержцам і грамадствам[82].

Тым не менш, у сваім маніфесце Мікалай II дэклараваў стварэнне абранага калектыўнага органа, сходу з заканадаўчымі паўнамоцтвамі, грамадзянскія сва-

[80] Bauer H., Kappeler A., Roth B. (рэд.). Op. cit. Bd.B. C.17 і наст.

[81] Русские ведомости, 1.03.1905 г. C.2. Параўн. таксама: Ascher, Abraham. Op. cit. Vol.1. C.196.

[82] Verner, Andrew M. The Crisis of Russian Autocracy. Nicholas II and the 1905 Revolution. Princeton, NJ., 1990. C.218—245, найперш гл. с. 228, 232 і наст.; параўн.: кароткую біяграфію: Lindner, Rainer. Sergej Juljewitsch Witte // Jena, Detlef (unter Mitarbeit von Rainer Lindner). Die russischen Zaren in Lebensbildern. Graz, 1996. C.534—536.

боды, а таксама, апасродкавана, ураўнанне ў правах розных канфесіяў і нацыяў. Апошняе палажэнне было зафіксаванае ўжо ва ўказе аб рэлігійнай талеранцыі (красавік 1905 г.), у якім дазваляўся пераход з адной веры ў другую і забаранялася дыскрымінацыя. Гэткім спосабам нацыянальная палітыка ўлады, здавалася, пачынала прыстасоўвацца да новых варункаў, аднак у сапраўднасці ўсё выглядала інакшай. Права ўдзелу нярускіх нацыянальнасцяў у палітычнай дзейнасці хутчэй скарачалася, чым мела тэндэнцыю да пашырэння. Пра гэта сведчыла ўжо хоць бы змяншэнне долі нярускіх дэпутатаў Дзяржаўнай Думы: калі ў першую Думу, што напачатку сваёй кадэнцыі налічвала 448, а напрыканцы 499 дэпутатаў, яшчэ ўваходзіла 220 нярускіх, дык у чацвёртай Думе апошніх было толькі 76 з агульнай колькасці 438 дэпутатаў. Адзінасць і непадзельнасць Расіі, якая прызнавала „асаблівыя ўстанаўленні і законы" толькі для Фінляндыі, была зафіксаваная ўжо ў Канстытуцыі за 23 красавіка 1906 г. Таму рэальныя прэтэнзіі на аўтаномію для розных нацыянальнасцяў імперыі заставаліся заведама без усялякіх шанцаў. Нават фіны ў 1910 г. былі — прынамсі, дэ-юрэ — падпарадкаваныя царскаму заканадаўству[83]. Калі не зважаць на абмежавана гарантаваныя свабоду друку і асацыяцыяў, а таксама няпэўнае ўсведамленне з усіх бакоў, што нішто не засталося такім, як было да рэвалюцыі 1905 г., царскі ўрад прадоўжыў абмежавальную, па сутнасці, палітыку ў дачыненні да нярускіх нацыяў. Дзе гэта атрымоўвалася — як у выпадку з некаторымі балтыйскімі немцамі, — стаўка зноў рабілася на лаяльныя нярускія эліты. Украінскія і беларускія землі, між тым, заставаліся тэрыторыяй супярэчнасцяў — не ў апошнюю чаргу, з памежнымі зонамі культурнага ўплыву. Гэтак, украінскае пытанне ўсё ў большай ступені абцяжарвала дачыненні царскай імперыі з Аўстра-Венгрыяй; гэтаксама як беларускае пытанне надалей мела шчыльную повязь з расійска-польскім вузлом праблем.

З вышэйсказанага вынікае, што, нягледзячы на ўзнікненне шматлікіх новых аб'яднанняў альбо партыяў ды перыядычных выданняў на нацыянальных мовах, публікацыю твораў мастацкай літаратуры, якія з'яўляліся на перыферыі імперыі,— ранейшыя палітычныя і нацыянальныя супярэчнасці працягвалі існаваць. Хоць рэвалюцыя прывяла да ліквідацыі неабмежаванага самаўладства, але найважнейшыя вузлы канфліктаў засталіся некранутыя патокам перамен: рознагалоссі паміж палітычнымі кірункамі павялічыліся. Манархісты супрацьстаялі лібералам, сацыялісты — „буржуазіі", а радыкалы — усім астатнім партыям, разам узятым. Габрэі яшчэ ўвосень 1905 г. перажылі найгоршыя за ўсю гісторыю пагромы ва Украіне. Падобныя працэсы адбываліся ва ўзаемадачыненнях мусульман і армян, латышоў і нямецкіх абшарнікаў[84].

[83] Параўн.: Kappeler, Andreas. Rußland als Vielvölkerreich (op. cit.). С..279 і наст. Акрамя таго, гл.: Kujala, Antti. The Policy of the Russian Government on Finland, 1905—1917: A Case Study of the Nationalities Question in the Last Years of the Russian Empire // Conroy, Mary Schaeffer (рэд.). Emerging Democracy in Late Imperial Russia. Case Studies on Local Self-Government (The Zemstvos), State Duma Elections, The Tsarist Government and The State Council Before and During World War I. Niwot, Col., 1998. С.143—197.

[84] Р.Пайпс гаворыць пра „дамінаванне нянавісці" перад 1914 г.; гл.: Pipes, Richard. Op. cit. Bd.1. С.340.

Калі падагульніць наш разгляд сітуацыі ва ўсіх трох разгляданых групах, дык ужо напрыканцы XIX ст. вымалёўваўся вобраз „фрагментаванага грамадства“ (выраз А.Ашэра (A.Ascher)). Побач з масай насельніцтва, якую было вельмі цяжка змабілізаваць, сялянствам, лаяльнасць якога да самадзяржаўя была нязломнаю, палітызаваным толькі ў паасобных сваіх сегментах рабочым класам, існаваў падзелены на тры часткі апазіцыйны лагер лібералаў, радыкальных сацыялістаў і нярускіх патрыётаў. Паміж сабою супольнасці інтарэсаў, вядома, не ўсталёўвалі стабільных дачыненняў, калі пакінуць па-за ўвагай пранікненне нацыянальнага палітычнага руху ў групоўкі лібералаў, сацыялістаў і радыкалаў, якія звычайна былі набліжанымі да сталіцы і настроенымі па-прарасійску. Гэткім чынам, „Расія і расійскае грамадства“ падзялялася не толькі на змагароў за „свабоду“ і прыхільнікаў „дэспатызму“, як гэта на пачатку рэвалюцыйнага 1905 г. бачылася гісторыку і лідэру кадэтаў П.М.Мілюкову[85]. Унутры саміх згаданых лагераў існавалі вельмі розныя групы інтарэсаў — і памяркоўныя дыскусійныя гурткі, і ўзброеныя баявыя групы. Асаблівыя інтарэсы нярускай інтэлігенцыі, што дамагалася, акрамя сацыяльнага, і нацыянальнага вызвалення, стваралі новае вымярэнне для вызначанага Мілюковым „лагера свабоды“. Буржуазна-ліберальныя ідэі на здамінаваных вяскоўцамі беларускіх тэрыторыях не мелі практычна ніякага водгуку[86]. Беларусь, яшчэ ў большай ступені, чым Украіна, была сялянскім краем, і праз гэта тут лепш успрымаліся ідэі аграрных сацыялістаў. Апошнія ўмелі спалучаць сацыяльныя патрабаванні з праблемай рэгіянальнай ідэнтычнасці. Аднак перыяду часу, у якім бы палітычныя ідэолагі дасягнулі масавага водгуку для сваіх ідэяў, не было. З прычыны розных сацыяльных і інтэлектуальных варункаў падзеі разгортваліся так, што нацыянальна настроеным элітам так і не ўдалося арганізаваць выбух „вызвольнага руху“ на беларускіх землях. Разам з тым — як гэта мела месца ў большасці нярускіх правінцыяў царскай імперыі — і ў буйных гарадах беларускіх губерняў сфармаваўся тонкі слой інтэлігенцыі, які надаваў вялікае значэнне больш выразнаму фармуляванню нацыянальных інтарэсаў. Узнікненне гэтых групаў у найноўшай навуковай літаратуры інтэрпрэтуецца як дасягненне найважнейшага этапу беларускага нацыянальнага руху[87].

Беспасярэднім наступствам часова лібералізаванай пасля 1905 г. нацыянальнай палітыкі царскага ўраду, а таксама прамоўніцкай дзейнасці беларускіх дэпутатаў у Дзяржаўнай Думе стала ўзнікненне, галоўным чынам у Вільні, беларускага вучонага нацыяналізму. Калі ў канцы папярэдняга стагоддзя сваю справу яшчэ рабілі дылетанты-літаратары і акадэмічныя вучоныя, што атрымалі адукацыю альбо працавалі ў буйных універсітэтах еўрапейскай часткі Расіі, дык у

[85] Miliukov, P.N. Russia and Its Crisis. Reprinted with a New Foreword by Donald W. Treadgold. New York, 1962. C.14 і наст.

[86] Адрозная ад той, што існавала ў губернях Цэнтральнай Расіі, сацыяльная структура заходніх правінцыяў, відаць, паслужыла асновай канцэптуальных разваг пра рэформы, якія П.А.Сталыпін выкладаў у розных павятовых і губернскіх управах Ковенскай і Гродзенскай губерняў. Пры гэтым яго галоўную цікавасць выклікалі хутарскія аднаасобныя гаспадаркі беларуска-літоўскіх земляў.

[87] Mark, Rudolf A. Op. cit. C.507.

першым паціголдзі XX ст. — асабліва ў часе рэвалюцыйных хваляванняў — утварылася кагорта нацыянальна настроеных інтэлектуалаў, якая ў значнай меры выявіла сваю стабільнасць у наступным за гэтым дзесяцігоддзі. Хоць напачатку было не больш за тузін тых жанчын і мужчын, што маглі быць прылічаныя да гэтай нацыянальнай карпарацыі, імі была разгорнутая параўнальна актыўная публіцыстычная дзейнасць, цалкам свядома скіраваная на вузкае кола спецыфічна беларускіх інтарэсаў. Калі прыгледзецца да персаналіяў патрыятычна настроеных актывістаў, дык у вочы кідаецца тое, што іх колькасць, даступная агляду, была падобная да польскай інтэлігенцыі ў Каралеўстве[88]. І ў гэтым выпадку гаворка не можа ісці пра згуртаваных паводле інтарэсу асобаў, якіх магчыма было б класіфікаваць выключна паводле эканамічных альбо сацыяльных прынцыпаў, а пра тых, хто ўсведамляў сваю вызначальную ролю як інтэлектуальнай эліты бездзяржаўнай нацыі. Адзінае, чаго бракавала беларускім інтэлектуалам, у адрозненне ад польскіх „абуджальнікаў", дык гэта вялікай дрымотнай нацыі.

У якасці найважнейшых прычынаў запаволенасці беларускага нацыятворчага працэсу трэба назваць наступныя: *па-першае*, вясковы характар беларускага культурнага і моўнага сусвету; *па-другое*, адсутнасць колькасна значнай нацыянальнай і зацікаўленай у працэсе станаўлення нацыі эліты; *па-трэцяе*, царская палітыка ў дачыненні да нацыянальнасцяў і, *па-чацвёртае*, малая магчымасць адмежавання ад рускіх частак насельніцтва. Калі ў суседняй польскай супольнасці, да прыкладу, і ніжэйшыя слаі насельніцтва чулі сваю нацыянальную мову ў багаслужбе і, між іншым, праз гэта адчувалі сваю духоўную повязь са сваёй моцнай элітаю, беларуская мова магла разглядацца толькі як прагматычны сродак зносінаў сярод вясковага грамадства, але не сэнсатворчы нацыянальны капітал[89]. Ранняе беларускае гісторыяпісанне ўсё ж такі магло чэрпаць свае набыткі з энтузіязму пакалення абуджальнікаў; нярэдка гістарыёграфы і „абуджальнікі" былі тымі самымі асобамі. Калі разглядаць разнастайнасць арганізатарскіх высілкаў у якасці крытэрыю вызначэння мабілізацыйнага патэнцыялу, беларускія тэрыторыі можна прылічыць нават да актыўных рэгіёнаў позняй імперыі. Далейшыя разважанні павінны даць уяўленне пра пачаткі інстытуцыяналізаванай гістарыяграфіі ў беларускіх правінцыях.

## 1.3. Інстытуцыянальныя пачаткі гістарычных даследаванняў

Афіцыйны гістарычны інтарэс да заходніх правінцыяў царскай імперыі з часу падзелаў Рэчы Паспалітай і цягам XIX ст. выразна ўзрастаў[90]. Прычыны гэтага

[88] Пра польскі адукаваны свет параўн.: Koestler, Nora. Intelligenzschicht und höhere Bildung im geteilten Polen // Conze W., Kocka J. (рэд.). Bildungsbürgertum im 19. Jahrhundert. Teil 1: Bildungssystem und Professionalisierung in internationalen Vergleichen. Stuttgart, 1992. С.186—206; *Яе ж.* Polnische Intelligenz als sozialgeschichtliches Problem. Ein Bericht über die polnische Forschung // JBfGOE 31 (1983). С.544—562.

[89] Радзік Рышард. Прычыны слабасці нацыятворчага працэсу беларусаў у XIX—XX ст. // БГА. 1995. Т.2. Сш. 2. С.195—227; у гэтым выпадку гл. с.204 і наст.

[90] Агляд гл. у арт.: Караў Дзьмітры. Пачаткі беларускага крыніцазнаўства // Спадчына. 1994. №5. С.9—18.

не ў апошнюю чаргу палягалі ў новым імперскім разуменні гісторыі з боку самадзяржаўя, якое атрымала свой першы маніфест у дзяржаўнай гісторыі Мікалая Карамзіна. Праз стварэнне Аляксандрам II „Рускага гістарычнага таварыства Яго вялікасці" — у 1866 г. паводле заходнееўрапейскага ўзору — царскі ўрад неўзабаве займеў навуковую арганізацыю, што дзейнічала на цэнтральным і на губернскім узроўнях і развівала абапіранае на крыніцах разуменне рэгіянальнай гісторыі. Дамінантныя ўзоры інтэрпрэтацыі па-прарасійску выкладзенай бесперапыннай гісторыі імперыі павінны былі зрабіцца таксама абавязковымі для даследаванняў і публікацыяў па гісторыі і культуры маларасійскіх і паўночна-заходніх правінцыяў. Дакументальны матэрыял па гісторыі гэтых земляў у эпохі Сярэднявечча і Новага часу, сабраны з мясцовых архіваў і апублікаваны ў Вільні, Кіеве, Варшаве, Маскве і, перадусім, у Санкт-Пецярбургу, быў варты ўвагі. Хоць царскі ўрад з самага пачатку быў зацікаўлены ў знаходжанні доказаў гістарычнай роднасці велікарусаў, украінцаў і беларусаў, будучыя беларускія нацыянальныя гісторыкі не ў апошнюю чаргу скарысталі з выгодаю з арганізатарскіх намаганняў і фінансавага забеспячэння навуковай палітыкі царызму.

Акрамя таго, у XIX ст. узніклі невялікія вучоныя суполкі (гурткі), якія займаліся гістарычнымі, культурнымі і гістарычна-моўнымі праблемамі заходніх правінцыяў. Яшчэ ў 1810 г. дасведчаны ў гісторыі расійскі граф і шматгадовы губернатар ва Украіне М.П.Румянцаў стварыў у Санкт-Пецярбургу „Румянцаўскі гурток гісторыкаў і археографаў", які неўзабаве распаўсюдзіў сваю дзейнасць на правінцыйны горад Гомель. Румянцаў фінансаваў атрыманне адукацыі ў Пецярбургскай духоўнай акадэміі маладога сына святара беларуса І.І.Грыгаровіча і натхніў апошняга, пасля яго вяртання ў Гомель у сакавіку 1820 г., каб той „сваімі ведамі рабіў здабыткам грамадскасці той альбо іншы дакумент, які датычыць мінуўшчыны нашага беларускага рэгіёну і суседняга Менска". Ужо ў 1824 г. Грыгаровіч выдаў першы том задуманага трохтамовага збору крыніц пад назвай „Беларускі архіў старажытных грамат". Дакументы паходзілі з архіўных фондаў Полацка, Віцебска, Магілёва, Турава і іншых гарадоў паўночна-заходніх правінцыяў. У дадатак былі арганізаваныя разнастайныя экспедыцыі і праведзеныя даследаванні па беларускай мове[91]. Расійскія грошы і інтарэс гэткім чынам ужо тады спрыялі вывучэнню беларускіх тэрыторыяў. Ці ў гэтым выпадку, аднак, магчыма гаварыць пра свядомы „ўклад у станаўленне беларускай нацыі"[92] — гэтае пытанне, хутчэй, трэба лічыць адкрытым. Відаць, галоўным інтарэсам гуртка, да якога належалі гэткія вучоныя, як І.М.Лабойка з Віленскага універсітэта, В.Р.Анастасевіч альбо М.М.Бантыш-Каменскі, было, зрэшты, тое, каб давесці цесную „гістарычную" повязь колішніх польскіх правінцыяў з Расіяй.

[91] Калайдович К.Ф. О белорусском наречии // Труды общества любителей российской словесности. 1922. Вып.1. Кн.1. С.67—80. Параўн. таксама: Кохановский Г.А. Историография изучения культуры Беларуси в конце XVIII — начале XIX вв. Автореферат дис. канд. ист. наук. Мінск: ІГ АНБ, 1992. С.18 і наст.

[92] Гэтак лічыць аўтар у арт.: Saunders, David. Nikolai Petrovich Rumiantsev and the Russian Discovery of Belarus // Dingley J., McMillin A. (рэд.). Occasional Papers in Belarusian Studies 1 (1995). С.51—61.

Для развіцця гістарыяграфіі ў літоўска-беларускіх правінцыях да 1917 г. асаблівае значэнне мелі Віленская археалагічная камісія (1855—1865) і Віленская археаграфічная камісія (1864—1915). Віленскі музей старажытнасцяў быў заснаваны з ініцыятывы мясцовых культурніцкіх уладаў, а для публікацыі вынікаў краязнаўчых даследаванняў пры ім былі заснаваныя „Записки Виленской археологической комиссии". Пасля падзеяў 1863—64 г. у гэтай самай Віленскай археалагічнай камісіі будучыні ўжо не было. Заснаваная замест яе Віленская археаграфічная камісія была ўстановай, пакліканай да жыцця царскай навуковай палітыкай і апекаванай царскай уладай. Цікавасць даследчыкаў і выдавецкая дзейнасць былі скіраваныя найперш у бок тых дакументаў, з дапамогай якіх можна было даказваць рускі характар літоўскага княства. Нягледзячы на тэндэнцыёзнасць згаданых даследаванняў, шматлікія тамы апублікаваных крыніц стварылі фонд матэрыялаў пра гісторыю, культуру, гаспадарку і мову на беларускіх землях, які мае істотнае значэнне[93].

Санкт-Пецярбург быў не толькі пазабеларускім арганізацыйным цэнтрам беларускага студэнцкага патрыятызму, але і адначасова месцам выхаду пераважнай большасці публікацыяў гістарычных крыніц. У XIX ст. тут былі надрукаваныя шматлікія дакументы з гарадскіх і губернскіх архіваў паўночна- і паўднёва-заходніх правінцыяў. Першым органам з рэгулярнай перыядычнасцю выхаду сталі „Акты, относящиеся к истории Западной России, собранные и изданные Археографической комиссиею", што выдаваліся з 1846 да 1853 г. цэнтральнай Археаграфічнай камісіяй[94]. Штогоднік, які друкаваўся пад кіраўніцтвам яго рэдактара Грыгаровіча, уключаў у сябе каля дзвюх тысяч напісаных на беларускай альбо на ўкраінскай мове дакументаў з архіваў Санкт-Пецярбурга, Масквы, Мсціслава, Магілёва і Полацка. Побач з дакументамі пра ўнутраны лад Вялікага

[93] Акты Виленской археографической комиссии. Серия публикации документов по истории Белоруссии, Украины и Литвы 14—19 ст. Т.1—39. Вильно, 1865—1915. Назвы выдання мяняліся неаднаразова: „Акты, издаваемые археографическою комиссиею, высочайше учрежденною в Вильне" (т.1—2); „Акты, издаваемые археографическою комиссиею" (т.3—19); „Акты, издаваемые Виленскою комиссиею для разбора древних актов" (т.20—39). Побач з судовымі актамі і актамі магістратаў з Гродзенскага, Брэсцкага, Менскага, Магілёўскага альбо Віленскага рэгіёнаў (т.1—6, 17, 21, 22, 36, 39), дакументамі Літоўскіх трыбуналаў 1398—1794 г. (т.12, 13, 15) ды пісьмовымі матэрыяламі па царкоўнай гісторыі (т.16, 33), тут былі таксама апублікаваныя асобныя тамы пра становішча габрэйскага і татарскага насельніцтва ў часы Вялікага Княства Літоўскага (т.28, 29, 31). Агульнай русафільскай канцэпцыі публікацыі збору крыніц таксама адпавядалі асобныя тамы пра вайну паміж Расіяй і Рэччу Паспалітай 1654—1667 г. і пра „Айчынную вайну" 1812 г. (т.34, 37). У кожным разе, аднак, у друк трапілі дакументы, у якіх можна было знайсці інфармацыю пра стан развіцця прамысловасці і сельскай гаспадаркі, а таксама пра варункі жыцця прадстаўнікоў розных сацыяльных груп насельніцтва і, акрамя таго, пра распаўсюджанне беларускай мовы. Гл., акрамя гэтага: Улащик Н.Н. Очерки по археографии и источниковедению истории Белоруссии... (op. cit.). С.64—147, а таксама: Пичета В.И. Разработка истории Литовско-Белорусского права XV—XVI вв. в историографии // *Яго ж.* Белоруссия и Литва XV—XVI вв. Исследования по истории социально-экономического, политического и культурного развития. Москва, 1961. С.413—455, у гэтым выпадку гл. с.420.

[94] Т.1—5. Санкт-Петербург, 1846—1853.

Княства Літоўскага з XIV да пачатку XVI ст., пра кадыфікацыю права за каралямі Казімірам III (1347 г.) і Казімірам IV (1468 г.) і пра вялікакняскае кіраванне ў полацкіх і віцебскіх землях там былі змешчаныя дакументы, звязаныя з наданнем гарадам магдэбургскага права. Выдаўцы таксама адвялі месца крыніцам пра падзеі Лівонскай вайны (1558—1583 г.), пра гісторыю царквы ў Рэчы Паспалітай перыяду да Берасцейскай уніі альбо пра гісторыю ўкраінскага казацкага гетманства пад кіраўніцтвам Багдана Хмяльніцкага. У кожным выпуску штогодніка прыкладаліся ілюстрацыі да тэмы новых археалагічных адкрыццяў, а таксама звесткі па генеалогіі мясцовых шляхецкіх родаў.

У гэты самы час цэнтральная Археаграфічная камісія ў Санкт-Пецярбургу пачала выдаваць „Акты, относящиеся к истории Южной и Западной России, собранные и изданные Археографической комиссиею“[95]. У гэтым выпадку гаворка ідзе пра зборнікі з нерэгулярнай перыядычнасцю выхаду, прысвечаныя палітычнай, сацыяльнай і духоўнай гісторыі „паўднёвай і заходняй Расіі“ перыяду з XIV па XVII ст. Выдаўцоў — М.І.Кастамарава і Г.Ф.Карпава — што праўда, больш цікавіла гісторыя Украіны. Тым не менш, перадусім у першых трох тамах, а таксама ў т.14 былі надрукаваныя дакументы, прысвечаныя пераважна сацыяльнай гісторыі беларускіх земляў. Да іх належалі саслоўныя прывілеі і гандлёвыя рэгістры, гэтаксама як паведамленні пра акцыі сацыяльнага пратэсту з боку сялян і казацтва. У іншых крыніцах паведамлялася пра асветніцкую дзейнасць езуітаў, пра дзеянні праваслаўнай і уніяцкай цэркваў. Значнае месца займалі сведчанні пра вайсковыя сутыкненні, што мелі месца на гістарычнай тэрыторыі Беларусі. Гэтак, у чатырнаццатым томе пад прэтэнцыёзным лозунгам „Уз'яднанне Беларусі (1654—1655 г.)“ задакументаваныя ваенныя аперацыі пад Магілёвам, Старым Быхавам, а таксама дзеянні К.Паклонскага і гетмана Івана Залатарэнкі. Пры гэтай нагодзе была, натуральна, звернутая ўвага і на дыпламатычныя стасункі Рэчы Паспалітай з Маскоўскім царствам[96].

У іншых серыях публікацыяў таксама раз-пораз змяшчаліся матэрыялы па гісторыі „заходнерасійскіх тэрыторыяў“. Гэтак, гісторыі Вялікага Княства Літоўскага былі прысвечаныя два асобныя тамы „Полного собрания русских летописей“[97]. Пры гэтым, вядома ж, не былі пакінутыя ўбаку прынцыповыя ўзоры інтэрпрэтацыі гісторыі, тыповыя для афіцыйнай гістарыяграфіі. „Летапіс Аўрамкі“, што, верагодна, быў створаны напрыканцы XV ст. у Пскове альбо ў Ноўгарадзе, утрымоўваў інфармацыю пра гісторыю ўзаемадачыненняў паміж Кіеўскай і Маскоўскай Руссю, Ноўгарадам і часткамі ВКЛ. Тут таксама паведамлялася пра

[95] Т.1—15. Санкт-Петербург, 1861—1892.

[96] Улащик Н.Н. Очерки по археографии и источниковедению истории Белоруссии... (op. cit.). С.203—206. Параўн. таксама артыкул у: ЭГБ. Т. 1. Мінск, 1993. С.86—87.

[97] Полное собрание русских летописей, изданное по высочайшему повелению Императорскою Археографическою Комиссиею. Т.16: Летопись Авраамки / Ред. А.Бычков и К.Бестужев-Рюмин. Санкт-Петербург, 1889; тамсама, т.17: Западнорусские летописи / Ред. А.Шахматов и С.Пташицкий. Санкт-Петербург, 1907. У выпадку з апошняй гаворка ідзе пра адну з найлепшых увогуле публікацыяў па беларускай гісторыі. Тут сабраныя, крыніцазнаўча апрацаваныя і забяспечаныя навуковым апаратам 25 дакументаў з трох стагоддзяў (XV—XVII ст.).

змаганне сялян супраць чужаземных землеўладальнікаў. Беларускія нацыянальныя гісторыкі неаднаразова з таго часу падкрэслівалі значнасць названага летапісу для паказу знешнепалітычных кантактаў беларускіх земляў і княстваў з кіраўнічымі асобамі ў Ноўгарадзе і Пскове ў XV і XVI ст. У томе 17 гэтага збору летапісаў былі апублікаваныя, паводле вызначэння ўкладальнікаў, „выключна заходнерасійскія (літоўскія) летапісы“. Пры гэтым напраўду можна было весці гаворку пра адну з самых ёмістых публікацыяў крыніц па гісторыі Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай ад пачатку XVI ст. Аўтэнтычнасць тэкстаў, да прыкладу, не пакідала аніякіх сумневаў у тым, што ўжыванне тапоніма „Літва“ для тэрыторыяў Вялікага Княства было канцылярскай рэаліяй гэтага часу[98].

Гэтаксама як Вільня і Санкт-Пецярбург, з канца XIX ст. публіцыстычнымі цэнтрамі гістарычна-філалагічнага беларусазнаўства былі Масква, Варшава і Кіеў. Менавіта ў сталіцы Старажытнай Русі беларускі гісторык М.В.Доўнар-Запольскі напрыканцы 90-х г. XIX ст. выдаў „Акты Литовско-Русского государства“, якія адносіліся да перыяду з 1390 да 1522 г.[99]. Значная частка дакументаў, створаных на старабеларускай канцылярскай альбо на лацінскай мове, была ўзятая з найвялікшага збору крыніц па гісторыі вялікай сярэднявечнай дзяржавы — „Метрыкі Вялікага Княства Літоўскага“. Дакументы беларускай гарадской гісторыі, звязаныя з атрыманнем і ажыццяўленнем магдэбургскага права, вялікакняскія дароўныя граматы на зямлю і акты справаводства соймаў з Вільні, Гродна, Любліна альбо Брэста таксама ўключаныя ў збор дакументаў — як і апісанні межаў паміж ВКЛ і Маскоўскай дзяржавай за 1523 г.[100].

З Архіва Вялікага Княства паходзілі таксама „Акты Літоўскай Метрыкі“, выдадзеныя ў Варшаве[101]. Пераважная колькасць з больш як 750 адзінак дакумен-

[98] Да іншых дакументаў па Вялікім Княстве Літоўскім, выдадзеных у XIX і на пачатку XX ст. у Санкт-Пецярбургу, належаць: Документы, объясняющие историю Западно-Русского края и его отношение к России и Польше / под ред. М.О.Кояловича. Санкт-Петербург, 1869; Дневник Люблинского сейма / под ред. М.О.Кояловича. Санкт-Петербург, 1869; Документы Литовской Метрики: книги публичных дел, книги записей, книги судных дел // Русская историческая библиотека. Т.20, 27, 30, 33; Памятники полемической литературы в Западной Руси // тамсама, т. 4, 7, 19 / под ред. П.А.Гильдебрандта; Грамоты, касающиеся отношений северо-западной России с Ригой и Ганзейскими городами в 12-м, 13-м и 14-м ст. / под ред. К.Напьерского. Санкт-Петербург, 1857.

[99] Акты Литовско-Русского государства, изданные М.В.Довнар-Запольским. Вып.1. Москва, 1899. Кроме того, гл.: Документы Московского архива Министерства юстиции, изд. М.В.Довнара-Запольского. Т.1. Москва, 1897. Параўн.: Улащик Н.Н. Очерки по археографии и источниковедению истории Белоруссии... (op. cit.). С.239—243, а таксама: Пичета В.И. Разработка истории Литовско-Белорусского права XV—XVI вв. в историографии (op. cit.). С.423.

[100] „Літоўская Метрыка“, якая ў той час захоўвалася ў архіве расійскага міністэрства юстыцыі, сёння знаходзіцца ў Расійскім дзяржаўным архіве старажытных актаў у Маскве (фонд 389). Праўн., акрамя гэтага: Grimsted, P.K. What is and what was the Lithuanian Metrica? The Contents, History and Organization of the Chancery Archives of the Grand Duchy of Lithuania // HUS 6 (1982) 3.

[101] Акты Литовской Метрики, собранные Ф.И.Леонтовичем и изданные Варшавским университетом. Т.1—2. Варшава, 1896—1897. Гл.: Улащик Н.Н. Очерки по археографии и источниковедению истории Белоруссии... (op. cit.). С.229—230, а такса-

таў датавалася прамежкам часу з 1413 да 1507 г. Храналагічна ўпарадкаваныя, дакументы давалі інфармацыю пра гісторыю грамадства і права Вялікага Княства, акты працэсаў, дамовы аб куплі-продажы, а таксама граматы княскіх і шляхецкіх родаў дазвалялі аналізаваць прававыя, сацыяльныя і сямейныя дачыненні ў гэтай дзяржаве. Гэта былі дакументы штодзённага жыцця, якія інфармавалі пра прыватныя і дзяржаўныя справы і дазвалялі атрымаць больш выразнае ўяўленне пра ўнутраныя дачыненні Вялікага Княства. Нарэшце, Камісіяй для разбору старажытных актаў, утворанай пры генерал-губернатары Кіеўскім, Падольскім і Валынскім, быў апублікаваны збор дакументаў, у якім таксама ўтрымоўваліся крыніцы да вывучэння беларускай гісторыі[102]. Хронікі — гэткая, як „Віцебская хроніка", што расказвала пра гарадскую гісторыю цягам некалькіх стагоддзяў і дакументавала часавую і прасторавую непарыўнасць — мелі для нешматлікіх беларускіх гісторыкаў таго часу вялікае пазнаваўчае значэнне. Сапраўды, захавалася мала крыніц, якія б гэтак дэталёва асвятлялі найважнейшыя падзеі развіцця беларускіх гарадоў на прыкладзе не толькі аднаго горада. Нельга не заўважыць таго, што ў каментары выдаўца — насуперак патрабаванням афіцыйнага моўнага ўжывання канца XIX ст. — гаворка, *expressis verbis*, ішла пра „лёс Віцебска і Белай Русі"[103].

У Вільні ў 1918 г. дайшло да стварэння першай наогул беларускай навуковай установы — Беларускага навуковага таварыства (БНТ). Да яго „ўраду" належалі, разам з В.Ластоўскім і братамі А. і І.Луцкевічамі, яшчэ Я.Станкевіч і князь В.Святаполк-Мірскі — абодва яны таксама паходзілі з Беларусі. Праз 13 гадоў пасля стварэння аналагічнага таварыства ў Кіеве квазі-суверэнная на кароткі час Беларуская рэспубліка займела вучоную ўстанову, якая гуртавала найлепшыя розумы краю і імкнулася прысвяціць сябе пашырэнню адукацыі і культуры, стварэнню музеяў і бібліятэк, навуковым дыскусіям і арганізацыі выставаў, а таксама ладжанню канферэнцыяў і выданню навуковых працаў. Да 1939 г. БНТ арганізавала актыўную навуковую і публіцыстычную дзейнасць, перашкодай якой неаднаразова былі польская і таксама савецкая інтэрвенцыі. Сябры Таварыства бралі ўдзел у міжнародных і нацыянальных сустрэчах гісторыкаў у Варшаве і Львове, што не ў апошнюю чаргу спрыяла пастаяннаму і трываламу падвышэн-

ма: Пичета В.И. Разработка истории Литовско-Белорусского права XV—XVI вв. в историографии (op. cit.). С.422.

[102] Витебская летопись. Составленная Витебскими мещанами: Михаилом Панцырным, 896—1709, Иваном Чарновским, 1601—1757, Гаврилом Кириловичем Аверкою и Стефаном Гавриловичем Аверкою, 1578—1768 // Сборник летописей, относящихся к истории южной и западной Руси, изданный комиссиею для разбора древних актов, состоящей при Киевском, Подольском и Волынском Генерал-Губернаторе. Киев, 1888 (таксама надрукавана як: Slavica-Reprint. Nr.62. Unveränderter fotomechanischer Nachdruck der Originalausgabe von 1888. Düsseldorf—Vaduz, 1970). С.213—236.

[103] Тамсама, с.XLVII (Уводзіны). Таксама нават у дакументах, час паўстання якіх прыпадае на XVIII ст., тэрмін „Беларусь" быў прысутны. Гэтак, у складзенай Стэфанам Аверкам у 1768 г. частцы названага летапісу пад 1710 г. запісана: „W Wilnie chrześcjan wymarło 20.000, żydów 4.000. Tegoż roku i po inszych miastach Białoruskich grasowało powietrze".

ню навуковага ўзроўню працы віленскага згуртавання. Даробак БНТ і яго параўнальна доўгі час існавання трэба тым болей адзначыць, што аналагічная спроба, зробленая ў Бабруйску, ужо праз два гады выявіла сваю беспаспяховасць. Беларускае культурна-асветнае таварыства (БКАТ) паставіла сабе за мэту зрабіць даступнымі шырэйшай грамадскасці веды пра культуру, мову і мінулае рэгіёну. Папулярызацыя гісторыі была пры гэтым адной з галоўных мэтаў дзейнасці БКАТ. Нарэшце, у правінцыі здолелі ўтварыцца яшчэ некаторыя навуковыя суполкі. „Беларускае навуковае кола" працавала з 1918 да 1923 г. у Магілёве пад назвай „Асвета". Заснаванае жменькай актывістаў Магілёўскай настаўніцкай семінарыі, гэтае згуртаванне навукоўцаў, студэнтаў і педагогаў скіравала свае даследніцкія інтарэсы на гістарычныя і культурныя традыцыі рэгіёну.

Афіцыйныя культурніцкія і гістарычныя часопісы, што, пачынаючы з XIX ст., выходзілі ў заходніх правінцыях, выразна дэманструюць, незалежна ад іх ідэйнай арыентацыі, удзел царскай дзяржавы ва ўсталяванні гістарыязнаўчай інфраструктуры. У якасці афіцыйнага палітычнага і культурнага органа генерал-губернатара з 1841 да 1915 г. выдаваўся „Kurier Wileński"/„Виленский Вестник". Пасля падзеяў пачатку 1860-х г. гэтая газета, што выходзіла дагэтуль па-расійску і папольску, стала выдавацца толькі на расійскай мове. Цікава, што там прысутнічалі беларускія тэмы — навуковыя артыкулы наконт этналагічных, гістарычных, моўных альбо таксама і сацыяльна-эканамічных асаблівасцяў вялікага беларуска-літоўскага рэгіёну. Да ліку аўтараў гістарычных спецыяльных артыкулаў належалі таксама Доўнар-Запольскі і Карскі. Апошні запоўніў сваімі этналагічнымі і моўна-гістарычнымі штудыямі таксама старонкі першага выпуску першага гістарычнага спецыялізаванага часопіса[104]. „Виленский временник" таксама выходзіў з ініцыятывы губернскага начальства; яго шэсць тамоў, выдаваныя як штогоднікі, імкнуліся трымацца прынцыпу „ўсебаковага вывучэння Паўночна-Заходняга краю". Прыкладам, у пятым томе, што складаўся з дзвюх частак, побач з артыкуламі, прысвечанымі гістарычна-рэгіянальнай тэматыцы, былі змешчаныя дакументы 1812 і 1813 г. Нарэшце, тэмай апошняга тома было студзеньскае паўстанне 1863 г. і яго наступствы для беларускіх тэрыторыяў — стандартная тэма для нацыянальнай гістарыяграфіі, што знаходзілася ў стадыі станаўлення.

Знакам узмацнення ў апошнія дзесяцігоддзі XIX ст. цікавасці да паўночна-заходніх правінцыяў можна лічыць і той факт, што ў жніўні 1893 г. IX археалагічны з'езд быў скліканы ў Вільні. Яго падрыхтоўку даручылі заснаванаму на два гады раней Маскоўскаму камітэту. Наогул упершыню ў гісторыі гістарычнай навукі беларуска-літоўскія землі зрабіліся аб'ектам усеімперскай навуковай канферэнцыі. Палова з агульнай колькасці 86 рэфератаў была прысвечаная выключна тэмам, у якіх адлюстроўвалася спецыфіка рэгіёну. Асаблівасцю гэтага сходу 395 археолагаў, этнографаў, фалькларыстаў, філолагаў, гісторыкаў і краязнаўцаў было, несумненна, тое, што ў Вільні мясцовыя навукоўцы супольна з новымі спецыялістамі буйных універсітэтаў Масквы, Санкт-Пецярбурга і Варшавы вызначылі тую сферу даследаванняў, па якой дагэтуль не было дакладна вызначанага комплексу

[104] Пра Карскага больш падрабязна гл.: Булахов М.Г. Ефимий Фёдорович Карский. Жизнь, научная и общественная деятельность. Мінск, 1981.

ведаў. Перадусім былі сфармуляваныя пытанні этнагенезу мясцовага насельніцтва, развіцця гарадоў і гісторыі мовы. Сярод найбольш істотных вынікаў з'езда было тое, што, паводле яго ініцыятывы, у сярэдніх і больш буйных гарадах гэтых правінцыяў пазней удалося адчыніць шматлікія музеі краёвага кірунку. Найноўшая беларуская гістарыяграфія ўвогуле звязвае з Віленскім археалагічным з'ездам пачатак гістарычна-археалагічных і краязнаўчых даследаванняў у Беларусі[105].

У той час як гурткі і камісіі былі прэрагатывай вучоных, пачынаючы з сярэдзіны XIX ст., са стварэннем першых гістарычна-краязнаўчых музеяў узніклі асяродкі, якія давалі абмежаванай частцы гарадской грамадскасці уяўленне пра рэгіянальна-гістарычныя праблемы. Адчынены ў 1855 г. Віленскі музей старажытнасцяў, аднак, стаў ахвярай дзяржаўных захадаў, скіраваных супраць „польскай інтрыгі" ў 1863 г. Зборы музея і новыя паступленні з гэтага часу былі падпарадкаваныя асаблівым уяўленням генерал-губернатара Мураўёва і патрэбам вызначанай зверху русіфікатарскай палітыкі. Тым не менш, пачынаючы з 60-х г. XIX ст. у гарадах Беларусі і Літвы грамадскасці зрабіліся даступнымі далейшыя выставы, якія напачатку служылі ў якасці закрытых фондаў для рэгіянальных, часта яшчэ зусім аматарскага кшталту, фалькларыстаў[106]. У кожным разе, у створаным у 1908 г. менскім Царкоўна-археалагічным музеі да 1915 г. арганізатарам удалося зладзіць тры вялікія спецыяльныя выставы, што цалкам упісваліся ў рэчышча рэгіянальнай і надрэгіянальнай гісторыі і культуры[107]. Навуковая якасць тых экспазіцыяў, вядома ж, не павінна ацэньвацца занадта высока. Акрамя выкладзеных на сталы матэрыялаў, фонды амаль не былі апрацаваныя. Каталогі — і гэта было агульным правілам — адсутнічалі.

Рэгіянальная архіўная справа з самага пачатку свайго існавання ў XIX ст. падпарадкоўвалася расійскаму цэнтру. Найважнейшым і — калі не лічыць невялікіх фондаў мясцовых сховішчаў і філіяў — адзіным беларуска-літоўскім архівам быў Віленскі цэнтральны гістарычны архіў[108]. Заснаваны яшчэ ў 1852 г., гэты архіў захоўваў найбуйнейшы збор дакументаў па гісторыі краю — асабліва па гісторыі Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай. Паводле звестак рэвізіі 1903 г., у ягоных фондах знаходзілася ад 20 да 30 тыс. актавых кніг. Пасля эвакуацыі архіўных фондаў пад час Першай сусветнай вайны ў Расію ў былых фондах архіва ў 1923 г. налічвалася толькі 15 тысяч актавых кніг[109].

[105] Такая думка адстойваецца ў: Кохановский А.Г. Op.cit. С.54. Пра развіццё гістарычнага краязнаўства на беларускіх землях параўн.: Историческое краеведение Белоруссии. [Мінск, 1980]. С.5—17.

[106] Музеі былі адчыненыя ў Магілёве (1867, 1897), Віцебску (1868, 1893), Полацку (1893), Вільні (1867, 1906), Менску (1908, 1914) і Гродне (1907).

[107] Тэмамі выставаў былі: „Менск у XVIII ст.", „Помнікі мінулага", „Гутарковая і кніжная мова беларусаў". Пад час Першай сусветнай вайны музей мусіў эвакуявацца ў Разань. У 1922 г. ён быў адноўлены ў Менску.

[108] „Виленский центральный архив древних актовых книг губерний Виленской, Гродненской и Ковенской", „Центральный архив древних актовых книг губерний Виленской, Гродненской, Минской, Ковенской, Люблинской, Витебской, Могилевской [в Вильне]".

[109] Разам з Нацыянальным архівам Рэспублікі Беларусь у Мінску Дзяржаўны гістарычны архіў Літвы, які з'яўляецца наступнікам Віленскага гістарычнага архіва, уяў-

Для развіцця навукі „прыродазнаўча-гістарычныя музеі" мелі тым большае значэнне, што вакол іх утвараліся ініцыятыўныя групы і таварыствы, якія актыўна займаліся прэзентаваннем гісторыі, а ў некаторых выпадках мелі істотны публіцыстычны даробак. Тут будзе дастаткова прывесці тры прыклады. У Вільні ў 1907 г. было ўтворанае „Товарищество друзей наук"[110], дзейнасць якога палягала найперш у галінах гісторыі, археалогіі і этналогіі і была вельмі цесна звязаная з арганізаваным Іванам Луцкевічам музеем, які павінен быў стаць вядомым як першы беларускі нацыянальны музей. У Віцебску ўзніклі, не ў апошнюю чаргу з ініцыятывы цэнтральнага архіўнага аддзялення ў Санкт-Пецярбургу, рэгіянальная архіўная камісія [Віцебская вучоная архіўная камісія. — *Заўв. перакладчыка*] (1909—1918), а таксама — яшчэ раней — „Архіў старажытных актаў Віцебскай і Магілёўскай губерняў"[111]. І тут таварыствы і ўстановы падтрымлівалі найшчыльнейшыя кантакты з мясцовымі гістарычнымі музеямі. Нарэшце, у Менску існавала, побач з „Обществом любителей изящных искусств" (1898—1916), нечакана распушчанае на пачатку Першай сусветнай вайны „Общество любителей естествознания, этнографии и археологии", якое ў 1914 г. мела магчымасць публікаваць свае ўласныя інфармацыйныя матэрыялы („Известия") і абвяшчала аб намеры стварыць перыядычнае часопіснае выданне. Акрамя таго, з 1886 г. выходзіла газета „Минский листок" (з 1902 г. перайменаваная ў „Северо-Западный край") — выданне, якое асвятляла культурніцкія падзеі рэгіёну, гэтаксама як гістарычныя юбілеі. У большай ступені фальклору і літаратуры аддаваў увагу „Северо-Западный календарь", што выходзіў з 1888 г. Абодва згаданыя выданні, аднак, неўзабаве займелі ацэнку блізкіх да ўрада. Гэта датычыла таксама „Минской старины", чатыры выданні якой выйшлі ў 1909—1913 г. У той час як былым выдаўцом „Нашай Долі" Аляксандрам Уласавым была амаль адначасова заснаваная беларускамоўная „Лучынка" (1913—1914), „Минская старина" ў якасці „органа Менскай царкоўнай гістарычна-археалагічнай камісіі" належала хутчэй да выданняў губернскага істэблішмэнту. Сваім абавязкам спрыяць развіццю беларускага кнігадрукавання, навук і мовы лічыла іншае, заснаванае ў 1909 г. у Вільні таварыства пад назвай „Наша Хата". І.Луцкевіч, А.В.Бонч-Асмалоўскі, Б.Даніловіч і іншыя стварылі ініцыятыўную групу, якая разам з тыднёвікам „Наша Ніва" садзейнічала ажыўленню беяарускай адукацыі і, не ў апошнюю чаргу, пашырэнню гістарычных ведаў праз друкаванне адпа-

ляе сабою найважнейшы збор старажытных дакументаў мясцовай гісторыі перыяду XV—XVIII ст.

[110] Таварыства існавала да 1939 г. У ягоным штогодніку „Rocznik Towarzystwa" змяшчаліся артыкулы па гісторыі Беларусі ў цэлым і па гісторыі Вялікага Княства Літоўскага ў прыватнасці.

[111] У „Витебской старине" за 1883—1888 г. пяццю часткамі апублікаваны значныя дакументы па гісторыі рэгіёну. Тут у 1883 г. надрукаваны гэткі важны для беларускай гістарыяграфіі „Віцебскі летапіс". Выдаўцом быў беларускі гісторык А.П.Сапуноў. Акрамя таго, з 1909 да 1916 г. выдавалася „Полоцко-Витебская старина". Гэты гістарычны часопіс, паводле сваёй тэматычнай разнастайнасці і складу аўтараў, цалкам мог спаборнічаць з тагачаснымі агульнарасійскімі выданнямі. Параўн.: Полоцко-Витебская старина. Вып.2. Витебск, 1912. Апроч таго, у Віцебскай губерні з 1910 г. працаваў настаўніцкі інстытут, а Віцебская вучоная архіўная камісія, што дзейніча-

ведных працаў[112]. Друкаваныя органы губернскага кіраўніцтва хутчэй устрымліваліся ад перадруку гістарычна-краязнаўчых матэрыялаў, у якіх падкрэсліваўся адметны характар гэтага рэгіёну. Гэтак, у 1893 г. Менскі генерал-губернатар асабіста адмовіў М.Доўнару-Запольскаму ў друкаванні ў „Минских губернских ведомостях" ягонага этнаграфічнага даследавання, зробленага на матэрыяле Паўночна-Заходняга краю[113].

Па-за межамі беларуска-літоўскіх правінцыяў Санкт-Пецярбург заставаўся найважнейшым зыходным пунктам для разумення беларускіх інтарэсаў. „Белорусский научно-литературный кружок студентов Санкт-Петербургского университета" існаваў у 1912—1914 г., а колькасць ягоных сяброў не перавышала лічбы 20. Тым не менш дзякуючы выдадзенаму ў 1914 г. часопісу „Раніца" арганізацыя пакінула цікавы след[114]. Стрыжнем пецярбургскай дзейнасці ў дачыненні да беларускіх земляў была, аднак, невялікая выдавецкая ўстанова, якая трымала ў сваіх руках практычна ўвесь беларускі друк сталіцы. Яе назва, „Загляне сонца і ў наша ваконца"[115], не ў апошнюю чаргу адлюстроўвала гістарычна вызначаную праграму ліквідацыі непісьменнасці сярод беларускага народа і яго „далучэння да культуры", а таксама падтрыманне альбо абуджэнне цікавасці да гэтага сярод адукаваных людзей Санкт-Пецярбурга. Ад часу свайго заснавання ў 1906 г. і аж да закрыцця бальшавікамі гэтае выдавецтва адыгрывала вырашальную ролю ў пашырэнні беларускага пісьменства.

У параўнанні з нацыянальнай інфраструктурай на ўкраінскіх тэрыторыях выразна відаць структурная слабасць беларускага нацыятворчага працэсу[116]. Толькі

ла з 1909 г., у 1910 г. пачала выдаваць „Труды Витебской ученой архивной комиссии". Па-за гэтым, у 1911 г. было заснаванае „Віцебскае аддзяленне Маскоўскага археалагічнага інстытута", якое мела напачатку два, а з 1917 г. тры факультэты. Выпускнікі інстытута выходзілі з яго сценаў „архівістамі-навукоўцамі", „археолагамі" альбо „мастацтвазнаўцамі". Гл.: Кохановский А.Г. Op. cit. С.67 і наст., а таксама: Шумейка Міхаіл. „...Захаваўшы для нашчадкаў" // БМ. 1995. №6. С.44—45.

[112] Гл. Статут таварыства ў: НН, 22.01.1909 (№4). С.62—64.

[113] Цэнтральны дзяржаўны гістарычны архіў Украіны (ЦДІАУ), ф.262 (М.В.Доўнар-Запольскі), воп.1, спр.10. арк.1. Васьмістаронкавы рукапіс пад назвай „Заметки по белорусской этнографии" (1892) таксама знаходзіцца тут, гл.: ф.262, воп.1, спр.96, арк.1—8. Даследаванне грунтавалася на выніках навуковай паездкі гісторыка ў Гродзенскую губерню.

[114] Гл.: Раніца. Думкі беларускай студэнцкай моладзі. Пецярбург, чэрвень 1914. Выйшаў толькі адзін нумар часопіса. Да тых, хто спрыяў дзейнасці гуртка, належаў таксама Я.Ф.Карскі. Гл., паміж іншым, штогоднікі: Белорусский научно-литературный кружок студентов С.-Петербургского университета. Санкт-Петербург, 1913 і 1914, а таксама працу: Семашкевіч Р.М. Беларускі літаратурна-мастацкі рух у Пецярбургу (канец XIX— пачатак XX ст.). Мінск, 1971. С.59—70. Менш вядомымі арганізацыямі былі „Гродзенскі гурток беларускай моладзі" і „Беларускі музычна-драматычны гурток".

[115] Статут выдавецкай суполкі, якая дзейнічала ў выглядзе таварыства, надрукаваны ў „Нашай Ніве", гл. надрукаваныя лацінкай: Umowy Bielaruskaje Wydaŭnickaje Supolki „Zahlanie sonce i u naše wakonce" // НН. 1909. №43. (факс. выд., с.629—632).

[116] Да пытання ўкраінскага нацыянальнага развіцця да пачатку XX ст. у цэлым гл. найноўшую працу: Сарбей В.Г. Етапи формування української національної самосвідомості (кінець XVIII — початок XX ст.) // УІЖ. 1993. №7—8. С.3—16, у гэтым выпадку гл. с.10 і наст. з па-рознаму расстаўленымі акцэнтамі, акрамя таго, гл.: Polonska-Vasylenko, Natalija. Geschichte der Ukraine. Von den Anfängen bis 1923. München, 1988.

праз заснаванне чатырох універсітэтаў у XIX ст. — Харкаўскага ў 1804 г., Кіеўскага, імя св.Уладзіміра, у 1834 г., Нова-расійскага ў Адэсе ў 1864 г., Чарнавіцкага ў 1875 г. — былі створаныя магчымасці для значна больш плённых навуковых даследаванняў. Разам са Львоўскім універсітэтам[117], дзіцём падзелаў Польшчы, расійская, польская, украінская і габрэйская інтэлігенцыя на ўкраінскіх тэрыторыях аўстрыйскай і расійскай зонаў падзелу мела істотна лепшыя ўмовы для правядзення навуковых даследаванняў. Структура вышэйшай адукацыі дапаўнялася тут існаваннем Кіеўскай духоўнай акадэміі, а таксама шэрагу політэхнічных і іншых інстытутаў ва універсітэцкіх гарадах. Хоць у новазаснаваных універсітэтах мовай выкладаиня не былі нямецкая, польская альбо расійская, Кіеўскі, Харкаўскі і Адэскі універсітэты сталі арганізацыйнымі асяродкамі нацыянальных патрыётаў. Перадусім універсітэт св.Уладзіміра ў Кіеве можа лічыцца пунктам сутыкнення праруской адукацыйнай палітыкі і ўкраінскага вучонага нацыяналізму[118].

Побач з універсітэтамі ўжо ў першай палове XIX ст. на Украіне былі заснаваныя шматлікія навуковыя таварыствы, якія сталі асяродкамі дыскусіяў для нацыянальна настроеных навукоўцаў, пісьменнікаў і публіцыстаў. Адначасова трэба зазначыць, што пашырэнне нацыянальных украінскіх арганізацыяў мела месца толькі ў аўстра-венгерскай кароннай зямлі Галіцыі, дзе ўкраінскаму нацыянальнаму руху была дазволеная пэўная свабода дзеянняў. Тут знаходзяцца карані шмат якіх украінскіх вучоных гурткоў. У Львове ў 1868 г. узнікла літаратурна-гістарычнае таварыства „Просвіта". Калі ўжо ў 1873 г. — зноў-такі ў Львове — сваю дзейнасць пачало Таварыства імя Шаўчэнкі, напачатку яно мела хутчэй літаратурную скіраванасць. Крыху пазней гэтае згуртаванне ўзяло сабе назву чыста навуковай установы — Таварыства навук імя Шаўчэнкі.

С.673 і наст.; Jobst, Kerstin S. Die ukrainische Nationalbewegung bis 1917 // Golczewski, Frank (рэд.). Geschichte der Ukraine. Göttingen, 1993. С.158—171, у гэтым выпадку гл. с.160 і наст. Пра сацыяльна-палітычнае аблічча ўкраінскай інтэлігенцыі гл.: Касьянов Георгій. Українська інтелігенція на рубежі XIX—XX століть. Соціально-політичний портрет. Київ, 1993.

[117] Заснаваны аўстрыйскім імператарам Ёзэфам II у 1784 г. Мовай навучання была лаціна. З 1787 г. у межах курса „Studium Ruthenum" было дазволена чытаць адну лекцыю на ўкраінскай мове. У 1805—1817 г. універсітэт меў статус ліцэя. З 1817 г. лекцыі чыталіся на нямецкай мове. Першую кафедру ўкраінскай літаратуры і мовы ў 1849 г. атрымаў Я.Галавацкі (Головацький). З пачатку 1870-х г. у дачыненні да мовы выкладання пачаўся працэс паланізацыі. Першую кафедру ўкраінскай гісторыі атрымаў у 1894 г. прафесар Міхайла Грушэўскі (Грушевський). У 1900 г. была занятая пасада кіраўніка кафедры ўкраінскай літаратуры.

[118] Himka, J.-P. Young Radicals and Independent Statehood: The Idea of an Ukrainian Nation-State, 1890—1895 // SR (Summer 1982). С.213—235. Пра Адэскі універсітэт цяпер ёсць праца: Hausmann, Guido. Universität und städtische Gesellschaft in Odessa, 1865—1917. Soziale und nationale Selbstorganisation an der Peripherie des Zarenreiches. Stuttgart, 1998. Пра Харкаўскі універсітэт цяпер можна прачытаць у: Стельмах Сергій. Історична думка в Україні XIX — початку XX століття. Київ, 1997, перадусім с.10—26. Тут цікава ў пазнаваўчым плане паказана, што абмен навукоўцамі з Заходняй Еўропай (па тэмах неакантыянства, пазітывізму), які развіваўся ў Харкаўскім, Кіеўскім і Адэскім універсітэтах, прывёў да значнага пашырэння навуковага далягляду іх выкладчыкаў і развіцця метадычнага плюралізму. Перадусім, паводле С.Стэльмаха, ад гэтага выйграла гісторыяпісанне.

У царысцкай Украіне („Маларасіі“ і „Новай Расіі“) навуковы ландшафт да 1905 г. заставаўся пераважна расійскім і толькі пасля гэтай даты пачаў выяўляць больш моцныя тэндэнцыі да ўкраінізацыі. Калі ў 1835 г. у Кіеве пачаў сваю працу „Часовы камітэт даследавання старажытнасцяў“, які ў 1843—1917 г. працягваў дзейнічаць пад назвай „Часовая камісія даследаванняў старажытных актаў“, перадусім пачалі ўзнікаць таварыствы, інтарэсы якіх палягалі ў правядзенні гістарычных доследаў. У 1839 г. у „нова-расійскай“ Адэсе было заснаванае „Таварыства гісторыі і вывучэння старажытнасцяў“, якое скіравала сваю ўвагу на гісторыю Прычарнамор'я і казацкага Запарожжа („Запоріжжя“). У Кіеве ў 1876 г., акрамя таго, утварылася „Гістарычнае таварыства летапісца Нестара“, якое цалкам прысвяціла сябе гістарычным даследаванням, не быўшы пры гэтым выразна па-праўкраінску арыентаваным. Годам пазней таксама ў Кіеве з ініцыятывы мясцовага гуртка „Громада“ ўзнікла „Паўднёва-заходняе аддзяленне Рускага геаграфічнага таварыства, галоўнымі галінамі дзейнасці якога былі ў першую чаргу этналогія і фальклор. Яшчэ праз чатыры гады да гэтага дадалося „Гістарычна-філалагічнае таварыства“ ў Харкаве; падобныя суполкі з'явіліся таксама ў інстытуце імя Безбародкі ў Нежыне, у Кіеўскай духоўнай акадэміі, у Жытоміры і Кацярынадары. Нарэшце, у 90-я г. ва ўсіх губернскіх гарадах былі створаныя архіўныя камісіі. На гэты час, зрэшты, прыпадае і распачатае Міхайлам Грушэўскім пераўтварэнне „Таварыства імя Шаўчэнкі“ ў навуковую ўстанову, якая выпусціла на старонках сваіх друкаваных органаў („Записки наукового товариства імени Шевченка“ і „Літературно-науковий вістнік“) некалькі соцень збораў крыніц, а таксама манаграфіяў[119]. Несумненнай мэтай гэтых намаганняў было сабраць навуковыя доказы гістарычнай самабытнасці ўкраінскага народа.

Пасля рэвалюцыйных падзеяў 1905—1907 г. пад значным уплывам львоўскіх вучоных асяродкаў і ў Кіеве былі арганізаваныя буйныя навуковыя структуры. Асаблівыя заслугі ў справе гістарычных даследаванняў ва Украіне здабыло сабе „Українське наукове товариство“, заснаванае 14 верасня 1907 г. Ужо ў самім статуце таварыства заснавальнікі адводзілі асаблівае месца даследаванню гісторыі Украіны. Да вядучых прадстаўнікоў таварыства належалі найбольш значныя гісторыкі тагачаснай Украіны, найперш М.Грушэўскі, У.Антановіч і У.Шчарбіна. Да таго ж, таварыства, пачынаючы з 1908 г., мела свой спецыяльны часопіс, „Записки Українського товариства в Києві“, — трыбуну для публікацыі новых навуковых прац. Арганізоўваліся экспедыцыі ў правінцыі, вынікі якіх

[119] Поўная назва заснаванага таварыствам часопіса, які выходзіў таксама на нямецкай мове, гучала: „Паведамленні таварыства навук імя Шаўчэнкі ў Львове. Навуковы часопіс, прысвечаны пераважна ўкраінскай гісторыі, філалогіі і этнаграфіі“. М.Грушэўскі апублікаваў больш за 120 тамоў выдання. Часопіс выходзіў надалей і пасля 1914 г., напачатку ў Польскай рэспубліцы, пазней у эміграцыі. Агляд пытання цяпер можна знайсці ў: Оноприєнко В. Академія наук України і наукове товариство ім. Шевченка як центри українознавства // Вісник АН України. 1993. №12. С.51—59. Пра навуковую дзейнасць Грушэўскага параўн.: Гирич І.Б. Організація М.С.Грушевським археографічної роботи у львівський період життя й діяльності (1894—1914 рр.) // УІЖ. 1997. №1. С.72—86.

публікаваліся. І пасля рэвалюцыі 1917 г. таварыства працягвала сваю дзейнасць, аж пакуль, урэшце, не ўлілося ў секцыі Украінскай акадэміі навук[120].

Параўнанне з украінскай сітуацыяй дазваляе вызначыць перашкоды ў развіцці спецыфічна беларускіх інтэлектуальных перадумоваў пад час нацыятворчага працэсу. Хоць, як было паказана вышэй, сацыяльная структура, доля нацыянальнамоўнага насельніцтва, а таксама доля беларусаў сярод адукаваных працаўнікоў не адрозніваліся ў горшы бок у параўнанні з украінскай сітуацыяй, тым не менш, як вынік гісторыі падзелаў Рэчы Паспалітай і развіцця ўкраінскай культуры, у Львове і Кіеве стварыліся больш спрыяльныя варункі для станаўлення нацыі. Калі ў „Маларасіі" напрыканцы XIX ст. ужо існавала трывалая навуковая інфраструктура, у паўночна-заходніх правінцыях пра гэта яшчэ і не было магчымасці весці гаворку. На гэтым падмурку ўласная нацыянальная гістарыяграфія і спецыфічна беларускія вобразы гісторыі маглі стварацца толькі ў вельмі сціплых маштабах. Уласны інтэлектуальны патэнцыял беларускіх земляў, у выніку абмежавальнай адукацыйнай і нацыянальнай палітыкі цэнтру, быў збольшага прыціснуты да зямлі і мусіў атрымаць штуршок звонку. Таму нікога не павінен здзіўляць той факт, што беларуская гістарыяграфія і само з сябе гістарычнае мысленне — па-за межамі гістарычна-павучальнай нацыянальнай мастацкай літаратуры — пераважна ўзнікалі ў буйных універсітэтах еўрапейскай часткі імперыі — Санкт-Пецярбургскім, Кіеўскім, Варшаўскім, Дэрпцкім — а таксама ў Расійскай акадэміі навук у Санкт-Пецярбургу. Тым не менш, першыя тры абагульняльна-аглядныя працы былі створаныя ўласна ў Беларусі: у 1857 г. у Магілёве, у 1908 г. у Вільні, у 1918 г. у Менску. Ніжэй мы больш падрабязна спынімся на тых гістарычных канцэпцыях, што ляжалі ў падмурку гэтых і іншых публікацыяў ранняй беларускай гістарыяграфіі.

[120] Параўн.: Щербан Т.О. Історичні дослідження в Українському навуковому товаристві (1907—1921 рр.) // УІЖ. 1995. №1. С.23—33. Пра найважнейшыя змястоўныя рэчы гл. высновы ў параграфе 3.3. Каля 1910 г. толькі ў Кіеве выдаваліся разам узятых сем украінскамоўных газет і часопісаў, у якіх свядома аддавалася ўвага пытанням нацыянальнай адукацыі і асветы. Штодня выходзілі „Рада", штотыдня — „Слово", „Рідний край", штомесяц — „Літературно-науковий вістнік", „Українська Хата", „Українське бджільніцтво", „Записки Українського наукового товариства в Київі".

# 2. Канцэпцыі беларускай гісторыі ў царскай імперыі

## *2.1. „Западно-руссизм“ і нацыянальная гісторыя*

Беларуская гістарыяграфія ўзнікла з патрэб абароны. Структурныя і інтэлектуальныя варункі для пашырэння нацыянальных памкненняў складваліся надзвычай неспрыяльна. Падрыхтаваныя гістарычныя міфалагемы пра лепшыя часы мелі шанец быць увогуле ўспрынятымі толькі ў спалучэнні з актуальнымі вострымі сацыяльнымі праблемамі. Гэткім чынам, ранняя беларуская гістарыяграфія да часу ўзнікнення мізэрнай нацыянальнай прэсы ў 1906 г. заставалася на ўзроўні гістарычнага дыскурсу, што вёўся з боку Кіеўскага, Варшаўскага ды Санкт-Пецярбургскага універсітэтаў. Тым не менш, можна пагадзіцца з вызначэннем стану канца XIX ст., дадзеным Н.Вакарам — „era of organizing the national memory“ („эпоха стварэння нацыянальнай памяці“)[121], — бо, як мы ўжо бачылі, у Вільні, Віцебску ці Менску ў складзе гурткоў асветы альбо традыцыйнай культуры супольную працу рабілі патрыёты-самавукі, гімназісты, настаўнікі і літаратары. Калектыўная памяць, як і ў астатніх краінах Усходняй Еўропы, разглядалася „абуджальнікамі“ як стваральны элемент протанацыянальнай групавой ідэнтычнасці. Канструяванне мінуўшчыны і ўзбагачэнне беларускай гісторыі міфамі і легендамі ні ў якім разе не было нейкай спецыфічна беларускай з'явай. Міфы і ў выпадку з іншымі народамі выяўлялі нацыянальную ідэю лепей, чым рацыянальна выверaная і выкладзеная гісторыя. У слаба структураваных паўночна-заходніх рэгіёнах час нацыянальнай гістарыяграфіі таксама пачаўся да 1918 г. Гэтаксама як і іншыя малыя і „безгістарычныя“ народы Ўсходняй, Цэнтральнай і Паўднёвай Еўропы, нешматлікая беларуская інтэлігенцыя здолела апрацаваць першыя аглядныя працы па „беларускай гісторыі“[122].

Беларускае гісторыяпісанне напрыканцы XIX ст. пераважна выкарыстоўвала паняцці і катэгорыі данацыянальнага ўзроўню. Дамінавала слова „народнасць“:

> „Супольнасць людзей, якая мае ўласнае паходжанне і гістарычныя традыцыі, свае этнічныя асаблівасці і сваю мову, ужо ўтварае самастойную народнасць ці сваё племя — адным словам, свой уласны народны арганізм“[123].

[121] Гл. Vakar, N. Op.cit. С.91.

[122] Дзеля параўнання варта тут назваць некаторыя працы па гісторыі [цэнтральна- і] усходнееўрапейскіх народаў, напісаныя на нацыянальных мовах. Ва Ўкраіне: Грушевський Михайло. Істория Украïни-Русі. Т.1—10. Лемберг [Львів]—Кнїв, 1898—1936. У Польшчы: Bobrzyński, Michał. Dzieje Polski w zarysie. Kraków, 1879; Gruden, Josip. Zgodovina slovenskega naroda. Ч.1, тт. 1—6. Celje, 1910—1916 (рэпрынт:1992); Ч. 2 (Mal, Josip, 1929—1939; рэпрынт:1993). У дачыненні да габрэяў гістарычныя і культурніцкія матэрыялы таксама былі сістэматызаваныя ў выданні: Еврейская энциклопедия. Т. 1—16. Санкт-Петербург, 1906 і наст. (рэпрынт: Den Haag—Paris, 1969—1971).

[123] Довнар-Запольский М.В. Белорусское прошлое. По поводу статей А.Пыпина, помещенных в „Вестнике Европы“ прошлого года // *Яго ж.* Исследования и статьи. Т. 1.

Там, дзе сапраўды ўзнікала паняцце нацыі, яно гучала нязвыкла і штучна. Найчасцей тады яно ўжывалася ў сэнсе вядомых паняццяў „народнасць“, „нацыянальнасць“ і „народ“. Пазней стварылася ўражанне, што ўжыванне паняцця нацыі разыходзілася з тлумачэннямі афіцыйнай царскай ідэалогіі. Таму няма ніякага дзіва, што менавіта гісторыкі з перыферыі першыя пачалі ўбудоўваць паняцце нацыі ў сваё бачанне гісторыі. Гэтак рабілі і беларускія гісторыкі. Сапраўды, шмат што дае падставы адносіць пачатак сучаснай гістарыяграфіі да канца XIX ст. і вызначыць заканчэнне першага перыяду яе развіцця пачаткам выхаду „Нашай Нівы“. Другі перыяд, паводле датавання Аляксандра Каханоўскага, цягнуўся да 1914 г. Больш абгрунтавана, здаецца, было б прадоўжыць яго да 1918 г. У кожным разе, тут ужо можна зазначыць, што 1917 г. для беларускай гістарыяграфіі не значыў аніякага пераломнага пункту. У далейшым будзе паказана, што вузлавыя моманты розных варыянтаў інтэрпрэтацыі гісторыі познецарскага і падсавецкага часу паміж сабою розніліся не надта істотным чынам. Нацыянальныя і федэральныя інтэрпрэтацыі гісторыі правінцыі Расійскай імперыі ў дарэвалюцыйны час сутыкаліся з інтэграцыйным ціскам вялікарасійскай гістарыяграфіі гэтаксама, як тое павінна было мець месца ў Савецкім Саюзе.

У дачыненні да інтэгратыўнага тлумачэння гісторыі „заходнерускіх“ тэрыторыяў нацыянальная беларуская гістарыяграфія пачала ўжываць паняцце „западно-руссизма“. Гэтаксама як ужыванае ў дачыненні да ўкраінскіх земляў з аналагічным намерам паняцце „маларусізм“, „западно-руссизм“ меў значыць такую апазіцыю ў розумах яго ідэолагаў, згодна з якой „Беларусь не зьяўляецца краінай з асобнай нацыянальнай культурай і ня мае дзеля гэтага права на самастойнае культурнае і палітычнае разьвіцьцё“. Наадварот, „яна зьяўляецца культурна і дзяржаўна часткай Расіі і таму павінна быць разглядана як адзін з яе састаўных элемэнтаў“[124]. Названая паводле выдання, якое з 1862 да 1874 г. напачатку выходзіла ў Кіеве пад назвай „Вестник Юго-западной и Западной России“, а потым у Вільні, як „Вестник Западной России“, ненацыянальная школа інтэрпрэтацыі беларускай і ўкраінскай гісторыі за кароткі час зрабілася галоўнай, а да пэўнага моманту і адзінай уладальніцай ісціны пра „заходнюю і паўднёва-заходнюю Расію“. У кожнай са сваіх кніжак „Вестники“ публікавалі артыкулы і дакументы пра заходнерускую гісторыю. Дэвіз часопіса і яго першага выдаўца К.А.Гаворскага, які паходзіў з сям'і віцебскіх уніятаў, у цэлым адпавядаў перакананням маскоўскіх славянафілаў другой генерацыі:

Киев, 1909. С.317—342, тут цытуецца с.328. Гэты матэрыял быў надрукаваны яшчэ ў 1888 г. у газеце „Минский листок“. Аўтар аналізуе серыю артыкулаў А.Пыпіна; гл.: Пыпин А. Белорусская этнография // Вестник Европы. 1887. Т. 22. Вып.4. С.644—686; Вып.5. С.211—252; Вып.6. С.640—681; Вып.7. С.184—226. Публічнае рэагаванне Доўнара-Запольскага на шматлікія выказванні Пыпіна трэба лічыць адначасова і першым навуковым дыскурсам на тэмы беларускай гісторыі і гістарыяграфіі.

[124] Цьвікевіч Аляксандр. Западно-руссизм. Нарысы з гісторыі грамадскай мысьлі на Беларусі ў XIX і пачатку XX в. Менск, 1929. Тут выкарыстоўваецца новае выданне (Мінск, 1993), с.7.

„Наша мэта ёсьць змаганьне з нігілізмам, з сэпаратызмам, якія імкнуцца зрушыць непадзельнасьць Расіі, змаганьне за адзіную рускую народнасьць, адзінасьць якой паставіў пад знак запытаньня фэдэралісты Костомаров, і як аснову ўсяго — змаганьне з Польшчай, з яе зраднымі замерамі, з яе хітрым лацінствам“[125].

Акрамя таго, пасля паразы сацыяльна-нацыянальнага руху ў 1863 г. „западно-руссизм“ тым больш мог разлічваць на зычлівую падтрымку царскай дзяржавы. Найважнейшым прадстаўніком у сваёй сутнасці „антыфеадальнай“ канцэпцыі гісторыі быў беларус М.В.Каяловіч. Ён нарадзіўся ў 1828 г. у сям'і уніяцкага святара з Гродзенскай губерні; у 31 год стаў прафесарам Санкт-Пецярбургскай духоўнай акадэміі, якую ён раней скончыў, а пасля непрацяглы час выкладаў у Рыжскай і Санкт-Пецярбургскай семінарыях. На пасадзе прафесара Каяловіч умацаваўся ў сваіх поглядах пра непадзельнасць усходнеславянскіх народаў і прыналежнасць Беларусі да сферы праваслаўнай пабожнасці і дабрачыннасці. Стрыжнявымі катэгорыямі, што ляжалі ў падмурку яго гістарычнай канцэпцыі, былі выразная варожасць да Польшчы, а таксама адрозная ацэнка польскіх і расійскіх уплываў на хаду гісторыі ў заходніх і паўднёва-заходніх землях. У сваіх найважнейшых працах па гісторыі гэтага рэгіёну Каяловіч вызначыўся як прадстаўнік панславізму з беларускім заплеччам, якое значна зацямнілася ў ацэнках панславізму ў царскай імперыі[126]. У гэтым плане невялікае значэнне маюць погляды Каяловіча ў звязку з яго даследніцкім даробкам — У.Пічэта ацэньваў апошні хутчэй як нязначны, гаворачы пра Каяловічавы працы як пра „найлепшы прыклад таго, якім чынам лепш за ўсё не трэба было б даследаваць гістарычныя падзеі“. Больш істотным тут выглядае той факт, што ад самага пачатку гістарыяграфіі ў Беларусі і пра Беларусь адна адной супрацьстаялі нацыянальная і інтэгратыўная гістарычныя канцэпцыі, у якіх побач з навукова-гістарычным заўсёды таксама прысутнічала і палітычнае вымярэнне.

Для Каяловіча Беларусь — разам з заходняй Маларасіяй („гэтак званая Украіна“) і этнічнай Літвой — належала да „Заходняй Русі“. Пасля, паводле яго версіі, рускія, што жылі ў „заходняй палове агульнага масіву рускага народа“, „спрабавалі“ стварыць сваю ўласную дзяржаўнасць — „але без поспеху“. У інтэрпрэтацыі Каяловіча „літоўска-заходнерускае княства“ было мёртванароджаным дзіцём, а ўз'яднанне заходняй і ўсходняй палавінак „рускага“ народа было прадвызначана[127]. У адпаведнасці з гэтай версіяй гісторыі назва „Беларусь“ выводзі-

[125] Цыт. паводле таго ж выдання, с.23. Адносна арыентацыі часопісаў і зборнікаў дакументаў параўн.: Улащик Н.Н. Очерки по археографии и источниковедению истории Белоруссии... (op. cit.). С.16—63, 64—246.

[126] Коялович М.О. Лекции по истории Западной России. Санкт-Петербург, 1864; наступнае выданне: *Яго ж.* Чтения по истории Западной России. Санкт-Петербург, 1884. У часопісах расійскіх славянафілаў Каяловіч апублікаваў шматлікія нарысы; паміж іншых: Народное движение в Западной России // Русский Инвалид. 1863. №91; альбо: Несколько слов о народном движении // День. 1863. №18. Шмат якія падрабязнасці біяграфіі М.Каяловіча, сябра Аксакава, здолеў паведаміць А.Цьвікевіч — гл.: Цьвікевіч Аляксандр. Op. cit.

[127] Коялович М.О. Чтения по истории Западной России (op. cit.). С.51 і наст. Каяловіч лічыцца таксама аўтарам першага ёмістага абагульняльнага выкладу расійскай гіста-

лася ад колеру ільняных сялянскіх кашуляў і светлых зімовых шапак з аўчыны; пры гэтым нават не ставілася пытанне пра гістарычныя прычыны — як гэта мела месца ў іншых тагачасных публікацыях. Палітычнай заангажаванасці кнігі і цесным повязям Каяловіча са сталічным славянафільскім асяроддзем, натуральна, адпавядала дамінавальная антыпольская танальнасць, якой у 1864 г. і без таго ў большасці была прасякнутая расійская публіцыстыка. З гэтага амаль што лагічна вынікала тое, што найноўшая гісторыя Заходняй Расіі мусіла падзяляцца на „историю шляхетско-польскую" і „историю народную, западно-русскую", прычым у сэнсе славянафільскай пашаноты да „народа" сімпатыі аўтара былі цалкам толькі на адным баку[128].

Першы сінтэтычны выклад усёй гісторыі Беларусі з'явіўся адносна рана. Улетку 1857 г. — калі ўжо 17 гадоў існавала забарона на ўжыванне паняцця „беларускі" — у Санкт-Пецярбургу выйшаў „Агляд гісторыі Беларусі з найстаражытнейшых часоў", напісаны В.В.Турчыновічам[129]. У прадмове, якая датавалася днём 19 сакавіка 1855 г., а стваралася ў Магілёве і таму — не так як гэта вызначала месца выхаду, Санкт-Пецярбург — раскрывала сапраўднае паходжанне і погляды аўтара, пад „уласна Беларуссю" разумелася тая тэрыторыя, што цягнулася, на поўначы, ад горада Дрысы (што на Дзвіне) ды Асвейскага возера да Магілёва і Друцка, а таксама ад Вялікіх Лукаў ды ракі Лаваці да мястэчка Белае — г.зн., займала абшары паміж Дзвіною, Дняпром і Друццю. Цяпер жа, паводле Турчыновіча, назва „Беларусь" мелася стасавацца перадусім да Магілёўскай і Віцебскай губерняў:

> „У Беларусі ёсць свая ўласная гісторыя. Яе можна падзяліць на старажытны і найноўшы перыяды. Старажытная, уласная, гісторыя Беларусі амаль невядомая; найноўшая, аднак, пачынаючы з XV ст., цесна звязаная з палітычнай гісторыяй Літвы, Польшчы і Расіі. Праз сваё геаграфічнае становішча Беларусь зрабілася полем бітвы, на якім цягам мінулых чатырох стагоддзяў сілай зброі вырашаліся мала што не ўсе пытанні, якімі вызначаецца палітычнае жыццё любой краіны. ...Наступствы гэтых шматвекавых крывавых бітваў прадвызначылі лёс і ўсю найноўшую гісторыю краю"[130].

Тое, што беларускай гісторыі ад канца XVII ст. адмаўлялася „любога кшталту своеасаблівасць", адпавядала поглядам тагачаснай гістарыяграфіі, скіраванай на забеспячэнне стабільнасці і пераемнасці ўлады. Паводле гэтай версіі, з таго часу беларуская гісторыя ўяўляла сабою ўсяго толькі „свабоднае чаргаванне падзеяў, а таксама паўтарэнне гісторыі Расіі альбо Польшчы"[131]. Перыядызацыя томіка, які складаўся з дзесяці раздзелаў, дазваляла, тым не менш, пазнаць узорную канцэпцыю для будучых беларускіх інтэрпрэтацыяў гісторыі ды іх пяціэтапнай класіфікацыі: „Старажытнасць — Полацкае княства — Літва — Польшча —

рыяграфіі, гл.: Коялович М.О. История русского самосознания по историческим памятникам и научным сочинениям. Санкт-Петербург, 1884 (перавыд. 1893, 1901).

[128] Тамсама, с.266.

[129] Турчинович О. Обозрение истории Белоруссии с древнейших времен. Издание В.А.Исакова. Санкт-Петербург, 1857.

[130] Тамсама, с.VII.

[131] Тамсама, с. VIII.

Расія“[132]. Таксама пазбяганне ўжывання тэрміна „ўз'яднанне“ беларускіх тэрыторыяў з расійскімі дзяржаўнымі уладаннямі сведчыць хутчэй пра магілёўскае, чым пра сталічнае гледзішча аўтара. І хоць В.Турчыновіч у прадмове да кнігі гаворыць пра сваю ўпэўненасць у тым, што „яшчэ ніхто да яго“ не рабіў спробы выкласці „беларускую гісторыю“, яго крыніцы наўрад ці можна назваць арыгінальнымі. Побач з найважнейшымі хронікамі, датычнымі ўсходнеславянскай гісторыі, ён выкарыстаў працы польскіх (Ё.Лялевель, Т.Нарбут) і расійскіх (В.Тацішчаў, М.Карамзін, С.Салаўёў, М.Устралаў) гісторыкаў свайго часу, чый уплыў заўважны на кожным кроку[133].

Гэткім чынам, названая праца з гледзішча методыкі цалкам знаходзілася ў рэчышчы разумення гісторыі, што мела месца ў XIX ст. У цэнтры ўвагі знаходзілася палітычная і вайсковая гісторыя падзеяў, якая зусім няшмат пакідала месца для характарыстыкі адметных культурніцкіх і этнічных дачыненняў на беларускіх землях. Асабліва вялікую ўвагу аўтар аддаваў літоўскім вялікім князям і іх палітычна-ваеннаму чыну. Цалкам у стылі патрыятычнай, маралізатарскай і зарыентаванай на носьбітаў найвышэйшай улады канцэпцыі Карамзіна полацкія князі, літоўскія вялікія князі, а таксама польскія каралі Рэчы Паспалітай былі для Турчыновіча аб'ектамі сімпатыі. У галерэю нацыянальных герояў — побач з Рагнедай, „ганарлівай нарманкай“, чыю трагічную гісторыю аўтар у галоўных рысах пераказаў паводле „Аповесці мінулых часоў“ — увайшоў князь Усяслаў, пры ўладзе якога Полацк „перажыў пару асаблівага пашырэння сваіх уладанняў і свой росквіт“. Ганаровае месца належала, паводле царскага тытулярнага радцы Турчыновіча, таксама князю Міндоўгу (рас. *Миндовг*, літ. *Mindaugas*) — як „цэнтральнай постаці XIII ст. у час узнікнення літоўскага Вялікага княства“ — і Гедыміну, таму літоўскаму ўладару, які быў „мудрым палітыкам... больш значным за ягонае стагоддзе“[134]. Прытым і польскія каралі Жыгімонт II Аўгуст, які кіраваў Вялікім Княствам, яшчэ знаходзячыся ў персанальнай уніі, і Стафан Баторы, таксама характарызаваліся збольшага прыязна. У тых

[132] 1) Найстаражытнейшыя часы: курганы — скіфы — жыццё праславянаў — продкі беларусаў; 2) Полацк (ад Рагвалода да Полацкай Рэспублікі); 3) Літоўска-Полацкае княства да нашчадкаў Рагнеды; 4) Залежнасць паўднёвых Інфлянтаў ад палачанаў да часу смерці Міндоўга; 5) Прамежкавы перыяд у лёсе Полацка і адыход Полацка да Літвы; 6) Дынастыя Гедымінавічаў. Вітаўт. Свідрыгайла; 7) Бітва пад Оршай. Іван Жахлівы і Жыгімонт. Узяццё Гомеля. 8) Заняпад Ордэна. Беларусь паміж Расіяй і Польшчай. Уцёкі Курбскага; 9) Царква. Прыгнёт беларускіх вернікаў у Літве. Царкоўная Берасцейская унія. Унія ў Маларасіі. Падданства Маларасіі. Узяццё Смаленска. Падпарадкаванне Беларусі. Узяццё Вільні; 10) Падзел Польшчы. Далучэине Беларусі да Расіі. Ваяводствы.

[133] Lelewel, Joachim. Historia Litwy i Rusi do roku 1569. Wilno, 1839; Narbut, Teodor. Dzieje Starożytne narodu litewskiego. T.1—9. Wilna, 1835—1841; Татищев В.Н. История Российская с самых древнейших времен. Т.1—5. Москва, 1768—1848; Карамзин Н.М. История Государства Российского. Т.1—12. Санкт-Петербург, 1842—1843 (5-е изд.); Соловьев С.М. История отношений между русскими князьями Рюрикидова дома. Москва, 1847; Устрялов Н.Г. Исследование вопроса, какое место в русской истории должно занимать княжество Литовское. Москва, 1839; *Яго ж.* Русская история. Москва, 1837—1841.

[134] Цытаты гэтага ўрыўка ўзятыя з кн.: Турчинович О. Обозрение истории... (op. cit.). С.26, 35, 79, 89.

межах, што былі вызначаныя царскім ведамствам цэнзуры і міністэрствам народнай асветы, з разважанняў аўтара высвечвалася прыхаваная крытыка маскоўскіх уладароў; Іван Жахлівы і яго скіраваныя супраць Літоўскага Княства заваёўніцкія войны пры гэтым зрабіліся аб'ектам асцярожнага асуджэння — гэтаксама як спусташальныя паходы Пятра Вялікага супраць шведаў па беларускіх землях.

Тэрытарыяльны кантынуітэт беларускай гісторыі была гісторыку Турчыновічу гэтаксама даспадобы, як і поўная, без прабелаў, генеалогія ўлады. Аднача-сова з геаграфічным вызначэннем вобласцяў, што трэба называць беларускімі, ён выкарыстоўваў паняцці „Крыўская зямля" („Кривская земля") і „Беларусь" („Белоруссия") як сінонімы. Гэтая канцэпцыя ўключала ў сябе паняцце „айчына" („отечество"), гэтаксама як акцэнтаванне протадэмакратычных прынцыпаў дзяржаўнага ладу — напрыклад, у выпадку з заснаваным Міндоўгам „народным соймам" („народный сейм"). Да гэтага дадавалася ўжыванне паняцця „дзяржава" ў дачыненні да Вялікага Княства Літоўскага, якое тут упершыню ўзнікла ў сувязі з беларускай гісторыяй. „Паступова Заходняя Русь стварала новую самастойную дзяржаву — княства Літоўскае"[135]. Назвы, ужываныя Турчыновічам стасоўна Вялікага Княства Літоўскага, варыяваліся і сведчылі пра розныя гістарыяграфічныя пазіцыі. Побач з дамінуючым тэрмінам „Великое Княжество Литовское" ў гэтага аўтара раз-пораз сустракаюцца „Литва" і „Литовско-Русское государство". У той жа час зафіксаваныя ў аўтэнтычных дакументах XVI ст. „афіцыйныя" назвы Вялікага Княства („*Magnus ducatus Lithuaniae et Russiae*") („*Magnus dux Lithuaniae, Samogithiae, Russiae etc. dominus et haeres*") у гэтай працы не згадваліся.

Хоць у інтэрпрэтацыі Турчыновіча беларуская гісторыя таксама раствáралася ў гісторыі ўзаемных стасункаў паміж Польшчай (-Літвой) і Расіяй, аўтар не збаяўся ўжывання паняцця „Беларусь". Нягледзячы на забарону такога ўжывання ўказам Мікалая І у 1840 г., тут былі зазначаныя такія тэмы, як „Барацьба за Беларусь і Русь Літоўскую", а таксама бясслаўная для расійскай палітычнай і вайсковай гісторыі бітва пад Оршай (1514 г.). Літоўска-маскоўскія войны, захоп маскавітамі памежных земляў Вялікага Княства і „падзенне славутага Полацка, які гэтак бязлітасна быў разбураны Іванам [Жахлівым. — Р.Л.]" (1563 г.) Турчыновіч нават акрэсліў як пачатак канца „доўга захоўванай самастойнасці Беларусі"[136].

> „Гістарычны лёс [Беларусі — Р.Л.] не надта ўдалы. Тут было адвечнае месца бітваў. У вайсковых сутыкненнях новазаснаваныя паселішчы тутэйшых землеўладальнікаў не мелі ніякай абароны і ператвараліся ў поле бою. Да таго часу, калі сюды было прынесена хрысціянства, а з ім першыя парасткі грамадзянскасці («граждаиственность»), гэтая плодная зямля магла пракарміць нават суседнія народы. З прычыны пазнейшых войнаў, аднак, на гэтых зямельных абшарах не маглі ўзнікнуць ані найцішэйшы парадак, ані адукацыя ці дабрабыт"[137].

[135] Тамсама, с.75, 79, 89.
[136] Тамсама, с.174.
[137] Тамсама, с.239.

Вядома ж, высновы Турчыновіча выяўлялі вялікі ўплыў гістарычнай канцэпцыі польскага „ліцвіна" Тэадора Нарбута і „вялікарасійскага" гісторыка М.І.Устралава. Тым не менш, ён быў першы, хто прызнаў за беларускімі тэрыторыямі, якія называліся ў яго „Беларуссю", самабытны характар гістарычнага развіцця і не ўбудоўваў яго цалкам ані ў гісторыю Расіі альбо Польшчы, ані ў гісторыю Вялікага Княства. З ягонага гледзішча беларуская прастора ўяўляла сабою прамежкавую і канфліктную зону, у якой сутыкаліся і супрацьстаялі інтарэсы памежных дзяржаваў. Зусім па-за ўвагай працы Турчыновіча, якая з гэтай і іншых прычын не ўхвалялася падсавецкай гістарыяграфіяй, заставаліся ніжэйшыя слаі грамадства і этнічная разнастайнасць насельнікаў беларускіх земляў.

Адам Кіркор увасабляў прататып гісторыка-самавука канца XIX ст. Паходжанне з паланізаванай дробнай шляхты і цікавасць да этнаграфічных, гістарычных і моўных адметнасцяў беларускага народа лучыла яго са шмат якімі маладымі прадстаўнікамі інтэлігенцыі ў Вільні і Варшаве[138]. На пачатку 1850-х г. Кіркор працаваў рэдактарам „Памятной книжки Виленской губернии", дзе ён здолеў заснаваць гістарычную рубрыку „Віленскія ўспаміны". Пасля таго як быў адчынены „Віленскі музей старажытнасцяў" і да яго далучаная Археалагічная камісія, у 1855 г. Кіркора прызначылі захавальнікам і сакратаром гэтай камісіі. Пасля не надта радасных гадоў рэдактарства ў газеце „Виленский вестник" у сярэдзіне 1860-х г. ён пераехаў у Санкт-Пецярбург, дзе з 1868 г. супольна з гісторыкам М.І.Кастамаравым і з М.М.Юматавым стаў выдаўцом газеты „Новое время".

Але і ў сталіцы яму, з прычыны крытычных выказванняў адносна палітыкі цара ў Польшчы і заходніх правінцыях, вельмі хутка давялося сутыкнуцца з „зацікаўленасцю" з боку цэнзуры і з неразуменнем з боку сталічнай вялікарасійскай інтэлігенцыі. Нарэшце, у 1871 г. Кіркор пакінуў Санкт-Пецярбург і перасяліўся ў аўстра-венгерскі Кракаў. Тут ён актыўна заняўся даследаваннямі літаратуры і гісторыі „братніх славянскіх народаў" і надрукаваў дзве не вельмі заўважаныя працы. У 1875 г. у Варшаве на польскай мове Кіркор апублікаваў даследаванне „Літва і Русь з гістарычнага, геаграфічнага, статыстычнага гледзішча", якое стала другой сінтэтычнай працай па гісторыі беларускіх земляў. Між іншым, па-сапраўднаму яна зрабілася вядомай толькі праз пяць гадоў — дзякуючы ўключэнню яе расійскага перакладу ў шматтомавае выданне „Жывапісная Расія". Гэтым разам у якасці аб'екта разгляду, згодна з назвай тома, лічыліся „Беларусь і Літва"[139]. Тым самым Кіркор зрабіў спробу даказаць гістарычную і культурную

[138] Гл.: Dragun, Ju.I. A.Kirkor. Ein Historiker Belorußlands // Schmutzer, Ernst (рэд.). Politisches Denken im 19.Jahrhundert in Rußland (Wissenschaftliche Zeitschrift der Friedrich-Schiller-Universität Jena, Geschichtswissenschaftliche Serie, Bd.39, Heft 1—2). Jena, 1990. Да значных працаў таго часу варта аднесці: Зямкевіч Р. Адам Ганоры Кіркор. Вільня, 1911, а таксама: Янчук Н.А. А.Г.Киркор, ученый исследователь Литвы и Белоруссии. Киев, 1887. Новае выданне выйшла пад назвай „А.К.Киркор: краткий очерк жизни и деятельности" (Масква, 1888). Акрамя таго, гл.: Кісялёў Г.В. Адам Ганоры Кіркор // Мысліцелі і асветнікі Беларусі. Мінск, 1995. С.463—465; Карев Д. Белорусская историография конца XVIII—нач. XX веков... (op. cit.). С.307 і далей.

[139] Киркор Адам. Белоруссия и Литва в исторических, географических и археологических отношениях // Живописная Россия. Отечество наше в его земельном, исто-

самабытнасць беларускага народа, яго мовы і культуры. Тое, што яшчэ не было адлюстравана ў Турчыновіча, тут было паказана з вялікай ступенню паслядоўнасці. Беларусы — так гучала галоўная тэза Кіркора — не ёсць нейкім „адгалінаваннем“ вялікарасійскага альбо польскага народа, а ў гістарычнай і сучаснай перспектыве павінны нарэшце заняць сваё раўнапраўнае месца побач з дамінантнымі суседнімі народамі. Паводле яго азначэння, перад тым як распачаўся працэс „штучнага збліжэння“ Вялікага Княства Літоўскага і Русі [з Польшчай], які ў 1569 г. скончыўся „палітычнай смерцю“ Літоўскай дзяржавы, Беларусь існавала цалкам самастойна. Цяпер пачалося „нацягненае сяброўства“, якому былі ўласцівыя „пастаянныя сваркі, непаразуменні і адсутнасць даверу“[140]. Аналагічную думку выказаў у 1888 г. у сваёй публікацыі ў газеце „Минский листок“ М.В.Доўнар-Запольскі. У адказ на вялікае эсэ маскоўскага публіцыста А.Пыпіна пра гістарычныя і этналагічныя даследаванні Беларусі Доўнар-Запольскі таксама падкрэсліваў самабытнасць беларускай народнасці: „Беларускае племя мела сваю ўласную гісторыю і свае ўласныя гістарычныя традыцыі, што адрозніваліся ад старыны роднасных з ім народаў“[141].

*Opus magnum* дасавецкага беларусазнаўства, шматтамовая праца пад назвай „Беларусы“, належала пяру народжанага ў Гродзенскай губерні Яўхіма Ф.Карскага. Хоць гэты аўтар галоўным чынам звяртаў сваю ўвагу на гісторыю мовы і літаратуры ўсходнеславянскага народа, да гэтага ім былі далучаныя шматлікія гістарычныя агляды. На ягоных доследах помнікаў беларускай пісьменнасці не ў апошнюю чаргу грунтуюцца геаграфічнае вызначэнне тэрыторыі пасялення беларусаў і этнічных групаў, што былі іх папярэднікамі. Апрацаваная Карскім, таксама з улікам археалагічных знаходак, і апублікаваная ў завершаным выглядзе ў 1918 г. „Этнаграфічная карта беларускага племені“ лічылася першай такога кшталту і стварыла нагоду для шматлікіх дыскусіяў адносна прыналежнасці тых альбо іншых участкаў тэрыторыі. Я.Карскі надаваў асаблівае значэнне той выснове, што да этнагенезу беларускай народнасці, побач з вядомымі ўсходнеславянскімі плямёнамі, таксама меліся спрычыніцца плямёны балцкія і фінскія. Ён уважаў за магчымае — як гэта зрабілі шматлікія гісторыкі і мовазнаўцы наступных пакаленняў — на прыкладзе назоваў рэк і земляў даказаць наяўнасць „балцкага субстрату“ беларускага этнасу. Карскі паказаў, што праблема паходжання беларусаў, без ніякага сумневу, належыць да праблемаў еўрапейскай этналогіі[142]. Яго погляды на

рическом, племенном, экономическом и бытовом значении / под редакцией П.П.Семенова. Т.3, части 1 и 2. Санкт-Петербург, 1882. Переиздание: Литовское и белорусское Полесье. Репр. воспроизведение издания 1882 года. Мінск, 1993.

[140] *Яго ж.* Исторические судьбы литовского Полесья // Тамсама, с.73—96; у гэтым выпадку гл. с.91.

[141] Довнар-Запольский М.В. Белорусское прошлое (op.cit.). С.327. Адносна ранніх публікацыяў Доўнара-Запольскага параўн.: Улащик Н.Н. Очерки по археографии и источниковедению истории Белоруссии... (op.cit.). С.239 і наст.

[142] Карский Е.Ф. Белоруссы. Т.1—3. Варшава, Москва, Петроград, 1903—1922. Том 1: Введение в изучение языка и народной словесности (1903). Том 2: Вып.2/I: Язык белорусского племени. Исторический очерк звуков белорусского наречия (1908);

гісторыю былі ў поўнай меры вызначаныя яго бачаннем моўна-гістарычнай перспектывы. Узнікненне беларускай мовы для Я.Карскага супадала з вылучэннем народа беларусаў з этнічнага масіву ўсходнеславянскай прасторы.

> „У гэтых спрыяльных варунках адбылося яднанне ўсіх заходнерускіх плямёнаў і ўтварэнне агульнай для іх мовы. З гэтага часу закладзены трывалы пачатак тае рускае народнасці, якая да гэтага часу вядомая пад назвай *беларускай*. Нават яе мова, што ўжо ў яе найважнейшых асаблівасцях была сфармавалася на той час, можа быць названая беларускаю. [...] Гэткім чынам, пачатак літоўскага ўладарання ў заходнерускіх абласцях можа быць ахарактарызаваны як перыяд утварэння беларускае народнасці і яе мовы“[143].

Я.Карскі прызнаваў за крытэрый прыналежнасці да пэўнага народа толькі мову. У якасці класіфікацыйнага прынцыпу ён гэтаксама мала звяртаў увагу на рэлігійную прыналежнасць, як і на фізічныя ці то фізіягнамічныя асаблівасці насельнікаў пэўнай тэрыторыі. Хоць ён і прызнаваў абагульняльнае паняцце „рускай“ для трох вялікіх усходнеславянскіх народнасцяў, менавіта ў моўных асаблівасцях яму бачыліся найвыразнейшыя рысы размежаванняў. У астатнім Я.Карскі ў сваіх працах пазбягаў якіх-кольвечы антырасійскіх высноваў. У дачыненні да XIX ст. ён не хацеў ужываць нават паняцце „русіфікацыя“.

Праз пяцьдзесят гадоў пасля з'яўлення кнігі Турчыновіча, праз 35 гадоў пасля публікацыі працы Кіркора і праз сем гадоў пасля выхаду першага тома даследавання Карскага была выдадзеная першая, створаная на беларускай мове, „Гісторыя Беларусі“ Вацлава Ю.Ластоўскага[144]. Тым самым — інакш, чым гэта было ў выпадках з Доўнарам-Запольскім і Карскім, якія вучыліся ў Кіеўскім ды Варшаўскім універсітэтах і там, адпаведна, пачыналі сваю навуковую працу — з'явіўся наступны пасля Кіркора публіцыст і гісторык паводле пакліканьня, што жыў і працаваў выключна ў Беларусі. Пісьменнік, літаратурны крытык, журналіст, этнограф, гісторык і палітык, Ластоўскі ніколі не вучыўся ніводнай з пералічаных прафесіяў ані ў сярэдніх, ані ў вышэйшых навучальных установах. У біяграфіі гэтага аўтадыдакта адлюстраваўся спецыфічны шлях развіцця бела-

Вып.2/II: Язык белорусского племени. Исторический очерк словообразования и словоизменения в белорусском наречии (1911); Вып.2/III: Язык белорусского племени. Очерки синтаксиса белорусского наречия. Дополнения и поправки (1912). Том 3: Вып.3/I: Очерки словесности белорусского племени. Народная поэзия (1916); Вып.3/II: Очерки словесности белорусского племени. Старая западнорусская письменность (1921); Вып.3/III: Очерки словесности белорусского племени. Художественная литература на народном языке (1922). Акрамя таго гл.: *Яго ж.* Беларускі народ і яго мова. Менск, 1920. (Гэты артыкул напачатку выйшаў у газеце „Беларусь“). Пра Я.Карскага гл.: Карев Д.В. Е.Ф.Карский и история белорусской культуры // Наш радавод. 1990. Вып.2. С.191—198; *Яго ж.* Белорусская историография... (op.cit.). С.347—351; McMillin, Arnold B. Academician Ja.F.Karski // JBS 1 (1967) 3. С.207 і наст.

143 Карский Е.Ф. Белоруссы (op.cit.). Т.1. С.114. [Пераклад урыўкаў зроблены паводле найноўшага перавыдання: Карскі Я. Беларусы. Мн.: Беларускі кнігазбор, 2001. С.103. *Заўвага перакладчыка.*]

144 Власт (Ластоўскі Вацлаў). Кароткая гісторыя Беларусі. З 40 рысункамі. Вільня, 1910. Цытаванне робіцца паводле рэпрынтнага выдання: Ластоўскі В.Ю. Кароткая гісторыя Беларусі. Мінск, 1993.

рускай інтэлігенцыі канца XIX — пачатку XX ст.[145]. Будучы палітычна заангажаваным, з маладых гадоў прыналежным да нацыянальна свядомых віленскіх колаў, ён здолеў праз дысцыплінаваную самастойную працу кампенсаваць недахопы ў сваёй адукацыі і паглыбіць сваю цікавасць да гісторыі „радзімы". У якасці рэдактара і выдаўца да 1918 г. ён браў удзел у рэалізацыі розных праектаў перыядычных выданняў, перш чым ступіў на шлях штодзённых палітычных выпрабаванняў.

Дакладна вядома, што Ластоўскі ведаў найважнейшую літаратуру па гісторыі „заходняй Русі" і ў сваёй працы абапіраўся на апублікаваныя зборы дакументаў. З бібліяграфічных звестак, пададзеных аўтарам, вынікае, што найгалоўнейшым арыенцірам для яго былі зусім не класікі расійскай гістарыяграфіі, а стваральнікі маленькіх нацыянальных гісторыяў Украіны і Польшчы; апроч таго, ён арыентаваўся на працы кампаратывісцкага характару, што датычыліся гісторыі народаў ускраін Расійскай імперыі. З метадалагічнага гледзішча яго падыход быў таксама зусім традыцыйны — як у выпадку з кампілятыўнай, зарыентаванай на палітычную і вайсковую гісторыю працай Турчыновіча. Спроба Ластоўскага паказаць гісторыю свайго краю і яго насельнікаў, беларусаў, як самастойную нацыю, прывяла да вызначэння храналогіі ўладароў — у духу расійскай імперскай гістарыяграфіі Карамзіна. У гэтым праглядаўся намер аўтара надаць апісванай гісторыі і, тым самым, нацыятворчаму працэсу беларусаў гістарычную непарыўнасць і пераемнасць. Гэткі падыход цалкам адпавядаў тагачаснаму еўрапейскаму разуменню гісторыі, згодна з якім яна выяўляецца праз паслядоўнасць дамінантных палітычных рэжымаў і прэтэнзіяў на атрыманне ўлады.

З гістарычнага трохкутніка ўзаемадачыненняў Літвы, Польшчы і Беларусі Ластоўскі выцягнуў беларускія сегменты і склаў іх у загадзя задуманую біяграфію свайго народа. Паваротнымі пунктамі ў ёй сталі змены палітычных уладаў і адрозненні эпох „культурнага развіцця беларускага народа". Для далейшага развіцця працэсу нацыянальнай эмансіпацыі на беларускіх землях сам факт існавання гэтага першага ў роднай мове апісання „гісторыі Бацькаўшчыны", несумненна, важнейшы за ягоны змест.

Пры стварэнні перыядызацыі гісторыі ў сваім нарысе аўтар, відавочна, шукаў пэўнага кампрамісу. З аднаго боку, гэтая перыядызацыя адпавядала традыцыйнай сістэме паказу гісторыі як паслядоўнасці кіравання ўладароў: 1) Ад найстаражытнейшых часоў да ўцёкаў полацкіх князёў у Літву (1129 г.); 2) Ад вяртання полацкіх князёў (1132 г.) да смерці Вітаўта (1430 г.); 3) Ад смерці Вітаўта да Люблінскай уніі (1569 г.); 4) Ад Люблінскай уніі (1569 г.) да падзелу Польшчы; 5) Беларусь пад расійскім панаваннем. Гэтая класіфікацыя, тым не менш, свед-

[145] Пра асобу Ластоўскага і розныя сферы яго дзейнасці да і пасля 1918 г. гл.: Вынікі навуковай канферэнцыі „Вацлаў Ластоўскі — выдатны дзеяч Беларускага адраджэння" // Б/А. Вып.4. Мінск, 1995. С.236—356; Крэнь Ірына. Вацлаву Ластоўскаму—110! // Наша слова. 1993. №43. С.4. Акрамя гэтага параўн.: Sienkievič, V. Łastoŭski the Historian and his Historical Views // JBS 5 (1984) 3—4. C.3—13. Сярод апошніх матэрыялаў: Ластоўскі Вацлаў Юстынавіч // ЭГБ. Т.4. Мінск, 1997. С.336 і наст. Выйшла першая біяграфія, гл.: Янушкевіч Я. Неадменны сакратар адраджэння. Вацлаў Ластоўскі. Мінск, 1995; пра „нашаніўскі перыяд" гл. с.14 і наст.

чыла пра тое, што беларускія землі ад часоў Люблінскай уніі і палітычнага ўлучэння Вялікага Княства Літоўскага ў Рэч Паспалітую заўсёды была аб'ектам падзелаў. Разбор гэтай палітычнай прасторы быў нарэшце афармлены праз пераняцце яе Расійскай імперыяй. В.Ластоўскі яшчэ ў поўнай меры заставаўся пад уплывам пафасу нацыянальнага рамантызму XIX ст., не хаваючы пры гэтым сваіх радыкальна-дэмакратычных перакананняў. З гледзішча Ластоўскага беларускае грамадства „заўсёды ў сваіх галоўных рысах было дэмакратычным". Гісторыя гэтай прасторы бачылася як безупынны нацыятворчы працэс; і хоць яму ўвесь час чыніліся перашкоды, ды ўсё-такі адначасова і спадарожнічала фармаванне нацыянальнай свядомасці. У прыватнасці, Ластоўскі даў празмерна завышаную ацэнку „залатому веку Беларусі", з XV да XVI ст. У гэткім ходзе разважанняў тут упершыню былі прэзентаваныя матываваныя хутчэй надзённа-палітычнымі, чым навуковымі матывамі перакананні. З гэткага пункту погляду кніга В.Ластоўскага была адначасова і заключным акордам дасавецкай эпохі даследаванняў беларускай гісторыі і пралогам да новай канцэпцыі. З гледзішча беларускай нацыянальнай інтэлігенцыі да тае пары яшчэ не было зроблена спробаў выкласці ў сціслай форме гісторыю земляў, што называюцца „Беларуссю", і беларускага народа.

Кніжачка Ластоўскага мела сваю адпаведніцу на Украіне. За два гады перад выхадам „Кароткай гісторыі Беларусі", у 1908 г., Мыкола Аркас, які вучыўся ў Адэскім і Херсонскім універсітэтах, выдаў сваю „Історію України-Русі", у якой было прадэманстраванае падобнае разуменне нацыянальнай гістарыяграфіі[146]. Чаргаванні ўладароў і падзеяў, з якімі можна было спалучыць становучую дынаміку росту нацыянальнай самасвядомасці, знаходзіліся ў цэнтры ўвагі аўтара. Сацыяльныя аспекты гісторыі, як і ў працы Ластоўскага, адыходзілі на задні план. Перыядызацыя гісторыі ў абодвух выпадках грунтавалася на пяціэпохавым падзеле беларускай і ўкраінскай гісторыі[147]. В.Ластоўскі і М.Аркас стварылі нацыянальныя кампіляцыі гісторыі, змест якіх вынікаў хутчэй з надзённых патрэбаў, чым грунтаваўся на даследаваннях гістарычных фактаў.

Пасля таго як у папярэдніх радках мы ахарактарызавалі сутнасці гістарычных канцэпцыяў „западно-руссизма" і нацыянальнай беларускай гістарыяграфіі ў стадыі яе нараджэння, варта далей спыніцца на гістарычных міфах ранняй нацыянальнай гістарыяграфіі.

[146] Аркас М.М. Історія України-Русі. Санкт-Петербург, 1908. Цяпер ёсць другое (Київ, 1991) і трэцяе (Одеса, 1994) выданні гэтай кнігі.

[147] Перадгісторыя да распаду Кіеўскай Русі, эпоха Полацкага і Галіцка-Валынскага княстваў, Вялікае Княства Літоўскае, Рэч Паспалітая і эпоха пад расійскім панаваннем. У дачыненні да Украіны тут дадаваліся эпохі гетманскай дзяржавы і панавання ўлады Габсбургаў у заходняй Украіне пасля падзелу Рэчы Паспалітай.

### 2.1.1. Полацкае княства як міф заснавання дзяржавы

Канстантай беларускай нацыянальнай гістарыяграфіі з часоў Доўнара-Запольскага і Ластоўскага было вызначэнне ўсходнеславянскага Полацкага ўдзельнага княства ў IX—XII ст. як „выходнага пункту беларускае дзяржаўнасці". Адмежаванне ад Кіеўскай дзяржавы палягала перадусім у тым, што ў дачыненні да Падзвіння адмаўлялася прыманне чынніка знешняга цывілізатарскага ціску на славянскія землі (нарманская тэорыя). З „Аповесці мінулых гадоў" раннія беларускія інтэрпрэтатары гісторыі запазычылі цвёрдае перакананне, што скандынавы „не былі запрошаныя на беларускія землі дзеля дапамогі ва ўсталяванні там парадку", а ў асобе варажскіх князёў Аскольда і Дзіра ў IX ст. „заваявалі і спустошылі" Полацк. У сапраўднасці ў названым летапісе згадваецца пра тое, што „ў тых местах" варагі былі „прышлымі людзьмі" і гэтаксама без гвалту трапілі ў гэтыя краі[148].

Далейшы фіксаваны пункт вобраза нацыянальнай беларускай гісторыі ўтварае распрацоўка ідэі развіцця этнічнай лініі крывічоў, славянскіх першанасельнікаў Полацкага княства, у навачасных беларусаў. Тое, пра што Ластоўскі абвясціў у 1910 го., пазней ён жа паўтараў у разнастайных варыянтах; у 20-х гадах, урэшце, ён быў адным з найгалоўнейшых ідэолагаў беларуска-крыўскай ідэі[149]. Ідэйным бацькам крывіцкай тэорыі і гістарычнага ўзвялічвання Полацкага княства быў М.В.Доўнар-Запольскі. У сваёй працы, што выйшла ў 1891 г. у Кіеве пад назвай „Нарыс гісторыі Крывіцкай і Дрыгавіцкай земляў да канца XII ст.", гэты вучань Антановіча абмаляваў гістарыяграфічную матрыцу міфа „беларускай дзяржаўнасці", з дапамогай якой з таго часу быў акрэслены вобраз гісторыі для гісторыкаў-навукоўцаў і аўтадыдактаў, што займаліся гісторыяй[150]. Галоўнай мэтай гэтай ды іншых працаў Доўнара-Запольскага 1880—1890-х г. было пашырэнне ведаў пра найдаўнейшую гісторыю „сённяшняга паўночна-заход-

[148] Параўн. тэкст „Аповесці мінулых гадоў" паводле Радзівілаўскага летапісу, створанага на аснове яе другой рэдакцыі (цытуецца пераклад найноўшага нямецкага выдання: Rauchspur der Tauben. Radziwiłł-Chronik. Leipzig und Weimar, 1986. С.32). У іншым месцы летапісу, які з'яўляецца спрэчным з гледзішча крыніцазнаўства, чытаем: „Тут мовіла да рускіх [пад рускімі тут разумеюцца варагі — Р.Л.] чудзь, мовілі славене, крывічы ды ўсе іншыя: „Наша зямля вялікая і багатая, але няма ў ёй парадку. Таму прыходзьце і валодайце ды кіруйце намі!" — гл.: Тамсама, с.31. Пра гістарычны Полацк глядзі новую працу: Rohdewald, Stefan. „Vom Polocker Venedig des Nordens oder über die Polocker Freiheit". Zur Verfassungsgeschichte von Polock bis 1563. Gesellschaftlicher und institutioneller Wandel von der gentilgesellschaftlichen Siedlung zur fürstlichen Burgstadt und später zur Rechtsstadt in der sich ausgestaltenden Adelsrepublik. Lizenziatsarbeit der Philosophischen Fakultät I der Universität Zürich (неапубл. рукапіс). Zürich, 1997.

[149] Ластоўскі В. Калісь і цяпер. Гістарычна-грамадзянскія нарысы. Вільня, 1918; таксама: *Яго ж.* Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі. Коўна, 1926. Пераацэнка пераемнасці традыцыяў у постсавецкай гістарыяграфіі дала гістарычнаму бачанню Ластоўскага азначэнне „беларускага фундаменталізму" — гл.: Конан Ул. Эстэтычныя погляды Вацлава Ластоўскага // Б/А. Вып.4 (op.cit.). С.239—251, тут цытуецца с.240.

[150] Довнар-Запольский М.В. Очерк истории Кривичской и Дреговичской земель до конца XII столетия. Киев, 1891.

няга краю". Адначасна ён зрабіў закід на адрас расійскай гістарыяграфіі ў адсутнасці з яе боку зацікаўленасці, а таксама ў выкарыстанні непраўдзівай базы крыніц. Гэтак, ён выказаў сумнеў наконт таго, ці варта прыцягваць „у якасці крыніц нашай гісторыі" скандынаўскія сагі, у якіх Полацк і Смаленск аніводнага разу не згадваліся. Далей, паводле Доўнара-Запольскага, варта было б прыгледзецца да пытання дачыненняў крывічоў з ноўгарадскімі славянамі. У гэтым праглядаўся інтарэс больш выразна пазначыць рознасць у паходжанні беларусаў і вялікарусаў. Сапраўдны этнагенез беларусаў, між тым, у ранняй нацыянальнай гістарыяграфіі аспрэчваўся:

> „Увогуле, напэўна, можна сказаць, што беларусы ўвасабляюць самы чысты тып славянскіх плямёнаў. Гэта можна патлумачыць тым, што беларускае племя ніколі ў гісторыі свайго існавання не зліваласся з іншымі народнасцямі — гэтак, як яно мела месца, да прыкладу, з вялікарусамі, калі яны занялі фінскія землі і змяшаліся з тамтэйшымі плямёнамі"[151].

Тэза пра крывічоў-беларусаў як найменш „перамяшанае" славянскае племя, якую, сярод іншых, выказваў Доўнар-Запольскі, праз лінгвістычныя доследы Карскага і доказы наяўнасці балцкіх і фінскіх уплываў неўзабаве пачала падвяргацца выпрабаванням. Тым самым ужо ў дасавецкай гістарыяграфіі пазначылася спрэчнае пытанне, што па сёння займае гісторыкаў у Беларусі.

Разам з паходжаннем Доўнар-Запольскі ўбачыў неабходнасць адмысловай распрацоўкі рознай палітычна-культурнай арыентацыі Смаленскага, Полацкага і Тураўскага княстваў у XII ст. Паводле ягонага меркавання, Смаленскае княства — этнакультурная прыналежнасць якога да беларускай гістарычнай прасторы для яго, як і для Ластоўскага, была па-за ўсялякім сумневам — як у значнай ступені самастойная ўладная адзінка „спрабавала зрабіць з сябе цэнтр на захадзе — аналагічна Уладзімірскаму княству на ўсходзе". Акрамя таго „інтарэсы" Полацкага княства, на яго думку, „былі цалкам сканцэнтраваныя на захадзе, на немцах і літоўцах". Таксама аб'яднанае Турава-Пінскае княства пасля здабыцця пэўнае самастойнасці шукала збліжэння з Захадам і — у абліччы заняпаду Кіева ў XII ст. — зрабіла ў поўнай меры стаўку на сувязі з Галіцкім княствам. Прынамсі, полацкія князі ад астатняй Русі былі „цалкам адасобленыя" („совершенно отделены")[152]. Да гэтага далучыліся меркаванні гісторыкаў, што даўнейшая „беларуская" гісторыя, пачынаючы з XII ст., адзначана суперніцтвам паміж кіеўскімі вялікімі князямі і полацкімі, менскімі ды тураўскімі князямі. Гэтаксама як ужо Кіркор свядома ўказваў на тое, што Полацк меўся існаваць як раўнапраўнае дзяржаўнае ўтварэнне побач з Кіевам, Ластоўскі падкрэсліваў, што толькі пад час пяцідзесяцісямігадовага[153] ўладарання Усяслава з 1044 да 1101 г. князя два разы выганялі з Полацка, а Менск у 1084 г. быў дашчэнту разбураны Уладзімірам Манамахам.

[151] *Яго ж.* Белоруссы. Этнографический очерк // *Яго ж.* Исследования и статьи. Киев, 1909. С.257—316, тут цытуецца с.259.
[152] *Яго ж.* Очерк истории... (op. cit.). С.VI, 67.
[153] Ластоўскі, называючы лічбу 87 гадоў, памыляецца; гл.: Власт (Ластоўскі Вацлаў). Кароткая гісторыя Беларусі (op. cit.). С.10.

Яшчэ адным складнікам полацкага міфа быў „дэмакратычны лад" княства. Маўляў, беларускі народ, „які ўзнік у выніку таго, што розныя ўсходнеславянскія плямёны — крывічы, радзімічы, дрыгавічы — зліліся ў адно цэлае", заўсёды жыў ва ўзаемнай згодзе са сваімі князямі. Веча, плямённа-дэмакратычны сход старэйшынаў, „з найдаўнейшых часоў" мелася вызначаць парадак супольнага жыцця ў беларускіх княствах і ўрэшце спрычынілася да таго, што пасля заваявання беларускіх сталіц кіеўскімі князямі (1129—1132 г.) „народ вярнуў сабе сваіх першапачатковых уладароў з дынастыі Рагвалодавічаў"[154]. Усё XII ст., у канцы якога (1181—1190 г.) кароткі час існавала „Рэспубліка — Полацкае княства", характарызавалася як пара росквіту незалежнае дзяржаўнасці і дэмакратычнага ладу. Гісторыкі надавалі вялікае значэнне сцверджанню, што вечавы лад меўся быць выразнікам народнага волевыяўлення, а таксама „развіцця грамадскай самасвядомасці („общественного самосознания") плямёнаў". Дзяржаўнае ўладкаванне Полацка, паводле гэтай канцэпцыі, увасабляла „ўладаранне народа" („народоправство"), гэтаксама як яно падобным чынам існавала ў Ноўгарадзе і Пскове. Веча і ўвесь народ меліся зацята супрацьстаяць любой спробе падпарадкавання аднаасобнай княскай уладзе[155]. Са сказанага вынікае, што з асаблівай ахвотай, побач з пытаннямі незалежнасці ад кіеўскага і маскоўскага ўплываў, падкрэсліваліся дэмакратычная арыентацыя ўладароў і адміністрацыйнага ладу. З сярэднявечных спрэчак за дамінаванне і тэрыторыі ўзнікла „змаганне за незалежнасць Полацка", а з колішняй рады старэйшынаў — інструмент народаўладдзя.

Апошняй істотнай уласцівасцю той міфатворчай ідэі раннесярэднявечнае беларускае дзяржаўнасці ў Полацкім княстве было шанаванне князёў. З улікам асаблівасцяў нацыянальных гістарыяграфіяў іншых малых народаў Усходняй Еўропы, што фармаваліся напрыканцы XIX і ў пачатку XX ст., у якасці парадыгматычнай агульнай рысы выяўляецца проста культавае пакланенне перад уладарамі Сярэднявечча[156]. Пры гэтым усюды мелі месца намаганні сумясціць жыццяпісы ўладароў і адбор таго, што лічылася вартым апісання, з новай нацыянальнай гісторыяй і той мэтай, праз якую дасягаецца яе ўздзеянне. Гэта добра відаць на прыкладзе вышэйзгадванага полацкага князя Ўсяслава. Кіркор называў яго „родапачынальнікам полацкага княскага дому", які, паводле яго думкі, меў вялікае значэнне для існавання беларускага краю; пры гэтым вельмі працяглае панаванне апошняга ўважалася гэтым аўтарам за „найлепшыя дні княства"[157]. Ластоўскі, а пасля яго і Доўнар-Запольскі, падавалі вядомы фрагмент са „Слова пра паход Ігаравы" XII ст., у якім гаворыцца пра слаўныя гады княжання Ўсяслава і падкрэсліваецца, колькі добрага зрабіў „гэты князь дзеля люду".

[154] Тамсама, с.8—12.

[155] Довнар-Запольский М.В. Белорусское прошлое (op. cit.). С.322 і наст.; *Яго ж.* Очерк истории... (op. cit.). С.67; Киркор А.К. Исторические судьбы белорусского Полесья // Литовское и белорусское Полесье... (op. cit.). С.289—316, тут цытуецца с. 290.

[156] Nikžentaitis, Alvydas. Der Vytautaskult in Litauen (15.—20. Jahrhundert) und seine Widerspiegelung im Denkmal // Nordostarchiv (1998). С.131—146, пра гэта гл. с.137 і наст.

[157] Тамсама, с.291.

Ластоўскі, аднак, не згадваў дадзеную ў „Аповесці мінулых гадоў" характарыстыку князя, які „гэтак бязлітасна праліваў чужую кроў"[158].

Сімпатыі нацыянальна арыентаваных гісторыкаў належалі таксама першаму літоўскаму вялікаму князю аб'яднаных тэрыторыяў Літвы і Полацка Міндоўгу, які валадарыў пачынаючы з 1242 г. і пры якім, паводле меркавання Кіркора, „Беларусі стала дыхацца вальней" („Белоруссия дохнула свободнее")[159]. Маўляў, ён не стаў „заснавальнікам моцнае дзяржавы", але валадарыў адначасна як полацкі і літоўскі князь. Для Ластоўскага было істотным засведчыць пра „змяшанае насельніцтва" тагачаснай Літвы. Новыя князі Рынгольд і ягоны сын Міндоўг былі, паводле яго вызначэння, выхадцамі з „Літоўска-Рускага княства", якое мела сваёй сталіцай Наваградак. Характар гэтага краю меўся вызначацца — у адпаведнасці з „нацыянальнасцю яго жыхароў" — „ліцвінамі-крывічамі". Таму, нягледзячы на тое, што адбыўся гвалтоўны захоп беларускіх (полацкіх) земляў, ацэнка Ластоўскага выглядае хутчэй як памяркоўная. Гэткім чынам, калі гістарыяграфічная характарыстыка полацкіх і літоўскіх уладароў цалкам адпавядала нацыянальна-гістарычным інтэнцыям, кіеўскія князі характарызаваліся як „чужынцы".

Асаблівая роля ў апісальных працах Кіркора, Доўнара-Запольскага альбо Ластоўскага па далітоўскай „Гісторыі Беларусі" адводзілася гістарычным асобам, легендам і сімвалам. Пара росквіту Полацкага княства на поўначы альбо Турава-Пінскага княства на поўдні ў XI і XII ст. называлася эпохай Рагнеды, „пакутніцы і княгіні-маці полацкай", якая аказала супраціў гвалту свайго мужа Ўладзіміра і аддала сваіх унучак-князёўнаў замуж у еўрапейскія каралеўскія дамы (Венгрыя, Нарвегія, Данія). Пасля гэта была „эпоха святой Еўфрасінні Полацкай" — пачатак XII ст., калі нарадзілася князёўна Прадслава, пазней сышла ў манастыр і вяла дзейнасць пісьменніцы і перакладчыцы. XII стагоддзе адначасова лічылася эрай рэлігійнага вучонага Кірылы Тураўскага. Сабору св.Сафіі ў Полацку, што быў пабудаваны ў 1037—1050 г., Ластоўскі і іншыя аўтары надавалі значэнне беларускага раўналежнага адпаведніка Кіеўскаму Сафійскаму сабору і, гэткім чынам, забяспечылі беларускую гісторыю ўласным сімвалам праваслаўнага хрысціянства. І праз гэта таксама павінна было пабольшаць дыстанцыяванне ад Кіева і кіеўскіх князёў.

Полацкаму міфу ў беларускай інтэрпрэтацыі гісторыі да 1918 г. адпавядалі ўкраінскі валынскі, гэтаксама як вялікарасійскі ўладзімірска-суздальска-ноўгарадскі міфы. Прамежак часу паміж X і XIII ст. быў упершыню ўзведзены да статуса трохзвеннай інтэрпрэтацыі гісторыі даследчыкамі з Санкт-Пецярбурга, Вільні, Кіева. Пасля таго як украінскія і расійскія гісторыкі, пачынаючы ад Міхаіла Пагодзіна і праграмных выказванняў, зробленых Грушэўскім у 1904 г., па-

[158] Цытуецца паводле: Radziwill-Chronik (op.cit.). С.155. У зборніках „Полоцко-Витебская старипа", якія знаходзіліся пад уплывам „западно-руссизма", гісторык Леанардаў , акрамя таго, спыніўся на пытанні ідэалізацыі Ўсяслава ў „Слове пра паход Ігаравы"; гл.: Леонардов Д. Полоцкий князь Всеслав и его время // Полоцко-Витебская старина. Вып.2. Витебск, 1912. С.121—216; пра гэта гл. с.203.

[159] Власт (Ластоўскі Вацлаў). Кароткая гісторыя Беларусі (op. cit.). С.12; Киркор А.К. Исторические судьбы белорусского Полесья // Литовское и белорусское Полесье... (op. cit.). С. 296.

чалі спрэчку за права на спадчыну Кіеўскай Русі[160], у дыскусію з міфам Полацка ўступілі беларускія гісторыкі і публіцысты. Прытым, што яны не выяўлялі сваёй вялікай актыўнасці ў спрэчцы пра карані Кіеўскай дзяржавы, міф Полацка як дзяржавазаснавальніцкі чыннік зрабіўся агульным месцам тагачаснага і пазнейшага беларускага вобраза гісторыі. З таго часу нацыянальна арыентаваныя гісторыкі бачылі ў Полацку зыходны пункт беларускай дзяржаўнасці.

## 2.1.2. Літва і міф „залатога веку“

Няпэўная гістарычна-нацыянальная самасвядомасць адукаваных беларусаў мела свае карані ў сапраўдным і ўяўным удзеле ў сярэднявечнай гісторыі Вялікага Княства Літоўскага. У агляднай працы Ластоўскага, як і ў іншых гэткага кшталту працах, што выйшлі да 1934 г., гэты адрэзак часу займаў галоўную частку распрацовак. Насамрэч, Польшча-Літва, у якую цалкам уваходзілі землі, заселеныя беларусамі, дасягнула ў перыяд з 1350 да 1430 г. сваёй найвялікшай тэрытарыяльнай разлегласці[161]. У гэты час Княства валодала вялікай самастойнасцю. Ягайла каля 1398 г. уладарыў як кароль усёй імперыі (*rex Poloniae Lithuaniaeque princeps supremus et heres Russiae*), надалей пры гэтым называючы і прызнаючы свайго старэйшага стрыечнага брата Вітаўта найвышэйшым літоўскім князем (*supremus dux Lithuaniae*). Пара росквіту „незалежнай беларускай дзяржавы“, якая ахоплівала ў Ластоўскага тры стагоддзі (1132—1430 г.), скончылася са смерцю Вітаўта. Пад яго эгідаю, паводле Ластоўскага, у Беларусі праводзіліся „розныя палепшаньні (рэформы)“ [sic!][162]. Вялікі князь, маўляў,

[160] У той час, як у расійскім разуменні гісторыі з XVI ст. дамінавала схема пераемнасці Кіеўскай і Маскоўскай дзяржаваў, гісторыкі з Львова і Кіева ў XIX ст. распрацавалі тэзу пра Украіну-Русь: параўн. напісаную ў 1904 г. працу: Грушэўскі М. Звичайна схема „русской“ історіі і справа раціонального укладу історіі східного Слов'янства // Статьи по славяноведению. Ч. 1. Санкт-Петербург, 1904. С.298—304. Да зместу і гісторыі ўплыву гэтай працы параўн.: Wynar, Lubomyr R. Michael Hrushevsky's Scheme of Ukrainian History in the Context of the Study of Russian Colonialism and Imperialism // Pap, Michael S. (рэд). Russian Empire... (op.cit.). С. 19—39. Акрамя таго, параўн. высновы Грушэўскага па праблеме Украіны-Русі: Hruševs'kyj, Michael. Geschichte des ukrainischen (ruthenischen) Volkes. Bd.1: Urgeschichte des Landes und des Volkes. Anfänge des Kiever Staates. Leipzig, 1906. Галоўная ідэя найбольш значнага ўкраінскага нацыянальнага гісторыка палягала ў тым, што ўкраінскі народ меў найбольш істотную долю насельніцтва ў Кіеўскай дзяржаве: „Мы ведаем, што Кіеўская дзяржава, яе права, яе культура, былі стварэннем аднаго народа — менавіта ўкраінцаў-русі, у той час як Уладзімірска-Маскоўская дзяржава была стварэннем іншага, вялікарасійскага народа“ (цытуецца паводле: Kappeler, Andreas. Kleine Geschichte der Ukraine. München, 1994. С.35).

[161] Каля 1430 г. у Вялікае Княства ўваходзілі наступныя землі: Вільня, Горадня, Коўна, Сувалкі, Падолле, Валынь, Менск, Магілёў, Віцебск, Смаленск, Кіеў, Чарнігаў, Кацярынаслаў, Херсон, Арол, а таксама часткі Калужскай і Тульскай земляў. Усходнія межы гэтай вялікай дзяржавы сягалі на адлегласць да сямідзесяці кіламетраў ад Масквы.

[162] Маюцца на ўвазе перадусім выдачы прывілеяў рамеснікам і гандлярам, наданне магдэбургскага права (*jus theutonicum*) розным беларускім і літоўскім гарадам (Вільня — 1387 г.; Берасце — 1390 г., Коўна — 1408 г., Бельск — 1430 г., Луцк — 1432 г., Полацк — 1498 г., Менск — 1499 г.), а таксама прынятце на пражыванне і

хацеў мець „моцную дзяржаву“, якая павінна была б развівацца „цалкам незалежна ад Польшчы“ і кіравацца ўладаю літоўска-рускага караля[163]. Неабходнасць адмежавання ад Масквы, натуральна, не трэба было адмыслова і згадваць.

Наколькі абмежаваным, між тым, было веданне аўтарам крыніц і наколькі выразным быў гіпатэтычны характар яго працы, сведчаць, сярод іншага, заўвагі пра стан праваслаўнай царквы за часамі Вітаўта. Апошні — як сцвярджаецца ў кнізе — праз стварэнне незалежнай ад Кіева беларускай метраполіі меў заслугі ў справе стварэння „нацыянальнае царквы“. „Першым беларускім мітрапалітам быў Грыгор Цымвлак [рус. Григорий Цамблак]“. Насамрэч, у лістападзе 1415 г. Вітаўт меў контр-кандыдата на пасаду кіеўскага мітрапаліта, што, відаць, асэнсоўвалася рыма-каталіцкім вялікім князем як небяспека для Масквы. Гэты контр-кандыдат хоць і быў абраны праваслаўнымі епіскапамі літоўска-беларускіх земляў, але з прычыны некананічнасці выбару яго не прызнаў канстанцінопальскі патрыярх. „Беларускага мітрапаліта“, які мог стаць на чале „нацыянальнае царквы“, ніколі не было.

Створаны беларускімі гісторыкамі і публіцыстамі напрыканцы XIX і ў пачатку XX ст. вобраз вялікага князя меў вырашальнае значэнне для фармавання міфа Літвы. Як гэта ўжо мела месца ў працы Турчыновіча, у Ластоўскага літоўскія князі таксама адыгрывалі найважнейшую ролю. Эпохі пачыналіся і канчаліся дзейнасцю „вялікіх палітыкаў“. Смерць Вітаўта ў 1430 г. была пададзеная як „канец самастойнай беларускай гісторыі“:

> „Але з гэтага часу асобная гісторыя Беларусі канчаецца; гэта старонка пачынае жыць агульным жыццём перш Літвы і Русі, а з 1569 г. і Польшчы. Пачынаюцца часы штучнага збліжэння, фальшывай дружбы разам са сваркамі, недаразуменнямі і абапольнай нявераі. Змаганне за незалежнасць цягнецца яшчэ 139 гадоў. У 1569 г. Літоўска-Рускае гасударства палітычна памірае“[164].

Гэтая перыядызацыя „канца беларускай гісторыі“ супадала з тагачаснай вучонай думкай пра адыход у нябыт Вялікага Княства Літоўскага. Грушэўскі пазначаў пачатак гісторыі заняпаду сярэднееўрапейскай раўніннай дзяржавы ўжо пасля заключэння адпаведным актам літоўска-польскай крэўскай уніі 1386 г.[165]. З гэтага гледзішча „літоўска-руская дзяржава“ з самага пачатку выглядала прамежкавым рашэннем, не запоўненым ніякім гістарычным зместам. У той самы час, калі беларускія гісторыкі прывязалі „лёс“ сваёй краіны і нацыі да лёсу вялікай дзяржавы, яны мелі магчымасць выкарыстаць яе ўваходжанне ў склад Рэчы Паспалітай у якасці абгрунтавання перарыўнасці беларускай гісторыі.

Жыццяздольнасці „ліцвінскага мыслення“ таксама паспрыяла ідэя „залатога веку“ культуры, якую беларускія гісторыкі часта рабілі стрыжнем сваёй канцэп-

службу габрэяў, што пасля 1348 г. выганяліся з Нямеччыны. Па гэтым пытанні параўн.: Hellmann, Manfred. Das Großfürstentum Litauen bis 1569 // HGR. Bd.1/II. С.717—852, у гэтым выпадку гл. с.812 і наст.; таксама падрабязна гл.: Schubart-Fikentscher, G. Die Verbreitung der deutschen Stadtrechte in Osteuropa. Weimar, 1942.

163 Власт (Ластоўскі Вацлаў). Кароткая гісторыя Беларусі (op. cit.). С.25.

164 Тамсама, с.30.

165 Параўн.: Грушевський М. Історія України-Русі. Т. 4. Київ — Львів, 1907. С.184.

цыі Літвы. Хоць гэты перыяд — лічачы ад Скарынавага перакладу Бібліі да Люблінскай уніі — цягнуўся толькі прыблізна пяцьдзесят гадоў (1517—1569), менавіта ён стымуляваў развіццё фантазіі ў інтэрпрэтацыі гісторыі. Пры гэтым гісторыкі раз за разам ставілі пад сумнеў літоўскі характар Вялікага Княства. Побач з фактам пражывання даволі вялікай, у параўнанні з літоўскай, долі славянскага насельніцтва, а таксама існавання выпрабаваных формаў права на беларускіх і ўкраінскіх тэрыторыях, перадусім Я.Карскі ўсё часцей выкарыстоўваў моўнагістарычныя аргументы:

> „У эпоху літоўскага валадарства выпрацаваліся канчаткова і асаблівасці беларускай гаворкі (*наречия*) [...] Гэта быў час яе ўсебаковага развіцця. Беларуская мова, гэтак бы мовіць, пераўзышла літоўскую і стала не толькі штодзённай мовай зносін русінаў, але і афіцыйнай мовай літоўцаў“[166].

Таксама і ў апошняй „Гісторыі Беларусі“ дасавецкага часу, „Кароткім нарысе“ У.М.Ігнатоўскага, адстойвалася тэза пра беларускі характар Вялікага Княства. Паводле яго, славянска-беларускі элемент прадвызначаў характар дзяржавы. У Ігнатоўскага мы знаходзім шматлікія выказванні, якія ўмацавалі гэткае ўяўленне; пры гэтым трэба мець на ўвазе, што ў ягоным разуменні гісторыі „рускі“ заўсёды значыла „беларускі“ альбо „ўкраінскі“ („русінскі“), але не „вялікарускі“:

> „...Нашыя продкі, самыя прагрэсіўныя элементы горада, занялі значнае месца ў палітычным і гаспадарчым жыцці горада [...] Пануючым класам горада былі не прыродныя літоўцы; ён фармаваўся хутчэй з родаў тых рускіх князёў, якія ўцякалі ў Літву [...] Рускае мастацтва і літаратура квітнелі ў Вільні. Тут панавалі мір і свабода, у той час як Кіеў ляжаў у руінах, а Масква цярпела пад татарамі [...] Дзяржава толькі паводле свайго наймення была «літоўскаю»“[167].

Калі ў іншых выпадках у дачыненні да беларускага эмансіпацыйнага руху наўрад ці выпадае казаць пра нацыяналізм, дык у працах гісторыкаў ён знайшоў сваё месца. Не без агрэсіўных акцэнтаў ён раз-пораз быў скіраваны супраць Літвы, Польшчы і Расіі; таксама „міф Літвы“ ў гэткай самай ступені вызначаўся толькі *ex negativo*. Вялікае Княства і „беларускі залаты век“ утварылі стрыжань нававыпрацаванага нацыянальнага пераканання беларускіх навукоўцаў. „Гісторыя“ Ластоўскага з гэтага гледзішча належала да найважнейшых, стрыжнявых тэкстаў. Як гэта ўжо мела месца ў Карскага, мова і кнігадрукаванне адыгрывалі тут вялікую ролю. З пачуццём сатысфакцыі ад заўсёды прыгнечанай нацыянальнай годнасці Ластоўскі згадваў першыя беларускія друкаваныя выданні, што выйшлі ў Кракаве (!) у 1489 і 1491 г. — „праз 28 гадоў пасля Гутэнбергавай Нюрнбергскай Бібліі 1455 г. і за 22 гады перад выхадам першай польскай кнігі (1505 г.)“.

[166] Карский Е.Ф. Белоруссы. Т. 1 (op. cit.). С.123.

[167] Ігнатоўскі У.М. Кароткі нарыс гісторыі Беларусі. Вільня, 1919. [Тут цытаты падаюцца ў зваротным перакладзе з нямецкай мовы. — *Заўвага перакладчыка.*] Гэты нарыс беларускай гісторыі чатыры разы перавыдаваўся да 1926 г. і таму будзе падрабязна разгледжаны намі ніжэй. Пры гэтым ён штораз цытуецца паводле перавыдання 1991 г., зробленага з выдання 1926 г.

Натуральна, што аўтар не кажа пра тое, што гэта, як і здзейсненае Скарынам у 1517 г. у Празе выданне беларускага перакладу Бібліі — „праз 29 гадоў пасля чэшскага (1488 г.), аднак за 38 гадоў перад украінскім (1555 г.), 70 гадоў перад латышскім (1587 г.), 73 гады перад літоўскім (1590 г.) перакладамі" — адбылося па-за тэрыторыяй Беларусі і было б немажлівым без спрыяльных інфраструктур ды атмасферы Кракава і Прагі:

> „Мы не хочам казаць, што палякі ў тыя часы асветай стаялі ніжэй беларусаў. Але гэты факт [ранейшага выдання беларускай кнігі. — Р.Л.] паказвае на высокую культуру ў беларускага народу, катораму патрэбны былі друкаваныя кнігі ўжо ў тыя часы, калі па ўсей Заходняй Эўропе ледзьве толькі пачынала расходзіцца друкаванае слова"[168].

Калі падагульніць зробленыя назіранні, дык у дачыненні да праблемы Літоўскага Вялікага Княства, безумоўна, адлюстраваліся як метадалагічны ўзровень развіцця ранняй беларускай гістарыяграфіі, гэтак і цесная ўзаемасувязь паміж навукай і палітычна-нацыянальнымі мэтавызначэннямі беларускага патрыятычнага руху. Сур'ёзныя вынікі даследаванняў і грунтоўныя публікацыі крыніц існуюць побач з амбіцыйнымі выкладамі гісторыкаў і аўтадыдактаў, якія, зрэшты, і вызначаюць вобраз гістарыяграфіі перад 1918 г. Якраз гістарычны вобраз Вялікага Княства Літоўскага выявіў рознасць падыходаў беларускіх і расійскіх гісторыкаў. Як будзе паказана ніжэй, розумы навукоўцаў разышліся менавіта ў ацэнцы названай гістарычнай эпохі.

### 2.1.3. Балеснае пытанне пра заняпад беларускай народнасці

Беларускае нацыянальнае гісторыяпісанне з самага пачатку было летапісам заняпаду. Гэтаксама, як у выпадку з гісторыкамі шматлікіх перыферыйных нацыяў Усходняй Еўропы, даследчыкі мінуўшчыны і патрыёты з Вільні і Менска апісвалі гісторыю нацыянальнай тэрыторыі і яе жыхарства пераважна ў выглядзе вайсковай гісторыі, гісторыі войнаў і ахвяр, што, вядома ж, мусіла адбіцца на вобразе гісторыі ў цэлым. Гісторыя беларускіх земляў, пачынаючы з сярэдзіны XVII ст., ацэньвалася галоўным чынам з гледзішча нацыянальнае дэзінтэграцыі, перапыненай нацыянальнай гісторыі і дамінавання чужога. Як гэта можна было назіраць і ў дачыненні да працэсу нацыятворчасці чэхаў, венграў альбо грэкаў, нацыянальная самасвядомасць з факта пастаяннай пагрозы гістарычнага існавання нават чэрпала сілы. Войны і падзелы тэрыторыяў, „каланіялізм" і асіміляцыя адукаваных слаёў, прымусовыя канфесійныя і нацыянальныя уніі і ў тэкстах беларускіх гісторыкаў, публіцыстаў і пісьменнікаў стваралі і рабілі дамінавальным топас народа-пакутніка. Гісторыя народа стылізавалася пад адчайную бітву адступлення, якая мусіла мець сваім вынікам унутраную эміграцыю і зарыентаваную на інстынкт самаабароны нацыянальную самасвядомасць адукаванай часткі грамад-

[168] Власт (Ластоўскі Вацлаў). Кароткая гісторыя Беларусі (op.cit.). С.48. Калі ідзе гаворка пра беларускамоўныя выданні, тут маюцца на ўвазе рэлігійныя творы: „Трыёдзь Цвятиая" (1489) і „Актоіх" (1491).

ства. На гэтай падставе таксама абгрунтавана выглядала тое, што ў кампенсацыйных контр-інтэрпрэтацыях перабольшвалася значэнне міжваенных прамежкаў часу як этапаў нацыянальнае кансалідацыі і падкрэсліваўся іх сімвалічны патэнцыял для агульнага развіцця гісторыі. Да гэтага ў выпадку з беларускай гісторыяй дадавалася тое, што яе растварэнне ў культуры і палітыцы памежных дзяржаваў Польшчы і Расіі, якое мела месца з канца XVI ст., супадала з пачаткам прыхаванага пратэстнага руху, што падаваўся як „нацыянальна-вызвольны рух".

Што да Ластоўскага, дык ён увогуле назіраў сітуацыю двух франтоў. Паводле яго ацэнкі, з захопам Полацка, „сэрца Беларусі", расійскім царом Іванам Жахлівым (1563 г.) і панаваннем цягам наступных семнаццаці гадоў акупацыйнага рэжыму ўжо была абвешчаная прэтэнзія на панаванне з расійскага боку, якая з тае пары вызначыла хаду гісторыі Беларусі. Ліст быў перагнуты пасля слыннай перамогі пад Оршай у 1514 г. 35-тысячнага беларуска-літоўскага войска над васьмюдзесяццю тысячамі расійцаў. Хоць беларускія тэрыторыі яшчэ 200 гадоў заставаліся ў складзе рэчы Паспалітай, пасля польскіх падзелаў і далучэння да царскай імперыі пачалася русіфікацыя, што мусіла прадвызначыць развіццё падзеяў у XIX ст. Пры гэтым, з гледзішча Ластоўскага, не магло ісці ніякай гаворкі пра ўз'яднанне аднаго народа:

> „Тым часам бліжэйшае знаёмства паказала ўсю рожніцу зродных, але ад вякоў рожных культур, беларускай і маскоўскай. Пры гэтым выйшла, што беларусы і маскоўцы рожняцца ва ўсём, ды нават і ў самай веры праваслаўнай"[169].

Таксама і вонкавыя пагрозы (войны і акупацыя) заўсёды разглядаліся як замах на існаванне нацыі. Тое, што вызначала ацэнку і гістарыяграфічнае трактаванне сярэднявечных бітваў альбо Паўночнай вайны супраць шведаў і іх караля Карла XII, тым болей стасавалася з вялікай вайною пачатку XIX ст. Напалеонаўскія войны былі ўжо ў інтэрпрэтацыі Кіркора 1882 г. „айчыннай вайной", ад якой беларускі народ мусіў асабліва моцна пацярпець. У гэтым дачыненні асабліва дэталёва распавядалася пра ваенныя дзеянні і цывільны супраціў, дзякуючы якім Напалеонаў паход пацярпеў паразу якраз у Беларусі[170].

У той самы час другая лінія фронту праходзіла ўнутры Беларусі. Паланізацыя беларускага і ўкраінскага жыхарства, пачатак якой найчасцей датуецца часам заключэння Люблінскай уніі, у вачах пэўных гісторыкаў — прыкладам, Турчыновіча — выглядала нават „канцом беларускае гісторыі". На канфесійным узроўні езуіты — як выказаўся Ластоўскі — спрыялі „дэнацыяналізацыі праз каталіцтва". Хоць беларускім землям і пасля заключэння польска-літоўскай уніі пакідалася пэўная адміністратыўная і юрыдычная аўтаномія, пра свабоду веравызнання ў Вялікім Княстве больш не магло ісці ніякай гаворкі. У гэтым былі перакананыя таксама спецыялісты, што даследавалі гісторыю ўзаемадачыненняў у літоўска-беларуска-польскім трохкутніку. Беларускі гісторык І.І.Лапо, які паходзіў з Віцебскай губерні, а большую частку сваёй педагагічнай і даследніц-

[169] Тамсама, с.32.
[170] Киркор А.К. Исторические судьбы белорусского Полесья // Литовское и белорусское Полесье... (op.cit.). С.310 і наст.

кай дзейнасці звязаў з Дэрпцкім універсітэтам, грунтоўна займаўся пытаннямі гісторыі інстытуцыяў Вялікага Княства. Менавіта ён ажыццявіў выданне Літоўскага Статута 1588 г. на расійскай мове. У падмурку яго абедзвюх вялікіх працаў ляжала найперш тэза пра інстытуцыянальную і юрыдычную „незалежнасць літоўска-рускай дзяржавы ад Польшчы" ў межах, вызначаных Люблінскай уніяй. Сацыяльна-эканамічныя змены — перадусім асіміляцыя вышэйшых слаёў грамадства ў польска-каталіцкай культурнай прасторы — значылі для Лапо канец гісторыі Вялікага Княства. Паводле яго, шляхта, якая размаўляла па-французску і па-польску, у XVII ст. прызнала духоўнае дамінаванне Рыма: „Вышэйшыя класы адцураліся ад сваёй уласнай царквы і аддаліліся ад народа; у рэлігійным і культурным дачыненні яны наблізіліся да Польшчы і пачалі забывацца на свой нацыянальны характар"[171]. Кіркор таксама з вялікімі засцярогамі выказваўся пра наступствы 1569 г., падкрэсліваючы, што з уваходам Беларусі „ў склад польскіх вобласцяў" у „цывільным побыце Беларусі" („гражданский быт Белоруссии") шмат што памянялася[172].

„Змаганне нацыяў", паводле падагульняльнай ацэнкі Ластоўскага, уцягнула ўсе жывыя сілы народа ў барацьбу, пад час якой стаўкай былі інтарэсы польскай і расійскай нацыяў альбо праваслаўя і каталіцтва. Гэткім чынам „беларускі народ быў падзелены на дзве варожыя партыі, што, натуральна, мела вялікі ўплыў на яго нацыянальную самасвядомасць". Альтэрнатывам і кампрамісным развязанням — як у выпадку з уніяцкай царквою, — якія ён лічыў спецыфічнай рысай гісторыі беларускага народа, на яго думку, з самага пачатку было наканавана цярпець няўдачу[173]. Таксама з адценнем жалю выказваўся пра наступствы далучэння Беларусі да царскай імперыі А.К.Кіркор. Для яго, каталіка, выхадца з дробнае шляхты, асабліва значнымі далейшымі крокамі да заняпаду беларускага народа былі замена Літоўскага Статута расійскімі прававымі актамі за царом Мікалаем I, а таксама забарона ў 1839 г. уніяцкай царквы ў беларускіх губернях.

Тут упершыню выявіўся адзін з лейтматываў усёй беларускай гістарыяграфіі: вобразам гісторыі — як і ў астатняй частцы Еўропы XIX ст. — надалей заставаўся вобраз ворага. Не толькі аўтадыдакты, кшталту Кіркора альбо Ластоўскага, але і такія навукоўцы-прафесіяналы, як Доўнар-Запольскі альбо Карскі, у сваіх ацэнках польскага і расійскага панавання адназначна расстаўлялі негатыўныя акцэнты. Адхіленне „польска-каталіцкага ярма" альбо „расійскага прыгонніцтва" прадвызначылі нацыянальныя і сацыяльныя параметры крытыкі. Калі адныя выступалі супраць палітычных і культурных уплываў з боку польскай і вялікарасійскай нацыяў, дык іншыя скіроўвалі свае крытычныя стрэлы найперш

[171] Лаппо И.И. Великое Княжество Литовское за время от заключения Люблинской унии до смерти Степана Батория (1569—1581). Опыт исследования политического и общественного строя. Санкт-Петербург, 1901; *Яго ж.* Великое Княжество Литовское во второй половине XVI столетия. Санкт-Петербург, 1911.

[172] Киркор А.К. Исторические судьбы белорусского Полесья // Литовское и белорусское Полесье... (op.cit.). С.303.

[173] Власт (Ластоўскі Вацлаў). Кароткая гісторыя Беларусі (op.cit.). С.100. Пра яго погляды на царкоўную унію і уніяцкую царкву параўн.: Анцыповіч Мікалай. Ідэя уніі ў спадчыне Вацлава Ластоўскага // Б/А. Вып.4. Мінск, 1995. С.298—300.

супраць уплываў чужых элітаў на беларускіх тэрыторыях[174]. Інтэрпрэтацыя гісторыі — гэта датычыць і „западно-руссизма“ Каяловіча, і „беларусізму“ Ластоўскага — ужо задоўга да 1917 г. была моцна палітызаваная. Спрэчка пра гістарычны патэнцыял беларускай дзяржавы і існаванне беларускай нацыі адыграла ў гэтым істотную ролю.

### 2.1.4. Міф дзяржавы і нацыі

Як ужо было паказана вышэй, росквіт і заняпад у інтэрпрэтатараў беларускай гісторыі здаўна крочылі поруч. Паводле меркавання дасавецкіх беларускіх гісторыкаў, народ паміж Дзвіною і Прыпяццю з найдаўнейшых часоў меў сваю дзяржаўнасць, альбо, самае меншае, праходзіў этапы развіцця, праз якія закладваўся падмурак дзяржаўнасці. Увесну 1918 г., калі Рада БНР у сваёй Грамаце абвяшчала пра „незалежную і вольную Дзяржаву Беларусь“ і пра канец панавання на Беларусі чужынцаў, якое цягнулася „шмат сотняў гадоў“[175], міф беларускае дзяржаўнасці на нейкі час набыў трывалы агрэгатны стан. Няма ніякага дзіва, што ў тым самым годзе ён знайшоў і найбольшую колькасць сваіх пашыральнікаў. Як ужо паказвалася вышэй, крывіцкая традыцыя, якую асабліва вылучалі Доўнар-Запольскі і Ластоўскі, утварала зыходны пункт для міфа дзяржавы. Паводле гэтай версіі, у адрозненне ад памкненняў кіеўскіх князёў да цэнтралізацыі і засяроджання вялікай улады ў адных руках, суседнім утварэнням — гэткім, як, прыкладам, Полацкае княства — залежала на тым, каб адбываліся „дэцэнтралізацыя і пабудова самастойнага дзяржаўнага ўладкавання“ („самостоятельного государственного устройства“)“[176]. Беларуская дзяржаўнасць, маўляў, ніколі не пераставала існаваць — у выглядзе „Полацкай рэспублікі“ альбо „беларускага характару Літоўскай дзяржавы“, альбо „аўтаномнай беларускай правінцыі“ ў складзе Рэчы Паспалітай[177]. Сто пяцьдзесят гадоў расійскага панавання з канца XVIII ст. да [Першай сусветнай] вайны і распаду царскай імперыі ў разуменні нацыянальна арыентаваных гісторыкаў 1918 г. былі толькі перапынкам.

Выступы беларускіх гісторыкаў у 1918—1919 г. можна толькі з агаворкамі аднесці да іх навуковага даробку. Як гэта потым мела месца і ў 1991 г., беспасярэдне перад абвяшчэннем незалежнасці, спатрэбіліся гатовыя тлумачэнні гісторыі, якія павінны былі легітымізаваць і гістарычна абгрунтаваць дасягнутую і

[174] У развіццё праведзенай пазней у падсавецкай гістарыяграфіі дыскусіі пра „формулу меншага зла“ антыпольскія і антырасійскія сентэнцыі ды „вобразы ворага“ дасавецкай беларускай нацыянальнай гістарыяграфіі класіфікуюцца як тэорыя „двух зол“. Параўн.: Смалянчук Аляксандр. Паміж „двух зол“. Вобраз „ворага“ ў беларускай нацыянальнай гістарыяграфіі другой паловы XIX — пачатку XX ст. // ЛіМ, 11.10.1996. С.14—15.

[175] Тэкст, датаваны днём 28 лістапада 1918 г., быў нядаўна перадрукаваны. Гл.: Грамата Рады Беларускай Народнай Рэспублікі // Грыцкевіч А.П. (рэд.) Адраджэнне. Гістарычны альманах. Вып. 1. Мінск, 1995. С.232—235.

[176] Довнар-Запольский М.В. Очерк истории... (op. cit.). С.97 і наст.

[177] Так гэта пададзена ў кн.: Цвикевич А. Беларусь. Политический очерк. (Издание Чрезвычайной Дипломатической Миссии Белорусской Народной Республики). Берлин, 1919, у гэтым выпадку гл. с.10.

прызнаную з гледзішча міжнароднага права самастойнасць. Пры гэтым, да прыкладу, глабальныя ацэнкі Доўнара-Запольскага, якія ён сфармуляваў і апублікаваў 8 красавіка 1918 г. у Кіеве, даводзяць, што „мара" пра сваю дзяржаву і ўласную нацыю была ў цэлым вызначальнай для дасавецкай гістарычнай канцэпцыі супольнасці беларускіх гісторыкаў:

> „Мне думаецца, бадай не патрэбна даводзіць, што беларускі народ мае права на самаазначэньне й на незалежнае жыцьцё. Мы ёсьць народам, адрозным ад іншых народаў сваёй мовай, этнаграфічнымі асаблівасьцямі й агульным культурным укладам жыцьця, паўсталым гістарычна. Ужо адна гэтая акалічнасьць дае нам права на дзяржаўную незалежнасьць. З гістарычнага боку мы ёсьць нацыяй, якая толькі 150 гадоў была правінцыяй Расейскае імпэрыі. Да прылучэньня да Расеі Беларусь перажыла тры пэрыяды гістарычнага жыцьця. Да XIV стагодзьдзя яна складалася зь некалькіх княстваў, дзе кожнае зь іх мела значэньне незалежнае дзяржавы. У XIV стагодзьдзі Беларусь самахоць злучылася зь Літвою й да 1569 г. ўяўляла сабою незалежнае дзяржаўнае цела. Дый пасьля 1569 году, злучыўшыся актам вуніі з Польшчаю, Беларусь не згубіла сваіх сувэрэнных правоў, застаючыся на некалькі стагодзьдзяў фэдэрацыйнаю часткаю Рэчы Паспалітае. Яна не была правінцыяй Польшчы й захоўвала сваю дзяржаўнасьць. Мы гістарычна звыклі да вольнага ўрадаваньня, адабранага ў нас Расеяй"[178].

Падобнага кшталту выказванні вызначалі беларускае разуменне гісторыі напрыканцы сусветнай вайны. Гістарычныя распрацоўкі, здавалася, упісваліся ў створаную перадусім публіцыстамі карціну нацыянальнага вызвалення. Рэспубліка, якая быццам бы стаяла на парозе „канца нацыянальнае гісторыі", наноў аказвала зваротны ўплыў на гісторыю і яе інтэрпрэтацыю. Доўнар-Запольскі ў сваёй перакладзенай на шмат якія мовы працы „Асновы Дзяржаўнасьці Беларусі" ўказваў не толькі на традыцыю дзяржаўнасці, але і падхапіў дэмакратычныя лозунгі і заклікі, што рабіліся штораз гучнейшымі ў паваеннай Еўропе. У святле Полацкай „рэспублікі", літоўскай выбарнай манархіі, інстытута „веча", „парламенцкай уніі 1569 г.", а таксама названага парламентам Сойму Рэчы Паспалітай і яго „дэпутатаў" развіццё гісторыі Беларусі выглядала як мэтанакіраваны гістарычны працэс, а яе народ — як моцная сваімі каранямі нацыя. Натхнёны гістарычным аптымізмам 1918 г., Доўнар-Запольскі абвяшчаў: „Асновы беларускай дзяржаўнай незалежнасьці глыбока заложаны ў самым беларускім народзе і апіраюцца на моцных фундамэнтах [...]. Яны выяўляюцца ва ўсёй мінуўшчыне Беларусі [...] — і затым-то наша дзяржаўнасць павінна апірацца на дэмакратычных элемэнтах краю"[179]. Следам за пецярбургскім ліберальным навукоўцам А.Д.Гра-

[178] Тэкст узяты з артыкула М.Доўнара-Запольскага, які ён апублікаваў праз шэсць дзён пасля абвяшчэння незалежнасці БНР у 1918 г. у выданнях „Белорусское слово" і „Гоман". Тут [г.зн. у арыгінале кнігі. — *Перакладчык.*] ён цытуецца паводле прадмовы да кн.: Цвикевич А. Краткий очерк возникновения Белорусской Народной Республики. Киев, 1918. С.2 і наст. Гл. таксама: Калубовіч А. Прафэсар Мітрафан Доўнар-Запольскі й Акт 25 сакавіка // *Яго ж.* Крокі гісторыі (op. cit.). С.85—91. [У нашым тэксце цытата падаецца паводле гэтага выдання, с.87—88. — *Заўвага перакладчыка.*].

[179] Доўнар-Запольскі М.В. Асновы Дзяржаўнасьці Беларусі. Гродна, 1919. У перакладах, па-французску і па-нямецку: Dovnar-Zapolski M. Les bases de l'Etat de la

доўскім Доўнар-Запольскі прызнаваў „за кожнай народнасцю — г.зн., за кожнай супольнасцю людзей, якія гавораць на адной мове, належаць адной цывілізацыі і маюць супольнае гістарычнае мінулае — права на ўтварэнне ўласнай палітычнай еднасці, г.зн. уласнай дзяржавы"[180]. Паняцце „нацыя", якое ў Еўропе Лігі Нацыяў і пасля распаду шматнацыянальных імперыяў перажывала свой рэнесанс, па-ранейшаму выкарыстоўвалася гісторыкамі ў якасці сінонімаў паняццяў „нацыянальнасць" і „народ". Таму наўрад ці можна здзіўляцца таму, што перакананасць у існаванні беларускай „нацыі" рабіла правамерным жаданне ўласнай дзяржаўнасці і падмацоўвала гістарычныя прэтэнзіі на такую дзяржаўнасць.

З названых вышэй прычынаў робіцца зразумелым, што нацыянальная разнастайнасць беларускіх земляў наўрад ці магла быць сур'ёзна ўзнятаю да ўзроўню навуковага даследавання. Маўчанне панавала перадусім у дачыненні да габрэйскіх слаёў насельніцтва. Асобныя выказванні беларускіх гісторыкаў, да таго ж, сведчаць пра існаванне блакады эносінаў. Гэтак, у адзінай працы па гісторыі беларускіх гарадоў, якая была апублікаваная ў 1894 г., зноў знаходзяць сваё месца тыя стэрэатыпы і антысеміцкія забабоны, што дамінавалі сярод шырокіх колаў гарадскога жыхарства:

> „Тая перавага, якую тут займелі габрэі, вынікала з тых іхніх уласцівасцяў, якім яны адчувалі сябе абавязанымі ў адпаведнасці з сваім этнічным паходжаннем, што ўтварыліся за часамі бясконцых перасяленняў без бацькаўшчыны і нават паўплывалі на іх маральнае аблічча. Урэшце гэтыя рысы характару ўзгадавалі парасткі, што выявілі сябе ў пачуццях нянавісці і пагарды да хрысціянаў, а таксама ў здольнасці ў той меры, у якой гэта трэба, хаваць гэтыя нянавісць і пагарду за вонкавым спакоем альбо ліслівай прыязнасцю. Можна адгарнуць любую старонку гісторыі Беларусі, каб пераканацца ў гэтым"[181].

Я.Карскі, вядома ж, у сваіх моўна-гістарычных штудыях прызнаваў, што габрэі праз іх прысутнасць у месцах грамадскага кантакту паўплывалі на развіццё мовы беларускай часткі жыхарства. Аднак у беларускую мову, паводле яго меркавання, трапілі толькі некаторыя запазычанні паняццяў з ідыш ці са старагабрэйскай моваў. Разважаючы пра выхад па-за моўныя аспекты супольнага пражывання, аўтар у адным са сваіх нешматлікіх выказванняў пра габрэяў зазначаў:

Ruthénie Blanche. Grodno, 1919; Downar-Zapolskij M.W. Die Grundlagen des Staatswesens Weißrutheniens. Grodno, 1919. (Цытата падаецца намі паводле: Праф. Доўнар-Запольскі М.В. Асновы Дзяржаўнасьці Беларусі. Мінск, 1994. С.7. *Заўвага перакладчыка.*)

[180] Градовский А. Национальный вопрос в истории и в литературе. С.-Пецярбург, 1873. С.10. Найлепшае тагачаснае абагульненне тэарэтычнай дыскусіі па нацыянальным пытанні прапанавана ў артыкуле: Водовозов В. Национальность и государство // Формы национального движения в современных государствах. Австро-Венгрия, Россия, Германия (op. cit.). С.729—744.

[181] Цытуецца паводле: С.Г-ч. Белорусские националисты. Из жизни провинциальной интеллигенции // Северный вестник. Областной отдел. [Т.]12, 1897. №10. С.19—27; у гэтым выпадку гл. с.23. Параўн.: Стукалич В.К. [Рэц. на кн.:] Белоруссия и Литва. Очерки из истории городов Белоруссии. Изд. П. Батюшкова. Витебск, 1894.

„...Ад габрэяў беларусы запазычылі вельмі мала, бо габрэі выкарыстоўвалі сваю мову толькі ў зносінах паміж сабою, як пэўнага кшталту умоўную мову і, акрамя таго, з тае прычыны, што просты народ таксама не меў прыязнага стаўлення да габрэяў і адмаўляўся запазычваць што–кольвечы з іхняе мовы“[182].

Гісторыяпісанне яшчэ раз тут сябе выявіла як зарыентаваны на свой уласны этнас паказ „сапраўднай“ гістарычнай пупавіны. Такі падыход вынікаў з няслушнага разумення, быццам бы адсоўванне ў цень гісторыі габрэйскага, татарскага ці то літоўскага народаў павялічыць сілу ўздзеяння гісторыі сваёй нацыі.

Гэты новага кшталту кампенсацыйны нацыяналізм маладой беларускай гістарыяграфіі таксама паставіў пытанне адносна грамадзяніна беларускай дзяржавы і яго здольнасці да ўспрымання адукацыі. Беларускія інтэлектуалы ўсё часцей спрабавалі адысці ад навуковага дыскурсу, каб апладніць шырэйшыя колы насельніцтва сваімі ідэямі. Аднак брашура Ластоўскага „Што трэба ведаць кожнаму беларусу“ (1910 г.) нават у параўнанні з тым, што рабілася ў суседніх усходнееўрапейскіх краінах, выглядае унікальнай рэччу. Беларускі „абуджальніцкі“ рух паўстае тут перад вачыма назіральніка, нібы рэактыў у прабірцы[183]. Наколькі элементарнымі тут былі варункі нацыятворчага працэсу, нагэтулькі элементарна–простымі, відавочна, былі і яго сродкі. Як у беларускім катэхізісе, аўтар „Кароткай гісторыі Беларусі“ прапанаваў сваім чытачам сапраўдныя і ўяўныя істотныя прыкметы беларускасці. У дыдактычна збудаваным дыялогу ў пытаннях і адказах, якому адначасова ўласцівыя і простасць выкладу і пафас, гаворыцца пра існасць, мову, культуру, веравызнанне і гісторыю беларусаў і вызначаецца іх унікальнасць. Таксама тут паўсюдна заўважаюцца прыхаваныя крыўды антырасійскага і антыпольскага характару:

„Гісторыяй Беларусі зьяўляецца гісторыя — апісаньне барацьбы беларусаў з чужым расейскім і польскім наступам, з чужымі ўплывамі за свабоднае сваё беларускае жыцьцё, за вызваленьне з–пад чужое расейскае і польскае ўлады, пад якімі доўгі час мусіў пакутаваць наш народ“[184].

Дзеля агульнага разумення дасавецкай гістарыяграфіі істотнай рысаю выяўляецца тое, што гісторыя разглядалася як „мінуўшчына нашай бацькаўшчыны“, як „усё тое, што некалі адбывалася ў Беларусі“. Край і яго тэрыторыя, гэткім чынам, выступалі ў якасці крытэрыю таго, што мусіць быць прылічана да беларускай гісторыі. У такі спосаб магла быць узбагачаная гістарычнасць нацыі. Бацькаўшчыну — „той край, дзе мы нарадзіліся і выраслі, дзе жывуць нашыя бацькі

[182] Карский Е.Ф. Белоруссы. Т. 1 (op. cit.). С.171. Першая самастойная праца пра габрэяў у Беларусі канцэнтравала сваю ўвагу на выпадках моўнай інтэрферэнцыі, на разнастайных асаблівасцях успрымання беларусаў і габрэяў, а таксама на гістарычных забабонах і своеасбліва сцвярджала апошнія. Нават афармленне кніжачкі, якая была рэпрынтна ўзноўленая ў 1992 г., выразна выяўляла прытоеную крыўду. Артадаксальны габрэй з пэйсамі ды іншымі недвухсэнсоўнымі атрыбутамі быў паказаны ў выразна антысеміцкай працы: Бядуля З. Жыды на Беларусі. Бытавыя штрыхі. Менск, 1918.

[183] Гэткія акцэнты мы знаходзім у: Hildermeier, Manfred. Verhinderte Nationen (op. cit.). С.5.

[184] Ластоўскі В. Што трэба ведаць кажнаму Беларусу. Менск, 1910 (рэпрынт: Мінск, 1991). С.13.

і жылі дзяды, дзе жыве ўвесь беларускі народ"[185] — Ластоўскі разглядаў у сваіх разважаннях як стрыжнявую катэгорыю. Паняцці „народ" і „нацыя" ён ужываў як сінонімы. І жаданню аўтара зрабіць свае погляды як найбольш даступнымі, і квазі-рэлігійнаму характару кніжачкі адпавядала тое, што ён лічыў патрыятызм — тую „глыбокую любоў да Бацькаўшчыны і роднага кута" — „святым абавязкам кожнага беларуса". Наданню маральных якасцяў нацыянальным пачуццям служыў таксама пералік абавязкаў, вызначаных для кожнай сям'і. Як гэта было ў выпадку з „Домостроем" ноўгарадскага пратапопа Сільвестра (XVI ст.), тут быў прапанаваны звод правілаў для фармавання нацыянальнай самасвядомасці: у сем'ях трэба было гаварыць па-беларуску, шанаваць звычкі і традыцыі, купляць і чытаць кнігі і перыёдыку, трымацца сваёй вопраткі і культуры; акрамя таго, сям'я як „падмурак" нацыі мусіла мацавацца за кошт таго, што беларусы мусілі ўступаць у шлюб толькі паміж сабою; карацей кажучы, „сьведамы беларус павінен меркаваць аб усім, выходзячы з патрэбаў і карысьці беларускага народу"[186]. З дапамогай гэтай брашуры, што была выдадзена параўнальна вялікім накладам рэдакцыяй „Нашай Нівы", беларуская інтэлігенцыя зрабіла яшчэ адну спробу дайсці да пісьменных слаёў жыхарства, а праз пасярэдніцтва апошніх — і да вясковага люду. У якой ступені гэтая спроба мела поспех, застаецца няясным.

Фактам было тое, што ўласны свет пераважна непісьменных сялян існаваў па-за межамі якіх-кольвечы нацыянальных ці патрыятычных катэгорыяў. Не ў апошнюю чаргу ў выніку асаблівасцяў гістарычнага развіцця, асіміляцыі вышэйшых слаёў грамадства і адсутнасці зарыентаванай на беларускасць эліты ў вясковых жыхароў нават не было сваіх легендаў. Як засведчыў вядомы тагачасны даследчык А.Я.Багдановіч, бацька беларускага нацыянальнага паэта Максіма Багдановіча, народ беларусаў „цягам некалькіх стагоддзяў не жыў гістарычным жыццём", не меў сваёй гісторыі: „Адсюль зразумела, што ў ім заглухла і нацыянальная самасвядомасць". Прычына гэтага была для А.Багдановіча відавочнаю:

> „Тлумачэнне, на нашу думку, трэба шукаць у асаблівасцях гістарычных варункаў існавання беларусаў. Перш за ўсё, Беларусь з даўніх часоў была пазбаўленая сваёй інтэлігенцыі, гэтага светача ў духоўным жыцці народа, яго правадыра і насаджальніка новых ідэяў у масах. Яна, інтэлігенцыя, як вядома, засвоіла чужую мову і норавы, а таму зрабілася народу ўдвая больш незразумелаю: новыя ідэі самі сабою, праз сваю навізну, засвойваюцца цяжка, а выказаныя ў чужой мове яны робяцца яшчэ болей недаступнымі"[187].

Досвед войнаў і існуючая сістэма ўлады, паводле таго ж аўтара, не дазволілі і ў найноўшы час паўстаць „новай інтэлігенцыі". Абавязкі падданых перад сваімі гаспадарамі былі гэткімі цяжкімі, што „на іх выкананне ішлі ўсе сілы народа — гэтак што ў яго не заставалася ані часу на роздум і рэфлексію, ані сродкаў на вучобу, а без гэтага разумовае развіццё немагчыма сабе ўявіць". Гэткім чынам, асветніцкую ролю для вясковага насельніцтва Беларусі магла выконваць толькі хрысціян-

[185] Тамсама, с.19.
[186] Тамсама, с.25—27.
[187] Богданович А.Е. Пережитки древнего миросозерцания у белоруссов. Этнографический очерк. Гродна, 1895. С.6.

ская рэлігія. Але і тут А.Багдановіч выказваў вялікія сумненні. Для яго ўяўленні, што захаваліся ад старажытнага паганскага і набліжанага да натуральнай прыроды светапогляду, па-ранейшаму ў вялікай ступені вызначалі свет сялянскага жыцця. Культ прыроды, варажба на ўраджай, анімізм, персаніфікацыя, вядзьмарства і чараўніцтва яднялі сялян вясковай грамады больш за што-небудзь іншае[188].

Калі браць пад увагу ненацыянальную самаідэнтыфікацыю вяскоўцаў як „тутэйшых", у вочы кідаецца цікавая паралель: гэтаксама як для гэтай свядомасці існавала рэгіянальная прывязка, так і ў штодзённым жыцці селянін адчуваў сябе мацней прывязаным да ўказанняў „ніжэйшых" альбо „рэгіянальных" божышчаў. Пры гэтым ва ўяўленнях вясковай супольнасці меліся на ўвазе „больш старыя і старажытныя, больш натуральныя і арганічныя багі, ... што суправаджаюць рускі народ на ягоным гістарычным шляху. [...] Яны жылі ўнізе — не на нябёсах, а на зямлі, каля сялянскага жытла альбо і ўнутры яго"[189]. З гэтага вынікае, што як хрысціянства, гэтак і — у значна большай ступені — нацыянальныя забабоны і гістарычныя міфалагемы, заставаліся ў вёсцы другаснымі ідэалогіямі. Толькі агітацыя супраць сацыяльнай несправядлівасці — ці гэта былі „народнікі" пад час свайго хаджэння ў масы, альбо сацыял-рэвалюцыянеры — мела нейкую перспектыву ўвогуле быць успрынятаю. Сацыяльныя і нацыянальныя ідэі маглі атрымліваць паступовае пашырэнне толькі праз пасярэдніцтва новай публіцыстыкі, створанай на роднай мове, даведзенай да адукаваных сялян і іншых жыхароў вёскі (напрыклад, сельскіх настаўнікаў альбо святароў). Наступныя развагі павінны пацвердзіць і развіць гэтае дапушчэнне. Ужо цяпер мы можам сцвярджаць, што абсалютная бальшыня насельніцтва пакуль што была мала прыдатная ў якасці адрасатаў гістарыяграфіі, якая ў тую пару знаходзілася ў стадыі ўзнікнення.

## 2.2. Палітычна-гістарычныя тэксты ў беларускай публіцыстыцы

### 2.2.1. „Наша Доля" (1906)

1 верасня 1906 г., праз тры месяцы пасля роспуску першай Дзяржаўнай думы ў Вільні выйшаў першы нумар беларускамоўнай газеты „Наша Доля"[190]. Яе выдаўцы належалі да кола функцыянераў БСГ і мелі сацыял-рэвалюцыйнае заплечча. Ужо слова „доля" ў тытуле газеты выразна сведчыла пра гістарычны маштаб задуманага. З аднаго боку, яно паказвала на працяглае адчужэнне і маргіналізацыю беларусаў, а з іншага боку, яно ўсё-такі было выразам вялікай пасіўнасці,

[188] Тамсама, раздзелы I—VI. Параўн. пра гэта: Sinjavskij, Andrej. Iwan der Dumme. Vom russischen Volksglauben. Frankfurt am Main, 1990, перадусім гл. с.115—186.
[189] Тамсама, с.125.
[190] Поўная назва гучыць наступным чынам: „Наша Доля. Першая белоруская [sic!] газэта для вёсковаго і местоваго рабочаго народу. Выходзіць раз у тыдзень рускімі і польскімі літэрамі" (далей скарочана: НД). Выйшла шэсць нумароў выдання, прычым нумары 1, 3 і 4 былі сканфіскаваныя. Гл. пра гэта нядаўні артыкул: Содаль Уладзімір. Першая легальная. „Нашай Долі" 90 гадоў // Голас Радзімы, 5.09.1995. С.3—4.

падпарадкаванасці свайму лёсу ніжэйшых слаёў грамадства ды інтэлігенцыі. У першым перадавым артыкуле, падпісаным псеўданімам выдаўца газеты Івана Тукеркеса, была, між іншым, абвешчаная праграма „нацыянальнага абуджэння“, якая стала на пачатку эпохі вучонага нацыяналізму: пошук ідэнтычнасці праз асвету. Дзеля таго, каб выразна прадэманстраваць неабходнасць пераменаў, паказваліся цяжкае становішча беларускага сялянскага насельніцтва, „галеча хатаў“, цямнота і голад. У адсутнасці свабоды, паводле аўтара артыкула, таксама палягала прычына нізкага ўзроўню адукаванасці вяскоўцаў; „цямнота“ і „беспрасвецце“ былі стрыжнявымі словамі ў апісанні становішча сялянства. Выйсцем, якое прапаноўвалася аўтарамі выдання, былі адукацыя альбо асвета. Паводле іх, газеты і кніжкі, напісаныя роднай мовай, — гэта адзіная мажлівасць вывесці народ з цямноты. Людзі меліся самі зразумець прычыны сваёй галечы і ўзняць патрабаванне:

> „Дайце беларускаму народу такую кніжку, каб ён зразумеў, што ў ёй напісана. Толькі кніжка, напісаная на мове бацькоў яго, патрапіць сноп свету закінуць у цяжкое жыцьцё беларуса, толькі яна патрапіць холад і голад выжануць з мужыцкае хаты, толькі яна пакажаць яму дарогу да лепшае ясьнейшае долі“[191].

Свядомае супрацьпастаўленне сацыяльнай адсталасці і нацыянальнай летаргіі, з аднаго боку, і беларускай ідэі ды сацыяльнай справядлівасці, з другога, прыраўнанне непісьменнасці ды царскага прыгнёту тут і адукацыі ды нацыянальнага самавызначэння там вынікалі з асветніцкага пачатку гэтых працэсаў. Тое, што адбывалася ў Беларусі, ва Украіне і сярод іншых структурна слабых, не да канца сфармаваных нацыяў, можа быць ахарактарызаванае як спроба кампенсацыі еўрапейскага Асветніцтва пад знакам сацыяльна-рэвалюцыйных альбо нацыянальных ідэяў альбо як працэс знаходжання саміх сябе. Вартая ўвагі тая адкрытасць, з якой выдаўцы „Нашай Долі“ змяшчалі сваё загадзя спланаванае і прадуманае выданне ў кантэкст складаных перапляценняў, той „вялікі момант“, калі „ўсе народы гасударства Расейскага, аб'явіўшы вайну старым парадкам, напрагаюць усе свае сілы...“[192]. У гэтым сябе выразна выявіў сацыяльна-крытычны і палітычны маштаб тыднёвіка.

Палітычнае заплечча выдаўцоў і рэдакцыйнай калегіі цікавае ў тым аспекце, што тут упершыню на беларускіх землях утварылася кааліцыя палітычных і нацыянальных груп інтарэсаў. Іначай, чым гэта мела месца ў „вялікай Расіі“, дзе на гэты час сацыял-дэмакратыя трымалася інтэрнацыяналісцкіх лозунгаў, задачамі беларускіх патрыётаў былі асветніцтва, змаганне за сацыяльную справядлівасць і абуджэнне нацыянальнай свядомасці ў тых слаях жыхарства, што заставаліся „глухімі“. Таму газета была ў аднолькавай меры органам нацыянальнай асветы і палітычна-прапагандысцкім выданнем. Выдаўцы цалкам уважалі сябе за адвакатаў сацыяльнай і нацыянальнай ідэяў: „Мы верым у сьвятасьць народнае справы, мы верым у помач нашых прыяцеляў!“ Пад выглядам „прыяцеляў“ зварот адрасаваўся да чытацкай супольнасці. Выданне, відавочна, мелася абудзіць нацыяналь-

[191] Да чытацеляў // НД. №1, 1.09.1906. С.2.
[192] Тамсама.

на-матываваны масавы інтарэс, што, з прычыны нізкага ўзроўню адукацыі, сацыяльнай і — не ў апошнюю чаргу — нацыянальнай пасіўнасці вясковага беларускага насельніцтва, мусіла заставацца ілюзіяй. Праз указанне на права існавання „васьмімільённага народа" беларусам надавалася аблічча гістарычнага суб'екта; аўтары адводзілі ім месца ў сусветнай гісторыі, якое, натуральна, тут больш дакладна яшчэ не вызначалася. Характарыстыка беларусаў як адзінай нацыянальнай супольнасці і адметнай народнасці, якая аспрэчвалася тады і яшчэ працяглы час пасля таго, тут ужо была прадвызначаная. „Наша Доля" і надалей без абмежаванняў ужывала тэрміны „беларускі народ" ці таксама „беларуская нацыя".

Вонкавая форма выдання — у тэрміналогіі, мове і структуры тэкстаў выразна паказвала на дзве тэндэнцыі. Па-першае, рэдактарам вельмі залежала на тым, каб быць зразумелымі: ужываліся простая мова і празрыстая структура сказаў, дыялагічная пабудова тэкстаў і пакрокавая падача думак. Іншая тэндэнцыя сведчыла пра ўласную няпэўнасць аўтараў: цяжкасці з карыстаннем беларускай моваю; лексічныя інтэрферэнцыі расійскай мовы, а таксама арфаграфічныя і семантычныя разбежнасці: да прыкладу, ўжыванне адначасова слоў „беларус" і „народ беларусскі", а праз некалькі радкоў — і прыметніка „беларуская"[193].

Падзеі ў Дзяржаўнай думе былі істотнай тэмай для беларускай публіцыстыкі на стадыі яе абуджэння. Кожны нумар „Нашай Долі" падрабязна асвятляў найважнейшыя моманты думскіх дэбатаў; асабліва выступы дэпутатаў з беларускіх (паўночна-заходніх) губерняў. Пад уплывам расійскага сацыял-дэмакратычнага руху ў артыкуле „Што будзе?"[194] выказваліся патрабаванні, якія павінны былі выклікаць незадавальненне цэнзуры: толькі „споўніць тое, чаго дамагаецца народ, даць уласьць народным выбарным, даць агульнае, простае і тайнае выбарнае права" і толькі ў гэтым выпадку „пачне народ жыць лепшаю, шчасьліўшаю доляй!"... „Калі ж правіцельства не захоча паслухаць волі народу, то далей будзе вайна, далей будзе ліцца кроў..."[195]. У артыкулах такога кшталту нацыянальныя праблемы прыкметна адступалі ў цень перад палітычнымі амбіцыямі. Адно што праз выкарыстанне ў публіцыстыцы катэгорыяў кшталту „народ", „нацыя", „край", „народныя выбарныя", „свабода" альбо „выбарнае права", якія, да таго ж, упершыню адаптаваліся ў „мове бацькоў", беларускія калюмністы ды іхнія артыкулы павінны былі абуджаць ці падтрымліваць нацыянальныя пачуцці.

Галоўныя ідэолагі „Нашай Долі", якія пераважна стаялі блізка да сацыялістычнага руху, таксама актыўна выступалі за перадачу зямлі сялянам і за арга-

[193] Тамсама. Неістотная, з першага погляду, розніца ў напісанні прыметніка, між тым, вельмі красамоўная. Гэтая розніца сведчыць пра зусім нязвыклы на той час беларускі правапіс слова „беларускі" — як процілегласць расійскаму напісанню („белорусский"). Сваё роднае напісанне, „беларускі", прабівала сабе дарогу з цяжкасцю.

[194] Што будзе? // НД. №1, 1.09.1906. С.2—3. Ананімна апублікаваны артыкул быў напісаны Антонам Луцкевічам. Пра выступы беларускіх дэпутатаў у Дзярждуме параўн.: Zaprudnik, Jan. Political Struggle for Byelorussia in the Tsarist State Duma (op. cit.). Я.Запруднік выкарыстаў „Стенографические отчеты" пасяджэнняў думы. Адна з найноўшых прац пра дэпутатаў думы: Забаўскі Мікола, Пуцік Уладзімір. Былое і Дума. Расійская Дзяржаўная дума І склікання і яе роля ў грамадска-палітычным жыцці Беларусі // НГ, 13.12.1995. С.4.

[195] Што будзе? (op. cit.). С.3.

нізацыю гарадскіх рабочых саюзаў, якія, відавочна, мусілі набыць рысы прафесійных саюзаў. Для вясковага насельніцтва прапаноўвалася ствараць „мужыцкія саюзы" („саюзы дворных работнікаў"), якія маглі б зрабіцца моцнымі супольнасцямі „працавітай беднаты". Сацыялістычнае заплечча рэдакцыйных супрацоўнікаў відаць асабліва выразна, калі распачынаецца гаворка пра тое, што падзел людзей на багатых і бедных „ня вечны: зрабіў яго ня Бог" і што „зрабіць гэту перамену можа толькі ўвесь рабочы народ"[196]. Стратэгію гэтага кароткатрывалага выдання можна бачыць у тым, каб рабіць пасланні да нешматлікіх пісьменных людзей краю і мець спадзеў на тое, што яны вусна будуць пераказваць тэксты, інфармацыю і літаратуру аж да таго, што гэта ўсё дойдзе да вясковага жыхарства. Апошняе ўважалася за афіцыйнага адрасата газеты. Рэдактары, вядома ж, выразна сабе ўсведамлялі, што гэты адрасат быў дасягальны адно праз адукаваныя і здатныя да мабілізацыі часткі гарадскога насельніцтва. Гэтай задачы, у прыватнасці, быў падпарадкаваны асветніцка-павучальны характар газеты. У ёй нярэдкімі былі тлумачэнні такіх паняццяў, як „бібліятэка", „рэспубліка", „усеагульнае выбарнае права", а таксама заклікі, скіраваныя супраць адсутнасці палітычнай заангажаванасці перадусім у асяроддзі вясковага жыхарства[197]. Культурную адсталасць, што стаіць за гэтым фактам, аўтары перадавога артыкула трактавалі як „галоўнага ворага рабочага народу". Адгукаючыся на змены ў палітычнай расстаноўцы сілаў, што адбыліся з выбарам другой Дзярждумы, публіцысты першай беларускай газеты не хавалі сваёй роспачы. У яе апошнім нумары, які таксама апынуўся ў калізіі з цэнзураю, адзін з аўтараў пісаў, што пасля нядоўгага ззяння „сонца свабоды" вяртаецца прыгнёт і што дарэмна была пралітая кроў, калі развіваўся „вялікі асвабадзіцельны рух"[198].

Калі глядзець у цэлым, палітычныя тэксты „Нашай Долі" адпавядалі сацыялістычнай рыторыцы часу. Доля матэрыялаў нацыянальна-беларускай тэматыкі, у параўнанні з гэтым, была невялікай. Тым не менш, менавіта тут упершыню ў рэгулярна друкаваным перыядычным выданні па-беларуску пісалася пра „беларускі народ", лёс якога, паводле аўтараў гэткіх публікацыяў, быў цесна звязаны з прыгнечаным становішчам вясковага насельніцтва. Адначасова мела месца першая публіцыстычная спроба асэнсавання беларускай часткі насельніцтва як супольнасці і надання ёй гістарычнага глыбіннага маштабу. „Наша Доля" і, найперш, яе пераемніца „Наша Ніва" ўжо з пачаткам свайго выхаду зрабіліся сімваламі дзесяцігоддзя, у якім вузкая праслойка беларускіх інтэлектуалаў пачала займацца гісторыяй сваёй нацыі.

### 2.2.2. „Наша Ніва" (1906—1915)

І сапраўды, бесперапынны выхад ілюстраванага беларускага тыднёвіка „Наша Ніва", пачынаючы з 10 лістапада 1906 г., пазначыў зыходны пункт важнага для

[196] Гэтае і папярэднія цытаванні паводле: НД. №2, 15.09.1906. С.2; НД. №3, 20.09.1906. С.3 і наст.
[197] N.N. Аб выбарах у Государственную Думу // Тамсама, №5, 18.11.1906. С.2.
[198] N.N. Якая будзе дума? // Тамсама, №6, 1.12.1906. С.2.

інтэлектуальна апрацаванага паказу беларускай гісторыі адрэзку часу[199]. Пры гэтым неўзабаве зрабілася відавочным, што ў патрыятычным абуджальніцкім руху запаволена фармаванай беларускай нацыі на долю тэкстаў у першую чаргу выпадала асветніцкая функцыя, хоць у сваёй бальшыні аўтары, якія на старонках „Нашай Нівы" выказваліся па пытаннях краязнаўства і гісторыі беларускага народа, былі самавукамі. Ужо інфармацыя рэдакцыі пра свае намеры і кола адрасатаў газеты выразна сведчылі пра нацыянальна-асветніцкі характар яе праграмных установак. Тое, што было тыповым ужо для „Нашай Долі", нанова выпрабоўвалася з дапамогай больш памяркоўных і ў цэлым у большай ступені прафесійных сродкаў. „Запаліць святло ў цемры" і „данесці навуку людзям" — гэтыя мэты адпавядалі жаданням рэдактараў „Нашай Нівы":

> „Мы будзем служыць *усяму беларускаму скрыўджанаму народу*, пастараемся быць люстрам жыцьця, каб ад нас, як ад люстраў, сьвет падаў у цёмнасьць". І далей: „Мы з сваей стараны будзем старацца, *каб усе беларусы*, што ня ведаюць, хто яны ёсьць, — *зразумелі, што яны беларусы і людзі*, каб пазналі свае права і памаглі нам у нашай рабоце"[200].

Ініцыятарамі выдання былі браты Іван і Антон Луцкевічы, а таксама Аляксандр Уласаў, якія адначасова займаліся палітычнымі справамі БСГ[201]. Колькасць і жанры нашаніўскіх матэрыялаў трохгадовага перыяду дазваляюць зрабіць высновы адносна характару тыднёвіка. Інфармацыя і спосабы правядзення вольнага часу, палітыка і культура, гісторыя і сучаснасць утвараюць стрыжнявыя пункты зместу выдання. Цягам першых трох гадоў існавання „Нашай Нівы" (1906—1909) тут былі надрукаваныя 906 паведамленняў з 489 вёсак і мястэчак. Толькі за згаданы перыяд часу на старонках выдання былі змешчаныя 246 вершаў аўтарства 61 паэта і 91 апавяданне 36 пісьменнікаў[202].

Хоць наклад тыднёвіка ўвесь час павялічваўся, а кола падпісчыкаў пашыралася да памежных рэгіёнаў і нават глыбіннай Расіі, пашырэнне выдання ні ў якім разе нельга назваць масавым. Наклад памерам 3 тысячы паасобнікаў (1911 г.) ніколі не быў перавышаны[203]. Не было б перабольшаннем прызнаць за тыднёвікам нацыянальна-палітычны характар, бо патрабаванні беларускамоўнай „нацыянальнай школы" ды „нацыянальнай навукі", далейшага ажыўлення „нацыянальнай прэсы" належалі да лейтматываў публікацыяў „Нашай Нівы". Аўтары, натуральным чынам, бачылі сваёй мэтай „нацыянальнае адраджэнне"; нацыянальная гісторыя лічылася кароннай тэмай, якая дамінавала амаль ва ўсіх нумарах выдання.

[199] У кантэксце гісторыі літаратуры пра гэта гл.: Nadson, Alexander. Naša Niva // JBS 3 (1967) 3. С.184—206.

[200] Гл.: [Абвяшчэнне ад выдаўцоў] // НН. №1, 10.11.1906. С.1.

[201] Імёны і крыптанімы іншых сяброў рэдакцыі ў 1906—1915 г. называюцца ў арт.: Bergmanowa, Aleksandra. Białoruski tygodnik „Nasza Niwa" (10.11.1906—1915) // Kwartalnik Historyczny 79 (1972) 3. С.563—582, пра гэта гл. с.565—569.

[202] Звесткі падаюцца паводле: Рэдакцыя „Н.Н.". Да чытачоў // НН. №27, 1.07.1910. С.401—403.

[203] Польскі даследчык гісторыі Беларусі Марцэлі Косман сістэматызаваў спісы падпісчыкаў, гл.: *Яго ж.* Расказваюць архівы // Гісторыя і сучаснасць. Мінск, 1968. С.237 і наст.

Да адрасатаў тыднёвіка, апроч тонкай праслойкі гарадской беларускай інтэлігенцыі, належалі адукаваныя жыхары вёскі: народныя настаўнікі і вясковыя лекары, святары і арганісты, рамеснікі і пісьменныя сяляне. Пры гэтым выдаўцы „Нашай Нівы“, сярод якіх ніводзін не меў закончанай гістарычнай адукацыі, выкарыстоўвалі розныя сродкі выяўлення. Кароткія аповеды гістарычнага зместу, ілюстраваныя апісанні і юбілейныя артыкулы змяшчаліся на старонках выдання побач з навуковымі працамі альбо з передрукам першай беларускамоўнай „Кароткай гісторыі Беларусі“ ў першай палове 1910 г.

Ужо ў другім нумары тыднёвіка гістарычны інтарэс трапляе на тытульную старонку. На фоне паказу руінаў Наваградскага замка выдаўцы распавядаюць пра каранаванне Міндоўга на літоўскага караля ў 1252 г., пра пачаткі Вялікага Княства Літоўскага, калі Наваградак „быў сталіцай Літвы і Белае Русі“. Гэтае месца, паводле аўтара нататкі, таксама мае вялікае значэнне з гледзішча літаратурнае традыцыі, бо тут сваю першую адукацыю атрымаў „вялікі пясьняр нашага краю“ Адам Міцкевіч[204]. Да літаратараў мінуўшчыны ў „Нашай Ніве“ ўвогуле звярталіся з ахвотай, пры гэтым адзначалася, што беларуская мова мае выкшталцонасць для літаратурнага ўжытку. Крытыку з нагоды выдання газеты па-беларуску ие выдаўцы адкідалі, заўважаючы, што ў дадзеным выпадку гаворка ідзе не пра нейкую мёртвую мову, а пра мову *тутэйшых* беларусаў, якой гавораць дзесяць мільёнаў чалавек. Ужо само карыстанне *роднай мовай*, гаворыцца ў іншым месцы, ёсць „найкаротшай дарогаю да культурнасці“[205].

Не толькі гэтая заўвага ўвідавочнівала абарончую аргументацыйную пазіцыю аўтараў. Сацыяльна-эканамічныя праблемы, а таксама невысокі ўзровень развіцця беларускай самасвядомасці, штурхалі выдаўцоў нацыянальна скіраванага тыднёвіка ў сляпы завулак. Гэтак, усё часцей на старонках выдання, у звязку з апошнімі дзесяцігоддзямі, вяліся размовы пра невыносныя жыццёвыя варункі, нізкі адукацыйны стан насельніцтва і немагчымасць палітычнага выказвання. Адсутнасць расійскай сістэмы земстваў альбо „агульнай воласьці“ з уласнай юрысдыкцыяй, прынятай у Польшчы, маўляў, прывяла да таго, што „не было для тутэйшых людзей ніякай школы дэмакратычнага жыцьця“. І далей: „XIX век і расійскае панаваньне не прынеслі нічога добрага беларусам“, і зноў жа факт забароны ўжывання роднай мовы ды тое, што „замкамі зачынены ад сьвету вочы цёмнага народу“, выступаюць у якасці найважнейшых аргументаў, якімі абгрунтоўваецца гэткі бязлітасны прысуд.

Не без зайздрасці ў гэтым кантэксце ідуць спасылкі на супрацьлеглы парадак развіцця ў прускай частцы Літвы і на габсбургскіх тэрыторыях Украіны. Калі там, маўляў, магла свабодна развівацца нацыянальная навука, у процілегласць

[204] Шчасны. Замчышча ў Наваградку // НН. №2, 17.10.1906. С.1. Пад гэтай самай мянушкай Антон Луцкевіч рэпрэзентаваў БСГ на канферэнцыі партый сацыялістаў-рэвалюцыянераў.

[205] Вучыцель з Гродзеншчыны. Ліст да Рэдакцыі // НН. №15, 9.04.1909. С.220—221. [Надалей аўтарам, паводле яго сведчання, выкарыстоўваюцца выданні „Нашай Нівы“ на лацінцы; аднак намі цытаты падаюцца паводле: Наша Ніва. Факсімільнае выданне. Вып.1—3. Мінск, 1992—1998. — *Заўвага перакладчыка.*]

гэтаму ў Беларусі пасля 1863 г. пры кіраванні генерал-губернатара Мураўёва не існавала магчымасці свабодна пісаць і друкавацца на сваёй мове[206]. Петыцыю ўкраінскіх педагогаў Глухаўскага настаўніцкага інстытута да міністэрства народнай асветы тыднёвік перадрукаваў цалкам, тым самым падтрымліваючы іхнія патрабаванні інтэнсіфікацыі падрыхтоўкі настаўнікаў у галіне гісторыі і культуры беларускага народа[207].

Не абышлося без таго, што ў звязку з выбарамі ў Дзярждуму гаворка ўсё часцей заходзіла пра недастатковую прысутнасць дэмакратычных элементаў у грамадстве. Скарыстоўваючы розныя нагоды, аўтары нашаніўскіх артыкулаў спасылаліся на гістарычныя традыцыі іншых дзяржаў, дзе „ўсялякая справа, усялякі закон могуць сілу меці толькі з народнага сагласу, дзе народ сам упраўляецца ў сваім жыцьці, сам дагляд мае за міністрамі ды ўсемі іншымі чыноўнікамі"... „Няма там такіх парадкаў, як у нас, гдзе паны, купцы ды другія заможныя куды больш сілы на выбарах у Думу маюць, як мужыкі ды люд працоўны гарадоў". Найчасцей праз няведанне і гіпербалізаванне рэальных варункаў сацыялісты, сацыялісты-рэвалюцыянеры і радыкальныя ліберaлы спрабавалі растлумачыць заходнія канстытуцыйныя сістэмы ды іх інстытуцыі:

> „...Кожная такая грамада злучаецца ў саюз, каторы завецца *партыя*. Добра разабраўшы свае патрэбы, партыя на агульным сабраньню ўпісуець, каб усім ясна было, тую мэту, да каторай партыі ісьці трэба, а яшчэ і дарогу, каторая вядзе аж туды. [...] Дарога гэтая, каторай яна ідзе, ды жаданьні партыі — гэта называецца *праграма* [Выдзяленні зробленыя ў арыгінале. — **Р.Л.**]"[208].

З гэтай цытаты добра відаць, што выдаўцы тыднёвіка папярэджвалі няведанне палітычна-гістарычнай тэрміналогіі з боку вясковага насельніцтва. Адначасова можна зрабіць выснову, што буржуазна-дэмакратычныя спробы ўплыву на падзеі, якія мелі месца ў познецарскі час — гэткія, як выбары ў Дзярждуму — у свядомасці масаў жыхарства мусілі заставацца незразумелым працэсам. З іншага боку, мы бачым па-сапраўднаму дыферэнцыяванае ўжыванне тэрмінаў у нацыянальным пытанні. Паняцці „народ", „нацыя", „нацыянальная самасвядомасць" абсалютна натуральным чынам уводзіліся ў сістэму аргументацыі. Спасылаючыся на „народ беларусаў", яго мову, лад жыцця, звычкі і традыцыі, аўтары „Нашай Нівы" ад самага пачатку рабілі націск на тое, што гэты народ мае неаспрэчнае права „жыць, як асобная нацыя [...], развіваць сваю культуру"[209].

„Культура" тады была стрыжнявым паняццем. Публіцысты заўсёды імкнуліся наблізіцца да гэтага паняцця і вызначалі яго як пэўны фінальны стан, у якім нацыя робіцца нацыяй. Паводле гэткай інтэрпрэтацыі, у той час як беларусы ўжо дасягнулі пэўнага ўзроўню цывілізацыі, да „культуры" ім яшчэ трэба дайсці: „...*Цывілізацыю можна даць народу, а культуры даваць нельга: яе стварыць, вы-*

[206] Войцех. Зямельная справа ў Беларусі // НН. №7, 22.12.1906. С.2—3.

[207] Народны вучыцель. Аб нацыяналізацыі школы. Голас вучыцеля-беларуса // НН. №11, 16.03.1907. С.3—5.

[208] Марцін. Партыі ў Думе // НН. №10, 9.03.1907. С.4—5.

[209] Журба Янук. Беларуская нацыянальная хэўра. Ліст да рэдакцыі // НН. №7, 28.03.1908. С.3—4.

*працаваць павінен сам народ*“[210]. Са сказанага вынікае, што спосаб публіцыстычнага і гістарычнага асвятлення падзеяў насіў элементарны характар. Яго асабліва пільна трымаліся рэдактары й аўтары, калі тыднёвік меў на мэце павучальна паказаць пальцам на колішнія ды цяперашнія вонкавыя пагрозы. У адной са шматлікіх перадавіц рэдактара-выдаўца А.Уласава, апублікаванай у трэці год выхаду „Нашай Нівы“, сцвярджалася:

„Покуль беларус спаў векавечным сном, большая часьць тутэйшых рускіх і польскіх людзей лічыла яго сваім дабром, ды ніхто надта аб ім не клапаціўся. Але ж як беларус стаў трохі на свае ногі, як ён пазнаў у сабе *чалавека і грамадзяніна* [«гражданнна» (sic! — Р.Л.)], роўнага ўсім, як пачалося адрадзэньне беларусаў, пайшлі кніжкі і газэты беларускія, — вось тады заварушыліся тут і палякі, і рускія: знайшоў беларус між імі малую жменю прыяцеляў, але ворагаў — дык вялікую грамаду“[211].

Уласаў, аднак, умеў быць у сваіх закідах памяркоўным. Гістарычнае прамежкавае становішча Беларусі, а таксама яе прыналежнасць да розных сістэмаў дзяржаўнага ўладкавання ў найноўшай гісторыі прымушалі яго рабіць ураўнавальныя, кампрамісныя сцверджанні: маўляў, ад абодвух народаў беларусы атрымалі нямала важных імпульсаў. Высокі ўзровень развіцця культуры і навукі „ў вялікарусаў“, а таксама „думкі лепшых рускіх людзей аб свабодзе, аб правох чалавека“ мусілі б мець для беларусаў гэткае самае вялікае значэнне, як і арганізацыя сельскай гаспадаркі на польскі ўзор. Гістарычная блізкасць да Польшчы, а таксама значная доля польскага насельніцтва паспрыялі таму, што на беларускіх землях, нягледзячы на не найлепшыя варункі, здолела развівацца навука. Нарэшце, габрэі, на думку аўтара, зрабілі шмат, каб настроіць гандаль у беларускіх гарадах і гэтым прынеслі шмат карысці.

„І беларусам, беручы культуру ад рускіх і палякаў, няма ніякай патрэбы забываць, што яны беларусы, адракацца ад сваей нацыі і перакідацца к чужой. Беларусам патрэбна і руская мова, і, гдзе яны хочуць, польская для падняцьця жыцьця народу, для яго прасьветы, узросту культуры. Няма нашто беларусу рабіцца рускім ці палякам: ён можа астацца беларусам і астанецца“[212].

Тут упершыню ўжыты спосаб аргументавання, да якога рэгулярна будуць прыбягаць на пазнейшых этапах развіцця беларускай нацыянальнай гістарыяграфіі: „беларуская нацыя“, маўляў, ёсць зонай перакрыжавання ўплываў „станоўчых“

[210] Окліч Янка. З нашага жыцьця. Аб культурнай працы між беларусамі // НН. №16—17, 15.04.1910. С.253—255.

[211] Уласаў А. Вільня 25 апрыля // НН. №9, 25.04.1908. С.1—3. Аўтар робіць спасылкі на шматлікія крытычныя матэрыялы ў расійскай і польскай прэсе з нагоды выхаду „Нашай Нівы“: на расійскім баку кожны раз са скептычнымі, а нярэдка і з адмоўнымі выказваннямі наконт спробаў нацыянальнае эмансіпацыі беларусаў выступалі „Крестьянин“, „Окраины России“, „Виленский Вестник“. З польскага боку тое самае рабілі: „Варшавский Дневник“, „Dziennik Wileński“, „Kurjer Litewski“. Крытыку публікацыяў у названых выданнях з беларускага боку гл.: Г.Б. Наш шлях // НН. №50, 9.12.1910. С.755—758.

[212] Уласаў А. Вільня 25 апрыля (op. cit.). С.3.

гістарычных якасцяў вялікіх памежных нацыяў, негатыўныя рысы якіх, аднак, ні ў які момант гісторыі не пранікалі глыбака ў народны характар беларусаў. Тое, што тут было сфармулявана, не ў апошнюю чаргу пад уплывам дыктату цэнзуры, рэдактарам-выдаўцом „Нашай Нівы“, знайшло сваё развіццё ў 1921 г. у праграмнай нацыянальна-гістарычнай працы Ігната Абдзіраловіча, а таксама ў 1992 г. у выкладзе культурна-філасофскай канцэпцыі Ўладзіміра Конана. Новы гістарычны патрыятызм, які з 1908 г. прапагандаваўся ў розных асяродках, можна было звесці да простай формулы: „Мы — беларусы. Беларускі народ — ёсць; ён мае свае асобныя патрэбы і жаданні. Ён так сама добры, як і кожны другі“[213].

Самазапэўніванні гэткага кшталту моцна адбіваліся на змесце палітычна-гістарычных тэкстаў таго часу. Публіцысты рабілі новыя і новыя спробы як найбольш слушна асвятліць традыцыі беларускага народа і абмаляваць гістарычны лёс запаволенага нацыяўтварэння. У гэтым кантэксце аўтары часта імкнуліся да параўнання з сітуацыяй ва Украіне. У процілегласць да кампактна паказанай нацыянальнай гісторыі расійцаў і палякаў, паралелі з паўднёвым суседам ляжалі на паверхні. У кожным разе, украінская мінуўшчына таксама амаль выключна была часткай гісторыі ўзаемадачыненняў Польшчы — Літвы, Расіі — Аўстра-Венгрыі. Кантакты паміж беларускімі і ўкраінскімі інтэлектуаламі, якія, пачынаючы з 1909 г., пашыраліся таксама праз публіцыстыку, адпавядалі гэтай агульнасці лёсаў: украінскія гісторыкі займаліся беларускай гісторыяй[214]. Беларускія газеты і часопісы ўсё часцей давалі сваю газетную плошчу пад абвесткі пра выхад патрыятычных перыядычных выданняў і кніг. Да гэтага дадаваліся паведамленні беларускіх карэспандэнтаў з Украіны, у якіх ахвотна абмяркоўваліся пытанні ўкраінска-беларускіх узаемадачыненняў у гісторыі і сучаснасці.

У такіх матэрыялах было завядзёнкаю звяртаць увагу чытачоў на факты супадзення гістарычнага досведу абодвух народаў. Найбольш істотнае разыходжанне, аднак, не замоўчвалася: „...Украінская нацыянальная справа шмат больш пайшла ўпярод за беларускую, і ў гэтым нам ня скора давядзецца зраўнавацца з украінцамі“[215]. Беларускія патрыёты зноў у гэтым кантэксце ахвотна звярталіся да ідэі пра „згуртаванне дэмакратычных сялянскіх народаў Усходняй Еўропы“, як яе выказаў у 70-я г. XIX ст. украінскі даследчык старажытнай гісторыі М.П.Драгаманаў[216]. Першыя больш-менш інтэнсіўныя кантакты паміж беларускай і ўкраінскай нацыянальнай інтэлігенцыяй, трэба адзначыць, існавалі ужо ў колах санкт-пецярбургскага студэнцтва пад час рэвалюцыйных падзеяў 1905 г. Таксама на пражскім „кангрэсе прагрэсіўнай славянскай моладзі“, што адбыўся ў 1908 г., пачалі гучаць матывы братніх повязяў украінцаў і беларусаў.

213 Гэта можна знайсці ў праграме „Белорусского Общества“, групы, што напачатку гуртавалася вакол віленскага шляхціца Кавалюка, а пазней адкалолася ад „Крестьянина“. Параўн.: [N.N.] Аб „Белорусском Обществе“ // НН. №3, 15.01.1909. С.39.

214 Параўн. адзначанае ніжэй, у п. 3.3.

215 Журба Янук. Аб еднасьці між беларусамі і ўкраінцамі // НН. №13—14, 26.03.1909. С.200—202, тут цыт. с.201.

216 Пра Драгаманава, ягоныя выступы за „яднанне ўкраінцаў на падмурку ўсеагульных украінскіх нацыянальных каштоўнасцяў“, а таксама пра дзеянні ўрада параўн.: Чесноков В.И. Правительственная политика и историческая наука России 60—70-х годов XIX века. Исследовательские очерки. Воронеж, 1989. С.155 і наст.

У роўнай ступені пры падкрэсліванні гэтай сканструяванай гістарычнай лучнасці ў цэнтры ўвагі апынулася агульнасць лёсаў тых, для каго актуальнай была пагроза ўласнаму існаванню. Насамрэч, паняцце *долі, лёсу* стала адным з найгалоўнейшых тэрмінаў ранняй беларускай гістарычнай публіцыстыкі. У тэкстах выказвалася выразная думка, што індывідуальнае развіццё паасобнага чалавека, яго паходжанне, выхаванне, узлёты і падзенні жыццёвага шляху — карацей кажучы, яго ўяўна „прадвызначаны лёс" — пераносіліся на гісторыю большых людскіх супольнасцяў. На думку гісторыкаў-аматараў і публіцыстаў, нацыя праходзіла лёсападобны шлях індывіда, які заўсёды ўрачыста характарызаваўся як шлях збавення. Гэтая асаблівасць гістарыяграфіі, якая нараджалася, сведчыць пра моцна выяўленую рэлігіёзнасць яе заплечча. Паводле гэткага погляду, гісторыя і ў іншых культурных дачыненнях разумелася як вызначаны лёсам шлях, што, вядома ж, адпавядала самаўспрыманню народаў прыгнечаных ускраін, але не беларускай, і дазваляла даваць даступныя тлумачэнні. Амаль што ў нацыянал-дарвінісцкай манеры тут гаварылася:

> „Кожны чалавек, кожны зьвер, кожная птушка і расьліна маюць сваю асобную долю-нядолю, свой асобны [...] лёс. [...] ...Адзін, ці адна, будзе жыць доўга, шчасьліва, а другі, ці другая, зусім кароткі тэрмін і то пражыве ў адных муках... Усяму лёс, кажуць, прызначан пры раду... Падобна да ўсяго жывога, маюць сваю долю і лёс кожная нацыя, кожны народ і кожная старонка. Адна бывае лепш прынароўлена к жыцьцю, зваюе другіх у вайне жыцьця і жыве шчасьліва, багата, ды красуе; другая ж гіне ахвярай на полі бітвы; памаленечку выроджваецца, марнуецца, а потым зусім зыходзіць са сьвету [...] Возьмем для прыкладу нашу дарагую бацькоўшчыну Беларусь. [...] Уся гісторыя яе — адна цёмная восеньняя ноч"[217].

Раз за разам , як заклінанні, паўтараліся словы спадзеву на „духоўнае адраджэнне", на тое, што будзе знойдзена выйсце са змроку гісторыі: „Калі-небудзь мы разам з Евангеллем скажам слушныя і праўдзівыя словы: „Хто датрывае да канца, атрымае збавенне". У іншым гімне матыў збавення зусім ператварыўся ў міф уваскрасення. У велікодным спеве, напісаным С.Палуянам для „Нашай Нівы", гістарычны лёс краіны мае беспасярэднія канатацыі з Ісусавым шляхам пакут: „Хрыстос Уваскрос! Радуйся, мой родны краю. [...] Скора і ты ўваскрэсьнеш ад доўгага мёртвага сну. Вясна прыйшла і да цябе"[218]. Вельмі падобныя аргументы на Каляды наступнага, 1911 года падае аўтар першай „Кароткай гісторыі Беларусі" Вацлаў Ластоўскі, выступаючы пад псеўданімам Власт. Паводле яго, Хрыстос нарадзіўся сярод простага люду. А просты люд і простая мова, маўляў, і ёсць натуральнай праўдай свету[219]. У абедзвюх цытатах выяўляе сябе квазі-тэарэтычны падмурак тагачаснага погляду на гісторыю. У той час як нацыянальныя перакананні расійскіх альбо прускіх гісторыкаў пачатку XX ст. сілкаваліся пера-

[217] Гартны Цішка. Думкі беларуса // НН. №33, 13.08.1909. С.479—481, тут с.480. Аўтар (крыптанім Дз.Жылуновіча) пазней належаў да першых беларускіх „нацыянал-камуністаў".

[218] Палуян Сяргей. Хрыстос Уваскрос! // НН. №16—17, 15.04.1910. С.249—250, тут с.249.

[219] Власт. Хрыстос Нарадзіўся // НН. №51—52. С.662—663.

дусім ад умацаванай дзяржаўніцкай свядомасці, патрыёты нерасійскіх нацыяў ускраін імперыі сваю візію будучыні выбудоўвалі на вузкай палосцы народнай культуры і на традыцыйнай у дамадэрнавым сялянскім грамадстве веры ў Збаўцу. За гэтым стаяла неўсвядомленае перакананне, што нацыя беларусаў не адродзіцца сваімі сіламі, а толькі зможа атрымаць „збавенне". У гэткім разуменні нацыю не трэба было „вынаходзіць": яна хутчэй проста спадала з неба.

Пры гэтым былі відавочнымі прычыны існавання істотных перашкод для фармавання беларускай нацыі. У адпаведнасці з моўна-культурным азначэннем нацыі шмат якія аўтары тлумачылі гэта найперш праз страту элітай мовы і культуры. На мове публіцыстыкі ў звязку з гэтым гаварылася, што „багацейшыя станы — баяры і шляхта — перайшлі ў чужую мову, культуру і навуку, адцураўшыся ад сваіх уласных". Гэтак, гістарычныя дасягненні ранняга перакладу Бібліі ў 1517 г. — за сорак гадоў да першай польскай Бібліі — і выданні ў XVI ст. кодэкса законаў на роднай мове, якія былі абавязковымі для „ўсёй Літвы і Русі", не мелі свайго працягу[220]. Называліся не толькі прычыны ўласнай нацыянальнай адсталасці. Упершыню ў публіцыстыцы, што стваралася на беларускіх землях, а, магчыма, і ўвогуле ў Расійскай імперыі, „Наша Ніва" звярнулася да тэмы культурнага значэння малых нацыяў. Пры гэтым на першым плане не стаялі ані агульнаславянскія, ані ўсходнеславянскія інтарэсы: дыскусіі вяліся на абстрактным узроўні, пры гэтым таксама ішлі спасылкі на еўрапейскія і пазаеўрапейскія прыклады. Аўтар, які, відавочна, хацеў быць незгаданым, абагульніў нацыянальнае развіццё ў XIX ст. у тэзе наконт таго, што, маўляў, навука і культура ў гэты перыяд часу ўзбіліся на бок моцных і вялікіх, а новая эпоха індустрыі, гандлю і вялікай палітыкі цяпер пасярэднім чынам брала пад увагу малыя народы і дзяржавы. Маўляў, стала дамінаваць пазіцыя, згодна з якой у гісторыі наўрад ці ўзніклі б шкадаванні з прычыны „страты" малых нацыяў і іх далучэнне да больш магутных нацыяў, такім чынам, непазбежнае. Гэтаму „нацыянальнаму эгаізму" трэба, аднак, супрацьпаставіць „культуру малых народаў", што, натуральна, „не ёсць лёгкай і простай задачай". У кожным разе, Швейцарыя, Галандыя альбо Бельгія даказалі магчымасці дзеяння малых народаў. Таксама й Англія мелася ў сваёй каланіяльнай палітыцы ўвідавочніць, што яна як мацярынская краіна ўбачыла „культурнае і гасударсцьвеннае значэньне малых нацый, а ў Англіцкім грамадзянстве ўзрастае новы кірунак мысьлі"[221].

Напраўду, у гэты час у публіцыстычных матэрыялах можна знайсці нямала выказванняў, якія былі прысвечаныя руху за эмансіпацыю малых народаў і ў гэткі спосаб сур'ёзна падмацоўвалі тэзу Міраслава Гроха і пашыралі маштабы яе актуальнасці: у той меры, у якой навукоўцы на гэтак званым „Этапе Б" кідалі на палітычна-нацыянальную шалю вагаў не толькі традыцыйныя ўклады сваіх нацыяў, але рабілі тэмай абмеркаванняў самі вырункі існавання малых нацыяў. Таксама ліберальны славянафіл прафесар А.Пагодзін выказаўся ў звязку з гэтым у публікацыі 1910 г., звяртаючы ўвагу на „агульныя рысы нацыянальнага абуджэння" балгараў з-пад грэцкага і чэхаў з-пад нямецкага дамінавання, а так-

[220] Цітовіч Вінцук. З нашага жыцьця. III // НН. №39, 24.09.1909. С.557—559, тут с.558.
[221] [N.N.] Культурнае значэньне малых нацый // НН. №47, 19.11.1909. С.684—685.

сама сербаў і ўкраінцаў. Паводле яго, цяпер на чарзе павінны быць „беларусы, албанцы і кельты [sic! — Р.Л.][222].

Пасля гэткіх спробаў набліжэння да нацыянальнага пытання рэдакцыя „Нашай Нівы" ў 1910 г. не толькі распачала першапублікацыю першага беларускамоўнага агляду гісторыі Беларусі[223]. За нагоду для эмацыйна-ўслаўляльнага паказу гісторыі былі таксама ўзятыя юбілеі: 750-я ўгодкі св. Еўфрасінні Полацкай альбо 500-годдзе Грунвальдскай бітвы. Гістарычныя інтэрпрэтацыі былі зарыентаваныя на асобы і часта знаходзіліся на мяжы пераходу паміж міфам і рэчаіснасцю. Еўфрасіння, нацыянальная святая з Полацка, чый жыццёвы шлях зрабіўся падмуркам шматлікіх легендаў, паводле ацэнкі публіцыста Цітовіча, 750 гадоў таму дапамагла, каб Полацк узвысіўся і ператварыўся ў „сталічны горад вялікага беларускага народу". Багацці свайго манастыра яна падзяліла сярод грамады і, да таго ж, паспрыяла пашырэнню пісьменнасці. Наведванне ёю Канстанцінопаля і Святой Зямлі, яе скон у Палестыне і, урэшце, пахаванне яе мошчаў у Ерусаліме падаюцца як доказы далучанасці да сусветнай культуры і гісторыі беларускіх земляў у старадаўнія часы[224].

500-я ўгодкі сакрушальнай паразы Тэўтонскага ордэна, нанесенай польска-літоўска-беларускімі войскамі пад Танэнбергам (Грунвальдам), якія сталіся нагодай, перадусім у Польшчы, для ўзвядзення шматлікіх помнікаў і правядзення імпрэзаў ушанавання Ягайлы, далі беларускім гісторыкам магчымасць аддаць даніну памяці „свайму" вялікаму князю Вітаўту і Вялікаму Княству *in toto*. Тут не першы раз звярталася ўвага на тое, што сярэднявечнае дзяржаўнае ўтварэнне „тады было яшчэ Літоўска-Беларускае гасударства, была свая „гасударсцвенасць", свая культура", пакуль „прайшлі вякі, перамянілася з 20 пакаленняў". Пашанотліва гледзячы ў мінулае, на абаронцаў „старадаўняй радзімы", апелявалася да любові да Бацькаўшчыны тых пакаленняў, што жывуць; пры гэтым пад Бацькаўшчынай разумелася зусім не царская імперыя:

> „...Людзі любяць сваю старыну, памінаюць справы сваіх пра-прадзедаў, каторыя клалі свае галовы за нашу старую бацькоўшчыну. Мы, іх унукі, памінаем іх, заду-

[222] Голас праф. Пагодзіна аб нацыянальнай справе // НН. №9, 25.10.1910. С.138—139. Сапраўды найноўшыя даследаванні мелі сваім плёнам манаграфіі і параўнальныя штудыі пра нацыянальную самаідэнтыфікацыю ўсходнееўрапейскіх народаў на зыходзе XIX і ў пачатку XX ст., сярод якіх вылучаецца праца Гроха: Hroch Miroslav. Die Vorkämpfer der nationalen Bewegung bei den kleinen Völkern Europas. Eine vergleichende Analyse zur gesellschaftlichen Schichtung der patriotischen Gruppen (Acta Universitatis Carolinae Philosophica et Historica, Bd.24). Praha, 1968. Polska Akademia Nauk. Instytut Historii (wyd.). Polska, czeska i słowacka świadomość historyczna XIX wieku. Wrocław etc., 1979; Breyer, Richard. Geschichtsbewußtsein in Polen // Hauser, Oswald (рэд.). Geschichte und Geschichsbewußtsein. Göttingen—Zürich, 1981. С.348—377; Berzins V., Ronis I. Nationale Identität als historischer Faktor in Lettland am Anfang des 20. Jahrhunderts // Das Geschichtsbild in Ostseeländern (op. cit.). С.11—22. Тут добра відаць, што працэс фармавання нацыі ў славакаў і латышоў развіваўся падобным чынам.

[223] Власт. Кароткая гісторыя Беларусі // НН. №1 і наст., 1.01.1910. С.5 і наст. Аўтарам быў Вацлаў Ластоўскі.

[224] Цітовіч Вінцук. Сьвятая Еўфрасіньня, княжна полацкая // НН. №20, 13.05.1910. С.308—309.

маўшыся. Бо ці памянуць нас добрым словам нашы ўнукі? Ці спаўняем мы ўсю павіннасць грамадзянскую для нашай бацькоўшчыны?“[225].

Мабілізацыйная функцыя гісторыі ў сэнсе запозненага Асветніцтва і пачатку нацыятворчага працэсу была цяпер выразнейшаю і элементарнейшаю, чым калі-кольвечы раней і яскрава выявіла сябе ў выказваннях кшталту прыведзеных вышэй. На падвойным узроўні ўздзеяння маладая гістарыяграфія звяла разам спробы нацыянальна-гістарычнай падстрахоўкі і палітычныя амбіцыі аўтараў.

У беларускі юбілейна-ўшанавальны канон былі нават уключаныя сімвалічныя постаці ўкраінскага нацыянальнага станаўлення. 50-я ўгодкі з дня смерці ўкраінскага асветніка і пісьменніка Тараса Шаўчэнкі, які, з гледзішча аўтараў „Нашай Нівы“, быў перакананы ў „роўнасці ўсіх славянскіх народаў“, хацеў знесці прывілеі вышэйшых станаў і выступаў за свабоду слова і свабоду веравызнання, сталіся таксама і ў Беларусі нагодай для нацыянальнага ўшанавання: маўляў, беларусам Шаўчэнка гэткі дарагі, бо ён паўстагоддзя таму выказваў тыя думкі, паводле якіх „мы сёньня спрабуем жыць“. У невялікім артыкуле „Тарас Шаўчэнка і беларусы“ гэта падкрэслівалася яшчэ больш выразна. Тут сцвярджалася, што беларусам літаратура ўкраінцаў заўсёды была найбліжэйшаю. Гэтая блізкасць выпрацавалася „з шматвяковага супольнага літаратурнага жыцця і з супольнага гістарычнага лёсу“. Захоплена гаварылася пра „супольную кніжную мову“ і, адпаведным чынам, „супольную літаратуру“, якая, маўляў, існавала да XVIII ст., перш чым абодва народы пайшлі сваімі ўласнымі дарогамі, а іх літаратуры падзяліліся. Прытым аўтары падкрэслівалі, што ўкраінская літаратура і ўкраінскі тэатр сярод усіх славянскіх народаў найперш звярталіся да сацыяльных тэмаў. Беларусам за кароткі тэрмін наўрад ці было магчыма, паводле гэтых меркаванняў, пераадолець сваё адставанне ў гэтым[226]. У згаданым юбілейным нумары гаварылася таксама пра цесныя асабістыя стасункі паміж Шаўчэнкам і „беларускім пісьменнікам Янам Баршчэўскім“, якія мелі свой пачатак у 1839 г. у Пецярбургу. Са сказанага вынікае, што аўтары былі зацікаўленыя ў тым, каб прадоўжыць украінскія і польскія[227] ланцужкі традыцыяў, далучыць да іх беларускую гісторыю і хоць бы часткова вырашыць пытанне і без таго праблематычнага тэрытарыяльнага размежавання ў гісторыі і сучаснасці.

Аўтары выкарыстоўвалі не толькі тэмы з гісторыі і літаратуры, каб давесці знітаванасць сваёй нацыянальнай, поўнай сімвалаў сістэмы. Яны былі вельмі зацікаўленыя ў тым, каб прэзентаваць уласную біяграфію як частку генезы беларус-

[225] [N.N.] „1410—1910“ // НН. №28, 8.07.1910. С.417—418.

[226] Параўн. тэматычны матэрыял: У 50-летнюю гадаўшчыну сьмерці Тараса Шаўчэнкі, а таксама абодва артыкулы: Бульба А. Памяці Тараса Шаўчэнкі; Зямкевіч Рамуальд. Тарас Шаўчэнка і беларусы // НН. №8, 24.02.1911. С.113—119 — усе цытаты, што тут падаюцца і пераказваюцца.

[227] Пра біяграфію Яна Баршчэўскага гл. артыкул у: ЭГБ. Т.1. Мінск, 1993. С.314. Тут, у кожным разе, гаворка ідзе пра „беларускага і польскага пісьменніка“. Каля 1911 г. беларускія публіцысты насамрэч убачылі ў Яне Баршчэўскім „першага беларускага пісьменніка XIX ст.“ — параўн.: Зямкевіч Р. Ян Баршчэўскі, першы беларускі пісьменнік XIX сталецьця. Вільня, 1911; кароткі выклад працы таксама ў: НН. №51—51. С.670—674.

кага вучонага саслоўя, каб яе зноў-такі ўлучыць у найноўшую гісторыю беларускай нацыі як „перыяд адраджэння". Напрыканцы 1911 г. прадстаўнікі беларускага адраджэнскага руху канстатавалі ўтварэнне „беларускай інтэлігенцыі":

> „Калі беларускі нацыянальны рух толькі пачынаўся, гэта быў рух чыста сялянскі: васьмімільённая сялянская грамада першы раз падала свой голас, пачала сама гаварыць аб сваіх справах, выказваючы свае думкі так, як было найлягчэй — у роднай беларускай мове.
>
> За наш народ лішне доўга гаварылі другія: або зусім чужыя людзі, або тыя сыны беларускай вёскі, каторыя «выйшлі ў людзі» і на сваіх сярмяжных братоў глядзелі зверху ўніз. Ведама, ні адны, ні другія не маглі пераказаць таго, што думае і чаго хоча народ..." [228].

## 2.2.3. Іншыя перыядычныя выданні й іх бачанне гісторыі

У той меры, у якой інтэлігенцыя прэзентавала сябе на сцэне публічнага жыцця і з заснавальніцкай ліхаманкай стварала таварыствы, ператварала жылыя пакоі ў выдавецкія памяшканні і рыхтавала публікацыі, яна нязменна ўспрымала і паказвала гэты энтузіязм як частку руху гістарычнай эмансіпацыі. З гэтага гледзішча актыўныя інтэлектуалы разумелі сябе саміх як частку найноўшай беларускай нацыянальнай гісторыі. У сапраўднасці, аднак, яны яе напаўнялі зместам. Гэтаксама, як у іншых гарадскіх цэнтрах Цэнтральнай і Усходняй Еўропы сваё слова пачалі прамаўляць нацыянальныя меншыні, цяпер і на беларускіх землях царскай імперыі ўзнік маладабеларускі рух, які ўключаў у сябе групу з гэткім самым імем у Санкт-Пецярбургу. Беларускія студэнты расійскай сталіцы, дзякуючы ініцыятыве якіх таксама з'явіліся публікацыі, зрабілі ў год пачатку Першай сусветнай вайны спробу выдання другога перыядычнага выдання пад назвай „Раніца".

У першым нумары, які праз вонкавыя акалічнасці не меў працягу, былі яшчэ раз названыя найважнейшыя задачы беларускай інтэлігенцыі. Ва ўводным матэрыяле „Нашыя шляхі" нейкі Карпа Гол-скі зазначаў, што „беларуская інтэлігенцыя і народ ідуць рознымі шляхамі". „Інтэлігент з народа" ў значнай ступені не выконвае свайго абавязку „весці ў лепшую будучыню" народ. Аўтар, які, відавочна, тут выступаў пад псеўданімам, карыстаўся гэткімі паняццямі, як „Бацькаўшчына", „родны край", „родная мова". Ён выразна ўскладаў на інтэлектуалаў і „адукаваных сыноў краю" „адказнасць перад бацькамі". Часопіс мусіў таксама засведчыць прэтэнзіі на беларускую аўтаномію: „Хіба не надышоў час, каб мы выступалі як беларусы, баранілі свае правы, сваю культуру ды нацыянальнае абнаўленне?"

Гісторыя й культура беларускіх земляў робяцца найважнейшымі аргументамі пры абгрунтаванні гэткіх прэтэнзіяў: „Глядзіце, цэлая краіна са сваім багаццем, са сваёй цікавай гісторыяй!" Злучнасць беларускіх студэнтаў у Санкт-Пецярбургу бачыла сваю задачу ў тым, каб „узбагаціць нацыянальны рух і разумна паспрыяць

[228] Гл.: А-н-а [Антон Навіна. — Р.Л.]. З нашага жыцьця. „Маладая Беларусь" // НН. №44, 3.11.1911. С.566—568. Гаворка ішла пра паведамленне пра пецярбургскую выдавецкую суполку „Маладая Беларусь", якая цесна супрацоўнічала з выдаўцамі суполкі „Загляне сонца і ў наша ваконца" і напачатку карысталася плошчамі апошняй.

яго культурнаму і свабоднаму развіццю"[229]. У іншым месцы гаворка ішла пра „сотні і тысячы гадоў". Маўляў, ніводнае пакаленне не жыве дзеля сябе, заўсёды існуюць повязі ад дзядоў да ўнукаў... Канец гэтага ланцуга мае сягаць у далёкую неагляднную будучыню. Заклікі кшталту таго, што вынесены ў загаловак эсэ „Азірнемся!", таксама выконвалі сваю нацыянальна-абуджальніцкую і гістарычную функцыю[230]. Гэтае ўражанне, апроч таго, узмацнялася патрабаваннямі пашыраць нацыянальныя арнаменты, ствараць зборы ілюстрацыяў, фатаграфіяў, малюнкаў будынкаў у Беларусі і г.д., а таксама выдаваць слоўнікі і зборы песняў. Праз гэта пецярбургскім актывістам нацыянальнага руху хацелася „паказваць наш стыль". Таксама зноў павінны былі запісвацца народныя песні[231].

У звязку з невысокім узроўнем адукаванасці вясковага насельніцтва, нешматлікасцю шляхоў інфармацыйных кантактаў горада з вёскаю, а таксама ўвогуле адсутнасцю патрэбы ў інфармацыі, у першых публіцыстычных выданнях утрымлівалася вялікая доля мастацкіх тэкстаў. Перадусім малая апісальная проза, у большыні прывязаная да сялянскага асяроддзя, паспрыяла таму, што чытальнікам гэтых выданняў аддавалася ўвага з Вільні. У паведамленнях з месцаў таксама раз за разам падаваліся канкрэтныя выпадкі — да прыкладу, прыгоды паасобных сялян пад час вырашэння пытання аб выдачы зямлі альбо іх спрэчкі з адносна нядаўна створаным сялянскім банкам. Гэтаксама папулярнымі былі пэўныя гісторыі з працягам, у якіх існавалі скразныя героі, кшталту селяніна Мацея. Ужо ў „Нашай Долі" публікаваліся шматлікія вершы. Такія аўтары, як Якуб Колас альбо Янка Купала, што належалі да выдаўцоў віленскіх перыёдыкаў, друкавалі тут свае першыя тэксты і зрабіліся ў той час палітычнымі пісьменнікамі ды публіцыстамі, якія самі, можа, найбольш упарта шукалі апірышча ў сваіх перакананнях адносна разумення сутнасці і гісторыі сваёй радзімы. Мастацкія тэксты ў палітычных тыднёвіках утваралі найважнейшае звяно повязі паміж багатай беларускай народнай культурай XIX ст. і амбіцыйнымі нацыянальнымі памкненнямі новай інтэлігенцыі.

Калі не браць пад увагу нешматлікія пісьмовыя помнікі паэтычнага апісання роднага краю XIX ст., прастора, пражывання беларусаў ніколі не лічылася „прыдатнай да літаратурнага альбо гістарычнага асэнсавання". У гэтым дачыненні нічога не памяняў выхад першага нумару „Нашай Долі", у якім Якуб Колас адразу ж выступіў з паэтычным зваротам „Наш родны край"[232]. Паўтораная ў назве верша афіцыйная адміністрацыйная назва „край" толькі яшчэ выразней выявіла далягляд аўтара. Якуб Колас і іншыя творцы не былі паэтамі гістарычна сталай, вызначанай у культурных і палітычных межах „Бацькаўшчыны". Іх песнііжальбы хутчэй апісвалі прыроду „бядотнага краю", які, да таго ж, паказваўся як

[229] Гол-скі Карпа. Нашыя шляхі // Раніца. Думкі беларускай студэнцкай моладзі. Санкт-Пецярбург, чэрвень 1914. С.1—2.

[230] Будзіловіч Л. Азірнемся! // Тамсама, с.2—5.

[231] К.Д. Праца і навука // Тамсама, с.6—8.

[232] [НД. №1, 1.09.1906. С.7.] Падобную танальнасць маюць вершы „Асеньні вечар" Якуба Коласа і „Вецер" Дзядзькі Пранука — гл.: Тамсама. №2, 15.09.1906. С.7. Параўн. таксама: Neureiter, Ferdinand. Weißrussische Anthologie. Ein Lesebuch zur weißrussischen Literatur (mit deutschen Übersetzungen). München, 1983. С.69 і наст.

„забыты Богам край" — гэта значыць, край, „забыты гісторыяй" альбо „безгістарычны". Матыў безгістарычнасці краіны гучаў у большасці тэкстаў і паўтараўся ў выглядзе вобразаў кшталту: „крыж хваёвы пры дарозе", „як у вастрозе", „могілкі", „нуда" ці яшчэ „цемната"[233]. Родны край рабіў уражанне „сіраты". Гэтае дзіця-сірата выкарыстоўваецца Коласам у якасці вобраза страчаных каранёў і гісторыі краіны. Гэткія, як згаданыя вершы, тэксты і, з іншага боку, палітызаваная і амбіцыйная публіцыстыка выразна сведчаць пра тое, што выхад „Нашай Долі" і „Нашай Нівы" насамрэч быў паваротным пунктам, у якім стаялі побач пільныя сацыяльныя патрабаванні і ўсё яшчэ актуальная нацыянальная нявызначанасць, няпэўнасць ды элегічная адасобленасць. У 1908—1914 г. усяго разам выйшла 77 кніжак на беларускай мове, агульны наклад якіх не перавысіў лічбы 226 660. Да імпрэзаў, арганізаваных творчай нацыянальнай інтэлігенцыяй, належалі таксама „беларускія вечарынкі", праз якія ў пэўнай меры пачынала стварацца патрыятычная культура салону, што, натуральна, абмяжоўвалася прасторай нешматлікіх жылых памяшканняў ды невялікай колькасцю асоб-удзельнікаў[234].

Аднак не толькі сацыял-патрыёты нашаніўскага кола, санкт-пецярбургскія супрацоўнікі выдавецкіх суполак ды беларускія паэты ў гэты час скіравалі ўвагу сваіх артыкулаў і вершаў на тэмы „нацыя" і „гісторыя". Група з простай назвай „Biełarus", што дзейнічала ў каталіцка-касцельным віленскім асяродку, з сярэдзіны 1913 г. выдавала аднайменны „каталіцкі тыднёвік", лейтматывам выхаду якога было выказванне Ісуса Хрыста: „Мне шкада гэтага люду, бо, акрамя яго, іншага я не маю". Праектуючы сваё выданне аналагічна большай накладам „Нашай Ніве" — змяшчаючы інфармацыю, аўтарскія пазіцыі, кароткую прозу і лірыку — выдаўцы гэтага тыднёвіка рабілі націск на неабходнасць адукацыі беларускага народа. Пад лозунгам „Абудзіцеся!" аўтары заклікалі несці народу асвету, „казаць яму праўду". Першымі павінны былі сказаць сваё слова навукоўцы, каб наблізіць народ на ягонай роднай мове да гісторыі, культуры і адукацыі[235]. Гэткім чынам, і тут праграмнымі мэтамі абвяшчаліся пераадоленне непісьменнасці і асвета. Стрыжнявымі словамі былі „Адраджэнне", „адукацыя", „інтэлігентнасць і розум". „Асвечаны і разумны чалавек" проціпастаўляўся „неадукаванаму, цёмнаму"[236]. Прычыну гэтай, здавалася, непераадольнай супярэчнасці аўтары бачылі ў гісторыі:

> „І не дзіва — тры сталецці цяжкага жыцця адбіліся на душы беларусаў. Не меў ён свабоды нацыянальнай і грамадзянскай, не меў свабоды жыцця палітычнага..."[237].

[233] Ф.Нойрайтэр перакладае слова „цемната" як *Rückständigkeit* — гл.: Тамсама, с.70. Якуб Колас аб'яднаў гэтыя ды іншыя вершы ў зборнік пад назвай „Песьні-жальбы" і змог яго апублікаваць у 1910 г., адбываючы трохгадовае пакаранне ў турме. Яго арышту папярэднічала канфіскацыя кніжачкі ўжо ў лістападзе 1908 г., на загад санкт-пецярбургскага камітэта друку. У пецярбургскую Судовую палату пастанова аб канфіскацыі была пададзена з абгрунтаваннем, што, маўляў, некаторыя вершы мелі „злачынны змест". Параўн.: Документы и материалы... (ор. cit.). С.295 і наст.

[234] Гл. па гэтым пытанні: Беларускія вечарынкі // ЭГБ. Т.1. Мінск, 1993. С.460[—461].

[235] P-ko. Para ustawać// Biełarus. №20, 18.07.1913. С.20. Газета мела падзагаловак: *Tydniowaja katalickaja hazeta.*

[236] D. A-ko. Nie zważajmo! // Тамсама, №29, 9.10.1913. С.1—2.

[237] Klonowicz, Karol. Pa naszych wioskach. II // Тамсама, №33, 7.11.1913. С.1.

Гэтыя тры стагоддзі, з гледзішча аўтара, праходзілі пад знакам польскага і расійскага дамінавання. Натуральна, што эпоха да ўтварэння Рэчы Паспалітай (1569 г.) услаўлялася як час неабмежаванай беларускай дзяржаўнасці, „залаты век". Да названага моманту Беларусь, маўляў, увесь час належала да Літвы, а жыхары называлі сябе *русінамі*, *рутэнамі* ці *беларусамі*, часткова таксама ліцвінамі. Велікарусаў, аднак, называлі пагардліва *маскалямі* альбо *маскавітамі*, а палякаў — *ляхамі*. Калі верыць этналагічным даследаванням пачатку XX ст., гэтыя тэрміны насамрэч ужываліся для самаазначэння розных этнасаў. Другі этап аслаблення беларускай культуры і дзяржаўнасці звязваецца аўтарамі выдання з 1696 г., калі Варшаўскім соймам было вызначана, што „...пісар павінен пісаць па-польску, а не па-руску" („...pisarz powinien po polsku, a nie po rusku pisać"). Інтэрпрэтатары пры гэтым не забываліся падкрэсліць, што словы „па-руску" не мелі значэння „па-расейску", а, вядома ж, „па-беларуску" і што ў канцы XVII ст. была ўзаконеная забарона беларускай мовы як афіцыйнай[238]. Увогуле, гісторыя заняпаду беларускасці, заўсёды цесна звязанай з роднай мовай, была цэнтральнай тэмай. Каталіцкае выданне, акрамя таго, надавала вялікае значэнне факту, што цягам мінулых стагоддзяў была абмежаваная свабода веравызнання. Падзелы Рэчы Паспалітай і палітыка Мікалая I здаўна ўспрымаліся і інтэрпрэтаваліся як стрыжнявыя падзеі ў звязку з гэтым.

Без сумневу, такія гістарычныя тлумачэнні мелі характар папулярных. Кола чытачоў павінна было пазнаёміцца з паняццямі, якія, на думку аўтараў, мусілі ўвайсці ў тэзаўрус нацыянальнае ідэнтычнасці. Усё часцей сам тэрмін „Беларусь" рабіўся аб'ектам дыскусіі альбо данавуковых гіпотэз. Тым часам факты сведчаць, што тэорыі і легенды пра паходжанне назвы „Беларусь" — светлыя вочы і валасы, белая вопратка сялян альбо і белізна бяроз і вольхаў[239] — захаваліся ў выкладах гісторыі аж да канца XX ст. і ў гэтым сэнсе насамрэч у аднолькавай меры адлюстроўвалі стан ведаў і ўзровень адукацыі.

Дэкламацыйным тонам і цалкам у духу нацыянальнага *enlightening* (Асветніцтва), якое таксама брала пад увагу неабходныя спрошчанні дзеля дыдактычных мэтаў, выдаўцы беларускага публіцыстычнага органа рэзюмавалі:

> „Кажу: «народ», бо каб быць *народам*, трэба мець сваю гісторыю, сваю мову і свой аддзельны нацыянальны характар — а гэтае ўсё беларускі народ мае, значыць, ён — народ.
>
> А калі народ, то мае свой аддзельны, нацыянальны характар, то і развіццё яго павінна быць аддзельнае, адменнае ад развіцця другіх народаў, бо павінна аперціся на яго адменным нацыянальным характарам.
>
> А для развіцця народаў, як сведчыць гісторыя, найбольш памагае нацыянальная, народная сведамасць — без гэтай сведамасці не патрапіў развіцца яшчэ ні адзін народ..."[240].

Прыклады гэткага кшталту, а перадусім ніжэйпрыведзеныя выказванні, сведчаць пра тое, што і на беларуска-літоўскіх землях з іх слабой структурай аргані-

[238] Klonowicz, Ryhor. Nowaja pucina. II // Тамсама, №8, 20.02.1914. С.1—2.

[239] Так лічыць таксама Wincuk — гл.: Тамсама, с.2.

[240] Klonowicz, Ryhor. Nowaja pucina. III // Тамсама. №9, 27.02.1914. С.1—3, у гэтым выпадку гл. с.2.

зацыі інтэлектуальнага жыцця, дзе да 1918 г. не было ніводнага універсітэта, каля 1914 г. існавала вызначаная тэрміналагічная прастора, у межах якой публіцысты і аўтадыдакты-навукоўцы пачыналі адчуваць сябе досыць упэўнена і якая адначасова была тэрыторыяй, дзе можна было імітаваць еўрапейскі нацыянальны дыскурс ці, прынамсі, тое, што пра яго магчыма было ўведаць. Паняцці „народнасць", „патрыятызм" і „нацыяналізм" каля 1914 г., напярэдадні Першай сусветнай вайны, належалі да слоўніка беларускай інтэлігенцыі.

Папулярны ў той час у Нямеччыне ды некаторых іншых краінах тэрмін „народнасць" (*Volkstum*), які, несумненна, сваімі каранямі сягаў у гердэраўскае Асветніцтва і ў нямецкі ды расійска-славянафільскі рамантызм, разумеўся тут як „цэласная супольнасць людзей, паяднаных паміж сабою агульнай мовай, нацыянальным характарам, звычаямі, а таксама супольнай тэрыторыяй (зямлёй)". У той час як „народнасць — па-нямецку гэта цалкам можа быць інтэрпрэтавана як „Nationalität" (*нацыянальнасць*) — можна вызначыць як „узятыя разам агульныя прыкметы, якія вылучаюць пэўны народ і адрозніваюць яго ад іншых народаў", паняцце „народ" павінна разумецца як „*грамада* людзей", „якія кампактна жывуць на пэўнай тэрыторыі і маюць шмат агульнага паміж сабою". Да нязменных тэмаў беларускага краязнаўства таго часу належала прылічэнне беларускай нацыі да шэрагу старых еўрапейскіх. Як і кожная з апошніх, беларусы мелі ўласны гістарычна ўзгадаваны нацыянальны характар, які, аднак, з самага пачатку не мог нічога супрацьпаставіць іншым народам і пастаянна запрашаў іншыя народы, каб тыя ўладарылі над насельніцтвам беларускіх земляў:

> „... Бачым лёгкі, паэтычны і вольны, як веснавы вецер, характар француза; цяжкі, на выгляд непаваротлівы, кіраваны заўсёды розумам і карысцяй характар немца; бачым планавы, неўгамонны ў тарговых інтарэсах і таксама павольны і заўсёды абдуманы характар англійца; мы ўглядаемся такжа штодня на хітры, баязлівы, крыху гультаяваты, загнаны, кіруючыся карысцяй і халодным рахункам наш беларускі народ. Народ гэты сваім характарам розніцца ад лёгкага, самахвальнага, жывога і прыемнага характару паляка, ад шырокага, бойкага і рагатага характару задзіракі-расейца, ад задумчывага, павольнага, а падчас і вясёлага характару ўкраінца — усё гэта розніць адзін народ ад другога і праводзіць граніцу паміж адной народнасцю і другою.
>
> І той народ, каторы мае ў сваём характары болей добрых (пазітыўных) прыкметаў, даючых яму перавагу над характарам другога народу, асілівае ў канцы, дзякуючы сваёй вытрымаласці і здольнасці да супраціву, другія народы і падбівае пад сваё панаванне. З гісторыі мы бачым, што народы, кіруючыся розумам і практыкай, не толькі самі выбіваліся наверх, але яшчэ падбівалі другія народы, жывучыя сэрцам ідэяй; тыя ізноў падбітыя народы стараліся выбіцца із-пад цяжкага ярма, узложанага на іх праз дужэйшых — і згэтуль-та век-вякоў ідуць войны, войны за вольнасць чалавека"[241].

Пры гэтым, вядома, гаворка ішла пра стэрэатыпы ўзаемаўспрымання і літаратурнай традыцыі. Гэткага кшталту выказванні зноў і зноў дазвалялі рабіць выснову, што тэрміналагічная сістэма ў той час яшчэ ўключала ў сябе катэгорыі, якія выходзяць за межы навуковага аналізу. Акрамя таго, характару выдання

[241] *Яго ж.* Narodnaść i wojny // Тамсама, №50, 11.12.1914. С.1—2.

адпавядала тое, што ў ім народнасць абвяшчалася паняццем „свяшчэнным і Богам дадзеным“, якое не можа быць разбурана. Ад народнасці меў адрозніваццa патрыятызм, любоў да Бацькаўшчыны. А яна, маўляў, знаходзіцца там, „дзе чалавек быў народжаны, узгадаваны, дзе жылі яго бацькі, яго народ“. Гэтаму аўтар проціпастаўляў нацыяналізм. Пад апошнім маецца на ўвазе любоў да свайго народа. Цікава тое, што і ў гэтым тэсце, як і ў выпадку з польскай мовай, лацінскае *natio* перадаецца словам „народ“:

> „Нацыяналізм сам па сабе рэч добрая, бо кожан чалавек павінен ведаць і прызнавацца да свайго роду, павінен ведаць, да якой ён належыць нацыі і любіць яе, але апошнімі часамі словам гэтым сталі азначаць людзей, каторыя сваю народнасць хацелі паставіць над другімі народнасцямі, каторыя стараліся вырваць з сэрца другога народу усё багацце іх душы і зрабіць яго сваім служкаю“[242].

Повязь паміж нацыяналізмам, вайной і індывідуальнымі супярэчнасцямі аўтар паспрабаваў патлумачыць, ужываючы такую характарыстыку, як „воўчы характар“ чалавека: *homo homini lupus* [*est*]. Як бы там ні было, публіцыстам удалося выразна паказаць гістарычны маштаб гэтай праблемы і прыгнечанае становішча беларускага народа. Адмоўны вобраз гісторыі, відавочна, мусіў змабілізаваць тую энергію, што магла б дапамагчы вырвацца з гістарычнага замкнёнага кола. Асвета і адукацыя меліся спрычыніцца да таго, каб беларусы паклалі на шалю вагаў перавагі свайго „нацыянальнага характару“ ў дачыненні да суседніх вялікіх нацыяў:

> „Мы прывучыліся слухаць чужой каманды: чына з гузікамі, пана вяльможнага, — прывыклі цалаваць ім рукі і гнуць перад імі спіну да зямлі. І затым-та яны глядзяць на заўсёды «пакорнага» беларуса, як на раба, і да людзей, каторыя нават сваю мову вучыць спрабуюць, маюць толькі пагарду“[243].

Гэтая стратэгія мабілізацыі паводле адмоўнага была ўласцівай беларускай палітычна-гістарычнай публіцыстыцы аж да БНРаўскага *intermecco* ў 1918 г. Віленскія інтэлектуалы — пад абаронай нямецкай акупацыйнай улады і дэкрэтаванага нямецкім генерал-фэльдмаршалам Паўлем фон Гіндэнбургам дазволу ўжываць беларускую мову ў якасці раўнапраўнага сродку камунікацыі — свядома ўзяліся за пабудову незалежнай дзяржавы.

Між тым, першая гэткага кшталту спроба, утвораная напрыканцы 1915 г. „Канфедэрацыя Вялікага Княства Літоўскага“, поспеху практычна не мела. Канфедэрацыя, карані якой знаходзіліся ў асяроддзі польскіх, літоўскіх, беларускіх і габрэйскіх патрыётаў, напачатку стала вяршыняй руху „краёвасці“, які, пад кіраўніцтвам Рамана Скірмунта, з 1905 г. выступаў за фармаванне аднароднай палітычнай нацыі насельніцтва Беларусі-Літвы. Цікава, што галоўнай арганізацыйнай формай „патрыётаў“ былі ложы вольных муляраў, што ўтварыліся ў 1910—1914 г. перадусім у Вільні: „Адзінства“ (1910), „Літва“ (1911), „Беларусь“ (1914).

[242] Тамсама.

[243] Mieleszka I. Siła nasza — u nas samych // Biełaruski kalendar na 1917 hod. Wilna, 1916. C.18. Гэты штогоднік выйшаў у друкарні газеты „Homan“.

Да масонаў належалі таксама беларускія інтэлектуалы з ліку тых, хто працаваў у рэдакцыі „Нашай Нівы". Ластоўскі ў 1912 г. уступіў у ложу „Літва", браты Луцкевічы належалі да сяброў-заснавальнікаў ложы „Беларусь". Ластоўскі і Луцкевічы, акрамя таго, з 1912 г. выдавалі друкаваны орган руху „краёвасці" — „Kurier Krajowy", аўтары якога раз за разам звярталіся да польскай інтэлігенцыі з просьбай падтрымаць „культурніцкае адраджэнне" беларусаў і літоўцаў[244].

Менавіта сябры ложаў былі, урэшце, галоўнымі ідэолагамі і тэарэтыкамі, што ўдзельнічалі ў стварэнні „Канфедэрацыі". Нягледзячы на абранне „сойму" і прынццце чатырохмоўнага „Універсалу" Канфедэрацыі з днём 9 снежня 1915 г., ідэя паўторнага заснавання Вялікага Княства ў форме „Беларуска-Літоўскай дзяржавы" не мела палітычнай будучыні. Але, у кожным разе, для таго, хто назіраў за тагачаснай сітуацыяй у духоўнай сферы і за палітычна-гістарычнымі даляглядамі эпохі, жыццяздольнасць гістарычнай мадэлі для стварэння „Айчыны Літвы і Беларусі" ўяўляецца паказальнай:

> „Спадзявацца на Расію шкодна; супраць нас не толькі чынавенства, але і расійскае грамадства [sic!]; таксама і лібералізм, які імкнецца там цяпер да ўлады, нам не дапаможа. Мы спадзяемся на перамогу Нямеччыны ды Аўстра-Венгрыі; адасабленне польскіх, літоўскіх і прыбалтыйскіх краін ад Расіі было б для іх каштоўным у той меры, у якой існавала б магчымасць узвесці вал супраць новага расійскага нападу. Час для вызначэння будучых повязяў з аўстра-германскім блокам яшчэ не надышоў, але наш народ ужо можа выказваць свае справядлівыя жаданні дзеля сваёй будучыні, а менавіта жаданне незалежнай дэмакратычнай Літвы і Беларусі"[245].

Няма ніякага сумневу ў тым, што стан самасвядомасці адукаваных слаёў беларускага грамадства ў перыяд з 1900 г. да пачатку Першай сусветнай вайны перажыў пэўную эвалюцыю. Рух ускраін за адраджэнне як частка гісторыі заняпаду царскай імперыі набыў моц і заявіў пра сябе, калі беларускія землі апынуліся пад нямецкай акупацыяй, у публіцыстыцы ўсё больш адкрыта сталі гучаць выказванні супраць залежнасці Беларусі ад Расіі. Гісторыя, якая была скарыстаная для гэтага ў выглядзе данавуковых спрашчэнняў, побач з моўна-гістарычным кампанентам належала да найбольш дзейсных аргументаў, што браліся пад увагу нават у лагеры, дзе ўспрымаліся палітычныя інтарэсы. Калі „Ліга нярускіх народаў Расіі", што была ўтвораная ў Стакгольме на пачатку Першай сусветнай вайны, у тэлеграме да амерыканскага прэзідэнта Вудра Вільсана ад 9 траўня 1915 г. папрасіла аб падтрымцы, прадстаўнікі віленскай шляхты ды інтэлектуалаў апісвалі таксама сітуацыю, што склалася ў Беларусі. Надзённыя палітычныя патрабаванні і іх гістарычны маштаб выказваліся тут зусім адкрыта:

[244] Смалянчук А. „Краёвасць" у беларускай і літоўскай гісторыі // БГА. Т. 4. Сш. 1—2. С.19—34.

[245] Цытуецца [у зваротным перакладзе з нямецкай мовы. — *Заўвага перакладчыка*] паводле: Scheibert, Peter. Der weißruthenische politische Gedanke bis 1919 // Jomsburg. Völker und Staaten im Osten und Norden Europas 2 (1938). Асобны адбітак (op.cit.). С.12. Арыгінальны тэкст „Універсалу" для беларускага боку знаходзіцца ў: НАРБ, ф.60, воп.3, спр.81, арк.1: „Унівэрсал Конфэдэрацiі Вялікаго Князьства Літоўскаго" (подпіс: Рада Тымчасовая КВКЛ).

„Мы, *беларусы*, перш чым патрапіць пад панаванне расійцаў, былі народам, які меў сваю ўласную мову, сваю літаратуру, сваю нацыянальную царкву і сваё ўласнае права. Цягам 120 гадоў нашага залежнага існавання Расія пастаянна нас прыгнятала, з мэтай каб дасягнуць нашай поўнай дэнацыяналізацыі. Наша нацыянальная царква была знішчаная і праз адкрыты гвалт нам накінулі дзяржаўную рэлігію. У нас болей няма права маліцца альбо вучыцца па-беларуску. Калі расійскія войскі адступалі з Заходняе Беларусі, сотні тысяч беларусаў былі вывезеныя ў Расію. Былі разбураныя вёскі і гарады, вынішчаны ўраджай, край ператварыўся ў пустыню“[246].

Альтэрнатывай, як ужо зазначалася вышэй, была звернутая ў мінуўшчыну ўтопія. Паводле словаў беларускага дэлегата на Лазанскай каферэнцыі „Лігі“, Літоўскае Вялікае Княства было месцам пражывання ўсіх народаў, якія сёння прыгнятаюцца Расіяй. Дакладчыкі бачылі ўзнікненне еднасці ў дзеяннях „беларусаў, літоўцаў, дэмакратычных польскіх і габрэйскіх элементаў нашага краю“. Яны, маўляў, усе выступалі за тое, каб, карыстаючыся падтрымкай нямецкіх войскаў, была здабытая незалежнасць ад Расіі і магла ўзнікнуць супольнасць, якая б атрымала магчымасці свабоднага культурнага, нацыянальнага і гаспадарчага развіцця. Узор гэтага ўжо меўся існаваць у гісторыі[247].

Калі паспрабаваць зрабіць абагульненне тэндэнцыяў развіцця палітычна-гістарычнай публіцыстыкі, якая ў 1900—1918 г. зрабілася першай публічнай трыбунай беларускай нацыянальнай гістарыяграфіі, іх у цэлым можна вылучыць чатыры.

*Па-першае.* Разгляд гісторыі ажыццяўляўся з пазіцыі самаабароны. Мінуўшчына разумелася як нешта выпакутаванае, а не як сфармаваны працэс развіцця. На праблемы нацыятворчага працэсу аўтары шматлікіх перыядычных выданняў адказвалі сваёй праграмай асветы. Мова, адукацыя і культура былі стрыжнявымі паняццямі, „страта“ якіх пасля заканчэння „залатога веку беларускай гісторыі“ павінна была кампенсавацца цяпер.

*Па-другое.* Кідаецца ў вочы моцная палітызацыя тлумачэння мінуўшчыны. Актуальныя праблемы разглядаліся праз прызму сацыяльна-крытычнай перспектывы, выводзіліся з гістарычных варункаў. З гэткага гледзішча нагодай для заняцця гістарычнай навукай была палітычная сітуацыя, а не навукова-даследчы інтарэс. Гэта была гістарычная канцэпцыя закіду ў дачыненні да польскіх і перадусім расійскіх уплываў на культуру, мову і шляхі сацыялізацыі беларускай часткі насельніцтва. Толькі „станоўчае наслаенне“, узгадванае ў гісторыі

[246] Цытуецца паводле: Engelhardt, Eugen Freiherr von (op. cit.). С.97. [Зваротны пераклад з нямецкай мовы. — *Заўвага перакладчыка*]. На беларускай мове ўрыўкі з тэлеграмы былі апублікаваныя ў: Выступленьня беларусоў на міжнароднай арэне // Biełaruski kalendar na 1917 hod (op. cit.). С.32 і наст. У гэткім самым сэнсе выказваўся прадстаўнік „Беларускага нацыянальнага камітэта“ на III канферэнцыі лігі нярускіх народаў Расіі ў Лазане ў ліпені 1916 г.: „Цяпер [...] упершыню за 120 гадоў мы маем магчымасць паведаміць усяму цывілізаванаму свету пра наша поўнае бяспраўе, якое нам давялося цярпець з прычыны палітыкі, што вядзецца Расіяй. Нарэшце, мы можам спадзявацца [...] на тое, што станем гаспадарамі на сваёй уласнай зямлі“ — цытуецца паводле: Engelhardt, Eugen Freiherr von (op. cit.). С.99.

[247] Параўн.: Выступленьня беларусоў... (op. cit.). С.33.

польска–расійскіх узаемадачыненняў, заставалася вартым захавання элементам мінулага. Якасці польскага і расійскага народаў, ацэненыя „статоўча", якія, аднак, былі не болей чым стэрэатыпамі, меліся спрыяльна ўзаемна перасячыся і наклясціся — гэта быў фаталісцкі вобраз гісторыі.

*Па–трэцяе.* З фармальнага пункту погляду публіцысты гістарычнай тэматыкі ўяўлялі сабою вобраз палітычна актыўных аўтадыдактаў, якія — не ў апошнюю чаргу зважаючы на патэнцыйнае чытацкае кола — у перыяд да 1910 г. выкарыстоўвалі простую мову, спехам зробленыя гістарычныя абагульненні і няпоўную сістэму паняццяў. Толькі з цягам часу паступова выпрацоўваліся катэгорыі, якія ўжываліся ў беларускай публіцыстыцы з аднолькавым значэннем прадстаўнікамі розных палітычных кірункаў; да іх належалі гэткія паняцці, як „нацыя", „нацыяналізм" і „патрыятызм". Напрыканцы перыяду, што тут разглядаецца, беларуская публіцыстыка — прынамсі, з тэрміналагічнага гледзішча — была ўжо на вышыні часу.

*Па–чацвёртае.* Адсутнасць гістарычна–навуковых традыцыяў была адной з істотных прычын таго, што хрысціянская тэалогія і міфалогія з іх магутнай уплывовасцю належалі да вызначальных гістарычна–філасофскіх крыніц, ад якіх сілкаваліся гістарычныя канцэпцыі. Працэс развіцця беларускага народа раз за разам падаваўся ў повязі з індывідуальным лёсам асобна ўзятага чалавека. А перадусім з шляхам пакутаў Ісуса Хрыста. Збавенне і ўваскрэсенне гэтаксама бачыліся як канцавая мэта, тэлас нацыянальнай гісторыі. Да гэтага дадавалася тое, што нацыі, якія прайшлі падобны працэс развіцця і належалі да залежных і быццам бы безгістарычных народаў — як, прыкладам, украінцы і славакі — ахвотна ўлучаліся ў „супольнасць гістарычных лёсаў" малых народаў.

Дасавецкая гістарыяграфія на беларускіх землях збольшага засталася на данавуковым узроўні. Публіцыстыка была першым жыццёвым асяродкам беларускай гістарыяграфіі. Структурна слабая навука, дзеячы якой, акрамя ўсяго іншага, былі студэнтамі–аматарамі альбо самавукамі, знайшла сваю першую трыбуну на ілюстраваных старонках „Нашай Нівы". Аўтары тыднёвіка ўпершыню паспрабавалі зрабіць даступнымі шырэйшым колам грамадскасці культурныя і гістарычныя традыцыі беларускага этнасу. Колькасць прадстаўнікоў гэтых колаў, натуральна, была абмежаванаю.

## 3. Беларусь як тэма гістарыяграфіі суседніх краін

Гістарычныя працы пра Беларусь пісаліся і па-за яе межамі. У вялікіх універсітэтах еўрапейскай часткі царскай імперыі ў XIX — пачатку XX ст. узніклі шматлікія даследаванні, аб'ектам якіх былі „беларускія", „паўночна-заходнія" ці „ўсходнепольскія" тэрыторыі. Нават нямецкія навукоўцы, што займаліся вывучэннем Усходняй Еўропы і славянства, зацікавіліся заходнімі правінцыямі Расійскай імперыі не толькі пад час Першай сусветнай вайны й акупацыі Беларусі нямецкімі войскамі. На прыкладзе польскіх, расійскіх, украінскіх і нямецкамоўных аглядных прац па беларускай гісторыі і гісторыі Вялікага Княства Літоўскага ў далейшым экскурсе будуць паказаныя пэўныя адрозненні іх падыходаў ад падыходаў беларускай нацыянальнай гістарыяграфіі[248]. Пры гэтым таксама належнае адлюстраванне знойдзе той факт, што перадусім расійская ды польская гістарыяграфіі выкарыстоўвалі гісторыю Беларусі дзеля асвятлення ўласнай дзяржаўнай і нацыянальнай гісторыі.

### *3.1. Беларусь у польскай гістарыяграфіі*

Цікавасць польскіх гісторыкаў XIX — пачатку XX ст. да беларускай гісторыі была іх нацыянальным інтарэсам. „Усходнія правінцыі", што да падзелаў і ліквідацыі Рэчы Паспалітай уваходзілі ў Карону Польскую, безумоўна, належалі да канона гістарыяграфічных школ Кракава і Варшавы. Як і варта было чакаць, найбольшы інтарэс даследчыкаў выклікала гісторыя разлеглай сярэднявечнай і ранненавачаснай імперыі Ягелонаў[249]. Галоўным стымулам для таго, каб займацца гісторыяй і краязнаўствам усходніх правінцыяў, было шуканне доказаў, насуперак Вялікарасіі і яе далёкасяжным гістарычным прэтэнзіям, для тэзы, што ўсходнеславянскія землі і іх культурныя традыцыі моцна ўкаранёныя ў гістарычным кантэксце Польшчы—Літвы.

У найноўшых даследаваннях вылучаюцца чатыры гістарыяграфічныя пастулаты польскай навукі пра мінуўшчыну да 1914 г. адносна колішніх усходнепольскіх тэрыторыяў, асабліва ўкраінскіх правінцыяў[250]. Познанская школа, якая ўзгадавалася на традыцыях Асветніцтва і да якой у XIX ст. належалі Ёахім Лялевель (*Lelewel—Loelhoffel*) і Енджэй Марачэўскі (*Moraczewski*), зыходзіла з канцэпцыі мірнага і легальнага заваявання Заходняй Русі і Галіцыі, якое пачалося з XI ст. „Кансерватыўная школа", з якой звязваюцца імёны Бібіяны Марачэўскай (*Bibiana*

[248] Для лепшага арыентавання ў небеларуска- і нярускамоўнай літаратуры гл.: Белоруссия в печати XIX — начала XX столетия. Библиография на иностранных языках. Ч.1/II. Мінск, 1980/1983 (издание Государственной библиотеки БССР им.В.И.Ленина).

[249] Kołodziejczyk, E. Bibliografia słowianoznawstwa polskiego. Kraków, 1911.

[250] Velychenko, Stephen. National History as Cultural Processes... (op. cit.). C.16—75. Агляду беларусазиаўства да 1918 г. тут няма. Дагэтуль з'явіўся толькі этналагічна зарыентаваны кароткі агляд: Гурскі Рышард. Польскія даследаванні беларускага фальклору ў XIX і XX ст. // Беларуска-польскія культурныя сувязі. Матэрыялы навуковай канферэнцыі 17—24 кастрычніка 1988 г. Мінск, 1991. С.101—110.

*Moraczewska*), сястры Енджэя, і Валяр'яна Ўрублеўскага (*Wróblewski*), наадварот, закідала вышэйшым станам украінскага грамадства паланафобію і непрызнанне таго факта, што Польшча мелася прынесці іхняй нацыі заходнюю цывілізацыю і праўдзівае хрысціянства. Іншыя гісторыкі, акрамя таго, адмаўлялі ўкраінскім казакам у праве ўчыняць бунт супраць акта гэткага цывілізавання. Нарэшце, Кракаўская школа, заснаваная Юзафам Шуйскім (*Szujski*) і Міхалам Бабжыньскім (*Bobrzyński*), хоць і крытыкавала стаўленне польскіх уладароў да беларусаў і ўкраінцаў, але ацэньвала польскую прысутнасць па іншы бок Сана як цывілізатарскую місію і *ultima ratio* польскай гісторыі ў тую эпоху[251]. У той час як большасць „кракаўскіх" гісторыкаў звязвалі вышэйзгаданую місію з гаючым уплывам каталіцызму, пазітывісты „Варшаўскай школы" аддавалі перавагу вобразу „векавой місіі" дзеля ажыццяўлення „ягелонскае ідэі". Гэтая гістарыяграфічная тэндэнцыя, ініцыятарам якой лічыўся Тадэвуш Корзан (*Korzon*), відавочна, была вызначальнай да часоў Першай сусветнай вайны. Варшаўскія гісторыкі прытрымліваліся канцэпцыі „безгістарычных народаў", паводле якой з часоў „Дыялектыкі народнага духу" Гегеля існаваў падзел паміж народамі, якія мелі „сучасную дзяржаву" і не мелі яе — адпаведна, мелі альбо не мелі гісторыю[252]. Гэтаксама як Фрыдрых Энгельс, які ў гэтым дачыненні зрабіў гегелеўскую філасофію гісторыі сваёй, і варшаўскія пазітывісты былі далёкія ад таго, каб залічыць палякаў у шэраг „безгістарычных народаў". Корзан паспрабаваў, наколькі мажліва, аслабіць праблему ўсходнеславянскіх народаў, распаўсюдзіўшы азначэнне „гістарычных нацыяў" на ўсе індаеўрапейскія народы.

У той час як да 1918 г. былі створаныя шматлікія манаграфіі й аглядныя працы, якія датычыліся Ўкраіны, пра гісторыю Беларусі існуе толькі адно даследаванне. Яго аўтар, Леан Васілеўскі (*Wasilewski*), які належаў да кіраўніцкага кола ППС, яшчэ раней неардынарным даследаваннем украінскай гісторыі зрабіў сабе імя; пры гэтым шмат якія крытыкі меркавалі, што гэтае даследаванне хутчэй было напісана ўкраінцам, а не палякам. У кожным разе, тут ішла гаворка пра „нацыянальна-вызвольнае змаганне казакаў" перад абліччам небяспекі „паглынання свабоднай казацкай рэспублікі аўтакратычнай Расіяй", а ў дачыненні да эпохі Шаўчэнкі — пра „адраджэнне ўкраінства". Акрамя таго, тут не было ніякага выразнага падкрэслівання цывілізатарскага права польскай

[251] Да Кракаўскай школы належаў таксама Ст.Кутшэба; гл.: Kutrzeba, St. Historia ustroju Polski. T.2: Litwa. Warszawa, 1914; *Яго ж.* Unja Litwy z Polska // Polska i Litwa w dziejowym stosunku. Warszawa, 1914. С.452—658.

[252] У гэтай сувязі варта звярнуць увагу на выказванне Гегеля пра славян: „Славянскія нацыі былі нацыямі земляробаў. Гэтая акалічнасць, аднак, цягне за сабою ўзнікненне ўзаемадачыненняў гаспадароў і слугаў. У земляробстве пераважае роля прыродиай стыхіі; людская руплівасць і суб'ектыўная актыўнасць у цэлым менш запатрабаваныя ў гэткай працы. Таму славяне больш павольна і ў меншай ступені выхоўвалі ў сабе падставовае пачуццё суб'ектыўнай самасці, усведамленне ўсеагульнага, таго, што мы раней называлі дзяржаўнай уладай, і яны не здолелі ўзяць удзелу ва ўзыходзе сонца (Рэфармацыі)". Цытуецца паводле: Hegel, G.W.F. Vorlesungen über die Geschichte der Philosophie der Geschichte. Berlin, 1949. С.528. Адносна далейшага ўплыву гегелеўскіх ідэяў параўн.: Rosdolsky, Roman. Zur nationalen Frage. Friedrich Engels und das Problem der „geschichtslosen" Völker. Berlin, 1979. С.122 і наст.

нацыі[253]. У той самы час яго разважанні па беларускім пытанні па сутнасці адпавядалі ягелонскай канцэпцыі[254]. Падхапіўшы ідэю „мірнай польскай каланізацыі на Ўсходзе“ ў XIV—XVI ст., Васілеўскі свядома далучаў сябе да традыцыі ліберальна-рэспубліканскай гістарыяграфіі Лялявеля. Адначасова гэтая праца была прасякнутая місіянерскім духам і цывілізацыйнымі ідэалагемамі Кракаўскай школы. Галоўным праціўнікам была Расія:

„Літоўскія, беларускія і паўднёва-русінскія землі далучыліся да Польшчы праз дамовы, прычыны заключэння якіх трэба шукаць ва ўсведамленні супольнасці інтарэсаў паміж народамі, што знаходзіліся перад абліччам пагрозы ад агульных ворагаў — а менавіта рыцарскіх ордэнаў і расійцаў. Аднак пасля таго як была заключаная дзяржаўная унія, Польшча падпарадкавала сабе ўсходнія правінцыі праз сваё культурнае дамінаванне і свае больш прагрэсіўныя грамадска-прававыя дачыненні“[255].

Гісторыя Беларусі-Літвы інтэрпрэтавалася польскімі гісторыкамі як гісторыя аздараўляльнага збліжэння, пад час якога „суперніцтва разнастайных культур“ усё больш адыходзіла на задні план. Гэткія пагадненні, як Гарадзельская унія 1413 г., Казіміраў прывілей 1447 г. і, перадусім, Люблінская унія 1569 г., характарызаваліся як „вялікі прагрэс на шляху сацыяльнага ўраўнання Літвы з Польшчай“, як „значныя крокі да прыняцця Літвою польскага дзяржаўнага права“, як выратаванне Літвы „ад непазбежнага і хуткага ўпадку“ і задавальненне Польшчай „просьбы станаў Літвы і скліканне агульнага сойму“. Тое, што з гледзішча такіх беларускіх гісторыкаў, як В.Ластоўскі, М.Доўнар-Запольскі ці У.Ігнатоўскі, альбо з расійскага пункту погляду М.Любаўскага, здавалася паступовай стратай падмурка існавання Літоўска-Рускай дзяржавы, варшаўскія і кракаўскія навукоўцы называлі натуральным пашырэннем польскай культуры. Распаўсюджанне правоў польскай шляхты на літоўска-беларускія вышэйшыя саслоўі рэкламавалася як „важны крок да дэмакратызацыі Літвы“. Паланізацыя шляхты пасля 1569 г. пры гэткім падыходзе магла толькі вітацца:

„Некалькі стагоддзяў таму, за часамі ўзнікнення Літоўскай дзяржавы, публічнае жыццё Літвы мела русінскую афарбоўку, пад якой даўней знікла першапачатковае ліцвінства панавальных колаў; але цяпер разгарнулася барацьба паміж гэтым тонкім слоем русінства і польскай культурай, што пранікала сюды з Захаду. Русінства было слабейшым бокам і мусіла адступаць; паступова, крок за крокам.

[253] Wasilewski, Leon. Ukraina i sprawa ukraińska. Kraków, 1912. У нямецкім перакладзе гл.: *Яго ж.* Die Ukraina // *Яго ж.* Die Ostprovinzen des alten Polenreiches (Lithauen und Weissruthenien. Die Landschaft Chełm—Ostgalizien—Die Ukraina). Krakau, 1916. С.269—364, у гэтым выпадку гл. с.271, 277, 303.

[254] Параўн.: Kuczyński, S. Program pierwszych Jagiellonów a tzw. Idea Jagiellońska // Pamiętnik VIII powszechnego zjazdu historyków polskich. Warszawa, 1958 [cz.2]. С.321—331; Maternicki, J. Początki mitu Jagiellońskiego w historiografii i publicystyce polskiej XIX wieku // Przegląd Humanistyczny (1988) 11—12. С.33—48.

[255] Wasilewski, Leon. Litwa i Białoruś. Przeszłość — Teraźniejszość — Tendencje Rozwojowe. Kraków [б.г.в.; паміж 1912 і 1914]. Ва ўрыўках надрукавана па-нямецку: Lithauen und Weissruthenien // *Яго ж.* Die Ostprovinzen... (op.cit.). С.20—147, у гэтым выпадку гл. с.16.

яно сыходзіла на ніжэйшую ступень. Беларуская мова, якая была мовай зносінаў пры двары вялікіх літоўскіх князёў і ў дамах арыстакратаў, якая дамінавала ў канцылярыях і ўстановах, цяпер паступова замянялася на лаціну і польскую мову. Гэты працэс выцяснення быў безбалесным, спантанным, не патрабаваў аніякіх гвалтоўных захадаў — зусім падобна да таго колішняга працэсу, які ў ранейшыя часы ўсё, што ў Літве ўздымалася вышэй ад сялянскага, каб магчы далучыцца да панавальных прывілеяваных колаў, — рабіў беларускім"[256].

Разважанні Васілеўскага ды іншых гісторыкаў з Польшчы і Цызлейтаніі наконт таго, што ў дачыненні да былых усходніх правінцыяў гаворка ішла пра нацыянальна няўстойлівыя і этнічна перамяшаныя тэрыторыі, не ўяўлялі з сябе, вядома, нічога новага; гэтаксама як і назіранне, што, „нягледзячы на параўнальна высокую ступень пашырэння беларускай мовы сярод функцыянальных элітаў Вялікага Княства, ад іх наўрад ці можна было чакаць нацыянальных імпульсаў". Адрознівала Васілеўскага ад ягоных калегаў тое, што ён згадваў пра існаванне ў вузкіх колах беларускай літаратуры, якая ўзнікла ў XIX ст., пасля таго як з канца XVI ст. „штучна ўтвораная" беларуская мова ўжо нічога не магла проціпаставіць „пераважанню жывой польскай мовы". Ён таксама не замоўчваў тае акалічнасці, што польскія нацыянальныя паэты — да прыкладу „ўзгадаваны ў беларускім асяроддзі" Адам Міцкевіч і Ян Баршчэўскі, які складаў вершы, „дэманструючы пэўныя здольнасці, па-беларуску — паходзілі хутчэй з гэтага, чым з польскага моўнага асяродку. І ўсё-такі агульныя гістарычныя ацэнкі тут былі куды больш стрыманыя, чым у яго віленскіх калегаў:

„Беларуская нацыянальнасць, як і мова, адносна слаба індывідуалізаваная; яна выяўляе шматлікія прыкметы пераходнай стадыі; урэшце, яе развіццё тармозіцца надзвычайна моцнай перавагаю суседніх народаў"[257].

Народжаны ў 1890 г. у Вене Оскар Галецкі (*Halecki*) займаўся беларуска-ўкраінска-літоўскімі тэрыторыямі як часткамі Вялікага Княства Літоўскага ў духу разумення гісторыі, якое, у адпаведнасці з ягелонскай ідэяй, зводзілася да лучнасці Польшчы і Літвы. Акрамя таго, ён разам з іншымі гісторыкамі ўжо тады, як і пазней, у амерыканскай эміграцыі, быў перакананы, што прыналежная да Вялікага Княства Русь — г.зн., беларускія і маларасійскія вобласці — істотным чынам адрознівалася ад Маскоўскай Русі і, адпаведна, яе ўнутраныя праблемы з набліжэннем да Польшчы меліся адысці на задні план. Галецкі быў зусім блізкі да пазіцыі беларускіх гісторыкаў, выказаўшы пазней сваё цвёрдае меркаванне, што паралелі паміж „рускімі" тэрыторыямі старой Літвы і рэштай ягелонскіх уладанняў нагэтулькі выразныя, што ўжо ў той час Украіну і Беларусь трэба было лічыць прыналежнымі, хутчэй, да „Ўсходняй Сярэдняй Еўропы", чым да „Маскоўскай" Расіі, якая гістарычна і геаграфічна ўтварала сваё ўласнае цэлае[258].

[256] Тамсама, с.55 і наст.
[257] Тамсама, с.123; *Яго ж.* Die nationalen und kulturellen Verhältnisse im sogenannten Westrussland. Wien, 1915.
[258] Halecki, Oskar. Litwa, Ruś i Żmudź jako części składowe W. Ks. Litewskiego // Rozprawy Akademii Umiejętności (Ser.II) 34 (1916). C.214—254; *Яго ж.* Dzieje Unii Jagiellońskiej. T.1—2. Kraków, 1919.

Фэлікс Канечны (*Konieczny*), які працягваў традыцыі Кракаўскай школы, напісаў працу пра чаргаванне ўладарання Вітаўта і Ягайлы напрыканцы XIV ст. і акт Крэўскай уніі. У сваёй двухтамовай працы, што выйшла праз 10 гадоў пад назвай „Гісторыя Польшчы“, ён увогуле ўпершыню ў аглядзе такога кшталту ўжыў тэрмін „ягелонская ідэя“. Літоўскіх уладароў, якіх беларускія гісторыкі хацелі бачыць стрыжнявымі постацямі *сваёй* гісторыі, у цэнтр увагі сваіх працаў ставілі таксама іншыя аўтары. Каханоўскі (*J.K.Kochanowski*), а таксама львоўскі архіварыус Антоні Прахазка (*Prochaska*) апублікавалі, адпаведна ў 1900 і 1914 г., кожны сваё даследаванне, прысвечанае Вітаўту, а Прахазка яшчэ ў 1908 г. вынес на суд чытачоў сваю двухтамовую працу пра Ўладыслава Ягайлу[259].

Беларусь у якасці самастойнага аб'екта даследавання, між тым, у значнай ступені заставалася на перыферыі ўвагі польскіх гісторыкаў. І гэта пры тым, што яшчэ ў папярэднім стагоддзі ўтварылася Віленская гістарычная школа польскіх гісторыкаў беларускай сацыялізацыі, якая ўвогуле ўпершыню звярнула ўвагу на беларуска-літоўскія землі як аб'ект гістарычнага вывучэння. Сучасныя гістарыёграфы ў Мінску, Гродне і Варшаве, вядома ж, дыскутуюць наконт спадчыны віленскага кола навукоўцаў, да якога належалі гэткія, блізкія да Віленскага універсітэта, гісторыкі, як: І.М.Даніловіч, І.Ярашэвіч, І.Ж.Анацэвіч, І.Лабойка, пазней Т.Нарбут і А.Г.Кіркор. Нельга пры тым не заўважаць тае акалічнасці, што гэтыя інтэлектуалы таксама ў большасці паходзілі з сем'яў вясковых уніяцкіх святароў.

Амаль што ўсе названыя гісторыкі і краязнаўцы — а перадусім Нарбут і Кіркор — між тым, адназначна лічыліся беларускімі альбо, у крайнім выпадку, „рэгіянальнымі“ („местными“) гісторыкамі: вышэй мы падрабязна спыняліся на поглядах А.Г.Кіркора. Тут гаворка можа ісці не гэтулькі пра моцную навуковую базу, колькі, хутчэй, пра ўгрунтаваны на прыхільнасці да „Радзімы Літвы-Беларусі“ мясцовы патрыятызм, які натхняў маладую інтэлігенцыю гэткага кшталту на тое, каб глыбей займацца гісторыяй гэтага рэгіёну. Віленская група гісторыкаў, перыяд творчасці якой меў свой пачатак яшчэ ў 1830-х г., была адначасова доказам таго, што этнічная і культурная неаднароднасць краю мела выразнае зваротнае ўздзеянне на гістарыяграфію. Гэтае зыходнае становішча, натуральна, не павінна прывесці да няслушнага меркавання, быццам бы бачанне гісторыі рознымі групамі навукоўцаў было таксама невыразным і блытаным. Проста для беларускіх, польска-беларускіх, польскіх і расійскіх гісторыкаў гэтае бачанне мела спецыфічныя асаблівасці.

Што да кола прыват-навукоўцаў, калегаў Нарбута і Кіркора, дык яны ў сваіх працах зрабілі спробу гарманізацыі польскіх і беларуска-літоўскіх частак сваёй біяграфіі і, тым самым, іх гістарычных поглядаў. Вядомае выказванне Кіркора:

[259] Konieczny, Feliks. Jagiełło i Witold. T.1: Podczas unii krewskiej, 1382—1392. Wilno, 1893; *Яго ж.* Dzieje Polski za Piastów. Kraków, 1902; *Яго ж.* Dzieje Polski za Jagiełłonów. Kraków, 1903; Kochanowski, J.K. Witold Wielki ksiąze litewski. Warszawa, 1900; Prohaska, Antoni. Dzieje Witolda, W. księcia Litwy. Wilno, 1914; *Яго ж.* Król Władysław Jagiełło. T.1—2. Kraków, 1908.

„Я ліцвін, і ніколі гэтае маё ўнутранае адчуванне не будзе выцесненае нечым іншым. Я люблю сваю радзіму з захапленнем хлопчыка і ахвярнасцю дарослага мужчыны. Маё сэрца адкрытае Польшчы і я адчуваю да яе сімпатыю ў той меры, у якой яе лёс звязаны з нашым“[260].

На фоне гэтага выказвання і варта даваць ацэнку поглядам Нарбута, згодна з якімі ў познім Сярэднявеччы існавала беларускае і літоўскае вышэйшае саслоўе, нашчадкі якога ўтваралі шляхту (*szlachta*) XIX ст. Аналагічным чынам, як паказваюць найноўшыя даследаванні, польска-беларускія гісторыкі Віленскай школы зыходзілі з пастулата пра далейшае існаванне самастойнага Вялікага Княства Літоўскага пасля заключэння Крэўскай (1385 г.) і Гарадзельскай (1413 г.) уніяў. Побач з распрацоўкай віленскімі гісторыкамі зыходнай тэзы пра тое, што гісторыю Беларусі і Літвы трэба разглядаць у якасці самастойнай, яны, апроч таго, ажывілі дыскусію і вылучэннем ідэі пра агульны польска-літоўска-беларускі этнас. Паводле іх меркавання, апошні вымушаным чынам утвараўся праз рэгулярныя змены ўладаў і рухі насельніцтва на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага, пачынаючы з XII ст.[261]. Тым самым акцэнты тут расстаўляліся інакш, чым у працах польскіх варшаўскіх альбо галіцыйскіх гісторыкаў. Гістарыяграфія яшчэ раз выявіла сябе тут як геаграфічна, нацыянальна і палітычна дэтэрмінаваны працэс.

Па-за межамі чыста гістарычных даследаванняў польскія краязнаўцы і этнолагі з канца XIX ст. сталі больш інтэнсіўна займацца беларускімі тэрыторыямі. Мы спынімся тут толькі на самай грунтоўнай серыі публікацыяў, якая доўжылася да сярэдзіны 1960-х г. і была звязаная з імем кракаўскага этнолага Міхала Федароўскага. У трох тамах пад назвай „Люд беларускі на Русі Літоўскай“, што выйшлі да 1918 г.,былі змешчаныя матэрыялы па розных тэматычных колах — гэткіх, як мова, веравызнанні, літаратура і народная культура[262]. Новым тут было тое, што інфармацыя збіралася па рэгіёнах і была вынікам палявых даследаванняў аўтараў. Пры гэтым у полі зроку знаходзіліся і атрымлівалі падмацаванне традыцыі, якія дазвалялі рабіць высновы наконт эвалюцыйных працэсаў на гэтых землях. Асабліва шматлікімі былі зборы гісторыяў і казак, што змяшчаліся ў кожным томе.

[260] Цытуецца паводле: Карев Д. Белорусская историография конца XVIII — нач. XX веков... (op. cit.). С.308. Паняцце „ліцвін“ адпавядала распаўсюджанаму ў сярэдзіне XIX ст. у віленскім рэгіёне саманазову, які ўжывалі як польскія, спаланізаваныя беларускія, так і літоўскія жыхары. Пра Кіркора вядома, што ён раз-пораз гаварыў пра сваё „беларускае, а не польскае паходжанне“. Пра Т.Нарбута гл. у кнізе з выдаванай цяпер у Мінску серыі „Нашы славутыя землякі“: Ненадавец А.М. Тэадор Нарбут. Мінск, 1996.

[261] Смалянчук А. Гістарычная свядомасць і ідэалёгія палякаў Беларусі і Літвы на пачатку XX стагодзьдзя // БГА. 1995. Т. 2. Сш. 1. С.31—40.

[262] Federowski, M. (збор і рэдагаванне). Lud białoruski na Rusi litewskiej. T.1—3. W Krakówie, 1897—1903. Наступныя тамы выйшлі ў 1935, 1958, 1960 і 1969 г. Параўн.: Гурскі Рышард. Польскія даследаванні... (op. cit.). С.108 і наст.

## 3.2. Беларусь у расійскай гістарыяграфіі

Няма нічога дзіўнага ў тым, што ніводзін з вялікіх расійскіх гісторыкаў XIX ст. больш–менш падрабязна не займаўся гісторыяй Літвы альбо Беларусі. Ні М.М.Карамзін, М.П.Пагодзін, С.М.Салаўёў, В.В.Ключэўскі, ані С.Ф.Платонаў на фоне імперскай канцэпцыі расійскай гісторыі не лічылі неабходным займацца больш дэталёвымі і самастойнымі даследаваннямі беларускіх „рэгіёнаў" і памежных земляў, акрамя агульных заўваг у сваіх лекцыях. Наўрад ці менш адносіны мачахі да сваіх зводных дзяцей нагадвала й іх стаўленне да Украіны[263]. Як і раней Карамзін, Салаўёў крытыкаваў „Паўднёвую Расію" як калыску непажаданага аўтанамізму. Там, дзе, да прыкладу, Ключэўскі закранаў пытанні расійска–ўкраінскіх ці расійска–беларускіх адносінаў, гаворка адразу заходзіла пра неабходнасць „уз'яднання ўсіх *рускіх славян*". Платонаў, урэшце, выклаў расійска–ўкраінскія ўзаемадачыненні сярэдзіны XVII ст. у тэрмінах сацыял–дарвінізму: паводле яго, „найважнейшай задачай нашага племені было не змаганне за свабоду, а самаабарона і барацьба за сваё гістарычнае існаванне, сваё адзінства і сваю рэлігію"[264]. Гэтым самым яны, вядома, знаходзіліся ў кантэксце тагачаснага еўрапейскага гістарычнага мыслення. Гэтак, прыкладам, расійскія гісторыкі ад Карамзіна да Салаўёва доўгі час былі гарачымі прыхільнікамі гістарычнага этатызму ды гегелеўскага падзелу нацыяў на гістарычныя і безгістарычныя.

Погляд на беларускія і маларасійскія правінцыі як на адлучаныя альбо акупаваныя Польшчай і Літвой ускраіны не мог не ўзнікнуць пад гэткім уплывам. Ужо ў 1839 г. М.Г.Устралаў выступаў за тое, каб дзеля высвятлення пытання гістарыяграфія занялася гістарычным месцам Вялікага Княства Літоўскага ў гісторыі Расійскай імперыі[265]. Натуральна, аўтар не адлюстроўваў поглядаў ані беларусаў, ані ўкраінцаў, ані нават літоўцаў, калі ён у сваёй працы гаварыў пра найважнейшыя падзеі з гісторыі Вялікага Княства. Яго даследніцкі інтарэс быў скіраваны куды ў большай ступені на гістарычнае ўлучэнне літоўскіх і беларускіх тэрыторыяў у расійскую гісторыю і быў звернуты супраць тых гістарычных канцэпцыяў, згодна з якімі „Літва і звязаныя з ёю вобласці" разглядаліся „як польскія правінцыі" й не звярталася ўвагі на тое, што тут заўсёды гаворка магла ісці толькі пра „чыста рускую спадчыну". „Прагматычная схема" ягонай гісторыі Расіі, што грунтавалася на ўяўленнях пра адзіную ўсходнеславянскую нацыю ды ацэньва-

[263] Пра расійскую інтэрпрэтацыю ўкраінскай гісторыі параўн.: Velychenko, Stephen. National History as Cultural Processes... (op. cit.). С.97—137. Акрамя таго, да нядаўняга часу вядомы толькі кароткі, зарыентаваны на гісторыю Вялікага Княства агляд: Кацілюс Альгімантас. Землі Вялікага Княства Літоўскага ў афіцыйнай расійскай гістарыяграфіі 1863—1915 г. // Б/А. Вып.3. Мінск, 1994. С.53—62. Пра гістарычную адукацыю ў расійскіх універсітэтах гл.: Bohn, Thomas. Russische Geschichtswissenschaft von 1880 bis 1905... (op. cit.). С.42 і наст.

[264] Тамсама, с.104.

[265] Устрялов Н.Г. Исследование вопроса, какое место в русской истории должно занимать княжество Литовское. Москва, 1839; *Яго ж.* Русская история. Т.1—4. Санкт–Петербург, 1839—41; высвятленне прынцыпаў у: *Яго ж.* О системе прагматической русской истории. Санкт–Петербург, 1836.

ла далучэнне ўкраінскіх тэрыторыяў да Масквы ў 1654 г., а таксама прыход расійскай улады на беларускія і ўкраінскія землі ў выніку падзелаў Рэчы Паспалітай як „жаданы саюз", імкнулася спалучыць вялікарасійскі нацыянал-шавінізм з антыпольскімі крыўдамі і забабонамі на землях, што адышлі да Расіі. Яго інтэрпрэтацыя гісторыі, што была падрыхтаваная на даручэнне міністра народнай асветы царскай імперыі С.С.Уварава і вытрымала шмат перавыданняў, стала ідэалагічнай дактрынай для большасці расійскіх працаў па гісторыі Беларусі й Украіны, якія выйшлі да 1918 г.[266].

Менавіта Ўстралаў увёў ва ўжытак паняцце „літоўска-рускай дзяржавы", ніяк не беручы пад увагу этнічных адрозненняў у межах „рускай нацыянальнасці". Ужываючы паняцце „Западная Русь", Устралаў апераджальна пазначыў ідэю „западно-русизма", што — як было паказана вышэй — напрыканцы XIX ст. мела справакаваць на дыскусію беларускіх нацыянальных гісторыкаў. Канцэпцыя „дзвюх Расіяў", якой прытрымліваўся Устралаў, гаворачы пра падзел Русі на Заходнюю і Ўсходнюю, была процівагаю заяўленых польскімі гісторыкамі — гэткімі, як Васілеўскі — тэрытарыяльных прэтэнзіяў у дачыненні да „ўсходнепольскіх правінцыяў". Гістарычная прастора Беларусі, якая ў такой якасці хутчэй не згадвалася, побач з „маларасійскімі" землямі зрабілася найвялікшым яблыкам разладу паміж пакаленнямі вялікарасійскіх і польскіх гісторыкаў да 1918 г. і пасля.

Іронія лёсу распарадзілася ў дачыненні да беларускай гісторыі так, што першая гістарычная манаграфія была напісаная на даручэнне расійскага генеральнага штаба і павінна была перадусім задаволіць гістарычна-геаграфічныя інтарэсы. У той час, калі тэрыторыі ўжо амаль пяцьдзесят гадоў належалі да Расійскай імперыі і міністэрства ўнутраных спраў здолела дайсці да папярэдняй і недакладнай у паняццевым размежаванні назвы „Белоруссия", у 1855 г. з'явіўся свайго кшталту гістарычны даведнік[267]. Яго аўтар, М.В.Без-Карніловіч, быў сам генерал-маёрам і цікавіўся геаграфічнымі і гістарычнымі адметнасцямі Беларусі, прычым асаблівую яго ўвагу прыцягвала ваенная гісторыя. Хоць падрабязнае гістарыяграфічнае даследаванне тут было б залішнім, нельга не згадаць пра тое, што пасля падзеяў 1830—1831 г. у Трэцім аддзяленні Яго вялікасці, відавочна, існавала запатрабаванасць інфармацыі пра Беларусь. Пасля досыць падрабязнага нарыса найважнейшых момантаў кіравання ўладароў і ваенна-гістарыч-

[266] Адносна Ўкраіны ў гэтым сэнсе гл.: Velychenko, Stephen. Shaping Identity... (op.cit.).

[267] Без-Корниловнч М.О. Историческне сведения о примечательнейшнх местах в Белоруссии с присовокуплением и других сведений, к ней же относящихся. Санкт-Петербург, 1855 (рэпрынтнае выданне: Мінск, 1995). Тэрытарыяльнае вызначэнне рабілася паводле высноваў, змешчаных у: Журнал Министерства Внутренннх Дел. 1846. №14; у той самы час у „Журнале Министерства Народного просвещения" (1846, №1, с.5) гаварылася, што „Менская, Магілёўская і Віцебская губерні належаць да беларускіх". Абмежаванне паняцця „Беларусь" тэрыторыямі Магілёўскай і Віцебскай губерняў — як гэта мела месца і ў вышэйзгаданай працы А.Турчыновіча па гісторыі Беларусі (1857), было, урэшце, папярэдне зафіксаванае праз уключэнне гэтага назову ў: Географический словарь Российской Империи. Изд. Имперского Русского Географического Общества / Под ред. П.Семенова. Т.1. Санкт-Петербург, 1863. С.371. Гэтак, таксама яшчэ пад назвай „Белая Русь" гл.: Энциклопеднческий словарь Брокгауза и Ефрона. Т.5. 1891. С.173 і наст.

ных падзеяў, а таксама апісання розных сацыяльных і этнічных групаў насельніцтва ў беларускіх правінцыях аўтар прыходзіць да высновы, што „Беларусь без перабольшання можна назваць разлеглымі могілкамі незлічоных ахвяраў, якія загінулі за сваю веру, за правы іх гаспадароў альбо за свой уласны гонар“[268]. У кожным разе, няцяжка заўважыць, што праца Без-Карніловіча засталася ў вялікай ступені свабоднай ад палітычных уціскаў што да інтэрпрэтацыі гісторыі. Відавочна, што на пярэднім плане тут знаходзілася зробленае з расійскага гледзішча апісанне Беларусі як тэатра ваенных дзеянняў.

Місіянерская інтэрпрэтацыя расійскай гісторыі, як яе прапанаваў Устралаў, павінна была выйсці на дамінавальныя пазіцыі ў расійскай гістарыяграфіі па беларускім пытанні XIX — пачатку XX ст. Працы, што выходзілі цягам часу да канца стагоддзя, працягвалі развіваць сфармуляваныя там раней стэрэатыпы. І.Д.Бяляеў бачыў у „лацінскім“ Захадзе, а насамперш у Нямеччыне і Польшчы, найбольш сур'ёзных праціўнікаў расійскай дзяржаўнасці. Паводле ягоных высноў, да акта Крэўскай уніі рускі Паўночны Захад у звязе з Літвою вёў змаганне дзеля абароны Ўсходняй Еўропы супраць лацінства і анямечвання. Адпаведна, напрошвалася выснова, што і распаўсюджванне магдэбургскага права на тэрыторыі Паўночна-Заходняй Русі мусіла мець негатыўны ўплыў на дачыненні паміж баярамі і купецкім станам. Урэшце, маўляў, заходні ўплыў вінаваты таксама ў тым, што страціліся першапачатковыя паралелі ў гістарычным развіцці паміж Полацкам і Ноўгарадам[269].

Зусім падобнымі былі погляды, выкладзеныя ў працы двух кіеўскіх гісторыкаў, М.І.Пятрова і І.І.Малышэўскага, што выйшла пад рэдакцыяй П.М.Бацюшкава — у якасці прадстаўніка расійскага міністэрства ўнутраных спраў. Згаданыя гісторыкі належалі да вялікай групы даследчыкаў мінуўшчыны, што з перыферыі ўзбагачалі расійскую гістарыяграфію. У гэтай кнізе Польшчы адводзілася найгалоўнейшая роля крыніцы ўсяго ліха ў гісторыі паўночна-заходняга рэгіёну. Працы гэткага кшталту, у якіх горача адстойваліся еднасць і непадзельнасць праваслаўнай зоны ўплыву, былі асабліва запатрабаваныя ў тыя часы, калі павінен быў рабіцца асаблівы асіміляцыйны ціск на ўскраіны імперыі: на Польшчу, Прыбалтыку і Каўказ[270]. Выдаўшы сваю працу па гісторыі Літоўскай дзяржавы і Заходняй Русі, П.Д.Брацаў дасягнуў сумна знакамітага апагею і адначасова папярэдняга завяршэння вялікарасійска-антыпольскай і антызаходняй гістарыяграфіі канца XIX ст. У чорна-белых фарбах аўтар абмалёўваў гаючыя ўплывы праваслаўя і глыбока адмоўнае ўздзеянне каталіцызму на беларускіх землях[271].

[268] Без-Корнилович М.О. Краткий взгляд на историю Белоруссии и Полоцкого княжества // *Яго ж.* Исторические сведения... (op. cit.). С.1—19, у гэтым выпадку гл. с.18.
[269] Беляев И.Д. Очерк истории Северо-Западного края России. Вильно, 1867; *Яго ж.* История Полоцка, или Северо-Западной Руси, от древнейших времен до Люблинской унии. Москва, 1872, у гэтым выпадку гл. с.155.
[270] (Петров Н.И., Малышевский И.И.) Белоруссия и Литва: Исторические судьбы Северо-Западного края / Под ред. П.Н.Батюшкова. Санкт-Петербург, 1890.
[271] Брянцев П.Д. История Литовского государства с древнейших времен. Вильно, 1889; *Яго ж.* Очерк Древней Литвы и Западной России. Вильно, 1891.

Ведучы гаворку пра расійскую гістарыяграфію па беларускай тэматыцы, сучасная беларуская гістарычная навука робіць адрозненне паміж афіцыйна-кансерватыўнай („охранительной") і ліберальнай гістарыяграфіяй[272]. Калі да першай групы — як было коратка зазначана вышэй — належалі гісторыкі, якія стваралі ў духу „западно-руссизма" „клерыкальна-манархісцкую гістарыяыграфію на даручэнне", дык другая група складалася з тых навукоўцаў, якія рабілі націск на „самабытным характары" беларускай тэрыторыі. Гэта мела месца ў выпадку з М.К.Любаўскім, які больш за тры дзесяцігоддзі, паміж 1894 і 1930 г., займаўся ў Маскоўскім універсітэце гісторыяй заходніх славян, гістарычнай геаграфіяй, але перадусім Вялікім Княствам Літоўскім. Хоць Любаўскі, як і Платонаў, належаў да вучняў Ключэўскага, але яму не ўдалося дасягнуць супастаўнага маштабу славы, што можна патлумачыць прыярытэтам тэмы Літвы ў яго даследаваннях. Любаўскі пакінуў некалькі знакамітых вучняў, сярод якіх былі Ў.І.Пічэта, М.Г.Беражкоў, В.А.Паноў і І.Якубоўскі. Аднак „школы", пра якую ў дачыненні да Маскоўскага гістарычнага факультэта часоў Ключэўскага гаварылі ўжо сучаснікі, гэткія як Пічэта, ды новыя даследчыкі, Любаўскі не заснаваў[273].

Новымі для маскоўскай гістарыяграфіі, вядома, былі тэма і шматлікія крыніцы, агляд якіх даў Любаўскі. Акрамя гісторыі ўзнікнення расійскай дзяржавы ў тэрытарыяльным аспекце, у цэнтры ўвагі яго даследніцкіх інтарэсаў знаходзіліся польска-літоўскае дзяржаўнае ўтварэнне, яго адміністратыўнае і прававое афармленне, а таксама знешнепалітычнае ўспрыманне. Прыцягнуўшы матэрыялы „Літоўскай Метрыкі", што знаходзілася ў маскоўскім архіве, Любаўскі ў 1892 г. у межах кандыдацкай дысертацыі даследаваў адміністратыўнае ўладкаванне і тэксты законаў „Літоўскай Русі". Найважнейшая тэза ягонай працы, што складалася з дзевяцісот старонак, абапіралася на падыход да разгляду Вялікага Княства як федэратыўнай дзяржавы, рэгіёны якой карысталіся рознымі „саслоўнымі" ды прадстаўнічымі правамі і ажыццяўлялі ўнутранае кіраванне ў вялікай ступені самастойна[274]. У 1901 г. ён прэзентаваў доктарскую дысертацыю пра „Лі-

[272] Параўн.: Карев Д. Белорусская историография конца XVIII — нач. XX веков... (op. cit.). С.353—360. Гэтыя высновы адносна М.Любаўскага ўжо былі абагульненыя ў асобным выданні: *Яго ж.* Великое княжество Литовское (XIV — нач. XVI в.) в российской либеральной историографии конца XIX — начала XX в. М.К.Любавский и его труды по истории ВКЛ // Наш радавод. Кн.1, ч.II. Гродна, 1990. С.146—160. Тут падаюцца найбольш істотныя думкі і высновы яго кандыдацкай дысертацыі, якая існуе ў апублікаваным выглядзе: *Яго ж.* Академик М.К.Любавский: Судьба и наследие // Наш радавод. Кн.6, ч.III. Гродна, 1994. С.450—602. Акрамя таго, пра Любаўскага параўн.: Пичета В.И. Введение в русскую историю... (op. cit.). С.187 і наст., а таксама Копысский З.Ю., Чепко В.В. Историография БССР... (op. cit.). С.44—50. Кароткія характарыстыкі ў заходняй гістарыяграфіі гл.: Mazour, Anatole G. Modern Russian Historiography... (op. cit.). С.142—144; Jablonowski, Horst. Westrussland zwischen Wilna und Moskau. Leiden, 1955. С.3, а таксама: Hellmann, Manfred. Das Großfürstentum Litauen bis 1569 // HGR. Bd.1 / II. С.725.

[273] Пичета В.И. Введение в русскую историю... (op. cit.). С.187; Карев Д. Академик М.К.Любавский... (op. cit.). С.454; Bohn, Thomas. Russische Geschichtswissenschaft von 1880 bis 1905... (op. cit.).

[274] Любавский М.К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания Литовского Статута 1529 г. Москва, 1892.

тоўска-рускі сойм". Ускосна скарыстаўшы парадыгматычнае даследаванне Ключэўскага пра Маскоўскую баярскую думу, Любаўскі апісаў, зыходзячы з прыкладу цэнтральнай інстытуцыі, грамадскі лад Польшчы-Літвы. У гісторыі сойму, з гледзішча Любаўскага, адлюстравалася „ўся сацыяльная і палітычная гісторыя [Літоўска-рускай] дзяржавы за часамі яе самастойнага існавання"[275]. Ліберальная вузкаспецыяльная крытыка ў працы Любаўскага ўбачыла нават надыход „новай эпохі" ў навуковай распрацоўцы гісторыі Вялікага Княства Літоўскага. Геаграфічна-тэрытарыяльнае азначэнне „Беларусь" у Любаўскага напачатку не сустракалася. Тэрыторыі, населеныя беларусамі, паводле яго, уваходзілі ў „Літоўска-Рускую дзяржаву". Праз Любаўскага расійскае гісторыяпісанне да 1917 г. фіксавала гэткую дэфініцыю дзяржавы.

Толькі адзін раз, у 1918 г., Любаўскі ўзняў „Беларусь" да тэмы самастойнага, пазней апублікаванага тэксту даклада, пра што гаворка пойдзе ніжэй. Далей мы коратка спынімся на найважнейшых поглядах Любаўскага, бо яго „Нарыс гісторыі Літоўска-Рускай Дзяржавы да Люблінскай уніі ўключна", выдадзены ў 1910 г., зрабіўся базавым матэрыялам усіх будучых працаў па гісторыі Беларусі літоўскага перыяду. Складзеная з лекцый, чытаных у Маскоўскім універсітэце ў 1902—1908 г., гэтая агляднaя праца па гісторыі Вялікага Княства ўтрымлівала навуковыя высновы, зробленыя на падставе ранейшых працаў і апублікаваных крыніц. Акрамя гэтага, у Дадатку былі ўпершыню надрукаваныя шматлікія дакументы з архіваў „Літоўскай Метрыкі"[276]. М.К.Любаўскі ў гэтай кнізе падаў тры новыя думкі, якія не супадалі з гістарычнымі ацэнкамі ягонага часу: паводле, яго, *па-першае*, Вялікае Княства Літоўскае было легітымнай дзяржавай — спадкаемцай Кіеўскай Русі; *па-другое*, ВКЛ уяўляла сабою дэмакратычную альтэрнатыву „другой рускай дзяржаве" — Маскве; *па-трэцяе*, феадальнае грамадства раўніннай дзяржавы было ідэнтычным з грамадскім уладкаваннем старых еўрапейскіх дзяржаўных утварэнняў. Паводле першай тэзы, пасля „пераважна мірнага" далучэння навакольных княстваў да Літоўскай дзяржавы-ядра ўзнік „напалову рускі" дзяржаўны звяз („*государственный союз*"), які ўвасабляў сабою спадчыну Кіеўскай Русі і ўладароў якога Любаўскі назваў „літоўскімі князямі рускіх земляў".

> „Аб'яднанне заходнерускіх земляў вакол Літвы ў сваёй сутнасці значыла ўзнаўленне разбуранай палітычнай еднасці кіеўскай эпохі, сведчыла пра тое, што быў знойдзены страчаны палітычны цэнтральны пункт"[277].

Толькі новы цэнтр знаходзіўся ўжо не на берагах Дняпра, а на рацэ Віліі, а галоўным горадам дзяржаўнага ўтварэння зрабілася Вільня. Пры ўсім тым „федэралісцкім духу", што прыпісваўся Любаўскаму ды іншым гісторыкам ускраін імперыі і далучаных тэрыторыяў, гістарычнай канцэпцыі позняга царскага часу ў цэлым, натуральна, адпавядаў падыход да паказу гістарычнага працэсу ў маг-

[275] *Яго ж.* Литовско-Русский Сейм. Опыт по истории учреждений в связи с внутренним строем и внешнею жизнью государства. Москва, 1901. С.1.

[276] *Яго ж.* Очерк истории Литовско-Русского Государства до Люблинской унии включительно. Москва, 1915 (2-е выд.).

[277] Усе цытаты гл.: Тамсама, с.35, 38, 23, апошняя на с.36.

чымай меры як бесперапыннага. Кіеўская дзяржава была для бальшыні расійскіх гісторыкаў сама меншае першапачаткам расійскай дзяржавы, спадчыну якой трэба было бараніць, а пры неабходнасці — і ўзурпаваць.

Другая тэза Любаўскага датычыцца культурна-гістарычных адрозненняў паміж дзяржаўнасцю ВКЛ і Маскоўскага княства. Тэхналогіі ажыццяўлення ўлады, адміністрацыйны лад і ўзаемадачыненні ў сацыяльнай структуры гісторык вызначыў як найважнейшыя сферы, у якіх выяўляліся гэтыя адрозненні, і, гэткім чынам, выразна акрэсліў традыцыйную супрацьлегласць Усходу і Захаду. „Абсалютнай, неабмежаванай манархіі" Маскоўскай дзяржавы Любаўскі проціпастаўляў „выбарную манархію" і — у выглядзе сойму — „канстытуцыяналізм" Вялікага Княства; маскоўскай „адміністрацыйнай цэнтралізацыі" — „палітычную дэцэнтралізацыю" Літвы; запрыгоненню сялянства ў Маскоўскім царстве — збудаваны на заходні кшталт феадальны лад „Літоўска-Рускай дзяржавы", у межах якога землеўладальнік мог распараджацца жыхарствам сваіх уладанняў толькі на дзяржаўна-прававых падставах:

> „Самастойная гісторыя Літоўска-Рускай дзяржавы скончылася, як вядома, разам са стратай ёю сваёй самабытнасці і адметнасці, пасля аб'яднання з Польшчай у Рэч Паспалітую — г.зн., у адну дзяржаву. Гэты палітычны альянс таксама прывёў да духоўнага збліжэння Літвы і Заходняй Русі з Польшчай ды іх адчужэння ад Паўночна-Ўсходняй Русі. Палітычная унія Літвы ды Заходняй Русі з Польшчай у цэлым абцяжарыла працэс нацыянальнага яднання Русі, што праводзіўся Масквою. Барацьба за гэтае яднанне істотным чынам зацягнулася і запатрабавала значных стратаў матэрыяльных рэсурсаў і маральных сіл народа"[278].

Трэцяя галоўная тэза Любаўскага падкрэслівала факт існавання квазі-заходняга феадальнага ладу на літоўскіх і польскіх землях. Лацінскія місіянерскія тэксты ды адлюстраваныя там у прынятых на Захадзе катэгорыях сацыяльныя станы і аналіз іх узаемадачыненняў у царскай дзяржаве, паводле гісторыка, не пакідаюць у гэтым аніякага сумневу. Маўляў, у Літоўска-Рускай дзяржаве быў той самы феадалізм, „што і на Захадзе ў эпоху Сярэднявечча". З гэтага можна зрабіць выснову, што Вялікае Княства Літоўскае да свайго аб'яднання з Польшчай у 1569 г. было прыдатным, каб разглядацца ў якасці гістарычнага праекта-антыпода маскоўскаму дзяржаўнаму ўладкаванню. Як пазітыўная альтэрнатыва нявольніцкай сістэме прыгону ў царскай імперыі ацэньвалася не толькі феадальнае землеўладанне. Рэгуляваныя праўным спосабам сацыяльныя стасункі на Захадзе своеасаблівым чынам прыцягвалі гісторыка дзяржавы і права Любаўскага. Гэтак, яго агульная характарыстыка „Паўночна-Ўсходняй Русі" была надзвычай крытычнаю і вымяралася паводле заходняга ўзроўню развіцця: згодна з яго пазіцыяй, Маскоўская дзяржава была „слабым, больш нестабільным і ў цэнтры мала кансалідаваным грамадствам [...] без палітычнай арганізацыі на рэгіянальным узроўні і без трывалых сацыяльных стасункаў". З гэтага ды іншых выказванняў робіцца зразумелым, што гістарычныя ацэнкі Любаўскага адносна Вялікага Княства аднача́сова ўтрымлівалі гістарычны прысуд гістарычнай Маскоўскай дзяржаве і пазнейшай Расійскай імперыі.

[278] Тамсама, с.2, 3, 313.

З гэтай ды іншых прычын у XIX і на пачатку XX ст. выяўляліся палітычныя рознагалоссі ўнутры супольнасці расійскіх гісторыкаў.

Да ліберальнай альбо — паводле Мазура, „федэратыўнай" — школы расійскай гістарыяграфіі, акрамя Любаўскага, таксама належалі гісторыкі права Ф.І.Леантовіч і М.Ф.Уладзімірскі-Буданаў. У той час як апошні скіраваў сваю ўвагу на гісторыю гарадоў Вялікага Княства, Леантовіч, які перад тым выкладаў у Адэскім і Варшаўскім універсітэтах, заняўся вывучэннем дамінантнага там грамадска-саслоўнага ладу. Абапіраючыся на падобны корпус крыніц, абодва адзначалі спецыфічныя праблемы ў сферы гарадскога кіравання і аграрных узаемадчыненняў, якія былі вынікам ўзаемаперапляцення заходніх і ўсходніх арганізацыйных формаў[279]. Да ліберальнай маскоўска-пецярбургскай гістарыяграфічнай школы, што займалася Вялікім Княствам Літоўскім, належаў таксама Ў.І.Пічэта, якога пазней з поўным правам можна было прылічыць да цэху беларускіх гісторыкаў[280]. Хоць ён, як і Уладзімірскі-Буданаў ды Леантовіч, яшчэ ў ранні перыяд сваёй дзейнасці атрымаў гістарычна-тэарэтычныя і метадалагічныя імпульсы ад дзяржаўніцкай школы расійскай гістарыяграфіі, гэтага вучонага з ягонымі магістарскай і доктарскай працай усё ж такі варта адносіць да маскоўскай школы на чале з навуковым кіраўніком яго доктарскай дысертацыі Ключэўскім. У якасці крэда гэтай школы Томас М.Бон вызначае спалучэнне адміністрацыйнай і сацыяльнай гісторыі ў духу гістарычнай сацыялогіі і контаўскага пазітывізму, які прыйшоў на змену гегельянскаму расійскаму гістарызму[281].

[279] Найважнейшымі працамі былі: Владимирский-Буданов М.Ф. Немецкое право в Польше и Литве. Санкт-Петербург, 1868; Леонтович Ф.И. Сословный тип территориально-административного состава Литовского государства и его прошлое. Санкт-Петербург, 1895.

[280] Наконт біяграфіі Пічэты параўн. адпаведныя мясціны раздзела 2. Тут гаворка ідзе толькі пра створаныя да 1918 г. у літоўска-беларускім кантэксце працы, якія разглядаюцца больш падрабязна ў сувязі з ягоным агульным даробкам па праблематыцы беларускай гісторыі: Пичета В.И. Очерки русской истории. Москва, 1906 (совместно с Е.И.Вишняковым) [2-е выд.: 1908]; *Яго ж.* Образование территории Московского государства // Тамсама, с.81—117; *Яго ж.* Литовско-польские унии и отношение к ним литовско-русской шляхты // Сборник статей, посвященных Василию Осиповичу Ключевскому его учениками, друзьями и почитателями ко дню тридцатилетия его профессорской деятельности в Московском университете (5.12.1879—5.12.1909 года). Москва, 1909. С.605—631; *Яго ж.* Литовско-русское государство // Русская история в очерках и статьях. Москва, 1910. С.337—439; але перадусім: Аграрная реформа Сигизмунда-Августа в Литовско-Русском государстве. Ч. I, II. Москва, 1917—1918.

[281] Пра гістарычную дзяржаўніцкую школу параўн. апублікаваныя па-нямецку працы: Grothusen, Klaus-Detlev. Die historische Rechtsschule Russlands. Ein Beitrag zur russischen Geistesgeschichte in der zweiten Hälfte des 19.Jahrhunderts. Gießen, 1962; апошнім часам: Meduševskij, A.N. Die theoretischen Grundlagen des Konstitutionalismus: Die staatliche Schule in der russischen Historiographie // Schmutzer, Ernst (рэд.). Politisches Denken im 19. Jahrhundert in Rußland... (op. cit.). С.109—129. Пра Пічэту гл. таксама: Bohn, Thomas. Russische Geschichtswissenschaft von 1880 bis 1905... (op. cit.). С.210 і наст. У адрозненне ад дзяржаўніцкай школы Салаўёва і Маскоўскай школы Ключэўскага для Санкт-Пецярбургскай школы Бястужава-Руміна прыярытэтам была крытыка крыніц. Абагульненне гл. у: *Яго ж.* Historische Soziologie im vorrevolutionären Rußland // HZ 265 (1997). С.343—372. Пра Ключэўскага ёсць новая праца: Byrnes, Robert F. V.O.Kliuchevskii, Historian of Russia. Bloomington / In., 1996.

У працах Пічэты, што выходзілі да 1918 г. у Маскве, між тым выразна выявілася тая акалічнасць, што дзяржава і панавальная ўлада не былі для яго нейкімі абсалютнымі і ўсемагутнымі чыннікамі. Ані дзяржава сама па сабе, ані манаршая воля, на яго думку, насамрэч не вызначалі хады грамадскага развіцця. Пры гэтым ён прызнаваў, што ўладары і дзяржаўная бюракратыя адыгрываюць істотную ролю ў прыняцці пастановаў і іх выкананні. Але, маўляў, самі рашэнні — як ён спрабаваў паказаць на прыкладзе прац, зарыентаваных у сацыяльна-гістарычным аспекце, — заўсёды матываваліся вельмі неаднароднымі чыннікамі, не ў апошнюю чаргу праз знешнепалітычныя праблемныя сітуацыі — як, прыкладам, „агульнымі варункамі заходнееўрапейскага рынку". Апублікаваная ў 1917 г. праца Пічэты пра зямельную рэформу Жыгімонта Аўгуста, без сумневу, уяўляла сабою, побач з манаграфіямі Любаўскага і Доўнара-Запольскага, найважнейшае дасягненне дасавецкай гістарыяграфіі па польска-літоўскай праблематыцы. Гэта не ў апошнюю чаргу служыць доказам таго, што менавіта названыя тры гісторыкі ў змененых варунках падсавецкай гістарыяграфіі належалі да галоўных постацяў у беларусазнаўстве пачатку яго развіцця.

Разам з прафесійнай гістарыяграфіяй праблемамі гістарычнага развіцця беларускіх правінцыяў таксама займалася сталічная публіцыстыка. Пры гэтым рэакцыя спецыялізаваных выданняў на абуджэнне сярод беларускай інтэлігенцыі цікавасці да нацыянальнай гісторыі напрыканцы XIX ст. была вельмі рознай. Побач са сведчаннямі сімпатыі, што часам чуліся з асяроддзя маскоўскіх і пецярбургскіх інтэлектуалаў, адмоўныя і здзеклівыя выказванні на гэты конт былі хутчэй правілам, чым выняткам. У санкт-пецярбургскім выданні „Северный вестник" улетку 1897 г. быў змешчаны востра-крытычны матэрыял, выкліканы здзіўленнем з прычыны патоку публікацыяў на тэмы беларускай гісторыі, што з'явіліся перад тым. Тут гаварылася:

> „Няма нічога новага ў тым, што на кожную недарэчную думку, на кожную бязглуздую ідэю з упартай зацятасцю шукаюцца і знаходзяцца быццам бы лагічныя, часам нават навуковыя абгрунтаванні. Нашыя вешчуны нацыянальнага разладу займаюцца гэтай даходнай справай з шалёным імпэтам. Яны ўсімі сродкамі імкнуцца да таго, каб «навукова» абгрунтаваць свае тэндэнцыі, запазычваючы «навуковыя звесткі» пераважна з мінуўшчыны — з гісторыі гэтага краю, тамтэйшай народнасці, абаронцамі якой яны выступаюць і інтарэсы якой яны адстойваюць, лічачы гэта сваім місіянерскім і маральным абавязкам. Гэты край — калі ўжываць іхнюю тэрміналогію — ёсць Беларусь, а народ гэтага краю — беларусы"[282].

Гістарычная самасвядомасць „недасведчаных пісьменнікаў на тэмы даследавання мінулага Беларусі", паводле прыведзенага тут аўтара, санкцыянавала „тыя чыста нацыяналістычныя памкненні і варожасць да „инородцев" — гэткіх, як палякі ды габрэі, — што сёння ў вялікай колькасці жывуць у межах беларускага краю і ад якіх перад тым яшчэ заразілася беларуская інтэлігенцыя"[283]. Расійская крытыка вылучэння беларускімі гісторыкамі ды гістарычнымі публіцыстамі-

[282] С.Г-ч. Белорусские националисты (op. cit.). С.21.
[283] Тамсама, с.22.

аматарамі канца XIX — пачатку XX ст. сваёй уласнай нацыянальнай мінуўшчыны падмацоўвалася і стратэгіяй падбору аргументаў:

> „Кожнаму ж добра вядома, што гістарычны лёс Беларусі не заўсёды супадаў з лёсам астатніх частак Расіі, што Беларусь цягам доўгіх гадоў жыла ўласным жыццём, якое з розных пунктаў погляду адрознівалася ад жыцця астатняй Расіі. Амаль непазбежным вынікам гэтага мусілі стаць больш ці менш значныя адрозненні. Але ці гэтых адрозненняў насамрэч хапае, каб магчы назваць беларусаў самастойнай народнасцю — гэтае пытанне, прынамсі, застаецца адкрытым“[284].

Нават у асяроддзі славянафілаў пасля 1907 г. існавалі розныя погляды што да гістарычнай самабытнасці, а тым самым да права на нацыянальную эмансіпацыю беларускага і ўкраінскага этнасаў. Кансерватыўныя славянафілы, якія гуртаваліся вакол прафесараў Кулакоўскага[285], Філевіча і Вергуна, цалкам адмаўлялі нацыянальныя асаблівасці развіцця ўкраінцаў, а пагатоў беларусаў. Памяркоўныя славянафілы на чале з дэпутатам Дзяржлумы графам Бобрынскім і членам Дзяржаўнага Савета Красоўскім хоць і выступалі таксама за ўз'яднанне славянскіх народаў у складзе „адзінай і магутнай Расіі“, але, у кожным разе, за Польшчай яны прызнавалі права на самастойнае гістарычнае існаванне. Толькі невялікая група, што гуртавалася вакол пераважна ліберальнага выдання „Московский еженедельник“ і яго ідэолагаў прафесара А.Пагодзіна і князя С.Трубяцкога, прызнавала ў беларусаў і ўкраінцаў наяўнасць уласнай культурнай традыцыі й свайго асаблівага мінулага. Перыядычныя выданні „Окраины России“, „Северо-Западный край“ і „Крестьянин“, якія пачалі выходзіць пасля 1906 г. у Вільні і Санкт-Пецярбургу, адлюстроўвалі ў сваёй сутнасці погляды прадстаўнікоў школы „западно-руссизма“ і з націскам гаварылі, у духу славянафілаў, пра супольныя гістарычныя і культурныя карані ўсходнеславянскіх народаў[286].

На гэтым тле з боку ліберальнай гістарыяграфіі не трэба было доўга чакаць спробаў самаарганізацыі, незалежна ад нацыянальных поглядаў кожнага асобна ўзятага навукоўца. Гэтак, у 1918 г. у Маскве было ўтворанае „Беларускае навукова-культурнае таварыства“, якое аб'яднала ў сваіх шэрагах амаль усіх значных беларусістаў познецарскага часу[287]. Мэтай названага таварыства было згуртаванне „ўсіх навуковых мастацка-творчых і культурных сілаў Беларусі, а таксама асобаў, што цікавяцца даследаваннямі гэтага краю“. У праграмных заявах

[284] Тамсама, с.25.

[285] Рэдактар праўрадавага „Варшавского вестника“. Для Кулакоўскага і інш. „беларускае нацыянальнае адраджэнне“ было не чым іншым, як „польскай інтрыгаю“. З адпаведнымі нападкамі зноў-такі выступіў „Виленский вестник“ (№2247, 12.12.1910 г.). Гэты выраз зрабіўся лейтматывам для пазнейшай вялікарасійскай аргументацыі супраць нацыянальнай эмансіпацыі ў беларускіх правінцыях.

[286] Параўн. падрабязны разгляд публікацыяў гэтага выдання ў: Цьвікевіч А. „Западно-руссизм“... (op.cit.). С.300 і наст., а таксама ў: Zaprudnik, Jan. Political Struggle for Byelorussia... (op.cit.). С.100 і наст.

[287] Да сяброў таварыства належалі М.В.Доўнар-Запольскі, М.А.Янчук, М.М.Ясінскі, В.І.Качалаў, Я.Ф.Карскі, Д.Г.Канавалаў, І.І.Лапо, М.К.Любаўскі, У.І.Пічэта, А.П.Сапуноў і П.М.Жуковіч.

і статуце, побач з „усебаковым вывучэннем беларускіх земляў у мінуўшчыне і ў сучаснасці", на першых месцах стаялі асветніцкія, адукацыйныя і культурніцкія задачы: абвешчанай мэтай было „падвышэнне ўзроўню агульнай і нацыянальнай культуры і эканамічнага дабрабыту народа". Да задач таварыства таксама належала публікацыя матэрыялаў навуковых даследаванняў яго сяброў. Толькі з прычыны кароткага часу існавання таварыства сталася так, што гэтыя намеры былі ажыццёўленыя ў вельмі абмежаванай ступені[288].

У кожным разе, у Мінскім Нацыянальным архіве захаваліся дакументы таварыства, у якіх зафіксаваныя вялікія задумы. Стрыжнем навуковай дзейнасці мусіла быць серыя манаграфіяў па гісторыі Беларусі, у якіх разглядаліся б розныя паасобныя тэмы і якія былі б прызначаныя ўвазе шырэйшых колаў грамадскасці. Аб'ектам вывучэння меліся зрабіцца „найвыбітнейшыя моманты з мінулага Беларусі" ад глыбокай старажытнасці да сучаснасці. Меркавалася, што кожная з брашур будзе выпускацца накладам па 3000 асобнікаў і мець не больш за сем старонак тэксту. Стрыжнявая ідэя, якая завяршала этап дасавецкай гістарыяграфіі па беларускай праблематыцы, выявіць сябе пазней як цалкам сучасны падыход, які ўключаў у сябе як сацыяльна- й ідэйна-гістарычныя элементы, гэтак і аспект рэлігіі й нацыятворчага працэсу. Выбар адпаведных тэмаў грунтаваўся на пастулаце, што беларускую гісторыю трэба пісаць не як дзяржаўную гісторыю, а ўсё яшчэ як гісторыю беларускіх земляў[289].

Беручы пад увагу праграмныя мэты „Беларускага навукова-культурнага таварыства" і яго гістарыяграфічны праект у дачыненні да беларускай гісторыі, можна зрабіць выснову, што да 1918 г. гістарыяграфія, якая мела сваімі цэнтрамі Маскву і Вільню, як у крыніцазнаўчым, так і ў метадалагічным аспекце, дасягнула ўзроўню свайго развіцця, які рабіў мажлівым навуковае даследаван-

[288] НАРБ, ф.60, воп.3, спр.554, арк.1—25; у гэтым выпадку гл. арк.9.

[289] 1) Археалагічная гісторыя беларускай тэрыторыі; 2) Славяне і засяленне беларускіх земляў; 3) Полацкія землі да канца XIII ст.; 4) Утварэнне Літоўска-Рускай дзяржавы; 5) Эканамічнае становішча беларусаў да канца XIII ст.; 6) Уладкаванне правінцыяў у Літоўска-Рускай дзяржаве; 7) Полацкія землі ў складзе Літоўска-Рускай дзяржавы; 8) Вялікакняская ўлада ў Літоўска-Рускай дзяржаве; 9) Паны-Рада; 10) Вялікі Вальны сойм; 11) Шляхта; 12) Сяляне; 13) Гандляры; 14) Землеўладанне ў Літоўска-Рускай дзяржаве; 15) Узнікненне прыватнай уласнасці ў Літоўска-Рускай дзяржаве; 16) Гаспадарчая палітыка ў Літоўска-Рускай дзяржаве; 17) Зямельная рэформа Жыгімонта Аўгуста; 18) Літоўскі Статут і яго змест; 19) Палітычная праграма Другога Статута; 20) Беларускае адраджэнне; 21) Праваслаўе ў Літоўска-Рускай дзяржаве; 22) Каталіцкая царква; 23) Пратэстанцтва; 24) Унія і змаганне супраць яе; 25) Барацьба за Беларусь у XV—XVIII ст.; 26) Сялянства ў XVIII ст.; 27) 1812 год у Беларусі; 28) Жыццё шляхты і сялян у XVIII ст.; 29) Адміністратыўны падзел Беларусі ў XVIII — пачатку XIX ст.; 30) Віленскі універсітэт; 31) Габрэі ў Беларусі; 32) Гісторыя гандлю ў Беларусі ў X—XVIII ст.; 33) Селянін у XVI [магчыма, памылка друку. — Р.Л.] — XVIII ст.; 34) Зямельная рэформа; 35) Барацьба за земствы ў Беларусі; 36) Народная гаспадарка ў II палове XIX ст.; 37) Сялянскія хваляванні ў XX ст.; 38) Разбурэнне пераразмеркавальнай грамады (абшчыны) у Беларусі; 39) Беларусь і Дзяржлума; 40) Палітычнае і культурнае развіццё Беларусі ў XIX ст.; 41) Сельская гаспадарка і прамысловасць у Беларусі; 42) Народная адукацыя; 43) Езуіты й іх асветніцкая дзейнасць; 44) Землеўладанне напрыканцы XIX і ў пачатку XX ст.; 45) Аграрная палітыка ў Беларусі пасля 1861 г.; 46) Маскоўская і Літоўска-Руская дзяржавы.

не яе аб'екта. Нацыянальна-гістарычныя і інтэгратыўныя заходнерускія падыходы мінулых дзесяцігоддзяў у гэтай канцэпцыі былі памяркоўна прыглушаныя.

Аднак сітуацыя склалася так, што таварыства не выходзіла за межы абвяшчэння пра свае намеры. Урэшце, з нагоды заснавальніцкай імпрэзы была апублікаваная лекцыя М.К.Любаўскага, якая ўяўляла сабою новую аглядную працу па гісторыі Беларусі. Пад лозунгам, сфармуляваным па-беларуску, „*Сонца навукі скрозь хмары цёмныя прагляне ясна над нашай нівай*“, 1 ліпеня 1918 г. — што насамрэч стала прэм'ерай перад маскоўскім вучоным светам — быў прачытаны даклад, у якім прапаноўваўся праблемна арыентаваны агульны агляд беларускай гісторыі. У сувязі з тым уражаннем, што зрабіла за чатыры месяцы перад гэтым, у сакавіку 1918 г., утварэнне БНР, першай незалежнай Беларускай дзяржавы, цікавасць да абагульненняў гэткага кшталту, натуральна, была вялікая. Як гэта ўжо было з вялікімі сваім аб'ёмам працамі Любаўскага, і гэты гістарычны нарыс мусіў расчараваць тых, хто чакаў апалагетычных фармулёвак на тэмы беларускай гісторыі. З самага пачатку Любаўскі не пакінуў аніякіх сумневаў што да свайго бачання гісторыі:

> „Большую частку перыяду свайго існавання беларускае племя не мела ані сваёй уласнай дзяржаўнасці, ані сваёй уласнай гісторыі. Таму мы маем справу, па сутнасці, з гісторыяй племя і асаблівай разнавіднасцю нацыянальнай расійскай культуры“[290].

Тым не менш, Любаўскі аддаў даніну традыцыйнай схеме беларускай гістарыяграфіі і вылучыў у сваёй працы раздзелы пра: 1) этнагенез; 2) полацкі перыяд; 3) літоўскі перыяд; 4) польска-літоўскі перыяд і 5) расійскі перыяд. У адрозненне ад Доўнара-Запольскага, Ластоўскага альбо Ігнатоўскага, Любаўскі разглядаў розныя перыяды з нейтральнай дыстанцыі. Паводле яго меркавання, полацкія землі неслі на сабе „агульны адбітак культуры Кіеўскага перыяду“. І нават веча ў Полацкім княстве, на якое асаблівы акцэнт рабілі беларускія гісторыкі, на думку гэтага аўтара, толькі прыблізна дасягнула таго значэння, якое яно мела ў Ноўгарадзе. Разам з тым, і для Любаўскага было відавочным, што беларускі элемент мог развівацца ў асаблівай ступені менавіта тут, ва ўладаннях Полацка. Нацягненыя стасункі паміж полацкімі ды кіеўскімі князямі, а таксама „сепаратызм, укаранёны ў саміх поглядах жыхарства“, мелі, паводле Любаўскага, геаграфічныя прычыны, а зараджэнне нацыянальнай самасвядомасці мела да гэтага малое дачыненне. Для яго протабеларускія плямёны былі „правінцыяй“ Русі: „Людзі за лясамі і балотамі жылі адасоблена ад рэшты рускага насельніцтва і не хацелі ані спазнаваць, ані падзяляць іх інтарэсаў альбо памкненняў“. Для полацкай эпохі Любаўскі знайшоў месца ў межах племяннога рэгіяналізму, бо, маўляў, Полацкая Русь урэшце таксама была ўцягненая „ў арбіту расійскай дзяржаўнасці“[291].

[290] Любавский М.К. Основные моменты истории Белоруссии: Доклад, читанный на 1-м публичном заседании Белорусского научно-культурного общества в Москве 1/14.7.1918 года. Москва, 1918.

[291] Цытаты гэтага абзаца гл.: Тамсама, с.9—13.

Для наступнай эпохі ў гэтым дакладзе Любаўскі ўжываў азначэнне „Літоўска-Руская дзяржава"; тут ён яшчэ раз абагульніў вынікі сваіх шырокамаштабных даследаванняў гэтай тэмы, паставіўшы ў цэнтр сваіх разважанняў дзве наступныя думкі: 1) Вялікае Княства Літоўскае з моманту свайго ўзнікнення было „напалову рускай" дзяржавай. Толькі за кошт беларускіх земляў яно магло ў гэткай меры пашырыцца і выбудаваць сваю дзяржаўнасць; 2) Беларуская нацыянальная кансалідацыя не адбылася, бо для вясковых масаў насельніцтва былі страчаныя знакавыя гістарычныя постаці і сацыяльныя партнёры: князі полацкай дынастыі, баяры, землеўласнікі й іншыя часткі вышэйшага стану. Увядзенне магдэбургскага права й адчужэнне гарадскога насельніцтва ад шырокай масы, паводле Любаўскага, яшчэ болей паспрыялі нацыянальнай дыфузіі беларусаў[292]. У цэлым у канцэпцыі Літвы, прапанаванай Любаўскім, адсутнічала якая-кольвечы нацыянальная эйфарыя, што была вызначальнай для гістарычнага бачання яго беларускіх калегаў.

Уключэнне беларускіх тэрыторыяў у склад Рэчы Паспалітай, паводле разумення расійскіх гісторыкаў, канчаткова прадвызначыла перапыненне беларускага нацыятворчага працэсу. „Усё, што было свядомым, развітым і культурным, зрабілася польскім". Пасля гэтага край згубіў свой „рускі характар". Вядома ж, рыторыцы прыхаванай антыпольскай варажнечы адпавядала ўжыванне ў дачыненні да наступстваў кіравання польскіх каралёў гэткіх паняццяў, як „паўперызацыя", „прымітыўнасць" і „мінімалізм". Паводле, як агульна прызнаецца, наўмысна завостранай ацэнкі Любаўскага, ад беларусаў засталося „рускае племя без гісторыі, з уласнай археалогіяй і этналогіяй". У гэтым кантэксце далучэнне да царскай Расіі было не чым іншым, як канцавым пунктам пэўнага развіцця, якое ўжо раней наўрад ці мажліва было прадухіліць альбо спыніць. Вельмі стрымана дасавецкая і падсавецкая гістарыяграфія ацэньвала курс на русіфікацыю, узяты ў XIX ст., які ў дачыненні да развіцця беларусаў прынёс з сабою „мала зменаў". Аўтар выказваў сваё шкадаванне з тае прычыны, што пасля закрыцця Віленскага універсітэта на беларускіх землях не быў створаны „рускі універсітэт", а таксама з прычыны адсутнасці інстытута земстваў, якія маглі б у іншых варунках паспрыяць развіццю пэўнага самакіравання і рэгіянальнай самасвядомасці. У абліччы гэтай гісторыі нацыянальнага заняпаду, паводле меркавання Любаўскага, агульны з Расіяй падмурак мог быць апошнім апірышчам для беларускага грамадства.

Калі падсумаваць вышэйсказанае, выяўляецца, што расійскае гісторыяпісанне, несумненна, складала колькасна найбольш важкую частку ў першых распрацоўках гісторыі Беларусі альбо „паўночна-заходніх абласцей". Угрунтаваны на розных пунктах погляду і розных раскладках палітычных інтарэсаў, узнік вельмі салідны корпус публікацыяў крыніц і даследчых працаў, якія найчасцей адносіліся да стагоддзяў пасля ўлучэння беларускіх і расійскіх тэрыторыяў у склад Вялікага Княства Літоўскага. У адрозненне ад беларускіх канцэпцыяў гісторыі, якія зыходзілі з факта існавання беларускай нацыі ды бесперапыннай традыцыі беларускай дзяржаўнасці, большасць расійскіх гісторыкаў прызнавала белару-

[292] Тамсама, с.14—18.

саў толькі ў якасці „племя". У найбольш падрабязнай беларусазнаўчай працы А.Пыпін дакладна перадаў пазіцыю расійскай гістарыяграфіі:

> „У тым, што беларускае племя–народ паводле свайго паходжання і найбольш істотных прыкметаў свайго этнічнага характару належыць да агульнага рускага цэлага, няма ані найменшага сумневу. [...] Тым часам існаванне беларускага «племя» выклікае гэтаксама мала сумненняў; праблема палягае толькі ў тым, наколькі і якімі рысамі свайго характару гэтае племя адрозніваецца ад таго вялікарасійскага племя, якое ўтварае стрыжань і дамінавальную народнасць у расійскай дзяржаве? Адказ на гэта даюць гісторыя племя, яго мова і сутнасныя характарыстыкі"[293].

Падобным чынам выказваўся таксама аўтар артыкула пра „Беларусаў" у „Энцыклапедычным слоўніку Бракгаўза—Ефрона" 1891 г. выдання, які ўражвае сваім абагульненнем афіцыйнага расійскага прачытання беларускага пытання і таму тут варты быць узгаданы напрыканцы раздзела, нягледзячы на ранні год свайго выхаду. І тут пад пытанне не ставілася існаванне беларускага племя з уласнай мовай, адносна дакладна вызначанай тэрыторыяй засялення, якая сягала шырэй за абмежаваную Магілёўшчынай і Віцебшчынай Белую Русь, а таксама з уласнымі звычаямі ды традыцыямі, багатай літаратурай. Аднак паходжанне беларускага народа разглядалася не інакш як у расійскім кантэксце. Гэтак, чытачам даводзілася, што пасля ўтварэння Літоўскага Княства „руская культура не была разбураная, а наадварот, яна была пераянятая літоўцамі, што знаходзіліся на ніжэйшай стадыі развіцця"[294]. Толькі аб'яднанне Літвы з Польшчай, маўляў, прывяло да таго, „што рускае насельніцтва Літвы паступова падпала пад польскі ўплыў"[295].

Сінанімічнае ўжыванне паняццяў „беларускі" і „рускі" аніяк не мела на мэце следаванне пэўнай гістарыяграфічнай стратэгіі. Ніводнаму чалавеку на зломе XIX і XX ст. — гэта датычыць нават беларускіх патрыётаў — не прыйшла ў галаву ідэя з прычыны нацыянальнага імпэту раздзяляць значэнні гэтых тады сінанімічных выразаў. Раздзяленне было вынаходніцтвам паслясавецкай гістарыяграфіі. На думку расійскіх гісторыкаў таго часу беларусы, як і ўкраінцы, у суадносенні з расійцамі мелі толькі спецыфічныя рэгіянальныя адрозненні. І нават апошнія хутчэй выклікалі шкадаванне, чым былі аб'ектам усхвалення. Гэтак, у згаданай энцыклапедыі паведамлялася нават пра варты жалю стан беларускай сялянскай гаспадаркі, пра „маленькіх і слабых коней і быдла, што, аднак, складаюць усё багацце і гонар беларускага мужыка". Пры гэтым аўтар артыкула пры-

[293] Пыпин А. Белорусская этнография (op. cit.). С.645.

[294] Гэткае геаграфічнае вызначэнне паняцця „Белая Русь", зробленае А.С., гл.: Энциклопедический словарь Брокгауза—Ефрона. Т.5. С.173 і наст.

[295] А.С. Белоруссы // Тамсама, с.232—234. У падобнай манеры напісаны таксама вялікі артыкул Мікалая Васіленкі пра „Літоўска-Рускую дзяржаву". У той час як А.С., у кожным разе, зазначаў, што акты Вялікага Княства Літоўскага складаліся „на беларускай гаворцы" („*на белорусском наречии*") — гл. тамсама, с.232, — Васіленка называў мову законаў „рускаю", а мову, на якую Скарына ў 1517 г. у Празе пераклаў Біблію, — „стараславянскаю". Тэрмін „беларускі" нідзе ў гэтым тэксце не ўжываецца: параўн.: Василенко Николай. Литовско-Русское государство // Тамсама, т.27–А. С.817—827.

знаваў, што не самі людзі і не іх інтэлектуальныя здольнасці прывялі да жабрацтва, а „галоўная прычына беднасці і стану прыгнёту беларусаў — гэта іх цяжкое мінулае“[296].

## 3.3. Беларусь ва ўкраінскай гістарыяграфіі

Хоць Украіна мусіла падзяляць з Беларуссю гісторыю без уласна-дзяржаўнай традыцыі, яна яшчэ да 1918 г. нашмат часцей была аб'ектам абагульняльных гістарычных працаў. Да 1914 г. былі апублікаваныя разам узятыя дваццаць восем „Гісторыяў Украіны“, прычым, да прыкладу, восем з шаснаццаці даследаванняў, што былі напісаныя ў 1777—1824 г., зусім не пабачылі свету ў друкаваным выглядзе. Тым не менш, тыя восем працэнтаў, што названыя працы складалі ад агульнай колькасці 342 расійскіх, польскіх і ўкраінскіх нацыянальных гісторыяў, выглядалі не надта пераканаўча. Калі ж, аднак, побач паставіць жменьку абагульняльных працаў па беларускай гісторыі, суадносіны зноў-такі выглядаюць адпаведным чынам. Беручы пад увагу ўкраінска-беларускія дачыненні, акрамя таго, робіцца відавочным, што ў другой палове XIX ст. ва Ўкраіне, што належала да царскай імперыі, выйшла толькі адна абагульняльная праца па гісторыі Ўкраіны: шаснаццацістаронкавы артыкул у томе „Россия“ „Энциклопедического словаря“, напісаны вышэйзгаданым Мікалаем Васіленкам (Микола Василенко)[297]. Тэндэнцыя прадоўжылася і пасля 1914 г., прычым у гэты перыяд часу насамрэч выйшла з друку больш абагульняльных прац па ўкраінскай і беларускай гісторыі, чым „Гісторыяў Расіі“. Гэтак, толькі ў 1914—1923 г. былі апублікаваныя трыццаць адна „Гісторыя Ўкраіны“[298]. У адносінах да Беларусі іх, аднак, можна налічыць сем.

У дасавецкай гістарыяграфіі Ўкраіны ў дачыненні да гістарычнага ўспрымання беларускіх земляў можна вылучыць дзве школы. Першая група гісторыкаў — у якую ўваходзілі гэткія знакамітыя , як Міхайла Грушэўскі альбо Дзмітро Дарашэнка, — бачыла беларусаў як партнёраў, звязаных лёсам з украінскім народам. Актывізацыя беларускай нацыянальнай — і, не ў апошнюю чаргу, гістарычнай — асветы, прыкладам, выразна віталася Дарашэнкам. У брашуры, апублікаванай у 1909 г. у Кіеве, ён адзначыў агульныя і адрозныя рысы беларускай і ўкраінскай гісторыі. Тут ён звярнуў увагу на перыяды далейшага развіцця беларускай нацыі і мовы — г.зн., на XV і XVI ст., — калі беларуская мова была афіцыйнаю мовай зносінаў Літоўскай дзяржавы. Адыход беларускіх вышэйшых станаў спачатку ў польскую, а пасля ў расійскую культуры, паводле гэтага аўтара, урэшце прывёў да таго, што засталася існаваць толькі „змрочная забытая супольнасць сялян, што знаходзіліся пад чужым уладараннем“[299].

[296] А.С. Белоруссы (op. cit.). С.234.
[297] Энциклопедический словарь Брокгауза—Ефрона. Т.5. С.492—509. Харкаўская, усходнегаліцкая правінцыі ды Паўднёвая Ўкраіна пад увагу не браліся. Праца абмяжоўваецца „палітычнай гісторыяй маларасійскай нацыі“ ад узнікнення казацтва да 1831 г.
[298] Velychenko, Stephen. National History as Cultural Processes... (op. cit.). C.XXIX.
[299] Дорошенко Д. Беларусы і іх нацыянальнае адраджэньне // НН. №4, 22.01.1909. С.49—62, тут цытуецца с.51. Брашура, якая выйшла на ўкраінскай мове, была перакладзена на беларускую для „Нашай Нівы“. За год перад гэтым у Львове выйшла

Насамрэч, беларусы пачалі XX ст. без інтэлектуальнай альбо сацыяльнай эліты, якая магла б узяць на сябе ажыццяўленне нацыянальнай задачы — неістотна, якога кшталту. Таму не было нічога дзіўнага ў тым, што ў выніку падзелаў Рэчы Паспалітай і ў рэчышчы польскага нацыянальнага руху польская інтэлігенцыя „без грамадзянства" выяўляла моцны даследніцкі інтарэс і да іншых частак зніклай дзяржавы. Паводле меркавання Дарашэнкі, менавіта польскія студэнты і маладыя навукоўцы ў XIX ст. зацікавіліся беларускай мовай ды этнаграфіяй (даслоўна перакладаецца як „навука пра беларускую нацыю").

Звязаны ў сваёй дзейнасці з Кіевам ды Львовам ардынарны прафесар гісторыі Міхайла Грушэўскі ўжо пры жыцці лічыўся *менавіта* украінскім гісторыкам дасавецкага і раннесавецкага часу[300]. Яго гістарычныя даследаванні — а перадусім шматтамовая няскончаная „Гісторыя Украіны-Русі" — належалі да найлепшых здабыткаў еўрапейскай гістарыяграфіі таго часу. Яны занялі і займаюць да сёння месца побач з працамі Ключэўскага альбо Платонава[301]. У дачыненні да беларускіх земляў і супольнага перыяду гісторыі ўкраінцаў і беларусаў — да прыкладу, у складзе Кіеўскай Русі альбо Вялікага Княства Літоўскага — Грушэўскі заўсёды імкнуўся пазбягаць „спрэчкі за спадчыну". Пра гэта ён некалькі разоў рабіў выразныя сведчанні. Стрыжнем яго аргументацыі пры гэтым было асобнае ад Масквы гістарычнае развіццё абедзвюх тэрыторыяў і народнасцяў. Беларусы, літоўцы і ўкраінцы, адпаведна, для яго былі прыналежнымі да супольнасці з агульным гістарычным лёсам; маўляў, яны цесна звязаныя паміж сабою „праз наступствы мінулага" і супольную „ідэю свабоды"[302].

Пра ўкраінскую і беларускую часткі польска-літоўскай дзяржавы Грушэўскі, як правіла, вядзе гаворку ў звязку з выцясненнем там усходнеславянскіх элементаў. У выказваннях гэткага кшталту выявіла сябе вялікае расчараванне аўтара з тае нагоды, што належным чынам не былі адзначаныя „слава і заслуга

праца, у якой упершыню выказвалася стаўленне ўкраінскай навукі да беларускага пытання: Святіцький І. Відродження білоруського письменства. Львів, 1908. Там гаварылася пра новы тып беларускага патрыёта, які ёсць своеасаблівым прадуктам несвабоднага культурна-гістарычнага збліжэння палякаў і беларусаў: „Гэты, будучы палякам, любіць па-свойму польскую правінцыю, разгляданую ім як сваю радзіму — Беларусь; як беларус, аднак, ён любіць сваю Рэч Паспалітую — Польшчу".

[300] Параўн. па гэтым пытанні біяграфію: Prymak, Thomas M. Mykhailo Hrushevsky. The Politics of National Culture. Toronto, 1987. Акрамя таго, першыя галасы ў постсавецкай украінскай гістарыяграфіі: Академік М.С.Грушевський — видатний український вчений-історік і літературознавець, громадський діяч // Вісник АН України. 1992. Вип.1. С.3—6; Толочко П.П. Академік М.С.Грушевський — видатний український вчений // Тамсама, с.6—13; Сохань П.С. М.С.Грушевський — археограф та джерелознавець // Тамсама, с.14—21.

[301] Да сённяшняга дня не з'явілася супастаўнай сваім аб'ёмам працы па гісторыі ўкраінскага народа. Яшчэ на пачатку XX ст. працы Грушэўскага перакладаліся на нямецкую мову; гл.: Hruschewskyj, Michael. Die ukrainische Frage in historischer Entwicklung. Wien, 1915; *Яго ж.* Geschichte der Ukraine. Teil 1. Lemberg, 1916.

[302] *Яго ж.* На українські теми: на новий рік // Літературно-науковий Вістник. 1909. №45. С.115—126. У тым самым годзе яшчэ выйшла: Ukraine — Weissrussland — Litauen // Ukrainische Rundschau. Nr 2. Wien, 1909.

украінскага народа перад гісторыяй еўрапейскай культуры“: а менавіта праз тое, што ён „стагоддзямі быў яе трывалым апірышчам, стрымліваючы сваімі грудзьмі магутны націск дзікіх качэўніцкіх ордаў“. Падобныя папрокі выказваліся і беларускімі гісторыкамі, якія, са свайго боку, імкнуліся бачыць функцыю апірышча за беларускім народам у часы мангольскага наступу. Гэтак, успрыманне гістарычнай „несправядлівасці“ яднала даследчыкаў гісторыі ў Вільні і Львове, Менску і Кіеве. З іхняга гледзішча, гэтыя землі пасля выкананай місіі ператварыліся ў палігон высвятлення дачыненняў памежных моцных дзяржаваў, у рэгіёны пастаянных міграцыяў у адзін і ў другі бок, праз што была „праглынутая велізарная частка нацыянальнага здабытку“. Падкрэслівалася, што „вялікія масы жыхарства стагоддзямі тут не мелі мажлівасці задбаць больш, чым пра элементарны клопат дзеля мінімальнага ўзроўню падтрымання свайго жыцця“[303].

Для Грушэўскага не было аніякага сумневу ў тым, што Вялікае Княства Літоўскае ў сваёй сутнасці ўяўляла сабою дзяржаўнае ўтварэнне з украінска-беларускім дамінаваннем. Ужо гэты факт змусіў яго, яшчэ раней за Дарашэнку, засведчыць „супольнасць лёсаў“ абедзвюх народнасцяў ці нацыяў:

> „Паколькі літоўскі народ у сваім культурным і сацыяльным развіцці знаходзіўся на параўнальна значна ніжэйшай ступені, чым украінскае і беларускае насельніцтва далучаных земляў, ён падпаў пад уплыў славянскага элемента з ягонымі развітымі дзяржаўнымі і грамадскімі формамі, ягонай рэлігіяй, ладам жыцця і літаратурай. Беларуская мова зрабілася афіцыйнай і канцылярскай мовай Вялікага Княства Літоўскага цягам усяго наступнага перыяду [...]; кіеўскае права дзяржавы і ўтвораная паводле яго палітычна-грамадская сістэма (Schema) сталіся падмуркам літоўскага дзяржаўнага права. Сама літоўская княская дынастыя ў вялікай ступені трапіла пад рускі ўплыў [...]. Асабліва моцным было ўздзеянне беларускага элемента, бо беларускія землі былі далучаныя да Вялікага Княства раней і іх повязь з ім была шчыльнейшай, чым ва ўкраінскіх земляў“[304].

Побач з культурна-гістарычным кампанентам, Грушэўскі цікавіўся таксама сацыяльнай структурай Вялікага Княства. Няшмат хто з ягоных калегаў у той час разглядаў „сацыяльны і культурна-гаспадарчы працэс развіцця“ як „падмурак жыцця нацыянальнага“. У звязку з гэтым Грушэўскі надаваў вялікае значэнне канстатацыі таго, што вышэйшыя станы літоўскага грамадства — а менавіта абавязаная да вайсковай службы праслойка „княскіх людзей“ — у вялікай ступені складалася з прадстаўнікоў „самых паважаных украінскіх і беларускіх ба-

[303] *Яго ж.* Geschichte der Ukraine. Teil 1 (op. cit.). C.31.

[304] Тамсама, с.140. У іншым месцы Грушэўскі выказваецца яшчэ больш выразна: „Адпаведным чынам, гісторыя Вялікага Княства Літоўскага нашмат шчыльней звязаная з гісторыяй беларускай нацыі, чым з гісторый нацыі Украіны-Русі: апошняя, трапіўшы ў сферу ўплыву Літвы, здолела процістаіць гэтаму няшмат са свайго ўплыву — хіба што толькі апасродкаванага — у той час як беларусы перадалі сваё права і культуру, што перайшлі ім у спадчыну ад Кіеўскай дзяржавы“ — цыт. паводле: Hrushevsky, Mychaylo. The Traditional Scheme of „Russian“ History and the Problem of a rational Organization of the History of the Eastern Slavs // The Annals of the Ukrainian Academy of Arts and Sciences in the U.S. New York City 2 (1952) 2. C.355—364; у гэтым выпадку цытуецца с.360. Праца была напісаная ў лістападзе 1903 г. у Львове і апублікаваная ў 1904 г. у Санкт-Пецярбургу.

ярскіх родаў". Іншыя сацыяльныя станы — да прыкладу, краёвыя арыстакраты-землеўласнікі, гараджане, зямельныя сяляне, а таксама асноўная частка падданых дзяржавы — таксама ўжо існавалі ў той час, калі пачалося літоўскае ўладарства[305]. Апісаная тут першая група, што рэпрэзентавала ўкраінскі погляд на Беларусь, звяртала ўвагу на сутнаснае падабенства гісторыі беларускіх ды ўкраінскіх земляў і таксама народнасцяў, якія тут жылі. На падставе ўсведамлення, што ўкраінцы і беларусы заўсёды былі „падняволенымі чужых нацыяў", Дарашэнка і Грушэўскі не падтрымлівалі ўкраінскай прэтэнзіі на адзінае рэпрэзентаванне нерасійскага „дэмакратычнага" варыянта ўсходнеславянскай гісторыі.

Унутры другой групы гісторыкаў і публіцыстаў дамінавала бачанне ўкраінска-беларускай спрэчкі за спадчыну. Асабліва яскрава гэтая тэндэнцыя выявілася ў першай украінскай гісторыі культуры. Прыват-дацэнт кіеўскага „народнага універсітэта" Іван Агіенка ў цыкле сваіх лекцыяў 1918 г. зрабіў спробу аддаць належнае дасягненням украінцаў у галіне матэрыяльнай і духоўнай культуры „з найстаражытнейшых часоў". Не беручы, вядома ж, пад увагу публікацыі беларускіх калегаў, аўтар у той самай манеры данавуковай незаклапочанасці рэферуе хаду гістарычнага працэсу. Далікатныя прафесійныя пытанні, надзвычай карысныя для стварэння шматфарбавага вобраза нацыянальнай гісторыі, тут, як і ў тым выпадку, знаходзяць паблажлівыя адказы на карысць уласнай інтэрпрэтацыі альбо — паводле перакананняў патрыёта-даследчыка гісторыі — зусім і не ўспрымаюцца ў якасці спрэчных пытанняў. Гэтак, амаль само сабою разумелася, што Літоўскія Статуты былі дакументамі, „напісанымі на нашай мове", альбо яшчэ, што народжаны ў 1629 г. у Полацку паэт, публіцыст і выхавальнік расійскага спадкаемцы трона Сімяон Полацкі прэзентуецца як „українець". Зусім неабгрунтаванай выглядае тэза аўтара, нібыта Астрожская Біблія 1581 г. была „першай цалкам выдрукаванай Бібліяй усяго славянскага свету"; пры гэтым адсутнічае якая-кольвечы згадка пра пераклад Францішка Скарыны, апублікаваны ў 1517 г.[306].

Прэтэнзіі на культурна-гістарычную спадчыну ў духу ўзбагачанай нацыянальнай гісторыі былі, натуральна, і ва Украіне не толькі вынаходніцтвам 1918 г. і кароткатрывалай уласнай дзяржавы. Як і Агіенка, Мыкола Аркас у сваёй схематычна ўпарадкаванай храналогіі ўладароў настойваў на тэзе, нібыта ў Вялікім Княстве Літоўскім украінская мова была не толькі мовай дакументаў, але і мовай штодзённага ўжытку і зносінаў паміж прадстаўнікамі вышэйшых станаў. Апроч гэтага, добра відаць, што для гэткіх аўтараў, як Аркас, Вялікае Княства Літоўскае было дзяржаўна-ўпарадкаваным тэрытарыяльным злучэннем літоўскіх і ўкраінскіх земляў, якое ўрэшце растварылася ў польскай Рэчы Паспалітай. З гэткага гледзішча бездзяржаўнасць украінцаў і беларусаў, з нагоды якой выказвалася шмат шкадаванняў, падштурхоўвала нацыянальных гісторыкаў адпаведных краін да далёкасяжных гістарычных прэтэнзіяў, у арбіту якіх лёгка траплялі тэрыторыі з аднолькавай альбо блізкай моўна-культурнай субстанцыяй. У гэтым да-

[305] Тамсама, с.21, 183.
[306] Огієнко Іван. Українська культура. Коротка історія культурного життя українського народа. Курс, читаний в Українськім Народнім Університеті. Київ, 1918. С.17, 69, 31.

чыненні варта тут канстатаваць, што паасобныя гісторыкі з Кіева альбо Львова тут дзейнічалі больш маштабна, чым іх калегі ў Вільні альбо Менску.

У асобных выпадках пра беларусаў згадвалі ў сваіх працах таксама М.Кастамараў[307], У.Антановіч[308], М.Драгаманаў альбо В.Данілевіч[309]. Між іншым, для Кастамарава, які лічыцца заснавальнікам папулісцкай школы ўкраінскай гістарыяграфіі, на пачатку 60-х г. XIX ст. існавалі толькі „дзве рускія нацыянальнасці": „вялікарасійская" і „паўднёваруская". Праз гэтае рамантызаванае, поўнае міфаў ды стэрэатыпаў проціпастаўленне паказваліся свабодалюбства, адкрытасць і (казацкае) дэмакратычнае мысленне ўкраінцаў — як альтэрнатыва калектывізму, нецалерантнасці і „створанай пад уплывам татараў" аўтакратычнай традыцыі валадарання вялікарасійцаў. Прымусова ўтворанай расійскай „общине" Кастамараў процістаўляў заснаваную на „добраахвотнасці" ўкраінскую „грамаду"[310]. Наўрад ці можна назваць які-небудзь іншы дакумент нацыянальна выяўленай гістарыяграфіі невялікарасійскіх правінцыяў позняй царскай імперыі, які б яшчэ больш яскрава засведчыў, што напачатку гістарыяграфія была прасякнутая данавуковымі стэрэатыпамі. У кожным разе, украінскае гісторыяпісанне познецарскага часу мела навуковыя базісныя структуры, якія рабілі магчымым прафіляванне і прафесіяналізацыю гістарыяграфіі.

## 3.4. Беларусь у нямецкамоўнай гістарыяграфіі

Калі ніжэй мы коратка спынімся на тагачасным заходнім бачанні гісторыі Беларусі, трэба мець на ўвазе, што гаворка можа ісці ў гэтым выпадку толькі пра нямецкамоўную літаратуру. Спецыяльных даследаванняў на ангельскай альбо на французскай мове да 1918 г. не існавала ўвогуле, калі не браць пад увагу агульных энцыклапедычных артыкулаў у *Encyclopaedia Britannica* альбо *Larousse*. Вынятак з гэтага правіла складаюць нешматлікія пераклады стандартных працаў па гісторыі Вялікага Княства Літоўскага. У год вызвалення сялян праз расійскага цара Аляксандра II у Парыжы выйшаў з друку французскі пераклад „Гісторыі Літвы і Русі" Ёахіма Ляляweля. Тут, натуральным чынам, Беларусь яшчэ не згадвалася. Беларускія і ўкраінскія землі, што з'ядналіся разам з цэнтральнай

[307] Костомаров Н.И. Историческне монографии и исследования. Т.1—20. Санкт-Петербург, 1863—1889; па гэтым пытанні гл. перадусім т.3.

[308] Антонович В.Б. Монографии по истории Западной и Юго-западной Россин. Киев, 1885; Антоиовнч В., Иловайский Д. История Великого Княжества Литовского. Саикт-Петербург, 1887.

[309] Данілевіч быў, калі не лічыць Дарашэнку і Свяціцкага, адзіным украінскім гісторыкам, які выразна засведчыў сваю зацікаўленасць беларускай гістарычнай тэматыкай і асабліва адзначаў самастойнасць Полацкага княства, гл.: Данилевнч В. Стоянка н мастерская каменного века в Могилевской губернии, нсследованная летом 1893 г. // Киевская старина. 1895. №49 (год 4-й); *Яго ж.* Очерк истории Полоцкой земли до конца XIV столетия. Киев, 1896.

[310] Kostomarov, Mykola. Two Russian Nationalities (excerpts) // Lindheim R., Luckyj G. s.n. Towards an Intellectual History of Ukraine: An Anthology of Ukrainian Thought from 1710 to 1995. Toronto—London, 1996. C.122—134. (У арыгінале выйшла ў 1914 г.). Гэткую інтэрпрэтацыю з ахвотай падтрымала Н.Палонская-Васіленка, параўн.: Polonska-Vasylenko, Natalija. Geschichte der Ukraine... (op. cit.). C.18.

літоўскай зямлёй у Вялікае Княства Літоўскае, характарызуюцца больш агульным тэрмінам „Ruthénie“. Аднак паняцце „Ruthénie Blanche“ („Белая Русь“) ужываецца ў дададзенай да працы карце Леанарда Ходзькі ў дачыненні да Віцебшчыны і Магілёўшчыны, што дакладна адпавядала тагачаснай лакалізацыі тэрыторыі „Белай Русі“, у тым сэнсе як яна апісвался ў Турчыновіча (1857 г.) і ў расійскім „Геаграфічным лексіконе“. Акрамя таго, у пэўным сэнсе нечакана, што ў дачыненні да Палесся (тут мае назву „Polésiè“), паміж Пінскам і Жытомірам, у аднолькавай меры ўжываецца тапонім „Ruthénie Noire“ („Чорная Русь“). У той самы час, Усходняя Галіцыя — тэрыторыі паміж Люблінам і Камянец-Падольскам, улучна з Львовам і Галічам — называецца тут „Ruthénie Rouge“ („Чырвоная Русь“)[311]. Тагачасныя геаграфічныя вызначэнні для гістарычнай беларуска-ўкраінскай прасторы надалей цягам XIX ст. пастаянна мяняліся. У заходняга чытача тэрміналагічныя разбежнасці мусілі, натуральна, выклікаць збянтэжанасць. Надзіва выразна „нацыянальнасці“ былі размежаваныя ўжо ў сярэдзіне таго самага стагоддзя ў падарожніка па Расіі барона Аўгуста фон Гакстгаўзэна (*August Freiherr von Haxthausen*). Ён заўважыў, што „мова беларусаў і 7 мільёнаў маларусаў мае дыялектныя адрозненні ад вялікарасійскай мовы“, але яны, мяркую, „не гэткія значныя, як адрозненні ў мове, прыкладам, жыхароў Гарца і браўншвайгцаў“[312].

Увогуле, нямецкі гістарычны інтарэс нельга назваць занадта вялікім. У цэлым існавалі тры прычыны, якімі зацікаўленасць нямецкіх даследчыкаў, пачынаючы з канца XIX ст. была выкліканая, падтрымлівалася да Першай сусветнай вайны і атрымала новы імпульс з уваходам нямецкіх войскаў у „Land Ober-Ost“ („Верхне-ўсходнюю зямлю“) і знаходжаннем іх там да 1918 г.[313]. Збольшага Беларусь — як адметная ўсходнеславянская моўная прастора альбо, аднак, і як тэрыторыя вайсковых інтарэсаў — трапляла ў поле зроку нямецкіх навукоўцаў альбо падтрыманых вайсковым ведамствам этнографаў. Гэткія перыядычныя выданні, як „Archiv für slavische Philologie“, „Altpreussische Monatsschrift“, „Am Urquell“, „Globus“, „Ost und West“ альбо „Slavonika“, а таксама органы нямецкай акупацыйнай улады, гэткія як „Zeitschrift der 10. Armee“, „Grodnoer Zeitung“, „Pinsker Zeitung“, „Deutsche Kriegszeitung von Baranowitschi“, „Nowogrodeker Kriegszeitung“, „Bialostoker Zeitung“, „Wilnaer Zeitung“ ці то „Wacht im Osten“, раз-пораз рабілі публікацыі на гістарычныя тэмы, датычныя да тэрыторыі, якая ўвогуле амаль не заўважалася[314].

[311] Lelewel, Joachim. Histoire de la Lithuanie et de la Ruthénie jusqu'à leur union définitive avec la Pologne comclue a Lublin en 1569. Paris—Leipzig, 1861.

[312] von Haxthausen, August Freiherr. Studien über die inneren Zustände, das Volksleben und insbesondere die ländlichen Einrichtungen Rußlands. Bd.3 (1852), цытуецца паводле: Tschiżewski D., Groh D. (рэд.). Europa und Rußland. Texte zum Problem des westeuropäischen und russischen Selbstverständnisses. Darmstadt, 1959. С.140—188, у гэтым выпадку с.179.

[313] Параўн., сярод іншага: Grabowski, T.St. Das Land Ober-Ost. Stuttgart—Berlin, 1913, а таксама разнастайныя публікацыі праф. Рудальфа Абіхта (*Prof. Dr. Rudolf Abicht*) у газеце „Zeitung der 10. Armee“ (Вільня, 1915—1918).

[314] Публіцыстычныя матэрыялы былі нагэтулькі разнастайныя, што сёння яны зрабіліся аб'ектам уласнага асэнсавання з боку беларускіх даследчыкаў; параўн.: Сакалоўскі Уладзімер. Беларускае культурнае адраджэньне вачыма нямецкіх вучоных // Спадчына. 1996. №3. С.278—288.

Напачатку да тэмаў асаблівай увагі належалі тэрыторыі, закранутыя паходамі Тэўтонскага рыцарскага ордэна, што на мяжы XIX і XX ст. адпавядала зацікаўленасці нацыянальна арыентаванай прускай гістарыяграфіі. Інфлянты і Літва наноў адкрываліся як зоны гістарычных традыцыяў і судакранання са славянствам. Нямецкі цэнтр літоўскіх даследаванняў напачатку мясціўся ў Кёнігсбергу[315]. Па-за праблемамі гісторыі рыцарства нагоду для больш актыўных занясткаў даследчыкаў Вялікім Княствам Літоўскім і імперыяй Ягелонаў стваралі пытанні, датычныя нямецкіх пасольстваў, што накіроўваліся ў Польшчу-Літву, альбо запазычання там нямецкіх прававых інстытутаў — гэткіх, як, да прыкладу, (пачынаючы з XIII ст.) магдэбургскага права[316].

Ад пачатку новага стагоддзя гістарычная Літва і, тым самым, беларускія землі зрабіліся аб'ектам даследавання ў галіне нямецкага вывучэння Ўсходняй Прусіі[317]. Цікавасць да гісторыі беларускіх тэрыторыяў асабліва яскрава выявіла сябе ў перакладанні і публікацыі разнастайных важных дакументаў. Было відавочным, што і ў гэтым выпадку ў цэнтры ўвагі знаходзілася гісторыя Вялікага Княства Літоўскага. Спачатку Ф.Нойман (*Neumann*) апублікаваў свой пераклад створанага ў XV ст. „Летапісу вялікіх князёў літоўскіх“[318]. Гэты дакумент, які шмат разоў быў апублікаваны ў самой Расіі, без усялякага сумневу належаў да найбольш змястоўных крыніц гісторыі літоўска-рускіх уладароў і мясцовай шляхты на ўсходніх тэрыторыях Вялікага Княства. Другую нямецкамоўную працу, прысвечаную дакументу, што быў створаны каля 1580 г., напісаў Аляксандр Брукнер, філолаг і гісторык, які ў той час жыў у Пецярбургу[319]. Гэты тэкст, які захоўваўся ў Познані, дазваляў глыбей увайсці ў сутнасць узаемадачыненняў Літвы-Польшчы з Маскоўскім царствам і падаваў звесткі пра выбітных уладароў XV— XVI ст., прычым для нямецкага чытача асаблівую цікавасць павінна было б уяўляць дачыненне літоўскіх вялікіх князёў і польскіх каралёў — да прыкладу Казіміра IV, Жыгімонта I (Старога, альбо Вялікага) ці Жыгімонта II Аўгуста — да заходне- і ўсходнееўрапейскай гісторыі.

[315] Грунтоўна гл. у: Voigt, Johannes. Geschichte Preußens von den ältesten Zeiten bis zum Untergang der Herrschaft des Deutschen Ordens, 9 Bde. Königsberg, 1827—1839; *Яго ж.* Geschichte des Deutschen Ritterordens in seinen 12 Balleien in Deutschland, 2 Bde. Berlin, 1857—1859; Lohmeyer, K. Geschichte von Ost- und Westpreußen. Bd.1 (bis 1411). Gotha, 1908 (3. Ausgabe).

[316] Halban, A. Zur Geschichte des deutschen Rechtes in Podolien, Wolhynien und der Ukraine. Berlin, 1896.

[317] Bezzenberger, A. Der Werdegang des litauischen Volkes // Vierteljahresschrift für Sozial- und Wirtschaftsgeschichte (1916). С.1—40; па гэтым пытанні пазней з'явілася праца: Heinrich-Mortensen, G. Beiträge zu den Nationalitäten- und Siedlungsverhältnissen von Pr. Litauen. Berlin, 1927. Акрамя таго, параўн. яшчэ: Brückner, Alexander. Starożytna Litwa. Warszawa, 1904; Totoraitis, J. Die Litauer unter dem König Mindowe bis 1263. Phil. Diss. Freiburg / Schweiz, 1905; Zivier, E. Neuere Geschichte Polens. Gotha, 1905; Schiemann, Theodor. Rußland, Polen und Livland, 2 Bde. Berlin, 1886/1887.

[318] Гл.: Altpreussische Monatsschrift. Bd.14. С.419—458. Пераклад быў выкананы паводле падрыхтаванага А.Паповым тэксту публікацыі „Летапісу вялікіх князёў літоўскіх“ у: Ученые Записки II Отделения Императорской Академии Наук, разд. 3, вып.1, 1854.

[319] Brückner, Alexander. Ein weißrussischer Codex miscellaneus der Gräflich-Raczynski'schen Bibliothek in Posen // Archiv für slavische Philologie. Bd.9. С.345 і наст.

Пасля пытанняў гісторыі рыцарскага ордэна і нямецкага гарадскога права ў Рэчы Паспалітай усходнія паходы нямецкага войска пад час Першай сусветнай вайны з наступным усталяваннем акупацыйнага рэжыму паставілі на парадак дня неабходнасць больш інтэнсіўнага вывучэння працэсаў гістарычнага развіцця і наяўных у той момант рэсурсаў на беларускіх і ўкраінскіх тэрыторыях. Пры гэтым Украіна, як „жытніца Еўропы", натуральным чынам абуджала найбольшыя спадзяванні. Пасля пачатку Першай сусветнай вайны з'явілася з паўтузіна асобных публікацыяў па гісторыі Украіны, якія былі прафінансаваныя паўсталым у венскім асяродку „рускіх" дэпутатаў імперскага і мясцовых парламентаў „Звязам за вызваленне Украіны". Да гэтых прац належалі і пераклады даследаванняў Грушэўскага, творы Геарга Кляйнава (*Cleinow*) альбо праграмныя дакументы самога „Звязу"[320]. Адначасова слова ўзялі і праціўнікі містыфікацыі Украіны й Усходу ў цэлым. Пры гэтым аўтары публікацыяў такога кшталту выступалі супраць канструявання „фантастычнай імперыі, якой ніколі не існавала ў гэткай форме і ў гэткіх межах і якая вядзе да небяспечнага перамешвання паняццяў у Заходняй Еўропе". Паводле меркавання аўтара, што падпісаўся псеўданімам „аўстрыйскі паляк" („österreichischer Pole"), „Украіна" заўсёды была і застаецца „памежнай тэрыторыяй" без сваёй нацыянальнай гісторыі, якую, услед за польскім гісторыкам Аляксандрам Ябланоўскім (Jablonowski, Alexander. Historya Rusi. Krakau, 1912), было б больш слушна называць Паўднёвай Расіяй, балазе „адпаведныя землі ніколі ў гісторыі не былі з палітычнага, этнаграфічнага альбо геаграфічнага гледзішча закончаным цэлым, а пагатоў адзіным дзяржаўным утварэннем"[321].

Таксама вобласць паміж верхнімі плынямі Нёмана (Memel), Дзвіны (Düna) і Дняпра, што ў тагачаснай моўнай традыцыі абазначалася як „Weißruthenien" , трактавалася з розных пунктаў погляду. Калі да Першай сусветнай вайны дамінавала хутчэй паблажліва-маргіналізавальная ацэнка таго „(народа беларусаў,) заціснутага паміж палякамі, літоўцамі, вялікарасійцамі і маларосамі", які „не меў мажлівасцяў для свайго далейшага

[320] Hruschewskyj, M. Ein Ueberblick der Geschichte der Ukraina. Wien, 1914; *Яго ж.* Die ukrainische Frage in historischer Entwicklung. Wien, 1915; *Яго ж.* Geschichte der Ukraine. Lemberg, 1916; яшчэ перад вайной апублікаваная праца: *Яго ж.* Geschichte des ukrainischen (ruthenischen) Volkes. Leipzig, 1906. Пад час сусветнай вайны з'явіліся шматлікія моцна палітызаваныя агляды гісторыі Украіны, між іншым: Cleinow, George. Das Problem der Ukraina. Wien, 1915; Der Krieg, die Ukraina und die Balkanstaaten (Выданне „Звязу за вызваленне Украіны"). Wien, 1915. Як і названыя працы з моцна выяўленай антырасійскай пазіцыяй, таксама: Doncov, Dmytro. Die ukrainische Staatsidee und der Krieg gegen Rußland. Berlin, 1915; Kuschnir, Wladimir. Die Ukraine und ihre Bedeutung im gegenwärtigen Krieg mit Russand. Wien, (Januar) 1915, альбо: Nötzel, Karl. Die Unabhängigkeit der Ukraine als einzige Rettung vor der russischen Gefahr. München—Leipzig, 1915 і г.д. Найлепшы агляд нямецкамоўнай літаратуры пра Украіну па-ранейшаму ўяўляе сабою: Doroschenko, Dmytro. Die Ukraine und Deutschland. Neun Jahrhunderte Deutsch-Ukrainischer Beziehungen. München, 1994 (2. Ausgabe). C.148—216; упершыню апублікавана як: *Яго ж.* Die Ukraine und das Reich. Leipzig, 1941.

[321] Die Ukraina. Problem oder Phantom? Von einem österreichischen Polen. Wien, 1918. C.17—19.

развіцця“[322], дык напрыканцы той самай вайны і пад час нямецкай акупацыі гаворка ўжо ішла пра „адну з найстаражытнейшых славянскіх культурных дзяржаваў“[323]. Як і ў выпадку з Украінай, для зацікаўленай нямецкамоўнай грамадскасці быў замоўлены пераклад гістарычнага агляду М.Доўнара-Запольскага, у якім, як вядома, гаварылася пра бесперапынную традыцыю беларускай гісторыі[324].

Інфармацыйная кніжка, выдадзеная Вальтэрам Егерам (*Jäger*), мела ўсе падставы на тое, каб быць ім рэкламаваная як „першая на нямецкай мове абагульняльная невялікіх памераў праца (Werkchen) пра край, гісторыю і культуру беларусаў“. Гістарычная частка кніжкі, напісаная гродзенскім адвакатам і краязнаўцам д-рам фон Дытманам (*Dr. von Dittmann*), між тым, наўрад ці ўтрымлівала менш гістарычнай паўпраўды і белетрыстычных прыёмаў, чым выдадзеная за няпоўных дзесяць гадоў перад тым праца В.Ластоўскага. Пра навуковую гістарычную працу тут весці гаворку не выпадае. Гэтак, напрыклад, сярэднявечны дзяржаўны лад характарызаваўся наступным чынам:

> „Варты ўвагі той факт, што ўжо ў сівую даўніну, калі аўтакратычны прынцып кіравання панаваў амаль ва ўсіх дзяржаўных утварэннях, у беларускіх народнасцяў унутрыпалітычнае народнае жыццё рэгулявалася і вызначалася чыста дэмакратычнымі тэндэнцыямі. Найвышэйшая ўлада ў краі належала народнаму сходу — «вечу», у якое ўваходзілі мужчыны-русіны, старэйшыя за 20 гадоў. Гэты кіраўнічы орган выбіраў князёў, прымаў пастановы ў пытаннях міру і вайны і меў вырашальны голас ва ўсіх унутры- і знешнепалітычных пытаннях. Класавых адрозненняў не было; усе беларускія грамадзяне мелі адныя і тыя ж правы. Толькі кантакты з літоўцамі і палякамі прынеслі з сабою расслаенне народа на розныя класы — на шляхту, мяшчанства і сялянства“[325].

На тле гэткіх ды іншых падобных ацэнак выдаецца, што гістарычная канцэпцыя В.Ластоўскага і іншых публіцыстаў грамадоўскага і нашаніўскага колаў была перанесеная на заходняе ўспрыманне. Адсутнасць фундаментальнай агляднай працы па беларускай гісторыі, гэткім чынам, яшчэ раз адыграла пэўную негатыўную ролю. У кожным разе, нешматлікія працы нацыянальна беларускай скіраванасці, а перадусім якраз перакладзены на нямецкую мову вышэйзгаданы нарыс гісторыі беларускай дзяржаўнасці, напэўна, паслужылі галоўным матэрыялам да кніжкі пад рэдакцыяй В.Егера. Іначай было б цяжка растлумачыць ужываную фон Дытманам тэрміналогію, які гаварыў пра „Літоўска-Беларускую дзяржаву“ („Staat Litauen-Weißruthenien“), што „ў сусветнай гісторыі фігуравала як Вялікае Княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае“, і адзначаў дамінаванне беларускай мовы ў новапаўсталай дзяржаве:

> „У новастворанай дзяржаве беларускі элемент ад самага пачатку займаў вядучую пазіцыю, бо жыхарства беларускай народнасці пераважала над літоўскім элементам, што, паводле аднадушнага прызнання даследчыкаў гісторыі, знаходзілася на

[322] Hettner, A. Das europäische Russland. Eine anthropologisch-geographische Studie. Leipzig, 1906. C.67. Гл. таксама с.481—569, 600—626, 666—691.
[323] Jäger, Walter (рэд.). Weißruthenien. Land, Bewohner, Geschichte, Volkswirtschaft, Kultur, Dichtung. Berlin, 1919. C.51.
[324] Downar-Zapolskij, M.W. Die Grundlagen des Staatswesens Weißrutheniens. Grodno, 1919.
[325] Jäger, Walter (рэд.). Weißruthenien (op. cit.). C.35.

значна ніжэйшай ступені ў культурным дачыненні і наогул у сваім развіцці. У беларусаў ужо тады існавала ўпарадкаваная дзяржаўная арганізацыя, багатая пісьмовасць; яны падтрымлівалі дынамічныя гандлёвыя кантакты з Заходняй Еўропай, а найперш з нямецкай Ганзаю“[326].

Зусім у духу беларускага погляду на гісторыю аўтар не адмовіўся ні ад антыпольскіх, ні ад антырасійскіх выпадаў. Пры гэтым выразна выявіліся вобразы ворага, што сфармаваліся за апошнія ваенныя гады. Больш за тое, „гістарычны лёс Беларусі“ мог служыць у якасці апраўдання нямецкай акупацыйнай палітыкі. Гэтаксама як незалежнасць Украіны дасягалася праз нямецкую падтрымку, якая характарызавалася як „апошні паратунак ад расійскай пагрозы“, у 1918 г. здавалася, што надышоў зручны момант згуртавацца ў імя свабоднай Беларусі, якая магла б супрацьстаяць як амбіцыям вялікапольскага генерала Пілсудскага, гэтак і памкненням бальшавікоў. У гісторыі — гэтак бязлітасна яно мусіла быць прадэманстравана — такое ніколі не было магчымым. Паланізацыя вышэйшых станаў пасля Люблінскай уніі, „што была не чым іншым, як выдачай Літвы–Беларусі на карысць Польшчы“, крытыкавалася гэтаксама рашуча, як і асаблівыя інтарэсы „польскага імперыялізму“ ды каталіцкай царквы, якіх „глыбока ўкаранёнае імкненне беларускага народа да свабоды“ надалей трываць не магло.

Калі пасля падзелаў Рэчы Паспалітай „замест ранейшага апалячвання (Verpolung) пачалася шалёная русіфікацыя (Verrussung) жыхарства“ і „гвалтам пачалі насаджацца расійскія законы, якія супярэчылі праўнай свядомасці беларускага народа“, былі вынішчаныя „апошнія рэшткі народнай самастойнасці Беларусі“[327]. Патрыятычны рух беларускіх інтэлектуалаў за нацыянальную эмансіпацыю, што пачаўся напрыканцы XIX ст., для нямецкага назіральніка здаваўся натуральным і непазбежным працэсам, які трэба было вітаць. У гэтым дачыненні амаль што неабходнай была ацэнка выгнання бальшавікоў праз нямецкія войскі ў лютым 1918 г. як паспяховай абароны папярэдне заваяванай пад час вайны аўтаноміі. Вызвольны чын нямецкай арміі — гэткая выснова напрошвалася — меўся паспрыяць таму, каб „народ, у якога з дапамогай брутальнага гвалту стагоддзямі адбіралася любая магчымасць нацыянальнага (völkisch) развіцця“, мог „абудзіцца да новага жыцця“[328].

З сучаснага гледзішча выразна бачыцца, што нямецкі — гэтаксама як, дарэчы, і аўстрыйска-габсбургскі — погляд на гісторыю „Беларутэніі“ і „Украіны“ абумоўліваўся палітычнымі мэтамі. Ваенныя заваёвы павінны былі ўвесці ў зону нямецкага ўплыву значныя культурныя ландшафты і гаспадарчыя рэсурсы. Адначасова гэтыя тэрыторыі мусілі быць гістарычна адлучаныя ад той Вялікарасіі, дзе цяпер рэй вялі бальшавіцкія правадыры. Слабое веданне гістарычных крыніц дадаткова садзейнічала таму, што „Беларутэнія“ ў нямецкамоўнай гістарыяграфіі перад 1918 г. мела гэткі самы схематычны і абцяжараны міфамі вобраз, як і ў працах некаторых уласна беларускіх інтэрпрэтатараў гісторыі.

[326] Тамсама, с.41.
[327] Усе папярэднія цытаты гл.: Тамсама, с.43—46.
[328] Тамсама, с.51.

# II. Нацыя і гісторыя ў часы сталінізму: 1921—1944 г.

„Рэцэнзент забыўся на тое, што гісторыя пішацца не дзеля гісторыі; яна ёсць не што іншае, як палітыка, звернутая да мінулага, і што праблемы класавай барацьбы мінулага не могуць паказвацца схаластычна, бесстаронне і без увагі на ўмовы сённяшняга дня“[1].

## 1. „Нацыянал-дэмакратызм“ і саветызацыя

Бальшавіцкая рэвалюцыя 1917 г. беспасярэдне не зрэвалюцыянізавала навуку. Як і для прыродазнаўчых навук, нават для гістарыяграфіі кастрычніцкія падзеі ды іх наступствы не значылі наўпрост, што ўсё перапынілася. Гэтаксама як усе адкрыцці і тэорыі ў галіне навукі і тэхнікі мелі свае персанальныя і даследніцкія перадумовы ў познецарскі перыяд і на пачатку існавання Савецкага Саюзу пэўным чынам паспрыялі ўмацаванню яго міжнароднага аўтарытэту, так і гістарычныя даследаванні ў цэнтры і на лакальным узроўні да 1927 г. працягвалі існаваць без істотных зменаў[2]. Тэндэнцыя ж, якая сапраўды выяўляла сябе ў „грамадазнаўчых навуках“ з пачатку 1920-х г., палягала ў тым, што адбывалася паступовае дапасаванне інтарэсаў і метадалогіяў пазнання да вызначаных партыяй даследніцкіх мэтаў.

Аж да 1927—1928 г. можна было весці гаворку пра пераважна неканфліктнае суіснаванне старога і новага пакалення гісторыкаў і іх розных гістарычных канцэпцыяў. Таксама і ў Беларусі змаганне за „камандныя вышыні“ ў навуцы пачалося пазней. У Маскве дамінавальныя пазіцыі займала школа М.М.Пакроўскага, прыняццё якога ў склад Беларускай Акадэміі навук у 1928 г. прадвызначала будучую арыентацыю гістарыяграфіі ў Менску. Аднак незваротная змена курсу, у параўнанні з тым, што мела месца дзесяць гадоў перад тым, павінна была адбыцца толькі ў 1934 г. Гэты пункт погляду — з розных пабуджальных прычын — рэпрэзентаваны ва ўсіх дагэтуляшніх публікацыях па гістарыяграфіі на саюзным і рэспубліканскім узроўнях. У гэтым супадаюць пазіцыі як сведкаў падзеяў — такіх, як Канстанцін Штэпа і Клаўс Менэрт (*Mehnert*), заходніх гістарыёграфаў — напрыклад, Тыйе (*Tillet*), так і падсавецкай гістарыяграфіі — пры-

[1] НАРБ, ф.4, воп.21, спр.365, арк.6—7: „N.N. Некоторые замечания по поводу рецензии Гессена, помещенной в «Большевике Белоруси» (11.11.32)“, тут цытуецца арк.7.

[2] Пра сапраўднае „перапыненне традыцыі“ гаворка можа ісці толькі ў доўгатэрміновай перспектыве. Пра гэта нядаўна напісана ў: Hösler, Joachim. Die sowjetische Geschichtswissenschaft 1953 bis 1991. Studien zur Methodologie- und Organisationsgeschichte. München, 1995. С.9. Мінскі савецкі гісторык П.Петрыкаў у 1990 г. бачыў пачатак развіцця беларускай гістарыяграфіі ў 1917 г. і перамогу ў 20-х г. унутры яе „марксісцка-ленінскай канцэпцыі гісторыі Беларусі“, а таксама яе адыход ад прынцыпаў „шляхецка-буржуазнай, сіяністкай, бундаўскай, меншавіцкай, эсэраўскай і беларускай нацыяналістычнай гістарыяграфіі“, гл.: Петрыкаў П.Ц. Перыядызацыя гісторыі гістарычнай навукі ў БССР // Весці АН БССР. 1990. Вып.6. С.64.

кладам, У.М.Міхнюка. Іншыя аўтары лічылі, што паваротны пункт у падсавецкім гісторыяпісанні меў месца ўжо ў 1931 г.[3]. Насамрэч, самае позняе ў 1934 г. былі канчаткова ўсталяваныя сутнасныя і інстытуцыянальныя каардынаты падсавецкай гістарыяграфіі. Між тым, у гісторыі навукі Беларусі і Украіны год 1934 мусіў пачацца ў 1930 г.

Без усялякага сумневу, гісторыкі яшчэ на самым раннім этапе савецкага рэжыму былі прызнаныя першарангавымі сярод тае часткі духоўнай эліты, ад якой залежалі фармаванне ідэалогіі і самавызначэнне людзей. Пры гэтым ужо ў першае дзесяцігоддзе савецкай улады партыя вызначыла для іх траістую задачу: яны меліся за кароткі час забяспечыць Савецкі Саюз, камуністычную партыю і паасобныя рэспублікі асацыятыўным вобразам мінулага. У першую чаргу мусіла быць гістарычна ўзаконеная прэтэнзія партыі на кіраванне ў дзяржаве. Дзеля гэтага мелася быць скананструяваная гісторыя такой садружнасці (Commonwealth), карані якой сягалі б у дагістарычную эпоху, якая пасля таго была б павінна развівацца згодна з прадвызначаным гісторыяй планам і цяпер — пад кіраўніцтвам партыі — знайсці сваё сапраўднае прызначэнне.

Па-за тым, да надзённых задач цэху гісторыкаў належала забеспячэнне нова заснаваных падсавецкіх рэспублік уласнымі гістарычнымі творамі, у якіх нацыянальны элемент не павінен быў пераважаць агульнавызначаныя тэндэнцыі развіцця, а ў самым лепшым выпадку — іх ілюстраваць. Вырашальным крытэрыем новых нацыянальных гісторыяў была іх сумяшчальнасць з пастулатамі і патрабаваннямі сацыялістычнага будаўніцтва.

У адрозненне ад дасавецкага часу з сярэдзіны 20-х г. версію гісторыі і характар гістарыяграфіі пачаў вызначаць расклад сіл унутры дзяржаўнай і партыйнай бюракратыі. Пры гэтым кшталт беларускай гістарыяграфіі вызначаўся ходам дыскусіі пра „нацыянал-дэмакратызм“ ды яго адэптаў, да ліку якіх прылічваліся ўсё новыя і новыя гісторыкі. У гэтых дэбатах запазычваліся інтэрпрэтацыйныя ўзоры з дырэктываў ленінізму і ранняга сталінізму па нацыянальным пытанні. У той меры, у якой нерасійскія народы з гледзішча „права на аддзяленне“ дапасоўваліся да дарэвалюцыйных разумовых канструкцыяў ленінскіх і сталінскіх працаў, гісторыкі падсавецкіх нацыяў гублялі „права на адасабленне“ сваёй нацыянальнай гісторыі ад галоўнае плыні гісторыі савецкай.

Больш-менш пэўныя фармулёўкі што да нацыянальнай палітыкі сталінскай эпохі, да праблемы самаўсведамлення і да версіяў гісторыі нерасійскіх „ускраінных“ нацыяў могуць быць зробленыя толькі тады, калі папярэдне крытычнаму разгляду будуць аддадзеныя галоўныя расійска-сацыял-дэмакратычныя і раннесавецка-„камуністычныя“ ідэі па нацыянальным пытанні.

[3] З вялікай колькасці прац, у якіх ідзе гаворка пра пераломны характар 1934 г., гл.: Tillet, Lowell. The Great Friendship. Soviet Historians on the Non-Russian Nationalities. Chapel Hill, NC, 1969. C.VII; Shteppa, Konstantin F. Russian Historians and the Soviet State. New Brunswick, NJ, 1962. C.XII. З нямецкага гледзішча гл. перадусім: Mehnert, Klaus. Weltrevolution durch Weltgeschichte. Die Geschichtslehre des Stalinismus. Kitzingen/Main, [б.г.в] (1952). C.5 і наст. З беларуска-савецкага гледзішча гл.: Михнюк В.М. Становление и развитие исторической науки Советской Белоруссии (1919—1941 г.). Мінск, 1985. С.4.

## 1.1. Канцэпцыі ў якасці дырэктываў: Ленін і Сталін пра нацыянальнае пытанне

Ведучы размову пра раннесавецкі час, гісторыкі — найперш позне- і постсавецкай эпохі — рабілі адрозненні паміж ленінскай і сталінскай нацыянальнай палітыкай. Права на самавызначэнне нацыяў, якое асацыявалася з асобай Леніна, пры гэтым супрацьпастаўлялася сталінскай турме народаў як шанец, які застаўся фрагментам у гісторыі і быў змарнаваны[4]. Погляды Леніна ў асноўным дыстыляваліся з тэарэтычных і праграмных друкаваных працаў дарэвалюцыйнага і раннесавецкага часу, у той час як пазіцыя Сталіна адпавядала рэальнай гістарычнай праўдзе. Насамрэч, аднак, у раннесавецкую эпоху не магло быць гаворкі пра гэткую разбежнасць поглядаў у пытанні адносна палітыкі ў дачыненні да нацыяў.

Выказванні па нацыянальным пытанні, што агучваліся пачынаючы з II з'езда РСДРП, належалі да трывалага канона сацыял-дэмакратычна-бальшавіцкай вызваленчай рыторыкі. Пры гэтым нярэдка рабіліся спасылкі на запазычаную ў Маркса і Энгельса канстатацыю: „Ніякая нацыя не можа быць свабоднай, пакуль яна прыгнятае іншыя нацыі“. Але і ў найноўшай літаратуры можна сустрэць памылковыя сцверджанні, нібыта Ленін знайшоў у названай сентэнцыі ключ да „ліберальнай“ альбо „гнуткай“ палітыкі ў дачыненні да нацыянальнасцяў[5]. Між тым апошні ажыццяўляў дырэктыву „класікаў“ у зусім іншым кірунку: гэтаксама як Марксу і Энгельсу здавалася дзіўным вылучэнне малых і „безгістарычных“ нацыяў габсбургскай манархіі і царскай імперыі ў якасці народнасцяў, здольных да стварэння сваёй дзяржаўнасці, так і Ленін у кастрычніку 1917 г. не лічыў сваёй мэтай дазволіць вельмі шматлікім нацыянальнасцям разваленай імперыі аўтаномнае існаванне альбо, тым болей, стварэнне самавызначаных нацыянальных дзяржаваў. Бальшавікі разумелі Марксаву ідэю „свабоднай нацыі“ перадусім як мэту сацыяльных пераўтварэнняў і прапагандавалі пазбаўленне беларускіх і ўкраінскіх сялян ад прыгнёту з боку польскіх магнатаў. У дачыненні да сялян нацыянальныя супярэчнасці падаваліся як „трансфармаваная класавая нянавісць“[6].

[4] Параўн.: Halbach, Uwe. Die Nationalitätenfrage: Kontinuität und Explosivität // Geyer, Dietrich (рэд.). Die Umwertung der sowjetischen Geschichte (Geschichte und Gesellschaft, Sonderheft 14). Göttingen, 1991. С.210—237. Характарыстыка „гнуткай нацыянальнай палітыкі“ Леніна знаходзіць сваё месца ў найноўшай заходняй літаратуры; нядаўна ў: Kaiser, Robert J. The Geography of Nationalism in Russia and the USSR. Princeton, NJ, 1994. С.96 і наст. Сумневы што да гэткай схемы выказваліся ўжо досыць даўно. Найперш гэта можна ўбачыць у: Pipes, Richard. The Formation of the Soviet Union: Communism and Nationalism, 1917—1923. Cambridge, MA, 1954. С.273 і наст., а таксама ў: Low, Alfred D. Lenin on the Question of Nationality. New York, 1958. С.136—139.

[5] Гэткі пункт погляду мы знаходзім у: Kaiser, Robert J. The Geography of Nationalism... (op. cit.). С.97.

[6] Параўн.: Rosdolsky, Roman. Zur nationalen Frage. Friedrich Engels und das Problem der „geschichtslosen“ Völker. Berlin, 1979. С.52. Падобных поглядаў у дачыненні да Аўстра-Венгрыі прытрымліваліся Карл Рэнэр (*Renner*) і Ота Баўэр (*Bauer*). Да тэорыяў марксізму і бальшавізму па нацыянальным пытанні і адносна права на „адасабленне“ гл.: Borys, Jurij. The Russian Communist Party and the Sovietization of Ukraine. A Study in the Communist Doctrine of the Self-Determination of Nations. Stockholm, 1960. С.9—51.

У гэткай самай меры Ленін і Сталін зрабілі стаўку на пераадоленне „нацыянальных разыходжанняў“, якія ў іхняй сістэме паняццевых каардынатаў разумеліся толькі як сацыяльныя супярэчнасці. Гэтаксама як у самім марксізме нацыянальнае пытанне заўсёды разглядалася як другарадная праблема класавых узаемадачыненняў, у працах Леніна і Сталіна таксама дамінавала наднацыянальнае, „інтэрнацыяналісцкае“ абыходжанне з нацыянальнасцямі царскай Расіі.

Ужо ў 1913 г. Ленін, палемізуючы з прыхільнікамі аўстра-марксісцкай ідэі „нацыянальна-культурнай аўтаноміі“, падкрэсліваў: „Лозунгам рабочай дэмакратыі не ёсць „нацыянальная культура“, а інтэрнацыянальная культура дэмакратызму і рабочага руху ўсяго свету“. З гэтых слоў няцяжка зрабіць выснову, што бальшавікі, яшчэ перад тым як яны заваявалі ўладу, увогуле адмоўна ставіліся да нацыянальнай культуры і супрацьстаялі яе распаўсюджванню; і не ў апошнюю чаргу гэта адбывалася таму, што праз гэтае распаўсюджванне трапляла ў небяспеку прадугледжаная імі для вялікай сацыялістычнай дзяржавы асіміляцыя, а таксама можна было чакаць падзелу партыі паводле нацыянальнай прыкметы. Канцэпцыя „нацыянальна-культурнай аўтаноміі“, як лічыў Ленін у 1913 г., мелася быць „буржуазным падманам“ і значыць — як і „*любы* буржуазны нацыяналізм — найвялікшую дэмаралізацыю рабочага класа [падкрэслена ў арыгінале — Р.Л.]“[7]. Нацыянальная мінуўшчына беларусаў, да якой апелявалі беларускія гісторыкі апошняга перыяду царскага часу, у гэткай самай меры натыкалася на непрыняцце як з боку ўрада, гэтак і з боку расійскае сацыял-дэмакратыі. У гэтых рознагалоссях ужо так ці іначай пазначылася тое, што мелася зрабіцца вызначальным для існавання нацыянальна арыентаванай гістарыяграфіі раннесавецкага часу.

Таксама і формулы кшталту „права на адасабленне“ ды „самастойнасць дзяржавы“ наўрад ці маглі разглядацца як штосьці большае, чым стратэгія забеспячэння падпарадкавання ды лаяльнасці. Ленін сам у праграмных працах па нацыянальным пытанні, што былі напісаныя да і пасля 1917 г., вызначыў інтарэс сваёй партыі, што стаяў за гэтым. Права на адасабленне ў разуменні Леніна і Сталіна ні ў якім разе не значыла ўхвалення імі гэткага аддзялення. Якраз наадварот, абодва яны былі за стварэнне і захаванне цэнтралізаваных унітарных дзяржаваў. Федэратыўны прынцып, паводле ўласнага сцвярджэння Леніна, супярэчыў марксісцкім уяўленням пра будучы наднацыянальны сусветны парадак. „Гістарычны працэс“, мауляў, рухаецца ў кірунку жорстка арганізаваных вялікіх дзяржаў і зліцця нацыяў. Дзеля трываласці існавання гэтых вялікіх утварэнняў мелася быць патрэбнаю роўнасць іх нацыянальных складовых частак. Паводле ленінскай канцэпцыі малым народам трэба было даць упэўненасць, нібыта яны заўсёды будуць мець магчымасць выйсці са складу гэткіх звязаў. Наяўнасць гарантыяў гэткага кшталту змусіць іх — пры вырашэнні сацыяльнага пытання — назаўсёды там застацца. У „Тэзах да нацыянальнага пытання“ (1913 г.) Ленін

[7] Ленін У.І. Нататкі па нацыянальным пытанні. Цытуецца паводле: Lenin, W.I. Bemerkungen zur nationalen Frage // *Яго ж.* Werke. 6. Auflage. Bd.20. C.1—37, тут цыт. с.6 і наст. (Цытаванне робіцца паводле выдадзенага Інстытутам марксізму-ленінізму пры ЦК Сацыялістычнай Адзінай партыі Германіі збору твораў Леніна, перакладзенага паводле 4-га расійскага выдання. Аўтар меў у сваім распараджэнні тамы розных выданняў).

сістэматызаваў тое, што можна было звесці ў адно ў межах праграмных канстатацыяў. Палітычнае самавызначэнне, права на стварэнне самастойнай дзяржавы і адмаўленне нацыянальна-культурнай аўтаноміі былі стрыжнем ягоных разважанняў. Пры гэтым, аднак, сюды ўжо былі ўбудаваныя прынцыпы, якія ў канцавым выніку і вызначылі сутнасць савецкай нацыянальнай палітыкі і якія гісторыкамі эпохі „перестройки“ ахвотна інтэрпрэтаваліся як скажэнне ідэяў ленінскай спадчыны. Для Леніна „прызнанне права ўсіх нацыяў на самавызначэнне ні ў якім разе“ не значыла, „што сацыял-дэмакраты адмаўляюцца ад таго, каб у кожным канкрэтным выпадку самастойна вызначаць, ці мэтазгодным з’яўляецца дзяржаўнае адасабленне той альбо іншай нацыі“[8].

Тое, што адбывалася на практыцы, пацвердзіла гэткую падвойную бальшавіцкую стратэгію. Рэагуючы на выдадзены 10 чэрвеня 1917 г. Украінскай Цэнтральнай Радай на чале з Міхайлам Грушэўскім „Першы ўніверсал“ пра самастойнасць Украіны ў складзе Расійскай федэратыўнай дзяржавы, Ленін хоць і прызнаў Украіну нацыяй, якая мае права на самастойнасць, але пра ажыццяўленне гэтага права для яго не магло быць нават размовы:

> „Ніводзін дэмакрат, а пагатоў сацыяліст, не наважыцца аспрэчваць поўную справядлівасць украінскіх патрабаванняў [аўтаноміі]. Ніводзін дэмакрат не можа таксама ставіць пад сумнеў *права* Украіны на свабоднае адасабленне ад Расіі: толькі безумоўнае прызнанне гэтага права і стварае мажлівасць агітаваць за свабодны звяз украінцаў і вялікарасійцаў, за добраахвотнае аб’яднанне абодвух народаў у адной дзяржаве“[9].

Іншай генеральнай тэмай да- і паслярэвалюцыйных прац па нацыянальным пытанні было стаўленне да розных формаў нацыяналізму. Прэтэнзіі на нацыянальную выключнасць Леніным і бальшавікамі адхіляліся; „вялікарасійскі шавінізм“— у параўнанні з „буржуазнымі“ нацыяналізмамі ўскраін імперыі — аж да дваццатых гадоў лічыўся галоўнай небяспекай. Побач з патрабаваннямі „раўнапраўя“ і „права на самавызначэнне“ нацыяў „барацьба супраць любых праяваў нацыяналізму“ і супраць „буржуазных памкненняў да нацыянальнага адасаблення“ была ядром нацыянальнай праграмы бальшавікоў[10].

Калі ў выніку падзеяў Першай сусветнай вайны тэрытарыяльная цэласнасць Расійскай імперыі апынулася пад пытаннем і нацыянальныя субцэнтры перыферыі — некаторыя пад абаронай нямецкіх войскаў — абвясцілі сябе незалежнымі, бальшавікі, якія прыйшлі да ўлады, сваю канцэпцыю памянялі[11]. З гэтага

[8] *Яго ж.* Тэзы па нацыянальным пытанні. Цытуецца паводле: Thesen zur nationalen Frage (1913) // *Яго ж.* Werke. 5.Auflage. Bd.19. С.233—234, тут цыт. с.234.

[9] *Яго ж.* Украіна (1917). Цытуецца паводле: Die Ukraine (1917) // Тамсама, т.25. С.81 і наст. Заплечча і наступствы стварэння „Універсала“ нядаўна прааналізаваныя ў: Altrichter, Helmut. Rußland 1917. Ein Land auf der Suche nach sich selbst. Paderborn etc., 1997. С.471.

[10] Ленін У.І. Пра самавызначэнне нацыяў. Цытуецца паводле: Lenin, W.I. Über die Selbstbestimmung der Nationen // *Яго ж.* Werke. 6. Auflage. Bd.20. С.395—461, тут цыт. с.414, 460.

[11] Пра гісторыю ўзнікнення Савецкага Саюза з асаблівай увагай да разгляду нацыянальнага пытання параўн.: Pipes, Richard. The Formation of the Soviet Union... (op. cit.);

часу вялікая ўвага пачала аддавацца блакаванню сепаратысцкіх тэндэнцыяў, якія ў прапагандзе больш позняй пары заўсёды характарызаваліся як антысавецкія памкненні. „Дэкларацыя правоў народаў Расіі", прынятая ў лістападзе 1917 г., і гвалтоўная акупацыя Грузіі ў 1921 г. былі стрыжнявымі датамі ў гэтым працэсе змены пазіцыяў, характар якога вызначаўся дамінаваннем вайсковага фактару і рэальнымі ды ўяўнымі пагрозамі. Новая знешнепалітычная стратэгія выяўляла сябе ў адмысловым спалучэнні імперскіх прэтэнзіяў і рэвалюцыйнага інтэрнацыяналізму[12]. З гэткага гледзішча вайсковы камунізм мог трактавацца як першая фаза бальшавіцкага патрыятызму, які меў на мэце ўтрыманне цэласнасці імперыі і захаванне толькі што здабытай улады. Пасля „вымушанага" Брэст-Літоўскага міру, які Ленін параўнаў з колішнім прыніжальным для Прусіі Тыльзіцкім мірам, Расія, маўляў, цяпер павінна — вучачыся ў немцаў! — „сабраць свае сілы" і „ўзняцца"[13]. Перадача кантролю над Польшчай, Літвою, Курляндыяй, Эстляндыяй і Ліфляндыяй аўстра-нямецка-турэцкай кааліцыі ўважалася за „драбленне" дзяржавы і шкоду нацыянальным інтарэсам. Абвяшчэнне незалежнасці Фінляндыі, Украіны, Беларусі, Грузіі, Арменіі і Азербайджана па-сапраўднаму было прызнанае толькі ў дачыненні да Фінляндыі. Патрабаванні самастойнасці знаходзілі ўсё меншую падтрымку ў Леніна і Троцкага, не кажучы ўжо пра Сталіна.

Уяўленні вядучых прадстаўнікоў партыі бальшавікоў пра аб'яднанне падсавецкіх рэспублік, несумненна, грунтаваліся на розных перадумовах. У той час як Сталін, народны камісар у справах нацыянальнасцяў, хацеў прывязаць рэспублікі да РСФСР праз заключэнне дамоваў аб аўтаноміі, Ленін у кастрычніку 1922 г. дамогся перапрацоўкі сталінскага праекта рэзалюцыі й выступіў за наступную фармулёўку: „...мы разглядаем нас і Украінскую ССР ды інш. у якасці раўнапраўных бакоў, і мы разам і на роўных падставах уступаем з імі ў новы Саюз, новую Федэрацыю..."[14]. Між тым, вышэй намі было паказана, што Леніну

Simon, Gerhard. Nationalismus und Nationalitätenpolitik in der Sowjetunion. Von der totalitären Diktatur zur nachstalinschen Gesellschaft. Baden-Baden, 1986. С.34 і наст.; Kappeler, Andreas. Rußland als Vielvölkerreich. Entstehung, Geschichte, Zerfall. München, 1994 (2.Auflage). С.300 і наст.; Carrère d'Encausse, Hélène. The Great Challenge. Nationalities and the Bolshevik State, 1917—1930. New York—London, 1992. С.71 і наст. Пра погляды Леніна і Сталіна ў нацыянальным пытанні параўн.: Тамсама, с.26—43.

[12] Ленін У.І. Галоўная задача нашых дзён. Цытуецца паводле: Lenin, W.I. Die Hauptaufgabe unserer Tage // *Яго ж.* Werke. 4. Auflage. Bd.27. С.146—151, тут цыт. с.148: „Расія можа стаць багатай і магутнай, бо мы, у кожным разе, маем дастаткова тэрыторыі і прыродных выкапняў, каб усіх і кожнага — калі нават і не з лішкам — забяспечыць неабходнай колькасцю сродкаў існавання. У нас ёсць тое, што патрабуецца, як прыродныя багацці, гэтак і людскія рэсурсы, а таксама той цудоўны энтузіязм, які вялікая рэвалюцыя надала стваральнай энергіі народа, каб пабудаваць сапраўды магутную і багатую Расію. Расія стане гэткаю, калі пазбавіцца ўсялякай нерашучасці і пустаслоўя, калі яна сцісне зубы і збярэцца з усімі сваімі сіламі, калі яна напне ўсе свае нервы, напружыць усе свае мускулы. Калі яна зразумее, што паратунак магчымы толькі на шляху сусветнай сацыялістычнай рэвалюцыі, які мы абралі".

[13] Тамсама, с.149.

[14] Цытуецца паводле заўвагі 663 ў: *Яго ж.* Werke. 5.Auflage. Bd.36. С.723. Зменены праект рэзалюцыі ад кастрычніка 1922 г. быў таксама пакладзены ў падмурак прынятай на I Усесаюзным з'ездзе саветаў 30 снежня 1922 г. пастановы аб утварэнні СССР. Але, пачынаючы з 1923 г., Сталін паслядоўна праводзіў у жыццё свой праект аўтанамізацыі.

цэнтралізаваная дзяржава была больш даспадобы, чым федэралізацыя імперыі — у тым выглядзе, які пачаў вызначацца парадам абвяшчэнняў незалежнасці ў 1918 г. Ягоным ідэалам было добраахвотнае зліццё нацыянальна неаднародных паўдзяржаваў, утварэнне, у якім бы Расія магла здзейсніць свае прэтэнзіі на кіраванне. Таму, напэўна, варта далучыцца да выказанага Ўокерам Конарам (*Connor*) сумневу наконт таго, нібыта „Ленін у меншай ступені, чым Сталін, быў схільным любымі магчымымі спосабамі зноў моцна прывязаць да сябе народы, што нядаўна былі аддзяліліся"[15].

Сталінская канцэпцыя аўтанамізацыі была працягам рэалізацыі ленінскіх тэарэтычных высноваў з дапамогаю іншых сродкаў. Што праўда, якраз у палітыцы ў дачыненні да нацыянальнасцяў і меншыняў Ленін не пагаджаўся з метадамі „грубага, неталерантнага, нелаяльнага, няветлівага, няўважлівага і капрызнага" Сталіна, чый асабісты характар, здавалася, меўся фармаваць ягоную палітыку. У той самы час сумненні, якія апаноўвалі самога Леніна наконт адэкватнасці яго нацыянальнай палітыкі ў дачыненні да права на адасабленне, Сталіну вядомыя не былі. Калі Ленін пасля свайго прыходу да ўлады апынуўся перад неабходнасцю не толькі тэарэтычна асэнсоўваць сваё ранейшае і будучае бачанне шматнацыянальнай дзяржавы, але і ажыццяўляць ідэі ў рэчышчы практычнай палітыкі, яго вылітыя ў формулы перакананні пачалі хістацца. Грузінская паездка Сталіна і разуменне таго, што нацыянальная палітыка бальшавікоў у рэгіёнах перш за ўсё мусіла трапіць у рукі „перанятага ў царызму і толькі злёгку прычасанага савецкім грэбнем („помазанного советским миром") тыповага расійскага чыноўніка", без усялякага сумневу паскорылі яго пазбаўленне ад ілюзіяў:

> „Пры гэтых акалічнасцях зусім натуральна тое, што *свабода выхаду з Саюзу*, якой мы апраўдваем сябе, выявіць сябе нікчэмным кавалкам паперы, зусім не прыдатным для таго, каб абараніць нярускіх жыхароў Расіі ад умяшальніцтва таго сапраўднага расійца, вялікарасійскага шавініста, па сваёй сутнасці нягодніка і гіцля («держиморды»), якім ёсць тыповы расійскі бюракрат"[16].

Калі ў выніку падзеяў вайны і ўзяцця ўлады з'явілася неабходнасць канкрэтных дзеянняў у нацыянальнай сферы, зрабілася зразумелым, што ленінская тэорыя ў дачыненні да трактавання нерасійскіх нацыяў была заведама штучным пра-

[15] Connor, Walker. The National Question in Marxist-Leninist Theory and Strategy. Princeton, NJ, 1984. С.50.

[16] Ленін У.І. Да пытання пра нацыянальнасці альбо „аўтанамізацыю". Цытуецца паводле: Lenin, W.I. Zur Frage der Nationalitäten oder der „Autonomisierung" // *Яго ж.* Werke. 5.Auflage. Bd.36. С.590—596, тут цыт. с.591. Гэтая цытата належыць да найчасцей выкарыстаных: між іншым, у: Kappeler, Andreas. Rußland als Vielvölkerreich... (op. cit.). С.301; Low, Alfred D. Lenin on the Question of Nationality. New York, 1958. С.137; Pipes, Richard. The Formation of the Soviet Union... (op. cit.). С.274; у якасці дакумента № 15 у: Lieber H.-J., Ruffmann K.-H. (рэд.). Der Sowjetkommunismus. Dokumente, 2 Bde. Köln—Berlin, 1964. Bd.2: Die Ideologie in Aktion. С.120 і наст. Тэкст напісаны ў дзень прыняцця першым Усесаюзным з'ездам саветаў пастановы аб утварэнні СССР і належыць да ліку патаемных дыктовак Леніна, якія — гэтаксама як некаторыя іншыя працы — былі напачатку перададзеныя Троцкаму і распаўсюджваліся сярод партыйнага кіраўніцтва. Толькі пасля XX з'езда КПСС яны былі апублікаваныя.

грамным канструктам, што функцыянаваў у межах герметычнай сістэмы сацыялістычнае ўтопіі. „Усталяваны на данацыянальных прынцыпах лад царскай імперыі павінен быў саступіць месца постнацыянальнаму, пралетарска-інтэрнацыяналісцкаму ладу“ (А.Капэлер). Пралетарскае грамадства, стварэння якога Ленін хацеў дасягнуць праз добраахвотнае далучэнне фармальна раўнаправўных народнасцяў, а Сталін — найпраставым і бескампрамісным шляхам, было *над*–, а значыць, *без*нацыянальным; Савецкі Саюз, які яны абодва стваралі, гэткім ані ў якім разе не быў. Пра „скасаванне“ нацыяў ды „знікненне нацыянальнага пытання“ немагчыма было думаць ні ў эпоху Сталіна, ні пры наступных савецкіх лідэрах. Аднак кампраміс паміж тэарэтычнымі агалошаннямі дасавецкага часу і практыкай ажыццяўлення ўлады ў шматнацыянальнай дзяржаве — Савецкім Саюзе — Сталін знайшоў ужо ў 1927 г. з дапамогай увядзення тэрміна „сацыялістычная нацыя“. Тым самым павінна было таксама „актуалізавацца“ вызначэнне нацыі, дадзенае ў 1913 г. Тады, крытыкуючы аўстра-марксісцкую мадэль аўтаноміі, Сталін прапанаваў першы набор крытэрыяў для вызначэння нацыі з марксісцкага гледзішча[17].

Пры пошуку прычын і матываў пазнейшай палітыкі Сталіна ў дачыненні да нацыянальнасцяў гэтая ранняя дэфініцыя ўяўляе цікавасць з двух пунктаў погляду. У разуменні Сталіна нацыя выяўляла сябе як рацыянальна сканструяванае ўтварэнне, што існавала незалежна ад суб'ектыўнага ўспрымання індывіда (des Einzelnen). „Штодзённы плебісцыт“, які быў у 1882 г. вызначаны Эрнэстам Рэнанам (*Renan*) у якасці крытэрыю прыналежнасці асобы да нацыянальнай супольнасці, для зрусіфікаванага грузіна Сталіна заставаўся незразумелым, як і іншыя рамантычна-нацыянальныя ўяўленні XIX стагоддзя. Экстэрытарыяльныя нацыянальныя ўтварэнні Сталін адхіляў, перадусім беручы пад увагу габрэяў. Рэлігія заведама адразу ж выпадала з ліку нацыятворчых элементаў. Побач з гэтым „аўтарытарным“ элементам у сталінскай формуле нацыі ў вочы кідаецца абмежаванне ў часе. Гістарычнае існаванне нацыі, як „катэгорыі ўздыму капіталізму“, было абмежаванае. Да гэтага дадавалася тое, што падпарадкаваная гэтай ідэі канцовасць нацыянальнай гісторыі ўключала ў сябе канец нацыі, што стаўся вынікам дзейнасці вонкавых сілаў альбо вынікам гвалтоўнага знішчэння — і гэта ўважалася за „натуральны“ альбо „заканамерны“ працэс[18].

[17] Сталін І. Марксізм і нацыянальнае пытанне. У нямецкім перакладзе змешчана ў: Stalin, J.W. Marxismus und nationale Frage // *Яго ж.* Werke. Bd.2. Berlin, 1950. С.266—333, тут цытуецца паводле: Stalin, J. Der Marxismus und die nationale und koloniale Frage. Eine Sammlung ausgewählter Aufsätze und Reden. Berlin, 1952. С.26—93, у гэтым выпадку с.32: „Нацыя — гэта гістарычна паўсталая стабільная супольнасць людзей, што ўзнікла на падмурку агульнасці мовы, тэрыторыі, гаспадарчага жыцця і псіхічных асаблівасцяў, якія выяўляюць сябе ў супольнасці культуры. Пры гэтым само сабою зразумела, што нацыя — як і ўвогуле любая гістарычная з'ява — падлягае законам змянення, мае сваю гісторыю, свой пачатак і свой канец. Неабходна падкрэсліць, што кожная з прыведзеных прыкметаў, узятая асобна, недастатковая для вызначэння паняцця нацыі. Больш за тое: калі адсутнічае адна з названых прыкметаў, нацыя перастае быць нацыяй“.

[18] У той час як габрэі і так не ўяўлялі сабою для Сталіна асобнай нацыі, паводле яго думкі, нацыянальнае пытанне на Каўказе ды іншых поліэтнічных рэгіёнах мелася быць вырашанае „толькі ў духу ўцягвання позна паўсталых нацыяў і народнасцяў у агульны паток вышэйшай культуры“. Параўн.: Тамсама, с.79.

На гэтым тле сталінскія тлумачэнні наконт „*абласной* аўтаноміі [...] гэткіх выразна выяўленых адзінак, якімі ёсць Польшча, Літва, Украіна, Каўказ і г.д.“, наконт „нацыянальнага раўнапраўя ва ўсіх яго праявах (мовы, школы і г.д.)“, наконт „права нацыяў на самавызначэнне“, выглядаюць не больш чым маніпуляванне словамі. Яшчэ больш рашуча, чым Ленін, Сталін выключаў мажлівасць таго, што ў перспектыве пазначанае права народаў на аддзяленне калі-небудзь будзе зрэалізаванае ў сацыялістычным грамадстве: права на раўнапраўе і самавызначэнне са сталінскага гледзішча, натуральна, не значыла, што „сацыял-дэмакратыя падтрымае ўсе і любыя звычаі нейкай нацыі“. Маўляў, і без таго стаіць пад вялікім пытаннем, ці нацыя, якая мае права на адасабленне, павінна гэта рабіць у любых варунках, ці „аўтаномія і адасабленне заўсёды і паўсюдна выгадныя нацыі — гэта значыць, яе большасці, гэта значыць, працоўным масам“[19]. Паводле слоў Сталіна, прамоўленых ім на X партыйным з'ездзе ў 1921 г., ад лозунга „самавызначэння нацыяў“ бальшавікі „адмовіліся яшчэ два гады таму“. Менавіта на X з'ездзе РКП (б) была вызначаная генеральная лінія ажыццяўлення нацыянальнай палітыкі ў 20-х г. Сталін, як народны камісар у справах нацыянальнасцяў, агучыў тут найважнейшыя ідэі палітыкі „*каранізацыі*“.

Калі ў праграмных дакументах партыі з'явілася паняцце „каранізацыя“, якое неўзабаве зрабілася галоўным, стрыжнявым словам нацыянальнай палітыкі, беларусы ў кожным разе належалі да тых ушляхетненых нацыянальных супольнасцяў, за якімі з боку Сталіна і прапаганды прызнавалася наяўнасць сваёй уласнай мовы ды культуры:

> „Далей я маю тут цыдулку, у якой гаворыцца, нібыта мы, камуністы, штучна ўзгадоўваем беларускую нацыянальнасць. Гэта не так, бо беларуская нацыя існуе, у яе ёсць свая, адрозная ад расійскай, мова — гэтак што культуру беларускага народа магчыма ўзняць толькі на яго ўласнай мове. Падобныя размовы можна было чуць недзе пяць гадоў таму пра Украіну, пра ўкраінскую нацыю. І яшчэ зусім нядаўна сёй-той сцвярджаў: украінская рэспубліка і ўкраінская нацыя, маўляў, гэта вынаходніцтва немцаў. Між тым, добра зразумела, што ўкраінская нацыя існуе, і абавязкам камуністаў ёсць развіваць яе культуру. Нельга ісці насуперак хадзе гісторыі. Зразумела, хоць у гарадах Украіны да сёння яшчэ пераважаюць расійскія элементы, ды з цягам часу гэтыя гарады ўкраінізуюцца. Каля сарака гадоў таму Рыга была нямецкім горадам, але паколькі гарады растуць коштам вёсак, а вёска — гэта калыска любой нацыянальнасці, то цяпер Рыга — чыста латышскі горад. Каля пяцідзесяці гадоў таму ўсе гарады Венгрыі мелі нямецкае аблічча; цяпер жа яны мадзьярызаваныя [sic!]. Тое самае адбудзецца з Беларуссю, у гарадах якой колькасна ўсё яшчэ пераважаюць небеларусы“[20].

Вядома ж, выказванні кшталту вышэйпрыведзенага дазваляюць меркаваць, што Сталін і бальшавікі на пачатку 20-х г. не толькі прызнавалі існаванне і перспектыву асобных нацыяў, але таксама мелі пэўную нацыянальную фантазію дзеля спрыяння станаўленню нацыянальных рэспублік. Тым не менш, іх найгалоўнейшым патрабаваннем да нацыянальных грамадаў заставалася безумоўная палі-

[19] Усе папярэднія цытаты ў такім парадку гл.: Тамсама, с.88 і наст., а таксама с.43—45.

[20] Сталін І.В. Найбліжэйшыя задачы партыі ў нацыянальным пытанні. У нямецкім перакладзе змешчана ў: Stalin, J.W. Die nächsten Aufgaben der Partei in der nationalen Frage // *Яго ж.* Werke (op. cit.). Bd.5. C.29—42, тут цыт паводле: *Яго ж.* Der Marxismus und die nationale und koloniale Frage... (op. cit.). C.138—151, у гэтым выпадку гл. с.151.

тычная лаяльнасць апошніх. Таксама распачатая неўзабаве кампанія супраць „вялікарасійскага шавінізму" грунтавалася найперш на ідэалагічных і ўладна-палітычных меркаваннях. Існавала неабходнасць даць адказ патрыятычнаму, скіраванаму на адзіную непадзельную Расію нацыяналізму расійскіх ліberalаў, якія з часоў грамадзянскай вайны дзейнічалі ў якасці тэарэтыкаў белага руху ці як ідэолагі антысавецкага абозу і цяпер вялі сваю агітацыю ў замежжы[21]. На XII партыйным з'ездзе, што адбыўся ў 1923 г., праблема вялікарасійскага шавінізму ўпершыню стала тэмай дыскусіі, прычым у поле зроку пад час яе патрапілі наступствы становішча, пры якім расійскае насельніцтва ў цэлым і расійскія вышэйшыя слаі складалі вялікую частку жыхарства нерасійскіх ускраін падсавецка-расійскай імперыі. Нагоду для актыўных дэбатаў стварылі перадусім дачыненні ва Ўкраіне, у Беларусі, у азербайджанскім Закаўказзі і Сярэдняй Азіі[22].

Вылучэнне праблемы вялікарасійска-імперскіх прэтэнзіяў увесь час суправаджалася крытыкай нацыяналізму асобных народаў, хоць у пачатку 1920-х г. партыя ад выпадку да выпадку акрэслівала мясцовы нацыяналізм як вытлумачальную рэакцыю. Эпоха нэпа збольшага яшчэ абвастрыла супярэчнасці, бо камуністычная партыя, якая на гэтым этапе забяспечыла сабе немалы прырост прывілеяў, успрымалася як „расійская партыя" і, хутчэй, яшчэ больш павялічыла розніцу статусаў на мікраўзроўні. Пра „дружбу народаў" — формулу, што з першых дзён існавання Савецкага Саюзу была стрыжнявой у праграмах і заявах бальшавікоў, не магло быць і гаворкі ані ў паасобных рэспубліках, ані ў дачыненнях паміж апошнімі[23].

Тое, што былыя „паўночна-заходнія правінцыі" загадзя не ўспрымаліся партыйнай верхавінай (як гэта было ў выпадку з Украінай — месцам, дзе актыўна дзейнічалі падбухторвальніцкія нацыянальныя элементы і распаўсюджваліся сепаратысцкія ідэі), мусіла, па-за ўсім іншым, дабратворна ўплываць на палітычны клімат у БССР. Насамрэч, у дачыненні да 20-х г. можна заўважыць, што Масква працяглы час мірылася з нацыянальнымі аспірацыямі менскіх інтэлектуалаў, у той час як у Азербайджане і ва Ўкраіне ўжо рабіліся контрзахады. Гэткім чынам, калі не браць пад увагу паасобных выпадкаў, Беларуская Рэспубліка і разам з ёй беларускія гуманітарныя навукі ў нешматлікіх навучальных установах краіны да 1929 г. збольшага не сталі аб'ектам рэпрэсіўных дзеянняў.

### 1.2. *Беларусізацыя і нацыянал-дэмакратызм*

Гістарыяграфія ў рэспубліках — частках СССР цягам усяго савецкага часу знаходзілася пад знакам стасункаў паміж цэнтрам ды нацыянальнай перыферыяй. Да ўсталявання ў 1934 г. савецкага патрыятызму ў якасці ідэалогіі сталінісцкага панавання ніводзін чыннік не ўплываў на гуманітарныя навукі ў Кіеве, Менску

[21] Параўн. найноўшыя высновы наконт ролі расійскіх лібералаў пад час грамадзянскай вайны ў: Procyk, Anna. Russian Nationalism and Ukraine. The Nationality Policy of the Volunteer Army during the Civil War. Edmonton—Toronto, 1995.

[22] Тут выкарыстоўваюцца найменні рэгіёнаў. Адносна беларускай дыскусіі параўн., між іншым: Садоўскі Ф.П. За актыўнае змаганьне з вялікадзяржаўным шавінізмам // Савецкая краіна. 1931. № 4 (6). С.3—11.

[23] Tillet, Lowell. The Great Friendship... (op. cit.). С.18 і наст.

ці Баку ў большай ступені, чым суадносіны паміж нацыянальнай самабытнасцю і прасякнутай расійскасцю саветызацыяй. Іводная прэтэнзія з ліку тых, што партыя выстаўляла да гісторыкаў ускраін імперыі, пачынаючы з канца 20-х г. не мела гэткай вагі, як абвінавачванне ў „нацыянал-дэмакратызме" альбо ў „нацыянал-камунізме". Аднак нацыянальная палітыка ў больш чым дзесяцігадовы першапачатковы савецкі перыяд (1922—1934), якая мела беспасярэдні ўплыў на развіццё навукі ў рэспубліках, знайшла ў найноўшых даследаваннях супярэчлівыя ацэнкі. Гэтак можна сустрэць адрозныя паміж сабою выказванні наконт таго, чым у сваёй сутнасці была палітыка „тубылізацыі" альбо „каранізацыі", якая грунтавалася на рашэннях партыйных з'ездаў 1921 і 1923 г. Джэймс Мэйс (*Mace*) сцвярджаў, што ў той час ва Ўкраіне „каранізацыя" „была вядомая як украінізацыя" і „мела на мэце... зрабіць КП(б)У больш украінскаю і праз гэта замаскаваць яе пад аўру нацыянальнай легітымнасці"[24], а Карэр д'Анкос (*d'Encausse*) бачыць два наступствы „каранізацыі": „Яна стымулявала пашырэнне нацыянальных культур і патрабавала пастаяннага кантролю з боку кадраў рознага паходжання"[25]. Гэтаксама, як Дж.Мэйс, польскі гісторык Уладыслаў Сэрчык (*Serczyk*) бачыць супадзенне „каранізацыі" з „украінізацыяй", якая ўзнікла як стратэгія „лакальнай каранізацыі" ў звязку з памкненнямі „дапасаваць палітыку да варункаў, што існавалі ў асобных рэспубліках"[26]. Тое, што партыя праводзіла ў жыццё ў Беларусі пад лозунгам „каранізацыі", Ян Запруднік называе „Belarusization of the governmental structures" („беларусізацыя ўрадавых структураў"), у той час як Робэрт Кайзэр, у сваёй нядаўняй працы, бачыць у беларусізацыі „a number of dimensions, including the promotion of indigenous cultural forms" („набор вымярэнняў, уключна з прапагандай мясцовых формаў культуры") і, гэткім чынам, вядзе гаворку адначасова пра кадрава-палітычны і культурны складнікі ўзмацнення нацыянальнага чынніка[27]. Адназначнае размежаванне тэрмінаў робіць, між тым, Андрэас Капэлер, называючы „каранізацыю" „цэнтральным элементам", а падтрымку развіцця моваў і культураў — прыкладам, „украінізацыю" альбо „беларусізацыю" — „другім істотным элементам" савецкай нацыянальнай палітыкі 20-х г. Тут паняцце „каранізацыя" слушна абмяжоўваецца кааптацыяй лаяльных да бальшавікоў нерасійскіх элітаў у партыйны і дзяржаўны апарат, у той час як узмацненне нацыянальнага чынніка (у дадзеным выпадку ўкраінізацыя) ахоплівала найперш агульнаадукацыйную, школьную і моўную палітыку[28].

[24] Mace, James E. Communism and the Dilemmas of National Liberation. National Communism in Soviet Ukraine 1918—1933. Cambridge, MA, 1983. С.73.

[25] Carrère d'Encausse, Hélène. The Nationality Question in the Soviet Union and Russia (The Norwegian Nobel Institute Lecture Series 2). Oslo, 1995. С.21. Тут, сярод іншага, абагульняюцца найважнейшыя тэзы працы: *Яе ж.* The Great Challenge... (op. cit.), найперш с.159 і наст.

[26] Serczyk, Władysław. Die sowjetische und 'polnische' Ukraine zwischen den Weltkriegen // Golczewski, Frank (рэд.). Geschichte der Ukraine. Göttingen, 1993. С.202—223, у гэтым выпадку гл. с.208.

[27] Zaprudnik, Jan. Belarus. At a Crossroads in History. Boulder, Col., 1993. С.78; Kaiser, Robert J. The Geography of Nationalism... (op. cit.). С.125.

[28] Kappeler, Andreas. Rußland als Vielvölkerreich... (op. cit.). С.302 і наст., а таксама: *Яго ж.* Kleine Geschichte der Ukraine. München, 1994. С.190 і наст. Да гэтай самай

Тое, што выяўляе сябе ў заходняй гістарыяграфіі тэрміналагічнай разнастайнасцю інтэрпрэтацыяў, для беларускай гістарыяграфіі — калі зыходзіць з выказванняў наконт беларусізацыі, што рабіліся да і пасля 1991 г., — стварае прынцыповую праблему ацэнкі. Хоць тут таксама выразна праводзіліся адрозненні паміж „каранізацыяй" і „беларусізацыяй", але кароткае супастаўленне выказванняў мінскага гісторыка А.С.Караля сведчыць пра глабальную змену акцэнтаў, што мела месца цягам усяго некалькіх гадоў. Калі палітыка беларусізацыі — як ён гэта тлумачыў у 1989 г. — для яго была „не чым іншым, як канкрэтным увасабленнем нацыянальнай палітыкі Камуністычнай партыі і Савецкай улады ў Беларусі, у адпаведнасці з яе эканамічнымі, сацыяльнымі, этна-геаграфічнымі ўмовамі і гістарычнымі ды культурнымі традыцыямі", дык пазней гэты вобраз пачаў мяняцца ў духу нацыянальнай гістарыяграфіі. Прайшло тры гады, і А.С. Кароль вызначыў у якасці зыходнага пункту палітыкі беларусізацыі нацыянальны вызвольны рух і ідэалы беларускага нацыянальнага адраджэння, а ў якасці „ініцыятараў і аўтараў палітыкі беларусізацыі" назваў нацыянальную інтэлігенцыю, уключна з палітыкамі нацыянальнага вызвольнага руху, што пад час рэвалюцыі і грамадзянскай вайны свядома прыйшлі да бальшавікоў. У гэты самы час, паводле яго, выпрацоўка нацыянальнай праграмы Камуністычнай партыі „праходзіла складана і супярэчліва"[29].

„Беларусізацыя" і „каранізацыя" былі двума бакамі таго самага медаля. Разам з тым партыя не пакідала ніякага сумневу, што паміж спраектаванай для культурнага кантэксту беларусізацыяй і кадрава-палітычнай „тубылізацыяй" мелася існаваць адназначнае і выразнае размежаванне. Пра гэта сведчыць наступная прамова пад час дыскусіі па нацыянальным пытанні на X з'ездзе КП(б)Б, што быў скліканы ў Менску ў студзені 1927 г.:

> „«Каранізацыю» КП(б)Б разумее як спрыянне таму, каб прадстаўнікі ўсіх карэнных нацыянальнасцяў рэгіёну ўсё больш актыўна займалі кіраўнічыя пасады [...]. «Каранізацыя» закранае *выключна* [тут і далей вылучана ў арыгінале — Р.Л.] пытанні падрыхтоўкі кіраўнічых кадраў у БССР. Яе, аднак, не трэба, прыкладам, блытаць з беларусізацыяй. Акрамя таго, гэтая лінія не мае на мэце *толькі* вылучэнне («выдвижение») беларусаў — «каранізацыя» значыць таксама прасоўванне габрэйскіх, польскіх і расійскіх рабочых"[30].

Беларусізацыя, гэткім чынам, перадусім мела на ўвазе развіццё беларускай культуры і мовы. Перш за ўсё можна сцвярджаць, што нацыянальная палітыка, абагульненая словам „беларусізацыя", засталася фікцыяй, сілкаванай тагачаснай

праблемы параўн. таксама: Daschkewitsch, Jaroslaw. Ukrainisierung und Gegenukrainisierung // Hausmann G., Kappeler A. (рэд.). Ukraine: Geschichte und Gegenwart eines neuen Staates. Baden-Baden, 1993. С.118—125.

[29] Параўн.: Король А.С. Белорусизация: 20—30-е г. // Советская Белоруссия, 27/28 марта 1989. С.4. Таксама гл.: Страницы истории Компартии Белоруссии. Суждения, аргументы, факты / Под ред. Р.П.Платонова (Институт истории партии ЦК КПБ). Мінск, 1990. С.136—154, у гэтым выпадку с.137. Акрамя гэтага гл.: Кароль А.С. Беларусізацыя // ЭГБ. Т.1. Мінск, 1993. С.348—350, у гэтым выпадку с.348.

[30] X Съезд Коммунистической партии (большевиков) Белоруссии, 3—10 января 1927 г: Стенографический отчет. Менск, 1927. С.32.

прапагандай і пазнейшай гістарыяграфіяй Усходу і Захаду. Ідэалагічныя пастулаты нацыянальнай палітыкі не дапускалі доўгатэрміновага паступальнага развіцця нерасійскіх народнасцяў. Гэтаксама толькі ў абмежаванай меры гаворка магла ісці пра нацыянальна-палітычную стратэгію альбо — яшчэ ў меншай ступені — пра „ліберальную палітыку“ партыі. Усё, што ў паасобных рэспубліках рабілася ў звязку з „каранізацыяй“, служыла найперш мэце мабілізацыі і саветызацыі нерасійскіх большасцяў насельніцтва праз выкарыстанне культурна-нацыянальных асаблівасцяў ды традыцыяў. Яе мэта, гэткім чынам, палягала ва ўзмоцненай асіміляцыі (Aufstiegsassimilation), якая мелася быць ажыццёўленая пры адначаснай сепарацыі і ліквідацыі дасавецкіх нацыянальных стрыжнявых сэнсаўтваральных элементаў. У тэрмінах тагачасных ідэалагем гэта значыла: „адраджэнне Беларусі на сацыялістычным шляху“ („возрождение Белоруссии по социалистическому пути“) і „нармальнае развіццё беларускай культуры пры захаванні кіраўнічай ролі партыі“[31].

Пры гэтым нельга пакінуць па-за ўвагай тое, што час паміж задавальненнем неабмежаваных прэтэнзіяў на ўладу Леніна і Сталіна, які супаў з пераходам ад рэвалюцыйнага пафасу і вызначанага ідэйнымі меркаваннямі выпрабавання тэорыі да падсавецкай рэальнасці, меў рысы пераходнай эпохі і міжцаравання. Эканамічныя і нацыянальна-палітычныя вектары, якімі йшло развіццё ў прамежак часу паміж 1922 г. і пачаткам першай пяцігодкі пад лозунгамі „новай эканамічнай палітыкі“ ды „каранізацыі“, пачынаючы з 1928—29 г. — на якія прыпадаў пік „каранізацыі“ — былі кардынальна змененыя на сваю супрацьлегласць, і гэта было зроблена з ужываннем гвалту[32]. На гэтым тле палітыка „каранізацыі“ і спрыяння нацыянальнаму і моўна-культурнаму развіццю выдаецца эфектыўнай у сэнсе пераадолення той збянтэжанасці, што вынікала з нацыянальна-тэарэтычных абяцанняў ленінізму, няўпэўненасці ў абыходжанні з „вызваленымі нацыямі“ і часовай слабасці ў кіраўніцтве партыйнай верхавіны.

Мы ні ў якім разе не збіраемся тут аспрэчваць той факт, што беларусізацыя прывяла да значных поспехаў у справе ліквідацыі непісьменнасці насельніцтва і захавання ды развіцця нацыянальна-моўных і культурных традыцыяў[33]. Хоць БССР і не ўяўляла сабою нацыянальнай дзяржавы, але яна, як і іншыя падсавецкія рэспублікі, павінна была забяспечваць адміністрацыйна-тэрытарыяльныя параметры для фармавання „тытульнай нацыі“. Моўнае і адукацыйна-палітычнае вызначэнне нацыі пазней мела прывесці да таго, што ў 1938 г. сярод усіх саюзных рэспублік самая вялікая доля насельніцтва тытульнай нацыі ў агуль-

[31] Тамсама, с.5, 28. Цвярозы погляд таксама выказаны ў: Hildermeier, Manfred. Geschichte der Sowjetunion, 1917—1991. Entstehung und Niedergang eines sozialistischen Staates. München, 1998. С.207 і наст.

[32] Параўн.: Kaiser, Robert J. The Geography of Nationalism... (op. cit.). С.134, а таксама: Pundeff, Martin (рэд.). History in the U.S.S.R. Selected Readings. San Francisco, CA., 1976. С.69 і наст. Тут таксама было ўведзенае паняцце „першага міжцаравання 1924—1927 г.“. „Другое міжцараванне“ мелася быць пасля смерці Сталіна, у 1953—1955 г.

[33] Пра палітыку ў дачыненні да нерасійскіх нацыянальнасцяў ёсць новая праца: Smith, Jeremy. The Education of National Minorities: The Early Soviet Experience // SEER 75 (1997). С.281—307, у гэтым кантэксце перадусім с.301 і наст.

ным складзе жыхарства (82,9%) была зазначаная менавіта ў Беларусі. Гэтаксама нідзе больш не быў дасягнуты гэткі паказчык (93%) колькасці вучняў школ з роднай (беларускай) мовай навучання[34]. Згодна з афіцыйнымі звесткамі, да 1931 г. удалося знізіць долю непісьменных жыхароў Савецкага Саюзу да 25% (у познецарскую эпоху гэтулькі было пісьменных, г.зн., ранейшыя суадносіны змяніліся ў адваротны бок. На сваім сакавіцкім пленуме годам пазней партыя ўвогуле паставіла мэту да 1 траўня 1932 г. дасягнуць стопрацэнтавага паказчыка пісьменнасці ў БССР. Гэтым самым яна ўзяла на сябе нагэтулькі амбіцыйны, наколькі і нерэалістычны абавязак. З пачатку 1920-х г. у БССР выходзілі шматлікія кнігі і перыядычныя выданні на нацыянальнай мове, у тэатрах ставіліся п'есы беларускіх аўтараў, дзеці вучыліся ў школах на нацыянальнай мове, незалежна ад таго, якое яны мелі паходжанне — беларускае, габрэйскае ці то польскае[35].

На захадзе такія важныя гарадскія цэнтры, як Гродна, Брэст, а найперш Вільня, былі для БССР на той час, у выніку падпісання Рыжскае дамовы, страчаныя. У гарадах адзначалася паступовае змяненне нацыянальнага складу насельніцтва. Перадусім — у выніку першай хвалі эміграцыі і праведзенай на загад царскага ўраду эвакуацыі пад час Першай сусветнай вайны — зменшылася доля габрэяў у складзе гарадскога насельніцтва з 54 (звесткі перапісу 1897 г.) да 40 працэнтаў. Вядома ж, гэты паказчык не павінен змусіць нас забыцца на той факт, што 407 тысяч габрэяў у міжваенны перыяд усё-такі ўтваралі колькасна другую, пасля беларусаў, этнічную групу ў складзе БССР. У перыяд дэкрэтаванага Савецкай уладай нацыянальнага самавызначэння нерасійскай перыферыі Беларуская рэспубліка якраз прыцягвала этнічных беларусаў. З прычыны змяншэння расійскай і габрэйскай доляў жыхарства нацыянальны склад насельніцтва тут меў тэндэнцыю руху ў бок аднароднасці. У адрозненне ад 1897 г. — калі праводзіўся першы і апошні перапіс насельніцтва шматнацыянальнай царскай імперыі — пад час перапісу 1926 г., дзеля таго каб удакладніць нацыянальны склад жыхарства, спраўджваліся такія паказчыкі, як прыналежнасць да пэўнай нацыянальнасці і родная мова. Аднак сярод 80% беларусаў, якія, паводле табл. 7, жылі ў БССР, 67,2% назвалі сваёй роднай мовай беларускую — паказчык значнага адхілення. Перадусім у гарадах розніца паміж колькасцю тых, хто самавы-

[34] Simon, Gerhard. Nationalismus und Nationalitätenpolitik in der Sowjetunion... (op. cit.). С.70 і наст. Тут неабходна выразна зазначыць тое, што ўсе афіцыйныя статыстычныя звесткі сталінскага часу (перапісы насельніцтва, працэнтныя долі прадстаўнікоў тых альбо іншых нацыянальнасцяў, вынікі мадэрнізацыі, паказчыкі пісьменнасці насельніцтва і г.д.) павінны прыцягвацца з вялікімі перасцярогамі. Калі нават не браць пад увагу сумнеўнасць што да атрымання лічбаў, трэба заходзіць і са значных маштабаў зробленых „паправак". Угрунтаваныя на гэткіх лічбах аналітычныя матэрыялы праз гэта часта носяць гіпатэтычны характар. Дзе для гэтага існавалі магчымасці, здабытым у архівах лічбавым паказчыкам аддавалася перавага перад афіцыйнымі звесткамі.

[35] Пра выходнае становішча пасля 1917 г. параўн.: Каранеўскі Я. Пасьля-Кастрычнікаўскі пэрыяд. Культурнае будаўніцтва (друк, школы на роднай мове, дашкольная, профтэхнічная асьвета, курсы, унівэрсітэт) // Беларусь. Нарысы гісторыі, эканомікі, культурнага і рэвалюцыйнага руху. Калектыўная праца пад агульнай рэд. А.Сташэўскага, З.Жылуновіча і У.Ігнатоўскага. Менск, 1924. С.243—248.

значыўся як беларус, і тых, хто лічыў сваёй роднай мовай беларускую, была досыць значнаю. Гэта можна растлумачыць тым, што пасля 1897 г. істотна вырасла колькасць беларусаў, якія належалі да гарадскога насельніцтва, былі сацыялізаваныя, атрымалі адукацыю і былі занятая кваліфікаванай працай. З гэтай міграцыяй у гарады ў значнай ступені быў звязаны паварот да расійскай мовы, што, калі браць пад увагу куртатасць тагачаснай БССР і адпадзенне заходніх рэгіёнаў, якія адчувалі на сабе польскі ўплыў, не выглядае дзіўным. У кожным разе, што да колькасці службоўцаў і работнікаў, прафесія якіх патрабавала адукацыі, дык у 1926 з іх агульнай колькасці 99 741 палова (50 876) лічылася беларусамі; сярод настаўнікаў, прафесараў і акадэмічных выкладчыкаў гэтая доля была яшчэ больш значнаю. Тут сярод 11 326 улічаных асобаў усё ж такі 8 005 адчувалі сябе прыналежнымі да беларускай нацыянальнасці. Разам з тым, сярод 142 улічаных літаратурных супрацоўнікаў — гэта значыць, пісьменнікаў, выдаўцоў і журналістаў — толькі 55 назвалі сябе беларусамі.

| Нацыянальнасць | Гарадское насельніцтва | | Вясковае насельніцтва | | Разам | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Колькасць | У працэнтах | Колькасць | У працэнтах | Колькасць | У працэнтах |
| Беларусы | 332.860 | 39,26 | 3.684.441 | 89,10 | 4.017.301 | 80,26 |
| Габрэі | 340.162 | 40,12 | 66.897 | 1,60 | 407.059 | 8,19 |
| Расійцы | 132.203 | 15,60 | 251.603 | 6,10 | 383.806 | 7,70 |
| Палякі | 19.665 | 2,32 | 77.833 | 1,85 | 97.298 | 1,96 |
| Украінцы | 7.418 | 0,87 | 27.263 | 0,70 | 34.681 | 0,69 |
| Латышы | 3.192 | 0,37 | 10.869 | 0,25 | 14.061 | 0,28 |
| Літоўцы | 2.118 | 0,25 | 4.745 | 0,11 | 6.863 | 0,14 |
| Немцы | 2.318 | 0,26 | 4.757 | 0,11 | 7.075 | 0,15 |
| Татары | 3.219 | 0,38 | 558 | 0,01 | 3.777 | 0,07 |
| Цыганы | 168 | 0,02 | 2.198 | 0,05 | 2.366 | 0,05 |
| Эстонцы | 251 | 0,03 | 716 | 0,02 | 967 | 0,02 |
| Іншыя | 4.256 | 0,52 | 3.530 | 0,09 | 7.786 | 0,13 |
| Разам | 847.830 | 100 | 4.135.310 | 100 | 4.983.240 | 100 |

**Табл. 7: Нацыянальнасці БССР і іх размеркаванне (1926 г.)[36].**

З аднаго боку, як мы бачым, пасля пяці гадоў беларусізацыі працэнт беларусаў, прысутнасць якіх у гарадах да нядаўняга часу амаль не заўважалася, сярод прадстаўнікоў інтэлектуальных прафесіяў зрабіўся досыць значным; але, з іншага боку, паказчык колькасці пісьменных жыхароў гэтай нацыянальнасці не даваў нагоды для эйфарыі. У 1926 г. толькі 36% беларусаў умелі чытаць і пісаць, у той час як сярод габрэяў пісьменных было 70%; нават сярод менш як чатырох тысяч татараў гэтая лічба складала каля 60%. Тым самым беларуская „тытульная нацыя" ў 1926 г. адставала, паводле паказчыка пісьменнасці, на 23,7% ад сярэдняга паказчыка для ўсіх жыхароў БССР, які тады складаў 59,7%. Наяўнасць высокага працэнта вяско-

[36] Звесткі падаюцца паводле: Практическое разрешение национального вопроса в Белорусской социалистической советской республике. Часть II. Работа среди национальных меньшинств. Менск, 1928. С.20. Неабходна нагадаць у дадатак, што БССР толькі пасля 1924 г. перасягнула межы Менскай вобласці і колькасць яе насельніцтва вырасла з прыблізна 1,5 мільёна да амаль што 5 мільёнаў (да 1926 г.).

вага насельніцтва не давала вычарпальнага тлумачэння, чаму беларусы сярод іншых нацыянальнасцяў свайго краю мелі самы нізкі ўзровень адукаванасці. Калі за маштаб вымярэння ўзяць лічбы колькасці гарадскога жыхарства, то мы бачым, што сярод 332 860 гараджанаў-беларусаў 202 962 умелі чытаць і пісаць; але гэтыя 60% варта супаставіць з адпаведнымі лічбамі сярод гараджанаў-палякаў (67%), габрэяў (70%) і расійцаў (70%), аднак найбольшае адставанне было ад літоўцаў (77%), немцаў (77%), латышоў (82%) ды ўкраінцаў (апошніх было 84%!).

Гаворачы пра межы „каранізацыі", нельга пакінуць па-за ўвагаю той факт, што павышэнне ўзроўню адукаванасці — г.зн., прырост колькасці пісьменных жыхароў — у прамежку паміж 1897 і 1926 г. складаў 27,7% і быў на некалькі пунктаў вышэйшым, чым гэта мела месца пазней, паміж 1926 і 1939 г., калі адпаведны паказчык знізіўся да 21,1%. Развіццё асветы ў дачыненні да Беларусі насамрэч значыла не тое самае, што ў дачыненні да Таджыкістана, дзе паміж 1926 і 1939 г. вышэйназваны прырост склаў 79%[37]. Абцяжарваў сітуацыю дадатковы чыннік — тое, што сярод нешматлікіх адукаваных беларусаў больш як палова (52,2%) навучалася чытаць і пісаць выключна па-расійску[38]. Адпаведным чынам, у гэты час пераважная колькасць беларускіх адукацыйных прапановаў — датычных ці то элементарных, ці то навуковых ведаў, альбо мастацкай літаратуры — зусім не ўспрымалася, не кажучы ўжо пра тое, каб трансфармавацца ў нацыянальную ідэнтычнасць вышэйшага кшталту. Прорва паміж патокам нацыянальнамоўных публікацыяў ды індывідуальнымі магчымасцямі ўспрымання проста не магла быць глыбейшаю. У гэтым сэнсе беларусізацыя трапляла тут у пустату.

Табл. 8 і 9 утрымліваюць звесткі пра колькасць выдаваных кніг і перыядычных выданняў, што рэзка ўзрастала пачынаючы з сярэдзіны 20-х г. У кожным разе, у 1929 г. сярод іх адзначана 15 назваў кніг гістарычна-навуковай тэматыкі. У 1938 г. БССР паводле колькасці выдадзеных на нацыянальнай мове кніг (462) займала шостае, паводле колькасці часопісаў і альманахаў (11) — восьмае, а паводле колькасці газет (149) — нават трэцяе месца ў агульнасаюзным маштабе. Аднак вядома, што гаворкі пра свабодную прэсу альбо пра росквіт беларускага кніжнага рынку не магло быць. Занадта вялікай была доля публікацыяў з галінаў матэматычных ды тэхнічных навук альбо перакладзеных на беларускую мову працаў класікаў марксізму-ленінізму — каб рабіць высновы пра працяг беларусізацыі і шанаванне традыцыяў.

| Год | Газеты | з іх на беларускай мове |
|---|---|---|
| 1913 | 19 | 5* |
| 1928 | 37 | 30 |
| 1931 | 182 | 148 |
| 1938 | 199 | 149 |

*Параўн. звесткі з табл.6.

**Табл. 8: Газеты ў Беларусі (1913—1938 г.)**

Да тых перыядычных выданняў, у тым ліку штодзённых газет, якія былі забароненыя альбо пераведзеныя на расійскую мову ў 1926—1934 г., належалі перад-

[37] Параўн. інфармацыйна багатае супастаўленне ва ўсесаюзным маштабе ў табл. 3.6. працы Кайзэра: Kaiser, Robert J. The Geography of Nationalism... (op. cit.). С.130.

[38] Параўн.: Тамсама, с.71 і наст., а таксама табл. 13 у: Guthier, Steven L. The Belorussians: National Identification and Assimilation, 1897—1970. Part 1, 1897—1939 // SS 29 (1977) 1. С.56.

| Год | Колькасць |
|---|---|
| 1918 | 14 |
| 1924 | 61 |
| 1926 | 275 |
| 1930 | 1.170 |
| 1931 | 1.301 |
| 1938 | 462 |

**Табл.9: Колькасць назваў кніг на беларускай мове ў БССР (1918—1938 г.)**[39]

усім „Савецкая Беларусь", „Беларуская вёска", „Узвышша", „Беларусь Калгасная", „Полымя" [у сапраўднасці змяніла назву. — *Заўвага перакладчыка*], „Вясна", „Маладняк", „Наш Край". Асабліва 1930 год напраўду стаў годам знішчэння кніг. З паліцаў кнігарняў, абанементаў публічных бібліятэк і класных пакояў зніклі заходнебеларускія выданні, працы Доўнара-Запольскага ды Ігнатоўскага. Тое самае адбылося з публікацыямі вершаў Алеся Гаруна альбо з працамі, прысвечанымі 400-годдзю беларускага кнігадрукавання, якія былі апублікаваныя ў юбілейным 1925 г. і пазней. У 1939 г. колькасць працаў на гістарычную тэматыку (64) сярод агульнай колькасці выдадзеных у БССР кніг (1323) выглядала хутчэй вартай жалю, бо была значна меншай, прыкладам, на тле актыўна выдаванай (188 назваў) літаратуры сельскагаспадарчай тэматыкі. Аддзелам прапаганды ЦК партыі праз пасярэдніцтва наркамата народнай адукацыі БССР былі таксама забароненыя разнастайныя дыялектныя слоўнікі, выданні беларускага тэрміналагічнага слоўніка і беларускай бібліяграфіі. Ахвярамі чысткі не ў апошнюю чаргу зрабіліся працы гуманітарных і юрыдычных аддзяленняў Беларускай Акадэміі навук — гэтак, як „Беларускі архіў", спынены пасля выхаду ў свет двух выпускаў.

У галіне школьнай палітыкі канцэпцыя беларусізацыі таксама ў канчатковым выглядзе не была зрэалізаваная[40]. Сярод створаных пасля 1920 г. пачатковых школаў толькі ў 438 школах, размешчаных у Менскай навучальнай акрузе, удалося стопрацэнтова перайсці на беларускамоўнае навучанне. Натуральна, што ад школьнага дырэктара ў сталіцы БССР Менску больш настойліва патрабавалі справаздачы пра поспехі ў дасягненні „беларускасьці", чым ад вясковага настаўніка дзе-небудзь у Віцебскай вобласці. Адтуль паведамлялася, што 438 школаў [супадзенне лічбы з менскай лічбай выпадковае — **Р.Л.**] здолелі забяспечыць навучанне на беларускай мове толькі ў першых (з чатырох агулам) пачатковых класах.

[39] Vakar, Nicholas P. Belorussia. The Making of a Nation. A Case Study. Cambridge, MA., 1956 С.256 і наст., а таксама: Guthier, Steven L. The Belorussians... (op. cit.) С.59 і наст.; Buchproduktion und Presse in Weißrußland // SRU 5 (1933). С.46 і наст.; Weissrussische Sovjetrepublik. Die Buchproduktion 1930 // Тамсама, 3 (1931). С.653 і наст.

[40] Параўн. багаты на матэрыялы артыкул намесніка народнага камісара асветы БССР: Баліцкі А. Беларусізацыя культурна-асьветных установ // Полымя. 1925. № 4. С.117—148. На гэтым грунтуюцца працы: Njamiha H. Education in Belorussia before the Rout of „National Democracy" 1917—1930 // BR 1 (1955) 1. С.34—66, а таксама: *Яго ж.* Education, Culture and Science in the BSSR. A Brief Survey of the Soviet Period // Тамсама, (1959) 7. С.40—50. Дэталёвае абагульненне маецца ў кн.: Hlubinny, Ul. Vierzig Jahre weißrussischer Kultur unter den Sowjets. München, 1959 [Institut zur Erforschung der UdSSR. Monographien, Serie I, Nr.55]. Параўн. рэзюмэ літаратуры ў: Chiari, Bernhard. „Nationale Renaissance", Belorussifizierung und Sowjetisierung: Erziehungs- und Bildungspolitik in Weißrußland 1922—1944 // JBfGOE 42 (1994) 4. С.521—540. Яшчэ адна нядаўняя праца: Zejmis, Jakub. Belarus in the 1920s: Ambiguities of National Formation // NP 25 (1997) 2. С.243—254. Я.Зэйміс працаваў на падставе бюлетэня народнага камісарыята БССР па нацыянальных пытаннях, які з гэтае прычыны тут больш падрабязна не аналізуецца.

Гэтаксама і ў дачыненні да няпоўна–сярэдніх сямігадовых школаў сітуацыю нельга было паказаць у ружовых фарбах. На ўсёй тэрыторыі БССР толькі ў трох гэткіх школах беларуская мова выкладання ўжывалася ў кожнай з сямі паралеляў. Наступствы беларусізацыі школаў не мелі трывалага характару. Нават аднаму пакаленню беларусаў не было наканавана застацца пад яе трывалым уплывам. Ужо да 1935 г. і асабліва пазней, згодна з успамінамі аднаго настаўніка, у асноўных і сярэдніх школах расійская мова зноўку заняла дамінавальныя пазіцыі[41].

Глыбінная прычына гэткага няроўнага стану, які выявіўся непераадольным і ў наступныя гады, палягала ў вострым і пастаянным недахопе настаўніцкіх кадраў. Натуральна, што нешматлікія выпускнікі менскіх курсаў і семінарыяў, што мелі веды ў беларускай мове, імкнуліся заставацца ў рэгіёне. Шмат хто з іх у выніку праведзенай не гледзячы ні вока, ні бока (Hals–über–Kopf) кампаніі ўвесну 1921 г. былі выкліканы ў Беларусь з Расіі альбо Украіны. Саўнаркам РСФСР нават выдаў 12 траўня 1921 г. распараджэнне пра адкамандзіраванне „культурников–белоруссов" у БССР. Яшчэ каля 1500 курсантак і курсантаў улетку таго самага года ўзялі ўдзел у занятках „Кароткіх тэрміналагічных курсаў для настаўнікаў"[42]. Самі паняцці, вядома, ствараліся патокам. Толькі што заснаваная „навукова–тэрміналагічная камісія", на падмурку якой неўзабаве меўся паўстаць „Інстытут беларускае культуры" (Інбелкульт), быў заняты тым, каб стварыць больш-менш поўны беларускі тэзаўрус для прыродазнаўчых і гуманітарных навук.

Вышэйшыя навучальныя ўстановы, а сярод іх і Беларускі дзяржаўны універсітэт (БДУ), мелі падобны клопат. Сярод прафесараў і дацэнтаў наўрад ці была трэ-

[41] Гл.: Kluckhohn C., Inkeles A., Bauer R. (рэд.). [The Russian Research Center, Harvard University under contact with The Human Ressources Research Institute, Air University, Maxwell Air Force Base, Alabama, AF 33 (038)–12909]: Project on the Soviet Social System (надалей PSSS), Schedule B. Vol.7, #45 JR. C.7. Аўтар меў магчымасць прагледзець шматтамовую справаздачу па праекце ўвесну 1996 г. у бібліятэцы „Widener" Гарвардскага універсітэта. Яна ў пэўнай ступені можа быць аб'ектам крытычнага аналізу крыніц, паколькі апытаныя на пачатку 50–х гадоў у Нямеччыне і ЗША савецкія эмігранты (у асноўным „остарбайтэры", што не вярнуліся на радзіму) не толькі не хавалі свайго варожага стаўлення да сістэмы, але выразна дэманстравалі яго ў сваіх сведчаннях. З гэтай прычыны пэўныя ацэнкі могуць выглядаць тэндэнцыйнымі. Група інтэрв'юераў, што складалася з афіцэраў і навукоўцаў грамадазнаўчай сферы, аднак, паспрабавала ва ўводных заўвагах ацаніць ступень вераемнасці выказванняў кожнага рэспандэнта. У раздзелах 2 і 3 з багатага сабранага матэрыялу ў разгляд могуць быць уключаныя толькі паасобныя серыі пытанняў. Паколькі адказы рэспандэнтаў перакладаліся на стэрыльную амерыкана–англійскую мову, далейшы пераклад не рабіўся. [Мы падаём цытаты ў перакладзе з англійскай на беларускую. — *Заўвага перакладчыка*]. Тут цытуюцца толькі фрагменты з вусных апытанняў, што знаходзяцца ў тамах да „Schedule A" — што датычыць індывідуальных біяграфіяў, і тамах да „Schedule B" — калі прыцягваюцца кваліфікаваныя сведчанні па асобных тэматычных пазіцыях (эканоміка, сям'я, урад, нацыянальнасці, час акупацыі, партызанскі рух, прафесіі, школьніцтва). З „Schedule B" прыцягваліся выключна матэрыялы тамоў 7—9, што датычацца нацыянальнай праблематыкі. Усе дакументы падаюцца ў навукова-даследчай працы ўпершыню.

[42] Звесткі падаюцца паводле: Баліцкі А. Беларусізацыя культурна-асьветных установ (op. cit.) С.119 і наст., 127. Баліцкі, які ў гэтым канстатаванні фактаў марна спрабаваў выглядаць аптымістам, быў таксама аўтарам тэрміна „беларускасць" у дачыненні да беларускамоўнасці школы.

цяя частка тых, хто мог чытаць лекцыі па-беларуску. Прычына гэтага відавочная: у склад прафесуры і выкладчыкаў вышэйшай школы, у адрозненне ад Інбелкульта, у сваёй бальшыні ўваходзілі габрэі альбо расійцы. З 395 прафесараў, дацэнтаў, асістэнтаў ды іншых навукова-педагагічных супрацоўнікаў, што працавалі ў 1925 г. у БССР, толькі 56 (14,7%) маглі праводзіць заняткі на беларускай мове.

| Тып навучальнай установы | Колькасць | Выкладчыкі | Студэнты/ навучэнцы |
|---|---|---|---|
| ВНУ | 4 | 504 | 4.632 |
| Рабфакі | 6 | 120 | 1.028 |
| Тэхнічныя інстытуты | 30 | 566 | 5.276 |
| Гандлёвыя вучэльні | 34 | 408 | 3.077 |
| Прафесійныя вучэльні | 13 | 157 | 1.009 |
| Тэхнікумы | 7 | 45 | 606 |
| Асноўныя (7-гадовыя) школы | 277 | 3.077 | 99.437 |
| Пачатковыя (4-гадовыя) школы | 4.585 | 6.671 | 309.009 |

**Табл.10: Навучальныя ўстановы ў БССР (1928 г.)[43]**

Якая была карысць з ініцыятывы партыі ў 1924 г. наконт забароны прымаць на працу ў ВНУ небеларускамоўных прэтэндэнтаў, калі ў 1924/25 навучальным годзе на педагагічным факультэце БДУ будучым настаўнікам гэткія дысцыпліны, як „Крыніцы беларускай гісторыі", „Культурныя напрамкі ў Польшчы і Беларусі" альбо „Гісторыя народнай адукацыі", прапаноўваліся на расійскай мове? У табл. 11 падведзены сумны вынік беларусізацыі ў дачыненні да беларускіх ВНУ і ведання беларускай мовы выкладчыцкім складам у сярэдзіне 20-х г.

| Пасада | Нацыянальнасць | | | | | | Выкладалі па-беларуску | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Беларус | Расіец | Габрэй | Паляк | Інш. | Разам | Колькасць | У працэнтах |
| Прафесар | 1 | 23 | 5 | – | 2 | 31 | 1 | 3,2 |
| Дацэнт | 11 | 4 | 6 | – | – | 21 | 7 | 33,2 |
| Асістэнт | 13 | 13 | 23 | 1 | 3 | 53 | 8 | 16,3 |
| Малодшы выкладчык | 8 | 4 | 35 | – | – | 47 | 4 | 8,5 |
| Разам | 33 | 44 | 69 | 1 | 5 | 152 | 20 | 13,5 |

**Табл.11: Нацыянальнасць і выкарыстанне беларускай мовы выкладчыкамі беларускіх ВНУ (1926 г.)[44].**

У той самы час немагчыма было ўявіць, каб на габрэйскім патоку прапанаваныя 12 лекцыяў, семінараў ды практычных заняткаў па мове, літаратуры і гісто-

[43] Звесткі паводле: Vakar, Nicholas P. Belorussia... (op. cit.) С.140.

[44] Звесткі паводле: Баліцкі А. Беларусізацыя культурна-асьветных установ (op. cit.) С.138. Дадатковыя звесткі наконт прафесіяналізацыі савецкай і нацыянальнай інтэ-

рыі праводзіліся на якой іншай мове, а не на ідыш. Зрэшты, гэта можна добра ўпісаць у кантэкст заяўленых партыяй у рэчышчы „каранізацыі" намераў у аднолькавай меры спрыяць развіццю ўсіх нацыянальнасцяў. Тым часам адрозненне габрэяў ад беларусаў тут палягала ў тым, што габрэйская навука мела апрышча ў функцыянальна-падрыхтаванай мове і наяўнасці актыўных і пасіўных карыстальнікаў (Sprecher und Hörer) гэтай мовы. Між іншым, менавіта студэнты-габрэі ў сярэдзіне 20-х г. і крыху пазней складалі больш як палову агульнай колькасці студэнцтва, хоць пачынаючы з 1924 г. беларусы ў найбольшай ступені заахвочваліся да атрымання вышэйшае адукацыі[45]. Факт застаецца фактам, што ў 1929 г. кароткая „эпоха" беларусізацыі скончылася. Усе заняткі ў ВНУ — як пазней узгадвалі відавочцы, забываючы, натуральна, пра габрэйскія патокі — ізноў пачалі праводзіцца выключна па-расійску[46].

Разам з саветызацыяй і „тэкставай" уніфікацыяй грамадска-публічнай сферы жыцця ў сярэдзіне 1920-х г. на рэспубліканскім узроўні мусіла адбыцца сімвалічнае „перапрысвячэнне". Асаблівае значэнне партыя пры гэтым надавала дзяржаўнаму гербу і гімну. На VIII Усебеларускім з'ездзе саветаў, што адбываўся ўвесну 1927 г., на парадку дня стаяла прыняцце канстытуцыі і герба Беларускай ССР. За некалькі тыдняў перад тым, 27 снежня 1927 г., Саветам народных камісараў БССР быў прыняты адпаведны праект „Пра герб", аўтарам якога быў В.Волкаў, выкладчык [Віцебскага] Дзяржаўнага мастацкага тэхнікума. Партыя праз пасярэдніцтва ЦВК БССР, тым не менш, у канцы лютага 1927 г. прапанавала Бюро ЦК пэўныя змены ў выяве і сімвалічным змесце герба. Праз мадыфікацыі праекта, што меліся быць прапанаваныя вышэйзгаданаму з'езду, з яго мусілі быць прыбраныя ўсе нацыянальныя атрыбуты — як, прыкладам, бела-чырвона-белыя колеры БНР; усё павінна было дастасоўвацца да агульнасаюзнага ўзору. Сімвалы рэгіянальных асаблівасцяў можна

лігенцыі гл. у: Иванова Л.В. Формирование советской научной интеллигенции (1917—1927 г.). Москва, 1980, перадусім параўн. с.291 і наст. Паводле гэтага аўтара, навуковыя ўстановы БССР у 1927 г., маючы ў сярэднім кожная па 11,5 супрацоўнікаў, апярэджвалі ўсе астатнія падсавецкія рэспублікі, з выняткам РСФСР (19,4). Ва Украіне гэты паказчык быў роўны 9,7 супрацоўнікаў. Параўн.: Тамсама, с.296. Гэтая сітуацыя магла б тлумачыцца хуткім прыростам колькасці навуковых кадраў пры маларазвітай сетцы адпаведных установаў.

[45] У кастрычніку 1923 у БДУ былі залічаныя 1841 габрэй, 1459 беларусаў, 260 расійцаў, 285 палякаў і 37 прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцяў. Гл.: Некрашэвіч С. Становішча культурна-асьветных установаў на Беларусі пры нэпе // Беларусь. Нарысы гісторыі, эканомікі, культурнага і рэвалюцыйнага руху... (op. cit.). С.249—260, у гэтым выпадку гл. с.257. У 1924/25 навучальным годзе суадносіны паміж колькасцю габрэйскіх і беларускіх студэнтаў ужо крыху падраўнаваліся: 1025 беларусаў і 1265 габрэяў; акрамя таго 155 расійцаў, 12 палякаў і 26 з ліку іншых. Гл.: Баліцкі А. Беларусізацыя культурна-асьветных устаноў (op. cit.) С.141.

[46] PSSS: Schedule B. Vol.7, #45 JR. C.14. Даслоўна тут гаворыцца: „З канцом беларусізацыі ў 1929 г. усе курсы ў Менскім універсітэце выкладаліся па-расійску, і калі я быў студэнтам, сюды прыехалі прафесары з Расіі — да прыкладу, прафесар Нікольскі і прафесар Перцаў". На ўвазе меліся спецыяліст па сярэднявечнай і старажытнай гісторыі акадэмік, пазнейшы дырэктар інстытута М.М.Нікольскі і спецыяліст па ўсеагульнай гісторыі У.М.Перцаў. Абодва вучыліся ў Маскоўскім універсітэце і прыехалі ў 1921 г. на працу ў толькі што заснаваны БДУ.

было браць адно з батанікі. І ў гэтым аспекце беларусізацыя мела свае выразна акрэсленыя межы[47].

Побач з пытаннямі сімволікі ўсё большае месца пачынала займаць нацыянальна-дзяржаўніцкая рыторыка. Савецкі Саюз мусіў прэзентавацца як звяз самастойных дзяржаваў. Нават партыйныя прапагандысты, да ліку якіх належалі паасобныя прафесійныя навукоўцы-гуманітарыі, ужо неўзабаве пасля новага абвяшчэння БССР называлі беларускую дзяржаву самастойнай і правасуб'ектнай у міжнародных адносінах. Каментатар адной з прамоваў А.Р.Чарвякова, старшыні ЦВК БССР, падхапіў ідэю пра „мясцовыя Савецкія нацыянальныя дзяржавы“ („местные Советские национальные государства“), а таксама сцвярджэнне, што Беларусь уяўляе сабою „не толькі этнаграфічнае дзяржаўнае ўтварэнне, але і палітычны чыннік на міжнароднай арэне“[48]. Немагчыма не заўважыць, што паняцце нацыянальнай дзяржавы на пачатку 1920-х г. яшчэ трывала ўваходзіла ў нацыянальна-палітычны вакабуляр партыі.

Нацыянальная палітыка камуністычнай партыі магла напачатку разлічваць на тое, каб у пэўнай меры быць успрыманай нацыянальнай інтэлігенцыяй, што, натуральна, адпавядала вызначанай партыяй мэце выйграць час і набыць упэўненасць у сабе. Беручы пад увагу віленскі „альтэрнатыўны ўрад“ і ягоную палітыку, яна нават разлічвала на падтрымку звонку, бо пазіцыі й тых, і другіх па нацыянальным пытанні істотным чынам не розніліся. Згодна з пазіцыяй старшыні Рады міністраў БНР В.Ю.Ластоўскага, роўнасць усіх нацыянальнасцяў („Габрэі, якія жывуць у Беларусі ўжо тысячу гадоў, належаць да яе карэннага насельніцтва і павінны таксама займець правы мясцовага народа“) мусіла стаяць сярод галоўных патрабаванняў беларусаў, як і ўвядзенне дзяржаўнасці беларускай мовы. Праз гэта, вядома, не мусіла быць скасаванае „поўнае раўнапраўе ўсіх рэгіянальных моваў“. Адрозненні ад уяўленняў бальшавікоў палягалі ў звязку з размеркаваннем зямлі і пытаннямі ўдзелу вясковага жыхарства ў самакіраванні[49]. У той час, падкрэсліваў Ластоўскі, існавалі два варыянты развіцця Беларусі — дэмакратычны і падсавецкі. Разам з тым, адрозненні паміж палітычнымі стратэгіямі ў дачыненні да нацыянальнай палітыкі былі меншымі, чым ён быў гатовы гэта прызнаць. Таму на іншым баку пакліканы ў Менск са свайго паста ў Агітпропе маскоўскага ЦК ВКП(б) першы сакратар ЦК КП(б)Б В.Г.Кнорын (займаў гэтую пасаду ў 1927—28 г.) не пасаромеўся параўнаць нацыянальную палітыку партыі са стратэгіямі „беларускага Адраджэння“ дасавецкага і раннесавецкага часу:

[47] НАРБ, ф.4, воп.3, спр.20, арк.620—662: „О гербе БССР“ (праект). Пажаданні ЦК наконт унясення зменаў палягалі ў тым, каб „а) з [бела-чырвона-белай — Р.Л.] стужкі [што адпавядала колерам сімволікі БНР — **Р.Л.**] прыбраць белыя палосы і гэтым самым зрабіць яе цалкам чырвонага колеру; б) жытнія снапы яшчэ пераплесці зялёнай канюшынай; в) колеры зямнога шару яшчэ больш дакладна прывесці ў адпаведнасць з адпаведнымі колерамі на гербе СССР і г) галінку дуба скамбінаваць з сасновымі“.

[48] НАРБ, ф.60, воп.3, спр.499, арк.1 (рукапіс артыкула „Национальный вопрос и власть советов“ з газеты „Звезда“, 1923, № 69).

[49] Параўн.: Інтэрвію з В.Ластоўскім // Новое Русское Слово, 27.07.1921. С.1.

„Калі камуністы робяць вялікія намаганні для развіцця і ўзбагачэння мовы — ці то ў стварэнні тэрміналогіі, ці то ў заснаванні асяродкаў развіцця тэатральнай і музычнай культуры, ці то ў запісванні народнага эпасу, — дык гэтыя намаганні ні ў чым не розняцца ад тых, якія рабіла буржуазная і дробнабуржуазная інтэлігенцыя ў эпоху нацыянальнага Адраджэння і ўзнікнення элементаў буржуазнай культуры“[50].

Напачатку палітыкі ў Беларусі, гэтаксама як і ва Украіне, апынуліся перад нявырашаным для іх пытаннем, у якой ступені аграрныя грамадствы маглі быць прыдатныя для ўвядзення сацыялістычнай сістэмы. Для ажыццяўлення ўкаранёнай пераважна ў гарадах *расійскай* рэвалюцыі зыходная сітуацыя ў этнічна неаднародным рэгіёне пры адсутнасці дзеяздольных беларускіх альбо расійскіх элітаў якраз не была спрыяльнай. Сітуацыю, што склалася на пачатку 20-х г., характарызавалі ненармальныя суадносіны паміж вясковай беларускай і пралетарскагарадской расійскай і габрэйскай ідэнтычнасцю, паміж „тутэйшымі“ з вёскі і „іншаземцамі“ горада (расійцамі, габрэямі, палякамі). Індустрыялізацыя і пралетарызацыя гарадскіх цэнтраў у аграрных рэспубліках не ў апошнюю чаргу мела выклікаць міграцыю насельніцтва з вёскі ў горад, а праз гэта мусіла мабілізоўвацца неабходная працоўная сіла. Канцэнтрацыя беларускіх сялян на дзяржаўных прадпрыемствах, што знаходзіліся пад пільным партыйным кантролем, амаль аўтаматычна вяла да пралетарызацыі і русіфікацыі. Кіраўнічыя пасады займалі рабочыя, якія выявілі сябе „найбольш здольнымі да вучобы“. Гэткім чынам не толькі фармальна дасягалася мэта „каранізацыі“ — узмоцненая інтэграцыя прадстаўнікоў нерасійскіх нацыянальнасцяў. З дапамогай гэтай сацыяльнай і нацыянальнай саветызацыі была магчымасць адначасова перашкаджаць узнікненню плюралізму палітычнае ўлады. У гэтым сэнсе не ёсць памылкай разам з Джорджам Лібэрам (*Liber*) гаварыць пра пэўны „тактычны манёўр“[51].

Да сярэдзіны 1920-х г. беларуская мова як мова вёскі ў горадзе слаба магла спаборнічаць з расійскай. Бальшыня прыняла да 1926 г. расійскую мову як сваю галоўную. На той момант яна была не толькі мовай дзяржаўнай, але і мовай, патрэбнай для кар'ернага поспеху. Калі, пачынаючы з сярэдзіны 20-х г., беларусізацыя пачала даваць плён, колькасць зарэгістраваных беларусаў была большай за колькасць тых, хто гаварыў па-беларуску. Карыстанне мовай ужо даўно не было адзіным спосабам выяўлення нацыянальнай самаідэнтыфікацыі і не вы-

[50] Кнорин В. К вопросу о нашей национальной политике (Ответ на письма и записки) // Звезда, 14.07.1927. С.1; нядаўна перадрукавана ў: *Яго ж.* Избранные статьи и речи. Мінск, 1990. С.174—178, у гэтым выпадку гл. с.177 і наст.

[51] Liber, George O. Soviet Nationality Policy, Urban Growth and Identity Change in the Ukrainian SSR 1923—1934. Cambridge, 1992. С.44. Параўн. таксама выказванне аўтара ў дыскусіі ў: ZfG 43 (1995) 5. С.474—476. Падобную ацэнку дае таксама адзін з рэспандэнтаў у: PSSS: Schedule A. Vol.35, #104. С.18: „Я вучыўся ў школе, калі гэтак званая «ўкраінізацыя» ішла поўнай хадою. Цяпер я разглядаю гэта як манёўр у дачыненні да часткі камуністычнай партыі, каб высветліць асобы тых, хто быў гарачым патрыётам, — дзеля таго каб іх пазней вынішчыць“. У дачыненні да Беларусі гаворка йшла нават пра „хітрую палітыку“: „Бальшавікі ўжывалі гэткія метады ўзмоцненай беларусізацыі, бо гэта была «хитрая политика». Бальшавікі спачатку нападалі на расійскі шавінізм як ворага нацыяў. Яны на словах прызнавалі права нацыяў на адасабленне, але пазней абвінавацілі тых, хто жадаў у тыя першыя гады аддзялення, і абвясцілі іх ворагамі народа“. Гл.: PSSS: Schedule B. Vol.7, #45 JR. С.5.

значалася таксама і ўладамі ў якасці вырашальнага крытэрыю. У літаратуры, школьніцтве, навуцы, а таксама і ў грамадскім жыцці, пазначыўся моцны паварот да беларускай мовы. З гэтага часу мова зрабілася прыналежнай да гарадской культуры і сведчыла пра духоўную і сацыяльную мабільнасць яе карыстальнікаў. Грамадства падзялілася на тых, хто гаворыць, і тых, хто не гаворыць, на інсайдэраў і аўтсайдэраў. Толькі „далучаныя“ мелі *права голасу* ў дачыненні да супольнай прышласці. Бо асіміляцыя не ёсць нейкім абстрактным калектыўным выбарам, а ланцугом штодзённых, часта неасэнсаваных працэсаў у жыцці кожнага паасобнага індывіда. На яе робяць моцны ўплыў грамадскія запатрабаванні (мода, кар'ера і г.д.), яна ёсць вынікам рэалізацыі кожнай асобай сваёй здольнасці да самаадаптацыі. Прывабнасць беларускай мовы, аднак, была нядоўгатрывалай. Як толькі колькасць карыстальнікаў мовы пачала павялічвацца, партыйнае кіраўніцтва змяніла свой нацыянальна–палітычны курс. Ужо ў 20–я г. расійская мова зноў зрабілася моваю міжрэгіянальных зносінаў. У сярэдзіне 30–х г. яна зноў была „the language of upward mobility“ („моваӣ падвышальнай мабільнасці“ — Р. Кайзэр).

У сярэдзіне 20–х г. пазначылася своеасаблівасць беларускага нацыятворчага працэсу, якая выяўляла сябе таксама цягам сталінскага і пазнейшага часу: нягледзячы на той факт, што доля тытульнай нацыі ў агульным складзе насельніцтва паміж 1926 (81%) і 1979 г. (79,4%) была ў Беларусі меншай толькі ў параўнанні з Арменіяй (адпаведна, 84% і 88%) ды Літвою (80% у 1979 г.), моўна–кампетэнтная і гістарычна–свядомая нацыя ў гэткай меры, як гэта мела месца ў іншых рэспубліках, тут усё ж не ўтварылася. Адну з прычынаў гэтага, безумоўна, можна бачыць у няспынным прытоку расійскага насельніцтва. Паводле гэтай пазіцыі, БССР з яе прыростам у 42% займае першае месца[52]. Калі напрыканцы 20–х г. у БССР 51,3% прадстаўнікоў кіраўнічай бюракратыі, 30,8% функцыянераў сферы эканомікі, 26,3% супрацоўнікаў юстыцыі й 59,5% сельскагаспадарчых кіраўнікоў называлі сябе беларусамі, гэта, вядома ж, сведчыла пра першыя поспехі кадравай палітыкі. Толькі ў сферах эканомікі (49,3%) і юстыцыі (42,1%) колькасць габрэяў была вышэйшай за колькасць беларусаў. Партыйныя пасады таксама беларусізаваліся з дадатнай дынамікай. Калі ў 1922 г. з 6157 членаў КП(б)Б 72% былі расійцамі, дык у 1928 г. беларусы ўжо складалі 54,3% ад агульнай колькасці 31 713 партыйцаў, у той час як расійцы (14%) паводле гэтага паказчыка саступалі нават габрэям (23,7%)[53]. Аднак фактам ёсць і тое, што (як

[52] Звесткі падаюцца паводле: Connor, Walker. The National Question in Marxist–Leninist Theory and Strategy (op. cit.). C.305; Simon, Gerhard. Nationalismus und Nationalitätenpolitik in der Sowjetunion... (op. cit.). C.48; Simon, Gerhard und Nadja. Verfall und Untergang des sowjetischen Imperiums. München, 1993. C.321 і наст.

[53] Lubachko, Ivan S. Belorussia under Soviet Rule, 1917—1957. Lexington, Ken., 1972. C.69. Звесткі паводле: Zaprudnik, Jan. Belarus... (op. cit.). C.79 і наст. Параўн.: Некоторые цифровые данные по составу Компартии Белоруссии (1919—1945 г.) // Страницы истории Компартии Белоруссии... (op. cit.). C.284. Тут на 1922 г. падаецца лічба 4834 беларускія камуністы. У 1933 г., згодна з гэтай крыніцай, беларусы складалі ўжо 60% ад агульнай колькасці членаў КП(б)Б. У маштабах Саюзу доля беларускіх членаў кампартыі вырасла з 1,5% у 1922 г. да 3,2% у 1927 г. Параўн.: Righby, H. Communist Party Membership in the USSR, 1917—1967. Princeton, NJ, 1968. C.366.

гэта, зрэшты, мела месца і ў дачыненні да ўкраінскай сітуацыі) беларускамоўныя члены партыі ніколі не дамінавалі ані сярод яе функцыянераў, ані сярод шарагоўцаў. Акрамя гэтай разбежнасці паміж прапагандысцкімі заявамі і рэальнасцю „каранізацыі“, яе вузкія маштабы што да БССР былі засведчаныя таксама праз нізкі адукацыйны ўзровень новапрынятых у партыю асобаў. Ніякі „ethnoregional spokesman“ („этна-рэгіянальны дзеяч“)[54] з БССР не меў доўгі час перспектывы падвышэння толькі праз сваю нізкую моўную кампетэнцыю.

Як гэта ў цэлым мела месца ў дачыненні да ўсёй КП(б)Б, у беларускіх партыйцаў адсутнічаў усялякі адукацыйны патэнцыял. Пашырэнне долі этнічных беларусаў абазначала пралетарызацыю партыі. Нэп быў часам аўтсайдэраў у маёмасным і адукацыйным сэнсе, якія, завабленыя як „тутэйшыя“ сяляне з вёскі ў горад, спадзяваліся на спрыяльную ім перспектыву дзякуючы сваёй нацыянальнасці ці партыйнаму білету. Так кіраўніцтва КП(б)Б здолела дасягнуць прыросту сваіх шэрагаў у нечаканых для сябе маштабах. Разам з тым, планаванне „каранізацыі“, калі браць пад увагу гатоўнасць да лаяльнасці, гэткім чынам, здаецца, мела поспех.

| Год | Колькасць членаў | Вышэйш. адукацыя | | Няскончч. вышэйш. адукацыя | | Сярэдняя адукацыя | | Няскончч. сярэдняя адукацыя | | Пачатковая адукацыя | | Без адукацыі | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | разам | % | разам | % | разам | % | разам | % | разам | % | разам | % |
| 1922 | 4.219 | 46 | 1,1 | – | – | 448 | 10,6 | – | – | 3.020 | 71,6 | 695 | 16,5 |
| 1927 | 25.291 | 139 | 0,6 | – | – | 2.178 | 8,6 | – | – | 16.009 | 63,3 | 6.965 | 27,5 |
| 1938 | 31.603 | 1429 | 4,5 | 874 | 2,8 | 2.706 | 8,6 | 3.861 | 12,2 | 15.498 | 49,0 | 7.235 | 22,9 |

**Табл.12: Члены КП(б)Б паводле адукацыйнага ўзроўню (1922—1938 г.)[55]**

Табл.12 на беларускім прыкладзе пацвярджае тое, што было, з увагі на прыток малаадукаваных слаёў, названа апошнім часам „big wave“ („вялікай хваляй“)[56]. Калі даць веры дарожным нататкам пасла польскага сейма Ф.Ярэміча, якія ён апублікаваў у органе Беларускага Сялянскага саюзу газеце „Сялянская ніва“, ужо відавочцы тых падзеяў хутчэй скептычна ацэньвалі поспехі „каранізацыі“ й беларусізацыі. Пад час сваёй паездкі ў БССР, што адбывалася ў 1926 г., ён не здолеў

[54] Kaiser, Robert J. The Geography of Nationalism... (op. cit.). C.132.

[55] Тамсама, с.286. Сярод членаў кампартыі бальшавікоў Украіны ў 1922 г. было 0,9%, а ў 1927 г. і зусім толькі 0,8% асобаў, што мелі скончаную вышэйшую адукацыю. Іншыя звесткі пра парушаныя суадносіны колькаснага складу навуковай інтэлігенцыі і членаў партыі ва Украіне ў 20-я г. гл. у нядаўняй працы: Касьянов Г. „Діктатура пролетаріату“ і наукова інтеллігенція: Україна, 1920-і роки // Вісник АН України. 1992. № 6. С.90—96.

[56] На прыкладзе цэнтральнай Расіі паказваецца, што хваля партыйнай мабілізацыі пасля смерці Леніна прывяла да „cultural clash“ („культурнага канфлікту“) паміж старой партыйнай гвардыяй і „ленінцамі“. У Беларусі ў 1927 г. працэнтная доля партыйнай інтэлігенцыі (0,6%) была яшчэ ніжэйшаю за прыведзены тут паказчык для Расіі. Гэтыя заўвагі былі ўзятыя намі з дакладу Уладзіміра Броўкіна „Down and Out and Up and Coming: The Old Guard and the New Upstarts in the Communist Party“, прачытанага ім увесну 1996 г. у Гарвардскім універсітэце.

углядзець, „калі не зважаць на нейкія другарадныя рэчы ў галіне культурнага жыцця, нідзе нічога беларускага“. Хоць Савецкая ўлада, паводле яго выказвання, і выклікала „дух беларусізацыі“, але ў саміх беларусаў пры гэтым не было аніякіх правоў: „Там маецца колькі беларусаў на найвышэйшых пасадах, але яны служаць народу толькі ў якасці казлоў адпушчэння альбо мішэняў“[57].

Разуменне партыяй прэтэнзіяў інтэлектуалаў у дачыненні да яе нацыянальнай палітыкі і, тым самым, да палітыкі „каранізацыі“, мела, натуральна, свае межы. Трэці Ўсебеларускі з'езд навуковых работнікаў, што праходзіў з 27 лютага да 3 сакавіка 1927 г., а перадусім яго дэталёвая ацэнка, зробленая ў апартаментах ЦК, выразна гэта прадэманстравалі. Ажыццёўлены тут падзел навукоўцаў на прыхільнікаў, прынцыповых прыхільнікаў і крытыкаў палітыкі партыі без наступстваў не застаўся. Да тых, хто ў прынцыпе станоўча ставіўся да палітыкі „каранізацыі“, але хацеў, каб яе тэмпы былі павальнейшымі, належаў таксама гісторык Уладзімір Пічэта:

> „Я, вядома, лічу — і гэтай думкі таксама прытрымліваюцца ўсе навуковыя работнікі, — што нацыянальная палітыка, якая праводзіцца партыяй і ўрадам, цалкам слушная, і яна таксама ўсімі сіламі падтрымліваецца з боку універсітэцкіх навуковых супрацоўнікаў. [...] Аднак беларусізацыя ёсць вельмі складанай праблемай, бо досыць цяжкой справай было б навучыць людзей, што не жывуць на тэрыторыі Беларусі і не ведаюць сваёй роднай мовы, гэтак, каб яны вольна ёю валодалі“[58].

Вялікая частка дэлегатаў, між тым, выступіла з досыць крытычнымі выказваннямі. Пры абмеркаванні моўнай палітыкі гэткія навукоўцы, як мовазнаўца Фралова, выказвалі меркаванне, што беларуская мова не мае навуковага вакабуляру. Партыйны аддзел прапаганды мусіў бездапаможна канстатаваць, што якраз старэйшыя навукоўцы, паводле іх уласных выказванняў, будуць надалей адмаўляцца чытаць лекцыі па-беларуску (сярод іншых пра гэта гаварыў прафесар Віцебскага ветэрынарнага інстытута Макарэўскі). Прынятая ў звязку з вынікамі Трэцяга з'езда рэзалюцыя Бюро ЦК КП(б)Б, якая засталася засакрэчанай, таксама, адпаведна, выглядала досыць жорстка. Было канстатавана, што існуе неабходнасць умацавання „кіраўнічай ролі партыі ва ўсіх сферах навукі“, што, акрамя ўсяго іншага, значыла: узмацніць „палітычныя ўплывы партыі праз прафсаюзныя арганізацыі“ і, апроч таго:

> „...узмацніць творчую работу ў масах, яшчэ больш грунтоўна далучаць навукоўцаў да сацыялістычнага будаўніцтва, выканаць шэраг мерапрыемстваў дзеля ўмацавання палітычнай свядомасці, а таксама з дапамогай грамадска-палітычнай працы інтэнсіфікаваць кантакты паміж навукоўцамі і шырокімі коламі працоўных“.

[57] НАРБ, ф.60, воп.3, спр.460, каробка 33, арк. 1—12: „О новом укрупнении БССР (выразкі з замежных газет пра сітуацыю ў БССР)“ з: Сялянская ніва, 18.04.1926, у гэтым выпадку гл. арк. 6 і арк.7, 28.02.1926 — у гэткім парадку тут выняткі цытуюцца. [Зваротны пераклад з нямецкай мовы. — *Заўвага перакладчыка.*]. Пра Беларускі Сялянскі саюз (1925—1929) параўн. артыкул у: ЭГБ. Т.1. Мінск, 1993. С.454.

[58] Параўн.: Пратакол паседжання Бюро ЦК за 23.04.1927 г.: НАРБ, ф.4, воп.3, спр.20, арк.641, 653—673: „Утверждение резолюции об итогах Съезда научных работников“ тут, у гэтым выпадку гл. арк.654.

Тут ідзе зробленая на палях дакумента па-расійску ўстаўка, якая была ўключаная ў яго канцавую рэдакцыю:

> „Асабліва важным дзеля дасягнення гэтай мэты ёсць яшчэ больш актыўны ўдзел камуністаў у справе палітычнага выхавання навуковых работнікаў. Асабліва ў змаганні супраць нацыяналістычных поглядаў камуністы павінны быць актыўнымі і прынцыповымі. У актуальны момант у партыі павінна перадусім весціся барацьба супраць рознага кшталту нацыянал-дэмакратычных ідэяў. У звязку з гэтым важнай з'яўляецца далейшая праца па падрыхтоўцы навуковых кадраў у вышэйзгаданым духу"[59].

Нацыянальная палітыка партыі — гэтаксама як навуковае асэнсаванне нацыянальнага пытання гісторыкамі і філолагамі навукова-даследчай і педагагічнай сфераў дзейнасці — у працяглай перспектыве заставалася ў праблемна-дыскусійным полі. На паседжанні „камуністычных навукоўцаў" Беларусі маскоўскае партыйнае кіраўніцтва выказала сваё расчараванне з прычыны „недастатковай ідэалагічнай падрыхтоўкі" ў БССР студэнтаў, выкладчыкаў ВНУ і пісьменнікаў. Іншыя наўпрост гаварылі пра „дрэнныя вынікі беларусізацыі". Прафесура, да прыкладу, нездавальняльным чынам рыхтавалася для таго, каб адпавядаць новым патрабаванням. Не абышлося і без галасоў пра „кепскую славу" беларусізацыі ў цэлым. Паводле выказванняў, што прагучалі, студэнты скептычна ставяцца да беларусізацыі не ў апошнюю чаргу таму, што ім ніхто не можа сказаць, „ці яны ўвогуле будуць тут працаваць і ці спатрэбіцца ім беларуская мова". Той факт, што ў беларускай прэсе не маглі б быць надрукаваныя крытычныя выказванні, у той час як у РСФСР гэта яшчэ было ў цэлым магчыма, канчаткова пацвярджае, што напрыканцы 1920-х г. няпоспех праекта „каранізацыі" не толькі быў паўсюдна відавочны, але і адкрыта абмяркоўваўся на форумах кшталту вышэйзгаданага[60].

Між тым, сталінская формула, выказаная ім у дачыненні да культур ускраін, што яны мусяць быць „пралетарскімі сваім зместам і нацыянальныя ў сваёй форме", і ў гэты час сваёй актуальнасці не страціла[61]. Але рэзананс быў абмежаваны. Як „права на адасабленне", гэтак і вызначанае на перспектыву спрыянне нацыянальных правоў нерасійскіх этнасаў, мелі ў БССР і прыхільнікаў і скептыкаў. У рэтраспектыве адзін з назіральнікаў выказаўся наконт сталінскай нацыянальнай палітыкі наступным чынам:

> „Афіцыйна савецкая палітыка абвяшчае, што кожная нацыя мае права на самавызначэнне. Але гэтак яно ёсць толькі ў канстытуцыі, не ў рэчаіснасці. Насамрэч, сітуацыя зусім іншая, савецкі рэжым умешваецца ў справы ўсіх нацыянальнасцяў. Вы ведаеце афіцыйны лозунг: нацыянальнае паводле формы, сацыялістычнае паводле зместу. Гэта значыць не што іншае, як, да прыкладу, тое, што опера можа быць пастаўленая на беларускай мове, акторы могуць быць апранутыя ў

[59] Тамсама, арк.671 і наст.

[60] Пратакол паседжання камуністычных навукоўцаў (12.06.1929): НАРБ, ф.4, воп.21, спр.200, арк.2 і наст.

[61] Сталін І. Пра палітычныя задачы універсітэта народаў Усходу. Цытуецца паводле: Über die politischen Aufgaben der Universität der Ostvölker // Stalin, J. Der Marxismus und die nationale und koloniale Frage... (op. cit.). С.265—282. Тут змяшчаецца таксама нямецкі пераклад дакумента партыйнага з'езду з рашэннем адносна „каранізацыі".

беларускія строі, але ім дазволена выказваць толькі бальшавіцкія ідэі. Ніякага раўнапраўя нацыяў у сапраўднасці няма. Напраўду, у нас ёсць свой Вярхоўны Савет, але ён падпарадкаваны Маскве“[62].

Тое, што нацыянальная палітыка беларускага ўрада ў сваіх больш–менш істотных рысах была часткай агульнай палітыкі, не патрабуе далейшага абгрунтавання. Неабходнасць рэгулярна трымаць справаздачу перад Масквой і адданае прыманне да выканання ўсіх прынятых у цэнтры пастановаў належалі да нармальных формаў зносін паміж Менскам і Масквою гэтаксама, як і высыланне сталічных камісараў–кантралёраў у беларускую правінцыю. Да таго ж тады было прынята адпаведныя працэсы да пэўнай ступені публічна абмяркоўваць у партыйных сродках масавай інфармацыі. Гэтак, штодзённая газета „Звезда“ ў трох артыкулах паведамляла пра тры праверкі ажыццяўлення нацыянальнай палітыкі ў БССР, праведзеныя ў траўні 1929 г.[63]. Са свайго боку ЦК, беручы пад увагу вынікі навуковай распрацоўкі гэтай тэматыкі, меў мала падставаў для заўчаснай радасці. Паводле меркавання карэспандэнта, гісторыка Самуіла Агурскага, Гістпарт не пакінуў па–за сваёй увагай праблему актыўнага змагання з ідэалогіяй габрэйскага Бунда, беларускай БСГ і польскай ППС. 25–я гадавіна першай расійскай рэвалюцыі 1905 г. і 10–я гадавіна Кастрычніцкай рэвалюцыі запатрабавалі контраверсійных ар'ергардных бітваў. Выкрываліся ўвесь час адны і тыя імёны: у 1925 г., маўляў, таварыш Жылуновіч імкнуўся давесці ў „Полымі“, што БССР не была наўпроставым наступствам Кастрычніцкай рэвалюцыі, што яе стварэнне не адбывалася пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі, а гэта зыходзіла з ініцыятывы групы беларусаў — выхадцаў з БСГ, згуртаваных вакол беларускай секцыі РКП(б).

Немагчыма было не заўважыць, што ў канцы 20–х г. дыскусіі па нацыянальным пытанні мелі ўжо іншую танальнасць. Усё часцей абмяркоўваліся заявы аб намерах і прынятыя ЦК рашэнні па асобных аспектах адпаведнага кола праблем. Аўтанамісцкія канцэпцыі аўстра–марксістаў цяпер, калі „каранізацыя“ канчаткова апынулася на ўзбочыне, ізноў зрабілася аб'ектам бязлітаснага наступу партыйнай прапаганды. У „Тэзах да пленума ЦК пра найбліжэйшыя задачы нацыянальнай палітыкі“ (восень 1930 г.) першы сакратар ЦК КП(б)Б К.В.Гей (займаў гэтую пасаду ў 1930—32 г.) заклікаў партыю да барацьбы супраць аўстрамарксізму ды „люксембургіянства“. Апошняе, паводле яго словаў, было рэпрэзентаванае ў Расіі Пятаковым і Бухарыным і мелася быць „шавіністычным развязаннем нацыянальнага пытання“. Каб не быць западозраным у звязанай з гэтым падтрымцы нацыяналізму, ён адначасова ўказваў на „буржуазныя“ карані „вялікадзяржаўнага і мясцовага шавінізму“. Апошні, маўляў, выяўляе сябе праз „патрабаванні абнаўлення беларускай нацыі і беларускай мовы“, а таксама праз „сабатаванне беларусізацыі“. Пры гэтым падаваўся той аргумент, што беларусі-

[62] PSSS: Schedule A. Vol.1, #9 RF. C.97.

[63] Гл.: Звезда, 26.05.1929 г. С.3. Параўн., акрамя таго, запіс у пратаколе пасяджання Бюро ЦК КП(б)Б за 26.06.1929 г.: „Праверка нацыянальнай работы ў БССР. Скарочаная справаздача пасяджэньня камісіі ЦКК УсеКП(б) па абсьледаваньні практыкі нацыянальнай работы ў БССР з кіраўнікамі цэнтральных установ, г.Менску, 18 мая г.г.“.

зацыя патрэбная толькі рабочым, што непасрэдна паходзяць з вёскі. Больш за тое, паводле сцвярджэння гэтага аўтара, у вышэйзгаданых групоўках вядзецца „барацьба супраць нацыянальнай палітыкі партыі“, пры гэтым на дапамогу пакліканая „тэорыя барацьбы дзвюх культур, рускай (sic!) і беларускай, што зыходзіць з трывалага характару перавагі нашмат магутнейшай рускай культуры“[64]. Акрамя таго, Гей імкнуўся ў праграмах некамуністычнах партыяў і рухаў угледзець выразную тэндэнцыю да капіталістычнай рэстаўрацыі і арыентавання на Захад, перадусім на фашысцкую Польшчу:

> „Тэорыя самабытнасці вяла да ідэалізацыі феадальнага і буржуазнага мінулага і асабліва знайшла сваё выражэнне ў вышукванні пары росквіту беларускай культуры ў сярэднявечнай эпосе, у ідэалізацыі шляхецкіх рэвалюцыянераў, такіх як Кастусь Каліноўскі“[65].

Параўнанне гэтых, аб'яднаных пад адным вызначэннем „беларускага нацыянал-дэмакратызму“ групаў інтарэсаў з „беларускім нацыянал-фашызмам“ на чале з Луцкевічам, Астроўскім, Станкевічам, „што дзейнічае ў замежжы“, было відавочнае. Гэтыя групоўкі павінны быць знішчаныя партыяй найперш на культурным і навуковым фронце“ як „агенты нацыянал-фашызму“, якія, са свайго боку, маўляў, з'яўляецца часткай польскага фашызму, „і [...] у эканамічным аспекце дамагаецца хутарызацыі [парцэляцыі земляў — **Р.Л.**]“. Тое, што лічылася абавязковым для ўсёй краіны, мусіла быць абавязковым і тут: беларуская культура павінна быць нацыянальнай паводле формы і сацыялістычнай паводле зместу. Гэткую самую барацьбу належала весці супраць „шавінізму меншыняў (палякаў, габрэяў), супраць ідэалізацыі ролі Бунда“. Рост уплыву гэткай ідэалізацыі не павінен нікога здзіўляць, бо, маўляў, факт ёсць фактам, што „адной з тых сфераў, на якую партыя мае адзін з найбольш слабых уплываў, з'яўляецца група нацыянальнай інтэлігенцыі“ (настаўнікі, навукоўцы, пісьменнікі), у асяроддзе якіх з вялікім імпэтам пранікалі нацыял-дэмакраты:

> „Неабходна ў самы бліжэйшы час умацаваць навуковае кіраўніцтва (БелАН, наркамасвета) марксісцкімі сіламі і перайсці да сістэматычнай працы сярод інтэлігенцыі, якая мусіць быць трывала пастаўленая на службу дыктатуры пралетарыяту“[66].

Пасля восеньскага (1930 г.) партыйнага пленума з боку ЦК пачалося прыспешванне. Тут асабліва красамоўна сябе выявіла „неабходнасць прыняцця мераў“. Створаны Геем праект стаўлення да нацыянальнага пытання насамрэч меўся зрабіцца праграмнай дактрынай на наступны перыяд часу. Поспехаў у гэтым кірунку часова не выявілася. Калектыўная манаграфія „Навука на службе нацдэмаўскай контррэвалюцыі“, выдадзеная пад рэдакцыяй С.Я.Вальфсона, была таксама мёртванароджаным дзіцём, і нават замоўца гэтае працы, ЦК КП(б)Б,

[64] НАРБ, ф.4, воп.3, спр.38, арк.923—945: „Тэзісы па нацыянальнаму пытаньню (праект)“.
[65] Тамсама, арк.926. [Тут і ў наступнай зносцы зваротны пераклад з нямецкай мовы. — *Заўвага перакладчыка.*].
[66] Тамсама, арк.934.

мусіў у канцы 1931 г. ад яе дыстанцыявацца. Вальфсон і ягоная брыгада крытыкаў, персанальна зацверджаная Геем, стварылі артыкулы на тэмы мовазнаўства, этнаграфіі, музеязнаўства і краязнаўства і мелі на мэце выкрыць „падазроных" навукоўцаў[67]. Неўзабаве пасля гэтага была зноў абвешчаная барацьба супраць „нацдэмаў" як „найвялікшай на сённяшні дзень небяспекі". У адным з дакументаў былі адлюстраваныя комплексы пагрозаў для партыі ў яе дачыненнях з інтэлігенцыяй. Цяпер упершыню — з ужываннем усялякіх намёкаў на У.Ігнатоўскага — „апартуністы з партыйных шэрагаў" былі залічаныя да кола абвінавачаных. Заўважалася таксама, што і ў 1931 г. палітыка беларусізацыі, перадусім на рэгіянальным узроўні, была запатрабаваная. Акрамя таго, адназначным прыярытэтам карысталіся распрацоўкі „Комвуза", „Истпарта" і Беларускай Акадэміі навук[68].

Дадатковай крыніцай хваляванняў былі сабраныя разам у 1930 г. звесткі пра сацыяльныя, нацыянальныя і палітычныя погляды ўсіх навуковых супрацоўнікаў, што працавалі тады ў 12 БССРаўскіх ВНУ і 15 навукова-даследчых інстытутах. Як бы там ні было, а партыя магла абапірацца на 12 сваіх таварышаў сярод агульнага ліку 28 гісторыкаў. Тлумачэнні наконт недастатковай палітычнай лаяльнасці былі хутка знойдзеныя: доля навукоўцаў, што мелі рабоча-сялянскае паходжанне, складала толькі 40%, а сярод складу прафесараў — усяго 17%, так што выхадцы з асяроддзяў „чужога сацыяльнага паходжання" (землеўласнікі, гандляры, хрысціянскае святарства, равіны) займалі занадта значнае месца. Толькі ў БДУ на 7 навукоўцаў рабочага і 15 — сялянскага паходжання прыпадала дамінавальная колькасць, 112 з „чужых асяроддзяў". Дадатковым галаўным болем партыі было тое, што побач з 45% беларусаў (333) габрэі са сваімі 22 % (160) усё яшчэ складалі прыблізна гэткую самую долю (23%) навуковых супрацоўнікаў (170), як і расійцы (23%, 170)[69].

Пры гэтым партыя ўжо ў 1929 г. перайшла ў наступ і пачала з публічнай кампаніі супраць „нацыянал-дэмакратызму". У добра спланаванай серыі выкрывальных матэрыялаў „нацдэмы" ў розных сферах жыцця павінны былі атрымаць знішчальны калектыўны прысуд. Галоўнай і найчасцей абстрэльванай яго мішэнню зрабіліся пісьменнікі і мовазнаўцы, этнолагі і гісторыкі. Урэшце, тут

[67] Навука на службе нацдэмаўскай контррэвалюцыі. Т.1. Менск, 1931. Па гэтым пытанні параўн.: Hlubinny, Ul. Vierzig Jahre weißrussischer Kultur unter den Sowjets... (op. cit.). С.54 і наст.

[68] Параўн. па гэтым пытанні пратакол паседжання Бюро ЦК за 21.12.1931 г.: НАРБ, ф.4, воп.3, спр.42, арк.1044, да гэтага рукапіс праекта ў: Тамсама, арк.1063—1068.

[69] Звесткі паводле: Шчарбакоў В. Праблема навуковых кадраў у БССР // Савецкая краіна. 1931. № 1(3). С.33—41. Акрамя таго па праблеме развіцця і тагачаснага становішча беларускай навукі гл.: Панкевіч П. Навука ў БССР за 15 год // Тамсама. 1932. №10(24). С. 3—12. Тут, паводле звестак на трэці „квартал" 1932 г., сярод тагачаснай лічбы 1142 супрацоўнікаў было зазначана 31,9% габрэяў (беларусы складалі, адпаведна, 46,6%, расійцы — 15,8% і г.д.). Доля членаў партыі ўзрасла да 18,4% — гл.: Тамсама, с.9. Падрабязна гэтае пытанне асвятлялася ў артыкуле новага Прэзідэнта БАН: Горын П.В. Навукова-дасьледчая работа БССР у 2-й пяцігодцы // Тамсама. 1932. № 5(19). С.12—32. Задачы гісторыкаў, сфармуляваныя ў досыць агульнай форме, гл.: Тамсама, с.20 і наст.

можна было адкрыта называць „гістарычных папярэднікаў". Паводле танальнасці аднаго з самых першых памфлетаў, традыцыі БСГ і „Нашай Нівы" надалей меліся аддаваца вусцішнымі водгукамі. Да таго ж, трэба было весці зацятае змаганне ў занятых Польшчаю заходніх рэгіёнах з актывістамі дарэвалюцыйнага патрыятычнага руху — гэткімі, як Антон Луцкевіч, якія характарызаваліся як „нацыянал-фашысты". Такім чынам, супрацьстаяць „будаўніцтву сацыялістычнага грамадства" меўся злавесны хаўрус контррэвалюцыйных груповак у Беларусі і за мяжою, што як *pars pro toto* мусіў зрабіцца ахвярным казлом дзеля дасягнення мэты ўтаймавання ўсяе інтэлігенцыі:

> „Перад кожным інтэлігентам і тут і там за мяжой [з Польшчай — Р.Л.], асабліва гэта адносіцца да інтэлігенцыі, што выйшла з беларускага нац.-адраджэнцкага руху, стаіць дылема: з нац.-дэмакратамі і нац.-фашыстамі, прадаўжацелямі беларускага адраджэнцкага руху, насіцелямі нашаніўскай ідэалёгіі, гэта значыць, з польскім фашызмам і з сусьветным імпэрыялізмам ці супроць іх разам з працоўнымі масамі, пад кіраўніцтвам пралетарыяту і яго партыі, за сацыялістычнае будаўніцтва, за Савецкі Саюз, за сусьветную пралетарскую рэвалюцыю"[70].

Адзін з наступных артыкулаў, вастрыня якога дадаткова падагравала палітычны клімат 1931 г., зацята абрынуўся на мовазнаўства і новабеларускую тэрміналогію. У той самай меры, у якой раней нацыянальная мова і яе падтрымка залічваліся да найважнейшых апірышчаў беларусізацыі, а неабходнасць распрацоўкі навуковай тэрміналогіі стымулявала ўзнікненне Інбелкульта і тым самым Беларускай Акадэміі навук — цяпер партыя гэтак жа амбітна выступіла супраць вынікаў сваёй палітыкі і звязаных з гэтым асобаў. У якой ступені заангажаваныя да публіцыстычных бітваў аўтары — як, прыкладам, Язэп Мацюкевіч — меліся зводзіць з атакаванымі тут Некрашэвічам ды Лёсікам свае асабістыя рахункі, цяпер дакладна вызначыць немагчыма. Калі ў падобнага кшталту публікацыях на адрас „нацдэмаў" пачалі выказвацца папрокі, што яны, маўляў, усімі даступнымі сродкамі перашкаджаюць пранікненню рэвалюцыйнай словатворчасці ў адпаведныя тэксты, на гэтым палітыка „каранізацыі", здаецца дэфінітыўна скончылася[71]. Актывісты-выкрывальнікі, што паходзілі пераважна з навуковага падросту, выступалі супраць паасобных навукоўцаў вузейшага і шырэйшага акадэмічнага кола, гэтаксама як і супраць паасобных твораў і „варожых" тэорыяў ды метадаў, што з іх праглядалі. Так былі аддадзеныя пад знішчальны абстрэл крытыкі тыя вучоныя, што пазбеглі першае хвалі чысткі і — гэтак, як гісторык В.Д.Дружчыц — „усё яшчэ працуюць у БДУ і праз сваю буржуазную метадалогію нявечаць пралетарскую моладзь". Цалкам дастатковым абгрунтаваннем гэтага папроку лічылася сканструяванае метадалагічнае супадзенне, вынайдзенае пры параўнанні гістарычных працаў Дружчыца і ўжо адпраўленага ў высылку Пічэты[72].

[70] Сталевіч А. Аб вытоках беларускага нац.-дэмакратызму і нац.-фашызму // Большэвік Беларусі. 1929 №10—12. С.17—32, тут цыт. с.30.

[71] Мацюкевіч Яз. Контр-рэвалюцыйная дзейнасьць беларускіх нацыянал-дэмакратаў у галіне мовы // Савецкая краіна. 1931. № 1(3). С.56—64, у гэтым выпадку с.59.

[72] Б.Л. Супроць буржуазнай мэтодолёгіі ў вывучэньні гісторыі Беларусі // Тамсама. 1931. № 2(4). С.54—57. Пра далейшы лёс Дружчыца гл.: Іофэ Эмануіл. Расстраляны ў Мінску // БМ. 1996. № 1. С.42—43.

У звязку з гэтым не выглядае лішнім таксама крытычны погляд на ўкраінскую і расійскую гістарыяграфію гісторыі Беларусі. Цяпер задача палягала ў тым, каб, звярнуўшыся да колішніх працаў яшчэ жывых гісторыкаў — гэткіх, як Любаўскі альбо Грушэўскі — дэзавуяваць іх трывалы навуковы аўтарытэт. За мэту было вызначана дэмаскаваць „гісторыка Беларусі“ Любаўскага, які, маўляў, нават стварыў сваю „школу“ і навуковы падмурак для працы нацыянал-дэмакратаў, як „вялікарасійскага гісторыка і шавініста“[73]. „Буржуазны аб'ектывізм“ пры даследаванні беларускай гісторыі гэтаксама знайшоў сваіх крытыкаў[74]. Іншыя заказныя публікацыі былі звернутыя супраць „нацдэмаўскага клімату“ ў секцыях краязнаўства і этнаграфіі Інбелкульта і, адпаведна, Беларускай Акадэміі навук. З гледзішча гэтакай палітыкі ў дачыненні да навукі інстытуты краязнаўства і этналогіі падаваліся як гадавальнікі нацыянал-дэмакратаў ды іх „небяспечных тэорыяў пра гістарычную, гаспадарчую, біялагічную своеасаблівасць Беларусі“. Насамрэч, анідзе гэтак блізка не сыходзіліся разнаполюсавыя погляды, як у галіне этнаграфіі. У цэнтры тут знаходзілася дыскусія пра канструкт укаранёнага ў найстарадаўнейшай гісторыі дзяржаўнага ўтварэння пад назвай „Крывія“. Распачатая пасля гэтага неабмежаваная публічная кампанія крытыкі этнолагаў упісалася ў серыю публіцыстычных нападаў на нялюбых асобаў ды інстытуцыі адукаванага культурнага і навуковага асяроддзя[75].

Тым часам, змаганне з „нацдэмаўшчынай“ і „вялікадзяржаўным шавінізмам“ у Беларусі і — як сведчыць „справа Скрыпніка“ — таксама ва Ўкраіне ішло да пэўнага развязання. Усё часцей пры гэтым ставілася праблема, ад якой жа з гэтых з'яваў цяпер зыходзіла „галоўная небяспека“ для сацыялістычнага будаўніцтва, аж пакуль у сваім справаздачным дакладзе на XVII з'ездзе партыі Сталін пад „несціханыя воплескі дэлегатаў“ не патлумачыў, што галоўную небяспеку ўяўляе сабою тое адхіленне ад партыйнай лініі, супраць якога перасталі змагацца і якое праз гэта набыло небяспечныя для дзяржавы маштабы[76].

| Год | Колькасць назваў кніг |
|---|---|
| 1918 | 51 |
| 1924 | 31 |
| 1926 | 23 |

**Табл.13: Кнігі на беларускай мове, выдадзеныя па-за межамі Беларусі (1918—1926 г.)**[77]

[73] Скардзіс В., Бобрык З. Гісторыя Беларусі ў сьвятле поглядаў Любаўскага // Савецкая краіна. 1931. № 6(8). С.28—43, у гэтым выпадку с.31; Акіншэвіч Л. Казацка-сялянскія войны на Беларусі ў XVII стал. у характарыстыцы акад. М.Грушэўскага // Тамсама. 1931. № 5(7). С.22—27.

[74] Скардзіс В., Кернажыцкі К. Супроць буржуазнага „об'ектывізму“ ў гісторыі Беларусі // Тамсама. 1932. № 6(20). С.76—79.

[75] Бабровіч Л., Шпілеўскі Ів. Супроць контр-рэволюцыйных нацдэмаўскіх тэорый у этнографіі // Тамсама. 1931. № 1(3). С.42—55 і: № 2(4). С.46—53. У.Міхнюк яшчэ ў 1985 г. бачыў у Ластоўскім „самую адыёзную фігуру на буржуазна-нацыянальным даляглядзе Беларусі“ // Михнюк В.М. Становление и развитие исторической науки Советской Белоруссии... (op. cit.). С.161.

[76] Цытуецца паводле: Rechenschaftsbericht an den 17. Parteitag über die Arbeit des ZK der KPdSU(B). 26. Januar 1934 // Stalin, J.W. Werke. Bd.13. С.252—336, у гэтым выпадку с.321. Пра адыход ад палітыкі „каранізацыі“ ў цэлым параўн.: Kaiser, Robert J. The Geography of Nationalism... (op. cit.). С.138—147.

[77] Vakar, Nicholas P. Belorussia... (op. cit.) С.259.

Найвышэйшага пункту названае змаганне, аднак, мела дасягнуць толькі праз некалькі гадоў.

На заканчэнне немагчыма абысціся без кароткага погляду збоку на тэрыторыі, што ў 1921 г. адышлі да Польшчы[78]. Тэрыторыя з плошчаю прыкладна 82 000 кв.км. і гэткімі правінцыйнымі цэнтрамі, як Гродна і Брэст, напачатку была большаю за тэрыторыю самой БССР, якая — да ўзбуйнення ў 1924 г.[79] — складалася толькі з з шасці паветаў („уездов") Менскай губерні з агульнай плошчаю 52 316 кв.км. і насельніцтвам 1,5 мільёна жыхароў. Тым самым БССР у важныя для нацыянальнага развіцця гады не хапала тых тэрыторыяў, што, маючы высокі працэнт польскага і каталіцкага насельніцтва, маглі б ствараць пэўную раўнавагу ў культурным і канфесійным дачыненні. Гэткія гарады, як Наваградак альбо Нясвіж, у працах Ігнатоўскага, Цвікевіча, Ластоўскага ці то Доўнара-Запольскага належалі да гісторыяўтваральных для беларускай нацыі. Другая Рэч Паспалітая — як сябе называла Польшча ў міжваенны перыяд — была мала зацікаўленая ў культурным станаўленні беларусаў, бо апошнія — паводле афіцыйных звестак польскага перапісу 1931 г. — ні ў адным з далучаных ваяводстваў не складалі этнічнае бальшыні. Згодна з тымі звесткамі, у гарадах і вёсках Заходняй Беларусі дамінавалі палякі і габрэі. Таму мала каго здзівіла тое, што з пачатку 20-х г. колькасць і ўплывовасць тых нешматлікіх беларускіх адукацыйных і культурніцкіх установаў змяншалася.

| Тып школы | 1924/25 | 1937/38 |
|---|---|---|
| Дзяржаўныя школы з беларускай мовай навучання | 25 | 25 |
| Беларускія гімназіі | 4 | 1 |
| Ліцэі | 0 | 1 |
| Агульная колькасць вучняў | 8.200 | ? |

**Табл.14: Адукацыйныя ўстановы з беларускай мовай навучання на „ўсходніх крэсах" (1924—1938 г.)**[80]

[78] Актуальны агляд найважнейшай сучаснай і найноўшай літаратуры пра палітычную гісторыю, рэлігію, адукацыйную палітыку і да т.п. у Заходняй Беларусі прапануе выд.: Бягун Н.І. Заходняя Беларусь: гісторыя і сучаснасць. Рэкамендацыйны бібліяграфічны спіс // Новыя кнігі Беларусі. 1996. Вып. 6. С.1—16 (дадатак).

[79] На шостым надзвычайным Усебеларускім з'ездзе Саветаў, што адбыўся ў сакавіку 1924 г., было вырашана „савецкія тэрыторыі з перавагай беларускага насельніцтва ўз'яднаць з БССР". Згодна з гэтым рашэннем, у склад БССР трапілі 13 паветаў („уездов") Гомельскай і Віцебскай губерняў, а таксама 18 воласцяў двух паветаў Смаленскай губерні. Пасля гэтага агульная тэрыторыя БССР узрасла да 110 584 кв.км, а колькасць насельніцтва — да 4,2 мільёна чалавек. Параўн. дэталёвы разгляд гэтага пытання ў арт.: Северин П.Я. Укрупнение Белорусской ССР в 1924 г. // Исторические записки. 1954. № 46. С.289—304, у гэтым выпадку с.289 і 295. Пра супрацію беларусізацыі на далучаных да БССР тэрыторыях гл.: Zejmis, Jakub. Belarus in the 1920s... (op. cit.) С.247 і наст.

[80] Kosman, Marceli. Historia Białorusi. Wrocław etc., 1979. С.320. У працы Космана параўн. увесь раздзел пра Заходнюю Беларусь („Białoruś zachodnia") — гл.: Тамсама, с.304 і 320—335. Надзвычай багатая на інфармацыю таксама праца: Engelhardt, Eugen Freiherr von. Weißruthenien. Volk und Land. Berlin—Amsterdam—Prag—Wien, 1943. С.187—208. Сярод новых працаў: Dagilis, Waldemar. Stosunki kulturalne na Kresach Wschodnich II Rzeczypospolitej // Wilno—Wileńszczyzna jako krajobraz i środowisko wielu kultur (Wydawca: Towarzystwo im. Adama Mickiewicza, Oddział Białostocki). T.2. Białystok, 1992. С.241—260, у гэтым выпадку с.259. Звесткі ўзятыя з прац Космана і Дагіліса; паміж імі ёсць пэўныя адрозненні.

Калі няўхільна змяншалася колькасць выдаваных кніг на беларускай мове (гл. табл.13) і адна толькі Вільня заставалася месцам, дзе з'яўляліся разнастайныя публікацыі беларускага паходжання[81], гэтаксама і праваслаўная царква на „ўсходніх крэсах“ вяла хутчэй маргінальны лад жыцця. Нягледзячы на гэта, усё-такі можна адзначыць вялікі прыток беларусаў у яе лона, ды тое, што яна неўзабаве ўтварыла адзінае трывалае прыстанішча для захавання і падтрымкі няпольскай ідэнтычнасці. Хоць колькасць праваслаўных вернікаў у Гродзенскім і Брэсцкім рэгіёнах наўрад ці мела вялікае значэнне, праваслаўная царква — гэтаксама як і каталіцкі касцёл — выдавала на беларускіх тэрыторыях свае друкаваныя органы. Іх назвы („Светач Беларусі“, „Царква і Народ“, „Праваслаўнае Аб'яднаньне“ і „Праваслаўная Беларусь“) сведчылі пра тое, што праваслаўная царква імкнулася да цеснага паяднання з беларускімі вернікамі, а яе святары ў сваёй бальшыні мелі беларускае паходжанне. Акрамя таго, з тытулаў царкоўных выданняў вынікала іх арыентацыя на агульнаславянскае вымярэнне ў светапоглядзе праваслаўя нават у пераважна каталіцкіх рэгіёнах тагачаснай Польшчы. Штосьці падобнае мела месца і ў дачыненні да прасякнутых беларускім духам выданняў каталіцкага касцёла („Беларуская Крыніца“, „Хрысціянская Думка“). Магчымасць выдання уніяцкага часопіса „Злучэньне“ можа разглядацца як сведчанне таго, што польская культурніцкая палітыка на „ўсходніх крэсах“ часцей давала паслабленні, чым гэта мела месца ў БССР міжваеннага часу[82]. Адсутнасць сярэдніх спецыяльных і вышэйшых навучальных установаў з беларускай мовай навучання была характэрнаю таксама і для „крэсаў“. З прыблізна 400 (паводле ацэнкі на 1921 г.) беларускіх школаў праз тры гады функцыянавала толькі 30. З табл.14 вынікае, што надзвычай малалікімі былі перадусім прыватныя сярэднія ўстановы, якія ў большай ці меншай ступені забяспечвалі элітарную адукацыю. Пра падрыхтоўку беларускіх педагогаў нават не выпадала і марыць[83].

Прыхільнікі дасавецкага беларускага патрыятызму дыскрэдытаваліся ў БССР як „адданыя хаўруснікі польскага фашызму“ і „нацыянал-фашысты“[84]. Гэткага

[81] Тут была сядзіба адзінага музея беларускай гісторыі і культуры, у якім таксама знаходзіўся архіў БНР. Параўн.: Луцкевіч Антон. Беларускі музэй імя Івана Луцкевіча ў Вільні. Вільня, 1933, а таксама: Лабынцаў Ю.А. Архіў беларускага адраджэння. Дакументальныя помнікі беларускай царкоўнай і грамадзянскай гісторыі ў зборах Музея імя Івана Луцкевіча ў Вільні. Мінск, 1993. С.10 і наст. У 1944 г. музей быў захоплены НКВД Літоўскай ССР.

[82] Туронак Ю. Міжваенная унія ў Заходняй Беларусі // Спадчына. 1992. № 5. С.73—78.

[83] З польскага гледзішча нацыянальныя амбіцыі беларусаў паказваліся наступным чынам: „Беларусы <...> дасягнулі свайго пэўнага нацыянальнага абуджэння толькі за некалькі дзесяцігоддзяў перад аднаўленнем польскай дзяржавы, ...але ў іх не было варункаў для таго, каб распачаць нацыянальнае жыццё <...> Невялікая колькасць беларускіх сярэдніх школ, заснаваных у першых пасляваенных гадах, мусіла быць зачыненая праз адсутнасць навучэнцаў. Самадастатковыя беларускія асацыяцыі — грамадскія, эканамічныя і нават культурніцкія — ледзьве ліпелі, у той час як беларускія сяляне ахвотна далучаліся да польскіх арганізацыяў. Беларускі друк быў няздольны на тое, каб займець дастатковую колькасць чытачоў, і існаваў перадусім у форме тыднёвікаў, якія знікалі пасля кароткага эфемернага існавання“ // Polish Research Center (выд.). Eastern Poland. London, 1941. С.26. Цытуецца ў: Vakar, Nicholas P. Belorussia... (op. cit.) C.254.

[84] Горын П. Да пытаньня аб бліжэйшых задачах Беларускай Акадэміі Навук // Савецкая краіна. 1931. № 2. С.3—6, у гэтым выпадку с.4.

кшталту закіды нярэдка прыраўноўваліся да абвінавачванняў у „здрадзе Радзіме" альбо спалучаліся з апошнімі. Пры гэтым, натуральна, пад паняццем „радзіма" на ўвазе менш за ўсё мелася беларуская дзяржава, а — куды ў большай ступені — расійскі цэнтр. Насамрэч, спробы беларускіх патрыётаў рэпрэзентаваць беларускія справы ў польскім сейме ад самага пачатку былі малаперспектыўныя. Як бы там ні было, у „Данцыгер Цайтунг" за 20 верасня 1922 г. пад загалоўкам „Беларускі рух" паведамлялася, што „беларусы (die Weißruthenen) Віленскага краю пастанавілі ўзяць удзел у будучых выбарах у сейм і далучыцца да блоку нацыянальных меншыняў". Пад „старшыняваннем спадара Луцкевіча", згодна з тым самым паведамленнем, быў створаны Беларускі цэнтральны выбарчы камітэт, які паставіў сабе за мэту перадаць зямлю ў Віленскім краі „беларускім сялянам", рэарганізаваць войска паводле тэрытарыяльнага прынцыпу і ўсталяваць „беларускую нацыянальную аўтаномію"[85].

У дачыненні да свайго бачання гісторыі актывісты БНР таксама дэманстравалі паслядоўнасць і трываласць пазіцыяў. Хоць погляд „з-за мяжы", далейшае асабістае ўзаемаадасабленне, а таксама ўскладнены доступ да крыніц пры правядзенні даследаванняў часта прыводзілі да пэўнай ідэалізацыі беларускай мінуўшчыны, „заходнебеларуская" гістарыяграфія здолела ў міжваенны час выйсці на стварэнне досыць буйных працаў. Гэтаксама як бальшавікам залежала атрымаць у кароткія тэрміны заснаваныя на пастулатах іхняга ўласнага бачання гісторыі асобных нацыяў, так і гісторыкі з дыяспары адчувалі патрэбу ў як найхутчэйшым стварэнні новых інтэрпрэтацыяў беларускай гісторыі. Для таго, каб апублікаваць выклады сваіх ідэяў, у наяўнасці ў іх былі нешматлікія друкаваныя органы ды малая колькасць прыхільных да іх выдавецтваў. Адзін са шматлікіх прыкладаў — артыкул „Белоруссия" А.Цвікевіча, напісаны ў 1923 г., у якім падаваўся адносна падрабязны нарыс беларускай гісторыі з гледзішча функцыянераў БНР[86]. Паводле меркавання аўтара, федэратыўнае аб'яднанне Літвы з Польшчаю пазначыла пачатак гісторыі прыгнёту беларусаў з боку Польшчы і Расіі, што мелася доўжыцца „па сённяшні час". Ніжэй будзе весціся гаворка пра канкрэтныя вынікі даследаванняў заходнебеларускіх гісторыкаў, але адразу зробім агаворку, што патрыятычная гістарыяграфія гісторыі Беларусі на „ўсходніх крэсах", хоць наўпрост і не пераследавалася, развівалася ў складаных умовах, падобных да тых, якія неўзабаве склаліся для нацыянальных гісторыкаў у БССР.

[85] Die Weißruthenische Bewegung // Danziger Zeitung, 20.09.1922. С.3.

[86] Цвикевич А. Белоруссия // Свободная Россия. №№ 91, 92, 21.04. і 24.04.1923. Гэты і іншыя артыкулы захоўваюцца ў фондах БНР Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь: ф.62, воп.1, спр.174, у гэтым выпадку арк.40—42. Там, між іншым, сцвярджаецца наступнае: „Беларускі народ паходзіць ад старажытных славянскіх плямёнаў [...], і яго дзяржаўнае жыццё пачалося ўжо ў XI стагоддзі. Да другой паловы XVI ст. ён існаваў самастойна, прычым з часам ён звязаў свой лёс з Літвою ў форме Вялікага княства Літоўска-Беларускага. Найменне княства, „Літоўскае", павінна прытым лічыцца хутчэй намінальным, бо ўсё дзяржаўнае жыццё было ўладкаванае паводле беларускіх прынцыпаў. Дзяржаўная мова, судаводства, законы, школа і г.д. — усё гэта было беларускае. Далейшае развіццё беларуска-літоўскай дзяржавы, здавалася, было забяспечана на падмурку шматвяковай гісторыі і захаванага дзяржаўнага мыслення беларускага народа".

## 2. Рэгламентацыя інстытуцыяў

Як сфера даследавання гісторыя інстытуцыяў падсавецкай гістарычнай навукі раннесавецкага перыяду і часоў сталінізму не новая. Калі ўвага заходніх даследчыкаў была скіраваная пераважна на дзейнасць галаўных інстытутаў у Маскве і Ленінградзе, дык у падсавецкіх і постсавецкіх даследаваннях гісторыя гістарычнай навукі вывучалася і на ўзроўні рэспублік[87]. Аднак толькі пасля 1987 г. з'явіліся працы, прысвечаныя інстытуцыянальным і палітычным працэсам, што мелі месца ўнутры гістарычнай навукі ў 1920—1930-я г.[88].

На ўзроўні даследавання інстытуцыянальных працэсаў робіцца відавочным той факт, што вырашальныя змены ў працэсе пераходу ад царскай да падсавецкай навукі прынесла не рэвалюцыя 1917 г., а сталінская культурная рэвалюцыя, здзейсненая паміж 1928 і 1934 г. У першыя 15 гадоў савецкай гісторыі арганізацыя навукі і навуковая этыка развіваліся ў выглядзе амальгамы дарэвалюцыйных інстытуцыяў і рэвалюцыйнай ідэалогіі. Толькі напрыканцы першай пяцігодкі, утапічнасць і эксперыментатарства якой у канцавым выніку таксама прынеслі з сабою „вялікі перелом" у галіне навукі, старыя і новапаўсталыя інстытуцыі маглі лічыцца ўлучанымі ў савецкі кантэкст[89]. Ніжэй робіцца спроба пазначыць асноўныя рысы працэсу стварэння навуковай інфраструктуры ў БССР у 20-я г. XX ст. Дзеля паўнаты выкладу мы напачатку коратка разгледзім тое, што адбывалася на цэнтральным узроўні.

### *2.1. Гістарычная навука паміж цэнтрам і правінцыяй*

Новая „ідэалагічная спаруда" запатрабавала шматлікіх новых рэальных інстытуцыяў. Сацыялістычная акадэмія — заснаваная ў 1918 г. у Маскве, пераназваная ў 1924 г. у Камуністычную акадэмію — мелася збалансаваць перавагу атрыманых у спадчыну ад дасавецкага часу „буржуазных навук". Існаваў план цалкам замяніць гэтым і іншымі савецкімі новаўтварэннямі царскую Акадэмію навук. Астатнія, немарксісцкія адукацыйныя і навуковыя інстытуцыі доўгі час пільна трымалі адасобленымі ад Сацыялістычнай акадэміі, у якой напачатку

[87] У дачыненні да БССР гл.: Михнюк В.М. Становление и развитие исторической науки Советской Белоруссии (ор. cit.); Храпко Л.П.Развитие исторической науки в БССР (1945— конец 1950-х годов). Дисс. канд. ист. наук. Мінск, 1989 (неапубл. рукапіс, захоўваецца ў дысертацыйнай зале бібліятэкі НАН Беларусі);. № 6. С.59—66; Леоновец В.Т. Организация и развитие исторической науки в БССР (1961—1970 г.). Дисс. канд. ист. наук. Мінск, 1987 (неапубл. рукапіс, захоўваецца ў дысертацыйнай зале Бібліятэкі НАНБ); Михнюк В.М., Петриков П.Т. Историческая наука БССР, 80-е годы. Мінск, 1987.

[88] Параўн.: Соколов В.Ю. История и политика. К вопросу о содержании и характере дискуссии советских историков 1920-х—начала 1930-х г. Томск, 1990. У дачыненні да БССР пасля хоць і багатай на матэрыялы, але з палітычнага гледзішча надзвычай праблематычнай працы У.Міхнюка такога даследавання пакуль што няма.

[89] Graham, Loren R. Science in Russia and the Soviet Union. A Short History. Cambridge, 1993. С.97; параўн. таксама: Stites, Richard. Stalinism and the Restructuring of Revolutionary Utopianism // Guenther, Hans (рэд.). The Culture of the Stalin Period. London, 1992. С.84.

ствараліся найменш ідэалагізаваныя прыродазнаўчыя аддзелы. Толькі пасля XII партыйнага з'езду (1923 г.) названая акадэмія пашырыла свой профіль і пачала шырокамаштабна, пад кіраўніцтвам М.М.Пакроўскага, разбудоўваць сферу сацыяльна-гуманітарных навук. Кантактаванне „старога" і „новага" пакаленняў адбывалася праз Расійскую асацыяцыю навуковых інстытутаў грамадскіх навук (РАНИОН), што была ўтвораная на базе факультэта грамадскіх навук Маскоўскага універсітэта. РАНИОН напачатку зрабіў магчымым працягваць навуковую працу такім „буржуазным" гісторыкам дарэвалюцыйнага часу, як І.М.Грэўс, М.І.Карэеў, М.К.Лемке, Д.І.Петрушэўскі, А.Я.Праснякоў, А.І.Савін і Я.В.Тарле. У.І.Пічэта цягам усяго часу рэвалюцыі і грамадзянскай вайны спакойна працаваў у Маскве. Ці павінна была надалей існаваць патрэба ў прадстаўніках „буржуазнай навукі" — гэтае пытанне належала да стрыжнявых пры ажыццяўленні на першапачатковым этапе савецкай палітыкі ў дачыненні да навукі.

Падобнага профілю, як і РАНИОН, былі чатыры іншыя маскоўскія новазаснаваныя інстытуцыі: Інстытут Маркса—Энгельса (1919), Камуністычны універсітэт імя Я.М.Свярдлова (1919), Інстытут чырвонай прафесуры (ИКП — 1921) ды Інстытут імя У.І.Леніна (1923). Універсітэт імя Свярдлова аднача́сова ўтвараў ядро адукацыйных установаў партыі, якія меліся рыхтаваць кадраў дзеля ажыццяўлення задач апошняй. Да 1925 г. па ўсім Саюзе была створаная сетка з 14 камуністычных універсітэтаў, колькасць слухачоў у якіх складала больш за 7 000. У той самы час цэнтрамі прыродазнаўчых даследаванняў былі ў асноўным Акадэмія навук і навукова-даследчыя інстытуты, створаныя пры Найвышэйшай радзе народнай гаспадаркі (ВСНХ). Усе разам ідэалагічныя ўстановы, агульным дахам якіх неўзабаве зрабіўся РАНИОН, утварылі арганізацыйную рамку камуністычнага выхавання кадраў, хоць па-сапраўднаму праэкзаменаваныя і прафесійна падрыхтаваныя выпускнікі бальшыні тых інстытуцыяў хутчэй заставаліся ў меншасці. Гэтак, з агульнае колькасці 157 студэнтаў гістарычнай спецыялізацыі, што ў 1921—1927 г. наведвалі ИКП, ажно 47 атрымалі дыпломы гісторыкаў. Аднак з ліку „ікапістаў" рэкрутавалася эліта будучых пакаленняў падсавецкіх гісторыкаў. Гэтак, выпускнік ИКП П.В.Горын у першай палове 30-х г. займаўся індактрынацыяй гістарычнай навукі ў БССР[90].

Па-за персанальным складнікам і, пасля спынення выхаду немарксісцкіх гістарычных часопісаў „Дела и дни", „Русский исторический журнал" (да 1922 г.), „Голос минувшего" (да 1924), „Анналы" (да 1924) і „Былое" (да 1926), манапольна распаўсюджваныя па ўсім Савецкім Саюзе перыядычныя выданні маскоўскіх ідэалагічных інстытуцыяў клапаціліся пра пашырэнне ўплыву сваіх поглядаў на стратэгіі даследаванняў. „Пролетарская революция" („Истпарт"), „Ленинский сборник" (Інстытут імя Леніна), „Архив Карла Маркса и Фридриха Энгельса", „Летопись марксизма" (Інстытут Маркса—Энгельса), „Вестник Коммунистической Академии" (Камуністычная акадэмія) і, перадусім, „Историк-марксист" и „Борьба классов" (Таварыства гісторыкаў-марксістаў) сваімі артыкуламі буда-

[90] Пра „ИКП" параўн. новую працу: Behrendt, Lutz-Dieter. Die Institute der roten Professur. Kaderschmieder der sowjetischen Parteiintelligenz (1928—1938) // JBfGOE 45 (1997) 4. С.597—621.

валі падмурак будучай падсавецкай сталінскай гістарыяграфіі. Гістарычныя часопісы выконвалі „баявыя задачы на гістарычным фронце“ і адначасова ўтваралі інтэгравальнае асяроддзе агульнасавецкай гістарыяграфіі. Той, хто змяшчаў артыкул у „Историке-марксисте“ альбо ў „Пролетарской революции“, адчуваў сябе далучаным да кола адмыслоўцаў і часткай „нешматлікіх шчасліўцаў“ („*happy few*“), упэўненых у ідэалагічнай надзейнасці сваёй працы.

Іншай прыярытэтнай сферай раннесавецкай гістарыяграфіі былі „выданні класікаў“. Зборы твораў класікаў марксізму-ленінізму, да якіх Ленін быў прылічаны ўжо пры жыцці, меліся ў распараджэнні новага пакалення гісторыкаў у Маскве і Менску як амаль невычарпальны рэзервуар тэкстаў. У перыяд з 1918 да 1922 г. выйшлі першыя тамы збору твораў Маркса—Энгельса на расійскай мове, а з 1920 г. пачало выходзіць першае выданне збору твораў Леніна. Рэальным арганізацыйным цэнтрам падсавецкай гістарыяграфіі ўжо неўзабаве пасля свайго ўзнікнення ў 1920 г. зрабілася ўтвораная напачатку ў Маскве „Камісія па гісторыі Кастрычніцкай рэвалюцыі і РКП(б)“ („Истпарт“). Як наогул першая савецкая навуковая ўстанова „Истпарт“ вельмі хутка разбудаваў вертыкальную арганізацыйную структуру і ўтварыў навукова-даследчае аб'яднанне цэнтра і рэспублік. Падсекцыі названай інстытуцыі былі заснаваныя ва Украіне, у Грузіі, Беларусі ды іншых рэспубліках. Яе першачарговай задачай было забяспечыць пераход „гістарычных навук на марксісцкія пазіцыі“[91].

Найвышэйшая інстанцыя ў савецкай навуковай палітыцы напачатку не была вызначаная адназначна. Шмат у якіх выпадках партыйныя і дзяржаўныя органы, перадусім на рэгіянальным узроўні, стваралі перашкоды адно аднаму. У той час як навуковыя ведамствы рэспубліканскіх урадаў, самае позняе пачынаючы ад сваёй III Усесаюзнай канферэнцыі (студзень 1925 г.), выступалі за перадачу ўсёй навуковай дзейнасці пад іх кіраванне, агітпропаўскія функцыянеры рэспубліканскага ўзроўню пры гэткім развязанні праблемы мусілі непакоіцца за свае цёплыя месцы. Пэўныя наркаматы асветы — да прыкладу, украінскі — спрабавалі, між тым, не падпарадкоўвацца планаванай у цэнтры і кантраляванай мясцовымі партыйнымі органамі навуковай палітыцы: натуральна, што гэткія спробы поспеху не мелі. Яшчэ пад час першай пяцігодкі партыя здыстанцыявалася ад стварэння ўсесаюзнага міністэрства адукацыі і навукі, якое б займалася цэнтральным планаваннем палітыкі ў дачыненні да навукі. Гэта было абумоўлена не агляднаю на рэгіянальнае навуковае планаванне, а менавіта недаверам партыі да акадэмічных свяцілаў, з якімі — пры цэнтральным планаванні навуковай палітыкі — давялося б раіцца. Шырокамаштабнае планаванне 1927 г. ужо

[91] Комаров Н.С. Создание и деятельность Истпарта, 1920—1928 г. // Вопросы истории КПСС. 1958. № 5. С.153—165. З прычыны шматлікасці працаў пра развіццё навукі ў РСФСР, а таксама пра маскоўскія ідэалагічныя інстытуцыі, мы, замест далейшага падрабязнага разгляду, згадаем тут пра найважнейшыя: Shteppa, Konstantin F. Russian Historians and the Soviet State... (op. cit.). C.13—43; Barber, John. Soviet Historians in Crisis, 1928—1932. London, 1981. C.12—30; Graham, Loren R. The Soviet Academy of Sciences and the Communist Party, 1927—1932. Princeton, NJ, 1976. С.32 і наст.; Velychenko, Stepan. Shaping Identity in Eastern Europe and Russia. Soviet Russian and Polish Accounts of Ukrainian History, 1914—1991. New York, 1993. C.27 і наст.

немагчыма было сабе ўявіць з удзелам усё яшчэ неабходных „буржуазных спецыялістаў“[92].

Але і пры адсутнасці цэнтральнага навуковага ведамства „Наркамасьвета БССР“ пачатку 30-х г. бачыла сябе пазбаўленай недатыкальнасці. Менавіта гэты народны камісарыят, у якім тады працавала каля 100 супрацоўнікаў — у тым ліку 30 членаў партыі, — быў аб'ектам няспынных праверак. Рапарты кантрольнай камісіі, якія рэгулярна падаваліся ў Бюро ЦК, сведчылі, што і на міністэрскім узроўні існавала вялікая заклапочанасць што да палітычнай лаяльнасці тых супрацоўнікаў. Гэтак сцвярджалася, што, маўляў, „частку стрыжнявых пасадаў пераважна займаюць людзі, якія не былі паддадзеныя сур'ёзнай праверцы“ і „паходзілі яшчэ са старога апрату Баліцкага“[93]. Асаблівая ўвага ў працы камісіі зноў і зноў аддавалася ацэнцы дзейнасці навуковага аддзела „Наркамасьветы“, які меў больш за дзесятак супрацоўнікаў, з якіх толькі палова была партыйнаю. У справаздачы гаворка ўвесь час ідзе пра „адміністрацыйную слабасць“ кіраўніцтва аддзела на чале з таварышам Вальфсонам. Паводле аўтараў справаздачы, „выпадкі Рыўліна (трацкіста) ды іншых“ сталі магчымымі толькі таму, што ўвесь апарат міністэрства доўгі час працаваў без якога-небудзь над ім кантролю.

Для нашага кантэксту асаблівую цікавасць уяўляюць сабою ацэнкі гістарычна-педагагічных канцэпцыяў, што меліся быць прапанаваныя дацэнтамі на разгляд „Наркамасьветы“ і, тым самым, на разгляд ЦК, перш чым яны маглі быць зацверджаныя і ўведзеныя ў дзеянне ў якасці „Праграмы народнага камісарыята асветы і дзяржаўнага вучонага сектара («государственный ученый сектор»)“. У 1930-я г. гісторык старажытнасці У.М.Перцаў прапанаваў сваю навучальную праграму па „гісторыі антычнага свету“, якую рэзка раскрытыкавала Кантрольная камісія ЦК. Паводле яе вызначэння, „аўтар заняў у ёй антысавецкія і нацыянал-дэмакратычныя пазіцыі“. Па-за тым, ва ўсёй наркамасветаўскай праграме, маўляў, не прэзентаваны „бальшавіцкі прынцып змагання на два франты“; яна не дае ўяўлення „ні пра ворагаў бальшавізму, ні пра адхіленні ад партыйнай лініі“. Акрамя таго, імперыялізм тут ацэньваўся „зусім не праўдзівым чынам“. Перцаву, па сутнасці, рабіўся закід, што ён у сваёй праграме праігнараваў „марксісцка-ленінскую навуку пра фармацыі“: „Праграма, прысвечаная антычнаму свету, складзеная ў духу вульгарнага нацыяналізму“. Маўляў, побач са „шматлікімі палітычнымі памылкамі“ барацьба не паказаная „як рухальная сіла развіцця грамадства“[94].

Акрамя акадэмічных навукоўцаў для савецкай адміністрацыі раннесавецкага часу ўсё больш і больш падазронай выглядала ўся „інтэлігенцыя“. Палітычнае кіраўніцтва з сярэдзіны 20-х г. уважліва адсочвала нацыянальнае, сацыяльнае ды палітычнае жыццё і выказванні адукаваных людзей. У ЦК у Маскве, як, зрэшты, і ў Менску, былі перакананыя, што ад добраахвотнай альбо „забяспечанай“

[92] Graham, Loren R. The Soviet Academy of Sciences and the Communist Party... (op. cit.). С.77.

[93] **Баліцкі А.В.** (1891—1937), народны камісар асветы БССР у 1926—1929 г., старшыня секцыі беларускай мовы і літаратуры Інбелкульта, з 1929 — член Прэзідыума Беларускай Акадэміі навук; заарыштаваны ў 1930 г., расстраляны ў 1937 г.

[94] НАРБ, ф.4, воп.21, спр.548, арк.1—39: „Докладная записка“ тут змешчаная на арк.1—14.

даяльнасці інтэлектуалаў істотным чынам залежалі перспектывы далейшага існавання дзяржавы. Яшчэ сёмы з'езд КП(б)Б (сакавік 1923 г.), на якім былі ўдакладненыя праграмныя рашэнні ў дачыненні да палітыкі беларусізацыі, распачаў дыскусію пра інтэлігенцыю. У афіцыйнай публіцыстыцы ўжо ў той час выказваліся сумненні, ці „новая беларуская інтэлігенцыя" ўвогуле здольная на тое, каб выконваць „актыўную ролю ў стварэнні нацыянальнай культуры беларускага рабочага класа і сялянства". Маўляў, у „беларусаў-культурнікаў", выхадцаў з рабочых і сялян, няма адназначнага класавага інтарэсу[95].

Тое, што яшчэ досыць павярхоўна адсочвалася на пачатку „каранізацыі", крыху пазней увайшло ў лік стрыжнявых пытанняў партыйнай палітыкі. Успрыманне „інтэлігенцыі" з боку партыі павінна таксама разглядацца як доказ таго, якой малой была свабода дзеянняў інтэлектуалаў пад час беларусізацыі. Ужо ў 1926 г. на пленуме ЦК у адрас інтэлігенцыі БССР гучалі папрокі ў тым, што яна „крытыкуе дыктатуру пралетарыяту" ды імкнецца да „палітычнага ўраўнавання сялянства з рабочым класам" у сэнсе стварэння сялянскай, а нават і кулацкай улады. Праз гэта, маўляў, вымалёўваецца палітычны спектр інтэлігенцыі, краі якога ўтвараюць групы: малая, „у прынцыпе згодная на супрацоўніцтва", і „апазіцыйная", „нацыянал-шавіністычная". „У галоўным адданыя партыі, але поўныя нацыянальных амбіцыяў" інтэлектуалы, вядома ж, павінны былі таксама разглядацца ў якасці праблемнай групы — гэтак як і „пасіўная інтэлігенцыя", якая мела ўяўляць з сябе — як „палітычнае балота" — не меншую небяспеку. Сфармуляваная ў рэзалюцыі ЦК сустрэчная праграма дзеянняў прадугледжвала — побач са стварэннем „бюро інтэлігенцыі" пры ЦК, меры палітычнай стабілізацыі Інбелкульта, паляпшэння працы сярод прафсаюзаў і павышэння долі членаў партыі ў ВНУ. Акрамя таго, надалей „асаблівая ўвага" павінна была аддавацца краязнаўчым арганізацыям ды літаратурным суполкам[96].

За год перад тым, на патрабаванне Масквы, была створаная камісія, што мелася „адмыслова займацца інтэлігенцыяй і яе грамадска-палітычным выхаваннем". Да яе абавязкаў належала рабіць дакладны аналіз становішча ўнутры ўсіх беларускіх, габрэйскіх і польскіх сегментаў інтэлігенцыі. У якасці канкрэтызацыі раней вызначаных дырэктываў прапаноўвалася зрабіць „дакладную, пры магчымасці пайменную характарыстыку (параўнальна) значных інтэлектуалаў" і даць інфармацыю „пра сучасны стан беспартыйнай інтэлігенцыі, занятай на савецкай альбо іншай грамадскай працы". Перадусім трэба было спраўдзіць, „якая колькасць камуністаў задзейнічаная" ў тым, каб „умацоўваць уплыў і кіраўнічую сілу партыі ў шэрагах інтэлігенцыі, у сферах культуры, школьніцтва, літаратуры"[97]. Імпульсы працы камісіі мусілі надавацца з боку новапакліканага „бюро інтэлі-

[95] Байкоў М. Пытаньне беларускай культуры і шлях беларускай інтэлігэнцыі // Полымя. 1923. № 5—6. С.96—104.

[96] О работе среди интеллигенции // Резолюции пленума ЦК КП(б)Б 12—15 марта 1926 г. Менск, 1926. С.3—14, 19—24; альбо: Коммунистическая партия Белоруссии в резолюциях и решениях съездов и пленумов ЦК. Т.1. Мінск, 1983. С.314 і наст.

[97] Пратакол паседжання Бюро ЦК (16.01.1925): НАРБ, ф.3, воп.4, спр.12, арк.57. У склад камісіі ўвайшлі (спіс пададзены па-расійску): Зяиьковіч, Акулік, Ґесэн, Ігнатоўскі, Адамовіч, Ашаровіч, Апанскі, Піляр, Чарот (Кудзелька), Чарвякоў і Ахрамовіч.

генцыі". Аднак да сутнасці тых акалічнасцяў, што прывялі да гэткай адчайнай сітуацыі ў галіне навуковай палітыкі, не мог бы дабрацца і тузін камісіяў.

| Час | Пасада | Нацыянальнасці | | | | | | Сацыяльнае паходжанне | | | | | Члены КП(б)Б і камсамолу | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | беларусы | габрэі | расійцы | палякі | інш. | разам | рабочыя | сяляне | духавенства | службоўцы | інш. | КПБ | камсам. | б/п |
| | Праф. | 7 | 10 | 59 | — | 10 | 86 | 2 | 16 | 11 | 35 | 29 | 5 | — | 81 |
| 1926 | Дацэнты | 23 | 13 | 35 | — | 5 | 76 | 1 | 21 | 7 | 16 | 31 | 16 | — | 60 |
| — | Асіст. | 61 | 47 | 33 | 1 | 4 | 145 | 2 | 46 | 3 | 10 | 84 | 11 | — | 134 |
| 1927 | Аспір. | 23 | 3 | 12 | — | 3 | 41 | 2 | 25 | — | 5 | 9 | 11 | 3 | 27 |
| | Мал. выкл. | 24 | 26 | 4 | — | 1 | 55 | 3 | 24 | 1 | 1 | 26 | 8 | — | 47 |
| | Праф. | 8 | 10 | 66 | — | 9 | 93 | 2 | 16 | 11 | 35 | 29 | 6 | — | 87 |
| 1927 | Дацэнты | 29 | 20 | 41 | 2 | 1 | 93 | 4 | 20 | 8 | 45 | 16 | 25 | — | 68 |
| — | Асіст. | 59 | 31 | 32 | 3 | 2 | 127 | 7 | 46 | 4 | 47 | 23 | 10 | — | 117 |
| 1928 | Аспір. | 33 | 9 | 7 | — | — | 49 | 2 | 25 | 2 | 15 | 5 | 19 | 3 | 27 |
| | Мал. выкл. | 25 | 18 | 3 | 1 | — | 47 | 2 | 22 | 3 | 13 | 8 | 10 | — | 35 |
| | Праф. | 8 | 12 | 59 | 1 | 10 | 90 | 2 | 13 | 10 | 37 | 28 | 5 | — | 85 |
| 1928 | Дацэнты | 23 | 19 | 41 | 3 | 3 | 89 | 4 | 18 | 9 | 44 | 14 | 23 | — | 66 |
| — | Асіст. | 68 | 28 | 37 | 3 | 5 | 141 | 9 | 50 | 4 | 55 | 23 | 14 | — | 127 |
| 1929 | Аспір. | 37 | 12 | 6 | — | — | 55 | 4 | 27 | 2 | 20 | 2 | 26 | 7 | 22 |
| | Мал. выкл. | 26 | 16 | 2 | 1 | — | 45 | 3 | 24 | 2 | 14 | 2 | 10 | — | 35 |

**Табл.15: Супрацоўнікі вышэйшых навучальных установаў БССР (нацыянальнасць, сацыяльнае паходжанне, партыйнасць; 1926—1929 г.)**

Адначасовае суіснаванне старой і новай навукі, блытаніна ў падзеле кампетэнцыяў паміж дзяржаўнымі і партыйнымі органамі ды малы працэнт надзейных паплечнікаў-барацьбітоў ва ўстановах навукі і прымянення навуковых дасягненняў — гэтак як у „Наркамасьвеце" — вызначылі зусім не пераможную танальнасць у дыскусіях ЦК гэтага часу. Лічбы, якія ўтрымлівалі інфармацыю пра нацыянальны склад і палітычную лаяльнасць інтэлігенцыі вышэйшых навучальных установаў, на парадак павялічвалі ўстрывожанасць. Не ўдалося павысіць ані долю беларускай прафесуры, ані долю партыйных навукоўцаў[98]. Тым самым, як гэта ўжо было паказана раней, двайная стратэгія „каранізацыі" не выявіла сваёй эфектыўнасці. Гэтыя звесткі, якія сведчаць пра тое, што колькасць членаў партыі сярод 90 прафесараў ВНУ БССР з 1927 да 1929 г. зменшылася з 6 да 5, супадалі з адпаведнымі лічбавымі стасункамі ў Маскоўскай Акадэміі навук, сярод правадзейных сяброў якой у 1927 г. не было ніводнага партыйнага. Маскоўская акадэмія магла быць названа „найважнейшай сярод нерэфармаваных інстытуцыяў царскага часу" (Лорэн Грэм/*Graham*)[99]. Самае позняе цяпер выяві-

[98] НАРБ, ф.4, воп.7, спр.156, арк.12: „Кадры наши и враждебные среди работников научных учреждений и проявления шовинизма и национализма среди учащихся ВУЗ — преподавателей и научных работников" (б.г., после 1929).

[99] Graham, Loren R. The Soviet Academy of Sciences and the Communist Party... (op. cit.). С.30.

лася, што падсавецкае грамадства, відавочна, толькі ў працэсе змены пакаленняў магло набываць большую ідэалагічную маналітнасць і трываласць.

Гістарычныя навукі не былі ў гэтых адносінах нечым выключным. Як сведчыць табл.15, да канца 1920-х г. яны не вызначыліся ані зменай агульнага кірунку ў гістарычным мысленні, ані ў „належным" папаўненні шэрагаў партыі. Партыйнаму кіраўніцтву яшчэ занадта моцна былі патрэбныя „буржуазныя" гісторыкі кшталту Тарле альбо Пічэты, каб пайсці на іх трывалую ізаляцыю. У Беларускай Акадэміі навук у 1920-я г. доўгі час увогуле не было ніводнага камуністычнага гісторыка. Партыя не магла доўга бяздзейна назіраць за гэткім, як у Менску, станам рэчаў ані на цэнтральным, ані на рэгіянальным узроўні.

У 1931 г. Сталін асабіста зрабіў першыя захады дзеля пераарыентацыі гістарычнай навукі. Ягоны допіс „Пра некаторыя пытанні гісторыі бальшавізму", накіраваны ў рэдакцыю „Пралетарскай рэвалюцыі" — напачатку задуманы як пратэст супраць публікацыі „варожага партыі і напалову трацкісцкага" артыкула[100] — для аддзелаў прапаганды саюзнага і рэспубліканскіх ЦК, а таксама для маладой амбітнай інстытуцкай інтэлігенцыі ў Маскве, Менску ці Кіеве, стаўся нібы апостальскім адкрыццём. Нарэшце яны атрымалі ў рукі нешта такое, што пазначала будучы курс развіцця гістарыяграфіі і давала арэнціры ў паходзе супраць „буржуазных" і нацыянальных гісторыкаў. У выпадку з гістарыяграфіяй БССР намі ніжэй будзе паказана, у якой меры падсавецкая гістарыяграфія ўхапілася за гэтае першае выказванне Сталіна пра гістарычную навуку. На некалькіх старонках тут былі выразна выкладзеныя сталінісцкае бачанне гісторыі, а таксама патрабаванні сталінізму да гістарычнай навукі.

Яшчэ важнейшымі ад закцэнтаваных тут змястоўных пастулатаў, у якіх адзначалася „беспамылковая палітыка ленінскай партыі" ў познецарскі час, у т.л. у дачыненні да II Інтэрнацыяналу, у актуальным кантэксце былі выказванні Сталіна пра спосаб пісання гісторыі. Для таго, каб выпрацоўваць меркаванні пра гістарычныя працэсы, павінны былі прыцягвацца не гістарычныя крыніцы ці асобна ўзяты дакумент. Толькі „ўчынкі" і „дзеянні" бальшавікоў ёсць, паводле Сталіна, вырашальнымі чыннікамі для выпрацоўкі гістарычных ацэнак:

> „Хто, апроч безнадзейных бюракратаў, можа давяраць выключна пісьмовым дакументам? Хто, акрамя архіўных пацукоў, не цяміць, што партыі і правадыры выпрабоўваюцца перадусім на падставе іх дзеянняў, а не толькі на падставе іх дэкларацыяў? [...] Хіба ж незразумела, што Слуцкі — калі ён насамрэч хацеў спраўдзіць непахіснасць пазіцыі Леніна і бальшавікоў у іхнім стаўленні да цэнтрызму — павінен быў бы пакласці ў *падмурак* свайго артыкула не паасобныя дакументы і два-тры прыватныя допісы, а ён мусіў гаварыць пра бальшавікоў на падставе іх учынкаў, іх гісторыі, іх дзеянняў"[101].

Гэтыя метадалагічныя дырэктывы цяпер шырока расчынялі браму перад гістарыяграфіяй, заснаванай на здагадках, а не ўгрунтаванай на крыніцах, і наўпрост

[100] Артыкул Слуцкага „Бальшавікі пра нямецкую сацыял-дэмакратыю ў перыяд даваеннай крызы" быў апублікаваны разам з допісам Сталіна ў шостым нумары „Пралетарскай рэвалюцыі" за 1930 г. Тут цытаванне робіцца паводле: Stalin, J.W. Über einige Fragen der Geschichte des Bolschewismus. Brief an die Redaktion der Zeitschrift „Proletarskaja Rewoluzija" // *Яго ж.* Werke. Bd.13. Berlin, 1955. C.76—91.

[101] Тамсама, с.86 і наст.

пярэчылі традыцыйным метадам працы гісторыкаў. Галоўным працоўным месцам гісторыка мусіў зрабіцца не архіў, а падручная бібліятэка выдадзеных партыяй матэрыялаў. З разважанняў Сталіна лёгка можна было зрабіць выснову, што рэвалюцыйная эйфарыя мінулага стагоддзя саступіла дарогу веры ў непагрэшнасць, якая не дазваляла паддаць сумневу ані цяперашнія, ані гістарычныя пастановы партыі. Адначасова Сталін праз свой публіцыстычны наступ канчаткова ўвёў ва ўжытак задачу барацьбы з „трацкізмам" і для гістарычнай навукі. Акрамя канкрэтных абвінавачванняў на адрас Слуцкага, памфлет утрымліваў дастаткова „агульнаўжывальныя" фармулёўкі, якія можна было дастасаваць у дачыненні да любога неўпадабанага сучасніка:

> „Таму спробы пэўных «літаратараў» ды «гісторыкаў» кантрабандай уцягнуць у нашу літаратуру замаскаваны трацкісцкі хломазд павіны сустрэць дэфінітыўны адпор бальшавікоў. Таму нельга дапускаць аніякай дыскусіі з трацкісцкімі кантрабандыстамі. [...] Гэта тым больш неабходна, бо некаторыя з нашых гісторыкаў — я тут кажу пра гісторыкаў без двукоссяў, пра бальшавіцкіх гісторыкаў нашай партыі — не пазбеглі памылак"[102].

Сталінскі допіс насамрэч меў пераломнае значэнне для падсавецкай гістарыяграфіі. Джон Барбэр гаворыць у гэтым звязку нават пра пачатак новай эпохі: „Гвалтоўныя грамадскія дыскусіі, характэрныя для папярэдніх гадоў, зніклі, усталяваліся артадаксальныя падыходы да інтэрпрэтацыі гістарычных праблем, і была створаная новая інстытуцыянальная структура для гістарычнай прафесіі". Дытрых Байраў, апроч таго, звярнуў увагу на „стыль мовы ідэалагічнага змагання", які, з дапамогай сталінскага ўмяшальніцтва, неўзабаве павінен быў „распаўсюдзіцца ва ўсіх галінах гуманітарных і сацыяльных навук"[103]. Насамрэч, гэта

[102] Тамсама, с.89—91.

[103] Barber, John. Soviet Historians in Crisis... (op. cit.). С.142. *Яго ж.* Stalin's Letter to the Journal Proletarskaya Revolutsiya // SS 28 (1976) 1. С.21—41; Beyrau, Dietrich. Intelligenz und Dissens. Die russischen Bildungsschichten in der Sowjetunion 1917—1985. Göttingen, 1993. С.47. Гістарыяграфія БССР бачыла ў сталінскім допісе слушны адказ на „трацкісцкія перакананні" Слуцкага. Гэтак яшчэ ў 1986 г. пісалася ў: Михнюк В.М. Становление и развитие исторической иауки Советской Белоруссии... (op. cit.). С.59. Пра перспектывы гістарыяграфіі ў перабудовачны час гл.: Дунаевский В.А. О письме Сталина в редакцию журнала „Пролетарская революция" и его воздействии на науку и судьбы людей // Мерцалов А.Н. (рэд.). История и сталинизм. Москва, 1991. С.284—297. Робэрт Такэр (*Tucker*), разважаючы пра згаданы допіс, акрамя таго, зазначаў, што Сталін „у разбудаванні свайго культу меў траякую мэту" („pursued a tripartite purpose in cult-building"): *па-першае,* „ён беспадстаўна прыўлашчыў сабе пазіцыю галоўнага партыйнага гісторыка і суддзі па прынцыповых пытаннях" („he arrogated to himself the position of premier party historian and arbiter of contentious issues"), *па-другое,* „Сталін ажыццяўляў стратэгію стварэння культу праз сцвярджэнне непагрэшнасці Леніна" („Stalin followed the strategy of cult building via the assertion of Lenin's infallibility"), *па-трэцяе,* гісторыкі, у пошуку „найвышэйшых ісцін", працуючы з архіўнымі дакументамі, мусілі даводзіць, „што Ленін, з'яўляючыся «сапраўдным бальшавіком», ніколі не мог недаацэньваць цэнтрызму, альбо што Сталін, таксама «сапраўдны бальшавік», ніколі не займаў небальшавіцкіх пазіцыяў у крытычных для партыі момантах" („that Lenin, being a «real Bolshevik», could never have underestimated centrism or that Stalin, also a «real Bolshevik», could never have taken an un-Bolshevik position at any juncture"), гл.: Tucker, John. The Rise of Stalin's Personality Cult // American Historical Review 84 (1979). С.347—366, у гэтым выпадку с.355 і наст.

і было найважнейшым вынікам метафізічнага кшталту, што пацягнуў за сабою сталінскі допіс. Першае і, да таго ж, жорсткае выказванне Сталіна на адрас гісторыкаў выклікала ў навуковых цэнтрах вялікую хвалю крытыкі і самакрытыкі. Пасля пачаліся абвінавачванні і рэпрэсіі, першай ахвярай якіх стала школа Пакроўскага[104]. З тае пары Сталін і партыйнае кіраўніцтва рэгулярна ўмешваліся ў гісторыяпісанне ў сферах адукацыі і навукі. Хоць інтарэс Сталіна пераважна канцэнтраваўся на пытаннях партыйнай і рэвалюцыйнай гісторыі, яго памфлеты кожны раз успрымаліся ў якасці энцыклік, звернутых да ўсёй грамады гісторыкаў. Толькі з выхадам „Кароткага курса" партыйнай гісторыі ў 1938 г., здаецца, надышоў стан супакаення. Цяпер, паводле меркавання Сталіна, было сказана ўсё, што было патрэбна, адносна савецкай і партыйнай гісторыі.

Цікава, што выказванні, зробленыя Сталіным у 1934 г., былі прысвечаныя выключна падручнікам і пашырэнню савецкага бачання гісторыі. Хоць гэтага і не было выразна відаць з кароткай, падпісанай Сталіным і Молатавым рэзалюцыі пад назвай „О преподавании гражданской истории в школах СССР", прынятай ЦК і Саўнаркамам 16 траўня 1934 г., усё ж такі гэты дакумент меў вялікае значэнне для ўзаемадачыненняў паміж палітыкай і гістарычнай навукай. Відавочна, што Сталін і партыя былі гатовыя да таго, каб прынцыпова змяніць пазнавальную мэту заняткаў па гісторыі. Цяпер гістарычная адукацыя ў школе павінна была вызначацца не „абстрактнымі азначэннямі соцыя-эканамічных фармацыяў" ды „сацыялагічнымі схемамі", а прэзентаваннем гісторыі дзяржавы зацікаўлена, у жывой форме, з называннем найважнейшых падзеяў і фактаў у іх гістарычнай паслядоўнасці і з характарыстыкамі найважнейшых гістарычных асобаў". Паводле аўтараў дакумента, толькі такія заняткі па гісторыі могуць прывесці да набыцця трывалых гістарычных ведаў, да абагульненняў і, тым самым, да марксісцкага разумення гісторыі. Пайменна пералічаным гісторыкам была замоўлена серыя падручнікаў гісторыі, што меліся сфармаваць гістарычнае бачанне наступных савецкіх пакаленняў. Аднак, без сумневу, самым важным у сваіх наступствах рашэннем было адкрыццё наноў гістарычных факультэтаў у Маскоўскім ды Ленінградскім універсітэтах, для якіх з размахам была вызначаная колькасць па 150 студэнтаў на кожны[105]. Тое самае, як будзе паказана далей, выглядала актуальным і для беларускіх інстытуцыяў. Насамрэч, 1934 год быў са змястоўнага і персанальнага боку новым пачаткам, хоць рэалізацыя прынятых пастановаў падкінула дроваў у печку дэбатаў „на гістарычным фронце". Калі праз некалькі месяцаў некаторыя з падручнікаў ужо былі прэзентаваныя ў форме накідаў, Сталін зноў рэзка выказаўся на адрас аўтараў. У інструкцыі для ўнутранага ўжытку ад 8 жніўня 1934 г. ён

[104] Enteen, George M. Marxist Historians during the Cultural Revolution // Fitzpatrick, Sheila (рэд.). Cultural Revolution in Russia, 1928—1931. Bloomington, Ind., 1978. С.165. У ацэнцы наступстваў публікацыі згаданага допісу, аднак, і тут быў пакінуты па-за ўвагаю той факт, што ў правінцыйных навуковых цэнтрах — гэткіх, як Кіеў альбо Менск — „сталінізм" у гістарычнай навуцы пачаўся задоўга перад тым.

[105] О преподавании гражданской истории в школах СССР (В.Молотов, И.Сталин) // ИМ. 1934. № 3(37). С.83—84. У англійскім перакладзе гл. таксама ў: Pundeff, Martin (рэд.). History in the U.S.S.R. Selected Readings. San Francisco, CA., 1976. С.98—99. Наконт далейшай дыскусіі пра падручнікі гл. падраздзел 3.2. гэтага раздзела.

зрабіў ім закід у тым, што яны імкнуцца распрацаваць „марксізм для непісьменных". Паводле Сталіна, дзеля прапаганды савецкага патрыятызму як новай дактрыны зместу, у „Гісторыі СССР", за якую адказвала група гісторыкаў (Ванаг, Грэкаў, Панкратава і Піянткоўскі), адсутнічае гісторыя нерасійскіх народнасцяў ды іх нацыянальна-вызваленчых рухаў:

> „Нам патрэбны падручнік гісторыі СССР, у якім бы не аддзяляліся, па-першае, гісторыя Вялікарасіі ад гісторыі іншых народаў СССР, па-другое, гісторыя народаў СССР ад агульнаеўрапейскай і сусветнай гісторыі"[106].

Побач з іншымі вострымі заўвагамі, гэта, здаецца, было галоўнай задачай Сталіна. Паводле ягоных заўваг, Кастрычніцкая рэвалюцыя мусіць быць пададзена мацней — як „вызвольны ўдар па нацыянальным царскім прыгнёце", „агульнаеўрапейскі палітычны крызіс напярэдадні Першай сусветнай вайны" — як „выяўленне заняпаду буржуазнай дэмакратыі і парламентарызму", „сусветна-гістарычнае значэнне Саветаў" — як тое, што яны ёсць „носьбітамі пралетарскай дэмакратыі і органы вызвалення рабочых і сялян ад капіталізму". Карацей кажучы, падручнік мусіў быць грунтоўна перапрацаваны — пад наглядам камісіі, у якую меліся быць уключаныя, разам са старшынём Жданавым, і гэткія партыйныя тэарэтыкі, як Бухарын, і гэткія гісторыкі, як Лукін.

Пошукі тлумачэнняў датычна змены курсу ў гістарычнай навуцы ў 1934 г. стварылі нагоду для рознага кшталту спекуляцыяў, у якіх Клаўс Менэрт, відаць, зайшоў найдалей. Паводле яго перакананне, перамога нацыстаў у Нямеччыне выклікала ў савецкага кіраўніцтва доўгатэрміновы шок. Маўляў, гітлераўскі нацыяналізм, відавочна, выявіў сябе куды больш прывабным для масаў, чым тэльманаўскі інтэрнацыяналізм, разам з ягонай інтэрнацыяналісцкай рыторыкай. Маладому Савецкаму Саюзу было неабходна — калі ён не хацеў „сур'ёзна апынуцца аўтсайдэрам у барацьбе сусветных ідэалогіяў" — па-новаму асэнсаваць нацыянальную ідэю. Таму стрыжнявым паняццем для гістарычнай канцэпцыі сталінізму пасля 1934 г. мусіў таксама стаць „савецкі патрыятызм". Пасля выхаду з берагоў нацыянальных амбіцыяў нерасійскіх народаў у фарватэры моўнай і культурніцкай палітыкі 20-х г. гэтае паняцце выглядала ідэальным эрзацам, які ўбіраў у сябе і адначасова паралізаваў нацыянальныя памкненні.

Да гэтага дадалася тая акалічнасць, што ў чэрвені 1934 г. упершыню ў афіцыйным дакуменце — „Законе аб здрадзе Радзіме" — зноў усплыло слова „родина", якое перад тым доўгі час не мела права на ўжыванне. Спалучэнню паняццяў „савецкі патрыятызм" і „радзіма" было цяжка што-небудзь проціпаставіць, бо яно было звернутае да ўсіх народнасцяў, што належалі да „Савецкай радзімы". Паказальнае вызваленне эскадрылляй лётчыкаў экіпажа „Чалюскіна" з крыгі-айсберга ў паўночным моры і шырокамаштабнае шоў-святкаванне гэ-

[106] Замечания по поводу конспекта учебника по „Истории СССР", подпісы: І.Сталін, А.Жданаў, С.Кіраў). Спачатку было апублікавана разам з іншымі дакументамі ў: На фронте исторической науки в Совнаркоме Союза ССР и ЦК ВКП(б) // ИМ. 1936. №1(53). С.3—8, у гэтым выпадку с.5 і наст. Перад тым апублікавана ў: Правда, 27.01.1936. С.1 і наст. Англійскі пераклад у: Pundeff, Martin (рэд.). History in the U.S.S.R... (op. cit.). С.100—105.

тай падзеі на Краснай плошчы 19 траўня 1934 г. зрабілі патрыятызм важнай часткай грамадскай свядомасці. Некалькі дзён пазней, 9 чэрвеня, „Праўда" абвясціла: „Абарона Радзімы — найвышэйшы закон жыцця"[107]. Жаданне ўмацавання савецкай сістэмы і асабістай улады Сталіна, відавочна, было магчыма ажыццявіць толькі з дапамогай ідэалогіі, якая была б менш абстрактнай і больш даходлівай за ідэалогію марксізму-ленінізму. Савецкі патрыятызм даваў выраз новай „імперскай ідэі", праз рэалізацыю якой можна было таксама ўцягнуць у сваю арбіту і эмацыйна прывязаць да сябе перыферыю. Толькі „патрыятызм усяго народа", „патрыятызм вышэйшага кшталту" бачыўся Сталіну ў эпоху ўзрастання міжнародных канфліктаў сродкам мабілізацыі ўсіх маральных рэсурсаў падсавецкага насельніцтва і мог забяспечыць „шырокамаштабную рэабілітацыю традыцыйнага вялікарасійскага бачання гісторыі" [Штэкль (*Stökl*)][108].

Пра тое, аднак, каб рэабілітаваць ва ўспрыманні нацыянальную гісторыю, не магло быць і гаворкі. Якраз наадварот. Ані ў БССР, ані ў іншых нерасійскіх падсавецкіх рэспубліках трактаванне адпаведнай нацыянальнай гісторыі надалей ніколі не аддавалася ў выключную кампетэнцыю мясцовых універсітэтаў, інстытутаў альбо акадэміяў. У абцякальнай форме сінтэтычныя выклады выходзілі на гісторыю падсавецкіх народаў. Як узгадвалі сучаснікі, у Баку сітуацыя не была іншай, чым у Менску:

> „Фармальна азербайджанская гісторыя вывучаецца як асобная дысцыпліна на гістарычных факультэтах ВНУ. Ёсць нават спецыялісты-гісторыкі, што абаранілі ступені па гісторыі Азербайджана. Насамрэч, усе вывучаюць перадусім гісторыю СССР; а ў 1935—1936 г., калі Азербайджанскім філіялам Акадэміі навук былі праведзеныя сапраўды аб'ектыўныя гістарычныя даследаванні й іх пачалі публікаваць, публікацыя была спыненая адразу пасля выхаду першага нумара. У гэтых гістарычных працах, відавочна, угледзелі нацыяналістычныя адхіленні"[109].

Ніжэй, на падставе аналізу гістарычна-інстытуцыянальнага развіцця беларускай гістарыяграфіі і калектыўна-біяграфічнага нарыса менскай супольнасці гісторыкаў, мы паспрабуем паказаць, што ўстановы і асобы страцілі сваю незаплямленасць у той момант, калі беларуская навука трапіла ў поле зроку камандаў, што праводзілі чысткі, і калі ўсталяваўся сталінізм. У вочы кідаецца той факт, што менавіта мясцовыя партыйныя і міністэрскія ўлады, а перадусім ка-

[107] Mehnert, Klaus. Weltrevolution durch Weltgeschichte... (op. cit.). С.12 і наст. Адсюль узятыя і цытаты.

[108] Oberländer, Erwin. Sowjetpatriotismus und Geschichte. Dokumentation. Köln, 1967. С.21 і наст.; Соболев А.И. Советский патриотизм — патриотизм высшего типа // О советском патриотизме. Сб. статей. Москва, 1952 (2-е изд.). С.65—71. Па-ранейшаму найлепшай, паводле сціласці і дакладнасці, характарыстыкай савецкага патрыятызму і ўздзеяння гэтай дактрыны на падсавецкае грамадства з'яўляецца праца: Stökl, Günther. Russische Geschichte. Von den Anfängen zur Gegenwart. Stuttgart, 1983 (4.Aufl.). С.728—732. Сярод апошніх прац, прысвечаных нацыянальнай гістарызацыі Савецкага Саюзу гл.: Brandenberger D.I., Dubrovsky A.M. „The People Need a Tsar": The Emergence of National Bolshevism as Stalinist Ideology, 1931—1941 // Europe-Asia-Studies 50 (1998) 5. С.873—892.

[109] PSSS: Schedule B5.—Vol.7, #427 JR. С.5. Meurs, Wim P. van. The Bessarabian Question in Communist Historiography. Nationalist and Communist Politics and History Writing (East European Monographs, vol.387). New York, 1994. С.148—166.

муністычныя супрацоўнікі інстытутаў, самі запусцілі рэактыўны механізм. Сталінізм „знізу“, відавочна, меў не толькі спецыфічнае для гэтай катэгорыі супрацоўнікаў, але і нацыянальнае, альбо, сама менш, прывязанае да рэспубліканскага ўзроўню вымярэнне. Крыху пазней энтузіясты кшталту М.Югава, П.Горына альбо А.Чарвякова, якія шукалі і знайшлі вуха партыі, самі сталіся ахвярамі. Горын меў сваю долю адказнасці ў тым, што рознагалоссі паміж Сталіным, ЦК ды Саўнаркамам, з аднаго боку, і маскоўскімі ды ленінградскімі гісторыкамі, з другога, з хітрамудрай дакладнасцю былі перанесеныя на ўнутраныя беларускія дачыненні. Ва ўкраінскай гістарыяграфіі адзін з артыкулаў Горына, у якім ён назваў „кітайскі мур“ паміж гісторыяй Украіны і Расіі „карыкатурай мінулага“, стаў пачаткам кіраванага партыяй уплыву на інтэрпрэтацыю дасавецкай гісторыі[110]. Горын быў чалавекам для грубай работы, правай рукой Пакроўскага, якому аж да самай смерці апошняга ў 1932 г. дапамагаў апрацоўваць калектыў калегаў. У кожным разе, напачатку Горыну ўдалося ацалець пасля таго, як Сталін адвярнуўся ад свайго прыдворнага гісторыка ды ягонай школы, і застацца прэзідэнтам Беларускай Акадэміі навук; прычым гэтую пасаду ён займаў як першы цягам савецкага перыяду да 1936 г. сярод функцыянераў найвышэйшых навуковых і партыйных органаў СССР беларускі гісторык і палітычны дзеяч — аж пакуль і яго ў 1937 г. не нагнала хваля сталінскіх чыстак[111].

Калі гісторыкі БССР на пачатку студзеня 1935 г. сабраліся на сваю першую Усебеларускую канферэнцыю гісторыкаў, каб дапасаваць пастановы партыі да патрэб гістарычнай навукі і заняткаў па гісторыі, ад творчага падыходу і даследніцкага дыяпазону 20-х г. ужо нічога не заставалася. Усталяваная на некалькіх драўляных сталах „Выстава навуковых прац па гісторыі Беларусі“ выразна ілюстравала змены, што адбыліся. Працы Ігнатоўскага альбо Доўнара-Запольскага адсутнічалі цалкам. Кароткая, раскрытыкаваная нават ва ўнутрыпартыйных дыскусіях „Гісторыя Беларусі“ В.К.Шчарбакова, якая ўвасабляла зменнае ў 1934 г. бачанне гісторыі, засталася непрачытанай. У гэтых умовах прыдатнага падручніка гісторыі не было ні для школ, ні для студэнтаў ВНУ[112]. Пра

[110] Па гэтым пытанні, а таксама пра спрэчку Горына з Мацвіем Яворскім падрабязна гл.: Velychenko, Stepan. Shaping Identity in Eastern Europe and Russia... (op. cit.). С.50 і наст.; Mace, James E. Communism and the Dilemmas of National Liberation... (op. cit.). С.254 і наст.

[111] **Горын** (Каляда) П.В. (1900—1939), беларус, гісторык і партыйны дзеяч. У 1921 г. скончыў Камуністычны універсітэт імя Свярдлова, у 1925 г. — Інстытут чырвонай прафесуры. У 1929—1930 г. правадзейны член і намеснік дырэктара Інстытута гісторыі Камуністычнай акадэміі, вучоны сакратар Таварыства гісторыкаў-марксістаў („ОИМ“). У 1926—1928 г. член рэдкалегіі часопіса „Историк-марксист“, у 1927—1930 г. намеснік рэдактара часопіса „Пролетарская революция“, блізкі паплечнік М.М.Пакроўскага, у 1931—1936 г. прэзідэнт БАН і дырэктар Інстытута гісторыі БАН, з 1936 г. намеснік старшыні Камітэта па загадванні вучонымі і навучальнымі ўстановамі ЦВК СССР, загадчык кафедры гісторыі СССР Маскоўскага дзяржаўнага універсітэта. Член кампартыі з 1918 г.; у 1932—1936 г. член ЦК КП(б)Б і кандыдат у члены яго Бюро. У 1931—1936 г. член ЦВК і Прэзідыума ЦВК БССР. Заарыштаваны ў жніўні 1937 г. Растраляны. Рэабілітаваны ў 1955 г. [Звесткі спраўджаныя і ўдакладненыя паводле: ЭГБ. Т.3. Мінск, 1996. С.94—95. — *Заўвага перакладчыка*.].

[112] НАРБ, ф.4, воп.17, спр.4, арк.1—35.

тое, каб узнавіць той слабы розгалас, які беларуская гістарычная навука з яе параўнаўча невялікай інфраструктурай набыла ў замежжы, не было і гаворкі. А пачыналася ўсё гэтак шматабяцальна.

## *2.2. Інстытут беларускай культуры*

Новы цэнтр беларускай навуковай дзейнасці — Беларуская Акадэмія навук (БАН) у Менску — узнік у 1929 г. на падмурку Інстытута Беларускае Культуры (Інбелкульта). Апошняя ўстанова паўстала ў свой час дзякуючы канфузлівым акалічнасцям: адсутнасці беларускай навуковай тэрміналогіі. Пастановы, прынятыя ў сакавіку 1921 г. на X з'ездзе ВКП(б), вымагалі таксама наяўнасці беларускай навуковай мовы. Падобна, як гэта мела месца ў бальшыні рэспублік, ужо 1 лютага 1921 г. з ініцыятывы „Наркамасьветы" БССР была заснаваная Навукова-тэрміналагічная камісія, ужо ў наступным годзе ператвораная ў акадэмічную ўстанову — Інбелкульт, у які ўваходзілі секцыі прыроды і гуманітарная (этналагічна-лінгвістычная)[113]. Новая ўстанова, што мелася сабраць пад сваім дахам „усе беларускія сілы", разам з абодвума паэтамі, Янкам Купалам і Якубам Коласам, таксама пераняла дасавецкія традыцыі беларускага патрыятызму. Звяртала на сябе ўвагу тое, што першае выдавецтва Інбелкульта і яго друкаваны орган атрымалі назву „Адраджэньне" — перш чым выдавецтва ў 1923 г. было ўключана ў склад выдавецтва „Савецкая Беларусь". У 1927 г., калі Інбелкульт пад кіраўніцтвам У.М.Ігнатоўскага дасягнуў найвышэйшага пункту ў ажыццяўленні палітыкі „каранізацыі", у Менск нават вярнуліся актывісты БНР, што заставаліся пасля рэвалюцыі ў віленскай эміграцыі, — В.Ю.Ластоўскі, А.І.Цвікевіч, А.А. Смоліч і і некаторыя іншыя. Падобна, як для ўкраінскай гістарыяграфіі, пасля таго як яе нестару — Міхайлу Грушэўскаму — у 1924 г. было дазволена вяртанне з Львова ў Кіеў, вышэйназваны год, відавочна, не стаў выразна этапным для беларускай гістарыяграфіі.

Форма арганізацыі гістарычных навук складалася з дзвюх частак. З аднаго боку, з 1925 г. існавала гістарычна-археалагічная секцыя, што мела статус навуковага таварыства і была ўзначаленая старшынём У.Пічэтам. З іншага боку, штатныя супрацоўнікі Інбелкульта ўтварылі гістарычна-археалагічную камісію, першым кіраўніком якой быў прызначаны прафесар М.Доўнар-Запольскі, які якраз перад тым вярнуўся з Баку. У абедзве структуры часткова ўваходзілі адныя і тыя супрацоўнікі. Глыбіннай прычынай падзелу, напэўна, была спроба ўжо тады надаць Інбелкульту, як навучальна-даследчаму цэнтру, характар акадэмічнай установы. Насамрэч, толькі пасля 1925 г. можна гаварыць пра комплексную навуковую работу Інбелкульта. Адно што этнаграфічна-археалагічныя эк-

[113] Падрабязней пра гісторыю Інбелкульта гл.: Няміга Г. Інстытут беларускай культуры, Беларуская акадэмія навук, Акадэмія навук Беларускай ССР (Institut für Erforschung der UdSSR, München: Досьледы і матар'ялы. Сэрыя II, рататарныя выданьні, № 63). Мюнхэн, 1957. Першая з 3-х частак англійскага перакладу змешчана ў: Niamiha, H. The Institute of Belorussian Culture // BR 5 (1957). С.5—33. Сярод апошніх выданняў: Інстытут беларускай культуры. Мінск: ІГ АНБ, 1993. На нямецкай мове параўн. кароткі інфарматыўны агляд у: N.D. Das Institut für Weißrussische Kultur und die Weißrussische Akademie der Wissenschaften // SRU 1 (1929). С.233—234.

спедыцыі, якія Інбелкультам арганізоўваліся рэгулярна, пачаліся яшчэ ў 1923 г. Да 1929 г. меліся быць зрэалізаваныя вялікія праекты палявых даследаванняў пад кіраўніцтвам археолагаў К.М.Палікарповіча і А.М.Ляўданскага. Паспяховая праца даследчыкаў старажытнасцяў паспрыяла таму, што ў другой палове 1927 г. утварыліся асобныя секцыі археолагаў і гісторыкаў.

Задумы Інбелкульта ў галіне беларускай гісторыі абагульніў Антон Баліцкі, тагачасны намеснік народнага камісара асветы, на III сесіі ЦВК БССР ў лістападзе 1924 г. Паводле яго слоў, меркавалася стварыць біяграфічны даведнік пра ўсіх выбітных асоб Беларусі, пачынаючы з X ст., а таксама этнаграфічна–археалагічную, гістарыяграфічную і бібліяграфічную апрацоўку беларускай гісторыі і старажытнасцяў[114].

Персанальных праблем напачатку не існавала. У сярэдзіне 1920–х г. у Інбелкульце згуртаваліся самыя знакамітыя гісторыкі Беларусі таго часу: Пічэта, які яшчэ ў Маскве працаваў над статутам установы, здолеў пераканаць Доўнара–Запольскага ўзяць удзел у яе працы — заданне, якое апошні меў магчымасць рэалізоўваць хіба толькі цягам аднаго году. Неўзабаве партыя настойліва прапанавала аўтару першай ёмістай „Гісторыі Беларусі“ і прадстаўніку дарэвалюцыйнай гістарыяграфіі пакінуць межы Менска і рэспублікі. Калі Доўнар–Запольскі насамрэч назаўжды „паказаў спіну“ Беларусі і яе сталіцы й эміграваў у Маскву, ён пакінуў Інбелкульту не толькі 11 000 тамоў сваёй бібліятэкі, але і ўсведамленне некаторымі з яго калегаў таго, што вышэйзгаданая ветлівая „прапанова“ была толькі пачаткам змрочнага этапу развіцця.

Разам з Пічэтам і Доўнарам–Запольскім у секцыю ўваходзілі: у якасці вучонага сакратара Дз.І.Даўгяла, аўтар агляднай працы „Важныя моманты ў гісторыі Беларусі“, а таксама гісторыкі В.Д.Дружчыц і М.В.Мялешка. Апошні адначасова выконваў функцыі сакратара Камісіі па даследаванні рэвалюцыйнага руху ў Беларусі, у якой працавалі таксама дырэктар Інбелкульта Ігнатоўскі і старшыня камісіі Жылуновіч. Шмат якія супрацоўнікі Інбелкульта, у дадатак, далучыліся да выкладчыцкай працы ва універсітэце. Вынікі даследаванняў публікаваліся ў адмыслова заснаваных навуковых часопісах, такіх як: „Беларускі Архіў“, „Навуковы зборнік гісторыка–археалягічнай камісіі“, а з 1928 г. — і ў „Запісках аддзьдзелу гуманітарных навук“[115]. Публікуючы шматлікія крыніцы, гісторыкі Інбел-

[114] Няміга Г. Інстытут беларускай культуры (op. cit.). С.21.

[115] Інстытут беларускай культуры (op. cit.). С.82 і наст. У перыядычным выданні „Slavische Rundschau“ раз–пораз публікаваліся агляды зместу паасобных новых прац беларускай навуковай публіцыстыкі. Каб даць уяўленне пра характар публікацыяў названай серыі, ніжэй мы падаём змест аднаго з нумароў часопіса: Запіскі аддзелу гуманітарных навук Беларускае Акадэміі Навук. Кн.2: Працы клясы гісторыі. Т.3: L'ubavskij, M. Litauen und die Slaven in ihren Wechselbeziehungen im 11.13. Jahrhundert; Tavstales, A. Das Familienrecht nach den litauischen Statuten; Hembicki, Ja. Zur Frage der sozialökonomischen Stellung der weißrussischen Tataren im Mittelalter; Jasinskij, A. Der Schriftführer des Großfürsten Kazimir, V.P.L'ubič, als Vertreter des Großgrundbesitzes im 15.Jh; Zabela, T. Die Stadt Brest im 16.Jh.; Kernažycki, K. Der Güterkomplex Brota in den Jahren 1639—1810; Jasinskij, A. Zwei Worte über die Voloten (Zum Problem der Urbevölkerung Weißrusslands); Cytovič S. Das Jahr 1863 in Hory–Horki; Davh'ala, Z. Ein Mahilëuer Handelshaus 1681—1685; Družčyc, V. Der Magistrat in den weißrussischen Städten mit Magdeburger Recht im 15.—17.Jh.; Pičeta, V. Die Rechtslage der

культа прадоўжылі традыцыю познецарскага часу. Кафедры ў 1927 г. мелі высокакваліфікаваных кіраўнікоў: гісторыяй Беларусі апекаваўся Ігнатоўскі, курс сусветнай гісторыі чытаў прафесар А.Ясінскі, лекцыі па гісторыі эканомікі і права Беларусі чыталіся прафесарам Пічэтам. Ластоўскі заняў кафедру этнаграфіі й у гэтай якасці ў 1927/28 г. — перш чым праз год, пад час кампаніі змагання з нацыянал-дэмакратызмам ён быў адстаўлены з гэтай пасады — кіраваў вельмі плённай этнаграфічнай экспедыцыяй. Новазаснаваную кафедру „гісторыі Літвы ў сувязі з беларускай гісторыяй" ўзначаліў літоўскі ардынарны прафесар С.Матулайціс.

Асабліва шматлікімі былі публікацыі Інбелкульта ў галіне краязнаўчых даследаванняў. Створанае ў 1923 г. Цэнтральнае Бюро Краязнаўства з 1925 г. выдавала свой штомесячнік „Наш Край", які ўзяў за мэту „папулярызацыю краязнаўчых даследаванняў і тэорыяў сярод шырокіх колаў працоўных масаў". Паводле выдаўцоў часопіса, „пазнанне саміх сябе" зрабілася магчымым „толькі сёння". Краязнаўства хацела спрыяць адкрыццю і даследаванню гэтай гістарычнай прасторы. Праз два гады пасля свайго заснавання Цэнтральнае Бюро мела 10 раённых філіяў у буйных і сярэдніх беларускіх гарадах. У Інбелкульт цягнуліся ўсе ніткі. Тут планаваліся шматлікія экспедыцыі і вызначаліся прыярытэты даследаванняў[116]. З упэўненасцю заяўлялася пра існаванне стогадовай традыцыі краязнаўства на беларускіх землях, пачатак якой быў, маўляў, закладзены заснаваным у 1826 г. Беларускім Вольным Эканамічным Таварыствам у Віцебску[117].

Калі ў 1926 г. прафесар Доўнар-Запольскі, прыналежны да невялічкага цэху прафесійных беларускіх краязнаўцаў, быў змушаны пакінуць Менск, будучыня „Нашага Краю" таксама зрабілася няпэўнаю. І ўсё ж выданне здолела пратрымацца яшчэ колькі гадоў, перш чым, з „прычыны" повязяў з „нацдэмамі", яно было рэарганізаванае ў 1931 г. у новы орган пад назвай „Савецкая краіна" і пад кіраўніцтвам новай рэдакцыйнай калегіі[118]. У Краязнаўчым Бюро — гэтак, як і ў Інбелкульце — існавала габрэйская секцыя, якая займалася вывучэннем „культурных асаблівасцяў габрэйскага насельніцтва ў Беларусі" і рыхтавала зборы матэрыялаў па рэгіянальнай і сацыяльнай гісторыі габрэяў. Няма ніякага сумневу ў тым, што рэпрэзентаваны „Нашым Краем" культурніцкі, гістарычна-культурны, этнаграфічны і рэгіянальна-вызначаны профіль беларускага краязнаўства ў 1920-х г. у вялікай ступені прынёс карысць беларускай гістарычнай навуцы.

Landbevölkerung auf Privatgrundbesitz zur Zeit der Veröffentlichung des litauischen Statutes von 1629 (Fortsetzung); Burdejka, A. Das (Moskauer) Ressort des Großfürstentums Litauen; Varia: Bibliographie zur Geschichte und Archäologie in Weißrußland für 1928/29. Звесткі (у вышэйпрыведзеным перакладзе) пададзеныя ў: SRU 2 (1930) 2. С.218 і наст.

[116] Параўн. уводную нататку рэдакцыйнай калегіі ў: Наш Край (Штомесячнік краязнаўства пры Інстытуце Беларускае культуры). Менск, 1925. № 1. С.3—10. Пра ролю краязнаўства ў беларусізацыі параўн, акрамя таго: Zejmis, Jakub. Belarus in the 1920s... (op. cit.) С.248 і наст.

[117] Больш падрабязна гл. у: Васілеўскі Д. Сталецьце краязнаўчай працы на Беларусі // Наш Край. 1926. № 2—3. С.3—14.

[118] Разрахункі з „нацдэмамі" ў краязнаўстве і этнаграфіі гл.: Садоўскі Ф.П. Выкарчаваць контр-рэволюцыйныя нацдэмаўскія ўстаноўкі ў экономічных пытаньнях // Савецкая краіна. 1931. № 1(3). С.13—31.

Маса манаграфічных і публіцыстычных выданняў ды артыкулаў, што выйшла ў 1922—1928 г. пад эгідай Інбелкульта, выразна сведчыць пра тое, што гэтая ўстанова доўгі час уберагалася ад сур'ёзнага палітычнага ўмяшальніцтва. Той факт, што У.Ігнатоўскі, член ЦК партыі, з 1925 (да 1928) г. займаў пост яе дырэктара, бараніў супрацоўнікаў Інбелкульта ад неабходнасці празмернага дэманстравання сваёй лаяльнасці да ўлады. Народны камісар асветы нават пакінуў у 1926 г. сваю палітычную пасаду, каб у будучым мець магчымасць цалкам прысвяціць сябе інстытуцкім справам і сваёй асабістай навуковай кар'еры.

| Члены | Колькасць | Беларусы | Габрэі | Палякі | Іншыя | Члены КП(б)Б | беспартыйныя |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Правадзейныя | 77 | 48 | 16 | 6 | 7 | 41 | 36 |
| Члены-карэсп. | 60 | 38 | 5 | 13 | 4 | 13 | 47 |
| Супрацоўнікі | 69 | 35 | 24 | 4 | 6 | 18 | 51 |
| Разам | 206 | 121 | 45 | 23 | 17 | 72 | 134 |

**Табл.16: Склад супрацоўнікаў Інбелкульта паводле нацыянальнасці і партыйнасці (1926 г.)**[119]

Ігнатоўскі належаў да меншыні членаў Інбелкульта, які ніколі за час свайго існавання не быў „партыйным інстытутам". Толькі ў 1928 г. — акурат тады, калі адбывалася яго пераўтварэнне ў Акадэмію навук, была заснаваная першасная партыйная арганізацыя КП(б)Б у складзе 16 чалавек. Табл.16, складзеная па звестках ЦК паводле стану на 1926 г., сведчыць пра параўнаўча нізкую ступень палітызацыі ўстановы. Тым не менш, з сярэдзіны 20-х г. яна знаходзілася пад наглядам сістэмы партыйнага кантролю, і яе свабода руху, у сэнсе зместу дзейнасці, была абмежаваная. Да прыкладу, гэткая падзея, як 20-я гадавіна з дня выхаду першага нумару першай беларускамоўнай газеты „Наша Доля", магла быць адзначаная толькі згодна з дакладна выпрацаваным і зацверджаным партыйным кіраўніцтвам планам. Нагоды гэткага кшталту ў будучыні меліся быць абвешчанымі справай начальства[120]. Упершыню крытыка на адрас Інбел-

[119] НАРБ, ф.4, воп.7, спр.276, арк.80: „Інбелкульт, 1926 г." (Звесткі ЦК КП(б)Б).

[120] Згодна з гэтым дакументам, у 1925 г. у ЦК была прынятая „неабходная" пастанова: „дваццацігадовы юбілей «Нашай Долі» адзначыць наступным чынам: 1) змясціць у газетах «Савецкая Беларусь», «Октябрь», «Звезда», «Беларуская вёска» рэпрынтныя ўзнаўленні тыднёвіка «Наша Ніва» і артыкулы да тэмы юбілею; 2) падрыхтаваць выступы з дакладамі ў адукацыйных і выдавецкіх установах; 3) правесці ўрачыстае паседжанне ў Інбелкульце; 4) зарганізаваць у Дзяржаўнай бібліятэцы выставу на тэму «20 гадоў беларускай перыядычнай прэсы»; 5) тав. Адамовічу даручаецца ажыццяўляць палітычнае кіраўніцтва ў ходзе мерапрыемстваў". „Дырэктывы да святкаванняў", што выдаваліся арганізатарам і прапагандыстам, на тле пазнейшага палітычнага трактавання мінуўшчыны выглядаюць параўнальна памяркоўнымі: „Наша Доля" — „першая газета на беларускай мове", маўляў, „звярталася да вясковага і гарадскога працоўнага люду"... і „пры гэтым [...] прытрымлівалася лозунгаў народнай асветы, спрыяла рэвалюцыянізацыі сяянства і заклікала прыгнечаных да арганізацыі прафесійных саюзаў і цеснай лучнасці працоўных у горадзе і вёсцы". Далей тут адзначалася: „Газета, без сумневу, павінна быць вызначана як дробнабуржуазная, але ў варунках тагачаснай рэвалюцыйнай эпохі яна мела істотнае значэнне для

культа адносна „варожых настрояў у дачыненні да партыйных указанняў“, якія зыходзілі ад невялікай часткі партыйных таварышаў, прагучала ў 1926 г. у вузкім коле ЦК[121]. Неўзабаве абвінавачванні супраць супрацоўнікаў Інбелкульта і пазнейшай БАН пачалі назапашвацца. У 1929 г. справа дайшла да судовага працэсу ў дачыненні да сяброў Саюза Адраджэння Беларусі, пазней — Саюза Вызвалення Беларусі, якія нібыта нелегальна дзейнічалі ў перыяд з 1921 да 1927 г. Мэтай гэтай „контррэвалюцыйнай арганізацыі беларускіх нацыянал-дэмакратаў“ было, маўляў, знішчэнне Савецкае ўлады праз паўстанне і стварэнне „Беларускае буржуазнае рэспублікі“. Паводле высунутых абвінавачванняў, гэтая групоўка, якая быццам бы ўзнікла ў 1921 г. па-за межамі БССР і цэнтральнымі постацямі якой нібыта былі Я.Ю.Лёсік і С.М.Некрашэвіч, усемагчымымі спосабамі імкнулася аб'яднаць усе замежныя беларускія арганізацыі, а менавіта ў Польшчы, Латвіі і Літве, і дамагчыся ў нямецкага кайзера Вільгельма II „абароны Беларусі ад бальшавікоў“. Нават сябры Навукова-тэрміналагічнай камісіі, што працавала пры Інбелкульце, меліся ўваходзіць у „Саюз Вызвалення Беларусі“. Тэрміналагічная камісія, маўляў, у звязку з гэтым мусіла быць цалкам рэарганізаваная. Выхад часопіса „Адраджэньне“ быў спынены пасля з'яўлення першага нумара „з прычыны контррэвалюцыйных тэндэнцыяў“. Канкрэтна ў дакладзе, пададзеным у ЦК у канцы 20-х ці на пачатку 30-х г., узгадваўся Ластоўскі, які нібыта, з'яўляючыся вядучым супрацоўнікам Інбелкульта, належаў да названай „арганізацыі“. Далейшы аналіз дазваляе ўбачыць, што Інстытут беларускай культуры ўспрымаўся як контррэвалюцыйны цэнтр[122]. Больш за 20 супрацоўнікаў Акадэміі (і даўнейшага Інбелкульта) былі заарыштаваныя ў звязку з вышэйназваным працэсам.

Унікальным у параўнанні з аналагічнымі адукацыйна-навуковымі ўстановамі ўсяго Савецкага Саюзу выглядае нацыянальны склад Інбелкульта. У перапрацаваным Статуце ўстановы, зацверджаным 12 лютага 1926 г., за мэту яе дзейнасці вызначалася „даследаванне беларускай, габрэйскай і польскай культуры“. Гэты вектар як у арганізацыйным, гэтак і ў змястоўным плане заставаўся нязменным цягам усяго часу існавання Інбелкульта, хоць навукоўцы-габрэі ўжо на раннім этапе чулі на свой адрас папрокі ў бундызме. Побач з рознымі галінамі беларусазнаўчых даследаванняў існавалі польскі і габрэйскі сектары, якія рэалізоўвалі ў значнай ступені самастойныя даследніцкія задачы. Польскі сектар з 1927 г. узначальваў палітычны функцыянер і аўтар гістарычных публікацыяў С.Л.Гельтман, які яшчэ да 1917 г. належаў да польскага сацыялістычнага руху. З гледзішча ўздзеяння партыі на навуковую палітыку ягоная справа ўяўляе сабою прыклад таго, што раз-пораз нават прынятыя рашэнні маглі скасоўвацца альбо змяняцца. Гэтак на паседжанні Бюро ЦК 2 сакавіка 1928 г. было

рэвалюцыйнага руху ў вёсцы“. Параўн. па гэтым пытанні: дырэктывы да „адзначэння 20-й гадавіны з дня з'яўлення першай беларускай газеты „Наша Доля“, гл.: НАРБ, ф.3, воп.4, спр.15, арк.151. [Зваротны пераклад з нямецкай мовы. — *Заўвага перакладчыка*.].

121 НАРБ, ф.4, воп.7, спр.276, арк.53—60: „Высновы па дакладу па нацпытаньні ў БССР на кастр. 1926 г. Пленуме ЦК КП(б)Б“, у гэтым выпадку арк.56.

122 Рашэнне па асуджэнні Прышчэпава, Баліцкага, Адамовіча, Ільючонка гл.: НАРБ, ф.28, спр.14, арк.1—57.

дэзавуяванае яго пакаранне за антыпартыйныя паводзіны. Да палітычнага бюро ў сувязі з гэтым мелася паступіць просьба засведчыць „неправамернасць абвінавачвання таварыша Г[ельтмана — **Р.Л.**] у антыпартыйнай і апазіцыйнай дзейнасці" і перагледзець пытанне адносна публікацыі ягонай кнігі „Роля польскіх масаў у рэвалюцыйным руху"[123]. Габрэйская гістарыяграфія з моманту стварэння яе даследніцкага цэнтра пры Інбелкульце, а пасля пры Акадэміі навук таксама добра адчувала на сабе наглядчыцкі абавязак партыі. Тое, на што доўгі час рабіліся намёкі, у пачатку 30-х г. было названа сваім імем. У сваім франтальным наступе на гістарыяграфію ў 1933 г. Жароўскі заняўся рознымі гістарычнымі працамі габрэйскіх даследчыкаў. Гэтак, ён закідаў Чарняўскаму, аўтару напісанага з нагоды пятнаццацігадовага юбілею Кастрычніцкай рэвалюцыі артыкула пад назвай „Кастрычніцкая рэвалюцыя і распад дробнабуржуазных габрэйскіх партыяў", „рэакцыйна-бундысцкую ідэалізацыю Бунда". Паводле Жароўскага, Чарняўскі меўся праводзіць „крытыку дробнабуржуазных партыяў з гледзішча Бунда і, па сутнасці, „абвясціў перамогу апошняга над іншымі партыямі". Можна толькі здагадвацца, у якой ступені на гэты момант часу ў колах членаў партыі дамінавалі антысеміцкія настроі. Дакладна вядома тое, што кожны раз у тых месцах, дзе Жароўскі цытаваў пасажы аўтара пра „габрэйскую душу", „габрэйскі сацыялістычны светапогляд" альбо „габрэйскую гордасць", у пратаколе адзначаныя „смех і ажыўленне". Публічнай крытыцы была паддадзеная таксама Акадэмія навук, на якой, маўляў, ляжыць віна за публікацыю тых прац, што папракаліся ў „фальшывай і варожай ацэнцы пытання рабочага руху і абвяшчэнні сусветнага габрэйскага руху"[124].

Абодва выпадкі паказваюць, што ані польская, ані габрэйская самастойныя секцыі не былі прыстанішчамі вольных даследчыкаў і не маглі выйсці з-пад вока партыйнага кантролю. Да гэтага дадавалася яшчэ гэткая акалічнасць, што ў канцы 20-х г. нацыянальная прыналежнасць навукоўца, сярод іншага, уплывала на яго прафесійную будучыню. Падобныя працэсы маглі таксама сведчыць пра філалагічны ўзровень Інбелкульта, у якім у 1928 г. працавалі тры ўласныя кафедры: сучаснай беларускай мовы, беларускай літаратуры і гісторыі беларускай мовы.

У камісію, заснаваную дзеля ажыццяўлення пераўтварэння Інбелкульта ў акадэмію, разам з Баліцкім, Некрашэвічам і Аршанскім, уваходзіў таксама Ігнатоўскі. Патаемная праца гэтага органа кіравалася і кантралявалася партыяй. Старшыняваць у камісіі, як гэта вынікае з сакрэтнага пратакола ЦК, было даручана сакратару ЦВК БССР А.Хацкевічу[125]. Рэарганізацыя мелася быць скончаная

[123] Пра разгляд справы Гельтмана гл. пратакол паседжання Бюро ЦК (2.03.1928): НАРБ, ф.4, воп.3, спр.22, арк.601.

[124] НАРБ, ф.4, воп.20, спр.96, арк.57—88: „Стенограммы V-го объединенного пленума ЦК и ЦКК КП(б)Б XIV созыва" (1933), у гэтым выпадку арк. 68—71.

[125] НАРБ, ф.15, воп.28, спр.22, арк.63: „Пасяджэньне ўрадавай камісіі па рэарганізацыі Інбелкульта ў Беларускую Акадэмію Навук, (5.11.1928), Менск" (строга сакрэтна). Пра першага кіраўніка Інбелкульта [Сцяпана Некрашэвіча — *Заўвага перакладчыка*] і пераслед „нацдэмаў" параўн.: Іофе Эмануіл. Першы старшыня Інбелкульта // Спадчына. 1995. № 6. С.54—78. Гл, акрамя таго, калектыўна-біяграфічныя нататкі: Клепікаў Мікалай. „Вылучэнцы" на ніве культуры // БМ. 1995. № 5. С.26—28, а таксама: Платонаў Расціслаў. „Тых, хто хістаецца, паставіць на калені". Ля вытокаў трагедыі нацыянальнай інтэлігенцыі // БМ. 1995. № 1. С.3—6.

да 1 студзеня 1929 г. Гэта сведчыць і пра тое, што ўжо працяглы перыяд часу, а дакладна з кастрычніка 1924 г., у радзе беларускіх народных камісараў дыскуталася пытанне пра стварэнне паўнавартаснай Акадэміі навук. Кароткая станоўчая ацэнка, якая была дадзеная Інбелкульту напрыканцы яго існавання, насамрэч адпавядала рэчаіснасці: ён напраўду „мабілізаваў найлепшыя навуковыя сілы Беларусі і выканаў значную працу ў падрыхтоўцы кадраў маладых навукоўцаў“[126]. Гісторыкам на чале з Ігнатоўскім і Пічэтам, натуральна, адводзілася асаблівая роля, якую апошні здолеў пацвердзіць і за мяжой.

На Берлінскім тыдні гісторыкаў 1928 г., арганізаваным Нямецкім Таварыствам вывучэння Ўсходняй Еўропы, Пічэта рэпрэзентаваў Інбелкульт і беларускую гістарычную навуку. Прыкметным фактам было тое, што сярод запрошаных прафесараў гісторыі былі чатыры знакамітыя гісторыкі, якія альбо — як у выпадку з Платонавым, Любаўскім і Пічэтам — ужо засведчылі сябе як „буржуазныя“ навукоўцы дасавецкага часу, альбо — як украінскі гісторык М.І.Яворскі — нягледзячы на сваю ідэалагічную адданасць, у хуткім часе павінны былі трапіць у няміласць. Ота Гёцш (*Hoetzsch*), з ініцыятывы якога сустрэча была зарганізаваная, настаяў на ўдзеле немарксісцкіх гісторыкаў. У той час як кіраўнік дэлегацыі Пакроўскі зрабіў спробу давесці класавы характар гістарычнага развіцця, Пічэта, рэктар БДУ, выступіў з дакладам пра „Аграрныя рэформы на ўсходніх тэрыторыях Літоўска-Беларускай дзяржавы ў другой палове XVI — пачатку XVII стагоддзя“, які, як выказаўся сам Гёцш, знаходзіўся ў тых „навуковых каардынатах, што адпавядаюць нашым, адпавядаюць маім“[127]. Беларуская гістарыяграфія, дзякуючы ўдзелу Пічэты ў Берлінскай канферэнцыі ў ліпені і ў Кангрэсе гісторыкаў у Осла ў жніўні 1928 г., упершыню прымусіла звярнуць на сябе ўвагу не толькі на міжнародным, але і на ўнутрысавецкім узроўні. Перадумовы гэтага былі папярэдне створаныя арганізацыйнымі структурамі Інбелкульта.

Інбелкульт працяглы час меў гэткую аўтаномію, якой не пашчасціла мець аніводнай установе маладой БССР. Шмат хто з адказных функцыянераў апарату ЦК і ўрада не ведалі, як абыходзіцца ані з назвай, ані з профілем дзейнасці Інбелкульта. Таму зусім не было дзіўным, што на XIII партыйнай канферэнцыі

[126] Пастанова Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта і Савета Народных Камісараў Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі аб рэарганізацыі Інстытута Беларускае Культуры ў Беларускую Акадэмію Навук // Наш Край. 1928. № 10. С.3—4.

[127] Hoetzsch, Otto (рэд.). Aus der historischen Wissenschaft der Sovet-Union. Vorträge ihrer Vertreter während der „Russischen Historikerwoche“, veranstaltet in Berlin 1928 von der Deutschen Gesellschaft zum Studium Osteuropas. Berlin, 1929. C.X. Пра перадгісторыю званай канферэнцыі і больш падрабязна пра дзейнасць вышэйзгаданага Таварыства параўн.: Mick, Christoph. Sowjetische Propaganda, Fünfjahrplan und deutsche Rußlandpolitik 1928 1932. Stuttgart, 1995 [Quellen und Studien zur Geschichte des Östlichen Europas, Bd.42]. Раней на нямецкай мове апублікавана: Behrendt, L.-D. Das erste Auftreten der sowjetischen Geschichtswissenschaft in der internationalen Arena. Die sowjetische Historikerwoche 1928 in Berlin // Jahrbuch für Geschichte 17 (1977). С.237—265. Паказальна тое, што артыкул Пічэты толькі ў 1961 г. быў надрукаваны па-расійску. Упершыню ён апублікаваны ў: *Яго ж.* Die Agrarreformen in den östlichen Bezirken des Litauisch-Weißrussischen Staates in der zweiten Hälfte des 16. Und zu Beginn des 17.Jahrhunderts // Hoetzsch, Otto (рэд.). Aus der historischen Wissenschaft der Sovet-Union... (op. cit.). С.153—188.

КП(б)Б у 1924 г. усплыло пытанне: „Што за штука Інбелкульт?". Ужо тады партыйнае кіраўніцтва лічыла, што напачатку сціпла, з фінансавых прычын, забяспечаны Інбелкульт усё ж такі быў „пэўнага кшталту Акадэміяй навук" і ўяўляў сабою зусім „паспяховы прамежкавы развязак"[128]. Гэты прамежкавы развязак пратрываў, аднак, амаль цэлыя восем гадоў.

## 2.3. Беларуская Акадэмія навук

Роспуск Інбелкульта, адкрыццё з ініцыятывы ЦК на пераломе 1928/29 г. Беларускай Акадэміі навук і адначасовае прызначэнне 22 штатных акадэмікаў у рэтраспектыве робіць праблематычнай правамернасць ужывання тэрміна „рэарганізацыя". Магчыма, партыя і ўрад чакалі ад Акадэміі, цалкам упісанай у сістэму падсавецкіх навуковых установаў, большай ступені лаяльнасці, чым калі яна была засведчаная з боку супрацоўнікаў Інбелкульта. Прытым Інбелкульт да таго часу заваяваў навуковую рэпутацыю, якая стварала трывалы падмурак для новай структуры. Нельга было не заўважыць тэндэнцыі да уніфікацыі адукацыйных сістэм саюзных рэспублік; у гэтым акадэміям навук надавалася асаблівае значэнне. З заснаваннем Акадэміі навук у Менску БССР канчаткова ўваходзіла ў лік трох перадавых з навуковага гледзішча падсавецкіх рэспублік. Насамрэч, неўзабаве БАН здабыла сабе вядомасць, якая сягала па-за межы Савецкай дзяржавы. Ганаровымі акадэмікамі выбіраліся таксама замежныя грамадзяне — як гэта мела месца ў траўні 1933 г. з Альбертам Эйнштэйнам, што, безумоўна, адпавядала яго рангу фізіка, а таксама сябра Міжнароднага Антыфашысцкага камітэта[129]. Тое, што гэтая падзея адбылася ў той час, калі паход супраць беларускай навуковай інтэлігенцыі пацягнуў ужо за сабою шматлікія ахвяры, у Заходняй Еўропе наўрад ці ведалі.

Пераўтварэнне Інбелкульта ў акадэмію, якую В.Г.Кнорын, сакратар ЦК КП(б)Б у 1927—1928 г., адкрыў незвычайным у гэткіх варунках воклічам „vivat academia!" [sic!], было ўхвалена і ў Маскве. У размове з беларускім савецкім пісьменнікам і тагачасным студэнтам факультэта чырвонай прафесуры Маскоўскай Камуністычнай акадэміі Паўлюком Шукайлам у снежні 1928 г. акадэмік Пакроўскі таксама вітаў гэты крок — перадусім таму, што тым самым „можна прадэманстраваць пыхліваму польскаму ўраду, што яму не варта даручаць пісаць кнігі па гісторыі Беларусі польскім аўтарам і што тут маецца высокага ўзроўню навука". „У Польшчы думаюць, што ў беларусаў не хапае інтэлекту, каб напісаць сваю ўласную гісторыю". Паводле Пакроўскага, і так выглядае вельмі кепска, што школьнікі ў заходняй частцы гэтага краю мусяць вывучаць сваю гісторыю па „польскіх" падручніках. Гэты гісторык лічыў „неабходным, каб беларусы маглі даследаваць сваю ўласную культуру". Гэтая культура, паводле ягоных словаў, заслугоўвае таго, каб яе даследаванне вялося на навуковым падмурку. Адносна „каранізацыі" Пакроўскі, які, як і ўкраінскі партыйны сакратар М.А.Скрыпнік, павінен быў зрабіцца членам БАН, выказаўся нават у абнадзейвальным духу:

[128] Параўн. дыскусійны выступ дэлегата Асаткіна, змешчаны ў: XIII конференция Коммунистической партии (большевиков) Белоруссии: Стенографический отчет. Менск, 1924. С.53.

[129] Паведамленне БАН на адрас ЦК КП(б)Б, гл.: НАРБ, ф.4, воп.21, спр.396, арк.32.

„У кожным разе нам не патрэбная штучная русіфікацыя Беларусі. Наадварот, чым мацней будзе развівацца «местная» культура, тым мацнейшай будзе культура «общая». Калі гаворыцца: «Пралетарыі ўсіх краін, злучайцеся», гэта не значыць: пралетарыі ўсіх краін, гаварыце на адной мове. [...] Ва універсітэце Осла толькі адзін прафесар гаворыць па-нарвежску, усе астатнія чытаюць лекцыі па-дацку; і гэткія пісьменнікі, як Ібсен, таксама друкуюцца па-дацку“[130].

Гістарычная навука ў БАН мела параўнальна добрае забеспячэнне. Паводле стану на 1 студзеня 1929 г. „гістарычны клас“ складаўся са шматлікіх кафедраў (усеагульнай гісторыі, гісторыі Беларусі, гісторыі права Беларусі, археалогіі, этнаграфіі, гістарычнай геаграфіі) і камісіяў (па вывучэнні гарадоў, археаграфіі і гісторыі асветы). У тым самым годзе, паводле пастановы Прэзідыума Акадэміі навук за 15 кастрычніка 1929 г. быў створаны Інстытут гістарычных навук БАН (пазней Інстытут гісторыі — ІГ БАН). Яго першым дырэктарам стаў Ігнатоўскі[131]. Беларускі акадэмічны Інстытут гістарычных навук быў першым гэткага кшталту інстытутам ва ўсім Савецкім Саюзе. Толькі ў 1936 г., да прыкладу, у АН СССР у Маскве ці ў АН УССР у Кіеве ўзніклі Інстытуты гісторыі. Што да астатніх акадэміяў падсавецкіх правінцыяў, дык там гэткія альбо падобныя да гэткіх установы былі заснаваныя ўжо ў пасляваенны час. І ўсё-такі ІГ БАН здолеў атрымаць зусім мала капіталу з факта свайго апераджальнага ўзнікнення[132].

Ужо ў 1929 г. у Беларускай Акадэміі навук была створаная кафедра марксізму-ленінізму, якую напачатку ўзначальваў габрэйскі акадэмік С.Вальфсон, які пазней таксама мусіў трапіць пад пераслед. Ад стварэння ў межах названай кафедры камісіяў дыялектычнага матэрыялізму, ленінізму і гістарычнага матэрыялізму партыйныя і саўнаркамаўскія дзеячы ў галіне навукі і асветы чакалі росту ідэалагічнай добранадзейнасці новага пакалення навукоўцаў. Нарэшце, ніхто не рабіў таямніцы з таго, што на момант заснавання Акадэміі „дыялектычны матэрыялізм ужо здолеў значна ўмацаваць свае пазіцыі, але яшчэ не былі распрацаваныя найважнейшыя пытанні беларускай гісторыі і не існавала агуль-

[130] НАРБ, ф.15, воп.28, спр.22, арк.238—248: „Беседа белорусского писателя Паўлюка Шукайло с т.М.Н.Покровским в Коммунистической Академии при ЦИК СССР (29.12.1928 г.), у гэтым выпадку арк.238 і наст. Цытату гл.: арк.247. Цытата з Кнорына: Кнорин В. Белорусская Академия Наук // Рабочий, 14.10.1928. С.1.

[131] Пра гісторыю Інстытута гісторыі Акадэміі цяпер можна прачытаць у: Костюк М.П. (рэд.). Институт истории Академии наук Беларуси: Краткий очерк. Мінск, 1992, а таксама ў адпаведных раздзелах працаў, прысвечаных гісторыі Акадэміі навук у цэлым; апошнім часам: Платонов В.П. (рэд.). Академия наук Белорусской ССР. Краткий очерк. Мінск, 1989. С.137 і наст. Уводзіны ў першы перыяд гісторыі Акадэміі ў цэлым і цікавыя характарыстыкі гісторыкаў гл. у: Niamiha, H. The Belorussian Academy of Sciences (October 13, 1928—July 7, 1936) // BR 6 (1958). С.5—29.

[132] Гады заснавання інстытутаў гісторыі альбо камбінаваных установаў гэткага кшталту ў іншых падсавецкіх рэспубліках: у АН Азербайджанскай ССР — 1939, у філіі АН ССР ва Ўзбекістане — 1940, у АН Армянскай ССР — 1943 г., у АН Грузінскай ССР — 1943, у АН Казахскай ССР — 1945, у АН Таджыцкай ССР — 1951, у АН Туркменскай ССР — 1951, у АН Кіргізскай ССР — 1954 г. У прыбалтыйскіх падсавецкіх рэспубліках гістарычныя навуковыя інстытуты былі таксама створаныя толькі на пачатку 50-х г. Параўн. па гэтым пытанні: Барсенков А.С. Советская историческая наука в послевоенные годы: 1945—1955. Москва, 1988. С.27 і наст.

напрызнанай марксісцкай версіі гісторыі беларускага, габрэйскага ды іншых народаў". Таму і для аўтара гэтых словаў В.Кнорына не было ніякага сумневу ў тым, што „распрацоўка і прымяненне метаду марксісцкай дыялектыкі ва ўсіх без вынятку сферах ведаў" мелася зрабіцца „адной з падставовых задач" БАН[133].

У адрозненне, да прыкладу, ад тых самых Масквы і Ленінграда, у складзе менскіх кафедраў было звычайна не больш як па адным прафесары ці дацэнце, бо агульная колькасць супрацоўнікаў Інстытута гістарычных навук на момант яго заснавання складала толькі 9 чалавек. Пяццю гадамі пазней (1935 г.) колькасць супрацоўнікаў дасягнула 20, а яшчэ праз 6 гадоў — 22. Адначасова гісторыкі сярод тых, хто працаваў тады ў Акадэміі, належалі да аб'ектаў самага пільнага „назірання" — гэтак што Інстытут цягам 30-х г. страціў больш за 20 сваіх супрацоўнікаў. Адпаведным чынам, зменшылася колькасць галін даследаванняў. Калі ў 1936 г. яшчэ існавалі секцыі „гісторыі народаў СССР і БССР", „Заходняй Беларусі", „гісторыі Захаду", а таксама археалогіі і этнаграфіі, дык у 1941 г. засталося толькі сціплае трыо: секцыі „гісторыі народаў СССР і БССР", археалогіі ды этнаграфіі і фальклору[134]. З пачатку 30-х г. да гэтага дадалося істотнае звужэнне перспектываў даследавання. З гэтага часу ў загадным парадку галоўнымі сферамі зацікаўленасці акадэмічных гісторыкаў былі вызначаныя гісторыя рэвалюцыйнага руху ды класавай барацьбы, гісторыя пралетарыяту і сялянства, сацыяльна-эканамічная гісторыя, а таксама гісторыя ранняга Савецкага Саюзу. У дадатак, у 1932 г. быў утвораны сакратарыят па пытаннях гісторыі прадпрыемстваў, заводаў і фабрык БССР. Нягледзячы на тое, што ў 1929—1941 г. супрацоўнікамі Інстытута гісторыі былі апублікаваныя 32 манаграфіі, за гэты перыяд часу гістарычная навука панесла асабовыя і якасныя страты. Хоць палітыка партыі ў галіне навукі канцэнтравала ўвагу на стварэнні „прагрэсіўнай" гісторыі, існавала зацікаўленасць і ў „аб'ектыўных" сінтэтычных выкладах беларускай гісторыі. Апрацоўку на марксісцкім падмурку, якая змусіла б канчаткова забыцца на „Кароткі нарыс гісторыі Беларусі" Ігнатоўскага, як найхутчэй патрабавалі для вышэйшых навучальных установаў — універсітэта і педагагічных інстытутаў БССР. Запланаваны да выхаду ў дзвюх частках „Нарыс гісторыі Беларусі" Васіля Шчарбакова меўся запоўніць гэты прагал. Аднак з'яўленне першага тома сталася нагодаю для контраверсійных дыскусіяў. У справаздачы пра дзейнасць БАН у 1934 г. на гэты конт гаварылася досыць цьмяна:

> „Нарада канстатавала, што «Нарыс» — першая работа, якая дае асвятленне пытанняў гісторыі дакласавага грамадства і феадалізма на Беларусі на аснове Маркса-Ленінскага вучэння аб грамадска-эканамічных фармацыях. Даволі грунтоўна распрацаван раздзел аб сялянскіх войнах XVII ст., з прыцягненнем вельмі каштоўнага, зусім новага матэрыяла па сялянскаму руху XVIII ст. [...] У другім выданні, патрэбнасць якога адчуваецца ўжо зараз, аўтар павінен будзе ўнесці дапаўненні і выпраўленні ў адпаведнасці з майскім рашэннем ЦК ВКП(б) па гісторыі"[135].

[133] Кнорин В. Белорусская Академия Наук... (op. cit.).

[134] Пра інстытуцыянальную гісторыю беларускай археалогіі ў міжваенным часе гл.: Вяргей Валянціна. Археалагічная навука ў Беларускай ССР, 1919—1941 г. Мінск, 1992.

[135] Над чым працавалі Інстытуты БАН у 1934 г. // Запіскі Беларускай Акадэміі Навук. 1935. Кн.4. С.182.

Акрамя жадання мець сінтэтычную працу па беларускай гісторыі партыя мела зацікаўленасць у падборы гістарычных крыніц, якія б дапаўнялі і ілюстравалі тэкст. І тут існавала пільная патрэба ў выкананні поўнай працы, бо адзіны да тае пары зборнік тэкстаў па беларускай гісторыі быў выдадзены яшчэ ў папярэднім стагоддзі і аніяк не мог адпавядаць вымогам новай гістарычнай перспектывы. У 1934 г. паведамлялася ўжо, што да друку быў падрыхтаваны першы ёмісты том „Гісторыі Беларусі ў дакументах і матэрыялах". Але выхад яго прымусіў сябе чакаць яшчэ два наступныя гады[136].

Паводле стану на 1 студзеня 1932 г. Беларуская Акадэмія навук мела 12 інстытутаў, цяпер ужо чатыры нацыянальныя асобныя секцыі (да ранейшых дадалася расійская). Акрамя таго, сюды былі далучаныя секцыя Заходняй Беларусі, сектары масавай работы і краязнаўства, а таксама інстытут аспірантуры. 138 штатных адзінак размяркоўваліся наступным чынам: 22 акадэмікі, 60 „навуковых спецыялістаў" і 56 навуковых супрацоўнікаў. Членамі партыі былі 58 супрацоўнікаў — гэта значыць, усё яшчэ менш за палову (42%). Згодна з пададзенымі звесткамі адносна сацыяльнага паходжання, сярод супрацоўнікаў усё яшчэ пераважала сялянскае асяроддзе (37%), наступнае месца займалі службоўцы (27%), рабочыя (13%), рамеснікі разам з „кустарнікамі" (9%). З гледзішча нацыянальнай прыналежнасці таксама за апошнія 10 гадоў мала што змянілася: беларусамі сябе лічылі больш за палову супрацоўнікаў (53%), габрэямі — 26%, расійцамі — 11%, палякамі — 4%, а латышамі, літоўцамі і немцамі — па 2%. Пра эфектыўнасць працы партыі па выхаванні падросту навукоўцаў сведчыў той факт, што сярод 273 аспірантаў 1932 г. дзве траціны (66,3%) уступілі ў яе шэрагі, а яшчэ 15% сталі камсамольцамі. Нават калі браць пад увагу, што гэтыя афіцыйныя звесткі сям-там былі падпраўленыя ў лепшы бок, партыю гэткае становішча ўсё яшчэ канчаткова не задавальняла[137].

Партыйная кадравая палітыка ў галіне навукі захоўвала ў Акадэміі сваё дамінаванне. Калі напачатку наўпрост выказваліся настойлівыя патрабаванні вывесці новазаснаваную навуковую ўстанову са сферы кампетэнцыі Наркамасьветы і падпарадкаваць яе непасрэдна Савету народных камісараў, дык ужо ў сакавіку 1929 г., праз няпоўныя два месяцы пасля загадзя спланаванага пераўтварэння Інбелкульта ў Акадэмію навук, выявіліся першыя персанальна-кадравыя наступствы: месца Баліцкага на пасадзе народнага камісара асветы і члена Прэзідыума БАН заняў новы „акадэмік", прыступкі навуковай кар'еры якога ніколі не вялі праз сцены вышэйшай школы, а былі звязаныя выключна з партыйнымі пасадамі [тут, відавочна, маецца на ўвазе А.Платун, чэкіст і партыйны дзеяч, які атрымаў званне акадэміка БАН у 1931 г. — *Заўвага перакладчыка*]. Ластоўскаму таксама не ўдалося ўтрымацца на пасадзе сакратара Акадэміі. Была пастаўленая задача стварыць палітычна стабільныя дачыненні. Гэтай мэце служыла таксама першая ў гісторыі беларускай інтэлігенцыі хваля арыштаў у звязку з вышэйзгаданай справай „Саюза вызвалення Беларусі" (СВБ). У летняй паўзе 1930 г. ОГПУ заарыштавала правадзейных членаў і супрацоўнікаў Акадэміі А.Цвікевіча, В.Ластоўскага, А.Смоліча, І.Краскоўскага, Я.Лёсіка, С.Некрашэвіча, прафесара Б.Эпімаха-Шыпілу, Г.Га-

[136] Інфармацыя пра асобныя публікацыі Інстытута да 1934 змешчаная ў: Лебовнч М. Работа института Белорусской Академии наук за последние три года // ИМ. 1936. № 2 (54). С.176—177.

[137] Звесткі падаюцца паводле: Савецкая краіна. 1932. №10. С.9.

рэцкага, прафесара У.Пічэту, А.Баліцкага, М.Байкова, С.Дубінскага, Я.Дылу, а таксама іншых пісьменнікаў, педагогаў, краязнаўцаў, а нават і студэнтаў[138].

Пічэта, прэзентацыйная постаць беларускай гістарычнай навукі, праходзіў у дакументах „ОГПУ" ў якасці „сувязнога" паміж „СВБ" і прыдуманым у Маскве „Саюзам вызвалення Расіі", на чале якога быццам бы стаяў гісторык Платонаў. Паводле матэрыялаў гэтай справы, камуністы Ігнатоўскі і Жылуновіч, акрамя таго, абвінавачваліся яшчэ і ў апартунізме. Гэтым самым іх дні ўжо былі злічаныя. Пра тое, што гэтая акцыя планавалася ў цэнтры, не ў апошнюю чаргу сведчыць і той факт, што ў той самы час, з 9 сакавіка да 19 красавіка 1930 г., ва Ўкраіне быў інсцэнізаваны працэс супраць „Саюза вызвалення Ўкраіны " („Спілка визволення України", „СВУ"), з якога, паводле думкі сучасных даследчыкаў, пачаўся другі этап „контр-украінізацыі". Тут таксама да ліку заарыштаваных належалі 2 акадэмікі, 15 прафесараў ВНУ, два студэнты, а таксама настаўнікі, рэдактары, журналісты, бібліятэчныя работнікі, 15 з іх належалі да Акадэміі навук; акрамя таго, бальшыня з 45 абвінавачаных калісьці былі сябрамі розных партыяў, а таксама ўваходзілі ва Ўкраінскую Цэнтральную Раду[139].

Ступень палітычнай лаяльнасці беларускай гістарыяграфіі на пачатку 30-х г. ацэньвалася адпаведнымі партыйнымі структурамі як „скандальная". Увосень 1930 г. у часопісе „Историк-марксист" М.Югаў выказаўся наконт „стану і задач гістарычнага фронту Беларусі". Аўтар, які з пасады кіраўніка кафедры гісторыі дарэвалюцыйнай Расіі БДУ быў пераведзены ў Гістпарт, дайшоў да высновы, што праблемы падрыхтоўкі марксісцкіх кадраў, процідзеяння і змагання супраць дамінавальнага нацыянал-камуністычнага і дробнабуржуазнага бачання гісторыі ў Беларусі насамрэч непараўнальна больш складаныя, чым, да прыкладу, у Савецкай Расіі. У той час, як там, маўляў, прыхільнікі буржуазнай гістарыяграфіі былі выцесненыя са сваіх пазіцыяў, а буржуазныя схемы развіцця гістарычных працэсаў зрэвізаваныя, вялікія перыяды беларускай гісторыі па-ранейшаму мелі апісанні выключна ў межах старых канцэпцыяў і, тым самым, служылі „прыдатным інструментам у руках тых нацыяналістычных груповак, ... што ў будучыні маюць спадзеў адыгрываць самастойную палітычную ролю"[140].

[138] Няміга Г. Інстытут беларускай культуры... (op. cit.). С.60 і наст. Штодзённая газета „Савецкая Беларусь" апублікавала поўны тэкст адпаведнай пастановы, гл.: Пастанова СНК БССР // Савецкая Беларусь, 8.12.1930. С.1. Тэкст гучыць наступным чынам: „...У сувязі з выяўленьнем шкоднай контррэвалюцыйнай дзейнасьці групы акадэмікаў БАН, дзейнасьць якіх была ськівавана супраць дыктатуры пралетарыяту і на зрыў пасьпяховага сацыялістычнага будаўніцтва, СНК БССР пастанаўляе выключыць із складу БАН акадэмікаў В.Ластоўскага, У.Пічэту, Я.Лёсіка, С.Некрашэвіча, Гаўрылу Гарэцкага, Аляксандру Дубаха і адабраць у іх, як у ворагаў пралетарскай дыктатуры, тытул акадэмікаў".

[139] Пра „СВУ", „украінскі нацыянал-фашызм", „групу акадэміка Грушэўскага", чысткі ва Ўкраінскай Акадэміі навук і палітыку „антыўкраінізацыі" гл.: Матвеєва Л. ВУАН: віхи історії // Вісник АН України. 1993. № 7. С.28—36; Шаповал Юрій. ГПУ—НКВД як інструмент антіукраїнізації в 20-ті—30-ті роки // Український історик. 1995. №1—4. С.57—72. Параўн. таксама: Mace, James E. Communism and the Dilemmas of National Liberation... (op. cit.). С.272 і наст.

[140] Югов М. Положение и задачи исторического фронта в Белоруссии // ИМ. 1930. №17. С.41—50, у гэтым выпадку с.41.

Акрамя таго, выказваліся нараканні з тае прычыны, што на той момант не існавала ніводнага марксісцкага падручніка па гісторыі Беларусі і што на семінарскіх занятках у менскім універсітэце ды іншых ВНУ па-ранейшаму вывучэнне гісторыі адбываецца паводле працаў Любаўскага, Доўнара-Запольскага ці паасобных буржуазных польскіх гісторыкаў: „Навуковы кантроль за выкладчыкамі гістарычных дысцыплін ва ўніверсітэце існуе толькі фармальна". Намякаючы на Ігнатоўскага, які на момант выхаду артыкула ўжо застрэліўся, Югаў зазначаў, што нават у працах камуністаў усё яшчэ знаходзілі месца факты „буржуазна-нацыяналістычнай ідэалізацыі гэтак званага «залатога веку» Беларусі ў XV і XVI стагоддзях". Іншыя аўтары ўсё яшчэ меліся, паводле Югава, бараніць „буржуазна-ліберальны нацыяналізм" тыднёвіка „Наша Ніва" і дэфінітыўна выказвацца „за індывідуалізацыю сельскай гаспадаркі, за хутарызацыю краіны", прычым у асобных выказваннях нават, маўляў, даходзіла да падтрымкі сталыпінскіх рэформаў[141].

Трэба сказаць, што палітычную пазіцыю супрацоўнікаў ІГ БАН Югаў у цэлым зразумеў слушна: у 1930 г. сярод прафесараў і дацэнтаў ужо зусім не было членаў КП(б)Б. У іншых акадэмічных інстытутах сітуацыя не выглядала іначай[142]. Паводле нататкі ЦК 1928 г., падрыхтаванай у звязку з маючым адбыцца пераўтварэннем Інбелкульта ў Акадэмію[143], толькі трое з акадэмікаў былі партыйцамі, дый тое ўсе яны ўжо тады былі аб'ектамі „пільнага назірання з прычыны сваіх шкодных для партыі паводзін". Таму зусім не было дзіўна, што ў дачыненні да большыні акадэмікаў існаваў „кампрамат", які складаўся з падазрэнняў, назіранняў альбо даносаў і ўвесь час папаўняўся. Развязанне „кадравага пытання" — як відаць са звестак табл.17 — і на пачатку 30-х г. заставалася найважнейшай задачай Акадэміі. Нягледзячы, аднак, на ўсе ідэалагічныя меркаванні, беларуская навука пакуль што заставалася моцна залежнай ад „старых кадраў":

> „Барацьба за новыя кадры ні ў якім разе не азначае, што мы любой цаной мусім пазбаўляцца ад «старых» кадраў. Гэткія настроі, праз якія робяцца спробы ўзвесці паклёп на ўсю нашу старую інтэлігенцыю як варожую, павінны быць выветраныя. Намнога больш правільна было б зазначыць, што з часу рэвалюцыі ўтварылася вялікая колькасць кадраў інтэлігенцыі, якая са шчырым сэрцам выступае за сацыялістычнае будаўніцтва, хоць фармальна і застаецца беспартыйнаю"[144].

[141] Тамсама, с.42.

[142] У Акадэміі навук СССР толькі ў сакавіку 1927 г. была заснаваная першая партыйная „ячэйка". У чэрвені 1928 г. тут было ажно 12 членаў і кандыдатаў у члены партыі разам з камсамольцамі сярод агульнае колькасці 1076 супрацоўнікаў; да таго ж, гэтыя дванаццаць асоб былі тэхнічнымі супрацоўнікамі Акадэміі. Да 1929 г. ніводзін з маскоўскіх акадэмікаў не быў партыйным. Параўн.: Tolz, Vera. Russian Academicians and the Revolution. Combining Professionalism and Politics. Houndmills etc., 1997. С.36.

[143] НАРБ, ф.15, воп.28, спр.22, арк.73: „Сьпіс сапраўдных членаў Акадэміі навук (1928 г.)". У чацвёртым слупку табліцы быў улічаны прыкладзены крыху пазней дакумент. Дзеля паўнаты тут у квадратных дужках дададзеныя пазначэнні спецыяльнасці. Дакладнага года стварэння дакумента не ўдалося высветліць адносна дакумента: НАРБ, ф.4, воп.3, спр.41, арк.81—84: „Список Академиков Б.А.Н., с указанием имеющихся на них компрометирующих материалов".

[144] Горын П. Да пытаньня аб бліжэйшых задачах Беларускай Акадэміі Навук // Савецкая краіна. 1931. № 2(2). С.3—6, тут цыт с.6. [Зваротны пераклад з нямецкай мовы. — *Заўвага перакладчыка.*]

| Фамілія | Нацыя-нальнасць | Партый-насць | Пазначэнні „вынікаў партыйных назіранняў“ |
|---|---|---|---|
| 1) Ігнатоўскі У.М. | беларус | КП(б)Б | Нацдэмакрат, былы эсэр, у 1913 г. рэдактар зборніка, прысвечанага юбілею царскага дома Раманавых. „Існуюць чуткі, нібыта ён, як сакратар „Окраинного Союза русского народа“ меў сувязі з „Беларускім брацтвам“. [Гісторык] |
| 2) Матулайціс С.Ю. | літовец | КП(б)Б | [усё выкраслена; гісторык] |
| 3) Міцкевіч К.М. (Якуб Колас) | беларус | беспарт. | Нацдэм, член ЦВК БССР; удзельнічаў у кіраўніцтве руху; удзел у „лістападаўскай арганізацыі“; нядаўна ў адкрытым лісце абвясціў пра сваё адмежаванне ад нацдэмаў, аднак у іншым месцы падкрэсліў, што „вырашана за яго“; [паэт] |
| 4) Жылуновіч З.Ф. | беларус | КП(б)Б | нацдэмакрат; вельмі шчыльныя стасункі з вядучымі членамі арганізацыі; [паэт, публіцыст] |
| 5) Купала [Я.; (Луцэвіч)] І.Д. | беларус | беспарт. | [заўваг няма; паэт] |
| 6) Некрашэвіч, | беларус | беспарт. | [заўваг няма; мовазнаўца] |
| 7) Лёсік Я.Ю. | беларус | беспарт. | [заўваг няма; пісьменнік, мовазнаўца] |
| 8) Гарэцкі Г.І. | беларус | беспарт. | [заўваг няма; геолаг, эканаміст] |
| 9) Ластоўскі В.Ю. | беларус | беспарт. | [заўваг няма; этнолаг, гісторык] |
| 10) Пічэта У.І. | (расіец) | беспарт. | [заўваг няма; гісторык] |
| 11) Афанасьеў Я.М. | расіец | беспарт. | (геолаг) |
| 12) Бліадуха М.Ф. | беларус | беспарт. | (геолаг) |
| 13) Ясінскі А.М. | расіец | беспарт. | Арышт у звязку з удзелам у арганізацыі „Всенародный союз борьбы за освобождение свободной России“; прафесар; [гісторык] |
| 14) Замоцін І.І. | расіец | беспарт. | (філолаг) |
| 15) Грэдзінгер М.В. | немец | беспарт. | (юрыст) |
| 16) Пятровіч І.А. | беларус | беспарт. | „на гэты момант нічога“ |
| 17) Вальфсон С.Я. | габрэй | беспарт. | „былы меншавік; на гэты момант ніякіх сведчанняў“ |
| 18) Шкатэлаў У.В. | расіец | беспарт. | [заўваг няма; хімік] |

**Табл.17: Склад членаў БАН паводле нацыянальнай прыналежнасці і ацэнкі з боку ЦК КП(б)Б (1928 г.). Пазначэнні спецыяльнасцяў у квадратных дужках дададзеныя аўтарам.**

Забеспячэнне аднолькава палітычна настроенага навуковага падросту было на пачатку 30-х г. стрыжнявым пытаннем навуковай палітыкі. Тыя, хто вучыўся ў 20-х г. у ВНУ, насамрэч пазней утварылі аднароднае савецкае пакаленне. Яны ўяўлялі сабою эліту пабудовы і ідэалагічнага ўмацавання сістэмы. Таму аспірантам гуманітарных інстытутаў з боку партыі аддавалася асаблівая ўвага. Клопат рабіўся тым больш навязлівы, чым болей ЦК выказвала сваю незадаволенасць „падрыхтоўкаю кадраў“. Гэткая сітуацыя, прыкладам, існавала ў 1930 г., калі

лаяльнасці інтэлектуалаў істотным чынам залежалі перспектывы далейшага існавання дзяржавы. Яшчэ сёмы з'езд КП(б)Б (сакавік 1923 г.), на якім былі ўдакладненыя праграмныя рашэнні ў дачыненні да палітыкі беларусізацыі, распачаў дыскусію пра інтэлігенцыю. У афіцыйнай публіцыстыцы ўжо ў той час выказваліся сумненні, ці „новая беларуская інтэлігенцыя" ўвогуле здольная на тое, каб выконваць „актыўную ролю ў стварэнні нацыянальнай культуры беларускага рабочага класа і сялянства". Маўляў, у „беларусаў-культурнікаў", выхадцаў з рабочых і сялян, няма адназначнага класавага інтарэсу[95].

Тое, што яшчэ досыць павярхоўна адсочвалася на пачатку „каранізацыі", крыху пазней увайшло ў лік стрыжнявых пытанняў партыйнай палітыкі. Успрыманне „інтэлігенцыі" з боку партыі павінна таксама разглядацца як доказ таго, якой малой была свабода дзеянняў інтэлектуалаў пад час беларусізацыі. Ужо ў 1926 г. на пленуме ЦК у адрас інтэлігенцыі БССР гучалі папрокі ў тым, што яна „крытыкуе дыктатуру пралетарыяту" ды імкнецца да „палітычнага ўраўнавання сялянства з рабочым класам" у сэнсе стварэння сялянскай, а нават і кулацкай улады. Праз гэта, маўляў, вымалёўваецца палітычны спектр інтэлігенцыі, краі якога ўтвараюць групы: малая, „у прынцыпе згодная на супрацоўніцтва", і „апазіцыйная", „нацыянал-шавіністычная". „У галоўным адданыя партыі, але поўныя нацыянальных амбіцыяў" інтэлектуалы, вядома ж, павінны былі таксама разглядацца ў якасці праблемнай групы — гэтак як і „пасіўная інтэлігенцыя", якая мела ўяўляць з сябе — як „палітычнае балота" — не меншую небяспеку. Сфармуляваная ў рэзалюцыі ЦК сустрэчная праграма дзеянняў прадугледжвала — побач са стварэннем „бюро інтэлігенцыі" пры ЦК, меры палітычнай стабілізацыі Інбелкульта, паляпшэння працы сярод прафсаюзаў і павышэння долі членаў партыі ў ВНУ. Акрамя таго, надалей „асаблівая ўвага" павінна была аддавацца краязнаўчым арганізацыям ды літаратурным суполкам[96].

За год перад тым, на патрабаванне Масквы, была створаная камісія, што мелася „адмыслова займацца інтэлігенцыяй і яе грамадска-палітычным выхаваннем". Да яе абавязкаў належала рабіць дакладны аналіз становішча ўнутры ўсіх беларускіх, габрэйскіх і польскіх сегментаў інтэлігенцыі. У якасці канкрэтызацыі раней вызначаных дырэктываў прапаноўвалася зрабіць „дакладную, пры магчымасці пайменную характарыстыку (параўнальна) значных інтэлектуалаў" і даць інфармацыю „пра сучасны стан беспартыйнай інтэлігенцыі, занятай на савецкай альбо іншай грамадскай працы". Перадусім трэба было спраўдзіць, „якая колькасць камуністаў задзейнічаная" ў тым, каб „умацоўваць уплыў і кіраўнічую сілу партыі ў шэрагах інтэлігенцыі, у сферах культуры, школьніцтва, літаратуры"[97]. Імпульсы працы камісіі мусілі надавацца з боку новапаклікагана „бюро інтэлі-

[95] Байкоў М. Пытаньне беларускай культуры і шлях беларускай інтэлігэнцыі // Полымя. 1923. № 5—6. С.96—104.

[96] О работе среди интеллигенции // Резолюции пленума ЦК КП(б)Б 12—15 марта 1926 г. Менск, 1926. С.3—14, 19—24; альбо: Коммунистическая партия Белоруссии в резолюциях и решениях съездов и пленумов ЦК. Т.1. Мінск, 1983. С.314 і наст.

[97] Пратакол паседжання Бюро ЦК (16.01.1925): НАРБ, ф.3, воп.4, спр.12, арк.57. У склад камісіі ўвайшлі (спіс пададзены па-расійску): Зяньковіч, Акулік, Гесэн, Ігнатоўскі, Адамовіч, Ашаровіч, Апанскі, Піляр, Чарот (Кудзелька), Чарвякоў і Ахрамовіч.

чоны сакратар Інстытута В.Карніенка падрыхтаваў на запыт менскага ЦК для ўнутранага карыстання даклад пра навуковыя і палітычныя працэсы ў названай установе. Хоць запыт ЦК быў скіраваны на высвятленне галоўнага зместу навуковай дзейнасці ў Інстытуце гісторыі, гэта не перашкодзіла аўтару зрабіць цэнтральнай тэмай свайго рэферата „развіццё самога Інстытута як навукова-даследчай установы ў звязку з барацьбой супраць беларускага нацыянал-дэмакратызму, расійскага вялікадзяржаўніцкага мыслення, супраць трацкісцка-бундаўскіх элементаў ды іншых адхіленняў". Паводле Карніенкі, з пачаткам контррэвалюцыйнай дзейнасці ўтворанай у 1925 г. пры Інбелкульце Гістарычна-археалагічнай камісіі на чале з Ігнатоўскім, Доўнарам-Запольскім, Пічэтам ды інш., праз выбарачнае вывучэнне старадаўняй гісторыі Беларусі XVI—XIX ст. рэгулярна рабіліся спробы прапагандавання нацыянал-дэмакратызму.

Па-за тым, паводле словаў таго ж аўтара, Інстытут гісторыі з прычыны „мізэрнасці навуковых кадраў" застаўся надта далёкім ад таго, каб зрабіцца „саліднай, палітычна значнай, навукова-даследчай установай". Гэты недахоп, маўляў, тым больш выяўляе сябе, паколькі, паводле выказванняў Сталіна, зробленых ім у 1931 г., існавала пільная патрэба ў „сур'ёзнай навуковай прапрацоўцы праблем беларускай гісторыі [...] на марксісцкім падмурку". Выказваліся таксама нараканні, што навукоўцы ўсё яшчэ не здолелі скончыць працу над „Очерками по истории Белоруссии". Відавочна, пытанне падрыхтоўкі марксісцкай інтэрпрэтацыі беларускай гісторыі было для ЦК асабліва датклівым. Тлумачачы зацягванне працы, аўтар даклада нават сям-там браў крытычную танальнасць: гэтак, разам з дрэнным адукацыйным узроўнем аспірантаў, ён ускладаў адказнасць за гэта на „сістэматычнае мабілізаванне навуковых супрацоўнікаў" дзеля выканання разнастайных заданняў, а таксама на гарадскі партыйны камітэт, ЦК, а таксама і на Прэзідыум Акадэміі. Да гэтага, паводле Карніенкі, дадавалася кепскае ў арганізацыйным плане кіраўніцтва праектам з боку інстытуцкага начальства.

Істотную прычыну „небяспечнай сітуацыі на гістарычным фронце" на пачатку 30-х г. Карніенка бачыў у кіраўнічай палітыцы Прэзідыума Акадэміі навук, які, маўляў, недаацэньваў „палітычнае значэнне Гістарычнага інстытута". Але адказнасць мелася быць ускладзеная на функцыянальна маладзейсную партыйную арганізацыю. Гэтаксама, як і на ўзроўні Акадэміі, навукоўцам-гісторыкам бракавала таварышаў: толькі шасцёра з дваццаці двух супрацоўнікаў — гэта значыць 27,3% — былі членамі партыі. З незадаволенасці кадравым складам і тым фактам, што „бальшыня найбольш значных праблем гісторыі Беларусі распрацоўваецца беспартыйнымі навукоўцамі" вынікала, што Інстытут не спраўляўся з задачамі, вызначанымі для яго партыяй. Нараканні з тае прычыны, што публікацыі гісторыкаў праз доўгія тэрміны іх падрыхтоўкі да друку і выдання „трацяць у сваёй палітычнай злабадзённасці і вастрыні", таксама стваралі нагоду для шматслоўных высноваў. З патрабаваннямі зліквідаваць названыя недахопы і памылкі звязвалася жаданне ў будучыні далучыць усіх гісторыкаў-партыйцаў да працы над „Очерками по истории Белоруссии", вызваліць іх ад педагагічных нагрузак і забараніць прыцягванне іх да выканання іншых функцыяў.

Уласцівы згаданаму дакументу стыль даносу характарызаваў палітычны клімат, што склаўся ў гуманітарных інстытутах на пачатку 30-х г. Суіснаванне „буржуазных спецыялістаў" і „новых кадраў" паступова ліквідоўвалася знутры. Імкненне навыперадкі дэманстраваць сваю паслухмянасць авалодала новымі элітамі задоўга да таго, як тэрор пачаў ужывацца ў якасці інструмента штодзённай палітыкі. Такія дакументы, як даклад Карніенкі, сведчаць пра сталінізм як пра хітрую ідэалагічную сістэму, ад націску якой наўрад ці была здольная ўхіліцца большасць інтэлігенцыі. У гэтым канкрэтным выпадку яна выявіла сябе ў выглядзе кампаніі, распачатай з падазрэнняў і намёкаў на патаемныя падпольныя рухі, што — як ланцуговую рэакцыю — выклікала наступныя дадатковыя роспыты з боку ЦК. Вартыя ўвагі граматычныя канструкцыі Карніенкі тут наўмысна падаюцца нязмененымі:

„Ацэньваючы стан працы Інстытута, неабходна заўважыць, што цяпер, як ніколі раней, у звязку з разгортваннем працы Інстытута, той-сёй на карысць рэшткаў класавых ворагаў, у вядомай ступені ацалелых на гістарычным фронце, спрабуе выкарыстаць самыя нязначныя памылкі і паасобныя прарывы ў Інстытуце дзеля таго, каб здыскрэдытываць і нанесці ўдар па той барацьбе за чысціню метадалогіі марксізму, якую вёў і вядзе Інстытут гісторыі. Гэтыя шкодныя партыі настроі павінны быць вырваныя з коранем"[148].

Ідучы насустрач чаканаму жаданню „Культпропа" наконт ўдакладнення пазіцыяў, Карніенка накіраваў у ЦК кароткую інфармацыйную нататку. У ёй ён выразна пазначыў межы „гістарычнага фронту". Да найбольш „каштоўных і здольных таварышаў", на думку аўтара, належалі камуністы — гэткія, як Горын, Шчарбакоў ды іншыя. Акрамя таго, з шэрагу беспартыйных найбольш надзейнымі спадарожнікамі называліся гісторыкі Нікольскі і Дружчыц. Іншыя супрацоўнікі, якія яшчэ „канчаткова не вызваліліся ад сваіх ранейшых трацкісцкіх і бундаўскіх пераканнняў" — як, да прыкладу, габрэйскія калегі Рыўлін, Засценкер і Поташ, напачатку атрымалі толькі абмежавана станоўчую ацэнку. У якасці сапраўдных ворагаў аўтар вызначыў, сярод іншых, беспартыйнага гісторыка Гесэна, жытло якога, маўляў, служыла „штаб-кватэрай трацкісцка-бундаўскіх элементаў"; тут, паводле аўтара нататкі, напрыканцы лістапада 1932 г. у прысут-

[148] НАРБ, ф.4, воп.21, спр.362, арк.76—82: „Докладная записка Института истории БАН, составленная согласно запроса Культпропа ЦК КП(б)Б секретарю тов.Гикало — копия Культпропу ЦК КП(б)Б и фракции президиума БАН (16.11.1932)", [подпіс: Карніенка]. Акрамя таго, параўн.: Карніенка В. [*Яго ж.*]. Класавая барацьба на гістарычным фронце Беларусі. Менск, 1932. Яшчэ больш дэталёва, чым у вышэйзгаданым дакладзе, Карніенка выказаўся ў праекце для ЦК, які, відаць, быў напісаны неўзабаве. Тут на Доўнара-Запольскага, Ігнатоўскага і Пічэту на падставе іх працаў была ўскладзеная адказнасць як на „заснавальнікаў нацдэмаўскай беларускай гістарыяграфіі", а Любаўскі з гледзішча дачыненняў паміж Масквой і Вялікім Княствам, г.зн. паміж Расіяй і Беларуссю, быў названы „прабацькам вялікадзяржаўніцкай схемы гісторыі Беларусі"; гл.: НАРБ, ф.4, воп.21, спр.362, арк.57—75: „Итоги и перспективы исторического фронта Белоруссии" (В.Корниенко) [дата не пазначаная]. Цытата паводле: НАРБ, ф.4, воп.21, спр.362, арк.76—82, у гэтым выпадку арк.81.

насці розных гісторыкаў Інстытута дэбатаваліся допіс Сталіна, некаторыя гістарычныя пытанні і вынікі XIV партыйнай канферэнцыі. Гэта былі выказванні, якія нічога не даводзілі, аднак маглі выглядаць падазронымі ў вачах ЦК. Пасля выказвання іншых абвінавачванняў супраць названых супрацоўнікаў Карніенка прыйшоў да высновы, што група на чале з Рыўліным, Гесэнам, Поташам, Вальфсонам і гісторыкам Новага часу В.А.Сербентам мелася весці „цкаванне камуністаў і самых лепшых партыйных гісторыкаў“[149]. Праз некалькі месяцаў, у сакавіку 1933 г., былі зробленыя арганізацыйныя вывады. У ЦК распарадзіліся звольніць з працы некалькіх супрацоўнікаў „тэарэтычнага фронту“; ажыццяўленне гэтага распараджэння было 23 сакавіка 1933 г. ускладзена на новага першага сакратара ЦК КП(б)Б М.Ф.Гікалу (займаў гэты пост у 1932—1937 г.). Прынятыя меры наогул абгрунтоўваліся „контррэвалюцыйнай дзейнасцю“, „распаўсюджваннем трацкізму“ альбо „падтрымкай нацдэмаў“[150].

Пасля „паспяховых“ чыстак, праведзеных у Акадэміі і Наркамасвеце, ЦК з вялікай рашучасцю скіраваў сваю ўвагу далей. Яму падалося неабходным правесці „сур'ёзнае ачышчэнне ад класава-варожых элементаў“ ва ўсіх іншых культурных установах, пад якімі ЦК перадусім меў на ўвазе школы і педагагічныя інстытуты. Пра гэта гаворка яшчэ пойдзе ніжэй. Акрамя таго, нашмат больш жорсткаю зрабілася цэнзура — адным са шматлікіх крокаў у гэтым кірунку было ўвядзенне яшчэ ў 1933 г. для друкаваных выданняў БССР вайсковай цэнзуры („военная цензура“)[151].

Паказальным у гэтым звязку выглядае тое, што блізкія да партыі функцыянеры навукі, якія не шкадавалі намаганняў у даносніцтве па службе, не павінны былі мець за гэта нейкіх прывілеяў. На прыкладзе замежных камандзіровак, дазвол на якія ва ўсеагульным парадку даваў маскоўскі ЦК, выяўляецца, што і Карніенка, аўтар цытаваных вышэй памфлетаў пра „класавую барацьбу“ і „перспектывы“ змагання на гістарычным фронце, мусіў падпарадкоўвацца гэткай самай працэдуры. Просьба, пададзеная ім беспасярэдне пасля падачы названых дакладаў, — наконт магчымасці дазволіць яму як спецыялісту па польскай гісторыі адбыць трох-чатырохмесячны стаж у Польшчы і ўзяць удзел у Кангрэсе гісторыкаў у Варшаве — была задаволеная толькі часткова. У снежні 1932 г. намеснік сакратара сектара навукі і навуковых даследаванняў пры аддзеле прапаганды ЦК ВКП(б) Грохаў пацвердзіў падпарадкаванай структуры ў Менску дазвол на стажы, але забараніў удзел у канферэнцыі. Гэты пабочны факт сведчыць, што ўласная ініцыятыва навукоўцаў адносна падтрымкі партыйнай палітыкі і „выкрыцця“ праціўнікаў не была доўгатэрміновай, разлічанай на здабыццё прыві-

[149] Тамсама: „В ЦК КПбБ (11.12.1932)“, [подпіс: Корниенко], арк.83—85.

[150] НАРБ, ф.4, воп.21, спр.490, арк.1—11: „Докладная записка (23.03.1933). М.Ф.Гікала (Гикало), выпускнік ваенна-фельчарскай школы ў Тыфлісе (1915 г.), сакратар ЦК ва Ўзбекістане і Азербайджане, з 1931 г. сакратар Маскоўскага абласнога і гарадскога партыйнага камітэта; з 29.01.1932 да 30.01.1937 г. першы сакратар і член Бюро ЦК КП(б)Б; у 1932—1937 г. член Прэзідыума ЦВК БССР; з 1.02.1937 г. да расстрэлу першы сакратар Харкаўскага гарадскога камітэта КП(б)У; у 1930—1934 г. член Рэвізійнай камісіі ЦК ВКП(б); з 1934 г. кандыдат у члены ЦК ВКП(б).

[151] НАРБ, ф.4, воп.21, спр.549, арк.5: „О цензуре“ (дата не пададзеная).

леяў стратэгіяй, а выдавала ўсё ў большай ступені ўнутрана матываваную свядомую пазіцыю. Перакананні, якія можна было заўважыць у Карніенкі ды іншых, былі падтрымкай сталінізму знізу.

Аргвывады 1933 г., між тым, не прынеслі адразу чаканага поспеху. Менш чым праз год, 22 траўня 1934 г., кіраўніцтва Акадэміі ў закрытым лісце да ЦК прызнавалася, што, маўляў, нягледзячы на „ачышчэнне Акадэміі навук ад нацыянал-дэмакратычных элементаў, якія спрабавалі дэзарганізаваць яе тэарэтычныя цэнтры", мусяць быць зазначаныя „кепскае правядзенне ў жыццё прынцыпаў сацыялізму і марксісцкага вучэння, а таксама [...] нізкі тэарэтычны ўзровень"[152]. Хоць з часоў першай змены кірунку ў працы Акадэміі, што мела месца ў 1930 г., агульная колькасць яе супрацоўнікаў пабольшала з 114 да 131, а агульны аб'ём публікацыяў вырас з 139 да 603 друкаваных аркушаў, аўтар паведамлення Горын прызнаваў безумоўную палітычную слабасць гуманітарных інстытутаў Акадэміі. Выйсце з сітуацыі павінны былі забяспечыць „узмоцнены кантроль", а таксама штомесячныя даклады, на падставе якіх меліся вызначацца найважнейшыя кірункі працы Акадэміі.

У пытанні ўмацавання сілаў партыі яшчэ ў 1934 г. існавалі падставы для заклапочанасці. Перадусім дзейнасць Інстытута гісторыі, не з яго ўласнай ініцыятывы, трапляла ў парадак дня паседжанняў ЦК у Менску, а сяды-тады — і паседжанняў вышэйшых органаў. Гэтак, аддзел культуры і прапаганды ЦК КП(б)Б у снежні 1934 г. мусіў паведамляць зверхняму аддзелу ў маскоўскім ЦК наконт працягу працэсу „контррэвалюцыйных інтрыг у навуковых і навучальных установах БССР":

> „22 кастрычніка 1934 г. з падачы намесніка дырэктара ІГ БАН тав. Шчарбакова быў зачытаны антысавецкі даклад грамадзяніна Прохарава «Пра народную песню», у якім дакладчык адкрыта салідарызаваўся з адным з ідэолагаў беларускага нацыянал-дэмакратызму Баліцкім, развіваючы «тэорыю» пра надкласавы характар («надклассовость») музыкі і перавагу («превосходство») беларускай песні над песнямі іншых народаў і прапагандуючы тэзу, нібыта камуністы перашкаджаюць развіццю музыкі"[153].

У сваёй пастанове за 14 лістапада Бюро ЦК зрабіла камуністам ІГ БАН закід у адкрытай падтрымцы класавага ворага. Між тым, Шчарбакоў да гэтага моманту ўважаўся за непахісную скалу ў адкрытым моры і за адзінага, сярод мноства двухаблічных, надзейнага прафесара. Гэтае „расчараванне" з боку ЦК павінна было надоўга даццa ў знакі аўтару „першай гісторыі Беларусі на марксісцкай аснове", што таксама выйшла з друку ў 1934 г. Тут няшмат у чым дапамагала і тое, што Шчарбакоў у тым годзе склаў датуль самы вялікі сваім аб'ёмам каталог грахоў, што прыпісваліся беларускай нацыянальнай гістарыяграфіі — маўляў,

[152] НАРБ, ф.4, воп.21, спр.549, арк.44, 35—40 — першая стар. дададзеная пазней; у гэтым выпадку арк.2.

[153] Параўн. „Паведамленне Культпропа ЦК КП(б)Б старшыні Культпропа ЦК ВКП(б) таварышу Стэцкому": НАРБ, ф.4, воп.21, спр.549, арк.127—129: „Информационная сводка о контрреволюционных выступлениях в некоторых научных и учебных заведениях БССР (Минск, 10.11.1934 г.)", у гэтым выпадку арк.127.

апошняя заўсёды паказвала беларускую гісторыю без класавых змаганняў, як усяго толькі гісторыю развіцця нацыянальнай самасвядомасці беларускага народа, народа „вечна дэмакратычнага", які са старадаўніх часоў знаходзіцца ў сваяцтве з народамі капіталістычнага Захаду. Пры гэтым інтарэсы народа ўвасабляліся толькі яго інтэлігенцыяй, і сама гісторыя беларускага народа зводзілася да гісторыі яго інтэлігенцыі. Паводле Шчарбакова, у нацыянальнай гістарыяграфіі працоўнае насельніцтва паказваецца толькі як змрочная неадукаваная маса[154]. Гэтай сваёй працай акадэмічны прафесар выносіў абвінавачвальны вердыкт нялюбым калегам з дваццатых гадоў.

Пра адну рэч праца Шчарбакова сведчыла вельмі выразна: кардынальнае карэктаванне курсу ўзору 1934 г. датуль не пацягнула за сабою ў ІГ БАН жаданай змены кірунку як са змястоўнага, гэтак і з персанальнага гледзішча. Акрамя таго, склад супрацоўнікаў і навуковы даробак відавочна мізарнелі. З сярэдзіны 30-х г. высвятленне палітычнай сітуацыі ў гуманітарных інстытутах ужо не было аб'ектам самакантролю: гэтыя функцыі пераняў „НКВД" (НКУС). Апошні рэгулярна інфармаваў ЦК пра вынікі „назірання" і меры, якія меліся быць прадпрынятыя. Абвінавачванні рабіліся ўсё больш абсурднымі, і яны выразна даводзяць, што, пачынаючы з сярэдзіны 20-х г., партыя ўскладала адказнасць за „палітычную ненадзейнасць" інтэлігенцыі ва ўсё большай ступені менавіта на акадэмічныя інстытуты. У сваёй дакладной нататцы ў ЦК за 25 чэрвеня 1938 г. народны камісар унутраных справаў, маёр НКУС А.Наседкін паведамляў пра „несумленнасць супрацоўнікаў і шкодніцкую працу ўнутры АН БССР":

> „На чале Інбелкульта ў 1926 г. стаяў буйны агент 2-га аддзялення польскага Генеральнага штаба Ігнатоўскі, які збіраў пад дахам гэтага інстытута шпіёнаў і іншых антысавецкіх элементаў і выкарыстоўваў усю працу інстытута дзеля выканання заданняў польскай выведкі ў Беларусі. З моманту пераўтварэння Інбелкульта ў АН БССР і да самага апошняга часу АН была кублом польскіх шпіёнаў, трацкістаў, правых і нацыянал-фашыстаў, якія, згодна з заданнямі польскай выведкі, праводзілі актыўную шпіёнскую дзейнасць і шкодніцкую працу ў Акадэміі"[155].

Наступны пералік „злосных ворагаў Савецкай улады" падобны да галерэі праклятых, у якую былі ўключаныя амаль усе значныя беларускія гісторыкі ды іншыя вучоныя-гуманітарыі. Поруч з палітычнымі антыподамі Ігнатоўскім і Шчарбаковым тут фігуравалі Домбаль, Рыўлін, Некрашэвіч, Жылуновіч, Сурта, Панкевіч — вядучыя супрацоўнікі розных установаў: Акадэміі навук, Гістпарта, аддзела прапаганды ЦК[156]. Наседкін, глабальна разбіраючыся з Акадэміяй, абвінаваціў

[154] Шчарбакоў В.К. Класавая барацьба і гістарычная навука на Беларусі. Менск, 1934. С.67.

[155] НАРБ, ф.4, воп.21, спр.1400, арк.12—32: „Докладная записка о фактах засоренности личного состава и вредительства в БелАН (25.06.1938)". Фонд 21 — гэта спецыяльны фонд, што большай часткай складаецца з матэрыялаў НКВД і з 1993 г. з'яўляецца даступным для айчынных навукоўцаў. Аўтар, першы сярод заходніх даследчыкаў, меў магчымасць карыстацца матэрыяламі гэтага фонду.

[156] Каб даць уяўленне пра разнастайнасць спектра біяграфіяў навукоўцаў, ніжэй мы выбарачна падаём звесткі пра тых, чые імёны тут згадваюцца: **Т.Ф.Домбаль** (1890—1938, паляк), эканаміст-аграрый, у 1923 г. адзін з заснавальнікаў сялянскага Інтэр-

іх у гістарычных і палітычных адхіленнях. Акрамя ўсяго іншага, „гэтыя шпіёны калечылі малады падрост". Гэткім спосабам павінна было знайсці сваё апраўданне рэзкае скарачэнне колькасці аспірантаў. У параўнанні з 139 аспірантамі 1934 г. засталося толькі 6. У гэтыя гады, паводле прыведзеных звестак, былі абароненыя толькі 17 дысертацыяў (10 у 1935, 5 у 1936, 2 у 1937 г.). Сцверджанне, быццам бы „на чале інстытута стаялі агенты замежных шпіёнскіх службаў і члены антысавецкіх арганізацыяў" — гэткія, як Шчарбакоў і Лябовіч (арыштаваныя ў 1937—38 г.) у Інстытуце гісторыі альбо Краснеўскі і Жылуновіч у Інстытуце літаратуры БАН — павінна было даць найпрасцейшае тлумачэнне таму факту, што ў ІГ БАН у перыяд з 1932 да 1937 г. з 97 запланаваных прац да публікацыі дайшло толькі 10, прычым з апошніх 7 былі сканфіскаваныя. У 1937 г., паводле звестак Наседкіна, план публікацыяў быў выкананы толькі на 35%[157].

Статыстыка папярэдняга года, між тым, мусіла выклікаць у партыі сур'ёзную занепакоенасць. З 529 супрацоўнікаў АН БССР — 274 мужчын і 255 жанчын — толькі 21% прыпадаў на членаў партыі (50) ці камсамола (64). Гаворка

нацыянала; скончыў Інстытут чырвонай прафесуры, акадэмік з 1933 г.; дырэктар Інстытута эканомікі, віцэ-прэзідэнт БАН, член ЦК КП(б)Б і ЦВК БССР; заарыштаваны і асуджаны Ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР (1936—37 г.), пакараны смерцю ў 1938 г.; **Е.І.Рыўлін** (1901—1978, габрэй), гісторык, з 1931 г. акадэмік, прафесар; скончыў Камуністычны інстытут, Інстытут чырвонай прафесуры; у 1929 г. намеснік наркама асветы БССР, у 1931—32 г. загадчык сектара навукі і культуры ЦК КП(б)Б, дырэктар Інстытута аспірантуры БАН; заарыштаваны ў 1933 г., да 1936 г. у высылцы, у 1956 г. рэабілітаваны. У 1957—1971 г. працаваў у Казахстане; **С.М.Некрашэвіч** (1883—1937, беларус), мовазнаўца; у 1913 г. скончыў Віленскі настаўніцкі інстытут; у 1920—25 г. загадчык літаратурна-выдавецкага аддзела „Наркамасьветы" БССР, старшыня навукова-тэрміналагічнай камісіі, старшыня Інбелкульта; з 1929 г. віцэ-прэзідэнт БАН, старшыня Арфаграфічнай камісіі; заарыштаваны ў 1930 г., да 1935 г. у высылцы, расстраляны ў 1937 г.; **З.Ф.Жылуновіч** (1887—1937, беларус), пісьменнік, дзяржаўны дзяяч, публіцыст, сябра БСГ, член КП(б)Б; у 1918 г. сакратар Беларускага нацыянальнага камісарыята, у 1919 г. Старшыня Часовага рэвалюцыйнага ўрада ССРБ; пасля быў дырэктарам Дзяржаўнага выдавецтва БССР, рэдактарам газеты „Савецкая Беларусь", часопіса „Полымя"; у 1934—36 г. працаваў у ІГ БАН; заарыштаваны ў 1936 г., памёр у магілёўскай лякарні ў 1937 г.; у 1955 г. рэабілітаваны часткова, у 1987 г. рэабілітаваны цалкам; **І.З.Сурта** (1893—1937, беларус); у 1918 г. скончыў медыцынскі факультэт 2-га Маскоўскага універсітэта, у 1932 г. — Інстытут чырвонай прафесуры; з 1919 г. на партыйнай працы ў Гомелі; у 1920—26 г. супрацоўнік органаў ВЧК і ОГПУ; у 1933 г. намеснік наркама асветы, у 1933—36 г. наркам аховы здароўя БССР, у 1936—37 г. прэзідэнт БАН, а таксама кандыдат і член Бюро ЦК КП(б)Б; у 1937 г. заарыштаваны і расстраляны; рэабілітаваны ў 1956 г.; **П.Я.Панкевіч** (189[illegible]—1937, беларус), вучоны-педагог, з 1931 г. акадэмік; у 1917—18 г. быў членам партыі сацыял-рэвалюцыянераў; у 1922 г. скончыў Віцебскі інстытут народнай адукацыі, у 1924 г. выкладчык Акадэміі камуністычнага выхавання ў Маскве; у 1925—37 г. загадчык метадычнай часткі Камуністычнага універсітэта Беларусі імя У.І.Леніна, прафесар педагогікі БДУ; у 1931—35 г. неадменны сакратар БАН; у 1931—35 г. член ЦВК БССР; заарыштаваны ў 1937 г., расстраляны ў 1938 г.; рэабілітаваны ў 1956 г. Параўн.: Навіцкі У.І. Інтэлігенцыя і сталінізм // Чырвоная змена, 12.07.1994. С.3, а таксама: Возвращенные имена: Сотрудники АН Беларуси, пострадавшие в период сталинских репрессий / Сост. Н.В.Токарев (op. cit.).

[157] НАРБ, ф.4, воп.21, спр.1400, арк.13—16.

пра маскоўскія адносіны магла ісці ў гэткай самай малой ступені як і пра прыстасаваную „партыйную навуку“. Таксама колькасць акадэмікаў (8) і старэйшых навуковых супрацоўнікаў (57) не сведчыла пра высокі навуковы ўзровень Акадэміі; нашмат больш тут працавала асістэнтаў (91), інжынераў (11) і навукова-тэхнічных супрацоўнікаў (342). Нацыянальны склад супрацоўнікаў сведчыў пра тое, што да шырокамаштабнай русіфікацыі — да прыкладу, праз маскоўскую кадравую палітыку і дасыланне спецыялістаў — справа пакуль што яшчэ не дайшла. Табл.18 паказвае, што большасць супрацоўнікаў складалі беларусы. Той працэс, што пачаўся ў 1930 г. трыццаццю трыма арыштамі ў Акадэміі і прадоўжыўся ў 1933 г. затрыманнем 16, а ў 1936 г. — 15 супрацоўнікаў, у 1937 г. ён дасягнуў найвышэйшага пункту — 45 арыштаў. Калі Наседкін паведамляў ЦК, што Акадэміі быў нанесены „істотны ўдар“, „НКВД“ адрэагавала на гэта цынічнаю заўвагаю, што там яшчэ нібыта працуюць сама меней 22 „паслядоўнікі антысавецкага падполля (трацкісты, правыя, нацыянал-фашысты і супрацоўнікі замежных выведак“. Толькі пасля таго, як крыху пазней былі заарыштаваныя і ў сваёй большасці расстраляныя яшчэ 27 супрацоўнікаў, праз ЦК пайшлі праправеркі[158]. Ад навуковага патэнцыялу Акадэміі ўжо болей амаль нічога не заставалася.

| Нацыянальнасць | Колькасць |
|---|---|
| Беларусы | 301 |
| Габрэі | 120 |
| Расійцы | 70 |
| Украінцы | 7 |
| Немцы | 6 |
| Літоўцы | 6 |
| Латышы | 3 |

**Табл.18: Нацыянальны склад супрацоўнікаў АН БССР (1937 г.)**

[158] Да іх, акрамя вышэйназваных, належалі далейшыя „падазроныя“ асобы: акадэмікі Афанасьеў, Бурстын, Замоцін, Матулайціс, Тарашкевіч і Сербента, а таксама члены-карэспандэнты Агурскі, Бранштэйн, Мельнік і Шпенцар. **Я.М.Афанасьеў** (1877—1937, расіец), геолаг; у 1901 г. скончыў Пецярбургскі універсітэт; з 1921 г. прафесар Горацкага сельскагаспадарчага інстытута (з 1925 г. — Беларуская сельскагаспадарчая акадэмія), у 1931—37 г. дырэктар Інстытута аграглебазнаўства БАН; заарыштаваны і расстраляны ў 1937 г.; **Ц.Л.Бурстын** (1888—1938, габрэй), матэматык; у 1911 г. скончыў Венскі універсітэт; з 1925 г. член Камуністычнай партыі Аўстрыі; у 1929 г. запрошаны на пасаду прафесара вышэйшай матэматыкі ў БДУ; з 1931 г. акадэмік, дырэктар Фізіка-тэхнічнага інстытута БАН; заарыштаваны ў 1937 г., памёр у зняволенні ў 1938 г.; **І.І.Замоцін** (1873—1942, расіец), літаратуразнаўца, з 1928 г. акадэмік, з 1929 г. член-карэспандэнт Акадэміі навук СССР; у 1897 г. скончыў Пецярбургскі універсітэт; быў прыват-дацэнтам Варшаўскага і Пецярбургскага універсітэтаў; з 1922 г. [прафесар] БДУ; у 1931—1933 г. дырэктар Інстытута літаратуры БАН; заарыштаваны ў 1938 г.; асуджаны на 8 гадоў зняволення ў лагеры; **С.Ю.Матулайціс** (1866—1956, літовец), гісторык, паэт, літоўскі рэвалюцыянер-сацыял-дэмакрат; у 1891 г. скончыў медыцынскі факультэт Маскоўскага універсітэта; у 1895—1917 г. у сацыял-дэмакратычнай партыі Літвы; у 1920—25 г. лекар, выкладчык гімназіі; з 1927 г. кіраўнік Літоўскага сектара Інбелкульта, пазней — БАН; з 1935 г. дырэктар Інстытута нацыянальных меншасцяў АН БССР; выключаны з партыі і заарыштаваны ў 1937 г., з 1939 г. у высылцы, у 1945 г. вярнуўся ў Вільню; **Б.А.Тарашкевіч** (1892—1938, беларус), філолаг, беларускі патрыёт, сябар БСГ; у 1916 г. скончыў Петраградскі універсітэт; у 1918 г. у „Белнацкаме“; аўтар і выдавец першай „Беларускай граматыкі для школ“ (1918 г.); з 1921 г. дырэктар Віленскай беларускай гімназіі, да 1923 г. адзін з лідэраў Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі; [з 1922 г.] дэпутат сейма Польшчы; у 1933 г. пераехаў у СССР, працаваў у Міжна-

Гледзячы ў рэтраспектыву, афіцэр „НКВД“ Наседкін абгрунтоўваў малыя альбо „шкодніцкія“ вынікі працы гістарычнай навукі той рэальнай акалічнасцю, што ў 1937 г. сярод гісторыкаў не было ніводнага члена партыі. Вось жа, паводле Наседкіна, у галіне гісторыі быў апублікаваны „шэраг контррэвалюцыйных кніжак“: тут былі названыя „Гісторыя Беларусі“ Шчарбакова, „Старажытная культура Беларусі“ Ляўданскага і „Пакроўскі як гісторык-марксіст“ Горына.

„Шкодніцкая праца ў Інстытуце гісторыі выяўляе сябе ў тым, што цягам апошніх гадоў загамавалася распрацоўка сапраўднай гісторыі беларускага народа і выданне навучальных матэрыялаў на гэтую тэматыку. [...] На чале Інстытута ўсё яшчэ знаходзіліся выкрытыя ўдзельнікі антысавецкага падполля Горын і Шчарбакоў. Імі была заснаваная сярод супрацоўнікаў Інстытута гісторыі антысавецкая група. З дапамогай гэтых людзей яны чынілі перашкоды даследаванням гісторыі і падсоўвалі буржуазна-нацыяналістычныя тэорыі пра самабытнасць беларускага народа ды эканамічную схільнасць Беларусі да Захаду. [...] Інстытут павінен быў стварыць падручнік для школ сярэдняй ступені — замест гэтага ён займаўся фальклорам і этнаграфіяй. Таму выкананая праца таксама мае нацыяналістычную афарбоўку“[159].

Перыяд з 1936 да 1938 г. належыць да самых змрочных перыядаў гісторыі Акадэміі навук БССР. У дачыненні да ахвяраў гэтых гадоў тэрору партыя і апарат

родным аграрным інстытуце ў Маскве; у 1937 г. заарыштаваны, у 1938 г. расстраляны; рэабілітаваны ў 1957 г.; **В.А.Сербента** (1895—1980, літовец); да 1922 г. вывучаў гісторыю і медыцыну ў Харкаўскім універсітэце; у 1924 г. скончыў Інстытут чырвонай прафесуры; у 1924—34 г. загадчык Віцебскай губернскай савецка-партыйнай школы, прафесар БДУ і Камуністычнага універсітэта імя У.І.Леніна; у 1929—32 г. дырэктар Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КП(б)Б, у 1931—36 г. член Прэзідыума БАН, член кіраўніцтва ІГ АН БССР; член КП(б)Б з 1920 г., у 1925—27 г. намеснік загадчыка аддзела друку ЦК КП(б)Б; у 1937 г. заарыштаваны, асуджаны на 10 гадоў лагера; у 1949 г. высланы ў Краснаярскі край; у 1956 г. рэабілітаваны; у 1957—67 г. загадчык сектара Інстытута філасофіі і права АН БССР, з 1967 старэйшы навуковы супрацоўнік гэтага Інстытута; **С.Х.Агурскі** (1884—1947, габрэй), гісторык; з 1936 г. акадэмік; у 1906—17 г. у эміграцыі ў ЗША і Англіі; у 1918 г. вайсковы камісар у Віцебску; у 1929—34 г. у Інстытуце гісторыі партыі пры ЦК КП(б)Б; з 1934 г. намеснік дырэктара Інстытута нацыянальных меншасцяў БАН; член РКП(б)Б з 1918 г.; арыштаваны ў 1938 г.; у 1939 г. выключаны з партыі і высланы ў Казахстан; **Я.А.Бранштэйн** (1897—1937, габрэй), літаратуразнаўца; у 1925 г. скончыў 1-ы Маскоўскі універсітэт; з 1932 г. прафесар Менскага педагагічнага інстытута, навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры БАН, пазней таксама адказны сакратар Саюзу пісьменнікаў БССР; з 1936 г. член-карэспандэнт АН БССР; у 1937 г. заарыштаваны і расстраляны; **С.П.Мельнік** (1883—1938, украінец), батанік, лесавод; у 1914—19 г. выкладчык Харкаўскага інстытута сельскай і лясной гаспадаркі; з 1923 г. прафесар Горы-Горацкага сельскагаспадарчага інстытута, да 1930 г. дырэктар Цэнтральнай лясной доследнай станцыі; у 1933—38 г. дырэктар Батанічнага саду БАН; у 1938 г. заарыштаваны і расстраляны; **Б.М.Шпенцар** (1890—1938, габрэй), вучоны-хімік; з 1936 г. член-карэспандэнт АН БССР; выпускнік Новарасійскага універсітэта (Адэса), Маскоўскага тэхналагічнага інстытута; скончыў два курсы Інстытута чырвонай прафесуры; у 1924—27 г. працаваў у Маскоўскім хімічным інстытуце; у 1932—34 г. вучоны сакратар Камітэта па хімізацыі СССР; у 1935—37 г. кіраўнік сектара хімічнай тэхналогіі Інстытута хіміі АН БССР; ; у 1938 г. заарыштаваны і расстраляны. Звесткі падаюцца паводле: Возвращенные имена: Сотрудники АН Беларуси, пострадавшие в период сталинских репрессий / Сост. Н.В.Токарев (op. cit.).

[159] НАРБ, ф.4, воп.21, спр.1400; арк.23 і наст.

бяспекі пасля выкрыцця „нацдэмаў" вялі паляванне ўжо на „ворагаў народа". Да апошніх былі ў 1937—38 г. прылічаныя: група энтузіястаў-прыстасаванцаў першага пакалення — гэткія, як Жылуновіч, Горын альбо Шчарбакоў, а таксама і высокія партыйныя і дзяржаўныя функцыянеры, сярод іх — Гікала, Чарвякоў, старшыня Саўнаркама ў 1927—37 г. Галадзед ці той жа народны камісар адукацыі І.І.Дзьякаў[160].

Перавага ў развіцці, якую мела ўкраінская гістарычная навука параўнальна з беларускай, палягала ў тым, што ў Акадэміі навук Украінскай ССР у 1936 г. удалося адчыніць свой уласны Інстытут гісторыі Украіны. З часу заснавання гэтай Акадэміі ў 1918 г. гісторыя Украіны мела асаблівы ранг сярод навуковых дысцыплін. Яшчэ на пачатку 20-х г. былі інстытуцыянальна забяспечаныя розныя галіны даследаванняў: створаныя кафедры „гісторыі Украіны" і „гісторыі ўкраінскага народа найноўшага часу", акрамя таго разнастайныя камісіі „старажытнай гісторыі Украіны" — археалагічная, гісторыі культуры, камісія „рэгіянальных даследаванняў Заходняй Украіны", а таксама камісія „найноўшай гісторыі Украіны". Разам з гэтаксама шматлікімі мовазнаўчымі і літаратуразнаўчымі дысцыплінамі яны ўтварылі Гістарычна-філалагічнае аддзяленне Акадэміі.

Акрамя ўсяго гэтага, у 1926 г. у межах новастворанай кафедры марксізму-ленінізму была зарганізаваная секцыя „гісторыі Украіны", якая, відавочна, мелася ўсталяваць больш цесную арганізацыйную і змястоўную сувязь украінскай гістарычнай навукі — як часткі акадэмічнай — з афіцыйнай ідэалогіяй. Гэта, між іншым, было звязана з тым, што разгалінаваная ў сваіх спецыялізацыях украіністыка, якой у сярэдзіне 20-х г. пераважна займаліся гісторыкі старой генерацыі, пагражала выслізнуць з рук партыі і застацца па-за кантролем. Прынятыя ў верасні 1929 г. на Усеўкраінскай партыйнай канферэнцыі па навуковых пытаннях пастановы дадаткова звярталі ўвагу на гэтую небяспеку, абвяшчаючы вайну буржуазнаму светагляду і заснаваным на ім гістарычным канцэпцыям. Тым больш дзіўным выглядае тое, што, нягледзячы на рана ўведзеную ў дзеянне сістэму ідэалагічнай апекі, першы „Кароткі курс гісторыі УССР", заснаваны на марксісцка-ленінскіх пастулатах, выйшаў з друку толькі ў 1940 г. — г.зн, толькі праз 6 гадоў пасля выхаду аналагічнай працы Шчарбакова[161].

Назва „Беларуская Акадэмія навук" (БАН) не перажывала сталінсцкай эпохі. У рэчышчы уніфікацыі рэспубліканскіх структур і іх стандартызаваных не-нацыянальных назваў у 1936 г. было вырашана, што рэарганізацыя і перайменаванне навуковай установы непазбежна-неабходныя. Афіцыйна ўведзеная з 9 чэрвеня 1936 г. назва „Акадэмія навук БССР" (АН БССР) заставалася над параднымі калонамі галоўнага корпуса ўстановы на Ленінскім праспекце, перш чым было вырашана [часткова. — *Заўвага перакладчыка*] вярнуцца да старой назвы.

[160] Няміга Г. Інстытут беларускай культуры... (op. cit.). С.94.

[161] Параўн. арт. „Історія" // Академія наук Української РСР (выд.). Історія Академії наук Української РСР у двох кн.: Кн. перша. Київ, 1967. С.322 і наст.

леяў стратэгіяй, а выдавала ўсё ў большай ступені ўнутрана матываваную свядомую пазіцыю. Перакананні, якія можна было заўважыць у Карніенкі ды іншых, былі падтрымкай сталінізму знізу.

Аргвывады 1933 г., між тым, не прынеслі адразу чаканага поспеху. Менш чым праз год, 22 траўня 1934 г., кіраўніцтва Акадэміі ў закрытым лісце да ЦК прызнавалася, што, маўляў, нягледзячы на „ачышчэнне Акадэміі навук ад нацыянал-дэмакратычных элементаў, якія спрабавалі дэзарганізаваць яе тэарэтычныя цэнтры", мусяць быць зазначаныя „кепскае правядзенне ў жыццё прынцыпаў сацыялізму і марксісцкага вучэння, а таксама [...] нізкі тэарэтычны ўзровень"[152]. Хоць з часоў першай змены кірунку ў працы Акадэміі, што мела месца ў 1930 г., агульная колькасць яе супрацоўнікаў пабольшала з 114 да 131, а агульны аб'ём публікацыяў вырас з 139 да 603 друкаваных аркушаў, аўтар паведамлення Горын прызнаваў безумоўную палітычную слабасць гуманітарных інстытутаў Акадэміі. Выйсце з сітуацыі павінны былі забяспечыць „узмоцнены кантроль", а таксама штомесячныя даклады, на падставе якіх меліся вызначацца найважнейшыя кірункі працы Акадэміі.

У пытанні ўмацавання сілаў партыі яшчэ ў 1934 г. існавалі падставы для заклапочанасці. Перадусім дзейнасць Інстытута гісторыі, не з яго ўласнай ініцыятывы, трапляла ў парадак дня паседжанняў ЦК у Менску, а сяды-тады — і паседжанняў вышэйшых органаў. Гэтак, аддзел культуры і прапаганды ЦК КП(б)Б у снежні 1934 г. мусіў паведамляць зверхняму аддзелу ў маскоўскім ЦК наконт працягу працэсу „контррэвалюцыйных інтрыг у навуковых і навучальных установах БССР":

> „22 кастрычніка 1934 г. з падачы намесніка дырэктара ІГ БАН тав. Шчарбакова быў зачытаны антысавецкі даклад грамадзяніна Прохарава «Пра народную песню», у якім дакладчык адкрыта салідарызаваўся з адным з ідэолагаў беларускага нацыянал-дэмакратызму Баліцкім, развіваючы «тэорыю» пра надкласавы характар («надклассовость») музыкі і перавагу («превосходство») беларускай песні над песнямі іншых народаў і прапагандуючы тэзу, нібыта камуністы перашкаджаюць развіццю музыкі"[153].

У сваёй пастанове за 14 лістапада Бюро ЦК зрабіла камуністам ІГ БАН закід у адкрытай падтрымцы класавага ворага. Між тым, Шчарбакоў да гэтага моманту ўважаўся за непахісную скалу ў адкрытым моры і за адзінага, сярод мноства двухаблічных, надзейнага прафесара. Гэтае „расчараванне" з боку ЦК павінна было надоўга даццa ў знакі аўтару „першай гісторыі Беларусі на марксісцкай аснове", што таксама выйшла з друку ў 1934 г. Тут няшмат у чым дапамагала і тое, што Шчарбакоў у тым годзе склаў датуль самы вялікі сваім аб'ёмам каталог грахоў, што прыпісваліся беларускай нацыянальнай гістарыяграфіі — маўляў,

[152] НАРБ, ф.4, воп.21, спр.549, арк.44, 35—40 — першая стар. дададзеная пазней; у гэтым выпадку арк.2.

[153] Параўн. „Паведамленне Культпропа ЦК КП(б)Б старшыні Культпропа ЦК ВКП(б) таварышу Стэцкому": НАРБ, ф.4, воп.21, спр.549, арк.127—129: „Информационная сводка о контрреволюционных выступлениях в некоторых научных и учебных заведениях БССР (Минск, 10.11.1934 г.)", у гэтым выпадку арк.127.

вай дзейнасцю, галоўным чынам у Інбелкульце і пазней утворанай Акадэміі навук[163].

Па-за вырашэннем педагагічных і навукова-даследніцкіх задач кіраўніцтва універсітэта ад самага пачатку імкнулася абудзіць культуру навуковага жыцця; пры гэтым істотную ролю мусіў адыгрываць практычны досвед колішніх маскоўскіх альбо пецярбургскіх прафесараў. З мэтай навязвання міждысцыплінарных сувязяў паміж прафесарамі і дацэнтамі асобных факультэтаў у 1922 г. было заснаванае Навуковае таварыства пры БДУ. Да яго найгалоўнейшых задач належала спрыянне навукова-даследніцкай дзейнасці і падтрымка маладых навукоўцаў. Склад названага таварыства, які ў цэлым адпавядаў структуры факультэтаў, налічваў у 1929 г. сем секцыяў, праз якія, у сваю чаргу, арганізоўваліся і нярэдка потым публікаваліся выступы прадстаўнікоў адпаведнага кола супрацоўнікаў з дакладамі на ўнутраных паседжаннях альбо на агульных сходах. У 1928/29 навучальным годзе сацыяльна-гістарычная секцыя таварыства зарганізавала чатыры паседжанні, на якіх пераважна заслухоўваліся рэфераты вынікаў беларусазнаўчых працаў[164].

Інспіраваная дзяржавай кампанія беларусізацыі не магла не пакінуць прыкметных слядоў у дзейнасці новазаснаванай установы, да ліку якіх належаў менскі універсітэт, хоць і тут уніклівы аналіз выразна паказвае межы распаўсюджання гэтага працэсу. Высновы пра шмат у чым фармальны характар і ўзровень якасці беларусізацыі можна, да прыкладу, зрабіць праз параўнанне трох навучальных установаў рознага профілю: БДУ, Беларускай дзяржаўнай акадэміі сельскай гаспадаркі (БДАСГ) і Дзяржаўнага ветэрынарна-медыцынскага інстытута (ДВМІ) паводле стану на 1925/26 навучальны год[165]. У БДУ на беларускай мове праводзілася 14% ад агульнай колькасці навучальных заняткаў, у той час як у БДАСГ працэнт беларускамоўных лекцыяў склаў толькі 10,1, а ў ДВМІ — і ўвогуле толькі 1,9. З табл.19, акрамя таго, відаць, што ў вышэйшых, а таксама іншых навучальных установах гуманітарнага профілю доля супрацоўнікаў-габрэяў была нашмат вышэйшаю, чым у чыста тэхнічных альбо медыцынскіх інстытутах. У апошніх дамінавалі супрацоўнікі беларускай, а перадусім расійскай нацыянальнасцяў. Гэта можна растлумачыць тым, што ў гэткіх установах працавалі ў большыні тэхнічныя супрацоўнікі і лабаранты, якія звычайна не мелі ака-

[163] Менькоўскі В.І. Гістарычнаму факультэту — 60 год // Веснік БДУ. 1994. Вып. 3. С.3—4, тут с.3. Пра пачаткі гістарычнай адукацыі гл., акрамя таго: Яноўскі Алег. Пачаткі гістарычнай адукацыі // БМ. 1994. № 3. С.6—8.

[164] Тэмы рэфератаў: Нікольскі М. Матывы сялянскага месіянізму ў прароцтве VIII стагоддзя; Жарынаў Д. Памешчыцкая гаспадарка ў Беларусі ў народна-гаспадарчай літаратуры 40-х г. XIX ст.; Бурдзейка А. Сялянскі статут 1861 г. для Беларусі; Забела Ф. Канстытуцыя 3 Траўня 1791 г. На аналагічным паседжанні педагагічнай секцыі дацэнт Рывес прэзентаваў рэферат на тэму „Вынікі масавага даследавання «Уяўленні беларускага дзіцяці пра Кастрычніцкую рэвалюцыю і яе заваёвы»". Рэктар У.Пічэта на правазнаўчай секцыі паведаміў пра „Польска-расійскія дачыненні і Рыжскі мір". Параўн.: A.V. Die Wissenschaftliche Gesellschaft an der Weißrussischen Staatsuniversität in Minsk // SRU 1 (1929). С.123—124.

[165] Пратакол паседжання Бюро ЦК за 11.09.1926, гл.: НАРБ, ф.3, воп.4, спр.15, арк.359—374, у гэтым выпадку арк.359 і наст.

дэмічнай адукацыі. Пра тое, што, аднак, гэтая тэндэнцыя пачала мяняцца, сведчыць такі факт: доля беларусаў сярод студэнтаў першага семестра ў тым самым, 1925/26 навучальным годзе складала ў БДУ 49,6%, у БДАСГ 69,6%, у ДВМІ 76,7%. Беларусізацыя адукацыйных установаў асаблівым чынам закранула гістарычную навуку. Навучальнай праграмай БДУ для грамадска-эканамічнай сферы было вызначана, што ўсе заняткі меліся праводзіцца па-беларуску.

| Нацыянальнасць | БДУ (у %) | БДАСГ (у %) | ДВМІ (у %) |
|---|---|---|---|
| Беларусы | 25,1 | 44,5 | 28 |
| Габрэі | 42,5 | 6,1 | 8 |
| Расійцы | 25,6 | 40,3 | 52 |
| Іншыя | 6,8 | 9,1 | 12 |

**Табл.19: Склад навуковых супрацоўнікаў БДУ, БДАСГ і ДВМІ паводле нацыянальнай прыналежнасці (1925/26 навучальны год)**

Гэта супадае з вышэй зробленымі назіраннямі, што беларускія лекцыі ды семінары перадусім абмяжоўваліся гуманітарнымі інстытутамі. У другім семестры студэнты мусілі наведваць дзве лекцыі ды семінары па „гісторыі народнай гаспадаркі Расіі" і па „гісторыі Беларусі да падзелаў Рэчы Паспалітай". Семінар па беларускай гісторыі працягваўся ў трэцім семестры пад назвай „Гісторыя Беларусі XIX і XX ст.". У чацвёртым семестры на факультэце меліся выкладацца шматлікія і разнастайныя курсы па гісторыі і літаратуры беларусаў: лекцыі па „гісторыі гарадоў Беларусі", „гісторыі найноўшай беларускай літаратуры" і „гісторыі народнай асветы Беларусі", да таго яшчэ курс „крыніцазнаўства гісторыі Беларусі", семінары па беларускай этнаграфіі і расійскай гісторыі, а таксама педагагічная практыка ў школе[166].

З асабова-палітычнага гледзішча універсітэт ні ў чым не саступаў Акадэміі навук. Паслухмянасць альбо, самае меншае, лаяльнасць да партыйных органаў былі ўжо ў 1925 г., пад час „каранізацыі", вырашальным крытэрыем для прафесійнай кар'еры. Гэта выразна выяўляе сябе на прыкладзе адной з пастановаў партыйнай арганізацыі БДУ, прынятай на сходзе 29 красавіка 1925 г. Выказаная тут рэкамендацыя зняць Пічэту з пасады рэктара і прызначыць на яго месца Ігнатоўскага грунтавалася на тым, што Пічэта, у процілегласць свайму калегу, не быў членам партыі. Афіцыйна гэткая прапанова тлумачылася тым, нібыта Пічэта ўступіў у канфлікт з партыйнымі, мясцовымі органамі ды студэнцкімі арганізацыямі[167]. Калі Ігнатоўскі быў прызначаны першым прэзідэнтам БАН, Пічэта зноў пераняў рэктарскую пасаду ва універсітэце [У.Ігнатоўскі ніколі не замяняў У.Пічэту на пасадзе рэктара БДУ. — *Заўвага перакладчыка*], так і не наблізіўшыся ў міжчассі да партыі.

На сваёй узноўленай пасадзе Пічэта звярнуўся да вышэйстаячых органаў партыі, каб умацаваць свае пазіцыі не ў цэлым ва універсітэце, а перадусім функцыянальна ў гістарычнай навуцы (Geschichtsvermittlung). Дакладная нататка,

[166] Тамсама, с.363 і наст.
[167] Пратакол партыйнага сходу БДУ за 29.04.1925 г.: НАРБ, ф.4, воп.7, спр.4,1, арк.515.

што была пераадрасаваная сакратару ЦК Кнорыну, утрымлівала нязгоду аўтара з планамі працы педагагічнага факультэта ды факультэта права і народнай гаспадаркі. Крытыкаваліся прадугледжаныя там скарачэнні ў выкладанні дысцыпліны „беларуская гісторыя", а таксама абмежаванні выкладчыцкага складу. У сваім абгрунтаванні Пічэта выразна падкрэсліваў, што БДУ ёсць і мусіць заставацца універсітэтам краіны. З гэтай прычыны даследаванні, зарыентаваныя на гэтую краіну — найперш яе гісторыі і краязнаўства, — павінны быць у цэнтры ўвагі. Дзеля больш грунтоўнага прафіляванага выкладання гісторыі ва універсітэце Пічэта запатрабаваў, сярод іншага, увесці гісторыю беларускай культуры ў якасці тэмы ўводных заняткаў для слухачоў усіх факультэтаў. Акрамя таго, ён быў перакананы, што для забеспячэння спецыяльнай адукацыі немагчыма абысціся без гісторыі народнай гаспадаркі і грунтоўнага крыніцазнаўства. Гэткае самае вялікае значэнне Пічэта надаваў гісторыі Беларусі XVI—XVIII ст. Тое, што Пічэта, у дадатак, лічыў важным вывучэнне прыбалтыйскай гісторыі („Каб зразумець развіццё беларускай буржуазнай культуры, немагчыма абысціся без ведання чэшскай гісторыі і гісторыі прыбалтыйскіх дзяржаваў"), было ў кожным разе вартым непрыемнага напаміну партыйнаму кіраўніку Кнорыну, які сам паходзіў з Латвіі. Апошні, дзе магчыма, выказваўся наконт сумнеўнага і небяспечнага характару аддзялення гісторыі Беларусі ад гісторыі Расіі-маці — гэтак, прынамсі, прэзентавала сябе прыпартыйнае прачытанне гісторыі напрыканцы 20-х г. У сваім лісце-скарзе Пічэта таксама не забыўся звярнуць увагу на асаблівае значэнне этнаграфіі і гісторыі беларускага мастацтва[168].

Хоць ЦК на чале з Кнорыным і выявіў цікавасць да Пічэтавых ініцыятываў, але яго нашмат болей турбаваў той факт, што гуманітарныя аддзяленні універсітэта былі ў надзвычай малой ступені схільныя да ідэалагічнага канфармізму. Наступ на адзіны універсітэт рэспублікі, які стаўся вынікам урбанізацыі Менску і прыцягальнасці сталічнага горада, не мог мець адпаведнага палітычнага „суправаджэння". Прытым можна было паведамляць пра пэўныя „дасягненні ў беларусізацыі" універсітэта: згодна з інфармацыяй пра стан справаў у БДУ на мяжы 1932/33 г., сярод 2585 студэнтаў 1929/30 навучальнага года (без медыцынскага і хімічна-тэхнічнага факультэтаў) навучалася 60% беларусаў, 30% габрэяў і толькі 10% разам узятых расійцаў, палякаў, украінцаў і прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцяў.

| Навучальны год | Колькасць аспірантаў | Колькасць студэнтаў | Колькасць выкладчыкаў |
|---|---|---|---|
| 1921/22 | 1 126 | няма звестак | 60 |
| 1925/26 | 2 250 | няма звестак | няма звестак |
| 1929/30 | 2 585** | 84 | 302 |

**Табл.20: Колькасць студэнтаў, аспірантаў, выкладчыкаў БДУ (1921—1930 г.)[169] (**без медыцынскага і хімічна-тэхнічнага факультэтаў)**

[168] НАРБ, ф.4, воп.7, спр.194, арк.22—34: „ЦК КП(б)Б: Отдел агитации и пропаганды; письма Ректора БГУ (16.06.1928 г.)".

[169] НАРБ, ф.4, воп.7, спр.48, арк.79—88: „Роль БГУ при подготовке кадров (Кореневский), 1932/33 г.", у гэтым выпадку арк.84.

У іншых аспектах рэляцыі пра дасягненні найчасцей абмяжоўваліся агульнымі канстатацыямі:

> „На сёння БДУ адпавядае ўсім патрабаванням, каб забяспечваць сацыялістычнае будаўніцтва ў БССР яшчэ большай колькасцю высокакваліфікаваных спецыялістаў з марксісцка-ленінскім светапоглядам. У ленінскім духу тут вядзецца бязлітаснае змаганне супраць [...] правых, а таксама «левых» адхіленняў ад генеральнай лініі партыі дзеля выкрыцця і разгрому вялікадзяржаўнага шавінізму і контррэвалюцыйнага беларускага нацыянал-дэмакратызму“[170].

Пастановы „Пра абнаўленне гістарычных факультэтаў усіх універсітэтаў“ і „Пра выкладанне грамадзянскай гісторыі“ („О преподаванни гражданской истории“), прынятыя ў 1934 г. маскоўскімі ЦК і „Наркомпросом“, беспасярэднім чынам закранулі таксама сітуацыю з гістарычнай навукай у БДУ. Упершыню было станоўча вырашана пытанне пра заснаванне асобнага гістарычнага факультэта, на якім утвараліся кафедры гісторыі народаў Савецкага Саюзу, гісторыі старажытнага свету і гісторыі БССР. У 1937 г. да іх урэшце дадаліся кафедры Новай гісторыі і гісторыі замежных і каланіяльных краін. Дэканам быў прызначаны былы штатны супрацоўнік Акадэміі навук В.К.Шчарбакоў, які — будучы ўвогуле адным з нешматлікіх марксісцкіх гісторыкаў — спатыкнуўся з прычыны дробязнай справы ў ІГ БАН і быў вызвалены ад абавязкаў намесніка дырэктара названай установы. Цяпер ён меўся клапаціцца пра парадак на гістарычным факультэце БДУ і ажыццяўляць кантроль за правядзеннем у жыццё сталінскіх дырэктываў у сферы гістарычнай навукі. У гэтым існавала неабходнасць, бо, паводле партыйнай ацэнкі, да таго часу не ўдавалася выконваць „значную навукова-даследніцкую дзейнасць“, што мелася адбывацца з прычыны недастатковага кадравага і матэрыяльнага забеспячэння Інстытута і „дзейнасці ворагаў народу“. Маўляў, толькі ў 1934 г. „недахопы былі зліквідаваныя“[171].

Шчарбакоў мусіў таксама кантраляваць стварэнне новага даследніцкага кірунку ў галіне „гісторыі Беларусі“, які меўся быць заснаваны „ў адпаведнасці з навучальным планам народнага камісарыята асветы РСФСР“. Акрамя таго, да яго была звернутая просьба цягам аднаго месяца распрацаваць навучальны план новай спецыялізацыі і падаць яго „Культпропу“ ЦК. Відавочна, прафесар Шчарбакоў, які незадоўга перад тым запрэзентаваў „першую «Гісторыю Беларусі» на марксісцкім падмурку“, у гэты час лічыўся ў ЦК галоўнай навуковай надзеяй, якая нарэшце магла прыйсці на змену пакаленню буржуазных гісторыкаў кшталту Пічэты, Ігнатоўскага і Доўнара-Запольскага. Але пасля з'яўлення першых рэцэнзіяў на кнігу, другой частцы якой ужо не было наканавана выйсці, гэткія спадзяванні адышлі ў нябыт.

Рэарганізацыя гістарычнага факультэта, напэўна, мела адмысловую фінансавую падтрымку. Акрамя патрабаванняў палепшыць матэрыяльнае забеспячэн-

[170] Тамсама, арк.88.

[171] Гэтак пададзена ў афіцыйным рэтраспектыўным артыкуле загадчыка кафедры гісторыі СССР А.П'янкова — гл.: Пьянков А. Научно-исследовательская работа на историческом факультете Белорусского государственного университета // ИМ. 1938. №3(67). С.168—169.

не факультэта да новага навучальнага года, за гэта таксама сведчыў той факт, што дэкан мог разлічваць на кантынгент з 67 студэнтаў і 15 супрацоўнікаў[172]. За 12 гадоў перад тым увесь універсітэт меў гэткую самую колькасць выкладчыкаў; яшчэ ў 1930 г. у БДУ працавалі толькі 302 навукова-педагагічныя супрацоўнікі. За павелічэннем навукова-гістарычнай інфраструктуры і яе кадравага забеспячэння лёгка прачытвалася тое значэнне, якое партыя адводзіла гістарычнай адукацыі і навуцы. Аднак тыя, хто спадзяваўся праз гэткі кадравы прырост атрымаць павышэнне якасці навуковай працы, неўзабаве ўбачылі, што падмануліся. Шмат якія супрацоўнікі былі нагружаныя іншымі заданнямі:

„У звязку з фармаваннем «партпрослойки» на факультэце вырашана, што БДУ сумольна з «Культпропам» ЦК выбярэ з руху тысячнікаў дваццаць камуністаў з узроўню сярэдняга звяна навакольных раённых партарганізацыяў. «Культпроп» запрэзентуе кандыдатуры на візаванне ў ЦК“[173].

Увага навукова-даследчай працы надалей была скіраваная на гісторыю Савецкага Саюзу. На адпаведнай кафедры працавала найбольшая колькасць навуковых супрацоўнікаў — тэндэнцыя, якая не змянялася і ў пазнейшыя часы. Гэтак, з пятнаццаці аспірантаў, прынятых на гістарычны факультэт у 1937/38 навучальным годзе, чвэрць займалася праблемамі ўсеагульнай новай гісторыі, а рэшта, 11 маладых навукоўцаў, працавала над тэмамі з гісторыі Савецкага Саюзу альбо гісторыі Беларусі.

Зразумела, што гісторыя Ўсесаюзнай камуністычнай партыі (бальшавікоў) таксама была палігонам выпрабаванняў для студэнтаў БДУ. Хоць у 20-я г. галоўныя паўнамоцтвы ў гэтай сферы належалі Гістпарту, у БДУ прапаноўвалася ўсё больш і больш курсаў, звязаных з адпаведнай тэматыкай. Пасля 1934 г. гэтыя лекцыі ды семінары з асаблівай пільнасцю кантраляваліся вышэйстаячымі органамі. Праведзеныя двума супрацоўнікамі факультэта курсы пра „гістарычныя карані бальшавізму і яго інтэрнацыянальны характар“, а таксама пра „распаўсюджванне марксізму ў Расіі і разгром народніцтва“ былі паддадзеныя знішчальнай крытыцы з боку кантрольных органаў ЦК. Паводле даведкі апошніх, кіраўніца курса „ўсё паставіла з ног на галаву“, назваўшы бальшавікоў прадаўжальнікамі „справы «Саюза камуністаў», І Інтэрнацыяналу ды Парыжскай камуны“[174]. У той час як „паблажлівыя ацэнкі важных паўстанняў“ — у якасці прыкладу называліся „хмяльніччына“ ці „разіншчына“ — альбо „памылковая“ гіпотэза пра перамяшчэнне рэвалюцыйнага цэнтра з Заходняй Еўропы ў Расію трактаваліся яшчэ як „драбяза“, галоўны агонь крытыкі быў скіраваны ў сферу нацыянальнай гісторыі:

„Аўтарка марнуе некалькі гадзін часу, шукаючы аргументаў на карысць таго, нібыта сялянская вайна 1648—1653 г. была нацыянальна-вызвольным рухам. Відавочна, тав. Малаковіч не чытала твораў Маркса, Энгельса, Леніна і Сталіна па

[172] Менькоўскі В.І. Гістарычнаму факультэту — 60 год... (op. cit.). С.3.

[173] Пратакол паседжання Бюро ЦК за 20.06.1934 г.: НАРБ, ф.4, воп.3, спр.166, арк.26: „Об обновлении исторического факультета БГУ“.

[174] НАРБ, ф.60, воп.3, спр.567, арк.1—6: „Справка о преподавании истории ВКП(б) на историческом факультете Белгосуниверситета“ (без указання даты, пасля студзеня 1936 г.).

нацыянальным пытанні, альбо — калі яна іх чытала — тады яна зусім не жадае зразумець простае і яснае вызначэнне таварыша Сталіна, што нацыя — гэта «стабільная супольнасць людзей, што ўзнікла гістарычна на падмурку агульных мовы, тэрыторыі, гаспадарчага жыцця і псіхічнага складу, што выяўляе сябе ў супольнасці культуры»"[175].

На прыкладзе гэтага фрагмента, у якім усё ўпіраецца ў адну з праблем украінскай гісторыі, можна паказаць пэўныя стандартныя топасы сталінісцкай крытыкі тэксту. Катэгарычна-рэзкая рэакцыя не ўтрымоўвала ў сабе ў вузкім сэнсе адказу на пастаўленае пытанне. Гістарычнай дыскусіі, напрыклад, пра мэты паўстання Хмяльніцкага альбо пра царска-расійскія інтарэсы ў другой палове XVII ст. не адбылося. Замест гэтага аўтар „даведкі" схаваўся за сталінскай, 1913 года, дэфініцыяй нацыі, якая, аднак, ані не знаходзілася ў якой-кольвечы беспасярэдняй сувязі з характарам украінскага руху пратэсту XVII ст., а ўсё ж у наборы аргументаў „партыйнай крытыкі" мусіла б быць дастатковым тлумачэннем адпаведнае з'явы. Працы „класікаў" успрымаліся не як паасобныя тэксты, а як кодэкс правілаў, створаны аўтарытэтным калектывам, які не робіць памылак.

Рэгулярныя карэспандэнцыі ў агульнасаюзным часопісе „Большевик" не пакідаюць сумневу ў тым, што, пачынаючы з сярэдзіны 30-х г., гістарычная навука БДУ — гэтаксама, як і Акадэміі навук — знаходзілася пад наглядам Гістпарта і камуністычнай партыі ў гэткай ступені, якая да 1934 г. яшчэ была невядомай. Акрамя гэтага, трэба мець на ўвазе, што універсітэт пад час „кантрольных мерапрыемстваў" ды „чыстак", якія рэгулярна праводзіліся партыяй з пачатку 30-х г., страціў большую частку сваіх знакамітых супрацоўнікаў. Шэсць з сямі рэктараў БДУ, што займалі гэты пост да 1941 г., сталі ахвярамі сталінскага пераследу.

## 2.5. Інстытут гісторыі партыі

„Камісіі па гісторыі Кастрычніцкай рэвалюцыі і партыі", якія ўзніклі, пачынаючы з 1920 г., на цэнтральным і рэгіянальным узроўнях і на доўгі час атрымалі кароткую назву „Гістпарт" („Истпарт"), утваралі ідэалагічна-інстытуцыянальны стрыжань падсавецкай гістарыяграфіі[176]. Неўзабаве пасля свайго прыходу да ўлады бальшавікі паставілі сабе за мэту гэткім чынам стварыць процівагу традыцыйным і, у сваёй сутнасці, „буржуазным" навукова-адукацыйным установам. Гэтаксама як ва Украіне, першы беларускі Гістпарт быў заснаваны ў 1921 г., хоць тут, у адрозненне ад Кіева, не было прычыны баяцца нейкага інстытуцыянальнага апірышча дарэвалюцыйнай гістарыяграфіі. Ужо з адкрыццём БДУ ў тым самым годзе сітуацыя мусіла памяняцца.

Да абсягу кампетэнцыі гэтай установы, што на тэрыторыі БССР мела свае тры філіі ў Менску, Віцебску ды Гомелі[177], належала дакументальнае забеспя-

[175] Тамсама, арк.2 і наст.

[176] На Захадзе партыйная гістарыяграфія толькі ў рэдкіх выпадках выклікала інтарэс даследчыкаў, гл., напрыклад: Holmes L., Burgess W. Scholary Voices on Political Echo? Party History in the 1920s // Russian History / Histoire Russe 9 (1982) 2—3. С.383—398.

[177] У Гомелі, які як горад і цэнтр акругі быў далучаны да БССР толькі ў 1926 г., пры губернскім камітэце з 1920 г. існаваў „гістарычна-рэвалюцыйны аддзел", які быў арганізацыйным зародкам пазнейшага Гістпарту.

чэнне гісторыі партыі і рэвалюцыйнага 1917 года, а таксама выданне твораў „класікаў“ марксізму; акрамя гэтага, яшчэ „падрыхтоўка марксісцкіх кадраў у галіне грамадскіх навук дзеля прапаганды марксізму і агульнагістарычных ведаў сярод працоўных мас“[178]. Кіраўніцтва Гістпартам пры цэнтральным Бюро ЦК КП(б)Б было даручана В.Г.Кнорыну.

З вышэйназванай камсіі фактычна пачалася даследчая праца Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КП(б)Б („Институт истории партии при ЦК КП(б)Б“), які меўся зрабіцца ў будучым ідэалагічным ядром беларускай гістарыяграфіі. Гэтаму таксама спрыяла і тое, што Гістпарт — у адрозненне ад акадэмічных і універсітэцкіх інстытутаў — быў галіновай установай цэнтральна-арганізаванай партыйнай гістарыяграфіі. З моманту стварэння „рэгіянальных“ інстытутаў ЦК ВКП(б)Б выконваў функцыі апекавання, якія, пачынаючы з 1923 г., палягалі ў інструктаванні мясцовых камісіяў, а ў 1927 г. былі ўдакладненыя ў праграмнай заяве „Пра падставовыя задачы Гістпарта пры ЦК ВКП(б) і ў рэгіёнах“.

Паводле ўласнай ацэнкі дзейнасць Гістпарта распачалася фактычна толькі ў 1924 г. і нават тады сістэматычная праца наўрад ці была магчымая, бо патэнцыял Інстытута ўвесь час мусіў адпавядаць „патрабаванням моманту“[179]. Гістпарт распрацоўваў заданні, у гэтым нічога не мянялася і ў бліжэйшым наступным часе. Бясконцая колькасць публікацыяў з нагоды 10-гадовага юбілею Кастрычніцкай рэвалюцыі, што адзначаўся ў 1927 г., якія выдаваліся пад адной вокладкай у зборніках — перадусім у гэткім, як „Кастрычнік на Беларусі“, — падпарадкоўвалі рэгіянальныя гісторыі падзеяў 1905 і 1917 г. цэнтру, выбудоўваючы пры гэтым усесаюзную сінхранізацыю і ўзаемападпарадкаванасць рэвалюцыйных працэсаў. Цалкам свядома немалая колькасць прэзентавалася ў якасці нерасійскіх манаграфіяў, альбо яны перакладаліся на беларускую, польскую ці габрэйскую мовы — гэтак, як выдадзеная ў 1925 г. праца В.Г.Кнорына „1917 год в Белоруссии и на Западном фронте“, якую ў Гістпарце загадалі перакласці на ідыш.

Пасля „этапу кансалідацыі“, што меў месца напрыканцы 20-х г., партыя патрабавала вынікаў. Як можна бачыць з трохгадовага плана працы Гістпарта (1929—1932 г.), у гэты час мусілі быць падрыхтаваныя восем тамоў крыніц па гісторыі КП(б)Б 1917—1925 г., пра падзеі Кастрычніцкай рэвалюцыі ў Беларусі і пра нацыянальнае пытанне; акрамя таго, яшчэ 15 манаграфіяў па асобных этапах і перыядах гісторыі партыі. На 1930 г. быў нават абвешчаны запланаваны выхад сінтэтычнага даследавання па гісторыі БСГ, якое, аднак — гэтаксама, як іншыя запланаваныя працы, — ніколі не выйшла з друку. Важнай часткай публіцыстычнай дзейнасці былі гэтак званыя „навукова-папулярныя выданні“. У цэнтры грамадскай увагі павінна была апынуцца не гэтулькі гісторыя Беларусі як такая, колькі афіцыйна сцверджаны канон гістарычных падзеяў: рэвалюцыі 1905 і 1917 г., заснаванне БССР альбо 10 гадоў сацыялістычнага будаўніцтва ў рэспубліцы. Акрамя таго, да праграмы дзейнасці Гістпарта належалі выданне папулярнай „Гісторыі КП(б)Б“ альбо „Гісторыі беларускага камсамолу“, невялікія

[178] Михнюк В.М. Становление и развитие исторической науки Советской Белоруссии... (op. cit.). С.37.

[179] НАРБ, ф.4, воп.3, спр.22, арк.466—475, у гэтым выпадку арк.466: „Отчет о работе Истпарта при ЦК КП(б)Б“.

выклады сельскагаспадарчай гісторыі і гісторыі сялянскага руху „ў часе трох рэвалюцыяў“; да таго ж яшчэ, побач з дзесяцццю іншымі назвамі кніжак, з дзесятак тамоў працаў Леніна, Пляханава, Маркса і Энгельса. Гэткія працы, як „Што рабіць?“ Леніна, „Падставовыя пытанні марксізму“ Пляханава альбо „Анты-Дзюрынг“ ды „Камуністычны маніфест“, мусілі як найхутчэй зрабіцца даступнымі на беларускай мове[180].

Вельмі актыўна Гістпарт працаваў над удакументаваннем найноўшай гісторыі і сучасных падзеяў. Дырэктывай ЦК ВКП(б) за 5 лістапада 1924 г. загадвалася неабходнасць архівацыі ўсемагчымага матэрыялу па гісторыі рэвалюцыі. З гэтага часу ў падвальныя памяшканні Гістпарта траплялі таксама запісы шматлікіх „вечеров воспоминаний“, на якіх гаварылі „сведкі рэвалюцыйных падзеяў“. Гэтыя фонды, узбагачаныя зборамі дакументаў з іншых рэгіёнаў БССР, утварылі галоўную частку Цэнтральнага партархіва (сёння — НАРБ), які, аднак, пачаў сваё афіцыйнае існаванне толькі ў 1929 г. Побач з Музеем рэвалюцыі гэты архіў зрабіўся другім асяродкам, у якім павінна была сістэматызавацца гісторыя беларускага камунізму. Гістарычныя вобразы беларускага Кастрычніцкага перавароту і заснаванай толькі ў снежні 1918 г. КП(б)Б адно ў архіўных дакументах ды музейных вітрынах набывалі свае гістарычна-манументальныя абрысы. У кожным разе Гістпарту, што меўся забяспечыць беларускі камуністычны рух сваёй гісторыяй, у дзесятым юбілейным годзе кастрычнік 1917 г. удалося паказаць „чырвоным“ таксама ў Беларусі[181].

Тое, што іншыя рэпрэзентанты гістарычнага цэха БССР успрымалі гэтыя працэсы не без пярэчанняў, не павінна нікога здзіўляць, паколькі кіраўніцтва Гістпарта заўсёды знаходзіла поўнае разуменне ў партыі і прыярытэт пры размеркаванні фінансавых сродкаў і паперы для друку. Але ў першую чаргу скептычнае стаўленне выклікала ступень сур'ёзнасці навуковага даробку Гістпарта. Гэтак, супрацоўнік абодвух установаў Агурскі адчуваў неабходнасць працытаваць перад ЦК заўвагу калегі з Інбелкульта:

> „«Мы павінны разглядаць гісторыю рэвалюцыйнага руху акадэмічна-аб'ектыўна; калі Гістпарт мусіць інтэрпрэтаваць гісторыю як хоча, на свой капыл, няхай ён гэта робіць». Іншымі словамі, на думку гэтага «акадэміка», Гістпарт фальсіфікуе гісторыю рэвалюцыйнага руху на свой лад“[182].

Нягледзячы на ўсё гэта, Гістпарт, які павінен быў разглядацца ў якасці гадавальніка адданых партыі работнікаў, не быў пашкадаваны скажэннямі 20-х г. З 1925 г. гэтая ўстанова, як абвяшчаў Агурскі ў сваёй справаздачы перад ЦК, вяла барацьбу супраць „розных адхіленняў“ у галіне даследаванняў партыйнай і рэвалюцыйнай гісторыі. Гэтыя „адхіленні“ былі не ў апошнюю чаргу звязаныя з

180 НАРБ, ф.4, воп.14, спр.1, арк.1: „3-гадовы плян (проект) работ Навукова-дасьледчага інстытуту гісторыі партыі на 1929—1932 год“.

181 Кароткую гісторыю падзеяў 1917 г. у Беларусі прапануе праца: Altrichter, Helmut. Rußland 1917... (op. cit.). С.479 і наст.

182 НАРБ, ф.4, воп.3, спр.22, арк.467—475, у гэтым выпадку с.472: „Отчет работы Истпарта при ЦК КП(б)Б“ [подпіс: Агурскі]. Справаздача магла быць напісана ў канцы 1927 ці пачатку 1928 г.

тым, што кадравы склад Гістпарта ды іншых гістарычных навуковых інстытуцыяў універсітэта і Акадэміі навук часткова перакрыжоўваўся. Гэтак, да прыкладу, Ігнатоўскі ў 1928 г. належаў да калегіі Гістпарта — у той час, калі ўжо ён зрабіўся мішэнню партыйнай крытыкі. Разам з Ігнатоўскім у вышэйзгаданую калегію таксама ўваходзілі члены розных палітычных ці навуковых інстанцыяў альбо ўстановаў — гэткія, як Агурскі, Кнорын, Чарвякоў, Сянкевіч, Гельтман, Раманчук.

На папрокі ў „тэндэнцыйнасці" і „вычышчэнні ўсяго адметна-беларускага з гісторыі рэвалюцыі і найноўшай гісторыі", што выказваліся з нагоды выхаду зборніка „Кастрычнік на Беларусі"[183], Гістпарт адказаў у нязвыкла наступальнай манеры:

> „Наша мэта палягае ў распрацоўцы гісторыі Кастрычніцкай рэвалюцыі ў бальшавіцкім духу, у якой выяўляюцца, з аднаго боку, роля Камуністычнай партыі як правадыра рэвалюцыі, а з іншага боку — контррэвалюцыйная дзейнасць «Бунда», «Грамады» [БСГ — Р.Л.] ды іншых дробнабуржуазных партыяў. Гэта было й будзе галоўнай задачай Гістпарта. У гэтым сэнсе публікацыі і надалей будуць гэткімі ж «тэндэнцыйнымі», бо перад намі стаіць яшчэ адна важная задача — выкараніць з нашых шэрагаў дробнабуржуазныя элементы, што праявіліся ў вышэйпамянёнай рэцэнзіі"[184].

Гэткае непрыхаванае прызнанне што да палітычнай скіраванасці гістарычных даследаванняў на тую пару нават для партыйных дакументаў гучала нязвыкла. У рэцэнзіях, напісаных супрацоўнікамі Гістпарта, на адрас аўтараў кніг раз-пораз нават рабіліся закіды, што іхнім працам бракуе патрэбнай „тэндэнцыйнасці". Мішэнямі гэткіх ды іншых нападаў часта рабіліся габрэйскія навукоўцы, публіцысты альбо журналісты. Пры гэтым на парадку дня стаяла пытанне змагання супраць вучэнняў і надалей існуючых структураў Бунда і супраць БСГ. Гаворка тут ішла не толькі пра тое, каб дасягнуць *ex post* тэрытарыяльнага выйгрышу ў інтэрпрэтацыі гісторыі рэвалюцыі, якая, здаецца, трапляла пад пагрозу дзякуючы „тэорыі «двухкаранёвасці» («двухкоренности»)" ды іншых адрозных тлумачэнняў гісторыі партыі і ўзнікнення БССР. Бундаўцы і бальшавікі ўзаемна адмаўлялі, кожныя іншаму боку, права „прэтэндаваць" на дасавецкую гісторыю[185]. Гістарычныя слоўныя баталіі ўваходзілі ў штодзённую палітыку, у межах якой, да прыкладу, ЦК КП(б)Б прадпрымаў актыўныя захады супраць „неабундысцкіх рухаў" — гэткіх, як клуб „Гросэр", альбо перыядычных выданняў — гэткіх, як

[183] Кастрычнік на Беларусі: Зборнік артыкулаў і дакументаў. Масква, 1927. Вып. 1. Гэта была адна з самых значных публікацыяў менскага Гістпарта. Зборнік належаў да тых малалікіх працаў, што выйшлі тады ў Маскве на беларускай мове.

[184] НАРБ, ф.4, воп.3, спр.22, арк.467—475, у гэтым выпадку арк.474.

[185] Параўн.: Михнюк В.М. Становление и развитие исторической науки Советской Белоруссии... (op. cit.). С.51. Тэорыя „двухкаранёвасці" была канструкцыяй, створанай бальшавіцкай партыйнай гістарыяграфіяй. Гаворка ішла пра быццам бы распрапагандаваную габрэйскімі альбо бундысцкімі гісторыкамі тэорыю пра ўдзел Бунда ў фармаванні сацыял-дэмакратычнай традыцыі і гісторыі камуністычнай партыі ў Расіі; крытыкі гэтай „тэорыі" даводзілі, што Бунд не ёсць „другім коранем" партыйнай гісторыі.

„Вэкер". Да кампетэнцыі Гістпарта належала забяспечваць партыю ідэалагічным рыштункам у ходзе гэткіх баталіяў.

Маючы ў сваім распараджэнні Гістпарт, партыя валодала надзейнай агентурай сярод непадатлівых інтэлектуалаў, якая адначасова рабіла свой кавалак працы ва ўдасканаленні метадаў кантролю ды нагляду. Ужо з пратаколаў паседжанняў Бюро ЦК 1924—1934 г. добра відаць, як часта гісторыя і гістарыяграфія рабіліся аб'ектамі дыскусіяў і пастановаў, што прымаліся. Прагляд дакументаў нават дазваляе сцвярджаць, што гістарычная навука, як ніводная іншая дысцыпліна, стварала шмат нагодаў для таго, каб звярталіся менавіта да яе. Не толькі тэматыка дасследаванняў нацыянальнай гісторыі, але і таксама гісторыя рэвалюцыйнага руху з сярэдзіны 20-х г. належалі да пільна назіранай тэрыторыі гуманітарных навук. У чэрвені 1926 г. ЦК і Гістпарт пагадзіліся ў тым, што надалей „усе кнігі і зборнікі артыкулаў па гісторыі развіцця рэвалюцыйнага руху ў Беларусі не павінны друкавацца без згоды на тое з боку ЦК КП(б)Б". Штуршком для дзеяння тут паслужыў выхад зборніка, які, на думку партыйнага карэспандэнта Агурскага, атрымліваў не толькі „пракламацыі" розных партыяў, датычных рэвалюцыі 1905 г., але і пасаж, паводле якога „БСГ стаяла блізка да праграмы дзейнасці бальшавікоў", у той час, як, маўляў, „таварыш Ленін ахарактарызаваў гэтую партыю як дробна-буржуазную нацыяналістычную"[186]. Хоць напады на БСГ мелі сталы характар, прыярытэт у дасследаваннях гісторыі партыі і рэвалюцыі аддаваўся шматлікім непралетарскім партыям познецарскага часу[187]. На гэтым выпускалася пара цяперашніх і гістарычных прэтэнзіяў у дачыненні да нацыянал-дэмакратаў. Прынятая ў траўні 1928 г. пастанова „Пра навуковыя публікацыі й іх марксісцкі падмурак" павінна была дапамагчы ў гэтым. Хоць гэты ініцыяваны і зацверджаны ЦК дакумент адсылаў да досведу камісійнай працы найвышэйшых партыйна-гаспадарчых кіраўнікоў БССР — гэткіх, як Кнорын, Ігнатоўскі і Чарвякоў, на практыцы ён ніякіх вынікаў не меў[188].

У адрозненне ад сітуацыі з акадэмічнай гістарычнай навукай, развіццё партыйнай навукі ў Беларусі і ва Украіне ішло амаль што паралельнымі шляхамі. Патрабаванні, што выстаўляліся, да прыкладу, перад Гістпартамі абедзвюх рэспублік, былі падобныя паміж сабою як дзве кроплі вады. У Менску, гэтакса-

[186] Пратакол паседжання Бюро ЦК за 11.06.1926 г.: НАРБ, ф.3, воп.4, спр.14, арк.324.

[187] Параўн.: Михнюк В.М. Становление и развитие исторической науки Советской Белоруссии... (op. cit.). С.251 і наст. Міхнюк налічыў чатыры агульнаімперскія (усерасійскія) партыі: кадэты, эсэры, меншавікі, левыя сацыялісты-рэвалюцыянеры, акрамя таго, восем „беларускіх нацыяналістычных партыяў", да якіх меліся належаць: Беларуская партыя народных сацыялістаў, Беларуская хрысціянская дэмакратыя, Беларуская народная партыя, Беларуская народная грамада, Партыя беларускіх аўтанамістаў, Беларускія эсэры, Беларускія сацыял-дэмакраты, Беларускія сацыялісты-федэралісты, Беларуская сацыялістычная грамада (БСГ), а таксама дзевяць габрэйскіх партыяў: „Агдус-Ізраэль", „Алгемайнэ сіяністн", „Цэірэ-Цыён", Габрэйская сацыял-дэмакратычная рабочая партыя („Паалей-Цыён"), Габрэйская камуністычная партыя („Паалей-Цыён"), Аб'яднаная габрэйская сацыялістычная рабочая партыя (ОЕСРП), „Бунд", Сіяніцка-працоўная партыя і Сіяніцка-сацыялістычная партыя.

[188] Пратакол паседжання Бюро ЦК КП(б)Б за 18.05.1928 г., гл.: НАРБ, ф.4, воп.3, спр.29, арк.295: „Аб беларускай навуковай літаратуры з пункту погляду яе марксісцкай вытрыманасьці".

ма як у Кіеве, неўзабаве пасля прыходу да ўлады бальшавікоў патрэбны быў „Нарыс гісторыі камуністычнай партыі", адпаведна Беларусі й Украіны. У 1922 г. Кнорын, які працаваў у гэты час у апараце ЦК ВКП(б) у Маскве, апублікаваў „Кароткі канспект да гісторыі КП(б)Б"[189]. На некалькі месяцаў пазней у Кіеве выйшла першая сістэматызаваная праца па гісторыі ўкраінскай КП. Той факт, што адказныя асобы ва ўкраінскім ЦК не рабілі закідаў аўтару працы Майсею Равічу-Чаркаскаму ані з прычыны ягонага габрэйства, ані з прычыны яго бундаўскага партыйнага мінулага, мог выразна сведчыць пра тое, наколькі пільнаю была патрэба ў сваёй партыйнай гісторыі. Равіч-Чаркаскі толькі ў 1917 г. уступіў у бальшавіцкую партыю. Ягоная „Гісторыя Камуністычнай партыі Украіны" з гэтага часу прадвызначыла афіцыйны партыйны погляд на сваю гісторыю, пакуль у 1928 г. гэтая кніга не была замененая на „Нарыс гісторыі Камуністычнай партыі Украіны" М.М.Папова[190].

Папоўскаму „Нарысу", які вытрымаў 16 выданняў, урэшце было наканавана падзяліць лёс усіх працаў па партыйнай гісторыі, што выйшлі да 1938 г.: з выхадам сталінскага „Кароткага курса" пачалося новае летазлічэнне, якое зрабіла састарэлымі ўсе папярэднія публікацыі[191]. Паралельна адбываліся таксама дыскусіі адносна зместу працаў. Ва Украіне вынаходніцтва „тэорыі «двухкаранёвасці»" была прыпісана менавіта Равічу-Чаркаскаму. Меркаванне, што „гісторыя РСДРП ва Украіне была галоўным чынам гісторыяй яе «апартуністычнага» меншавіцкага крыла", стала непрымальным для партпрапаганды. І не проста так Равіч-Чаркаскі, пачынаючы з 1932 г., стаў аб'ектам рэпрэсіяў, аж пакуль канчаткова не знік у падвалах ОГПУ. Гэтаксама, як і ў БССР, змаганне з тэзаю „двухкаранёвасці" мела антысеміцкія рысы. Для Гістпартаў як у Менску, так і ў Кіеве, невыносною здавалася сама думка саступіць прыярытэт у гісторыі рэвалюцыі ды партыйнага мінулага Бунду і ягоным адэптам.

Пераўтварэнне Гістпарта БССР у навукова-даследчы інстытут, што адбывалася ў перыяд з траўня да верасня 1929 г., наўрад ці было нечым большым, чым проста фармальны акт. Літаральна і дакладна рэалізоўвалася пастаўленая на Усесаюзным з'ездзе секцыяў Гістпарта ў студзені 1929 г. задача стварэння „ў рэспубліканскіх і найважнейшых прамысловых цэнтрах навукова-даследчых інстытутаў па вывучэнні гісторыі партыі і Кастрычніцкай рэвалюцыі"[192]. Калі 1 кастрычніка таго самага года быў адкрыты „Институт истории партии и Октябрьской революции при ЦК КП(б)Б" (ИИПОР), у кадравым складзе і праграмных пастулатах мала што змянілася: па-ранейшаму найважнейшымі задачамі ўстановы лічыліся вывучэнне гісторыі рэвалюцыі й партыі, выданне па-беларуску твораў Леніна, а таксама масава-прапагандысцкая праца. Істотным у гэтым кан-

[189] Кнорин В. Пять лет: Краткий конспект к истории КП(б)Б. Менск, 1922. Навейшая публікацыя ў: Кнорин В.Г. Избранные статьи и речи / Сост. Кузнецов Н.В. и др. Мінск, 1990. Пра біяграфію Кнорына гл.: Тамсама, с.3—24.

[190] Velychenko, Stepan. Shaping Identity in Eastern Europe and Russia... (op. cit.). C.50.

[191] Параўн. высновы, зробленыя ў: Mace, James E. Communism and the Dilemmas of National Liberation... (op. cit.). C.241 і наст.

[192] НАРБ, ф.4, воп.3, спр.32, арк.472: „Постановление ЦК КП(б)Б «О реорганизации Истпарта» (17.05.1929 г.)".

тэксце таксама было рэкрутаванне маладых кадраў. У 1930 г. у аспірантуру „ИИПОР" запісалася 7 чалавек, у той час як агульная колькасць супрацоўнікаў гэтага Інстытута не перавышала 14 чалавек; гэтыя аспіранты, усе без вынятку, сталі членамі партыі ў перыяд паміж 1919 і 1926 г. Названыя людзі нарадзіліся ў 1899—1905 г. і павінны былі ўтварыць накапляльнік першай больш-менш аднароднай падсавецкай генерацыі. Сярод аспірантаў былі: адзін расіец, пяць беларусаў і адзін габрэй. Паводле сацыяльнага паходжання чацвёра былі з рабочых, двое — з асяроддзя службоўцаў. Выняткам быў адзін „батрак-пастух", які ў 1930 г. хацеў абараніць дысертацыю ў „ИИПОР"[193]. Да 1934 г. структура Інстытута яшчэ раз была рэарганізаваная. Разам з архівам, бібліятэкай і музеем цяпер тут існавалі таксама тры спецыяльныя навуковыя структуры. Аператыўным стрыжнем установы па-ранейшаму быў сектар гісторыі КП(б)Б і рэвалюцыі. Да яго дадаліся сектар „вывучэння грамадзянскай вайны" ды „заходні" сектар, у кампетэнцыі якіх знаходзіліся гісторыя грамадзянскай вайны і пытанні развіцця Заходняй Беларусі.

Нягледзячы на ўсе перайменаванні ды рэарганізацыі Гістпарта змаганне з уяўнымі ворагамі і ўхілістамі працягвалася, а там, дзе гэткіх не заставалася, яно раздзьмувалася нанова. Істотнай нагодай для разгортвання новых кампаніяў і тут стала з'яўленне вышэйзгаданага сталінскага ліста 1931 г., дзеля выканання дырэктываў якога ЦК у Менску, як і ў іншых падсавецкіх рэспубліках, прыкладала значныя намаганні. Найважнейшыя супрацоўнікі Інстытута, якія яшчэ за некалькі гадоў перад тым склалі ёмістую справаздачу пра наяўнае становішча, не ў апошнюю чаргу скіраваную супраць „ухілістаў", цяпер самі апынуліся сярод крытыкаваных і „выкрываных". Сярод супрацоўнікаў „ИИПОР", якіх першы сакратар ЦК К.В.Гей напрыканцы 1931 г. асуджаў з прычыны іх „сур'ёзных памылак ды трацкісцкіх, а таксама вялікарасійскіх і нацыянал-дэмакратычных поглядаў", побач з Агурскім, Поташам, Майселем, Шапавалавым, Шчарбаковым знаходзіліся „трацкісцкія фальсіфікатары" М.К.Іваноў і М.С.Югаў[194].

Югаў яшчэ за год да таго, у снежаньскім нумары часопіса „Большевик" апісваў сітуацыю на беларускім „гістарычным фронце" і прасіў тэрміновай дапамогі партыі ў змаганні супраць „ухілістаў" з Акадэміі навук. Цяпер памочнікі прыйшлі разбірацца з ім. Чысткі „на тэарэтычным фронце", што былі праведзеныя ў пачатку 1933 г. з ініцыятывы ЦК, не абмінулі таксама „ИИПОР". Прафесары Савіч („паводле наўпроставай дырэктывы ЦК"), Іваноў (як „трацкіст") і Гесэн (невя-

[193] Пратакол паседжання Бюро ЦК за 1.12.1930 г., гл.: НАРБ, ф.4, воп.8, спр.22. арк.460: „Аб падрыхтоўцы навуковых кадраў (Рыўлін)", дадатак арк.497 (дакладчык В.А.Сербента). Параўн., акрамя таго: Сербента В.А. Белорусский научно-исследовательский институт истории партии // Пролетарская революция. 1930. № 2—3. С.226 і наст.

[194] Михнюк В.М. Становление и развитие исторической науки Советской Белоруссии... (op. cit.). С.60. Тэкст даклада першага сакратара ЦК „О письме И.В.Сталина в редакцию журнала «Пролетарская революция» и задачах борьбы за партийность в теории" быў апублікаваны ў „Рабочем" за 30.12.1931 г. Гей займаў пасаду з студзеня 1930 г. і выступаў за адыход ад палітыкі беларусізацыі. Начальнікам ОГПУ БССР у гэты самы час стаў Г.Я.Рапапорт.

[195] НАРБ, ф.4, воп.21, спр.490, арк.1—11: „Докладная записка (23.03.1933 г.)".

дома з якой прычыны) цяпер страцілі свае пасады, у той час як іншыя супрацоўнікі — такія, як Поташ і Майсель (за „бундаўскія“ пазіцыі) альбо Агульнік (за „няправільную ацэнку люксембургіянства“) і Дудкоў былі аддадзеныя крытычнай апрацоўцы („проработке“)[195]. Яшчэ ў працы 1985 г. Уладзімір Міхнюк выказваў шкадаванне беларускай гістарыяграфіі ў тым, што дзейнасць Інстытута „была істотна абцяжараная, паколькі сярод яго супрацоўнікаў знаходзілася значная частка бундаўцаў, якія адмоўна ўплывалі на навукова-тэарэтычную працу“[196].

Грунтуючыся на вышэйадзначаным, можна сказаць, што ані Гістпарт, ані Інстытут гісторыі партыі і Кастрычніцкай рэвалюцыі не выконвалі навукова-даследніцкіх задач у вузкім сэнсе гэтага выразу. Імі перадусім пісаліся гістарычна-дапаможныя працы для патрэб партыйнай прапаганды. На даручэнне ЦК, будучы цесна звязанай з ім і падпарадкаванай яму ўстановай, названы інстытут меўся забяспечыць рэспубліку гістарычным вобразам, які ў асноўным падаваўся б народу ў выглядзе ланцуга юбілейных датаў рэвалюцыйнай мінуўшчыны. Гэткім чынам, праца Інстытута была неад'емнай часткай ідэалагічнай працы партыі. Ва ўсесаюзнай сетцы адначасова заснаваных і сінхронна дзейных установаў Гістпарт пры ЦК у Менску з сярэдзіны 20-х г. быў у той самы час і кантрольнай інстанцыяй над усёй беларускай гістарыяграфічнай навукай.

З 1928 г. немагчыма было абмінуць — не ў апошнюю чаргу з прычыны асабістых повязяў — Гістпарт альбо „ИИПОР“ пры ўладкаванні на працу ў Акадэмію навук, ва універсітэт альбо, перадусім, у партыйны апарат: сярод 92 гісторыкаў — уключна з археолагамі, этнографамі, архіўнымі работнікамі і аспірантамі, што ў 1935 г. працавалі ў БССР, самая вялікая частка (27 чалавек) займалася гісторыяй партыі, у той час як значна меншая колькасць супрацоўнікаў даследавала новую і найноўшую гісторыю (19 чалавек), беларускую гісторыю (15 чалавек), гісторыю народаў Савецкага Саюза (14 чалавек) і старажытную гісторыю (4 чалавекі). Да гэтага трэба было дадаць 13 археолагаў, этнографаў і архіўных работнікаў. Уяўленне пра тое, што партыя ўсё большую ролю надавала гістарыяграфіі гісторыі партыі і рэвалюцыі, даваў і той факт, што ў 1935 г. сярод 35 аспірантаў-гісторыкаў пятнаццаць абараніліся па тэмах партыйнай і рэвалюцыйнай гісторыі; прытым астатнія размеркаваліся па іншых тэматычных колах прыкладна раўнамерна[197].

## 2.6. Таварыства гісторыкаў-марксістаў

Заснаванне „Общества историков-марксистов“ як на цэнтральным, гэтак і на лакальным узроўнях адбывалася ў кірунку зверху ўніз. Даўно вызначаная партыяй мэта наблізіць адно да аднаго і аб'яднаць навуковыя намаганні „таварышаў-камуністаў“ і „ўсё большую колькасць кадраў буржуазных гісторыкаў, якія маюць блізкія пазіцыі і «ўспрымальныя» да ідэяў марксізму“, магла быць дасягну-

[196] Михнюк В.М. Становление и развитие исторической науки Советской Белоруссии... (op. cit.). С.61.

[197] Щербаков В. Конференция историков БССР // Борьба классов. 1935. № 6. С.122. У кожным разе можна было зазначыць прырост колькасці аспірантаў пры „ИИПОР“ у больш як два разы параўнальна з 1930 г.

тая толькі часткова. Калі, нарэшце, на пачатку 1925 г. было вырашана сабраць разам гісторыкаў малодшага і старэйшага пакаленняў, каб злучыць паміж сабою дагэтуль „невідочныя [марксісцкія — **Р.Л.**] выспы ў буржуазна-гістарычным акіяне", напачатку ўдалося змабілізаваць не больш за два дзесяткі асоб[198]. Праз год да іх далучылася яшчэ дзесяць асоб — гэтак што Таварыства амаль што не выходзіла за межы свайго маскоўскага кола. Толькі пасля таго як былі створаныя філіі па ўсім Савецкім Саюзе, адчыненыя да 1929 г. у 22 гарадах, Таварыства, не надта каб падтрыманае дзяржаваю, магло запярэчыць памылковым сцверджанням кшталту таго, што яно было нічым іншым, як „гістарычнай секцыяй" маскоўскай Камуністычнай акадэміі. Але і бальшыня рэспубліканскіх філіяў Таварыства, сярод якіх доўгі час колькасна наймацнейшай была грузінская, з яе 17 сябрамі, не мела перад сабою вялікай будучыні.

У той час як створаная з ініцыятывы Пакроўскага маскоўская галаўная структура Таварыства стала пасткаю для самае сябе, зрабіўшыся, паводле танальнасці, узятай Г.М.Панкратавай, асяроддзем „антымарксісцкіх і антысавецкіх элементаў", беларускаму даччынаму Таварыству было наканавана праіснаваць няпоўныя шэсць гадоў — з 1927 да 1933. Супярэчнасць паміж, з аднаго боку, баявой праграмай Таварыства, якое абяцала ўзяць ідэалагічных апанентаў за горла, і, з другога боку, характарам дыскусіяў, што на палавінных танах вяліся ў Акадэміі навук і БДУ, з самага пачатку не давала нагоды для перабольшаных спадзяванняў. У якой меры абмежаваны тэрмін існавання Таварыства як на цэнтральным, гэтак і на мясцовым узроўні можа быць патлумачаны тым фактам, што ў праграмнай заяве Пакроўскага з нагоды заснавання арганізацыі выразна быў пазначаны „ленінскі шлях" яе развіцця — гэтае пытанне, натуральна, застаецца адкрытым. Фактам ёсць тое, што імя Сталіна — праз пяць гадоў пасля адыходу Леніна ад актыўнай палітыкі і праз два гады пасля смерці апошняга — у заснавальніцкіх дакументах не згадваецца. Гэтаксама было і з Бухарыным, які быў дасланы ў кіраўніцтва Таварыства з боку ЦК[199]. Калі Сталін у 1931 г. у сваім допісе ў часопіс „Пролетарская революция" абвясціў фармаванне погляду на гісторыю найважнейшый справай, панавала ўжо зусім іншая атмасфера. Застаецца заўважыць, што, акрамя Таварыства, не існавала ніякага іншага спецыяльна-прафесійнага згуртавання ў межах падсавецкай гістарычнай навукі.

Беларуская філія сабралася на свой устаноўчы сход 6 кастрычніка 1927 г. Ад самага пачатку яе дзейнасці рабочыя матэрыялы гэтай структуры з вялікай руп-

[198] Цытаты паводле: Покровский М.Н. Задачи Общества историков-марксистов. (Речь, произнесенная при открытии Общества в заседании 1 июня 1925 г.) // ИМ. 1926. № 1. С.3—10, у гэтым выпадку с.3. Пра Таварыства гісторыкаў-марксістаў з перспектывы цэнтра параўн., акрамя таго: Barber, John. Soviet Historians in Crisis... (op. cit.). C.17 і наст.; Shteppa, Konstantin F. Russian Historians and the Soviet State... (op. cit.). C.91. Пра орган Таварыства часопіс „Историк-марксист" усё яшчэ актуальна: Алаторцева А.И. Журнал „Историк-марксист", 1926—1941 г. Москва, 1979. Пра беларускую філію Таварыства гл.: Михнюк В.М. Становление и развитие исторической науки Советской Белоруссии... (op. cit.). С.91—106.

[199] Покровский М.Н. Задачи Общества историков-марксистов... (op. cit.). С.10; П.Г. В обществе историков-марксистов // ИМ. 1926. № 1. С.317—319, а таксама: Устав общества историков-марксистов // Тамсама, с.320 і наст.

насцю і рэгулярнасцю падаваліся ў ЦК. Там ад гэткага „аб'яднання ўсіх марксісцкіх гісторыкаў Беларусі, якія займаюцца гістарычнымі даследаваннямі“, чакалі канцэнтрацыі ў адным кулаку ўсіх сілаў, прыдатных для змагання на гістарычным фронце. Прафесійная кваліфікацыя пры гэтым не адыгрывала вырашальнай ролі. Гэта выяўляла сябе тым болей выразна, паколькі галоўную частку сяброў — заснавальнікаў Таварыства складалі выкладчыкі „камуністычных ВНУ“ („комвузов“). Таму навуковыя даследаванні вельмі хутка адышлі ў цень „барацьбы супраць буржуазнай навукі“ ды „крытычнай ацэнкі сучаснай гістарычнай літаратуры з марксісцкага гледзішча“. Праведзеных даследаванняў, здавалася, было досыць. Цяпер стаяла задача па-новаму інтэрпрэтаваць даследаванае. Новая „навуковая апрацоўка праблем гісторыі“ павінна была толькі даць матэрыял, на падмурку якога можна было развіваць марксісцкую метадалогію. Устаноўчыя дакументы даччынага Таварыства, акрамя таго, прадугледжвалі практычную супольную працу яго сяброў у падборы літаратуры, забеспячэнні доступу да архіваў, а таксама ў арганізацыі камандзіровак. Задумвалася таксама эфектыўнае развіццё публічнай дзейнасці Таварыства — сярод іншага, правядзенне адкрытых лекцыяў, дыспутаў альбо выданне бюлетэняў і перыёдыкаў.

Напачатку ў Таварыства ўвайшло каля 20 гісторыкаў і партыйных „гістарычных работнікаў“. Яго дырэктар Кнорын увасабляў тып гістарычна дасведчанага прапагандыста. Ігнатоўскі быў тут адзіным прафесарам, у той час як астатнія (Сянкевіч, Хруцкі, Гарбуз, Сосіс, Рыўлін, Югаў) працавалі выкладчыкамі БДУ альбо „комвузов“ (Гельтман, Будкевіч, Пучкоў, Сербента, Канаплін, Воранаў, Панкевіч, Каранеўскі, Выдра, Віткоўскі). У кожным разе, Інбелкульт быў таксама рэпрэзентаваны сваім літоўскім гісторыкам Матулайцісам[200]. У красавіку 1931 г. — гэта значыць у той час, калі Гістпарт стаў для Таварыства надзейнай кузняй кадраў, сюды прыйшла абсалютная бальшыня сяброў менавіта з Гістпарта (Сербента, Югаў, Ю.Майсель, Л.Майсель, Зюзькоў, Ляўкова, Юргелевіч, Гурвіч, Поташ) альбо з „комвузов“ (Будкевіч, Майзэль, Амбрасёнак, Смірнова, Эпштэйн, Карнейчык, Віткоўскі). Інстытуты Акадэміі навук (Матулайціс, Шчарбакоў, Дудкоў, Скардзіс, Кернажыцкі і аспірант Данільчык) альбо універсітэта (Васючынскі, Стальны, Гесэн, Каранеўскі) засталіся хутчэй мала рэпрэзентаванымі. У той самы час у выніку своеасаблівых кар'ерных паваротаў альбо таксама з ініцыятывы вышэйстаячых органаў тут афіцыйна былі рэпрэзентаваныя па адным прадстаўніку ад „Наркамасьветы“ (Панкевіч), ЦК КП(б)Б (Рыўлін), ЦВК БССР (Чарвякоў), а акрамя таго, ад партыйнай газеты „Зьвязда“ (Будзінскі), а таксама ад дзвюх меншых тэхнічных адукацыйных установаў (Кугель, Сянкевіч)[201].

[200] НАРБ, ф.4, воп.7, спр.170, арк.11—18: „Общество историков-марксистов“, у гэтым выпадку гл. арк.17—18: „Проект устава общества Историков-марксистов“. Пра ўмовы сяброўства ў Таварыстве гл.: Тамсама, арк.13.

[201] Звесткі падаюцца паводле: НАРБ, ф.4935, воп.1, спр.24. Пра тое, што склад сяброў Таварыства ў перыяд паміж 1928 і 1931 г. меўся быць досыць нестабільным, можа сведчыць факт, што толькі 5 гісторыкаў, што ўваходзілі ў яго ў 1931 г., былі там і за тры гады перад тым. Бальшыня з 16 пастаянных сяброў кадэнцыі 1928 г. у 1931 г. ужо ў Таварыстве не была: апрача Ігнатоўскага, гаворка ідзе тут пра Матулайціса, Пучкова, Воранава, Выдру, Шапавалава, Меркіна, Лур'е, Гарбуза, Гельтмана, Конанава і Хруцкага. Звесткі ўзятыя з пратакола паседжання Таварыства гісторыкаў-

Канкрэтная дзейнасць Таварыства, відаць, таксама спрычынілася да таго, што названае кола не праіснавала і пяці гадоў. Гэтак, план навуковай працы на першы працоўны год (1927/28) прадугледжваў усталяванне „арганічных працоўных кантактаў з Камуністычнай акадэміяй, Інбелкультам, Гістпартам, Музеем рэвалюцыі і Цэнтральным архівам“. Каб пашырыць склад сваіх сяброў, меркавалася знайсці аднадумцаў у правінцыйных гарадах БССР і прымаць у свае шэрагі таксама аспірантаў. Пры ўсіх гэтых заявах аб намерах рэальная праца гісторыкаў-марксістаў абмежавалася штомесячнымі паседжаннямі, на якіх абмяркоўваліся разнастайныя гістарычныя тэмы. Менш за палова з іх была ў вузкім сэнсе звязана з беларускай гісторыяй — ды й гэтая тэматыка адлюстроўвалася ў рэчышчы гісторыі рэвалюцыйных дасягненняў. Наяўныя крыніцы не дазваляюць высветліць, якія з запланаваных дакладаў сапраўды былі прачытаныя[202].

Пры тым, што праз названы тэматычны план выразна прасвечвала кананізаванае савецкае бачанне гісторыі, якое да тае пары ілюмінавалася ідэямі сусветнай рэвалюцыі, гісторыкі-марксісты не ўразілі сваіх калегаў дасягненнямі ў навуковых даследаваннях ды новымі ведамі. Але існаванне Таварыства было істотным вагаром ціску на астатніх гісторыкаў. З заснаваннем Таварыства на рэгіянальным узроўні партыйная гістарычная візія зрабілася стандартнай версіяй. Той, хто не быў „гісторыкам-марксістам“, а бачыў сябе проста „гісторыкам“, сюды ўжо не ўпісваўся. Таму нікога не павінна было здзіўляць тое, што крыху пазней з'явіліся думкі пра „навуковае аб'яднанне марксістаў“. Паводле ўзроўню свядомасці меліся быць арганізаваныя не толькі гісторыкі, але і фізікі, хімікі і географы, якія лічылі сябе марксістамі. Таксама пазаўніверсітэцкія прафесійныя групоўкі — як, да прыкладу, „аграрнікі“ — дадавалі ў назвы сваіх новазаснаваных арганізацыяў прыдомак „марксісцкі“ і хацелі з гэтага часу быць „аграрнікамі-марксістамі“. Гэта было знакам таго, што каля сярэдзіны 20-х г. панавальная ідэалогія пачала пранізваць грамадства і што адукаваныя слаі ў значнай ступені з ёю пагаджаліся. Гаспадарчыя поспехі часоў нэпа і прыцягальнасць новага зрабілі ўсё астатняе. На паседжанні Таварыства 19 сакавіка 1928 г. абмяркоўвалася мэта стварэння „Аб'яднання навукоўцаў-марксістаў“. У пратаколе было запісана:

марксістаў за 13.02.1928 г., гл.: НАРБ, ф.4, воп.7, спр.195, арк.1 і наст., у гэтым выпадку арк.2. Старшынёй у гэты час яшчэ быў Ігнатоўскі.

[202] НАРБ, ф.4, воп.7, спр.170, арк.11—18, у гэтым выпадку арк.12. У плане прадугледжваліся наступныя тэмы спавешчанняў і дакладчыкі па іх: „Урокі Кастрычніка для Беларусі“ (Ігнатоўскі і Каранеўскі), „Гістарычны матэрыялізм і гісторыя“ (Пучкоў), „Маркс і Энгельс пра Расійскую рэвалюцыю“ (Панкевіч), „Аграрнае пытанне ў II Інтэрнацыянале“ (Рыўлін), „Этапы развіцця беларускай савецкай дзяржаўнасці“ (Канаплін), „Стасункі польскіх рэвалюцыйных арганізацыяў з аналагічнымі арганізацыямі Заходняй Еўропы ў II палове XIX стагоддзя“ і „Пра ўдзел палякаў у Кастрычніцкай рэвалюцыі“ (Гельтман), „«Земля и воля» ў 60-я г. і яе стаўленне да паўстанцкага руху 1863 г. на Віцебшчыне“ (Віткоўскі), „1905-ы год у Беларусі“ (Красавік), „Прычыны паразы нямецкай рэвалюцыі ў 1920 г.“ (Сербента), „Сялянскі рух у Беларусі ў 1905 г.“ (Сянкевіч), „Да праблемы рэвалюцыі ў нямецкай сацыял-дэмакратыі“ (Рыўлін), „Вайсковая арганізацыя Парыжскай камуны“ (Воранаў), „Адам Міцкевіч як сацыяліст“ (Гельтман).

„Таварыш Слонім лічыць ідэю ў прынцыпе добраю, але практычна ён не бачыць у ёй сэнсу. Перадусім магло б стацца так, што праз гэта павялічылася б залежнасць навуковых установаў: «Можна стварыць метадалагічную камісію ў Інбелкульце, марксісцкую секцыю — у БДУ, але гэта б не пакінула без уплыву з іхняга боку нашу навуковую думку»“[203].

Больш рэалістычнаю была прапанова падзяліць Таварыства гісторыкаў-марксістаў на гістарычны, эканамічны і філасофска-сацыялагічны класы, хоць і гэткая мера пры невялікай колькасці сяброў Таварыства значыла хутчэй імітацыю дзейнасці, чым эфектыўную рэарганізацыю. Разглядалася таксама магчымасць згуртавання ўсіх навукоўцаў-марксістаў горада Менска, бо ў міжчассі ў арганізацыю былі прынятыя таксама прадстаўнікі памежных дысцыплін. Рыўлін, якому было даручана сфармуляваць адпаведную прапанову перад ЦК і яго сакратаром Кнорыным, скардзіўся, што ў Інбелкульце ды іншых установах усё яшчэ адсутнічалі марксісцкія суполкі ды інстытуцыі[204]. У канцавым выніку з кожнай прапановы было ажыццёўлена па адным элеменце: у чэрвені 1928 г. гісторыкі-марксісты ўліліся ў новазаснаванае „Общество марксистов БССР“, якое фактычна было роўна менскаму аб'яднанню. Падзеленае на чатыры секцыі, яно прыцягнула ў свае шэрагі на пачатку 1929 г. ажно 60 сяброў. Хоць у новым Таварыстве гісторыкі таксама меліся сфармаваць арганізацыйны стрыжань, у іхняй секцыі было толькі 14 чалавек. Толькі праз год, калі ў БАН пачаў сваю працу Інстытут гісторыі і яго супрацоўнікам было настойліва рэкамендавана сяброўства ў „Обществе марксистов“, колькасць яго асабовага складу ўдалося павялічыць да 35.

Таксама і „Обществу марксистов БССР“ праіснаваць працяглы час наканавана не было. Ужо ў 1930 г. арганізацыя была пераўтворана ў асацыяцыю самастойных таварыстваў. Побач з эканамістамі ды „воинствующими материалистами-диалектиками“, якія пазней знайшлі свой прыстанак у беларускім „комвузе“, гісторыкі-марксісты пад дахам Гістпарта зноў утварылі сваё ўласнае Таварыства. Але, відавочна, нават унутры гістарычнай суполкі погляды паасобных сяброў былі надта адрозныя паміж сабою. Тыя тры гады, што Таварыства яшчэ здолела праіснаваць, былі перапоўненыя маштабнымі „дыскусіямі пра памылкі“, якія вяліся супольна з партыйнымі ідэолагамі і якія не былі пакінутыя па-за межамі даклада менскага прадстаўніка В.А.Сербенты на цэнтральным паседжанні органа Усесаюзнага аб'яднання, што адбылося на пераломе 1929/30 г. у Маскве.

Менавіта даклад Сербенты перад ЦК увосень 1930 г. таксама даваў уяўленне пра існуючыя супярэчнасці. У ягоных выказваннях, што засталіся неапублікаванымі, утрымліваліся закіды на адрас шматлікіх калегаў-гісторыкаў у „скажэнні гісторыі Беларусі і яе Камуністычнай партыі“. Крытыкаваліся ўсе самыя буйныя беларускія гісторыкі. Побач з чарговай порцыяй абвінавачванняў, кінутай у бок Доўнара-Запольскага, цяпер агонь крытыкі быў скіраваны ўжо і на Любаўскага

[203] Пратакол паседжання навукоўцаў-камуністаў за 19.03.1928 г., гл.: НАРБ, ф.4, воп.8, спр.13, арк.134—136. Удзельнікі паседжанння, паводле арыгінальнага напісання: Абрамчук, Хруцкі, Каранеўскі, Пучкоў, Гельтман, Канаплін, Панкевіч, Выдра, Слоім, Лойка і Рыўлін. [Зваротны пераклад з нямецкай мовы. — *Заўвага перакладчыка.*]

[204] НАРБ, ф.4, воп.7, спр.195, арк.6—7: „К вопросу о создании объединений историков-марксистов города Минск (1928 г.)“ [подпіс — Е.Рыўлін].

ды Пічэту. Для беларускай гістарыяграфіі міжваеннага часу шмат што гаворыць рэзюмэ, зробленае аўтарам наконт таго, што каля 1930 г. „ідэалогія контррэвалюцыйнага нацыянал-дэмакратызму, буржуазнага нацыяналізму ды вялікадзяржаўнага шавінізму, якая дагэтуль дамінавала ў гістарычнай літаратуры Беларусі, у большай ці меншай ступені выкараненая"[205].

Тым самым беларускія гісторыкі-марксісты дапамаглі ажыццявіць змену функцыяў гістарычнай навукі, якая ўсё ў большай ступені прымушала Таварыства гісторыкаў-марксістаў выконваць ролю прэтарыянцаў на тэарэтычным фронце. Яго сябры мелі сваім абавязкам займацца выкананнем задач гістарычнай навукі ў рэканструкцыйным перыядзе („реконструктивный период") і яшчэ больш актыўна прасоўваць „камунізацыю" навукова-даследчых установаў. Пасля таго як былі абвешчаныя праграмныя ўстаноўкі Сталіна, а таксама быў апублікаваны памятны артыкул М.Лукіна, найгалоўнейшым баявым паняткам, за якім у аднолькавай меры стаялі змястоўныя і кадравыя наступствы, зрабіўся лозунг „бальшавіцкай партыйнасці ў гістарычнай навуцы". Увогуле, партыя як маштабавызначальная інстанцыя з 1931 г. была глыбока ўмураваная ў навукова-публіцыстычны вакабуляр; цяпер патрабавалася ўжо не проста крытыка нейкай кнігі, але заўсёды яе „партыйная крытыка". Слабыя месцы ў змесце альбо ідэалагічна неадназначныя выказванні кнігі надалей ганьбаваліся як „антыпартыйныя"[206]. Колькасць камуністаў у канкрэтнай навукова-даследчай установе цяпер выйшла на галоўнае месца з гледзішча вызначэння якасці яе працы. Колькаснае ўмацаванне партыйных арганізацыяў аказалася найпільнейшай задачай у змаганні „супраць спробаў рэвізіі ленінізму" і супраць разнастайных іншых адхіленняў ад „генеральнай лініі партыі". Прапагандзе партыйнага погляду на гісторыю таксама павінна была служыць узмоцненая праца Таварыства і яго сяброў з грамадскасцю. Цалкам у духу Гістпарта гісторыкі-марксісты, пачынаючы з 1930 г., меліся рэалізоўваць свае амбіцыі ў выглядзе навукова-папулярных даследаванняў „самых актуальных праблем гісторыі", а таксама праз выданне адпаведнага часопіса. Акрамя цеснай сувязі са спадарожнымі інстытуцыямі, бібліятэкамі і музеямі мусілі арганізоўвацца цыклы лекцыяў, мэтай якіх было падаваць гісторыю без пасярэднікаў[207]. Вядома ж, указанні ды пастановы цэнтральных органаў Таварыства ў Маскве былі абавязковымі да выканання таксама ў правінцыйных філіях.

За найшчыльнейшыя повязі беларускай суполкі гісторыкаў з вышэйшым маскоўскім узроўнем, побач з прэзідэнтам БАН П.В.Горыным, выступаў перад-

[205] НАРБ, ф.60, воп.5, спр.43, арк.124—133, у гэтым выпадку арк.129: „В.А.Сербента. О положении дел на историческом фронте БССР и задачах Общества историков-марксистов". Памфлет Сербенты належыць да нешматлікіх дакументаў, на адрас якіх папрок у вульгарызацыі быў выказаны таксама Міхнюком: гл.: Михнюк В.М. Становление и развитие исторической науки Советской Белоруссии... (op. cit.). С.100.

[206] Параўн. па гэтым пытанні: Лукин Н. За большевистскую партийность в исторической науке. К итогам дискуссии на западном участке исторического фронта // ИМ. 1931. № 22. С.3—10, а таксама: Мильштейн Е., Полянская Г., Толмачев Г. За партийную критику. Против одной вредной рецензии // Тамсама, с.181—183.

[207] Резолюции, принятые на общем собрании историков-марксистов от 19.03.30 г. // ИМ. 1930. № 15. С.165—169, у гэтым выпадку с.167.

усім таксама Вільгельм Кнорын, які належаў яшчэ да сяброў-заснавальнікаў маскоўскага цэнтральнага Таварыства. Ягоны даклад прэзідыуму арганізацыі, які прагучаў ва унісон сталінскаму допісу, і апублікаваная пасля гэтага ў часопісе „Большевик" рэзалюцыя мелі праграмны характар[208]. Дзейнасць Таварыства мусіла надалей прадвызначацца „змаганнем" — супраць групы „кафедральных камуністаў", якая мелася ўзнікнуць на гістарычным фронце, супраць „любых адхіленняў і гульняў апартунізму, супраць лібералізму і замірэнства" і за следаванне „генеральнай лініі партыі". Паводле вызначэння Кнорына, „гістарычныя часопісы, і найперш «Исто́рик-марксист», не сталі баявымі органамі ў змаганнях бальшавікоў на гістарычным фронце". Навуковыя амбіцыі Таварыства губляліся на тле барыкад гістарычнага фронту. Запазычанае са сталінскага допісу патрабаванне „даследавання гісторыі нашай партыі на навуковых бальшавіцкіх шляхах" толькі пагаршала сітуацыю[209]. Гэта, відавочна, былі шляхі, на якіх топасы барацьбы і вырашэння існуючых праблем гвалтоўным чынам упісваліся ва ўладную рыторыку сталінскага часу. Гэтак, зусім невыпадковым быў той факт, што часопіс „Борьба классов", які выходзіў з 1931 г., меў слова „барацьба" нават у сваім загалоўку.

У той час як Ленінградская філія, маючы 19 акадэмікаў і 11 членаў-карэспандэнтаў, цягнулася ў хвасце Маскоўскага цэнтральнага Таварыства з яго адпаведнымі суадносінамі 182 на 192[210], Менскае таварыства знішчала сябе ў акопных баях. Пад час таго як дэбаты адносна сталінскіх выказванняў наконт гістарычнай навукі мелі месца цягам усяго 1932 г., мацнеў узаемны недавер. Усебеларуская канферэнцыя гісторыкаў-марксістаў, што планавалася да правядзення на пачатку года, ужо не магла адбыцца пасля таго як чарговы раз было замененае кіраўніцтва Таварыства. На пачатку 1932 г. дырэктар ИИПОР П.В.Савіч стаў старшынёй Таварыства гісторыкаў і згуртаваў вакол сябе найбольш артадаксальных сяброў Менскага Таварыства гісторыкаў. Нягледзячы на гэта, Таварыства гісторыкаў-марксістаў не здолела праіснаваць больш ні году. Яно распусцілася з сваёй унутранай ініцыятывы. Яго існаванне, што доўжылася якія 6 гадоў, вызначалася бясконцымі палітычнымі баталіямі ўнутры Таварыства і ў дачыненнях са знешнімі апанентамі. Хоць, пачынаючы з 1928 г., у лік „гісторыкаў-марксістаў" мелі права ўваходзіць таксама беспартыйныя гісторыкі[211], доля камуністаў у агульнай колькасці рэпрэзентаваных тут навукоўцаў ды прапагандыстаў гістарычных ведаў ніколі не была ніжэйшаю за 75%. Нягледзячы на гэта, Таварыства ніколі не здолела наблізіцца да адзінай стратэгіі дзеянняў і, пагатоў, да атрымання рэальных вынікаў навуковай працы.

[208] Резолюция фракции общества историков-марксистов по докладу т.Кнорина „О политических уроках письма т.Сталина и задачах исторического фронта" // ИМ. 1932. № 23—24. С.212—215.

[209] Тамсама, с.215.

[210] Покровский М.Н. Очередные задачи историков-марксистов: Доклад на общем собрании историков-марксистов 19.03.1930 г. // *Яго ж.* Историческая наука и борьба классов. Москва—Ленинград, 1933. Вып. 2. С.364.

[211] Гэтую прапанову на пасяджанні Таварыства гісторыкаў-марксістаў 2.01.1928 г. распаўсюдзіў Панкевіч, гл.: НАРБ, ф.4, воп.7, спр.195, арк.1 і наст., у гэтым выпадку арк.1.

# 3. Суперніцтва міфаў: нацыянальная гісторыя супраць савецкай гістарыяграфіі

## *3.1. Гісторыя як навука: найважнейшыя тэксты і іх інтэрпрэтацыя*

### 3.1.1. Узоры інтэрпрэтацыі

Скачкападобны рост інстытуцыянальных і кадравых магчымасцяў беларускай гістарычнай навукі ў 20-я і на пачатку 30-х г. пацягнуў за сабою, у параўнанні з падсавецкім часам, сапраўдны паток тэкстаў. За ўвесь міжваенны перыяд (1918—1941 г.) налічваецца 140 апублікаваных працаў толькі па тэме „Гісторыя Беларусі ў часы феадалізму". У іх ліку былі 23 кнігі і брашуры, 102 артыкулы ў навуковых часопісах і зборніках, 16 артыкулаў у газетах. Тэматычна тут выразна пераважалі працы па гісторыі беларускай культуры (57 назваў), сярод якіх чатыры выйшлі ў выглядзе асобных кніг. Акрамя таго, можна адзначыць дзесяць працаў агляднага характару, 11 працаў па аграрнай гісторыі, 11 — па гісторыі гарадоў, 13 — па палітычнай гісторыі, 12 — па крыніцазнаўстве, 10 — па гістарыяграфіі, а 8 працаў было прысвечана пытанням класавай і вызваленчай барацьбы. Да гэтага даваліся таксама 6 збораў крыніц і 3 даследаванні па гісторыі царквы ў Беларусі.

Як гэта мела месца і да 1917 г., публікацыя крыніц складала значную частку гістарыяграфічнай прадукцыі. Трохтамовы „Беларускі архіў", выдадзены ў 1927—30 г., і апублікаваны ІГ АН БССР першы том „Гісторыі Беларусі ў дакументах і матэрыялах" дакументуюць змену кірунку ў гістарычнай навуцы ў цэлым[212]. Культурна-гістарычныя даследаванні 20-х г. пераважна маглі быць толькі ўмоўна дастасаваныя да новых тэарэтычных пастулатаў падсавецкай гістарыяграфіі. Яшчэ цяжэй было іх прэзентаваць пазней у якасці вартага ўхвалення выніку марксісцка-ленінскай пераарыентацыі гістарычнай навукі[213].

Хоць у вялікім тэматычным абсягу беларускай гістарыяграфіі пераважалі зноў-такі публіцыстычныя выступы, да сярэдзіны 20-х г. склалася гэткая сітуацыя, што няможна было не заўважыць новай якасці навуковай працы і публікацыяў яе вынікаў. Да таго часу паўсталі функцыянальна дзейсныя выдавецкія

[212] Гісторыя Беларусі ў дакументах і матэрыялах (Выданне ІГ АН БССР). Т.1. Менск, 1936. Сярод 396 змешчаных тут дакументаў аж тры былі надрукаваныя ўпершыню. Побач са зборамі крыніц па дасавецкай гісторыі „эпохі феадалізму" перадусім у свет выходзілі юбілейныя публікацыі. Таму нікога не павінна здзіўляць, што з нагоды 20-й гадавіны „першай буржуазнай рэвалюцыі" 1905 г. былі да 1927 г. надрукаваныя тры зборнікі. Пра плён публікацыі крыніц у БССРаўскай гістарыяграфіі параўн.: Копысский З.Ю. Сборники документов по истории Белоруссии, изданные в БССР (1921—1971 г.) // Археографический ежегодник за 1974 год. Москва, 1975. С.13—23.

[213] Спробы „абмежавання ценявых бакоў", а таксама лічбы гл. у: Копысский З.Ю., Чепко В.В. Историография БССР: Эпоха феодализма. Мінск, 1986. С.64 і наст. Варта асобна зазначыць, што ў гэтыя звесткі ўключаныя таксама працы па гісторыі Беларусі, што былі створаныя ў Маскве — аднак толькі тыя сярод іх, што былі прысвечаныя гісторыі XII— пач.XIX ст.

ўстановы, выйшлі серыі навуковых публікацыяў, склаліся міжнародныя навукова-даследніцкія дачыненні, дзякуючы якім структурна нямоцная беларуская навука ўсё ж такі выйшла на салідны ўзровень. Іншай вонкавай прыкметай гэтага скачка ў развіцці было рэгулярнае інфармаванне пра вынікі працы ды актуальныя праекты даследаванняў у галіне беларускай гістарыяграфіі. І тут нельга было не ўбачыць тэндэнцыі да інтэрнацыяналізацыі[214]. Надалей гаворка ў агульных рысах пойдзе пра спектр інтэрпрэтацыяў, якія ў пачатку 20-х г. былі вызначальным для беларускай гістарыяграфіі. Праз бачанне своеасаблівага супадзення з біяграфіямі гісторыкаў можна вылучыць і зафіксаваць на прыкладзе важных паасобных публікацыяў чатыры інтэрпрэтацыйныя падыходы.

*Нацыяналістычныя публіцысты.* Віленскі публіцыст Ігнат Абдзіраловіч, у свеце Ігнат Канчэўскі, у 1921 г. як адказ на падпісанне Рыжскай мірнай дамовы стварыў эсэ пра „беларускі сьветагляд", якое было таксама ўспрынята ў Менску, а ў постсавецкі перыяд лічылася адкрыццём для беларускай нацыянальнай гістарыяграфіі, што адраджалася. У перспектыве, якую бачыў аўтар гэтай працы, гістарычная Беларусь была падобная да фартэцыі, якую па чарзе абкладаюць „заходні ды ўсходні месіянізм"; нацыянальная цэласнасць ды дабратворнае самавызначэнне гэтай фартэцыі мусяць быць забяспечаныя. Паводле Абдзіраловіча, дзве „месіянскія" нацыі пачалі аднаўленне сваіх колішніх імперыяў — сапраўднай (Расіі) і ўяўнай (Польшчы), прычым апошняя без якіх-кольвечы падставаў прэтэндуе на дамінаванне ва ўсёй канфедэрацыі палякаў, беларусаў ды літоўцаў — *Рэчы Паспалітай.* Праз гэта паддаецца сумневу не толькі суверэнітэт, а і самое існаванне беларускай нацыі.

> „Беларусь ад X веку і да гэтай пары фактычна зьяўляецца полем змаганьня двох кірункаў эўрапейскай, пеўна арыйскай, культуры — заходняга і ўсходняга. Граніца абодвых уплываў, падзяляючы славянства на два станы, праходзіць праз Беларусь, Украіну і хаваецца ў балканскіх краёх.
>
> Дзесяцёхвяковае ваганьне сьведчыць аб тым, што беларусы, як украінцы і балканскія славяны, не маглі шчыра прылучыцца ні да аднаго, ні да другога кірунку. Мы не зрабіліся народам Усходу, але не прынялі й культуры Зах. Эўропы [...]
>
> Ваганьне паміж Захадам і Ўсходам і шчырая няпрыхільнасьць ні да аднаго, ні да другога зьяўляецца асноўнаю адзнакаю гісторыі беларускага народу. Прыклад Скарыны, аб якім да гэтай пары няведама, хто ён быў такі, ці каталік, ці праваслаўны, і пеўна, што і той і другі разам, адбівае гэтае зьявішча беларускага духу ў індывідуальнасьці, у душы нашага першага інтэлігента. Гэтую рысу беларуская інтэлігенцыя захавала і да нашай пары..."[215].

Выведзеная на падставе гістарычных дапушчэнняў формула „беларускай ідэі", якая адмяжоўвае сябе як ад экспансійнага ўсходнеславянскага візантыйства ды „абшчыннасьці", гэтак і ад заходняга індывідуалізму і схільнасці апошняга да

[214] Узнікненне гістарыяграфічнай традыцыі перадусім звязанае з імем Пічэты; гл.: Пичета В. Новые работы по истории Белоруссии // Вестник Народного комиссариата просвещения. 1921. № 2. С.18—24; *Яго ж.* Историография Белоруссии // *Яго ж.* Введение в русскую историю (источники и историография). Москва, 1922; *Яго ж.* Die weißrussische Geschichtsforschung // SRU 1 (1929). С.661—666, 823—827.

[215] Абдзіраловіч Ігнат. [Адвечным шляхам:] Дасьледзіны беларускага сьветагляду. Вільня, 1921; тут і далей цытуецца паводле перавыдання (Мінск, 1993), с.8—9.

асіміляцыі „найслабейшых“ і „малых“ народаў, пазней зрабілася гістарычна-філасофскім падмуркам беларускай нацыянальнай гістарыяграфіі, цэнтрамі якой пераважна былі Вільня і Коўна. Гэтую ідэю перадусім падхапіў Вацлаў Ластоўскі з яго „рухам за Крывію“. Пра месіянізм Абдзіраловіч таксама пісаў:

„...Бо на прыкладзе чужацкіх мэсыянізмаў мы бачылі, як страшэнна сьціскае жыцьцё адтрымаўшая неакрэсьленую ўладу форма. З нашага высокага парыву індывідуальнага і народнага адраджэньня ня створым жа гвалту і енку ні для іншых, ні для саміх сябе: не павінна быць беларускага мэсыянізму“[216].

Нацыянальна арыентаванае разуменне мінуўшчыны павінна было ў той час — як і пасля распаду Савецкага Саюзу — схіляць да таго, каб бачыць у беларушчыне „сінтэзу найлепшых бакоў абедзвюх культурна-гістарычных альтэрнатываў на падмурку самабытных беларускіх формаў грамадскага жыцця і культуры“, „адмаўленне усялякіх, раз і назаўсёды вызначаных аб’ектывісцкіх ды негуманістычных ідэяў ды прынцыпаў грамадска-палітычнага і эканамічнага ладу ў выглядзе «капіталізму» ды «сацыялізму»“[217]. Антырасійская і антыпольская пазіцыя мусілі стаць фірмовым знакам нацыяналістычнай школы беларускай гістарыяграфіі.

*Нацыянальныя навукоўцы.* Больш масава ў сваіх ацэнках выявіла сябе „галоўная плынь“ (*mainstream*) падсавецка-беларускай гістарыяграфіі дваццатых гадоў, цесна звязаная з імёнамі гэтакіх асоб, як Пічэта, Дружчыц альбо Доўнар-Запольскі. Трэба адзначыць, што і памяркоўныя нацыянальныя гісторыкі ў палітычна-напружаных сітуацыях схіляліся да патэтычных перабольшанняў — як пра гэта сведчыць палкі выступ Доўнара-Запольскага ў 1918 г. на абарону беларускай дзяржаўнасці. У рукапісе апублікаваных Пічэтам у 1920 г. лекцыяў „Гісторыя беларускага народа“ былі папярэдне сфармуляваныя метадалагічныя і зместавыя канстанты лаяльнай беларускай нацыянальна арыентаванай гістарыяграфіі. У камбінаванні гістарычна-эканамічных, гістарычна-сацыяльных і гістарычна-культурніцкіх элементаў падрабязныя лічбавыя выкладкі і дэталёвыя апісанні эканамічных працэсаў раз-пораз ужываліся дзеля таго, каб адвесці ўвагу цэнзуры ўбок ад стрыжнявых выказванняў пра культурную самабытнасць беларускага народа і яго самастойнае, доўгі час незалежнае ад Расіі развіццё. У супрацьлегласць да нацыянальна-экзальтаванай тэорыі „беларускага культурнага анклаву“ Пічэта не толькі тут увесь час звяртаў увагу на лініі моцнай повязі з еўрапейскай традыцыяй у беларускай гісторыі. Побач з „беларускім адраджэннем“ XVI ст. і „вылучэннем беларусаў з агульнарускага жыцця“ праз стварэнне „самабытнай беларускай мовы“[218] да важных тэм беларускай нацыянальнай гіста-

[216] Тамсама, с.17 і наст.

[217] Гэтак на пачатку 1990-х г. выказваўся мінскі філосаф Уладзімір Конан. Параўн. абмеркаванне ў раздз.4.

[218] Пичета В. История белорусского народа // Отдел просвещения национальных меньшинств Наркомпроса. Белорусский отдел: Курс белоруссоведения. [Москва, 1920]. С.1—84, у гэтым выпадку с. 8 і наст., с.36 і наст. Як відаць, аднак, пра выданне гэтай працы клапаціўся Беларускі пададдзел аддзела асветы нацыянальных мяншыняў маскоўскага „Наркомпроса“.

рыяграфіі належалі таксама гэткія злучальныя звёны, як магдэбургскае права, гандлёвыя кантакты, моцны ўплыў пратэстантызму — у прыватнасці, кальвінізму. Асабліва ўдала атрымлівалася знаходзіць усё новыя аргументы пры асвятленні гэткіх тэм, як маштабнае гаспадарчае развіццё гарадоў у „Літоўска-Рускай дзяржаве“ і ўтварэнне „гарадской супольнасці“. Нягледзячы на розныя тэмпы і характар станаўлення, у гэтым аспекце, паводле меркавання аўтара, „італьянскае і заходнерускае Адраджэнне мелі адныя і тыя карані“[219]. Тым не менш, пры ўсёй той высокай ацэнцы і ўгрунтаваным на крыніцах паказе ўласных культурна-гістарычных дасягненняў беларусаў Пічэта і іншыя былі надта далёкія ад таго, каб разважаць пра пэўную „беларускую ідэю“. Тэрміналогія, што ўжывалася для адлюстравання стрыжнявых гістарыяграфічных паняццяў, з дапамогай якой, да прыкладу, характарызавалася „месца Беларусі ў Літоўска-Рускай дзяржаве“ альбо канстатавалася „перавага беларускай нацыянальнасці“ ў названай дзяржаве, была непрэтэнцыёзнай і блізкай да той, якая існавала ў першакрыніцах. У кожным разе, пра „беларускую дзяржаву“ гаворка не ішла.

*„Нацыянал-камуністы“ ў навуковым ды іншых асяроддзях.* Трэцяя перспектыва, што была ад пачатку 20-х г. звязаная з праблемамі старадаўняй і найноўшай гісторыі, як і першая з названых, вынікала з інтарэсаў, якія вызначаліся супрацьлеглымі палітычнымі падыходамі. Беларуская камуністычная арганізацыя (БКА) на чале з Ігнатоўскім, Жылуновічам і Кнорыным, што выйшла з нетраў эсэраўскага і сацыял-дэмакратычнага асяроддзя, у снежні 1921 г. шукала падыходаў да інтэрпрэтацыі гісторыі беларускімі камуністамі, а праз гэта і вызначэнне свайго паходжання. За зместам 13 тэзаў, што былі апублікаваныя на пачатку снежня 1921 г. і мусілі ўтварыць часовы ідэалагічна-гістарычны падмурак КП(б)Б, стаяла постаць іх аўтара, кіраўніка БКА Ігнатоўскага. У якасці першакрыніцы служыў ягоны „Кароткі нарыс гісторыі Беларусі“, які незадоўга перад тым выйшаў з друку. Пасля гэтага не прайшло і сямі гадоў, як партыя асудзіла і сам нарыс, і яго аўтара [паводле наяўных крыніц, першыя спробы асудзіць кнігу прыпадаюць на 1929 г., а сканфіскаваная з бібліятэк яна была ў 1931 г. — *Заўвага перакладчыка.*].

У падмурку тэзаў была нацыянальная канцэпцыя. Паводле гэтага пункту погляду, як гістарычна цэласнае ўтварэнне Беларусь узнікла ў IX ст. у выглядзе Полацкага княства, якое вяло актыўны гандаль і „здолела стварыць значную культуру ў межах вялікага ўсходнеславянскага племя“. У сваю чаргу, у межах „Беларуска-літоўскай дзяржавы“, утворанай у XIV ст., меліся ўзнікнуць „пачаткі беларускай культуры“, перанятыя ў XVII ст. Масковіяй і імплантаваныя ва ўсходні дзяржаўны лад. Польская і расійская інкарпарацыі беларускіх земляў, якія мелі месца па чарзе, пачынаючы з XVI ст., прывялі, паводле Ігнатоўскага, да „дэнацыяналізацыі“ вышэйшых станаў грамадства і каланізацыі краю. У той самы час, рэвалюцыя 1917 г. мелася распачаць „нацыянальнае і культурнае адраджэнне масаў і [...] прывесці да росту іх самасвядомасці“. Падтрымка адукацыі, беларускай мовы і культуры, а таксама барацьба супраць вялікарасійскага шавініз-

[219] Тамсама, с.38.

му мусілі, паводле аўтара тэзаў, зрабіцца найважнейшымі задачамі камуністаў[220]. Падрабязна апісанае ў „Кароткім нарысе" і коратка выкладзенае ў тэзах Ігнатоўскага, гэтым самым было сфармуляванае бачанне гісторыі, у якім утрымліваліся нацыянальныя і сацыяльныя сегменты і якое забяспечвала партыю аж да змены кірунку ў 1928 г. гнуткай гістарычна-ідэалагічнай праграмай. Напачатку ёю можна было карыстацца на практыцы. Магчымасць выкарыстання гістарычных ведаў была адным з вызначальных крытэрыяў будучых даследніцкіх намаганняў; гісторыя мусіла быць перадусім прыдатнай для штодзённай справы агітацыі ды прапаганды. У той час як гістарычна-эканамічнае і сацыяльна-гістарычнае беларусазнаўства зрабіла стаўку на крыніцазнаўчую абгрунтаванасць ды навуковасць, для нацыянальна і партыйна арыентаваных гісторыкаў кшталту Ігнатоўскага палітыка таксама заставалася рухальнай сілай для правядзення гістарычных даследаванняў. Таму ні для кога не павінна быць дзіўным тое, што гэты ідэалагічна-гістарычны кампраміс знайшоў свой адбітак у большыні беларускіх — зрэшты, таксама і ўкраінскіх — працаў, якія выйшлі да 1930 г.

Праілюстраваць гэта можна на невялікім прыкладзе. Я.А.Пятрыкоў у сваёй апублікаванай у 1925 г. працы на тэму „Аднаўленне Беларусі" на пярэдні план высунуў развіццё беларускай нацыянальнай культуры і яе самабытнага характару. Гэты працэс, паводле яго меркавання, пачаўся з росквіту княстваў Полацкага, а таксама Турава-Пінскага ды Смаленскага ў X і XI ст. Калі вялікія князі Літоўска-Беларускага княства характарызуюцца як „прыгнятальнікі", а наступная гісторыя беларускіх земляў — як працэс страты імі незалежнасці на карысць польскіх магнатаў („у выніку чаго беларуская нацыя была зноў разбураная"), відавочным робіцца кампрамісны характар гэтага даследавання. Шукаліся прамежкавыя фармулёўкі, паўтоны, з дапамогай якіх было б магчыма паяднаць канцэпцыю Ігнатоўскага і нацыянальнай гістарычнай школы з сутнаснымі патрабаваннямі падсавецкай гістарыяграфіі. Гэтаму гледзішчу адпавядаў вобраз „спакутаванай Беларусі", якая заўсёды служыла полем бітвы паміж Польшчай і Расіяй. Анексаванне Расійскай імперыяй у канцы XVIII ст., падзел беларускай тэрыторыі на губерні і падпарадкаванне прававым нормам царскай дзяржавы падаваліся як вызваленне ад польскага панавання, хоць — у духу таго самага „кампрамісу" — наступная „русіфікацыя" не засталася нязгаданай. Пасля „канчатковага распаду этнічнай Беларусі" пад час бурлівых падзеяў Першай сусветнай вайны і ўсведамлення таго факта, што больш за мільён чалавек у заходніх рэгіёнах Беларусі былі „пакінутыя на волю лёсу", маўляў, пачалося „аднаўленне" краю. „Вызваленне Чырвонай арміяй ад польскіх акупантаў" і „аднаўленне Беларусі" — вось апошнія кампаненты кампраміснай інтэрпрэтацыі найноўшай беларускай гісторыі[221].

Выкарыстоўваючы наборы аргументаў гэткага кшталту, беларускія гісторыкі рухаліся ў межах той форы, якая пакуль што была ім дадзена Масквою — калі не

[220] Тезисы о Белорусском национальном вопросе и Коммунистической партии // Известия ЦК КП(б)Б. Мінск, [1921]. № 14. Перадрукавана ў: Вольны сьцяг (Менск), 25.12.1921 г. С.38—40. Параўн. таксама: Zaprudnik, Jan. The Communist Party of Belorussia. An Outline of its History // BR 7 (1959). С.23—39; Кнорин В. Пять лет: Краткий конспект к истории КП(б)Б... (op. cit.).

[221] Пятрыкоў Я.А. Адноўленьне Беларусі. Менск, 1925.

самім Сталіным, дык Пакроўскім і яго атачэннем. З гледзішча разумення нацыянальнага пытання кідалася ў вочы вялікае супадзенне ідэяў Пакроўскага і Сталіна. Абодва яны разглядалі рэвалюцыю як пераломны пункт, які меўся пазначыць пераход да нацыянальнае свабоды і канец прыгнёту малых народаў з боку вялікарасійскага шавінізму. Расійскі каланіялізм, захоп земляў на Поўдні і на Ўсходзе Пакроўскі разглядаў увогуле як найвялікшае злачынства, якое нічым не можа быць апраўданае[222]. Менавіта гэтыя, часам рэзкія, абвінавачванні ў бок „расійскай гісторыі“ не ў апошнюю чаргу вельмі аблегчылі задачу ягоным крытыкам часова вывесці яго з пантэону гістарыяграфіі. Погляды на нацыянальнае пытанне тым часам уносілі расколы паміж пакаленнямі гісторыкаў. І ў працах беларускіх гісторыкаў 20-х г. наконт царскай палітыкі ў дачыненні да правінцыяў таксама пераважна дамінавала крытычная танальнасць[223]. Царская эпоха па-ранейшаму разумелася як гісторыя, вартая пракляцця, а не як „свая ўласная“. Сітуацыя павінна была памяняцца на пачатку 30-х г.

*Гісторыкі рэвалюцыі.* Спектр раннесавецкіх інтэрпрэтацыяў мінуўшчыны ў Беларусі дапаўняўся чацвёртым тыпам — партыйна-рэвалюцыйнай гістарыяграфіяй. З сярэдзіны 20-х г., а перадусім пачынаючы з 1925 (20-годдзе першай расійскай рэвалюцыі) і 1927 (10-годдзе Кастрычніцкай рэвалюцыі) гадоў, гэтая сфера даследаванняў пашыралася да бясконцасці. З прычыны сваёй аднатыпнасці ў агульнасавецкім кантэксце рэвалюцыйнае летапісанне будзе тут закранутае толькі побегам. Фактам ёсць тое, што ўжо на пачатку 20-х г. публіцысты-энтузіясты займаліся стварэннем у значнай ступені дэнацыяналізаванага вобраза гісторыі, для чаго партыя — як гэта відаць з тлумачэння папярэдняй мадэлі інтэрпрэтацыі — уласна кажучы, была яшчэ непадрыхтаваная. Гэткія працы, як кнорынскі „Кароткі канспект да гісторыі КП(б)Б“ альбо задуманае ў выглядзе гістарычнага выкладу апісанне з нагоды заснавання БССР пад назвай „1 студзеня — рэвалюцыйна-гістарычнае свята Савецкай Беларусі“ (абедзве працы выйшлі ў 1922 г.) у аднолькавай ступені вызначалі наперад прэтэнзіі і маштабы мэтаў беларускай гістарыяграфіі рэвалюцыі. Як адзіная сярод аналізаваных тут чатырох інтэрпрэтацыйных мадэляў партыйная гістарыяграфія ў сваёй першапачатковай форме „мела перспектыву на будучыню“, бо яна ад самага пачатку сведчыла сваю адданасць „рэвалюцыйнаму патрыятызму працоўных масаў“, які да 1934 г. меўся атрымаць новую дэфініцыю — „савецкі патрыятызм“[224]. Да трывалай традыцыі таксама належала канцэнтраванне ўвагі на працоўных, якія „ў гістарычным жыцці кожнай краіны мелі найбольшую вагу“ і цяпер пасля стагоддзяў чужога панавання ўпершыню маглі пачувацца „гаспадарамі ў сваёй сацыялістычнай рэспубліцы“. Тут своеасаблівым чынам зліваецца спектр чатырох інтэрпрэтацыйных узораў. Гэтаксама, як і Абдзіраловіч, ананімны аўтар арты-

[222] Покровский М.Н. Русская история в самом сжатом очерке. Москва, 1934. Т.3. С.223, а таксама: *Яго ж.* Возникновение московского государства и „великорусская“ народность // ИМ. 1930. № 18—19. С.14—19.

[223] Параўн.: Tillet, Lowell. The Great Friendship... (op. cit.). С.33 і наст.

[224] N.N. 1 студзеня — рэвалюцыйна-гістарычнае сьвята Савецкай Беларусі // Полымя. 1922. № 1(1). С.41—44, у гэтым выпадку с.43.

кула ў часопісе „Полымя" адзначаў прамежкавае геапалітычнае і культурнае становішча Беларусі ў гісторыі:

> „Эканамічна й культурна адсталая, пры гэтым разложаная між двума магутнымі народамі, Беларусь на працягу многіх вякоў свайго быцьця зьяўлялася месцам змаганьня між яе суседзямі за розныя сваркі й больш за сваркі аб ёй самой. [...] Беларусі мела долю вечна акупаванай краіны — чаму беларускім працоўным грамадам жылося неўмагату цяжка й трудна"[225].

З гістарычнага факта чужога дамінавання рэвалюцыйная гістарыяграфія, натуральна, не выводзіла аніякай трансцэндэнтнай „беларускай ідэі", а гаварыла пра патрабаванне масамі рэвалюцыйных змяненняў. Тым самым, Кастрычніцкая рэвалюцыя разглядалася часткай беларускіх гісторыкаў, гэтаксама як школай Пакроўскага ў Маскве альбо Мацвеем Яворскім у Кіеве, паваротным пунктам у гісторыі. Розныя мадэлі інтэрпрэтацыі беларускай гісторыі ўжо на пачатку 20-х г. прывялі да палярызацыі думак у асяроддзі гісторыкаў, якая знаходзіла сваё развіццё ў далейшых тэкстах. На аснове вышэйназваных чатырох інтэрпрэтацыйных узораў далей будуць паказаныя праблемы, што былі ў цэнтры гістарычных дыскусіяў у 1924—1934 г. — стрыжнявой эпосе, калі адбываўся пераход ад нацыянальнай да падсавецкай гістарыяграфіі.

Дэкрэтаваны і здзейснены ў 20-я г. ва ўсіх нерасійскіх падсавецкіх рэспубліках пераход ад нацыянальна арыентаванай да саветызаванай гістарыяграфіі пацягнуў за сабою датуль нечуваную тэматычную разнастайнасць. Перадусім гэта была адначасовасць неадначасовага — як, да прыкладу, супрацоўніцтва зусім розных пакаленняў гісторыкаў з абсалютна адрознымі светапоглядамі, — праз якую даследніцкія намаганні былі скіраваныя ў зусім розныя напрамкі. Надалей, побач з падыходамі перыядызацыі гісторыі, будуць канкрэтна разгледжаныя чатыры тэматычныя блокі беларускай гістарычнай дыскусіі раннесталінскага часу. Гэтым самым будзе праілюстраваная эвалюцыя асноўных зацікаўленняў у параўнанні з дасавецкім часам.

### 3.1.2. Перыядызацыя

У перыяд з 1924 да 1934 г. — калі браць пад увагу і навуковую публіцыстыку — выйшла шэсць сінтэзаў „гісторыі Беларусі" альбо „беларускага народа"[226]. З гледзішча пабудовы зместу названых працаў і прапановаў адносна перыядызацыі

[225] Тамсама, с.42.

[226] Пічэта У. Гісторыя Беларусі, ч. першая. Масква—Ленінград, 1924; Дружчыц В. Галоўныя моманты ў гісторыі беларускага народу // Беларусь. Нарысы гісторыі, эканомікі, культурнага і рэвалюцыйнага руху: Колектыўная праца пад агульнай рэд. А.Сташэўскага, З.Жылуновіча і У.Ігнатоўскага (Выданьне ЦВК БССР). Менск, 1924. С.5—21; Доўнар-Запольскі М.В. Гісторыя Беларусі. Мінск, 1994 (упершыню апубл.; напісана ў 1924—25 г.); Ігнатоўскі У. Кароткі нарыс гісторыі Беларусі. Менск, 1926 (4-е выд.); Пичета В. Исторические судьбы Западной Белоруссии // Западная Белоруссия: Сб. статей. Т.1. Менск, 1927. С.44—90; Шчарбакоў В.К. Нарыс гісторыі Беларусі. Ч.1. Менск, 1934. Акрамя таго: Исторический очерк // Белорусская Советская Социалистическая Республика (Изд. СНК БССР). Менск, 1927. С.21—43; Пичета В. Белоруссия. Исторический очерк // БСЭ. Т.5. Москва, 1927. Кал.354—358; С.А. (=С.Агурский). Белоруссия // МСЭ. Т.1. Москва, 1937 (2-е изд.). Кал.801 і наст.

беларускай гісторыі, што ў іх утрымліваюцца, у дачыненні да найбольш прадукцыйнага дзесяцігоддзя беларускай гістарыяграфіі напраўду вельмі заўважнае тое, што гэта быў час змены метадалагічных і ідэалагічных арыенціраў. Калі ў сінтэтычных працах, што выйшлі да канца 20-х г., дамінавала схема дзяржаўнай гісторыі, якая ўключала ў сябе традыцыйныя напрацоўкі расійскай дзяржаўніцкай школы, а таксама беларускай нацыянальнай версіі інтэрпрэтацыі мінулага, з пачатку 30-х г. у якасці структуравальнай схемы галоўнае месца заняла марксісцка-ленінская тэорыя сацыяльна-грамадскіх фармацыяў. Калі ў 1934 г. крытыка абстрактнага разумення фармацыі прагучала ад самога Сталіна, вульгарна-марксісцкая гістарыяграфія ў Менску, Кіеве ды Маскве амаль стопрацэнтова апынулася ў духоўным крызісе, з якога ёй — як было паказана вышэй — удалося выбрацца толькі пакінуўшы гару аскепкаў.

Шырокае распаўсюджанне меў напісаны яшчэ ў 1918/19 г. і спачатку надрукаваны ў Вільні „Кароткі нарыс гісторыі Беларусі" Ўсевалада Ігнатоўскага. У чацвёртым, „перарobленым" выданні 1926 г., якое, маючы наклад 15 тысяч асобнікаў, нават выкарыстоўвалася ў якасці школьнага падручніка, аўтар упершыню змясціў кароткі агляд гісторыі тэрыторыі БССР да 1924 г. Ужо ў трэцім выданні (1921 г.) Ігнатоўскі падкрэсліваў, што апрацаванне гісторыі Беларусі як самастойнай дзяржавы, маўляў, можа быць распачатае толькі цяпер, бо да рэвалюцыі існавала толькі „гісторыя агульнай, непадзельнай Расіі". Але і ён, гэтаксама як гэта рабілі раней Ластоўскі ды іншыя, прытрымліваўся пяцічасткавай схемы перыядызацыі дасавецкай беларускай гісторыі. Падзел на полацкі, літоўска-беларускі, польскі і расійскі перыяды адмаўляў толькі этап дагістарычнага развіцця плямёнаў ва ўсходнеславянскай прасторы. Для „Полацкага перыяду", які паводле гэтай перыядызацыі, доўжыўся з IX па XIII ст., меліся быць вызначальнымі вельмі кароткі час залежнасці полацкіх князёў ад Кіева і росквіт Полацкай дзяржавы ў часы княжання Усяслава. Эпоха „Літоўска-Беларускай дзяржавы", якая ў Ігнатоўскага ўпершыню скрозь падавалася пад такой назвай, займала прамежак часу з XIII да сярэдзіны XVI ст. Пасля Люблінскай уніі 1569 г., у перыяд да падзелаў Рэчы Паспалітай, Беларусь, паводле Ігнатоўскага, цалкам страціла сваю адносную самастойнасць часоў Вялікага Княства. З канца XVIII ст. пачаўся чацвёрты, „расійскі перыяд", пад час якога зноў-такі вызначальнымі былі працэсы страты нацыянальнай адметнасці беларускага народа. Толькі „цяперашняя вялікая рэвалюцыя" прывяла, маўляў, да распаду царскай Расіі і вызвалення Беларусі. З кастрычніка 1917 г. меўся пачацца „пяты" этап гісторыі Беларусі, які „мы перажываем у сучасны момант"[227]. Нават калі не надаваць занадта вялікага значэння ўжыванню слова „перажываем", пра сусветна-рэвалюцыйны пафас у гэтым выпадку гаворкі быць не магло.

Хоць вышэйназваная перыядызацыя ўсё ж такі магла б быць названая „канвенцыянальнаю", у ёй адлюстроўваліся дзве асаблівасці, праз якія, відавочна, аддавалася даніна зменeным палітычным умовам. У адрозненне, да прыкладу, ад Ластоўскага, які за дзесяць гадоў перад тым падкрэсліваў, што пасля Люблін-

[227] Ігнатоўскі У. Кароткі нарыс гісторыі Беларусі. Мінск, 1991 (5-е выд., з 4-га). С.28—30 („Пэрыоды гісторыі Беларусі") і 166.

скае уніі 1569 г. землі Вялікага Княства Літоўскага ў значнай ступені здолелі захаваць сваю самабытнасць, Ігнатоўскі скіраваў увесь свой крытычны пафас гісторыка менавіта на заключаную унію. У інтэрпрэтацыі апошняга Беларусь-Літва пасля 1569 г. перастала існаваць як самастойная структура. Другая асаблівасць закранае трактаванне раннесавецкага „пятага“ перыяду. Тэкст нарыса ствараўся беспасярэдне ў той час, калі адбываліся вялікія змены 1917—1918 г., і ўвесь час выпраўляўся і змяняўся. Апісанні новых умоваў развіцця беларускай гісторыі пасля 1917 г. пакідаюць ураджанне дадаткова выкананага абавязковага практыкавання, з дапамогай якога было жаданне зрабіць тэкст зручным. Сам Ігнатоўскі ў гэты час пераадольваў шлях ад левага сацыял-рэвалюцыянера да камуніста-нацыянал-патрыёта, які ўжо меў шчыльныя повязі з РКП(б). Яго бальшавіцкая партыйная кар'ера, аднак, пачалася на чатыры гады пазней, калі ён у 1923 г. стаў кандыдатам у члены [Бюро ЦК] партыі. Тым самым тэкст, які аўтар выдаў у 1926 г. у перапрацаваным варыянце, можа быць прылічаны аднначасова да працаў дасавецкай і раннесавецкай гістарыяграфіі і, адпаведным чынам, да той сістэмы аргументаў, згодна з якой 1917 год не ёсць беспасярэднім паваротным пунктам у гістарыяграфіі. Хутчэй, у „Кароткім нарысе“ Ігнатоўскага засталася прысутнаю традыцыя расійскай дзяржаўніцкай гістарычнай школы, згодна з якой у кнізе па гісторыі структуравальная і перыядызавальная якасць надавалася дзяржаўнай прыналежнасці пэўнай тэрыторыі. Адначасна выразна выявіў сябе нацыянальна-гістарычны падыход, калі Ігнатоўскі называў Полацк і, тым самым, карэнныя беларускія тэрыторыі ў IX—XIII ст. „ад самага пачатку незалежнымі“. Гэтаксама як незалежніцкая думка праходзіць чырвонай ніткай праз усе перыяды, што даследуюцца, у працы Ігнатоўскага праз паказ беларускай гісторыі як гісторыі паўстанняў рэкламуецца прыналежнасць да трэцяй гістарыяграфічнай тэндэнцыі — да новай школы сацыялістычнай інтэрпрэтацыі мінулага, у цэнтры ўвагі якой — народная „любоў да свабоды“. Калі, акрамя гэтага, аўтар першым сярод беларускіх гісторыкаў зрабіў аб'ектам свайго разгляду першыя гады Савецкай улады і, напрыклад, угледзеў у VI Паўночна-Заходняй канферэнцыі РКП(б) спробу вырашэння дзвюх задач — „бальшавізацыі беларускіх масаў“ і „вырашэння нацыянальнага пытання“[228], яму ані не ўдалося справіцца з двухчасткавай гістарычнай перспектываю.

Меншую схільнасць да кампрамісу выявіў Доўнар-Запольскі, калі ён у сваёй „Гісторыі Беларусі“ даваў сваю структурызацыю і перыядызацыю падзеяў, якую цалкам можна ахарактарызаваць як сучасную. Самая аб'ёмная сярод напісаных у 1920-я г. сінтэтычных працаў па беларускай гісторыі не магла быць апублікаваная пры жыцці яе аўтара. Апроч таго, пад пытаннем застаецца тое, ці ўпершыню апублікаваны ў 1994 г. рукапіс насамрэч ужо разглядаўся як будучая кніга, альбо гворка ідзе пра сабраныя разам лекцыі Доўнара-Запольскага, прачытаныя ім у Менску ў 1924 і 1925 г. Зрэшты, яго перыядызацыя беларускай гісторыі таксама дапасоўвалася да „дзяржаўніцкай“ версіі нацыянальнай гістарыяграфіі. Тым не менш, гэтая праца была прыдатнаю для разнастайных сацыяльна-, эканамічна- і культурна-гістарычных заглыбленняў у тэму і тым самым разбівала

[228] Тамсама, с.178.

закасцянелую храналогію датыхчасовых працаў. Гэтак, „дзяржаўнаму ладу“ і „сацыяльнаму ладу“ „Літоўска-Рускай дзяржавы“ тут прысвечаныя асобныя раздзелы — гэтаксама як і развіццю сельскай гаспадаркі ды эканомікі ў цэлым у розныя перыяды часу. Натуральна, само сабою разумелася, што Доўнар-Запольскі рабіў спасылкі на ўласныя працы, створаныя ў дасавецкія часы. Гэткім чынам, яго праца не была ўмантаваная ў структураваную паслядоўнасць дзяржаваў, не кажучы ўжо пра фармацыі, а ўяўляла сабою сінтэз раздзелаў, у якіх выкладаліся гістарычныя падзеі і спецыфічныя дэталізацыі па асобных эпохах; у гэтым сінтэзе таксама знайшлося месца для нацыянальных аспектаў і выказванняў пра гісторыю рэвалюцыі ды рабочага руху. Пры гэтым апошні паказваўся хутчэй як сацыяльна-гістарычная хада развіцця, чым як ідэалагічна-тэлеалагічная мэтаўстаноўка. Кастрычніцкая рэвалюцыя ў тэксце не згадваецца. Хоць праца заканчваецца заснаваннем БССР 1 студзеня 1919 г., яе трэба чытаць як гісторыю няўдалай спробы стварэння беларускай дзяржаўнасці ў 1918 г. і „саветызацыі Беларусі“[229].

У пошуках „найважнейшых момантаў гісторыі беларускага народа“ Васіль Дружчыц у 1924 г. ішоў падобным шляхам. Гісторык, які нарадзіўся ў 1886 г. у беларускай правінцыі й адукацыйна-навуковая кар'ера якога праз Дэрпцкі універсітэт прывяла ў 1922 г. на кафедру БДУ, адлюстраваў у сваёй тонкай кніжцы ў якасці найвышэйшага пункту апісанай тут гісторыі Беларусі да 1905 г. Вялікае Княства Літоўскае, у дачыненні да якога ён паслядоўна ўжываў дэфініцыю „Літоўска-Беларуская дзяржава“. Адпаведнаму перыяду гісторыі працягласцю 150 гадоў Дружчыц прысвяціў больш за палову свайго тэксту. Толькі тут Дружчыц рве з „класічным“ падзелам на перыяды, прынятым у ягонай працы: „першажыхары — Літоўска-Беларуская дзяржава — Беларусь у складзе Рэчы Паспалітай — Беларусь у Расійскай імперыі“. Гісторыя ўзнікнення, палітычная структура і дачыненні Літоўска-Беларускай дзяржавы з яе суседзямі разглядаюцца тут у асобных раздзелах — гэтаксама як сацыяльная структура насельніцтва і „росквіт беларускай культуры“. З гэтага гледзішча XVI ст. набывала гістарычнае значэнне (Qualitat), якое змушала разумець усё далейшае развіццё як рэгрэс альбо паразы, а „русіфікацыю краю“ — у значна больш крытычным аспекце, чым папярэднюю паланізацыю[230]. У сваю чаргу, Пічэта ў сваёй працы, першая частка якой заканчвалася заключэннем Люблінскай уніі, але засталася без працягу, расставіў акцэнты па-свойму. Нестар беларускага гістарычнага краязнаўства бачыў „адзіную эпоху самастойнасці“ ў гісторыі Беларусі за часамі Смаленскага, Турава-Пінскага і, перадусім, Полацкага княстваў. У той самы час Вялікае Княства трактавалася ім як „дынастычная дзяржава і феадальна-магнацкая манархія“.

І ў насычанай спасылкамі на разнастайныя крыніцы працы Пічэты разгляд „Літоўска-Беларускай дзяржавы“, яе нацыянальнага складу, яе юрыдычнай і канстытуцыйнай культуры, а таксама яе грамадскай сутнасці займаў выбітнае месца. Хоць у апошнім раздзеле кнігі, дзе гаварылася пра пачаткі феадальнага ладу,

[229] Доўнар-Запольскі М.В. Гісторыя Беларусі (op. cit.). С.468 і наст., с.493 і наст. („Саветызацыя Беларусі“).

[230] Дружчыц В. Галоўныя моманты ў гісторыі беларускага народу (op. cit.). С.20.

у парадку кампрамісу паміж нацы … ага і канфесійнага станові-
ўжывалася паняцце „феадалізм … ма з прычыны ўяўнага су-
чэнне, якое супярэчыла намер … й улады, супярэчнасці ў
ладам, гаворка йшла пра ўм … а будучыні мусілі быць
сябе ў існаванні сойму ды н …
енна-служылае клясы“ ді … афічныя працы XIX
рэдзіне 20-х г. яшчэ існ … а выніку апошніх
нем паняцця феадаліз … гісторыкаў, якія
грамадства. Аж да в … краінскім, уяў-
Заходняй Беларусі … мя“: „З гісто-
тут паняцце класа ўперш … мінулага

У першым гістарычным … краінцы,
было прысвечанае правінцыям, як … ў сусед-
тое, што храналагічная структура ў знач … маглі
тычнаму падзелу. Асобныя раздзелы пра па … чага
ную, адукацыйную і рэвалюцыйную гісторыю, у як … й і
лася на гісторыі гарадоў, склалі ў выніку агульнае цэла … -
ным для рэвалюцыі годзе, што тады гучаў у завучаных на
лозунгах, у працы Пічэты не было згадкі пра „чырвоны Кастрычнік
варот, у заключным раздзеле, прысвечаным „рэвалюцыйнаму руху ў …
Беларусі“, Пічэта выкарыстаў мажлівасць распавесці пра падзеі 1863 і 1905 … таксама пра газеты „Наша Доля“ і „Наша Ніва“ як „сведчанні пачатку беларускага руху“, якія, са свайго боку, „паставілі сабе за мэту нацыянальнае і сацыяльна-культурнае вызваленне беларускага народа“[232]. „Важнай нацыянальнай справай“ была названая „Наша Ніва“ таксама і аўтарам гістарычнага нарыса ў першай энцыклапедыі БССР, выдадзенай у 1927 г. ЦВК БССР. Тут, гэтаксама як і ў адмысловым Пічэтавым артыкуле, напісаным для „Большой Советской Энциклопедии“, у дачыненні да перыядызацыі беларускай гісторыі апошні раз выразна дамінавала пяцічасткавая канцэпцыя гісторыі ўяўнай Беларускай дзяржавы. У той час як у БСЭ гаворка ўжо ішла толькі пра „Літоўскую дзяржаву“, другі раздзел у БССРаўскай Энцыклапедыі быў напісаны яшчэ цалкам пад знакам беларусацэнтрычнай канцэпцыі дзяржаўнасці; пры гэтым дзяржаўная ўлада ВКЛ падавалася ўжо як алігархічная манархія. Гледзячы з розных бакоў, ва ўсіх працах другой паловы 1920-х г. праглядалася імкненне да кампрамісу, якое адбівалася на ўжыванні адпаведнай тэрміналогіі альбо пры вызначэнні падзелу на гістарычныя эпохі.

У пазнейшай прапанове перыядызацыі, выкладзенай Шчарбаковым, выразна выявіла сябе гістарыяграфічная версія сталінскага часу. У якасці арыентацыйных пунктаў падзелу беларускай гісторыі асобы кіраўнікоў значылі гэтаксама мала, як і чыннікі прыналежнасці беларускіх земляў да тых або іншых сярэднявечных і навачасных дзяржаўных утварэнняў; класіфікацыйным прынцыпам для марксісцкіх гісторыкаў ужо працяглы час была тэорыя фармацыяў. У гэтым

[231] Пічэта У. Гісторыя Беларусі, ч. першая (op. cit.). С.120 і наст.
[232] *Яго ж.* Исторические судьбы Западной Белоруссии (op. cit.). С.82 і наст.

закасцянелую храналогію датыхчасовых працаў. Гэтак, „дзяржаўнаму ладу" і „сацыяльнаму ладу" „Літоўска-Рускай дзяржавы" тут прысвечаныя асобныя раздзелы — гэтаксама як і развіццю сельскай гаспадаркі ды эканомікі ў цэлым у розныя перыяды часу. Натуральна, само сабою разумелася, што Доўнар-Запольскі рабіў спасылкі на ўласныя працы, створаныя ў дасавецкія часы. Гэткім чынам, яго праца не была ўмантаваная ў структураваную паслядоўнасць дзяржаваў, не кажучы ўжо пра фармацыі, а ўяўляла сабою сінтэз раздзелаў, у якіх выкладаліся гістарычныя падзеі і спецыфічныя дэталізацыі па асобных эпохах; у гэтым сінтэзе таксама знайшлося месца для нацыянальных аспектаў і выказванняў пра гісторыю рэвалюцыі ды рабочага руху. Пры гэтым апошні паказваўся хутчэй як сацыяльна-гістарычная хада развіцця, чым як ідэалагічна-тэлеалагічная мэтаўстаноўка. Кастрычніцкая рэвалюцыя ў тэксце не згадваецца. Хоць праца заканчваецца заснаваннем БССР 1 студзеня 1919 г., яе трэба чытаць як гісторыю няўдалай спробы стварэння беларускай дзяржаўнасці ў 1918 г. і „саветызацыі Беларусі"[229].

У пошуках „найважнейшых момантаў гісторыі беларускага народа" Васіль Дружчыц у 1924 г. ішоў падобным шляхам. Гісторык, які нарадзіўся ў 1886 г. у беларускай правінцыі й адукацыйна-навуковая кар'ера якога праз Дэрпцкі універсітэт прывяла ў 1922 г. на кафедру БДУ, адлюстраваў у сваёй тонкай кніжцы ўякасці найвышэйшага пункту апісанай тут гісторыі Беларусі да 1905 г. Вялікае Княства Літоўскае, у дачыненні да якога ён паслядоўна ўжываў дэфініцыю „Літоўска-Беларуская дзяржава". Адпаведнаму перыяду гісторыі працягласцю 150 гадоў Дружчыц прысвяціў больш за палову свайго тэксту. Толькі тут Дружчыц рве з „класічным" падзелам на перыяды, прынятым у ягонай працы: „першажыхары — Літоўска-Беларуская дзяржава — Беларусь у складзе Рэчы Паспалітай — Беларусь у Расійскай імперыі". Гісторыя ўзнікнення, палітычная структура і дачыненні Літоўска-Беларускай дзяржавы з яе суседзямі разглядаюцца тут у асобных раздзелах — гэтаксама як сацыяльная структура насельніцтва і „росквіт беларускай культуры". З гэтага гледзішча XVI ст. набывала гістарычнае значэнне (Qualität), якое змушала разумець усё далейшае развіццё як рэгрэс альбо паразы, а „русіфікацыю краю" — у значна больш крытычным аспекце, чым папярэднюю паланізацыю[230]. У сваю чаргу, Пічэта ў сваёй працы, першая частка якой заканчвалася заключэннем Люблінскай уніі, але засталася без працягу, расставіў акцэнты па-свойму. Нестар беларускага гістарычнага краязнаўства бачыў „адзіную эпоху самастойнасці" ў гісторыі Беларусі за часамі Смаленскага, Турава-Пінскага і, перадусім, Полацкага княстваў. У той самы час Вялікае Княства трактавалася ім як „дынастычная дзяржава і феадальна-магнацкая манархія".

І ў насычанай спасылкамі на разнастайныя крыніцы працы Пічэты разгляд „Літоўска-Беларускай дзяржавы", яе нацыянальнага складу, яе юрыдычнай і канстытуцыйнай культуры, а таксама яе грамадскай сутнасці займаў выбітнае месца. Хоць у апошнім раздзеле кнігі, дзе гаварылася пра пачаткі феадальнага ладу,

[229] Доўнар-Запольскі М.В. Гісторыя Беларусі (op. cit.). С.468 і наст., с.493 і наст. („Саветызацыя Беларусі").
[230] Дружчыц В. Галоўныя моманты ў гісторыі беларускага народу (op. cit.). С.20.

у парадку кампрамісу паміж нацыянальнай і марксісцкай канцэпцыямі гісторыі ўжывалася паняцце „феадалізму“, гэтаму паняццю было нададзена такое значэнне, якое супярэчыла намерам прадстаўнікоў школы Пакроўскага. Тут, прыкладам, гаворка йшла пра ўмацаванне „шляхецкай дэмакратыі“, якая выяўляла сябе ў існаванні сойму ды новай самасвядомасці шляхты як прывілеяванай „ваенна-служылае клясы“ ды фінансавага апірышча дзяржавы[231]. Відавочна, у сярэдзіне 20-х г. яшчэ існавала мажлівасць бесперашкодна карыстацца разуменнем паняцця феадалізму, якое *a priori* не вешала ўсіх чарцей на вышэйшыя слаі грамадства. Аж да выхаду ў 1927 г. сваёй агляднай працы пра „гістарычны лёс Заходняй Беларусі“ Пічэта цвёрда трымаўся менавіта гэткага разумення, хоць тут паняцце класа ўпершыню стала належаць да рэгулярна ўжываных.

У першым гістарычным і зарыентаваным на сучаснасць даследаванні, што было прысвечанае правінцыям, якія ў 1921 г. адышлі да Польшчы, новым было тое, што храналагічная структура ў значнай ступені прыносілася ў ахвяру тэматычнаму падзелу. Асобныя раздзелы пра палітычную, эканамічную, сацыяльную, адукацыйную і рэвалюцыйную гісторыю, у якіх асаблівая ўвага акцэнтавалася на гісторыі гарадоў, склалі ў выніку агульнае цэлае. Нават у гэтым юбілейным для рэвалюцыі годзе, што тады гучаў у завучаных на памяць святочных лозунгах, у працы Пічэты не было згадкі пра „чырвоны Кастрычнік“. Хутчэй наадварот, у заключным раздзеле, прысвечаным „рэвалюцыйнаму руху ў Заходняй Беларусі“, Пічэта выкарыстаў мажлівасць распавесці пра падзеі 1863 і 1905 г., а таксама пра газеты „Наша Доля“ і „Наша Ніва“ як „сведчанні пачатку беларускага руху“, якія, са свайго боку, „паставілі сабе за мэту нацыянальнае і сацыяльна-культурнае вызваленне беларускага народа“[232]. „Важнай нацыянальнай справай“ была названая „Наша Ніва“ таксама і аўтарам гістарычнага нарыса ў першай энцыклапедыі БССР, выдадзенай у 1927 г. ЦВК БССР. Тут, гэтаксама як і ў адмысловым Пічэтавым артыкуле, напісаным для „Большой Советской Энциклопедии“, у дачыненні да перыядызацыі беларускай гісторыі апошні раз выразна дамінавала пяцічасткавая канцэпцыя гісторыі ўяўнай Беларускай дзяржавы. У той час як у БСЭ гаворка ўжо ішла толькі пра „Літоўскую дзяржаву“, другі раздзел у БССРаўскай Энцыклапедыі быў напісаны яшчэ цалкам пад знакам беларусацэнтрычнай канцэпцыі дзяржаўнасці; пры гэтым дзяржаўная ўлада ВКЛ падавалася ўжо як алігархічная манархія. Гледзячы з розных бакоў, ва ўсіх працах другой паловы 1920-х г. праглядалася імкненне да кампрамісу, якое адбівалася на ўжыванні адпаведнай тэрміналогіі альбо пры вызначэнні падзелу на гістарычныя эпохі.

У пазнейшай прапанове перыядызацыі, выкладзенай Шчарбаковым, выразна выявіла сябе гістарыяграфічная версія сталінскага часу. У якасці арыентацыйных пунктаў падзелу беларускай гісторыі асобы кіраўнікоў значылі гэтаксама мала, як і чыннікі прыналежнасці беларускіх земляў да тых або іншых сярэднявечных і навачасных дзяржаўных утварэнняў; класіфікацыйным прынцыпам для марксісцкіх гісторыкаў ужо працяглы час была тэорыя фармацыяў. У гэтым

[231] Пічэта У. Гісторыя Беларусі, ч. першая (op. cit.). С.120 і наст.
[232] *Яго ж.* Исторические судьбы Западной Белоруссии (op. cit.). С.82 і наст.

сэнсе ў цэнтры ўвагі апыналася дэталёвае апісанне ніжэйшых класаў. Назва „першабытна-камуністычнае грамадства і яго распад", ужываная ў дачыненні да раннегістарычнай эпохі, сведчыла пра навязанасць пэўнай тэрміналогіі, перад фактам чаго стаяла маладзейшае пакаленне гісторыкаў пасля сталінскіх умяшанняў, што мелі месца ў 1931 і 1934 г. Нават у БССРаўскіх працах па гісторыі пасляваеннага часу не даходзіла да ўжывання дэфініцыі „прыроднага камунізму", якую можна знайсці ў Маркса, а гаворка ішла ўжо пра „першабытна-абшчынны лад" („первобытно-общинный строй")[233]. І чатыры астатнія раздзелы вышэйзгаданай працы („Развіццё феадалізму і класавая барацьба да сярэдзіны XV ст.", „Далейшае развіццё прыгоннага ладу і ўзрастанне эксплуатацыі сялянства", „Сялянскі рух у XVI і XVII ст.", „Феадальнае прыгонніцтва і барацьба сялян у другой палове XVII і ў XVIII ст."), між тым, не адпавядалі пачаткова вызначанаму Шчарбаковым канону фармацыяў „першабытны камунізм—феадалізм—капіталізм—сацыялізм—камунізм".

Згодна з найноўшымі сталінскімі выказваннямі, агучанымі 16 траўня 1934 г. адносна бачання гісторыі, у кожным разе было неабходна пазбягаць „абстрактных вызначэнняў сацыяльна-эканамічных фармацыяў". Адначасова, аднак, пачалі пазбягаць і вызначэння культурніцкіх параметраў беларускай гісторыі. Ацэнкі ролі „сына полацкага купца Скарыны", без якіх немагчыма было абысціся, падаваліся ў раздзеле „Феадальная культура" і ўвесь час у кантэксце палемічнага дыялогу з „нацыянал-дэмакратычнымі гісторыкамі"[234]. „Буржуазным вялікадзяржаўным гісторыкам" альбо гісторыкам з шэрагаў „буйных памешчыкаў і чарнасоценцаў" рабіўся закід у тым, што яны стварылі „ненавуковую і падпарадкаваную інтарэсам эксплуататарскіх класаў перыядызацыю" беларускай гісторыі[235]. Самае позняе цяпер храналагічны падзел гісторыі зрабіўся светапоглядам. Фармацыйная гістарыяграфія (Geschichtsschreibung der Formationen) павінна была надалей мець вырашальнае значэнне для канона беларускай гісторыі.

### 3.1.3. Этнагенез

Тыя адрозненні, што выцякаюць ужо з наяўнасці розных падыходаў да перыядызацыі гісторыі ў нацыянальна арыентаванай і падсавецкай гістарыяграфіі, мелі свае паралелі амаль што ва ўсіх тэматычных колах. Стрыжнявым пунктам кантраверсійных дэбатаў як у беларускім, гэтак і ва ўкраінскім гісторыяпісанні раннесталінскага часу было пытанне паходжання, адпаведна, беларускай і ўкраінскай нацыянальнасцяў альбо народнасцяў. Для гісторыкаў у Беларусі і ва Украіне ў міжваенны час пэўная асаблівасць гэтай праблемы прадвызначалася яшчэ і тым чыннікам, што тэрыторыя іх рэспублік не супадала з тэрыторыяй, заселенай іх этнічнымі супляменнікамі. Гэтак, Ігнатоўскі ўжо ва „Уводзінах" да сваёй „Гісторыі" падкрэсліваў, што Савецкая Беларусь не ўключае ў свой склад усёй

[233] Шчарбакоў В.К. Нарыс гісторыі Беларусі. Ч.1. (op. cit.). С.24—50. Для параўнання цытуецца: История БССР. Т.1 / Под ред. В.Н.Перцева, К.И.Шабуни и Л.С.Абецедарского. Мінск, 1954. С.9 і наст. Тэрмін Маркса ўзяты з працы: Marx, Karl. Grundrisse der Kritik der Politischen Ökonomie (Rohentwurf), 1857—58. Berlin, 1953. С.764.
[234] Шчарбакоў В.К. Нарыс гісторыі Беларусі. Ч.1. (op. cit.). С.161 і наст.
[235] Тамсама: „На якія асноўныя перыяды дзеліцца гісторыя Беларусі" — с.19—23.

этнаграфічнай Беларусі[236]. З гледзішча нацыянальнага і канфесійнага становішча масаў на беларускіх і ўкраінскіх землях, а таксама з прычыны ўяўнага супадзення вялікарасійскай ідэалогіі з ідэалогіяй Савецкай улады, супярэчнасці ў ацэнцы супольнага жыцця ў дачыненні да мінуўшчыны і да будучыні мусілі быць пакінутыя па-за дужкамі.

Ігнатоўскі, які меў магчымасць абапірацца як на этнаграфічныя працы XIX ст. (А.К.Кіркор, П.А.Бяссонаў, І.І.Насовіч, Я.Ф.Карскі), гэтак і на выніkі апошніх на той час археалагічных даследаванняў, належаў да першых гісторыкаў, якія адзначалі, што беларускі тып, у параўнанні з вялікарасійскім ды ўкраінскім, уяўляе сабою „самы чысты этнічны тып усходнеславянска-рускага племя“: „З гісторыі Беларусі мы бачым, што беларускае племя праз увесь час свайго мінулага жыцьця не зьлівалася з народнасьцямі другіх рас“. Вялікарасійцы й украінцы, якія цягам стагоддзяў жылі „пад турка-мангольскім прыгнётам“ альбо ў суседстве з „фінска-мангольскімі плямёнамі“, паводле сцверджання аўтара, не маглі захаваць гэткае „чысціні“. Ігнатоўскі пайшоў нават далей. Што да беларускага племя, дык тут цягам стагоддзяў, маўляў, мог існаваць толькі „ўплыў літоўскай і польскай крыві“. Але, калі працяглае суседства і мусіла прывесці да гэткага ўплыву апошніх, польская кроў, маўляў, у лепшым выпадку перамешвалася з крывёю вышэйшых станаў беларусаў, якія — як вядома з гісторыі — „адышлі ад свайго народа і сталі палякамі“. Паміж польскім „панам“ і беларускім „мужыком“ мелася заўсёды існаваць глыбокая прорва. У астатнім літоўцы, альбо ліцвіны, паводле Ігнатоўскага, „такія ж арыйцы, як і беларусы“. Асабліва ж выразна падкрэслівалася тое, што беларускі этнас не паддаваўся ніякаму ўплыву мангольскай расы[237]. Падмацаваныя расавымі аргументамі, разважанні гэткага кшталту мелі свае карані ў XIX ст., калі надавалася вартасць „чысціні“ нацыянальнай гісторыі. У той час у эпоху разрэкламаванай „дружбы паміж народамі“ гэткія данавуковыя вызначэнні асуджаліся, яны ўсё ж зноў набылі сваё значэнне самае позняе ў 1945 г., пад час прамаўлення Сталіным свайго тоста „за вялікі расійскі народ“.

Пра „беларусаў“ і „палякаў“ як народы, што захавалі „найбольшую чысціню славянскага тыпу“, гаварыў таксама Доўнар-Запольскі. Яны, паводле гэтага гісторыка, змешваліся ў найменшай ступені, альбо і зусім не змешваліся, з іншымі плямёнамі. „Беларускія плямёны“ з „параўнальна высокай культурай“ меліся выявіць сябе яшчэ „за некалькі стагоддзяў да хрысціянізацыі Русі“. Пры гэтым Доўнар-Запольскі, у ранніх працах якога ўжо ўтрымліваліся адпаведныя выказванні па гэтым пытанні, падзяляў гледзішча Ігнатоўскага і большыні іншых даследнікаў, што крывічы, радзімічы і дрыгавічы павінны быць названыя праславянскімі плямёнамі. Гэтыя тры племені пазначылі „пачатак развіцця беларускае нацыі“[238]. Выказванні кшталту гэтага абапіраліся перадусім на звесткі, атрыманыя ў выніку даследавання курганоў. Толькі праз гэта, — сцвярджаў з энтузіязмам тагачасны Ігнатоўскі, — зрабілася магчымым „зазірнуць у глыбокую мінуўшчыну“ [гэтай зямлі — **Р.Л.**] і выявіць найважнейшыя пазнакі яе „гістарыч-

[236] Ігнатоўскі У. Кароткі нарыс гісторыі Беларусі (op. cit.). С.24.
[237] Тамсама, с.25 і наст.
[238] Доўнар-Запольскі М.В. Гісторыя Беларусі (op. cit.). С.25 і наст.

най эвалюцыі“[239]. Само паняцце эвалюцыі, што мусіла быць выцеснена з моўнага ўжытку паслярэвалюцыйнага часу, мелася выклікаць скептычнае стаўленне і крытыку з боку новага пакалення гісторыкаў. З падобнай ступенню хваравітасці школа Пакроўскага, рэпрэзентаваная таксама ў Менску, рэагавала на шматкроць паўтораную тэзу пра своеасаблівасць беларускай нацыі ўнутры славянства, што вынікала з асаблівага быцця і асаблівай мовы. Аўтары БССРаўскай энцыклапедыі 1927 года выдання таксама выказвалі ў гэтым звязку меркаванне, што „аселыя беларускія плямёны не перамешваліся з іншымі народамі, а з гэтае прычыны жыццёвы ўклад і мова беларусаў маюць у сабе „шматлікія старажытнаславянскія прыкметы“[240]. Яшчэ больш выразна стэрэатып „чысціні“ знайшоў сваё адлюстраванне ў энцыклапедычнай кананічнай працы сталінскага часу — „Большой Советской Энциклопедии“. Тут аўтары нават ужылі параўнанні паміж беларусамі і вялікарасійцамі, нявыгадныя для апошніх:

> „З вонкавага выгляду беларус пэўным чынам адрозніваецца ад расійца ды ўкраінца: ён найчасцей мае сярэдні рост, хутчэй крыху прысадзісты і не гэткі шырокі і мажны, як расіец. Беларусы ў сваёй бальшыні маюць светлыя альбо цёмна-русыя валасы, колер вачэй пераважна блакітны альбо шэры. Шмат якія з гэтых рысаў можна сустрэць у прадстаўнікоў пэўных іх суседзяў — прыкладам, літоўцаў, палякаў і таксама вялікарасійцаў, але ў беларусаў старажытнаславянскі тып захаваўся ў найбольшай чысціні. У цэнтры славянства яны ў меншай ступені, у параўнанні з іншымі, паддаваліся перамешванню“[241].

Іншыя мелі крыху шырэйшы погляд. Паводле меркавання Пічэты, які імкнуўся ўжо самым ранейшым вядомым насельнікам надаць якасць „нацыянальнасці“, ведучы гаворку пра першажыхароў будучых беларускіх земляў, трэба было мець на ўвазе фінскія плямёны, мова якіх мелася быць аднесеная да ўральска-алтайскай групы. Пра гэта маглі сведчыць і шматлікія неславянскія геаграфічныя назовы. Другой племяннной групай, якая, на думку Пічэты, магла спрычыніцца да беларускага этнагенезу, былі літоўцы. Яны меліся зрабіць значны культурны ўплыў на фінскія плямёны і адначасова ўспрыняць пэўныя імпульсы з боку апошніх. Гэтак, паганства і анімізм, што доўгі час мелі дамінавальныя пазіцыі ва ўяўленнях і вераваннях літоўцаў, паводле названага аўтара, узніклі пад уплывам фінскага і агульнаіндаеўрапейскага культу продкаў. У той час славяне, што разам з літоўцамі належалі да ўсходняй групы індаеўрапейскай сям'і, на яго думку, у III—IV ст. н.э. выйшлі з-пад беспасярэдняга ўплыву літоўцаў і заснавалі ўласныя паселішчы. Пічэта выразна падтрымліваў выснову накоит таго, што славяне не прыйшлі аднекуль з Азіі, а мелі сваю „прабацькаўшчыну“ ў чатырохкутніку паміж Карпатамі, Віслай, Прыпяццю ды Дняпром. У іншым месцы гаворка йшла нават пра беларускія землі як прарадзіму („прародина“) славян[242]. Для этнагенезу беларусаў меліся быць істотнымі таксама суседства германскіх готаў і

[239] Ігнатоўскі У. Кароткі нарыс гісторыі Беларусі (op. cit.). [Гл. перадусім с.28—32. — *Заўвага перакладчыка.*].

[240] Исторический очерк // Белорусская Советская Социалистическая Республика (Изд. СНК БССР) (op. cit.). С.22.

[241] N.N. Белоруссы // БСЭ. Т.5. Москва, 1927. Кал.422—427, у гэтым выпадку кал. 422.

[242] Пичета В.И. История сельского хозяйства и землевладения в Белоруссии. Ч.1 (до конца XVI века). Менск, 1927. С.8.

„грэцкая палітыка каланізацыйных пасяленняў", што праз Крым дасягала тэрыторыяў, населеных славянамі.[243]. Пічэта ў сваёй „Гісторыі Беларусі" больш выразна, чым яго калегі, падкрэсліваў, што толькі паўночна-заходняя група славянскіх плямёнаў (крывічы, радзімічы і дрыгавічы) мела ўдзел у фармаванні беларускага этнасу. Абодва іншыя ўсходнеславянскія плямённыя звязы — паўднёвая група і паўночна-ўсходняя, што насяляла землі паміж Волгай і Акою, — утварылі якраз „ядро ўкраінскага і (вяліка)расійскага народаў"[244].

З вышэйсказанага можна зразумець, што нават у працах, што грунтаваліся на нацыянальна-гістарычнай канцэпцыі, акцэнты расстаўляліся па-рознаму. З аднаго боку, падкрэслівалася некранутасць чысціні беларускага этнасу ў кантэксце славянскага племя, якое ўсё ў большай ступені перамешвалася, з іншага боку, указвалася на балтыйскія і скандынаўскія, а менавіта фінскія, уплывы. У Пятрыкова ў дачыненні да этнагенезу гаворка вялася ўжо пра славянскае засяленне Верхняга Падняпроўя, Падзвіння і тэрыторыяў уздоўж Прыпяці без згадвання балтыйскіх і скандынаўскіх элементаў[245]. Але для абодвух варыянтаў інтэрпрэтацыі было агульным тое, што ў іх падкрэслівалася адрозненне протабеларускай народнасці ад расійцаў і ўкраінцаў. Якраз гэтаму імкнулася запярэчыць беларуская падсавецкая гістарыяграфія. Ёй вельмі залежала на тым — праца Шчарбакова не пакідала ў гэтым аніякага сумневу, — каб давесці супольную (этнічную) мінуўшчыну ўсходнеславянскіх народнасцяў. Пры гэтым сам факт удзелу розных славянскіх і неславянскіх плямёнаў у этнагенезе беларусаў не хаваўся; літоўцы, фіны альбо готы называліся канкрэтна, а крывічы, радзімічы і дрыгавічы характарызаваліся як племянныя звязы, што першапачаткова насялялі беларускія землі. Аднак вырашальным у аргументацыі было тое, што этнагістарычнае развіццё „славянскіх плямёнаў, што засялялі тэрыторыю сучаснай Савецкай Украіны, РСФСР і Савецкай Беларусі", ацэньвалася як прагрэсіўнае змешванне:

> „...у працэсе далейшага гістарычнага развіцця насельніцтва гэтых трох плямёи змешвалася з суседнімі славянскімі плямёнамі тэрыторыі Украіны і Расіі і часткова з суседнім літоўскім насельніцтвам. Так што лічыць дрыгвічоў, радзімічаў і крывічоў выключнымі продкамі беларусоў мы не можам, тым больш, што такое славянскае племя, як крывічы толькі сваей нсвялікай часткай размясцілася на тэрыторыі Беларусі, другая частка засяліла велізарную прастору на поўнач і ўсход ад Беларусі — тэрыторыю Расіі"[246].

Прызнанне самабытнасці беларускага і ўкраінскага народаў у этнічна-нацыянальным сэнсе і, тым самым, сведчанне пра „біялагічныя" адрозненні ад вялікарасійцаў не адпавядалі інтарэсам афіцыйнай прапаганды часу ўмацавання сталінізму. Тое самае датычыла і прыняцця пункту погляду, згодна з якім дапускалася прызнанне перамешанасці беларускага этнасу з заходнімі этнасамі і, тым

[243] *Яго ж.* Гісторыя Беларусі, ч. першая (op. cit.). С.8—10.

[244] Тамсама, с.15, а таксама: *Яго ж.* К вопросу о южной границе БССР (рукапіс захоўваецца ў: НАРБ, ф.4, воп.26, спр.42, арк.1—151, у гэтым выпадку арк.1. Гэткія гарады, як Тураў, Пінск, Брэст, Мазыр, на думку Пічэты, былі гарадамі дрыгавічоў. Час архіўнай апрацоўкі гэтай працы пазначаны 1939 г., але яна мусіла быць напісана раней.

[245] Пятрыкоў Я.А. Адноўленьне Беларусі (op. cit.).

[246] Шчарбакоў В.К. Нарыс гісторыі Беларусі. Ч.1. (op. cit.). С.36.

самым, „еўрапеізацыі" беларусаў. У гэтым дачыненні ў нацыянальнай гістарыяграфіі ўсё адно напагатове былі яшчэ пэўныя непрыемныя тэзы.

### 3.1.4. Літва: ад „залатога веку" да „культуры панавальных класаў"

Гісторыя беларускай культуры ў XVI ст. была ў 1920-х г. кароннай тэмай гісторыкаў БССР. Калі для адных „культура", звязаная з пашырэннем старабеларускае мовы, утварала сутнасную рысу „беларуска-літоўскага перыяду", для іншых яна выглядала правакацыяй. Тут адразу кідаюцца ў вочы дзве асаблівасці: паняцце культуры не абмяжоўвалася толькі гісторыяй літаратуры і кнігадруку, але таксама ўключала ў сябе прававыя і палітычныя вымярэнні дзяржаўнага ладу: „нямецкае" гарадское права, палітычны ўдзел у кіраванні і выбары князёў праз сойм. Ігнатоўскі, які ахвотна адзначаў вялікую колькасць беларускамоўных крыніц „залатога веку", вылучаў „высокі культурны ўзровень беларускіх вышэйшых станаў", што сведчыла пра вялікую пераацэнку „беларускай" ідэнтычнасці элітаў. Пічэта вёў гаворку нават пра развіццё „сельскагаспадарчай культуры"[247]. Шырыню паняцця „культура" ён трапна паказаў у адной з заўваг пра агульны характар „беларускага Рэнесансу":

> „Гандлёвыя сувязі з Заходняй Эўропай і паступовае павялічэньне з ёй таварамену, з аднаго боку спрыялі разьвіцьцю шэрагу гарадзкіх цэнтраў, якія прымалі вельмі выдатны ўдзел у заходня-эўропэйскім таварамене; з другога боку, яны ўцягвалі ў кола таварамену ўласьнікаў нярухомасцей і спрыялі награмаджэньню капіталу ў руках землеўладальнікаў. Гандаль спарадзіў багатае мяшчанства і багатых земляўласнікаў. Гандлёвыя сувязі з Захадам пазнаёмілі літоўска-беларускіх земляўласьнікаў з эўропэйскай культурай. Пранікненьне апошняй у гарады і ў асяродзьдзе земляўласьнікаў выклікала ў Літоўска-Беларускай дзяржаве асаблівы гуманістычны рух, было прычынай літоўска-беларускага нацыянальнага адраджэньня. Як і заходня-эўропэйскае адраджэньне, беларускі нацыянальна-культурны рух меў індывідуалістычны характар. Індывідуалістычныя кірункі знайшлі сабе яскравы адбітак у літоўска-беларускім законадаўстве, у пашырэньні рэфармацыйных ідэй і рэлігійных сэкт, у паяўленьні нацыянальнае літаратуры, у ўтварэньні літаратурнае беларускае мовы, у формаваньні новае беларускае інтэлігенцыі"[248].

Другой спецыфічнай рысай гістарычна-культурных інтэрпрэтацыяў была тэорыя (das Theorem) „самастойнасці" беларускіх тэрыторыяў і Вялікага Княства. Прамежак часу, калі існавала ўяўная незалежнасць, усё больш і больш падаўжаўся: напачатку далей за 1385 год і акт Крэўскае уніі, які для Ігнатоўскага яшчэ не значыў „адмаўлення ад незалежнасці". Пачынаючы ўжо з 1909 г., Пічэта, асцярожна крытыкуючы Любаўскага, ставіў пад пытанне тэзу пра Люблінскую унію як „канец самастойнай гісторыі Вялікага Княства Літоўскага". Паводле яго меркавання, і пасля 1569 г., нягледзячы на распачатае цяпер „змаганне дзвюх культур" — беларускай і польскай, — захавалася юрыдычная, культурная і — з гледзішча працэдуры выбару вялікага князя — таксама палітычная самастойнасць літоўска-беларускіх земляў, што ўваходзілі ў польска-літоўскую Рэч Паспалітую.

[247] Ігнатоўскі У. Кароткі нарыс гісторыі Беларусі (op. cit.). С.97; Пичета В.И. История сельского хозяйства и землевладения в Белоруссии. Ч.1 (op. cit.). С.6 і наст.

[248] Пічэта У. Гісторыя Беларусі, ч. першая (op. cit.). С.125.

Да гэтага гледзішча неўзабаве далучыліся Дружчыц ды іншыя, і нават Любаўскі, які доўгі час не прымаў тэрміна „Літоўска-Беларуская дзяржава“, на пачатку 20-х г. меў іншы погляд[249].

Полацкае княства, адносна якога сцвярджаўся стан папярэдніка адпаведнага працэса развіцця ў дачыненні да суседніх уладанняў, а менавіта да літоўскай зямлі як ядра Вялікага Княства, паводле Ігнатоўскага, выконвала функцыю культуртрэгера для новай дзяржавы. Гісторык пры апісанні рады старшыняў Полацка паміж 1180 і 1190 г. як „арыстакратычнай рэспублікі“ не пабаяўся нават правесці паралелі з Афінамі. Гэтаксама, маўляў, як было з антычнай дэмакратыяй, „мелася справа і ў Полаччыне“[250]. „Асаблівы статус“ унутры Вялікага Княства, паводле Пічэты, быў звязаны з паняццем „палітычнага суверэнітэту“, які вялікім князем быў дадзены Полацкай зямлі і пра наяўнасць якога пераканаўча сведчылі краёвыя соймы. Толькі дзякуючы гэтаму яна засталася адзінай тэрыторыяй, што „захавала сваю ранейшую грамадска-прававую старыну («общественно-правовая старина»)“, што выявіла сябе таксама праз адсутнасць тут „класавай дыферэнцыяцыі“[251]. Экспарт культуры ў Літву з Полацкай зямлі, што не ў апошнюю чаргу меў свае вытокі ў моцных з гледзішча адукацыйнага патэнцыялу манастырах Смаленска, Полацка і Турава, на думку Ігнатоўскага, якраз і зрабіў новапаўсталае Вялікае Княства тым, чым яно было: „У гэтым гаспадарстве на кожным кроку мы бачым працу беларускага жыхарства. [...] ...Кіруе гаспадар-літвін, а пануе асьвета і культура беларуса“. Юрыдычны тытул вялікага князя, *Rex Litvinorum Ruthenorumque*, здаецца, мусіў падмацоўваць гэтае сцверджанне[252]. Знаходкі крыніц кшталту гэтай ажыўлялі дыскусіі і натхнялі даследчыкаў — такіх, як Пічэта і Доўнар-Запольскі — на інтэнсіўную працу.

Выданне важных дакументаў Вялікага Княства прадоўжыла традыцыю, распачатую ў канцы XIX ст., калі царскія адукацыйныя ды навуковыя інстытуцыі пачалі апрацоўку актаў фондаў Паўночна-Заходняга краю. У „Беларускім архіве“, выдадзеным у 1927 і наступным гадах, былі апублікаваныя шматлікія дакументы з „Літоўскай метрыкі“, архіва канцылярыі Вялікага Княства Літоўскага. Менавіта беручы пад увагу „малады народ“ беларусаў, Доўнар-Запольскі пад-

[249] Дружчыц В. Палажэньне Літоўска-Беларускай дзяржавы пасьля Люблінскай вуніі // Працы Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту. 1925. №6—7. С.216—251. Далейшае, пасля 1569 г., існаванне „незалежнай беларуска-літоўскай дзяржавы“ абгрунтоўвалася, між іншым, і тым, што ні польскія, ні літоўска-беларускія ваяры не мелі права пераступаць вызначаныя межы адпаведных суверэнных тэрыторыяў; параўн.: Тамсама, с.250. Пад працай Пічэты 1909 г. маецца на ўвазе: Пичета В.И. Литовско-Польские унии и отношение к ним литовско-русской шляхты // Сб. статей, посвященных Ключевскому. Москва, 1909. Пра паняцце „змагання культур“ гл.: *Яго ж.* Гісторыя Беларусі, ч. першая (op. cit.). С.88. Пра змену гледзішча Любаўскага гл.: Любаўскі М. Літоўска-Беларуская дзяржава ў пачатку XVI ст. // 400-лецьце беларускага друку (1525—1925). Выданьне Інбелкульту. Менск, 1926. С.59—76.

[250] Ігнатоўскі У. Кароткі нарыс гісторыі Беларусі (op. cit.). С.49 і наст., 73.

[251] Пичета В.И. Полоцкая земля в начале XVI в. // *Яго ж.* Белоруссия и Литва XV—XVI вв. Исследования по истории социально-экономического, политического и культурного развития. Москва, 1961. С.213—262, у гэтым выпадку с.217, 220, 237, 256. Тэкст першапачаткова быў змешчаны па-беларуску ў зб.: 400-лецьце беларускага друку (1525—1925). Выданьне Інбелкульту (op. cit.). С.76—113.

крэсліваў, што „Метрыка ёсць найбагацейшая крыніца гістарычных ведаў пра мінулае Беларусі“ і што яна сведчыць „пра вялікую культуру старой Беларусі“. Намер вярнуць Метрыку з маскоўскага архіва ў Беларусь, аднак, здзейсніць не ўдалося, хоць шмат хто з навукоўцаў у 1927 г. спрабаваў мабілізаваць на гэтую справу ўрад БССР. Далейшае развіццё палітычнай сітуацыі ў канцы 20-х г. зрабіла „Беларускі архіў“ праектам на будучыню[253].

Можна было чакаць, што гісторыкі, характарызуючы „беларускую культуру“ XVI ст., не адмовяцца ад таго, каб наблізіць сваю гісторыю да заходнееўрапейскіх традыцыяў. Гэта адначасова значыла, што гістарычная Беларусь усё больш аддалялася ад „расійска-візантыйскага свету“. У 1925 г. Доўнар-Запольскі абвяшчаў наўпрост, што Беларусь у сваім гістарычным мінулым з культурнага і эканамічнага гледзішча „была звязана з Заходняй Еўропай. [...] Яна ўтварала ўсходнюю граніцу заходняй культуры“[254]. Эканамічна- і культурна-гістарычнай арыентацыі Доўнара-Запольскага, ды таксама і Пічэты, адпавядаў пошук адпаведных аргументаў не толькі ў дзейнасці гэткіх асветнікаў, як Францішак Скарына альбо Сымон Будны. Сведчаннямі заходняй культуры ў „Беларусі“, разам з запазычаным „Саксонскім люстрам“, меліся быць магдэбургскае права, якое, несумненна, паспрыяла „росквіту гарадоў“, а таксама арганізацыя рамеснікаў у цэхі ды гільдыі. Гарады ды гарадскія станы, маўляў, гэткім спосабам амаль цалкам знаходзіліся паза ўплывам вялікакняскай улады і падпарадкаваліся пэўнага кшталту грамадскаму праву: „горад пачынаў жыць добра вядомым нам жыццём заходняга гораду“[255].

Усё больш выразным рабілася тое, што тэрміналогія гісторыкаў дапасоўвалася да сістэмы іх пазнавальных інтарэсаў. Пастановы соймаў у XV і XVI ст., адпаведным чынам, мелі характар „канстытуцыйных законаў“, а за памкненнем да ўраўнавання правоў служылай шляхты, як цяпер лічылася, стаяла „ідэя дэмакратызацыі шляхецкага класа“[256]. У гэтым звязку Ігнатоўскі пісаў пра арганізаванае ўспрыманне інтарэсаў вышэйшых станаў — да прыкладу, у выглядзе „Віцебскай карпарацыі беларускай шляхты“ (1562 г.). Ужо ў „Асновах дзяржаўнасьці Беларусі“ з 1919 г. Доўнар-Запольскі забяспечыў Вялікае Княства заходняй атрыбутыкай:

> „Панаваўшы ў Літоўска-Беларускім гаспадарстве дзяржаўны лад — гэта лад *рэспубліканскі* з выбарным дажывотна *прэзідэнтам*, каторы называўся *вялікім князем*. Так у новай форме адрадзілася традыцыя *народнае* ўласьці старой *Русі*“ [Курсіў у арыгінале — **Р.Л.**][257].

[252] Ігнатоўскі У. Кароткі нарыс гісторыі Беларусі (op. cit.). С.80 і наст.

[253] Параўн. артыкул Доўнара-Запольскага ў газеце „Савецкая Беларусь“ за 1925 г., №292. С.2, а таксама: Даўгяла Зьміцер. Літоўская Мэтрыка і яе каштоўнасьць для вывучэньня мінуўшчыны Беларусі // Полымя. 1927. № 3. С.53—59. Гл. таксама выданні „Беларускага архіва“ № 1 за 1927 г. і № 2 за 1928 г.

[254] Доўнар-Запольскі Мітрафан. Да юбілею беларускага кнігадруку. Гістарычная даведка // Гістарычна-археолёгічны зборнік. № 1 (1): Даклады і рэфэраты 1926—1927 г. Выданьне Інбелкульту. Менск, 1927. С.83—95, у гэтым выпадку с.85.

[255] Ігнатоўскі У. Кароткі нарыс гісторыі Беларусі (op. cit.). С.105 і наст.

[256] Доўнар-Запольскі М.В. Гісторыя Беларусі (op. cit.). С.84—86, 112—114.

[257] *Яго ж.* Асновы Дзяржаўнасьці Беларусі. Гродна, 1919. С.9. [Цытата падаецца намі паводле: Праф. Доўнар-Запольскі М.В. Асновы Дзяржаўнасьці Беларусі. Мінск, 1994. С.16. — *Заўвага перакладчыка.*].

Усё ў большай ступені пры разглядзе культурніцкай праблематыкі беларуская гістарыяграфія, каб забяспечыць трываласць разумення сваёй гісторыі, выходзіла з сінтэзы заходніх і ўсходніх традыцыяў. З узаеманакладання „рымскай" і „візантыйскай" спадчыны, якое насамрэч мела месца, сінтэзаваліся і як гэткія інтэрпрэтаваліся элементы самабытнасці. У Літоўскім Статуце 1529 г. — паводле Доўнара-Запольскага, „помніку беларускага нацыянальнага права", — Ігнатоўскі таксама, нягледзячы на адназначныя сведчанні старажытнарускіх і заходніх крыніц, бачыў факт нацыянальнай юрысдыкцыі: „Тут беларускае права як крымінальнае, так і грамадзянскае, знайшло свай поўны выраз"[258]. Становішча Беларусі паміж Усходам і Захадам, тым часам, толькі ў паасобных каментарах нацыянальнае гістарыяграфіі насамрэч падавалася як „значнае для развіцця беларускага народа ў нацыянальна-культурніцкім і палітычным дачыненні"[259].

Уласцівае беларускаму гісторыяпісанню фіксаванне ўвагі на Заходняй Еўропе заўсёды ўтрымлівала ў сабе антырасійскія і антымаскоўскія элементы. Пры гэтым еўрапеізаваны лад і „ўнутраная цывілізаванасць" Вялікага Княства свядома процiпастаўляліся „аўтакратычна-варварскай Маскве". Пічэта ахвотна называў Вялікае Княства — з прычыны „добраахвотнага" падпарадкавання беларускіх і ўкраінскіх земляў уладзе літоўскіх князёў — „федэратыўнай дзяржаваю" („федеративное государство"), структура якой вельмі істотным чынам адрознівалася ад цэнтралізму Масковіі[260]. З гэтага гледзішча ўцягванне Полацка ў Інфлянцкую вайну (1558—1582) войскамі Івана IV мусіла інтэрпрэтавацца як цяжкі ўдар лёсу. Калі ж ацэньваліся падзеі 1569 і 1596 г., Люблінская і Берасцейская уніі, паланізацыя вышэйшых станаў грамадства альбо місіянерскі імпэт езуітаў, антыпольскія выказванні ў аглядных працах рабіліся ўсё больш выразнымі. Тым не менш, на паспяхова дзейную Віленскую езуіцкую акадэмію, першую „беларускую" вялікую навучальную ўстанову, у якой у 1632 г. выкладалі 75 прафесараў і вучыліся 1200 студэнтаў, беларускія гісторыкі першай паловы 1920-х г. глядзелі не без пачуцця гонару[261]. Яшчэ больш зычліва характарызаваліся вынікі ды ўплывы Рэфармацыі, бо яны ж былі, разам з першай беларускай Бібліяй, прынесеныя першадрукаром Скарынам праз Кракаў, Падую і Прагу на радзіму, у Вільню. Гэтаксама той факт, што з 600 наваградскіх фаміліяў толькі 16 засталіся верныя праваслаўнаму абраду, пры гэтым шмат хто перайшоў у пратэстанцтва альбо ў кальвінізм, не выклікаў крытыкі ў гісторыкаў, якія зазвычай былі выхадцамі з асяроддзя уніяцкіх вернікаў, але цяпер у сваёй бальшыні не вызнавалі рэлігіі.

Німб „залатога веку" і „беларускага рэнесансу", натуральна, выводзіўся з культуры ў вузкім сэнсе. Літаратура, кнігадрук, установы адукацыі й дойлідства былі важнымі асяроддзямі культурнага ўздыму, натхняльнікамі й спажыўцамі якога заставаліся прадстаўнікі вышэйшых станаў грамадства. Ідэі Рэфармацыі, гуманізму і Рэнесансу з цэнтральнай Еўропы праз тых, хто выязджаў па адука-

[258] *Яго ж.* Гісторыя Беларусі (op. cit.). С.145; Ігнатоўскі У. Кароткі нарыс гісторыі Беларусі (op. cit.). С.99.

[259] Пічэта У. Гісторыя Беларусі, ч. першая (op. cit.). С.6.

[260] *Яго ж.* История сельского хозяйства и землевладения в Белоруссии (op. cit.). С.33.

[261] Дружчыц В. Галоўныя моманты ў гісторыі беларускага народу (op. cit.). С.13 і наст.

цыю, вучыўся за мяжою, ды праз місіянераў сягалі да ўсходу. Адпаведным чынам, эйфарыя гучала цяпер у даследаваннях гісторыкаў і літаратуразнаўцаў:

„Беларускія шляхціцы выязджалі цяпер за мяжу і паступалі вучыцца ў нямецкія ды італьянскія універсітэты. Адтуль, моцна ўзбагачаныя новымі ідэямі ды ўяўленнямі, яны вярталіся дадому. Пад уплывам як агульных эканамічных варункаў, гэтак і культурнага абмену з Захадам пачынасцца заняпад старога рэлігійна-філасофскага светапогляду. Узнікала новая культура індывідуалістычнага кшталту, у цэнтры якой было свабоднае мысленне і нацыянальная самасвядомасць“[262].

У грунтоўнай працы па гісторыі беларускага мастацтва звярталася ўвага не толькі на цесныя повязі беларускага ды італьянскага дойлідства. На думку дацэнта БДУ Мікалая Шчакаціхіна, у XV і XVI ст. стварылася „беларуская готыка“, якая набыла сваю самабытную форму пад уплывам готыкі нямецкай. Доказам гэтага меліся быць шматлікія замкі й абарончыя пабудовы на беларускіх землях[263]. Гісторыя беларускага друку, які меў глыбейшыя, чым ва ўкраінцаў і расійцаў, пачаткі, была ў год 400-годдзя кнігадруку ў Беларусі ўшанаваная выхадам юбілейнага зборніка — міждысцыплінарнага маніфеста беларускае інтэлігенцыі[264]. У гэтым кантэксце былі ўзгаданыя таксама Васіль Цяпінскі, Сымон Будны, Леў Сапега, прыхільны да мастацтваў канцлер Вялікага Княства, а таксама, да прыкладу, Рыгор Хадкевіч — паслядоўнікі Скарыны; яны таксама меліся спрычыніцца да падтрымкі мовы, нацыянальнай думкі і адукацыі. Францішак Скарына быў ахарактарызаваны Доўнарам-Запольскім як „энтузіяст навукі, энтузіяст кнігі й энтузіяст пашырэння ведаў сярод насельніцтва“. У іншым месцы, беручы пад увагу развіццё кнігадруку, адкрыццё друкарняў у Вільні, Полацку, Менску, Нясвіжы, Слуцку ці Магілёве, аўтары вялі гаворку пра „культурную рэвалюцыю“[265]. Пічэта на гэтую тэму выказаўся наступным чынам:

„Літоўскае Вялікае Княства ў культурных адносінах зьяўлялася беларускім. Беларуская мова была мовай дзяржаўнай. Гаспадарскія лісты, граматы, соймвыя ўхвалы публікаваліся ў беларускай мове. Беларуская мова ўжывалася ў гаспадарскай канцалярыі і ў судаўніцтве. «Судзебнік» 1468 г. і Статут 1529 г., краінныя прывілеі былі апублікаваны на беларускай мове. На гэтай жа мове пісаліся беларускія летапісы, хронікі, жыцьці святых, свецкія бэлетрыстычныя творы. Росквіт беларускае культуры абымае ўсё XVI ст., калі багацьце і сіла беларускага духоўнага жыцьця знайшла поўнае выяўленьне. Пануючыя класы ў XV ст. і ў першай палове XVI ст. заставаліся вернымі нацыянальнай культуры“[266].

[262] Пичета В. Исторические судьбы Западной Белоруссии (op. cit.). С.76.

[263] Шчакаціхін Мікола. Нарысы з гісторыі беларускага мастацтва. Т.1. Менск, 1928. С.220 і наст.

[264] 400-лецьце беларускага друку (1525—1925). Выданьне Інбелкульту (op. cit.). За год перад тым ва Украіне змаглі адзначыць толькі 350-ю гадавіну: Бібліологічні вісти. 350 років українського друку (1574—1924). Київ, 1924.

[265] Доўнар-Запольскі Мітрафан. Да юбілею беларускага кнігадруку (op.cit.). С.95. Пічэта сістэматызаваў датыхчасовую бібліяграфію пра Скарыну, гл.: *Яго ж.* SCORINIANA 1776—1926 // 400-лецьце беларускага друку (1525—1925). Выданьне Інбелкульту (op. cit.). С.284—327. Там змешчана таксама: *Яго ж.* Беларускае адраджэньне ў XVI ст. // Тамсама, с.132—156, а таксама: *Яго ж.* Друк на Беларусі ў XVI і XVII стагоддзях // Тамсама, с.228—261. Паняцце „культурная рэвалюцыя“ гл. у БССРаўскай энцыклапедыі (Менск, 1927), с.28.

[266] *Яго ж.* Гісторыя Беларусі, ч. першая (op. cit.). С.114.

Напрыканцы 20-х г. чатыры вышэйапісаныя мадэлі інтэрпрэтацыі мінуўшчыны пачалі адмысловым чынам збліжацца паміж сабою. У той час калі ў 1927 г. тэза пра „беларускі Рэнесанс“ яшчэ безумоўна віталася[267], следам за гісторыкам і партыйным функцыяиерам Ігнатоўскім група памяркоўных акадэмічных гісторыкаў нацыянальнай арыентацыі, а таксама *fellow-travellers*, на чале з Пічэтам, таксама пачала эвалюцыянаваць у бок прыняцця — вядома ж, не цалкам — пэўных метадалагічных і сутнасных патрабаванняў афіцыйнае гістарыяграфіі. Цяпер ужо няможна было абыходзіцца без паняцця класа. Кідаецца ў вочы той факт, што „феадалізм“ як негатыўнае паняцце быў пераняты з Захаду. Яго шлях меўся пралягаць „праз Польшчу з Захаду“, у тым ліку і на Беларусь, і, гэткім чынам, маўляў, шляхце былі нададзеныя правы заходняга рыцарства. Гэтыя „вольныя, добрыя і хрысьціянскія правы“, аднак, неўзабаве сталі несці „злую няволю“ іншым станам дзяржавы, абвастраючы ў шляхты яе „клясавы апэтыт“[268].

Калі гэтыя катэгорыі ад пачатку 20-х г. для Ігнатоўскага ўваходзілі ў інструментарый імкнення да выраўняльнай, кампраміснай інтэрпрэтацыі мінуўшчыны, дык для іншых гісторыкаў канца 20-х і, канчаткова, на пачатку 30-х г. уціск і патрабаванні падпарадкавання ўзраслі вельмі значна. Надалей ужо караліся нават спробы весці гаворку пра беларускую культуру як „сялянскую культуру“ і адмаўляць „пралетарскі змест“ у нацыянальнай форме беларускай культуры. Тут партыя дазваляла жартаваць з сабою гэтаксама мала, як і ў выпадку з тэорыяй „дзвюх культураў“ — „нацыянальнай“ і „сацыялістычнай“[269]. Той факт, што менавіта Пічэта ў 1928 г., за год перад сваім арыштам, выступіў *par excellence* з кампрамісным тэкстам беларускага гісторыяпісання, мог збянтэжыць нават яго сучаснікаў. Сваім артыкулам пад назвай „Дзве культуры ў Беларусі. Буржуазная культура і сацыялістычная культура“, апублікаваным у штомесячным часопісе „Социалистическое строительство“, самы знакаміты менскі гісторык і рэктар БДУ даў нацыянальнай гістарыяграфічнай школе сігнал да адступлення. Усе ўспрыманыя партыяй раздражняльныя паняцці ды ўзоры інтэрпрэтацыі падаваліся Пічэтам з ідэалагічна-абцяжарвальнымі азначэннямі. Гэтак, XVI стагоддзе зрабілася „эпохай так званага беларускага Адраджэння“, нацыянальная культура — „культурай панавальных («командующих») класаў“, Літоўскі Статут — „правам землеўладальнікаў“, у той час як Скарына называўся „полацкім буржуа“:

> „Залаты век беларускай культуры, XVI стагоддзе, быў эпохай культурнай, у сваёй сутнасці паразітоўнай, меншыні, што жыла за кошт працоўнага насельніцтва, якое, у сваю чаргу, мусіла аддаваць апошняе дзеля задавальнення культурных запатрабаванняў і панскіх прыхамацяў кіроўных класаў“[270].

[267] *Яго ж.* Исторические судьбы Западной Белоруссии (op. cit.). С.76.

[268] Ігнатоўскі У. Кароткі нарыс гісторыі Беларусі (op. cit.). С.105, 107.

[269] Гэтак гаворыцца ў супольнай заяве ЦК і ЦКК КП(б)Б за сакавік 1932 г., гл.: „Аб культурным будаўніцтве БССР. Пастанова аб'яднанага пленума ЦК і ЦКК КП(б)Б // Савецкая краіна. 1932. № 4(18). С.3—16, у гэтым выпадку с.5. Пленум праходзіў 26—28 сакавіка 1932 г. у Менску.

[270] Пичета В. Две культуры на Беларуси. (Буржуазная культура и культура социалистическая) // Советское строительство (выходзіла ў Менску 4 гады, з 1926 да 1929). 1928. № 3. С.131—146, гл. с.133 і наст.

Тое, што было вызначальным для падсавецкага гісторыяпісання, адносілася і да гэтай Пічэтавай працы. Асобы і падзеі мінуўшчыны мелі ў вачах партыі вартасць толькі тады, калі яны ў станоўчым плане суадносіліся з масамі. Гэткая „ілатызацыя" гісторыі часткова выявілася яшчэ ў дасавецкай нацыянальнай гістарыяграфіі. Рэзкі паварот гісторыкаў на чале з Пічэтам на аргументацыйны курс новай генерацыі, аднак, адбыўся абсалютна нечакана. Відавочна, Пічэта ўжо тады знаходзіўся пад пільным наглядам партыі, якая ціснула на яго, змушаючы нарэшце вызначыцца. З гэтага гледзішча тэкст мог выглядаць як зроблены на замову. З іншага боку, правядзенне наўпроставых паралеляў паміж культурным росквітам XVI ст. і „культурай народа", створанай толькі ў выніку Кастрычніцкай рэвалюцыі, проціпастаўленне „гуманізму эксплуататарскіх класаў" і „сацыяльна-культурнага гуманізму XX ст." значыла, што нацыянальна арыентаваныя, але аплочваныя дзяржавай (наднацыянальнага) пралетарыяту гісторыкі зноў-такі шукалі кампрамісаў. Прыхаваныя сімпатыі для асвечанага XVI ст., што не маглі быць улоўленыя афіцыйнай і самацэнзурай, адыходзілі на задні план перад новай інтэрпрэтацыйнай перспектывай, у якой ужо выяўляліся рысы блізкіх 30-х г.:

> „Эпохі XVI і XX стагоддзяў — гэта эпохі дзвюх розных культур у Беларусі. Культура XVI ст. [...] адкрыла прадстаўнікам аграрнага і гандлёвага капіталу шырокія магчымасці культурнага развіцця і ажыццяўлення іх асабістых і класавых інтарэсаў. Гэтая культура прынесла народу прыгон, нацыянальны і культурны прыгнёт, палітычнае нявольніцтва; яна ўмацоўвала старую мараль і атрыманы ў спадчыну ад ранейшага часу рэлігійна-філасофскі светапогляд. Культура XX стагоддзя з'яўляецца сацыялістычнай, у сваёй сутнасці культурай працоўных масаў, якая скінула з сябе цяжкую спадчыну старога ладу і выяўляе велізарную волю да новага жыцця і творчасці. Гэтая культура дала народу свабоду, нацыянальнае, культурнае і палітычнае самавызначэнне, магчымасць арганізацыі ягонай гаспадаркі ў інтарэсах усяго Саюза [СССР — Р.Л.] і яго ўласнасці. Гэтая культура, якая дасягае народныя масы, павышае іх адукацыю і абуджае ў іх актыўнасць, ініцыятыву, творчасць, а таксама вялікае пачуццё адказнасці дзеля будучыні, акрамя таго, пераконвае кожнага асобнага грамадзяніна, што толькі дзякуючы Савецкай уладзе можа быць дасягнутае асабістае шчасце і шчасце ўсяго народа. Менавіта таму культура XVI стагоддзя, нягледзячы на яе вонкавы бляск, заставалася народу чужой і незразумелай; яна можа цікавіць народ толькі ў якасці гістарычнага ўспаміну пра былое панаванне ды культуру паноўных класаў"[271].

Тым не менш, прайшоў год, і Пічэта быў заарыштаваны і на пяць гадоў знік з поля зроку афіцыйнай, і назаўсёды — з беларускай гістарычнай навукі. Тое, што ягоны згаданы артыкул 1928 г. быў спробай шукаць кампрамісу, можа быць пацверджана таксама фактам, што ў тым самым годзе на Берлінскім тыдні гісторыкаў ён зусім адкрыта выступаў з дакладам пра аграрныя дачыненні ў „Літоўс-

[271] Тамсама, с.146. У іншым артыкуле, час напісання якога не высветлены, але можа прыпадаць прыкладна на той самы час, Пічэта, параўноўваючы беларускі і ўкраінскі Рэнесанс, узяў яшчэ больш памяркоўны тон. Ён акцэнтаваў позняе, у параўнанні з Беларуссю, разгортванне ўкраінскага „нацыянальна-культурнага руху". У духу пошуку кампрамісу ён, аднак, адначасова сцвярджаў, што ўкраінскі народ толькі пасля 1654 г., у супольнасці з расійскім народам, перажыў свой культурны ўздым. Параўн.: *Яго ж.* Возрождение Украины-Руси и Белой Руси в XVI— начале XVII в. // *Яго ж.* Белоруссия и Литва XV—XVI вв. Москва, 1961 (op. cit.). С.715—730. Тут апублікавана ўпершыню.

ка-Беларускай дзяржаве“. Саступкі, якія ён быў тады гатовы зрабіць, відаць, не былі аж занадта вялікімі, а самае галоўнае, пачалі рабіцца запозна. Цяпер апошняе слова немарксісцкага крыла адносна беларускай гісторыі XVI ст. значыла капітуляцыю. Тым самым шлях для новага інтэрпрэтавання гісторыі Вялікага Княства і беларускіх земляў, а перадусім уласных культурных дасягненняў, быў адкрыты.

У кожным разе, Шчарбакоў ды іншыя гісторыкі-прапагандысты маглі ісці далей ад таго пункта, дзе спыніўся Пічэта. У цесным гарсэце канцэпцыі феадалізму, у якім культура цяпер мела назоў „феадальнай культуры“, для нацыянальна выяўленых ідэяў, а пагатоў для звязанага з Заходняй Еўропай паняцця „беларускі Рэнесанас“, месца ўжо не было. Замест гэтага праз ужыванне паняцця культуры, якое ўключала ў сябе жыццёвы свет шляхты, на адну дошку былі пастаўленыя і аднолькава паддадзеныя асуджэнню ўзнікненне мастацка-асветніцкіх ідэяў і раскашаванне вышэйшых станаў. Развіццё беларускага пісьменства, рэгіянальна-своеасаблівая архітэктура альбо мастацтва кнігадруку, што ішло з Захаду, не маглі разлічваць на любоў у адказ, паколькі ўсё гэта разглядалася як „культура паноў, шляхты, духавенства і гарадскога купецтва“. У „Нарысах гісторыі Беларусі“ Шчарбакова (1934 г.) прысуд быў канчатковы: „У феадальным, а таксама і капіталістычным грамадстве ўласна культурай лічылася культура панавальных класаў“. Царкве рабіўся закід, нібыта яна скіроўвала свае намаганні ў падтрымцы адукацыі і навукі толькі на вузкую грамадскую праслойку, пакідаючы пры гэтым „масы працоўных у духоўнай цямрэчы, задусе і непісьменнасці“. Тут таксама рабіліся пастаянныя атакі на гісторыкаў нацыянал-дэмакратычнага кірунку, якія, паводле аўтара, не далі „выразнай класавай ацэнкі ўсіх гэтых з'яў феадальнай культуры“[272].

У тэрміналогіі Шчарбакова, як і яшчэ ў Пічэтавых „Дзвюх культурах“, кідаюцца ў вочы паралелі з патрыятычна-сацыял-рэвалюцыйным спосабам аргументавання „нашаніўскага“ часу, калі духоўна-„цёмны“ народ ужо быў акрэсленай інтэрпрэтацыйнай фігурай. Хоць колішні дацэнт партыйнае школы і дапускаў думку пра „пэўныя прагрэсіўныя моманты культуры“[273] — напрыклад, прызнаючы значэнне кнігадруку ў той меры, у якой ён служыў пашырэнню ерэтычна-рэфармацыйнай і сацыяльна-крытычнай літаратуры — гэта не рабіла мякчэйшымі яго напады на нацыянальныя элементы ранненовачаснай культуры й гісторыкаў іншага лагера. Пры гэтым фактычна не бралася пад увагу, што іншага лагера ў 1934 г. ужо не існавала.

### 3.1.5 Год паўстання 1863 — „шляхецкая фронда“ ці „сялянскі выступ“?

Польскае паўстанне 1863 г., якое ахапіла таксама тэрыторыю Беларусі, абудзіла інтарэс не толькі тагачасных польскіх і расійскіх навукоўцаў. Гэтая падзея — найпазней з часу падрабязнага разгляду гэтай тэмы ў шостым томе „Виленского Временника“ 1915 г. — належала таксама да канона беларускага нацыяналь-

[272] Шчарбакоў В.К. Нарыс гісторыі Беларусі. Ч.1. (op. cit.). С.163 і наст. Усе прыведзеныя цытаты ўзятыя адсюль.
[273] Тамсама, с.166.

нага гісторыяпісання. Пасля гэтага ў раннесавецкай гістарыяграфіі XIX стагоддзе у цэлым таксама лічылася рэзервуарам для розных трактаванняў пытанняў беларускай гісторыі. Рэвалюцыйныя і нацыянальныя гісторыкі ў аднолькавай ступені шукалі падзеяў, якія б мелі асаблівую важкасць і істотныя наступствы. Паўстанне 1863 г. для канкурэнтных лагераў гісторыкаў 20-х г. давала шматлікія тэмы для абмеркавання. Падзел думак праходзіў па пытаннях інтэрпрэтацыі паўстання, яго перад- і паслягісторыі, асобы беларускага дзеяча Канстанціна Каліноўскага. Тое, што Каліноўскі, незалежна ад ацэнак яго біёграфаў, пасля сваёй смерці зрабіўся міфам, сведчылі спробы мастацкага асэнсавання яго асобы. Пісьменнікі альбо гэткія жывапісцы, як В.Волкаў, яшчэ ў 20-я г. неаднаразова надавалі яму вобраз выбітнай нацыянальнай постаці[274]. На „першай усебеларускай выставе“ 1925 г. побач з вялікім палатном Волкава, на якім быў паказаны Каліноўскі ў рашучай паставе ў атачэнні сваіх паплечнікаў, экспанаваліся тры іншыя партрэты маладога шляхціца, у 1864 г. асуджанага і пакаранага смерцю. Да 60-й гадавіны з дня смерці Каліноўскага ў 1924 г. у „Полымі“ быў нават змешчаны мемарыяльны артыкул Аляксандра Цвікевіча, у якім, вядома ж, у цэлым не ўтрымлівалася аніякіх палемічных пасажаў[275].

Разнагалоссі ў дачыненні да падзеяў 1863 г. канцэнтраваліся збольшага ў трох тэматычных колах. *Па-першае,* спрэчка ішла наконт таго, хто выступіў сацыяльным ініцыятарам падзеяў паўстання ў Беларусі, нацыянальная шляхта альбо прыгнечанае сялянства — як таго патрабавалі гістарычныя ўяўленні рэвалюцыйных гісторыкаў. *Па-другое,* думкі разышліся і наконт таго, наколькі пратэставыя і вальналюбныя памкненні шляхты на чале з Каліноўскім былі выкліканыя насамрэч нацыянальнымі матывамі, альбо ў больш значнай ступені тут меў месца сацыяльны канфлікт, скіраваны пераважна эксплуатацыяй з боку польскіх паноў. *Па-трэцяе,* да гэтага часу адкрытым заставалася пытанне, ці адпавядала сапраўднасці найменне „польскае паўстанне“, альбо гаворка магла весціся таксама пра „беларускае паўстанне“.

Доўнар-Запольскі, які ўвёў у дыскусійны ўжытак у дачыненні да 1863 г. панняцце здзейсненай шляхтаю „фронды“, усё ж такі ў сваёй сінтэтычнай працы засведчыў існаванне розных групаў інтарэсаў у перыяд перад паўстаннем і пад час апошняга. Тым не менш, у яго не было ніякіх сумневаў наконт таго, што ў гэтым выпадку мела месца „рэвалюцыйная“ акцыя сярэдняй і збяднелай шляхты супраць расійскае адміністрацыі. Пры гэтым не ў апошнюю чаргу яго цікавіў нацыянальны аспект праблемы: „руская“ адміністрацыя якраз у значнай ступені абапіралася на чыноўніцтва, што складалася з палякаў, спаланізаваных беларусаў ды літоўцаў, маючы гэткім чынам нацыянальны склад, падобны да таго, з якога складаўся „элемент, які імкнуўся шляхам рэвалюцыі дамагчыся свабоды“. Што стрымала Доўнара-Запольскага ад дэталёвага аналізу гісторыі падзеяў 1863 г., — дык гэта ўсведамленне таго факта, што рэвалюцыйныя закалоты скончыліся

[274] Пра партрэтыстаў Каліноўскага параўн.: Шчакаціхін М. Мотывы краязнаўства ў нашым сучасным мастацтве. З вынікаў Усебеларускай Выстаўкі // Наш Край. 1925. № 2—3(5—6). С.15—25. У гэтым выпадку с.24 (з прыкладам — рэпрадукцыяй карціны В.Волкава „Кастусь Каліноўскі“).

[275] Цьвікевіч А. Кастусь Каліноўскі // Полымя. 1924. № 2. С.3—18.

„бясслаўнай барацьбой дэмакратаў паміж сабой“, што аднолькава было характэрным як для „белых“, гэтак і для „чырвоных“. Для Доўнара-Запольскага сялянства як дзейнай сілы рэвалюцыі не існавала. Затое ён падкрэсліваў мабілізацыйныя здольнасці сельскага жыхарства ў духу задум „ката“ Мураўёва. Апошні „мог абапірацца на сялянскую масу ў барацьбе з паўстаўшымі памешчыкамі і паланізаванымі элементамі краю“[276].

Працы Ігнатоўскага пра „гісторыю Беларусі ў XIX— пачатку XX ст.“ і „1863 год у Беларусі“, што выйшлі, адпаведна, у 1926 і 1930 г., побач з падрыхтаваным польскім аддзелам Інбелкульта даследаваннем („1863 год на Міншчыне“)[277] належалі да самых падрабязных распрацовак тэмы паўстання, увага якіх канцэнтравалася на падзеях у Беларусі. У кантэксце развіцця беларускай гістарыяграфіі ўвогуле нельга недаацаніць таго факта, што праца Ігнатоўскага пра 1863 год была не толькі яго апошняй у жыцці працай[278]. Якраз у 1930 г. перапынілася традыцыя беларускай [савецкай. — *Заўвага перакладчыка*] нацыянальнай гістарыяграфіі. Выходным пунктам свайго даследавання аўтар вызначыў пагаршэнне жыццёвых умоваў у гарадах у першай палове XIX ст., калі праз увядзенне пасадаў генерал-губернатараў і замену магістратаў на залежныя ад цэнзу гарадскія думы магдэбургскае права было выхалашчанае і *de facto* скасаванае. На думку Ігнатоўскага, фатальную ролю адыграла тое, што Кацярына II у свой час палічыла „Літоўскія Статуты“ польскімі заканадаўчымі дакументамі і замяніла яго на цалкам састарэлае „Соборное уложение“ 1649 г. Паўторнае ўвядзенне ў дзеянне „польскага права“ за часамі Паўла І Ігнатоўскі абгрунтоўваў, сярод іншага, тым, што Статут у ягоных карных параграфах быў „больш культурны“ і што беларусы былі да яго прывычныя[279].

Калі крытычны погляд на гісторыю „расійскіх“ падзелаў Рэчы Паспалітай з'яўляўся пастаянным месцам у штудыях Ігнатоўскага, дык роля сялянства ў падзеях 1863 г. атрымлівала зусім адрозныя ацэнкі. У нанова перапрацаваным выданні 1924 г. яго „Кароткага нарыса гісторыі Беларусі“ сцвярджаецца, што „другое польскае паўстаньне [...] значна ўскалыхнула і Беларусь, зрабіўшыся тут, з аднаго боку, рухам сялянскім, пакіраваным проці паноў, з другога боку, палітыка-вызваленчым, незалежніцкім рухам“ супраць царскай Расіі[280]. Маўляў, сяляне ў асноўным мабілізоўваліся „чырвоным“ лагерам паўстанцаў; яны, аднак, не былі гатовыя ісці за „белымі“ памешчыкамі. Але ўжо ў працы Ігнатоўскага 1926 г., цалкам прысвечанай падзеям гісторыі Беларусі XIX і XX ст., пра „сялянскі рух“ не

[276] Доўнар-Запольскі М.В. Гісторыя Беларусі (op. cit.). С.274—280, у гэтым выпадку с.274, 276, 278, 279.

[277] Rok 1863 па Mińszczyznie. Zebr. і opr. I.Witkowski, O.Janewicz і L.Lech (Выданне Польскага Аддзелу Інбелкульту). Менск, 1927.

[278] Ігнатоўскі У. 1863 год на Беларусі. Менск, 1930.

[279] *Яго ж.* Гісторыя Беларусі ў XIX і ў пачатку XX сталецьця. Лекцыі, чытаныя студэнтам Беларускага Дзяржаўнага унівэрсытэту. Менск, 1926 (2-е выд.). С.15 і наст. Калі, пачынаючы з часоў Паўла І, гаворка заходзіла пра „Беларускую губерню“, тут меліся на ўвазе разам узятыя суседнія Магілёўская ды Віцебская правінцыі. Менская губерня ў істотных рысах абмяжоўвалася Менскам і рэгіёнам, а да Літоўскіх належалі Віленская, Гродзенская і Ковенская губерні.

[280] Ігнатоўскі У. Кароткі нарыс гісторыі Беларусі (op. cit.). С.169 і наст.

было ніякай гаворкі. Перамагла дэфініцыя адносна „пасіўнасці" сялян, якая сфармавалася перадусім на падставе найноўшых публікацыяў крыніц і асобных даследаванняў; адно што „больш сьвядомае сялянства", паводле аўтара, у паасобных выпадках групавалася вакол „чырвонага" лагера Каліноўскага, у якім можна было сустрэць выхадцаў са збяднелай шляхты, студэнтаў і навукоўцаў, а таксама рамеснікаў[281]. У сваім апісанні „найважнейшых момантаў беларускай гісторыі" Дружчыц таксама выказваў пярэчанні датычна „сялянацэнтрычнай" інтэрпрэтацыі падзеяў паўстання і адзначаў, што сялянства ў цэлым не давярала таксама „чырвоным" і не пайшло за імі[282].

Яшчэ больш рашуча Ігнатоўскі выключыў характарыстыку паўстання як выніку „сялянскага руху" ў сваёй аб'ёмнай працы 1930 г. Паводле яго ацэнкі, акрамя віленскага, гродзенскага і ковенскага рэгіёнаў, нідзе не існавала дакументальнага пацверджання колькі-небудзь значнага ўдзелу сялянства ў згаданых падзеях. Замест гэтага падкрэслівалася, што значная частка сялянства нават выявіла свае „контррэвалюцыйныя" настроі[283]. Ігнатоўскі далучыўся да думкі свайго калегі А.Ясінскага, які вёў гаворку пра „варожы нейтралітэт" сялянства як патэнцыйнай рэвалюцыйнай сілы. Фактам было тое, што сяляне ў беларуска-літоўскіх губернях (незалежна ад таго, былі яны ў 1861 г. „вызваленыя" альбо „не вызваленыя") давалі веры энтузіястам са шляхты ды іхнім улёткам, адрасаваным пераважна непісьменным сялянам, толькі тады, калі ўзнікала пагроза іх беспасярэдняму існаванню. Сялянскі кансерватызм, паводле Ігнатоўскага, нават спрычыніўся да таго, што царская адміністрацыя ў 1866 г. здолела стварыць як у Польшчы, гэтак і ў Беларусі ўзброеныя карныя аддзелы, у якія ўвайшлі шматлікія сяляне. Амаль што з правакацыяй межавала тое, што Ігнатоўскі дзеля падмацавання гэтай тэзы працытаваў словы Розы Люксембург, якая была якраз абвешчаная за яе крытыку рэвалюцыі „персонай нон грата": „Без сялян шляхта не магла перамагчы расійскае самаўладдзе"[284].

Да таго ж, Ігнатоўскі ды іншыя аўтары ад самага пачатку імкнуліся адкінуць паняцце „польскае паўстанне", бо беларускія, літоўскія і ўкраінскія тэрыторыі, маўляў, былі ахопленыя ім у гэткай самай меры. З гэтага гледзішча Вільня была не толькі пабочным тэатрам польскіх падзеяў, але і ўласным „цэнтрам паўстання", у якім дзейнічаў „асобны нацыянал-дэмакратычны рух, які меў свае асаблівасці [...]. Праз гэта польскае паўстанне 1863 г. было ў роўнай ступені для Бела-

[281] *Яго ж.* Гісторыя Беларусі ў XIX і ў пачатку XX сталецьця... (op. cit.). С.123—125. Пра ацэнку Ігнатоўскім падзеяў 1863 г. параўн.: Біч М.В. Гісторыя вызваленчага руху на Беларусі ў XIX— пачатку XX ст. у асвятленні У.М.Ігнатоўскага // Акадэмік У.М.Ігнатоўскі. Матэрыялы навуковай канферэнцыі 17—24 кастрычніка 1988 г. (ІГ АНБ). Мінск, 1991. С.56—66, у гэтым выпадку с.59; Сакалова М.М. Ігнатоўскі У.: 1863 год на Беларусі: Нарыс падзей // Беларусістыка. 1991. Вып. 15. С.85—95.

[282] Дружчыц В. Галоўныя моманты ў гісторыі беларускага народу (op. cit.). С.21.

[283] Гэтак падаецца ў напісаным па-расійску рукапісе Ігнатоўскага: 1863 г. в Белоруссии (О восстании 1863 года в Белоруссии) // НАРБ, ф.60, воп.3, спр.128, арк.1—78. У гэтым выпадку арк.3. Гэты тэкст папярэднічае даследаванню ў якасці падрабязнай прадмовы. Параўн.: *Яго ж.* 1863 год на Беларусі (op. cit.). С.1—22.

[284] Тамсама, с.257, 261 і наст. Параўн.: Luksemburg, Roza. Krok za krokiem. Przyczynek do historyi klas burżyjnych w Polsce. Moskwa—Kijów—Smoleńsk, 1921.

русі і ўнутры яе беларускім паўстаннем". Было відавочным, што да гэткага тэрміналагічнага кампанента шчыльна прывязваўся нацыянальны. Але і тут ужо ў 1930 г. пазіцыя рабілася больш стрыманай. Калі яшчэ ў сваёй „Гісторыі" ды ў лекцыях, чытаных у БДУ у 1924 г., Ігнатоўскі мог бачыць за падзеямі 1863 г. незалежніцкі рух, скіраваны на стварэнне „беларускай рэспублікі", дык ужо ў манаграфіі „1863 год на Беларусі" гаворка ішла толькі пра „асаблівую аўтаномію Беларусі ў межах федэратыўнай Рэчы Паспалітай", за якую нібыта выступаў Ігнатоўскі. Патрабаванне незалежнасці для Польшчы мелася датычыць таксама народаў, што знаходзіліся ў „Польшчы" — беларусаў, украінцаў і літоўцаў, — якія мелі спецыфічную „індывідуальнасць".

Другая тэрміналагічная навізна закранала інтэрпрэтацыю паняцця „шляхецкае паўстанне". У той час як ударным месцам сталінскае гістарычнае навукі мусіла стаць „пераасвячэнне" паўстання 1863 г. у сялянскую акцыю пратэсту, Ігнатоўскаму ішлося пра тое, каб закцэнтаваць удзел „буржуазных" слаёў. На яго думку, паняцце „шляхта" мусіла трактавацца больш шырока і быць адкрытым на яе перакрыжаваныя дачыненні з вёскаю, горадам, інтэлігенцыяй, індустрыяльным асяроддзем. Найбольшую актыўнасць у паўстанні, паводле Ігнатоўскага, выявілі часткі гарадскога прадпрымальніцкага класа; дробнабуржуазная інтэлігенцыя, што ў сваёй бальшыні паходзіла са „збяднелай, пралетарызаванай шляхты", несла на сабе галоўны цяжар паўстання. Складаючы ядро лагера „чырвоных" яна, маўляў, бачыла „мэту сваіх выступаў у аграрнай і палітычнай рэвалюцыі", якая, у сваю чаргу, мела за мэту „стварэнне дэмакратычнай рэспублікі". У кожным разе няможна было весці гаворку пра тое, што землеўладальнікі са шляхецкага і магнацкага стану, якія, утвараючы „белы", скіраваны супраць аграрнай рэформы рух, выступалі ў абарону свайго сацыяльнага статуса і за злучэнне Польшчы, Беларусі, Украіны і Літвы ў непадзельнай дзяржаве, — што гэтыя землеўладальнікі адыгралі найважнейшую ролю ў падзеях паўстання[285].

Хоць праца Ігнатоўскага пра 1863 г. у сваіх асноўных сцверджаннях была ў меншай ступені палемічная, чым папярэднія яго выказванні, яна абудзіла вялікае ўзрушэнне ў партыйных органах. Як гэта звычайна і рабілася, ЦК не сам заняўся сутнасным карэктаваннем курсу і знішчэннем (Demontage) непрыязнага яму інтэлектуала. Пазнейшаму сталінскаму карнаму рытуалу адпавядала тое, каб выкрыццё пачынаў калега апальнай асобы. На канферэнцыі камуністычных навукоўцаў, што адбывалася ў чэрвені 1929 г., акадэмік Агурскі распачаў кампанію крытыкі супраць Ігнатоўскага і прэзентаванага апошнім бачання падзеяў 1863 г. Маўляў, пры вывучэнні гісторыі паўстання 1863 г. ён, Агурскі, карыстаўся кнігай Ігнатоўскага і застаўся ёю надзвычай „незадаволены". Ён сам, паводле ўласнага сцверджання, знайшоў іншыя крыніцы — да прыкладу, у ленінградскім Музеі рэвалюцыі, і лічыць, што яму ўдалося „выявіць іншых аўтараў і выдаўцоў тых дакументаў, якія Ігнатоўскі прыпісвае Каліноўскаму", у тым ліку і

[285] Ігнатоўскі У. 1863 год на Беларусі (op. cit.). С.6—8. Пра рэвалюцыйную сітуацыю 1863 г. у выніку „руху дробнабуржуазнае інтэлігенцыі" выказваўся таксама „ранні" Пакроўскі, на што з ахвотай спасылаўся Ігнатоўскі, гл.: Тамсама, с.8; Покровский М. Русская история в самом сжатом очерке. Ч.I и II. Москва, 1922. С.130 і наст.

для „Мужыцкай праўды“: „Кастуся Каліноўскага, які засведчыў сябе як паплечнік Герцэна, трэба было б ахарактарызаваць перадусім як польскага шавініста, калі б ён сапраўды напісаў тое, што яму прыпісвае Ігнатоўскі“[286].

Агурскі, які выступіў тады супраць Прэзідэнта Акадэміі навук Ігнатоўскага, неўзабаве сам апынуўся пад агнём крытыкі на старонках кар'еравызначальнага часопіса „Историк-марксист“. Ён таксама быў абвінавачаны ў „прынцыповым скажэнні“ гісторыі падзеяў 1863 г. На думку суровых крытыкаў, Агурскі ў кнізе „Рэвалюцыйны рух у Расіі“ не аддаў належнае даніны „рэвалюцыйнаму значэнню польскага паўстання“. Маўляў, Агурскі прыпісаў арганізацыю паўстання 1863 г. „памешчыкам і духавенству“ і адначасова дапусціў сцвярджэнні пра пасіўнасць і нават „контррэвалюцыйныя настроі беларускага селяніна“[287]. Гэткая пазіцыя, аднак, цалкам супярэчыла афіцыйнаму разуменню гісторыі[288]. Партыя не магла дапусціць, каб у кнізе па гісторыі выявіла сябе Вандэя. Прытым ані Ігнатоўскі, ані яго крытык Агурскі, а таксама ані Агурскі, ані крытык апошняга Югаў не мелі навуковай будучыні. Гэткае ланцуговае даносніцтва не было ў часы сталінізму рэдкасцю сярод інтэлектуалаў. У прыведзеным прыкладзе таксама адлюстроўваецца паступовая змена адной інтэрпрэтацыйнай групы на другую — нацыянал-камуністычнай пазіцыі Ігнатоўскага на вульгарна-марксісцкую ідэалогію М.Югава.

Крытыку Агурскага нельга разглядаць як адзіную рэакцыю на выказаныя Ігнатоўскім погляды што да падзеяў 1863 г. Яшчэ перад тым як была апублікаваная яго вялікая манаграфія, ён сутыкнуўся з нападамі прысланага ў Беларусь партыйнага кантралёра і старшыні ЦКК украінскай кампартыі У.П.Затонскага, ад якіх Ігнатоўскі паспрабаваў абараніцца адкрытым лістом. Характар названага ліста не пакідае сумневу ў тым, што ўжо ў 1929 г. ён умеў знаходзіць патрэбную танальнасць пры рэагаванні на партыйную крытыку. Значная частка допісу ўтрымлівала фрагменты самакрытыкі. У дачыненні да трэцяга выдання сваёй „Гісторыі Беларусі ў XIX і ў пачатку XX сталецьця“ (1928 г.) Ігнатоўскі ахвотна дапускаў, „што яна ўтрымоўвае шматлікія памылковыя ацэнкі і недакладнасці“. Ён вінаваціў сябе за тое, што адступіў „ад марксісцкіх пазіцыяў і класавага гледзішча на перспектыву дзяржавы, народа і нацыі“[289].

[286] Пратакол паседжання камуністычных навукоўцаў (12.06.1929), гл.: НАРБ, ф.4, воп.21, спр.200, арк.2 і наст., у гэтым выпадку арк.51.

[287] Агурский С. Революционное движение в Белоруссии (1863—1917 г.). Менск, 1928. С.15 і наст.

[288] Тамсама, с.22. Аўтарам рэцэнзіі быў М.Югаў, гл.: ИМ. 1929. № 13. С.254—259.

[289] Параўн. па гэтым пытанні: „Адкрыты ліст Ігнатоўскага тав.Затонскаму“ за 22.06.1929, перадрукаваны ў газеце „Звязда“ за 3.07.1929. С.1. Тут цытуецца з выкарыстаннем арыгінала ліста, гл.: НАРБ, ф.4, воп.3, спр.33, арк.687—689. Тут, акрамя таго, гаварылася: „Адхіленні гэткага кшталту можна перадусім убачыць у раздзелах пра «беларускія рухі», «нашаніўскае Адраджэнне» ды «інкарпарацыю Беларусі» [у склад царскай імперыі — Р.Л.]. У кнізе быў няслушна паказаны імперыялізм: ён па-вульгарызатарску трактаваўся проста як захопніцкая палітыка адной ці іншай імперыі. Гэткія памылковыя ацэнкі можна сустрэць у раздзелах «Беларусь у першай палове XIX стагоддзя», «Кампанія 1812 года», «Цараванне Аляксандра III»“. Пра дыскусію Ігнатоўскага з Затонскім параўн. ніжэй, у падраздзеле 4.3.

Паводле Ігнатоўскага, паказ ім паўстання 1863 г. „мог стварыць ураджанне", нібыта яго правадыр Каліноўскі хацеў абысці беларускае сялянства; ён, Ігнатоўскі, маўляў, праігнараваў не толькі крытычную ацэнку польскіх паўстанцаў, што ўтрымлівалася ў перапісцы Маркса з Энгельсам, але й уніяцкі ды каталіцкі клерыкалізм „чырвоных" у Беларусі; дзеля гэтага яму, Ігнатоўскаму, маўляў, бракавала неабходнага зыходнага матэрыялу. Ён выказаў на адрас Затонскага запэўніванні ў тым, што няправільныя ацэнкі паўстання 1863 г. будуць ім выпраўленыя ў тэзах даклада перад Камуністычнай акадэміяй, а таксама ў адмысловым артыкуле ў часопіс „Большэвік Беларусі". У Менску ды ў абласцях ён мае выступіць са шматлікімі публічнымі лекцыямі пра „контррэвалюцыйную сутнасць беларускага нацыянальнага руху". Абяцанні Ігнатоўскім новай інтэрпрэтацыі гістарычных падзеяў датычылі не толькі яго „Гісторыі Беларусі ў XIX і ў пачатку XX сталецьця", але і агляднай працы ды паасобных іншых артыкулаў. Свае тлумачэнні пры гэтым ён, маўляў, разглядае таксама не як прабачэнні, а як адказ на крытычныя пытанні Затонскага, якія былі пастаўленыя перад з'яўленнем гэтага адкрытага ліста[290]. У іншым месцы Ігнатоўскі даў зразумець, што якраз тым летам [1929 г. — Р.Л.] ён разам з некаторымі сваімі калегамі пачаў падрыхтоўку працы па гісторыі Беларусі, „у якую мы ўкладзём усе свае сілы дзеля марксісцкага асвятлення пытанняў"[291].

У савецкіх даследаваннях таго часу, што выходзілі па-за межы рэгіянальных, ужо да моманту самаабвінавачванняў Ігнатоўскага цэнтральнае месца заняла гістарычная версія новай генерацыі гісторыкаў. У танальнасці сваёй працы пра рэвалюцыйны рух Агурскі ў „Большой Советской Энциклопедии" гаварыў пра „чырвоныя сялянскія аддзелы", якія нібыта гуртаваў вакол сябе Каліноўскі. Калі тут лозунгі „радыкальнага вырашэння сялянскага пытання" і „стварэння незалежнай ад Польшчы Беларусі" меліся быць у аднолькавай ступені важнымі, дык ужо ў „Малой Советской энциклопедии" 1937 г. (2-е выданне) увесь 1863 г. праходзіў пад знакам сялянскага руху, які быў скіраваны супраць памешчыкаў і прагнуў адваяваць у царскага ўрада шэраг саступак[292]. Калі браць пад увагу вышэйпрыведзеныя назіранні, паўстанне 1863 г. выступае ў якасці іншай стандартнай тэмы даследаванняў 20-х г.

Калі параўноўваць з дасавецкай гістарыяграфіяй, у дачыненні да нацыянальнага гісторыяпісання 20-х і пачатку 30-х г. можна гаварыць сама менш пра чатыры выразныя змены. *Па-першае,* немагчыма не заўважыць змянення перспектывы: ад персаніфікаванага гістарычнага даследавання да структурнага і сацыяльнага аналізу. *Па-другое,* выявіўся рост прафесіяналізму, які знайшоў свой выраз у больш актыўным вывучэнні крыніц, у пастаноўцы шматаспектных пытанняў і прыцягненні другаснай літаратуры. *Па-трэцяе,* нельга не зазначыць факта інтэрнацыяналізацыі навуковага дыскурсу, якая перадусім выявілася ва ўдзеле Пічэты ў Берлінскім тыдні гісторыкаў і актыўным абмене публікацыямі

[290] НАРБ, ф.4, воп.3, спр.33, арк.687—689, у гэтым выпадку арк.688 і наст.
[291] Тамсама, арк.294.
[292] МСЭ (op. cit.), артыкул „Белоруссия". Кал.801; БСЭ (op. cit.) артыкул „Белоруссия"— Кал.358 і наст.

ды перыёдыкай з заходнімі бібліятэкамі ды інстытутамі. *Па–чацвёртае*, аднак, узмацненне палітызацыі гістарычнай навукі, без сумневу, вяло да змяншэння навуковага здабытку. Шматабяцальныя пастаноўкі пытанняў, звязаныя з імёнамі Доўнара-Запольскага, Пічэты, Дружчыца, Шчакаціхіна альбо Ігнатоўскага, трапілі пад бязлітасны прыцэл сталінісцкай крытыкі. Тое, што адбывалася пасля 1930 г., мела ўсё менш і менш дачынення да навукі ды абмену думкамі. Цяпер надышла пара прапагандыстаў.

## 3.2. Выхаванне праз гісторыю: школа і музей

Таго, чаго не хапала ў навуковай гістарыяграфіі, па-сапраўднаму бракавала і ў адукацыі. У дачыненні да навучальнага матэрыялу заняткі па гісторыі былі напачатку зарыентаваныя на прамежкавыя вынікі. Дазволеным падручнікам раннесавецкага часу па гісторыі да 1928 г. быў „Кароткі нарыс гісторыі Беларусі" Ігнатоўскага. У першым канцэптуальным праекце народнага камісарыята асветы БССР (1921 г.) ужо ўтрымліваўся намёк на прыняцце адпаведнай пастановы па гэтым пытанні[293]. Невялікі кампендыум да канца савецкага перыяду заставаўся першым і апошнім выкладам з памяркоўна-нацыянальных пазіцыяў беларускай гісторыі для выкарыстання ў школе. Хоць гэтая кніга была яшчэ ў 1930 г. вынятая з ужытку, адзін з выпускнікоў педагагічнага факультэту БДУ 1937 г., які да 1933 г. працаваў дырэктарам калгаснай школы, узгадваў пра гэты падручнік:

> „Мушу дадаць адносна пытання навучання гісторыі, што існаваў падручнік на беларускай мове па беларускай гісторыі, выдадзены пад час нэпа навукоўцам прафесарам Ігнатоўскім; ён быў пад абаронай альбо, хутчэй, пад ціскам партыі нацыянал-дэмакратаў. Яго ў 20-х гадах выкарыстоўвалі ў сярэдніх школах, але адмянілі гэтае выкарыстанне адначасна з канцом беларусізацыі. У тэксце гэтай кнігі ўзгадвалася гэткая праблема, як Літоўская унія"[294].

Ва Украіне гэтаксама не існавала ўласнага падручніка па гісторыі Украіны для сярэдніх школаў. Настаўнікі, якім у 20-я г. даводзілася выкладаць дысцыпліну „ўкраінская гісторыя", звярталіся да папулярнай працы Мацвея Яворскага „Нариси історії України" (Кіеў, 1923), у аснове якой, у адрозненне ад кнігі Ігнатоўскага, ужо ляжала марксісцкая версія. Калі ў 1929 г. у газеце „Правда" з'явілася рэцэнзія выхаванца Пакроўскага П.В.Горына на новае выданне „Історії України у стислому нарисі", дзе гаварылася пра „дробнабуржуазна-нацыяналістычныя тэндэнцыі", украінскі гісторык упершыню трапіў пад агонь крытыкі. Кніга Яворскага яшчэ заставалася да 1930 г. — моманту часовага канца выкладання ўкраінскай гісторыі[295] — афіцыйным дапаможнікам у ВНУ, але неўзабаве партыя цалкам змяніла свой курс. З гэтай агляднай працай разабраліся як з „нацыяналі-

[293] Праграма для гутарак па гісторыі роднага краю ў II кл. і ў 1-й палове году III кл. Менск, 1921. Дзеля арыентавання ў пытанні нядаўняя праца: Orlova, A.P. Belorussian Schools in the 1920s: The International and the National // Russian Education and Society. 1996. #2 (38). С.59—66.

[294] PSSS: Schedule B. Vol.7, #45 JR. C.3.

[295] PSSS: Schedule B5. Vol.8, #495 JR. C.28.

стычнай і контррэвалюцыйнай", яе выключылі з праграм вывучэння, вакол яе разгарнуліся вялікія палітычныя дэбаты ўкраінскай гістарыяграфіі. З прыкладаў гэткага кшталту відаць, што ані русіфікацыя, ані ўкраінізацыя не прывялі да стварэння прымальнай кнігі па гісторыі на нацыянальных мовах[296].

Адначасова з выключэннем з гістарычнай навукі Ігнатоўскага ды Яворскага настаў перапынак у кволым выкладанні беларускай і ўкраінскай гісторыі. Прыняцце пастановы пра выкарыстанне расійскіх падручнікаў супала з усеагульнай пераарыентацыяй партыйнай палітыкі ў нерасійскіх падсавецкіх рэспубліках, што мела месца з 1929 г. У 1933 г., за год да сталінскага генеральнага наступу на гісторыяпісанне, ужо існавалі тры перакладзеныя з расійскай мовы на беларускую падручнікі, у якіх, аднак, аніякім чынам не адлюстроўвалася рэгіянальная, а пагатоў нацыянальная, спецыфіка[297]. Да ўсяго дадалося тое, што гэта, паміж іншага, былі тыя кнігі, якія Сталін праз год загадаў перапісаць нанова. Усе аўтары зноў з'явіліся ў вышэйзгаданай рэзалюцыі Сталіна—Молатава за 16 траўня 1934 г. „О преподавании гражданской истории в школах СССР".

[296] Пранікнёнае апісанне сітуацыі ўкраінскага (параўнальнага з беларускім) навучання гісторыі дае ўкраінскі рэспандэнт у: PSSS: Schedule B5. Vol.9, #383 JR. C.12 і наст.: „Тэксты на ўкраінскай мове выкарыстоўваліся для навучання гісторыі ў ВНУ; гэтак у 30-х г. былі зробленыя даслоўныя пераклады расійскамоўных тэкстаў. (Пытанне: Нягледзячы на ўкраінізацыю?) Так, з украінізацыяй звязаная публікацыя шматлікіх гістарычных манаграфіяў ды артыкулаў на гэтай мове, але не быў напісаны пэўны тэкст. (Пытанне: А што, Грушэўскага ў ВНУ не выкарыстоўвалі?) Не, ў якасці тэксту не. Як вы ведаеце, Грушэўскі вельмі шмат публікаваўся, і студэнты слухалі яго лекцыі, але тыя лекцыі так і не былі апублікаваныя ў выглядзе падручніка. У сярэдняй школе сітуацыя была горшая, бо да сярэдзіны 30-х г. не было вучэбных тэкстаў. Настаўнікі проста папярэдне чыталі лекцыі. Тут зноў-такі былі перакладзеныя з расійскай мовы тэксты — прымітыўныя кампіляцыі. Самі настаўнікі не мелі аніякага стымула пісаць падручнікі, бо яны былі перакананыя, што праз паўтара-два гады пасля іх апублікавання іх саміх зноў-такі абвінавацяць ва ўсялякіх рэчах. Гэтак, настаўнік гісторыі сярэдняй школы мусіў быць вельмі асцярожны і з пэўнымі рэчамі абыходзіцца надзвычай далікатна. Ён не мог назваць кіеўскіх князёў украінцамі, бо гэта прывяло б да таго, што яго назвалі б нацыяналістам; ён мусіў гаварыць, што яны паходзілі ад нашых старэйшых расійскіх братоў. У сапраўднасці, да сярэдзіны 30-х г. не было вядома, як трактаваць гэтых князёў. Пакроўскі сцвярджаў, нібыта яны рэпрэзентавалі *гандлёвы капіталізм* (sic!) і былі эксплуататарамі; і вы мусілі мець справу з тэзай, нібыта ўладзімірскія князі заснавалі горад Уладзімір на Клязьме, а нашчадкі Рурыка заснавалі Маскоўскае княства. Настаўнікі гісторыі да сярэдзіны 30-х г. не ведалі, што гаварыць пра гэтых князёў — вінаваціць іх альбо ўсхваляць. Гэтая збянтэжанасць аслабла, калі была разгромленая школа Пакроўскага, і цяпер давалася зразумець, нібыта Кіеўскі перыяд у роўнай ступені належыць як расійскай, гэтак і ўкраінскай гісторыі, і тое, што рабілі кіеўскія князі, было добра, бо праз гэта закладаўся падмурак Маскоўскага княства. Гэтак, урэшце, настаўнік мусіў гаварыць, што яны былі добрыя і што гэтая слаўная мінуўшчына была агульная для ўкраінцаў, расійцаў і беларусаў".

[297] Нікольскі Н.М. Гісторыя. Даклясавае грамадства. Старажытны ўсход. Антычны сьвет / Падручнік для сярэдняй школы. Менск, 1933; Гукоўскі А.І., Трахтэнберг І.В. Гісторыя. Эпоха феадалізму / Падручнік для сярэдняй школы 6—7 году навучаньня. Пераклад з рускага выданьня. Менск — Масква, 1933; Яфімаў А., Фрэйберг Н. Гісторыя. Эпоха прамысловага капіталізму / Падручнік для сярэдняй школы, 7—8 гады навучаньня. Пад рэд. Казлова Ф.Ф. Менск, 1933.

Цяпер месца тэарэтычных заняткаў, скіраваных на „абстрактнае азначэнне грамадска-эканамічных фармацыяў", мусіла заняць жывое, заснаванае на фактах, храналагічнае выкладанне гісторыі, у якім пакідалася б належнае месца для „знакавых гістарычных асоб". Пад увагу мусіў брацца гістарычны працэс „як цэлае". Час „эпізадызму" меўся адысці ў нябыт. З дыдактычна-метадычнага гледзішча, класны пакой цяпер мусіў займець бібліяграфіі, насценныя карты і табліцы, адпаведныя гістарычныя даведнікі, атласы і храналогіі[298]. У сталінскай рэвалюцыі і тэрмінах кшталту „жывое выкладанне" руплівыя педагогі-метадысты вычыталі ўкараненне новых дыдактычных тэхналогіяў. Праз некаторыя з гэтых сродкаў навучання, акрамя павышэння ўзроўню выкладання, трэба было дасягаць яшчэ адной мэты: насценная карта Савецкага Саюзу мусіла выклікаць у навучэнцаў не толькі ў Маскве альбо ў Кіеве, але і таксама ў Менску, Баку ці Ташкенце гонар з тае нагоды, што яны жывуць у самай вялікай краіне свету. Маскоўскія стратэгі адукацыйнай галіны даўно зразумелі карыснасць „нагляднага" выкладання гісторыі. Цяпер падручнікі „без цароў і каралёў" павінны былі застацца ў мінулым[299].

Гісторыя Беларусі, што выкладалася ў школе, неўзабаве пасля забароны кніжкі Ігнатоўскага страціла ўсялякае аблічча. Уведзеныя ва ўжытак у чэрвені 1935 г. агульнасавецкія падручнікі па гісторыі — „Гісторыя старажытнага свету", „Гісторыя сярэдніх вякоў", „Новая гісторыя", „Гісторыя СССР" ды „Новая гісторыя залежных і каланіяльных краін" — ужо нават не перакладаліся на беларускую мову. Падручнік па гісторыі Беларусі меўся зноўку з'явіцца ў беларускіх школьнікаў толькі на пачатку 1960-х г. Запытаны пра гады сваёй працы ў якасці дырэктара калгаснай школы ў 1937—1939 г., у якой 98% з агульнай колькасці 600 вучняў і 31 з 32 настаўнікаў былі беларусамі, педагог з Беларусі мог толькі пацвердзіць тое, што стала рэальнасцю пасля павароту ў палітыцы і гістарычнай навуцы на пераломе 1929 і 1930 г.: „Не існавала асобнага курса беларускай гісторыі, а быў толькі курс гісторыі народаў Савецкага Саюзу"][300].

Яшчэ больш элементарныя праблемы дазваляюць убачыць у новым святле энтузіястычныя выказванні старэйшай і найноўшай гістарыяграфіі пра беларусізацыю і яе вынікі ў сярэдняй і вышэйшай школе. Гэтак, выпускнікі школысямігодкі паведамлялі пра неверагодныя матэрыяльныя ўмовы ў класе. Мала таго што адсутнічалі падручнікі, цэлы год тут не было атраманту, паперы ды

[298] Бочаров Ю. Задачи преподавания истории // ИМ. 1934. № 37. С.85—92. Пра адукацыйныя мэты і змест адукацыі ў часы Сталіна параўн.: Helmert, Gundula. Schule unter Stalin 1928—1940 (Osteuropa-Institut der Freien Universität Berlin, Erziehungswissenschaftliche Veröffentlichungen, Bd.22). Berlin, 1990. C.29 і наст., 102 і наст. Акрамя таго: Бущик Н. Очерк развития школьного исторического образования. Москва, 1968. С.167—312. Тут таксама ў сціслай форме падаюцца вынікі даследавання народнага камісарыята РСФСР, згодна з якімі вучні мелі недастатковыя веды „гістарычных фактаў, храналогіі і чаргавання гістарычных падзеяў, а таксама недастаткова разумелі гістарычную перспектыву. Параўн.: Тамсама, с.251—255.

[299] Oberländer, Erwin. Sowjetpatriotismus und Geschichte... (op. cit.). C.41.

[300] PSSS: Schedule B. Vol.7, #45 JR. C.6. Тое, што мовай выкладання таксама гісторыі ў „беларускіх" школах ужо працяглы час зноў была расійская мова, разумелася само сабою.

сшыткаў — што „рабіла вучобу амаль немагчымай“. Да гэтага дадавалася недастатковая падрыхтаванасць настаўнікаў: „Я ўзгадваю свайго настаўніка, што выкладаў у нас гісторыю ў сёмым класе. Ён чытаў нам са сваіх нататак, падрыхтаваных ім перад занняткамі; а пад час заняткаў яму заўсёды даводзілася чытаць матэрыял з кнігі, што прызначалася вучням для таго, каб чыталі яны; вядома ж, усё гэта было вельмі нудна. Вучні нічога не збіраліся вучыць і ставіліся да яго непаважліва“[301].

Пасля таго як на пачатку 30-х г. беларусізацыя ў выкладанні гісторыі была спыненая, падсавецкая школа пастаянна знаходзілася пад кантролем. Праведзенае з ініцыятывы партыі ў 1931 г. у васьмі школах розных рэгіёнаў „трэцяе апытанне пра стаўленне дзяцей да контррэвалюцыйнай беларускай нацдэмаўшчыны“ не пакідала ў гэтым аніякага сумневу. Мэтай гэтага анкетавання было выявіць стан ведаў дзяцей і моладзі пра нацыянал-дэмакратызм. Вынікі сведчылі пра тое, „што ў радзе школаў ня была праведзена з вучнямі дастатковая вычарпальная работа па растлумачэньню сутнасьці нацдэмократызму, яго контррэволюцыйнасьці, ня была мобілізавана ўвага вучнёўскіх мас на барацьбу з рэшткамі нацдэмократызму“[302]. Для педагогаў яшчэ раз рабіліся абагульненні што да ўяўнай тактыкі дзейнасці нацыянал-дэмакратаў, каб забяспечыць іх аргументамі ў змаганні супраць нацдэмаўскай ідэалогіі. Паводле названых інструкцыяў, нацыянал-дэмакраты разглядалі беларускую нацыю як бяскласавую і адзіную; найбольшым ворагам, маўляў, была Масква, а апекуном іхніх намаганняў — фашысцкая Польшча. Гістарычная канцэпцыя нацдэмаў мелася прадвызначацца „лозунгам пра самабытнасць“ Беларусі — краю, які, у адпаведнасці са сваімі „прыродна-гістарычнымі ўмовамі“, павінен быў застацца „аграрнай краінай з маларазвітай аднаасобнай сельскай гаспадаркай“. Маўляў, калектывізацыя ды індустрыялізацыя рабіліся на загад з Масквы, праз што нацыянал-дэмакраты нібыта яшчэ ў 1932 г. падбухторвалі дзяцей да змагання супраць перабудовы сельскай гаспадаркі ды правядзення індустрыялізацыі ў краіне[303].

Ад выкладання гісторыі ў школах-сямігодках нават у часы беларусізацыі практычна не зыходзіла ніякіх імпульсаў, праз якія магло б фармавацца нацыянальнае бачанне гісторыі. Узровень падрыхтоўкі настаўнікаў, які паўсюдна выклікаў нараканні, даваў у гэтым дачыненні занадта мала спадзеваў. Таксама інерцыя правінцыйных педагогаў — чыннік, які ўвесь час недаацэньваўся, — а таксама іх амаль зрытуалізаваная ўлучанасць у вяскова-рэлігійную супольнасць сельскай мясцовасці, звязаную традыцыямі ды кругавою парукаю, доўгі час перашкаджалі пранікненню туды нацыянальных альбо бальшавіцкіх ідэалагем. Яшчэ на пачатку 30-х г. вясковыя настаўнікі фактычна не бачылі сябе абавязанымі трактаваць гісторыю краю, у якім яны жылі, як гісторыю класавай барацьбы. Ісус Хрыстос усё яшчэ лічыўся „вялікай гістарычнай асобай, якая вучыла

[301] PSSS: Schedule A. Vol.23, #468 RS. С.40 і наст. (Рэспандэнткаю была беларуская настаўніца пачатковай школы.)
[302] Дардак, Ерафееў. Клясавая барацьба ў школе БССР // Савецкая краіна. 1932. №7—8 (21—22). С.61—93.
[303] Тамсама, с.73.

людзей мудрасці і прыняла пакуты за чалавечы род", а расійскія цары іх жыццём і добрымі справамі вызначалі пачатак і канец школьнай гісторыі[304].

Інстытут гісторыі БАН яшчэ ў лістападзе 1932 г. самакрытычна прызнаваў, што падтрымка з ягонага боку „Наркамасьветы" з гледзішча прафесійнага кансультавання ў вырашэнні праблем выкладання гісторыі ажыццяўлялася „ў недастатковай меры"[305]. Трэці Ўсебеларускі з'езд педагогаў 15 лютага 1933 г. імгненна прарэагаваў на падобныя выказванні. Рэзалюцыя, побач з „выкананнем задач пабудовы сацыялістычнага грамадства", запатрабавала „ажыццяўлення ленінскай нацыянальнай палітыкі і змагання супраць контррэвалюцыйнай нацдэмаўшчыны і вялікадзяржаўнага шавінізму як найвялікшай пагрозы й супраць нацыяналізмаў усялякіх адценняў"[306]. „Атэстацыйная" кампанія, што мела месца пасля гэтага, у 1936 г., дарабіла ўсё астатняе дзеля завастрэння сітуацыі ў школе. Да 5 снежня 1936 г. 5896 з агульнай колькасці 26 896 настаўнікаў БССР былі паддадзеныя ацэначнай працэдуры, якую без істотных заўваг прайшлі толькі 1384 чалавекі — каля 23% правераных[307]. Тыя, хто так ці йначай выклікалі падазрэнне, былі перададзеныя для далейшай „распрацоўкі" органам НКВД. „Ачышчэнне школаў ад класава-варожых элементаў" адбывалася ў сваёй сутнасці такім жа чынам, як і ў навуковай сферы. Толькі наступнае пакаленне настаўнікаў гісторыі скончала ўжо падсавецкія педагагічныя ВНУ, у якіх навучанне вялося паводле „Кароткага курсу" і дзе выкладчыкі „палітычных дысцыплін", у лік якіх уваходзіла гісторыя, мусілі быць членамі партыі. Выкладанне гісторыі, навучальныя матэрыялы, што выкарыстоўваліся ў гэтых мэтах, а таксама палітычная індактрынацыя выкладчыкаў, гэткім чынам, прадвызначалі характар функцыянавання акадэмічнай гістарычнай навукі. Ніякіх істотных адрозненняў у гэтым плане не мела становішча ў іншай сферы публічнай гістарычнай палітыкі — музейнай справе.

Тое, што бальшавікі ад самага пачатку свайго ўладарання працавалі над стварэннем уласнай аўры, вядома дастаткова добра[308]. Музеі ды выставы належалі да стабільнага складніка прапагандовага інструментарыя. Калі да кадыфікацыі гісторыі яшчэ заставалася далёка і разнастайныя гістарыяграфічныя падыходы ўзаемна блакавалі адзін аднаго, у БССР ужо руплівa працавалі над стварэннем першых экспазіцыяў. Прыкметна тое, што паняцце музея ўжо ў раннесавецкі час ахоплівала тэматыку куды шырэйшую за прапанаваны вобраз мінуўшчыны краю. Музеем лічылася таксама мастацкая экспазіцыя штодзённага побыту: куль-

[304] Цытату гл.: Тамсама, с.78 і наст. Урыўкі ўзятыя з правінцыйнай газеты „Калгасная праўда" за 4.03.1932 г.

[305] НАРБ, ф.4, воп.21, спр.362, арк.76—82: „Докладная записка Института истории БАН", у гэтым выпадку арк.79.

[306] НАРБ, ф.4, воп.3, спр.41, арк.89—93: „Рэзалюцыя Бюро ЦК КП(б)Б аб рабоце сярод настаўніцтва", у гэтым выпадку арк.89 і наст.

[307] Параўн.: Навіцкі У.І. Інтэлігенцыя і сталінізм (op. cit.). С.3.

[308] Параўн., апошнім часам: Plaggenborg, Stefan. Revolutionskultur. Menschenbild und kulturelle Praxis in Sowjetrußland zwischen Oktoberrevolution und Stalinismus (Beiträge zur Geschichte Osteuropas, Bd.21). Köln—Weimar—Wien, 1997. Пра комплекс музея як „сузіранай гісторыі" гл.: Тамсама, с.229 і наст.

тура працы, месцы працы і жыллёвыя варункі працоўнага насельніцтва для прапагандыстаў ЦК лічыліся вартымі таго, каб ім прысвячаліся адмысловыя выставы. Па-за тым, ад музейна-рэалістычнага адлюстравання савецкага грамадства чакалася мабілізацыйнае ўздзеянне, бо людзі мусілі ўважаць сябе і свой штодзённы свет рэпрэзентатыўнымі. Датыхчасоваму „акадэмізму“ і „універсалізму“ музеяў дарэвалюцыйнага часу мелася быць проціпастаўленая музейная культура рэалістычнай нагляднасці.

„Людзі думаюць не абстрактным чынам, а жывымі, моцна абмежаванымі ўзорамі“. Гэтак беларускі функцыянер ад культуры Ф.П.Садоўскі ў 1931 г. распачаў сваю філіпіку супраць музеяў, якія павінны былі зрабіцца „дзейснымі агітатарамі ды прапагандыстамі сацыялістычнага будаўніцтва“ і знаёміць грамадскасць „з формамі, метадамі ды тэхналогіямі гэтага будаўніцтва ва ўсіх сферах жыцця“. Заслужаныя фабрыкі, калгасы, МТС альбо рамесныя прадпрыемствы мусілі быць пераўтвораныя ў музеі і меліся, разам з „музеямі творчай працы“, адлюстроўваць формы развіцця сацыялістычнага грамадства ў яго дынаміцы. Сам вытворчы працэс, гэткім чынам, гістарызаваўся і рабіўся прыдатным для пашырэння „сацыялістычнай ідэнтычнасці“. Увесь Савецкі Саюз цягам свайго існавання быў адначасна рэальнасцю і вобразам сябе самога.

Гістарычныя, у вузкім сэнсе, музеі выконвалі падвойную функцыю. З аднаго боку, яны былі месцам збірання ды экспанавання гісторыі абмежаванай тэрыторыі. З іншага боку, у іх задачу ўваходзіла рэалізацыя актуальнай палітычнай задачы, якую Садоўскі для БССР выразна сфармуляваў наступным чынам:

> „Музеі і ў будучым маюць збіраць і захоўваць помнікі гісторыі чалавецтва, але гэта будзе рабіцца зусім у іншым ракурсе. Гісторыя — гэта не справа мінуўшчыны, старажытнасць — не справа старажытнасці. Гістарычная і старажытная культура людзей у куды большай ступені важная дзеля таго, каб абудзіць у іх тыя сілы, што ўтвараюць падмурак будаўніцтва новага сацыялістычнага грамадства. Гэтак і толькі гэтак павінна стаяць гэтае пытанне“[309].

Якраз у дачыненні да гістарычных музеяў з афіцыйнага боку было зроблена папярэджанне, што яны не павінны далей заставацца „магазіннымі сховішчамі старажытных рэчаў“. Куды больш неабходна было, маўляў, рабіць на іх базе „музейныя школы“ ды „універсітэты масаў“, з дапамогай якіх савецкае грамадства зможа распачаць „барацьбу за новае жыццё і новага чалавека“. Гэтую функцыю выконваў ужо самы першы адчынены пасля 1917 г. менскі музей. Ён быў прысвечаны першаму з’езду РСДРП — гэты з’езд, хутчэй з выпадковай прычыны, адбываўся ў 1898 г. акурат у гэтым горадзе — і адчыніў свае дзверы перад публікай да 25-гадовага юбілею падзеі, у сакавіку 1923 г. За гэты непрыглядны дамок у цэнтры горада, задуманы як складовая частка праекта „гісторыя Кастрычніцкай рэвалюцыі“, адказваў Гістпарт. З таго часу названаму музею ў гістарычна-стратэгічных планах ЦК у справе выхавання масаў адводзілася першачарго-

[309] Садоўскі Ф.П. Музэй — магутны агітатар і прапагандысты соцыялістычнага будаўніцтва // Савецкая краіна. 1931. № 3(5). С.19—25 [*зваротны пераклад з нямецкай мовы*]; наступныя цытаты гл. у: Супінскі А.К. За новы музэй // Наш Край. 1927. №7—8(58—59). С.7—11.

вая роля. Тое, чаго не выпадала сказаць у гістарычнай кнізе, павінен быў ажыццяўляць музей — рабіць нагляднай блізкасць паміж сабою беларускай і расійскай сацыял-дэмакратыі, КП(б)Б і маскоўскіх бальшавікоў. Ніводзін іншы помнік горада не рэпрэзентаваў гэтак выразна, як названы музей, інтэрпрэтацыйныя мэты новай генерацыі гісторыкаў, які, у сваю чаргу, у 1998 г., на сотыя ўгодкі расійскай сацыял-дэмакратыі, быў паказаны публіцы ў новым бляску. Гэтага захацелася постсавецкай гістарычнай палітыцы Беларусі.

Заклапочанасць партыі сітуацыяй з музеямі ў БССР у значнай ступені вынікала са стану Беларускага Дзяржаўнага музея. Тут, з дня 19 лістапада 1922 г., калі ён быў адчынены, назбіралася зашмат матэрыялу, які нельга было беспасярэдне дапасаваць да гісторыі рэвалюцыі і ўзнікнення БССР. У кожным разе мусіла быць апраўданым, што ў музеі захоўваліся манетныя багацці Вялікага Княства Літоўскага, альбо абразы старабеларускай іканаграфічнай школы, ці рукапіснае Слуцкае Евангелле з 1580 г. На вялікай экспазіцыйнай плошчы быў сабраны разам нацыянальны культурны скарб, дастаўлены сюды з экспазіцыяў ды архіваў разнастайных колішніх музеяў ды гістарычных таварыстваў Менска ды іншых гарадоў. Менскае таварыства гісторыі і старажытнасцяў перадало музею экспанаты, здабытыя ў часе раскопак, тады як з зачыненага ў 1921 г. Менскага гарадскога і абласнога музея калекцыю папоўнілі рэдкія друкаваная выданні і манеты. Да гэтага дадаліся экспанаты былога Царкоўнага гістарычна-археалагічнага музея: камітэт сельскай гаспадаркі і ЦВК БССР разам з Саўнаркамам перадалі калекцыю партрэтаў, зборы золата, срэбра ды іншыя экспанаты. У 1927 г. Белдзяржмузей меў сем аддзелаў (гістарычна-археалагічны, нумізматычна-сфрагістычны, мастацкі, царкоўна-археалагічны, этнаграфічны, старабеларускай зброі, габрэйскі), уласную бібліятэку, музейны архіў, а таксама свае філіі ў Віцебску, Магілёве ды Гомелі. У 1926 г. музей быў уключаны ў лік цэнтральных дзяржаўных установаў. Але будучыня музея знаходзілася пад нядобрым знакам, і гэта ўсё выразней было відаць, чым бліжэй да свайго канца падыходзіла беларусізацыя[310].

2 траўня 1926 г. у Менску быў адчынены Музей рэвалюцыі. Пад яго нават вызначылі адмыслова ўзведзены будынак у цэнтры горада. Тут была прэзентаваная афіцыйная версія гісторыі, у якой вялікая ўвага аддавалася сялянскім паўстанням на чале з Пугачовым і Разіным, дзейнасці дзекабрыстаў, а таксама бліжэйшай партыйнай ды рэвалюцыйнай гісторыі. Праз год увазе наведнікаў прапаноўвалася ўжо каля 10 000 экспанатаў[311]. Адкамандзіраваныя сюды Гістпартам арганізатары экспазіцыі на чале з Агурскім і Гельтманам ганарыліся тым, што, у адрозненне ад аналагічных рэвалюцыйных музеяў у Маскве і Ленінгра-

[310] Да пяцігадовага юбілею ў прэсе з'явіліся два ўшанаванні: Ластоўскі В. Беларускі Дзяржаўны Музэй // Наш Край. 1927. № 10. С.47—52, а таксама: Харламповіч П. Пяцігодзьдзе Беларускага Дзяржаўнага Музэю // Тамсама. 1927. №1(16). С.11—16. Акрамя таго, гл.: Weissruthenische Kultur: 1. Sammlung von Aufsätzen aus dem Gebiet der weissruthenischen Kultur // Weissruthenische Gesellschaft für kulturelle Verbindung mit dem Auslande (выд.). Minsk, 1928. С.55—61.

[311] Сацункевіч Ю. Музэй рэволюцыі к дзесяцігодзьдзю Кастрычніка // Наш Край. 1927. № 10. С.53 і наст.

дзе, у менскім музеі эпохі „рэвалюцыйнага руху“ падаваліся „храналагічна і паслядоўна, паводле іх зместу“. Гістарычная пераемнасць, якой бракавала беларускай гісторыі як гісторыі нацыянальнай, гэткім чынам узнаўлялася праз акт здзяйснення. Ва ўжо згаданым вышэй дакладзе Гістпарту за 1928/29 г. адказныя супрацоўнікі музея з задавальненнем зазначалі, што яго наведалі 15 000 асоб, якія на 95% былі ўдзельнікамі адмыслова арганізаваных экскурсіяў. Доля тых грамадзян, што сапраўды выявілі цікавасць да гісторыі партыі, уяўляецца ў звязку з гэтым значна меншай[312].

Калі ж прыгледзецца да гэтай справы бліжэй, існаванне Дзяржаўнага музея і Музея рэвалюцыі выяўляла тую самую раздвоенасць, якая была відавочнай у гістарыяграфічных працах гісторыкаў розных пакаленняў, што працавалі ў гэты час. Без усялякага сумневу, музейная гістарыяграфія адназначна мела выконваць дыдактычныя задачы. Беларускі „Агітпроп“ чакаў ад музеяў беспрэцэдэнтнага абсягу і сілы ўздзеяння пры распаўсюджванні афіцыйнае версіі гісторыі. Але лічбы колькасці наведнікаў беларускіх дзяржаўных музеяў у Менску пасля выразнага іх змяншэння ў перыяд з 1924 да 1926 г. (430 групаў агульнай колькасцю 11 696 чалавек супраць 230 групаў з колькасцю разам узятых 8823 наведнікаў) толькі пазней займелі тэндэнцыю, якая паказвала прырост патэнцыйных спажыўцоў музейнае рэчаіснасці. Пасля 1929 г. разам з гістарычнымі тэкстамі змянілася і прэзентацыя гісторыі ў музеях. Перад тым як быць паказанай, гісторыя сепаравалася і сартавалася. Шмат якія з датуль выстаўленых у Дзяржмузеі экспанатаў павандравалі ў запаснікі ды архівы.

Падобная сітуацыя была і з архіўнымі дакументамі. Партыя вельмі хутка прыйшла да думкі, што прыярытэт ведання ўдакументаванай гісторыі беларускіх земляў не можа быць аддадзены некаму яшчэ. Ад самага пачатку існавання БССР пастаянна выдаваліся разнастайныя абежнікі ды інструкцыі адносна распараджэння фондамі гістарычных матэрыялаў. Праз гэта дасягаліся тры стратэгічныя мэты: канцэнтраванне архіўнага матэрыялу ў сталіцы, цэнтралізацыя распарадчае ўлады ў асобе ЦВК БССР і Саўнаркама, а таксама дапасаванне прыманых пастановаў да агульнасавецкае архіўнае палітыкі. Заснаваны ў 1922 г. Архіўны фонд БССР, ад самага пачатку падпарадкаваны Цэнтральнаму архіўнаму ўпраўленню БССР, разам з паўсталым у тым самым годзе Цэнтрархівам БССР утвараў стрыжань беларускай архіўнай справы раннесавецкага часу. Ужо ў 1927 г. у гэтай сістэме існавала некалькі дзесяткаў рэгіянальных і мясцовых архіваў: Цэнтральны архіў Кастрычніцкай рэвалюцыі, гістарычныя архівы ў Менску, Віцебску, Магілёве, акруговыя архівы; акрамя таго, зборы актаў дзяржаўных, грамадскіх, прафсаюзных, кааператыўных ды іншых установаў[313]. Не абышлося без пэўнай іроніі лёсу ў выпадку з архівам Кастрычніцкай рэвалюцыі, які быў размешчаны ў мурах менскага манастыра. Хоць грамадскасці і гарантава-

[312] НАРБ, ф.4, воп.3, спр.22, арк.466—475, у гэтым выпадку арк.467 і наст.

[313] Адкрытыя дакументы пра развіццё архіўнае справы ў БССР гл. у: Архивное дело в БССР (1918—1968). Сборник законодательных и руководящих документов / Изд. Главного архивного управления при Совете министров БССР. Мінск, 1972. Акрамя гэтага, гл. артыкул А.Міхальчанкі: Архівы // ЭГБ. Т.1. Мінск, 1993. С.169 і наст. Там таксама падаецца пашыраны спіс літаратуры.

лася законам магчымасць карыстацца архівамі ды іх фондамі, але на практыцы, пра сутнасць якой не дазваляе распавесці аб'ём гэтай працы, усё атрымлівалася зусім іначай.

Да ўсяго іншага дадаваўся яшчэ і гэткі чыннік, што важныя зборы дакументаў па гісторыі Беларусі не былі ў распараджэнні даследчыкаў. Гісторыя падзелаў гэтага краю прывяла да таго, што перадусім матэрыялы, датычныя даўнейшых часоў — да прыкладу, „Літоўская Метрыка" — знаходзіліся не ў межах БССР, а таксама і не ў межах Літвы. Правёўшы карпатлівую працу, Альгерд Шлюбскі, які пазней разам з Ластоўскім вярнуўся з Коўны ў Менск, у 1925 г. здолеў ажыццявіць вельмі важную задуму — вызначыць і апісаць месцы захоўвання шматлікіх збораў крыніц „па беларускай (крыўскай) гісторыі". У яго артыкуле, апублікаваным у „Матэр'ялах да крыўскай гісторапісі", згадваліся вядомыя і невядомыя зборы дакументаў у Маскве, Варшаве, Кракаве, Львове, а таксама ў архівах паасобных гісторыкаў. Вядома ж, яго гістарыяграфічныя ўводзіны не абышліся без ускосных закідаў у бок Масквы: маўляў, Беларусь (Крывія) да XVII ст. у справе рукапіснай культуры стаяла на вышэйшым за Масковію узроўні[314].

Калі браць пад увагу той факт, што культурная ды навуковая палітыка таксама і ў архіўнай галіне мусілі ісці па цаліку, у 1927 г., праз дзесяць гадоў пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі, вынікі былі зусім нават прыкметныя. У кожнай акрузе БССР існаваў свой акружны архіў, у які ўваходзілі ўсе малыя архівы, у тым ліку і сямейныя архівы колішніх мясцовых шляхецкіх дамоў. У Менску, Магілёве ды Віцебску працавалі Гістарычныя архівы, у якія былі ўлучаныя таксама губернскія архіўныя фонды царскага часу. Толькі ў Менску, з улікам фондаў Цэнтральнага і Рэвалюцыйнага архіваў, пачынаючы з 1922 г. было ўзведзена больш за 6 кіламетраў новых паліц і ўзноўлена яшчэ 600 метраў старога інвентарнага фонду. Што канкрэтна ўваходзіла ў склад тых знішчаных 80 тонаў так званай „архіўнай макулатуры", пра якія згадвалася ў справаздачы, цяпер, пасля таго як прайшло гэтулькі часу, узнавіць немагчыма[315].

[314] Шлюбскі Альгерд. Доля кнігасховаў і архіваў зямель крыўскіх і б. Вял. Кн. Літоўскага. [Матэр'ялы для крыўскай гісторапісі]. Коўна, 1925. С.5. Асобны адбітак з часопіса Ластоўскага „Крывіч" [1925 г., № 9(1)].

[315] Мялешка М. Архівы БССР за 10 год Кастрычніка // Наш Край. 1927. № 10. С.61—64.

## 4. Беларускія гісторыкі пад Сталіным

Адукаваная частка грамадства раннесавецкага часу мела неаднародны склад. Царскія чыноўнікі і маладасавецкія энтузіясты, „буржуазныя спецыялісты“ і малаадукаваныя кар'ерысты мусілі ўжывацца разам у настаўніцкіх вучэльнях, на кафедрах універсітэтаў, у навукова-даследчых лабараторыях, канторах, ведамствах ды партыйных ячэйках. Калі гэта яшчэ збольшага атрымоўвалася, у вачах партыі пачынала выглядаць падазрона, што пабудова маладой савецкай дзяржавы на доўгую перспектыву часткова кладзецца на плечы „лёкаяў капіталізму“ — як меў звычку называць інтэлігенцыю Ленін. Асабліва чуйны слых бальшавікі дэманстравалі ў сферы ідэалагічнай вытворчасці і фармавання камуністычнай дактрыны. З тае прычыны, што акадэміі навук у РСФСР, гэтаксама як і ва Ўкраіне ды ў Беларускай ССР, былі „арыстакратычнымі“ інстытуцыямі і да канца 1920-х г. насамрэч заставаліся „чужароднымі целамі“ ўнутры падсавецкага грамадства, апошнія былі аб'ектамі найпільнейшай увагі[316]. Гістарычныя навукі пры гэтым — як тое ўжо было паказана на прыкладзе БАН — не былі выняткам з правіла.

Аморфнасць складу падсавецкай прафесійнай інтэлігенцыі, а таксама і яе гістарычна-навуковай часткі ў 20-я і 30-я г. зрабіла ў гэткай самай ступені немагчымай размову пра „гісторыкаў“, з гледзішча біяграфіі, даследніцкай перспектывы, палітычнай заангажаванасці і г.д.[317]. У Менску мела істотную вагу тое, што з прычыны адсутнасці да 1921 г. акадэмічных структур у новапаўсталых установах склаліся своеасаблівыя прынцыпы фармавання калектываў. Гісторыкі з Кіева, Харкава, Масквы, Варшавы, Вільні і Менска, якія не толькі належалі да розных генерацыяў, але і ўвасаблялі розныя нацыянальнасці ды розны палітычны досвед, утварылі прафесійную *ad hoc*-супольнасць. Структурныя перадумовы развіцця гістарыяграфіі ў БССР арыгінальным чынам мусілі спарадзіць разнастайнасць гістарычных канцэпцыяў. У далейшым у выглядзе кароткіх нарысаў будуць паказаныя і супастаўленыя жыццёвыя шляхі і павароты кар'еры пяці вядомых прадстаўнікоў менскай гістарычнай навукі. Пры гэтым наглядна вымалёўваюцца біяграфічныя

[316] Параўн. высновы ў: Beyrau, Dietrich. Intelligenz und Dissens... (op. cit.). С.28 і наст. Пра расійскіх гісторыкаў у цэлым гл.: Тамсама, с.44—47.

[317] Тое, што заходняй гістарыяграфіяй ужо зроблена ў дачыненні да галаўных інстытутаў ды іх супрацоўнікаў у выглядзе дыферэнцыяваных і асобных біяграфічных працаў, адносна беларускага гістарычнага цэха яшчэ не здзейснена. Побач з працамі, упарадкаванымі ў выглядзе калектыўных біяграфіяў ды тэматычных блокаў — гэткімі, як: Shteppa, Konstantin F. Russian Historians and the Soviet State... (op. cit.); Barber, John. Soviet Historians in Crisis... (op. cit.) — параўн., сярод іншых: Sherter, S.R. The Soviet System and the Historian: E.V.Tarle as a Case Study. Phil. Diss. Wayne State University, 1968 (Ann Arbor, Mich., 1969), альбо: Hösch, Edgar. Evgenij Viktorovič Tarle (1875—1955) und seine Stellung in der sowjetischen Geschichtswissenschaft. Wiesbaden, 1964. Калектыўна-біяграфічную працу, дзе параўноўваюцца расійскія акадэмікі і іх стаўленне да рэвалюцыі і Савецкай улады, прапануе манаграфія: Tolz, Vera. Russian Academicians and the Revolution... (op. cit.). На заходнееўрапейскіх мовах друкаваліся таксама мемуары, напр.: Nolte, Hans-Heinrich (выд.). Nikolaj Michajlovič Družinin: Erinnerungen und Gedanken eines Historikers. Göttingen—Zürich, 1983.

агульнасці беларускага і агульнасавецкага гісторыяпісання, якія выяўляюць сябе аж да канчатковай змены гістарычных генерацыяў, што адбылася да 1945 г.[318].

## *4.1. Паходжанне і шляхі атрымання адукацыі*

Гісторыкі, якія ў 30-я г. стваралі афіцыйную версію гісторыі Савецкага Саюзу, амаль усе без вынятку атрымоўвалі адукацыю яшчэ за царскім часам. Гэта было пакаленне людзей, народжаных паміж 1880 і 1900 г., якія — калі не патрапілі пад першыя хвалі рэпрэсіяў — павыміралі толькі разам са Сталіным. У роўных долях — гэта можна прадэманстраваць на прыкладзе беларускіх гісторыкаў — яны складаліся з апалагетаў рэжыму, тых, хто гэты рэжым трываў, і тых, хто крытыкаваў бальшавіцкую дзяржаву. Тым больш дзіўным падаецца той факт, што гэтая расколатая генерацыя — у якой не было ніякага кансэнсусна-групавога патэнцыялу і якая, хутчэй, згубіла сябе ў непрыгожых акопных баталіях ды ўзаемных абвінавачваннях — спарадзіла версію гісторыі, што мела вялікі ўплыў на масы. Натуральна, апалагеты выцягнулі для сябе карысць з агрэсіўнага, настроенага на ўсеагульнае „пажыранне спецыялістаў", акрыленага атакуючым імпэтам падросту пакалення новых гісторыкаў, якія рэпрэзентавалі выключна партыйнае бачанне гісторыі альбо і саму партыю ў змаганні з „буржуазнымі спецыялістамі" і „старой" прафесураю. З дапамогай партыі на сваім баку яны мелі „права" і час. Шыла Фіцпатрык (*Fitzpatrick*) з гэтай прычыны ўбачыла істотную рысу культурнай рэвалюцыі ў барацьбе, „якую вялі маладыя супраць старых і маладзейшыя супраць старэйшых"[319].

Калі пачаць шукаць абагульняльныя тлумачэнні таго факта, што прэзентаваныя тут беларускія гісторыкі, нягледзячы на адрознасць іх навуковых біяграфіяў і вельмі рознае стаўленне да партыйных дактрын, усе разам і паасобку трапілі пад хвалю рэпрэсіяў з боку партыйнага апарату (трое з іх былі забітыя альбо скончылі жыццё самагубствам), можна прыйсці да красамоўнай высновы: было б няслушным тлумачыць апазіцыйнасць альбо схільнасць да супрацоўніцтва навуковай інтэ-

[318] Тут прэзентуюцца наступныя гісторыкі: **М.В.Доўнар-Запольскі** (1867—1934), **У.І.Пічэта** (1878—1947), **У.М.Ігнатоўскі** (1881—1931), **В.Ю.Ластоўскі** (1883—1938), **В.К.Шчарбакоў** (1898—1937). За выняткам біяграфіі Шчарбакова, пра астатніх сёння ўжо ёсць ці ствараюцца манаграфічныя альбо публіцыстычныя працы. Падрабязныя бібліяграфіі гл.: Мітрафан Доўнар-Запольскі // Новыя кнігі Беларусі. 1992. № 4. С.14—16; Уладзімір Пічэта // Тамсама. 1978. № 7. С.18—20 і: Тамсама. 1988. № 8. С.15—16; Усевалад Ігнатоўскі // Тамсама. 1991. № 2. С.17—19; Вацлаў Ластоўскі // Тамсама. 1994. № 2. С.9—12. Пра Шчарбакова гл. кароткую біяграфію ў: Возвращенные имена: Сотрудники АН Беларуси, пострадавшие в период сталинских репрессий / Сост. Н.В.Токарев (op. cit.). С.118 і наст.

[319] Параўн.: // Fitzpatrick, Sheila (рэд.). Cultural Revolution in Russia (op. cit.). С.8—40. Ганс Гекер (*Hecker*) з гледзішча універсальнай гістарыяграфіі называе гісторыкаў, народжаных паміж 1850 і 1875 г., — гэткіх як М.І.Карэеў альбо Я.В.Тарле — прыналежнымі да „трэцяга пакалення". Надалей будзе выразна паказаны зрух у фазах навукова-гістарычнага прафілявання беларускай гістарыяграфіі, бо яе „першае пакаленне" супадае з названым Гекерам трэцім. Параўн.: Hecker, Hans. Russische Universalgeschichtsschreibung. Von den „Vierziger Jahren" des 19. Jahrhunderts bis zur sowjetischen „Weltgeschichte" (1955—1965). München—Wien, 1983. С.153 і наст.

лігенцыі раннесавецкага часу выключна ўзростам тых альбо іншых яе прадстаўнікоў. Воля гэтых асоб да супрацiву альбо жаданне да падладжвання ў большай ступені залежалі ад іх паходжання і атрыманай на пачатку шляху адукацыі. Патрабавальнае выхаванне ў бацькоўскім доме, сур'ёзныя патрабаванні пад час вучобы, а таксама ўплывовыя акадэмічныя настаўнікі далі патэнцыйным кандыдатам магчымасць набыць больш уласнага капіталу, чым яго маглі прапанаваць шматлікія аўтадыдакты ды асобы, што прайшлі кароткі курс адукацыі[320].

Пяцёра гісторыкаў, пра якіх тут ідзе гаворка, нарадзіліся паміж 1867 і 1898 г. — гэта значыць, належалі да тых абедзвюх узроставых групаў, з якіх складаўся навуковы свет раннесавецкага часу. М.В. Доўнар-Запольскі, „нестар" эканамічна-гістарычнай навуковай школы, нарадзіўся ў мястэчку Рэчыца Менскай губерні ў 1867 г. у сям'і канторскага службоўца. Наведванне прагімназіі ў Мазыры і чацвёртай кіеўскай гімназіі дазволілі яму ў далейшым, з 1889 да 1894 г., вывучаць гісторыю ў Кіеўскім універсітэце. Прамежкавы курс памочніка архіварыуса ў Маскве ў Міністэрстве юстыцыі малады гісторык мог скарыстаць для вывучэння такой крыніцы, як „Літоўская Метрыка". 800-старонкавая праца пад назвай „Государственное хозяйство Великого Княжества Литовского при Ягеллонах", скончаная ў 1898 г. да магістэрскага экзамена, пацвердзіла чаканні яго прафесараў, сярод якіх асабліва моцны ўплыў на навуковую творчасць і фармаванне характару Доўнара-Запольскага меў У.Б.Антановіч. Без намаганняў апошняга немагчыма было б і падумаць пра першае запрашэнне Доўнара-Запольскага на кіеўскую кафедру[321]. З 1903 г. малады універсітэцкі ардынарны прафе-

[320] Вырашальным для палітычных поглядаў навукоўцаў быў той „клімат", што існаваў ва ўстановах, дзе яны атрымлівалі першую акадэмічную адукацыю; гэта падкрэсліваецца таксама ў вышэйзгаданай працы: Tolz, Vera. Russian Academicians and the Revolution... (op. cit.). На правядзенне гэтага даследавання аўтара натхнілі лёсы караблебудаўніка і матэматыка А.М.Крылова, мовазнаўцы М.Я.Мара, усходазнаўцы С.Ф.Ольдэнбурга, фізіёлага І.П.Паўлава, геахіміка У.І.Вярнадскага. Матывы і прычыны распачатага супрацоўніцтва з рэжымам і ў „буржуазных спецыялістаў" маглі быць рознымі (кар'ера, патрэба захавання вядучай ролі акадэміі, расійскі патрыятызм, Ленін як меншае ліха ў параўнанні з „белымі"). Нават крытыкі рэжыму (як І.П.Паўлаў) праз свае адкрыцці былі абароненыя і рабілі сябе тымі, без каго было немагчыма абысціся.

[321] Пра Доўнара-Запольскага сярод найноўшых прац параўн.: Карев Д.В. М.В.Довнар-Запольский и демократическое иаправление историографии к XIX— нач.XX в. // Наш радавод. 1994. Кн.6, ч.II. С.419—449. Тут упершыню былі прыцягнутыя таксама кіеўскія архіўныя матэрыялы. Караў таксама напісаў інфармацыйна насычаную прадмову да выдання напісанай у 1925 г. „Гісторыі Беларусі" Доўнара-Запольскага (Мінск, 1994. С.5—15). З мноства даўнейшых і найноўшых публіцыстычных працаў назавем толькі некаторыя. З гледзішча дыяспары параўн.: Саковіч А. Профэсар Мітрафан Доўнар-Запольскі // Веда. Навукова-Літаратурны месячнік. Нью-Ёрк, 1952. № 7. С.193—206. З савецкага гледзішча параўн.: Бандарчык В. Спадчына гісторыка і этнографа // ЛіМ, 20.12.1960. С.3 і наст.; з найноўшага беларускага гледзішча параўн.: Сагановіч Генадзь. Гісторык Доўнар-Запольскі: „Беларуская дзяржаўнасць — на трывалых гістарычных падмурках" // Звязда, 8.08.1992. С.2. Адносна ранняга перыяду біяграфіі параўн. аўтабіяграфічныя выказванні (каля 1910 г.) Доўнара-Запольскага: ЦДІАУ (Кіеў), ф.262, оп.1, д.1, л.1 і наст.: „Рукопись автобиографии Довнар-Запольского М.В. с перечнем его научных работ". Акрамя таго, гл.: Тамсама, д.2, л.1 і наст.: „Краткая биография Довнар-Запольского с указанием его научных трудов".

сар узначальваў „гісторыка-этнаграфічны студэнцкі гурток“ Кіеўскага універсітэта, блізу 40 сяброў якога да 1915 г. займаліся пераважна эканамічнай і сацыяльнай гісторыяй „маскоўскага перыяду“ расійскай гісторыі[322].

Беларускі гісторык з кіеўскай адукацыяй улучаны тут у разгляд як прадстаўнік тае прафесійнае інтэлігенцыі апошніх гадоў царскай імперыі, якая хоць і працягвала сваю працу за падсавецкім часам, але, як правіла, новай дзяржавы не прымала, а для таго каб змяніцца ўнутрана, была папросту занадта старога веку. Доўнар-Запольскі — гэтаксама як М.Грушэўскі, М.К.Любаўскі, С.Ф.Платонаў і С.В.Раждзественскі — належаў да тых, хто крытыкаваў дзейнасць бальшавікоў. Пры гэтым першапачаткова ён належаў да ліку абаронцаў марксісцкай гістарыяграфіі. У дыскусіі з неакантыянцамі яшчэ ў пачатку стагоддзя ён, побач з істотнай роляю прац Гегеля для расійскай гістарычнай навукі, падкрэсліваў той факт, што, маўляў, толькі з узнікненнем марксізму „было прызнанае дамінуючае значэнне эканамічнага фактара“ ў гісторыяпісанні[323].

Разам з тым, больш схільным да супрацоўніцтва ў разуменні новай улады быў У.І.Пічэта. Ён нарадзіўся 9 кастрычніка 1878 г. у Палтаве ў сербска-ўкраінскай сям'і. Яго бацька прыехаў ва Ўкраіну з Герцагавіны, працаваў настаўнікам, урэшце кіраўніком дзвюх духоўных семінарыяў — спачатку ў Палтаве, потым у Віцебску. У Пічэты ўвесь час былі праблемы з вызначэннем свайго паходжання. У анкеце, з якой узятая бальшыня біяграфічных звестак, ён падаў сваю нацыянальнасць як „украінец“[324]. У якасці родных моваў у сярэдзіне 20-х г. ён называў расійскую і ўкраінскую. Пра гуманітарны ўхіл у атрыманні адукацыі сведчыць не толькі яго вучоба ў класічнай гімназіі, але і веданне французскай, англійскай, нямецкай, польскай, сербскай, балгарскай і чэшскай моваў. Будучы студэнтам у Маскве, ён беспасярэдне ўвайшоў у кантакт з велічынямі расійскай гістарыяграфіі — В.В.Ключэўскім, М.К.Любаўскім, У.І.Гер'е, П.Г.Вінаградавым і М.М.Багаслоўскім. За сваю дыпломную працу „Юрый Крыжаніч пра Маскоўскі універсітэт“ ён атрымаў ад Ключэўскага ацэнку „вельмі добра“. Праца настаўнікам у Кацярынаславе і зноў у Маскве на восем гадоў (1903—1911) перапыніла яго шлях да прыват-дацэнта Маскоўскага універсітэта. Як і Доўнар-Запольскі, ён вёў хутчэй непалітычнае жыццё навукоўца. У вайне Пічэта, якому на момант яе пачатку было амаль 36 гадоў, таксама ўдзелу не браў. У анкеце Пічэта ўрэшце напісаў, што перад вайною, пад час і пасля яе ён працаваў „выкладчыкам вышэйшай школы“ і што „вай-

[322] Тамсама, д.25, л.5 і наст.

[323] Довнар-Запольский М.В. Исторический процесс русского народа в русской историографии // Русская мысль. 1902. № 3(23). С.170—186. Перадрукавана ў: *Яго ж.* Из истории общественных течений в России. Статьи. Киев, 1905. (2-е изд. 1910), у гэтым выпадку с.258. За гэтае ўказанне я ўдзячны Томасу Бону. Пра доўгагадовае знаёмства Доўнара-Запольскага з Грушэўскім сведчыць перадусім ліставанне паміж абодвума гісторыкамі, пачатак якога сягае ў 1895 г. Гл.: ЦДІАУ, ф.262, оп.1, л.162, л.1 і наст. (тут толькі допісы Грушэўскага).

[324] НАРБ, ф.4, воп.23, спр.3470, арк.2—3. Акрамя таго, пра жыццё і дзейнасць Пічэты параўн.: Владимир Иванович Пичета. Библиографический указатель. Мінск, 1978 (выд. БДУ); у ім біяграфічны нарыс: Мельцер Д.Б. Академик Владимир Иванович Пичета (с.5—19). Акрамя таго, параўн.: Йоффе Е.Г. Володимир Іванович Пічета // УІЖ. 1991. № 10. С.103—112.

сковую службу не праходзіў". У апошні ваенны год ён пачаў інтэнсіўна займацца беларускай гісторыяй. Гэтак, у 1918 г. у Беларускім народным універсітэце ў Маскве ён прачытаў лекцыю пра даўнейшую гісторыю Беларусі, якая пазней была надрукаваная. У палітычную працу ён быў заангажаваны толькі тады, калі яго паклікалі ў „наркомпрос РСФСР" дзеля таго, каб хутчэй прасунуць наперад справу арганізацыі дзяржаўнага універсітэта ў Менску, заснаванне якога (у Маскве) у 1919 г. было вырашанай справай. Як бальшыня „буржуазных" спецыялістаў, адкрыты немарксіст Пічэта быў прынцыпова гатовы да супрацоўніцтва з рэжымам. З гэткімі гісторыкамі, як М.М.Багаслоўскі (яго настаўнік), М.І.Лемке, П.Ф.Праабражэнскі, А.М.Савін, В.С.Сяргееў альбо таксама Д.М.Петрушэўскі ды Я.В.Тарле, Пічэта ўтварыў вялікую групу палітычных „спадарожнікаў", якія сваёй галоўнай задачай бачылі правядзенне навукова-даследчай працы.

Да марксісцкіх гісторыкаў, якія, аднак, трымалі дыстанцыю, належаў узведзены цяпер да ролі вядучага дзеяча беларусізацыі У.М.Ігнатоўскі. Ён нарадзіўся 19 красавіка 1881 г. у вёсцы Такары (сёння — Брэсцкая вобласць), якая тады ўваходзіла ў Гродзенскую губерню[325]. Яго бацька, які паходзіў з сялянскага асяроддзя і меў вышэйшую адукацыю ў першым пакаленні, быў адным са шматлікіх малазабяспечаных вясковых настаўнікаў у Расійскай імперыі канца XIX ст. Нягледзячы на тое, ён здолеў забяспечыць сваім траім дзецям атрыманне адукацыі, вышэйшай за звычайную ў той час. Між тым, Усевалад пасля наведвання Віленскай духоўнай вучэльні і некалькіх класаў Літоўскай духоўнай семінарыі „з прычыны ўдзелу ў рэвалюцыйных хваляваннях" мусіў памяняць месца вучобы. У 1902 г. ён з вялікім поспехам скончыў Магілёўскую духоўную семінарыю. На гістарычна-філалагічным факультэце Санкт-Пецярбургскага універсітэта, куды Ігнатоўскі паступіў дзеля вывучэння гісторыі ў 1902 г., ён меў магчымасць бачыць знакамітых сталічных гісторыкаў. Але і тут малады чалавек уступіў у канфлікт з уладамі. Пасля выключэння з Пецярбургскага універсітэта ў 1905 г. Ігнатоўскі скончыў адзін курс у Юр'еўскім (Дэрпцкім) універсітэце, пасля чаго зноў быў дапушчаны ў Пецярбург да здачы папярэдняга іспыту. У 1907—1909 г. ён пэўны час працаваў настаўнікам у расійскай правінцыі, а ў 1911 г. — зноў-такі ў Юр'еве (цяпер Тарту) — з найлепшымі вынікамі завяршыў вучобу на гістарычным аддзяленні. Вельмі істотныя навуковыя імпульсы ён успрыняў ад А.М.Ясінскага, які інтэнсіўна займаўся гісторыяй Літвы і „заходняй Русі". Да 1914 г. Ігнатоўскі працаваў выкладчыкам расійскай мовы і славеснасці, а потым гісторыі ў Віленскай прыватнай гімназіі М.Вінаградавай. Нарэшце ён пераехаў у Менск і з 1914 да 1920 г. працаваў там выкладчыкам і прафесарам настаўніцкага (з канца 1918 г. Менскага Бе-

[325] У 1991—1993 г. выйшлі чатыры манаграфіі і зборнікі артыкулаў пра жыццё і дзейнасць У.М.Ігнатоўскага: Ігнаценка Іларыён, Кароль Аляксей. Усевалад Ігнатоўскі і яго час. Мінск, 1991; В.М.Игнатовский. О жизни и научной работе. [Выд. ІГ АН БССР: Белоруссистика. Вып. 15]. Мінск, 1991; Акадэмік У.М.Ігнатоўскі. Матэрыялы навуковых чытанняў, прысвечаных 110-годдзю з дня нараджэння. [Выд. ІГ АН БССР]. Мінск, 1993; Zaprudnik, Jan. Usievalad Ihnatoŭski — Belarusian Historian and Statesman // Zapisy 20 (1992). С.50—58. [Тут і далей біяграфічныя звесткі пра У.Ігнатоўскага спраўджаныя і ўдакладненыя паводле найноўшай працы: Брыгадзін П.І., Мацяс І.Д. Усевалад Ігнатоўскі: Палітычны дзеяч, вучоны. Мінск, 1998, у гэтым выпадку с.7—27. — *Заўвага перакладчыка.*].

ларускага педагагічнага) інстытута. Матэрыялы лекцыяў і семінараў, якія Ігнатоўскі там чытаў і праводзіў, былі пакладзеныя ў аснову ягонага падручніка „Кароткі нарыс гісторыі Беларусі", першае выданне якога ўбачыла свет у 1919 г.

Як і шмат хто з маладых інтэлектуалаў ва універсітэцкім асяродку, Ігнатоўскі вельмі рана актыўна ўключыўся ў палітычную дзейнасць. Яго моцна прыцягвалі ідэі сацыялістаў-рэвалюцыянераў, да ліку якіх ён належаў з 1901 да 1918 г. Пад час Лютаўскай рэвалюцыі Ігнатоўскі працаваў у Яраслаўлі, куды, у звязку з ваеннымі падзеямі, быў эвакуяваны інстытут. Сам ён у ваенных дзеяннях удзелу не браў і нават звесткі пра вядомыя падзеі ў Петраградзе дайшлі да яго толькі са спазненнем на некалькі дзён. Ігнатоўскі, акрамя сваёй прыналежнасці да партыі левых эсэраў, таксама ўваходзіў у адукацыйную арганізацыю „Наш Край", што існавала з 1915 г., а ў 1917 г. атрымала назоў „Маладая Беларусь". Пачынаючы з 1918 г. дацэнт інстытута навязаў кантакты не толькі з „Белнацкамам", Беларускім аддзелам Народнага камісарыяту ў справах нацыянальнасцяў („Наркомнац"), але і з Беларускай секцыяй РКП(б). Тое, што ў гэты час у Ігнатоўскага нібыта былі больш моцныя сімпатыі да камуністычнай партыі — як гэта сцвярджалася ў некаторых апалагетычных артыкулах першай паловы 20-х г. — выглядае, хутчэй, неверагодным[326]. Біяграфічныя дакументы зноў пацвярджаюць толькі той факт, што Ігнатоўскі браў удзел у заснаванні „Белорусской Коммунистической организации", якое мела месца 1 студзеня 1920 г. Маючы Ігнатоўскага за старшыню, гэтая суполка, вядома, неўзабаве пачала шукаць збліжэння з Камуністычнай партыяй Літвы і Беларусі (КП ЛітБел). Даведзена, што ў 1919 і 1920 г. Ігнатоўскі ўзяў актыўны ўдзел у „змаганні з польскімі інтэрвентамі", у якасці каардынацыйнага цэнтра якога дзейнічала „БКО". Адначасова гэтая група пракамуністычнага характару была далучаная да распрацоўкі акта абвяшчэння незалежнасці БССР, якое адбылося 31 ліпеня 1920 г.

У звязку з расійска-польскімі ваеннымі дзеяннямі і далёкасяжнымі планамі Пілсудскага, 1919 і 1920 г. у дачыненні да яго павінны разглядацца як лёсавызначальныя гады пераходу з пазіцыяў левых сацыялістаў-рэвалюцыянераў на пазіцыі бальшавікоў, якія ўспрымаліся ў якасці абароннай улады: як бы там ні было, 30 ліпеня 1920 г. трыццацідзевяцігадовы Ігнатоўскі быў прыняты ў шэрагі РКП(б). Відавочна, што на яго жыццёвую дарогу мелі ўплыў дзве супрацьлеглыя тэндэнцыі — арыентацыя на нацыянальнае і саветызацыя. У працах Ігнатоўскага можна заўважыць ўзаемадзеянне розных элементаў. Тым не меней, ён, побач з такімі аўтарытэтамі, як М.М.Пакроўскі, М.М.Лукін, В.П.Волгін альбо С.А.Піянткоўскі, уваходзіў у тую групу гісторыкаў старэйшага пакалення, што магла ў першыя паслярэвалюцыйныя гады ўважацца за марксістаў і вызначаць раннесавецкі погляд на гісторыю.

Народжаны ў 1883 г. у адным з засценкаў Віленскай губерні В.Ю.Ластоўскі паходзіў з гэткага самага дробнамяшчанскага асяроддзя, як і Ігнатоўскі[327]. Рыж-

[326] Этапы рэволюцыйнае чыннасьці Ў.М.Ігнатоўскага // Полымя. 1924. № 4. С.1—2.

[327] Адносна біяграфіі Ластоўскага параўн. яшчэ раз: Вынікі навуковай канферэнцыі „Вацлаў Ластоўскі — выдатны дзеяч Беларускага адраджэння" // Б/А. Вып. 4. Мінск, 1995. С.236—356; Крэнь Ірына. Вацлаву Ластоўскаму — 110! // Наша слова. 1993. № 43. С.4; Янушкевіч Я. Неадменны сакратар Адраджэння. Вацлаў Ластоўскі. Мінск,

ская гімназія, дзе Ластоўскі спрабаваў здаць экзамен на атэстат сталасці, дала яму найбольш істотную базавую адукацыю, але універсітэта ён ніколі не наведваў. Ягоным працоўным кабінетам была рэдакцыя „Нашай Нівы", дзе ён быў супрацоўнікам з 1909 да 1914 г. Наогул кажучы, яго галоўным заняткам заўсёды заставалася публіцыстыка, што, зрэшты, добра ўвязвалася з яго пастаяннай палітычнай актыўнасцю. Напружаная вучоба, напісанне навуковых манаграфіяў у 1910—1913 г. былі не ягоным заняткам. Гэта быў перыяд палітызацыі інтэлігенцыі, што, урэшце, прывяло яго на вядучыя ролі ў БСГ і БНР, а ў 1919 г. — у шэрагі Беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў. Маючы асноўным месцам жыхарства Вільню, Ластоўскі засядаў як прадстаўнік беларусаў у „Тарыбе" Літоўскай рэспублікі і працаваў беларускім аташэ пры літоўскай амбасадзе ў Берліне. Ён увасабляў сабою тып нацыяналістычнага публіцыста, які ў той час ніводнага разу не ўваходзіў у гешэфты з бальшавікамі і сваёй „крыўскай тэорыяй" з ковенскай эміграцыі ўплываў на гістарычна-навуковыя дэбаты ў Менску. Ластоўскі і такія яго калегі, як А.Шлюбскі, І.Абдзіраловіч (Канчэўскі), Ф.Турук альбо А.Цвікевіч, належалі да шэрагу тых гісторыкаў і публіцыстаў нацыянальнай арыентацыі, недакладнасці ў працах якіх былі заўсёднымі аб'ектамі нападаў з боку падсавецкіх гісторыкаў і партыйных аддзелаў прапаганды.

Якраз да іншага крыла беларускага гісторыяпісання на пачатку 30-х г. трэба аднесці перадусім В.К.Шчарбакова. З адукацыйным шляхам Ластоўскага, інкарнацыяй яго пазнейшага навуковага і палітычнага варожага вобраза Шчарбакова лучыла такое ж мала звязанае з атрыманнем адукацыі мінулае. Народжаны ў 1898 г. у вёсцы Дубраўка на Аршаншчыне ў сялянскай сям'і, ён скончыў Рагачоўскую настаўніцкую семінарыю ды Харкаўскую вышэйшую партыйную школу, яшчэ ў 20-гадовым узросце ўступіў у партыю бальшавікоў і да 1923 г. быў гатовы да кар'еры партыйнага работніка з гістарычнай базавай адукацыяй. У дачыненні да сваёй асабістай адукацыі Шчарбакоў пазней увесь час не абмінаў факта сваёй службы ў войску на Усходнім і Паўднёвым франтах. У тым, што ён як педагог і лектар быў належным чынам падрыхтаваны да акадэмічнай кар'еры, сумняваўся нават сёй-той з яго сучаснікаў[328]. Шчарбакоў быў тыпам гэткага навукоўца-прапагандыста, якія запаўнялі навучальныя і навуковыя ўстановы Савецкага Саюзу ў 30-я г. Да іх таксама належаў П.В.Горын, які таксама прайшоў шлях ад сялянскага сына да функцыянера навукі. Пасля таго як яны абодва зрабілі тое, што ад іх патрабавалася, абодва загінулі ад куляў выканаўцаў прысудаў сталінскай сакрэтнай службы. Шчарбакоў дапаўняе калектыўна-біяграфічны вобраз раннесавецкага менскага цэха гісторыкаў. Як Доўнар-Запольскі, Пічэта, Ігнатоўскі і Ластоўскі, ён таксама быў аўтарам адной з сінтэзаў беларускай гісторыі. Нават небагатыя звесткі пра паходжанне і спосабы атрымання першапачатковае адукацыі даюць магчымасць убачыць, што гісторыкі, якія паходзілі з сялянскага, малаадукаванага асяроддзя, нярэдка рабілі свой уклад у „пралета-

1995; Ластоўскі Вацлаў Юстынавіч // ЭГБ. Т.4. Мінск, 1997. С.336 і наст. [Звесткі спраўджаныя паводле апошніх дзвюх з названых крыніц. — *Заўвага перакладчыка*]; Новыя дакументы гл. у: Ластоўскі Вацлаў. Выбраныя творы. Мінск, 1997.

[328] Звесткі пра жыццёвы шлях утрымоўваюцца ў аўтабіяграфіі, гл.: НАРБ, ф.4, воп.21, спр.363, арк.98—108.

рызацыю" і саветызацыю апарату навуковых супрацоўнікаў і самога погляду на гісторыю. Гісторыкі, што паходзілі з дробнамяшчанскага асяроддзя, наадварот, былі ў першую чаргу прыхільнікамі нацыянальна арыентаванай канцэпцыі гісторыі. Гэтая выснова патрабуе далейшых, паглыбленых тлумачэнняў.

## *4.2. Навука і палітыка*

Засяроджанае на самім сабе і цалкам сканцэнтраванае на навуковую працу жыццё вучонага ў Савецкім Саюзе часоў Сталіна было практычна немагчымае. Ад інтэлігенцыі — яшчэ ў большай ступені, чым ад рабочых, сялян альбо службоўцаў — патрабаваліся штодзённыя запэўніванні ў лаяльнасці, якія далёка не абмяжоўваліся пісьмовымі сведчаннямі. Старэйшыя гісторыкі кшталту М.В.Доўнара–Запольскага, якія не хацелі больш дапускаць аніякіх ваганняў што да сваіх навуковых поглядаў, гэтым самым апыналіся ў лепшым становішчы, бо гэтак ім удавалася пазбаўляцца ад больш пільнай увагі партыйных органаў. Так, выезд гэтага гісторыка ў 1921 г. з Кіева праз Харкаў у Баку хоць і тлумачыўся ім асабістымі прычынамі (яго абодва сыны загінулі пад час грамадзянскай вайны), а таксама станам здароўя, але сапраўдная нагода перасялення ў азербайджанскую сталіцу мела хутчэй палітычны характар. Урэшце, праца Доўнара–Запольскага прарэктарам бакінскага універсітэта, прафесарам тамтэйшага політэхнічнага інстытута, дырэктарам музея сельскай гаспадаркі і гандлю Азербайджанскай ССР, якая доўжылася да 1925 г., знаходзілася як геаграфічна, гэтак і сутнасна далёка па–за межамі здабытага ім папярэдне навуковага досведу. Таму абсалютна зразумелым было тое, што Доўнар–Запольскі, ні хвіліны не вагаючыся, адгукнуўся, калі атрымаў запрашэнне рэктара Пічэты на працу ў БДУ; у тым самым годзе ён быў таксама прызначаны кіраўніком гістарычна–археалагічнай секцыі Інбелкульта[329]. На карысць яго рэпутацыі як спецыяліста не ў апошнюю чаргу спрацаваў той факт, што 58–гадовы на той час прафесар здолеў і надалей трымацца на дыстанцыі ад палітыкі і ад партыйных органаў. Большую, чым Доўнар–Запольскі, свабоду дзеянняў, магчыма, меў у Інбелкульце толькі старэйшы за яго на шэсць гадоў лінгвіст і літаратуразнавец Я.Ф.Карскі, які быў пакліканы ў Менск з Петраградскага універсітэта.

Палітычная дзейнасць Пічэты таксама трымалася ў пэўных межах, пра што незваротна сведчыла зробленае ім у анкеце тлумачэнне: „У рэвалюцыйнай працы ўдзелу не браў". Аднак падсавецкія гісторыкі знайшлі зачэпкі ў 1910—1911 г., праз якія ствараўся вобраз „прагрэсіўнага" дацэнта. Гэтак, разам з іншымі выкладчыкамі Пічэта пакінуў Маскоўскі універсітэт, „пратэстуючы супраць рэакцыйнай палітыкі тагачаснага міністра народнай асветы". Характарыстыка „прагрэсіўны дацэнт" была абрана таксама Эдгарам Гёшам (*Hösch*) у дачыненні да маладога Тарле, і яна дакладна адлюстроўвала той аўтарытэт, які меў пецярбургскі прыват–дацэнт сярод студэнтаў[330]. У 1920 г. Пічэта ў якасці навуковага

[329] Пічэта і Доўнар–Запольскі ліставаліся яшчэ з 1902 г. Параўн. яшчэ цалкам фармальны допіс Пічэты Доўнару–Запольскаму за 21.02.1902 г. з Масквы (у Кіеў): ЦДІАУ, ф.262, оп.1, д.170, л.19—21.
[330] Hösch, Edgar. Evgenij Viktorovič Tarle... (op. cit.). С.75 і наст.

дарадцы браў удзел у расійска-польскай сустрэчы ў Рызе ў справе распрацоўкі багатай сваімі наступствамі для Беларусі Рыжскае дамовы. Падобна як у біяграфіі Тарле было мала зменаў месцаў працы, Пічэта толькі чатыры разы перапыняў сваю маскоўскую навуковую дзейнасць, якая пачалася ў 1918 г. з абароны ім ёмістай доктарскай працы „Аграрная рэформа Жыгімонта-Аўгуста ў Літоўска-Рускай дзяржаве" і скончылася з ягонай смерцю ў 1947 г. З'яўляючыся прыват-дацэнтам розных маскоўскіх ВНУ і галоўным інспектарам Цэнтральнага архіва (1918—1924 г.), у зімовым семестры 1918/19 г. ён быў запрошаны прачытаць курс лекцыяў у Смаленскім універсітэце. Другі перапынак, які доўжыўся больш за 15 гадоў, зрабіў Пічэту патронам беларускай гістарычнай школы, якая без яго, безумоўна, не набыла б свайго імя[331]. Займаючы пасады рэктара новазаснаванага БДУ (1921—1929 г.) і кіраўніка гістарычна-археалагічнай секцыі Інбелкульта (1922 г.), ён адказваў за найважнейшыя гістарычныя навуковыя інстытуцыі маладой БССР. Калі параўнаць менскую і ленінградскую гістарычныя школы ды яе аўтарытэтаў — тут Пічэта, Доўнар-Запольскі і Ігнатоўскі, там Тарле, Платонаў і Праснякоў — кідаюцца ў вочы падобныя вынікі іх спробаў дапасавацца да сітуацыі, чаго пастаянна патрабавалі ад немарксісцкіх і „псеўдамарксісцкіх" гісторыкаў. Тарле, Праснякоў і Пічэта, пачынаючы з 1927 г., сфармавалі сярод выкладчыкаў Гістарычнага інстытута „РАНИОН" немарксісцкае крыло, якое процістаяла маскоўскім новым і старым марксістам на чале з Пакроўскім, Лукіным і Волгіным. Трэцяя і найбольш цяжкая паўза ў самой навуковай кар'еры, прывёўшы Пічэту ў высылку, пачалася ў 1930 г. і доўжылася пяць гадоў. Чацвёрты перапынак, урэшце, быў звязаны з Другой сусветнай вайной, калі Пічэта разам з іншымі маскоўскімі калегамі-гісторыкамі быў вывезены ў Ташкент. І тут ён працягваў сваю працу, выводзячы да новых навуковых даляглядаў узбецкую гісторыю.

Непараўнальна ў большай ступені быў звязаны з палітыкай і пэўны час актыўна ўцягнуты ў яе народны камісар земляробства (1920 г.) і народнай асветы (1920—1926 г.) Ігнатоўскі, які адначасова з 1923 г. уваходзіў у камісію па справах нацыянальнасцяў, а ў 1924—1926 г. быў членам аддзела агітацыі і прапаганды ЦК КП(б)Б. Навуковую пасаду ён займаў, пачынаючы з лютага 1926 г., напачатку як старшыня прэзідыума Інбелкульта, а з 1928 г. як яго прэзідэнт. Гэтаксама як Пічэта выступаў з лекцыямі ў Інбелкульце, так і Ігнатоўскі ад часу заснавання БДУ быў там прафесарам, дэканам гуманітарнага і педагагічнага факультэтаў і прарэктарам. Аднак да навуковай нагрузкі, якую можна было б хоць прыблізна параўнаць з Пічэтавай, часу яму не хапала. Зрэшты, у калегі не было аніякіх партыйных абавязкаў і ён не прысутнічаў у якасці члена партыі, ЦК і (з 1924 г.) Палітбюро ЦК на ўсіх з'ездах КП(б)Б з 1920 да 1930 г., не мусіў ездзіць у якасці дэлегата ад Беларусі (з правам голасу) на VIII і XIII з'езды ВКП(б) альбо дэлегата ад КП(Б)Б на Пяты кангрэс Камінтэрна. Ігнатоўскі таксама не заставаўся без дзяржаўных абвязкаў — у якасці члена ЦВК БССР і заўсёднага дэлегата ўсіх, да 1929 г., Усебеларускіх з'ездаў Саветаў. Гэта давала яму права з 1922 да 1929 г. быць дэлегатам усіх маскоўскіх усесаюзных з'ездаў Саветаў. Калі ў

[331] НАРБ, ф.4, воп.23, спр.3470, арк.2—3: Апытальнік быў запоўнены Пічэтам уласнаручна.

„ЦИК СССР“, а ў 1924 г. у яго прэзідыуме быў патрэбны яшчэ адзін беларус, Ігнатоўскі ўзяў на сябе і гэтыя абавязкі. Аднак ён здолеў своечасова вызваліцца ад пазаакадэмічных выкладчыцкіх абавязкаў — напрыклад, у партыйных школах:

> „Я лічу неабходным асабіста выказацца наконт ускладзеных на мяне абавязкаў па выкладанні беларускай гісторыі ды гісторыі рэвалюцыйнага руху. Бюро ўжо добра вядомая перагрузка: я чыста фізічна не ў стане адпавядаць ускладзеным на мяне заданням. Члена партыі не варта было б ставіць у становішча, якое яго кампраметуе, калі ён у звязку з вялікай колькасцю нагрузак не можа адпавядаць неабходнаму ўзроўню адказнасці“[332].

Колькасць абавязкаў сведчыць як пра надзвычайную рупнасць перакананага патрыёта і перакананага марксіста, гэтак і пра характэрны для БССРаўскага істэблішмэнту недахоп падрыхтаваных кадраў. Пераняўшы пасаду старшыні напачатку арыентаванага на навуку Таварыства гісторыкаў-марксістаў, Ігнатоўскі, урэшце, усталяваў сувязь паміж гэтымі абедзвюма жыццёвымі сферамі. Як навуковец Ігнатоўскі не ўпусціў магчымасць выказаць свае перакананні ў пытаннях адукацыйнай і нацыянальнай палітыкі і, нягледзячы на велізарныя нагрузкі, у 1926, 1929 і 1930 г. змог выпусціць тры вялікія манаграфіі, а таксама надрукаваць шматлікія артыкулы. Яго прамова на X з'ездзе КП(б)Б у выніку вылілася ў дыскусію пра характар нацыянальных працэсаў. У 1930 г. на XIII партыйным з’ездзе Ігнатоўскі бараніўся супраць нападак Агурскага на яго яшчэ не апублікаваную кнігу „1863 год на Беларусі“[333]. Хоць Ігнатоўскага цалкам абмінула артадаксальнасць марксізму, прапаведванага школай Пакроўскага, і ён да самага свайго жыццёвага фіналу пісаў іначай, чым выконваў свае штодзённыя партыйныя абавязкі, шмат што гаворыць за тое, што абедзве названыя асобы ўяўлялі сабою прататып падсавецкага гісторыка пазнейшых пакаленняў, у якога без выканання значных партыйна-палітычных функцыяў не было ніякай будучыні.

Савецкая навуковая біяграфія Ластоўскага пачалася толькі ў 1927 г. Перад тым ён у якасці выдаўца публікаванага ў 1923—1927 г. у Коўне часопіса „Крывіч“ спрабаваў замяніць назву „Беларусь“, звязаную паходжаннем з расійскай гісторыяй, назвай „Крывія“. Тагачасныя назіральнікі гаварылі пра „крывіцкі рух“[334], мэтай якога нават пасля вяртання яго ідэолагаў у БССР было выключыць любую доўгатрывалую залежнасць ад Польшчы ці Расіі:

> „Пакуль мы карыстаемся назовам *Беларусь*, мы не можам пачаць нашу ўласную гісторыю. [...] У той хвілі, калі нам далі гэтае найменне, гісторыя нашага народу скончылася. З гэтым тэрмінам мы не маем свае ўласнае гістарычнае будучыні“[335].

[332] Параўн.: Пратакол паседжання Бюро ЦК за 11.06.1926 г., НАРБ, ф.3, воп.4, спр.14, арк.325: „Об освобождении тов.Игнатовского от чтения лекций на курсах секретарей Райкомов“ / Решение Сек-та от 5.6.1926 г.“.

[333] Звесткі падаюцца паводле: Касцюк М.П. У.М.Ігнатоўскі — грамадскі дзеяч, вучоны // Акадэмік У.М.Ігнатоўскі. Матэрыялы навуковых чытанняў... (op. cit.). С.6—16; Лыч Л.М. Усевалад Ігнатоўскі і беларусізацыя 20-х гадоў // Тамсама, с.16—30; Токараў М.У. У.М.Ігнатоўскі як арганізатар навукі ў Беларусі // Тамсама, с.31—36.

[334] Тэрмін „Krivich movement“ гл. у: PSSS: Schedule B5. Vol.8, #497 JR. C.9. Dingley, J. Lastouski as Politician // JBS 7(1984) 3—4. C.14—27.

[335] Параўн. артыкулы Ластоўскага на гэтую тэму: Аб назовах „Крывія“ і „Беларусь“ // Крывіч. 1925. № 10(2). С.44—45; *Яго ж.* Абшар, займаны крывічамі, і крыўская ко-

У „Расійска-крыўскім (беларускім) слоўніку“ Ластоўскім было завострана абвешчана: „Мы крывічы, а не Русь Літоўская, Варажская ці Маскоўская, Белая ці Чорная, мы асобны славянскі народ“[336]. Калі Ластоўскі, прыхільнік гэткіх поглядаў, у 1927 г. быў пакліканы на працу ў Інбелкульт і справакаваў там вялікую дыскусію пра „крывічоў“ як продкаў беларусаў, гэта, вядома, не засталося без адказу. Разам са сваімі калегамі Шлюбскім ды Каспяровічам Ластоўскі зрабіўся ўвасабленнем акадэмічнага „нацыянал-дэмакратызму“, які нібыта падтрымлівае найшчыльнейшыя сувязі з „нацыянал-фашызмам“ ва ўсходняй Польшчы. Старадаўняя гісторыя, якая раней была сферай вывучэння этнографаў, цяпер зрабілася справай партыі. Канчаткова заклеймаваны далейшы лёс „нацыянал-дэмакратаў“ быў пасля выхаду яго гэткай самай непрыхаванай і прынцыповай крытыкі падсавецка-расійскай дзяржаўнай канструкцыі:

> „Культура Бялінскіх, Чарнышэўскіх, Пляханавых і Леніных павінна і будзе панаваць над культурамі ўсіх народаў, што жывуць у СССР [...] і праз пэўны час таксама ва ўсім свеце. [...] Гэта значыць, што дух пыхлівага маскоўскага імперыялізму за апошнія сто гадоў не толькі не выветрываўся, але, хутчэй, фармаваўся і распаўсюджваўся. Ён цяпер ужо не абмяжоўвае сябе славянствам, але імкнецца пашырыцца на ўвесь свет“[337].

Вяртанню Ластоўскага папярэднічалі выдадзены ў 1923 г. указ аб амністыі, а таксама Берлінская канферэнцыя 1925 г. Пасля таго, як Рада БНР на гэтай сустрэчы афіцыйна адмовілася ад антысавецкай барацьбы і абвясціла Менск „адзіным цэнтрам нацыянальна-дзяржаўнага адраджэння Беларусі“, нават сябры Рады атрымалі права прыехаць у БССР. У той час як Ластоўскі, Цвікевіч і Краскоўскі належалі да другой групы вяртанцаў, Смоліч, Лёсік і Некрашэвіч былі амніставаныя яшчэ раней, што і стымулявала вяртанне. [С.Некрашэвіч і Я.Лёсік у эміграцыі фактычна не былі і ўжо ў 1920 г. працавалі ў БССР; А.Смоліч вярнуўся ў БССР з Вільні ў 1922 г. — *Заўвага перакладчыка.*] Усе названыя асобы атрымалі працу адпаведна іх кваліфікацыі, а Ластоўскі і Некрашэвіч у 1928 г. нават сталі акадэмікамі БАН[338].

лёнізацыя // Тамсама, с.28—36. [Зваротны пераклад з нямецкай мовы. — *Заўвага перакладчыка.*]. Між тым, упершыню перадрукаваная створаная ў 1921 г. Ластоўскім першая „Энцыклапедыя гісторыі Беларусі“: Ластоўскі Вацлаў. Нарысы з беларускай гісторыі // Спадчына. 1996. № 4. С.5—52 (з працягам). Рукапіс гэтай дагэтуль невядомай працы быў знойдзены ў 1990 г. у архіве рукапісаў Цэнтральнай бібліятэкі Літоўскай Акадэміі навук у Вільні; падрыхтаваны да друку Аляксеем Каўкам. Складзены з лексічных запісаў тэкст уяўляе сабою далейшае рамантычнае паглыбленне „крыўскай тэзы“.

336 Ластоўскі В. Падручны расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік. Коўна, 1924. С.XI. [Цытата падаецца паводле: Ластоўскі В. Выбраныя творы. Мінск, 1997. С.366. — *Заўвага перакладчыка.*]. Параўн. таксама: *Яго ж.* Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі. Коўна, 1926. На гэтую тэму гл.: Bartoszewicz. On Vaclau Łastoŭski's „Historyja biełaruskaj (kryŭskaj) knihi“ // JBS 7 (1984) 3—4. С.28—32. Пра асобныя аспекты дзейнасці Ластоўскага параўн.: Вынікі навуковай канферэнцыі „Вацлаў Ластоўскі — выдатны дзеяч Беларускага адраджэння“... (op. cit.).

337 Ластоўскі В. Больш сьцісласьці ў тэрмінолёгіі // Крывіч. 1927. № 12. С.78. [Зваротны пераклад з нямецкай мовы. — *Заўвага перакладчыка.*]

338 Параўн. па гэтай тэме: Король А.С. Белорусизация: 20—30-е г. (op. cit.). С.148 і наст., а таксама раздзел пра БАН.

Беларускія бальшавікі — такое ўражанне ўзнікала — не збіраліся адмаўляцца ад адукацыйнага патэнцыялу БНРаўскай інтэлігенцыі. Гэтаксама як украінскі ўрад дазволіў у 1927 г. прыехаць Грушэўскаму з Львова ў УССР, у беднай на інтэлігенцыю БССР былі патрэбныя людзі кшталту Лёсіка, Ластоўскага і Некрашэвіча, які нават быў прызначаны першым дырэктарам Інбелкульта. Іх узвядзенне на высокія акадэмічныя і палітычныя пасады было не вынікам палітыкі „беларусізацыі" ды „каранізацыі", а, хутчэй, амбіцыямі і самаўпэўненым жаданнем бальшавікоў прыцягнуць на свой бок шматабяцальныя, хоць і крытычныя, „кадры".

Не ў апошнюю чаргу Шчарбакоў і іншыя яго калегі давалі партыі ўпэўненасць, што яны здолеюць перамагчы жменьку энтузіястаў–нацыяналаў. Яго партыйная кар'ера вяла праз Чарнігаўскі акруговы камітэт КП(б)У і атрыманую ў 1924 г. пасаду рэктара Інстытута народнай адукацыі гэтага ўкраінскага горада. Толькі тут, паводле яго ўласнага сведчання, ён пачаў займацца навукай і ў выніку, у 1929 г., прапанаваў сябе на атрыманне прафесарскай пасады ў харкаўскім Гістпарце. Калі партыя адначасова ў Кіеве, Менску, Маскве і Ленінградзе ў звязку з „акадэмічнай справай" вынесла першыя прысуды прадстаўнікам інтэлігенцыі, тады надышоў час Шчарбакова ды Горына. Апошні, між іншым, ажыццяўляў сваю афіцыйна–партыйную кар'еру ва універсітэце імя Свярдлова ды Інстытуце чырвонай прафесуры, перш чым стаў вядомы ў якасці дырэктара Гістарычнага інстытута Камуністычнай акадэміі, сакратара Таварыства гісторыкаў–марксістаў і рэдактара часопіса „Пролетарская революция". Пасля вялікіх чыстак у акадэміях ды універсітэтах Горын таксама трапіў у Менск, дзе ў 1931 г. займаў пасаду прэзідэнта Акадэміі навук, якая вызвалілася пасля добраахвотнага сыходу з жыцця Ігнатоўскага. Намеснікам Горына ў прэзідыуме быў Шчарбакоў, які перад тым старшыняваў у секцыі навукі й адукацыі ЦК. Два сялянскія сыны з беларускай правінцыі, якім іх рэвалюцыйная няўрымслівасць не пакінула часу ні на атрыманне сярэдняй адукацыі, ні на наведванне рэгулярных універсітэцкіх заняткаў, цяпер занялі камандныя вышыні беларускае навукі. Шчарбакоў чытаў лекцыі па гісторыі Беларусі ў БДУ, у Менскім педагагічным інстытуце, а таксама ў камуністычным інстытуце сельскай гаспадаркі. У 1936 г. Шчарбакоў стаў пераемнікам Горына на пасадзе дырэктара Інстытута гісторыі Беларускай Акадэміі навук[339].

## *4.3. Крах кар'ераў і рэпрэсіі*

Гісторыя беларускай гістарыяграфіі ў сталінскім Савецкім Саюзе была гісторыяй яе ліквідацыі. Ані беларусізацыя ды „каранізацыя", ані пастаяннае пашырэнне адпаведных інстытуцыянальных магчымасцяў не здолелі гэта прадухіліць. Персанальныя біяграфіі гісторыкаў сведчаць пра тое, што партыя ні на хвілю не адпускала цугляў і не рабіла саступак гісторыкам у звязку з іх беларускасцю. „Культура" даносаў і рэпрэсіяў, звычайна называная „сталінізмам", стымуляваная „зверху" і „знізу", ад самага пачатку была глыбока ўласцівая падсавецкай сістэме. Да першых яе ахвяр належаў М.В.Доўнар–Запольскі. Узімку 1925/26 г. яго толькі што завершаны рукапіс „Гісторыі Беларусі" патрапіў у

[339] Звесткі прыводзяцца паводле: Костюк М.П. (рэд.). Институт истории Академии наук Беларуси... (op. cit.). С.46 і наст.

рукі гісторыка і калегі Віталя Сербенты, які адначасова займаў пасаду намесніка загадчыка аддзела друку ЦК КП(б)Б[340]. Пасля таго як стаў вядомы змест рэцэнзіі Сербенты (вясна 1926 г.), Доўнару-Запольскаму было прапанавана пасля крыху больш як году даследніцкай дзейнасці пакінуць універсітэт, Менск і, праз гэта — Беларусь.

Да аб'екта крытыкі з боку Сербенты належала выснова аўтара рукапісу пра тое, што да 1917 г. рабочы клас у Беларусі ніколі не адыгрываў колькі-небудзь значнае ролі, а таксама „завышаная ацэнка" ролі БНР як „носьбіта беларускай ідэі"[341]. Маўляў, з шэрагу прычын БНР і нацыянальнае беларускае сялянства страцілі ўладу на карысць пралетарыяту. Акрамя таго, мала сімпатыяў у рэцэнзента, які адначасна быў прафесарам Менскага камуністычнага універсітэта, выклікала заўвага аўтара, што „Рада", у процілегласць савецкай уладзе, рэальна магла правесці беларусізацыю. Абурэнне Сербенты і яго франтальную крытыку выклікаў перадусім паказ гісторыі знікнення познецарскай імперыі, а менавіта 1918 г. Тут Доўнар-Запольскі, маўляў, паказаў у пазітыўным святле „Раду", беларускія партыі — найперш БСГ, — а таксама Ўсебеларускі кангрэс, што адбываўся ў снежні 1917 г.:

> „Адсюль вынікае, што прапанаваная да друку праца праф. Доўнара-Запольскага ёсць больш ці менш паслядоўна афармленым пунктам погляду нацыянал-дэмакратызму, па-першае, і, па-другое, зважаючы на прыведзеныя ніжэй цытаты, фальшывым асвятленнем гістарычных фактаў і свайго роду здзекам з практычнага ажыццяўлення дыктатуры пралетарыяту і савецкай улады"[342].

Настойлівае патрабаванне Сербенты — „Кнігу нельга дазволіць друкаваць" — было ахвотна падтрымана партыяй. У гэтым кантэксце нас у меншай ступені цікавяць гістарычна-ідэалагічныя разыходжанні паміж двума гісторыкамі розных пакаленняў. Праз узаемны недавер і даносніцтва была атручаная атмасфера сярэдзіны 20-х г. Ужо тады кваліфікацыя і стварэнне спецыяльнага дыскурсу больш не прадвызначалі тое, якая навуковая будучыня чакае таго ці іншага вучонага. Той, хто — як Сербента — быў „вухам партыі" альбо — як Горын і Шчарбакоў — „быў партыяй", высунуўшы абвінавачванне ў „нацыянал-дэмакратызме", меў магчымасць, самае меншае, перапыніць — калі не спыніць назаўсёды — кар'еру навукоўца. Калі на пераломе 1925 і 1926 г. у БДУ было магчымым, каб адзін гісторык праз выкананне пазанавуковай функцыі знішчаў кнігу нашмат за сябе старэйшага калегі заўвагаю, што нельга „даць магчымасць беларускаму нацыя-

[340] Тут быў выкарыстаны машынапіс „Довнар-Запольский М.В История Беларуси", які знаходзіцца ў: НАРБ, ф.60, воп.3, спр.126, арк.1—584. Рэцэнзія „Сербента В.А. О рукописи книги Довнара-Запольского «История Белоруссии»", датаваная 26.02.1926 г., знаходзіцца тамсама: арк.597—607. У 1994 г. выйшла першае выданне кнігі, угрунтаванае менавіта на гэтым рукапісе, уключна з названай рэцэнзіяй: Доўнар-Запольскі М.В. Гісторыя Беларусі. Мінск, 1994. Першая ацэнка з постсавецкага гледзішча ўтрымліваецца ў: Шумейко М.Ф. Неопубликованная монография М.В.Довнара-Запольского „История Белоруссии" как историографический источник // Наш радавод. 1991. Кн.3, ч.1. С.120—124.

[341] НАРБ, ф.60, воп.3, спр.126, арк.603.

[342] Рэцэнзія Сербенты (op. cit.), тамсама, у гэтым выпадку арк.598.

нал-дэмакратызму атрымаць ідэалагічнае афармленне"[343], то пра ліберальную навуковую палітыку пад знакам беларусізацыі не магло весціся ніякай гаворкі.

Спазнаўшы расчараванне, Доўнар-Запольскі ў 1926 г. накіраваўся ў Маскву, пакінуўшы Інбелкульту, і тым самым Ігнатоўскаму, у якасці падарунка ўсю сваю бібліятэку, што налічвала больш за 11 000 тамоў. Праца выкладчыкам кафедры эканамічнай гісторыі Інстытута народнай гаспадаркі, прафесарам эканамічнай геаграфіі сельскагаспадарчай акадэміі ў Маскве, напэўна, фінансава забяспечвала яго лепш, чым яго менскі прафесарскі заробак; але толькі абранне яго правадзейным членам Інстытута гісторыі Акадэміі навук СССР у 1929 г. дапамагло яму неяк пераадолець наступствы працы ў Беларусі. Адначасова ён перастаў займацца сваёй ранейшай тэмай даследаванняў[344]. У кожным разе, выдаўцы школьнага падручніка па эканамічнай геаграфіі СССР, які ўбачыў свет у 1928 г., даручылі яму напісаць раздзел пра „заходнія рэгіёны", на што ён з ахвотаю пагадзіўся. У Менску ён, між тым, ужо доўгі час лічыўся непажаданай асобай. Паколькі ў Маскве яго ведалі як старэйшага спецыяліста па эканамічнай гісторыі, паблажліва ставячыся да яго беларускіх сімпатый, можна меркаваць, што ягоны ад'езд з беларускай сталіцы ўратаваў яму жыццё. Пасля таго як былі арыштаваныя Ластоўскі і Пічэта, а Ігнатоўскі застрэліўся, у 1931 г. з'явілася публіцыстычная эскапада, скіраваная супраць Доўнара-Запольскага, дзе ён быў названы „афіцыйным гісторыкам нацдэмаў". Відавочна схаваны за псеўданімам „Ротман", аўтар рэзка атакаваў „ідэолага буржуазіі" Доўнара-Запольскага, які, маўляў, „у залежнасці ад надвор'я" то выступае ў абліччы „вялікарасійскага гісторыка", то хаваецца пад маскаю „нацыянал-дэмакрата"[345]. З дасавецкіх працаў Доўнара-Запольскага Ротман у асноўным павыцягваў выказванні апошняга наконт неадназначных беларуска-расійскіх дачыненняў, а таксама пра ролю нерасійскага элемента ў беларускай гісторыі. Аднак у цэлым Ротман толькі паўтарыў галоўныя думкі Сербенты. Зашкодзіць Доўнару-Запольскаму ён ужо не мог. Пасля таго як ужо ў Маскве вучонага напаткаў партыйны пераслед і ягонае імя таксама называлася ў звязку з „акадэмічнай справай", яму ледзьве ўдалося пазбегнуць арышту. Адышоўшы ў цень і, насуперак свайму жаданню, выконваючы выкладчыцкія абавязкі ў невысокага ўзроўню Маскоўскім інстытуце народнай гаспадаркі і гандлю, ён завяршыў свой жыццёвы шлях у 1934 г.

Праца Пічэты ў Менску таксама скончылася не паводле яго волі. Пад час першай хвалі арыштаў, скіраванай супраць гуманітарнай інтэлігенцыі, у 1930 г., ён быў адзіным менскім гісторыкам, адпраўленым за краты. Яшчэ ў 1929 г. ён мусіў сысці з пасады рэктара БДУ; цяпер моцна захісталася яго прафесарства ва універсітэце, не кажучы ўжо пра званне акадэміка. Нечакана, здавалася, займелі рацыю члены Таварыства камуністычных навук, якія яшчэ за год перад тым узвялі на Пічэту паклёп. Тады пад пытаннем апынулася далейшая прыналежнасць

[343] Тамсама, арк.607.

[344] Па пытанні прыёму ў АН СССР гл.: НАРБ, ф.15, воп.28, спр.22, арк.85—93, а таксама інфармацыю Ігнатоўскага на гэтую тэму на паседжанні Бюро ЦК за 14.06.1929: Тамсама, ф.4, воп.3, спр.31, арк.640.

[345] Ротман. Афіцыйны гісторык нацдэмаў // Савецкая краіна. 1931. № 7(9). С.10—18, у гэтым выпадку с.18.

Пічэты да менскага аддзела Таварыства гісторыкаў–марксістаў, прычым ягоная „ідэалогія“ падалася бальшыні ўдзельнікаў сходу самае меншае сумнеўнаю. Без увагі на асобу *акадэміка* Пічэты ён быў паказаны як „вораг марксізму“ ды „прыхільнік ідэалогіі буржуазнага нацыяналізму“. Адзін з удзельнікаў сходу быццам бы ўзгадаў пра Пічэтаў выступ, уклаўшы апошняму ў вусны наступнае выказванне: „У Беларусі няма прыстойных навукоўцаў; кожны імкнецца да сацыялізму дзеля сябе самога“[346]. Той, хто спрабаваў бараніць Пічэтаву пазіцыю, атрымаў адпор. Яшчэ перад тым як гаворка зайшла пра Саюз вызвалення Беларусі, а таксама пра „Всенародный союз борьбы за возрождение свободной России“, было вызначана, што Пічэта ёсць „рупарам буржуазнага нацыяналізму“ і знаходзіцца „пад уплывам варожых сіл“. Наступствы былі зразумелыя:

> „Ці можа заставацца рэктарам універсітэта чалавек, які адчувае сваю цягу да Захаду і — нягледзячы на яго добрыя намеры і сапраўдную рупнасць у працы — дае безліч сведчанняў гэтага, не кажучы ўжо пра драбніцы, як адмову ад палітычнай барацьбы?“[347].

Тут не мела вялікага значэння нават тое, што ў некага склалася ўражанне, што Пічэта, прынамсі, пад час Берлінскага тыдня гісторыкаў, выступаў „як марксіст“. (Нямецкі бок, аднак, бачыў гэта іначай)[348]. Прысуд быў вынесены, і арышту Пічэты ў самой Беларусі практычна ўжо нічога не перашкаджала. Габрэйскі гісторык Е.І.Рыўлін, які сваімі заўвагамі гэткага кшталту спадзяваўся зрабіць скачок у кар'еры з пасады прарэктара БДУ да намесніка народнага камісара асветы — вось гэты самы Рыўлін напрыканцы яшчэ выказаўся абсалютна цынічна: Пічэта, безнадзейны нацдэм, увогуле належыць „да самых беспрынцыпных людзей на свеце“, якому не патрэбныя „ніякая ідэалогія“, ніякія прынцыпы[349]. Жыццё „па–за межамі ідэалогіі“, відавочна, у канцы 20–х г. больш не ўхвалялася.

Само сабою зразумела, што для крытыкаў Пічэты як нельга лепш прыспела гэтак званая „акадэмічная справа“ ў Маскве і Ленінградзе. Тут, вядома, не месца падрабязна разбіраць гэтую, напэўна, самую рэпрэсіўную сваімі маштабамі арыштаў акцыю, скіраваную супраць гісторыкаў у СССР[350]. Фактам застаецца, што ў студзені 1930 г. Пічэта быў заарыштаваны ў сваёй менскай кватэры як

[346] НАРБ, ф.4, воп.21, спр.200, арк.2—17: Пратакол паседжання камуністычных навукоўцаў за 12.06.1927 г., у гэтым выпадку арк.10 і наст.
[347] Тамсама, арк.13.
[348] Пад час аднаго са шматлікіх допытаў Платонава апошні ў гэтым звязку заявіў для пратакола, што арганізатары Берлінскага тыдня гісторыкаў — а менавіта Гёцш, Шміт–От (*Schmidt–Ott*) і Ёнас (*Jonas*) — вельмі настойвалі на ўдзеле ў імпрэзе таксама немарксісцкіх гісторыкаў. Пасля заканчэння паседжанняў, маўляў, „уся група немарксісцкіх гісторыкаў“, што была прыехала з СССР і „мела сімпатыі немцаў цалкам на сваім баку — г.зн., я [сам Платонаў — Р.Л.], Любаўскі, Ягораў і Пічэта (цяпер працуе ў Менску) была запрошаная на абед да Шміт–Ота“. Цытуецца паводле: Протокол допроса С.Ф.Платонова, произведенного С.Г.Жупахиным 4.02.1930 г. // Академическое дело 1929—1931 г. Документы и материалы следственного дела, сфабрикованного ОГПУ. Вып. 1: Дело по обвинению академика С.Ф.Платонова. Санкт–Петербург: [Изд. Российской Академии наук], 1993. С.47.
[349] НАРБ, ф.4, воп.21, спр.200, арк.13.
[350] З новага глядзішча, багатае на спасылкі таксама даследаванне: Каганович Б.С. Евгений Викторович Тарле и Петербургская школа историков. Санкт–Петербург, 1995.

адзін са 115 „удзельнікаў манархісцкай групы", якую нібыта ўзначальваў „цэнтр" на чале з Платонавым, Тарле, Любаўскім. Абвінавачванні былі бессаромнымі, самаагаворы бясконцымі, тэрміны пакаранняў высокімі. На пяць гадоў Пічэта быў высланы ў Вятку. Нават хадайніцтва аб дапамозе перад Пакроўскім, які апошнім часам — як гэта было паказана вышэй — пачаў яго бараніць, поспеху не мела. 12 лістапада Пічэта пісаў з Вяткі:

> „Дапытваючы мяне, яны вярнулі мне напісанае мною прызнанне, каб я пэўныя рэчы замяніў на іншыя — не на сваю карысць. Мне было загадана, у якім стылі й якой танальнасці я мушу дапоўніць свае паказанні. Мая адмова — яны мне далі зразумець гэта — была б мне не на карысць. Яны чыталі мне паказанні Любаўскага, пераказвалі паасобныя факты і змушалі мяне ўключыць іх у мае паказанні, прызнаючыся ва ўдзеле ў арганізацыі, пра якую я не меў і найменшага ўяўлення. Я падпісаў усё, што напісаў следчы. Гэтак весці следства няможна. Гэта фальсіфікацыя. Вядома, я не магу выказваць пратэст перад тымі, хто можа мяне судзіць"[351].

Пічэта ў месцах сваёй высылкі, Варонежы і Вятцы, усё ж меў магчымасць займацца навуковай працай. Вярнуўшыся ў 1935 г. у Маскву, ён здолеў знайсці карысць з перамены думак у галаве Сталіна адносна гістарыяграфіі ў цэлым і „буржуазных спецыялістаў" у прыватнасці. Шмат хто з арыштаваных разам з ім калегаў — калі яны, як Платонаў, Ягораў, Любаўскі альбо Раждзественскі, не памерлі ў высылцы — вяртаўся ў навуковыя ўстановы, а шмат каму былі вернутыя таксама й іх пасады ды званні. Хваля частковых рэабілітацыяў распачалася ў 1934—1935 г. Пічэта ў 1939 г. быў абраны членам-карэспандэнтам, а ў.1946 г. правадзейным членам Акадэміі навук СССР, хоць тытул акадэміка Акадэміі навук БССР яму вернуты не быў. [Пастановай СНК БССР ён быў адноўлены ў гэтым званні ў 1940 г., гл.: Возвращенные имена... / Сост. Н.В.Токарев. Мінск, 1992. С.87. — *Заўвага перакладчыка.*] У пэўным сэнсе цяпер ён ізноў падзяліў лёс нашмат больш знакамітага Тарле, працу якога „Напалеон" пасля яе выхаду ў 1936 г. адмыслова пахваліў Сталін. Абодва навукоўцы напрыканцы 30-х г., бясспрэчна, мелі асаблівы статус. Іх цярпелі як немарксісцкіх „спецыялістаў", уважалі за лаяльных навукоўцаў, ад якіх не чакалася асаблівых поспехаў у прапагандзе артадаксальных поглядаў[352]. У Менску на той час падобных выняткаў з правіла ўжо не было.

Тым не менш Пічэта заставаўся пад пільным наглядам. Калі кіраўніцтва Акадэміі навук БССР звярнулася ў ЦК КП(б)Б з просьбай дазволіць аднавіць Пічэту, які цяпер працаваў у Маскве, у званні акадэміка, тагачасны народны камісар унутраных справаў Цанава паклаў на стол шэфу кампартыі Панамарэнку дзве

[351] Поўны тэкст ліста гл.: „Мне же они совершенно не нужны". Семь писем из личного архива академика М.Н.Покровского. Вступит. статья и публ. А.Б.Есиной // Вестник Российской Академии наук. 1992. № 6. С.110.

[352] У пазнейшых даследаваннях неўзабаве выпрацавалася адзіная думка наконт таго, што Тарле дапусціў тут саступкі культу асобы Сталіна, што дазволіла Эдгару Гёшу ўжыць азначэнне „Treitschke des Stalinismus" („Трайчке сталінізму") [Вядомы нямецкі гісторык XIX ст. Гайнрых фон Трайчке (1834—1896) у апошняе дзесяцігоддзе свайго жыцця быў афіцыйным прускім гістарыёграфам. *Заўвага перакладчыка*]. Гл.: Hösch, Edgar. Evgenij Viktorovič Tarle... (op. cit.). С.113 і наст.; Каганович Б.С. Евгений Викторович Тарле и Петербургская школа историков (op. cit.). С.60 і наст.

ёмістыя сакрэтныя інфармацыйныя нататкі. У іх даводзілася, нібыта Пічэта ў 1937—1938 г. належаў да „нацыянал-фашысцкай групы" і, акрамя таго, падтрымліваў сувязі з замежнымі нацыянал-фашыстамі, да прыкладу, у Чэхаславакіі. У той момант, апроч таго, павінна было лічыцца правакацыяй, калі — згодна з агентурным паведамленнем за 6 снежня 1939 г. — Пічэта адназначна выказаўся супраць нямецка-савецкай дамовы аб ненападзе, якую ён лічыў „непатрэбнаю": маўляў, Гітлер і так праз два гады прынясе нам вайну ды фашызм і будзе ажыццяўляць сваю канцэпцыю „Сярэдняй Еўропы"[353].

Пасля таго як Доўнар-Запольскі ў 1926 г., Пічэта ў 1930 г. былі выцесненыя за межы Беларусі, а Ігнатоўскі 4 лютага 1931 г. скончыў сваё жыццё самагубствам, у БССР больш не засталося ніводнага гісторыка першага пакалення з гучным імем. Канец кар'еры Ігнатоўскага, які выглядаў асабліва раптоўным пасля яго ўзлёту ў якасці партыйнага і навуковага функцыянера, таксама быў звязаны з першай хваляй рэпрэсіяў 1929 г., хоць яго першыя сімптомы пазначыліся ўжо ў два папярэднія гады. Прыцягвае ўвагу той факт, што — як гэта мела месца і ў выпадках з Доўнарам-Запольскім і Пічэтам — першыя абвінавачванні зыходзілі ад калегаў-гісторыкаў. Відавочна, ні ў якім разе нельга сцвярджаць, што менавіта вышэйшыя партыйныя органы ды органы бяспекі заўсёды былі ініцыятарамі пераследу прафесійнай інтэлігенцыі: часта гэта былі супрацоўнікі непасрэдна навуковых установаў, якія — на замову альбо без яе — разгортвалі кампаніі даносаў, спадзеючыся гэтак уратаваць сваю ўласную скуру. Хоць яшчэ на X з'ездзе КП(б)Б тагачасны першы сакратар ЦК А.І.Крыніцкі гаварыў пра „няправільнасць гісторыі Беларусі" ў версіі Ігнатоўскага, тым не менш, дырэктар Інбелкульта да 1929 г. збольшага мог заставацца ў спакоі. Упершыню з глабальнай крытыкай супраць яго выступіў — як ужо зазначалася вышэй — сын габрэйскага рабочага, пазнейшы вайсковы камісар у Віцебску, а цяпер супрацоўнік „ИИПОР", арганізацыі-пераемніцы Гістпарта, Самуіл Агурскі. Для сваіх атак супраць Ігнатоўскага і ягонай яшчэ не апублікаванай кнігі „1863 год на Беларусі" Агурскі выкарыстаў не толькі форум навукоўцаў-марксістаў, але і трыбуну XII з'езда КП(б)Б, што адбываўся ў лютым 1929 г. З гэтага моманту на ўдар адказвалі ўдарам. Неўзабаве распачалася публічная палітычная дыскусія, датычная кнігі Ігнатоўскага „Гісторыя Беларусі ў XIX і ў пачатку XX стагоддзя", паміж аўтарам і вышэйзгаданым украінскім партыйным кантралёрам Затонскім, які, са свайго боку, узначальваў прызначаную ЦК ВКП(б) камісію па вывучэнні нацыянальнага пытання ў БССР і ўвага якога была звернутая на прозвішча Ігнатоўскага.

Калі Ігнатоўскі вырашыў адзначыць у фармаванні нацыянальнага руху, побач з роляй партыі, таксама ролю беларускіх пісьменнікаў, гаворачы, што і пер-

[353] Платонаў Р. „Контррэвалюцыйнай дзейнасці не спыніў...". Акадэмік Пічэта ў інфармацыях НКУС // ЛіМ, 15.12.1995. С.15. Тут прыводзіцца далейшая цытата з выказванняў Пічэты: „Я заўважыў, што Гітлер памяняў сваю палітыку, перадусім у дачыненні да габрэяў". У іншай размове Пічэта нібыта дапусціў нават наступныя выказванні: „Савецкі Саюз — гэта фашысцкая дзяржава, а сацыялізму тут няма". Вядома ж, застаецца адкрытым пытанне наконт таго, ці не былі гэтыя абвінавачванні, якія НКУС падаў шэфу кампартыі, каб „аблегчыць" яму прыняцце рашэння, проста прыдуманыя. У кожным разе, у Маскве ніхто гэтымі падзеямі не зацікавіўся.

шыя, і другія паспрыялі „станаўленню беларускай дзяржаўнасці“, гэта толькі пагоршыла справу. Тым не менш, супраць абвінавачвання ў абсалютызацыі значэння нацыянальнага руху і паказе Каліноўскага як асобы, што пракладала шлях рэвалюцыі XX ст., Ігнатоўскі яшчэ мог выкарыстаць аўтарытэт Пакроўскага. Апошні прачытаў ягоныя тэзы адносна паўстання 1863 г. і матэрыялы ягоных спрэчак з Агурскім на гэтую тэму і назваў „ацэнку, дадзеную паўстанню Ігнатоўскім, гістарычна больш слушнай“. У параўнанні з пазнейшымі матэрыяламі тут яшчэ адчуваліся рэшткі ўпэўненасці ў сабе, якая неўзабаве была цалкам заглушаная крытыкай з боку партыі і калегаў-гісторыкаў[354].

Спачатку 1930 г. выглядаў для Ігнатоўскага пачаткам выйсця з крызіснай сітуацыі — калі ён быў прызначаны прэзідэнтам новазаснаванай БАН, абраны дэлегатам XIII з'езда КП(б)Б і нават выбраны ў склад ЦК апошняй. Навуковец нават шчыра абяцаў з трыбуны партыйнага форуму „выправіць дапушчаныя памылкі ў маючых адбыцца абмеркаваннях працы і ў лекцыях, чытаных у БДУ“[355]. Калі, аднак, ягоная апошняя ў жыцці праца пра паўстанне 1863 г. позняй восенню 1930 г. выйшла з друку — г.зн., у той самы час, калі адкамандзіраваныя ў студзені таго самага года з Масквы кіраўнікі ЦК і „ОГПУ“ БССР, адпаведна, К.Гей і Р.Я.Рапапорт, займаліся стварэннем і адначасова разгромам „Саюза вызвалення Беларусі“, выйсця ў Ігнатоўскага ўжо не заставалася. Ужо на кастрычніцкім пленуме ЦК ён быў зноў выключаны з Бюро ЦК і з самога ЦК. Неўзабаве пасля гэтага, 26 снежня 1930 г., Ігнатоўскага пазбавілі пасады прэзідэнта Акадэміі навук, а 22 студзеня 1931 г., паводле пастановы прэзідыума і парткалегіі Цэнтральнай кантрольнай камісіі, ён як „нацыянал-ухіліст“ быў выключаны з партыі:

> „У звязку з агульнай палітычнай лініяй і дробна-буржуазнымі ідэалагічнымі пазіцыямі ды варожымі ідэямі буржуазна-кулацкага нацыянал-дэмакратызму Ігнатоўскі ў сваіх літаратурных, тэарэтычных і гістарычных працах выказваў антыпартыйныя і антыпралетарскія погляды, ведучы размову пра замену класавай барацьбы нацыянальнай барацьбой, распрацоўваючы тэорыю адраджэння, тэорыю адсутнасці эксплуататарскіх класаў у Беларусі, адмаўляючы пралетарскі характар Кастрычніцкай рэвалюцыі ды савецкай улады, прыніжаючы ролю партыі, а таксама ідэалізуючы дробнабуржуазныя партыі“[356].

Пачынаючы з кастрычніка 1930 г. ішлі бясконцыя допыты, пад час якіх — аналагічна з тым, як гэта мела месца сярод маскоўскіх і ленінградскіх „акадэмікаў“

[354] НАРБ, ф.15, воп.28, спр.22: Протоколы президиума фракции АН, президиума Инбелкульта, заявление Игнатовского Всеволода в ЦКК КП(б)Б и другие материалы по нацвопросу (1927—1930 г.), у гэтым выпадку арк.49 і наст.: „В ЦК КП(б)Б, в ЦКК КП(б)Б і в ЦКК ВКП(б) (8.08.1929 г.)“. Пра дыскусію з Затонскім параўн. вышэй, у падраздзеле 3.1.5. Акрамя таго, гл.: НАРБ, ф.15, воп.28, спр.22, арк.49: „В ЦК КП(б)Б, в ЦКК КП(б)Б і в ЦКК ВКП(б) (8.08.1929 г.)“. Таксама гл. складзены ў 1978 г. М.С.Сташкевічам і У.М.Міхнюком рэестр дакументаў: НАРБ, ф.4683, воп.3, спр.660: „Справка «К вопросу о партийиой, общественно-политической и научно-педагогической деятельности В.М.Игнатовского», подготовленная сотрудниками института НСС и ВНМ (ИИПЦККПБ)“, арк.15—18.

[355] Тамсама, арк.19.

[356] НАРБ, ф.15, воп.28, спр.9, арк.2—5: „Постановление президиума и партколлегии ЦКК КП(б)Б от 16.01.1931“, у гэтым выпадку арк.2.

— яго імя звязвалася з „Саюзам вызвалення Беларусі". З'яўляючыся рэгіянальнай часткай вялікага судзілішча над інтэлігенцыяй 1919—1930 г., гэтая справа датычыла фіктыўнай арганізацыі, вынайдзенай апаратам бяспекі дзеля абгрунтавання абвінавачванняў супраць нацыянал-дэмакратаў. Пададзеная Ігнатоўскім заява, якая была напісаная ім „не для таго, каб атрымаць дараванне", вылілася ў поўнае прызнанне ім за сабою віны, у якім надзея на паратунак ужо саступіла ўсведамленню непазбежнага пакарання:

> „Мая апошняя просьба да ЦКК КП(б)Б. Я ўсведамляю цяжар сваёй віны перад партыяй і самым шчырым чынам і без агаворак раскайваюся ва ўсіх маіх памылках, якія прычынілі вялікую шкоду партыі. [...] Я прашу пакінуць мяне ў шэрагах партыі пры ўмове кантролю за маёй будучай дзейнасцю, адначасна робячы ўсе намаганні, каб выкупіць сваю віну перад партыяй. У якасці майго апраўдання можа сведчыць той факт, што цягам дзесяці гадоў майго знаходжання ў партыі я не толькі ўзваліў на сябе цяжар віны перад партыяй, але і часта годна выконваў яе даручэнні"[357].

Пасіўна-пакорлівая пазіцыя Ігнатоўскага падкрэслена гэтым самаабвінавачваннем. У маскоўскіх і ленінградскіх пратаколах допытаў Тарле альбо Платонава таксама ўтрымоўваліся такія ж даносы на саміх сябе. Нягледзячы на абраны самімі абвінавачанымі дэвіз: „Трэба гаварыць праўду, не спіхваючы пры гэтым віну на плечы іншых", Ігнатоўскі ў другім варыянце свайго допісу назваў імёны і мянушкі дзеячаў „нацыянал-дэмакратызму". Шмат якія пасажы ягонага прызнання былі проста прыдуманыя. Гістарычныя дэфініцыі адпавядалі афіцыйным інтэрпрэтацыям, да якіх Ігнатоўскі пачаў набліжацца, яшчэ маючы магчымасць працаваць свабодна. Гэтак, з тыднёвікаў „Наша Доля" і „Наша Ніва" зрабіліся „выданні кулацкага і нацыяналістычнага характару"[358]. І ён сам, маўляў, належаў да тэарэтыкаў „адраджэнцкага руху", пра што не ў апошнюю чаргу сведчыць той факт, што ў яго „з лёгкасцю выляталі" розныя словы кшталту тых пра „беларускае Адраджэнне як частку вялікай рэвалюцыі". Пры гэтым Ігнатоўскі рабіў спасылку на свой артыкул у „Полымі" 1922 г., у якім ён выказваў сваю перакананасць у тым, што не будзе Савецкай Беларусі альбо Беларусі як дзяржаўнага цэлага. Як альтэрнатыва — гэтак можна разумець з выказванняў Ігнатоўскага — абмяркоўвалася мадэль „буфернай рэспублікі". За гэтым, відаць, стаяла прапагандаваная ў атмасферы БНРаўскіх асяродкаў — Цвікевічам, Галавінскім ды іншымі — цэнтральная ідэя беларускай самастойнасці ды незалежнасці. Сам ён, маўляў, — гэтак сведчаць зробленыя Ігнатоўскім для пратакола

[357] НАРБ, ф.15, воп.28, спр.22, арк.1—6: „У ЦКК КП(б)Б, 8.09.1930", у гэтым выпадку арк.6 [*Тут падаецца зваротны пераклад з нямецкай мовы*]. Дакумент закранае пытанні дзейнасці КПЗБ у сярэдзіне 20-х г. Тут захоўваецца ўласнаручны рукапіс прызнання. Тамсама, ф.15, воп.28, спр.9, арк.37—42, знаходзіцца машынапіс расійскага перакладу дакумента. У канчатковым выглядзе надрукавана ў: Комуністычнае выхаваньне. 1930. № 12. С.33—34. Фрагменты змешчаныя таксама ў: Hlubinny, Ul. Vierzig Jahre weißrussischer Kultur unter den Sowjets... (op. cit.). С.59 і наст. Пра Янку Купалу і Якуба Коласа гл.: Тамсама, с.61 і наст.

[358] НАРБ, ф.15, воп.28, спр.22, арк.7—24: „У ЦКК КП(б)Б, 23.01.1930", у гэтым выпадку арк.7.

паказанні — відавочна, выключаў магчымасць існавання „буферных рэспублік" на той выпадак, калі б з іх былі зробленыя савецкія рэспублікі[359].

Прызнанні, дадзеныя пад прымусам Ігнатоўскім і іншымі інтэлектуаламі, абвінавачанымі як „нацдэмы", утрымоўвалі вялікую колькасць абцяжарвальнага матэрыялу. Да гэтага дадаваліся адшуканыя тэксты, якія былі раней апублікаваныя альбо толькі напісаныя абвінавачанымі. Гэтак сярод недатаваных асабістых папераў Ігнатоўскага знайшлі тэкст пра „нацыянальнае пытанне", напісаны, відаць, паміж 1925 і 1927 г. Адных заўваг наконт „схільнасці да крызісаў" раннесавецкай дзяржавы было б у 1929—1930 г. дастаткова, каб пасадзіць Ігнатоўскага за краты. Абсалютна выключалася магчымасць цалкам адкрытай пастаноўкі дыягназу кшталту „марудныя тэмпы сацыялістычнага росту" альбо „неправильный режим в партии". У канцы 20-х г. таксама не маглі заставацца без наступстваў патрабаванні ўзмоцненага „забеспячэння ўнутрыпартыйнай дэмакратыі — менавіта ў дачыненні да нерасійскіх нацыянальных меншыняў", а таксама „вяртання да ленінскіх прынцыпаў ажыццяўлення нацыянальнай палітыкі". Тут мала магло дапамагчы тое, што Ігнатоўскі як камуніст ставіў перад сабой задачу актыўнага прыцягвання рабочых і сялян да гаспадарчага і культурнага будаўніцтва, а таксама спрыяння развіццю мясцовых моваў, школаў і нацыяльнаму ўкшталтаванню апаратаў савецкіх работнікаў. Зрэшты, у 1930 г. час нацыянальных ілюзіяў і так скончыўся. Наадварот, у партыі мелася згода адносна заклапочанасці „падрастаннем новай буржуазіі ў горадзе і вёсцы", „сталеннем буржуазнай інтэлігенцыі", „умацаваннем пазіцыяў бюракратыі ў дзяржорганах", а таксама „ўсеагульным узмацненнем вялікадзяржаўнага шавінізму і нацыяналізму"[360].

З адмыслова скампанаваных кавалкаў прамоваў, напісаных працаў і прызнанняў на допытах складаліся абвінавачванні супраць „нацдэмаў". Пра нейкі справядлівы спосаб вядзення следства не магло быць і гаворкі. Допыты і характар падсуднасці былі перададзеныя ў кампетэнцыю ваенных судоў АДПУ — беларускай сакрэтнай паліцыі. Тое, што Ігнатоўскі яшчэ да атрымання заслужанага прысуду скончыў жыццё самагубствам, магло сведчыць, што ён як пераканаваны марксіст і БССРаўскі патрыёт не здолеў жыць далей, абвінавачаны ў здрадзе краіне і партыі. Паводле сведчання сына Ігнатоўскага за 11 лютага 1931 г., яго бацька застрэліўся ў сваёй кватэры 4 лютага 1931 г. „пасля чарговага працяглага і грубага допыту ў АДПУ"[361]. Фінал ягонага жыцця быў зноў-такі сімптаматычным для гісторыка раннесавецкага часу, які імкнуўся спалучаць традыцыі захаплення нацыянальным з імкненнем адпавядаць ідэалагічным пастулатам новага часу. Акрамя таго, на этапе, калі сталінізм набіраў сваю сілу, сімптаматычным для такога тыпу палітыка было імкненне знайсці гармонію паміж нацыянальнымі і камуністычнымі ідэаламі. Праз два гады пасля Ігнатоўскага, 6 траўня 1933 г., у Кіеве скончыў сваё жыццё самагубствам Мікалай Скрыпнік. Гэты

[359] Тамсама, арк.8. Тут гаворка ідзе пра артыкул: Ігнатоўскі У. Сучасная вялікая рэвалюцыя і нацыянальнае пытаньне // Полымя. 1922. № 1. С.44—50. Пра „буферную" праблематыку параўн.: Тамсама, арк.14 і наст.

[360] НАРБ, ф.15, воп.28, спр.21: „Личные документы Игнатовского (1925—1927, арк.1—5: Национальный вопрос".

[361] НАРБ, ф.4683, воп.3, спр.660, арк.23.

камуністычны партыйны, дзяржаўны і культурніцкі функцыянер 20-х г. актыўна выступаў за разбудову СССР і за ўкраінізацыю, пасля ён быў абвінавачаны ў кантактах з „Саюзам вызвалення Украіны", на ім было пастаўленае таўро „кулацкага украінскага нацыяналіста", які, па-за ўсім астатнім займаўся „сабатажам у мовазнаўстве, літаратурнай і гістарычнай навуцы"[362]. З канцом украінізацыі і беларусізацыі скончыліся таксама жыцці шмат каго з тых, хто іх праводзіў.

З Ластоўскім не абышліся іначай. Пасля свайго вяртання з Коўна ў 1927 г. ён таксама заняў адміністрацыйныя і навуковыя пасады ў Інбелкульце ды Акадэміі навук. Ад партыі ён, аднак, заставаўся на дыстанцыі. Ігнатоўскі пазнаёміўся з аўтарам першай беларускамоўнай „Гісторыі Беларусі" яшчэ ў 1913 г. пад час археалагічных раскопак у Горадні, пасля зноў, да ўзнікнення БНР страціў яго з поля зроку і, урэшце, запрасіў яго на пасаду неадменнага сакратара Інбелкульта. Абодва мелі зносіны ў коле менскіх „беларусаў", пад якімі меліся на ўвазе інтэлектуалы і БНРаўскія дзеячы Купала, Некрашэвіч, Лёсік, Смоліч, Цвікевіч. У самаабвінавачванні, падпісаным Ластоўскім у 1930 г., гаворка ішла пра „шкодніцкую дзейнасць", якую ён разам з іншымі нібыта вёў у Акадэміі. Маўляў, пад маскай „лаяльнасці" ў гэтым коле не дапускалася наўпроставых „контррэвалюцыйных" выпадаў супраць нацыянальнай палітыкі партыі, супраць адукацыйнай палітыкі, раскулачвання і да т.п.; але ён, Ластоўскі, паводле яго „прызнання", зробленага ў верасні 1930 г., праз свае разнастайныя этналагічныя даследаванні дзеля доказу „беларускай самабытнасці" меўся зрабіцца рупарам „нацыянал-дэмакратычнае ідэалогіі"[363].

Ластоўскі быў у ліку першых акадэмікаў, кінутых за краты; яго забралі ўжо 21 ліпеня 1930 г. У снежні ён быў таксама афіцыйна пазбаўлены свайго звання. З пратаколаў допытаў выразна вынікае, што ўладатрымальнікам калолі ў вочы перадусім яго дасавецкая палітычная дзейнасць, а таксама БНРаўскія функцыі. Прыватныя спатканні „нацыянал-дэмакратычна настроеных асобаў" і „партыйцаў", пра якія Ластоўскі паведамляў у сваім „прызнанні", толькі дапаўнялі ўяўленне пра яго. Пры гэтым названыя спатканні належаць да найцікавейшых старонак гісторыі беларускай акадэмічнай інтэлігенцыі. Яны яшчэ раз даводзяць, што членства акадэмікаў у партыі мела выключна функцыю стварэння неабходнага алібі. Калі, пачынаючы з 1927 г., на прыватных кватэрах Купалы, Некрашэвіча альбо Ластоўскага штатныя камуністы Наркамасьветы, БАН і БДУ — Жылуновіч, Ігнатоўскі, Баліцкі, Прышчэпаў, Каранеўскі, Кудзелька ды іншыя — вялі супольныя зычлівыя размовы, пра нейкія падзелы ды канфрантацыю не магло нават ісці гаворкі[364].

Аналіз паказвае, што, пачынаючы з 1929/30 г., калі яшчэ заставалася шмат часу да „вялікага тэрору", некамуністы і члены партыі ў роўнай меры рабіліся

[362] Падрабязна пра гэта гл.: Mace, James E. Communism and the Dilemmas of National Liberation... (op. cit.). С.192—300.

[363] З архіва КДБ: Справа Вацлава Ластоўскага // Маладосць. 1993. № 9. С.211—246, у гэтым выпадку с.215. Выбар і каментаванне матэрыялаў прызнанняў і пратаколаў допытаў зрабілі У.Міхнюк і Э.Ліпецкі.

[364] Дополнительные показания Ластовского, В. от 7.01.1930 г. // Тамсама, с.216—239, у гэтым выпадку с.223.

аб'ектамі неабгрунтаванага пераследу. Гэта былі тыя самыя месяцы, у якія таксама ў Маскве „правая апазіцыя" на чале з Рыкавым і Бухарыным была выцесненая з партыйнага палітбюро, калі ва Украіне мелі месца сінхронныя і яшчэ больш глабальныя атакі супраць тамтэйшай інтэлігенцыі[365]. Хвалі арыштаў на пачатку 30-х г. сярод гісторыкаў і інтэлектуалаў сталіцы і рэспублік, без сумневу, былі адказам на адмову падпарадкавацца і зрабіцца паслухмянымі перад 1917 годам і пасля яго. Але, у кожным разе, да расстрэлаў у 1930 г. на практыцы яшчэ не даходзіла. Ластоўскага — падобна як гэта было ўчынена з Пічэтам і асуджанымі па „акадэмічнай справе" — адправілі на пяць гадоў у высылку ў Саратаў. Абсяг заняткаў у апошнія гады яго жыцця там збольшага яму пасаваў, бо ён рупіўся пра рукапісы і рэдкасці тамтэйшай універсітэцкай бібліятэкі. Хоць ніякай новай „віны" ён на сябе не ўзяў, сапраўдная расправа — як гэта мела месца з бальшынёй ягоных калегаў — дагнала яго праз шэсць гадоў. Пасля новага арышту ў жніўні 1937 г. для аўтара першай беларускамоўнай „Гісторыі Беларусі" будучыні ўжо не заставалася. 23 студзеня 1938 г. Ластоўскі быў расстраляны ў Саратаве. На пачатку 30-х г. — склалася такое ўражанне — розныя біяграфіі прадстаўнікоў раннесавецкіх пакаленняў гісторыкаў вялі да агульнага фатальнага фінішу. Нават час марксісцкіх гарачых галоваў другой генерацыі, кшталту Шчарбакова ды Горына, цяпер падыходзіў да канца. Гэткія кар'ерысты, як яны, мусілі атрымаць падвойны цяжкі ўдар. Калі нават у навуковых установах, дзе яны працавалі альбо й займалі кіраўнічыя пасады, ім не ўдавалася пазбягаць нападаў на сябе і даводзілася — прынамсі, Шчарбакову — быць аб'ектам няспыннай прафесійнай крытыкі, дык пачынаючы з сярэдзіны 30-х г. знікла і іх прыкрыццё зверху. Горын, як найбольш значны паслядоўнік Пакроўскага, і так ужо не меў чакаць нічога добрага для сябе. Пасля зусім непрацяглай працы Шчарбакова ў якасці віцэ-прэзідэнта БАН і намесніка дырэктара тамтэйшага Інстытута гісторыі ў ЦК ужо разглядалася пытанне пра яго высылку. Пасля таго як ён, пачынаючы з вясны 1930 г., гэтулькі часу прапрацаваў у Акадэміі навук і засведчыў сябе як знішчальнік „контррэвалюцыйных нацдэмаўскіх групаў" ды — як ён гэта ацэньваў сам — „поспехі ў барацьбе з гэтымі групамі былі дасягнутыя практычна дзякуючы высілкам яго аднаго"[366], цікавасць да ягонай асобы прыкметна зменшылася.

Як і на Ігнатоўскім, на ім ляжала падвойная нагрузка: гэтак, увесну 1932 г. ён, маўляў, „практычна ў адзіноце заставаўся ў прэзідыуме" і адначасна выконваў навуковую працу. У кожным разе, Шчарбакоў мог назваць 17 сваіх артыкулаў, кнігу і брашуру, а таксама сказаць пра тры іншыя, падрыхтаваныя ўжо да друку кнігі („Педагагічныя і навуковыя кадры ў БССР", „Партызанскі рух у Беларусі", „Гісторыя Беларусі"). Хоць у гэты час таго ад яго зусім не патрабавалася,

[365] Пра сітуацыю па-за БССР з традыцыйнага гледзішча параўн., сярод інш.: Conquest, Robert. Der Große Terror. Sowjetunion 1934—1938. München, 1992; *Яго ж.* The Harvest of Sorrow. New York, 1986; Mace, James E. Communism and the Dilemmas of National Liberation... (op. cit.). С.192 і наст.

[366] НАРБ, ф.4, воп.21 (сакрэтна!), спр.363, арк.98—108: Тлумачэнне адносна пададзенай Шчарбаковым у ЦК заявы пра яго вызваленне ад пасады віцэ-прэзідэнта БАН і адкамандзіравання ў распараджэнне ЦК КП(б)Б (захоўваць толькі ў ЦК!), у гэтым выпадку арк.98.

Шчарбакоў прызнаваў за сабою „шмат грубых палітычных памылак“, дапушчаных, да прыкладу, у працы „Кастрычніцкая рэвалюцыя і белапольская акупацыя ў Беларусі“ (1930). З пачуццём зняважанай годнасці ён бараніўся супраць „спробаў дыскрэдытацыі“, што чыніліся супраць яго „з боку шэрагу асобаў, пачынаючы з 1930 г. да цяперашняга часу [ішоў прыкладна 1933 г. — Р.Л.], перадусім пасля выбару ў акадэмікі“; гэтыя спробы, маўляў, „даходзілі да адкрытых выступаў“ супраць яго асабіста „ў Саўнаркаме БССР з боку Югава, Рыўліна, Поташа, Сербенты і Гесэна“. З абвінавачваннямі ў тым, што ён, маўляў, не быў навуковым работнікам, не апублікаваў ніякіх працаў і, акрамя таго, належным чынам не выконваў сваіх абавязкаў кіраўніка гістарычнага семінара пры Акадэміі навук, Шчарбакоў ніяк не мог пагадзіцца[367]. Арышт ідэолагаў гэтай, так бы мовіць, апазіцыі — Югава, Рыўліна і Гесэна — у пачатку сакавіка 1933 г. непасрэдна можа быць увязаны са скаргамі Шчарбакова. Трэба зазначыць, што ўжо на самым пачатку сваёй працы ў Акадэміі Шчарбакоў шукаў дапамогі ў вышэйшых інстанцыях. Гэтак, партыйны шэф Гей разам з Чарнушэвічам увосень 1931 г., даведаўшыся пра крытыку на адрас Шчарбакова і сведчанні, што „вакол яго ўзнікла немагчымая для плённай працы атмасфера“, патлумачылі, што ЦК „будзе біць па руках усім тым, хто бярэ ў гэтым удзел“.

Пра тое, што гэтыя пагрозы не мелі ўздзеяння, сведчыць выказванне Масюкова ў Саўнаркаме, згодна з якім апошні не жадаў падаць „гэткаму акадэміку, як Шчарбакоў нават ламанага граша“. Праз гэта ў віцэ-прэзідэнта Акадэміі, які напачатку перастаў быў рэагаваць на падобныя напады, цярпенне скончылася. Абыходзячы сваю ўласную асобу і свае асабістыя якасці, Шчарбакоў абвінаваціў сваіх крытыкаў у вялікарасійскіх і беларускіх нацыяналістычных памкненнях: маўляў, „вялікадзяржаўнікі“ ўпарта сцвярджаюць, нібыта навуковая праца ў такой Богам забытай правінцыі, як Беларусь, увогуле немагчымая. Бездапаможна і з адчуваннем сваёй усё большай ізаляванасці ад партыі ён наракаў на „тых навукоўцаў, якія ўмеюць толькі бурчэць ды крытыкаваць, а самі нічога не робяць для навукі“:

> „Спаміж нас ёсць гэткія «навукоўцы», і іх нямала. Чаму пэўныя асобы сярод тых, «который меня дискредитирует» [sic!], раней гэтак актыўна падтрымлівалі, папулярызавалі лёсікаў, ластоўскіх, некрашэвічаў ды пічэтаў і падлабуньваліся да іх, ствараючы ім тым самым адпаведныя ўмовы і вядомасць як выдатным навукоўцам? Чаму ж я — выхаваны ў беднай сялянскай сям'і, батрак, удзельнік грамадзянскай вайны, ужо 14 гадоў у шэрагах партыі, чалавек, які зрабіў значную навуковую працу ў варунках дыктатуры пралетарыяту — чаму ж я не магу атрымаць гэткай падтрымкі ў сваёй навуковай дзейнасці?“[368].

Напэўна, немагчыма было б больш выразна паказаць убоства партыйных гісторыкаў, якія, будучы сама меней нізкакваліфікаванымі, ад пачатку 30-х г. накіроўваліся ў неспакойныя і нелаяльныя ўстановы і натыкаліся там на вялікі палітычны, а перадусім прафесійны супраціў. Калі гэтыя людзі, урэшце, мелі свой абавязак выкананым, не спраўдзіўшы тых патрабаванняў, якія выстаўляліся прапагандай да іх кваліфікацыі, нават для партыі ніякай цікавасці яны ўжо не ўяўлялі. І хутка ў пісаннях Шчарбакова знайшлося тое, што заслужыла сур'ёз-

[367] Тамсама, арк.99 і наст.
[368] Тамсама, арк.102.

для „Мужыцкай праўды“: „Кастуся Каліноўскага, які засведчыў сябе як паплечнік Герцэна, трэба было б ахарактарызаваць перадусім як польскага шавініста, калі б ён сапраўды напісаў тое, што яму прыпісвае Ігнатоўскі“[286].

Агурскі, які выступіў тады супраць Прэзідэнта Акадэміі навук Ігнатоўскага, неўзабаве сам апынуўся пад агнём крытыкі на старонках кар'еравызначальнага часопіса „Историк-марксист“. Ён таксама быў абвінавачаны ў „прынцыповым скажэнні“ гісторыі падзеяў 1863 г. На думку суровых крытыкаў, Агурскі ў кнізе „Рэвалюцыйны рух у Расіі“ не аддаў належнае даніны „рэвалюцыйнаму значэнню польскага паўстання“. Маўляў, Агурскі прыпісаў арганізацыю паўстання 1863 г. „памешчыкам і духавенству“ і адначасова дапусціў сцвярджэнні пра пасіўнасць і нават „контррэвалюцыйныя настроі беларускага селяніна“[287]. Гэткая пазіцыя, аднак, цалкам супярэчыла афіцыйнаму разуменню гісторыі[288]. Партыя не магла дапусціць, каб у кнізе па гісторыі выявіла сябе Вандэя. Прытым ані Ігнатоўскі, ані яго крытык Агурскі, а таксама ані Агурскі, ані крытык апошняга Югаў не мелі навуковай будучыні. Гэткае ланцуговае даносніцтва не было ў часы сталінізму рэдкасцю сярод інтэлектуалаў. У прыведзеным прыкладзе таксама адлюстроўваецца паступовая змена адной інтэрпрэтацыйнай групы на другую — нацыянал-камуністычнай пазіцыі Ігнатоўскага на вульгарна-марксісцкую ідэалогію М.Югава.

Крытыку Агурскага нельга разглядаць як адзіную рэакцыю на выказаныя Ігнатоўскім погляды што да падзеяў 1863 г. Яшчэ перад тым як была апублікаваная яго вялікая манаграфія, ён сутыкнуўся з нападамі прысланага ў Беларусь партыйнага кантралёра і старшыні ЦКК украінскай кампартыі У.П.Затонскага, ад якіх Ігнатоўскі паспрабаваў абараніцца адкрытым лістом. Характар названага ліста не пакідае сумневу ў тым, што ўжо ў 1929 г. ён умеў знаходзіць патрэбную танальнасць пры рэагаванні на партыйную крытыку. Значная частка допісу ўтрымлівала фрагменты самакрытыкі. У дачыненні да трэцяга выдання сваёй „Гісторыі Беларусі ў XIX і ў пачатку XX сталецьця“ (1928 г.) Ігнатоўскі ахвотна дапускаў, „што яна ўтрымоўвае шматлікія памылковыя ацэнкі і недакладнасці“. Ён вінаваціў сябе за тое, што адступіў „ад марксісцкіх пазіцыяў і класавага гледзішча на перспектыву дзяржавы, народа і нацыі“[289].

[286] Пратакол паседжання камуністычных навукоўцаў (12.06.1929), гл.: НАРБ, ф.4, воп.21, спр.200, арк.2 і наст., у гэтым выпадку арк.51.

[287] Агурский С. Революционное движение в Белоруссии (1863—1917 г.). Менск, 1928. С.15 і наст.

[288] Тамсама, с.22. Аўтарам рэцэнзіі быў М.Югаў, гл.: ИМ. 1929. № 13. С.254—259.

[289] Параўн. па гэтым пытанні: „Адкрыты ліст Ігнатоўскага тав.Затонскаму“ за 22.06.1929, перадрукаваны ў газеце „Звязда“ за 3.07.1929. С.1. Тут цытуецца з выкарыстаннем арыгінала ліста, гл.: НАРБ, ф.4, воп.3, спр.33, арк.687—689. Тут, акрамя таго, гаварылася: „Адхіленні гэткага кшталту можна перадусім убачыць у раздзелах пра «беларускія рухі», «нашаніўскае Адраджэнне» ды «інкарпарацыю Беларусі» [у склад царскай імперыі — Р.Л.]. У кнізе быў няслушна паказаны імперыялізм: ён па-вульгарызатарску трактаваўся проста як захопніцкая палітыка адной ці іншай імперыі. Гэткія памылковыя ацэнкі можна сустрэць у раздзелах «Беларусь у першай палове XIX стагоддзя», «Кампанія 1812 года», «Цараванне Аляксандра III»“. Пра дыскусію Ігнатоўскага з Затонскім параўн. ніжэй, у падраздзеле 4.3.

Дзесяткі іншых гісторыкаў, літаратуразнаўцаў, добраахвотных і штатных партыйных работнікаў не дажылі да канца 1938 г. альбо пачалі адбываць шматгадовыя тэрміны зняволення. Біяграфіяў, падобных да тых, што мелі паказаныя тут пяць гісторыкаў, было мноства[372]. Гэта датычыць і лёсу З.Ф.Жылуновіча, які, народжаны ў 1887 г. у сялянскай сям'і, у дасавецкі час складаў нацыянальна-патрыятычныя вершы і пачынаў рабіць кар'еру ў пазнейшай БССР у якасці культурніцкага функцыянера. Жылуновіч — як член ўрада, рэдактар перыядычных выданняў, акадэмік і супрацоўнік інстытута гісторыі БАН — зрабіў кар'еру, падобную да кар'еры Ігнатоўскага; напрыканцы, у 1937 г. прыйшлі зняволенне, самаабвінавачванні і смерць у прыступе хваробы, якая не дала ажыццявіць расстрэл[373]. Пакліканыя разам з Пічэтам у Менск гісторыкі першай падсавецкай генерацыі У.М.Перцаў, М.М.Нікольскі, В.Д.Дружчыц, В.А.Сербента альбо С.Х.Агурскі, нягледзячы на часам неймаверныя намаганні дапасавацца да рэжыму (Сербента, Агурскі), у сваёй бальшыні не пазбеглі рэпрэсіяў, хоць бы некаму і ўдалося застацца жывым. Адданых партыі палітычных дзеячаў таксама не шкадавалі. Чарвякоў загінуў гэтаксама, як Кнорын. Самаагаворы і пакаяльная рыторыка былі характэрныя і для іх допытаў. Тое, што магло быць публічна сказана Кнорыным у 1927 г., калі ён быў партыйным кіраўніком, у 1937 г. зацягвала пятлю на шыі яму самому — гэтаксама, як і Чарвякову. Калі тады Кнорын непрыхавана сімпатызаваў паняццю „адраджэнне" і адраджэнскаму руху, цяпер гэта каштавала яму жыцця:

дэмакратычнай партыі належаў Жылуновіч, літаратурны псеўданім якога быў Цішка Гартны. Ён быў празаікам і сябрам беларускай рады ў 1918 г. [Відаць, тут маецца на ўвазе Белнацкам. *Заўвага перакладчыка*]. І яшчэ да іх належаў акадэмік Ігнатоўскі, рэктар Беларускага дзяржаўнага універсітэта ў 1926—1929 г. Ён быў гісторыкам і скончыў жыццё самагубствам. У 1933 г. быў заарыштаваны і высланы ў Сібір народны камісар адукацыі Платун, хоць ён займаў гэтую пасаду 6 гадоў. Шаранговіч, сакратар цэнтральнага камітэта партыі Беларусі, быў абвінавачаны ў сувязях з нацыянал-дэмакратамі і прыбраны. Галадзед, старшыня беларускага Саўнаркама, і Чарвякоў, старшыня беларускага Цэнтральнага выканаўчага камітэта саветаў, былі вычышчаныя. Галадзед быў расстраляны ў 1936 г., а Чарвякоў застрэліўся сам у тым жа г.". Гэтак падаецца ў: PSSS: Schedule B. Vol.45, #45 JR. C.13 і наст. [Звесткі рэспандэнта не ва ўсім дакладныя — параўн. тэкст пад зноскай 370. — *Заўвага перакладчыка*.]

[372] Пра чысткі ў АН БССР у 1937—1938 г. пад кодавай назваю „Аб'яднанае антысавецкае падполле" гл. нядаўнюю працу: Платонаў Расціслаў. „Шпіёны" з Акадэміі навук // БМ. 1996. № 4. С.69—73, а таксама: Возвращенные имена: Сотрудники АН Беларуси, пострадавшие в период сталинских репрессий / Сост. Н.В.Токарев (op. cit.). Паводле гэтых крыніц, у 30-я і 40-я г. былі рэпрэсаваныя 143 супрацоўнікі Акадэміі навук. Толькі ў канцы 30-х г. у Менску былі расстраляныя 42 супрацоўнікі.

[373] Пра яго палітычную ацэнку з боку партыі параўн.: НАРБ, ф.4, воп.3, спр.150, арк.108—114 (арыгінал ліста: арк.101—107): „У ЦК КП(б)Б, сакратару ЦК тав. Шаранговічу", акрамя таго: Тамсама, воп.3, спр.34, арк.251—255: „Мае памылкі і іх карані" [выказванні і ўласнаручны подпіс Жылуновіча за 13.12.1929 г.]. У процілеглась Ігнатоўскаму Жылуновіч, мауляў, не даў сябе збіць з тропу праз фальшывыя словы разнастайных членаў „нацыянал-фашысцкага руху" на чале са Станкевічам, Рагулем, Ярэмічам, а таксама гэткімі „сацыял-фашыстамі" і „ідэолагамі беларускай буржуазіі й кулацтва", як Антон Луцкевіч. Біяграфічныя матэрыялы гл., акрамя таго: ф.15, воп.28, спр.10 (1930—1931 г.).

„Мы ўжывалі паняцце «адраджэнне Беларусі» альбо «адраджэнне беларускай культуры», хоць гэтае паняцце ў сваёй сутнасці павінна быць ацэнена як прынцыпова памылковае і палітычна-небяспечнае; мы не нараджаем нейкае Беларусі, а мы будуем савецкую Беларусь, мы імкнёмся да таго, каб стварыць грамадства, якое стаіць на сацыялістычным падмурку“[374].

У той самы час Кнорын — які належаў да першапачатковага ядра КП(б)Б, меў напачатку пэўныя заслугі з гледзішча навуковай і адукацыйнай палітыкі ў сэнсе персанальнага ўмацавання беларускай навукі, дамагаўся адкрыцця выдавецтва „Адраджэнне“ і праз нейкі час працы ў якасці першага сакратара ЦК пасля 1928 г. зрабіў кар'еру ў Маскве, а пазней у Камінтэрне — і Кнорын мусіў даганяць час. Калі на пачатку 30-х г. Сталін устанавіў асабісты кантроль над Камінтэрнам і прадстаўнікамі ў ім, Д.З.Мануільскім, І.А.Пятніцкім і якраз ім, Вільгельмам Кнорыным, — тады пацiху стаў вымалёўвацца канец кар'еры апошняга. Паралельна атрыманая ў Інстытуце чырвонай прафесуры гістарычная адукацыя, дзякуючы якой Кнорын зрабіўся нават доктарам навук і прафесарам, мала што магла ў гэтым змяніць — як і выхад у 1934 г. пад яго рэдакцыяй папулярнай „Кароткай гісторыі ВКП(б)“, якая нават мела працяг у наступным годзе, праз выхад другой часткі. У 1938 г. Кнорын на падставе фальшывых абвінавачванняў быў заарыштаваны і 29 ліпеня таго самага года расстраляны[375].

Калі паглядзець агулам, дык біяграфіі гісторыкаў і функцыянераў, што займаліся гісторыяй, выглядаюць адлюстраваннем біяграфіяў беларускіх інтэлектуалаў у цэлым. Структуры прафесійнай інтэлігенцыі, якія на пачатку падсавецкага часу былі зусім розныя з гледзішча ўзросту і паходжання прыналежных да яе асобаў, без сумневу, па-свойму адбіліся ў гістарычных канцэпцыях і спробах прыстасавання да рэжыму. Але фіналы кар'ераў у цэлым вызначаюцца сваім істотным падабенствам. Сталінізм, умацоўваючыся, меў вялікія поспехі ў нівеляванні разнастайных біяграфічных перадумоваў развіцця і росту[376].

На індывідуальна-біяграфічным узроўні непазбежна павінна было адбіцца тое, што вышэй было зафіксавана адносна інстытуцыяў і тых гістарычных канцэпцыяў, якія там распрацоўваліся: савецкая сістэма як ідэалагічная, культурная і каштоўнасная супольнасць пачала функцыянаваць толькі пасля поўнай змены пакаленняў і атрымання досведу „Вялікай Айчыннай вайны“. Адзіным, хто дажыў да гэтага часу сярод названых пяці гісторыкаў, быў Пічэта, які ў 1946 г., за год да сваёй натуральнай смерці, яшчэ нават уступіў у партыю.

[374] НАРБ, ф.60, воп.3, спр.777 (Пратаколы допытаў „нацдэмаў“), арк.112 і наст.: „Допыт Чарвякова“.

[375] Наконт біяграфіі Кнорына гл.: Кнорин В.Г. Избранные статьи и речи... (op. cit.). С.3—24.

[376] Улашчык М.М (1906—1986). У 1930 г. археолаг і гісторык, выпускнік БДУ, патрапіў пад першую хвалю арыштаў, і да 1955 г. рэпрэсійны апарат не пакідаў яго па-за сваёй увагай. Пасля сібірскай высылкі ён толькі ў 1948 г. ізноў вярнуўся ў Маскоўскі універсітэт і, працуючы ў сектары крыніцазнаўства, надалей выявіў сябе як адзін з самых галоўных даследчыкаў беларускай гістарыяграфіі. Хоць Улашчык, да канца сваіх дзён застаючыся беспартыйным, так ніколі і не вярнуўся на пастаяннае жыхарства ў Мінск, у шматлікіх крытычных выступах і ў ліставанні з рознымі гісторыкамі АН БССР увесь час заставаўся ў кантэксце развіцця мінскай гістарычнай навукі. Параўн. шматлікія пасмяротныя ўшанаванні яго ў звязку з вывучэннем ягонай спадчыны. Нядаўна Улашчыку быў прысвечаны адмысловы выпуск „Беларускага Гістарычнага Агляду“ (1996. Т.3.Сш.1).

# III. Гістарычная палітыка паміж сусветнай вайной і „адлігай“, 1944—1954

„[Вялікая] Айчынная вайна і грандыёзны патрыятычны ўздым сярод усіх народаў СССР сталі для гістарычнай навукі моцным імпульсам, бо ў заканамерным і натуральным памкненні расійскага народа ды іншых братніх народаў Савецкага Саюзу адначасова выявілася іх мінулае, бо ў яе выніку здабыткам шырокіх масаў зрабіліся вялікія культурныя дасягненні іх продкаў ды іхні ўклад у сусветную культуру, а таксама таму, што пад час яе былі прадэманстраваныя як гераічныя баявыя традыцыі народаў Савецкага Саюзу, гэтак і подзвігі сённяшніх абаронцаў нашай радзімы ў змаганні супраць падступнага і зацятага ворага“[1].

## 1. Грамадства і навука ў пасляваенны час

### 1.1. Наступствы вайны і новы пачатак

Пасля падзеяў Першай сусветнай, перыпетыяў грамадзянскай вайны, страты часткі тэрыторыі на карысць Польшчы і сталінскага тэрору „Вялікая Айчынная вайна“ была, безумоўна, для насельніцтва Беларускай савецкай рэспублікі найцяжэйшым выпрабаваннем, якое яна мусіла перажыць цягам толькі нейкіх трыццаці гадоў. Ніводная іншая падсавецкая рэспубліка ў 1941—1944 г. не стала ў гэткай меры, як БССР, ахвярай знішчальных дзеянняў з боку нямецкіх войскаў. Сёння немагчыма нават агляднa паказаць усю літаратуру падсавецкай, постсавецкай і заходняй гістарыяграфіі адносна ваенна-гістарычных, палітычных, грамадскіх і гістарычна-менталітэтных аспектаў вайны і ваеннага грамадства. Баявыя дзеянні, акупацыя, знішчэнне людзей і дэпартацыі не належаць да тэмы нашага даследавання[2]. Наступную задачу нашага даследавання мы бачым у

[1] Дыскусійны даклад гісторыка С.Талстова на паседжанні гісторыкаў у ЦК ВКП(б), 1944 г. // Стенограмма совещаиия по вопросам истории СССР в ЦК ВКП(б) в 1944 году, 22.06.1944 // ВИ. 1996. № 5. С.77—107, у гэтым выпадку с.84. (Далей : Стенограмма совещания... (op. cit.)). Адпаведны нумар „Вопросов истории“ на канкрэтную дату паседжання ўказвае толькі адзін раз.

[2] Падагульненне вынікаў найноўшых дыскусіяў на прыкладзе Беларусі прапануе Бернгард К'яры: Chiari, Bernhard. Mythos und Alltag: Voraussetzungen und Probleme eines west-östlichen Dialogs zur Historiographie des Zweiten Weltkrieges // MGM 54 (1995) 2. C.535—563. Падрабязную бібліяграфію найноўшых беларускіх публікацыяў пра грамадства часоў вайны і на акупаванай тэрыторыі гл.: Нарчук І.В. Беларусь у Другой сусветнай вайне: Аб чым не пішуць у падручніках. Рэкамендацыйны бібліяграфічны спіс // Новыя кнігі Беларусі. 1995. № 10 (Дадатак). С.1—16. Пра акупацыйную палітыку ў Беларусі з нямецкага гледзішча нядаўняя публікацыя: Benz, Wolfgang (выд.). Einsatz im „Reichskommissariat Ostland“: Dokumente zum Völkermord im Baltikum und in Weißrußland 1941—1944. Berlin, 1998; Chiari, Bernhard. Alltag hinter der Front: Besetzung, Kollaboration und Widerstand in Weißrußland 1941—1944. Düsseldorf, 1998; Michaelis, Rolf. Das SS-Sonderkommando Dirlewanger: Ein Beispiel

іншым — каб паказаць палітыку ў дачыненні да гісторыі і функцыянаванне гістарычнай навукі ў ваенны і пасляваенны час і на прыкладзе апублікаваных сінтэтычных працаў, значных манаграфіяў і прынцыпова важных артыкулаў даць апісанне гістарычнага бачання новага пакалення беларускіх гісторыкаў. Гэтае пакаленне не толькі палітычна абагнала „буржуазных“ калегаў міжваеннага часу, але перадусім здолела іх пераажыць. У 1940 г. толькі дзесяць гісторыкаў з акадэмічнай ступенню атрымоўвалі заробак у навукова-даследчых установах БССР. У 1945 г. іх, аднак, ужо было 13; пры гэтым двое мелі ступень доктара гістарычных навук — М.М.Нікольскі ды У.М.Перцаў. У 1955 г. у рэспубліцы было ўжо больш за 200 навукоўцаў-гісторыкаў.

Перш за ўсё неабходна адзначыць, што 1944/45 год для БССР, можна сказаць, быў „нулявым годам“. Са смуткам можна было гаварыць не толькі пра 2,2 мільёна страт забітымі ды памерлымі і 380 000 асоб, вывезеных на прымусовыя работы ў якасці „остарбайтэраў“, але і пра 209 разбураных гарадоў і 9 200 вёсак, у якіх былі спаленыя ці разбамбаваныя агулам 1,2 мільёна дамоў. Былі таксама разбураныя і знішчаныя прадпрыемствы, транспартныя шляхі ды культурныя ўстановы. Згарэлі Дзяржаўная бібліятэка, шматлікія тэатры ды музеі. Бальшыня каштоўных гістарычных дакументаў з архіва беларускай Акадэміі навук была знішчаная пажарамі альбо выкрадзеная. Пасля сталінскіх чыстак 30-х г., пасля вайны і акупацыі краіна і яе сціплы патэнцыял знаходзіліся ў катастрафічным становішчы. Гісторыкі нацыянальнай арыентацыі канца 80-х — пачатку 90-х г. назавуць сталінізм, вайну і акупацыю замахам на этнічнае і культурнае існаванне нацыі, а Чарнобыльскую катастрофу — яшчэ адной спробай ажыццяўлення „этнацыду“. Досвед пакутаў павінен змабілізаваць тыя сілы супрацьдзеяння гэтаму, што прагнуць „абуджэння“ альбо захавання беларускай нацыі.

Прыросту сілаў, на які спадзяваліся Сталін і яго кіраўнікі ў правінцыях у выніку далучэння новых тэрыторыяў у верасні 1939 г., не адбылося. „Вяртанне ў лона радзімы“ заходнебеларускіх і заходнеўкраінскіх тэрыторыяў, хутчэй, прынесла з сабой цяжкія праблемы інтэграцыі. Цягам „вызвалення Заходняй Беларусі“ ад „польскіх элементаў“ адбывалася самая вялікая ў сваіх маштабах акцыя перасялення людзей, якую калі-небудзь да таго часу ажыццяўляла савецкае кіраўніцтва. Упарадкавана, паводле загадзя складзеных асабовых спісаў, паміж 1939 і 1941 г. і яшчэ раз у 1944 г. праводзіліся дэпартацыі цэлых народнасцяў. Узімку 1939/40 г. польскіх перасяленцаў выпраўлялі ў сібірскую высылку гэтаксама, як паліцыянтаў, урадоўцаў ды іншых, каго фальшыва абвінавачвалі ў „супрацоўніцтве з фашысцкай польскай дзяржавай“ і ў „антысавецкай дзейнасці“. Крыху пазней, у жніўні 1940 г., былі заарыштаваныя і тыя беларускія патрыёты, што яшчэ ў сваёй бальшыні заставаліся ў Вільні. Увесну і ўлетку 1941 г. аж беспасярэдне да нападу Гітлера на Савецкі Саюз ахвярамі пераследу сталі члены распушчанай Камінтэрнам Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі. Да 22

deutscher Besatzungspolitik in Weißrußland. Berlin, 1998. Беспасярэдне пра баявыя дзеянні і іх наступствы на тэрыторыі БССР параўн.: Долготович Б.Д. Беларусь в годы Великой Отечественной войны в вопросах и ответах. Мінск, 1994.

чэрвеня 1941 г. з тэрыторыі былых „крэсаў" у Сібір было вывезена агулам 300 000 асоб[3].

Вырашальную ролю ў вызваленні Беларусі ад нямецкай акупацыі ў „Вялікай Айчыннай вайне", безумоўна, адыграў партызанскі рух. Ацэнка партызанскай вайны ў мемуарнай літаратуры і ў працах навукоўцаў-гісторыкаў, як хутка высветлілася, усё больш і больш міфалагізавалася. Той факт, што ўвесну 1945 г. БССР увайшла ў лік дзяржаваў — заснавальніц Арганізацыі Аб'яднаных Нацыяў, таксама паспрыяў умацаванню беларускае самасвядомасці ў межах савецкага патрыятызму[5]. Да 30-х угодкаў з дня заснавання БССР Беларуская рэспубліка атрымала афіцыйнае віншавальнае пасланне ад Сталіна, у якім адмыслова згадвалася раўнапраўная дзяржаўнасць БССР. У снежні 1951 г. БССР узняла свой дзяржаўны сцяг: да таго часу гэткім прывілеем карысталася толькі Украіна. З аднаго боку, прычына гэтай „неакаранізацыі" палягала ў засведчанай Масквою павазе да вызваленчага чыну, здзейсненага беларусамі. З другога боку, гэтак выяўляліся намаганні дасягнуць большай лаяльнасці рэспубліканскіх элітаў, перадусім ва Украінскай ССР і — што датычыла сітуацыі ў ААН — дыктаванага знешнепалітычнымі патрэбамі атрымання дадатковых галасоў на міжнароднай арэне. Досвед сусветнай вайны прывёў да ўзмацнення працэсу самаідэнтыфікацыі сярод беларускага насельніцтва. Пасля смерці Сталіна немалая колькасць былых партызан, ствараючы новую партыйна-кіраўнічую эліту, атрымала ўладу, дзякуючы чаму інтэрпрэтацыя вайны персанальна

| Нацыянальнасці | Колькасць (акругл.) | У працэнтах |
|---|---|---|
| Беларусы | 7 880 000 | 74,5 |
| Габрэі | 935 000 | 8,8 |
| Палякі | 925 000 | 8,7 |
| Расійцы | 590 000 | 5,6 |
| Украінцы | 162 000 | 1,5 |
| Літоўцы | 90 000 | 0,9 |
| Немцы | 6 500 | 0,06 |
| Іншыя | 11 000 | 0,1 |
| Разам | 10 599 500 | 100 |

**Табл.21: Колькасць і размеркаванне паводле нацыянальнага складу насельніцтва БССР пасля „ўз'яднання" (1941 г.)**[4]

[3] Падрабязныя звесткі гл. у: Volacič, Mikola. The Population of Western Belorussia and Its Resettlement in Poland and the USSR // BR 3 (1956). С.5—30, у гэтым выпадку с.12—20; Zaprudnik, Jan. Belarus. At a Crossroads in History. Boulder, Col., 1993. С.90 і наст.; Gross, Jan T. Revolution from Abroad. The Soviet Conquest of Poland's Western Ukraine and Western Belorussia. Princeton, NJ, 1988. С.187 і наст. У 1946 г., паводле статыстычных звестак, 117 000 беларусаў усё яшчэ знаходзілася ў Польшчы, у той час як пасля 1947 г. доля палякаў у насельніцтве Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны рэзка скарацілася. Параўн.: Volacič, Mikola. The Population of Western Belorussia and Its Resettlement in Poland and the USSR (op. cit.). С.30. З беларускага гледзішча адносна нядаўняя праца: Chackiewicz, A.F. Aresztowania i deportacje ludności Zachodnich obszarów Białorusi (1939—1941) // Balcerak, W. (выд.). Polska—Białoruś. Warszawa, 1994. С.133—160.

[4] Звесткі падаюцца паводле: Vakar, Nicholas P. Belorussia. The Making of a Nation. A Case Study. Cambridge, MA., 1956. С.41.

[5] Гл. таксама нядаўнюю працу: Снапковский В.Е. Путь Беларуси в ООН, 1944—1945 г. Мінск, 1994.

ўвязвалася з мэтамі сацыялістычнага будаўніцтва. У гістарычных працах з таго часу ўсё больш выразна выяўляла сябе акцэнтаванне цеснага ўсходнеславянскага яднання, у якім расійцы меліся адыгрываць галоўную ролю. Паасобныя аўтары, аднак, вылучалі і нацыянальны кампанент вызваленчага чыну.

Адпаведным чынам, у далейшым мы паспрабуем высветліць, ці назіраўся — побач з агульным узрастаннем культурнага і адукацыйнага патэнцыялу, пашырэннем інфраструктуры й аб'ёмаў вытворчасці, ростам гарадскіх цэнтраў і сетак транспартных камунікацыяў, міжнароднай вядомасці — таксама і рост квазінацыянальнае самасвядомасці.

Пасля 1945 г. БССР належала да дынамічных зонаў росту сярод рэгіёнаў Савецкага Саюзу. Хоць гэтая краіна пацярпела найвялікшыя страты ў насельніцтве ды інфраструктуры, у 1950 г. аб'ём прамысловай прадукцыі тут перавысіў узровень 1940 г. на 15%, а ў машынабудаванні і металаапрацоўцы адпаведныя паказчыкі склалі нават цэлыя 137%. У наступнай пяцігодцы (1951—1955 г.) узровень вытворчасці прамысловай прадукцыі павялічыўся зноў-такі больш як у два разы. Гэтаму спадарожнічаў моцны працэс урбанізацыі Беларусі, узровень якога перавышаў сярэднесаюзны паказчык і які ў наступных пяцігодках працягваўся, а ў 1970—1980-х г. меў сваім вынікам тое, што БССР, побач з прыбалтыйскімі рэспублікамі, дасягнула найвышэйшых у СССР жыццёвых стандартаў. Паводле ўзроўню прадукцыйных магутнасцяў рэспубліка нават займала тут першае месца[6]. Пры гэтым вайна амаль цалкам змяніла дэмаграфічнае аблічча рэспублікі. Калі ў 1941 г., пасля далучэння ўсходнепольскіх ваяводстваў у выніку гітлераўска-сталінскага пакта і перадачы Віленскага краю разам з яго сталіцай Літве, статыстычныя падлікі сведчылі пра агульную колькасць насельніцтва БССР прыблізна 10,5 мільёна (у пераліку на тэрыторыю ў межах 1959 г. — 9,34 мільёна — параўн.: табл.21), дык пад час першага пасляваеннага перапісу насельніцтва была зафіксаваная колькасць насельніцтва, роўная 8,05 мільёна чалавек[7].

Далейшыя нашы высновы павінны паказаць, што сусветная вайна змяніла падсавецкае грамадства больш істотным чынам, чым якая-кольвечы іншая падзея. Страты, якія так ці інакш мусіў пеpажыць кожны чалавек, прывялі да глабальнай пераацэнкі ўзаемадачыненняў асобы і дзяржавы. Э.Ўайнэр (*Weiner*) лічыць досвед перажытай вайны істотным чыннікам жыцця аж да сканчэння падсавецкага часу:

[6] У 1995 г. гарадское насельніцтва складала ўжо 68,5% (7,1 млн.) ад агульнай колькасці жыхарства, у той час як яшчэ ў 1950 г. толькі 21% жыхароў насялялі гарады. Колькасць насельніцтва г.Мінска вырасла з 510 000 (1959 г.) да 1,61 млн. (1989 г.). Пра працэсы мадэрнізацыі ў БССР пасля 1945 г. параўн., сярод інш.: Польскі С.А. (рэд.). Беларусы. Этнаграфія, дэмаграфія, дыяспара, канфесіі. Атлас. Мінск, 1996; Marples, David R. Belarus. From Soviet Rule to Nuclear Power. London, 1996. С.21 і наст.; Нарысы гісторыі Беларусі. Т.2. Мінск, 1995. С.324 і наст.; Киштымов А. Индустриализация (1895—1995). Мінск, 1997 (неапубл. рукапіс).

[7] Багровіч Андрэй. Жыхарства Беларускае ССР у сьвятле перапісу 1959 году. Нью-Ёрк—Мюнхэн, 1962. С.34. Некаторыя разлікі зыходзяць з агульнай лічбы дэмаграфічных страт, што складае 6 мільёнаў, сярод якіх меліся быць 2 мільёны вайскоўцаў і 4 мільёны цывільных жыхароў. Пры гэтым пад увагу бралася зніжэнне нараджальнасці — гэтаксама як дэпартацыі, эміграцыі ды бежанства.

„Другая сусветная вайна была водападзелам у артыкуляцыі палітычных ды этнанацыянальных ідэнтычнасцяў у межах савецкага дзяржаўнага ладу. Міф вайны стаўся адпраўным пунктам у фармаванні самасвядомасці і мадэляў паводзін вялікіх частак насельніцтва і штодзённай палітыкі, улучна з тымі, чыя самасвядомасць нібыта была вызначаная глыбокімі трансфармацыямі, што мелі месца пад час грамадзянскай вайны, калектывізацыі ды індустрыялізацыі. Досвед вайны зрабіўся крытэрыем, паводле якога ідэнтычнасць, магчымасці дасягнення пэўнага становішча ў грамадстве і статус вызначаліся паўсюдна ў межах савецкай сістэмы, уводзячы шэраг новых тропаў у дачыненні да перадваенных катэгорыяў“[8].

Для гісторыяпісання БССР інтэрпрэтацыя вайны значыла новае асэнсаванне свайго разумення гісторыі. Ідэалогія савецкага патрыятызму ў „злучнасці народаў“, успрыманай як „еднасць лёсаў“, мусіла атрымаць дабратворную глебу для росквіту. Цяпер расійская і савецкая гісторыі, здавалася, набліжаліся адна да аднае. Шматнацыянальная дзяржава ўпершыню даказала выкананне сваёй патрыманіяльнай абарончай функцыі ў дачыненні да знешніх ворагаў. Супольна здзейснены вызваленчы чын шматэтнічнай Чырвонай арміі ды зарганізаваная ў злучнасці абарончых намаганняў рэгіянальная вызваленчая барацьба, строга кажучы, менавіта толькі цяпер зазначылі з'яўленне новай інтэгратыўнай імперскай ідэі. Толькі пад час Другой сусветнай вайны — гэта магчыма, прынамсі, сцвярджаць у дачыненні да славянскіх рэспублік (РСФСР, УССР, БССР) — узнік Савецкі Саюз як калектыўна з'ідэнтыфікаваная прастора. Раптоўна тэза пра „братоў“, здавалася, пачала напаўняцца значэннем, а вайна сталася найбольш выразным з датулешніх выпрабаваннем „вечнае дружбы“. Савецкае бачанне гісторыі толькі пасля Вялікай Айчыннай вайны набыло ў БССР свае канчатковыя абрысы.

## 1.2. Гісторыкі ды інстытуцыі

Сталінізм, вайна і акупацыя прывялі навуку ў Беларусі амаль што да поўнага знікнення[9]. Калі ў 1940 г. ва „ўз'яднанай БССР“ усяго толькі 2200 асоб — гэта значыць, крыху болей за 1,15% — прафесійна займаліся навуковай працай, дык і ў 1955 г. адпаведны паказчык яшчэ не перавышаў 2,34%[10]. Больш значны прырост колькасці навуковых работнікаў адзначаецца толькі ў другой палове 50-х г.: у 1959 г. гэтая лічба складае 6000 асоб. Павялічылася таксама колькасць навукова-даследчых цэнтраў і інстытутаў БССР, з 51 у 1951 г. да 93 у 1959 г., а таксама агульная колькасць аспірантаў — са ста чалавек у 1945 г. да 587 у 1958 г.

[8] Weiner, Amir. The Making of a Dominant Myth: The Second World War and the Construction of Political Identities within the Soviet Polity // RR 55 (1996). С.638—660, у гэтым выпадку с.638.

[9] Пра падсавецкую гістарычную навуку параўн.: Барshenko А.С. Советская историческая наука в послевоенные годы, 1945—1955. Москва, 1988. Пра беларускую гістарыяграфію з новымі акцэнтамі гл.: Храпко Л.П. Развитие исторической науки в БССР (1945 — конец 1950-х годов). Дисс. канд. ист. наук. Ин-т истории АН БССР. Мінск, 1989 (неапубл. рукапіс).

[10] Яшчэ больш лічбаў можна знайсці ў: Структура советской интеллигенции (по материалам БССР). Мінск, 1970. С.74 і наст.

У Акадэміі навук у той самы перыяд часу (1945—1958) былі абароненыя 22 доктарскія і 390 кандыдацкіх дысертацыяў. У 16 НДІ АН БССР напрыканцы 50-х г. працавалі 2000 навукоўцаў — г.зн., у пяць разоў больш, чым гэта было ў 1945 г.

У канцы 40-х г. — тут падаюцца лічбы паводле стану на 1948 г. — паказчыкі прыросту, вядома, былі яшчэ невялікія. У кожным разе, праз тры гады пасля заканчэння вайны ўжо аднавілі сваю працу 30 навуковых установаў, з якіх 14 уваходзілі ў склад Акадэміі. У той час тут працавала 318 навуковых супрацоўнікаў; было 27 акадэмікаў і 26 членаў-карэспандэнтаў АН БССР. Дзяржаўны універсітэт у Мінску быў толькі адной з 26 установаў, дзе можна было атрымаць вышэйшую адукацыю. Усяго разам там вучылася 13 000 студэнтаў. Пры дзевяці ВНУ працавалі аспірантуры[11]. Менавіта найперш у 50-х г. названыя лічбы зазналі значны прырост. Пераадоленне наступстваў вайны было таксама перадумовай таго, што ў перыяд з 1950 да 1958 г. толькі ў дзяржаўным выдавецтве АН БССР здолелі выйсці з друку 792 назвы кніг і брашур. З 1945 да 1958 г. у тры разы павялічылася таксама колькасць бібліятэк. У 1958 г. былі выдадзеныя агулам 10,4 млн. кніг, што ў 27,5 раза перавышала адпаведны паказчык пасляваеннага 1946 г.[12].

Ужо на пачатку ваеннага часу падсавецкія гісторыкі — у бальшыні выпадкаў разам са сваімі эвакуяванымі ў тыл інстытутамі — у роўнай меры займаліся навуковай апрацоўкай і праясненнем падзеяў. У рэспубліках іншай арыентацыі (Ausweichrepubliken) прафесійная гістарычная навука ў выніку пераняcення сюды працы маскоўскіх і ленінградскіх інстытутаў у пэўным сэнсе выйграла. Найбольш істотнымі вынікамі гэтага былі апрацаваныя да 1943 г. пад навуковым кіраўніцтвам маскоўскіх акадэмікаў шматтамовыя сінтэтычныя працы „История Казахской ССР“, „История УзССР“ ды „История Туркменскай ССР“ (напачатку ў выглядзе праекта). Актыўная прысутнасць у рэалізацыі гэтых праектаў сталічных гісторыкаў, аднак, прывяла таксама і да таго, што надалей інсты-

[11] Падрабязна пра аспірантуру ў падсавецкіх ВНУ параўн.: Храпко Л.П. Падрыхтоўка навуковых і навукова-педагагічных кадраў гісторыкаў Беларусі (1944—1960 г.) // Весці АН БССР (Серыя гуманіт. навук). 1987. № 6. С.59—66. У перыяд з 1945 да 1960 г. 75 гісторыкаў (толькі 55% ад агульнай колькасці тых, хто паступаў у аспірантуру) абаранілі дысертацыі, сярод якіх 19 было па гісторыі КПСС і КПБ, 50 па гісторыі СССР і БССР, пяць на тэмы ўсеагульнай гісторыі і адна па археалогіі. Агульная колькасць дысертацыяў, улучна з тымі, па якіх не былі абароненыя акадэмічныя ступені, складала 209. Разам з пяццю доктарскімі былі створаныя 204 кандыдацкія дысертацыі. З кандыдацкіх дысертацыйных даследаванняў 83 былі прысвечаныя гісторыі КПСС і КПБ, 95 — гісторыі СССР альбо БССР, 20 — усеагульнай гісторыі і па тры працы — адпаведна, археалогіі і этнаграфіі. Параўн.: Тамсама, с.63, 66. Агульны агляд развіцця навуковай інтэлігенцыі гл. у: Корзенко Г.В. Научная интеллигенция Беларуси в 1944—1990 г. (подготовка, рост, структура). Мінск, 1995. Патэнцыял Акадэміі рэзка павышаўся: у 1946 яна мела 440 навуковых супрацоўнікаў (40 дактароў навук, 80 кандыдатаў навук), у 1951 г. 980 навуковых супрацоўнікаў (55 д.н., 165 к.н.), у 1955 г. 4100 супрацоўнікаў (125 д.н., 1354 к.н.); параўн.: Нарысы гісторыі Беларусі. Т.2 (op. cit.). С.365.

[12] Параўн.: Культурное строительство в Белорусской ССР, 1946—1958 г. / Отв. ред. И.Е.Марченко. (Изд. АН БССР.) Мінск, 1979. С.93—95, 113—116, 123. Пра часопісы і газеты гл.: Тамсама, с.126 і наст.

туты ў Алматы альбо ў Ташкенце ў значнай меры трапілі пад палітычны кантроль. „Падтрымка" рэгіянальных інстытутаў і „дапамога" ім неслі не ў апошнюю чаргу з сабою пераспраўджванне тамтэйшых супрацоўнікаў з гледзішча іх навуковай кампетэнцыі, але, перадусім, іх палітычнай добранадзейнасці.

Падобныя праекты ў 1943—1944 г. былі прысвечаныя супольнай падрыхтоўцы гэткіх прац, як „История таджикского народа", „История Якутской АССР с древнейших времен до новейшего времени", а таксама нарыса „Очерки по истории Азербайджана". „Очерки по истории Башкирии", апрацаваныя яшчэ перад вайною, у 1945 г. на прапанову ЦК ВКП(б) былі накіраваныя на дапрацоўку з указаннем, што ў гэтай справе Башкірскаму НДІ „можа аказаць дапамогу" Інстытут гісторыі АН СССР.

Сілы ўкраінскай гістарыяграфіі пад час нямецкай акупацыі Украіны былі сканцэнтраваныя ў Уфе. Тут ужо ў 1943 г. выйшаў першы том запланаванага на чатыры тамы выдання „Історія України", у якой апісваліся падзеі ад пачаткаў да 1654 г.[13]. Да канца вайны былі падрыхтаваныя таксама другі і трэці тамы. Адначасова ў Уфе гісторыкі прадоўжылі працу над кнігай „Нариси по історії України", другі том якой быў гатовы ў 1944 г. Яшчэ ў 1943 г. выйшаў з друку аднатамовы навукова-папулярны „Нарыс гісторыі Украіны з найстаражытнейшых часоў да сучаснасці". Пасля вяртання ў вызваленую Украіну з шэрагаў супрацоўнікаў АН СССР рэкрутавалі дадатковы штаб, у якім былі рэпрэзентаваныя як высокапрафесійныя гісторыкі, Я.В.Тарле і Ў.І.Пічэта, гэтак і палітычная гвардыя падсавецкай гістарычнай навукі ў асобе Г.М.Панкратавай, Б.Д.Грэкава ды М.В.Нечкінай. Відавочна, партыя ў дачыненні да ўкраінскай навукі лічыла неабходным асаблівы падыход, праз які ў асяроддзі кіеўскіх гісторыкаў адначасова павінны былі фармавацца новыя веды і палітычная лаяльнасць[14].

Гэткім чынам, гістарычная навука ў рэспубліках была дваякім спосабам закранутая падзеямі вайны: з аднаго боку, самімі наступствамі вайны, з другога боку, удзелам у ёй гісторыкаў, эвакуяваных з датуль далёкіх Масквы і Ленінграда. Гэтае „апякунства" мусіла мець працяг і пасля 1945 г. Паводле словаў Г.М.Панкратавай, у гады вайны гісторыкі меліся адчуць сябе абавязанымі „даследаваць канкрэтныя гістарычныя варункі гістарычнага развіцця кожнага з братніх народаў нашае краіны, а перадусім іх узаемадачыненні і кантакты, што ўзніклі ў гістарычным працэсе". Тым самым, маўляў, можна даць абгрунтаванне таго, чаму Савецкі Саюз нават у найцяжэйшыя дні вайны паспяхова вытрымаў усе выпрабаванні лёсу[15].

У Беларусі з заканчэннем вайны мусіла адбыцца канчатковае вызначэнне гістарыяграфічных параметраў, а абсалютны прыярытэт у інтэрпрэтацыі гістарычных фактаў канчаткова стаў належаць партыі. Узнаўленне тэрытарыяльнай цэласнасці пад знакам пакта Гітлера — Сталіна і канчатковая перамога ў Вялікай Айчыннай вайне ўтваралі дамінанту новай падсавецка-беларускай версіі гісторыі.

[13] Історія України. Т.1. (Выд АН УССР). Уфа, 1943.

[14] Бурдей Г.Д. Историки и война, 1941—1945. Саратов, 1991. С.49 і наст., а таксама: Дьяченко В.А., Лось Ф.Е., Сарбей В.Г. Развитие исторической науки на Украине (1917—1963) // ВИ. 1964. № 1.

[15] Цытуецца паводле: Бурдей Г.Д. Историки и война... (op.cit.). С.48.

ствараліся найменш ідэалагізаваныя прыродазнаўчыя аддзелы. Толькі пасля XII партыйнага з'езду (1923 г.) названая акадэмія пашырыла свой профіль і пачала шырокамаштабна, пад кіраўніцтвам М.М.Пакроўскага, разбудоўваць сферу сацыяльна-гуманітарных навук. Кантактаванне „старога" і „новага" пакаленняў адбывалася праз Расійскую асацыяцыю навуковых інстытутаў грамадскіх навук (РАНИОН), што была ўтвораная на базе факультэта грамадскіх навук Маскоўскага універсітэта. РАНИОН напачатку зрабіў магчымым працягваць навуковую працу такім „буржуазным" гісторыкам дарэвалюцыйнага часу, як І.М.Грэўс, М.І.Карэеў, М.К.Лемке, Д.І.Петрушэўскі, А.Я.Праснякоў, А.І.Савін і Я.В.Тарле. У.І.Пічэта цягам усяго часу рэвалюцыі і грамадзянскай вайны спакойна працаваў у Маскве. Ці павінна была надалей існаваць патрэба ў прадстаўніках „буржуазнай навукі" — гэтае пытанне належала да стрыжнявых пры ажыццяўленні на першапачатковым этапе савецкай палітыкі ў дачыненні да навукі.

Падобнага профілю, як і РАНИОН, былі чатыры іншыя маскоўскія новазаснаваныя інстытуцыі: Інстытут Маркса—Энгельса (1919), Камуністычны універсітэт імя Я.М.Свярдлова (1919), Інстытут чырвонай прафесуры (ИКП — 1921) ды Інстытут імя У.І.Леніна (1923). Універсітэт імя Свярдлова адначасова ўтвараў ядро адукацыйных установаў партыі, якія меліся рыхтаваць кадраў дзеля ажыццяўлення задач апошняй. Да 1925 г. па ўсім Саюзе была створаная сетка з 14 камуністычных універсітэтаў, колькасць слухачоў у якіх складала больш за 7 000. У той самы час цэнтрамі прыродазнаўчых даследаванняў былі ў асноўным Акадэмія навук і навукова-даследчыя інстытуты, створаныя пры Найвышэйшай радзе народнай гаспадаркі (ВСНХ). Усе разам ідэалагічныя ўстановы, агульным дахам якіх неўзабаве зрабіўся РАНИОН, утварылі арганізацыйную рамку камуністычнага выхавання кадраў, хоць па-сапраўднаму праэкзаменаваныя і прафесійна падрыхтаваныя выпускнікі бальшыні тых інстытуцыяў хутчэй заставаліся ў меншасці. Гэтак, з агульнае колькасці 157 студэнтаў гістарычнай спецыялізацыі, што ў 1921—1927 г. наведвалі ИКП, ажно 47 атрымалі дыпломы гісторыкаў. Аднак з ліку „ікапістаў" рэкрутавалася эліта будучых пакаленняў падсавецкіх гісторыкаў. Гэтак, выпускнік ИКП П.В.Горын у першай палове 30-х г. займаўся індактрынацыяй гістарычнай навукі ў БССР[90].

Па-за персанальным складнікам і, пасля спынення выхаду немарксісцкіх гістарычных часопісаў „Дела и дни", „Русский исторический журнал" (да 1922 г.), „Голос минувшего" (да 1924), „Анналы" (да 1924) і „Былое" (да 1926), манапольна распаўсюджваныя па ўсім Савецкім Саюзе перыядычныя выданні маскоўскіх ідэалагічных інстытуцыяў клапаціліся пра пашырэнне ўплыву сваіх поглядаў на стратэгіі даследаванняў. „Пролетарская революция" („Истпарт"), „Ленинский сборник" (Інстытут імя Леніна), „Архив Карла Маркса и Фридриха Энгельса", „Летопись марксизма" (Інстытут Маркса—Энгельса), „Вестник Коммунистической Академии" (Камуністычная акадэмія) і, перадусім, „Историк-марксист" и „Борьба классов" (Таварыства гісторыкаў-марксістаў) сваімі артыкуламі буда-

[90] Пра „ИКП" параўн. новую працу: Behrendt, Lutz-Dieter. Die Institute der roten Professur. Kaderschmieder der sowjetischen Parteiintelligenz (1928—1938) // JBfGOE 45 (1997) 4. С.597—621.

лася ў адной са станцыяў Маскоўскага метро? Пачынаючы з кастрычніка 1943 г. да вяртання універсітэта ў Мінск і яго паўторнага адкрыцця 12 верасня 1944 г., метро было сякім-такім прыстанішчам для навукоўцаў з Мінска і часткі іх бібліятэк ды збораў. Шэсць факультэтаў — у тым ліку створаны ў 1934 г. гістфак — праводзілі свае заняткі ў маскоўскіх школьных ды універсітэцкіх будынках[18].

Супрацоўнікі вышэйзгаданага факультэта амаль без вынятку належалі да першай падсавецкай генерацыі гісторыкаў. Акрамя таго, пяць расійскіх супрацоўнікаў мелі тут толькі сваё другое месца працы. Гісторык з Маскоўскай Акадэміі навук Г.М.Панкратава, якая знаходзілася з 1942 г. у Алматы і займалася там „Гісторыяй Казахскай ССР", што пазней выклікала шмат спрэчак[19], была, відаць, толькі фармальна супрацоўніцай мінскага факультэта. Тым не менш, менавіта ёй, супольна з пазнейшымі ідэолагамі ЦК Ц.С.Гарбуновым ды У.Н.Малiным, яшчэ перад вайною была даручана распрацоўка неадназначнай тэмы „Гісторыя Кастрычніцкай рэвалюцыі ў Беларусі"[20]. Да тых, хто разам з Панкратавай таксама чытаў лекцыі ў БДУ, належалі прафесары Пічэта, Кун, Савіч.

| Кафедра | Прозвішча, ініц. | Пасада | Акадэм. ступень/зв. | У БДУ | Партыйн. | Нацыянальнасць |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Гісторыі Беларусі | *Ц.С.Гарбуноў* | заг. кафедры | надзв. праф. | 1943 | парт. | беларус |
| | *Д.А.Дудкоў* | дацэнт | канд. навук | 1936 | парт. | беларус |
| Гісторыі народаў СССР | *Г.М.Панкратава* | заг. кафедры | акадэмік | | | рас. |
| | *А.П.П'янкоў* | дацэнт | канд. навук | | | рас. |
| | *А.І.Воранава* | дацэнт | дацэнт | 1943 | парт. | белар. |
| Гісторыі старажытн. свету | *М.М.Нікольскі* | заг. кафедры | акадэмік | 1921 | б/п | рас. |
| | *В.І.Шаўчэнка* | дацэнт | дацэнт | 1937 | б/п | украінец |
| Гісторыі Сярэднявечча | *У.М.Перцаў* | заг. кафедры | акадэмік | 1921 | б/п | рас. |
| | вакансія | — | — | — | — | — |
| Гісторыі Новага часу | *Л.М.Шнеерсон* | заг.кафедры | дацэнт | 1937 | парт. | габрэй |
| | вакансія | — | — | — | — | — |

**Табл.23: Супрацоўнікі гістарычнага факультэта БДУ (1943/44 навуч. год)[21]**

Як відаць з табл.23, толькі трое сярод адзінаццаці навуковых супрацоўнікаў гістфака былі беларусамі паводле нацыянальнасці; сярод іх — узведзены ў 1943 г. да вышэйшых навуковых рангаў партыйны прапагандыст Гарбуноў, якому, сярод іншых, было наканавана да 1969 г. вызначаць шляхі развіцця гісторыяпі-

[18] Параўн.: Кожушков А.И., Яновский О.А. Белорусский университет: Хроника событий (1919—1989). Мінск, 1990. С.35 і наст., а таксама: Менькоўскі В.І. Гістарычнаму факультэту — 60 год // Веснік БДУ. 1994. Вып.3. С.4; Савачкін П.З. Развіццё навукі на гістарычным факультэце Беларускага Дзяржаўнага Універсітэта // Веснік БДУ. Серыя III. 1969. Вып.1. С.25—30.

[19] Параўн.выступ Г.М.Панкратавай у дыскусіі па гісторыі Казахстана ў: Стенограмма совещания, 1.06.1944 // ВИ. 1996. № 2. С.73.

[20] НАРБ, ф.4, воп.3, спр.1177, арк.13: „Пра падрыхтоўку манаграфіі «История Великой Октябрьской социалистической революции в Белоруссии" (18.04.1941).

[21] НАРБ, ф.4, воп.47, спр.5, арк.49—53, 64, 108, 167—174. Тут, як у дакуменце, прозвішчы падаюцца ў расійскай транскрыпцыі.

сання ў рэспубліцы і кантраляваць кадравую палітыку ва універсітэце ды Акадэміі навук. Хоць у першых ваенных гадах не больш за палову навуковых супрацоўнікаў факультэта належала да шэрагаў партыі, гэта ўсё–такі — калі параўноўваць са знікомай колькасцю партыйцаў у 20–я г. — якраз „палітычны паварот“.

Праз год пасля вызвалення беларускіх тэрыторыяў ад ваенна–акупацыйнага рэжыму было выразна зафіксаванае рэзкае зніжэнне колькасці членаў партыі ў БССР — з 47 184 у 1941 г. да 19 787 у 1945 г. Шматлікія камуністы сталіся ахвярамі пераследу; уступленне ў партыю ў гэтыя чатыры гады было рэдкай з'явай. Студэнцкі склад БДУ і цяпер заставаўся выразна апалітычным. Тое, што ў маштабах універсітэта з яго моцным сектарам прыродазнаўчых навук не было асабліва дзіўным, у дачыненні да падросту гісторыкаў, аднак, настройвала партыйна–навуковых функцыянераў на скептычны лад. Як відаць з табл.24, у 1945 г. толькі 57% будучых ідэалагічных працаўнікоў–гісторыкаў знайшлі дарогу ў партыю альбо камсамол. Гэта складала ўсяго толькі на 13% болей за адпаведны сярэдні паказчык колькасці членаў, кандыдатаў у члены партыі ды камсамольцаў на ўзроўні універсітэта, які складаў 44%.

| | разам | муж. | жан. | парт. | камс. | б/п. | белар. | рас. | укр. | габр. | інш. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| г.ф. | 106 | 18 | 88 | 10 | 51 | 45 | 55 | 30 | 1 | 19 | (1) |
| % | 100 | 16,9 | 83,1 | 9,4 | 48,1 | 42,4 | 51,8 | 28,3 | 0,9 | 17,9 | 0,9 |
| БДУ | 732 | 59 | 673 | 35 | 285 | 412 | 413 | 144 | 8 | 160 | 7 |
| % | 100 | 8,1 | 91,9 | 4,8 | 39,1 | 56,1 | 56,2 | 20,1 | 1,0 | 21,8 | 0,9 |

**Табл.24: Агульная колькасць студэнтаў БДУ і гістарычнага факультэта (1945 г.)[22]**

Пры гэтым на палітычныя погляды студэнтаў, здаецца, павінна была б натхняльна паўплываць ваенная біяграфія гісторыка — даследчыка старажытнасці і этнографа, дырэктара ІГ АН БССР (з 1937 г.) і акадэміка (з 1931 г.) М.М.Нікольскага. Ён удзельнічаў у вайне як партызан і паліткамісар і, тым не менш, напрыканцы вайны завяршыў манаграфію па гісторыі Фінікіі. Прапанова супрацоўнічаць з нямецкімі акупантамі была Нікольскім адхіленая; у той самы час ён пачаў шукаць кантактаў з групай партызан–падпольшчыкаў „Сяргей Лазо“. Будучы важным сувязным паміж падпольшчыкамі і маскоўскім кіраўніцтвам, Нікольскі, які заставаўся ў Мінску, перадаваў інфармацыю першачарговага значэння. Менавіта ён перапраявіў савецкаму кіраўніцтву копію сакрэтнага распараджэння гаўляйтара Вільгельма Кубэ, у якім ад мінскага гарнізона патрабавалася ўзяць удзел у падрыхтоўцы шырокамаштабнага летняга наступлення ў раёне Курска. Пра запланаваны візіт Альфрэда Розэнбэрга ў Мінск савецкі цэнтр таксама даведаўся праз свайго „інфарматара“ Нікольскага.

Калі небяспека знаходжання ў акупаваным горадзе для Нікольскага ўзрасла, ён стаў з'яўляцца ў партызанскіх апорных пунктах рэгіёну і вельмі хутка пад мянушкай „бацечкі прафесара“ заваяваў велізарны аўтарытэт, які, вядома, услаўлены ў ягоных уласных успамінах, у сведчаннях, пакінутых партызанамі, у працах падсавецкіх гісторыкаў. У прамове, з якою Нікольскі выступіў з нагоды свят-

[22] НАРБ, ф.4, воп.47, спр.116, арк.231—232 (1945 г.).

кавання Новага года ў адной з „утульных і цёплых" зямлянак, зазначалася вялікая роля савецкага партызанскага руху. Пры гэтым асаблівую ўвагу ён аддаў Беларусі. Паводле Нікольскага, пасля вайны „вялікія баявыя традыцыі партызанскай рэспублікі" меліся захоўвацца гэтаксама, як зямлянкі ды бліндажы: „Я хацеў бы, каб, як мінімум, найважнейшыя з іх былі зробленыя запаведнікамі ды народнымі святынямі, найдаражэйшымі для савецкага чалавека помнікамі Вялікай Айчыннай вайны"[23]. Калі 8 сакавіка 1944 г. Нікольскі вылецеў з партызанскае зоны ў Маскву, ён павёз з сабою дзве значныя навуковыя працы, перапробленыя і скончаныя ім у акупаваным Мінску. Абедзве неўзабаве апублікаваныя штудыі, „Прыватнае землеўладанне і землекарыстанне ў Старажытным Двухрэччы" і „Эцюды па гісторыі фінікійскіх грамадавых і земляробчых культаў", у адпаведных уступных частках утрымоўвалі выказванні найглыбейшай падзякі беларускім партызанскім злучэнням, без дапамогі якіх, аказанай яму і ягонай сям'і, названыя працы не маглі б быць напісаныя.

Нават Пічэта ў 1946 г. павінен быў яшчэ знайсці сваю дарогу ў партыю. Яму, адзінаму з прэзентаванай вышэй групы гісторыкаў, з арыштам у 1929 г. шлях да інстытуцыянальнае повязі з беларускімі гісторыкамі быў адрэзаны. Пасля свайго вяртання з высылкі ў Маскву (1935 г.) ён атрымаў заснаваную ў 1939 г. кафедру гісторыі паўднёвых і заходніх славян Маскоўскага дзяржуніверсітэта і займаў пасаду загадчыка гэтай кафедры аж да сваёй смерці ў 1947 г. Гэтая пасада, дарэчы, дазволіла „буржуазнаму прафесару" таксама заснаваць сектар славяназнаўства пры Інстытуце гісторыі АН СССР. Вайна мусіла стаць паваротным пунктам у свядомасці датуль палітычна не заангажаванага Пічэты. Эвакуацыя акадэмічных інстытутаў у 1941 г. прывяла яго ва ўзбецкі Ташкент, дзе ён, член-карэспандэнт АН СССР, браў удзел у рэалізацыі шматлікіх манаграфічных праектаў. Пры гэтым асаблівы інтарэс Пічэты датычыў гісторыі Польшчы, Балгарыі і Сербіі. Для „Гісторыі Ўзбекістана" ён напісаў раздзел „Гаспадарчыя і палітычныя перадумовы заваявання Сярэдняй Азіі".

Акрамя таго, „заслужаны работнік навукі Ўзбецкай ССР" выступаў са шматлікімі лекцыямі, у т.л. на тэмы: „Да пытання пра культурніцкі рух у Беларусі ў XVI стагоддзі", „Багдан Хмяльніцкі як дыпламат, ваявода і палітык" альбо „Кастрычніцкая рэвалюцыя на Ўкраіне"[24]. На гістарычна-філасофскай секцыі Ташкенцкай акадэміі Пічэта выступаў на тэму „Барацьба беларускага народа за свабоду". Катэгорыя вызваленчай вайны, якая, маўляў, пачалася не ў 1941, а ў 1939 г., павінна была таксама зрабіцца вызначальнай інтэрпрэтацыйнай мадэллю беларускай гістарыяграфіі. Пічэта, які ў свой ташкенцкі перыяд, акрамя таго, кіраваў працай

[23] Параўн.: Ефимов С. Профессор-партизан // Советская Белоруссия, 13.04.1966. С.2, а таксама высновы ў працы: Бурдей Г.Д. Историки и война... (op. cit.). С.134—138, у гэтым выпадку с.136. Пра біяграфію Нікольскага з савецкага гледзішча параўн., акрамя таго: Ботвинник М. Н.М.Никольский. Мінск, 1967, а таксама: Нечай Ф.М. Николай Михайлович Никольский — выдающийся ученый, пламенный советский патриот // Вопросы истории древнего мира и средних веков. Мінск, 1977. С.5 і наст.

[24] Параўн. звесткі, пададзеныя Пічэтам у анкеце за 31.01.1944 г., якую запаўнялі ўсе акадэмікі і члены-карэспандэнты АН СССР: перадрукавана ў: Бурдей Г.Д. Историки и война... (op. cit.). С.247 і наст. Вынікі анкетавання захоўваюцца ў архіве Акадэміі навук Расійскай Федэрацыі: ф.457, оп.1а—43, ед. хранения 10,11.

чатырох аспірантаў, атрымаў найважнейшыя палітычныя імпульсы пад час сваіх „палявых лекцыяў“, чытаных перад салдатамі розных вайсковых злучэнняў. Перад тым як Пічэта вярнуўся ў Маскву, Сярэднеазіяцкая вайсковая акруга за праведзеную асветніцкую працу ў войсках узнагародзіла яго ганаровай граматай. 8 жніўня 1943 г. ён натхнёна пісаў сваёй акадэмічнай вучаніцы І.М.Бяляўскай:

> „Я кажу Вам адкрыта, што адчуваю такую радасць пры сустрэчах з чырвонаармейцамі, якую, мажліва, адчувае маці, калі яе дзеці пасля доўгай адсутнасці вяртаюцца дадому. Мне робіць задавальнение, калі я бачу, што нечым быў карысны нашым ваярам“[25].

У парыве патрыятычнага натхнення з прычыны выйгранай вайны, адчуваючы ўзмацненне палітычнага ціску напярэдадні выбараў яго на сапраўднага члена Акадэміі навук СССР, у 1946 г., за год да сваёй смерці, Пічэта яшчэ наважыўся ўступіць у партыю. У адрозненне ад Тарле, які з часоў выхаду ягонага „Напалеона“ займеў крытычную прыхільнасць Сталіна, для Пічэты названы крок, відавочна, быў непазбежны. Пасля выхаду з высылкі Пічэта, ужо з Масквы, узнавіў навуковыя повязі з Менскам. Пад яго кіраўніцтвам на пачатку 40-х г. павінна была выйсці першая марксісцкая сінтэтычная праца па беларускай гісторыі. Выдадзены першы том быў знішчаны ў час нападу нямецкіх войскаў[26]. І пад час вайны ягоная праца трывала знаходзіла сваё месца ў планах Інстытута гісторыі Акадэміі навук. Гэтак, у 1944 і 1945 г. ён удзельнічаў у апрацаванні „Кароткай гісторыі БССР з найстаражытнейшых часоў да нашага часу“ і кіраваў аўтарскім калектывам, да якога належалі гісторыкі Бачкароў, Панкратава, Шакун і Лозава. Толькі ў 1946 г., незадоўга да яго смерці, яго імя знікла з рабочых планаў Інстытута гісторыі. Значных вынікаў яго праца ўжо не дала[27].

Калі ў Маскве Пічэта вярнуў сабе ранейшыя ўшанаванні ды павагу, дык у Мінску ён заставаўся спрэчнай фігурай. Яшчэ ў 1945 г. спасылкі на яго маглі выклікаць праблемы. Гэтак, Ц.Ломцеў, кіраўнік партыйных школаў, у звароце на імя першага сакратара ЦК КП(б)Б П.К.Панамарэнкі (займаў гэтую пасаду ў 1938—1947 г.) выказваў сваю незадаволенасць з тае прычыны, што рэктар БДУ

[25] Цытуецца паводле: Мельцер Д.Б. Академик Владимир Иванович Пичета // Владимир Иванович Пичета. Библиографический указатель (изд. Фундаментальной библиотеки БГУ). Мінск, 1978. С.16 і наст.

[26] Увесь наклад загінуў. Параўн.: Пичета В.И. История Белоруссии в советской историографии // Двадцать пять лет исторической навуки в СССР / Под ред. В.П.Волгина, Е.В.Тарле, А.М.Панкратовой (изд. ИИАН СССР). Москва—Ленинград, 1942. С.179—188, у гэтым выпадку с.180.

[27] Пасмяротна ў 1961 г. была апублікаваная праца Пічэты „Культура Беларусі ў XVI стагоддзі“. Хоць дата напісання працы не ўказаная, яна, відавочна, належыць да перыяду пасля 1935 г. і магла б разглядацца як незавершаная частка вялікай працы, якая была заяўленая ў тэматычным плане працы АН БССР пад назвай „Гісторыя беларускай культуры ў XVI і XVII стагоддзях“, а ў 1947 г. была згаданая як „не распрацаваная“, у кожным разе, аднак, не апублікаваная. Упершыню надрукавана як: Пичета В.И. Культура Белоруссии в XVI в. // *Яго ж.* Белоруссия и Литва XV—XVI вв. Исследования по истории социально-экономического, политического и культурного развития. Москва, 1961. С.633—714.

П.П.Савіцкі, маўляў, станоўча адзначаў Пічэту „як заснавальніка і першага рэктара універсітэта і акадэміка АН БССР", дзякуючы якому быў даследаваны „шэраг найважнейшых пытанняў гісторыі Беларусі — перадусім эканамічнага і палітычнага змагання беларускага народа супраць нямецкіх і польскіх акупантаў, якое вялося ў хаўрусе і з дапамогаю братняга расійскага народа". У звязку з ацэнкай навукова-гістарычнай працы Савіцкі, маўляў, у пазітыўным плане гаварыў пра „школу Пічэты". Між тым, Ломцеў лічыў гэтыя характарыстыкі з боку Савіцкага аддаленымі ад сапраўднасці:

> „Пічэта цягам усяго свайго жыцця разглядаў гісторыю Беларусі як адлюстраванне заходнееўрапейскае гісторыі, а Беларусь — як аддаленую правінцыю Заходняй Еўропы. Акрамя таго, Пічэта ніколі не распрацоўваў тэму барацьбы беларускага народа супраць іншаземных прыгнятальнікаў"[28].

Паколькі, аднак, Савіцкі нібыта адмаўляўся перагледзець свае погляды наконт Пічэты, Ломцеў нават запатрабаваў адхілення Савіцкага ад пасады рэктара універсітэта: акрамя ўсяго іншага, той меўся быць звязаным з „сумнеўнымі кадрамі ва універсітэце" і нібыта ў сваіх паведамленнях няўхвальна гаварыў пра маладых савецкіх навукоўцаў.

На гістарычным факультэце ў сярэдзіне 40-х г. суіснавалі розныя пакаленні гісторыкаў, хоць — як пра гэта сведчыць прыклад Пічэты — ніякіх значных сіл супрацьдзеяння галоўнай плыні ідэалагізаванай інтэрпрэтацыі гісторыі не было. Да кола маладых супрацоўнікаў гістфака належаў і адданы партыі Л.С.Абэцэдарскі, які меўся ў значнай ступені спрыяць захаванню вернасці генеральнай лініі беларускай падсавецкай гістарыяграфіі ў 50—70-х г. і, у якасці аўтара, рэдактара альбо суаўтара, адказваць за змест падручнікаў па гісторыі БССР для сярэдніх школ. На кар'ерны ўзлёт студэнта БДУ Абэцэдарскага істотным чынам паўплывала не толькі яго членства ў партыі [членам ВКП(б) ён стаў у 1944 г. — *Заўвага перакладчыка*], але і падрыхтаваная ім на другім курсе (трэці—чацвёрты семестры) курсавая праца на тэму „Абарона Мазыра. Эпізод з барацьбы беларускага народа супраць польскіх паноў у 1648 г.", з дакладам паводле якой ён выступіў на факультэце і артыкул паводле якой ён апублікаваў у „Советской Белоруссии"[29]. Гэта быў час змены генерацыяў. Жыццёвыя шляхі апошніх „буржуазных спецыялістаў" у другой палове 40-х — пачатку 50-х г. дайшлі да свайго канца. У дачыненні да асобных „прадстаўнікоў дарэвалюцыйнай гістарыяграфіі" — гэткіх, як Грэкаў, Пічэта альбо С.У.Бахрушын — была засведчаная іх здольнасць да пераменаў у сэнсе марксісцкага гісторыяпісання; пра іх „лепшыя працы" нават гаварылася, што „шмат якія з маладых таварышаў" з іх могуць „яшчэ сяму-таму павучыцца"[30].

[28] НАРБ, ф.4, воп.47, спр.12, арк.165—168: „Допіс старшыні беларускіх партыйных школ Ц.Ломцева сакратару ЦК КП(б)Б П.К.Панамарэнку: «Адносна працы рэктара БДУ П.П.Савіцкага (1945)»", у гэтым выпадку арк.166.

[29] Параўн.: научная работа на историческом факультете Белорусского университета // ИМ. 1939. № 2(72). С.199—200.

[30] Гэтак выказваўся пэўны Сідараў, гл.: Стенограмма совещання за 5.06.1944 // ВИ. 1996. № 3. С.82—91, у гэтым выпадку с.87.

Калі абагульніць сказанае пра гістарычны факультэт БДУ, можна зрабіць выснову, што ў распараджэнні беларускай гістарыяграфіі зноў, яшчэ да пачатку 50-х г., знаходзілася ўстанова, якая паводле кадравага складу і колькасці публікацыяў у савецкіх межах магла не саромецца канкураваць з іншымі. У кожным разе, у 1956 г. мінскі гістфак — а, адпаведна, і сам БДУ — паводле колькасці студэнтаў, што вывучалі гісторыю (311), знаходзіўся на пятым месцы пасля адпаведных факультэтаў Маскоўскага (1117), Тбіліскага (570), Ленінградскага (523) і Ташкенцкага (441) універсітэтаў[31]. Заснаваная ў 1946 г. аспірантура ад таго часу забяспечвала універсітэт і ў цэлым цэх вучоных-гісторыкаў маладым падростам навукоўцаў па спецыяльнасцях „усеагульная гісторыя“, „гісторыя СССР і БССР“, а таксама па дысцыпліне „марксізм-ленінізм“. Палітычны клімат — з прычыны парытэту паміж колькасцю членаў партыі і колькасцю беспартыйных — відаць, быў дастаткова стабільны. У той час пад адным дахам яшчэ супрацоўнічалі, з аднаго боку, гісторыкі, хутчэй далёкія ад палітыкі, з другога боку, маладыя энтузіясты новай падсавецкай гістарыяграфіі.

Толькі ў пасляваенныя гады гістарычная навука ў Маскве, Мінску і Кіеве пачала больш інтэнсіўна займацца савецкай гісторыяй пасля 1917 г. Багатае адначасна на ахвяры і перамогі заканчэнне Другой сусветнай вайны дазволіла падсавецкай гісторыі выявіць сябе ў святле „правільнага шляху“ і стварыла нагоду для рэканструявання працэсаў гэтага часу і ўзнікнення магчымасці для нашчадкаў перажыць тое, што падавалася як калектыўны ўспамін. Публічна сфармуляваныя ў 1949 г. намеры адносна пераўтварэння існуючых і заснавання новых навукова-даследчых цэнтраў дзеля вывучэння гісторыі падсавецкага грамадства і дзеля падрыхтоўкі новых навуковых кадраў у гэтай галіне даследаванняў былі скіраваныя ў той самы бок. Ускладняла сітуацыю тое, што інстытуцыі й асобы, якім павінна была даручацца праца па тлумачэнні падсавецкай гісторыі, мусілі мець адпаведную палітычную „кваліфікацыю“. Па-ранейшаму меліся цяжкасці ў рэкрутаванні здольных навуковых кадраў. Разам з тым, поспех гэтай справы апраўдваў узмоцненую падтрымку падросту новых гісторыкаў, якая цяпер пачыналася. Да 1951 г. ва ўсім Савецкім Саюзе было напісана і пададзена да абароны 899 дысертацыяў па гістарычнай тэматыцы, з іх 702 былі прысвечаныя падсавецкаму перыяду. Пры гэтым звяртала на сябе ўвагу не толькі тэматычная шырыня дыяпазону даследаванняў, але і той факт, што гісторыкі ўсё часцей адыходзілі ад канцэпцыі „Кароткага курса“, хоць гэтыя адхіленні напачатку абмяжоўваліся толькі прапановамі новай перыядызацыі падсавецкай гісторыі[32]. Сярод супольнасці акадэмічных гісторыкаў у Беларусі з пачаткам палітычнае адлігі таксама мусіў назірацца рост прафесіяналізму.

### 1.2.2. Інстытут гісторыі Акадэміі навук

Гісторыя гістарычнай навукі ваеннага і пасляваеннага часу ў мінскай Акадэміі навук была не толькі гісторыяй стратаў навуковых кадраў ды матэрыяльных

[31] Звесткі падаюцца паводле: Культурное строительство СССР. Москва, 1956. С.218—229.
[32] Баршенко А.С. Советская историческая наука в послевоенные годы... (op. cit.). С.41, 65, 110 і наст.

рэсурсаў. Рэзкае змяншэнне колькасці публікацыяў і агульны псіхічны стан інтэлігенцыі таксама сведчылі пра крызісную сітуацыю[33]. З прыкметна больш, чым раней, адкрытага справаздачнага даклада ІГ АН БССР за 1944—1947 г. вынікала, што толькі невялікі працэнт запланаваных дасьледніцкіх і кніжных праектаў, насамрэч, быў ажыццёўлены альбо хоць бы распачаты. Усе амаль без вынятку супрацоўнікі Інстытута ў 1947 г. былі паддадзеныя крытыцы вышэйшых органаў альбо сталі аб'ектам скаргаў з боку „калектыву". Гэты кантроль прыводзіў да выразнай палітызацыі і росту недаверу ў асяроддзі супрацоўнікаў Інстытута гісторыі. Пры гэтым, вядома, істотную ролю адыгрываў той чыннік, ці пэўны супрацоўнік быў прысланы з адной з буйных маскоўскіх установаў сюды на працу, альбо ён паходзіў з беларускае правінцыі. З гледзішча нацыянальнага складу Інстытута габрэі й расійцы складалі палову ад агульнага складу супрацоўнікаў (астатнія былі беларусы).

| Прозвішча, ініцыялы | Пасада | Акадэмічная ступень/званне | Нацыянальнасць | Партыйнасць |
|---|---|---|---|---|
| *Нікольскі М.М.* | Дырэктар | доктар н. | рас. | партыйн. |
| *Каменская Н.В* | нам. дырэктара | канд. н. | беларуска | партыйн. |
| *Тарасенка В.Р.* | ст. н. с. | дацэнт | рас. | партыйн. |
| *Шабуня К.І.* | в.а. ст. н. с. | не мае | беларус | партыйн. |
| *Шлосберг Е.П.* | ст. н. с. | канд. н. | габрэй | партыйн. |
| *Дудкоў Д.А.* | ст. н. с. | канд. н. | беларус | б/п |
| *Лук'янаў Е.П.* | вуч. сакратар | не мае | беларус | партыйн. |
| *Палікарповіч К.М.* | ст. н. с. | канд. н. | беларус | б/п |
| *Нячай Ф.М.* | ст. н. с. | канд. н. | беларус | партыйн. |
| *Альтшулер Л.Г.* | мал. н. с. | не мае | габрэй | чл.камсамола |
| *Казлоў А.І.* | мал. н. с. | не мае | беларус | партыйн. |
| *Даўгяла І.Ю.* | мал. н. с. | не мае | беларус | б/п |
| *Гардзеева А.В.* | мал. н. с. | не мае | рас. | б/п |
| *Шакун А.А.* | ст. н. с. | канд. н. | рас. | партыйн. |
| *Нікольская Р.А.* | ст. н. с. | канд. н. | габрэйка | б/п |
| *Поташ М.А.* | в.а. ст. н. с. | не мае | габрэй | б/п |

**Табл.25: Супрацоўнікі Інстытута гісторыі АН БССР (1947 г.)[34]**

[33] Агульны агляд сітуацыі з кадрамі і публікацыямі ў АН БССР у 1941—1955 г. прапануюць з розных пунктаў погляду: Niamiha, N. The Academy of Sciences of the BSSR // BR 7(1959). С.126—143 і: Академия наук БССР. Мінск: АН БССР, 1979. С.47—77.

[34] НАРБ, ф.4, воп.47, спр.148, арк.157—173, у гэтым выпадку арк.173: „Материал комиссии ЦК КП(б)Б по ознакомлению с состоянием работы Иистнтута нстории Академни навук БССР (7—19.10.1947 г.). Расійская транскрыпцыя прозвішчаў і ініцыялаў падаецца як у дакуменце. З выняткам Ф.М.Нячая і А.А.Шакуна, якія працавалі „па сумяшчальніцтве", усе супрацоўнікі лічыліся „асноўнымі". Гэта датычыла таксама колішняй супрацоўніцы (дацэнта) БДУ А.І.Воранавай, прозвішча якой адсутнічала ў спісе, але згадвалася ў справаздачы Інстытута. [Скарот „ст. н. с." значыць „старэйшы навуковы супрацоўнік", „мал. н. с." — „малодшы навуковы супрацоўнік". — *Заўвага перакладчыка*].

зрабіў ім закід у тым, што яны імкнуцца распрацаваць „марксізм для непісьменных“. Паводле Сталіна, дзеля прапаганды савецкага патрыятызму як новай дактрыны зместу, у „Гісторыі СССР“, за якую адказвала група гісторыкаў (Ванаг, Грэкаў, Панкратава і Піянткоўскі), адсутнічае гісторыя нерасійскіх народнасцяў ды іх нацыянальна-вызваленчых рухаў:

> „Нам патрэбны падручнік гісторыі СССР, у якім бы не аддзяляліся, па-першае, гісторыя Вялікарасіі ад гісторыі іншых народаў СССР, па-другое, гісторыя народаў СССР ад агульнаеўрапейскай і сусветнай гісторыі“[106].

Побач з іншымі вострымі заўвагамі, гэта, здаецца, было галоўнай задачай Сталіна. Паводле ягоных заўваг, Кастрычніцкая рэвалюцыя мусіць быць пададзена мацней — як „вызвольны ўдар па нацыянальным царскім прыгнёце“, „агульнаеўрапейскі палітычны крызіс напярэдадні Першай сусветнай вайны“ — як „выяўленне заняпаду буржуазнай дэмакратыі і парламентарызму“, „сусветна-гістарычнае значэнне Саветаў“ — як тое, што яны ёсць „носьбітамі пралетарскай дэмакратыі і органы вызвалення рабочых і сялян ад капіталізму“. Карацей кажучы, падручнік мусіў быць грунтоўна перапрацаваны — пад наглядам камісіі, у якую меліся быць уключаныя, разам са старшынём Жданавым, і гэткія партыйныя тэарэтыкі, як Бухарын, і гэткія гісторыкі, як Лукін.

Пошукі тлумачэнняў датычна змены курсу ў гістарычнай навуцы ў 1934 г. стварылі нагоду для рознага кшталту спекуляцыяў, у якіх Клаўс Менэрт, відаць, зайшоў найдалей. Паводле яго перакананння, перамога нацыстаў у Нямеччыне выклікала ў савецкага кіраўніцтва доўгатэрміновы шок. Маўляў, гітлераўскі нацыяналізм, відавочна, выявіў сябе куды больш прывабным для масаў, чым тэльманаўскі інтэрнацыяналізм, разам з ягонай інтэрнацыяналісцкай рыторыкай. Маладому Савецкаму Саюзу было неабходна — калі ён не хацеў „сур’ёзна апынуцца аўтсайдэрам у барацьбе сусветных ідэалогіяў“ — па-новаму асэнсаваць нацыянальную ідэю. Таму стрыжнявым паняццем для гістарычнай канцэпцыі сталінізму пасля 1934 г. мусіў таксама стаць „савецкі патрыятызм“. Пасля выхаду з берагоў нацыянальных амбіцыяў нерасійскіх народаў у фарватэры моўнай і культурніцкай палітыкі 20-х г. гэтае паняцце выглядала ідэальным эрзацам, які ўбіраў у сябе і адначасова паралізаваў нацыянальныя памкненні.

Да гэтага дадалася тая акалічнасць, што ў чэрвені 1934 г. упершыню ў афіцыйным дакуменце — „Законе аб здрадзе Радзіме“ — зноў усплыло слова „родина“, якое перад тым доўгі час не мела права на ўжыванне. Спалучэнню паняццяў „савецкі патрыятызм“ і „радзіма“ было цяжка што-небудзь проціпаставіць, бо яно было звернутае да ўсіх народнасцяў, што належалі да „Савецкай радзімы“. Паказальнае вызваленне эскадрылляй лётчыкаў экіпажа „Чалюскіна“ з крыгі-айсберга ў паўночным моры і шырокамаштабнае шоў-святкаванне гэ-

[106] Замечания по поводу конспекта учебника по „Истории СССР“, подпісы: І.Сталін, А.Жданаў, С.Кіраў). Спачатку было апублікавана разам з іншымі дакументамі ў: На фронте исторической науки в Совнаркоме Союза ССР и ЦК ВКП(б) // ИМ. 1936. №1(53). С.3—8, у гэтым выпадку с.5 і наст. Перад тым апублікавана ў: Правда, 27.01.1936. С.1 і наст. Англійскі пераклад у: Pundeff, Martin (рэд.). History in the U.S.S.R... (op. cit.). С.100—105.

ацэненая здавальняльна. Цяпер усе намаганні навуковых супрацоўнікаў скіраваныя на падрыхтоўку шостае часткі, якая, згодна з планам, мае быць завершаная да 15 кастрычніка 1947 г. Трэба зазначыць, што існуе пагроза таго, што нават публікацыя шостай часткі аднатамовіка можа не адбыцца, бо яшчэ не напісаны раздзел «БССР у часе барацьбы за індустрыялізацыю і калектывізацыю краіны»"[36].

Па-за першым выпускам (адной часткай тома) у межах гэтага першага буйнога праекта беларускай гістарыяграфіі не было надрукавана ніводнага радка. Хоць мала што не ўсе мінскія гісторыкі з Акадэміі навук і БДУ былі прыцягнутыя да гэтай працы ў якасці аўтараў альбо рэдактараў, а Н.В.Каменская нават назвала ў 1947 г. распрацоўку навуковай, марксісцка-ленінскай гісторыі Беларусі „святым абавязкам навукоўцаў-гісторыкаў БССР", адзначаючы „вялікае навуковае і палітычнае значэнне іх працы", — нічога прыдатнага для ўжытку з таго не атрымалася[37]. Ад самага пачатку гэты калектыўны праект з удзелам шматлікіх аўтараў быў асуджаны на няўдачу, паколькі, разам з неспрыяльнымі варункамі працы ў амаль цалкам разбураным пасляваенным Мінску, яго ажыццяўленню перашкаджалі ідэалагічнае ўмяшальніцтва партыі, а таксама ўзятыя ў спадчыну ад 30-х г. формы зносін, на якія наклалі свой адбітак узаемныя павучанні ды падазрэнні.

Красамоўнай была гісторыя стварэння другой і трэцяй частак, што меліся быць прысвечаныя „прыгнёту Беларусі літоўскімі князямі ды польскімі панамі". Яшчэ ў 1944 г. напісанне гэтых частак было даручана Пічэту. Калі апошні аніяк не адгукнуўся на прапанову, даручэнне было пераадрасаванае прафесару А.А.Савічу, які таксама мусіў да канца 1945 г. падрыхтаваць рукапіс. Аднак крытычная ацэнка апошняга з боку калегаў і партыі не пакінула рэдакцыйнай радзе аніякага іншага выйсця, акрамя як адкінуць гэты тэкст. Тады для распрацоўкі перыяду, вызначанага ў якасці „важнага", былі прыцягнутыя новыя аўтары — тры расійскія гісторыкі Нікольскі, Перцаў і П'янкоў. Пасля таго як у канцы 1947 г. па-ранейшаму ў наяўнасці не было нічога вартага апублікавання, падрыхтоўка аднатамовіка гісторыі Беларусі была нават абвешчана найважнейшай задачай. У сваім рабочым плане на 1948 г. прэзідэнт Акадэміі навук (на гэтай пасадзе з 1947 да 1951 г.) неўролаг М.І.Грашчанкаў нават настойліва заклікаў акадэмічных гісторыкаў усё-такі выйсці на друкаванне працы агульным аб'ёмам 70 друкаваных аркушаў. Усе часткі меліся быць падрыхтаваныя да пачатку 1948 г. Вучоны-медык выразна вызначаў, што гэтая кніга мусіла б аднячасова служыць у якасці дапаможніка для агітатараў-прапагандыстаў, падручніка для ВНУ і даведніка. Падобныя мэты ён сфармуляваў таксама для падручніка „Гісторыя БССР" для сярэдніх школ, а таксама для трэцяга тома „Матэрыялаў і дакументаў па гісторыі Беларусі"[38], які меўся быць апублікаваным.

Прыведзеныя вышэй прыклады дазваляюць гаварыць пра тры прыкметы падсавецкай гістарыяграфіі апошняй фазы сталінскага кіравання: *па-першае*, пры стварэнні таго альбо іншага тэксту палітычная добранадзейнасць гісторы-

[36] Тамсама.

[37] Каменская Н.В. Праблемы гісторыі, археалогіі і этнаграфіі Беларусі ў новай сталінскай пяцігодцы // Весці АН БССР. 1947. № 1(1). С.3—7, у гэтым выпадку с.3.

[38] Гращенков Н.И. Задачи научно-исследовательской работы в БССР // Известия АН БССР. 1948. Вып.2. С.3—21, у гэтым выпадку с.18.

ка ў палітычна напружаных сітуацыях мела больш істотнае значэнне, чым яго сапраўдная навуковая спецыялізацыя. *Па-другое*, навукоўцы працавалі ў варунках пастаяннага ціску што да тэрмінаў і абавязковасці выканання заданняў. *Па-трэцяе*, прыняты таксама ў навуцы максімалізм у дачыненні да планавання прыводзіў да звышнагрузак на гісторыкаў і завышанай патрабавальнасці да іх магчымасцяў. Акрамя таго, супрацоўнікі інстытутаў на цэнтральным і рэгіянальным узроўнях усё часцей звярталі ўвагу на тое, што дадатковыя затраты часу на стварэнне „навукова-папулярных“ і „папулярызацыйных“ работ абмяжоўвалі іх магчымасці больш інтэнсіўна праводзіць навукова-даследчую працу[39].

Разам з падрыхтоўкай сінтэтычных прац у цэнтры ўвагі даследаванняў знаходзілася стварэнне манаграфіяў па пэўных, успрыманых у якасці стрыжнявых тэмаў, праблемах беларускай гісторыі. Да іх належалі „Гісторыя Беларусі XVI—XVIII ст.“[40], „Гісторыя беларускага сялянства“[41], „Гісторыя беларускіх гарадоў“[42], „Аграрнае пытанне і сялянскі рух у эпосе капіталізму, 1861—1914 г.“[43], „Рабочы рух у Беларусі“[44], „Нацыянальнае пытанне і нацыянальна-вызвольны рух у Беларусі ў канцы XIX — пачатку XX ст.“[45], „Гісторыя Савецкай Беларусі“[46]. З рэт-

[39] Адно са шматлікіх выказванняў гэткага кшталту належала маскоўскаму акадэміку С.У.Бахрушыну; гл.: Стенограмма совещания // ВИ. 1996. № 3. С.86.

[40] Параўн. запланаваныя тэмы: „Гаспадарчае развіццё Беларусі ў складзе Рэчы Паспалітай“ (А.П.П'янкоў), „Беларусь у складзе Маскоўскай дзяржавы ў 1654—1667 г.“ (А.А.Савіч), „Дачыненні беларускага і польскага народаў у канцы XVIII ст.“ (А.А.Савіч). Толькі апошні з гэтых праектаў быў, у змененай форме, ажыццёўлены: Савич А.А. Борьба за Белоруссию и Украину в 1654—1667 г. Из истории русско-польских отношений 2-й пол. XVII в. // Ученые записки Московского городского пединститута им. В.П.Потемкина. Москва, 1947. Т.2: Кафедра истории СССР, вып.2. С.79—139.

[41] З запланаваных публікацыяў А.П. П'янкова („Нарыс гісторыі беларускіх сялян“ альбо „Рэформа 1861 г. у Беларусі“) засталіся толькі дзве невялікія працы: П'янкоў А.П. Паўстанне беларускіх сялян пад кіраўніцтвам Дзяніса Мурашкі // Полымя. 1947. №7. С.152—159, а таксама: *Яго ж*. Восстание Дениса Мурашки // Известия АН БССР. 1949. № 1. С.43—50.

[42] Ані доктарская дысертацыя „Гісторыя горада Мінска“ (Н.В.Каменская), ані кандыдацкая дысертацыя „Гісторыя горада Віцебска“ (Л.Б.Камінская) не былі завершаныя. Аўтар працы „Гісторыя горада Полацка“ Хазарэвіч заўчасна памёр. Кандыдацкая дысертацыя Грабкова „Гісторыя горада Гомеля з канца XVI ст. да нашых дзён“ таксама не была апублікаваная.

[43] План прадугледжваў шэсць манаграфіяў (кандыдацкіх дысертацыяў).

[44] Пасля некалькіх паасобных публікацыяў толькі ў 1960 г. выйшла доктарская дысертацыя А.І.Воранавай „Рабочы рух Беларусі напярэдадні і ў перыяд рэвалюцыі 1905—1907 г.“ (Мінск, 1960).

[45] Дзве працы пад навуковым кіраўніцтвам М.А.Поташа пра „нацыянальную каланіяльную палітыку царызму ў эпосе капіталізму“ і „нацыянальна-вызвольны рух беларускага народа ў XIX — пачатку XX ст.“.

[46] У гэты бок, бясспрэчна, перамясціўся цэнтр увагі даследчыкаў. З вялікай колькасці трэба назваць працу „Удзел народных масаў у барацьбе за Савецкую ўладу ў гады грамадзянскай вайны“ (А.А.Шакун), „Узнікненне БССР“ (Н.В.Каменская), „Гісторыя Беларусі перыяду індустрыялізацыі і калектывізацыі сельскай гаспадаркі БССР“ (М.І.Гільберт), а таксама кандыдацкую дысертацыю аспіранта Саф'яна „Акупацыйны рэжым у Беларусі, 1941—1945 г.“. Хоць гэткія працы, паводле сваёй тэматычнай

распектыўнага гледзішча беларуская даследчыца Людміла Храпко ў названым дыяпазоне тэмаў угледзела як элементы савецкага патрыятызму, гэтак і элементы пэўнага нацыянальнага інтарэсу:

> „Узятыя разам ва ўзаемасувязі гэтыя тэмы выяўляюць сябе, з аднаго боку, як прыклад народнага патрыятызму, што выявіў сябе ў барацьбе за Савецкую ўладу і, з другога боку, як сведчанне тых значных дасягненняў, якія за падсавецкім часам праявіліся ў розных сферах жыцця беларускага народа“[47].

Трэцяя галіна найважнейшых зацікаўленняў беларускай гістарыяграфіі пасляваеннага часу знаходзілася ў сферы археалогіі ды этнагенезы. Пяцігадовы план прадугледжваў правядзенне шматлікіх раскопак, а таксама стварэнне чатырохтамовай працы пра этнагенез беларусаў[48]. Але і тут выказваліся нараканні на пропускі і недахопы, да прыкладу, у тэмпах і якасці правядзення тых самых раскопак, да гэтага дадавалася прамаруджванне з падрыхтоўкай чатырохтамовага „Этнагенезу“. Неўзабаве ад гэтай задумы давялося адмовіцца. Кантрольная камісія, якая падала свой даклад 20 кастрычніка 1947 г., таксама не пакінула жывога месца на археолагах ды этнографах. Новым у выкладзеным перад ЦК разборы было тое, што крытычнаму разгляду былі паддадзеныя нават крытыка і самакрытыка. Урэшце — як гаварылася ў звязку з гэтым — праз больш дакладна праведзенае абмеркаванне можна было б пазбегнуць грубых памылак у першым выпуску аднатамовіка „Гісторыі Беларусі“[49].

разнастайнасці і колькасці, пакінулі іншыя сферы даследаванняў далёка ззаду за сабой, у сваёй большыні працы 1944—1947 г. засталіся ненапісанымі альбо няскончанымі.

[47] Храпко Л.П. Развитие исторической науки в БССР... (op.cit.). С.90.

[48] НАРБ, ф.4, воп.47, спр.85, арк.77—85, 86—99: „Пяцігадовы план навукова-даследчай працы Акадэміі навук (уводзіны)“. Аўтарам даклада па грамадскіх навуках (Інстытут гісторыі, Інстытут літаратуры, мовы і мастацтва, Інстытут эканомікі) быў У.М.Перцаў.

[49] НАРБ, ф.4, воп.47, спр.148, арк.172.

## 2. Гісторыкі і партыя

### *2.1. Гісторыя ў якасці прапаганды*

Яшчэ цягам першага года вайны аддзелам прапаганды і агітацыі ЦК ВКП(б) на паседжанні 14 красавіка 1942 г. былі выпрацаваныя дырэктывы партыі ў дачыненні да працы падсавецкіх гісторыкаў. З гэтага часу гісторыкі мусілі разглядаць сваю працу як зброю ў змаганні супраць фашызму. Надалей яны меліся пісаць „ужо не для вузкага кола людзей, а для мільёнаў". У цэнтры патрабаванняў партыі знаходзілася папулярызацыя гераічнай мінуўшчыны „савецкіх народаў"[50]. „Радзіма" і „Айчына" рабіліся стрыжнявымі паняццямі гістарыяграфіі часоў вайны. Макрапалітычнае гісторыяпісанне міжваеннага часу, прасякнутае амбіцыямі ажыццяўлення сусветнае рэвалюцыі, неўзабаве саступіла месца патрыятычнаму, звернутаму ва ўнутр погляду на гісторыю, у якім моцна выяўляў сябе нацыянальны кампанент. Арганізацыйным цэнтрам гісторыяпісання цяпер рабіліся не гэтулькі Акадэмія навук ды універсітэцкія інстытуты, а створаны ў красавіку 1942 г. пры „Совинформбюро" „Антифашистский комитет советских ученых" (АКСУ), у які, сярод іншых, увайшлі беларускія акадэмікі Пічэта і Перцаў.

У цэлым „акадэмічная" партыйная праца ў варунках вайны й эвакуацыі, вядома ж, не мела вялікіх маштабаў, балазе і па–за вучонымі інстытуцыямі прырост колькасці членаў партыі быў, хутчэй, не надта актыўны. На 1 студзеня 1945 г. у КП(б)Б уваходзіла 29 515 членаў і кандыдатаў у члены. У наступных гадах партыя таксама была надзвычай незадаволеная сваім складам. У 1947 г. ЦК беларускай кампартыі быў вымушаны прызнаць недастатковае выкананне распараджэння вышэйшых структур за 26 ліпеня 1945 г. „Пра рост шэрагаў партыі ды меры па арганізацыйным і палітычным узмацненні партыйнай працы з новапрынятымі членамі ВКП(б)" і канстатаваў, што недахопы „передусім існуюць у марксісцка–ленінскім навучанні"[51]. Гэткая выснова пакідала па–за ўвагаю той факт, што атамізаванае беларускае і, у цэлым, падсавецкае пасляваеннае грамадства толькі ў малой ступені магло быць палітычна змабілізаванае.

[50] Тамсама, арк.16. Паняцце „савецкага народа" замацавалася напрыканцы 30–х г. у звязку з выпрацоўкай дактрыны „савецкага патрыятызму" і сталінскай тэзай пра „пабудову сацыялізму ў адной краіне". Увядзенне названага паняцця мела за мэту зрабіць маргінальнымі на тле агульнай ідэалогіі нацыянальныя адрозненні народаў. Цалкам паняцце „савецкага народа" зрабілася палітычным паняццем пад час „Вялікай Айчыннай вайны". Абвяшчаючы „Вялікую Айчынную вайну", Сталін заявіў: „Гэта не проста вайна дзвюх арміяў. Гэта адначасова вялікая вайна ўсяго савецкага народа супраць нямецка–фашысцкіх войскаў". Цытуецца паводле: Сталін абвяшчае „Вялікую Айчынную вайну" (3 ліпеня 1941 г.) // Lieber H.-J., Ruffmann K.-H. (выд.). Der Sowjetkommunismus. Dokumente. Bde 1—2. Köln—Berlin, 1964. Bd.1. С.401 і наст.

[51] Звесткі прыводзяцца паводле: НАРБ, ф.4, воп.61, спр.382, арк.14—17. З гледзішча брэжнеўскага часу параўн.: Соколов Н.К. Партийное руководство подготовкой и воспитанием кадров высшей школы БССР. Мінск, 1978.

Для партыі цяпер надзённай была задача надаць большай эфектыўнасці яе прапагандысцкай і агітацыйнай працы, перш чым узведзеная ўжо ў міф партызанская вайна здолее абудзіць празмерныя нацыянальныя аспірацыі. У той час калі аўтараў „Бальшавіка" турбавалі вялікія перспектывы, на дапамогу палітка-місарам на прадпрыемствах ды ў казармах прыходзіў „Блокнот агитатора". Ён пачаў выдавацца ў 1946 г. і дасягнуў у агульнасаюзным маштабе накладу кожнага з сарака гадавых выпускаў па 20 000, пазней па 25 000, а з 1951 г. па 35 000 паасобнікаў[52]. Разам з партыйнай прэсай ды зарыентаванымі на адзіную афіцыйную ідэалогію дзённымі газетамі, „Блокнот агитатора" меў на мэце дасягненне большай аператыўнасці палітычнае адукацыі. Само сабою было зразумелым, акрамя таго, што пры вызначэнні ацэнкі й інтэрпрэтацыі „Вялікай Айчыннай вайны" вельмі значную ролю меліся адыгрываць прадстаўнікі гуманітарных навук, а перадусім гісторыкі[53]. Навукоўцы неўзабаве сутыкнуліся з пастаўленай перад імі задачай больш не арганізоўваць „добрапрыстойных прафесарскіх дыскусіяў", а рабіць справу з дапамогай простай бальшавіцкай мовы[54]. Цяпер у якасці галоўнай задачы была вызначаная мабілізацыя масаў.

Для навуковых установаў гэта адначасова значыла ўстанаўленне інтэнсіўнай апекі з боку партыі, якая з канца 30-х г. набывала ўсё большыя маштабы. Гэтая выснова пацвярджаецца, у дачыненні да Мінскага педінстытута імя М.Горкага, паведамленнем сведкі падзеяў:

> „У партыйнай арганізацыі на кожным факультэце інстытута таксама быў сакратар партыйнага бюро. Ён быў студэнт і меў партыйную арганізацыю на кожным факультэце. Акрамя таго, на кожным факультэце групы складаліся з 25—30 чалавек, і ў кожнай з гэтых групаў была партыйная ячэйка з партыйным сакратаром. Кожны член партыі знаходзіўся пад кантролем з боку сакратара партыйнай ячэйкі групы, партыйнай арганізацыі факультэта і партыйнай арганізацыі ўсяго інстытута, а таксама гарадской партарганізацыі. Структура камсамола была дакладна такая самая"[55].

Яшчэ на пачатку 40-х г. на кожнай са спецыяльнасцяў універсітэта і педагагічных інстытутаў курс „марксізму-ленінізму" быў зроблены абавязковай часткай навучальнага кампанента. З канца 30-х г. як ва ўстановах пасляшкольнай адукацыі, гэтак і ў дзесяцікласных сярэдніх школах „Кароткі курс" Сталіна стаў абавязковым чытаннем. Дзеля гэтага ён быў таксама надрукаваны па-беларуску агульным накладам 150 000 паасобнікаў[56].

[52] Культурное строительство в Белорусской ССР... (op. cit.). С.126 і наст. Тэмы „блакнотаў" мелі дыяпазон ад палітычных і эканамічных пытанняў да праблем культуры і гісторыі.

[53] Прынцыповае значэнне мае: Значение идеологической работы в современных условиях // Большевик. 1946. № 9.

[54] Выказванне Жданава цытуецца паводле: Баршенко А.С. Советская историческая наука в послевоенные годы... (op. cit.). С.9.

[55] PSSS: Schedule A, vol.1, #9 RF. C.8.

[56] Тэкст вывучаўся ў адмыслова зарганізаваных школьных гуртках і ілюстраваўся апісаннямі з біяграфіі „вялікага правадыра". Пазней выказваліся аналітычныя меркаванні, што ў гэтых часах „практычна ўсё круцілася вакол Сталіна". Паводле гэткіх

У дачыненні да таго, ці патрабавалася адкрыта ад настаўніка гісторыі ўступленне ў партыю, крыніцы падаюць толькі ўскосную інфармацыю. Калі даваць веры назіранням беларускіх студэнтаў Мінскага педінстытута, дык у тым, што існаваў ціск з дамаганнем лаяльнасці ад педагогаў, не было ніякага сумневу: „О, сапраўды, настаўнікі гісторыі мусілі быць партыйнымі, бо гісторыя разглядалася як дысцыпліна палітычная“[57]. У інстытутах кшталту гэтага, якія рыхтавалі настаўнікаў у абласных гарадах Мінску, Магілёве, Віцебску, Гомелі і Гродне (з 1954 г.), паводле дырэктываў ЦК фармаваліся гістарычныя ўяўленні маладой генерацыі выхаваўцаў моладзі. У гэтым сэнсе Мінскі педінстытут, нягледзячы на сваю „беларускую спецыялізацыю“, не быў выняткам з правіла. Тое з адукацыйна-палітычных установак, што часцяком пашыралася тут універсітэцкімі выкладчыкамі, а таксама кадрамі, падрыхтаванымі пры ЦК[58], мела свой працяг, праз будучае пакаленне настаўнікаў, у асобах тых, хто вучыўся пазней[59]. Пра нацыянальна-гістарычны кампанент заняткаў па гісторыі перад пачаткам вайны ўжо не было чаго і думаць. Школьная гістарычная адукацыя, на якую моцна паўплываў недахоп педагагічных кадраў у 1937—1940 г., абмяжоўвалася „старажытнай гісторыяй“ (7 клас), „сусветнай гісторыяй сярэдніх вякоў“ (8 клас), „гісторыяй Расіі“ (9 клас) і „гісторыяй ВКП(б)“ (10 клас). Гэтаксама як і ў іншых рэспубліках, у БССР не было заняткаў па сваёй уласнай гісторыі[60].

Сталін цяпер канчаткова заняў месца ў цэнтры гістарычнай канцэпцыі. Пра гэта сведчылі хоць бы тыя 600 апублікаваных у 1945—1952 г. кніг і брашур, якія змяшчалі творы Сталіна альбо працы пра яго[61]. Культ „правадыра“ быў прысутны ў расійскай гістарыяграфіі ў гэткай самай ступені, як і ў гісторыяпісанні падсавецкіх рэспублік. Побач з гістарычным матэрыялізмам, вучэннем пра фармацыі ды савецкім патрыятызмам, гістарычнае ўсхваленне Сталіна было чацвёртым лейтматывам агульнасавецкай гістарыяграфіі позняй сталінскай эпохі.

сведчанняў, Ленін быў ужо амаль што замоўчванай асобай. Сярод студэнцтва існавала ціхая рэакцыя на гэта: гаворка йшла ўжо не пра „нашего отца“, а пра „нашего отчима“. Параўн.: Тамсама, с.68 і наст.

[57] Тамсама, с.27.

[58] КП(б)Б падтрымала рэгулярнае правядзенне ўсёрэспубліканскіх канферэнцыяў гісторыкаў педінстытутаў БССР (напрыклад, тую, што адбылася 17.01.1941 г.).

[59] Беларускі вясковы настаўнік, які ў 1939 г. скончыў інстытут і да сваёй дэпартацыі ў Нямеччыну (1942 г.) працаваў настаўнікам калгаснай школы на акупаванай тэрыторыі, у звязку з гэтым прыгадваў нават пэўныя дэталі: „У грамадскіх навуках усё было пастаўлена з ног на галаву. Гэта датычылася сучаснай гісторыі і гісторыі народаў СССР. Кнігі цэнзураваліся, яны друкавалі тое, што хацелі. [...] Гісторыя ўвесь час мянялася. Да прыкладу. Напалеон прайграў вайну, бо ён не скасаваў законаў, што запрыгоньвалі сялянства. Потым лінія памянялася, і цяпер ужо сцвярджалася, што Напалеон прайграў з прычыны праяўлення патрыятызму масамі, а ранейшая прычына ўжо не згадвалася. Саветы баяліся, што студэнты пачнуць параўноўваць Напалеона з заходнімі дзяржавамі, а запрыгоненае сялянства — з калгаснікамі“. Гл.: PSSS: Schedule A, vol.11, #142 ML. C.7 і наст.

[60] „Не было асобнага курса беларускай гісторыі; існаваў толькі курс гісторыі народаў СССР“. Гл.: PSSS: Schedule B, vol.7, #45 JR. C.6.

[61] Грак К. Идеологическая работа КПБ в первые послевоенные годы (1945—1946 г.). Мінск, 1963. С.2.

Толькі на XXII з'ездзе партыі ў 1961 г. М.А.Суслаў прызнаў, што культ асобы „нанёс асабліва вялікую шкоду гістарычнай навуцы, а перадусім гісторыі КПСС".

Да вышэйзгаданых цэнтральных пунктаў гістарычнага вобраза ў БССР, акрамя таго, належалі: змаганне супраць буржуазнай ідэалогіі й маралі — найперш гэта датычыла вызваленых з-пад акупацыі тэрыторыяў (Заходняя Беларусь, Генеральная акруга „Беларутэнія"), а таксама выхаванне „камуністычнае свядомасці"[62]. З гэтага амаль што натуральным чынам вынікала, што „дзеля павышэння кваліфікацыі кадраў" ЦК ВКП(б) скіраваў падпарадкаванаму яму ЦК КП(б)Б „прапанову зарганізаваць самастойную вучобу партыйных і савецкіх работнікаў у галіне гісторыі і тэорыі бальшавіцкай партыі", падрыхтаваць і праводзіць лекцыі па пытаннях марксізму-ленінізму ды гісторыі ВКП(б), СССР і БССР. У далейшым — як гэта ўжо мела месца ва універсітэтах, педагагічных інстытутах ды сярэдніх школах — мусілі быць зарганізаваныя курсы па палітычнай эканоміі, філасофіі і культуры. Пазнейшая гэтак дасканала прадуманая сістэма прапаганды брала свой пачатак з ідэалагічных пачатковых школаў.

Хуткага поспеху тут, аднак, дасягнуць не ўдалося. Неўзабаве найгалоўнейшыя партыйныя мерапрыемствы былі зноў скіраваныя на выпраўленне стану гістарычных навук. Да прыкладу, крытычны разбор быў зроблены пад час пленума ЦК 1947 г., калі тагачасны намеснік начальніка ўправы прапаганды й агітацыі і будучы старшыня Дзяржаўнага планавага камітэта БССР С.М.Малінін канстатаваў, што, маўляў, тэарэтычны ўзровень навуковых даследаванняў далёка не адпавядае тым патрабаванням, што ставяцца перад рэспублікай і яе навукоўцамі. Паводле ацэнкі гэтага дзеяча, асабліва гуманітарныя навукі ўсё яшчэ знаходзіліся не на вышыні свайго часу; пры гэтым ізноў гаварылася, у якасці адмоўнага прыкладу, пра адсутнасць „Кароткага курса гісторыі БССР"[63]. Ускладанне віны на дрэнную падрыхтоўку кадраў у Акадэміі навук і БДУ, а таксама ў іншых ВНУ, сведчыла пра непрызнанне факта драпежнага кадравага вынішчэння з боку партыі, што мела месца ў 1936—1938 г. На погляд Малініна, „падрыхтоўцы новых кадраў беларускай навуковай інтэлігенцыі" перашкаджала перадусім адсутнасць прац адпаведнай кваліфікацыі ды адзіных планаў падрыхтоўкі такіх кадраў. У тое, што пастанова па падрыхтоўцы новых навукоўцаў, якую пленум меўся прыняць на бліжэйшыя тры гады (1948—1950), прынясе плён, верыла, напэўна, меншая колькасць удзельнікаў пленума і членаў партыі ўвогуле, чым таго хацела б кіраўніцтва КП(б)Б. У гэтым сэнсе не ўсё аднназначна было і ў самога Малініна. У іншым месцы ён выказваўся аб працы ВНУ наступным чынам:

[62] Параўн. дырэктыўны партыйны дакумент: „О ближайших задачах партийных организаций КП(б) Белоруссии в области массово-политической и культурно-просветительной работы среди населения" (9.08.1944 г.) // Пропаганда и агитация в решениях и документах ВКП(б). Москва, 1947. С.468—479.

[63] НАРБ, ф.4, воп.47, спр.148, арк.49—54: „Вопросы науки" (19.11.1947). Тут гаворка йшла пра даклад Малініна пра развіццё навукі, з якім ён выступіў на пленуме партыі ў 1947 г.

„Сярод выкладніцкіх кадраў і студэнтаў да гэтага не выявілася ані дастатковых намаганняў у працы па выхаванні ў духу савецкага патрыятызму, ані ўменняў глыбей тлумачыць перавагі савецкага грамадскага і дзяржаўнага ладу ў параўнанні з капіталістычным“[64].

У якой ступені ў гэтай справе магло дапамагчы заснаванне Інстытута марксізму–ленінізму як „найвышэйшай навуковай установы ў БССР“, пакуль што заставалася няпэўным. З гледзішча гістарычнай навукі „кафедра гісторыі Беларусі, Захаду і Савецкага Саюзу“ выразна звузіла палітычную свабоду манеўра беларускіх гісторыкаў. Разам з „Інстытутам гісторыі партыі пры цк КП(б)Б“ [ИИПЦК КП(б)Б, колішні „Гістпарт“] партыйная гістарыяграфія — г.зн., гісторыяпісанне з партыйнага гледзішча — тут задавала тон і крытыкавала „падазроных калегаў“ з акадэмічных ды універсітэцкіх інстытутаў.

Нярэдка да гэткага кшталту паказванняў пальцамі далучаліся рэпрэсіўныя захады з боку партыі, якія — як мы бачылі на прыкладзе рэктара універсітэта Савіцкага — часта грунтаваліся на інфармацыі калегаў з навукова–партыйнага апарату. У гэтую сістэму мерапрыемстваў уваходзілі рэгулярныя праверкі–пераправеркі інстытутаў і загадчыкаў кафедраў. У выніку аднае з праверак, праведзеных увесну 1947 г., высветлілася, „што шмат хто з навуковых супрацоўнікаў не адпавядае неабходным патрабаванням; менавіта што датычыць выкладніцкага складу“. Згодна з дакладам кантрольнай камісіі, з 32 „завкафедрой“ у галінах марксізму–ленінізму, палітычнай эканоміі, філасофіі, права, гісторыі СССР, гісторыі БССР і г.д. дванаццаць не атрымалі падтрымкі [маскоўскага. — *Заўвага перакладчыка*] міністэрства вышэйшай адукацыі[65]. У якасці адмоўных прыкладаў прыводзіліся канкрэтныя выпадкі дзейнасці як сталічных, гэтак і правінцыйных установаў, з кафедры марксізму–ленінізму Мінскага медыцынскага інстытута, факультэтаў БДУ, педагагічных інстытутаў. У дачыненні да гістарычнай навукі, што праўда, згадвалася толькі справа „дэкана гістарычнага факультэта Віцебскага педінстытута тав. Шалыт“, якая, не маючы дастатковага досведу працы, мелася праводзіць семінары па „асновах марксізму–ленінізму“ і чытаць лекцыю па новай гісторыі. Але і ў дачыненні да вялікіх установаў стаўленне заставалася неадназначным.

Перыядычныя паведамленні пра сітуацыю ў навуковых установах ні ў якім разе не абмяжоўваліся ўзроўнем мінскага ЦК. Аддзел (управа) прапаганды ЦК КП(б)Б рэгулярна заслухоўваўся ў вышэйшым органе маскоўскага ЦК. У якасці рэакцыі з цэнтра ў правінцыю спускаліся дырэктывы. Таму амаль што натуральнай рэччу было тое, што запозненая „Гісторыя Беларусі“ яшчэ ў 1947 г. зацікавіла партыйнае кіраўніцтва ў Маскве і што ў студзені 1948 г. адтуль пайшло рэагаванне. Праз два месяцы пасля таго адказным супрацоўнікам мінскага „агітпропа“ Я.Аварэнка былі зафіксаваныя для пратакола ўказанні для

[64] НАРБ, ф.4, воп.47, спр.148, арк.55—58: „Вопросы работы высшей школы“ (20.11.1947), у гэтым выпадку с.56.

[65] НАРБ, ф.4, воп.47, спр.122, арк.15—17: „Приказ Министерства высшего образования СССР, № 345 (за 16.04.1947 г.): „Об укреплении кафедр общественных наук высших учебных заведений БССР“.

Акадэміі навук у Мінску. Пры гэтым задача ставілася, каб дасягненні дзяржаўнага і культурнага будаўніцтва 30 гадоў Савецкае ўлады ў БССР, якія, маўляў, асабліва відочныя ў галіне эканомікі, перанесці і ў сферу навукі. Пры гэтым „падрыхтоўцы працаў па гісторыі Беларусі, гісторыі беларускай культуры, літаратуры і мастацтва" мелася надавацца першачарговае значэнне. У дачыненні да гістарычнай навукі ў АН БССР ухвальна называліся імёны двух гісторыкаў, а менавіта Нікольскага і Перцава[66]. Якраз кожны з іх абодвух быў увасабленнем лаяльнага падсавецкага гісторыка першага паклікання. Іх перавагаю было тое, што на момант пачатку іхняй прафесійнай кар'еры яны былі занадта маладымі, каб быць залічанымі да „буржуазных" гісторыкаў. Акрамя таго, Нікольскі праз свой удзел у вайне набыў дадатковы капітал даверу да сябе. Абодва яны, адзіныя з гісторыкаў, узялі ўдзел у працы камісіі па канчатковай распрацоўцы „Плана навуковых і даследчых работ спецыялізаваных інстытутаў, вышэйшых навучальных установаў і доследных станцыяў БССР на 1949—1950 г."; пры гэтым іхняя кампетэнцыя абмяжоўвалася планамі Акадэміі навук[67].

Калі не браць пад увагу названыя выключныя выпадкі, гістарычныя навукі ні ў якім разе не заставаліся ўбаку ад вострай крытыкі на іх адрас: „памылковыя працы" зрабіліся аб'ектам сур'ёзных нападаў з боку Бюро ЦК — па выніках чарговага кантролю навуковай працы АН БССР, а таксама на XV пленуме ЦК КП(б)Б ды на мінскім партактыве, дзе крытыка гучала з вуснаў першага сакратара ЦК (абодва паседжанні праходзілі ў 1948 г.). Калі ЦК пагадзілася з чарговай спробай стварэння „Гісторыі БССР", вядома ж, немажліва было не адчуць, што яе падрыхтоўка зноў будзе зацягвацца і, урэшце, у сваёй першапачатковай форме зусім знікне з планаў. Цяпер ізноў рыхтаваліся тэзы варыянта „Гісторыі БССР", якія меліся „ў найбліжэйшы час быць падтрыманыя Бюро ЦК КП(б)Б" — гэтаксама як і праект трохтамовай „Гісторыі БССР". Ніводнаму з абодвух праектаў не было наканавана атрымаць падтрымку палітычнай інстанцыі. Праз чатыры гады, на XX з'ездзе КП(б)Б, дэлегаты займаліся тымі самымі пытаннямі. Танальнасць крытыкаў пасля бясконцых дэбатаў наконт самых разнастайных праектаў зрабілася больш рэзкаю:

> „Распрацоўка праблем гуманітарных навук у рэспубліцы знаходзіцца ў сур'ёзным заняпадзе. Ужо прайшло шэсць гадоў, як калектывы Інстытута гісторыі АН БССР з удзелам шэрагу супрацоўнікаў ВНУ працуюць над стварэннем «Гісторыі БССР». Былі напісаныя тры варыянты гэтай кнігі. Апошні варыянт праекта мае быць абмеркаваны на сходзе гісторыкаў, эканамістаў, літаратараў і адказных работнікаў партыі з удзелам калегаў з Масквы. Задачай нашых навукоўцаў ёсць яшчэ больш рашуча весці барацьбу супраць праяваў самазаспакоенасці з прычыны дасягнутых вынікаў, яшчэ смялей прызнаваць свае недахопы і быць асабліва нецярпімымі ў дачыненні да праяваў застою ды безвыніковасці навуковай працы"[68].

[66] НАРБ, ф.4, воп.47, спр.183, арк.369—374: „Адносна студзеньскай дырэктывы ЦК ВКП(б) аб працы ЦК КП(б)Б у сферы навукі і вышэйшай адукацыі" (2.03.1948 г.).
[67] НАРБ, ф.4, воп.81, спр.80, арк.10—11: Пратакол паседжання Бюро ЦК за 14.09.1948 г.: „О плане научно-исследовательской работы АН БССР (1949—1950 г.)".
[68] НАРБ, ф.4, воп.2, спр.218, арк.82—87: вынятка з: „XX Съезд КП(б)Б. Стенографический отчет (20—23.09.1952 г.)", у гэтым выпадку с.82 і наст.

Што заставалася ва ўладзе ідэалагічных аддзелаў цэнтральных камітэтаў партыі ў рэспубліках, каб рэагаваць на праблемную палітычную надзейнасць шмат каго з навукоўцаў-гуманітарыяў, якая выяўлялася пасля смерці Сталіна, дык гэта асабістае ўзмацненне сваіх кадраў ва універсітэтах, Акадэміі навук, а таксама інстытутах, лабараторыях, педагагічных калектывах. Рэгулярнае наладжванне вучобы — гэтак як у выпадку з праведзеным аддзеламі навукі, культуры й асветы ЦК КПБ з 26 да 30 студзеня 1954 г. семінарам „Аб мерах паляпшэння выкладання грамадскіх дысцыплін у вышэйшых навучальных установах" для сакратароў партарганізацыяў — мела, натуральна толькі частковы поспех[69]. Неабходна было засвойваць новыя сферы забеспячэння беспасярэдняга палітычнага ўплыву.

З усяго гэтага вынікала, што, да прыкладу, падрыхтоўка гістарычных юбілеяў знаходзілася ў кампетэнцыі Цэнтральнага камітэта. Ніякі іншы сродак гістарычнае адукацыі не мог прэтэндаваць на гэткую ступень публічнасці і шырыні ўздзеяння, як арганізаваны з размахам юбілей. Задачай ЦК было прадугледзець нацыянальны мабілізацыйны патэнцыял пэўных памятных дзён і ўдыхнуць у іх сваё гістарычнае тлумачэнне. Гэткай свабоды інтэрпрэтацыяў, якая мела месца пад час святкавання 400-годдзя беларускага друку ў 1924 г. — калі публікацыі ў чыстым выглядзе ўсхвалялі погляд нацыянальна арыентаваных гісторыкаў — цяпер дапусціць было няможна. У звязку з 150-мі ўгодкамі „вялікага польскага паэта" Адама Міцкевіча, якія прыпадалі на дзень 24 снежня 1948 г., ЦК КП(б)Б загадзя распарадзіўся прызначыць урачыстае паседжанне Саюза пісьменнікаў БССР, што мелася быць прысвечаным названаму творцу. Дзяржаўнае выдавецтва „Белгосиздат" атрымала заданне падрыхтаваць зборнік выбраных твораў Адама Міцкевіча ў беларускім перакладзе. Аддзел мастацтва пры Савеце міністраў БССР, якому была даручаная арганізацыя ўрачыстага канцэрта славянскай музыкі, павінен быў узгадніць праграму гэтага канцэрта з аддзелам агітацыі і прапаганды ЦК КП(б)Б[70]. Якраз у галінах літаратуры і гісторыі літаратуры БССР, а таксама опернага, балетнага і тэатральнага мастацтва і пасля вайны існаваў асабліва пільны партыйны кантроль. Нярэдка ЦК выказваў сваё незадавальненне адносна „мастацкага ўвасаблення" літаратурных твораў і загадваў ажыццяўляць „перагляд рэпертуараў і павышэнне колькасці пастановак" у вялікіх тэатрах горада Мінска. Згодна з вызначэннем, дадзеным Бюро ЦК улетку 1948 г., недастатковая ўвага звярталася на якасць і стан развіцця нацыянальнае оперы. Пастаноўкі беларускіх опер „Алеся" і „Кастусь Каліноўскі", маўляў, вызначаліся невысокім духоўным і мастацкім узроўнем[71].

У дачыненні да партыйнай гістарыяграфіі неабходна яшчэ заўважыць, што ў пасляваенным дзесяцігоддзі да заснаваных яшчэ перад 1941 г. „гістпартаў" альбо „ИИПОР"аў пры ЦК партыі Украіны, Беларусі, Азербайджана, Арменіі, Грузіі,

[69] НАРБ, ф.4, воп.81, спр.814, арк.4: Пратакол паседжання Бюро ЦК за 7.01.1954 г.: пра тэарэтычны семінар для выкладчыкаў гуманітарных навук у ВНУ.

[70] НАРБ, ф.4, воп.81, спр.118, арк.3: Пратакол паседжання Бюро ЦК за 21.12.1948 г.: „Пра святкаванне 150-й гадавіны з дня нараджэння Адама Міцкевіча".

[71] НАРБ, ф.4, воп.81, спр.70, арк.5—8: Пратакол паседжання Бюро ЦК за 20.08.1948 г.: „Пра вынікі праверкі Беларускага Дзяржаўнага тэатру оперы і балету".

Казахстана, Узбекістана, а таксама „ИИПОР“а пры Ленінградскім абкаме ВКП(б), цяпер дадаліся аналагічныя ўстановы ў далучаных прыбалтыйскіх рэспубліках Латвіі, Літве, Эстоніі, а таксама ў Туркменістане, Таджыкістане, Кіргізстане, а з 1958 г. — і ў Малдаўскай ССР. Тым самым канчаткова была сфармаваная сетка ўстановаў партыйнага гісторыяпісання, якая ахоплівала ўсю расійскую і нерасійскую гістарыяграфію. Галоўным павуком, які даглядаў гэтую старанна сплеценую сетку, што ўсё кантралявала, і сачыў за яе шчыльнасцю, быў Інстытут Маркса — Энгельса — Леніна ў Маскве („ИМЭЛ“). Побач з выданнем класікаў, якія ў саюзных рэспубліках перакладаліся на мясцовыя мовы, „ИМЭЛ“ таксама займаўся арганізацыяй узаемадзеяння паміж партыяй і гістарычнай навукай. Мясцовыя інстытуты — мы бачылі гэта на прыкладзе беларускага „Гістпарта“ — служылі ў якасці перадатачных звёнаў уплыву партыйных інтарэсаў на ўстановы й інстытуцыі, якія да пачатку 50-х г. сям-там яшчэ заставаліся непакорлівымі альбо ў значнай ступені апалітычнымі.

## *2.2. „Гісторыя БССР“ — рытуалізаваная крытыка ў эпоху позняга сталінізму*

Жаданню мець звязны выклад гісторыі БССР „ад найстаражытнейшых часоў да нашых дзён“ было гэтулькі сама гадоў, колькі самой БССР. Аднак зробленыя ў 1920-х г. спробы Ігнатоўскага, Пічэты, Доўнара-Запольскага ды іншых гэтаксама не маглі быць адпаведнымі крытычнаму погляду партыі, як і апублікаваная ў 1934 г. першая частка нарыса беларускай гісторыі, напісаная партыйным гісторыкам Шчарбаковым. Наклад надрукаванай у 1941 г. першай часткі нарысаў гісторыі Беларусі, якая была апрацаваная „на марксісцкім падмурку“ пад агульным кіраўніцтвам А.П.П'янкова, І.Ф.Лочмеля і У.І.Пічэты, загінуў — як ужо гаварылася вышэй — у перыпетыях першага года вайны ды акупацыі[72]. Калі група навукоўцаў-гуманітарыяў у 1943 г. знаходзілася ў маскоўскім выгнанні і найшчыльнейшым чынам кантактавала з грандамі маскоўскае гістарыяграфіі, гэтае становішча было ацэненае як недапушчальнае. Найважнейшы імпульс ізноўтакі сыходзіў ад Пічэты, які, пачынаючы з 1943 г., разам з групай мінскіх навукоўцаў, пачаў працу над аднатамовай „Гісторыяй Беларусі“. У 1945 г. першая частка праекта зноў была гатовая[73]. Тым часам Пічэта неўзабаве ўжо не меў нічога агульнага з працягам гэтай працы. І не толькі таму, што ў 1947 г. ён памёр, а яшчэ перад тым, у 1946 г., займаўся працай над раскрытыкаваным партыяй артыкулам для Большой Советской Энциклопедии пра Украіну; галоўнай прычынай тут было тое, што, як і раней, атмасфера была атручаная схаванай альбо і адкрытай крытыкай яго „буржуазна-нацыяналістычных канцэпцыяў“ і супрацоўніцтва розных генерацыяў не было магчымым, нягледзячы на гатоўнасць Пічэты да збліжэння пазіцыяў. Пры гэтым хваравітыя намаганні расстаўляць

[72] Нарысы па гісторыі Беларусі. Ч.1. (Выд. ІГ АН БССР). Мінск, 1941. Больш падрабязна гл. у: Пичета В.И. История Белоруссии в советской историографии (op. cit.). С.181.
[73] Параўн.: Храпко Л.П. Развитие исторической науки в БССР... (op. cit.). С.164 і наст. Гэтай працы папярэднічала: *Яе ж.* Стварэнне „Гісторыі БССР“ як важнае дасягненне гістарычнай навукі // Весці АН БССР. 1985. № 4. С.53—61.

акцэнты былі ўласцівыя не гэтулькі масквічам, колькі яго мінскім калегам, якія гэткім чынам хацелі зрабіць сабе імя. Што да „Гісторыі“, дык ЦК на VI пленуме ўзмацніў свой ціск на аўтараў:

> „Адставанне на гістарычным фронце, што выяўляе сябе ў недастатковым абагульненні велізарнага практычнага досведу, назапашанага КП(б)Б ва ўсіх сферах сацыялістычнага будаўніцтва, у марудиай распрацоўцы гісторыі беларускага народа, гісторыі бальшавіцкіх арганізацыяў Беларусі ды гісторыі ўтварэння Беларускай Савецкай дзяржавы — гэтае адставанне мусіць быць зліквідаванае“[74].

Калі ў 1946 г. быў падрыхтаваны першы выпуск задуманай грунтоўнай працы, пачалася амаль васьмігадовая дыскусія наконт зместу і формы, партыйнасці і нацыяналізму, а таксама адносна перыядызацыі ды стрыжнявых момантаў гісторыі[75]. Як з характару самой працы, гэтак і з пераліку імёнаў аўтараў і ўдзельнікаў дыскусіі праглядаўся выразна палітычны кшталт усяе метадалогіі яе стварэння. Жанру працы, што робіцца на даручэнне, адпавядала вялікая колькасць назіральнікаў, функцыянераў, крытыкаў ды ідэалагічных шпегаў, якія — не без уласнага задавальнення — бачылі „нядобранадзейных“ гісторыкаў ці сваіх калегаў на кручку альбо на дарозе да іх знішчэння. Тагачасная афіцыйная справаздачнасць і падсавецкае гісторыяпісанне мелі агульны пункт погляду ў тым, што яны хацелі мець ад дыскусіяў па асобных праектах, а таксама ад шматлікіх адхіленняў аб'ёмных, часткова нават шматтамовых, макетаў навуковую зацікаўленасць ды імкненне да адбору найлепшых варыянтаў. У рэтраспектыўнай гістарыяграфічна-агляднай працы Храпко, што была напісаная ў сярэдзіне 80-х г., ужо ўтрымліваліся намёкі на тое, што канчатковае вырашэнне лёсу тых альбо іншых выказванняў альбо кніг нярэдка вызначалася палітычнымі патрабаваннямі[76]. Але і гэта было толькі паловай праўды.

Калі пашырыць разуменне сітуацыі ў беларускай правінцыі на працэсы, што адбываліся ў АН СССР у Маскве ў другой палове 40-х г., вельмі лёгка заўважыць, што амаль дзесяцігадовы працэс стварэння „Истории Белорусской ССР“ — першай, з савецкага гледзішча, сінтэтычнай працы па гісторыі Беларусі — быў часткай і аб'ектам рытуальнай крытыкі, праз якую з сярэдзіны 40-х г. вялікія навукова-даследчыя ўстановы рабіліся практычна бяздзейнымі. Пад лозунгам „крытыкі і самакрытыкі“, узбагачаныя патрабуючай адназначных адказаў тэорыяй „двух лагераў“ А.А.Жданава, якая выразна размяжоўвала падсавецкую і буржуазную навуку, паміж 1947 і 1952 г. у значных галінах навуковых ведаў адбываліся дыскусіі адносна прынцыпаў. Тое, што распачалося спрэчкамі ва Усесаюзнай Акадэміі сельскагаспадарчых навук імя Леніна (УАСГНіЛ) паміж Т.Д.Лысенкам і М.І.Вавілавым і папярэдне завяршылася смяротным прысудам, вынесеным

[74] VI Пленум ЦК КП(б)Б // Большэвік Беларусі. 1945. № 1—2. С.70. [Зваротны пераклад з нямецкай мовы. — *Заўвага перакладчыка.*]

[75] История БССР. Вып.1. (Выд. АН БССР). Мінск, 1946.

[76] Храпко Л.П. Развитие исторической науки в БССР... (op. cit.). С.166 і наст., а таксама: *Яе ж.* Стварэнне „Гісторыі БССР“ як важнае дасягненне гістарычнай навукі (op. cit.).

Вавілаву ў ліпені 1941 г., пасля заканчэння вайны працягнулася ў не меншым маштабе — што праўда, з меншай колькасцю крывавых разборак[77].

Распачатая і ўзначаленая Ждановым у чэрвені 1948 г. вялікая дыскусія адносна працы Г.Ф.Аляксандрава „История западной философии", абвешчаны на летнім паседжанні прэзідыума УАСГНіЛ генеральны наступ Лысенкі супраць „прадстаўнікоў рэакцыйнае біялагічнае навукі", зробленая з дапамогай „Праўды" публічная акцыя Сталіна супраць мовазнаўцы М.Я.Мара ды яго лінгвістычнай тэорыі, а таксама праведзеныя ў 1950 г. „творчыя дыскусіі" ў галінах псіхалогіі (І.П.Паўлаў) і эканомікі паўтаралі той самы цырыманіял, што зрабіўся звыклым у пісьменніцкіх арганізацыях, пачынаючы з 30-х г. Тое, што было дыягнастычна вызначана Д.Байраў для творчых саюзаў у 30-х г., лёгка можна транспанаваць на судзілішчы над навукай 40-х г. Насамрэч, „публічная" думка тут таксама набывала прыкметы рытуалу, „рабілася адчужанай ад канкрэтнай асобы і адначасна ўкладвалася ў вусны пэўных людзей". Пры гэтым неабходна было трымацца правілаў гульні і ўжываць як звыклыя рэчы адпаведныя тэхналогіі дыскурсу — публічныя споведзі, самакрытыку, прызнанні і раскаянні, удзел ва ўсеагульным ухваленні і асуджэнні тых альбо іншых асобаў, выкрыцці ўсялякага кшталту агентаў, а таксама выпраўленне літаратурных альбо навуковых тэкстаў паводле адпаведных ідэалагічных дырэктываў[78].

БССР і Украіна ў гэтым сэнсе не былі выняткамі. У гэты самы час адбываліся аналагічныя мерапрыемствы ў Мінску і Кіеве. Адразу ж пасля выхаду першага выпуску „Истории БССР" у сярэдзіне лістапада 1946 г. у Мінску дзеля абмеркавання і крытычнага разгляду гэтай працы сабралася навуковая рада Інстытута гісторыі АН БССР. Паседжанне стала падзеяй, што мела грамадскае значэнне[79]. На ім былі рэпрэзентаваныя ЦК, а таксама супрацоўнікі Акадэміі навук і універсітэта, работнікі прапагандысцкай сферы, пісьменнікі, настаўнікі і супрацоўнікі НКВД. Гэтаксама як яно бывала ў выпадку са Ждановым, які не ўпускаў магчымасцяў для асабістага ўмяшальніцтва, так і тут з падставовым дакладам выступіў шэф ЦК і старшыня Савета міністраў БССР П.К.Панамарэнка (узначальваў беларускую кампартыю ў 1938—1948 г.). „Важная падзея на ідэалагічным фронце" — як ён назваў выхад першага тома — з гледзішча прысланага ў 1938 г. у Мінск з Масквы Панамарэнкі была азмрочаная „сур'ёзнымі метадалагічнымі памылкамі"[80]. Прамоўца выкарыстаў

[77] Beyrau, Dietrich. Intelligenz und Dissens. Die russischen Bildungsschichten in der Sowjetunion 1917—1985. Göttingen, 1993. C.102—117.

[78] Тамсама, с.85.

[79] Ніводная іншая падзея ў гісторыі беларускага гісторыяпісання не выклікала гэткага публіцыстычнага водгаласу: П'янкоў А. Да выхаду ў свет „Гісторыі БССР" // Звязда, 17.08.1946. С.1; Обсуждение первого выпуска „Истории БССР" // Советская Белоруссия, 20.11.1946. С.1; Климов П. Первый выпуск „Истории БССР" // Тамсама, 7.12.1946. С.2.

[80] Усе ніжэйпрыведзеныя цытаты паходзяць з: Обсуждение первого выпуска... (op. cit.). Пра асобу Панамарэнкі можна даведацца, нібыта ён быў фанатычным аматарам джаза і мецэнатам Дзяржаўнага джазавага аркестра Беларускай ССР пад кіраўніцтвам яго трубача Адольфа (Эдзі) Рознера. Гэты аркестр зрабіў сабе імя перадусім пад час вайны як франтавы аркестр. Параўн.: Starr, S. Frederick. Red and Hot. The Fate of Jazz in the Soviet Union, 1917—1980. New York—Oxford, 1983. C.198 і наст.

трыбуну гэтага форуму ў якасці нагоды для новых шырокамаштабных абвінавачванняў на адрас Пічэты, які ў той час лічыўся ў Маскве прызнаным гісторыкам.

Тут можна было назіраць пэўнае змяшчэнне ў часе, праз якое падкрэсліваецца правінцыйнасць беларускай палітыкі. У той час як у метраполіях гісторыкі кшталту Тарле і Пічэты даўно былі выведзеныя з-пад абстрэлу і праз іх, разам з Грэкавым, можна было ўважаць за рэабілітаваную нацыянальную і панславісцкую думку, у Мінску па-ранейшаму — як гэта мела месца ад пачатку 30-х г. — аказваўся супраціў нацыянал-дэмакратызму. Таксама пад час названае дыскусіі розным чынам востра атакавалася „запабяганне аўтараў перад даўнімі аўтарытэтамі“. Іншыя ўдзельнікі выступалі супраць прапанаванай у працы перыядызацыі беларускай гісторыі, якая нібыта адхілялася ад марксісцка-ленінскага вучэння пра фармацыі. У цэлым, дыскутанты паўтаралі й удакладнялі тыя пункты крытыкі, з якімі выступіў Панамарэнка. Абвінавачаныя таксама трымаліся правілаў, выступаючы напрыканцы дыскусіі з самакрытыкай і засведчыўшы, вуснамі прафесара П'янкова, што — нягледзячы на ў цэлым цяжкія ўмовы працы навукоўцаў-гісторыкаў — пэўных памылак можна было б пазбегнуць, калі б калегі з Інстытута выказвалі „больш крытыкі і самакрытыкі“. Нават Гарбуноў, чые прапагандысцкія тэксты з пасляваеннага дзесяцігоддзя пазначылі пачатак канца беларускай гістарыяграфіі; той самы Гарбуноў, які ў 1959 г. будзе абраны сапраўдным членам АН БССР — нават ён прызнаў неабходнасць выпраўлення памылак у напісаных ім уводзінах да „Истории БССР“. Менавіта яму неўзабаве, на XI пленуме ЦК у лютым 1948 г., Панамарэнка меўся чытаць натацыі й адначасова даць зразумець, што ў гістарычных працах той нават не можа выявіць сябе як роўны з ім, Панамарэнкам:

> „Уступ да кнігі ім быў набраны кавалкамі з розных старасвецкіх аўтараў... Ён... утрымлівае ў сабе буйныя памылкі, няправільна асвятляе пытанні паходжання беларускага народа, беларускай дзяржавы, трактуе ўсе галоўныя пытанні гісторыі Беларусі з пункту погляду контррэвалюцыйных нацдэмаў, а не з пункту погляду савецкіх марксісцкіх гісторыкаў“[81].

Акрамя афіцыйных паведамленняў, маюцца таксама дакументы для ўнутранага карыстання. Рытуал патрабаваў, без адмысловых указанняў, выяўлення — вусна альбо пісьмова — пазіцыі кожнага члена калектыва (факультэта). Беларускі гісторык Д.А.Дудкоў звярнуўся беспасярэдне ў ЦК, каб адзначыць недахопы кнігі і тым самым засведчыць сваю палітычную лаяльнасць[82]. Старэйшы навуковы супрацоўнік ІГ АН БССР выказваў сваё незадавальненне з прычыны адсутнасці палемікі з „буржуазнымі канцэпцыямі адносна гістарычнага працэсу ў Беларусі“ і выразна меў пры тым на ўвазе расійскія вялікадзяржаўніцкія канцэпцыі, а таксама погляды беларускіх ды польскіх нацыяналістаў. У гэтым кантэксце ён, маўляў, лічыў мэтазгодным дадаць да ўсяго праекта „гістарыяграфічны нарыс“. Ро-

[81] Цытуецца паводле: Лыч Леанід. Кардыяграма дэбеларусізацыі, май 1945 — сакавік 1953 г. // ЛіМ, 29.12.1995. С.14—15. У гэтым выпадку с.15. Першая і трэцяя часткі гэтага артыкула з'явіліся адпаведна: Тамсама, 22.12.1995. С.5, 12, а таксама: Тамсама, 5.01.1996. С.14—15.

[82] НАРБ, ф.4, воп.47, спр.117, арк.26—33: „Дудков Д.А. «История БССР. Выпуск 1, Минск, 1946, 128 страниц». (Рэцэнзія)“.

бячы спасылку на пастанову ЦК ВКП(б) ад 14 жніўня 1946 г. „Пра часопісы «Звезда» і «Ленинград»“[83], гэты яшчэ год перад тым беспартыйны кандыдат гістарычных навук бачыў у „барацьбе супраць варожай ідэалогіі пасіўнасці й апалітызму“ найважнейшую ў будучым задачу падсавецкіх гісторыкаў. Для гэтага гісторыка, які разумеў карыснасць напісання сваёй рэцэнзіі не гэтулькі ў прафесійным плане, колькі ў дальнабачных палітычных запэўніваннях, не было сумневу ў тым, што гэтая кніга ні ў якім разе не ёсць прыдатнай у якасці вучэбнага дапаможніка для якой-кольвечы навучальнай установы. За дваццаць гадоў перад тым супрацоўнік Інстытута Сербента ў гэткай самай манеры распраўляўся з „Гісторыяй Беларусі“ Доўнара-Запольскага.

Аб'ектам крытыкі сталіся нават ненадрукаваныя часткі запланаванага аднатамовіка па гісторыі Беларусі. У кожным разе мацней быў зарыентаваны адносна тэксту працы таксама беспартыйны яшчэ ў 1944 г. дацэнт БДУ, кандыдат гістарычных навук П'янкоў. Але і з ягоных заўваг вынікала, што навуковыя здабыткі хутчэй меліся вымярацца палітычнай меркаю. Гэтак, у раздзелах, што тут абмяркоўваюцца, павінны былі б утрымлівацца дзесяць-дванаццаць далейшых высноваў пра змаганне беларускага народа за незалежнасць. У якасці кампенсацыі рэцэнзент прапанаваў „замест гэтага, менш пісаць пра царкву“. Таксама наконт сялянства, маўляў, было недастаткова належных выказванняў, у той час як наконт іншых месцаў П'янкоў толькі мог выказваць сваё здзіўленне:

> „«Селянін з незапамятных часоў быў прывычны схіляць галаву перад Богам ды перад панам». Чаму ж тады сяляне ў XVI—XVIII стагоддзях змагаліся супраць паноў? Відавочна, аўтар думае, што бітвы гэтага часу не мелі ніякіх сацыяльных прычын, што гэтае змаганне мела толькі нацыянальна-рэлігійны характар. Напэўна, аўтар усё ж такі не прытрымліваецца думкі, што феадалізм можа існаваць без эксплуатацыі? Гэта было б гледзішча Пакроўскага“[84].

Агульная выснова рэцэнзента пра тое, што паасобныя кавалкі трэцяй часткі „Истории БССР“ „непрыдатныя“ для апублікавання, не ў апошнюю чаргу абапіралася — у духу даклада Панамарэнкі — на той закід, нібыта аўтар запазычыў шматлікія пасажы з працы 1940 г. „Основные моменты исторического развития Западной Украины и Западной Белоруссии“. Падобныя ацэнкі выказваліся датычна да іншых падрыхтаваных ужо раздзелаў аднатамовіка. Кваліфікаваныя мінскія гісторыкі, чыё вузкае кола наўрад ці ахоплівала больш за трыццаць навукоўцаў, ад самага пачатку дыскусіі цалкам знаходзіліся ў полі ўздзеяння (im Sog) распачатых на загад зверху „рытарычных пагромаў“ (Байраў), якія неўзабаве зрабіліся зусім адасобленымі і самастойнымі.

Кідалася ў вочы тое, што гэткім спосабам любая генерацыйная перавага, якую спадзяваліся мець старэйшыя калегі і прафесары, магла быць пастаўленая пад

[83] Параўн. па гэтым пытанні побач з самім тэкстам пастановы ЦК багатыя на інфармацыю дакументы: „Литературный фронт“. История политической цензуры 1932—1946 г. Сборник документов. Предисловие проф. Д.Байрау. Составитель Д.Л.Бабиченко. Москва, 1994. С.191—225.

[84] НАРБ, ф.4, воп.47, спр.117,арк.18—25: „Пьянков А. «История БССР. Ч.3, проф. А.Савич, Минск, 1946, 115 страниц». (Рэцэнзія за 18.10.1946 г.)“, у гэтым выпадку арк.21.

сумнеў. Маладыя гарачыя галовы гэткіх навукоўцаў, як Абэцэдарскі альбо Каменская, не зважаючы на асобы, атакавалі пераважна старэйшых супрацоўнікаў і аўтараў. Гэтаксама як і іншыя, яны ўспрымалі выдадзеныя партыяй дырэктывы адносна гуманітарнай дзейнасці ў другой палове 40–х г.— як, да прыкладу, адпаведныя пастановы XV пленума ЦК КП(б)Б — за чыстую манету й інструкцыю для дзеяння. Разглядаючы працу Акадэміі ды ўніверсітэта, партыя бачыла галоўную задачу сучаснай гуманітарнай навукі ў „разгортванні барацьбы супраць нізкапаклонніцтва перад замежжам, перад рэакцыйнай буржуазнай культурай“[85]. У варунках палітызаванай крытыкі калегаў і партыйнай дактрыны не было магчымасці нават думаць пра навуковую працу. Асцярожнасць і ўцёкі ў неабавязковыя малыя праекты вызначалі вобраз і спіс публікацыяў Інстытута гісторыі Акадэміі навук БССР. Паміж 1946 і 1954 гадамі яго супрацоўнікі нарадзілі ажно дзесяць манаграфіяў, ад якіх трэба адняць два перавыданні абедзвюх працаў Каменскай і абедзве скончаныя ў партызанскіх сховах кнігі Нікольскага. Ніводная з шасці ўзгаданых працаў не выйшла ў перыяд з 1947 да 1950 г. У 1947 г. Інстытут гісторыі захоўваў поўнае маўчанне[86]. Гэта ні ў якім разе не сведчыла пра тое, што ў інстытуце не вялося ніякай працы. Наадварот. Аўтары „Гісторыі Беларусі“ — праекта, што быў урэзаны з першапачатковых чатырох да двух тамоў — мусілі ўвесь час трымаць справаздачу пра актуальны стан рэчаў. Паколькі ад ажыццяўлення першапачаткова намечанага праекта аднатамовага выдання самае позняе ў 1947 г. давялося адмовіцца, а створаныя ўжо рукапісы толькі ў сваёй нязначнай частцы здолелі ўвайсці ў вялікі праект, укладзены капітал зноў, як выявілася, пайшоў намарна, а час быў страчаны.

Пралогам да „ждануўшчыны“ ў беларускай навуцы зрабілася скліканая яшчэ ў лютым 1947 г. Усебеларуская канферэнцыя загадчыкаў кафедраў і дацэнтаў, якая была сабраная і кантралявалася прысланым адмыслова з Масквы загадчыкам „Агитпропа“ пры ЦК ВКП(б) Якаўлевым. Ягоны заклік — „мы павінны своечасова выкрываць любога роду нацыяналістычныя канцэпцыі!“ — быў тут жа падтрыманы беларускімі прамоўцамі: да прыкладу, яго беспасярэднім падначаленым, кіраўніком „Агітпропа“ пры ЦК КП(б)Б Бугаёвым. Менавіта апошні пад час вышэйзгаданага пленума паддаў знішчальнай крытыцы „Историю БССР“ і Інстытут гісторыі АН БССР. Тое самае выказвалася і на адрас літаратуразнаўчай навукі. Не магла не кідацца ў вочы паралельнасць мінскіх падзеяў з тым, што адбывалася ў Маскве і Кіеве. Гэткім спосабам былі з'ініцыяваныя хвалі забаронаў перадусім у дачыненні да пісьменнікаў[87].

[85] О политической и идеологической работе КП(б) Белоруссии среди интеллигенции [XV пленум ЦК КП(б)Б, 27.11.—1.12.1947] // КПБ в резолюциях и решениях съездов и пленумов ЦК. Мінск, 1986. Т.4. С.197—198.

[86] Звесткі прыводзяцца паводле: Костюк М.П. (рэд.). Институт истории Академии наук Беларуси: Краткий очерк. Мінск, 1992. С.64 і наст. Тут былі закранутыя — натуральна, з гледзішча ідэалогіі „перестройки“ — толькі „падставовыя працы“. Аднак, што да тэндэнцыі нашых назіранняў, гэта ніяк не зменшыла спецыфікі нашай сітуацыі.

[87] У дачыненні да Зошчанкі параўн.: РЦХИДНИ: „Литературный фронт“. С.215—221 і інш. Крытыка распачалася з памфлета: Климов П., Цветков И. О недостатках в печатной пропаганде и в литературе Белоруссии // Культура и жизнь, 11.01.1947. С.3. Пра пераслед літаратараў у БССР у агульным плане параўн.: Hlubinny, Ul. Vierzig

Але крыху пазней падзеі пачалі развівацца бурліва. Ужо ў студзені ЦК утварыў камісію, у складзе якой правераныя гісторыкі апошніх генерацыяў (Перцаў, Нікольскі, П'янкоў, Каменская, Карнейчык, Воранава, Шабуня) пры ўдзеле і пад кантролем надзейных функцыянераў ЦК (Малінін, Бугаёў, Малочка) павінны былі распрацаваць „Тэзы да асноўных пытанняў гісторыі БССР“. Пад старшынствам П.В.Саевіча група адразу ж узялася за працу. Зрэшты, да вызначанага часу кантролю за выкананнем задання з боку „Агітпропа“ і неабходнага наступнага, да 20 сакавіка 1948 г., ухвалення на Бюро ЦК заставаліся не больш як два месяцы[88]. Нарэшце, улетку 1948 г. аўтарскі калектыў прад'явіў „Тэзы“, якія былі прапанаваныя на абмеркаванне ў двухмоўным часопісе „Бальшэвік Беларусі“[89]. Напрацаваны матэрыял зводзіўся да наступных галоўных тэзаў: 1) гісторыя эксплуатацыі беларускага народа літоўскімі князямі і польскімі панамі ў XIV—XVIII ст.; 2) нацыянальна-рэлігійны прыгнёт беларускага народа ў Рэчы Паспалітай; 3) адсталасць гарадскога жыцця ў Беларусі ў XV і XVI ст. і абвяржэнне тэорыі „залатога веку“; 4) здрада феадальнай эліты Беларусі і Украіны інтарэсам сваіх народаў на карысць чужаземных прыгнятальнікаў; 5) станоўчая роля праваслаўя ў барацьбе супраць каталіцызму і звязанай з ім паланізацыі; 6) „рост сімпатыяў народных масаў“ да Маскоўскай дзяржавы „старэйшага брата“ Расіі; 7) „прагрэсіўная місія“ Расіі ў справе „вызвалення“ Беларусі ад ярма літоўскіх феадалаў і польскіх паноў; 8) сувязь нацыянальна-вызвольнае барацьбы беларускага народа з барацьбой супраць сацыяльнага паняволення; 9) паказ войнаў XVII ст. як войнаў украінскага і беларускага народаў за вызваленне ад польскага прыгнёту; 10) „прагрэсіўны характар“ „уз'яднання“ Беларусі й Украіны з Расіяй — перадусім з гледзішча гаспадарчага развіцця і росту гарадоў; 11) вызначэнне паўстання 1863 г. як сялянскага руху, якому былі цалкам чужыя лозунгі польскага нацыянальна-вызвольнага руху; 12) атаясамленне нацыянальнага руху Беларусі з нацыяналізмам; з гэтага пункту погляду Беларуская сацыялістычная грамада (БСГ) рабілася „нацыяналістычнай арганізацыяй“, што рэпрэзентавала „інтарэсы беларускага кулацтва“.

Прадэманстраванае тут бачанне гісторыі ставіла беларускія тэрыторыі ў „прагрэсіўную“ сістэму ўзаемаадносін з Расіяй. Праз яго прыналежнасць гэтых земляў да літоўскага і польскага дзяржаўнага арганізма рэдукавалася да гісторыі прыгнёту вясковага беларускага жыхарства, якое — ад самага Сярэднявечча знаходзячыся ў стадыі перманентнай вызвольнай акцыі — „марыла“ пра далучэнне да Расіі. Рэкламаваны нацыянальнай гістарыяграфіяй „залаты век“, што меў месца ў XVI ст., адкідаўся як нацыяналістычная прапаганда — гэтаксама як „нацыянальнае Адраджэнне“ канца XIX — пачатку XX ст. У гэткай інтэрпрэта-

Jahre weißrussischer Kultur unter den Sowjets. München, 1959 [Institut zur Erforschung der UdSSR. Monographien, Serie I, Nr.55]. С.93 і наст.

88 НАРБ, ф.4, воп.81, спр.6, арк.22: Пратакол паседжання Бюро ЦК за 17.01.1947 г. „О разработке тезисов «Об основных вопросах истории БССР»“. На тым самым паседжанні была прынятая наступная пастанова, „О важнейших вопросах развития белорусской литературы и искусства“.

89 Тэзісы аб асноўных пытаннях гісторыі БССР // Большэвік Беларусі. 1948. №8(19). С.36—72 (надалей: „Тэзы“). Акрамя гэтага, гл. у: Весці АН БССР. 1948. №3.

цыі гісторыя Беларусі непазбежна мусіла весці да савецкага часу і „братняга хаўрусу“ з Расіяй. Хоць пасля апублікавання названых тэзаў ізноў закруцілася карусель крытычных выказванняў, у цэлым „Тэзы“ 1948 г. зафіксавалі БССРаўскую гістарычную версію.

30 верасня і 1 кастрычніка таго самага года — як гэта мела месца і за два гады перад тым — была зарганізаваная вялікая імпрэза ў АН БССР. Хоць кола яе ўдзельнікаў было пашыранае праз далучэнне архіўных работнікаў, дырэктараў музеяў, а таксама настаўнікаў мінскіх сярэдніх школ, стратэгія яе правядзення засталася гэткай самай, як і ў пазалеташнім годзе. Што праўда, інаўгурацыйны даклад цяпер было даручана зрабіць гісторыку. Перцаў, які не толькі дзякуючы сваёй пасадзе сакратара аддзела грамадскіх навук меў давер з боку ЦК, падкрэсліў значэнне „Тэзаў“ дзеля „правільнага і ўгрунтаванага на марксісцка-ленінскім вучэнні разумення працэсу гістарычнага развіцця Беларусі“[90]. Падступаючыся да шматтамовага „Курса гісторыі Беларусі“, аўтары тэзаў, маўляў, сканцэнтравалі сваю галоўную ўвагу на тым, каб пераадолець „фальшывыя, шкодныя, чужыя марксісцка-ленінскай метадалогіі гістарычныя канцэпцыі, што ляжаць у падмурку шматлікіх буржуазных і нацыяналістычных працаў“. Як прапанаваная перыядызацыя гісторыі і ўвядзенне беларускага народа ў кантэкст паходжання, развіцця і супольнай барацьбы братніх усходнеславянскіх народаў, гэтак і ацэнка Кастрычніцкай рэвалюцыі як вызвольнага прарыву са шматвяковага сацыяльнага і нацыянальнага прыгнёту адпавядалі каментарам, што даваліся ў 1946 г., а тым самым — і партыйнай версіі гісторыі.

Паралельна з маскоўскімі дыскусіямі пра „касмапалітаў“, пачынаючы з 1948 г., у Мінску таксама ўзмоцнена пачалі апераваць знакавымі паняццямі. Упершыню ўжытыя ў дакладзе Перцава тры стрыжнявыя словаспалучэнні, вакол якіх з гэтага часу групаваліся крытычныя і самакрытычныя выказванні, меліся азначаць варожыя канцэпцыі пра „единый поток“, пра „золотой век“ і пра „ненужность классовой борьбы“. У той час як апошнія дзве яшчэ ў 20-х і на пачатку 30-х г. выклікалі пратэсты найноўшага пакалення гісторыкаў, формула пра „адзіны паток“ толькі цяпер стала аб'ектам абмеркаванняў на сходах і на дыскусійных старонках у „Большэвіку Беларусі“. Для апісання гэтай „нацыяналістычнай канцэпцыі“ Перцаў знайшоў няшмат словаў: „Уся гісторыя Беларусі паказвалася нацыяналістамі як *адно* агульнанацыянальнае змаганне ўсіх беларусаў за сваю мову, сваё веравызнанне і сваю нацыянальную самабытнасць супраць чужаземных прыгнятальнікаў“. Было відавочным, што найперш меліся быць выразным чынам крытыкаваныя высновы адносна гісторыі XIV, XV і XVI ст. Даследаванне гаспадарчага і культурнага развіцця ў гэты час у вачах блізкай да партыі крытыкі ўспрымалася як рэанімацыя нацыяналістычнай тэорыі „залатога веку“ і як ідэалізацыя патрыярхальнай і феадальнай мінуўшчыны. Шкоднаму ўплыву літоўскай і польскай культуры на культуру беларускага народа ў будучыні яшчэ ў большай ступені меўся быць проціпастаўлены станоўчы ўплыў расійскай культуры.

[90] БЕЛТА: Общественное обсуждение тезисов по основным вопросам истории БССР // Советская Белоруссия, 6.10.1948 г. С.1. Усе наступныя цытаты ўзятыя адсюль. Назву БЕЛТА мела афіцыйнае беларускае прэсавае агенцтва.

Пятнаццаць удзельнікаў дыскусіі цалкам прысвяцілі свае выступы задачам гісторыкаў. Крытыкі й аўтары звыклым спосабам чаргавалі абвінавачванні на адрас іншых з даносамі на саміх сябе[91]. Тыя, хто не здолеў узяць удзелу ў нарадзе, дасылалі свае крытычныя выступы і палітычныя запэўніванні ў рэдакцыю „Большэвіка Беларусі" альбо, зноў–такі, наўпрост у ЦК. Гэтак, таварыш Мартынаў з Магілёўскага педагагічнага інстытута павінен быў выказаць пярэчанне наконт таго, што нібыта перыядызацыя гісторыі першабытнага грамадскага ладу недакладна адпавядае метаду, прапанаванаму Энгельсам у ягонай працы „Пра паходжанне сям'і, прыватнай уласнасці і дзяржавы". Палікарповіч, які ў гэтых словах чуў выклік да сябе як да аўтара, хоць і вітаў крытыку, але сцвярджаў, што ён адназначна арыентуецца на Энгельса. У пісьмовым звароце супрацоўніцы БДУ Карнеевай–Петрулан зазначалася, што фармулёўка, згодна з якой пісьменства распаўсюдзілася на Кіеўскай Русі толькі пасля яе хрысціянізацыі, мелася ствараць уражанне, „нібыта пісьменства і літаратурная мова былі прынесеныя нашаму народу звонку"[92]. Гісторык і калега па Акадэміі Краўчанка лічыў, што роля беларускай шляхты і, тым самым, „класавая барацьба" ўнутры Беларусі павінны быць выяўленыя мацней, чым гэта мела месца дагэтуль. Менавіта гэтак меўся быць нанесены адчувальны ўдар па тэорыі „адзінага патоку". Да XIX і XX ст. нічога асаблівага дадаць крытыкі не мелі. Тут, дзякуючы тэлеалагічнаму падыходу аўтараў, усё неабходнае ўжо было сказана. Рэжысёры крытычнай хвалі ў канцы нават папракалі аўтараў водгукаў за канцэнтрацыю іх увагі на дарэвалюцыйным часе. Тым не менш, у выніку ад дыскусіі засталося станоўчае ўражанне — не гэтулькі ад саміх тэзаў і зместу спрэчак, колькі ад абыходжання з імі:

> „У БССР маецца дастаткова навуковых сілаў, здольных на падставе крытыкі і самакрытыкі выправіць сур'ёзныя памылкі на гістарычным фронце. Яны маюць усе магчымасці пад кіраўніцтвам бальшавіцкай партыі на чале з вялікім Сталіным забяспечыць далейшае развіццё марксісцка–ленінскай гістарычнай навукі"[93].

Пасля гэткага абмену патокамі палемікі з іншымі і з самімі сабою гісторыкі ўперліся спінамі ў сцяну. Даследаванне гістарычных фактаў ва ўсё большай ступені рызыкавала апынуцца пад завалам палітычнага макратэксту. Адпаведным чынам, познесавецкае гісторыяпісанне справядліва ахарактарызавала „Тэзы да асноўных пытанняў гісторыі БССР" як часовы „канец беларускай гістарыяграфіі", дадаючы да гэтага:

> „З увагі на тое, што тэзы ствараліся на даручэнне ЦК КП(б)Б, пакладзеная ў іх падмурак канцэпцыя ўзгадоўвала дагматызм у гістарычнай навуцы, які, са свайго боку, мусіў мець адмоўны ўплыў на будучыя даследаванні гісторыі Беларусі, не толькі што датычыцца сінтэтычных працаў, але і ў дачыненні да паасобных публікацыяў гісторыкаў"[94].

[91] Параўн. пункт погляду рэдакцыі часопіса „Большэвік Беларусі", пададзены гэтаксама ананімна, як за год перад тым тэзы: За создание марксистско–ленинской истории Белоруссии // Большэвік Беларусі. 1949. № 1(20). С.59—65.

[92] Тамсама, с.61 і наст.

[93] Тамсама, с.65.

[94] Храпко Л.П. Развитие исторической науки в БССР... (op.cit.). С.166.

Да пачатку наступнага цыкла не прайшло і паўгода. Ужо напрыканцы 1948 г. выдавецтва Акадэміі здолела падрыхтаваць тры пілотныя тамы працы і паводле загадзя вызначанай схемы раздаць іх на крытычны разгляд у інстанцыі, што знаходзіліся ў чаканні[95]. Як бы тое ні было, але створаны „макет“ стаў першым аглядным выкладам беларускай гісторыі, які ахопліваў падсавецкі перыяд. (З „Тэзаў“ была раней апублікаваная толькі першая частка, змест якой не сягаў далей за 1917 г.) Ужо неўзабаве зрабілася відавочным, што аўтары здолелі ўмантаваць у сваю працу толькі найважнейшыя заўвагі з ліку тых, што выказваліся пад час дэбатаў па „Тэзах“. Праект быў ад самага пачатку асуджаны на няўдачу. Тым больш выразна крытыка і самакрытыка прагучалі ў сакавіку 1949 г. У святочным дакладзе на юбілейным паседжанні, прысвечаным 20-годдзю АН БССР, Перцаў падкрэсліў, што пра стварэнне на падмурку „партыйнасці“ і „калектыўнымі намаганнямі“ „Истории БССР“ немажліва было б і думаць менавіта „без калектыўнага дараднiцтва, без таварыскай крытыкі“: „Перадусім тэзы і іх грамадскае абмеркаванне дапамаглі ў тым, каб больш дакладна высветліць неадназначныя пытанні і больш слушна ахарактарызаваць гістарычнае развіццё Беларусі“[96].

Кіраўніцтва Акадэміі на чале з прэзідэнтам М.І.Грашчанкавым само кіравала ходам крытычнай сесіі. Занадта доўга чакалі гэтага праекта, каб цяпер не аддаць яму найвышэйшае ўвагі. „Тэзы“, вядома, знізілі ўзровень чаканняў крытыкаў. Ізноў менавіта гісторык старажытнасці Перцаў пісаў уводныя каментары, гэтым разам ён таксама быў адным з аўтараў. Ролю партыйнага пракурора ўзяла на сябе акадэмік Акадэміяў навук БССР і СССР Г.М.Панкратава: „Бальшавіцкая крытыка і самакрытыка дапамагае ў тым, каб выявіць усе недахопы праекта гісторыі й стварае магчымасці знаходзіць найлепшыя шляхі развязання праблем у адпаведнасці з метадалагічнымі прынцыпамі марксісцка-ленінскай навукі“[97]. Той факт, што менавіта першы том трохчасткавага праекта прыцягнуў да сябе найбольшую ўвагу крытыкаў, зноў-такі быў звязаны з перыядызацыяй, у якой, на думку Панкратавай, заўважалася імкненне занадта прасталінейна ўвасобіць класічную марксісцкую тэорыю пра фармацыі. Вылучаныя падэтапы і адрозненні ў межах фармацыяў, маўляў, абмяжоўвалі стройнасць паслядоўнага выкладу. У той самы час трэцяму тому, з гледзішча маскоўскіх гісторыкаў, бракавала тэарэтычнай угрунтаванасці. У перапрацаваным варыянце мусіла, маўляў, быць больш выразна адзначана канкрэтнае значэнне вучэння Маркса, Энгельса і Леніна для пабудовы сацыялізму ў БССР. Да таго ж, Панкратавай ды іншым не хапала „вызначэння савецкага патрыятызму як крыніцы на-

[95] ИИАН БССР (рэд.). История БССР (макет), т. 1—3. Мінск, 1948 (Ч.1, 459 с.; Ч.2, 503 с.; Ч.3, 483 с.).

[96] Перцаў В.Н. Метады і прынцыпы работы над курсам „Гісторыі БССР“ // Матэрыялы юбілейнай сесіі АН БССР, студзень 1949. Мінск: [Выд. АН БССР], 1950. С.55—67, у гэтым выпадку с.56. [Гэтая і наступная цытаты падаюцца ў зваротным перакладзе з нямецкай мовы. — *Заўвага перакладчыка*].

[97] Цытуецца паводле: Абмеркаванне макета „Гісторыі БССР“ // Весці АН БССР. 1949. № 2(10). С.144—148. Прыклад іншай нерасійскай „Гісторыі“ падаецца ў: Meurs, Wim P.van. The Bessarabian Question in Communist Historiography. Nationalist and Communist Politics and History Writing (East European Monographs, vol.387). New York, 1994. С.180 і наст.

роднага гераізму і як найважнейшай рухальнай сілы савецкага грамадства". Гэткім чынам, структура трэцяе часткі, а таксама цэнтральныя раздзелы пра „ўтварэнне БССР, Вялікую Айчынную вайну, удзел працоўных у пабудове сацыялізму, вядучую ролю партыі" меліся зазнаць „карэнных змяненняў". Маўляў, у тэксце гаворка толькі адзін раз ішла пра савецкі патрыятызм, а менавіта — у звязку з падзеямі Вялікай Айчыннай вайны. За гэтым стаяў той факт, што эмацыянальнае ўзвышэнне беларускага вызвольнага чыну ў праекце 1948 г. пакідала на другім плане (überlagerte) лозунг савецкага патрыятызму.

Пра тое, як грунтоўна быў абстаўлены сцэнар крытыкі, сведчыць тая роля, што была адведзеная партыйнаму кіраўніку Полацкай вобласці пэўнаму І.П.Ганенку. Ягонай задачай было падмацаваць крытыку першага тома і зазначыць неадпаведныя стасункі фактычнага матэрыялу і агульных ацэнак ды вызначэнняў, а таксама звярнуць увагу на тое, што, маўляў, у пачатку трэцяга тома даслоўна і без неабходных падставаў паўтараюцца шматлікія кавалкі з „Кароткага курса". Але ў рытуале актыўна прысутнічала і прачуханка з боку беларускіх калегаў. М.Д.Мельцэр зрабіў аўтарам закід адносна таго, што матэрыял пра падрыхтоўку Кастрычніцкай рэвалюцыі, апошні раздзел другога тома, быў напісаны „на недастаткова высокім узроўні". Так, на думку гэтага загадчыка кафедры гісторыі СССР Гомельскага педагагічнага інстытута, нездавальняльна быў паказаны характар Кастрычніцкай рэвалюцыі як „рэвалюцыі працоўных масаў, рабочых і сялян".

Права генеральнага наступу, аднак, было перададзена зноў-такі неафіту (Newcomer) беларускай падсавецкай гістарыяграфіі Л.С.Абэцэдарскаму, які цяпер на дваццаць наступных гадоў канчаткова здабыў у вачах ЦК кваліфікацыю галоўнага аўтарытэта беларускага гісторыяпісання. Менавіта яму было даручана рашуча запярэчыць тэзе адсутнасці класавай барацьбы і сацыяльна-класавых адрозненняў у беларускай мінуўшчыне, бо якраз гэтая тэза істотным чынам ставіла пад сумнеў савецкую версію гісторыі. Абэцэдарскага як аднаго з першых павінны былі дадаткова ўключыць у аўтарскі калектыў па падрыхтоўцы канчатковай версіі праекта 1954 г. У астатнім партыя не рабіла таямніцы са сваёй незадаволенасці якасцю, „партыйнасцю" ды колькасцю навуковых вынікаў. У дачыненні да падрыхтаваных у 1949 г. сектарамі гісторыі і літаратуры праектаў былі выказаныя выразныя дэфініцыі:

> „У праекце кнігі «История БССР», распрацаваным Інстытутам гісторыі, былі дапушчаныя палітычныя памылкі — перадусім у раздзеле, у якім разглядаецца гісторыя савецкага перыяду БССР. Істотныя памылкі ёсць таксама ў арфаграфічным слоўніку і ў «Тэзах да гісторыі беларускай літаратуры», падрыхтаваных Інстытутам літаратуры, мовы і мастацтва. Шмат якія тэмы былі выкананыя на нізкім тэарэтычным узроўні"[98].

У далейшай частцы дакумента ЦК дае ўказанні гісторыкам і літаратуразнаўцам адносна „ўзмацнення навуковай працы інстытутаў грамадскіх навук праз распрацоўку агульнага «Курса гісторыі БССР», а таксама агульнага «Курса гісторыі

[98] НАРБ, ф.4, воп.81, спр.223, арк.11—14: Пратакол паседжання Бюро ЦК за 18.11.1949 г.: Пра выкананне плана навукова-даследчай працы АН БССР за 1948—1949 г., у гэтым выпадку арк.12.

беларускай літаратуры», распрацоўку падручніка «Гісторыі БССР» для сярэдніх школ, падрыхтоўку расійска-беларускага і беларуска-расійскага слоўнікаў, удасканаленне правапісу, выданне Збору твораў Янкі Купалы і падрыхтоўку «Гісторыі грамадскай думкі Беларусі»“[99].

Да таго часу трэба было прайсці яшчэ шматлікія колы. У 1951 г. ужо існаваў новы праект у двух тамах, які рэцэнзаваўся ў ЦК КП(б)Б. Потым з'явіўся яшчэ адзін двухтамовік, завершаны ў 1952 г. Праведзенае ў снежні 1952 г. абмеркаванне, якое суправаджала гэты працэс, мела ўжо характар амаль што руціннай справы. Тым не менш, цяпер праект атрымаў станоўчую ацэнку як „грунтоўнае навуковае даследаванне гісторыі беларускага народа“[100]. Хоць ЦК і даў сваю згоду, да выхаду першага тома павінны былі прайсці яшчэ два, а да падачы другога тома — шэсць гадоў. Гэтым самым гісторыя стварэння першай „Истории БССР“ сталася працэсам рэкрутавання асабовага складу для ажыццяўлення будучых задач. Цягам дзесяці гадоў у бясконцых дэбатах аддзялялі мякіну ад зерня беларускага гістарычнага цэха. Тое, чаго не ўдалося дамагчыся з дапамогай крытыкі і самакрытыкі, цяпер само сабою вырашалася праз змену пакаленняў.

Прынцыповае рэцэнзаванне першага тома „Истории“ 1954 г. узялі на сябе маскоўскія гісторыкі на чале з М.М.Дружыніным. Пераважная прыхільная ацэнка вызначала станоўчай якасцю „Истории БССР“ тое, што была створаная „кніга пра гісторыю народных масаў, сацыяльна-эканамічныя варункі іх існавання ў розных эпохах, а таксама пра класавую барацьбу“. Пасля выказвання рэцэнзентам слоў шанавання для аўтараў і цеснай прывязкі беларускай гісторыі да расійскай тыя, каму рэцэнзія адрасаваліся, маглі пачувацца яшчэ лепей. Тым самым можна было не зважаць на нешматлікія заўвагі, што Дружынін сфармуляваў, *па-першае*,у дачыненні да неабходнасці ўдакладнення пытання пра „адзінства класавых інтарэсаў народных масаў у Беларусі, Расіі, Польшчы ды Літве ў XIV—XVIII стагоддзях“; *па-другое*, беручы пад увагу той факт, што ўтварэнне беларускай „народности“ не гэтулькі было справай культурнага, колькі сацыяльна-эканамічнага развіцця; *па-трэцяе*, з гледзішча шматэтнічнага складу насельніцтва Беларусі і спецыфікі класавай барацьбы, якая з гэтага вынікае[101].

У 1954 г. патэнцыял крытыкі быў вычарпаны. Цяпер ужо нішто не перашкаджала ажыццяўленню прапановы камісіі наконт апублікавання „Истории Белорусской ССР“ першым накладам 30 000 паасобнікаў. Тыраж мусіў быць на-

[99] Тамсама, арк.14.

[100] ИИАН БССР (рэд.). История БССР (макет), т. 1—2. Мінск, 1951; ИИАН БССР (рэд.). История БССР (макет), т. 1—2. Мінск, 1952.

[101] Дружынін М.М. Крытыка і бібліяграфія: „Гісторыя Беларускай ССР“ // Звязда, 5.10.1954. С.2—3. Перакладзена з: Правда, 4.10.1954. С.3. Для постсавецкай гістарыяграфіі, натуральна, ацэнкі былі іншыя. Гэтак, паводле Храпко, і ў „Гісторыі“ 1954 г. тэмы „нацыянальнай гісторыі“ былі пададзеныя вельмі павярхоўна і схематычна, што не ў апошнюю чаргу вынікала з нізкага ўзроўню развіцця (афіцыйных) навуковых даследаванняў. Датычна раздзелаў пра Вялікае Княства Літоўскае, пра дачыненні з Масквой пасля „ўз'яднання“, пра паўстанне 1863 г. і г.д., маўляў, увесь час „прасвечвала“ схема „Тэзаў“ 1948 г. Ужо ў 1961 г., у другім выданні, паўстанне больш не называлася „сялянскім“, а „ў сваёй сутнасці, шляхецкім“ паўстаннем. Гл.: Храпко Л.П. Развитие исторической науки в БССР... (op.cit.). С.173.

друкаваны пароўну на расійскай і на беларускай мовах. Прэзідыуму АН БССР было даручана здзейсніць выданне тома ў тэрмін да 15 траўня 1954 г.; урэшце пры ўсіх матэрыяльных выдатках можна было разлічваць на падтрымку Савета міністраў, які, са свайго боку, даў указанне падтрымаць выданне „Истории" ўсімі неабходнымі матэрыяламі[102]. Праз 37 гадоў пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі і за 37 гадоў да распаду Савецкага Саюзу, праз год пасля смерці Сталіна з'явіўся першы том ухваленай з усіх бакоў версіі беларускай гісторыі з марксісцкага гледзішча. Толькі калі ў 1958 г. выйшаў другі том, „Гісторыя Беларускай ССР" магла лічыцца „цалкам апрацаванай".

На падобна доўгі тэрмін апрацоўкі сваёй скроенай на савецкі ўзор гісторыі сярод падсавецкіх рэспублік магла спаслацца толькі Украіна. Партыйны нагляд за працай тут, здаецца, быў яшчэ больш інтэнсіўны. У кожным разе, пачынаючы з 1947 г., усе ўкраінскія аўтары, што бралі ўдзел у распрацоўцы „Гісторыі УССР", мусілі праходзіць двухмесячныя стажы ў Маскоўскім усесаюзным Інстытуце гісторыі. Аўтары, якія займаліся перыядам ад пачатку XX ст. да заснавання СССР, акрамя таго, выклікаліся на паседжанні камісіі, у якую ўваходзіў страшны шмат для каго член ЦК КП(б)У Лазар Кагановіч і ўдзельнікі якой, у дадатак, былі забяспечаныя кампраметавальным матэрыялам. Хоць прыспешванне выканання працы было надзвычай моцным, да таго часу ў наяўнасці меўся толькі артыкул пра гісторыю Украіны для „Большой Советской Энциклопедии". Пічэта напісаў яго незадоўга да сваёй смерці і тым самым выклікаў амаль што скандал. З ягонай ні ў якім разе не расійскацэнтрычнай пазіцыяй датычна ўкраінскай гісторыі ледзьве не абышліся як з артыкулам „Берия". Апошні мусіў быць заклееены падпісчыкамі дадаткова напісаным артыкулам „Берингов пролив". Толькі стостаронкавы аб'ём Пічэтавага артыкула пра Украіну і 45-тысячны наклад перашкодзілі партыйным наглядчыкам ажыццявіць планаванае выдаленне названага матэрыялу[103].

У кожным разе, да ўзнікнення канчатковага і кананічнага варыянта першай „Гісторыі Украінскай ССР" спатрэбіліся чатыры праекты з абавязковымі вялікімі дыскусіямі. У параўнанні з мінскімі турамі крытыкі, апошнія рыхтаваліся з яшчэ большым размахам. Урэшце, у сітуацыі пасля далучэння Заходняй Украіны ставілася задача асіміляваць традыцыю цэлай гістарыяграфічнай школы і скласці прысягу новай версіі інтэрпрэтацыі мінуўшчыны. І ў гэтым выпадку зборнік тэзаў 1949 г. праштампаваў той спосаб інтэрпрэтацыі гісторыі, які, з савецкага гледзішча на ўкраінскую гісторыю, не мог дазволіць жадаць чаго-кольвечы лепшага. Два наступныя праекты пайшлі ў макулатуру, перш чым у 1953 г. чацвёрты праект стаўся „Гісторыяй Украінскай ССР", даведзенай, аднак, толькі да 1917 г. Пасля смерці Сталіна гэты том яшчэ быў нязначна нанова адрэдагаваны, перш чым у 1955 г. выйшла новае выданне. Праз тры гады з'явіўся другі том. Нягледзячы на розныя інстытуцыянальныя перадумовы, Украінская і Беларуская ССР толькі ў 1958 г. займелі ўхваленыя партыяй сінтэтычныя працы па сваёй гісторыі.

[102] НАРБ, ф.4, воп.81, спр.838, арк.20: Пратакол паседжання Бюро ЦК за 16.03.1954: Пра публікацыю „Истории Белорусской ССР", т.1 (Гарбуноў, Перцаў, Абрасімаў, Патолічаў).

[103] Пичета В. История // БСЭ, т.55. Кал.858—948. Параўн.: высновы ў: Velychenko, Stephen. Shaping Identity in Eastern Europe and Russia. Soviet Russian and Polish Accounts of Ukrainian History, 1914—1991. New York, 1993. С.155—164.

## 3. Версіі гісторыі: паміж савецкім патрыятызмам і нацыянальнымі амбіцыямі

У выніку ваяўнічых дэбатаў у межах пасляваеннай гістарыяграфіі паўстала канчатковая версія савецкага бачання гісторыі. Ацэнка расійскай і нерасійскай мінуўшчыны цяпер грунтавалася выключна палітычнымі пастулатамі, якія прынеслі з сабой пераможная ваенная кампанія, нарастанне процістаяння з Захадам і ідэалагічныя нормы марксізму–ленінізму. Пасля 1945 г. гістарычная навука ва ўсё больш значнай ступені выконвала функцыю легітымацыйнага вучэння. Каля стырна цяпер ужо стаялі гісторыкі новай генерацыі. У канцы 40–х г. час разнастайнасці навуковых біяграфіяў і інтэрпрэтацыйнай разнастайнасці канчаткова прамінуў. З асобамі Тарле і Пічэты, якія да публікацыі ў 1947 г. у новым гістарычным часопісе „Вопросы истории" сваёй вялікай працы пра „ўзнікненне беларускага народа" ўжо не дажыў, у паваенным дзесяцігоддзі з гістарыяграфічнае сцэны сышлі два з найбольш знакамітых „буржуазных" гісторыкаў. Што праўда, яны яшчэ паспелі ўзяць чынны ўдзел у летняй стратэгічнай дыскусіі 1944 г. Але выбар і апрацаванне тэмаў цяпер цалкам знаходзіліся ва ўладзе гісторыкаў, што ў поўнай меры былі выхаванцамі савецкіх установаў.

У беларускай гістарычнай навуцы таксама адбылася змена асабовага складу. У якасці спецыфічнай рысы да ўсяго астатняга дадавалася тое, што тутэйшыя гісторыкі ў выніку тэрытарыяльных зменаў пад знакам пакта Гітлера—Сталіна і горкага досведу Вялікай Айчыннай вайны бачылі перад сабой новыя найважнейшыя тэмы даследаванняў. У той час, калі на пачатку 30–х г. ужо вызначыліся парадыгмы інтэрпрэтацыі даўнейшай гісторыі, найноўшыя падзеі запатрабавалі абгрунтаванняў, якія ў сваёй сутнасці сягалі ўглыб гісторыі. Своеасаблівым чынам ідэалогія савецкага патрыятызму пачала аздабляць сябе нацыянальнай арнаментацыяй. Надалей мы пакажам гэткія працэсы на прыкладзе трох канкрэтных праблем. Вызначэнне паходжання беларускага народа, гістарызацыя „ўз'яднання Беларусі" ў 1939 г. і стварэнне гісторыяпадобнага партызанскага міфа ілюструюць акт гістарычнага збалансавання савецка–патрыятычнай і неанацыянальнай версіяў гісторыі.

Пафас вайны адназначна паспрыяў узнікненню новага штурпіка да гістарызацыі, які, відавочна, не мог абмінуць пэўныя нацыянальныя сегменты. З беларускага гледзішча амаль лагічна вынікала тое, што „фашысцкія захопнікі" выяўлялі сябе як „вековечные враги" і што з'ініцыяваная самім Сталіным рэнацыяналізацыя мовы, у якой цяпер зноў знайшлі сваё месца паняцці кшталту „радзімы", „нацыі" і да т.п., таксама вярнула ў навуковую мову катэгорыі нацыянальнага. У апалагетычных тэкстах Ц.С.Гарбунова ў дачыненні да новага часу гаворка йшла пра „нацыянальную свядомасць беларускага народа" і пра „найважнейшых прадстаўнікоў нацыянальна–культурнага руху"[104]. Вывучэнне сітуацыі ў іншых рэспубліках і перыферыйных працэсаў магло б засведчыць, што

[104] Параўн. прадмову Ц.Гарбунова да выдання: История БССР. Вып.1. (Выд. АН БССР). Мінск, 1946 (op. cit.). С.I—XXII, у гэтым выпадку с.VI. Гэты тэкст папярэдне быў

гэтае паўторнае ўвядзенне нацыянальна афарбаванай тэрміналогіі ў гуманітарных навуках ды мастацкай літаратуры было ў той самы час агульнасаюзнай з'явай ваеннай і паваеннай эпохі.

## 3.1. 1939 год і „сацыялістычная дзяржаўнасць“

Узгоднены ў дамове аб ненападзе паміж Савецкім Саюзам і нацыянал-сацыялісцкай Нямеччынай за 23 жніўня 1939 г. — а дакладней, у артыкуле 2 дадатковага сакрэтнага пратакола — падзел сфераў інтарэсаў у Польшчы мог бы даць Сталіну мажлівасць займець значна большы прырост тэрыторыі. Пад час перамоваў з нямецкім міністрам замежных справаў Ёахімам фон Рыбэнтропам 18 верасня 1939 г. ён выказаў засцярогі што да „падзелу тэрыторыяў з чыста польскім жыхарствам“: маўляў, гісторыя даказала, што польскае насельніцтва ўвесь час імкнецца да ўз'яднання. Таму раздзяленне польскага насельніцтва магло б лёгка прывесці да хваляванняў[105]. Брытанскі прэм'ер Чэрчыль у сваіх успамінах пра размовы са Сталіным пад час Тэгеранскай канферэнцыі ў 1943 г. зазначаў, што апошні ў дачыненні да будучыні Польшчы яшчэ раз выказаўся, што яму „не патрэбнае польскае насельніцтва“ і што ён бы „ахвотна адмовіўся ад рэгіёнаў, заселеных палякамі“[106]. Таму прасоўванне Чырвонай арміі на захад абмежавалася тэрыторыямі, дзе жывуць братнія народы, украінцы і беларусы; аселыя ў заваяваных абласцях палякі ў сваёй большыні былі дэпартаваныя. Наконт дыпламатыі, статыстычных звестак і тэхналогіяў перасялення, пачынаючы з канца 1939 г. пыталіся таксама ў гісторыкаў. Ставілася задача надаць заваяваным тэрыторыям і ўладзе над імі папулярнае гістарычнае глыбіннае вымярэнне.

Тым часам — па-за артыкуламі ў навуковых часопісах — з'явіліся даступныя, але ананімна створаныя брашуры для прапагандыстаў. У іх наяўныя перадумовы толькі акрэсліваліся больш выразна: 1939 год, у якім „на просьбу працоўных заходняй Беларусі яна была прынятая ў склад СССР“, прынёс з сабою „важную падзею ў жыцці беларускага і ўсяго савецкага народа“:

> „Гэтак здзейснілася спракаветная мара беларускага народа пра ўз'яднанне ўсіх яго тэрыторыяў у адзінай беларускай савецкай дзяржаве. [...] Савецкі народ працягнуў руку дапамогі сваім родным братам, працоўным Заходняй Украіны і Заходняй Беларусі. Беларускі народ навечна захавае ў сваіх сэрцах пачуццё глыбокай удзячнасці да свайго старэйшага брата, сапраўднага сябра й абаронцы — вялікага расійскага народа. [...] Цягам усёй сваёй гісторыі да Вялікай Кастрычніц-

надрукаваны асобнай брашурай: Горбунов Т.С. Героическое прошлое белорусского народа. Мінск, 1945.

[105] Пра гэта гаворыцца ў: Fleischhauer, Ingeborg. Der Pakt. Stalin, Hitler und die Initiative der deutschen Diplomatie, 1938—1939. Frankfurt am Main, 1990. С.537 (заўвага 155); таксама параўн.: Тамсама, с.385 і наст. Падсавецкая гістарыяграфія ўпершыню ў 1990 г. цалкам паказала апублікаваныя дакументы адносна знешняй палітыкі: Министерство иностранных дел СССР (выд.). Год кризиса 1938—1939. Документы и материалы. В 2 т. Москва, 1990. Дамова пра ненападзенне і сакрэтны пратакол за 23 жніўня 1939 г. гл.: Тамсама. Т.2. С.320 і наст.

[106] Churchill, Winston. Der Zweite Weltkrieg. Bern—München—Wien, 1996 (4-е выд.). С.856.

> кай рэвалюцыі беларусы цярпелі сацыяльны і нацыянальны прыгнёт. Яны не мелі ніякіх палітычных правоў. Вынікам гэтага была гаспадарчая і культурная адсталасць Беларусі ў мінулым. Але беларускі народ вёў змаганне супраць чужаземных занявольнікаў, супраць усіх сваіх эксплуататараў, за сваё сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне“[107].

Найважнейшыя інтэрпрэтацыйныя схемы і ў гэтым выпадку падаваліся Масквой. Беспасярэдне пасля ўступлення Чырвонай арміі ва ўсходнепольскія правінцыі, абвешчанага як „уз'яднанне“, пачаўся вялікі прапагандысцкі наступ, які быў не толькі вітаны, але нават і распачаты гэткімі знакамітымі юрыстамі ды гісторыкамі з маскоўскай Акадэміі навук, як І.Трайнін ды Пічэта. У выказваннях ужываліся стрыжнявыя ідэалагічныя паняцці і слоўныя коды таго часу. Яшчэ ў 1939 г. у Трайніна ў дачыненні да падсавецкіх рэспублік знайшоўся тэрмін „национальная советская государственность“, якую, маўляў, трэба было — напэўна, у сэнсе сталінскага выказвання пра „сацыялістычны змест“ і „нацыянальную форму“ — разглядаць як „нацыянальную форму сацыялістычнай дэмакратыі“[108].

Пасля 1945 г. у палітычным жаргоне можна было ўбачыць новую самасвядомасць дзяржавы і яе грамадстваў-складнікаў: да прыкладу, калі вялася размова пра „суверэнітэт у складзе Савецкага Саюзу“. Сярод працоўнага сялянства і рабочага класа мелася быць створная свядомасць гаспадара краіны. Ліст беларускіх калгаснікаў таварышу Сталіну 1935 г. з нагоды 15-х угодкаў БССР сведчыў пра першыя вынікі дзеяння гэтай стратэгіі. Падпісанты абураліся на сітуацыю ў „панскай Польшчы“: „Князі Радзівілы толькі ў Мінскай губерні валодалі амаль што 200 тысячамі дзесяцін зямлі. Таму няма ніякага дзіва, што князь Радзівіл цяпер на ўвесь голас заклікае да новага паходу супраць Савецкага Саюзу“[109]. Тое, што лісты гэткага кшталту з вялікім імпэтам ствараліся самімі партыйнымі функцыянерамі, вядома, не выклікае ніякага сумневу.

Крыху пазней Гарбуноў разрадзіўся саракастаронкавым панегірыкам, услаўляючы акцыю 17 верасня 1939 г. як „падзею сусветна-гістарычнага значэння“, а сталінскае войска — як „адзіную армію, што нясе народам свабоду і шчасце“[110]. Тут таксама пераважала антыпольская нялюбасць. Беларуская гісторыя мусіла быць зведзеная да вынікаў польскага прыгнёту, а ў якасці істотнага чынніка паказваліся супярэчнасці паміж беларускімі сялянамі ды польскімі альбо спаланізаванымі „панамі“. У якасці абцяжарвальных абставін гісторыі Польшчы выстаўляліся крыўды за тое, што яна калі-нікалі (1610 г.) пашырала сферу сваіх інтарэсаў да Масквы, а часам нават прэтэндавала на маскоўскі трон. Маўляў, у 1648—1654 г. войскі гетмана Багдана Хмяльніцкага супольна з украінскім народам выступілі супраць Польшчы. Нават пасля падзелаў Рэчы Паспалітай

[107] Отдел пропаганды и агитации ЦК КП(б)Б (выд.). Воссоединение белорусского народа в едином белорусском советском государстве. Материал для пропагандистов и докладчиков. Мінск, 1949. С.3.

[108] Трайнин И. Национальное и социальное освобождение Западной Украины и Западной Белоруссии. Москва, 1939. С.5 і наст.

[109] Цытуецца паводле: Тамсама, с.19. Арыгінал ліста апублікаваны ў газеце „Правда“ за 11.07.1935 г., с.2.

[110] Горбунов Т. Освобожденная Западная Белоруссия. Москва, 1940, у гэтым выпадку с.3.

польскія паны меліся надалей прыгнятаць беларускіх сялян. „Да самай Кастрычніцкай рэвалюцыі беларускі народ заставаўся пад польскім прыгнётам", хоць у іншым месцы ў якасці ліхадзеяў называліся „польскія і расійскія памешчыкі ды царскія чыноўнікі". Уступленне на гэтыя тэрыторыі Чырвонай арміі падавалася ў гэткіх матэрыялах як акт збавення; пры гэтым акцэнтаванне братняй повязі беларускага і расійскага народаў мела квазірэлігійныя рысы. Маўляў, толькі „крэўныя браты" маглі ажыццявіць „шматвекавую мару народаў Заходняй Беларусі пра вызваленне ад польскіх паноў". Толькі праз гэта мелася здзейсніцца тое, што перастала існаваць „калонія панскае Польшчы, край прыгнёту беларускага сялянства і антыгабрэйскіх пагромаў".

Фармулёўка пра „ўз'яднанне беларускага народа ў сацыялістычнай беларускай дзяржаве", „у якой беларускі народ аб'яднаны і мае сваю нацыяльную дзяржаўнасць пад кіраўніцтвам партыі Леніна — Сталіна", мела адназначныя гістарычныя імплікацыі і абяцала змястоўныя змены ў гістарыяграфіі. Калі яшчэ за 10 гадоў перад тым партыя лічыла, што ў імкненні да дзяржаўнай самастойнасці альбо нацыянальнай незалежнасці можа быць выяўлены і пераследаваны „нацыянал-дэмакратызм" у чыстым выглядзе, цяпер тыя самыя фразы належалі да яе ўласнага прапагандысцкага арсеналу пры ацэнцы падзеяў 1939 і 1940 г.:

> „Гісторыю беларускага народа нельга адлучыць ад гісторыі расійскага і ўкраінскага народаў. Расійцы, украінцы і беларусы ў роўнай ступені павінны былі няспынна весці змаганне супраць іншаземных заваёўнікаў і за сваю нацыянальную незалежнасць. Пры гэтым гісторыя беларускага народа сягае глыбока ў даўнейшыя стагоддзі"[111].

Гісторыяпісанне ў пасляваенных гадах рухалася па ўскрайку прорвы паміж даследніцкімі намаганнямі і лабавой прапагандай. Сёй-той рукапіс нават не даходзіў да апублікавання і заставаўся ляжаць у архіўных тэчках ЦК. Амаль ва ўсіх дакументах — у гэтым выпадку прыклад бярэцца з 1940 г. — можна было заўважыць прысутнасць стэрэатыпаў інтэрпрэтацыі гісторыі. Па-першае, матыў пра „братнія дачыненні" закранаў як беларускую меншыню, што да 1939 г. належала да Польшчы, гэтак і расійскі „братні народ". Беларускія браты „цягам дваццаці гадоў [...] знаходзіліся ў складзе шматэтнічнай польскай буфернай дзяржавы, якая ўсімі капіталістычнымі дзяржавамі разглядалася ў якасці зброі змагання супраць бальшавікоў". З гэтым быў звязаны другі — асабліва дзіўны ў кантэксце „нацдэмаўскіх" дэбатаў — стэрэатып, згодна з якім на пярэдні план выстаўляліся культурныя асаблівасці беларусаў". „Фармаваная цягам стагоддзяў культура беларускага народа [...], адметная беларуская мова, літаратура і мастацтвы" вынішчаліся. „Да беларуса ставіліся з пагардаю, яго лічылі не чалавекам, а жывёлаю"[112].

[111] Тамсама, с.5. У падобнай танальнасці: Лочмель И.Ф. Очерк истории борьбы белорусского народа против польских панов. Москва, 1940, а таксама, беспасярэдне перад распадам СССР: Пятьдесят лет воссоеднения Западной Белоруссии с Белорусской ССР в составе СССР / Тез. докл. и сообщ. научн.-практ. конф. 25—26 окт. 1989 г. Гродно, 1989.

[112] НАРБ, ф.4, воп.21, спр.2041, арк.1--39: Очерк „Белорусский народ воссоединен": Тамсама, арк.9.

Трэці пастулат працаў, прысвечаных узʼяднанню, грунтаваўся на гістарычнай антыпольскасці, якая мела сваёй вяршыняй апраўданне нямецкага нападу на Польшчу. Гэтаксама як ужо ў афіцыйных дакументах савецкай знешняй палітыкі таго часу — не ў апошнюю чаргу ў Дамове за 28 верасня 1939 г. — зʼявіўся эўфемізм пра „распад польскай дзяржавы“, цяпер некаторыя аўтары рабілі націск на тым, што якраз, маўляў, неабходна вітаць тое, што „польска-нямецкая вайна давяла банкруцтва („несостоятельность“) польскай мультынацыянальнай дзяржавы“. Урэшце, „гэткі бліскавічны распад дзяржавы“ меўся быць „вынікам рабаўніцкай эксплуатацыі, якую польскі ўрад ажыццяўляў у дачыненні да ўкраінцаў, беларусаў, габрэяў і інш.“[113].

У гэтым рэчышчы мусіў таксама разглядацца „плебісцыт“ 22 кастрычніка 1939 г. — як „найдэмакратычнейшае волевыяўленне насельніцтва Заходняй Украіны і Заходняй Беларусі“. Праз гэта, акрамя фармальнага заснавання Народнага сходу Беларусі, мусіў быць створаны доказ легітымнасці пераходу мяжы Чырвонай арміяй і заняцця ўсходнепольскіх тэрыторыяў — як справядлівага і „жаданага“ акта. Пры ўдзеле ў галасаванні 90,67% тых, хто меў права голасу, выстаўленыя кандыдаты былі зацверджаныя. Створанаму ў гэткі спосаб 28 кастрычніка 1939 г. „ураду“ быў вызначаны аднатыднёвы тэрмін існавання — аж пакуль Вярхоўны Савет СССР на сваёй пятай надзвычайнай сесіі 1 і 2 лістапада 1939 г. не задаволіў „просьбу“ заходнебеларускага Народнага сходу і не прыняў гэты край у склад БССР і СССР. У Мінску 14 лістапада 1939 г. быў прыняты адпаведны закон і вызначаны дзень, у якім дэпутаты Народнага сходу меліся быць выбраныя ў Вярхоўны Савет БССР[114].

[113] Тамсама, арк.13. Падобным чынам да антыпольскай прапаганды ставіліся таксама і ў беларускім грамадстве. Пры ўсіх аглушальна-наіўных намаганнях паказаць становішча ў Польшчы ды ва „ўсходніх крэсах“ у як найзмрачнейшых фарбах, у БССР іншымі шляхамі трапляла іншая інфармацыя. Рэспандэнт праекта PSSS паведамляў: „Мы слухалі польскае радыё. Менавіта гэткім спосабам мы атрымоўвалі шмат інфармацыі пра тое, як людзі жылі за мяжою. Да прыкладу на сходзе ў інстытуце (гаворка ідзе пра мінскі педагагічны інстытут. — Р.Л.) нам казалі, што савецкія памежнікі, якія могуць бачыць тэрыторыю Польшчы, паведамляюць, што польскія сяляне жывуць вельмі кепска. Яны, маўляў, вельмі бедныя, у іх няма зямлі, кароваў. Але з польскага радыё мы даведваліся, што ўсё было не так дрэнна, як нам саветы пра гэта казалі. Саветы распавядалі нам таксама пра тое, што мы, савецкія людзі, жылі, елі, апраналіся, атрымоўвалі адукацыю лепш, чым людзі дзе-небудзь у іншых краінах свету; маўляў, у Польшчы і Нямеччыне толькі дзеці багатых маглі наведваць сярэднюю школу — а не дзеці сялян. Маўляў, толькі ў Савецкім Саюзе ўсе людзі роўныя. Шмат хто з дзяцей гэтаму верыў. Часцяком у нашым інстытуце праводзіўся збор сродкаў для польскіх дзяцей, нямецкіх дзяцей альбо для вязняў у гэтых краінах, і шмат хто з студэнтаў даваў, прыкладам, 10 капеек, бо верыў у тое, што ён напраўду дапамагае дзецям. Калі Чырвоная армія ўвайшла ў Польшчу, салдаты ўбачылі, што людзі там не былі гэткімі беднымі, як ім раней расказвалі. Калі вайскоўцы вярталіся, шмат у каго змянялася думка наконт жыцця за мяжою. Пэўны салдат з сялян вяртаўся з пяццю-шасцю наручнымі гадзіннікамі і рознай вопраткай, якую, як ён казаў, польскія сяляне насілі штодня, але гэткай вопраткі рускія жанчыны ніколі раней не бачылі“, гл.: PSSS: Schedule A, vol.1, #9 RF. C.28 і наст.

[114] Параўн.: Трайнин И. Национальное и социальное освобождение Западной Украины и Западной Белоруссии (op. cit.) С.59 і наст. Пра ход правядзення і вынікі выбараў параўн.: Gross, Jan T. Revolution from Abroad (op.cit.) C.71—113. У дачыненні да

Як ужо згадвалася вышэй, прапаганда ўз'яднання мела далёкасяжнае гістарычнае вымярэнне. Зліццё заходнеўкраінскіх і заходнебеларускіх тэрыторыяў з іх матчынымі краямі інтэрпрэтавалася як завяршэнне нацыянальнай гісторыі. З гледзішча ўкраінскае гістарыяграфіі гісторыя зрабіла дугу, сягаючы ад 1654 да 1939 г. Разважаючы ў сваім артыкуле на тэму „найменшага ліха" і выпадкова актуалізуючы будучыя падзеі восені 1939 г., украінскі гісторык А.Барабой у веснавым нумары часопіса „Историк-марксист" даследаваў „пытанне аб прычынах далучэння Украіны да Расіі ў 1654 годзе". Упершыню гаворка пра адносны характар ужывання ленінскага вызначэння Расіі як „турмы народаў" зайшла ў 1937 г. Пазней, падмацаваная ўдаванай пераканаўчасцю тэзы пра савецкі патрыятызм, праблема „найменшага ліха" вызначала ходу дыскусіі акадэмічных гісторыкаў пад час нарады ў ЦК. Тут упершыню была выразна прадэманстраваная інтэрпрэтацыйная дылема: гісторык Яфімаў у сваім спавешчанні зрабіў дзве высновы, якія, уласна кажучы, выключалі адна адну: з аднаго боку, ён лічыў каланізацыю, як „этап развіцця капіталізму", „гістарычна прагрэсіўным фактам". Адначасова ён бачыў у „змаганні масаў супраць каланіялізму гістарычна-прагрэсіўную з'яву і момант капісталістычнага развіцця"[115]. Тым самым дыскусія пра „ўз'яднанне" ў БССР і УССР не абышлася без гістарычнага экскурсу.

Яшчэ да таго, як на пачатку 50-х г. аб'ектамі напружаных прынцыповых дэбатаў у маскоўскіх акадэмічных кабінетах зрабіліся датуль не чапаныя нават сталінскімі легіянерамі ад гісторыі героі вызвольнага руху з Каўказа (Шаміль) і Сярэдняй Азіі (хан Кенесары Касымаў), у Мінску і Кіеве ўжо здолелі паведаміць пра заканчэнне дыскусіяў па праблеме „найменшага ліха". Гэтая пераломная дыскусія падсавецкай гістарыяграфіі была распачатая ў 1951 г. допісам маскоўскай даследчыцы Міліцы Нечкінай у рэдакцыю „Вопросов истории"[116]. У якасці „меншага ліха" было названа тое, што Украіна ў XVII ст. адышла не да Польшчы, не да турэцкага султана або, пазней, не да шведскага караля Карла XII, а менавіта да расійскага цара Аляксея Міхайлавіча. Беларусы, маўляў, былі ўратаваныя ад панскай Польшчы і далейшай „дэнацыяналізацыі". Характэрным было тое, што ў якасці „галоўнай прычыны добраахвотнага далучэння („присоединения") Украіны да Расіі" разглядаліся „сімпатыі народных масаў Украіны да Масквы", выкліканыя „супольным нацыянальным паходжаннем, мовай і рэлігіяй Украіны і Расіі"[117]. Маўляў, украінскія працоўныя масы цалкам „свядома" лічылі адыход пад найвышэйшую ўладу маскоўскага цара „найменшым з трох ліхаў" (тата-

передгісторыі выбараў Грос справядліва адзначыў прыязнае стаўленне да Чырвонай арміі насельніцтва, перадусім габрэяў; параўн.: тамсама, с.28 і наст.

[115] Стенограмма совещания, 10.06.1944 г. // ВИ. 1996. № 4. С.65—86, у гэтым выпадку с.75 і наст.

[116] Нечкина М. К вопросу о формуле „наименьшее зло" // ВИ. 1951. № 4. С.44—48. Параўн.: Shteppa, Konstantin F. Russian Historians and the Soviet State. New Brunswick, NJ, 1962. С.276—284.

[117] Барабой А. К вопросу о причинах присоединения Украины к России в 1654 году // Историк-марксист. 1939. № 72. С.87—111, у гэтым выпадку с.104 і наст. Амаль гэткія самыя дэбаты адбыліся ў Малдаўскай АССР, дзе ўсхвалялася ўз'яднанне Бесарабіі з савецкай Айчынай і з Малдовай. Параўн.: Meurs, Wim P.van. The Bessarabian Question in Communist Historiography... (op. cit.) С.260 і наст.

раў, „ляхаў“, расійцаў. — Р.Л.]. Кастрычніцкая рэвалюцыя мелася стаць заканамерным вынікам супольнага гістарычнага жыцця. Спроба пры гэтым не глядзець на славянскую гісторыю царскай імперыі праз акуляры „славянафільскага ўра-патрыятызму старога рэжыму“ і не дапусціць распускання словаў пра „турму народаў“ у дэструктыўным рэлятывізме, натуральна, мусіла быць прадухілена. Калі браць з канца, гэта можна было лёгка ажыццявіць, робячы ўцёкі да ўсёахопнай і адначасна невымоўнай формулы: „Мы патрыёты Савецкай Расіі й Савецкай Украіны, мы патрыёты СССР“[118].

Зрэдку гэткім чынам храналогія дэбатаў прадвызначалася геаграфічнай прывязкаю той альбо іншае праблемы. Далучэнне Украіны ў XVII ст. альбо наступствы падзелаў Рэчы Паспалітай для беларускіх земляў ідэолагам у Маскве былі бліжэйшыя, чым спрэчныя перыяды ў гісторыі Казахстана, Азербайджана ці Кіргізіі. Неўзабаве для гэтых рэспублік былі распрацаваныя падобныя канцэпцыі.

Як гэта мела эфект у выпадку з публікацыяй Барабоя, Пічэтавы працы наконт „гістарычнага лёсу народаў Заходняй Украіны і Заходняй Беларусі ў святле падзеяў верасня 1939 г.“ таксама набылі нечаканую актуальнасць. Цяпер, здавалася, знайшло сваё завяршэнне тое, што дагэтуль мусіла паказвацца як гісторыя, адкрытая ў будучыню:

> „Гэта было зусім натуральна, што народы Заходняй Украіны і Заходняй Беларусі, якія знаходзіліся ў панскім ярме, са спадзяваннем глядзелі на Ўсход у кірунку магутнага Савецкага Саюза і чакалі ад яго дапамогі. Гэтая мара здзейснілася. Наша гераічная Чырвоная армія, што 17 верасня 1939 г. уступіла на тэрыторыю Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны, прынесла працоўным вызваленне ад гвалтоўнага ўладарання паноў. Гэтым былі скончаныя шматвекавыя пакуты гэтых народаў, і наперадзе іх чакаў новы перыяд у жыцці, бо яны — разам з расійскімі, украінскімі і беларускімі крэўнымі братамі і супольна з іншымі народамі Савецкага Саюзу — маглі распачаць пабудову сацыялістычнага грамадства і развіваць іх нацыянальную, паводле формы, і сацыялістычную, паводле зместу, культуру“[119].

Пічэта ў сваіх гістарычных высновах нават зрабіў параўнанне з падзеламі канца XVIII ст., калі, маўляў, беларускія сяляне былі вызваленыя ад прыгнёту польскіх магнатаў і ў існаванні Рэчы Паспалітай не заставалася ніякага сэнсу. Што праўда, не засталося няўзгаданым тое, што ў царскай імперыі эксплуатацыя працягвалася, але гістарычныя „сімпатыі“ адназначна былі на баку Расіі[120].

[118] Тамсама, с.109. Пра крытычны разгляд тэзы пра ўз'яднанне з нацыянальна-украінскага гледзішча параўн.: Brajcevskyj, Mychajlo. Anschluß oder Wiedervereinigung. Kritische Anmerkungen zu einer Konzeption. München, 1982 (Ukrainische Freie Universität, Reihe: Monographien, Bd.33).

[119] Пичета В. Основные моменты в исторических судьбах народов Западной Украины и Западной Белоруссии // Историк-марксист. 1939. № 5—6 (75—76). С.67—98, у гэтым выпадку с.98. На гэтую тэму ў 1939 г. пісаў кожны, хто хоць крыху мог нешта сфармуляваць: Рубинштейн Н. Западная Украина и Западная Белоруссия. Краткая историческая справка // Исторический журнал. 1939. № 9. С.10—15; Готье Ю. Историческая судьба Западной Украины и Западной Белоруссии // Тамсама. 1940. №1; Абрамов А., Венский К. Западная Украина и Западная Белоруссия. Исторический очерк. Ленинград, 1940.

[120] Пичета В. Основные моменты в исторических судьбах народов... (op. cit.). С.91 і наст. Пічэта тут падрабязна цытуе фрагменты з ліставання паміж Марксам і Энгельсам 1851 г.

На тле заключанага з Нямеччынай пакта пра ненападзенне наўрад ці магчыма было чакаць, што хоць у адным з тэкстаў пра 1939 год пра нямецкі напад на Польшчу будзе ўзгадана, а пагатоў — распачнецца крытычная дыскусія на гэтую тэму. Сама менш да 1939 г. галоўным ворагам была названая Польшча. Але і гэтага было мала. На думку Пічэты, „агонію польскае дзяржавы" ўжо немагчыма было спыніць, калі „польскія ўладатрымальнікі [...] у сітуацыі гаспадарчага крызісу, голаду, прыгнёту масаў і агульнай незадаволенасці працоўнай масы пачалі вайну з Нямеччынай" („польские правители... начали войну с Германией")[121]. Напэўна, можна знайсці вельмі мала іншых прыкладаў, якія б больш выразна паказвалі гістарычны фаталізм падсавецкай гістарыяграфіі пасля заключэння пакта Гітлера — Сталіна. У дачыненні да тэмы „ўз'яднання" колішні „буржуазны" гісторык Пічэта зрабіўся інтэрпрэтатарам мінуўшчыны, які прыстасаваўся да сістэмы. Постсавецкая гістарыяграфія раз-пораз разважала над пытаннем, ці быў палітычны паварот амаль што сямідзесяцігадовага навукоўца хутчэй спробай стратэгічна задуманага прыстасавальніцтва, альбо за прычыну новай танальнасці Пічэтавых працаў трэба было б лічыць сапраўдную змену каштоўнасцяў. Фактам ёсць тое, што гэтая тэндэнцыя яго паступовага павароту да марксісцкай навукі пачала ўжо сябе выяўляць з сярэдзіны 30-х г. Гады высылкі, відавочна, выканалі сваю справу. Сусветная вайна і яе хада, асабліва трагічная для Беларусі, у дадатак — і гэта датычыць не аднаго Пічэты — паспрыялі напаўненню гістарычнага бачання дадатковымі эмоцыямі. Чырвоная армія паўставала ў вобразе гістарычнага пераможцы над ворагамі гісторыі — татарамі, палякамі, шведамі, напалеонаўскімі палкамі і войскамі Антанты. Пічэта і Гарбуноў — два гісторыкі розных генерацыяў і супрацьлеглых навуковых біяграфіяў — пасля заканчэння вайны ў ацверажальнай гармоніі апелявалі да шматлікіх перыядаў заваяванняў і знаходжання пад акупацыяй, якія прыпалі на долю жыхароў беларускіх земляў у іх гісторыі. З гэтага гледзішча ўся беларуская гісторыя мусіла выяўляць сябе „як змаганне народных масаў супраць сацыяльнага і нацыянальнага прыгнёту, за ўз'яднанне з братнім, крэўным народам" („братским, единокровным народом")[122].

З тэкстаў вынікае, што патрыятычная рыторыка ваенных інфармацыйных паведамленняў не толькі знайшла шлях у першыя гістарыяграфічныя спробы набліжэння да праблематыкі Вялікай Айчыннай вайны, але была прадвызначаная і да ўжытку ў дачыненні да падзеяў даўнейшай, пераднавачаснай гісторыі. Паводле гэтага „Drang nach Osten" браў свой пачатак яшчэ ў VIII стагоддзі. Ваяры Тэўтонскага ордэна XIII ст. і нямецкія фашысты XX ст. у роўнай меры характарызаваліся як „захватчики" альбо „агрессоры"[123]. „Правай рукой" Аляксандра

[121] *Яго ж.* Основные моменты исторического развития Западной Украины и Западной Белоруссии. Москва, 1940. С.126.

[122] *Яго ж.* Воссоединение белорусского народа в едином Белорусском Советском государстве // Большевик. 1944. № 12. С.30—38, у гэтым выпадку с.30, а таксама: Горбунов Т. [Уступ да:] История БССР. Вып.1. (Выд. АН БССР). Мінск, 1946 (op. cit.).

[123] Тамсама, с.103 і наст. Пра супрацьлеглыя праекты нацысцкай гістарыяграфіі гл.: Schönwalder, Karen. Historiker und Politik. Geschichtswissenschaft im Nationalsozialismus. Frankfurt am Main—New York, 1992. С.237 і наст.

Неўскага ў барацьбе супраць нямецкіх мечаносцаў, маўляў, быў „беларус Якаў Палачанін“. У 1380 г. полацкі князь Андрэй меўся дапамагаць пераможнаму Дзімітрыю Данскому на „поле брани“ супраць мангола-татарскага ваяводы Мамая гэтаксама, як беларускія партызаны — Чырвонай арміі. Вядомасць мелі тагачасныя гістарычныя палотны мастака А.Савіна, на якіх беларускія сяляне паказваюць „дарогу праз лес“ расійскай арміі Пятра Вялікага ў вайне супраць шведаў[124]. Маўляў, сваю першую „партызанскую вайну“ беларусы вялі супраць войскаў Напалеона. Кожная паваенная праца на тэму напалеонаўскіх войнаў так ці інакш узбівалася на правядзенне паралеляў паміж падзеямі „Айчыннай“ і „Вялікай Айчыннай“ войнаў:

> „Партызанская барацьба супраць акупантаў набыла свой найбольшы размах перадусім тады, калі тэрыторыя Беларусі зрабілася тылам напалеонаўскага войска. У беларускіх лясах з'явіліся ўзброеныя партызанскія аддзелы, якія арганізоўвалі напады на варожых жаўнераў і іх абозы, разбуралі сховішчы правіянту і атакавалі камунікацыйныя лініі праціўніка. [...] Вызваленне Беларусі праз расійскія войскі прывяло, акрамя таго, да ўзмацнення змагання беларускага народа супраць французскіх інтэрвентаў“[125].

Нягледзячы на ўсе вонкавыя пагрозы беларуская, як і ўкраінская, гісторыя ішла да канчатковага зліцця братніх народаў. Прыналежнасць да Вялікага Княства Літоўскага, да Рэчы Паспалітай альбо таксама паасобныя падзеі кшталту Люблінскай уніі толькі, маўляў, непатрэбным чынам „замаруджвалі“ яднанне беларускага, украінскага народаў з расійскім[126]. З уз'яднаннем заходнебеларускіх і БССРаўскіх тэрыторыяў гісторыя найшчыльнейшым чынам наблізілася да лозунга „гераічнага змагання“. Наогул, „гераізм“ народа зрабіўся найважнейшым паняццем паваеннай гістарыяграфіі. „Священная Отечественная война“ канчаткова заваявала Пічэту для афіцыйнага бачання гісторыі. Гарбуноў, якога немагчыма было западозрыць у захапленні нацыянальнай ідэяй, наадварот, бачыў місіяй Скарыны, „вялікага асветніка“ беларускага народа, стрымліванне палітыкі „дэнацыяналізацыі“, што праводзілася польскімі панамі. Узоры аргументацыі ў гэты час ужо немагчыма было развесці ў розныя бакі.

Да 300-й гадавіны далучэння Украіны да Расіі дазвалялася гаварыць ужо пра „ўз'яднанне“[127]. Дыскусія пра 1654 г., якая, здавалася, таксама нагадала мінскім гісторыкам пра „барацьбу беларускага народа ў сярэдзіне XVII стагоддзя за ўз'яд-

[124] История Белорусской ССР. Т.1. Мінск, 1954. С.170 і наст.

[125] Тамсама, с.222, 225.

[126] Пичета В. Воссоединение белорусского народа... (op.cit.). С.31 і наст.; Горбунов Т. [Уступ да:] История БССР... (op.cit.). С.ІІ і наст.

[127] Дырэктыўны дакумент партыі: Тези до 300-річчя воззєднання України з Россією. Київ, 1954. Параўн. таксама: 300 лет. Воссоединение Украины с Россией, 1654—1954. Москва: Институт славяноведения АН СССР/Институт истории УССР, 1954. Гэтыя тэзы ў межах манаграфіі былі таксама перакладзеныя на англійскую мову, гл.: Basarab, John. Pereiaslav 1654: A Historiographical Study. Edmonton, 1982, Appendix 6. C.270—288. Наконт дэбатаў украінскіх гісторыкаў пра „ўз'яднанне“ гл. падрабязна: Lüdemann, Ernst. Zur „Lösung der nationalen Frage“ in der sowjetukrainischen Geschichtsschreibung nach 1956 // FOG 40 (1988). C.229—395, у гэтым выпадку с.305 і наст.

нанне з Расіяй“, адначасова паставіла кропку пад абмеркаваннем праблематыкі ўз'яднання ў звязку з 1939 г.:

> „Ажыццяўленне векавечнай мары ўкраінскага народа — уз'яднанне Украіны з Расіяй — прадэманстравала беларускаму народу адзіна магчымы шлях свайго вызвалення з-пад ярма Рэчы Паспалітай і папскага Рыма, надала яму новыя сілы ў вызвольнай барацьбе і ўмацавала яго ў цвёрдым перакананні, што братні расійскі народ не адмовіць і беларусам у сваёй дапамозе“[128].

„Тысячагадовая гісторыя“, якую, на думку Гарбунова, перажыў беларускі народ, здавалася, дасягнула сваёй мэты ў 1939 і, перадусім, пасля 1944 г. „Змаганне, якое ўвесь народ пад камандаваннем таварыша Сталіна вёў супраць шматвекавых ворагаў — нямецкіх заваёўнікаў“, выклікала ў гісторыяпісанні новую хвалю гістарызацыі[129]. Як гэта ўжо мела месца пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі ды заснавання БССР і СССР, гісторыкі — хай сабе нават выкарыстоўваючы розныя інтэрпрэтацыйныя стратэгіі — перапісвалі гісторыю ў перадгісторыю.

## *3.2. Партызанскі міф у гістарыяграфіі й літаратуры*

Адметная сваёй гістарызацыяй і гераізацыяй падсавецкая гістарыяграфія паваеннага дзесяцігоддзя знайшла сваю каронную тэму ў партызанскай барацьбе. Паколькі для напісання дысертацыяў і стварэння вялікіх праектаў па гісторыі партызанскага руху на беларускіх тэрыторыях патрабаваліся навуковы пошук і палявыя даследаванні[130], на грамадства — часткова яшчэ пад час вайны — было аб-

[128] З беларускага гледзішча: Абецедарский Л.С. Борьба белорусского народа за воссоединение Белоруссии с Россией в середине XVII века // 300 лет... (op.cit.). С.178—222, у гэтым выпадку с.222. Іншымі словамі пра тое самае: Горбунов Т. [Уступ да:] История БССР... (op.cit.). С.IX. Акрамя таго, гл.: Савич А.А. Борьба за Белоруссию и Украину в 1654—1657 г. Из истории русско-польских отношений второй половины XVII века // Ученые записки Московского Городского педагогического института им. Потемкина. 1947. Т.2: Кафедра истории ССР. Вып.2. С.79—139, а таксама: Мальцев А.Н. Война за Белоруссию и освобождение Смоленска в 1654 г. // Исторические записки. 1951. № 37. С.125—143. Пра „векавечную мару“ беларускага народа гаворка ішла таксама ў стандартнай працы: История Белорусской ССР. Т.1. Мінск, 1954. С.155. Беларускімі гісторыкамі БДУ і архівістамі ЦГАДА ў 1960—1963 г. былі таксама скампанаваныя дакументы пра гісторыю расійска-беларускіх дачыненняў: Русско-белорусские связи. Сборник документов (1570—1667 г.). Мінск, 1963.

[129] Тамсама, с.XXI.

[130] Да 1956 г. былі напісаныя толькі шэсць кандыдацкіх дысертацыяў беларускіх гісторыкаў, з якіх тры былі прэзентаваныя ў Маскве і адна ў Кіеве: Купреев И.К. Партизанское движение в Витебской области в Великой Отечественной войне. Дисс. канд. ист. наук. Москва: ИИАН СССР, 1947; Кравченко И.С. Подпольная большевистская печать Белоруссии (1941—1944 г.). Дисс. канд. ист. наук. Москва: АОН при ЦК ВКП(б), 1948 (надрукавана як: Краўчанка І.С. Падпольны бальшавіцкі друк у Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Мінск, 1950); Беляев А.Г. Партизанское движение в Могилевской области в годы Великой Отечественной войны Советского Союза. Дисс. канд. ист. наук. Москва: МГУ, 1950; Байдаков А.И. Коммунисты — организаторы и руководители Осиповичского партизанского соединения Белоруссии в борьбе с немецко-фашистскими захватчиками. Дисс. канд. ист. наук. Мінск: БГУ, 1953; Смирнов А.И. Руко-

рынута мноства хутка апрацаваных тэкстаў, аб'ектам разгляду якіх зрабіліся ўклад у барацьбу партызан увогуле й іх беларускіх брыгад, у прыватнасці. Пры гэтым тэксты, у якіх апісвалася і забяспечвалася гістарычным антуражам партызанская тэма, паўставалі ў надзвычай розных жанрах і гатунках. Іх дыяпазон сягаў ад прапагандысцкага тэксту да гістарычнай манаграфіі, ад сабраных улётак альбо расшыфраваных радыёперамоваў да эмацыйна пададзеных мемуараў, ад народных казак да франтавога рамана Васіля Быкава. Як гэта ўжо мела месца пад час прапагандавай хвалі з нагоды „ўз'яднання“, у працах па гісторыі БССР у якасці амаль што абавязковых атрыбутаў прысутнічаў эпітэт „гераічны“. Н.В.Каменская, „мінская Панкратава“, якая, яшчэ калі была маладой даследчыцай, здолела ўзысці на прыступку намесніка дырэктара Інстытута гісторыі, у 1947 г. настойліва сцвярджала, што „беларускі народ мае сваю ўласную, багатую на гераічныя падзеі“ гісторыю[131]. Да штампу „партызанская рэспубліка“ заставаўся зусім кароткі шлях, які таксама вёў — як высветлілася — праз гэткія самыя маштабныя і адначасова багатыя на эмоцыі праекцыі гісторыкаў[132].

Яшчэ калі йшлі баявыя дзеянні, слова бралі агітатары з неакупаванай Масквы. Пры гэтым апелявалі адначасова да савецкіх і да нацыянальна-айчынных пачуццяў насельніцтва Беларусі. Гэтаксама, як у выпадку з прапагандысцкай апрацоўкай „уз'яднання“, Гарбуноў і іншыя скарыстоўвалі гістарычна важкія аргументы. У сваім трыццацістаронкавым памфлеце будучы вядучы супрацоўнік ІГ АН БССР Гарбуноў выказваўся наконт таго, што „расійцы, украінцы і беларусы цягам не аднаго стагоддзя шматкроць баранілі сваю зямлю і сваю незалежнасць са зброяй у руках“. У гэтых сутыкненнях ды бітвах супраць „галоўным чынам заходніх заваёўнікаў“, маўляў, і адбывалася „фармаванне беларускага народа з усімі яго асаблівасцямі“: „Вальналюбны беларускі народ слаўна («со славой») прайшоў вялікім шляхам тысячагадовай гісторыі [...] і абараніў сваю мову і культуру ў цяжкай і поўнай ахвяр барацьбе“[133]. Падсавецкі час паказваўся як

водство Коммунистической партии партизанской борьбой в Белоруссии в период Великой Отечественной войны (на материалах Ушачско-Лепельской партизанской зоны). Дисс. канд. ист. наук. Киев: ИПК при КГУ, 1954; Липило П.П. КПБ — организатор и руководитель партизанского движения в Белоруссии в годы Великой Отечественной войны. Дисс. канд. ист. наук. Мінск: БГУ, 1956. Першыя апублікаваныя мемуары пра беларускі партызанскі рух з'явіліся ўжо праз чатыры гады пасля заканчэння вайны: Линьков Г.М. Война в тылу врага. Москва, 1949; гл. таксама: Королев Н.Ф. Сыновья народа. Мінск, 1955; Титов А. Дорога дружбы. Мінск, 1958. Акрамя таго былі падрыхтаваныя далейшыя тамы дакументаў. Тут толькі варта ўзгадаць наступныя: Цанава Л. Всенародная партизанская война в Белоруссии против фашистских захватчиков. Ч.1/2. Мінск, 1951; Зборнік лістовак усенароднай партызанскай барацьбы ў Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай вайны (1941—1945). Мінск, 1952, а таксама стандартная праца: Партызанская барацьба беларускага народа ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Мінск, 1959. Пра гісторыю падзеяў партызанскага змагання ў Беларусі параўн.: Гісторыя Беларускай ССР у пяці тамах (Выд. ІГ АН БССР). Т.4. Мінск, 1975, часткі IV—VIII, с.185—484, а таксама з непадсавецкага гледзішча: Wilenchik, Witalij. Die Partisanenbewegung in Weissrussland 1941—1944 // FOG 34 (1984). С.129—297.

[131] Каменская Н.В. Праблемы гісторыі, археалогіі і этнаграфіі Беларусі... (op. cit.). С.3.

[132] Калинин П.З. Партизанская республика. Москва, 1964.

[133] Горбунов Т. Белоруссия живет, Белоруссия борется! Москва, 1943. С.3 і наст.

новая эра і завяршэнне гэтай барацьбы. У абліччы БССР Беларусь, маўляў, набыла сваю ўласную дзяржаву, якую трэба было „геранчна" бараніць ужо пад час грамадзянскай вайны ды вайны з Польшчаю[134].

Напад Нямеччыны ўважаўся не толькі як атака на Савецкі Саюз, але і як замах на гістарычна абгрунтаванае права беларускага народа мець сваю ўласную дзяржаўнасць: „Уся гісторыя беларускага народа, яго ахвярнае змаганне за нацыянальную незалежнасць, увесь ягоны чын пацвярджаюць гістарычнае права беларусаў на сваю дзяржаўнасць". Партызанская барацьба, у якой, на думку Гарбунова, выявіліся ўсе разам узятыя „выдатныя якасці беларускага народа, яго адвага і гераізм", гэткім чынам выступала ў якасці нацыянальнага вызвольнага руху, гістарычнае абгрунтаванне якога, адпаведна, толькі часткова абапіралася на падмурак савецкага патрыятызму[135]. Паасобныя дзеячы, кшталту мінскага шэфа кампартыі Панамарэнкі, па-за тым надавалі гэтай двухаблічнасці індывідуальныя формы. У якасці начальніка Цэнтральнага штаба партызанскага руху з верасня 1942 г. ён быў шмат для каго адначасова салдатам партыі з маскоўскай ласкі, а з іншага боку, самым галоўным апанентам Берыі ў пытанні засылання дыверсантаў звонку — чалавекам беларускага партызанскага змагання. Адным з першых Панамарэнка пачаў пісаць агітацыйныя матэрыялы, якія распаўсюджваліся „ў тыле ворага" і меліся змабілізаваць дадатковыя сілы[136]. Што праўда, стварэнне 30 траўня 1942 г. названага штаба як „найвышэйшае інстанцыі для арганізацыі і кіравання ўзброенай барацьбою прасавецкіх групаў у тыле вермахта" значыла „пачатак паслядоўнага пераўтварэння антынямецкага народнага супраціву ў залежны ад Масквы рух і пачатак яго саветызацыі, што пачала ўзмацняцца пасля гэтага"[137]. Тым не менш, падтрымка генерал-лейтэнантам Панамарэнкам ідэі рэкрутавання вывучаных мясцовых жыхароў для засылання ў якасці дыверсантаў на тэрыторыі, акупаваныя нямецкімі ўзброенымі сіламі, сведчыла пра яго давер да ініцыятыўных сілаў, звязаных з радзімай. Гэткая кадравая палітыка, урэшце, прывяла да таго, што доля жыхароў БССР, удзельнікаў партызанскіх аддзелаў (88,4%), нашмат перавышала ўсесаюзны сярэдні паказчык. У той час як украінскія партызанскія злучэнні толькі на 59% складаліся з украінцаў паводле нацыянальнасці, 71,9% партызан, што дзейнічалі ў зонах на тэрыторыі БССР, называлі сябе беларусамі. Пра меншы, чым прынята лічыць, уплыў партыі і камсамолу сведчыць таксама працэнт беспартыйных удзельнікаў партызанскага руху, што склаў 71,7 [138]. Не было б перабольшаннем бачыць вясковых актывістаў у якасці чынных партызан. Ідэалагічныя хібы „вясковых партызан", якія непакоілі Берыю, павінны былі кампенсавацца пачуццём радзі-

[134] Шекун О.А. Создание и героическая оборона... (op. cit.)

[135] Тамсама, с.18.

[136] Пономаренко П.К. Партизанское движеиие в Великой Отечественной войне. Москва, 1943. Параўн. таксама яго пазнейшую працу: *Яго ж.* Всенародная борьба в тылу немецко-фашистских захватчиков, 1941—1944. Москва, 1986.

[137] Wilenchik, Witalij. Die Partisanenbewegung in Weissrussland 1941—1944 (op. cit.). С.262.

[138] Звесткі падаюцца паводле кн.: Филимонов А.А. Партизанский фронт в годы Великой Отечественной войны. Мінск, 1993. С.88 і наст.

мы і нават рэлігійнымі пачуццямі. Для гэтага ў распараджэнні, як вядома, меліся партызанскія святары — у сваёй бальшыні ксяндзы, — якія вялі ў лясных лагерах, што называліся „савецкімі рэспублікамі“, нацыянальную, палітычную і рэлігійную працу сярод партызан. Часта яны абслугоўвалі таксама навакольныя населеныя пункты, якія яшчэ не далучыліся да падтрымкі прасавецкіх партызан. Выпадкі кшталту таго, пра які ніжэй паведамляе В.Віленчык (*Wilenchik*), сведчаць не толькі пра спецыфічную матывацыйную сітуацыю сярод партызан, але і пра тое, што партызанскі міф у гістарычнай літаратуры не быў канструктам у чыстым выглядзе, а меў рэальнае апірышча ў стане свядомасці дзейных асоб:

> „Гэтак, у адну з вёсак Хорастаўскага сельсавета, дзе не было каму прачытаць памінальную малітву аднаму забітаму партызанамі паліцаю (вясковы святар быў партызанам брыгады Каржа [В.З.Корж, паводле партыйнай мянушкі Камароў, былы загадчык гападарчага сектара Пінскага абкама КП(б)Б — Р.Л.]), на просьбу сваякоў прыйшоў партызан-святар Раманушка ў суправаджэнні двух іншых партызан. На могілках святар, замест таго, каб прамовіць прадугледжаную рытуалам развітальную казань ды словы «супакой, Госпадзе, душу твайго раба», абвясціў нябожчыку адлучэнне ад Святога Касцёла. Пасля Раманушка заклікаў вяскоўцаў, што сабраліся на могілках, выкупіць сваю віну перад Богам: «Не шкадуючы сваіх жыццяў, бараніце родную зямлю ад чужынскай хеўры. А ўсе адступнікі будуць праклятыя на векі вечныя і не пазбегнуць пякельных пакут на Страшным Судзе!» Калі святар прамаўляў гэтыя словы, два прысутныя з ім партызаны распаўсюджвалі ўлёткі з заклікамі абкама партыі далучацца да шэрагаў партызан“[139].

Таму амаль што натуральным чынам вынікала, што Вялікая Айчынная вайна ў тэкстах прапагандыстаў і гісторыкаў паўставала як „народная вайна“. Гэтае паняцце ўзносіла мабільнасць і ахвярнасць партызан — гэтаксама як і падкрэслівала ўдзел „усяго народа“ ў абароне Айчыны. Маўляў, народ „ганарыцца сваімі партызанамі“, якія „аказалі вялікую дапамогу“ Чырвонай арміі[140]. Пісьменнікі Янка Купала і Якуб Колас з гэткім самым пафасам і заклікамі да змагання звярталіся да „беларускага народа“; хай ён пераможа сваіх ворагаў іхняй уласнай зброяй: „За нашу радзіму, за нашу родную зямлю, за тваё шчасце і шчасце тваіх дзяцей, [...] за перамогу і наш беларускі народ“[141].

Апрацоўка Вялікай Айчыннай вайны ў выглядзе трэцяга міфа падсавецкай гісторыі можа быць параўнаная толькі з фармаваннем культу асоб Леніна і Сталіна[142].

[139] Тамсама, с.228 і наст. Віленчык прыводзіць цытату паводле кн.: Граховский С.И. Сеятель добра и гнева. Москва, 1975. С.94 і наст.

[140] Горбунов Т.С. Советская Белоруссия. Москва, 1944. С.24.

[141] Лемешонок В.И. Идейно-политическая работа Компартии Белоруссии в годы Великой Отечественной войны. Мінск, 1988. С.31 і наст.

[142] Пра сацыяльную гісторыю вялікіх савецкіх міфаў гл: Tumarkin, Nina. Lenin lives! The cult of Lenin in Soviet Russia. Cambridge, MA. London, 1983; Ennker, Benno. Die Anfänge des Leninkults in der Sowjetunion. Köln—Weimar—Wien, 1997; Löhmann, Reinhard. Der Stalin-Mythos. Studien zur Sozialgeschichte des Personenkults in der Sowjetunion, 1929—1935. Münster, 1990; Gallagher, M.P. The Soviet History of World War II. Myths, Memoires, Realities. New York, 1963; Tumarkin, Nina. The Living and the Dead. The Rise and Fall of the Cult of World War II in Russia. London, 1994. Сярод апошніх прац таксама: Weiner, Amir. The Making of a Dominant Myth... (op. cit.). Пра парты-

Чацвёртаму міфу з'явіцца ўжо не было наканавана. Партызанскі міф, вядома, належаў да ваеннага міфа ў гэткай самай ступені, як партызаны былі складнікам вайсковай перамогі над нямецкімі ўзброенымі сіламі на тэрыторыі Савецкага Саюзу. З адзначэннем кожнай новай гадавіны і ў БССР дадавалася эмоцыяў у рэтраспектыўным поглядзе на падзеі былой вайны. ЦК арганізоўвала рэгулярныя цырымоніі, што нагадвалі пра іх, бо дзякуючы ваеннаму міфу партыя магла быць упэўненая ў амаль невычэрпным мабілізацыйным патэнцыяле. Гэтак, чацвёртыя ўгодкі „вызвалення Савецкай Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў" рыхтаваліся з вялікім размахам:

> „Партыйныя арганізацыі павінны растлумачваць усім працоўным гістарычнае значэнне вызвалення Беларусі [...] Савецкай арміяй для жыцця і гістарычнага лёсу беларускага народа. [...] У абліччы Савецкай арміі беларускаму народу на дапамогу прыйшлі ўсе братнія народы СССР — перадусім вялікі расійскі народ, — якія выратавалі беларускі народ ад нямецкіх імперыялістаў"[143].

З сярэдзіны саракавых гадоў у тэксты гісторыкаў і афіцыйную рыторыку ўвайшла тэрміналогія, якая рабіла нацыянальную палітыку малазначнай альбо і зусім непатрэбнай. Пад час вялікіх гістарычных дыскусіяў 1944 г. Нечкіна вызначыла паняцце „савецкага народа":

> „Савецкі народ — гэта не нацыя, а цалкам новая ў гісторыі чалавецтва, непараўнальна вышэйшага парадку, найстабільнейшая супольнасць людзей. Яе аб'ядноўваюць супольная тэрыторыя, дагэтуль невядомая гаспадарчая сістэма, саветы, у пэўным сэнсе унікальная новая культура — незалежна ад разнастайнасці моваў. І ўсё-такі гаворка ідзе не пра нацыю, а пра нешта новае, нашмат вышэйшае. Гэта цалкам новая з'ява ў гісторыі чалавецтва. Гэтая з'ява мусіць мець свой уласны тэарэтычны падмурак. Найістотнейшая характарыстыка паняцця „савецкі народ" — гэта той факт, што пры гэтым грамадскім ладзе народ упершыню зрабіўся суб'ектам гісторыі і паскорыў ходу гісторыі. Паскарэнне развіцця гістарычнага працэсу беспасярэдне звязанае з далучэннем да гісторыі шырокіх народных масаў"[144].

Ва ўспамінах партызан утрымліваюцца, па чарзе, апеляванні да савецкага і да беларускага народа. З аднаго боку — як гэтага патрабавала паваенная прапаганда — якраз партызаны ў рэтраспектыве падкрэслівалі ўдзел усяго савецкага народа ў барацьбе супраць нямецкіх акупантаў. „Советский народ", маўляў, „узняўся ў адказ на заклік правадыра на свяшчэнную абарону Радзімы ды заваёваў Кастрычніцкай рэвалюцыі і даў усяму свету беспрэцэдэнтны прыклад гераізму і адвагі на фронце і ў тыле"[145]. З іншага боку, праз ужыванне паняцця савецкага

занскі міф гл.: Sartorti, Rosalinde. Legende und Wirklichkeit der Sowjethelden // Friedrich C., Menzel B. (выд.). Osteuropa im Umbruch. Alte und neue Mythen. Frankfurt am Main u.a., 1994. С.133—144.

[143] НАРБ, ф.4, воп.81, спр.42, арк.19—21: Пратакол паседжання Бюро ЦК за 8.06.1948 г., у гэтым выпадку арк.19 і наст.

[144] Параўн.: Стенограмма совещания (1.06.1944) // ВИ. 1996. № 2. С.80: выступ у дыскусіі М.Нечкінай.

[145] Линьков Г. Война в тылу врага. Москва, 1949. С.5.

[146] НАРБ, ф.4, воп.81, спр.58, арк.7—8: Пратакол паседжання Бюро ЦК за 16.07.1948 г.

народа адбывалася дэнацыяналізацыя партызанскага руху. Тым не менш, паказ партызанскай барацьбы стаў найноўшай, апошняй тэмай беларускай нацыянальнай гістарыяграфіі, хоць гісторыкі ўжо належалі да найноўшага пакалення. Навуковае апрацаванне гэтай тэмы пачалося ў другой палове 40-х г. У плане „Института истории партии и Октябрьской революции при ЦК КП(б)Б“ (ИИПОР, раней „Гістпарт“) на 1948 г., побач з перакладамі працаў Леніна і Сталіна на беларускую мову і некалькімі зборнікамі артыкулаў, былі таксама прадугледжаныя працы, прысвечаныя партызанскаму руху. ЦК ахвотна дабраслаўляў гэткія намеры[146]. Пра тое, што на тэме падпольнай барацьбы зближаліся нават доўгі час непрыміральныя характары ў ІГ АН БССР ды ИИПОР, сведчыла першая калектыўная публікацыя 1961 г.[147]. Згаданая праца, аднак, пацвердзіла той пазітывізм успамінаў, які ад самага пачатку характарызаваў трактаванне партызанскага руху падсавецкім гісторыяпісаннем і які не ў апошнюю чаргу спрычыніўся да ўзнікнення партызанскага міфа.

Сапраўдны маштаб дзейнасці калабарацыйных і „нацыяналістычных“ падпольных змагароў застаецца поўнай таямніцай — не ў апошнюю чаргу таму, што амаль не згадваюцца найважнейшыя дзеячы негатыўнай гісторыі „партызанскае рэспублікі“ — да прыкладу, Фабіян Акінчыц, правадыр калабарацыянісцкіх беларускіх нацыянал-сацыялістаў, ды Вінцэнт Гадлеўскі, старшыня толькі часткова калабарацыйнага і таму напалову легальнага „Народнага фронту“, які ўвогуле перасьледаваў антысавецкія, антырасійскія, антынямецкія, антыпольскія ды антылітоўскія мэты. Ад таго часу „іншы“ партызанскі і падпольны рух, які складаўся з беларускіх нацыяналістычных групаў, з антысавецкіх аддзелаў у бальшыні альбо зусім быў прыглушаны, альбо трактаваўся як частка гісторыі праціўніка[148]. У нацыяналістычна афарбаваным нарысе беларускай гісторыі Язэпа Найдзюка, наадварот, амаль выключна разглядалася дзейнасць беларускіх нацыяналістычных групаў, у той час як у дачыненні да падсавецка-беларускіх партызан адмаўлялася існаванне хоць якой-небудзь нацыянальнай матывацыі, а іхняя дзейнасць уважалася за „арганізаваную, узброеную, кіраваную і кантраляваную Масквою“. Маўляў, гэта была „не абарона беларускага народа ад гвалтаў нямецкай акупацыі, але дапамога савецкім арміям аднавіць уладу маскоўскага ўраду на Беларусі“[149].

Пасля другога раздзела мы дэталёва не спыняліся на дзейнасці ИИПОР, бо тут не існавала ніякіх адрозненняў ад дзейнасці аналагічных установаў па ўсім СССР.

[147] О партийном подполье в Минске в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944 г.). Мінск: ИИП ЦК КПБ, ИИАН БССР, 1961.

[148] Падрабязна пра антысвецкі партызанскі рух і габрэйскае падполле, якое, па сутнасці, было зарыентаванае на простае выжыванне габрэяў у гета, гл.: Wilenchik, Witalij. Die Partisanenbewegung in Weissrussland 1941—1944 (op. cit.). С.231—261. Наконт калабаранцтва, а таксама пра нямецкую прапаганду на акупаваных тэрыторыях параўн.: Schlootz, Johannes (выд.). Deutsche Propaganda in Weißrußland 1941—1944. Eine Konfrontation von Propaganda und Wirklichkeit. Ausstellung in Berlin und Minsk. Berlin, 1996.

[149] Найдзюк Я., Касяк І. Беларусь учора і сяньня. Папулярны нарыс з гісторыі Беларусі. Мінск, 1993 (3-е выд.), у гэтым выпадку с.285. Кніга першы раз была надрукаваная ў 1940 г. у Вільні, другое выданне выйшла ў акупаваным Мінску. У Гене-

Беларускі партызанскі міф у гістарыяграфіі і мемуарнай літаратуры не ў апошнюю чаргу жывіўся з таго факта, што беспасярэдне пасля заканчэння вайны аж 59 беларускіх партызан былі адзначаныя званнем „Героя ў Савецкага Саюзу“, а больш за 200 000 іншых вайскоўцаў і партызан-беларусаў былі ўзнагароджаныя іншымі медалямі ды ордэнамі Савецкага Саюза. Успаміны партызан, што пачалі выходзіць з канца 40-х г., тым часам запаўнялі бібліятэкі. У якасці гістарычных крыніц гэтыя ўспаміны — упершыню ў гісторыі падсавецкай і беларускай гістарыяграфіі — здабылі аўтарытэт, які да таго часу прызнаваўся толькі за „класікамі марксізму-ленінізму“. Успаміны змагароў, занатаваныя праз шмат гадоў і часта папраўленыя спецыялістамі Госиздата альбо Воениздата, урэшце замянілі навуковае даследаванне фактаў адносна падзеяў вайны. Перад стварэннем легендаў і міфаў цяпер былі разнасцежаныя ўсе дзверы[150]. Тое, што вымалёўвалася ўжо ў звязку з тэрмінам „савецкі народ“, ва ўспамінах партызан набывала афармленне: дыхатамія савецкіх і нацыянальных амбіцыяў. Цытаваны ўжо Лінькоў паказаў партызан зусім у духу шматвяковых памкненняў народа: „Партызаны Беларусі ўпісалі шмат слаўных старонак у гісторыю народнага руху“. З іншага боку, аўтар, які сам быў расійцам і ахвотна гаварыў пра „простыя беларускія абліччы“, бачыў народны рух толькі як сведчанне „глыбокай адданасці савецкіх людзей сваёй сацыялістычнай Радзіме“[151].

У вобраз абмежаванай рэнацыяналізацыі — як выніку падзеяў вайны — упісваўся той факт, што з нагоды 25-й гадавіны заснавання БССР у маскоўскай Траццякоўскай галерэі былі выстаўленыя абразы старадаўніх беларускіх мастакоў з экспазіцыі Магілёўскага гістарычнага музея, на якіх было паказана змаганне „беларускіх войскаў“ супраць рыцараў нямецкіх ордэнаў альбо таксама гераічныя абліччы полацкіх князёў. У гэткай самай ступені літаратура пачала вяртацца да нацыянальнай тэматыкі. Кастусь Каліноўскі альбо Францішак Скарына, як і ў 20-я г., маглі цяпер выступаць у якасці герояў тэатральных паказаў[152].

Партызанскі міф ажыў у сучаснай літаратуры. Гістарычны вобраз партызанскага руху, тое, чаго ў эмацыйным плане не маглі абудзіць альбо працяглы час

ральнай акрузе „Беларутэнія“ кніга выкарыстоўвалася як дапаможнік на занятках па гісторыі. Параўн.: Грыцкевіч Анатоль. Пасляслоўе // Тамсама, с.401—407.

[150] Акрамя таго гл.: Линьков Г. Война в тылу врага (op. cit.).; Ваупшасов С.А. На тревожных перекрестках. Записки чекиста. Москва, 1988 (3-е выд.; першае выйшла ў 1946 г.); на нямецкай мове апублікавана: In den Wäldern Belorußlands. Erinnerungen sowjetischer Partisanen und deutscher Antifaschisten / Hg. von: Institut für Parteigeschichte der Kommunistischen Partei Belorußlands / Institut für Marxismus-Leninismus beim Zentralkomitee der Sozialistischen Einheitspartei Deutschlands. Berlin, 1977. Тут, зрэшты, гаворыцца пра 87 „Герояў Савецкага Саюзу“ (гл. с.9). Усяго разам 108 грамадзян БССР былі ўшанаваныя гэтым тытулам. Іх прозвішчы падаюцца ў: Долготович Б.Д. Беларусь в годы Великой Отечественной войны (op. cit.). С.126—130. Партызанскі міф знайшоў сваё, значна больш аслабленае выяўленне таксама ў іншых нерасійскіх гістарыяграфіях — да прыкладу, у Малдаўскай ССР; параўн.: Meurs, Wim P.van. The Bessarabian Question in Communist Historiography... (op. cit.) C.294 і наст.

[151] Линьков Г. Война в тылу врага (op. cit.). С.5 і наст.

[152] Гэтак у творах Міхася Клімковіча. Параўн.: Hlubinny, Ul. Vierzig Jahre weißrussischer Kultur unter den Sowjets (op. cit.) C.90.

ствараліся найменш ідэалагізаваныя прыродазнаўчыя аддзелы. Толькі пасля XII партыйнага з'езду (1923 г.) названая акадэмія пашырыла свой профіль і пачала шырокамаштабна, пад кіраўніцтвам М.М.Пакроўскага, разбудоўваць сферу сацыяльна-гуманітарных навук. Кантактаванне „старога" і „новага" пакаленняў адбывалася праз Расійскую асацыяцыю навуковых інстытутаў грамадскіх навук (РАНИОН), што была ўтвораная на базе факультэта грамадскіх навук Маскоўскага універсітэта. РАНИОН напачатку зрабіў магчымым працягваць навуковую працу такім „буржуазным" гісторыкам дарэвалюцыйнага часу, як І.М.Грэўс, М.І.Карэеў, М.К.Лемке, Д.І.Петрушэўскі, А.Я.Праснякоў, А.І.Савін і Я.В.Тарле. У.І.Пічэта цягам усяго часу рэвалюцыі і грамадзянскай вайны спакойна працаваў у Маскве. Ці павінна была надалей існаваць патрэба ў прадстаўніках „буржуазнай навукі" — гэтае пытанне належала да стрыжнявых пры ажыццяўленні на першапачатковым этапе савецкай палітыкі ў дачыненні да навукі.

Падобнага профілю, як і РАНИОН, былі чатыры іншыя маскоўскія новазаснаваныя інстытуцыі: Інстытут Маркса—Энгельса (1919), Камуністычны універсітэт імя Я.М.Свярдлова (1919), Інстытут чырвонай прафесуры (ИКП — 1921) ды Інстытут імя У.І.Леніна (1923). Універсітэт імя Свярдлова адначасова ўтвараў ядро адукацыйных установаў партыі, якія меліся рыхтаваць кадраў дзеля ажыццяўлення задач апошняй. Да 1925 г. па ўсім Саюзе была створаная сетка з 14 камуністычных універсітэтаў, колькасць слухачоў у якіх складала больш за 7 000. У той самы час цэнтрамі прыродазнаўчых даследаванняў былі ў асноўным Акадэмія навук і навукова-даследчыя інстытуты, створаныя пры Найвышэйшай радзе народнай гаспадаркі (ВСНХ). Усе разам ідэалагічныя ўстановы, агульным дахам якіх неўзабаве зрабіўся РАНИОН, утварылі арганізацыйную рамку камуністычнага выхавання кадраў, хоць па-сапраўднаму праэкзаменаваныя і прафесійна падрыхтаваныя выпускнікі бальшыні тых інстытуцыяў хутчэй заставаліся ў меншасці. Гэтак, з агульнае колькасці 157 студэнтаў гістарычнай спецыялізацыі, што ў 1921—1927 г. наведвалі ИКП, ажно 47 атрымалі дыпломы гісторыкаў. Аднак з ліку „ікапістаў" рэкрутавалася эліта будучых пакаленняў падсавецкіх гісторыкаў. Гэтак, выпускнік ИКП П.В.Горын у першай палове 30-х г. займаўся індактрынацыяй гістарычнай навукі ў БССР[90].

Па-за персанальным складнікам і, пасля спынення выхаду немарксісцкіх гістарычных часопісаў „Дела и дни", „Русский исторический журнал" (да 1922 г.), „Голос минувшего" (да 1924), „Анналы" (да 1924) і „Былое" (да 1926), манапольна распаўсюджваныя па ўсім Савецкім Саюзе перыядычныя выданні маскоўскіх ідэалагічных інстытуцыяў клапаціліся пра пашырэнне ўплыву сваіх поглядаў на стратэгіі даследаванняў. „Пролетарская революция" („Истпарт"), „Ленинский сборник" (Інстытут імя Леніна), „Архив Карла Маркса и Фридриха Энгельса", „Летопись марксизма" (Інстытут Маркса—Энгельса), „Вестник Коммунистической Академии" (Камуністычная акадэмія) і, перадусім, „Историк-марксист" и „Борьба классов" (Таварыства гісторыкаў-марксістаў) сваімі артыкуламі буда-

[90] Пра „ИКП" параўн. новую працу: Behrendt, Lutz-Dieter. Die Institute der roten Professur. Kaderschmieder der sowjetischen Parteiintelligenz (1928—1938) // JBfGOE 45 (1997) 4. С.597—621.

валі падмурак будучай падсавецкай сталінскай гістарыяграфіі. Гістарычныя часопісы выконвалі „баявыя задачы на гістарычным фронце“ і адначасова ўтваралі інтэгравальнае асяроддзе агульнасавецкай гістарыяграфіі. Той, хто змяшчаў артыкул у „Историке-марксисте“ альбо ў „Пролетарской революции“, адчуваў сябе далучаным да кола адмыслоўцаў і часткай „нешматлікіх шчасліўцаў“ („*happy few*“), упэўненых у ідэалагічнай надзейнасці сваёй працы.

Іншай прыярытэтнай сферай раннесавецкай гістарыяграфіі былі „выданні класікаў“. Зборы твораў класікаў марксізму-ленінізму, да якіх Ленін быў прылічаны ўжо пры жыцці, меліся ў распараджэнні новага пакалення гісторыкаў у Маскве і Менску як амаль невычарпальны рэзервуар тэкстаў. У перыяд з 1918 да 1922 г. выйшлі першыя тамы збору твораў Маркса—Энгельса на расійскай мове, а з 1920 г. пачало выходзіць першае выданне збору твораў Леніна. Рэальным арганізацыйным цэнтрам падсавецкай гістарыяграфіі ўжо неўзабаве пасля свайго ўзнікнення ў 1920 г. зрабілася ўтвораная напачатку ў Маскве „Камісія па гісторыі Кастрычніцкай рэвалюцыі і РКП(б)“ („Истпарт“). Як наогул першая савецкая навуковая ўстанова „Истпарт“ вельмі хутка разбудаваў вертыкальную арганізацыйную структуру і ўтварыў навукова-даследчае аб'яднанне цэнтра і рэспублік. Падсекцыі названай інстытуцыі былі заснаваныя ва Украіне, у Грузіі, Беларусі ды іншых рэспубліках. Яе першачарговай задачай было забяспечыць пераход „гістарычных навук на марксісцкія пазіцыі“[91].

Найвышэйшая інстанцыя ў савецкай навуковай палітыцы напачатку не была вызначаная адназначна. Шмат у якіх выпадках партыйныя і дзяржаўныя органы, перадусім на рэгіянальным узроўні, стваралі перашкоды адно аднаму. У той час як навуковыя ведамствы рэспубліканскіх урадаў, самае позняе пачынаючы ад сваёй III Усесаюзнай канферэнцыі (студзень 1925 г.), выступалі за перадачу ўсёй навуковай дзейнасці пад іх кіраванне, агітпропаўскія функцыянеры рэспубліканскага ўзроўню пры гэткім развязанні праблемы мусілі непакоіцца за свае цёплыя месцы. Пэўныя наркаматы асветы — да прыкладу, украінскі — спрабавалі, між тым, не падпарадкоўвацца планаванай у цэнтры і кантраляванай мясцовымі партыйнымі органамі навуковай палітыцы: натуральна, што гэткія спробы поспеху не мелі. Яшчэ пад час першай пяцігодкі партыя здыстанцыявалася ад стварэння ўсесаюзнага міністэрства адукацыі і навукі, якое б займалася цэнтральным планаваннем палітыкі ў дачыненні да навукі. Гэта было абумоўлена не аглядкаю на рэгіянальнае навуковае планаванне, а менавіта недаверам партыі да акадэмічных свяцілаў, з якімі — пры цэнтральным планаванні навуковай палітыкі — давялося б раіцца. Шырокамаштабнае планаванне 1927 г. ужо

[91] Комаров Н.С. Создание и деятельность Истпарта, 1920—1928 г. // Вопросы истории КПСС. 1958. № 5. С.153—165. З прычыны шматлікасці працаў пра развіццё навукі ў РСФСР, а таксама пра маскоўскія ідэалагічныя інстытуцыі, мы, замест далейшага падрабязнага разгляду, згадаем тут пра найважнейшыя: Shteppa, Konstantin F. Russian Historians and the Soviet State... (op. cit.). C.13—43; Barber, John. Soviet Historians in Crisis, 1928—1932. London, 1981. C.12—30; Graham, Loren R. The Soviet Academy of Sciences and the Communist Party, 1927—1932. Princeton, NJ, 1976. C.32 і наст.; Velychenko, Stepan. Shaping Identity in Eastern Europe and Russia. Soviet Russian and Polish Accounts of Ukrainian History, 1914—1991. New York, 1993. C.27 і наст.

дазволіць не магла — гэтаксама як і ў звязку са спробай паэта Антона Бялевіча ў вершы „Мароз-партызан“ прыпісаць негасцінным варункам надвор'я вырашальную ролю ў пераможным змаганні партызан супраць нямецкіх акупантаў[161].

Да сёння прывабнасць і прыцягальная сіла партызанскага руху як аб'екта навуковых пошукаў застаецца нязменна вялікаю; пры гэтым пераважна рабіліся і робяцца рэгіянальныя даследаванні[162]. Спосабы набліжэння да партызанскага міфа, што дасюль яшчэ практычна нічога не страціў з сваёй сугестыўнае сілы, усё яшчэ бываюць розныя. Побач з навуковымі працамі тут па-ранейшаму трапляюцца літаратурна-эсэістычныя апрацоўкі. У гэткіх выпадках зусім не выняткам выглядае параўнанне пілота самалёта і колішняга настаўніка з правінцыі Канстанціна Абазоўскага з міфалагічнымі героямі кшталту Ікара ды Арыёна[163]. Падобная атрыбутыка была знойдзеная для іншага былога настаўніка і партызана. Першы сакратар (з 1965 да 1980 г.) ЦК КПБ П.М.Машэраў, акрамя таго, стаў найбольш вядомым прадстаўніком так званай партызанскай генерацыі ў беларускай палітыцы 50—70-х г. Калі разам з прыходам да ўлады Хрушчова пачалася часовая „адліга“, у БССР прыкладна 75 былых удзельнікаў партызанскага руху ўвайшлі ў партыйную эліту, занялі ўрадавыя ды іншыя кіраўніцкія пасады[164]. Тым самым у рэальнай палітыцы знайшло сваё пацверджанне тое, што ўжо з канца вайны пазначылася як тэндэнцыя ў гістарыяграфіі, літаратуры, а таксама індывідуальнай ды калектыўнай памяці. Успрыманы ў роўнай меры ў патрыятычна-нацыянальных і патрыятычна-савецкіх катэгорыях вызвольны чын беларускіх партызан і „савецкага народа“ меў пасля смерці Сталіна беспасярэднія кадрава-палітычныя наступствы... Міф жыў і працягвае жыць да сённяшняга дня, „філасофія партызанскай вайны“ сёння ўспрымаецца паводле Гегеля, у духу „аптымістычнай трагедыі“. Аптымістычнай з тае прычыны, бо ў гэтай трагедыі, маўляў, перамагло не ліха, а „душа народа“[165]. Да цяперашняга моманту ў Беларусі партызанскі міф ды гераічныя ўспаміны пра Другую сусветную вайну мала чаго страцілі ў сваёй інтэгравальнай сіле.

## 3.3. Народ і нацыя: кананізацыя БССРаўскай гісторыі

У падсавецкім гісторыяпісанні паваеннага часу гісторыі нацыянальных субсупольнасцяў аддавалася асаблівая ўвага. З аднаго боку, гісторыкі з перыферыі даводзілі да завяршэння даўно пачатыя праекты, якія, аднак, увесь час адклада-

[161] Пра гэта больш падрабязна гл. у: Hlubinny, Ul. Vierzig Jahre weißrussischer Kultur unter den Sowjets (op. cit.) C.94.

[162] Пра постсавецкія даследаванні партызанскай праблематыкі ў Беларусі параўн. таксама: Chiari, Bernhard. Mythos und Alltag... (op. cit.) C.554 і наст.

[163] Лукашук А.М. Рэквіем „Арыёну“ // Самы галоўны ўрок. Мінск, 1994 (2-е выд.). C.10—27, у гэтым выпадку с.20.

[164] Аслёзаў С.А. Вытокі // Тамсама, с.163—189. Пра партызанскую фракцыю ў палітычным жыцці БССР параўн.: Urban, Michael E. An Algebra of Soviet Power. Elite Circulation in the Belorussian Republic 1965—86. Cambridge, 1989.

[165] Параўн.: Крукоўскі Мікола. Філасофія партызанскай вайны. Да пяцідзесяцігоддзя перамогі над фашысцкай Германіяй // Голас Радзімы, 27.04.1995. C.1, 4, у гэтым выпадку с.4.

ліся альбо і адкідаліся. Вайна і супольная абарона Савецкай дзяржавы, здавалася, яшчэ больш абудзілі інтарэс у правядзенні далейшых даследаванняў нацыянальнай гісторыі. Напрыканцы першага паваеннага дзесяцігоддзя (1945—1954 г.) усе падсавецкія рэспублікі мелі новыя сінтэтычныя даследаванні па гісторыі сваіх народаў.

Створаныя пасля 1945 г. паасобныя працы, прысвечаныя гісторыі „савецкіх народаў", рэалізоўвалі падвойную задачу. З аднаго боку, гісторыкі ў рэспубліканскіх інстытутах сістэматызавалі дасягненні пастулальнага руху даследаванняў і наяўныя крыніцы па гісторыі сваёй субсупольнасці. Цяпер у распараджэнні адукацыйных установаў краіны мелася надзейнае з гледзішча партыі сінтэтычнае даследаванне; як правіла, школьныя падручнікі выходзілі па свежых слядах гэткіх працаў. Другую задачу нацыянальныя гісторыі перыферыі выконвалі ў якасці інтэгральных складнікаў агульнасавецкага гістарычнага бачання. Гісторыя СССР — як яна рэалізоўвалася ў першых адпаведных праектах 50-х г. — усё яшчэ задумвалася як сума гісторыяў рэспублік, якія, са свайго боку, павінны былі мець хоць найменшы агульны назоўнік. Гэтая агульнасць палягала ў адпаведных дачыненнях з „вялікім расійскім народам".

З новым ажыўленнем „панславісцкай ідэі" для паваеннай гістарыяграфіі ўзнік новы маштаб вымярэння. Паколькі 1944—1945 г. адначасова сталіся вехамі пачатку халоднай вайны і грамадскія навукі не ў апошнюю чаргу меліся зрабіць свой унёсак у падтрымку палітычных намераў, не толькі расійскія, але і ўкраінскія і беларускія гісторыкі ў роўнай меры бачылі перад сабою задачу знайсці ў славянскай гісторыі аргументы для абгрунтавання непахіснасці будучыні Савецкай дзяржавы пад расійскім дамінаваннем. Менавіта ў звязку з пастаяннай расавай дыфамацыяй славянскіх народаў з боку нацысцкай прапаганды тут рэкамендаваліся хуткія ды актыўныя дзеянні. Новазаснаваны з ініцыятывы Пічэты ў лютым 1947 г. Інстытут славяназнаўства АН СССР у Маскве — пазнейшы Інстытут славяназнаўства і балканістыкі — здавалася, як нельга лепей быў прадвызначаны для выканання гэтай адмысловай задачы. Яшчэ ў год сваёй смерці дырэктар Інстытута Пічэта сам напісаў тэзісы, у якіх падкрэслівалася славянская місія ў Еўропе[166]. Паводле іх, візантыйская культура развівалася перадусім дзякуючы славянскаму ўплыву, што меў месца ў выніку пранікнення славян Рымскай імперыі. „Прагрэсіўнае значэнне" спалучэння рысаў антычнай цывілізацыі і славянскай культуры", маўляў, тлумачыцца не толькі імпартаванай разам са славянамі грамадавай сістэмай і стымуляванаму праз гэта развіццю феадальнага гаспадарчага ладу, але, у гэткай самай меры, праз „амаладжэнне" Ўсходнерымскай імперыі і звязанае з гэтым падаўжэнне на тысячу гадоў тэрміну яго існавання. Хоць гэткую „культурніцкую місію" можна было параўнаць з дзейнасцю германцаў у Заходнерымскай імперыі, але, у выніку, трыумфальныя германцы — у параўнанні з славянамі ды іх захаванай цягам стагоддзяў дзяржаў-

[166] Пичета В.И. Славяно-византийские отношения в VI—VIII вв. в отношении советских историков (1917—1947) // Вестник древней истории. 1947. № 3. С.95—99. Параўн. па гэтым пытанні: Mehnert, Klaus. Weltrevolution durch Weltgeschichte. Die Geschichtslehre des Stalinismus. Kitzingen-Main, o.J. (1952). С.52 і наст.

най, рэлігійнай і культурнай самабытнасцю — маўляў, не здолелі процістаяць сіле культурнага ўздзеяння Усходнерымскай імперыі, якая знаходзілася напярэдадні краху. Праз гэта мелася быць відавочнай „перавага славян над германцамі“.

Гэты прыярытэт славян у ранняй эпосе ўтварэння еўрапейскіх дзяржаваў цяпер было неабходным у духу гэтак званай „тэорыі павітухі“ схаваць у кантэкст падсавецкай перадгісторыі ды яе гістарыяграфічнай апрацоўкі. У духу неабходнасці расійскага імпарту культуры ды падвышэння соцыякультурных жыццёвых стандартаў перадусім мелася быць інтэрпрэтаваная ўсходняя экспансія царскай імперыі, заваяванне ёю Сібіры, Казахстана, Кіргізіі альбо Таджыкістана. Калі — як гэта было, на думку крытыкаў, з „Гісторыяй Казахскай ССР“ — царска-імперская экспансія трапляла гэтак моцна пад перакрыжаваны агонь дыскусій кшталту тых, што адбываліся ў „часы Пакроўскага“, пад рукою імгненна знаходзіўся знішчальны прысуд: „Гісторыя Казахстана — антырасійская кніга“[167]. Маскоўская даследчыца Панкратава, якая ўдзельнічала ў рэдагаванні кнігі, у той самы час бараніла канцэпцыю і змест кнігі з гэткім самым імпэтам. Гэтаксама як гэта мела месца ў дачыненні да гісторыі іншых народаў—складнікаў Савецкага Саюзу, далучэнне Казахстана да Расіі не толькі было „меншым ліхам“, але і мела — як ужо адзначалася ў звязку з славянскімі ўплывамі на Візантыю — „прагрэсіўнае значэнне“[168].

Для беларускай і ўкраінскай гісторыі, аднак, не існавала патрэбы ў гэткага кшталту кампрамісах. Якраз тут з лёгкасцю — як мы ўжо гэта бачылі ў звязку з „дыскусіяй па праблеме ўз'яднання“ — знаходзіліся аргументы наконт „спрадвечнага жадання“ абодвух народаў аб'яднацца з Расіяй. Дзеля ўмацавання гэтай далёкасяжнай тэзы, між тым, яшчэ бракавала этнаграфічнага і лінгвістычнага абгрунтавання агульнага паходжання трох „братніх народаў“. У духу палітычных зменаў, што знайшлі свой выраз з уступленнем СССР і БССР у ААН і ўстанаўленнем фармальных двухбаковых стасункаў з Расіяй, ставілася задача знайсці трывалае рэчышча для дыскусіі, якая адбывалася ў дыяпазоне паміж патрыятычна-нацыянальнымі і савецка-патрыятычнымі катэгорыямі. Лепшай тэмы, як „узнікненне беларускага народа“, дзеля гэтага знайсціся проста не магло[169].

[167] Гэткую ацэнку даваў С.К.Бушаў пад час генеральных дэбатаў 1944 г., гл.: Стенограмма совещания, 1.06.1944 г. // ВИ. 1996. № 2. С.47—86, у гэтым выпадку с.56. Гаворка ідзе аб працы: История Казахской ССР с древнейших времен и до наших дней. Алма-Ата: АН Казахской ССР, 1943.

[168] Параўн. выступ Панкратавай, змешчаны ў: Стенограмма совещания, 1.06.1944 г. (op. cit.) С.75.

[169] НАРБ, ф.4, воп.47, спр.120, арк.122: Заяўка прэзідэнта АН БССР, чл.-кар. К.В.Горава сакратару ЦК КП(б)Б у пытанні Агульнага сходу Акадэміі ў красавіку 1947 г. (26.03.1947 г.). У дачыненні да склікання сходу аддзела грамадскіх навук АН БССР па тэме „Паходжанне беларускага народа і перыядызацыя яго гісторыі“, уласна, запрошвалася „санкцыя“ з боку ЦК. Падрыхтаваныя даклады Пічэты, які з гэтага выпадку меўся быць запрошаны ў Мінск („Паходжанне беларускага народу“), археолага Палікарповіча („Периодизация истории доклассового общества на территории Белоруссии“), які, здавалася, перажыў усе навальніцы сталінскага часу, а таксама дацэнтаў П'янкова („Периодизация истории феодального общества на террито-

Для падрыхтоўкі сваіх працаў Пічэта і П'янкоў, напэўна, мусілі звяртацца да рукапісаў, якія ствараліся ў гэты самы час. Да прыкладу, П'янкоў, чый надрукаваны ў 1948 г. тэкст, здаецца, стаў матрыцаю для напісання адпаведных раздзелаў „Тэзаў да асноўных пытанняў гісторыі БССР" (1948), трох „макетаў" (1948, 1951, 1952) і першага тома „Истории Белорусской ССР" (1954), лічыў пытанне пра паходжанне беларусаў адным з найважнейшых у гісторыі краіны ўвогуле, якое прытым патрабуе правядзення міждысцыплінарнага вывучэння. Дагэтуль, аднак, гэтым пытаннем, маўляў, займаліся толькі „нацыяналісты", намаляваўшы скажоны вобраз этнагенезу беларусаў, „адлучаны ад гісторыі роднасных братніх народаў — расійскага ды ўкраінскага". Даследаванне гісторыі БССР, у той самы час, мелася ў значнай ступені сведчыць, што ўся гісторыя беларускага народа арганічна звязаная з гісторыяй расійскага ды ўкраінскага народаў"[170].

У сваім тэксце гэты аўтар на беларускім прыкладзе здзейсніў тое, неабходнасць чаго Пічэта, Грэкаў ды іншыя падкрэслівалі ўжо цягам доўгіх гадоў: гістарычнае абгрунтаванне расійскай і, тым самым, савецкай місіі ў дачыненні да Еўропы ды іншых падсавецкіх рэспублік. Спасылаючыся на грэцкія (Герадот), візантыйскія (Пракопій) і рускія (Нестар) крыніцы ды іх у цэлым хісткія высновы датычна паходжання і рассялення паасобных еўрапейскіх ды азіяцкіх плямёнаў, аўтар стварае этналагічную ўсходнеславянскую тапаграфію. П'янкоў разглядаў як здзейснены факт — самае позняе з напісаннем „Повести временных лет", — што на тэрыторыі краіны „жыў цэлы шэраг усходнеславянскіх племянных супольнасцяў". Першую дзяржаўную арганізацыю, паводле гэтай тэорыі, утварала „держава" Кіеўскай Русі. У якасці афіцыйнай назвы для раннесярэднявечнай шматэтнічнай імперыі беларуская гістарыяграфія тым часам абрала тэрмін „древнерусское государство". „Моўная і культурная еднасць усходнеславянскіх тэрыторыяў" — на думку П'янкова, цяпер ужо аўтара адпаведнага раздзела „Истории Белорусской ССР", і цалкам насуперак інтэрпрэтацыям Ігнатоўскага альбо Доўнара-Запольскага — у роўнай меры спрыяла далейшаму развіццю ўсходняга славянства, якое, у сваю чаргу, пераўтваралася ў „древнерусскую народность".

Нацыяналісты — як надалей прыводзіў свае аргументы П'янкоў — меліся вылучаць самабытнасць беларускіх княстваў, а таксама самабытнасць пасяленцаў тамтэйшых „беларускіх" плямёнаў у той меры, у якой яе не існавала. П'янкоў таксама ўважаў за памылковае канструяванне ранняй „беларускай дзяржаўнасці". З-за гэтага шэрагу аргументаў праглядаў вобраз Кіеўскай Русі як протакамуністычнай супольнасці, дзе сяляне ў значнай ступені „яшчэ мелі сваю ўласную зямлю". Тое, маўляў, што ў XI—XIII ст. шматлікія славянскія плямёны адкалоліся ад Кіеўскай Русі і — як гэта было з Полацкім і Тураўскім княствамі —

рии Белоруссии") і Дудкова („Периодизация истории Белоруссии в эпоху капитализма и социализма") меліся канчаткова ўнесці яснасць у вырашэнне гэтай праблемы. Іншыя праекты, якія, у дадатак, мусілі ажыццяўляцца з удзелам супрацоўнікаў інстытутаў філасофіі і права, згадваюцца ў кароткай справаздачы аб працы Інстытута гісторыі: Шатилло В.В. В институте истории Академии наук Белорусской ССР // ВИ. 1954. № 6. С.167—168.

[170] Пьянков А.П. Происхождение белорусского народа. Мінск, 1948. С.3.

увайшлі ў новыя дзяржаўныя ўтварэнні, нацыяналістычнымі гісторыкамі заўсёды падавалася як „змаганне за незалежнасць"[171].

Тут нельга не заўважыць зарыентаванага на цэнтралізаваную дзяржаву спосабу аргументацыі. Праекцыі моцнай цэнтралізаванай дзяржавы зноў набылі дадатковую вагу для падсавецкай гістарычнай навукі перадусім з часу ахвярнай перамогі ў „Вялікай Айчыннай вайне". Распад Кіеўскай Русі значыў гэткім чынам і для падсавецкага гісторыяпісання вартае шкадавання перапыненне расійскай імперскай гісторыі. Гэтая перспектыва выглядае гэтаксама звужанай, як і „беларуская" інтэрпрэтацыя гістарычнага працэсу на „сваіх" тэрыторыях у выглядзе заваяванай незалежнасці князёў ад кіеўскіх вялікіх князёў. Розніца ў падыходах робіць навочным той факт, што гісторыкі з нацыянальным нерасійскім, як і з падсавецка-расійскім заплеччам, прыводзілі свае аргументы з перспектывы гісторыі імперыі і пакідалі па-за ўвагай тую акалічнасць, што кіеўскія князі ў разлеглай шматэтнічнай імперыі не маглі спраўляцца з выкананнем гаспадарчых, ваенна-палітычных і адміністрацыйных функцыяў. Распад агромністай дзяржавы адбываўся ані з прычыны нацыянальна-амбіцыйных бітваў за незалежнасць, ані — як гэта фармуляваў П'янкоў — праз „феадальную раздробленасць". Галоўнымі прычынамі паступовай страты Кіевам кантролю над іншымі землямі былі, хутчэй, адсутнасць цэласнай палітычна-гаспадарчай структуры і дынастычныя альбо міждынастычныя змаганні за ўладу[172].

Тое, што з сярэдзіны 40-х г. Кіеўская дзяржава — варты шкадавання распад якой фіксаваў часовы канец усходнеславянскай дзяржаўнасці — пачала характарызавацца як „супольная радзіма расійскага, украінскага і беларускага народаў"[173], было, несумненна, выразам змены гістарычнага бачання. Калі гісторыкі з Менска (і Кіева) 20-х — пачатку 30-х г. разглядалі дэмантаж Кіеўскай імперыі — а найперш вылучэнне „беларускіх" ці „ўкраінскіх" княстваў — у якасці пралога да нацыянальнай дзяржаўнасці, дык цяпер панавалі іншыя пастулаты і дапушчэнні. Калі ў эскізе гісторыі БССР узору 1946 г. княствы яшчэ падаваліся ў асобных падраздзелах як тэрыторыі, дзе развіваліся феадальныя структуры, дык у „Тэзах" 1948 г. гісторыя сярэднявечных Полацкага, Турава-Пінскага і Смаленскага княстваў паказвалася як „перыяд феадальнай раздробленасці"[174]. Шэсць стагоддзяў паміж распадам Кіеўскай імперыі ў XII ст. і „ўз'яднаннем" беларускіх земляў з расійскімі не толькі адным П'янковым маляваліся як міжчасоўе ды гісторыя прыгнёту. У гэткай самай танальнасці падаваліся аргументы аўтараў „Тэзаў". Маўляў, праз новае судакрананне са „спадчынай дэмакратычнай расійскай культуры" беларускі народ нарэшце здолеў далучыцца да „агульнарасійскага рэвалюцыйнага руху"[175]. Міф пра з'яднаную моцную дзяржаву зрабіўся сутнаснай прыкметай паваеннай гістарыяграфіі. У духу імперскай гістарыяграфіі XIX ст. беларускія гісторыкі таксама

[171] История Белорусской ССР (1954) (op. cit.). С.41, 10 і наст.
[172] Параўн. па гэтым пытанні: Kappeler, Andreas. Kleine Geschichte der Ukraine. München, 1994. С.29 і наст.
[173] История БССР (1946) (op. cit.). С.49 і наст.
[174] „Тэзісы..." (op.cit.) С.41 і наст., або: История Белорусской ССР (1954) (op.cit.), с.35 і наст.
[175] „Тэзісы..." (op. cit.). С.49.

не пакінулі нявыкарыстанай магчымасць падкрэсліць трываласць традыцыі з'яднанай дзяржавы і выказаць шкадаванне з прычыны тых перапынкаў, што ўзнікалі: „І праз многія стагоддзі рускі народ [г.зн., тры ўсходнеславянскія народы. — Р.Л.] успамінаў пра часы Старажытнарускай дзяржавы як перыяд магутнасці і славы"[176]. Адпаведным чынам, з вялікай эйфарыяй ацэньвалася паўторнае ўлучэнне беларускіх тэрыторыяў у царскую імперыю пад час падзелаў Рэчы Паспалітай. Царызм, які вызваліў беларусаў ад „панскага ярма", развіваў культуру, будаваў дарогі, які (незалежна ад канкрэтнага гістарычнага пункта) здолеў сфармаваць моцную імперскую расійскую дзяржаву — гэты самы царызм быў у 1954 г. амаль што рэабілітаваны, самае меншае — у дачыненні да ўз'яднання народаў:

> „Уз'яднанне Беларусі з Расіяй было важным паваротным пунктам у лёсе беларускага народа. Пасля шасцісотгадовага гвалтоўнага адлучэння ад вялікага расійскага народа ён зноўку быў аб'яднаны з ім у адной дзяржаве. Гістарычны акт уз'яднання Беларусі з Расіяй адпавядаў кроўным інтарэсам шырокіх масаў беларускага народа, яго шматвекавым памкненням уз'яднацца з крэўным яму паводле паходжання, мовы, культуры і гісторыі расійскім народам"[177].

У якасці аднаго з галоўных дзеля падтрымкі стрыжнявой тэзы пра тры ўсходнеславянскія „братнія народы" прыцягвалася моўнае пытанне. Яшчэ за 10 гадоў да выхаду ў свет „Истории Белорусской ССР", у 1944 г., маскоўскі акадэмік М.С.Дзяржавін нават выкарыстаў высновы лінгвіста М.Я.Мара, якога неўзабаве чакаў праслед, і апеляваў да паняцця „этнічнага і культурнага субстрату". Гэты субстрат, пачаткі якога трэба, маўляў, шукаць у супольных этрускіх моўных каранях, меўся быць як падмуркам роднасці вялікарасійскай, украінскай ды беларускай моваў, гэтак і галоўнай прычынай таго, што ўсходніх славян трэба было б называць „рускімі славянамі"[178]. Хоць Дзяржавін — і нават у большай ступені, чым адпаведныя беларускія даследнікі — вылучаў балцкія элементы ў працэсе ўзнікнення „беларускага народа" і прызнаваў таксама за ўсімі трыма братнімі народамі якасць „уласнай нацыі", ён не абышоўся без таго, каб узнесці „единство" трох нацыяў і назваць „рускі народ", што, маўляў, складаецца з расійцаў, украінцаў і беларусаў, „моцным *племенным целым*". У версіі падсавецкіх гісторыкаў арыгінальным чынам змешваліся нацыяналістычныя — г. зн., імперскія — уяўленні XIX ст. з элементамі новага разумення этнічнай і моўнай гісторыі ўсходніх славян[179]. Гэтая дыхатамія цалкам і без выняткаў адпавядала канцэпцыі савецкага патрыятызму, здольнай глушыць у агульным і супольным нацыянальныя памкненні. Урэшце, невыпадкова менавіта ў гэты час адбываліся актыўныя дэбаты наконт далёкасяжнай палітыкі ў дачыненні да „прасторы" Савецкага Саюзу, да яго тэрыторыі з гістарычнае перспектывы, а Тарле правёў наўпроставыя паралелі з Рымскай імперыяй[180].

[176] История Белорусской ССР (1954) (op. cit.). С.40.
[177] Тамсама, с.205.
[178] Державин Н.С. Происхождение русского народа. Москва, 1944. С.53 і наст.
[179] Тамсама, с.98, 116 і наст.
[180] Стенограмма совещания, 22.06.1944 г. // ВИ. 1996. № 5. С.77—107, у гэтым выпадку с.82.

Пічэта, біяграфія якога якраз увасабляла наваствораны гістарычны вобраз, прыводзіў „Слова пра паход Ігаравы“ ў якасці ўзорнага тэксту для агульнарускай моўнай асновы, што зноў–такі магла б разглядацца як зыходны пункт для паасобных адпаведных моваў „трох галін таго адзінага рускага народа“. Тут нават ішла гаворка пра „генетычную сувязь“ паміж старабеларускай і старарасійскай пісьмовасцю[181]. Хоць Пічэта, з аднаго боку, не пакінуў без згадак агульнарускі характар Кіеўскай Русі ды яе „культурна–этнічную еднасць“, з іншага боку, ён у сваім падарожжы ў часе зрабіў нарыс варункаў узнікнення беларускай нацыі. Пры гэтым нельга было не заўважыць, што нацыянальная патэтыка паваеннага часу дапускала таксама новае абыходжанне з нацыянальнымі гісторыямі падсавецкіх рэспублік.

Калі яшчэ ў сваёй надрукаванай у 1928 г. працы пра „Дзве культуры беларускай гісторыі“ ён называў полацкага мешчаніна Скарыну часткай культуры „паразітоўнай меншыні“, цяпер, на этапе санкцыянаванага патрыятызму, зрабілася магчымым згадваць пра Скарыну як „сапраўднага сына свайго народа“, пра „беларускае адраджэнне як выраз росту «народного сознания»“, а таксама пра „залаты век“ альбо „беларусізацыю беларускай пісьмовасці“. Пры гэтым пераклад Бібліі Скарынам — рэфарматарскую чыннасць якога Пічэта тут не першы раз параўноўваў з дзейнасцю Марціна Лютэра альбо Яна Гуса — „на мову простага народа“ значыў стварэнне „беларускай літаратурнай мовы“[182]. У кожным разе, аўтары „Истории“ яшчэ бачылі ў здзяйсненнях беларускага рэфарматара „прагрэсіўнае значэнне“[183]. Пры гэтым яны ўжывалі фармулёўку, якая прыходзіла ўжо на дапамогу і ў папярэдніх вузлавых момантах інтэрпрэтацыі, а яшчэ і мелася прыходзіць на дапамогу ў будучым[184]. Дыскусія пра паходжанне беларускага народа (аналагічная мела месца і ва Ўкраіне) зноў–такі выконвала падвойную задачу — гэтаксама як у дэбатах пра „ўз'яднанне“ і партызанскі міф, што адначасова вяліся і часта накладаліся адна на адну. Ставілася задача прапісаць супольныя і „сваяцкія“ ўзаемадачыненні паміж усходнеславянскімі народамі, падмацоўваючы іх моўна–гістарычнымі, культурна–навуковымі, археалагічнымі ды — у выпадку неабходнасці — таксама біялагічнымі сведчаннямі. Таксама гаворка ішла пра тое, каб захоўваць у полі зроку ўласныя нацыянальныя каштоўнасці беларускай гісторыі, бо праз увядзенне ва ўжытак паняцця народа чакаўся значны мабілізацыйны патэнцыял.

Гэта яшчэ ў большай ступені датычыла вернутага ва ўжытак паняцця нацыі. Побач з праблемай „паходжання і ўзнікнення“ беларускага народа мінскія гісторыкі ад пачатку 50-х г. на даручэнне зверху даследавалі „працэс фармавання і

[181] Пичета В.И. Образование белорусского народа // *Яго ж.* Белоруссия и Литва XV—XVI вв. ... (op. cit.) С.595—632, у гэтым выпадку с.617. Упершыню надрукавана: *Яго ж.* Образование белорусского народа: Вопрос об этногенезе. Предки. Формирование // ВИ. 1946. № 5—6. С.3—29. Тэрмін „генетычная сувязь“ сустракаецца на с.631.

[182] Тамсама, с.627. Тут упершыню зноў цытавалася юбілейнае выданне 1926 г., прымеркаванае да 400–годдзя беларускага кнігадруку, што ў міжчассі сурова забаранялася рабіць.

[183] История Белорусской ССР (1954) (op. cit.). С.105.

[184] Гэтак, напрыклад, было з ацэнкай паўстання 1863 г. — гл.: Тамсама, с.290.

развіцця беларускай нацыі". Паўторнае вяртанне да нацыянальных катэгорыяў трансфармаванай гістарычнай навукі пазначылася ўжо даўно, пад час сталінскіх умяшальніцтваў у развіццё гісторыяпісання ў 1934 г., у Канстытуцыі СССР узору 1936 г., а таксама — канчаткова — у нацыянальным пафасе інтэрпрэтавання сусветнай вайны: які, да прыкладу, знайшоў сваё выяўленне ў закліках 1941 г. і сталінскім тосце 1945 г. ці ў працы „Марксізм і пытанні мовазнаўства"[185]. Яшчэ ў „Истории БССР" 1946 г. і „тэзах" 1948 г. аўтары ўвязвалі пераход ад народнасці да нацыі з распадам феадальнай сістэмы і ўзнікненнем капіталістычных дачыненняў[186].

Пічэта таксама лічыў, што беларуская народнасць узнікла ў XIII ст. і звязваў утварэнне „беларускай нацыі" з усталяваннем капісталістычных дачыненняў у галіне ўласнасці, што мелі месца каля сярэдзіны XIX ст. у выніку скасавання прыгоннага ладу[187]. Гістарычнаму паходжанню „беларускай нацыі", а таксама яе ўпісванню ў адзіную гістарычную плынь падсавецкіх нацыяў была прысвечаная праца мінскага гісторыка Я.І.Карнейчыка, пра якую яшчэ будзе ісці гаворка ніжэй[188]. З новым асвятленнем тэмы нацыі было звязана прынцыповае новаазначэнне традыцыйнага зместу паняцця беларускай нацыі.

Паколькі апошняя — як ахвотна цытавалася — не падае з неба, гэткая новая інтэрпрэтацыя нацыянальнага мусіла ўвабраць у сябе (einfangen) усю дасавецкую гісторыю. Тым самым наступная цэнтральная тэма паваеннай беларускай гістарыяграфіі павінна была ахопліваць біяграфіі тых асоб, што меліся запоўніць пантэон беларускай сацыялістычнай нацыі. Праблема, з якой у гэтым дачыненні сутыкнуліся мінскія гісторыкі, вынікала з таго факта, што ўсе дасавецкія постаці беларускай гісторыі былі гэтаксама занятыя „нацыяналістамі". Цяпер у тым больш ай ступені стаяла задача з дапамогай вытанчаных стратэгіяў пераасэнсавання і выпрацоўкі кампрамісных формул у новы спосаб наблізіць Францішка Скарыну альбо Кастуся Каліноўскага і ўвесці ў абмежаванае кола асоб двухаблічную пару паэтаў Янку Купалу — Якуба Коласа, якія пад магутным дапасавальным прэсам супраць сваёй волі трансфармаваліся з патрыятычна захопленых (lamoryant) нацыянальных песняроў у апалагетаў Сталіна ды ўнутраных эмігрантаў. І тут можна было назіраць, што рэнацыяналізацыя падсавецкай гістарыяграфіі пад знакам савецкага патрыятызму трымала напагатове адпаведныя інтэрпрэтацыйныя ўзоры. Адна толькі формула „прагрэсіўнага значэння", што

[185] Параўн. адпаведныя дакументы: D 7 (Сталін абвяшчае „Айчынную вайну" 3 ліпеня 1941 г.) — D 12 (нацыя як гістарыятворная сіла і тэорыя „рэвалюцыі зверху") у: // Lieber H.-J., Ruffmann K.-H. (выд.). Der Sowjetkommunismus. Dokumente (op. cit.). Bd.1. С.353—414, у гэтым выпадку с.414. Акрамя таго, параўн.: Сталин И. Марксизм и национальный вопрос. Москва, 1936; Stalin, J. Der Marxismus und die Fragen der Sprachwissenschaft. Berlin, 1951.

[186] История БССР (1946) (op. cit.). С.113; „Тэзісы..." (op. cit.). С.54 і наст.; Сталин И. Марксизм и национальный вопрос (op. cit.). С.73.

[187] Пичета В.И. Образование белорусского народа... (op. cit.). С.630.

[188] Яшчэ раней: Корнейчик Е.И. Экономические предпосылки формирования белорусской буржуазной нации // ВИ. 1955. № 8. С.94—104. Акрамя таго, гл. напісаны Карнейчыкам разам з М.Я.Грынблатам раздзел у: История Белорусской ССР (1954) (op. cit.). С.320—333.

знаходзіла сваё паспяховае прымяненне яшчэ ў дачыненні да тэзы „меншага ліха", у гэтым сэнсе адкрывала перад гісторыкамі вялікія магчымасці[189].

Праз дзесяцігоддзе пасля заканчэння вайны падсавецкая супольнасць гісторыкаў усё яшчэ не была аднароднай групаю і мусіла чуць на свой адрас папрокі ў „недахопе калектывізму, каставым мысленні й інтрыганстве"[190].

Тым не менш, менавіта новаму пакаленню гісторыкаў 40-х і 50-х г., што ўтваралі цяпер істэблішмент падсавецкай гістарыяграфіі, давялося ствараць версію гісторыі ад Сталіна да Гарбачова. У Беларускай савецкай рэспубліцы гэткія аўтары „Тэзаў да асноўных пытанняў гісторыі БССР", як Каменская альбо Шабуня, адначасова сталі акадэмічнымі настаўнікамі позне- і постсавецкай генерацыі гісторыкаў. Вучні гэтага адзінага чыста падсавецкага пакалення навукоўцаў перад 1991 г. апынуліся перад гарой абломкаў. Гісторыкам, мовазнаўцам ці філосафам, у якіх ужо не было боязі магчымага пераследу, але сацыяльны статус якіх быў у значнай меры паніжаны, заставаўся выбар: павярнуцца да новых перспектываў даследаванняў альбо зусім адысці ад заняткаў навукай.

[189] Сярод іншых працаў па гэтым пытанні гл.: Перцаў В.Н (У.М.). Грамадская дзейнасць і светапогляд Г.Скарыны // Весці АН БССР. 1948. №6. С.22—32; *Яго ж.* Кастусь Каліноўскі // Полымя. 1945. №9. С.138—152; Лушчыцкі І. Сацыяльна-палітычныя погляды Кастуся Каліноўскага // Полымя. 1949. №8. С.123—133; Ивашин В. Народный певец. К 75-летию со дня рождения Янки Купалы // КБ. 1957. № 6. С.13—19; Фигловская Л. Великий сын белорусского народа — Якуб Колас // КБ. 1956. №9. С.10—17. Працы Лушчыцкага і Перцава, аднак, пасля іх выхаду патрапілі пад агульную крытыку, што была скіраваная супраць пераасэнсавання месца ды „ідэалізацыі" гістарычных асоб. Параўн.: Ільюшын І. Аб некаторых пытаннях гісторыі грамадскай думкі на Беларусі // Большэвік Беларусі. 1948. № 6. С.36—49.

[190] Гэтак гаварыў Бушаў пра становішча ў ІГ АН БССР у 1944 г., гл.: Стенограмма совещания, 1.06.1944 г. С.56.

# IV. ФАРМАВАННЕ НАЦЫІ Й ГІСТАРЫЧНАЯ ПАЛІТЫКА Ў ПОЗНЕ– І ПОСТСАВЕЦКАЙ ЭПОСЕ

„Ва ўмовах суверэннай Беларусі ўзнікла настойлівая неабходнасць распрацоўкі гісторыі беларускага народа, зыходзячы з нацыянальных пазіцый. Гэтага патрабуюць у першую чаргу дзяржаўныя інтарэсы. Цяжка знайсці ў свеце краіну, народ якой быў бы так абдзелены веданнем сваёй мінуўшчыны. Гісторыя нашай Бацькаўшчыны заслугоўвае самай высокай павагі. Яна — багатая. Гераічная і трагічная...“[1].

## 1. Палітыка і гістарыяграфія ў БССР у 1955—1990 г.

Распад Савецкага Саюзу напачатку беспасярэдне не закрануў гістарычную навуку падобным чынам, як гэта было з падзеямі 1917 г. Тады, як і ў найноўшым мінулым, яшчэ да змены сістэмы пазначыліся новыя перспектывы гістарыяграфіі, і яна выйшла далёка за межы атрыманых у спадчыну спосабаў пісання гісторыі. Гэтаксама як да канца 20-х г., прысутнасць нацыянальнай гістарыяграфіі дасавецкага часу была відавочная, гэтак і савецкае бачанне гісторыі працягвала і працягвае мець уплыў у частцы постсавецкага гісторыяпісання Беларусі. Калі змена гістарычных падыходаў у 20-я г. была, хутчэй, сведчаннем змены генерацыяў у гісторыкаў, а не рэвалюцыйнага будаўніцтва, дык у 90-я г. і маладзейшыя і старэйшыя даследнікі мінуўшчыны ў роўнай ступені выявілі гатоўнасць падтрымаць прыкметы нацыянальнай трансфармацыі грамадства. Надалей мы мусім звярнуць увагу на тое, што трываласць дачыненняў палітыкі і гістарыяграфіі пасля набытага досведу падсавецкай эпохі не паменшала.

Перадусім мы павінны ў галоўных рысах паказаць істотныя інстытуцыянальныя, персанальныя і тэматычныя змены, што мелі месца ў беларускім гісторыяпісанні ў часе ад канца 50-х да 1990 г., а таксама „стабільнасць“ дамінантнага бачання гісторыі. З часу смерці Сталіна гістарыяграфічная літаратура насамрэч была „цалкам падпарадкаваная патрэбам палітычнага кіраўніцтва“ і не магла „спрычыніцца да трансфармацыі слабаразвітых, а таксама малых перыферыйных грамадстваў“[2].

[1] Касцюк М.П. Нацыянальная канцэпцыя гісторыі Беларусі: Асноўныя падыходы // Гістарычная навука і гістарычная адукацыя ў Рэспубліцы Беларусь (новыя канцэпцыі і падыходы). Усебеларуская канферэнцыя гісторыкаў. Мінск, 3—5.02.1993. Ч.1. Мінск, 1994. С.3—10, у гэтым выпадку с.3.

[2] Як уводзіны ў пытанне па-ранейшаму актуальна: Martiny, Albrecht. Das Verhältnis von Politik und Geschichtsschreibung in der Historiographie der sowjetischen Nationalitäten seit den sechziger Jahren // JBfGOE 27 (1979) 2. C.238—272, а таксама: Stökl, Günther (выд.). Die Interdependenz von Historiographie und Politik in Osteuropa seit 1945. Stuttgart, 1977. Да таго ж пытання: Kappeler, Andreas. Die Historiographien der nichtrussischen Völker der RSFSR in den siebziger Jahren // JBfGOE 29 (1981). C.53—79. Апошнім часам: Hösler, Joachim. Die sowjetische Geschichts-

Перад тым як спыніць сваё існаванне ў 1991 г., Беларуская савецкая рэспубліка была адным з самых перадавых рэгіёнаў усяго Савецкага Саюзу. Дынаміка росту урбанізацыі БССР, якая пачалася ў паваенным дзесяцігоддзі, не змяншалася і паміж 1960 ды 1990 г. У той час, як колькасць насельніцтва паміж 1959 і 1986 г. вырасла на 24%, доля гарадскога жыхарства падвысілася на 250%. У 1959 г. гарадскіх жыхароў было 31% ад агульнай колькасці насельніцтва, а напрыканцы падсавецкага часу гэтая лічба складала ўжо 66%; прытым 60% гарадскіх жыхароў былі сканцэнтраваныя ў гарадах з насельніцтвам больш за 100 000 чалавек. Больш як у тры разы ў гэтым часавым прамежку (1959—1989 г.) вырасла колькасць насельніцтва Мінска (з 509 000 да 1 613 000), Гродна (з 73 000 да 271 000) і Брэста (з 74 000 да 258 000). У іншых вялікіх гарадах паказчык урбанізацыі быў не нашмат меншы: Гомель — з 175 000 да 512 000, Магілёў — са 122 000 да 359 000, Віцебск — са 148 000 да 357 000 жыхароў[3]. Сталіца Мінск, аднак, засталася бясспрэчным цэнтрам краіны, у якім жыла шостая частка ўсяго насельніцтва і канцэнтравалася гаспадарчая, адукацыйная і партыйная палітыка.

Вялікаму урбанізацыйнаму скачку БССР адпавядаў рост яе эканамічнага патэнцыялу, які зрабіў з падсавецкай Беларусі чыста экспартную краіну: 80% прамысловай прадукцыі, пераважна гатовай, выходзіла на ўнутрысавецкі альбо і на знешні рынак. Агульны аб'ём беларускай прамысловай прадукцыі вырас у 1960—1985 г. у 8,9 раза, адначасова можна было назіраць, што прырост у перыяд з 1981 да 1985 г. у параўнанні з 1961—1965 г. быў амаль што напалову меншы. У другой палове 70-х г. у БССР таксама былі вычарпаныя патэнцыял росту і станоўчай дынамікі развіцця савецкай гаспадаркі. Разам з тым, па-ранейшаму ўражваў высокі навукова-тэхнічны патэнцыял краіны. З 1956 да 1985 г. колькасць навукова-даследчых установаў павялічылася з 76 да 167. Калі яшчэ ў сярэдзіне 50-х г. у навукова-тэхнічнай і навукова-педагагічнай сферах прафесійна працавалі 4 400 чалавек, дык у 1985 г. да гэтай прафесійнай групы ўжо належала 42 400 чалавек. Колькасць дактароў навук пры гэтым вырасла з 1 600 да 13 100. У прапорцыі да агульнай колькасці насельніцтва БССР вельмі хутка магла быць далучаная да рэгіёнаў Еўропы з высокім працэнтам інтэлігенцыі і вялікім навуковым патэнцыялам[4].

Урбанізацыя, індустрыялізацыя і хуткае павышэнне адукацыйнага ўзроўню, натуральна, у рэспубліках былі заціснутыя ў цесны палітычны гарсэт, які быў выраблены цэнтрам для перыферыі. З дапамогай савецкай ідэалогіі і дзякуючы расстаноўцы кадраў партыі ўдалося злучыць адно з адным цэнтры і рэгіёны. Той факт, што ў Беларусі фактычна не магла сфармавацца нацыянальная эліта, да-

wissenschaft 1953 bis 1991. Studien zur Methodologie- und Organisationsgeschichte. München, 1995. Пра гісторыю, пачынаючы ад Другой сусветнай вайны, параўн.: Keep, John. Last of the Empires. A History of the Soviet Union 1945—1991. Oxford, 1996. Акрамя таго гл.: Hildermeier, Manfred. Geschichte der Sowjetunion, 1917—1991. Entstehung und Niedergang des ersten sozialistischen Staates. München, 1998. C.670 і наст., асабліва с.814 і наст.

[3] Marples, David R. Belarus. From Soviet Rule to Nuclear Power. London, 1996. C.22.

[4] Нарысы гісторыі Беларусі. Т.2. Мінск, 1995. C.404; Keep, John. Last of the Empires (op. cit.). C.122 і наст.

даткова спрыяў ажыццяўленню названай стратэгіі. У 1951 г. расійцы паводле нацыянальнасці займалі 75% адміністрацыйных пасад у БССР, і яшчэ на пачатку 70-х г. партыйнае, урадавае і савецкае кіраўніцтва на 40% складалася з расійцаў; а тое, што большыня беларусаў, акрамя таго, самае меншае моўна была зрусіфікаваная, не патрабуе дадатковых сведчанняў. Гэты факт мусіў брацца пад увагу стваральнікамі ўсёй ідэалагічнай прадукцыі, а перадусім — гістарыяграфіі[5]. Нашы далейшыя заўвагі што да ўзаемных стасункаў палітыкі і гістарыяграфіі ў Беларускай ССР могуць адначасова разумецца як даследаванне на прыватным выпадку працэсаў падсавецкага гісторыяпісання, бо ў 60-я і 70-я г. гістарыяграфіі падсавецкіх субграмадстваў рабіліся ўсё ў большай ступені падобнымі адна да адной. На прыкладзе трактавання тэмы „нацыя" прапагандай і гістарыяграфіяй далей у агульных рысах будзе паказана ўвячненне (Verstetigung) інтымных узаемадачыненняў паміж партыйнай палітыкай і гістарыяграфіяй у познесавецкім грамадстве. Больш падрабязнае даследаванне рэкорднага інстытуцыянальнага, персанальнага і публіцыстычнага прыросту ў сферы навук і, у больш вузкім сэнсе, навук гістарычных магло б яшчэ больш дэталёва прадэманстраваць, якімі нязначнымі і адрознымі выключна ў нюансах былі змены гістарычнага бачання ў БССР і ва ўсім Савецкім Саюзе.

## *1.1. Прапаганда і „сацыялістычныя нацыі"*

Адметнасць паваеннай гістарыяграфіі ў БССР з канца 50-х г. надалей палягала толькі ў расстаўленні пэўных акцэнтаў. Калі пасля 1945 г. у працах гісторыкаў можна было назіраць раздвоенасць савецка-патрыятычных і неанацыянальных ідэалагем, дык цяпер — і асабліва яскрава яшчэ пасля XXII з'езда КПСС (кастрычнік 1961 г.) — утварыліся дзве падобныя паміж сабою паралельныя стратэгіі, якія не засталіся без наступстваў для гістарыяграфіі. З аднаго боку, гуманітарныя навуковыя даследаванні павінны былі сканцэнтравацца на „практыцы камуністычнага будаўніцтва", яе тэарэтычным абагульненні, „вывучэнні найважнейшых заканамернасцяў эканамічнага, палітычнага і культурнага развіцця сацыялізму ды яго перарастання ў камунізм", а таксама на рэалізацыі задачы працягу „вывучэння трыумфальнага, пацверджанага самім жыццём гістарычнага досведу Камуністычнай партыі і савецкага народа, заканамернасцяў развіцця сусветнай сістэмы сацыялізму, а таксама міжнароднага камуністычнага і рабочага руху"[6].

З другога боку, прыярытэтным аб'ектам даследаванняў гістарычнай навукі з паваенных гадоў сталі „ўтварэнне беларускай нацыі", „нацыянальная дзяржаў-

[5] Пра наступствы адсутнасці нацыянальнай эліты ў гісторыі ды сучасным жыцці гл.: Линднер Р. Лидирующие группы в Беларуси в прошлом и настоящем // Вектор (Минск). 1997. № 2. С.11—16, у гэтым выпадку с.13. Пра сетку нагляду ў БССР гл. найперш: Urban, Michael N. An Algebra of Soviet Power. Elite Circulation in the Belorussian Republic 1965—1986. Cambridge, 1989.

[6] Праграма КПСС (цытуецца паводле: Programm und Statut der Kommunistischen Partei der Sowjetunion. Angenommen auf dem XXII. Parteitag der KPdSU 17. Bis 31.Oktober 1961. Berlin, 1961. С.3—134, у гэтым выпадку с.121 і наст.).

увайшлі ў новыя дзяржаўныя ўтварэнні, нацыяналістычнымі гісторыкамі заўсёды падавалася як „змаганне за незалежнасць“[171].

Тут нельга не заўважыць зарыентаванага на цэнтралізаваную дзяржаву спосабу аргументацыі. Праекцыі моцнай цэнтралізаванай дзяржавы зноў набылі дадатковую вагу для падсавецкай гістарычнай навукі перадусім з часу ахвярнай перамогі ў „Вялікай Айчыннай вайне“. Распад Кіеўскай Русі значыў гэткім чынам і для падсавецкага гісторыяпісання вартае шкадавання перапыненне расійскай імперскай гісторыі. Гэтая перспектыва выглядае гэтаксама звужанай, як і „беларуская“ інтэрпрэтацыя гістарычнага працэсу на „сваіх“ тэрыторыях у выглядзе заваяванай незалежнасці князёў ад кіеўскіх вялікіх князёў. Розніца ў падыходах робіць навочным той факт, што гісторыкі з нацыянальным нерасійскім, як і з падсавецка-расійскім заплеччам, прыводзілі свае аргументы з перспектывы гісторыі імперыі і пакідалі па-за ўвагай тую акалічнасць, што кіеўскія князі ў разлеглай шматэтнічнай імперыі не маглі спраўляцца з выкананнем гаспадарчых, ваенна-палітычных і адміністрацыйных функцыяў. Распад агромністай дзяржавы адбываўся ані з прычыны нацыянальна-амбіцыйных бітваў за незалежнасць, ані — як гэта фармуляваў П'янкоў — праз „феадальную раздробленасць“. Галоўнымі прычынамі паступовай страты Кіевам кантролю над іншымі землямі былі, хутчэй, адсутнасць цэласнай палітычна-гаспадарчай структуры і дынастычныя альбо міждынастычныя змаганні за ўладу[172].

Тое, што з сярэдзіны 40-х г. Кіеўская дзяржава — варты шкадавання распад якой фіксаваў часовы канец усходнеславянскай дзяржаўнасці — пачала характарызавацца як „супольная радзіма расійскага, украінскага і беларускага народаў“[173], было, несумненна, выразам змены гістарычнага бачання. Калі гісторыкі з Менска (і Кіева) 20-х — пачатку 30-х г. разглядалі дэмантаж Кіеўскай імперыі — а найперш вылучэнне „беларускіх“ ці „ўкраінскіх“ княстваў — у якасці пралога да нацыянальнай дзяржаўнасці, дык цяпер панавалі іншыя пастулаты і дапушчэнні. Калі ў эскізе гісторыі БССР узору 1946 г. княствы яшчэ падаваліся ў асобных падраздзелах як тэрыторыі, дзе развіваліся феадальныя структуры, дык у „Тэзах“ 1948 г. гісторыя сярэднявечных Полацкага, Турава-Пінскага і Смаленскага княстваў паказвалася як „перыяд феадальнай раздробленасці“[174]. Шэсць стагоддзяў паміж распадам Кіеўскай імперыі ў XII ст. і „ўз'яднаннем“ беларускіх земляў з расійскімі не толькі адным П'янковым маляваліся як міжчасоўе ды гісторыя прыгнёту. У гэткай самай танальнасці падаваліся аргументы аўтараў „Тэзаў“. Маўляў, праз новае судакрананне са „спадчынай дэмакратычнай расійскай культуры“ беларускі народ нарэшце здолеў далучыцца да „агульнарасійскага рэвалюцыйнага руху“[175]. Міф пра з'яднаную моцную дзяржаву зрабіўся сутнаснай прыкметай паваеннай гістарыяграфіі. У духу імперскай гістарыяграфіі XIX ст. беларускія гісторыкі таксама

[171] История Белорусской ССР (1954) (op. cit.). С.41, 10 і наст.

[172] Параўн. па гэтым пытанні: Kappeler, Andreas. Kleine Geschichte der Ukraine. München, 1994. С.29 і наст.

[173] История БССР (1946) (op. cit.). С.49 і наст.

[174] „Тэзісы...“ (op.cit.) С.41 і наст., або: История Белорусской ССР (1954) (op.cit.), с.35 і наст.

[175] „Тэзісы...“ (op. cit.). С.49.

знесталінскай эпосе, у 70-я г. меўся зрабіцца паўнавартаснай кампенсацыяй нацыянальна-дзяржаўнай думкі ў тым выглядзе, у якім яна існавала ў Заходняй Еўропе, усё яшчэ маючы значны мабілізацыйны патэнцыял. Стварэнне адзінай сеткі навуковай палітыкі ў межах ядра сацыялістычнага лагера, па-за ўсім іншым, спрыяла таму, што партыйныя ідэолагі і гісторыкі гэтых дзяржаваў з найвялікшым імпэтам займаліся даследаваннем узнікнення сваёй уласнай „сацыялістычнай нацыі". Стрыжнем аргументацыі, як на пачатку 60-х г., было „збліжэнне краін і народаў", а таксама іх эканамічная інтэграцыя, якая яшчэ на XXII з'ездзе КПСС была названая *condicio sine qua non* (лац. „неабходная ўмова". — *Заўвага перакладчыка*) няспыннага збліжэння падсавецкіх нацыяў[11]. У пашырэнне прынятага за сталінскім часам бачання нацыянальнай культуры народа апошнюю цяпер пачалі разглядаць як „сацыялістычную паводле зместу, інтэрнацыяналісцкую паводле духу ды характару, выяўленую ў канкрэтна-гістарычнай форме".

Побач з катэгорыямі кшталту „духу" ды „характару" новы абсяг вызначэння нацыянальнага пытання дазваляў знайсці месца непалітычным катэгорыям — гэткім, як „нацыянальны характар" і „нацыянальная душа" (Psyche), бо да іх таксама дадаваўся прыдомак „інтэрнацыяналісцкі". Засталася ў сіле таксама зробленая за познесталінскім часам рэабілітацыя паняццяў „Радзіма" і „Айчына", наяўнасць якіх прызнавалася цяпер і ў пралетарыяту, хоць, вядома ж, гаворка ўжо магла ісці толькі пра „сацыялістычную Радзіму" і „сацыялістычную Айчыну". Паказаная ў галоўных рысах напачатку — як сведчанне істотнага ў сваіх маштабах дуалізму паваеннай гістарыяграфіі — паралельнасць паняццяў савецкага патрыятызму і нацыі цяпер была раствораная ў адзінстве савецкага патрыятызму і пралетарскага інтэрнацыяналізму. Ужо не нацыянальныя, а інтэрнацыянальныя элементы вызначалі цяпер „патрыятызм працоўных". „Нацыянальная годнасць савецкіх людзей", — як у гэтым звязку актыўна цытавалася выказванне Л.І.Брэжнева з яго прамовы ў гонар 50-х угодкаў СССР, — маўляў, „глыбейшая і ўсеабдымнейшая за натуральныя нацыянальныя пачуцці кожнага паасобна ўзятага народа нашай краіны". Тым самым савецкі патрыятызм як „еднасць вышэйшага парадку" ставіўся вышэй і за нацыю, і за нацыянальнае[12].

Дыскусіі тэарэтычнага кшталту ў падсавецкіх рэспубліках ні ў якім разе не былі мякчэйшымі ці больш гнуткімі — не кажучы пра тое, каб яны маглі ўтры-

[11] Chruschtschow, N.S. Über das Programm... (op. cit.). C.251. Рэзюмаванне вынікаў дэбатаў па праблеме „сацыялістычнай нацыі" прапанавана ў зб.: Sozialismus und Nationen. Berlin, 1976. Рэфераваныя тут даклады былі прачытаныя на міжнароднай канферэнцыі „Развіццё і міжнароднае супрацоўніцтва сацыялістычных нацыяў", якая адбылася 23 і 24 кастрычніка 1973 г. у Маскве. Параўн.: Scherstobitow, W.P. Die ökonomischen Grundlagen für die Herausbildung von sozialistischen Nationen // Тамсама, с.136—143.

[12] Гэтак гаворыцца ў: Rogatschow P.M., Swerdlin M.A. Patriotismus und Nation // Тамсама, с.171—179, у гэтым выпадку с.174. Вышэй пра паняцце айчыны гл.: Jantschew, J. Zum Problem des Vaterlandes // Тамсама, с.164—170; пра нацыянальную культуру: Jowtschuk M.T., Lukin J.A. Die internationalistische Gemeinschaft und die weitere Annäherung der Kulturen der Völker der sozialistischen Gemeinschaft // Тамсама, с.93—110, у гэтым выпадку с.96; пра „нацыянальную душу": Simanas, G.O. Die Bedeutung der Ideologie und der internationalen Psyche bei der Entwicklung der sozialistischen Nationen // Тамсама, с.186—191, у гэтым выпадку с.187.

моўваць прыхаваную нязгоду. Прытулкі навуковых альбо тэарэтычных супярэчнасцяў — калі яны ўвогуле існавалі — былі толькі ў сталіцах, да прыкладу, у Мінску. Але ў правінцыях правінцыі ўсё выглядала змрочна. Партыйныя школы і навуковыя ўстановы на ўзроўні вобласцяў адчувалі цягу да двух цэнтраў. Мінск быў кар'ернай мэтай партыйнага работніка з Гомеля альбо Гродна, у той час як Масква здавалася недасягальнай. У тэарэтычных дыскусіях пачатку 70–х г. гісторыкі і грамадазнаўцы асабліва актыўна звярталіся да праблемы сацыялістычнай нацыі й дзяржаўнасці. Тут будзе досыць прывесці толькі адзін прыклад.

Пад арганізацыйнай апекай Магілёўскага абкама партыі тамтэйшы „абласны метадычны савет настаўнікаў грамадазнаўчых дысцыплін" правёў у 1972 г. навукова–тэарэтычную канферэнцыю на тэму: „XXIV з'езд КПСС і сацыяльна–палітычнае развіццё савецкага грамадства"[13]. Партыйныя прапагандысты і выкладчыкі гісторыі тэхнічных і педагагічных навучальных установаў вобласці былі закліканыя выказаць сваё стаўленне да прапанаваных партыяй гэткіх стрыжнявых паняццяў, як „сацыялістычная дзяржаўнасць", „нацыя" і „сацыялістычная дэмакратыя". За тэрміналагічнымі дэбатамі стаяла імкненне партыі ўвесці савецкую ідэнтычнасць грамадзян дзяржавы ў асноўны слоўнік паняццяў грамадазнаўчай навукі. Дзяржава цяпер характарызавалася як „советское общенародное социалистическое государство", якое „з ідэалагічнага і маральнага гледзішча" мае „перавагу перад капіталістычнай эксплуататарскай дзяржавай" і падтрымоўвае „фармаванне людзей у духу высокіх маральных ідэалаў свабоды, роўнасці, сяброўскага супрацоўніцтва, савецкага патрыятызму, пралетарскага інтэрнацыяналізму і гуманізму"[14]. Паняцце „сацыялістычнай дэмакратыі" толькі пасля смерці Сталіна было ўключана партыяй у афіцыйны вакабуляр. (Працытаваны аўтар увесь час здзіўляўся гэтаму: „Чаму цяпер так шмат гавораць і пішуць пра дэмакратыю?") Са спасылкай на выказванне Леніна пра „максімум дэмакратызму", які мелася забяспечыць савецкая дзяржава рабочых і сялян, да таго ж падкрэслівалася роля органаў народнага прадстаўніцтва ў пабудове Савецкай дзяржавы, а таксама згадваўся той факт, што выбраныя ў 1971 г. мясцовыя саветы БССР на 63,2% складаліся з рабочых і калгаснікаў.

Азначэнне „сацыялістычны" цяпер дадавалася не толькі да паняццяў „нацыя", „дзяржава" і „дэмакратыя", але і да паняццяў „культура", „адукацыя" і „навука". І ў 70–я г. ім як важным сферам выхавання кадраў аддавалася асаблівая ўвага з боку партыі. Пастановы XXIV з'езда КПСС у пытаннях навуковай палітыкі, адпаведным чынам, з асаблівай цікавасцю вывучаліся магілёўскімі прапагандыстамі, бо тут ішлося пра іх асабісты ўклад у справу выхавання „новых кадраў" і „новага чалавека". У дачыненні да грамадазнаўчых навук удзельнікі канферэнцыі сфармулявалі задачу: „пашырыць абсяг даследаванняў праблем фармавання марксісц-

[13] Сборник материалов научно–теоретической конференции „XXIV съезд КПСС и социально–политическое развитие советского общества" (выд. Магілёўскага абкама КП Беларусі і Абласнога метадычнага савета выкладчыкаў грамадазнаўчых навук). Горкі, 1972.

[14] Житников Г.П. XXIV съезд КПСС и развитие социалистической государственности // Тамсама, с.3—7.

ка-ленінскага светапогляду, маралі і гісторыі нашай Радзімы"[15]. Несумненна, у гэтым кантэксце пад „Радзімай" разумеўся Савецкі Саюз як адно цэлае. Дакументы канферэнцыі 70-х г. навукоўцаў і прапагандыстаў, абранай тут выпадкова дзеля прыкладу, у дачыненні да гуманітарных навук, паказваюць адну асаблівасць. Сама рэспубліка, альбо нават і „беларускі народ", у аргументацыі не адыгрывалі аніякай самастойнай ролі. Толькі там, дзе з дапамогай „мясцовых звестак" падмацоўваліся тыя альбо іншыя аргументы, працавалі „на матэрыяле БССР". Гэтая фармулёўка („*по материалам БССР*"), што таксама ў іншых матэрыялах 70-х г. у найлепшым выпадку падавалася ў дужках, сведчыла пра тое, што пра расійскую, гэтаксама як пра беларускую інтэлігенцыю, улучна з гісторыкамі БССР, ды й у дачыненні да кожнай іншай саюзнай рэспубліцы, насамрэч успрыманую ў якасці часткі аднаго цэлага, немагчыма было думаць як пра нешта самастойнае.

Зусім падобным чынам праходзіла дыскусія ў дачыненні да суадносінаў нацыянальнага ды інтэрнацыянальнага. Абапіраючыся на тэзу Брэжнева, выказанай на XXIV з'ездзе КПСС, пра тое, што „збліжэнне нацыяў у нашай краіне адбываецца пры ўважлівым улічванні нацыянальных асаблівасцяў і развіцці сацыялістычных нацыянальных культур"[16], гаворка ішла пра „дыялектычную повязь" нацыянальнага і інтэрнацыянальнага. Гэтая повязь мела выяўляцца перадусім у тым, што інтэрнацыянальнае гэтаксама прысутнічае ў нацыянальным і выказвае сябе праз нацыянальнае і ягоныя формы, як і наадварот: нацыянальнае, маўляў, выступае не толькі як спосаб выяўлення інтэрнацыянальнага, але яно адначасна ёсць часткай цэлага, бо кожная нацыянальная форма мае змяшчаць у сабе „агульначалавечыя элементы": „Вылучэнне інтэрнацыянальнага не вядзе да страты нацыянальных асаблівасцяў: гэта два бакі адзінства асаблівага і агульнага, якія, у сваю чаргу, не могуць існаваць паасобку". Таму нацыянальнае ды інтэрнацыянальнае, маўляў, нельга разглядаць ізалявана адно ад аднаго[17]. Для беларусаў гэта асабліва актуальна. У гэтым народзе заўсёды мелася назірацца наяўнасць нацыянальных ды інтэрнацыянальных сутнасных рысаў:

> „Нягледзячы на надзвычай вялікі досвед дэнацыяналізацыі, беларусы цягам стагоддзяў трывала супрацьстаялі невыноснаму ярму і захоўвалі сваю мову, традыцыі ды сукупнасць дамашніх гаспадарчых звычак. Называючы сябе за панаваннем літоўскіх і польскіх феадалаў «руськімі», яны ў той самай меры набылі свядомасць сваяцкай і духоўнай блізкасці з насельніцтвам іншых вобласцяў Русі"[18].

Відавочна, што пад інтэрнацыянальным у гэтай сувязі маецца на ўвазе абсяг падсавецкай прасторы, хоць у іншым месцы ішла спасылка на словы Леніна, што „нацыянальныя адрозненні будуць існаваць нават пасля ўсталявання дыктатуры

[15] Бондаренко В.А. Задачи культурного строительства в БССР на современном этапе // Тамсама, с.75—88.

[16] XXIV съезд Коммунистической партии Советского Союза. Стенографический отчет. Т.1. Москва, 1971. С.101.

[17] Копытин В.Ф. Национальное и интернациональное в жизни белорусского народа // Сборник материалов научно-теоретической конференции... (op. cit.). С.89—92, у гэтым выпадку с.89 і наст.

[18] Тамсама, с.90 і наст.

пралетарыяту ў сусветным маштабе". Тое, што тут падавалася ў тэарэтычных дэбатах, амаль стопрацэнтава адбівалася ў гістарыяграфіі. І там таксама — як гэта яшчэ будзе паказана — Беларуская ССР разглядалася як „нацыянальная дзяржава", якую, маўляў, „беларускі народ здолеў стварыць упершыню ў сваёй гісторыі".

У той самы час прапанаваная Капыцiным — на той час асістэнтам кафедры гісторыі СССР Магілёўскага педагагічнага інстытута — класіфікацыя нацыянальнай культуры беларусаў выходзіла па-за межы афіцыйнага вызначэння нацыянальнага пытання за брэжнеўскім часам:

> [Нацыянальная культура праяўляе сябе ў]: „нацыянальнай мове, нацыянальным каларыце, нацыянальнай спецыфіцы таго, што выяўляецца — г.зн., з улікам гістарычных і прыродных умоваў, асаблівасцяў нацыянальнага характару, нацыянальных традыцыяў і звычак".

Беларуская мова мелася тым часам дасягнуць здольнасці выконваць грамадскую функцыю як мова адукацыі, навукі ды грамадска-палітычнага жыцця. Нацыянальныя прыкметы беларусаў меліся быць выразна выяўленыя „ў формах жыллёвай архітэктуры, у арнаментах і колерах вопраткі, у традыцыях штодзённага жыцця і перадусім у народнай творчасці (*народное творчество*), якія арганічна звязаныя з гісторыяй, прыродай і нацыянальнай псіхалогіяй народа"[19]. Выказванні гэткага кшталту сведчылі пра тое, што ў рэспубліках — частках Савецкага Саюзу на пачатку 70-х г. не было пашырана рэальнае нацыянальнае самаўсведамленне, якое б выходзіла за межы моўна-фальклярыстычнага ўспрымання нацыянальнасці. Куды больш выразна пэўныя інтэрпрэтацыйныя магчымасці адкрываліся праз прынятую тады фармулёўку сінхроннасці нацыянальнага ды інтэрнацыянальнага[20].

Да самаўсведамлення лаяльнай падсавецкай інтэлігенцыі пачатку 70-х г. таксама належала ўпэўненасць ва „ўзнікненні новага гістарычнага тыпу асобы — савецкага чалавека"[21]. Зусім адкрыта гаварылася пра тое, што сродкі інфармацыі і прапаганды — гэткія, як газеты, часопісы, тэлевізія, радыё, прэсавыя агенцтвы — служылі партыі ў якасці інструментарыя „ў ідэалагічнай барацьбе з капіталізмам"[22]. У гэткай меры канфармісцкія часткі інтэлігенцыі йшлі разам з шматмедыйнай палітыкай партыі і часта нават праводзілі яе ў жыццё ў якасці прапагандыстаў грамадскіх навук.

Гістарычная навука нерасійскіх субграмадстваў — як ужо згадвалася вышэй — забяспечвала прапагандыстаў фактычным матэрыялам і інтэрпрэтацыйнымі дырэктывамі таксама ў пытанні трактавання доўгі час табуяванага паняцця на-

[19] Тамсама, с.92.

[20] Параўн. сярод іншага: Перкін Н.С. Нацыянальнае і інтэрнацыянальнае ў літаратуры. Мінск, 1971.

[21] Гэтая фармулёўка ёсць у: Бондаренко В.А. Задачи культурного строительства в БССР... (op. cit.). С.79.

[22] Агульны наклад газет падаецца ў памеры 140 мільёнаў паасобнікаў, часопісаў — больш за 150 мільёнаў. Падпіска на газеты і часопісы ў сельскай мясцовасці мелася ўзрасці ў 1965—1970 г. з 65 да 107 мільёнаў экзэмпляраў. 70% падсавецкага насельніцтва меліся належаць да тэлегледачоў. Звесткі падаюцца паводле: Тамсама, с.79.

цыі. У гэтым сэнсе сітуацыя ў БССР не была адрознай, хоць тут пошукі нацыянальна-гістарычных элементаў былі звязаныя з асабліва значнымі выдаткамі. Пры гэтым беларускім гісторыкам даводзілася сутыкацца з тым, што афіцыйны погляд на гісторыю ў роўнай меры патрабаваў інтэрпрэтацыі гістарычнай блізкасці паасобнай нацыі да інтэграцыйнай прасторы позняй савецкай імперыі. Выказванні, акрамя таго, павінны былі адпавядаць тэарэтычным дапушчэнням Леніна і Сталіна наконт таго, што нацыянальная разнастайнасць унутры камуністычнага грамадства не магла б быць яго канцавым станам, а ў далейшай перспектыве нацыі мусілі разглядацца ў працэсе натуральнага вымірання. Да таго ж, неабходна было ўлучаць у рыторыку прапагандыстаў „найважнейшыя перавагі“ сацыялістычных нацыяў перад буржуазнымі — „раўнапраўе народаў і нацыяў, ліквідацыю класавых адрозненняў, а таксама сацыялістычныя варункі вытворчасці“[23].

Калі прыгледзецца больш уважліва, хутка робіцца зразумелым, што паняцці нацыі ў падсавецкіх гісторыкаў 50—70-х г. усё яшчэ цалкам былі залежныя ад расплывістых уяўленняў на гэтую тэму Леніна і Сталіна. У якасці дэфініцыйнай асновы і класіфікацыйнай матрыцы ўсё яшчэ служыла сталінскае вызначэнне нацыі ўзору 1913 г., хоць цяпер у цытатах прыводзіўся толькі Ленін. *Ex post* можна вычытаць у савецкай інтэрпрэтацыі нацыі аднначасова і паралелізм да таго, што маецца ва ўгрунтаваных паводле мадэрнізацыйна-тэарэтычных крытэрыяў заходніх даследаваннях нацыянальных праблем таго часу. Узнікненне „беларускай (буржуазнай) нацыі“ прыраўноўвалася да перамогі капіталістычнага спосабу вытворчасці ды, урэшце, і імперыялізму, пабочным прадуктам якога маглі разглядацца нацыянальны і „буржуазна-дэмакратычны вызвольны рух“. Маўляў, толькі з канчатковым усталяваннем (да канца XIX ст.) „нацыянальнага рынку“— да якога прылічвалася „таварызацыя“ памешчыцкага грамадства, гэтаксама як адзінства нацыянальнай мовы і тэрыторыі рассялення, „рэвалюцыйна-дэмакратычная“ рыторыка Кастуся Каліноўскага альбо пазнейшая „дробнабуржуазна-нацыяналістычная публіцыстыка „Нашай Нівы“ — існавалі перадумовы для ўтварэння беларускай нацыі. Гэткім чынам, фармаванне нацыі падавалася як працэс мадэрнізацыі, які пасля 1917 г., а перадусім, аднак, з утварэннем „беларускай дзяржаўнасці ў складзе Савецкага Саюзу“, у роўнай меры быў даведзены да канца і перайшоў у новую якасць[24]. Раннесавецкая нацыянальная палітыка, „культурная рэвалюцыя“ і наступная сталінская мадэрнізацыя зверху павінны былі выяўляць сябе ў гэтай перспектыве як варункі ўзнікнення „сацыялістычнай нацыі“. Павышэнне ўзроўню адукацыі, навукі і культуры, падтрымка нацыянальнай мовы, а таксама эканамічны рост, паводле гэтага, вялі да ўтварэння „сацыялістычнай нацыі“. У сваю чаргу, стварэнне і кансалідацыя бела-

[23] Фарміраванне і развіццё беларускай сацыялістычнай нацыі / Інстытут філасофіі АН БССР (выд.); рэд. калегія: Глебка П.Ф., Буслаў К.П., Доктараў З.У., Ніканораў І.М., Шабуня К.І. Мінск, 1958. С.4.

[24] Карнейчык Я. Беларуская нацыя... (op. cit.). С.39 і наст., 77 і наст. Спасылка на сталінскае вызначэнне нацыі — с.152. Паняцце пра „нацыянальны рынак“ — с.43. Дэталёва тэза „дзяржаўнасці“ разбіралася ўжо ў: Маргуиский С.П. Создание и упрочение белорусской государственности, 1917—1922. Мінск, 1958.

рускае нацыі ўяўляліся як беспасярэдняе наступства сталінскай мадэрнізацыі, хоць імя Сталіна ў гэтым кантэксце не называлася і спасылак на яго не рабілася. Высновы, хутчэй, ствараюць уражанне, быццам шырокавядомыя сталінскія словы былі закадаваныя і могуць быць лёгка расшыфраваныя кожным. Факт застаўся фактам, што гэтыя спосабы інтэрпрэтацыі мусілі быць актуальнымі ва ўсіх сінтэтычных працах ды манаграфічных даследаваннях беларускай гістарыяграфіі, што былі створаныя да сярэдзіны 80–х г., а нярэдка і пазней[25].

Тым самым увязванне працэсу фармавання нацыі з грамадскімі стратэгіямі мадэрнізацыі можа ўсё–такі разглядацца ў якасці найменшага агульнага назоўніка савецкай дыскусіі пра „сацыялістычную нацыю" і традыцыйнай заходняй дыскусіі ў пытаннях нацыяналізму. Адпаведны пазнавальны інтарэс, аднак, быў прынцыпова адрозны. У той час як на Захадзе менавіта гісторыкі дэталёва займаліся паняццем нацыі й прапаноўвалі яго палітыцы ў якасці тавару — часцяком як разумовую канструкцыю, — падсавецкая гістарыяграфія ўзяла паняцце нацыі на запатрабаванне палітычнай прапаганды. Асабіста Сталін у часе павароту да патрыятычнага ў 1934—1936 г. і, яшчэ ў большай ступені, у выніку Вялікай Айчыннай вайны пачаў рэабілітацыю нацыянальнага. Партыйныя ідэолагі і гісторыкі за нацыянальным пафасам адкрылі мабілізацыйны патэнцыял, што было не пад сілу зрабіць абстрактнай тэорыі марксізму. Прыглушаная, вызваленая ад усіх нацыяналістычных ідэалізацыяў дэфініцыя нацыі мела вылучна палітычнае значэнне. Гістарычная навука чарговы раз дзейнічала ў імя інтарэсаў палітычнае стабілізацыі. Гэткая стратэгія ў беларускай альбо агульнасавецкай гістарыяграфіі магла быць заўважаная і ў дачыненні да іншай тэматыкі. Надалей у агульных рысах будзе паказанае развіццё саміх гістарычных навук, а таксама характэрных увасабленняў прынятай гістарычнай канцэпцыі.

## *1.2. Гістарычная навука ў БССР да 1985 г.*

Само сабой зразумелым было тое, што грамадскія навукі і пасля смерці Сталіна знаходзіліся пад пільным кантролем партыйных органаў. Партыйныя з'езды КПСС і КПБ для інстытутаў марксізму–ленінізму, філасофіі й гісторыі былі момантамі прасвятлення й адначасна месцамі прывядзення ў выкананне прысудаў. Пры гэтым нельга было не заўважыць, што побач са сфармуляванымі маскоўскім ЦК і абавязковымі для ўсіх дырэктывамі ў галіне навуковай і кадравай палітыкі ў рэспубліках расстаўляліся і свае ўласныя акцэнты. Для беларускай гістарыяграфіі з канца 50–х г. гэта значыла інтэнсіўнае вывучэнне Вялікай Айчыннай вайны і партызанскага руху. У асобе К.Т.Мазурава з 1956 да 1965 г. ЦК КПБ узначальваў былы партызан, які сімвалізаваў спецыфічны калектыўны до-

[25] Тамсама, с.231 і наст. Пры апісанні падзеяў 1939 г., ваеннага і пасляваеннага часу праца ідзе за стэрэатыпамі паваеннай гістарыяграфіі, апісаныя ў папярэднім раздзеле. Аналагічныя спробы вытлумачэння працэсу развіцця „беларускай нацыі", а таксама „сацыялістычнай беларускай нацыі" ўтрымоўваюцца яшчэ ў працы 1985 г.: Baranowa, M.P., Pawlowa, N.G. Kurze Geschichte der Belorussischen Sozialistischen Sowjetrepublik (Friedrich–Schiller–Universität Jena). Jena, 1985.

вед цэлага пакалення беларускіх палітыкаў таго часу. Яго справаздачны даклад XXIV з'езду КПБ у 1960 г., побач з крытычнымі заўвагамі на адрас грамадскіх навук з прычыны іх „занадта малога ўкладу ў пабудову камунізму", утрымліваў дакладна спланаванае вызначэнне задач для будучай беларускай партызанскай гістарыяграфіі. У працяг наяўных ужо вынікаў даследаванняў і апублікаваных матэрыялаў — прыкладам, пра змаганне мінскага падполля — вывучэнне ваеннай і партызанскай гісторыі мусіла канчаткова заняць галоўнае месца ў гістарычнай навуцы БССР. Умяшацца ў навуковую палітыку ў большай ступені беспасярэдне партыя проста не магла[26].

Праз яшчэ 15 гадоў пасля таго наступнік Мазурава на пасадзе першага сакратара ЦК П.М.Машэраў, які таксама належаў да партызанскай генерацыі БССРаўскай эліты, выказаў нараканне з тае нагоды, што запланаваная „ИИП ЦК КПБ" трохтамовая праца на тэму „Паходжанне і характар беларускага партызанскага руху пад час Вялікай Айчыннай вайны" пасля „бескарысных слоўных баталіяў" усё яшчэ не напісаная. І яго галоўная зацікаўленасць у развіцці грамадскіх навук была звязаная з гісторыяй вайны і партызанскага руху. Што праўда, Машэраў мог распавесці пра гэткія важныя новыя публікацыі ды распачатыя праекты, як 12-тамовая „Беларуская Савецкая энцыклапедыя" альбо пяцітамовая „Гісторыя Беларускай ССР". Незадаволенасць працай па праблеме даследавання гісторыі партызанскага руху, аднак, перасягала ўсё астатняе:

> „Шмат хто з нашых навукоўцаў, замест таго каб смела даваць адказы на сапраўды важныя ды актуальныя пытанні, аддаюць перавагу «шляху найменшага супраціву». Яны аруць даўно апрацаванае поле, захапляюцца павярхоўным «комментаторством» і спісваюць у іншых ці ў саміх сябе гэткія самыя правільныя, як і даўно вядомыя ісціны"[27].

Перамяшчэнне цэнтра ўвагі на партыйнае гісторыяпісанне можа разглядацца як лагічны вынік гэтай трывалай набліжанасці гістарычнай навукі да палітыкі. З 1960 г. гістарыяграфія канчаткова робіцца „партийной наукой". 40-гадовы юбілей КПБ і той факт, што да таго часу не было створана „сістэматычнага выкладу" яе гісторыі, былі для ЦК КПБ дастатковымі падставамі, каб склікаць агульны сход гісторыкаў БССР. Праз гэта здымаліся ўсялякія сумневы наконт таго, што партыйная гістарыяграфія — разам з гісторыяпісаннем пра апошнюю вайну — у прышласці мелася зрабіцца другім прыярытэтам даследаванняў[28]. У 60-я г. нават у ІГ АН БССР 60% штатных супрацоўнікаў працавала ў аддзеле гісторыі Вялікай Айчыннай вайны і партызанскага руху.

[26] Пра палітычную эфектыўнасць дзейнасці партызанскай генерацыі ў 1960—1980 г. параўн.: Urban, Michael N. An Algebra of Soviet Power... (op. cit.); пра Мазурава гл.: Тамсама, с.116 і наст., 131 і наст.; Мазураў К.Т. Справаздачны даклад Цэнтральнага камітэта Кампартыі Беларусі XXIV з'езду, 17 лютага 1960 г. Мінск, 1960. С.59—61.

[27] С.70 і наст.

[28] З галоўнымі дакладамі выступілі: дырэктар ІГ АН БССР І.С.Краўчанка („Пра задачы гісторыкаў Беларусі") і дырэктар „ИИП ЦК КПБ" І.М.Мяшкоў („Да пытання навуковай распрацоўкі гісторыі КПБ"). Перадгісторыя форуму пачыналася з пастановаў XXI з'езда КПСС і пастановы ЦК КПСС за 9 студзеня 1960 г. „Пра задачы партыйнай прапаганды ў сучасных варунках".

На пачатку дзейнасці „ИИП ЦК КПБ“ быў у сваёй сутнасці інстытуцыяй у справе змястоўнай і тэхнічнай арганізацыі маючых адбыцца партыйных юбілеяў, а таксама бюро перакладаў, якое займалася падрыхтоўкай выданняў класікаў на беларускай мове[29]. У 60–я г., насамрэч, спраўдзілася тое, што было вырашана на гістарычным форуме 1960 г.: тэхнічна і кадрава забяспечаны, існуючы ў якасці філіі маскоўскага „Інстытута Маркса—Энгельса—Леніна“ беларускі Інстытут выдаў двухтамовую „Гісторыю КПБ“, а таксама шматлікія зборы дакументаў ды манаграфіі. Пераакцэнтаванне дзейнасці беларускай гістарычнай навукі завяршылася цягам дзесяцігоддзя, паміж 1960 і 1970 г. Сапраўды, партыйнае гісторыяпісанне, маючы агульнасаюзную тэматычную ды інстытуцыянальную адзінаўзорнасць ды дапасавальнасць, аўтанамізавалася настолькі, што на пачатку 80–х г. займела нават сваю ўласную „метадалогію“[30].

Пры ўсім тым гісторыя БССР як асобны аб'ект даследавання таксама не выйшла з моды. І можна было прадбачыць, што пад знакам барацьбы супраць культу асобы большыня працаў беларускай гістарыяграфіі, выдадзеных да 1960 г., і „асабліва тых, што выйшлі да 1953 г.“, *in toto* мусіць быць адкінутая праз іх тэндэнцыёзнасць. Калі на іх выразна і не праглядалася пячатка культу асобы, аўтару рабіліся папрокі, прынамсі, у недастатковым асвятленні „ролі народных масаў“ альбо ў тым, што „недастаткова глыбока прадумана адлюстроўвалася кіраўнічая роля партыі ў сацыялістычным будаўніцтве“. Да таго ж, па–ранейшаму лічыліся цалкам незадавальняльна распрацаванымі гэткія тэматычныя блокі, як, да прыкладу, „заканамернасці развіцця сацыялістычнага грамадства“ альбо „пытанні паступовага пераходу да камунізму“. З гэтых настойлівых пажаданняў на названым форуме гісторыкаў БССР быў сфармуляваны „доўг“, які гісторыкі Беларусі „меліся сплачваць народу“[31]. З квазінацыянальным акцэнтаваннем у гэткі спосаб меўся адбыцца мабілізацыйны штуршок, які б спрыяў належнаму ідэалагічнаму забеспячэнню гістарычнае навукі: гэтая стратэгія мусіла дасягнуць сваёй мэты. Больш нікчэмным разрыў са сталіншчынай выглядаць проста не мог.

У 60–х г. агульны аб'ём навуковых даследаванняў у БССР інтэнсіўна павялічваўся[32]. Толькі ў прамежку паміж 1961/62 і 1967/68 навучальнымі гадамі кан-

[29] Да 40–гадовага юбілею „ИИП ЦК КПБ“, які меўся быць адзначаны ў 1969 г., параўн. урачысты выступ тагачаснага дырэктара: Игнатенко И. Важная дата. 40–летие Института истории партии при ЦК КПБ // КБ. 1969. № 6. С.27—32. У 1917—1965 г. у БССР было апублікавана 98 кніг твораў Маркса і Энгельса агульным накладам 811 000 асобнікаў, з якіх 88 кніг (374 000 экз.) былі надрукаваныя на беларускай мове. Творы Леніна выдаваліся ў 374 кнігах агульным тыражом 4 239 000 паасобнікаў, у т. л. па–беларуску 353 кнігі (4 110 000 экз.). Параўн.: Тамсама, с.29.

[30] Азбука партыйнай гістарыяграфіі была створаная на аснове дыскусіі па метадалагічных пытаннях, што вялася ў 1976—1978 г. на старонках часопіса „Вопросы истории“, гл.: Маслов Н.Н. Марксистско–ленинские методы историко–партийного исследования. Москва, 1983. Параўн. рэцэнзію Л.Раманавай у: ВИ. 1984. № 10. С.123—126.

[31] За глубокую разработку вопросов истории БССР и Компартии Белоруссии // КБ. 1960. № 6. С.72—77, у гэтым выпадку с.73.

[32] Колькасць навукоўцаў у БССР за перыяд часу з 1960 да 1988 г. вырасла істотна: з 6 840 да 44 072. Самая высокая дынаміка прыросту назіралася ў 1962 г. (36%). Агляд пытання гл. у: Корзенко Г.В. Научная интеллигенция Белоруссии в 1944—1990 г. (подготовка, рост, структура). Мінск, 1995. С.67. Пра далейшае інстытуцыянальнае

тынгент студэнтаў 24, а пазней 28 ВНУ вырас з 59 296 да 124 763. У тым самым часе корпус навукоўцаў пабольшаў з 6 840 (1960 г.) да 17 073 (1967), сярод якіх 317 былі дактарамі, а 4 054 кандыдатамі навук[33]. У параўнанні з іншымі саюзнымі рэспублікамі толькі ў Эстонскай ССР у 1960—1970 г. колькасць навукоўцаў расла хутчэй. На 208% — з 476 (1960 г.) да 989 (1970 г.) у гэтым прамежку часу павялічылася колькасць навукоўцаў-гісторыкаў БССР, хоць адначасова доля гісторыкаў у агульнай колькасці вучоных зменшылася на 2,44% і склала цяпер 4,52%. Калі ў 1960 г. было толькі 6 дактароў і 165 кандыдатаў гістарычных навук, дык праз 10 гадоў беларуская гістарычная навука мела ў сваім распараджэнні ўжо 32 дактары і 268 кандыдатаў навук. У дзесяцігоддзе паміж 1970 і 1980 г., а таксама ў апошняе дзесяцігоддзе існавання Савецкага Саюзу тэмпы прыросту колькасці навукоўцаў, у т.л. і гісторыкаў, не здолелі перавысіць паказчыкі 60-х г. Наадварот, яны няўхільна зніжаліся.

| Гісторыкі, акад. ступ. | 1936 | 1960 | 1970 | 1980 | 1988 |
|---|---|---|---|---|---|
| Разам усіх гісторыкаў | 36 | 476 | 989 | 1 082 | 1 059 |
| Дактароў навук | ? | 6 | 32 | 50 | 62 |
| Кандыдатаў навук | ? | 165 | 268 | 457 | 602 |

**Табл. 26: Колькасць гісторыкаў у БССР (1936/1960—1988 г.)[34]**

Колькасць аспірантаў у 1961—1970 г. таксама вырасла больш як удвая (41 і 90, адпаведна). Усяго разам 165 маладых гісторыкаў працягвалі сваю навуковую падрыхтоўку пасля заканчэння ВНУ, хоць толькі 107 з іх меліся абараніць дысертацыі. Агульная колькасць абароненых доктарскіх і кандыдацкіх дысертацыяў у 1961—1970 г. склала 209, у той час як у 1945—1960 г. іх было 168.

| Колькасць/тэмы дысертацыяў | 1961—1970 | 1971—1980 | 1981—1985 |
|---|---|---|---|
| Агулам | 209 | 346 | 170 |
| Гісторыя партыі | 95 | 162 | няма зв. |
| Гісторыя БССР / СССР | 68 | 104 | няма зв. |
| Усеагульная гісторыя | 13 | 34 | няма зв. |
| Археалогія, этнаграфія ды інш. | 33 | 46 | няма зв. |

**Табл. 27: Колькасць і тэматычнае размеркаванне дысертацыяў у БССР (1961—1985 г.)[35]**

і метадалагічнае развіццё падсавецкай гістарычнай навукі параўн.: Hösler, Joachim. Die sowjetische Geschichtswissenschaft... (op. cit.). С.15 і наст., 71 і наст., 163 і наст.

[33] Параўн.: Белорусская ССР за пятьдесят лет. Статистический сборник. Мінск, 1968. С.223—226.

[34] Корзенко Г.В. Научная интеллигенция Белоруссии... (op. cit.). С.69—71.

[35] Звесткі падаюцца паводле: Тамсама, с.76; Саўчук І.І. Арганізацыя гістарычнай навукі ў БССР (70-я гады) // Весці АН БССР. 1988. №3. С.69; Михнюк В.М., Петриков П.Т. Историческая наука БССР в 80-х г. Мінск, 1987. Міхнюк у адным месцы падае звесткі, датычныя 1983—1988 г., паводле якіх у гэтым прамежку часу выйшла 159 кандыдацкіх дысертацыяў. Сярод іх 13 было прысвечана гісторыі феадалізму, 4 — гісторыі капіталізму, 7 — гісторыі Кастрычніцкай рэвалюцыі і грамадзянскай вайны, 13 — гісторыі падсавецкага грамадства да 1939 г., 5 — гісторыі Вялікай Айчыннай вай-

Змяншэнне прыросту кадраў ужо рабіла заўважным той факт, што да 1980 і пазней, да сярэдзіны 80–х г., запаволіўся таксама прырост колькасці абароненых дысертацыйных працаў, якая дасягнула ў 1980 г. агульнай лічбы 346, з якіх 39 былі доктарскімі, а 307 кандыдацкімі. Не ў апошнюю чаргу з прычыны змены пакаленняў і аддаленых наступстваў вайны і сталінізму пазначыўся дэфіцыт кваліфікаваных гісторыкаў. Большыня навапрызнаных дактароў адразу ж атрымала кіраўнічыя пасады[36].

Інстытут гісторыі Акадэміі навук БССР, нягледзячы на надбудову ў выглядзе „ИИП ЦК КПБ", заставаўся інстытуцыянальным цэнтрам беларускай гістарычнай навукі. На пачатку 60–х г. у ім працавалі сектары: гісторыі Беларусі савецкага перыяду, гісторыі Вялікай Айчыннай вайны і партызанскага руху ў Беларусі, гісторыі Беларусі эпохі капіталізму, гісторыі Беларусі эпохі феадалізму, археалогіі Беларусі. Тут працавалі 62 навуковыя супрацоўнікі, сярод якіх былі 3 дактары і 29 кандыдатаў гістарычных навук. У 1962 г. сектар гісторыі Беларусі савецкага перыяду быў падзелены на сектар гісторыі сацыялістычнага і камуністычнага будаўніцтва пасляваеннага перыяду і сектар гісторыі Кастрычніцкай рэвалюцыі й сацыялістычнага будаўніцтва ў Беларусі. Урэшце, у 1963 г. структура інстытута была змененая трэці раз, калі АН БССР зрабіла спробу рэалізаваць маскоўскую дырэктыву за 11 сакавіка 1963 г. „Пра меры паляпшэння працы АН СССР і Акадэміяў навук саюзных рэспублік", зарыентаваную на засяроджванне ўвагі на прыярытэтных напрамках і эканомію сродкаў.

Толькі на два гады колькасць сектараў была скарочаная з шасці да чатырох: сектары рэвалюцыі ды вайны і партызанскага руху былі ператвораныя ў адзін сектар — гісторыі Савецкай Беларусі 1917—1945 г., а сектары гісторыі Беларусі эпох капіталізму і феадалізму зліліся ў сектар гісторыі Беларусі (дасавецкае грамадства). У 1965 г. сектары зноў былі падзеленыя. Калі папярэднія спробы перабудовы былі выразам інстытуцыянальнага імправізавання, новая рэарганізацыя Інстытута канчаткова выявіла існуючыя няпэўнасці. Адрасаваныя зверху дырэктывы, канкрэтныя інстытуцыянальныя і кадравыя захады, а таксама пастаянны ўціск з боку партыі з патрабаваннем займацца партызанскай гісторыяй зрабілі практычна немагчымай паслядоўную, прадуманую працу Інстытута.

ны, 7 — гісторыі развіцця падсавецкага грамадства з 1945 да 1960 г. і 72 працы — апошняму дваццацігадоваму перыяду. Параўн.: Михнюк В. По дороге и на обочине // КБ. 1988. № 5. С.66—71, у гэтым выпадку с.71.

[36] Усе звесткі падаюцца паводле: Саўчук І.І. Арганізацыя гістарычнай навукі ў БССР... (op. cit.). С.69; Леанавец В.Ц. Удасканальванне арганізацыі гістарычнай навукі ў БССР (60–я гады) // Весці АН БССР. 1986. № 1. С.73—79, у гэтым выпадку с.75. Ва Украіне ў 1970 г. было 3 347 гісторыкаў (у т.л. 138 дактароў навук, 1 199 кандыдатаў навук), параўн.: Subtelny, Orest. Die gegenwärtige Situation der ukrainischen Historiographie: Ein Überblick // Hausmann G., Kappeler A. (рэд.). Ukraine: Gegenwart und Geschichte eines neuen Staates. Baden–Baden, 1993. С.350—369, у гэтым выпадку с.365. І тут у першым дзесяцігоддзі пасля 1956 г. назіраўся скачкападобны рост колькасці кваліфікаваных гісторыкаў —у дзесяць разоў, а ў наступнай пяцігодцы, да 1970 г., яшчэ падваенне ранейшай лічбы. Параўн.: Lüdemann, Ernst. Zur „Lösung der nationalen Frage" in der sowjetukrainischen Geschichtsschreibung nach 1956 // FOG 40 (1988). С.229—395, у гэтым выпадку с.313.

Да пачатку 70-х г., у той жа час, дадаліся яшчэ два сектары — гістарыяграфіі замежжа (1968 г.) і гісторыі еўрапейскіх сацыялістычных краін (1969 г.). На патрабаванне партыі й тагачаснага першага сакратара ЦК Пятра Машэрава ў 1970 г. да Інстытута была дадаткова далучаная „Рабочая група па збіранні і публікаванні гістарычных дакументаў, матэрыялаў і ўспамінаў", першачарговая задача якой палягала ў ажыццяўленні загадзя прыдуманага праекту „oral history" („вуснай гісторыі". — *Заўвага перакладчыка*) па апрацоўцы ўспамінаў яшчэ жывых партызан[37]. Апошняя пад час падсавецкай эпохі вялікая рэарганізацыя Інстытута, што адбылася напрыканцы 70-х г., ізноў выявіла сябе ў аднаўленні колішніх структур: сектар гісторыі дасавецкай Беларусі зноў падзяліўся на сектары феадалізму і капіталізму, з сектару рэвалюцыйнай гісторыі ўтварыліся сектары гісторыі Кастрычніцкай рэвалюцыі й грамадзянскай вайны і гісторыі сацыялістычнага будаўніцтва. Урэшце, з утворанай у 1973 г. групы па вывучэнні гісторыі АН БССР узнікла рабочая група па гісторыі навукі ў БССР. Тым самым у 1980 г. у Інстытуце працавала 11 сектараў[38].

Для 70-х г. быў характэрны адносна стрыманы (gebremst) кадравы прырост акадэмічнага Інстытута. Калі яшчэ ў 1970 г. тут былі занятыя 82 навуковыя супрацоўнікі, дык у 1978 г. агульная колькасць навукоўцаў ІГ АН БССР склала 150 чалавек, сярод якіх былі: адзін правадзейны член АН БССР, тры члены-карэспандэнты, 12 дактароў і 45 кандыдатаў гістарычных навук. Калі браць шырэй, да іх можна далучыць 130 супрацоўнікаў Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі й фальклору, у т.л. двух членаў-карэспандэнтаў Акадэміі навук, сем дактароў і 41 кандыдата навук. Хоць, як мы бачым, колькасць супрацоўнікаў цягам няпоўных дваццаці гадоў пабольшала з 62 (1961 г.) да 150 (1978 г.) і, тым самым, больш як падвоілася, можна сцвярджаць, што фаза дынамічнага росту навуковага патэнцыялу да пачатку 70-х г. закончылася. Падобнае можна казаць і ў дачыненні да кафедраў універсітэтаў і педагагічных інстытутаў, на якіх на пачатку 70-х г. працавала 77 выкладчыкаў. Дзевяць сярод іх мелі ступень доктара, а 38 — кандыдата навук[39].

[37] Леанавец В.Ц. Удасканальванне арганізацыі гістарычнай нвукі ў БССР... (op. cit.). С.77 і наст.; *Яго ж.* Организация и развитие исторической науки в БССР (1961—1970 г.). Дыс. канд. гіст. навук. Мінск, 1987 (неапубл. рукапіс). С.17; Костюк М.П. (рэд.) Институт истории Академии навук Беларуси: Краткий очерк. Мінск, 1992. С.26—37.

[38] Як ужо зазначалася, дырэктары і кіраўнікі кафедраў ІГ АН БССР 70-х г. належалі да таго пакалення гісторыкаў, якому было наканавана ўсю сваю навуковую кар'еру рабіць у савецкіх варунках. Яны былі вучнямі Пічэты ды іншых прафесараў 20-х—40-х г. Іх вучні і да сёння працуюць у навуковых установах. Менавіта яны забяспечвалі і ўвасаблялі стабільнасць савецкага бачання гісторыі ў БССР. Найбольш значнымі асобамі сярод іх былі: Н.В.Каменская (дырэктар Інстытута ў 1965—1969 г.) і І.М.Ігнаценка (кіраваў Інстытутам у 1969—1975 г.); у якасці кіраўнікоў кафедраў працавалі К.І.Шабуня, А.А.Філімонаў, І.Я.Марчанка, В.П.Раманоўскі ды іншыя; у іншых установах працавалі, сярод іншых: Л.С.Абэцэдарскі (БДУ, кафедра гісторыі СССР), А.П.П'янкоў (прафесар Мінскага педінстытута).

[39] Платонов В.П. (рэд.). Академия наук Белорусской ССР. Краткий очерк. Мінск, 1989. С.168. На 1980 г. Саўчук, аднак, падае лічбу супрацоўнікаў 120, у т.л. 13 дактароў і 46 кандыдатаў навук — гл.: Саўчук І.І. Арганізацыя гістарычнай навукі ў БССР... (op. cit.). С.70.

За лічбамі колькасці супрацоўнікаў і абароненых дысертацыяў, што ўсё-такі няўхільна раслі, не ў апошнюю чаргу стаяў пастаянна высокі студэнцкі конкурс на факультэтах грамадазнаўчых спецыяльнасцяў. Вывучэнне гісторыі, філасофіі альбо, яшчэ лепш, марксізму-ленінізму абяцала значныя шанцы для таго, каб зрабіць кар'еру на партыйных пасадах ці ў адукацыйных установах. Колькасна самым вялікім быў гістарычны факультэт мінскага Белдзяржуніверсітэта. Напрыканцы 60-х г. (1969 г.) тут навучалася 1 870 студэнтаў на дзённым (565), вечаровым (485) альбо завочным (820) аддзяленнях, якія рыхтаваліся — у розных камбінацыях — да прафесіяў гісторыка, настаўніка гісторыі, архіварыуса, прапагандыста альбо і філосафа (з 1966 г. існавала філасофскае аддзяленне). На факультэце працавалі, з нязначнымі зменамі ў складзе, наступныя кафедры: гісторыі СССР, гісторыі БССР, новай і найноўшай гісторыі, а таксама гісторыі старажытнага свету і сярэдніх вякоў. Навукова-даследчай працай і выкладаннем займаліся 7 прафесараў (дактароў навук), 16 дацэнтаў (кандыдатаў навук), 5 старшых выкладчыкаў і 6 асістэнтаў. І тут можна гаварыць пра дынаміку зменаў у перыядзе часу да сярэдзіны 80-х г., параўнальную з тым, што адбывалася ў акадэмічным Інстытуце гісторыі[40].

Паколькі мінскія факультэцкія гісторыкі больш шчыльна былі звязаныя менавіта з выкладаннем гісторыі, іх абавязкам з сярэдзіны 60-х г. стала таксама падрыхтоўка падручнікаў па гісторыі. Л.С.Абэцэдарскі, М.П.Баранава і Н.Г.Паўлава тады ж напісалі наогул першы падручнік беларускай гісторыі — базавы курс для сярэдняй школы. Тыя самыя супрацоўніцы факультэта, Баранава і Паўлава, напісалі таксама падручнік для 7—8 класаў васьмігадовай школы. На аснове перапрацаванага варыянта названай кнігі паўстала таксама кніга „Kurze Geschichte der BSSR" („Кароткая гісторыя БССР"), што выйшла ў 1985 г. у нямецкім перакладзе — як вынік партнёрскага супрацоўніцтва універсітэтаў БССР і ГДР і да гэтага часу — у якасці ўзору падсавецкай рэспубліканскай гістарыяграфіі — заставалася [да часу выхаду ў 2001 г. кнігі „Handbuch der Geschichte Weißrusslands" пад рэдакцыяй Д.Байраў і Р.Ліндһэра. — *Заўвага перакладчыка*] адзінай сінтэтычнай працай па беларускай гісторыі на нямецкай мове[41].

[40] Савачкін П.З. Развіццё навукі на гістарычным факультэце Беларускага Дзяржаўнага універсітэта // Веснік БДУ. 1969. № 1. С.25—30. Разам са студэнтамі, якія вывучалі адпаведную паралельную альбо другую спецыяльнасць, да ўсёй карціны трэба далучыць агульнаўніверсітэцкія кафедры: гісторыі КПСС, палітычнай эканоміі, гісторыі філасофіі й логікі, дыялектычнага і гістарычнага матэрыялізму, асноваў навуковага камунізму, педагогікі і псіхалогіі, замежных моваў, фізічнай культуры і спорту.

[41] Абэцэдарскі Л.С., Баранава М.П., Паўлава Н.Г. Гісторыя БССР / Вучэбны дапаможнік для вучняў сярэдняй школы. Мінск, 1968 (7-е выд.; першае выд. выйшла яшчэ ў 1960 г.). Паводле апублікаваных цяпер дакументаў, знішчальную ацэнку гэтай кнізе яшчэ ў траўні 1966 г. даў М.М.Улашчык: „У цэлым можна сказаць, што падручнік быў напісаны з глыбокім перакананнем, што гістарычную праўду захоўваць зусім не абавязкова, што некаторыя факты лепш за ўсё замоўчваць, а іншыя паказваць перакручана альбо, у пэўных выпадках, нават іх вынаходзіць". Гл.: Улащик Н.Н. О фактах истории „плохих" и „хороших". Замечания на учебное пособие // Народная газета, 23.02.1996 г. С.4. Пра чацвёртае выданне расійскага варыянта падручніка (першае выйшла ў 1961 г.) параўн., акрамя таго, падрабязную рэцэнзію ў: JBS 1 (1967) 3. С.123—126; Baranowa M.P., Pawlowa N.G. Kurze Geschichte der Belorussischen Sozialistischen Sowjetrepublik. Jena, 1985. Пра атып істотна адрэдагаванага нямец-

Імклівым — і адначасна няроўным — тэмпам інстытуцыянальнага развіцця гісторыяпісання ў БССР у цэлым адпавядае дынаміка з'яўлення і разнастайнасць публікацыяў. У прамежку паміж 1961 і 1985 г. беларуская гістарыяграфія мела свой найпрадуктыўнейшы этап — калі не браць пад увагу перыяд з 1924 да 1929 г. Без уліку падручнікаў для школы з'явілася шэсць сінтэтычных працаў па беларускай гісторыі, агулам 11 тамоў, сярод якіх вылучалася да сёння самая вялікая аб'ёмам і напісаная больш як сотняй аўтараў „Гісторыя Беларускай ССР" (1972—1975 г.)[42]. Запланаваная ў пачатку 60-х г. са спасылкаю на вялікія маскоўскія праекты „Истории СССР" і „Всемирной истории" 12-тамовая „Гісторыя Беларускай ССР", між тым, пярэчыла навукова-палітычным інтарэсам цэнтра. У той самы час падтрымліваліся вялікія ў памерах энцыклапедычныя выданні з падрабязнымі артыкуламі гістарычнай тэматыкі. Мела свой працяг таксама маштабная палітыка выдання дакументаў дасавецкай і падсавецкай эпох, а таксама хрэстаматыяў з аналагічнай будовай[43]. З сярэдзіны 50-х да сярэдзіны 80-х г.

кага выдання выйшаў яшчэ пад рэдакцыяй Н.В.Каменскай: Баранова М.П., Павлова Н.Г. История БССР / Учебное пособие для учащихся 7—8 классов восьмилетней школы. Под ред. Н.В.Каменской. Перевод с белорусского. Мінск, 1965 (4-е перапрацаванае і пашыранае выд.).

[42] История Белорусской ССР. В двух томах. 2-е дополн. изд. / Под общей ред. Л.С.Абецедарского, Т.С.Горбунова, Н.В.Каменской, И.С.Кравченко, К.И.Шабуни. (Изд. ИИАН БССР). Мінск, 1961; Карнейчык Я. Беларуская нацыя... (op. cit.); Гісторыя Беларускай ССР. У пяці тамах / Гал. рэд. кал.: Ігнаценка І.М. (старшыня), Абэцэдарскі Л.С., Буслаў К.П., Каменская Н.В., Караткевіч А.Ц., Краўчанка І.С., Марцінкевіч Ф.С., Мацко А.М., Марчанка І.Я., Філімонаў А.А., Шабуня К.І. (Выд. ІГ АН БССР). Мінск, 1972—75. Пералік тамоў: Гісторыя Беларускай ССР. Т.1: Першабытнаабшчынны лад на тэрыторыі Беларусі. Эпоха феадалізму. Мінск, 1972; Т.2: Беларусь у перыяд капіталізму (1861—1917 г.). Мінск, 1972; Т.3: Перамога Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі і пабудова сацыялізму ў БССР (1917—1937 г.). Мінск, 1973; Т.4: Беларусь напярэдадні і ў гады Вялікай Айчыннай вайны Савецкага Саюзу (1938—1945 г.). Мінск, 1975; Т.5: Беларуская ССР у перыяд стварэння развітога сацыялістычнага грамадства і будаўніцтва камунізму (1945—1974 г.). Мінск, 1975. Параўн. рэцэнзію на першы том А.Надсана ў: JBS 6 (1988) 1. С.90—93; История Белорусской ССР / Ред. колл.: Игнатенко И.М., Каменская Н.В., Кравченко И.С., Марченко И.Е., Петриков П.Т., Шабуня К.И. (Изд. ИИАН БССР). Мінск, 1977; История БССР. Ч.1: С древнейших времен до Великой Октябрьской социалистической революции / Под ред. Чепко В.В. и Игнатенко А.П. Мінск, 1981; Baranowa M.P., Pawlowa N.G. Kurze Geschichte... (op. cit.).

[43] 12-тамовая беларускамоўная энцыклапедыя: Беларуская Савецкая энцыклапедыя. Т.1—12 / Рэд. Броўка П.У. і інш. Мінск, 1969—75. Тут змешчаны таксама гістарычны нарыс. Параўн. рэцэнзію на першы том Ч.Сіповіча ў: JBS 2 (1970) 2. С.224 і наст. Пяцітамовая расійскамоўная энцыклапедыя: Белорусская ССР. Краткая энциклопедия. Т.1—5. Мінск, 1978—82. У першым томе змешчаны нарыс гісторыі: Гетов В.В., Повалихина В.С. История // Тамсама. Т.1. С.14—33. Публікацыі дакументаў да сярэдзіны 70-х г.: Копысский З.Ю. Сборники документов по истории Белоруссии, изданные в БССР (1921—1971 г.) // Археографический ежегодник за 1974 год. Москва, 1975. С.13—23; хрэстаматыі: як багаты на крыніцы дадатак да двухтамовай „Истории БССР" 1961 г. — Хрестоматия по истории БССР. Ч.2 / Сост. И.Е.Марченко. Мінск, 1962; Хрестоматия по истории БССР, 1917—1971. Мінск, 1972; Хрестоматия по истории БССР / Сост. Е.Зуев, З.Копысский. Мінск, 1976; Хрестоматия по истории Белоруссии. С древнейших времен до 1917 г. / Сост. Игнатенко А.П., Сидорцов В.Н. Мінск, 1977.

значна павялічыўся таксама агульны аб'ём гістарычнай публіцыстыкі. Акрамя таго перадусім у навуковых грамадазнаўчых серыях, гэткіх як „Весці АН БССР“ і „Веснік БДУ“, маглі публікавацца даследчыя працы навуковага падросту. Гэткую магчымасць даваў таксама гадавік „Пытанні гісторыі БССР“, выдаваны гістарычным факультэтам БДУ ў 70-я і на пачатку 80-х г.[44]. Мы не згадваем тут шматлікіх паасобных працаў, у т.л. манаграфіяў, што былі створаныя ды апублікаваныя за гэтыя тры дзесяцігоддзі[45].

Істотная прычына „прадукцыйнасці“ беларускай гістарычнай навукі ў 60-70-я г. палягала ў „стабільнасці“ гістарычнай канцэпцыі. Калі перыяд з 1920 да 1950 г. яшчэ вызначаўся больш ці менш адрознымі поглядамі і палітычнымі акопнымі бітвамі ў гістарычнай навуцы, дык цяпер запанавала ўпарадкаванае і адначасова ўсвядомленае адзінадушша навуковых кадраў. Падвядзенне рахункаў са сталінізмам хутка засяродзілася на адмаўленні культу асобы канкрэтна Сталіна. Вострай месцамі рыторыцы XX і XXII з'ездаў партыі не быў дадзены доступ да прызначаных для масавага спажывання працаў па савецкай гісторыі. У падчышчанай гісторыі ўсё яшчэ не знаходзілася месца для „чыстак“. Там, дзе гэта атрымоўвалася, даты смерці вартых узгадвання ахвяр тэрору пераносіліся на менш падазроны 1939 г. Гісторыя заставалася вольнай ад згадак пра непажаданых асобаў нацыянальна-дэмакратычнага руху — гэткіх, як Аляксандр Цвікевіч альбо Вацлаў Ластоўскі[46].

Гэтая „новая рэчаіснасць“ падсавецкае гістарыяграфіі ўключала ў сябе таксама імкненне дапасавацца да агульнай версіі нацыянальных гісторыяў усіх 15 саюзных рэспублік, аўтаномных рэспублік ды іншых этнічных адміністрацыйных адзінак. На тле вучэння гістарычнага матэрыялізму пра грамадска-эканамічныя фармацыі і „заканамернасці гістарычнага працэсу“ індывідуальныя гісторыі падсавецкіх народаў з найстаражытнейшых часоў, здавалася, прыводзілі да Саюзу савецкіх рэспублік. Гісторыя ўсходнеславянскіх народаў пры гэтым выглядала значна меншай праблемай, чым інтэграцыя закаўказскіх альбо сярэднеазіяцкіх нацыянальных гісторыяў[47]. У сінтэтычных працах, што выйшлі ў перыяд паміж 1961 і 1985 г., падзел, перыядызацыя, тэрміналогія і аналітычныя высновы адрозніваліся паміж сабою хіба што ў нюансах. Масавыя рухі трактаваліся ў ленінскім духу як рухальныя сілы змены фармацыяў, а гісторыя зводзі-

[44] У серыі „Вопросы истории СССР“ таксама выйшлі зборнікі, створаныя ў супрацоўніцтве з іншымі ўніверсітэтамі. Параўн.: Вопросы истории. История СССР и БССР. Древний мир и средние века. Межвузовский сборник. Вып.8. Мінск, 1981.

[45] У якасці агляду параўн., разам са згаданымі дысертацыямі і працамі Храпко, Леанаўца, Шаўчука, Міхнюка і Петрыкава, таксама: Достижения исторической науки в БССР за 50 лет. Мінск, 1970; Ignatenko, I. Belorußland // Gesellschaftswissenschaften, Sonderheft: Geschichtswissenschaften in der UdSSR. Moskau, 1976; Behrendt, Lutz-Dieter. Zur Entwicklung der Geschichtswissenschaft in der BSSR // Bolk, Franz (выд.). Zur Geschichte der BSSR und der deutsch-belorussischen Beziehungen. Kolloquium der Sektion Geschichte 30. und 31.Oktober 1979 (Wissenschaftliche Beiträge der Friedrich-Schiller-Universität Jena). Jena, 1981. С.112—120.

[46] Параўн. звесткі пра П.В.Горына і В.К.Шчарбакова ў: Белорусская ССР. Краткая энциклопедия. Т.5. С.164, 705.

[47] Сярод іншых працаў падобнага кшталту гл.: Лукашев К.И. (ред.). Белоруссия // Советский Союз. Географические описания. 22 тома. Ред. колл.: С.В.Калесник и др. Т.9. Москва, 1967.

лася да інтэрпрэтацыі паслядоўнасці арыстакратычных frondаў, сялянскіх паўстанняў, рабочых страйкаў ды рэвалюцыяў. Толькі даведзены яшчэ ў ранейшых працах нязначны ўдзел сялян у пратэставых рухах 1863 г. устрымаў аўтараў „Истории Белорусской ССР“ 1961 г. ад таго, каб ахарактарызаваць „прыхільніка сялянскай рэвалюцыі“ Кастуся Каліноўскага як прадвесніка бальшавізму[48].

Зусім прыглушыліся, акрамя таго, любыя больш–менш заўважныя антырасійскія выказванні. Дайшло нават да таго, што маскоўскія гісторыкі, падрабязна аналізуючы нававыдадзеную працу, звярнулі ўвагу менавіта на гэта і паспрабавалі патлумачыць сваім мінскім калегам, што няма ніякай неабходнасці гэтак аддана ламаць шапку перад вялікім расійскім народам і не ўзгадваць пра „супрацію найлепшых сыноў беларускага народа русіфікацыйнай палітыцы самаўладства“[49]. Наадварот, топасы гістарыяграфіі першага паваеннага дзесяцігоддзя засталіся некранутымі. Гістарычнае „змаганне беларускага народа за ўз'яднанне з Расіяй“ засталося гэткім самым улюбёным і ўдзячным аб'ектам даследаванняў, як і партызанская ды ваенная тэматыка. Гэтаксама як у ранейшых аднайменных працах даўнейшых аўтараў, восем стагоддзяў паміж распадам Кіеўскай Русі ды падзеламі Рэчы Паспалітай і тут трактаваліся як перапыненне лінейнага працэсу, а праз гэта апраўдвалася само паняцце „ўз'яднання“[50]. У манаграфічнай спецыяльнай літаратуры — г.зн., па-за межамі ўжываных у якасці падручнікаў сінтэтычных працаў — таксама пазнавалася тэндэнцыя да „рэпрафесіяналізацыі“, засведчаная і ў дачыненні да большыні рэспубліканскіх гістарыяграфіяў. У той самай меры, у якой замацоўваліся сацыяльна–гістарычныя даследніцкія прынцыпы — прыкладам, у аграрнай гісторыі, — беларуская гістарыяграфія цяпер яшчэ больш аддалілася ад сферы чыстага пазнання. Рамесніцкае ў працы гісторыка выходзіла на пярэдні план. У пэўны спосаб у дачыненні да 60–х г. назіралася нават павелічэнне адлегласці паміж гістарычнай навукай і палітыкай, якое ў найбольшай ступені сябе выявіла ў працы галаўных інстытутаў падсавецкай гістарыяграфіі. Назіраныя Роджэрам Маркўікам (*Markwick*) ды Ёахімам Гёслерам (*Hösler*) „дэмакратызацыя“ альбо „перагляд“ абцяжаранай ідэалогіяй гістарычнай канцэпцыі былі звязаныя з імёнамі А.І.Данілава, К.Тарноўскага, Я.С. Драбкінай, А.Некрыча, а перадусім М.Я.Гефтэра. Маркўік у гэтым звязку гаворыць нават пра „прадвесніка перабудовы“. Знікненне палітычнай апекі не ў апошнюю чаргу адкрыла новыя абсягі для працы з крыніцамі і дазволіла зноў загучаць нацыянальным матывам[51].

[48] История Белорусской ССР. Т.1 (op. cit.). С.359.

[49] Параўн. рэцэнзію ў: ВИ. 1963. № 3. С.120—125. Акрамя таго, гл.: Tillet, Lowell. The Great Friendship. Soviet Historians on the Non-Russian Nationalities. Chapel Hill, NC, 1969. С.384 і наст.

[50] Игнатенко А.П. Борьба белорусского народа за воссоединение с Россией. Вторая половина XVII—XVIII в. Мінск, 1974.

[51] Martiny, Albrecht. Das Verhältnis von Politik und Geschichtsschreibung... (op. cit.); Lüdemann, Ernst. Zur „Lösung der nationalen Frage“... (op. cit.). С.318 і наст. Найлепшым прыкладам новага ліберальнага падыходу былі крыніцазнаўчыя і гістарыяграфічныя працы М.М.Улашчыка 1973 і 1985 г., якія, зрэшты, таксама выйшлі ў Маскве. Гёслер таксама гаворыць у дачыненні да 60–х г. пра прафесіяналізацыю, гл.: Hösler, Joachim. Die sowjetische Geschichtswissenschaft... (op. cit.). С.71 і наст. Пра

Надалей на прыкладзе трох тэматычных блокаў, праца над якімі стварала пэўную канстанту нацыянальна-гістарычных даследаванняў у БССР, мы зробім спробу паказаць трываласць і змяненне гістарычнага вобраза беларускага падсавецкага грамадства, а менавіта на наступных тэмах: гісторыя кнігадруку й асоба Скарыны, сацыяльная гісторыя беларускіх земляў у XVI—XVIII ст., а таксама этнагенез беларусаў.

Апублікаваны ў 1967 г. зборнік „450 год беларускага кнігадрукавання" з нечаканай выразнасцю мог разглядацца як працяг яго папярэдніка, доўгі час забароненага і амаль не дазволенага да цытавання зборніка „Чатырохсотлецце беларускага друку", што быў выпушчаны ў 1926 г. Мала што не ідэнтычная структура новай кнігі, у апрацаванні якой бралі ўдзел пераважна маладыя аўтары, што праўда, сведчыла пра намаганні адначасова пэўным чынам скампенсаваць першы юбілейны том; але ў цэлым перамагла думка пра неабходнасць забеспячэння пераемнасці, у выніку чаго нават дайшло да таго, што пэўныя артыкулы зборніка 1926 г. — як, да прыкладу, праца Пічэты пра „скарыніяну" [SCORINIANA — sic!] — былі ўключаныя ў новае выданне без найменшых зменаў. Юбілейны зборнік быў, аднак, прысвечаны цяпер не толькі беларускаму кнігадруку, але таксама і „ролі выдатнага беларускага асветніка і вучонага Францыска Скарыны ў распаўсюджванні друкаванага слова сярод свайго народа і народаў іншых славянскіх краін". Цяпер раптоўна зрабілася магчымым назваць канец XV і першую палову XVI ст. — зусім не ў рэчышчы ўсіх фармацыйна-тэарэтычных разважанняў — „эпохай Ф.Скарыны" альбо нават часінай „гуманізму"[52]. Выглядала на тое, што адказныя супрацоўнікі цэнзурнага ведамства пачалі разглядаць Скарыну і гісторыю беларускага кнігадруку як элемент „нацыянальнага каларыту" адной з падсавецкіх рэспублік ды яе гісторыі. Ацэнка рэфармацыйна-лютэранскага гуманіста Скарыны заставалася амбівалентнай. Калі ў другой палове 50-х г. акадэмік, гісторык Старажытнасці Перцаў у сваёй прадмове да працы філосафа М.А.Алексютовіча яшчэ асцярожна гаварыў пра Скарыну як пра „прадстаўніка прагрэсіўнай беларускай культуры пачатку XVI ст.", дык у менш знакамітай частцы аўтарскага тэксту падкрэсліваліся „гарачая любоў Скарыны да сваёй радзімы Беларусі" ды ягоны „патрыятызм"[53]. Іншыя працы, якія, у шырокім сэнсе, нале-

„рэвізіянісцкі кірунак" параўн.: Markwick, R.D. Precursor to Perestroika: The 'Democratic' Partkom, Institute of History, Soviet Academy of Sciences, 1965—68 у кіраванай аўтарам секцыі VIII-9 „Social Transformation and Rewriting History" пад час V Сусветнага Кангрэсу ў пытаннях вывучэння Цэнтральнай і Ўсходняй Еўропы (Варшава, 6—11 жніўня 1995 г.). Акрамя таго, гл.: Markwick, R.D. Catalyst of historiography, Marxism and Dissidence: The Sector of Methodology of the Institute of History, Soviet Academy of Sciences, 1964—68 // Europe—Asia—Studies (1994) 4. С.579—596.

[52] 450 год беларускага кнігадрукавання. Мінск, 1967. Параўн. артыкулы: Чапко В.У., Грыцкевіч А.П. Эпоха Ф.Скарыны // Тамсама, с.9—40 і: Зайцаў В.К. Перадумовы гуманізму ў Беларусі // Тамсама, с.41—68.

[53] Алексютовіч М.А. Скарына. Яго дзейнасць і светапогляд. Мінск, 1958. С.3 (Перцаў) і с.68. Гл. іншыя працы пра Скарыну: Dingley, James. Some Recent Soviet Publications on Francisk Skaryna // JBS 4 (1980) 3—4. С.148—154, а таксама: Гусакова Н.А. Чешский период издательской деятельности Ф.Скорины // ВИ (БССР): История СССР и БССР. Древний мир и средние века. Межвузовский сборник. Вып.8. Мінск, 1981. С.170—174.

жалі да гісторыі мовы — як, да прыкладу, філалагічна-гістарыяграфічныя даследаванні „беларускіх“ сярэднявечных летапісаў альбо беларускай мемуарнай літаратуры, — яшчэ ў меншай ступені дапасоўваліся да навуковай стратэгіі партыі; пры гэтым апошняя не чыніла занадта вялікіх перашкод іх з'яўленню[54].

Другой сферай даследаванняў, якая ў значнай ступені магла адыходзіць ад палітычных патрабаванняў партыі да гістарычнай навукі, была сацыяльная гісторыя ранняга Новага часу. У гэтай гістарычнай галіне, дзе з дарэвалюцыйнага часу і выхаду шэрагу працаў Доўнара-Запольскага ды Пічэты сфармавалася, рэгулярна даючы аўтарытэтныя працы, пэўная беларуская гістарыяграфічная школа, у 60-я, 70-я і 80-я г. звярнулі на сябе ўвагу шматлікія кваліфікаваныя працы маладых беларускіх гісторыкаў. Асаблівую прыцягальнасць мела пры гэтым сацыяльная гісторыя вышэйшых станаў на беларускіх тэрыторыях. Магнаты і шляхціцы-землеўласнікі, „беларускае паходжанне“ якіх можна было давесці, раптоўна выяўлялі сябе не гэтулькі прадстаўнікамі эксплуататарскага класа, колькі важным сацыяльным элементам беларускай саматоеснасці, што знаходзілася ў працэсе развіцця. Калі надавалася істотная вага тым высновам, што магнаты літоўскага паходжання „пераважна засвоілі беларускую культуру“ і што ў цэлым у Беларусі ў XVI ст. этнічныя беларусы складалі большую частку магнатаў ды землеўласнікаў, можна было зразумець існуючую зацікаўленасць у даследаваннях адпаведных праблем[55].

На пачатку 70-х г. у падсавецкай гістарыяграфіі пад лозунгам неабходнасці аналізу „многоукладности“ адмовіліся ад закасцянеласці фармацыйнага вучэння на карысць гнуткай тэорыі: якраз тады пачалі даследавацца суіснаванне і ўзаемадзеянне дзвюх і болей сацыяльна-эканамічных фармацыяў. Без сумневу, у гэтым можна было пазнаць кампрамісную стратэгію, што імкнулася адпаведным чынам у межах гістарычнага матэрыялізму і пры захаванні абедзвюх дамінантаў „аб'ектыўнасці“ і „партыйнасці“ растлумачыць расійскую адсталасць і слабую дынаміку ўтварэння буржуазна-капіталістычных структур. Здавалася, першы раз гістарычная тэорыя зрушылася з месца[56]. На гэты час — і тым самым мы павядзём гаворку пра трэцюю, сярод вышэйзгаданых, галіну даследаванняў — прыпадае таксама першая і адзіная спроба беларускіх прафесійных гісторыкаў і этнографаў арганізаваць міжнародную канферэнцыю ў пытаниях „этнагенез беларусаў“ і без папярэдняй згоды ЦК КПБ разаслаць на яе запрашэнні — да прыкладу, таксама ў Югаславію. Ініцыятыва правядзення гэтага форуму зыходзіла ад кафедры антрапалогіі Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі й фальклору АН БССР. Урэшце, пра свой намер удзельнічаць абвясцілі, разам з антрапо-

[54] Параўн.: Драгун Ю.И. О „Хронике Быховца“ // Тамсама, с.20—28.

[55] З вялікай колькасці працаў па сацыяльнай гісторыі варта спаслацца на звесткі, што ўтрымліваюцца ў бібліяграфіях; тут назавём толькі: Грицкевич А.П. Распределение магнатских и шляхетских владений в Белоруссии по их величине и этнической принадлежности владельцев (XVI в.) // ВИ (БССР). Вып.7. Мінск, 1980. С.94—105.

[56] Параўн.: Вопросы истории капиталистической России: проблема многоукладности. Свердловск, 1972, а таксама: Кузнецов И.В. Об укладах и многоукладности капиталистической России // ВИ. 1974. № 7. С.20—32. Акрамя таго, гл.: Baron S., Heer N. W. (рэд.). Windows in the Russian Past. Essays on Soviet Historiography since Stalin. Columbus, Ohio, 1977. С.XII і наст.

лагамі ды археолагамі, таксама гісторыкі, лінгвісты й этнографы, сярод якіх былі вядомыя спецыялісты ў галіне этналогіі — гэткія, як Леў Гумілёў альбо Віктар Бунак. Паколькі планаванне гэтай канферэнцыі знаходзілася ў звязку з распачатай В.В.Сядовым і публікаванай найперш у часопісе „Советская этнография" прынцыповай дыскусіяй пра „балцкі субстрат" раннебеларускага этнасу і, да таго ж, супала з этапам змагання партыі з новапаўсталымі „правымі нацыяналістамі" ды яе занепакоенасцю тым, што гэткая канферэнцыя з навуковага гледзішча можа дадаць запальнага рэчыва — ЦК перапыніла ўсю падрыхтоўку. Канферэнцыя не адбылася, а выдрукаваны ўсё–ткі зборнік тэзаў пяць гадоў знаходзіўся пад партыйным замком[57].

Можна лічыць, што беларускае гісторыяпісанне да другой паловы 80–х г. мела ў сваім распараджэнні дзейную і функцыянальна здольную інстытуцыянальную інфраструктуру. Адносная стабільнасць падсавецкага грамадства мела сваім беспасярэднім вынікам сур'ёзнае замацаванне дамінантнай гістарычнай канцэпцыі. Колькасць публікацыяў няспынна расла. Свабода дзеянняў гісторыкаў у даследаванні нацыянальна–гістарычных памежных тэмаў тым часам змяншалася — і гэта ў асобных выпадках прыводзіла да выбуху. Гістарыяграфія БССР, як і Савецкага Саюзу ў цэлым, знаходзілася ў стане „прадуктыўнай летаргіі", з якой яе здолеў вызваліць толькі палітычны імпульс. Далейшы разгляд перыяду ад прыходу да ўлады Гарбачова да распаду Савецкага Саюзу, які таксама з навукова–палітычнага гледзішча можна ахарактарызаваць як „міжчассе", прывёў да зусім новых берагоў і ў „бастыёне сацыялізму".

### 1.3. Гістарычная навука ў 1986—1990 г.: закасцяненне і прарыў

Паварот у падсавецкай гістарычнай навуцы пачынаўся з пазіцыі абароны[58]. У адрозненне ад таго, што савецкае кіраўніцтва на чале з Гарбачовым намагалася правесці рэформы пад умоўнай назвай „гласность" і „перестройка", змена курсу

[57] Пэўную інфармацыю наконт планаванай тады канферэнцыі можна знайсці ў інтэрвію з кіраўніком кафедры антрапалогіі і экалогіі Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі й фальклору АН БССР, гл.: Цягака Л.А. Беларуская антрапалёгія: *homo sapiens* у прасторы і часе // Спадчына. 1994. № 6. С.44—49, у гэтым выпадку с.45 і наст. Больш падрабязна пра пытанне этнагенезу параўн. падраздзел 3.2.1. у гэтым раздзеле.

[58] Дзеля арыентавання ў пытанні гл. перадусім: Hagen, Mark von. History and Politics under Gorbachev: Professional Autonomy and Democratization // Lerner, Paul (рэд.). The Soviet Union 1988: Essays from the Harriman Institute Forum. New York, 1989. C.181—197; Davies, R.W. Soviet History in the Gorbachev Revolution. London, 1989; Ito, T. (рэд.). Facing Up to the Past. Soviet Historiography under Perestroika. Sapporo, 1989; Raleigh, Donald (рэд.). Soviet Historians and Perestroika. London, 1989; Rožanskij, Michail. Geschichte: Antworten auf nicht gestellte Fragen // Segbers, Klaus (рэд.). Perestrojka: Zwischenbilanz. Frankfurt am Main, 1990; Kozicki, Henry (рэд.). Western and Russian Historiography. Recent Views. New York, 1993; Geyer, Dietrich (рэд.). Die Umwertung der sowjetischen Geschichte (Geschichte und Gesellschaft, Sonderheft 14). Göttingen, 1991; Starr, S.Frederick (рэд.). The Legacy of History in Russian and the new States of Eurasia (The International Politics of Eurasia, vol.1). Armonk, New York—London, 1994. Апошнім часам: Hösler, Joachim. Die sowjetische Geschichtswissenschaft... (op. cit.). C.206 і наст. Рэгіянальная перспектыва ў: Subtelny, Orest. Die gegenwärtige Situation der ukrainischen

ў грамадскіх навуках ні ў якім разе не была фарсаваная зверху. Якраз наадварот. Новая партыйная праграма, прынятая на XXVII з'ездзе КПСС, які прыцягнуў да сябе шмат увагі на Захадзе, папярэджвала гісторыкаў не паддавацца спакусе „кан'юнктурнага рыцарства"[59]. Паводле амаль даслоўна ўзноўленай цэнтральнай, у гэтым дачыненні, думкі, сфармуляванай на XXI з'ездзе 1961 г., галоўнымі тэмамі і аб'ектамі далейшых даследаванняў якраз меліся зрабіцца „працэсы развіцця палітычнай сістэмы, сацыялістычнай дэмакратыі, дзяржаўнасці і сацыялістычнага самакіравання, а таксама далейшага збліжэння нацыяў і народнасцяў СССР" ды „заканамернасці развіцця і досвед краін сацыялістычнай садружнасці"[60]. Урачысты даклад Гарбачова з нагоды 70-гадовага юбілею Кастрычніцкай рэвалюцыі, побач з асцярожнай пераацэнкай сталінізму, побач з выказваннем сімпатыі да Лютаўскай рэвалюцыі і побач з паасобнымі іншымі зменамі акцэнтаў, не ўтрымліваў аніякіх намёкаў на магчымасць глабальнага перагляду гісторыі[61].

Менавіта ў кінематографе, літаратуры і на тэатральнай сцэне прагучалі першыя сігналы да пераацэнкі савецкай гісторыі. У 1987—1989 г. мастацкі фільм грузінскага кінарэжысёра Тэнгіза Абуладзэ „Покаяние", раман „Дети Арбата" Анатолія Рыбакова ды п'есы Міхаіла Шатрова „Дальше, дальше, дальше" і „Брестский мир" абудзілі новы інтарэс шырокіх колаў грамадства да гісторыі, а таксама да гістарычнай навукі. На нацыянальнай перыферыі зрабіў фурор запазычаны з апублікаванага ў 1981 г. рамана „И дольше века длится день..." Чынгіза Айтматава тэрмін „манкуртства", які, паводле парабалізацыі эпасу „Манас", пачаў ужывацца як сінонім да паняцця страты гістарычнай памяці і адцурання ад нацыянальных і моўных традыцыяў за савецкім часам.

Historiographie... (op. cit.); Lindner, Rainer. Nationsbildung durch Nationalgeschichte. Probleme der aktuellen Geschichtsdiskussion in Weißrußland // Osteuropa 44 (1994) 6. C.578—590; Kerner M., Stopinski S. Der Umgang mit der eigenen Geschichte. Selektive Wahrnehmung der Vergangenheit in den baltischen Republiken // Osteuropa 41 (1991). C.602—611; Astourian, Stephan H. In Search of their Forefathers: National Identity and the Historiography and Politics of Armenian and Azerbaijani Ethnogeneses // Schwarz D., Panossian R. (рэд.). Nationalism and History. The Politics of Nation Building in Post Soviet Armenia, Azerbaijan and Georgia. Toronto, 1994. C.41—94.

[59] Паняцце паходзіць з Праграмы Камуністычнай партыі Савецкага Саюзу (новая рэдакцыя, прынятая на XXVII з'ездзе КПСС). Тут цытуецца паводле: XXVII. Parteitag der KPdSU. Dokumente. Moskau, 1986. C.5—104, у гэтым выпадку с.75.

[60] Галоўныя кірункі эканамічнага і сацыяльнага развіцця СССР з 1986 да 1990 г. і на перыяд да 2000 г. — гл.: Тамсама, с.167—266, у гэтым выпадку с.191. Нягледзячы на вялікія намаганні да абнаўлення, дыскусійныя выступы на Ўсесаюзнай канферэнцыі кіраўнікоў кафедраў грамадскіх навук былі, хутчэй, асцярожнымі і няпэўнымі, гл.: XXVII съезд КПСС и задачи кафедр общественных наук. Материалы Всесоюзного совещания заведующих кафедрами общественных наук высших учебных заведений, Москва, 1—3 октября 1986 г. Москва, 1987.

[61] У нямецкім перакладзе ўпершыню як: Gorbatschow, Michail. Der Oktober und die Umgestaltung: Die Revolution wird fortgesetzt. Ansprache des Generalsekretärs des ZK der KPdSU, Michail Gorbatschow, auf der Gemeinsamen Festsitzung des ZK der KPdSU, des Obersten Sowjets der UdSSR und des Obersten Sowjets der RSFSR anläßlich des 70. Jahrestages der Großen Sozialistischen Oktoberrevolution // Neues Deutschland, 3.11.1987. C.3—7.

Расійская гістарыяграфія, нягледзячы на пэўныя зробленыя ў спешцы каментары гісторыкаў старэйшага пакалення, кшталту Валабуева — пра 1917 г., Палікарпава — пра грамадзянскую вайну, Данілава — пра калектывізацыю, Самсонава — пра Другую сусветную вайну альбо Юрыя Афанасьева — пра усеагульны гістарычны працэс, мела свой клопат прабівацца ад гэткіх дэфініцыяў, як „культ асобы", „адміністратыўная сістэма" ці „адміністратыўна-камандная сістэма" да заходніх азначэнняў падсавецкага ладу — як, прыкладам, „таталітарызм" ці „сталінізм". Дарогаю ад эўфемізму „культ асобы" да катэгарычнага „сталіншчына", да абмеркавання дачыненняў паміж рэвалюцыяй ды сацыялістычнымі ідэаламі і дэспатызмам ды гвалтам у маскоўскім і ленінградскім (санкт-пецярбургскім) інтэлектуальных асяродках „імкліва" пайшлі толькі пасля 1989 г.[62]. Тым часам большыня гісторыкаў, нягледзячы на паступовы адыход ад схемаў „Кароткага курса" — таго „сляпога люстэрка нашае гісторыі" (Ражанскі) — захавала рыторыку падсавецкай гістарыяграфіі й, крытыкуючы „сталіністаў" і „вечна ўчарашніх", між тым, павяла гаворку пра „почырк непахібных абвінаваўцаў". У рэспубліках — частках СССР і, пазней, у новых незалежных дзяржавах гэтая новая палярызацыя выявіла сябе як супярэчнасць паміж новай, нацыянальна арыентаванай гістарыяграфіяй і навукоўцамі, што трымаліся за „расійскае бачанне" гісторыі. Інакай, чым гэта было ў Расіі, на гістарызацыю грамадства ў БССР і першапачатковую змену курсу, побач з асветніцкай роляй, што адыграла літаратура, паўплывалі канкрэтныя падзеі.

Татальнае замоўчванне культурных і моўных традыцыяў Беларусі ў межах закасцянелай брэжнеўскай сістэмы прывяло ў 1985 г. да першых выказванняў нацыянальнай інтэлігенцыі. 15 снежня таго самага года 28 беларускіх навукоўцаў, пісьменнікаў і дзеячаў мастацтва звярнуліся з петыцыяй да новага Генеральнага сакратара Гарбачова, звяртаючы ягоную ўвагу на прыніжэнне беларускай мовы ў палітыцы, грамадскім жыцці й адукацыі[63]. Катастрофа ў выніку выбуху атамнага рэактара ў Чарнобылі, што мела месца праз няпоўныя чатыры месяцы, 26 красавіка 1986 г., была ўспрынятая як трэці акт масавага знішчэння народа — пасля цяжкіх, поўных ахвяр гадоў сусветнай вайны ды сталінскіх рэпрэсіяў[64].

[62] Гэтак гаворыцца ў: Rožanskij, Michail. Geschichte... (op. cit.). C.349.

[63] Пра беларускі нацыянальны рух пасля 1985 г. параўн., сярод іншага: Zaprudnik, Jan. The National Consciousness of the Byelorussians and the Road to Nationhood // Kipel, Zora and Vitaut (рэд.). Byelorussian Statehood. Reader and Bibliography. New York, 1988. C.9—31; Zaprudnik, Jan. Byelorussian Reawakening // Problems of Communism (1989) 4. C.36—52, тут таксама падрабязна пра названую петыцыю — с.37 і наст.; *Яго ж*. Belarus. At a Crossroads in History. Boulder, Col., 1993. C.121 і наст. На нямецкай мове грунтоўны выклад пытання ў: Sahm, Astrid. Die weißrussische Nationalbewegung nach der Katastrophe von Tschernobyl 1986—1991. Münster, 1994. З апошніх працаў таксама: Marples, David R. Belarus. From Soviet Rule to Nuclear Power. London, 1996. C.115 і наст. Цяпер ужо немагчыма даць агляд літаратуры на чарнобыльскую тэму. У Беларусі толькі ў 1991 г. можна было налічыць 2 392 назвы публікацыяў — гл.: Нацыянальная бібліятэка Беларусі (выд.). Чарнобыль. Бібліяграфічны паказальнік. Мінск, 1993. Параўн. таксама: Sahm, Astrid. Die weißrussische Nationalbewegung... (op. cit.). C.72 і наст.; Marples, David R. Belarus... (op. cit.). C.40 і наст.

[64] Пра сувязь экалагічнага крызісу і нацыянальнага руху пратэсту параўн.: Sahm, Astrid. Die weißrussische Nationalbewegung... (op. cit.). Параўн. таксама зборнік дакумен-

Узнікненне нацыянальнага пратэсту мела тут — як гэта засведчыў ліст Алеся Адамовіча да Гарбачова за 1 чэрвеня 1986 г. — культурна-гістарычнае вымярэнне[65]. Гэты пратэст выкрышталізоўваўся ў выглядзе пэўнага кшталту абарончага этнічнага руху і сігналізаваў пра дасягненне болевага парогу. У якасці адпаведніка Маскоўскага гістарычна-мемарыяльнага таварыства „Мемарыял" мінскія інтэлектуалы заснавалі „Мартыралог Беларусі" — першае „Беларускае добраахвотнае грамадска-асветнае таварыства памяці ахвяр сталінізму", старшынём якога быў абраны мінскі археолаг Зянон Пазьняк[66]. Пазьняк у траўні 1988 г. узначальваў раскопкі ў Курапацкім лесе пад Мінскам і апублікаваў вынікі працы 3 чэрвеня 1988 г. у тыднёвіку „Літаратура і мастацтва". Гэтая падзея, пад час якой былі адкрытыя масавыя пахаванні часоў сталінскага тэрору, у аднолькавай ступені прывяла ў стан здранцвення і ўскалыхнула беларускую грамадскасць па-за колам інтэлектуалаў. Пасля гэтага тысячы асоб узялі ўдзел у маўклівых маршах і вялікіх дэманстрацыях. Ад БССРаўскага кіраўніцтва, маскоўскага цэнтра і, перадусім, ад партыі як захавальніцы сталініцкае спадчыны цяпер патрабавалі адказаць не толькі за чарнобыльскую катастрофу, але і за курапацкія злачынствы. Прынамсі, адукаваная грамадскасць беларускае сталіцы — але таксама і іншых вялікіх цэнтраў — цягам гэтых месяцаў сталася канчаткова спалітызаванаю[67].

Сталінскія ахвяры былі ўшанаваныя ўжо 1 лістапада 1987 г. каля помніка Янку Купалу ў Мінску ў прысутнасці 200 чалавек на першым не арганізаваным дзяржавай мітынгу, які быў скліканы з ініцыятывы маладзёжных суполак „Талака" і „Тутэйшыя". Гэтыя дзве групоўкі належалі да агулам тых 90, што — неафіцыйна ці ў статусе зарэгістраваных — пачалі актыўна вылучаць сацыяльныя, палітычныя альбо культурніцкія патрабаванні[68]. Менавіта гэтыя суполкі зарганізавалі 26 снежня 1987 г. свой першы „Вальны сойм" („Reichstag") у Палачанцы каля Мінска: гэтае найменне павінна было *expressis verbis* (лац. выразным чынам. — *Заўвага перакладчыка*) карэляваць з найвышэйшым прадстаўніцтвам

таў: Гражданские движения в Белоруссии: документы и материалы., 1986—1991. Москва, 1991.

[65] Параўн. тэкст ліста, апублікаваны ў тэксце артыкула: Кавалёва Ірына. Душа Алеся Адамовіча // ЛіМ, 24.05.1996. С.13. Адамовіч прасіў для свайго шматпакутнага цягам сваёй гісторыі народа самае меншае належную інфармацыю і дапамогу ў пераадоленні наступстваў катастрофы 26 красавіка. Ліст зачытваўся на паседжанні Палітбюро ЦК КПСС 4.06.1986 г.

[66] Побач з „Мартыралогам Беларусі" пазней узнікла „Беларуская Асацыяцыя ахвяр палітычных рэпрэсій" — яшчэ адна недзяржаўная арганізацыя, старшынём якога напачатку быў мінскі гісторык, даследнік старажытнасцяў і этнолаг Г.Штыхаў з ІГ АНБ. Да сярэдзіны 90-х г. было зарэгістравана каля 600 000 выпадкаў палітычнага пераследу. Пра гэта гл. таксама ў апошняй частцы падраздзела 3.1.2.

[67] Пра тое, што адбывалася ў Курапатах, гл. узрушвальны збор дакументаў: Пазьняк З., Шмыгалёў Я., Крывальцэвіч М., Іоў А. Курапаты. Артыкулы, навуковая справаздача, фотаздымкі. Мінск, 1994 (2-е выд.). Пра дыскусію, што адбывалася да 1993 г. параўн.: Marples, David R. Kuropaty: The Investigation of a Stalinist Historical Controversy // Slavic Review 53 (1994) 2. С.513—523.

[68] Zaprudnik, Jan. Byelorussian Reawakening... (op. cit.). С.39 і наст. Колькасць сяброў суполак, натуральна, была невялікаю і толькі ў паасобных выпадках сягала больш за пяцьдзесят асоб.

станаў у Вялікім Княстве Літоўскім. Наступная аналагічная імпрэза, у якой узялі ўдзел 246 дэлегатаў ад 66 нефармальных суполак, адбылася ў сярэдзіне студзеня 1989 г. у „сталіцы" Вільні. Як гэта ўжо мела месца ў 1915 г., у новым пераломным часе, напрыканцы 80-х г. сярэднявечная метраполія зноўку — як „братняе з'яднанне літоўцаў, палякаў і беларусаў" — трапіла ў цэнтр увагі. Ізноў, але з меншым поспехам, пачынаючы з 1989 г., з розных бакоў абмяркоўвалася дзяржаўнае зліццё былых частак Вялікага Княства Літоўскага. Васіль Быкаў, які разам з Алесем Адамовічам і Зянонам Пазьняком да смерці Адамовіча ў 1994 г. увасабляў трыумвірат беларускага „нацыянальнага сумлення", выказваўся на гэты конт наступным чынам:

> „Палякі і літоўцы — нашы гістарычныя браты, і мы маем безліч сведчанняў нашага сумеснага, сапраўды братняга існавання — у межах адной экалогіі, адной культуры і нават адной дзяржавы. Калі тое было магчыма на зары нашай гісторыі, дык чаму гэта немагчыма зараз?"[69].

Нацыянальная гісторыя беларусаў, што ствралася нанова, мелася быць перадусім нерасійскаю. Таму натуральным вынікам сталася тое, што вельмі хутка вобраз разлеглага і поліэтнічнага Вялікага Княства Літоўскага звярнуў на сябе асаблівую ўвагу гісторыкаў. Пашырэнне ведаў аб працяглым перыядзе супольнай гісторыі вяло да прыхільнага ўспрымання польскіх, літоўскіх і ўкраінскіх — г.зн., нерасійскіх — суседзяў. Тым часам мусяць быць выяўленыя таксама й іншыя тэндэнцыі[70]. Узнаўленне дзейнасці уніяцкай царквы, што адбылося 6 жніўня 1990 г. у будынку беларускага Саюзу пісьменнікаў, таксама сведчыла пра пошукі ідэнтычнасці, хутчэй аддаленай ад расійскай, хоць папаўненне шэрагаў прыхільнікаў гэтай царквы і пасля зацягнутай да лістапада 1991 г. афіцыйнай рэгістрацыі — у адрозненне ад Украінскай грэка-каталіцкай царквы — было ў цэлым нязначным. На афіцыйным Устаноўчым з'ездзе Беларускага Народнага Фронту (БНФ), што адбыўся 24 і 25 чэрвеня 1989 г. у Вільні, старшынём Сойму (Führungskomitee) гэтай будучай апазіцыйнай партыі быў абраны старэйшы навуковы супрацоўнік ІГ АН БССР Зянон Пазьняк. У праекце Праграмы Народнага Фронту шукаліся спосабы адназначнай карэляцыі з гістарычнымі ўзорамі — напрыклад, праз ужыванне сімволікі Вялікага Княства Літоўскага, а таксама Беларускай Народнай Рэспублікі 1918 г., бел-чырвона-белага сцяга і герба з выявай вершніка „Пагоня". У свой спосаб БНФ, а пасля яго і іншыя беларускія партыі ў абавязковым парадку шукалі свайго радаводу ў нацыянальнай гісторыі:

> „Беларускі народ заваяваў права на суверэнную нацыянальную дзяржаўнасць сваім змаганнем і пакутамі цягам усёй сваёй гісторыі. Традыцыі дзяржаўнасці ў Полацкім і Тураўскім княствах, суверэнітэт Беларусі і Літвы, увасоблены ў выглядзе Вялікага Княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага; традыцыі змагання за

[69] ЛіМ, 7.07.1989. С.1. [Цытуецца паводле: Быкаў Васіль. Прамова на I з'ездзе БНФ // *Яго ж.* Зб.твораў. Т.6. Мінск, 1994. С.476. — *Заўвага перакладчыка*].
[70] Параўн., сярод інш.: Hartmann, Karl. Warschaus Bemühungen um Weißrußland // Osteuropa 43 (1993) 9. C.853—863.

> годнае існаванне чалавека і нацыі — паўстанні Касцюшкі і Каліноўскага, рэвалюцыі 1905—07 і 1917 г. — усё гэта лагічным чынам прывяло да абвяшчэння незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі 25 сакавіка 1918 г., а пазней — да заснавання суверэннай ССРБ 1 студзеня 1919 г."[71].

Праграму БНФ — як і іншыя публічныя заявы Народнага Фронту — КПБ, вядома ж, не пакінула без каментароў. У распараджэнні функцыянераў, прапагандыстаў і партыйных работнікаў ідэалагічнага фронту меўся складзены з адмыслова падрыхтаваных матэрыялаў і вынятак з партыйнай газеты „Советская Белоруссия" дапаможнік пра „нефармальныя суполкі"[72]. Пад загалоўкам „Што перашкаджае згуртаванню сілаў «перестройки»?" прафесар універсітэта А.М.Малашка, які, пікантным чынам, атрымаў у АН БССР у 1972 г. тытул доктара гістарычных навук за працу пад назвай „Узнікненне аднапартыйнай сістэмы і ліквідацыя дробнабуржуазных партыяў у Савецкай Расіі", звяртаў увагу на падрыўную і гістарычна абцяжараную дзейнасць нефармальных груповак. Маўляў, пад бел-чырвона-белым сцягам Рада БНР у 1918 г. у тэлеграме на адрас нямецкага кайзера Вільгельма II „дзякавала за вызваленне Беларусі", падкрэсліваючы пры гэтым, што „толькі пад абаронай Германскай Імперыі бачыць край сваю добрую долю ў будучыні".

Далей праводзілася лінія пераемнасці з цяперашнім днём: калабаранты і сабраныя пад нямецкай апекай дэлегаты „Другога Ўсебеларускага кангрэсу" „праз дваццаць шэсць гадоў, 17 чэрвеня 1944 г., з будынка, над якім развяваўся бел-чырвона-белы сцяг, накіравалі тэлеграму Адольфу Гітлеру [...], у якой яны запэўнівалі фюрэра, што яны «поплеч з нямецкімі салдатамі будуць адважна стаяць на баявым пасту супраць нашага агульнага ворага — бальшавізму»". Цяпер, паводле Малашкі, менавіта правадыры „Тутэйшых" ды іншых нефармальных груповак, кантактуючы з замежнымі нацыяналістычнымі групамі эмігрантаў, „будуюць масты на Захад і хочуць разбурыць масты на Ўсход"[73]. Створанае ў гэткі спосаб ўражанне быццам бы блізкасці ідэалогіі Народнага Фронту да фашысцкіх ідэяў мелася адштурхоўваць старэйшае пакаленне насельніцтва ў той самай меры, як і той факт, што ў праграмных дакументах БНФ адстойвалася права на суіснаванне розных формаў уласнасці. „Фашызм" і „прыватная ўласнасць" тады не толькі ў БССР, але і ў цэлым у познесавецкім грамадстве былі, самае меншае, кепскімі словамі.

Рэакцыяй на заўвагу філолага і сябра беларускага Саюзу пісьменнікаў Адама Мальдзіса, што ў беларускім народзе толькі ў слабой ступені здолела сфармавацца нацыянальнае пачуццё, а патрыятызм не пусціў каранёў, стаў іншы артыкул, у якім у ход была пушчана яшчэ больш цяжкая артылерыя — партызанскі міф. Спасылкі на „гераізм беларускага народа ў гадах Вялікай Айчыннай вайны" і на агулам 462 герояў Савецкага Саюзу, што былі беларусамі альбо выхад-

[71] Цытуецца паводле: Zaprudnik, Jan. Byelorussian Reawakening... (op. cit.). С.44 [*пераклад з англійскай мовы*]; упершыню апублікавана ў: Навіны БНФ, № 3, 1989. С.3.

[72] ЦК КПБ (выд.). Неформальные объединения в политической жизни республики (по материалам прессы). Мінск, 1990.

[73] Малашко А. Что мешает объединению сил перестройки? // Тамсама, с.3—9, у гэтым выпадку с.6 і наст. (арыгінальны тэкст апублікаваны ў: Советская Белоруссия, 19.02.1990).

цамі з Беларусі, маглі, вядома ж, спаралізаваць любую дыскусію, перадусім калі яна — як гэта гучала ў выказванні Мальдзіса ды іншых дакументах БНФ — была скіраваная супраць дэнацыяналізацыі і саветызацыі БССРаўскага грамадства. Самыя апошнія сярод тых, хто меў сумнеў у патрыятычным настроі беларускага народа, маглі цяпер бачыць, з якой „годнасцю нашы хлопцы" выконвалі „свой патрыятычны абавязак у Афганістане"[74]. Іншыя гісторыкі тамсама гаварылі пра літоўскае паходжанне герба „Пагоня", які, маўляў, лічыўся гербам Вялікага Княства Літоўскага, яшчэ калі беларускія землі зусім не ўваходзілі ў яго склад, ды называлі яго наўпрост „литовским гербом"[75].

Нягледзячы на ўсе гэтыя абвінавачванні, увесну 1990 г. на выбарах у Вярхоўны Савет, які, дарэчы, меўся праіснаваць у постсавецкім часе найдаўжэй сярод усіх падобных рэспубліканскіх Саветаў (фактычна да студзеня 1996 г.), БНФ здолеў заваяваць 27 з 360 дэпутацкіх месцаў і тым самым давесці лічбу ўдзельнікаў блоку, што мусіў атрымаць назоў дэмакратычнага, да 60. Але камуністы былі таксама гатовыя да пэўных саступак. Праз „асуджэнне палітыкі «нацыянальнага нігілізму» ў мінулым", а таксама прыняўшы 26 студзеня 1990 г., беспасярэдне перад выбарамі ў Вярхоўны Савет, „Закон аб мовах", у якім беларуская мова ўзнімалася да статусу дзяржаўнай, у БНФ мусіла быць выбіта зямля з-пад ног, пазіцыя ж камуністаў мелася быць устабілізаваная. Абвяшчэнне суверэнітэту 27 ліпеня 1990 г. — калі не браць пад увагу ўплыў агульнасаюзнага параду суверэнітэтаў — таксама ў пазнейшы час разглядалася хутчэй як вынік тактычных разважанняў. Не выклікае сумневу тое, што ў 1987—1990 г. у асяроддзі адукаваных слаёў насельніцтва адбылася трансфармацыя не толькі экалагічнай, але і гістарычна-палітычнай ды моўна-палітычнай свядомасці. Нават спрэчкі паміж камуністычнай партыяй ды яе прыхільнікамі з ліку інтэлігенцыі, з аднаго боку, і новапаўсталымі нефармальнымі ды паўафіцыйнымі групоўкамі ды суполкамі асветніцкага кірунку, з другога, у большасці вяліся на полі бітвы гісторыі. Гісторыкі выступалі ў якасці ідэолагаў абодвух лагераў. У незалежнай Рэспубліцы Беларусі гэтая тэндэнцыя мелася яшчэ ўзмацніцца[76].

Гісторыкі з Акадэміі навук і БДУ, якія былі істотным чынам рэпрэзентаваныя як у КПБ, гэтак і ў БНФ, насамрэч, пачынаючы з 1988 г., належалі да каментатараў падзеяў сучаснага жыцця, попыт на паслугі якіх быў найбольшы. У вышэйзгаданым зборніку тэкстаў — як і ва ўсёй гістарычна-палітычнай публіцыстыцы таго часу — кідаўся ў вочы глыбокі разлом, які, здавалася, падзяліў грамадства — і, тым самым, цэх гісторыкаў — на два лагеры. Пры гэтым гаворка ні ў якім разе не йдзе пра падзел, звязаны з розніцай генерацыяў прадстаўнікоў абодвух бакоў. Часта якраз сярод акадэмічнай моладзі познесавецкага часу за-

[74] Курганский С. Полуправда — не правда // Тамсама, с.14—19, у гэтым выпадку с.14 і наст. (арыгінальны тэкст апублікаваны ў: Советская Белоруссия, 17.06.1989).
[75] Гэтак лічыў П.Лысенка — гл.: Тамсама, с.17.
[76] У чэрвені было таксама створанае Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны. Акрамя таго, да канца 1990 г. узніклі яшчэ грамадскія аб'яднанні і партыі кшталту Беларускага экалагічнага саюзу (ліпень 1989 г.), полацкай Партыі незалежнасці Беларусі (травень 1990 г.), Нацыянальна-дэмакратычнай партыі Беларусі (чэрвень 1990 г.), Аб'яднанай дэмакратычнай партыі Беларусі (лістапад 1990 г.).

значалася „уніфікацыя гістарычнай свядомасці", а таксама „гвалтоўны адрыў цэлых пакаленняў ад іх нацыянальных і культурна-гістарычных каранёў"[77]. Тут якраз выявілася, што схільнасць да нацыянальна-гістарычных ідэяў у большай ступені была характэрная для спецыялістаў гісторыі Старажытнасці, Сярэднявечча і ранняга Новага часу, чым сярод знаўцаў новай і найноўшай гісторыі й, тым больш, гісторыкаў партыі. Падобную тэндэнцыю можна было назіраць і ва ўкраінскай гістарыяграфіі: калі з кіеўскага Інстытута гісторыі АН УССР, у якім былі занятыя 170 супрацоўнікаў, вылучылася „Археалагічная камісія", якая напачатку занялася выданнем нацыянальна-гістарычных дакументаў, пазней рабілася ўсё больш прыцягальным пунктам для крытыкаў афіцыйнай гістарычнай навукі, а ўрэшце ўтварыла і самастойны інстытут[78]. Спецыялісты старажытнай гісторыі больш не хацелі заставацца побач з партыйнай гісторыяй, каб падзенне сацыяльнага прэстыжу навукоўца-гуманітарыя надалей не адбывалася яшчэ хутчэйшымі тэмпамі.

Было б няслушным зыходзіць з цалкам аднабаковай публікацыйнай палітыкі познесавецкага гісторыяпісання. Хоць цягам пяцігодкі з 1985 да 1990 г. з прычыны адсутнасці больш-менш трывалай канцэпцыі не выйшла ніводнай сінтэтычнай працы па беларускай гісторыі, усё ж такі ў сярэдзіне 80-х г., а часткова яшчэ да гарбачоўскага прыходу да ўлады, пачалі набываць свае абрысы амбіцыйныя выдавецкія праекты[79]. Яшчэ да 1990 г. гісторыкі з АН БССР і руплівай рэдакцыі „Беларускай Савецкай Энцыклапедыі імя П.Броўкі", якія ўзялі на сябе львіную долю клопату па падрыхтоўцы і публікацыі сістэматызаваных гістарычных, культурніцкіх і моўна-гістарычных ведаў на зыходзе БССРаўскага часу і пачатку існавання незалежнай Рэспублікі Беларусі, сфармулявалі першыя ідэі наконт выдання шасцітамовай „Энцыклапедыі гісторыі Беларусі", на гісторыі публікацыі якой, што пачалася ў 1993 г., мы ніжэй яшчэ спынімся больш падрабязна. Новыя праекты гэткага кшталту сведчылі пра рост самасвядомасці навукоўцаў, пра які яшчэ больш выразна выказаліся выдаўцы часопіса „Помнікі гісторыі і культуры Беларусі", перайменаванага ў 1989 г. у „Спадчыну":

> „...Народ усё больш рашуча заяўляе аб сваім праве мець не сфальсіфікаваную, а сапраўды навуковую гісторыю, напісаную з пункту гледжання нас саміх, а не тых ці іншых суседзяў"[80].

[77] Новикова Л.Г., Овсянников А.А., Ротман Д.Г. Стереотипы исторического самосознания // Социологические исследования. 1989. № 5. С.3—12. Вынікі гл. таксама ў: Halbach, Uwe. Die Nationalitätenfrage: Kontinuität und Explosivität // Geyer, Dietrich (рэд.). Die Umwertung der sowjetischen Geschichte... (op. cit.). С.210—237, у гэтым выпадку с.218 і наст.

[78] Subtelny, Orest. Die gegenwärtige Situation der ukrainischen Historiographie... (op. cit.). С.362.

[79] Найважнейшымі сярод іх былі: Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі. Т.1—5. Мінск, 1984—87; Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі. Т.1—6. Мінск, 1984—87; Гісторыя беларускага тэатра. Т.1—3. Мінск, 1983—87; Гісторыя беларускага мастацтва. Т.1—6. Мінск, 1987—94; Францыск Скарына і яго час: Энцыкл. даведнік. Мінск, 1988; Статут Вялікага княства Літоўскага 1588 г. Тэксты. Даведнік. Каментарыі. Мінск, 1989; Этнаграфія Беларусі. Энцыклапедыя. Мінск, 1989.

[80] Спадчына. 1989. № 1(1). С.3. Параўн., акрамя таго: Запруднік Янка. Гістарычныя і культурныя асновы беларускай нацыянальнай сьведамасьці // Kłoczowski, Jerzy etc.

У той час як прыхільнікі гэткага нацыянальна-гістарычнага крэда напрыканцы 80-х г. верылі, што бачаць святло ў канцы тунэлю, бальшыня беларускіх гісторыкаў напачатку цвёрда трымалася тэматычных і ідэалагічных стандартаў падсавецкай гістарыяграфіі, хоць можна ўжо былоназіраць і адназначную тэндэнцыю адыходу ад апошніх — г.зн., тую самую з'яву, якая — у дачыненні да першага выступу ўвосень 1985 г. у часопісе „Коммунист" Юрыя Афанасьева, што прыцягнуў да сябе шырокую ўвагу — была ахарактарызаваная XXVII з'ездам КПСС як „кан'юнктурнае рыцарства". Тут бралася на патавую сітуацыю. Як яшчэ можна было патлумачыць тое, што колькасць гістарычных манаграфіяў, артыкулаў у навуковых часопісах і газетных выступаў за 1990 г. усё яшчэ складала 416 назваў на тэму Вялікай Айчыннай вайны і толькі 145 назваў працаў пра ўвесь дасавецкі перыяд гісторыі (што праўда, без уліку этнаграфічных, археалагічных, краязнаўчых і публікацыяў у розных сумежных галінах)? Кнігавыдаўцу і гуманісту Скарыну ды ягонаму 500-годдзю, у кожным разе, была прысвечаная 91 праца. Новыя стасункі — толькі тры працы на тэму Кастрычніцкай рэвалюцыі і цэлыя 90 працаў розных жанраў на тэму рэпрэсіяў — сведчылі тым часам пра змену акцэнтаў у беларускай гістарычнай навуцы. Толькі даследаванні пра Вялікую Айчынную вайну і партызанскі рух займалі пакуль што нязменную і недатыкальную пазіцыю[81].

Як і трэба было чакаць, кансерватыўныя і настроеныя на рэформы гісторыкі ды палітыкі ў галіне адукацыі зрабілі менавіта школу і ВНУ месцам абмену сваімі ідэалагічнымі ўдарамі. Пасля таго як падручнікі па гісторыі для заняткаў у школах і ВНУ напрыканцы 80-х г. сталі анахранічнымі, трэба было шукаць хуткіх кампрамісных развязанняў. У той час як адны настойвалі на выкарыстанні старых дапаможнікаў аж да часу з'яўлення новараспрацаваных, другія — што маглі разлічваць на падтрымку Генеральнага сакратара — дамагліся таго, каб з канца 1988 г. як на цэнтральным, гэтак і на рэспубліканскім узроўні выпускныя экзамены болей праводзіліся не ў форме пісьмовага іспыту, а вусна; распрацоўка ж новых варыянтаў усіх падручнікаў па гісторыі мелася праводзіцца праз конкурс розных праектаў. На правядзенне гэтага конкурсу, аднак, патрэбны быў час. У кожным разе, у 1988—1991 г. бальшыня школьнікаў і студэнтаў, не маючы афіцыйных падручнікаў гісторыі, мусіла разлічваць на саміх сябе і на свае здольнасці адсочваць і пад час вусных іспытаў даваць зразумець дамінантную плынь публіцыстычных дэбатаў на гістарычныя тэмы[82].

(рэд.) Belarus, Lithuania, Poland, Ukraine. The Foundation of Historical and Cultural Traditions in East Central Europe. International Conference, Rome, 28 April—6 May 1990. Lublin—Rome, 1994. С.43—53.

[81] Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь / Дзяржаўная бібліятэка Рэспублікі Беларусь (выд.). Новая літаратура па гісторыі і гістарычных навуках Беларусі 1990. Бібліяграфічны паказальнік. Мінск, 1992. Акрамя таго адбылося цэлых пяць канферэнцыяў толькі па тэме скарынаўскага юбілею. Параўн. высновы, зробленыя ў падраздзеле 3.1.2. гэтага раздзела.

[82] Самае першае выданне такога кшталту — гл.: Актуальныя пытанні гісторыі БССР. Савецкі перыяд. Дапаможнік для настаўнікаў і вучняў старэйшых класаў / Склад. В.М.Фамін, В.Ф.Кушнер, Н.М.Ганушчанка. Мінск, 1991.

Вышэйзгаданая перадавая роля беларускіх археолагаў ды этнографаў ні ў якім разе не была выкліканая толькі курапацкімі знаходкамі ды іх станоўчай навуковай ацэнкай з боку прафесара археалогіі Г.Штыхава. У чэрвеньскім за 1990 г. нумары агульнасаюзнага часопіса „Советская этнография" І.У.Чаквін і П.У.Церашковіч апублікавалі артыкул пра „фармаванне нацыянальнай свядомасці беларусаў у часе ад XIV да пачатку XX ст."[83]. У той час як рост „этнічнай (данацыянальнай)", а ўрэшце і „нацыянальнай ідэнтычнасці беларускага народа" быў тут цесна счэплены (verklammert) з працэсам неаднаразовых зменаў назоваў „беларусаў", штатныя мінскія гісторыкі ў 1988 г. няўпэўнена разважалі напачатку пра „сацыялістычную нацыянальную свядомасць", якая магла б паспрыяць падвышэнню аўтарытэту гістарычнай навукі сярод „грамадзян, патрыётаў і інтэрнацыяналістаў"[84].

Час пераломуі „нацыянальнага Рэнесансу" для падсавецкай гістарыяграфіі мусіў выглядаць крызісным. Уладзімір Міхнюк, аўтар апублікаванай у 1986 г. працы пра гісторыяпісанне БССР дваццатых і трыццатых гадоў і навуковы кіраўнік адпаведных дысертацыяў, у 1988 г. бачыў „крызіс даверу да гістарычнай навукі". За гэтым, вядома ж, перадусім стаяла ўспрыманне крызісу традыцыйнай савецкай гістарычнай версіі, якая апынулася пад пагрозай развалу. Адначасова 1988 год паставіў пытанне пра становішча ўласна самой навуковай галіны. Раптоўна пачуліся нараканні, што да гэтага часу сярод гісторыкаў быў толькі адзін правадзейны член (І.М.Ігнаценка) і чатыры члены-карэспандэнты АН БССР. Цяпер сталі выказвацца крытычныя заўвагі наконт таго, што маскоўскія акадэмікі нярэдка атрымоўвалі ў два разы болей, чым тыя 350 рублёў заробку іх калегаў у Мінску. У астатнім, маўляў, для масавага чытача не пісалася добрых кніжак гістарычнага зместу, а толькі ствараліся кандыдацкія і доктарскія дысертацыі. Апошнія меліся служыць адной мэце — зарабляць грошы і як найхутчэй дамагчыся сабе пенсіі[85].

Дваістасць выкладак Міхнюка мела паралель у змене кіраўніцтва ІГ АН БССР, што адбылася ў 1988 г. Прыход на пасаду дырэктара тады 48-гадовага гісторыка падсавецкага перыяду і колішняга супрацоўніка Інстытута гісторыі партыі пры ЦК Міхася Касцюка меўся распачаць змену генерацыяў у акадэмічнай гуманітарнай навуцы і, тым самым, упісацца ў рэфарматарскі энтузіязм „перестройки", якая тады яшчэ знаходзілася на ўздыме. Разам з тым, у той час ніхто не мог заняць гэткую пасаду, не сутыкаючыся з праціўнікамі ды крытыкамі[86]. Фактам было тое, што выбар Касцюка адлюстроўваў тагачасную агульную сітуацыю ў

[83] Чаквин И.В., Терешкович П.В. Из истории становления национального самосознания белорусов (XIV— начало XX в.) // Советская этнография. 1990. № 6. С.42—54.

[84] Михнюк В. По дороге и на обочине (op. cit.). С.71.

[85] Тамсама, с.66 і наст.

[86] Галоўныя кваліфікацыйныя працы тагачаснага дырэктара Інстытута мелі тэматычна блізкі змест: Трудовая активность колхозного крестьянства Белоруссии в период победы и упрочения социализма (1933—1940 г.). Канд. дисс. Мінск: ООН АН БССР, 1969; Деятельность Компартии Белоруссии по идейно-политическому воспитанию крестьянства в период строительства социализма. Докт дисс. Мінск: ИИП ЦК КПБ, 1979; Социалистические ценности тружеников села: история, современность, перспективы. Мінск, 1989.

гуманітарных навуках і павінен быць зразуметы як запаволеная змена мыслення. Менавіта пад дырэктарствам Касцюка беларуская мова зрабілася прыярытэтнай працоўнай мовай зносін у Інстытуце.

З гледзішча ацэнкі дыскусіяў па праблемных пытаннях беларускай гісторыі, што распачаліся ўлетку 1988 г. і вяліся публічна, не можа быць гаворкі пра адставанне правінцыі ад цэнтра. У Беларусі 1988 год таксама стаў годам новага асэнсавання і самакрытыкі; таксама тут прафесійныя гісторыкі пачалі засвойваць „на сімпозіумах, канферэнцыях і пад час круглых сталоў непрыхарошаную мову“ і „звыкацца са спрэчкамі і палемікай“[87]. Маналіты думак пачалі распадацца і ў Мінску. Побач з заклікамі літаратараў, гісторыкаў тут падштурхоўвалі да змены ранейшых перакананняў і да дзеяння далёкасяжныя наступствы чарнобыльскай катастрофы ды чарапы, выкапаныя ў Курапатах. Гісторыя спачатку ў Беларусі палітызавалася сама. Як бы само сабою ў цэнтр увагі разам з рухам Народнага Фронту трапялі перадгісторыя БССР, польска–савецкія дачыненні міжваеннага часу ды раннесавецкая нацыянальная палітыка. У гэткай меры можна параўнаць беларускія дэбаты адносна мінулага з адпаведнымі дыскусіямі, што мелі месца ў Прыбалтыцы альбо ва Украіне. Вырашальнае адрозненне, відаць, можна ўбачыць у тым, што тут прайшло больш, чым дзе–кольвечы, часу, перш чым традыцыйная гістарычная навука здолела сцвердзіць сябе як носьбіт ідэалогіі. Прыклад гатоўнасці мінскіх гісторыкаў да вядзення дыскусіі быў прадэманстраваны ў выпадку апублікаваных 29 жніўня 1988 г. у тыднёвіку „Літаратура і мастацтва“ матэрыялаў круглага стала і надрукаванага тамсама артыкула тады 66–гадовага гісторыка літаратуры Уладзіміра Калесніка[88]. Нагодай былі 70–я ўгодкі заснавання БССР і КПБ. Ведучы дэбаты вакол апублікаванай у 1985 г. кнігі Мікалая Сташкевіча пра „крушение антисоветского движения в Белоруссии“ ў 1917—1925 г., супрацоўнікі Інстытута гісторыі партыі, гістарычнага факультэта БДУ ці ІГ АН БССР яшчэ не дапускалі выказванняў у духу нацыянальна–гістарычнай літаратуры, што стваралася той парою. Бальшыня па–ранейшаму глядзела на дзеячаў БНР 1918 г. як на „ворагаў Савецкай улады“ і адмаўляла саму БНР як хоць бы якую форму беларускай дзяржаўнасці. З асалодай цытаваўся адкрыты ліст Ластоўскага ў часопіс „Эхо“ за 1924 г., у якім ён называў беларусаў прыналежнымі да „арыйскай расы“, а вялікарасійцаў — „моўна–славянізаванымі манголамі“; з гэтага рабілася выснова, нібыта беларускі вызвольны рух заўсёды меў „нацыянальна–расавы характар“[89]. Робячы асцярожныя заўвагі пра „культ Сталіна“, „валюнтарызм Хрушчова“ ды „перыяд застою ад Брэжнева да Чарненкі“, удзельнікі дыскусіі адначасова знаходзіліся на вышыні навукова–гістарычных дэбатаў, што адбываліся тады ў Маскве, Ленінгра-

[87] Гэта падкрэслівае Гаер — гл.: Geyer, Dietrich. Perestrojka in der sowjetischen Geschichtswissenschaft // Geyer, Dietrich (рэд.). Die Umwertung der sowjetischen Geschichte... (op. cit.). С.9—31.

[88] Калеснік Уладзімір. „Толькі праўда“ ці толькі догма? Яшчэ раз да пытання аб так званых „нацдэмах“ // ЛіМ,29.08.1988. С.5—11, а таксама: „І паўстала Беларусь савецкая...“ На парадку дня „круглага стала“ гісторыкаў — вырашэнне нацыянальнага пытання ў Беларусі — гл.: Тамсама.

[89] Цытуецца паводле: Тамсама, с.9.

дзе, Кіеве. Гэта самае можна было аднесці да „адыходу ад сталінісцкіх схемаў", што ўжываліся гістарыяграфіяй „пры ацэнцы нацыянальна-вызваленчай барацьбы прыгнечаных народаў Расіі".

Да гэтага набліжалася іншая рэакцыя ў новай трактоўцы гісторыі і ацэнцы датыхчасовай гістарыяграфіі: аўтары, што аргументавалі свае высновы з радыкальна-марксісцкіх пазіцыяў, хаваліся за дакладна адпаведнымі Марксу альбо Леніну спробамі тлумачэння тых ці іншых з'яваў і характарызавалі сталіншчыну як „прыклад усходняй дэспатыі". Апошняя, маўляў, гэтак хутка здолела знайсці апірышча ў падсавецкім грамадстве таму, што „яна адпавядала звычкам, а таксама навыкам мыслення і дзеяння шматмільённых масаў, якія ўзгадоўваліся ў атмасферы патэрналісцкіх стасункаў, уласцівай грамадствам усходняга тыпу"[90]. Выснова, якую ў той час зрабіла расчараваная дзяржаўная інтэлігенцыя амаль ва ўсіх краінах Еўропы, што знаходзіліся ў стане трансфармацыі, палягала ў шчырым і гэткім самым наіўным перакананні, нібыта сацыялізм у разуменні Маркса і Энгельса ніколі да таго часу не існаваў. У дыскусіях, што мелі месца ў падсавецкай, у т.л. у беларускай, гістарыяграфіі ў 1988—1990/91 г., пераважала крытыка Сталіна як асобы і сталінізму — як спосабу выяўлення яго індывідуальных якасцяў ды ўладных інтарэсаў; прычым закіды ў адрас Троцкага збольшага таксама захоўваліся. Да дэфініцыяў расійскага ваеннага гісторыка Дзмітрыя Валкагонава далучаліся таксама беларускія гісторыкі ды філосафы[91].

Патавая сітуацыя пад націскам хуткай палярызацыі гістарычнай навукі вытрывала нядоўга. Паўтаны гучалі ўсё радзей і радзей. Як і даўней, цяпер трэба было выказваць свае погляды і далучацца да аднаго альбо другога боку. Тагачасны дэкан гістарычнага факультэта БДУ Э.М.Загарульскі, чыя напісаная ў 60-я г. кніга пра ўзнікненне Менска, безумоўна, належыць да таго найлепшага, што было ў той час створана беларускай падсавецкай гістарычнай навукай, таксама пад час „круглага стала" 1988 г. шукаў кампраміснай фармулёўкі:

> „Трэба прытрымлівацца класавых ацэнак гістарычных з'яў. Разам з тым мы павінны адмовіцца ад заганнай практыкі навешвання ярлыкоў дзеячам мінулага і вярнуць гісторыі імёны тых, хто сумленна служыў свайму народу, унёс свой уклад у станаўленне нашай дзяржаўнасці, навукі, культуры"[92].

У далейшым у гэтым раздзеле мы будзем займацца ажылай нацыянальнай гістарыяграфіяй, яе палітычнымі варункамі існавання і сутыкненнямі з неасавецкім разуменнем гісторыі ў Беларусі ў другой палове 1990-х г.

[90] Юрис Т. Социализм — наше настоящее или будущее? // КБ. 1991. № 5. С.38—42. Рэдакцыя часопіса палічыла абавязковым змясціць да артыкула прыпіску наступнага зместу: „У гэтым артыкуле падаецца нетрадыцыйны погляд на праблему. І хоць мы яго падзяляем не ва ўсім, гледзішча і думкі аўтара прасякнутыя вартымі ўдзячнасці намаганнямі скіраваць сацыялізм у нармальнае рэчышча, каб ён як найхутчэй здолеў выявіць свае гуманістычныя рысы" — гл.: Тамсама, с.42.

[91] Wolkogonow, Dimitri. Stalin. Triumph und Tragödie. Düsseldorf, 1989. У якасці прыкладу можна прывесці дзвюхчасткавы артыкул філосафа М.Капусціна: Капустин М. О прошлом — ради будущего // КБ. 1989. № 4,5.

[92] „І паўстала Беларусь савецкая..." (op. cit.). С.11.

# 2. Гістарычная палітыка у часы Аляксандра Лукашэнкі

Гэтак, як кароткую фазу незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі часам называюць „міжвольным дарункам Расійскай рэвалюцыі" („unsolicited gift of the Russian Revolution")[93], абвяшчэнне незалежнасці Беларусі было беспасярэднім вынікам маскоўскага путчу жніўня 1991 г. Яе не патрабавалі на вуліцах, як гэта было ў Прыбалтыцы; яна не была легітымізаваная народным волевыяўленнем, як ва Ўкраіне. Напачатку дзяржаўная самастойнасць значыла страту традыцыйнай, не абмежаванай толькі падсавецкім часам пільнай апекі з боку Масквы ў палітычнай, эканамічнай і сацыякультурнай сферы. Гэтак як і ў іншых дзяржавах Сярэдняй і Ўсходняй Еўропы, у Беларусі таксама пачалася эпоха пераходных палітыкаў, якія прыходзілі з другога альбо трэцяга эшалонаў партыйнай наменклатуры, пасля непрыкметнай універсітэцкай кар'еры, альбо — як у выпадку з Аляксандрам Лукашэнкам — з вёскі[94]. Калі не браць пад увагу пастаянных зменаў ва ўрадзе, на ўзроўні ніжэйпастаўленых функцыянераў, а таксама ў сілавых структурах, якой-кольвечы значнай змены элітаў не адбылося. Пасля гадоў перманентнага крызісу сёння стала відавочным, што стварэнне дзяржавы гамуецца альбо зусім перапыняецца, усё яшчэ несучы на сабе гістарычныя, ментальныя, юрыдычныя, структурныя ды персанальныя баласты. Ані ў эканамічнай, ані ў інстытуцыянальна-палітычнай сферы дагэтуль не адбылося якіх-небудзь істотных рэформаў. Калі да сярэдзіны 90-х г. пераважаў усё яшчэ нявысветлены падзел кампетэнцыяў паміж урадам, Вярхоўным Саветам і прэзідэнтам, дык пасля таго неабходныя рэформы не адбыліся праз імкненне Лукашэнкі да рэстаўрацыі аўтарытарызму.

Лукашэнка, 10 ліпеня 1994 г. вялікай перавагай галасоў абраны першым прэзідэнтам краіны, на пачатку свайго знаходжання на гэтай пасадзе гаварыў

[93] Vakar, Nicholas P. Belorussia. The Making of a Nation. A Case Study. Cambridge, MA., 1956. C.105.

[94] Пасля партыйнага функцыянера Мікалая Дземянцея ў 1991 г. старшынём, альбо „спікерам", Вярхоўнага Савета быў выбраны беспартыйны фізік Станіслаў Шушкевіч. Пасля палацавага перавароту, учыненага кансерватыўнай бальшынёй парламента, нешчасьлівы ліберальны палітык у студзені 1994 г. быў пазбаўлены пасады. Яго месца заняў Мечаслаў Грыб, напачатку малаабазнаны дзеяч з колішняй партыйнай кагорты, які паказаў сваё аблічча толькі пад час парламенцкага крызісу 1995 г. і ў сутыкненнях з Аляксандрам Лукашэнкам. З новаабраннем беларускага парламента — калі папярэдні фармальна праіснаваў да 10 студзеня 1996 г., трапіўшы далёка ў постсавецкую эпоху — Сямён Шарэцкі, старшыня Аграрнай партыі, змяніў Мечаслава Грыба на пасадзе старшыні Вярхоўнага Савета. Дзеяч са старой партыйнай эпохі Вячаслаў Кебіч — які з 1990 г. займаў пост прэм'ер-міністра і чыя кар'ера спынілася ў выніку з'ініцыяваных ім жа самім прэзідэнцкіх выбараў да прыходу да ўлады Аляксандра Лукашэнкі — быў зменены эканамістам Міхалам Чыгіром. Апошні, у звязку са спрэчным лукашэнкаўскім рэферэндумам у лістападзе 1996 г. пайшоў у адстаўку і быў заменены былым віцэ-прэм'ерам у пытаннях фінансаў, працы і антыманапольнай палітыкі Сяргеем Лінгам.

пра „крызіс улады", што нібыта вынікала з існавання дзвюх уладных групаў на чале дзяржавы. З ліквідацыяй больш-менш дэмакратычна абранага ў 1995 г. парламента (Вярхоўнага Савета) і скліканнем марыянеткавага Нацыянальнага Сходу на мяжы 1997/98 г. з абедзвюх уладных групаў засталася існаваць толькі адна. З таго часу Лукашэнка — у адпаведнасці з курсам свайго ўрада на здамінаваны дзяржаўнай эканомікай „рыначны сацыялізм", на інтэграцыю ўнутры СНД, па-паліцэйску абыходзячыся з апазіцыяй[95] і атрымаўшы ўяўную легітымізацыю праз два рэферэндумы — цвёрдай рукой ствараў у краіне прэзідэнцкае самаўладства, для якога непрымальнымі былі хоць якія дзяржаўна-праўныя абмежаванні. Канстытуцыйны суд ад самага пачатку не меў магчымасці якога-кольвечы самастойнага дзеяння, пасля таго як у 1995 і 1996 г. ім неаднаразова рабіліся спробы законным чынам асудзіць прэзідэнцкую палітыку. Сама канстытуцыя з таго часу заўсёды змянялася тады, калі яна пачынала перашкаджаць прэзідэнту зрабіць чарговы шахматны ход. У тэксце канстытуцыі ўзору 1996 г., у параўнанні з усяго на два гады старэйшым тэкстам канстытуцыі 1994 г., можна было выразна ўбачыць, што ранейшыя спрэчныя моманты адносна падзелу ўлады змяніліся на адзінаўладдзе прэзідэнта. Заканадаўцы і юрысты, якім у 1994—1996 г. Станіслаў Багданкевіч, Станіслаў Шушкевіч, Віктар Ганчар, Валеры Ціхіня ды інш. пачалі прышчапляць дзяржаўна-праўнае мысленне, да 1997 г. трапілі ў поўную залежнасць ад прэзідэнта. Насельніцтва ў сваёй большыні з часу выбару кіраўніка дзяржавы так ці йначай падтрымлівала яго палітыку. Дарагі ва ўтрыманні прапагандысцкі апарат забяспечваў гэтую падтрымку, перадусім сярод вясковага насельніцтва.

У гэтай працы не месца падрабязна гаварыць пра галоўных дзейных асобаў палітыкі перыяду крызісу з часу атрымання Беларуссю незалежнасці альбо абмалёўваць гісторыю падзеяў 1991—1998 г.[96]. Замест гэтага надалей на прыкладзе

[95] Параўн. прамову Лукашэнкі перад супрацоўнікамі органаў бяспекі — гл.: Советская Белоруссия, 25.11.1995. С.1.

[96] Мы не будзем далей спыняцца на гэтым пытанні і спашлёмся на нашы сінтэтычныя працы: Lindner, Rainer. Innen- und außenpolitische Bedingungen des Systemwechsels in Ukraine und Belarus // Aussenpolitik 46 (1995) 4. С.365—375; больш падрабязна ў: *Яго ж.* Systemwechsel und Staatsbildung in Belarus' und Ukraine. Historische Voraussetzungen, aktuelle Probleme, neue Akteure (Stiftung Wissenschaftspolitik). Ebenhausen, 1995. С.9—38; *Яго ж.* Präsidialdiktatur in Weißrußland. Wirtschaft, Politik und Gesellschaft unter Lukaschenka // Osteuropa 47 (1997) 10/11. С.1038—1152. Акрамя таго: Burant, Stephen R. Foreign Policy and National Identity: A Comparison of Ukraine and Belarus // Europe-Asia-Studies 47 (1995) 7. С.1125—1144. Комплексны аналіз палітычнай сістэмы ў Беларусі можна знайсці ў: Zaiko, Leonid. Elite Groups in the Republic of Belarus // Segbers K., De Spiegeleire S. Post-Soviet Puzzles. Mapping the Political Economy of the former Soviet Union. Baden-Baden, 1996, Vol.3: Emerging Societal Actors — Economic, Social and Political Interests. Theories, Methods and Case Studies. С.243—302; Zagorul'skaya, Olga. The System of Interest Representation in the Republic of Belarus // Тамсама, с.657—683; Bugrova, Irina. Political Actors and Channels of Interest Articulation in the Republic of Belarus // Тамсама, с.685—707; адносна сацыяльнага і нацыянальнага аспекту гл.: Makarov, Anatolii. Social Sratification of Belarusian Society: Situation and Tendencies of Development // Тамсама, vol.4: The Emancipation of the Society as a Reaction to Systemic Change: Survival, Adaption to New Rules and Ethnopolitical Conflicts. С.61—79; Chakvin I., Novogrodskii T. Present-Day

чатырох аспірантаў, атрымаў найважнейшыя палітычныя імпульсы пад час сваіх „палявых лекцыяў“, чытаных перад салдатамі розных вайсковых злучэнняў. Перад тым як Пічэта вярнуўся ў Маскву, Сярэднеазіяцкая вайсковая акруга за праведзеную асветніцкую працу ў войсках узнагародзіла яго ганаровай граматай. 8 жніўня 1943 г. ён натхнёна пісаў сваёй акадэмічнай вучаніцы І.М.Бляўскай:

„Я кажу Вам адкрыта, што адчуваю такую радасць пры сустрэчах з чырвонаармейцамі, якую, мажліва, адчувае маці, калі яе дзеці пасля доўгай адсутнасці вяртаюцца дадому. Мне робіць задавальнение, калі я бачу, што нечым быў карысны нашым ваярам“[25].

У парыве патрыятычнага натхнення з прычыны выйгранай вайны, адчуваючы ўзмацненне палітычнага ціску напярэдадні выбараў яго на сапраўднага члена Акадэміі навук СССР, у 1946 г., за год да сваёй смерці, Пічэта яшчэ наважыўся ўступіць у партыю. У адрозненне ад Тарле, які з часоў выхаду ягонага „Напалеона“ займеў крытычную прыхільнасць Сталіна, для Пічэты названы крок, відавочна, быў непазбежны. Пасля выхаду з высылкі Пічэта, ужо з Масквы, узнавіў навуковыя повязі з Менскам. Пад яго кіраўніцтвам на пачатку 40-х г. павінна была выйсці першая марксісцкая сінтэтычная праца па беларускай гісторыі. Выдадзены першы том быў знішчаны ў час нападу нямецкіх войскаў[26]. І пад час вайны ягоная праца трывала знаходзіла сваё месца ў планах Інстытута гісторыі Акадэміі навук. Гэтак, у 1944 і 1945 г. ён удзельнічаў у апрацаванні „Кароткай гісторыі БССР з найстаражытнейшых часоў да нашага часу“ і кіраваў аўтарскім калектывам, да якога належалі гісторыкі Бачкароў, Панкратава, Шакун і Лозава. Толькі ў 1946 г., незадоўга да яго смерці, яго імя знікла з рабочых планаў Інстытута гісторыі. Значных вынікаў яго праца ўжо не дала[27].

Калі ў Маскве Пічэта вярнуў сабе ранейшыя ўшанаванні ды павагу, дык у Мінску ён заставаўся спрэчнай фігурай. Яшчэ ў 1945 г. спасылкі на яго маглі выклікаць праблемы. Гэтак, Ц.Ломцеў, кіраўнік партыйных школаў, у звароце на імя першага сакратара ЦК КП(б)Б П.К.Панамарэнкі (займаў гэтую пасаду ў 1938—1947 г.) выказваў сваю незадаволенасць з тае прычыны, што рэктар БДУ

[25] Цытуецца паводле: Мельцер Д.Б. Академик Владимир Иванович Пичета // Владимир Иванович Пичета. Библиографический указатель (изд. Фундаментальной библиотеки БГУ). Мінск, 1978. С.16 і наст.

[26] Увесь наклад загінуў. Параўн.: Пичета В.И. История Белоруссии в советской историографии // Двадцать пять лет исторической навуки в СССР / Под ред. В.П.Волгина, Е.В.Тарле, А.М.Панкратовой (изд. ИИАН СССР). Москва—Ленинград, 1942. С.179—188, у гэтым выпадку с.180.

[27] Пасмяротна ў 1961 г. была апублікаваная праца Пічэты „Культура Беларусі ў XVI стагоддзі“. Хоць дата напісання працы не ўказаная, яна, відавочна, належыць да перыяду пасля 1935 г. і магла б разглядацца як незавершаная частка вялікай працы, якая была заяўленая ў тэматычным плане працы АН БССР пад назвай „Гісторыя беларускай культуры ў XVI і XVII стагоддзях“, а ў 1947 г. была згаданая як „не распрацаваная“, у кожным разе, аднак, не апублікаваная. Упершыню надрукавана як: Пичета В.И. Культура Белоруссии в XVI в. // *Яго ж.* Белоруссия и Литва XV—XVI вв. Исследования по истории социально-экономического, политического и культурного развития. Москва, 1961. С.633—714.

Гістарызацыя палітыкі і публічнага жыцця адбывалася ў той самай меры, у якой палітызавалася сама гістарычная навука. Гэтак, Старшыня Вярхоўнага Савета Станіслаў Шушкевіч у сваёй прамове з нагоды трэцяй гадавіны прыняцця Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце ў падобны спосаб шукаў гістарычных паралеляў, як гэта рабіў праз два гады пасля таго новы прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка з выпадку 50-х угодкаў заканчэння вайны. У той час калі Шушкевіч яшчэ папярэджваў, што сучаснае грамадства не можа фармавацца паводле таго альбо іншага ўзору мінуўшчыны і што не трэба змешваць урокі гісторыі з канкрэтнымі сённяшнімі дачыненнямі з дэмакратычнымі суседзямі, высновы Лукашэнкі не пакідалі аніякага сумневу ў тым, што для новай уладнай эліты прызначаліся новыя палітычныя мэты ды іншае бачанне гісторыі[99]. У сваёй датыхчасовай дзейнасці на пасадзе прэзідэнта Лукашэнка ніколі не адмаўляўся ад спробаў адвесці разуменне і культуру гісторыі ад курсу на нацыянальнае адраджэнне і вярнуць іх да аджылых гістарычных каштоўнасцяў падсавецкага грамадства. Гэта датычыла не толькі новаўвядзення дзяржаўнай сімволікі ці разумення дзяржаўнага свята, адмаўлення ад беларускай мовы як адзінай дзяржаўнай, узноўленай на практыцы сервільнасці ў дачыненнях з Расіяй, але і рэтраграднага ўзвядзення паклёпу на апазіцыю Народнага Фронту, прывязвання яе да калабарантаў нямецкіх акупацыйных уладаў часоў вайны. Пра беспасярэдняе ўмяшанне Лукашэнкі ў адукацыйную, навуковую і публікацыйную палітыку гаворка пойдзе ніжэй.

20 ліпеня 1994 г. прэзідэнт Лукашэнка на спецыяльным паседжанні парламента прынёс прысягу краіне і свайму народу. Сваю кароткую прамову ён пачаў са словаў Аўрама Лінкальна: сапраўдная дэмакратыя ёсць заўсёды ўладай народа — з народа і для народа. Трымаючыся гэтага прынцыпу, ён, прэзідэнт, маўляў, адчувае свой абавязак быць „гарантам правоў і свабод усіх грамадзян Беларусі, незалежна ад узросту, партыйнай альбо рэлігійнай прыналежнасці і нацыянальнасці". Адзінай дыктатурай, якую ён сабе ўяўляе, мелася быць „дыктатура закону": „Перад законам, перад нашай канстытуцыяй павінны быць усе роўныя — ад школьніка да прэзідэнта. Абраны народам Беларусі прэзідэнт таксама будзе гарантам беларускай дзяржаўнасці. У нас не маецца аніякіх прэтэнзіяў на якія-кольвечы тэрыторыі — незалежна ад таго, каму яны раней належалі. Найвялікшае багацце Беларусі — гэта яе народ"[100].

З рознай ступенню інтэнсіўнасці Лукашэнка з часу свайго прыходу да ўлады выступаў за рэінтэграцыю краін у межах усходнеславянскага трохкутніка Расія—Украіна—Беларусь і педаляваў стварэнне саюза з Расіяй, заключэнне якога мела месца ў пачатку траўня 1997 г.[101]. Ужо ў 1995 г. ён не пакінуў аніякага сумневу ў тым, што ў дачыненнях з „вялікім усходнім суседам Расіяй" на шляху „да новага

[99] Мы прыйдзем да Беларусі! Выступленне Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіслава Шушкевіча па Беларускім тэлебачанні і радыё 27 ліпеня 1993 г. // НГ, 29.07.1993. С.1.

[100] Цытуецца паводле: Lindner, Rainer. Systemwechsel und Staatsbildung in Belarus' und Ukraine... (op. cit.). С.19 і наст.

[101] Падрабязна гл. у: Lindner, Rainer. Präsidialdiktatur in Weißrußland... (op. cit.).

славянскага адзінства“ дасягнуты новы ўзровень[102]. Збліжэнне з Расіяй, побач з умацаваннем сваіх уласных пазіцыяў пры ўладзе, было найважнейшым матывам правядзення лукашэнкаўскага рэферэндуму, што быў зарганізаваны 14 траўня 1995 г. Ураўнанне расійскай мовы ў правах з датыхчасовай дзяржаўнай беларускай мовай (83,1% падтрымкі), разам з вырашэннем пытання пра эканамічную інтэграцыю з Расіяй (82,4% галасоў „за“), належалі да комплекснай праграмы збліжэння з Расіяй. Замена датыхчасовых герба і сцяга БССРаўскай сімволікай, з якой былі прыбраныя серп і молат (75,0% падтрымкі) і наданне прэзідэнту паўнамоцтваў распускаць парламент у выпадку супярэчнасці яго дзейнасці з канстытуцыяй, аднак, служылі мэце павышэння ўласных уладных паўнамоцтваў прэзідэнта; гэта было б немагчымым без сімвалічнага вяртання да савецкіх часоў[103].

Прыняты ў 1990 г. папярэднім складам Вярхоўнага Савета „Закон аб мовах у БССР“[104] таксама быў абвешчаны нядзейным праз гэты рэферэндум 1995 г., вынікі якога з дзяржаўна-праўнага гледзішча наўрад ці могуць быць прызнаныя. Тыя спадзевы, што беларускія інтэлектуалы звязвалі з прызнаннем у 1990 г. беларускай мовы ў якасці дзяржаўнай, прынамсі, цяпер выявіліся незрэалізаванымі. Што праўда, пяцігадовае захаванне за беларускай мовай статусу адзінай афіцыйнай не надало, па-за сярэдняй ці вышэйшай школай альбо тэатрам, вялікага імпульсу ва ўмацаванні нацыянальнай самасвядомасці беларусаў. Тым не менш, за гэты час вялікая частка публічнага жыцця перанастроілася на ўжыванне беларускай мовы. У беларускіх інтэлектуалаў закон аб мовах 1990 г. падтрымліваў баявую самасвядомасць канца 80-х г., згодна з якой беларусы не ўяўляліся „манкуртамі“ і меліся „не дазволіць нікому знішчыць сваю нацыянальную мову“[105]. Рэферэндум, праведзены ў траўні 1995 г., разбурыў гэтыя ілюзіі. Артыкул 17 праекта новай канстытуцыі 1996 г., згодна з якім сілу закона мелася набыць адназначная і, разам з тым, заблытаная фармулёўка, выклікала альбо і загадзя справакавала жорсткую рэакцыю з боку беларускіх філолагаў, пісьмен-

[102] Выступление Президента Республики Беларусь А.Г.Лукашенко на торжественном собрании, посвященном 50-летию Победы в Великой Отечественной войне // Советская Белоруссия, 11.05.1995. С.1—2, у гэтым выпадку с.2.

[103] Рэспубліка, 16.05.1995. С.1. Падрабязны аналіз гл. у: Neue Zürcher Zeitung, 16.05.1995. С.2.

[104] Закон Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі аб мовах у Беларускай ССР. Прыняты на чатырнаццатай сесіі Вярхоўнага Савета Беларускай ССР адзінаццатага склікання 26 студзеня 1990 г. Мінск, 1990. С.4. Пра моўную палітыку ў Беларусі ў гісторыі і сучаснасці параўн., сярод апошніх працаў: Bieder, Herrmann. Zur Diskriminierung der weißrussischen Sprache in der Republik Weißrußland // Die Slawischen Sprachen 50 (1996). С.67—125. Калі паспрабаваць паказаць выцясненне беларускай мовы на канкрэтных прыкладах, занепакоенасць нацыянальнай інтэлігенцыі здаецца зусім абгрунтаванай: у 1994—1997 г. у Гродне колькасць беларускамоўных школаў зменшылася з 27 да адной-адзінай. Акрамя таго, тут працуюць 10 расійскамоўных, адна польскамоўная і 24 беларуска-расійскамоўныя сярэднія школы. Настаўнікі беларускай мовы, тым часам, амаль што не бачаць будучыні. Параўн.: Талерчык Тамара. Адраджэнне і знішчэнне беларускага школьніцтва ў Гродне // Народная воля, 13.05.1997. С.1.

[105] Лыч Леанід. Мы, беларусы — не манкурты і нікому не дазволім знішчыць нашу родную мову // НГ, 26.07.1994. С.3.

нікаў ды гісторыкаў: „Дзяржаўнай мовай Рэспублікі Беларусь з'яўляецца беларуская мова. Руская мова мае такі самы статус, як і беларуская мова"[106]. [У канчатковай фармулёўцы канстытуцыі ўзору 1996 г. запісана: „Дзяржаўнымі мовамі Рэспублікі Беларусь з'яўляюцца беларуская і расійская мовы". — *Заўвага перакладчыка*].

Каляндар святкавання афіцыйных святаў таксама неўзабаве быў падпарадкаваны іншым прынцыпам і ўжо неаднаразова выкарыстоўваўся дзеля ментальнага забеспячэння рэалізацыі пэўных палітычных мэтаў. Вось прыклад: правядзенне парламенцкіх выбараў і рэферэндуму 1995 г. — менш як праз тыдзень пасля адсвяткаваных у традыцыйны спосаб і са значнымі грашовымі выплатамі ветэранам вайны пяцідзесятымі ўгодкамі заканчэння вайны — давав магчымасць увязаць надзённы палітычны інтарэс з поўнымі эмоцыяў гістарычнымі ўспамінамі. Сімвалічная моц Дня перамогі ў дзень выбараў мусіла выліцца ў галасы падтрымкі курсу прэзідэнта. Урачыстасці, што, гэтаксама як і ў іншых сталіцах рэспублік СНД, адбываліся з 7 да 9 траўня, адраджалі мемарыяльную культуру колішняга Савецкага Саюзу. Адказныя палітыкі ў Маскве хацелі скарыстаць „Дзень перамогі" дзеля ажыўлення прэтэнзіяў на страчанае ўладаранне, а таксама дзеля саматэрапіі сваёй пахіснутай унутранымі крызісамі і праблемамі ў вонкавых зносінах імперскай ідэнтычнасці. Сабе самім, скептычнай і апатычнай публіцы ў краіне, а таксама замежжу быў прадэманстраваны гістарычны юбілей, які, з аднаго боку, зусім правамерна, ва ўрачыстым жалобным акце мог нагадаць пра ахвяры і страты, але, з іншага боку, меўся эфектыўна паспрыяць утварэнню далейшых палітычных міфаў. Гістарычная лінія, праведзеная ад Аляксандра Неўскага праз антынапалеонаўскую вайну Суворава да сталінскай Чырвонай арміі на чале з Жукавым, дамінуе ў ансамблі памятных месцаў — гэтаксама як палкія апісанні расійскай нацыянальна-імперскай гісторыі „акрыляюць" новыя „Гісторыі Расіі".

У атмасферы цынічнага і непрыхаванага замазвання „супярэчнасці паміж прыватнай нэндзай і афіцыйным пафасам" (Гаер) у гэтыя дні ў Беларусі таксама ўзгадвалася веліч пацярпелага крах Саюза, магутнасць зброі і дачыненні з Расіяй, якім быццам бы існуе пагроза[107]. Лукашэнку пры гэтым спадабалася ўласная роля прадаўжальніка савецкай гісторыі. У той самы час, старшыня альтэрнатыўнага апазіцыйнага камітэта святкаванняў Васіль Быкаў выразна паказаў усім, што ўсхвальваныя афіцыйнай юбілейнай рыторыкай пакаленні ветэранаў цяпер сталі „бяспраўнымі жабракамі, з мізэрнаю пенсіяй", адзіным прывілеем якіх засталося бясплатнае карыстанне гарадскім транспартам. У вострапалемічным артыкуле „Горкі смак перамогі" Быкаў, акрамя таго, звярнуў увагу на тое, што

[106] Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь. Праект (са зьмяненнямі і дапаўненнямі) // Голас Радзімы, 19.09.1996. С.3—7.

[107] Параўн. перадусім: Geyer, Dietrich. Erblasten und Erinnerungen. Mittel- und Osteuropa fünfzig Jahre nach der deutschen Kapitulation // Osteuropa 45 (1995) 5. С.395—409, у гэтым выпадку с.405 і наст. Акрамя таго: Sahm, Astrid. Kein politischer Frühling in Belarus. Das Scheitern der Parlamentswahlen im Mai 1995 und die Verselbständigungstendenzen der Exekutive // Osteuropa 45 (1995) 11. С.1021—1033, у гэтым выпадку с.1024 і наст.

гісторыя цывільных ахвяр партызанскага тэрору яшчэ мусіць быць напісаная. Зарганізаванае прэзідэнцкім штабам узнаўленне знакаў падсавецкага свету, з разлікам на „пераважна заснаванае на савецкіх міфах разуменне гісторыі насельніцтвам", у гэты дзень, аднак, паўстрымала БНФ ад таго, каб заклікаць — як гэта было ў 1994 г. — да правядзення супольнай з „Дэмакратычным аб'яднаннем ветэранаў" вялікай альтэрнатыўнай акцыі. Быкаў сказаў усё неабходнае, каб выявіць небяспеку сучаснага палітычнага развіцця, прычым ён толькі з цяжкасцю мог схаваць бяссілле і роспач у шэрагах апазіцыі:

> „Дэфіцыт энерганосьбітаў, вядома, важная справа, але, можа, яшчэ важнейшая — недахоп нацыянальнай волі, якая дэфармавалася ў таталітарнай сістэме, набыла выразны характар сервільнасці, духоўнага канфармізму. Нізкі ўзровень нацыянальнай свядомасці робіць лёгкім і простым уладаранне посткамуністычнай наменклатуры, што звыкла кіруе праз свае органы ўлады, кручкатворныя, антынародныя законы"[108].

Перадрукаваная ўсімі штодзённымі газетамі ўрачыстая прамова Лукашэнкі 8 траўня 1995 г., побач з заклікамі прыняць слушнае рашэнне пад час маючага адбыцца рэферэндуму і ўрадавай заявай пра „беларускую мадэль грамадскага развіцця", утрымоўвала таксама паказ гісторыі з апеляваннем да свету пачуцця савецкага патрыёта. У той час як у паасобных найноўшых працах гістарыяграфіі пра Другую сусветную вайну, між тым, адстойваецца тэза пра багатую на ахвяры грамадзянскую вайну на акупаваных тэрыторыях, 42–гадовы ў той час прэзідэнт здолеў толькі ўзгадаць пра антыфашысцкі партызанскі рух, які з першага да апошняга дня акупацыі вёў змаганне супраць заваёўнікаў і стаў „нашай нацыянальнай гордасцю". Тут, цалкам у духу амбівалентнага партызанскага міфа пасляваеннага дзесяцігоддзя, прэзідэнцкі рэферэнт выкарыстаў камбінаванне нацыянальных і савецка–патрыятычных матываў, каб разблакаваць у калектыўнай памяці вялікіх частак насельніцтва рэзервы новай цярплівасці і новых сілаў. Увесь час маючы на ўвазе здабыццё галасоў на сваім рэферэндуме, Лукашэнка каторы ўжо раз правёў традыцыйную лінію ўвязвання дзейнасці беларускіх калабарантаў пад час Другой сусветнай вайны з дзейнасцю БНФ і рэзка выступіў супраць любых спробаў дыскрэдытацыі партызанскага руху:

> „Ніхто не мае права дыскрэдытаваць перамогу народа. На жаль, апошнім часам нават вядомымі асобамі не раз рабіліся спробы, скіраваныя на гэта. Маўляў, партызанскі рух не меў у ваенным сэнсе вялікага значэння. Увогуле ён інспіраваўся ды кантраляваўся партыйнымі органамі і адкамандзіраванымі ў тыл праціўніка чэкістамі. Ды й нават сотні вёсак былі вынішчаныя немцамі толькі таму, што іх на тое правакавалі партызаны. Пэўныя асобы ўжо нават гатовыя называць прадстаўніка Гітлера ў Беларусі Кубэ інтэлектуалам, калі не дэмакратам, які быццам бы намагаўся адраджаць беларускую культуру"[109].

[108] Быкаў Васіль. Горкі смак перамогі (травень 1995 г.). Тут цытуецца паводле: Быкаў В. Крыжовы шлях. Мінск, 1998. С.244.

[109] Лукашенко А.Г. Выступление Президента Республики Беларусь А.Г.Лукашенко на торжественном собрании, посвященном 50–летию Победы в Великой Отечественной войне // Советская Белоруссия, 11.05.1995. С.1—2, у гэтым выпадку с.1.

Гэтыя ды іншыя заўвагі Лукашэнкі былі скіраваныя не толькі супраць палітыкаў з Народнага Фронту і яго нацыянальна-незалежніцкага крэда, але і супраць выказванняў кшталту быкаўскага, у т.л. вышэйсфармуляванай тэзы апошняга пра арганізаваную бальшавікамі „грамадзянскую вайну“ ў „Айчыннай вайне“ [Васіль Быкаў у 1989—1999 г. — да свайго выезду за мяжу — таксама належаў да дзейнага палітычнага кіраўніцтва БНФ. — *Заўвага перакладчыка*]. Мішэнню нападаў стала таксама Святлана Алексіевіч, чые проза і публіцыстыка заўсёды ўтрымлівалі крытыку плакатнага адлюстравання вайны ў падсавецкім і постсавецкім грамадстве. Праз колькі месяцаў пасля названых урачыстасцяў яна з жалем зазначала, што „нас гэтак доўга вучылі любіць чалавека са зброяй“ і не рабіць нічога іншага, як „весці войны альбо ўшаноўваць войны“[110]. Вяртаючыся да згаданых святкаванняў, можна зрабіць выснову, што ў Беларусі пад лукашэнкавым наглядам не назіралася новай нацыянальнай апрацоўкі ваеннага міфа. У той час як на моцна пацярпелых ад вайны тэрыторыях Украіны дайшло да „ўкраінізацыі ваеннага міфа“, у Беларусі гэты міф быў рэсаветызаваны[111].

Падзел версіяў гісторыі на нацыянальную і анацыянальную (anational) прывёў да падзелу культуры ўспамінаў і да ўзнікнення асобных юбілейных календароў. З таго часу як прыхільнікі нацыянальнага й антырасійскага разумення гісторыі ўпершыню ў 1994 і 1995 г. ушанавалі перамогу „літоўска-беларускага войска“ пад Оршаю (1514 г.), таксама ў наступныя гады на пачатку верасня па некалькі тысяч людзей маршам праходзілі па вуліцах Мінска. [Першае ўшанаванне ўгодкаў Аршанскай бітвы, насамрэч, адбылося 8 верасня 1992 г. праз публічнае прынццце прысягі найперш вайскоўцамі запасу на мінскай плошчы Незалежнасці. — *Заўвага перакладчыка*]. З нагоды адзначэння 930-х угодкаў г.Менска увесну 1997 г., 2 сакавіка адбылося святочна-пратэставае шэсце з удзелам пяці тысяч чалавек. Пра дзень абвяшчэння незалежнасці БНР на юбілейным шэсці і мітынгу ў сакавіку 1997 г. — за тыдзень да падпісання „Дамовы пра Саюз Беларусі і Расіі“ — пажадала ўзгадаць нашмат больш за 10 000 чалавек. Тут і пры іншых нагодах цеснай повязі гістарычных і надзённа-палітычных матываў адпавядала тое, што мемарыяльныя дэманстрацыі ператвараліся ў мітынгі, скіраваныя супраць Лукашэнкі ды ягонай прарасійскай арыентацыі. Выступоўцы на мітынгах абвінавачвалі прэзідэнта ў тым, што ён, парушаючы канстытуцыю, знішчае самастойнасць і дзяржаўнасць Беларусі[112].

[110] Параўн. два інтэрвію з пісьменніцай: Алексиевич Светлана. „Нас так долго учили любить человека с ружьем“ // Известия, 29.02.1996. С.3, а таксама: *Яе ж.* „Я — не писатель катастроф. Просто жизнь вокруг нас катастрофична до бессмысленности“ // НГ, 13.04.1996 (дадатак). С.7. Дакладна да „51-х угодкаў перамогі“ абураныя партызаны адрэагавалі на выказванні Алексіевіч вельмі рэзка — выступамі пад загалоўкамі кшталту: „Еще одна карательная акция против партизан“ ды „С поклепом согласиться не могу“ — гл.: НГ, 7.05.1996. С.3.

[111] Weiner, Amir. The Making of a Dominant Myth: The Second World War and the Construction of Political Identities within the Soviet Polity // RR 55 (October 1996). С.638—660.

[112] Дамова паміж Беларуссю і Расійскай Федэрацыяй была падпісана 2 красавіка 1997 г. Гл.: Lindner, Rainer. Zwischen Präsidialdiktatur und Integration. Wohin treibt Belarus? (Stiftung Wissenschaft und Politik). Ebenhausen, 1997. С.25 і наст.

Ва ўспрыманні нацыянальных гісторыкаў 1996 год мусіў быць „годам антыбеларускіх юбілеяў“: не толькі таму, што ўсеагульная канфедэрацыя саслоўяў Рэчы Паспалітай якраз 300 гадоў перад тым, 29 жніўня 1696 г., прыняла пастанову, згодна з якой „з гэтага часу ўсе рашэнні павінны складацца на польскай мове“, а яшчэ стагоддзем раней (1596 г.) праз падпісанне Берасцейскай царкоўнай уніі быў аформлены раскол праваслаўнай царквы ў Рэчы Паспалітай. 10–я ўгодкі Чарнобыльскай катастрофы і, перадусім, „першая гадавіна першага рэферэндуму ў гісторыі беларускага народа“, паводле Леаніда Лыча, з гледзішча становішча беларускай мовы, давалі мала нагод радавацца і набліжалі краіну да рысы небяспекі зрабіцца „белай варонай — краінай без уласнай мовы“[113].

Але не толькі каляндар святаў у сярэдзіне 90–х г. вёў да разрыву калектыўнай памяці беларускага грамадства. Нават у напачатку аддаленыя ад гісторыі падзеі надзённай палітыкі ўвесь час убудоўваліся гістарычныя паралелі, праз выкарыстанне якіх палітычныя дзеячы спадзяваліся змабілізаваць насельніцтва ў духу сваіх адпаведных зацікаўленасцяў. Гэтыя намеры перадусім яскрава выявіліся пад час кампаніі парламенцкіх выбараў 1995 г., на авансцэне якой можна было назіраць нефармальнае ўтварэнне блокаў, з аднаго боку, прэзідэнта і кансерватыўных сілаў, з другога боку, дэмакратычнага лагера з Народным Фронтам[114]. Найвышэйшым і адначасна найніжэйшым пунктам перадвыбарнай барацьбы быў дакументальны фільм Юрыя Азаронка з праграмнай назвай „Нянавісць. Дзеці хлусні“, які два разы, 10 і 12 траўня, дэманстраваўся Беларускім тэлебачаннем. У фільме дэмагагічным чынам ачарняўся Беларускі Народны Фронт: гэтая арганізацыя ставілася ў адзін шэраг з беларускімі прафашысцкімі арганізацыямі з часоў нямецкай акупацыі й сучаснымі правымі групоўкамі.

Змантаваныя з выказваннямі старшыні БНФ Пазьняка арыгінальныя кадры ваеннай эпохі нагадвалі савецкую прапаганду самага брыдкага кшталту. Мэтаскіравана, з улікам маючага адбыцца рэферэндуму ў фільме яшчэ раз нагадвалася пра ўжыванне бел–чырвона–белага сцяга і герба „Пагоня“ беларускімі калабарантамі пад час акупацыі ў Другой сусветнай вайне. Стратэгія далейшага дыскрэдытавання апазіцыі праз зманіпуляваны паказ гісторыі насамрэч мусіла даць плён. У выніку травеньскага рэферэндуму Лукашэнка дамогся скасавання беларускай нацыянальнай сімволікі. „Грамадскі камітэт абароны беларускай нацыянальнай сімволікі“, які ўтварыўся ў выніку беспасярэдняй рэакцыі на гэтую падзею, прэцэдэнтаў якой у постсавецкіх трансфармацыйных грамадствах не было, звярнуўся з пранікнёнымі, але беспаспяховымі заклікамі да насельніцтва. Як маглі паўздзейнічаць спасылкі на гістарычныя факты кшталту тых, што „Пагоня“ была ўвогуле адным з найстаражытнейшых еўрапейскіх гербаў і што яшчэ пад час Аршанскай бітвы беларускія сцяганосцы неслі яе паперадзе вайсковых шыхтоў — калі прэзідэнт краіны спадзяваўся, у процівагу нацыянальнай мема-

[113] Лыч Леанід. Трыста гадоў назад беларускай мове ўжо выносілі прысуд... // НГ, 21.02.1996. С.3.

[114] Парламенцкія выбары адбываліся ў тры этапы: 14.05., 28.11. і 10.12. Параўн.: Lindner, Rainer. Systemwechsel und Staatsbildung in Belarus' und Ukraine... (op. cit.). С.28 і наст.; Sahm, Astrid. Kein politischer Frühling in Belarus... (op. cit.).

рыяльнай субстанцыі, утварыць зусім іншую культуру памяці?[115] Да сяброў-заснавальнікаў названага Камітэта належалі, альбо неўзабаве далучыліся да яго дзейнасці, амаль усе знакамітыя нацыянальныя гісторыкі, што не выконвалі дзяржаўных кіраўнічых функцыяў. Шмат што сведчыць пра тое, што варта весці размову ўжо не пра гістарызацыю палітыкі, а пра палітызацыю гістарычнае навукі.

На прыкладзе абыходжання са сродкамі масавай інфармацыі й публіцыстыкай выразна выявіўся той факт, што прэзідэнт усё часцей пачаў выходзіць па-за межы дэмакратычнага дыскурсу і вяртацца да аўтарытарных метадаў у трактаванні грамадскае думкі і свабоды навуковай дзейнасці. Пэўныя назіральнікі яшчэ на пачатку 1995 г. гаварылі пра ўзнікненне „зманапалізаванага інфармацыйнага асяроддзя"[116]. Уяўленням прэзідэнта пра дэмакратыю супярэчыла, калі журналісты „за дзяржаўны кошт крытыкавалі дзяржаўную палітыку". Паводле Лукашэнкі, вялікая колькасць гуманітарных факультэтаў ВНУ і акадэміі здамінаваныя „правымі радыкаламі"; пры гэтым рабілася спасылка на вялікую долю інтэлектуалаў у шэрагах Народнага Фронту[117]. Не гэтулькі аргументацыйны бок гэтай прамовы, колькі танальнасць, якую прэзідэнт абраў у абыходжанні з журналістамі, давала падставу для заклапочанасці. Менавіта „тенденциозность" пазіцыяў апазіцыйных газет, у якіх праглядаюцца намеры шкодных „группировок", выклікала крытыку з боку Лукашэнкі. Газета БНФ „Свабода" [у сапраўднасці незалежнае выданне. — *Заўвага перакладчыка*] з агульным накладам да 100 000 паасобнікаў з 1995 г. нярэдка друкавалася ў Літве і раз-пораз сканфіскоўвалася на беларускай мяжы. У лістападзе 1997 г. прэзідэнт канчаткова забараніў выхад апазіцыйнай газеты. „Часова" зачыняліся радыё- і тэлевізійныя каналы. Яшчэ ў сакавіку—красавіку 1995 г. са сваіх пасад былі звольненыя крытычна настроеныя галоўныя рэдактары розных газет, у т.л. шэф-рэдактар вялікай сваім накладам „Народнай газеты"[118]. Не ў апошнюю чаргу праз абмежавальныя захады ў дачыненні да іншых друкаваных органаў („Народная воля", „Белорусская де-

[115] Параўн.: Политическое заявление // Народная воля. 1995. № 53, а таксама пазнейшы адказ аднаго з новаабраных дэпутатаў парламента: Цярэшчанка Віктар. Наш дом — Беларусь // Наша слова, 20.07.1996. С.1. Найбольш падрабязнае выказванне, у якім таксама ўтрымоўвалася спасылка на 700-я ўгодкі надання гербу „Пагоня" статусу дзяржаўнага — гл.: Жыць вольна і годна. Заява Грамадскага камітэта абароны беларускай нацыянальнай сімволікі // ЛіМ, 31.05.1996. С.2.

[116] Гэтак лічыў Валянцін Жданко — гл.: Звязда, 28.02.1995. С.1.

[117] Параўн.: Свабода, 1.03.1995, а таксама пераказ прамовы перад супрацоўнікамі Беларускага радыё, што мела месца напрыканцы лютага: Белорусская деловая газета, 8.03.1995. С.12.

[118] Гл.: Коммерсантъ-daily, 22.03.1995. С.2, а таксама: Frankfurter Allgemeine Zeitung, 22.03.1995. С.1. Пра тое, што, пачынаючы з 1995 г., выказванні Лукашэнкі ўсё часцей рабіліся аб'ектам высмейвання, можа сведчыць той факт, што адзін з дэпутатаў у звязку са звальненнем журналістаў падбадзёрваў прэзідэнта, каб той „адлучыў Біла Клінтана ад пасады амерыканскага прэзідэнта, бо агрэсіўны блок НАТО набліжаецца да межаў Шклоўскага раёна [радзімы прэзідэнта. — Р.Л.]". Цытата ўзятая з: Известия, 23.03.1995. С.2. Увесь працэс звальнення рэдактараў і журналістаў, а таксама іншыя дакументы пра палітыку ў дачыненні да СМІ — у зборы дакументаў: Sahm, Astrid. Rückkehr zur „Vendée der Perestrojka"? Zum gespannten Verhältnis von Exekutive und Medien in Belarus im Jahre 1995 // Osteuropa-Archiv (September 1996). С.А441—А443.

ловая газета", „Белорусская газета", „Имя", „Фемида"), што часткова да 1998 г. мусілі, як у да- альбо раннепадсавецкім часе, выходзіць у Вільні альбо іншых гарадах, беларускі ландшафт СМІ зрабіўся сурова кантраляванай тэрыторыяй, што прыводзіла нават да ўмяшання ў дзейнасць карэспандэнтаў расійскіх электронных СМІ.

Прыўладная рыторыка прэзідэнта, між тым, выявіла сябе не толькі ў інфармацыйнай палітыцы, але ў гэткі самы спосаб адбілася ў ягоных публічных пасажах. Толькі адзін раз гэта звярнула на сябе ўвагу і заходняй грамадскасці. У часы Гітлера — гэтак зазначыў Лукашэнка напрыканцы лістапада 1995 г. у адказ на пытанне карэспандэнта тыднёвіка „Handelsblatt" пра магчымую прэзідэнцкую дыктатуру ў Беларусі — Нямеччына, маўляў, дасягнула найвышэйшага пункту свайго шматвяковага імкнення да парадку:

> „Гэта якраз тое, што адпавядае нашаму разуменню прэзідэнцкай рэспублікі і ролі прэзідэнта ў ёй. Я хацеў бы падкрэсліць, што немагчыма, каб у адным чалавеку ўсё было толькі дрэннае альбо толькі добрае. [...] Гітлер стварыў магутную Нямеччыну дзякуючы моцнай прэзідэнцкай уладзе. [...] Мы перажываем сёння гэткі самы адрэзак часу, у якім згуртаванне вакол адной асобы альбо групы людзей неабходнае дзеля таго, каб выжыць, вытрываць і зноўку стаць на ногі"[119].

Пазней Лукашэнка абрынуўся на тое, што публікацыя ўрыўкаў з інтэрв'ю нямецкаму журналісту — якое напачатку цыркулявала на англійскай мове ў асяроддзі мінскай інтэлігенцыі, пазней было апублікавана ў газетах „Имя" і „Свабода", што друкаваліся ў Вільні, а, урэшце, нават транслявалася Беларускім радыё — нібыта скажае сэнс сказанага ім. Пры гэтым рэдактары сумяшчалі выявы прэзідэнта, зробленыя з рознай нагоды, з арыгінальным тэкстам выказвання Лукашэнкі. Здавалася, пэўным чынам — толькі з адваротным знакам — паўтаралася тое, што закідалася ў траўні, напярэдадні першага тура выбараў, тагачаснаму кіраўніку апазіцыі й старшыні Народнага Фронту Пазьняку — калі на адну дошку былі пастаўлены дух часу фашысцкай акупацыі ў „Беларутэніі" ды ідэі сённяшняга Народнага Фронту. 1 снежня афіцыёзная прэза палічыла неабходным аслабіць уздзеянне прэзідэнцкіх выказванняў і спаслацца на „разарваны кантэкст". Маўляў, Лукашэнка ніколі не быў прыхільнікам Гітлера, які прычыніў гэтулькі гора ягонай краіне. Да таго ж, ягоныя выказванні меліся адносіцца да даваеннай Нямеччыны[120].

Хоць, насамрэч, было б не да месца прыпісваць Лукашэнку сімпатыі да нацызму ў прынцыповым плане, згаданае інтэрв'ю ўсё-такі выразна прадэманстравалі яго заблытанае (erratisch) абыходжанне з гісторыяй. Ні тады, ні пазней у прэзідэнта не праглядалася наяўнасці выразнага светапогляду альбо ўласнай ідэалогіі. У большай ступені ён імкнецца выкарыстоўваць перасоўныя дэкарацыі падсавецкай гістарычнай прапаганды, якія больш ці менш удала дапасоўваюцца ім да адпаведных кантэкстаў. Вельмі хутка выявілася, што Лукашэнка, які

[119] Апублікавана ў: Свабода, 2.12.1995. С.3. [Упершыню прагучала па першай праграме Беларускага радыё 23.11.1995 у 19.50. — *Заўвага перакладчыка*].
[120] Параўн.: Советская Белоруссия, 1.12.1995. С.1.

най пісанай гісторыі да XIX ст. Калі ж і ў Беларусі напрыканцы XIX ст. пачалі з'яўляцца свае інтэрпрэтацыі мінуўшчыны, адразу ж на беларускую нацыю, якая знаходзілася на стадыі фармавання, распачаўся магутны палітычны і культурны ціск усталяваных нормаў, што доўжыцца да цяперашняга часу.

У гэтым месцы, уласна, пачынаецца наша даследаванне. У ім разглядаюцца дачыненні паміж гісторыяпісаннем і культурай гістарычнай навукі, з аднаго боку, і паноўнымі ў Беларусі ўладамі, з другога боку, у перыяд з канца XIX да канца XX ст. У якасці сацыяльнай і палітычнай гісторыі ідэяў гістарычнага развіцця[26] тут прасочваюцца зменлівыя нацыянальныя, палітычныя і інстытуцыянальныя варункі беларускай гістарыяграфіі ў апошні перыяд існавання царскай імперыі, у часы СССР, а таксама ў позне- і посткамуністычную эпоху. Пры гэтым найперш даследуюцца гістарычныя канцэпцыі прафесійнай гістарыяграфіі і навукова-папулярнай публіцыстыкі. У полі зроку таксама знаходзяцца школьныя дапаможнікі, помнікі і іншыя сродкі гістарычнай культуры і стварэння гістарычных стэрэатыпаў. Неаднароднасць, расколатасць вобраза беларускай гісторыі ў працах навукоўцаў гэтай краіны ўзнікла на размежаванні розных гістарычных канцэпцый. Нацыянальная гістарыяграфія пры гэтым па-ранейшаму вызначаецца палітычнай дамінантай і знаходзіцца ў стане канфрантацыі з афіцыйнай гістарыяграфіяй улады. Будучы ўспрыманай як функцыя нацыянальнага альбо палітычнага жыцця гісторыя не даследавалася, а канструявалася і дэмантавалася, была аб'ектам палітычнага гандлю альбо рабілася простай канстатацыяй. Гэтае зарыентаванае на гісторыю „вытаргоўванне" індывідуальных і калектыўных уласных і чужых вобразаў, якое рэгулярна назіралася ва Ўсходняй Еўропе ў час пераломных падзей XX ст. не толькі ў канкрэтным выпадку з Беларуссю, тут інтэрпрэтуецца як гістарычная палітыка[27].

Праца, што складаецца з чатырох частак, паказвае, які ўплыў на незавершанае станаўленне беларускай нацыі мелі нацыянальная інтэрпрэтацыя гісторыі й палітыка ўладаў у дачыненні да гістарычнай навукі. Выбраныя ў якасці аб'екта разгляду чатыры перыяды, што даследуюцца, — апошні перыяд існавання царызму, ранне-, позне- і постсавецкі — ні ў якім разе не павінны трактавацца як спроба перыядызацыі беларускай гістарыяграфіі. Гэта, хутчэй, тыя адрэзкі часу, паміж якімі знаходзяцца нервавыя кропкі ў стасунках гісторыі і палітыкі ўлады ў дачыненні да гістарычнай навукі. Калі, аднак, прыняць пад увагу найноўшыя прапановы па перыядызацыі, то будзе няцяжка ўбачыць, што выбра-

[26] Па гэтай праблеме прыцягваюць увагу працы: LaCapra D., Kaplan S. L. (рэд.). Geschichte denken. Neubestimmungen und Perspektiven moderner europäischer Geistesgeschichte. Frankfurt am Main, 1989; тут, сярод іншых артыкулаў: LaCapra, Dominick. Geistesgeschichte und Interpretation, c.45—86); Iggers, Georg G. (рэд.). Geschichtswissenschaft im 20. Jahrhundert. Göttingen, 1993. Гл. таксама карысную спробу тыпалагізацыі гісторыі гістарыяграфіі ў Гёслера (Hösler, Joachim. Op. cit. — С.5 і наст.).

[27] Канцэптуальныя вызначэнні, што ляжаць у падмурку такога разумення гл. у: Binder B., Kaschuba W., Niedermüller P. „Geschichtspolitik": Zur Aktualität nationaler Identitätsdiskurse in Europäischen Gesellschaften // Kaelble H., Schriewer J. (рэд.). Gesellschaften im Vergleich: Forschungen aus Sozial- und Geschichtswissenschaften. Frankfurt am Main, 1998. С.465—508.

дэнта яшчэ большымі ўладнымі паўнамоцтвамі і, тым самым, пацвердзілі курс на ўзмацненне ранейшай палітычнай сістэмы і запаволеныя сістэмныя змены. У выніку галасавання, акрамя таго, нацыянальнае свята было перанесена з 27 ліпеня, дня абвяшчэння Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце ў 1990 г., на 3 ліпеня, дзень вызвалення БССР Чырвонай арміяй у 1944 г. (88,5% падтрымкі). Усе астатнія пытанні, скіраваныя на свабодны продаж зямлі (15,3% галасоў „за"), скасаванне смяротнай кары (17,9% падтрымкі), наўпроставыя выбары рэгіянальных кіраўнікоў выканаўчай улады (29,9% галасавала „за"), будучы кантроль з боку парламента за ўсімі дзяржаўнымі выдаткамі (32,1% станоўчых адказаў) і прыняцце парламенцкага праекта канстытуцыі (7,1% галасоў у падтрымку), як і чакалася, наадварот, былі адхіленыя[123].

Ужо праз два дні пасля рэферэндуму прэзідэнту ўдалося перацягнуць на свой бок лаяльную бальшыню (112 са 199 дэпутатаў) і тым самым пазбавіць дэмакратычна абраны парламент здольнасці прымаць абавязковыя да выканання пастановы[124]. У адпаведнасці з тэкстам новай версіі канстытуцыі ужо 26 лістапада ў складзе 110 дэпутатаў стварылася „Палата прадстаўнікоў" новага беларускага парламента, „Нацыянальнага сходу"[125]. Дзеля „ўдасканальвання" новага заканадаўчага органа і „перамогі" над колькасна зменшаным апазіцыйным парламентам Лукашэнка, у дадатак, стварыў верхнюю палату, які спачатку хацелі назваць сенатам, але пасля ўсё ж спыніліся на назве „Савет рэспублікі". 64 месцы ў гэтым органе напачатку збіраўся раздаваць сам прэзідэнт, пазней гэтая квота была вызначаная ў колькасці васьмі членаў „Савета рэспублікі". У ложах гэтай „рады рэгіянальных прадстаўнікоў", задуманай як адпаведнік расійскага „Савета Федэрацыі", апынулася немалая колькасць функцыянераў познесавецкага часу, на якую зноў, гэткім чынам, была ўскладзеная палітычная адказнасць. З вяртаннем Мікалая Дземянцея і Анатоля Малафеева ў сферы вышэйшай палітыкі на пачатку 1997 г. ужо было немагчыма схаваць кадравую рэсаветызацыю беларускай уладнай эліты. Малафееў, апошні шэф кампартыі Беларусі падсавецкага часу, яшчэ перад канцом Савецкага Саюзу, а таксама былыя першыя сакратары ЦК Яфрэм Сакалоў і Мікалай Слюнькоў, ужо, уласна кажучы, патрапілі ў гісторыю як прыхільнікі маскоўскага путчу 1991 г. і „заўзятыя праціўнікі нацыянальна-дзяржаўнага адраджэння беларускага народа". Цяпер на ўсіх іх былі ўскладзеныя новыя функцыі[126].

[123] Звесткі падаюцца паводле: OMRI 26.11.1996, # 2.

[124] Яшчэ 28 жніўня кіраўнікі ўсіх парламенцкіх і пазапарламенцкіх найбуйнейшых партыяў, улучна з „партыяй камуністаў Беларускай", прынялі заяву, у якой яны выказаліся супраць палітыкі прэзідэнта — гл.: Заявление участников „круглого стола", представляющих ведущие политические партии, движения, профессиональные союзы Республики Беларусь (28 августа 1996 г., г.Минск) // Свабода, 30.08.1996. С.1.

[125] Тэкст праекта канстытуцыі быў „аддадзены на суд дарагіх суайчыннікаў" прэзідэнтам у верасні 1996 г. — гл.: Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь (са змяненнямі і дапаўненнямі) (op. cit.). Другі прэзідэнцкі праект быў прэзентаваны праз месяц, 19 кастрычніка, і зацверджаны рэферэндумам.

[126] Гэта можна прачытаць у: Лыч Леанід. Дзяржаўны суверэнітэт Беларусі: традыцыі і праблемы // *Яго ж.* Беларуская нацыя і мова. Мінск, 1994. С.166—194, у гэтым выпадку с.192.

У той час як у сярэдзіне 90-х г. палітычная эліта познесавецкага часу зноў займела пасады і ўшанаванні, Народны Фронт усё больш выцясняўся з палітычнай арэны. Гэтаксама як нацыянальна арыентаваныя гісторыкі з 1996 г. сутыкнуліся з рэанімаванай, маючай падтрымку прэзідэнта „савецкай гістарыяграфіяй“, для Народнага Фронту кароткі перыяд эфектыўнай парламенцкай дзейнасці таксама скончыўся. У парламенце ўзору 1995 г. ён ужо не быў рэпрэзентаваны, а Пазьняк, стамлёны, сутыкнуўшыся з замахамі на асабістую бяспеку, увесну 1996 г. атрымаў палітычны прытулак у ЗША[127]. У той самай меры, у якой рэальная палітыка аддалялася ад „нацыянальнай ідэі“ беларускай інтэлігенцыі, ад самастойнасці і незалежнасці дзяржавы, сярод пэўных заангажаваных пісьменнікаў, навукоўцаў і іншых грамадзян пачынаў дамінаваць патрыятычны светапогляд, у межах якога нацыянальная ідэя пачынала абсалютызавацца ды — як гэта ўжо было ў „нашаніўскія“ часы — звязвацца, як перспектыва канчатковага вызвалення, з адным выратавальным чынам. Спікер яшчэ дзеяздольнага парламента Сямён Шарэцкі, робячы ход у адказ, абвінавацію прэзідэнта ў тым, што той рыхтуе „глебу для таталітарнай фашысцкай дзяржавы, у якой адна асоба будзе валодаць неабмежаванымі ўладнымі паўнамоцтвамі“[128]. Палітычная канфрантацыя цяпер суправаджалася гістарычнымі паралелямі ды параўнаннямі. Гістарычная навука і гісторыкі, са свайго боку, рабіліся каментатарамі актуальных палітычных падзеяў.

## *2.2. Крызіс інстытуцыяў і ўтварэнне фракцыяў сярод гісторыкаў*

Стратэгія, скіраваная на набыццё ідэнтычнасці ўнутры сябе і прызнанне Беларусі як раўнапраўнай дзяржавы звонку, ад пачатку 90-х г. была шчыльна спалучаная з апрацаваннем культурнай і гістарычнай спадчыны краіны. У гэтым гісторыкі, філосафы і літаратуразнаўцы прасторы паміж Мінскам, Гроднам, Гомелем беспасярэдне пасля атрымання Беларуссю незалежнасці бачылі галоўную мэту сваіх памкненняў[129]. Сваімі публікацыямі ў шматлікіх перыядычных выданнях нацыянальнай інтэлігенцыі і праз абноўленыя ўпершыню ў 1993 г. школьныя падручнікі яны ў кароткія тэрміны паспрыялі таму, каб забяспечыць прагную да адукацыі частку беларускага грамадства патрэбнымі тлумачэннямі наконт значных датаў мінуўшчыны і нацыянальнага вызначэння, што сягае ў старадаўнія часы еўрапейскай гісторыі.

На паперы нацыя паўстала нанова. Мова і гісторыя зрабіліся стрыжнем нацыянальнай свядомасці, якая „абуджалася“. Як і ў іншых краінах, што ўзніклі на месцы былога Савецкага Саюзу, беларуская гістарыяграфія таксама зрабіла спро-

[127] Schuschkewitsch, Stanislau. Der Staatsstreich des Präsidenten von Weißrußland. Lukaschenka hat seinen Blick auf den Kreml gerichtet und aus seinen diktatorischen Neigungen noch nie einen Hehl gemacht // Frankfurter Allgemeine Zeitung, 24.01.1997. C.10.

[128] Параўн.: Інтэрвію ў: Народная воля, 11.09.1996. С.1.

[129] Па-нямецку на гэтую тэму можна прачытаць у: Maldsis, Adam. Die Wiedererstehung der belorussischen Nation aus ihrem historischen und kulturellen Erbe // Osteuropa 42 (1992) 4. C.310—318.

бу шляхам „удревнения“ „стварыць «залаты век»“ і даць магчымасць беларускай нацыі „абудзіцца ў большай ступені да яе мінуўшчыны, чым да будучыні“[130]. Беручы пад увагу той факт, што беларусы ў зарыентаваным на савецкі патрыятызм БССРаўскім грамадстве доўгі час не ўважаліся за самастойную этнічную нацыю, фармуляванне сутнасці ўласнай мінуўшчыны мусіла быць перадусім скіраваным супраць расійскага дамінавання ў сферах мовы, культуры і палітыкі. Гэтаму дамінаванню неўзабаве маглі быць проціпастаўленыя і паказаныя ў выглядзе пэўнага кшталту пасведчання пра сталасць самастойнага існавання (Reifezeugnis der Selbständigkeit) новаабуджаныя беларуская літаратурная мова і мова камунікацыі, а таксама створаная нанова нацыянальная гісторыя. Толькі нацыянальная гісторыя, на думку гісторыкаў, магла быць сапраўдным абвяшчэннем суверэнітэту.

Гэтаксама як у дасавецкай і раннесавецкай эпосе, спектр асоб, якія выглядалі дасведчанымі ў гісторыі, быў надзвычай шырокім. Шматлікія журналісты, пісьменнікі альбо партыйныя палітыкі пад час першых гадоў незалежнасці бачылі для сябе нагоды звяртацца да „надзённых пытанняў“ і „белых плямаў“ гісторыі. У той меры, у якой гісторыя стала полем палітычных бітваў, да тлумачальнікаў нацыянальнае мінуўшчыны пачалі далучацца вельмі разнастайныя і нярэдка далёкія ад гістарычнай навукі асобы. У сваёй большыні нізкая якасць публіцыстычнай інтэрпрэтацыі гісторыі супярэчыла прафесіяналізацыі акадэмічнай гістарычнай навукі, што прыкметна выявілася ад пачатку 90-х г. У гэтым звязку варта адзначыць першае карпаратыўнае згуртаванне — „Беларускую асацыяцыю гісторыкаў (БАГ)“, што была створана з ініцыятывы ІГ АНБ у лютым 1993 г. Хоць успрыманне свайго інтарэсу гісторыкамі з гледзішча ўласных умоваў існавання як часткі паўперызаванай постсавецкай інтэлігенцыі — гэтаксама як супрацiў распачатаму пры Лукашэнку абмежаванню магчымасцяў нацыянальнай гістарыяграфіі, — не абяцала ніякіх добрых перспектываў, стварэнне гэтага згуртавання, у кожным разе, дазволіла ім займець трыбуну для абмеркавання праблем. Акрамя акадэмічнай інтэлігенцыі, сюды таксама ўвайшлі бібліятэкары, музейныя супрацоўнікі, архіўныя работнікі, выкладчыкі і настаўнікі. Кіраўнічая група, між тым, складалася толькі з вядомых імёнаў[131]. Наступствам агульнага змяншэння навуковага патэнцыялу ў Беларусі натуральным чынам было змяншэнне колькасці сяброў БАГ.

Структура дзяржаўных інстытуцыяў у справе навукова-гістарычных даследаванняў, аднак, у постсавецкім часе істотна не змянілася. Адзінае, што ў 1991 г. быў заснаваны „Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Ф.Скарыны“.

[130] Halbach, Uwe. Die Nationalitätenfrage: Kontinuität und Explosivität... (op. cit.). С.220.

[131] Старшынём Асацыяцыі быў абраны тагачасны дэкан гістарычнага факультэта БДУ Пётр Шупляк, а яго намеснікамі — дырэктар ІГ АНБ Міхась Касцюк і дырэктар Беларускага навукова-даследчага цэнтра дакументацыі, археаграфіі й архіўнае справы Уладзімір Міхнюк. Тэкст статута Асацыяцыі апублікаваны — гл.: Статут Беларускай асацыяцыі гісторыкаў // БГЧ. 1994. № 3. С.6—8. На паседжанні Асацыяцыі ў красавіку 1997 г. Шупляка на пасадзе старшыні замяніў Касцюк.

| Навукова-даследчыя ўстановы |
|---|
| Інстытут гісторыі АНБ, г.Мінск |
| Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі й фальклору АНБ, г.Мінск |
| Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Ф.Скарыны, г.Мінск |
| Навукова-даследчы цэнтр дакументацыі, археаграфіі й архіўнай справы, г.Мінск |
| **Гістарычныя факультэты ВНУ** |
| Беларускі дзяржаўны універсітэт, г.Мінск |
| Гродзенскі дзяржаўны універсітэт |
| Гомельскі дзяржаўны універсітэт |
| Брэсцкі дзяржаўны універсітэт |
| Полацкі дзяржаўны універсітэт, г.Наваполацк |
| Беларускі дзяржаўны педагагічны універсітэт, г.Мінск |
| Магілёўскі дзяржаўны педагагічны універсітэт |

**Табл. 28: Гістарычныя навукова-даследчыя і вышэйшыя адукацыйныя ўстановы ў Беларусі**

Выпускнікі гістарычных факультэтаў ВНУ пасля заканчэння вучобы атрымоўваюць дыпломы з кваліфікацый „гісторык" альбо „настаўнік гісторыі". Прыток асоб, якія жадалі б вучыцца ва універсітэтах, і ў эпосе трансфармацыі не меў тэндэнцыі да змяншэння. Толькі ў сферы паслядыпломнай падрыхтоўкі, далучэння да навукова-даследчай працы выявіліся пэўныя наступствы. Хоць цягам 1986—1996 г. на паседжаннях шасці радаў па наданні навуковых ступеняў было абаронена 57 доктарскіх і 250 кандыдацкіх дысертацыяў, у часе пасля абрынання савецкай сістэмы немагчыма не заўважыць зніжэння колькасных паказчыкаў заняткаў навуковай дзейнасцю[132], бо больш як палова (198) сярод 307 дысертацыяў была абароненая да 1991 г.

| Тэматычная галіна | Кандыдацкія дысертацыі | Доктарскія дысертацыі |
|---|---|---|
| Гісторыя Беларусі | 65 | 8 |
| Агульная гісторыя | 8 | 6 |
| Этнаграфія | 4 | 4 |
| Археалогія Беларусі | 14 | 2 |
| *Разам* | 91 | 22 |

**Табл. 29: Колькасць і прыналежнасць паводле тэматыкі кандыдацкіх і доктарскіх дысертацыяў (1991—1996 г.)[133]**

[132] Як і за савецкім часам, дагэтуль акадэмічная ступень доктара навук надаецца выключна прэзідыумам Вышэйшай атэстацыйнай камісіі (ВАК), у той час як прэтэндэнты выступаюць перад Саветамі па абароне дысертацыяў. Зацвярджэнне дысертацыі ды яе паспяховай абароны тады толькі пацвярджаецца ВАКам. Саветы знаходзяцца ў наступных установах, пры якіх, адпаведна, існуюць і аспірантуры: БДУ (2), Інстытут гісторыі АНБ, Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі й фальклору АНБ, Беларускі навукова-даследчы інстытут дакументацыі, археаграфіі й архіўнай справы, Беларускі дзяржаўны педагагічны інстытут у Мінску.

[133] Звесткі прыводзяцца паводле: Міхнюк А., Міхнюк У. „Dissertatio" — вучонае сачыненне // БМ.1996. № 5. С.77—78, у гэтым выпадку с.77.

У другой палове 90-х г. яшчэ не было дакладнага агляду колькасці гісторыкаў, што прафесійна займаюцца даследаваннямі ў гэтай галіне. Амаль усе аднначасова працавалі ў некалькіх установах альбо ў межах некалькіх праектаў. Некаторыя заняліся іншай прафесійнай дзейнасцю, не пакінуўшы афіцыйна ранейшага месца працы.

| Год | Навуковыя супрац. | Кандыдаты гіст. н. | Дактары гіст. н. |
|---|---|---|---|
| 1990 | 178 | 72 | 16 |
| 1993 | 107 | 58 | 14 |
| 1994 | 103 | 56 | 15 |
| 1995 | 102 | 59 | 15 |
| 1996 | 103 | 55 | 15 |

**Табл. 30: Навуковыя супрацоўнікі ІГ АНБ (1990—1996 г.)[134]**

Што да агульнай колькасці занятых у Беларусі навукоўцаў-гісторыкаў, дык на 1 верасня 1996 г. існавалі звесткі, згодна з якімі колькасць дактароў навук вагалася паміж 43 зарэгістраванымі і 103 фактычна наяўнымі, а колькасць кандыдатаў навук — паміж 208 зарэгістраванымі і 650 фактычна наяўнымі асобамі. Фактам ёсць тое, што ў першыя пяць гадоў дзяржаўнай незалежнасці зазначаны кадравы абвал у гуманітарных навуках і ў навуцы наогул. Калі прытрымлівацца афіцыйных звестак, дык у часе з 1987 да 1997 г. колькасць гісторыкаў з вучонай ступенню рэзка скарацілася, з 600 да 103, і склала толькі 17% адносна ранейшага паказчыка, а колькасць прафесараў зменшылася з 74 да 43 (адпаведна, 58%)[135].

Зважаючы на толькі ўяўную змену парадыгмаў на пачатку 90-х г., некаторыя занадта нецярплівыя назіральнікі ўжо бачылі надыход „апошніх дзён гістарыяграфіі"[136]. Пад ціскам пазанацыянальнага палітычнага развіцця, аднак, адбылася далейшая палярызацыя гістарычных версіяў. 1996 год у беларускай гістарычнай навуцы даў пачатак флангавых баёў унутры цэха гісторыкаў. Спрэчкі ў драматычны спосаб нагадваюць падзеі сталінскага часу, калі нацыянальна арыентаваныя гісторыкі мусілі бараніцца ад нападаў партыі ды кіраваных ёю калегаў. Чым гэты канфлікт скончыўся, было падрабязна апісана вышэй. У працэсе палярызацыі палітычных сілаў гістарыяграфія пачала разбівацца на розныя групы інтарэсаў, прычым, пачынаючы з лета 1996 г., танальнасць палемікі ўсё больш пачала нагадваць абвінавачванні і даносы канца 20-х і канца 40-х г.

Сітуацыя абвастрылася, калі тузін мінскіх гісторыкаў і выкладчыкаў гісторыі ўвесну 1996 г. абвясціў пра стварэнне Беларускага рэспубліканскага аб'яд-

[134] За атрыманыя звесткі дзякую Генадзю Сагановічу. У АНБ у 1997 г. яшчэ працавалі 4 533 супрацоўнікі (457 дактароў навук, 2 063 кандыдаты навук), а таксама 6 500 тэхнічных работнікаў і персаналу абслугі. У часе з 1990 да 1994 г. колькасць занятых у сферы навукі і тэхнікі зменшылася з 102 600 да 51 484. Параўн.: Камітэт па навуцы і тэхналогіях Міністэрства адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь (выд.). Wissenschaft und Technik in der Wirtschaft der Republik Belarus (Weißrußland). Bonn—Minsk, 1996. С.23 і наст.

[135] Гл. Тамсама, а таксама звесткі, пададзеныя ў падраздзеле 1.2. гэтага раздзела.

[136] Дзярновіч Алег. Апошнія дні гістарыяграфіі // НН. 1993. № 15. С.11.

нання „Исторические знания“[137]. Сярэдні ўзрост сяброў управы арганізацыі, а перадусім характар іх колішніх даследчых прац, выяўляюць яе як захавальніцу запаветаў Лаўрэнція Абэцэдарскага, нестара падсавецкай гістарыяграфіі БССР. Першы кіраўнік арганізацыі 85–гадовы Адам Залескі быў не толькі блізкім сябрам Абэцэдарскага, але яшчэ ў тыя часы засведчыў сябе зацятым працаўнікам непалітызаванай гістарычнай навукі.

Яшчэ ў пачатку 80–х г. Залескі, які ўвогуле не зрабіў сабе ніякага імя ў беларускай гістарыяграфіі, у лісце–даносе на адрас кіраўніцтва Акадэміі навук і партыйнай арганізацыі абвінаваціў шматлікіх супрацоўнікаў Інстытута гісторыі, а таксама іншых калегаў з Акадэміі ды пісьменнікаў у „фальшывых перакананнях і маральна–палітычным заняпадзе“. З крытычнай ацэнкі М.М.Улашчыка, які за тым часам займаўся навуковай працай у Маскве, выказванняў Залескага відаць, што галоўнымі аб’ектамі нападаў Залескага перадусім былі тагачасныя дырэктары ІГ АН БССР Іларыён Ігнаценка ды Пётр Петрыкаў, а таксама пісьменнік і літаратуразнавец Алесь Адамовіч. У своеасаблівым сімбіёзе імкнення да карыта і да ўшанаванняў на свой адрас (Ehr- und Futterneid) Залескі, які пры ўзгадванні больш чым сціпла прозвішчаў толькі сябе тытулаваў „прафесарам“, назваў Ігнаценку эпігонам нацыянал–дэмакратаў, што, да таго ж, зарабляе больш за 1 000 рублёў штомесяц. Распаўсюджваныя Ігнаценкам „антымарксісцкія ды нацыяналістычныя выдумкі“, маўляў, акрамя таго, „нанеслі велізарную шкоду нашай ідэалогіі ды нашаму будаўніцтву“[138]. Гэтыя напады, аднак, не мелі ніякіх

[137] У сярэдзіне 1996 г. да мінскага ядра гэтай агульнарэспубліканскай групы належалі пяць сапраўдных членаў і членаў–карэспандэнтаў АНБ, дзевяць дактароў, чатырнаццаць кандыдатаў навук, а таксама іншыя дзеячы мастацтва, настаўнікі ды інжынеры. Ідэолагамі аб’яднання напачатку былі (тут падаюцца тэмы іх кандыдацкіх дысертацыяў і назвы іх цяперашняй установы альбо характару дзейнасці): Адам Залескі, „Советский патриотизм крестьянства в условиях немецко–фашистской оккупации Белоруссии“, Мінск, АН БССР, 1963 — прафесар, старшыня аб’яднання; А.Г.Хахлоў, „Красная гвардия в борьбе за власть Советов в Белоруссии (март 1917—1918 г.)“, Мінск, АН БССР, 1961 — прафесар; Мікола Багушэвіч, „Деятельность Компартии Белоруссии по укреплению взаимосвязей партизанских формирований и населения в борьбе против немецко–фашистских захватчиков (июнь 1941—июль 1944 г.)“, Мінск, Мінскі педінстытут, 1979 — дацэнт; Барыс Далгатовіч, „Деятельность Компартии Белоруссии по организации взаимодействия партизан с частями Красной Армии в период освобождения республики от немецко–фашистских захватчиков (сентябрь 1943—июль 1944 г.)“, Мінск, БДУ, 1981 — дацэнт; К.Дамарад, „Борьба Компартии за коллективизацию сельского хозяйства западных областей Белоруссии накануне Великой Отечественной войны (сентябрь 1939—июнь 1941 г.)“ — дацэнт; Л.Мінько, „Белорусская народная медицина и вред знахарства“, Мінск, АН БССР, 1965 — прафесар. Акрамя таго, сюды ўваходзілі: Аркадзь Жураўскі, мовазнаўца — член–карэспандэнт АНБ, акадэмік Міжнароднай славянскай акадэміі; Уладзімір Няфёд, тэатразнаўца, член–карэспандэнт АНБ. Звесткі пра тэмы дысертацыяў узятыя з: Михнюк В.Н., Новицкая Л.М. Докторские и кандидатские диссертации по историческим наукам БССР 1944—1987 г.: Библиогр. указ., 2–е изд. Мінск, 1988.

[138] Улашчык М. Заўвагі на „пісьмо“ А.І.Залескага „От идеологических вывихов к национализму и антисоветчине“ (30.07.1982) // БГА. 1996. Т.3. Сш.1. С.47—52, у гэтым выпадку с.49 і наст. Арыгінальная назва ліста Залескага гучала: „О некоторых факторах, ведущих к формированию неправильных взглядов и морально–политическому разложению наиболее неустойчивых представителей интеллигенции Белоруссии“.

падставаў, калі браць пад увагу, што колішні сакратар Мінскага гаркама КПБ і шматгадовы дырэктар „ИИП ЦК КПБ“ Іларыён Ігнаценка на той час не мог быць западозраны ў аніякіх нацыяналістычных ухілах. Бо гэта ж ён з нагоды 40-гадовага юбілею таго самага „ИИП ЦК КПБ“ з гонарам сведчыў пра заслугі сваёй установы ў перакладанні ды выданні твораў „тытанаў чалавечага духу — К.Маркса, Ф.Энгельса ды У.І.Леніна“ і пра тое, што ён быў адказным за выдадзеную ў 70-я г. пяцітамовую „Гісторыю Беларускай ССР“[139].

Прайшло пятнаццаць гадоў, і Залескі, разам з аб'яднаннем „Исторические знания“, узяў тую самую танальнасць і тым самым прадоўжыў пэўную традыцыю беларускага гісторыяпісання ў XX стагоддзі. Публічная рэакцыя Залескага ды ягоных аднадумцаў на найноўшыя буйныя публікацыі ІГ АНБ ды рэдакцыі „Беларускай Энцыклапедыі“, а таксама яго апалагетычныя выказванні пра „ролю Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у сучасным сацыяльна-эканамічным і маральна-палітычным становішчы краіны“ хутка былі распазнаныя як сведчанні лаяльнасці да прэзідэнта Лукашэнкі. У гэтым процістаянні апошні пачаў выконваць колішнюю ролю партыі. Гэтаксама як маладыя савецкія гісторыкі 30-х г. услаўлялі партыю за „бязлітаснае змаганне“ супраць нацыянал-ухілістаў, для старых ідэолагаў на чале з Залескім, пачынаючы з іх першых публічных выказванняў у сярэдзіне 1996 г., прэзідэнт лічыўся адзіным надзейным абаронцам інтарэсаў народа супраць „прыхільнікаў капіталізму“, якія, ігнаруючы „гэткія савецкія каштоўнасці, як калгасы, дзяржпрадпрыемствы і саветы народных дэпутатаў“, дамагліся прыняцця „буржуазнай канстытуцыі“ 1994 г. Маўляў, у сутыкненні з „нацыянал-экстрэмісцкімі сіламі“ ён зрабіў шэраг важных захадаў стабілізацыйнага характару. У гэтым звязку называліся скасаванне праз рэферэндум „феадальна-нацыяналістычнай дзяржаўнай сімволікі“, вяртанне старога дзяржаўнага гімна на „цудоўную музыку Несцера Сакалоўскага“, звальненне галоўнага рэдактара „Народнай газеты“ альбо змена кіраўніцтва рэдакцыі „Беларускай Энцыклапедыі“ (БелЭн). У першую чаргу апошняя з названых падзеяў увесну 1996 г. прадэманстравала разуменне гісторыі адміністрацыяй Лукашэнкі[140].

Група Залескага выявіла сябе як цэнзурнае ведамства новай улады, фактычна ўзяўшы на сябе функцыю колішняга аддзела навукі ЦК кампартыі. „Энцыклапедыя гісторыі Беларусі“, што пачала выходзіць з 1993 г., стала для яе нагодай

[139] Игнатенко И.М. Важная дата. 40-летне Института истории партии при ЦК КПБ // КБ. 1969. № 6. С.27—32, у гэтым выпадку с.29. Ігнаценка з 1966 да 1969 г., а таксама з 1975 да 1980 г. быў дырэктарам „ИИП ЦК КПБ“, а ў 1969—1975 г. — дырэктарам ІГ АН БССР. Яго даследніцкія працы, пачынаючы з кандыдацкай дысертацыі („Беднейшее крестьянство — союзник пролетариата в борьбе за победу Октябрьской революцни в Белоруссии, 1917—1918 г.“. Мінск, 1962) да найноўшай манаграфіі („Кастрычніцкая рэвалюцыя: асаблівасці і вынікі“. Мінск, 1995), у асноўным былі прысвечаныя рэвалюцыйным падзеям 1917—1918 г. Некаторыя калегі лічаць Ігнаценку, як і Міколу Ермаловіча, „патрыярхам гістарычнай навукі“ — параўн.: Патрыярх гістарычнай навукі: Іларыён Мяфодзьевіч Ігнаценка // БМ. 1996. № 1. С.61.

[140] Заявление Белорусского и Минского научного объединения „Исторнческне знания“: О позициях н роли Президента Республики Беларусь в нынешнем социально-экономическом н морально-политическом положенни страны // НГ, 16.08.1996. С.2.

для публічнага збэшчвання гістарыяграфіі. Ізноў менавіта на Інстытут гісторыі, а побач з іншымі, на члена рэдакцыйнай калегіі акадэміка Ігнаценку аб'яднаннем „Исторические знания" была ўскладзеная адказнасць за „скажэнні й сфальшаванне гісторыі Беларусі ў мінулыя гады". Маўляў, шмат якія артыкулы энцыклапедыі вызначаліся сваім „непрыемным антысаветызмам" і „адкрытай русафобіяй". „Скажэнне гісторыі" мелася перадусім выяўляцца ў высновах „вядомага фальсіфікатара" Г.М.Сагановіча, дзе пастулюецца „агрэсіўнасць расійскай дзяржавы ў дачыненні да Вялікага Княства Літоўскага". Акрамя Ігнаценкі і Сагановіча, мішэнямі блытанай крытыкі былі зробленыя таксама М.П.Касцюк і Г.В.Штыхаў:

> „...Гэта азначае, што асноўны тон у фальсіфікацыі першых двух тамоў «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі» задавала кіраўніцтва вядучай у рэспубліцы даследчай установы — Інстытута гісторыі АНБ"[141].

Калі абстрагавацца ад змястоўнай сутнасці палемікі, у выказваннях групы Залескага кідаецца ў вочы рэанімацыя савецкага „тэксту". Маўляў, „нацыянал-экстрэмісты" і „шавіністы" сярод гісторыкаў ІГ АНБ адначасова ёсць „прыслужнікамі капіталізму" і „праціўнікамі народа". Прэзідэнт жа, які працяглы час мусіў абыходзіцца без адданага яму ідэалагічнага аддзела, у абліччы аб'яднання „Исторические знания" атрымаў у рукі важны козыр. Для будучых спрэчак наконт памятных дзён і ацэнкі тых ці іншых гістарычных працэсаў цяпер ён меў у сваім распараджэнні „спецыялістаў", адмысловая кампетэнцыя якіх павінна была дапамагаць падтрымцы і апраўдванню ягоных пастановаў у сферы выдавецкай палітыкі і пытанні падрыхтоўкі школьных падручнікаў.

Са свайго боку, ветэраны-гісторыкі могуць быць упэўненыя ў фінансавай і публікацыйнай падтрымцы прэзідэнта і разглядаць яго як аднаго са сваіх людзей: „Наш прэзідэнт, які паходзіць з народа і абраны народам, заўсёды пачынае свае выступы перад рабочымі і калгаснікамі, вайскоўцамі і працоўнай інтэлігенцыяй з дарагога ўсім нам звароту «таварышы»"[142]. Відавочна тое, што абраны ў постсацыялістычнай Беларусі прэзідэнт мае намер забяспечыць існаванне неасавецкай гістарыяграфіі, якая не вядзе сваіх уласных даследаванняў, а разумее сваю функцыю ў тым, каб, грунтуючыся на пастулатах БССРаўскай гістарыяграфіі, весці змаганне супраць працаў нацыянальна-гістарычнай школы. Гэты хаўрус улады й ідэалогіі вызначыўся самае позняе з сярэдзіны 1995 г. З радыкальнага характару выказванняў тады вынікала страта публіцыстычнай празрыстасці і фінансавай падтрымкі нацыянальнай гістарыяграфіі"[143].

[141] Жураўскі Аркадзь, Няфёд Уладзімір, Залескі Адам і інш. Гістарычная праўда не павінна скажацца. Аб сур'ёзных недахопах выдання „Энцыклапедыі гісторыі Беларусі" // НГ, 1.08.1996. С.2—3. Параўн. ранейшы адкрыты ліст аб'яднання да Лукашэнкі: Открытое письмо Президенту Рэспублики Беларусь А.Г.Лукашенко. „Работа по восстановлению исторической правды подвергается яростному сопротивлению со стороны национал-экстремистов, претендующих на истину в последней инстанции" // НГ, 19.06.1996. С.3.

[142] Заявление Белорусского и Минского научного объединения... (op. cit.).

[143] Аўтар папярэджваў пра тэндэнцыі гэткага кшталту яшчэ на II кангрэсе беларусістаў, што адбыўся ў траўні 1995 г. Параўн.: Лінднэр Райнер. Нязменнасць і змены ў

У той час як гісторыкі з Акадэміі не дазвалялі сабе апускацца да навуковых спрэчак з атачэннем Залескага, адбывалася ідэйная дыскусія паміж бальшынёй супрацоўнікаў Інстытута гісторыі АНБ і П.Ц.Петрыкавым, якога яшчэ за 15 гадоў перад тым, у ліку іншых, крытыкаваў Залескі. З'яўляючыся прафесарам, шматгадовым дырэктарам ІГ АН БССР (1975—1988 г.) і членам-карэспандэнтам Акадэміі навук, Петрыкаў з канца 60-х г. належаў да групы вядучых гісторыкаў БССР. Апублікаваўшы ў прэзідэнцкім часопісе „Беларуская думка" ў сакавіку 1996 г. падрабязную рэцэнзію на першыя два тамы ЭГБ, Петрыкаў не толькі выклікаў дэбаты, бачачы ў выданні покрыва „туману русафобіі". Амаль у тых самых словах ён таксама зрабіў Інстытут гісторыі адказным за „заняпад" беларускай гістарычнай навукі:

> „На жаль, у наш час пад яго [Інстытута — **Р.Л.**] уплывам ажыццяўляецца татальная фальсіфікацыя не толькі ў «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі», а і ў новых падручніках для вучняў школ, «Нарысах гісторыі Беларусі» (у 2-х частках) для студэнтаў і выкладчыкаў, многіх манаграфіях, брашурах і артыкулах. Такая дзейнасць Інстытута гісторыі АНБ як дзяржаўнай установы супярэчыць гістарычнай праўдзе, карэнным інтарэсам беларускага народа, палітыкі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, якая грунтуецца ў адносінах да Расіі на выніках усенароднага рэферэндуму, праведзенага ў маі 1995 года"[144].

Сваімі выказваннямі Петрыкаў адразу зарэкамендаваў сябе як новы *spiritus rector* [лац. „духоўны правадыр". — *Заўвага перакладчыка*] гістарычнага аддзела рэдакцыі Энцыклапедыі. Пачынаючы з 1995 г. ён пачаў ужо задаваць тон у дзяржаўнай камісіі ў справах падручнікаў, а кадравыя змяненні, што адбыліся ў кіраўніцтве БелЭн цягам красавіка—траўня 1996 г., урэшце, прывялі тады ўжо амаль 70-гадовага Петрыкава на пасаду першага намесніка галоўнага рэдактара „Беларускай Энцыклапедыі" і, тым самым, на ролю асобы, адказнай за ажыццяўленне праектаў, звязаных з гісторыяй. Ліст пратэсту, скіраваны неўзабаве пасля таго Інстытутам гісторыі на адрас Дзяржаўнага камітэта па друку Беларусі, дзе выказвалася нязгода з праведзенымі зменамі ў кіраўніцтве БелЭн, тут жа выклікаў публічныя дэбаты, што адкрыта вяліся цягам некалькіх месяцаў[145].

Ад самага пачатку галасы супраць і ў падтрымку новай канцэпцыі БелЭн мелі палітычны складнік. Дэбаты з Петрыкавым пачалі ставіць пад пытанне „нацыянальную канцэпцыю" як тэарэтычную і метадалагічную мадэль беларускай гістарыяграфіі. Петрыкаў адназначна выступіў супраць крэда нацыянальнай гіста-

постсавецкай гістарыяграфіі Беларусі // Кантакты і дыялогі. 1996. № 3. С.20—25, у гэтым выпадку с.21.

[144] **П.Ц.Петрыкаў** (нар. у 1927 г.) пасля абароны доктарскай дысертацыі („Деятельность Советов депутатов трудящихся Белорусской ССР по созданию материально-технической базы коммунизма, 1959—1965 г.". Мінск, 1972) тры гады працаваў сакратаром парткама АН БССР. З 1984 г. ён быў загадчыкам аддзела гісторыі навукі, з 1991 г. галоўным навуковым супрацоўнікам АН БССР. Гл.: Петрыкаў П.Ц. Туман „русафобіі" ахутаў Беларускую Энцыклапедыю // БД. 1996. № 3.

[145] Зварот падпісалі А.Грыцкевіч, М.Ермаловіч, М.Касцюк, Г.Кісялёў, У.Конан, А.Мальдзіс, В.Скалабан, Г.Штыхаў. Тэкст быў апублікаваны напрыканцы траўня 1996 г. у тыднёвіку „Голас Радзімы", дзе адбываўся таксама працяг дыскусіі.

рыяграфіі, вызначанага яго калегамі з Інстытута Бічом і Касцюком на пачатку 90-х г. у якасці трыяды „дэідэалагізацыя—дэпартызацыя—дэпалітызацыя“[146]. Маўляў, ад самага пачатку ў ягонае, Петрыкава, разуменне гісторыі не ўпісвалася тое, што гісторыя Кіеўскай Русі надалей мелася азначацца не як частка і крыніца паходжання супольнае ўсходнеславянскае гісторыі, альбо тое, што ўсе рускія альбо расійскія дзяржаўныя ўтварэнні раптоўна мелісяператварыцца ў варожыя дзяржавы, а расійцы цяпер мусілі трактавацца як заваёўнікі Беларусі. З гэткай „дэпалітызацыяй“ гісторыі, дзе няма месца ані капітуляцыі фашысцкай Нямеччыны, ані Дню перамогі 1945 г. у Маскве, ён, маўляў, не хацеў мець анічога агульнага. Петрыкаў зрабіў перасцярогу грамадскасці ў абыходжанні з Народным Фронтам і публікацыямі Інстытута гісторыі, якія ўсімі спосабамі меліся закласці „міну“ пад падмурак дзяржаўнай палітыкі менавіта ў аспекце беларуска-расійскіх дачыненняў[147].

Адказ з боку крытыкаваных калегаў не змусіў сябе доўга чакаць. Касцюк адмежаваўся ад нападаў гісторыкаў, якія, маўляў, цягам апошніх дзесяці—пятнаццаці гадоў ніводнага разу не бачылі архіваў знутры й, адпаведным чынам, ні ў які спосаб не маглі абвергнуць высноваў, на якія абапіраецца нацыянальная канцэпцыя гісторыі ІГ АНБ. Да таго ж, напады Петрыкава, відавочна, меліся вынікаць з таго факта, што сам ён, пачынаючы з канца 80-х г., пад час дваіх перавыбараў у Вучоную раду ІГ АНБ, нягледзячы на энергічныя захады, не здолеў сабраць бальшыні галасоў у падтрымку сваёй кандыдатуры. З таго часу, маўляў, ён выкарыстоўвае любую магчымасць нанесці шкоду Інстытуту ды ягонаму кіраўніцтву. Найбольш крытыкаваныя Петрыкавым артыкулы ў ЭГБ пра гісторыю БНР і БНФ былі напісаныя зусім не супрацоўнікамі Інстытута і нават не прафесійнымі гісторыкамі[148]. Міхась Біч, акрамя таго, адкідаў высунутыя Залескім ды Петрыкавым абвінавачванні ў русафобіі, якая нібыта ўтрымлівалася ў першых двух тамах ЭГБ. Зрэшты, Петрыкаў, маўляў, згадаў у сваёй рэцэнзіі не больш як пяць з пяці тысяч артыкулаў і паспрабаваў паказаць, нібыта гэткія гістарычныя факты, як русіфікацыя Беларусі ў XIX ст., былі міфам:

> „Надуманы тэзіс аб «русафобіі» ў беларускай гістарыяграфіі зараз шырока выкарыстоўваецца праціўнікамі нацыянальнага адраджэння беларускага народа ў нашай рэспубліцы для абвінавачвання гісторыкаў, якія ў першай палове 90-х г. паспрабавалі паказаць у сваіх працах гісторыю Беларусі з агульнапрынятых ва ўсіх суверэнных краінах нацыянальна-дзяржаўных пазіцый“[149].

[146] Параўн. абедзве найважнейшыя канцэптуальныя публікацыі: Біч Міхась. Аб нацыянальнай канцэпцыі гісторыі і гістарычнай адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь // БГЧ. 1993. № 1. С.15—24; Касцюк М.П. Нацыянальная канцэпцыя гісторыі Беларусі: асноўныя падыходы... (op. cit.). С.3—10. Тэарэтычныя выкладкі гл. у: Сагановіч Генадзь. Нацыянальнасьць гісторыі як навукі // БГА. 1994. Т.1. Сш.1. С.5—14.

[147] Бітва на полі гісторыі (Інтэрвію з П.Ц.Петрыкавым) // Голас Радзімы,18.07.1996. С.3. Усе цытаты ўзятыя адсюль.

[148] Касцюк Міхась. Палітызаваная гісторыя не можа быць сапраўднай навукай // Тамсама, 8.08.1996. С.1, 3.

[149] Біч Міхась. Туман дылетанцтва і тэндэнцыйнасці // Тамсама, 12.09.1996. С.3, 5, у гэтым выпадку с.3.

адпавядала тое, што ў ім народнасць абвяшчалася паняццем „свяшчэнным і Богам дадзеным“, якое не можа быць разбурана. Ад народнасці меў адрозніваццa патрыятызм, любоў да Бацькаўшчыны. А яна, маўляў, знаходзіцца там, „дзе чалавек быў народжаны, узгадаваны, дзе жылі яго бацькі, яго народ“. Гэтаму аўтар процiпастаўляў нацыяналізм. Пад апошнім маецца на ўвазе любоў да свайго народа. Цікава тое, што і ў гэтым тэсце, як і ў выпадку з польскай мовай, лацінскае *natio* перадаецца словам „народ“:

> „Нацыяналізм сам па сабе рэч добрая, бо кожан чалавек павінен ведаць і прызнавацца да свайго роду, павінен ведаць, да якой ён належыць нацыі і любіць яе, але апошнімі часамі словам гэтым сталі азначаць людзей, каторыя сваю народнасць хацелі паставіць над другімі народнасцямі, каторыя стараліся вырваць з сэрца другога народу усё багацце іх душы і зрабіць яго сваім служкаю“[242].

Повязь паміж нацыяналізмам, вайной і індывідуальнымі супярэчнасцямі аўтар паспрабаваў патлумачыць, ужываючы такую характарыстыку, як „воўчы характар“ чалавека: *homo homini lupus* [*est*]. Як бы там ні было, публіцыстам удалося выразна паказаць гістарычны маштаб гэтай праблемы і прыгнечанае становішча беларускага народа. Адмоўны вобраз гісторыі, відавочна, мусіў змабілізаваць тую энергію, што магла б дапамагчы вырвацца з гістарычнага замкнёнага кола. Асвета і адукацыя меліся спрычыніцца да таго, каб беларусы паклалі на шалю вагаў перавагі свайго „нацыянальнага характару“ ў дачыненні да суседніх вялікіх нацыяў:

> „Мы прывучыліся слухаць чужой каманды: чына з гузікамі, пана вяльможнага, — прывыклі цалаваць ім рукі і гнуць перад імі спіну да зямлі. І затым-та яны глядзяць на заўсёды «пакорнага» беларуса, як на раба, і да людзей, каторыя нават сваю мову вучыць спрабуюць, маюць толькі пагарду“[243].

Гэтая стратэгія мабілізацыі паводле адмоўнага была ўласцівай беларускай палітычна-гістарычнай публіцыстыцы аж да БНРаўскага *intermecco* ў 1918 г. Віленскія інтэлектуалы — пад абаронай нямецкай акупацыйнай улады і дэкрэтаванага нямецкім генерал-фэльдмаршалам Паўлем фон Гіндэнбургам дазволу ўжываць беларускую мову ў якасці раўнапраўнага сродку камунікацыі — свядома ўзяліся за пабудову незалежнай дзяржавы.

Між тым, першая гэткага кшталту спроба, утвораная напрыканцы 1915 г. „Канфедэрацыя Вялікага Княства Літоўскага“, поспеху практычна не мела. Канфедэрацыя, карані якой знаходзіліся ў асяроддзі польскіх, літоўскіх, беларускіх і габрэйскіх патрыётаў, напачатку стала вяршыняй руху „краёвасці“, які, пад кіраўніцтвам Рамана Скірмунта, з 1905 г. выступаў за фармаванне аднароднай палітычнай нацыі насельніцтва Беларусі-Літвы. Цікава, што галоўнай арганізацыйнай формай „патрыётаў“ былі ложы вольных муляраў, што ўтварыліся ў 1910—1914 г. передусім у Вільні: „Адзінства“ (1910), „Літва“ (1911), „Беларусь“ (1914).

242 Тамсама.
243 Mieleszka I. Siła nasza — u nas samych // Biełaruski kalendar na 1917 hod. Wilna, 1916. С.18. Гэты штогоднік выйшаў у друкарні газеты „Homan“.

межах, што былі вызначаныя царскім ведамствам цэнзуры і міністэрствам народнай асветы, з разважанняў аўтара высвечвалася прыхаваная крытыка маскоўскіх уладароў; Іван Жахлівы і яго скіраваныя супраць Літоўскага Княства заваёўніцкія войны пры гэтым зрабіліся аб'ектам асцярожнага асуджэння — гэтаксама як спусташальныя паходы Пятра Вялікага супраць шведаў па беларускіх землях.

Тэрытарыяльны кантынуітэт беларускай гісторыі была гісторыку Турчыновічу гэтаксама даспадобы, як і поўная, без прабелаў, генеалогія ўлады. Адначасова з геаграфічным вызначэннем вобласцяў, што трэба называць беларускімі, ён выкарыстоўваў паняцці „Крыўская зямля" („Кривская земля") і „Беларусь" („Белоруссия") як сінонімы. Гэтая канцэпцыя ўключала ў сябе паняцце „айчына" („отечество"), гэтаксама як акцэнтаванне протадэмакратычных прынцыпаў дзяржаўнага ладу — напрыклад, у выпадку з заснаваным Міндоўгам „народным соймам" („народный сейм"). Да гэтага дадавалася ўжыванне паняцця „дзяржава" ў дачыненні да Вялікага Княства Літоўскага, якое тут упершыню ўзнікла ў сувязі з беларускай гісторыяй. „Паступова Заходняя Русь стварала новую самастойную дзяржаву — княства Літоўскае"[135]. Назвы, ужываныя Турчыновічам стасоўна Вялікага Княства Літоўскага, варыяваліся і сведчылі пра розныя гістарыяграфічныя пазіцыі. Побач з дамінуючым тэрмінам „Великое Княжество Литовское" ў гэтага аўтара раз-пораз сустракаюцца „Литва" і „Литовско-Русское государство". У той жа час зафіксаваныя ў аўтэнтычных дакументах XVI ст. „афіцыйныя" назвы Вялікага Княства („*Magnus ducatus Lithuaniae et Russiae*") („*Magnus dux Lithuaniae, Samogithiae, Russiae etc. dominus et haeres*") у гэтай працы не згадваліся.

Хоць у інтэрпрэтацыі Турчыновіча беларуская гісторыя таксама раствараласяў гісторыі ўзаемных стасункаў паміж Польшчай (-Літвой) і Расіяй, аўтар не збаяўся ўжывання паняцця „Беларусь". Нягледзячы на забарону такога ўжывання ўказам Мікалая I у 1840 г., тут былі зазначаныя такія тэмы, як „Барацьба за Беларусь і Русь Літоўскую", а таксама бясслаўная для расійскай палітычнай і вайсковай гісторыі бітва пад Оршай (1514 г.). Літоўска-маскоўскія войны, захоп маскавітамі памежных земляў Вялікага Княства і „падзенне славутага Полацка, які гэтак бязлітасна быў разбураны Іванам [Жахлівым. — Р.Л.]" (1563 г.) Турчыновіч нават акрэсліў як пачатак канца „доўга захоўванай самастойнасці Беларусі"[136].

> „Гістарычны лёс [Беларусі — Р.Л.] не надта ўсцешны. Тут было адвечнае месца бітваў. У вайсковых сутыкненнях новазаснаваныя паселішчы тутэйшых землеўладальнікаў не мелі ніякай абароны і ператвараліся ў поле бою. Да таго часу, калі сюды было прынесена хрысціянства, а з ім першыя парасткі грамадзянскасці («граждаиственность»), гэтая плодная зямля магла пракарміць нават суседнія народы. З прычыны пазнейшых войнаў, аднак, на гэтых зямельных абшарах не маглі ўзнікнуць ані найцішэйшы парадак, ані адукацыя ці дабрабыт"[137].

[135] Тамсама, с.75, 79, 89.
[136] Тамсама, с.174.
[137] Тамсама, с.239.

Тут ідзе зробленая на палях дакумента па-расійску ўстаўка, якая была ўключаная ў яго канцавую рэдакцыю:

> „Асабліва важным дзеля дасягнення гэтай мэты ёсць яшчэ больш актыўны ўдзел камуністаў у справе палітычнага выхавання навуковых работнікаў. Асабліва ў змаганні супраць нацыяналістычных поглядаў камуністы павінны быць актыўнымі і прынцыповымі. У актуальны момант у партыі павінна перадусім весціся барацьба супраць рознага кшталту нацыянал-дэмакратычных ідэяў. У звязку з гэтым важнай з'яўляецца далейшая праца па падрыхтоўцы навуковых кадраў у вышэйзгаданым духу"[59].

Нацыянальная палітыка партыі — гэтаксама як навуковае асэнсаванне нацыянальнага пытання гісторыкамі і філолагамі навукова-даследчай і педагагічнай сфераў дзейнасці — у працяглай перспектыве заставалася ў праблемна-дыскусійным полі. На паседжанні „камуністычных навукоўцаў" Беларусі маскоўскае партыйнае кіраўніцтва выказала сваё расчараванне з прычыны „недастатковай ідэалагічнай падрыхтоўкі" ў БССР студэнтаў, выкладчыкаў ВНУ і пісьменнікаў. Іншыя наўпрост гаварылі пра „дрэнныя вынікі беларусізацыі". Прафесура, да прыкладу, нездавальняльным чынам рыхтавалася для таго, каб адпавядаць новым патрабаванням. Не абышлося і без галасоў пра „кепскую славу" беларусізацыі ў цэлым. Паводле выказванняў, што прагучалі, студэнты скептычна ставяцца да беларусізацыі не ў апошнюю чаргу таму, што ім ніхто не можа сказаць, „ці яны ўвогуле будуць тут працаваць і ці спатрэбіцца ім беларуская мова". Той факт, што ў беларускай прэсе не маглі б быць надрукаваныя крытычныя выказванні, у той час як у РСФСР гэта яшчэ было ў цэлым магчыма, канчаткова пацвярджае, што напрыканцы 1920-х г. няпоспех праекта „каранізацыі" не толькі быў паўсюдна відавочны, але і адкрыта абмяркоўваўся на форумах кшталту вышэйзгаданага[60].

Між тым, сталінская формула, выказаная ім у дачыненні да культур ускраін, што яны мусяць быць „пралетарскімі сваім зместам і нацыянальныя ў сваёй форме", і ў гэты час сваёй актуальнасці не страціла[61]. Але рэзананс быў абмежаваны. Як „права на адасабленне", гэтак і вызначанае на перспектыву спрыянне нацыянальных правоў нерасійскіх этнасаў, мелі ў БССР і прыхільнікаў і скептыкаў. У рэтраспектыве адзін з назіральнікаў выказаўся наконт сталінскай нацыянальнай палітыкі наступным чынам:

> „Афіцыйна савецкая палітыка абвяшчае, што кожная нацыя мае права на самавызначэнне. Але гэтак яно ёсць толькі ў канстытуцыі, не ў рэчаіснасці. Насамрэч, сітуацыя зусім іншая, савецкі рэжым умешваецца ў справы ўсіх нацыянальнасцяў. Вы ведаеце афіцыйны лозунг: нацыянальнае паводле формы, сацыялістычнае паводле зместу. Гэта значыць не што іншае, як, да прыкладу, тое, што опера можа быць пастаўленая на беларускай мове, акторы могуць быць апранутыя ў

[59] Тамсама, арк.671 і наст.

[60] Пратакол паседжання камуністычных навукоўцаў (12.06.1929): НАРБ, ф.4, воп.21, спр.200, арк.2 і наст.

[61] Сталін І. Пра палітычныя задачы універсітэта народаў Усходу. Цытуецца паводле: Über die politischen Aufgaben der Universität der Ostvölker // Stalin, J. Der Marxismus und die nationale und koloniale Frage... (op. cit.). С.265—282. Тут змяшчаецца таксама нямецкі пераклад дакумента партыйнага з'езду з рашэннем адносна „каранізацыі".

супраць уплываў чужых элітаў на беларускіх тэрыторыях[174]. Інтэрпрэтацыя гісторыі — гэта датычыць і „западно-руссизма“ Каяловіча, і „беларусізму“ Ластоўскага — ужо задоўга да 1917 г. была моцна палітызаваная. Спрэчка пра гістарычны патэнцыял беларускай дзяржавы і існаванне беларускай нацыі адыграла ў гэтым істотную ролю.

## 2.1.4. Міф дзяржавы і нацыі

Як ужо было паказана вышэй, росквіт і заняпад у інтэрпрэтатараў беларускай гісторыі здаўна крочылі поруч. Паводле меркавання дасавецкіх беларускіх гісторыкаў, народ паміж Дзвіною і Прыпяццю з найдаўнейшых часоў меў сваю дзяржаўнасць, альбо, самае меншае, праходзіў этапы развіцця, праз якія закладваўся падмурак дзяржаўнасці. Увесну 1918 г., калі Рада БНР у сваёй Грамаце абвяшчала пра „незалежную і вольную Дзяржаву Беларусь“ і пра канец панавання на Беларусі чужынцаў, якое цягнулася „шмат сотняў гадоў“[175], міф беларускае дзяржаўнасці на нейкі час набыў трывалы агрэгатны стан. Няма ніякага дзіва, што ў тым самым годзе ён знайшоў і найбольшую колькасць сваіх пашыральнікаў. Як ужо паказвалася вышэй, крывіцкая традыцыя, якую асабліва вылучалі Доўнар-Запольскі і Ластоўскі, утварала зыходны пункт для міфа дзяржавы. Паводле гэтай версіі, у адрозненне ад памкненняў кіеўскіх князёў да цэнтралізацыі і засяроджання вялікай улады ў адных руках, суседнім утварэнням — гэткім, як, прыкладам, Полацкае княства — залежала на тым, каб адбываліся „дэцэнтралізацыя і пабудова самастойнага дзяржаўнага ўладкавання“ („самостоятельного государственного устройства“)“[176]. Беларуская дзяржаўнасць, маўляў, ніколі не пераставала існаваць — у выглядзе „Полацкай рэспублікі“ альбо „беларускага характару Літоўскай дзяржавы“, альбо „аўтаномнай беларускай правінцыі“ ў складзе Рэчы Паспалітай[177]. Сто пяцьдзесят гадоў расійскага панавання з канца XVIII ст. да [Першай сусветнай] вайны і распаду царскай імперыі ў разуменні нацыянальна арыентаваных гісторыкаў 1918 г. былі толькі перапынкам.

Выступы беларускіх гісторыкаў у 1918—1919 г. можна толькі з агаворкамі аднесці да іх навуковага даробку. Як гэта потым мела месца і ў 1991 г., беспасярэдне перад абвяшчэннем незалежнасці, спатрэбіліся гатовыя тлумачэнні гісторыі, якія павінны былі легітымізаваць і гістарычна абгрунтаваць дасягнутую і

[174] У развіццё праведзенай пазней у падсавецкай гістарыяграфіі дыскусіі пра „формулу меншага зла“ антыпольскія і антырасійскія сентэнцыі ды „вобразы ворага“ дасавецкай беларускай нацыянальнай гістарыяграфіі класіфікуюцца як тэорыя „двух зол“. Параўн.: Смалянчук Аляксандр. Паміж „двух зол“. Вобраз „ворага“ ў беларускай нацыянальнай гістарыяграфіі другой паловы XIX — пачатку XX ст. // ЛіМ, 11.10.1996. С.14—15.

[175] Тэкст, датаваны днём 28 лістапада 1918 г., быў нядаўна перадрукаваны. Гл.: Грамата Рады Беларускай Народнай Рэспублікі // Грыцкевіч А.П. (рэд.) Адраджэнне. Гістарычны альманах. Вып. 1. Мінск, 1995. С.232—235.

[176] Довнар-Запольский М.В. Очерк истории... (op. cit.). С.97 і наст.

[177] Так гэта пададзена ў кн.: Цвикевич А. Беларусь. Политический очерк. (Издание Чрезвычайной Дипломатической Миссии Белорусской Народной Республики). Берлин, 1919, у гэтым выпадку гл. с.10.

кай — з адным выняткам: „Беларускі Гістарычны Агляд / Belarusian Historical Review" (выдавец якога Генадзь Сагановіч належыць да шматабяцальных гісторыкаў маладзейшай генерацыі), несумненна — не толькі дзякуючы сваёй тэматычнай ураўнаважанасці, публікацыі перакладаў тэкстаў заходняй школы, адметнаму макетаванню нумароў дасягнуў заходняга ўзроўню. Аднак без фінансавай падтрымкі з беларускіх дзяржаўных альбо прыватных крыніц і пасля выдалення з Мінска Фонду Сораса часопіс напрыканцы 1996 г. часова апынуўся перад пагрозай знікнення і мусіў разлічваць толькі на фінансавую падтрымку з-за мяжы. Гэткія часопісы, як „Беларуская мінуўшчына" альбо „Спадчына", праз свой папулярны характар і якасць друку займелі досыць шырокае кола чытачоў. З эканамічных прычын наклад абодвух выданняў у часе з 1993 да 1996 г. меўся зменшыцца з 8 000 да 3 100 („Беларуская мінуўшчына") і з 9 400 да 3 400 („Спадчына") — працэс, які ў падобнага кшталту „дынаміцы" назіраўся таксама ў дачыненні да іншых перыядычных выданняў. Аўтары і выдаўцы названых часопісаў належалі да кола самых выбітных гісторыкаў краіны, якія, відавочна, зразумелі рыначную вартасць нацыянальнае гісторыі і, у гэткі спосаб, маглі спрыяць ажыўленню навуковай дыскусіі. У заяве аб сваёй пазіцыі выдаўцы новазаснаванага ў 1993 г. часопіса пад загалоўкам „Ведаць гісторыю — бачыць будучыню" гавораць пра пільную неабходнасць вывучэння ўласнай мінуўшчыны. Урэшце, маўляў, „беларусы атрымалі магчымасць «людзьмі звацца», быць народам, а не «тутэйшым насельніцтвам»":

> „Толькі яна [гістарычная памяць — Р.Л.] дасць нам магчымасць зразумець сваё месца на зямлі, зразумець і вярнуць сабе сваю багацейшую тысячагадовую спадчыну, раскрыць перад усім светам і самім сабою тое, што нам вякамі забаранялася, хавалася... [...] ...Толькі гістарычная праўда дапаможа адчуць свае карані, асэнсаваць сённяшняе, зазірнуць у дзень заўтрашні, абудзіць энергію і творчыя сілы народа, яго годнасць"[154].

У 1991—1994 г. вялікаю была колькасць перавыдадзеных рэпрынтным альбо звычайным спосабам працаў беларускіх аўтараў. Сярод іх — „Кароткая гісторыя Беларусі" Ластоўскага (1910 г.), „Кароткі нарыс гісторыі Беларусі" Ігнатоўскага (1926 г.) альбо падрыхтаваная паводле захаваных частак рукапісу і выдадзеная ўпершыню „Гісторыя Беларусі" Доўнара-Запольскага. У 1996 г. пачалося ажыццяўленне вялікага рэпрынтнага праекта. З нагоды 135-й гадавіны з дня народзінаў нестара беларусазнаўства Яўхіма Карскага на пачатку 1996 г. меўся быць перавыдадзены і патрапіць на кніжны рынак першы том новазапланаванага поўнага выдання па-ранейшаму самай ёмістай манаграфічнай працы ў галіне беларусістыкі „Беларусы". Упершыню гэтая праца выходзіла паасобнымі выпускамі з 1903 да 1922 г. Выданне першых беларускамоўных газет дарэвалюцыйнага часу („Свабода", „Наша Ніва") таксама было прадоўжана наваствораными рэдакцыямі. Акрамя таго, былі перавыдадзеныя арыгіналы „Нашай Долі" і шэрагу выпускаў „Нашай Нівы". За горкую іронію гісторыі можна ўважаць той факт, што беларускае „Таварыства сляпых" узяло назву дарэвалюцыйнай „Нашай Долі" для свайго ўласнага органа.

[154] Ведаць гісторыю — бачыць будучыню // БМ. 1993. № 1(1). С.3—4.

Выдавецтвы адкрылі патрэбу чытачоў у гістарычнай інфармацыі як нішу на рынку. Анталогіі, усялякага кшталту календары, рэлігійныя творы знаходзілі свайго чытача побач з патокам перакладной заходняй літаратуры — ад класікаў да бульварных раманаў. Колькасць друкаваных навуковых манаграфіяў тым часам была надзвычай невялікай. Дыскусіі на гістарычную тэматыку пераважна адбываліся на старонках перыядычных выданняў. Пры сістэматычных занятках гістарычнай дыскусіяй на падставе газетных і часопісных публікацыяў грунтоўныя бібліяграфіі выявілі сябе як надзвычай карысная дапамога. Побач з манаграфіямі і сінтэзамі на тэмы беларускай гісторыі і гістарыяграфіі тут сабраныя і сістэматызаваныя звесткі пра ўсе найважнейшыя друкаваныя крыніцы публіцыстычнага кшталту[155]. Добра зарганізаваныя дапаможныя гістарычныя навукі падсавецкага часу, якія ацалелі пасля змены эпох, здолелі ў галіне бібліяграфічнай справы заставацца надалей гэткімі самымі эфектыўнымі, як і ў галіне энцыклапедычнай літаратуры. Якасны і колькасны публіцыстычны кідок наперад беларускай гістарыяграфіі, а таксама мастацтвазнаўства і філалагічных навук у апошнім дзесяцігоддзі было б цяжка сабе ўявіць, не беручы пад увагу дзейнасць заснаванага ў 1967 г. выдавецтва „Беларуская Савецкая Энцыклапедыя“, якое сёння носіць назву „Беларуская энцыклапедыя імя Петруся Броўкі“ (БелЭн).

Пасля таго, як у названым прамежку часу у такіх галінах, як беларуская этнаграфія, мова, архітэктура, былі выдадзеныя распрацаваныя вялікім коштам аднатамовыя энцыклапедычныя даведнікі, гістарычная секцыя знакамітай установы распачала выданне „Энцыклапедыі гісторыі Беларусі“ (ЭГБ), чатыры тамы якой да канца 1997 г. выйшлі з друку [першая кніга апошняга, шостага тома ўбачыла свет у другой палове 2001 г. — *Заўвага перакладчыка*]. Пасля раптоўнай смерці 5 ліпеня 1995 г. адказнага за гэтае выданне галоўнага рэдактара БелЭн Б.І.Сачанкі пытанне замяшчэння названай функцыі прывяло да прафесійнага і палітычнага сутыкнення інтарэсаў паміж галоўнай рэдакцыяй БелЭн і вышэйпастаўленым Міністэрствам культуры. Паводле ацэнкі міністэрскай бюракратыі, зробленай пасля меркаваных умяшанняў з атачэння прэзідэнта, першыя два тамы занадта моцна ўхіліліся ў бок нацыянальна арыентаванай інтэрпрэтацыі гісторыі[156]. У той самы час, калі 48-гадовы пісьменнік-функцыянер і намеснік рэдактара часопіса „Полымя“ Генадзь Пашкоў, які з 1989 г. працаваў кансультантам у апараце ЦК КПБ, заняў пасаду галоўнага рэдактара БелЭн, савецкі гісторык Петрыкаў таксама быў уключаны ў склад галоўнай рэдакцыі й вызначаны як адказны за гістарычныя публікацыі. На кароткі час нават увесь праект ЭГБ апынуўся фактычна ў ягоным распараджэнні. Цяпер трэба было „толькі“ цалкам перапрацаваць трэці том і вызваліць яго ад быццам бы „антырасійскіх“ тэзаў. Нягледзячы на ўсе палітычныя ўмяшанні, што мелі месца ў 1995 і 1996 г., праца рэдакцыі была прадоўжаная ў ранейшым аб'ёме: гэтак, выйшлі падрыхтаваныя яшчэ ў 1993—1995 г. пад

[155] Новая літаратура па гісторыі і гістарычных навуках Беларусі, 1991: Бібліяграфічны паказальнік. Мінск, 1993 (укладальнік Г.І.Антонава).

[156] Публічная крытыка з боку прыдворных гісторыкаў прэзідэнта, вядома, з'явілася пасля пэўнай паўзы: Жураўскі Аркадзь, Няфёд Уладзімір, Залескі Адам і інш. Гістарычная праўда не павінна скажацца... (op. cit.).

эгідай Б.Сачанкі аднатамовыя энцыклапедычныя даведнікі „Мысліцелі і асветнікі Беларусі" і „Беларусь"[157].

Энцыклапедыя „Беларусь" адначасова ўяўляла сабою пілотны том для найвялікшага — пасля выдадзенай у 1969—1975 г. 12–тамовай „Беларускай Савецкай энцыклапедыі" — свайго кшталту беларускамоўнага праекта „Беларускай энцыклапедыі ў 18–ці тамах", стартавы наклад якой налічваў 10 000 паасобнікаў. Першы том выйшаў у 1996 г.; да 1998 г. з'явіліся наступныя пяць тамоў [у сярэдзіне 2003 г. з друку выйшаў 15–ы том. — *Заўвага перакладчыка*]. Ухвалены яшчэ за часоў ураду Кебіча вялікі праект, тым часам, узімку 1995/1996 г. зазнаў уплыву змены кіраўніцтва — калі пэўныя артыкулы ў апошняй хвілі былі дададзеныя, а іншыя, наадварот, выключаныя[158]. Па–за зменамі персанальнага складу галоўнай рэдакцыі, на думку вышэйзгаданага, прасякнутага савецкай настальгіяй і блізкага да прэзідэнта аб'яднання „Исторические знания", названая рэдакцыя мелася быць падпарадкаваная ўжо не Дзяржкамдруку, а беспасярэдне прэзідэнцкай адміністрацыі. Маўляў, патрабаванне „праўдзівасці ды аб'ектыўнасці" гэткай капітальнай працы, якою ёсць вялікая Энцыклапедыя, апраўдвае не толькі гэткі крок, але і патрабуе стварэння „Навукова–метадычнага савета", персанальны склад якога павінен вызначыць прэзідэнт Лукашэнка[159]. У выніку такіх заяваў галоўная рэдакцыя БелЭн, пачынаючы з лета 1996 г., увесь час знаходзілася пад пільным кантролем прэзідэнцкай цэнзуры.

Побач з друкаваным словам падзел гістарычнага бачання постсавецкага беларускага грамадства адбыўся яшчэ па адной праблеме — помніках. Беларусь і сёння яшчэ вельмі аддаленая ад перспектывы стварэння нацыянальна–гістарычнай мемарыяльнай культуры, якую можна было б як–кольвечы параўнаць з адпаведнай культурай прыбалтыйскіх краін. Штурму ранейшых сімвалічных выяваў пасля 1990 г. не адбылося ані ў Мінску, ані дзе–небудзь яшчэ. У некалькі разоў большая за натуральны рост чалавека статуя Леніна перад будынкам Дома ўраду і помнік Дзяржынскаму на праспекце Скарыны могуць быць названыя ў якасці яскравых прыкладаў закансерваванага савецкага сімвалічнага свету. Адначасова хуткімі тэмпамі пачалі рэстаўравацца выкарыстоўваныя не паводле прызначэння будынкі й архітэктурныя помнікі, перадусім рэлігійнага характару. Гэтак як яно мела месца ў дачыненні ад друкаваных гістарычных працаў, на п'едэсталах гарадскіх помнікаў панаваў своеасаблівы парытэт пераняты у спадчыну і новаадкрытай гісторыі савецкага і нацыянальнага кшталту. Праблемы ўзнаўлення нацыянальнай гісторыі мы закранём на прыкладзе двух самых знакамітых помнікаў беларускага Сярэднявечча — абарончага замка ў Міры і палаца Радзівілаў у Нясвіжы.

Цягам навукова–практычнай канферэнцыі, што адбывалася 17—21 жніўня 1993 г. у Міры, у першую чаргу меліся быць абмеркаваныя пытанні захавання і

[157] Параўн.: Мысліцелі і асветнікі Беларусі. XI—XIX стагоддзі: Энцыкл. даведнік / Рэд. калегія: Сачанка Б.І. і інш. Мінск, 1995, а таксама: Беларусь. Энцыкл. даведнік / Рэд. калегія: Сачанка Б.І. і інш. Мінск, 1995.

[158] Беларуская энцыклапедыя: У 18–ці тамах / Гал. рэдакцыя Беларускай энцыклапедыі. Мінск, 1996 і наст. Параўн. рэцэнзію на першы том: Дзярновіч Алег. Спроба універсалізму // НН, 22.07.1996. С.6.

[159] Открытое письмо Президенту Республики Беларусь А.Г.Лукашенко... (op. cit.).

наогул узнаўлення помнікаў матэрыяльнай культуры Беларусі й, у прыватнасці, дзесяцігоддзямі занядбанага Мірскага замкавага комплексу[160]. Пад знакам „захавання аб'ектаў культурна-гістарычнай каштоўнасці напрыканцы XX стагоддзя“ Мірскаму замку і яго рэстаўрацыі адводзілася асаблівае месца. Як пад павелічальным шклом, у манументальным цагляным простакутніку паміж чатырма вежамі мірскіх муроў выяўлялі сябе ўзлёты і крызісы беларускай гісторыі. Як сімвал „залатога веку“, XVI стагоддзя, з тае пары ён прыцягваў да сябе культурна-гістарычны інтарэс у Беларусі і за мяжою. Аб'ект беспасярэдне пасля 1991 г. быў за кароткі тэрмін нават уключаны ў праграму падтрымкі ЮНЕСКА, і гэтая падтрымка рэстаўравання і аздараўлення асяроддзя (Sanierung) працягвае ажыццяўляцца і сёння. Да сярэдзіны 90-х г. абарончы замак, які выкарыстаны ў сучаснай беларускай архітэктурнай энцыклапедыі дзеля ілюстравання ўзору „беларускай мураванай готыкі XV і XVI ст.“, знаходзіўся ў стане гатоўнасці напалову. Усё яшчэ не хапала грошай, каб адрэстаўраваць месцы, пашкоджаныя напалеонаўскай арміяй і нямецкімі войскамі пад час Другой сусветнай вайны. Наведнікам напачатку было прэзентаванае адно крыло замка з абсталяванымі пасучаснаму памяшканнямі для экспазіцыяў, якое, тым не менш, дазваляе распазнаць унікальны характар пабудовы на ўсходнееўрапейскім абшары.

Пра іншыя культурна-гістарычныя помнікі ў Гродне, Нясвіжы, Полацку, Наваградку альбо Магілёве і неабходнасць іх захавання ў мінулым гаварылася не адзін раз[161]. Гэтак, старшыня Дзяржаўнай інспекцыі па захаванні гісторыка-культурнай спадчыны Дзмітры Бубноўскі ў 1995 г. зрабіў спробу перапыніць нямэтавае выкарыстанне ў якасці санаторыя свецкага барокавага замка і былой сядзібы Радзівілаў у Нясвіжы, балазе з боку нашчадкаў магнацкай фаміліі дагэтуль не рабілася (а напэўна, і надалей не будзе рабіцца) аніякіх захадаў наконт магчымасцяў рэстытуцыі. У кожным разе, унікальны паркавы комплекс замка быў у значнай ступені ўзноўлены ў сваім першапачатковым выглядзе. Заўсёдны недахоп грошай, які, не ў апошнюю чаргу, замінаў працягу будаўніцтва новых санаторных памяшканняў, паўсюдна не даваў магчымасці нармальна працягваць рэстаўрацыйныя работы — нават калі гэта датычыла гэткіх прэстыжных праектаў, як нясвіжскі ды мірскі. Разам з тым, датыхчасовая праца на гэтых аб'ектах дазваляе зрабіць выснову, што якраз у рэгіёнах мясцовая адміністрацыя і, перадусім, свядомыя энтузіясты зацікаўленыя ў арыгінальным узнаўленні і захаванні культурна-гістарычных каштоўнасцяў[162].

### 3.1.2. Канферэнцыі й навуковы дыскурс

Канец 80-х г. стаў пачаткам новай культуры навуковага дыскурсу. Канферэнцыі, сімпозіумы, семінары, круглыя сталы зноў зрабілі магчымым контраверсій-

[160] Трусаў Алег. Матэрыяльныя рэчы — падмурак свядомасці // Культура, 28.09.1993. С.9.

[161] Параўн. адпаведныя выказванні і спасылкі пад час круглага стала: Беларусь у Вялікім Княстве Літоўскім. Стэнаграма пасяджэнняў Міжнароднага круглага стала, якія адбыліся ў Мінску 6—7 красавіка 1992 г. // Беларусістыка. Мінск, 1992.

[162] Аўтар неаднаразова бываў у Нясвіжы і Міры. Інфармацыя ўзятая з размоваў з функцыянерамі гэтай галіны ды музейнымі супрацоўнікамі. Параўн. таксама: Henggi, Bruno.

ны абмен думак у сферы гістарычнай навукі. Нагодай для навуковых імпрэз неаднаразова рабіліся рознага кшталту юбілеі. Аднаму толькі 500-гадоваму юбілею Францішка Скарыны ў 1990 г. былі прысвечаныя пяць канферэнцыяў, з якіх чатыры былі праведзеныя ў Мінску і адна ў Маскве. Іншай вялікай тэмай канферэнцыяў 1990 г. была гісторыя і культура славян. Міжнародная канферэнцыя, што праводзілася ў Мінску з 24 па 27 траўня 1990 г., адначасова падвысіла рэнамэ Беларусі і мінскай Акадэміі навук як навуковага цэнтра. На праблематыку савецкай гісторыі як прадмет абмеркавання канферэнцыі, пачынаючы з 1990 г., магла сябе яшчэ натхняць толькі камуністычная партыя; пад яе эгідаю былі зарганізаваныя паседжанні з нагоды 45-х угодкаў перамогі ў Гродне і да 70-й гадавіны абвяшчэння БССР у Брэсце.

Той факт, што, побач з Мінскам, важным цэнтрам правядзення гістарычных канферэнцыяў стаў Гродзенскі ўніверсітэт імя Янкі Купалы, не ў апошнюю чаргу беспасярэдне вынікаў з намаганняў гісторыка Дзмітрыя Карава ды інстытуцыянальнага трохкутніка цэнтраў гістарычна-краязнаўчых даследаванняў — кафедры ўсеагульнай гісторыі ўніверсітэта, Заходне-Беларускага гуманітарнага цэнтра даследаванняў Усходняй Еўропы, а таксама Гродзенскай абласной краязнаўчай асацыяцыі. У 1988 і 1990 г. Караў зарганізаваў абедзве першыя навуковыя канферэнцыі па пытаннях гістарычнага краязнаўства і генеалогіі Беларусі. Як вынік гэтых імпрэз выйшаў першы здвоены выпуск новай серыі публікацыяў пад назвай „Наш Радавод"[163]. Гэтыя зборнікі — машынапісныя, небагата ілюстраваныя ратапрынтныя выданні, ажыццёўленыя самвыдатаўскім спосабам самім Каравым, былі не толькі сведчаннямі рупнай і ахвярнай працы, але і адпаведнымі часу сродкамі самавыяўлення позне- і постсавецкай гістарыяграфіі. Тут мы бачым адлюстраванне як далёкай ад інтарэсаў дзяржавы даследніцкай зацікаўленасці, гэтак і абмежаванасці матэрыяльных рэсурсаў правінцыйнага навуковага асяродка. Тым не менш, апублікаваныя дагэтуль шэсць тамоў (якія выйшлі ў вялікай колькасці выпускаў) сталі адной з важных трыбун новай беларускай гістарыяграфіі, балазе тут друкаваліся не толькі зборнікі канферэнцыйных дакладаў, але і манаграфіі ды дысертацыйныя працы.

З першай паловы 90-х г. традыцыйнымі зрабіліся канферэнцыі пад назвай „Рым". У гэтым выпадку гаворка йдзе пра моцныя складам сваіх удзельнікаў навуковыя імпрэзы, у цэнтры ўвагі якіх перадусім знаходзіцца эпоха супольнага дзяржаўнага ўтварэння, агульнага для сённяшніх краін-удзельніц — Беларусі, Літвы, Польшчы й Украіны. Канферэнцыі, што, пачынаючы з 1990 г., былі праведзеныя ў Рыме, Любліне, украінскім Камянцы-Падольскім і, урэшце, у 1993 г. у беларускім Гродне, сталі прызнаным форумам дыскусіяў навукоўцаў з Захаду і з Усходу[164].

Schauplatz Weißrußland: Steifkinder der europäischen Kulturgeschichte. Schloss Njasvizh und Schloss Mir als steinerne Zeugen // Neue Zürcher Zeitung, 19.09.1995. С.32.

[163] Гродненская областная краеведческая ассоциация (выд.). Наш Радавод. Сборник статей. Материалы I и II межреспубликанских научных конференций по историческому краеведению Белоруссии и генеалогии. Радунь — 18 ноября 1988 г., Гродно — 28 ноября 1990 г. Кн.1 и 2. Гродно, 1990.

[164] Kłoczowski, Jerzy etc. (рэд.). Belarus, Lithuania, Poland, Ukraine. The Foundations of Historical and Cultural Traditions in East Central Europe. International Conference Rome,

Пазначаная як „Рым-IV“ гарадзенская сустрэча прайшла пад знакам увагі да нацыянальных і рэгіянальных культур і культурных стасункаў паміж чатырма нацыямі. На шматлікіх секцыях абмяркоўваліся як гістарычныя, гэтак і сучасныя, рэлігійныя ды тэарэтычныя аспекты названых праблем. Сярод іншых пытанняў дыскусія вялася пра тое, наколькі культурныя межы спрыяюць альбо шкодзяць добрасуседскім дачыненням. Гораду Гродну ды яго наваколлю як мультыкультуральнаму цэнтру ва ўсходнееўрапейскай гісторыі надавалася асаблівая ўвага. У адным з галоўных дакладаў канферэнцыі Аляксей Пяткевіч з Гродзенскага універсітэта разглядаў тэму „Рэгіянальныя асаблівасці культуры ў Гродзенскай вобласці“ і асаблівую ўвагу аддаў традыцыйным і сучасным магчымасцям для стварэння стабільнай і эфектыўнай у сваім уздзеянні культурніцкай прасторы на польска-беларуска-літоўскім памежжы. Абмяркоўваліся таксама пытанні развіцця нацыянальнае самасвядомасці ў Беларусі, што набылі асаблівую актуальнасць з аднаўленнем беларускай дзяржаўнасці[165]. Акрамя канферэнцыяў „Рым“, таксама ў Гродне апошнімі гадамі адбыліся шматлікія навуковыя імпрэзы на тэму „Культура і канфесіі народаў Вялікага Княства Літоўскага і Беларусі ў XIII— пачатку XX ст.“. Адпаведныя зборнікі матэрыялаў выдаваліся штогод, у іх дэталёва адлюстраваныя як найважнейшыя тэмы дыскусіяў, гэтак і тэндэнцыі развіцця даследаванняў[166].

28 April—6 May 1990. Lublin—Rome, 1994. З беларускага боку ў Рыме, сярод іншых, быў прысутны Адам Мальдзіс, які належаў да нешматлікіх навукоўцаў, што выязджалі за мяжу ў часы БССР.

[165] Матэрыялы міжнароднай навуковай канферэнцыі „Рым-IV“, прысвечанай нацыянальным і рэгіянальным культурам (культурнаму памежжу) Беларусі, Літвы, Польшчы і Украіны (Гродна, чэрвень—ліпень 1993 г.) // Б/А. Вып.3: Нацыянальныя і рэгіянальныя культуры, іх узаемадзеянне / Рэд.: А.Мальдзіс і інш. Мінск, 1994. Найважнейшымі выказваннямі з Беларусі, Польшчы і заходняга замежжа былі: да „Рыма-I“: Gach, Piotr Pawel. Razem wejść do Europy // Przeglad Uniwersitecki. 1990. Nr.5(7). С.8 і наст. Пра „Рым-II“ (Люблін, 1991 г.) гл.: *Яго ж.* Laczy nas wspólne dziedzictwo. Sesja na temat historii i przyszlości Bialorusi, Litwy, Polski i Ukrainy // Akcent. 1992. Nr.2—3(48—49). С.380—386. Пра „Рым-III“ (Камянец-Падольскі, 1992 г.) гл.: *Яго ж.* Historycy na Ukrainie // Rota. 1993. Nr.1. С.114 і наст., а таксама: *Яго ж.* W Kamieńcu-Podolskim o historii i przyszlości // Akcent. 1993. Nr.1—2. С.266—271. Пра „Рым-IV“ (Гродна, 1993) гл.: Вучоныя свету ўзгадняюць пазіцыі. „Рым-IV“ у Гродне // Гродзенская праўда, 1.07.1993. С.1 і наст.; Падаляк Таццяна. „Рым-IV“ — у Гродне: Захаванне традыцыйнай народнай культуры ўзбагачае агульначалавечую духоўнасць // Звязда, 9.07.1993. С.2; Бабкоў Ігар. Рым-IV: Развагі пасля канферэнцыі // Культура, 12.07.1993. С.9; Белавусава Алеся. Адбыўся „Рым-IV“ // Голас Радзімы, 5.08.1993. С.6. Пра гродзенскую канферэнцыю 1992 г. гл.: Клімовіч А. Гісторыя вяртаецца з нябыту // Гродзенская праўда, 1.10.1992. С.1 і наст.; Bankowski-Züllig, Monika. Eindrücke von einer Historiker-Tagung in Hrodna // Neue Zürcher Zeitung, 7./8.11.1992. С.25; Католікаў Анатоль. Не горш, чым у сталіцы // ЛіМ, 27.11.1992. С.16.

[166] Узгадайма тут толькі зборнікі апошніх трох гадоў: Наш Радавод. Материалы международной научной конференции по региональной истории Восточной Европы: Культура народов Великого княжества Литовского и Белоруссии, XIII—нач.XX вв. Кн.3. Ч.I—III. Гродно, 1991; пасля па-беларуску: Наш Радавод. Матэрыялы міжнароднай навуковай канферэнцыі: Царква і культура народаў Вялікага княства Літоўскага і Беларусі XIII—пач.XX ст. Кн.4. Ч.I—III. Гродна, 1992; Наш Радавод. Матэрыялы міжнароднай навуковай канферэнцыі: Царква і культура народаў Вялікага княства Літоўскага і Беларусі XIII— пач.XX ст. Кн.5. Ч.I—II. Гродна, 1993.

У красавіку 1992 г. у Мінску знакамітыя навукоўцы з Беларусі, Англіі ды Польшчы правялі круглы стол, прысвечаны адной з найбольш дыскутаваных цяпер тэмаў беларускай гістарыяграфіі — ролі ды месцу Беларусі ў Вялікім Княстве Літоўскім[167]. Крыху пазней, 19 і 20 жніўня 1992 г., больш за 70 спецыялістаў з Усходу і Захаду сабраліся на сімпозіум у Маладзечне, непадалёк ад Мінска. У цэнтры іх увагі знаходзілася праблема „Ўзнікненне і развіццё нацыянальнай самасвядомасці беларусаў". Зборнік, што выйшаў з друку праз год пасля сімпозіума, сведчыў пра тое, з якой актыўнасцю разглядаліся „новыя" тэмы ў пераніцаваных гістарычных навуках. Адам Мальдзіс, дырэктар Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф.Скарыны, які адкрыў паседжанні, засяродзіў увагу прысутных на тым, што фармаванне нацыянальнай свядомасці ў гэтым часе належыць да пытанняў, праз якія вырашаецца „быць альбо не быць" беларускаму народу як нацыі. Нацыянальным дзяржавам перадусім, маўляў, патрэбныя нацыянальная мова і нацыянальная самасвядомасць яе грамадзян[168].

Канферэнцыі пачатку 90-х г. вырашальным чынам паспрыялі інтэрнацыяналізацыі беларускага навуковага жыцця. Ініцыяваныя беларускімі асветніцкімі суполкамі замежжа і больш прадстаўнічымі арганізацыямі — гэткімі, як Міжнародная асацыяцыя беларусістаў — альбо таксама разнастайнымі чарнобыльскімі арганізацыямі, а таксама праз індывідуальныя кантакты беларускіх гісторыкаў, філолагаў альбо палітолагаў з калегамі замежжа, такія імпрэзы, як Другі міжнародны кангрэс беларусістаў (травень 1995 г.) альбо навукова-мемарыяльная канферэнцыя „Дзесяць гадоў пасля Чарнобылю" (травень 1996 г.), зрабіліся міжнароднымі кампетэнтнымі форумамі, якія — у адрозненне ад Першага з'езду беларусаў свету (ліпень 1993 г.) — аддалі перавагу не эмоцыям, а канкрэтнай навуковай працы[169]. Аднак палітыка дзяржавы цяпер у значнай меры ішла насуперак нацыянальным амбіцыям гістарычнай і літаратурнай навукі і, гэткім чынам, рабіла апошнім свой выклік. Калі ў 1993 г. тагачасны Старшыня Вярхоўнага Савета Станіслаў Шушкевіч сам адкрыў Першы з'езд беларусаў свету і пацвердзіў сваю духоўную еднасць з арганізатарамі імпрэзы, дык праз два гады прэзідэнт Лукашэнка — якраз у тыя дні, калі засядаў кангрэс беларусістаў — загадаў зняць з будынка сваёй рэзідэнцыі й парэзаць на кавалкі бел-чырвона-белы сцяг, выдаліць герб „Пагоня" і памяняць тое і другое на новыя старыя сімвалы няіснай цяпер БССР. Праз гэта канчаткова абвастрыліся дачыненні паміж палітычнай уладай і нацыянальнай інтэлігенцыяй.

[167] Беларусь у Вялікім княстве Літоўскім. Стэнаграма пасяджэнняў Міжнароднага круглага стала, якія адбыліся ў Мінску 6—7 красавіка 1992 г. (Беларусістыка, т.2). Мінск, 1992. Арганізатарамі імпрэзы былі: Беларускі дзяржаўны універсітэт, ІГ АНБ, Лондански універсітэт, Каталіцкі універсітэт у Любліне, Міжнародная асацыяцыя беларусістаў, Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь, Скарынаўскі цэнтр, Польская Акадэмія навук.

[168] Мальдзіс Адам. Уступнае слова // Матэрыялы Міжнароднай навуковай канферэнцыі, якая адбылася ў Маладзечне 19—20 жніўня 1992 г. // Б/А. Вып.2: Фарміраванне і развіццё нацыянальнай самасвядомасці беларусаў. Мінск, 1993, у гэтым выпадку с.5.

[169] Пра сустрэчу беларусаў з усяго свету, якая сабрала 1200 гасцей, параўн. рэпартаж у: Звязда, 9.07.1993. С.1, 3, а таксама рэтраспекцыйны агляд: Крэнь Ірына. Вялікі сход беларусаў // Наша слова, 4.08.1993. С.1—3.

Таму нікога не павінна было здзівіць тое, што пэўныя навуковыя імпрэзы 1996 г. пачалі зноў набываць танальнасць 80-х г. У сакавіку названага года пад час канферэнцыі „Дыскрымінацыя беларускай мовы ў Беларусі: гістарычны, палітычны і лінгвістычны аспекты" сучасная палітыка дзяржаўнай улады ў галіне развіцця мовы і культуры параўноўвалася з русіфікацыйнай стратэгіяй падсавецкага часу. Ніл Гілевіч, адзін з падпісантаў вядомага ліста да Міхаіла Гарбачова ў 1985 г., нават ізноў ужыў паняцце „манкурцтва", праз якое выразна праводзіліся паралелі з брэжнеўскім часам. Гілевічава абурэнне — у гэтым выпадку ў асноўным датычнае моўнай палітыкі — вельмі дакладна перадае адчуванні беларускай інтэлігенцыі пад час „дэнацыяналізацыі" публічнага жыцця, што ажыццяўлялася прэзідэнтам Лукашэнкам:

> „...Дзяржаўная палітыка, скіраваная на вынішчэнне мовы, а г.зн. і духоўнай культуры свайго народа, — гэта дзікунства. Толькі дзікуны і манкурты не здольныя думаць і клапаціцца пра духоўнае аблічча нацыі, да якое яны належаць, пра заўтрашні дзень нацыі, якога ў яе проста не будзе, калі народ пазбавіць яго ўласнай мовы, калі ў душы народа знішчыць жывыя карані і карэньчыкі сваёй уласнай, прыродна-самабытнай духоўнай творчасці.
>
> І рэч не толькі ў тым, што гэтыя нашы дзяржаўныя дзеячы, распарадчыкі жыцця і лёсу народа не ведаюць і таму не карыстаюцца мовай народа [...]. Рэч у тым, што гэтыя дзяржаўныя мужы, адміністратары і палітыкі свядома і наўмысна грэбуюць беларускай мовай, свядома ігнаруюць патрабаванні прынятых у свеце на міжнародным узроўні законаў, патрабаванні агульналюдской маралі і культуры; рэч у тым, што яны свядома праводзяць антыбеларускую нацыянальную палітыку, што ідэю нацыянальнага беларускага Адраджэння яны адвяргаюць у прынцыпе, што свой уласны дзяржаўны дом, пабудаваны і абстаўлены на беларускі лад, ім наогул непатрэбны: ім дастаткова і таго, што яны будуць жыць у прыбудаваным флігелі ці дзе-небудзь у прызначанай для чэлядзі бакавушцы"[170].

Беларускія канферэнцыі 1996 г. былі таксама — прынамсі, у сваім падтэксце — прасякнутыя клопатам гісторыкаў пра будучыню іх даследніцкае працы, бо факты кадравага ўмяшальніцтва ў навуковую і публікацыйную палітыку вялікіх спадзяванняў на нешта добрае не пакідалі. Пры гэтым удзельнікі канферэнцыяў звярталіся да самых розных перыядаў і да самай рознай праблематыкі беларускае гісторыі. Адназначна галоўнай тэмай мусілі стаць 400-я ўгодкі Берасцейскай уніі, што меліся быць адзначаныя 18 кастрычніка 1996 г.; адпаведнай падрыхтоўкай, побач з дзяржаўнымі ўстановамі, заняўся „Грамадзянскі [sic!] камітэт па падрыхтоўцы ўрачыстага святкавання 400-гадовага юбілею Берасцейскай царкоўнай уніі". Праблемам раннесярэднявечнай беларускай гісторыі была прысвечаная міжнародная інтэрдысцыплінарная канферэнцыя „Беларусь у сістэме агульнаеўрапейскіх дачыненняў у I тысячагоддзі н. э.", ладжаная выбітным колам арганізатараў, што складалася з сяброў Цэнтра этнакасмалогіі „Крыўя", Фонду развіцця традыцыйнай этнічнай культуры і таксама з удзелам супрацоўнікаў ІГ АНБ. Увага ўдзельнікаў засяроджвалася на еўрапейскім кантэксце ранніх формаў „беларускай дзяржаўнасці".

[170] Гілевіч Ніл. З манкурцтвам — у цывілізаваны свет? Слова на адкрыцці Нацыянальнай навуковай канферэнцыі „Дыскрымінацыя беларускай мовы ў Беларусі: гістарычны, палітычны і лінгвістычны аспекты" // ЛіМ, 12.04.1996. С.5.

калісьці складалі Вялікае Княства Літоўскае, а таксама з Захаду, каб абмеркаваць тэму „Гістарычная памяць народаў Вялікага Княства Літоўскага і Беларусі ў XIII— пачатку XX ст.“. У трох падсекцыях удзельнікі займаліся метадалагічнымі пытаннямі даследавання гістарычных тыпаў ментальнасцяў, а таксама Берасцейскай уніяй.

Побач з канферэнцыямі пачатку 90-х г., прысвечанымі пытанням гісторыі матэрыяльнай і духоўнай культуры, а часта нават гісторыі ментальнасці, пад знакам знешне- альбо „геа“-палітычных патрэб, на якіх, зыходзячы з факта запозненага фармавання беларускай нацыі ды гістарычнай тапаграфіі прамежкавай прасторы і памежжа, абмяркоўваліся „гістарычны выбар і перспектывы“ „Беларусі і беларускай нацыі“. У межах разгляду праблемы „палітычнага і сацыяльна-культурнага выбару Ўсходняй Еўропы“ напрыканцы кастрычніка 1994 г. палітолагі, гісторыкі, мовазнаўцы й этнографы з Беларусі, Расіі, Польшчы, Нямеччыны і Канады абмяркоўвалі, паміж іншага, пытанне пра тое, дзе заканчваецца Сярэдняя Еўропа і дзе пачынаецца Еўропа Ўсходняя. Пры гэтым асабліва заўважным было памкненне дакладней вызначыць месца Беларусі ў Еўропе. Культуролаг і філосаф Ілля Ляўяш ды іншыя праз гэтую канферэнцыю хацелі падказаць шлях выйсця інтэлектуальнай супольнасці ў каардынатах „Сярэдняй Еўропы“. У сваім канцэптуальным дакладзе ён рэпрэзентаваў пункт погляду, згодна з якім „сярэднееўрапейская прастора сягае ад Берліна да Мінска“, а Беларусь належыць да Сярэдняй Еўропы, краіны якой, маўляў, з'яднаныя „агульным лёсам“, супольнымі гістарычнымі традыцыямі, а таксама перспектывамі развіцця[171].

Паняцце „Ўсходняй Еўропы“, у той самы час, ужывалася названым навукоўцам у дачыненні да геаграфічнай тэрыторыі паміж заходняй мяжою Расіі ды Ўралам. Гэтая „новая Сярэдняя Еўропа“, аднак, не мусіла быць „прамежкавай Еўропай“, нейкай безаблічнай пераходнай тэрыторыяй без свайго ўласнага значэння. Куды ў большай ступені тут мелася на ўвазе самастойная і незалежная супольнасць гістарычна родных краін. „Аўтсайдэру гісторыі“ — гэтак называў Сярэднюю Еўропу Ляўяш — сёння мелася быць прадвызначаная новая, больш важная роля. Беларусь не ёсць „блізкім замежжам“ Расіі. Маўляў, Нямеччына і Расія ў большай ступені ёсць „блізкім замежжам“ Беларусі й Украіны. Ані ліберальная заходняя сістэма, ані аўтарытарная сістэма ўсходу, а трэцяя мадэль — „аўтарытарна-сацыял-дэмакратычнай дзяржавы“ — мелася б зрабіцца палітычнай сістэмай для новай Сярэдняй Еўропы. Праз гэта, маўляў, была б знойдзеная форма, якая б адпавядала гістарычнаму досведу народаў. Для ўзаемадачыненняў паміж Расіяй і Беларуссю Ляўяш ужываў паняцце „узаемнай залежнасці“. „Натуральныя“ ўзаемадачыненні абодвух народаў мусяць быць дапасаваныя да новай арыентацыі Беларусі. Адкрытасць Беларусі да Захаду і да Сярэдняй Еўропы мусіла б быць выгоднай і для Расіі[172].

[171] Восточная Европа. Политический и социокультурный выбор. Материалы международной научно-практической конференции. Мінск, 1994. Арганізатарамі форуму былі Інстытут сацыялогіі АНБ, Інстытут філасофіі й права АНБ, Мінскі дзяржаўны лінгвістычны універсітэт.

[172] Левяш И.Я. Средняя Европа: структура и вектор исторического выбора // Тамсама, с.19—32. У міжчассі прафесар лінгвістычнага універсітэта Ляўяш у якасці да-

што краіне патрэбная пераарыентацыя амаль што ва усіх „грамадскіх сферах". Аднак катэгорыі, у якіх „задумваліся" змены, заставаліся ранейшымі: патрэбная „кадравая генеза", мусіць быць захаваны „генетычны фонд" народа і трэба своечасова запабегчы магчымай „германізацыі Еўропы". Калі для адных распад Савецкага Саюзу прынёс сама меншае балесныя перажыванні, іншыя —у бальшыні маладзейшыя і нацыянальна заангажаваныя інтэлектуалы — бачылі ў 1991 годзе новы пачатак, які даваў вялікія шанцы — нават для гэткай невялікай краіны, як Беларусь. Мінскі гісторык У.А.Бажанаў у сваім эмацыйным паведамленні гаварыў пра „бальшавіцкі характар" постсавецкага грамадства ў Беларусі. Ён, маўляў, бачыць выразную „варожасць да інтэлігенцыі", гэткую, як яна была пашыраная напрыканцы 20-х і ў 30-я г., і адчувае сябе як часцінку інтэлігенцыі „ў вялікай ступені" лішнім. Гэтае выказванне ў цэлым дакладна адлюстроўвае думкі нацыянальна настроенай інтэлігенцыі.

На названым форуме таксама выявіліся рознагалоссі ў пытанні вызначэння нацыянальнай ідэнтычнасці. Дакладчыца-мовазнаўца з Гродна скардзілася, нібыта ў тамтэйшым універсітэце вывучэнне расійскай мовы і літаратуры ўлучана ў праграмы аддзялення замежных моваў, а выкарыстоўваць у якасці мовы навучання быццам бы дазволена толькі беларускую ды польскую мовы. Хоць у гэтым выпадку было выказана скептычнае стаўленне ў дачыненні да новай „беларусізацыі", іншыя ўдзельнікі дыскусіі падкрэслівалі неабходнасць існавання „сістэмы нацыянальных прыярытэтаў". Пасля шматвяковых намаганняў па дапасаванні да існуючых варункаў, урэшце, мусіць выпрацавацца „сапраўдная беларуская ідэя": разнастайнасць этнічных праяваў і спецыфічны „беларускі нацыянальны характар", найважнейшай прыкметаю якога мае быць талерантнасць, мусілі б сведчыць пра спецыфічную функцыю Беларусі як моста паміж Захадам і Ўсходам у еўрапейскай гісторыі ды сучаснасці. Ідучы ад адваротнага, аўтар робіць тут станоўчую выснову з факта гістарычна-вымушанай нацыянальнай апекі з боку Польшчы і Расіі й выбудоўвае новую гістарычную канцэпцыю[173].

Іншая імпрэза, пра якую варта ўзгадаць у гэтым звязку, адбылася ў траўні 1996 г. і была чацвёртым дыскусійным форумам Грамадскага навукова-аналітычнага цэнтра „Беларуская перспектыва". Створаны ў лістападзе 1995 г. названы цэнтр стаўся новай з'явай на фоне насычанай структуры інстытутаў, цэнтраў, універсітэтаў і акадэмічных установаў у тым сэнсе, што тут упершыню ў межах міждысцыплінарнага даследчага таварыства з'ядналіся знакамітыя гісторыкі, палітолагі, эканамісты і журналісты. Пасля трох першых канферэнцыяў, прысвечаных пытанням інвестыцыяў, рынкавай эканомікі і фармавання элітаў ва Ўсходняй Еўропе, удзельнікі вышэйзгаданага, чацвёртага, форуму перадусім заняліся няпростай праблемай узнікнення грамадзянскае супольнасці ў бела-

радцы прэзідэнцкай адміністрацыі браў удзел у распрацоўцы „геапалітычнай ідэі Рэспублікі Беларусь".

[173] Параўн. у звязку з гэтым пытаннем артыкулы: Божанов В.А. Традиции большевизма и взаимосвязь современной белорусской политической практики // Тамсама, с.78—80; Рудельсон В.Г. Интеллектуальная республика: выбор без альтернативы // Тамсама, с.138—140.

рускай гісторыі й сучаснасці. Гэтаму працэсу, маўляў, увесь час чыніліся перашкоды праз розныя нацыянальныя і палітычныя чыннікі, „усялякага кшталту этнацыд і генацыд", „геапалітычныя рэчы" і таксама праз „стварэнне міфаў". Гэтая імпрэза і дыскусіі пад час яе таксама не засталіся ўбаку ад актуальных палітычных працэсаў у краіне. Пры ўсім засяроджанні на спецыяльных тэмах удзельнікі форумаў, названых тут у якасці прыкладаў, выкарыстоўвалі магчымасць навуковага абмену, каб у далёкасяжнай гістарычнай перспектыве паказаць беларускую гісторыю як гісторыю прыгнёту[174].

Тое, што арганізатары канферэнцыяў усё болей і болей мусілі паддаваць сябе рызыцы, мы надалей пакажам на прыкладзе першай канферэнцыі па гісторыі сталінізму і рэпрэсіяў у Беларусі. 27 лютага 1998 г. адбылося спецыяльнае паседжанне на тэму „Палітычныя рэпрэсіі ў Беларусі ў XX стагоддзі". Удзельнікі канферэнцыі з Беларусі, Расіі, Украіны, Польшчы і Нямеччыны абмяркоўвалі пытанне ўзаемадачынення дыктатуры і тэрору. Адначасова з дыскусіяй па пытаннях, датычных савецкай гісторыі, гаварылася і пра аўтарытарныя тэндэнцыі, што выяўляюць сябе ў сучаснасці. Гэта патрабавала ад арганізатараў — Беларускага Хельсінскага камітэта, што бачыць сябе ў якасці абаронцы правоў асобы і грамадзянскіх правоў, а таксама „Асацыяцыі ахвяр палітычных рэпрэсіяў" — вялікай долі грамадзянскай мужнасці. Абедзвюм арганізацыям удалося сабраць у беларускай сталіцы Мінску дзеля абмену думкамі дзвесце навукоўцаў, аматараў гісторыі й тых, каго рэпрэсіі беспасярэдне закранулі. У сваёй уступнай прамове Васіль Быкаў заклікаў прысутных не замоўчваць і не забываць ані ахвяраў сталінскага апарату тэрору, ані тых, хто пацярпеў ад палітычнага, прававога альбо фізічнага гвалту сучаснага рэжыму. Гэта здараецца рэдка, каб пад час адной імпрэзы на гэткую тэму так цесна перапляталіся і ўзаемадапаўнялі сябе навуковы аналіз — да прыкладу, тэхналогіі дзейнасці машыны тэрору ці рэпрэсіяў супраць навуковай і мастацкай інтэлігенцыі, альбо ліквідацыі кулацтва на беларускіх тэрыторыях — і беспасярэднія перажыванні пацярпелых ад беззаконня. Вязні лагераў і дзеці знішчаных „ворагаў народа" зноўку патрабавалі новага Нюрнбергскага працэсу супраць камуністычнай прыўладнай эліты, што часткова ўсё яшчэ займае адказныя пасады.

Гэтаксама, як у Расіі, рух памяці ахвяр сталінскіх рэпрэсіяў у Беларусі, пачынаючы з перабудовачнага часу, быў актыўным. Аднак спробы зрабіць Беларускае таварыства „Мартыралог" больш шырокім народным рухам не мелі вялікага поспеху па–за арганізацыяй акцыяў у звязку з курапацкімі раскопкамі 1988 г. Абвінаваўцы сталінскага гвалтоўнага рэжыму звычайна заставаліся ў меншыні і, пачынаючы з сярэдзіны 90–х г., сутыкнуліся з перавагаю апалагетаў сталінскага спосабу кіравання і ўзнаўлення Савецкага Саюзу. Крытыка культу памяці ў дачыненні да Другой сусветнай вайны — як яна не раз выказвалася беларускай пісьменніцай Святланай Алексіевіч — сустракалася з шалёнымі атакамі й абвінавачваннямі ў знявазе ахвяр і вызвольнага чыну. Калі нехта — як Васіль

[174] Грамадскі навукова–аналітычны цэнтр „Беларуская перспектыва" (выд.). Грамадзянская супольнасць і праблемы нацыянальна–культурнай ідэнтыфікацыі ў Беларусі. Матэрыялы навукова–практычнага семінара (Мінск, 30—31.05.1996 года). Брэст, 1996.

Быкаў — пачынаў выказваць сумненні ў верагоднасці партызанскага міфа і гаварыць, у звязку з фактамі самаўпраўства і кепскага абыходжання з цывільным насельніцтвам, пра „горкі смак перамогі" — яго адразу ў агрэсіўнай манеры імкнуліся заклікаць да парадку.

Праз дзесяць гадоў пасля першых спробаў ажыўлення беларускай самасвядомасці — якім свайго часу далі імпульс чарнобыльскія падзеі ды ўспаміны пра ахвяры савецкага панавання — працэс фармавання нацыі пад уладай новага прэзідэнта зноў шмат у якіх аспектах прыпыніўся. Змененая культура нацыянальных святаў і рэанімацыя савецкага пафасу ўшанаванняў памяці не абяцалі таксама нічога добрага для публічнага вырашэння гістарычных праблем. Імпрэзы, прысвечаныя пытанням рэпрэсіяў, мусілі ў канцавым выніку заставацца ізаляванымі. У кожным разе, гісторык і палітолаг Валеры Карбалевіч у сваім цікавым спавешчанні на тэму „Палітычныя рэпрэсіі 90-х гадоў" гаварыў пра „аўтарытарны рэжым прэзідэнта Лукашэнкі". Тут яшчэ ніхто не выкладваў усіх картаў. Калі напрыканцы двухдзённых паседжанняў была яшчэ прадэманстраваная выстава, прысвечаная тэме рэпрэсіяў, і мелася быць паказаная не толькі мастацкая інтэрпрэтацыя арыштаў і затрыманняў, але і дакументальныя фатаграфіі ад філіяў „Асацыяцыі ахвяр палітычных рэпрэсіяў", з'явіліся адказныя супрацоўнікі таемна прысутных увесь час сілаў бяспекі і забаранілі арганізатарам паказ гэтых здымкаў. Да гэтага дадаліся нават судовыя захады супраць арганізатараў паседжанняў і выдаўцоў зборніка матэрыялаў, які неўзабаве выйшаў з друку[175].

Калі паглядзець на праблему ў цэлым, навуковыя канферэнцыі ўсё ж сталіся важным камунікацыйным складнікам постсавецкага гісторыяпісання, які, не ў апошнюю чаргу, таксама прыцягваў да сябе ўсё большую ўвагу калегаў-спецыялістаў з розных краін. Тым не менш, шматлікія і вельмі аператыўна публікаваныя зборнікі матэрыялаў заставаліся ў значнай ступені па-за межамі шырокай публічнай увагі. У гэтым плане публіцыстыка мела больш шырокі дыяпазон уздзеяння — гэтаксама, як школьныя падручнікі.

### 3.1.3. Школьныя падручнікі: перагляд і новая цэнзура

У 1988 г. беларускі пісьменнік і гісторык Уладзімір Арлоў у інтэрвію „Литературной газете", гаворачы пра разуменне гісторыі сваімі землякамі, зазначаў, што „паколькі для абсалютнай большыні грамадзян гістарычная памяць грунтуецца на школьным падручніку, зусім не дзіўным падаецца тое, што большасць насельніцтва Беларусі мае, мякка кажучы, недакладнае ўяўленне пра мінулае свайго роднага краю"[176].

[175] Хельсінскі камітэт / Беларуская асацыяцыя ахвяр палітычных рэпрэсій (выд.). Палітычныя рэпрэсіі на Беларусі ў XX ст. Матэрыялы навукова-практычнай канферэнцыі (Мінск, 27—28 лютага 1998 г.). Мінск, 1998. Аўтар прэзентаваў тут вынік сваіх даследаванняў: Lindner, Rainer. Wissenschaft im Stalinismus: Das Institut für Geschichte der AN BSSR // Тамсама, с.200—215.

[176] Інтэрв'ю Уладзіміра Арлова было апублікаванае ў 1988 г. у „Литературной газете" пад загалоўкам „Когда краснеет Клио". Тут цытуецца паводле: Davies, Robert W. Perestrojka und Geschichte. Die Wende in der sowjetischen Historiographie. München,1989.

Беспасярэдне пасля здабыцця Беларуссю незалежнасці гісторыкі й адказныя супрацоўнікі Міністэрства адукацыі Беларусі надавалі вялікае значэнне прышчапленню гістарычнай свядомасці навучэнцам школаў і студэнтам ВНУ: ад зарганізаваных па-новаму з гледзішча методыкі і зместу заняткаў па гісторыі мусіла не ў апошнюю чаргу залежаць, ці здолее ў будучых пакаленнях укараніцца і замацавацца дзяржаўніцкая свядомасць. У 1991 г. Міністэрства адукацыі ўтварыла камісію пад кіраўніцтвам гісторыка з Акадэміі навук М.Біча, якая мелася распрацаваць новую канцэпцыю гістарычнае адукацыі. Пачынаючы з 1993 г., гэткім чынам, былі прапанаваныя два асобныя адзін ад аднаго курсы, што пачыналіся з пятага класа: сусветная гісторыя, з гісторыяй Расіі й Савецкага Саюзу ўключна, і гісторыя Беларусі, да вывучэння якой яшчэ ў 4-м класе меліся рыхтаваць апавяданні пра эпізоды з беларускай гісторыі.

У 1992/93 навучальным годзе ў 5-х, 8-х і 11-х класах цяпер выкладаліся 153 гадзіны беларускай гісторыі — што, у параўнанні з 27 інтэграванымі ў курс гісторыі СССР ранейшымі гадзінамі, без сумневу, было прагрэсам. З гэтага часу ва ўжытак былі ўведзеныя і першыя постсавецкія дапаможнікі. Для вывучэння ўсеагульнай і расійскай гісторыі напачатку ўжываліся перакладзеныя на беларускую мову найноўшыя расійскія падручнікі часоў перабудовы. Для асвятлення савецкага перыяду ў 1991 г. быў выпушчаны дапаможнік, які прызначаўся аднадчасова для настаўнікаў і для школьнікаў і — у адпаведнасці з „чаканнямі перабудовачнага часу" — меўся не толькі высветліць „белыя плямы", але і вызначыць новыя падыходы да ацэнкі праблем савецкага грамадства. Як гэта ўвогуле было тыпова для познесавецкага гісторыяпісання, для беларускіх дапаможнікаў гэтага часу характэрным было сведчанне прыхільнасці да ленінізму, прадвызначаны шлях якога, маўляў, быў перапынены стварэннем „командна-адміністрацыйнай сістэмы" і культу асобы Сталіна[177]. Падручнікі, у якіх былі перамяшаныя познесацыялістычныя ўтопіі й элементы нацыянальнай гісторыі, мелі сваім пачаткам абвешчаны яшчэ ў 1989 г. першы конкурс на стварэнне новых падручнікаў па гісторыі для 8—9-х і 10—11-х класаў. Пазней, калі да 1993/94 навучальнага года ў наяўнасці быў выдадзены ўпершыню альбо перавыдадзены ўвесь канон дапаможнікаў па беларускай гісторыі, для выпускнікоў школы быў таксама створаны й уведзены ў дзеянне новы дапаможнік па гісторыі XX ст.[178].

На 1993/94 навучальны год планавалася выданне новых школьных дапаможнікаў агульным накладам 15 мільёнаў паасобнікаў (30 назваў), у т.л. 27 назваў навучальных кніг па гісторыі, геаграфіі, літаратуры і мове для 4—11-х класаў. Намеснік кіраўніка выдавецтва школьных падручнікаў [„Народная асвета". — *Заўвага перакладчыка*] Д.М.Навіцкі меў падставы для аптымізму, калі казаў: „Хоць яшчэ існуюць пэўныя праблемы, мы зробім усё магчымае, каб да пачатку

[177] Актуальныя пытанні гісторыі БССР. Савецкі перыяд. Дапаможнік для настаўнікаў і вучняў старэйшых класаў / Пад рэд. У.Н.Сідарцова. Мінск, 1991. Параўн.: прадмову: Фамін В.М. Уводзіны: надзеі перабудовы // Тамсама, с.3—14, у гэтым выпадку с.8 і наст. Насеннік М.Р. Дэфармуючае ўздзеянне каманднa-адміністрацыйнай сістэмы, культу асобы Сталіна на развіццё савецкага грамадства // Тамсама, с.55—64, у гэтым выпадку с.57, 63 і наст.

[178] Сухнат Л.К. Гістарычнай адукацыі — новы змест // БМ. 1993. № 1(1). С.44 і наст.

[1993/94 — Р.Л.] навучальнага года выпусціць новыя падручнікі"[179]. Насамрэч, да сярэдзіны 1994 г. былі гатовыя распрацаваныя больш як 250 аўтарскімі калектывамі навучальныя дапаможнікі; паасобныя новыя дапаможнікі выйшлі ў 1995 г. таксама па курсе „Гісторыя Беларусі". Гэтым кнігам, аднак, быў наканаваны нядоўгі час прыдатнасці для выкарыстання ў навучальных установах. Ужо самыя першыя выказванні новаабранага прэзідэнта не абяцалі нічога добрага для будучыні школьных падручнікаў па гісторыі. Ужо 20 жніўня 1994 г. у „Советской Белоруссии" — той самай прыўладнай газеце, якая акурат пачынала перакідвацца ад Кебіча на бок Лукашэнкі — было абвешчана пра неабходнасць „выветрывання нацыяналістычнага духу" з падручнікаў:

> „Сёння, згодна з выказваннямі прэзідэнта, на парадку дня стаіць пільная праблема перапрацоўкі школьных падручнікаў. На жаль, для шмат якіх з гэтых кніг — у тым ліку для толькі што «спечаных» — дарога адна — у макулатуру"[180].

Разам са стабільнымі, зацверджанымі Міністэрствам падручнікамі, у 1993 г. на кніжным рынку, які патрабаваў папулярных выкладаў беларускай гісторыі, з'явіліся іншыя кампендыумы. У якасці свайго кшталту падручніка, прызначанага шырокай публіцы, мінскія аўтары на чале з Георгіем Галенчанкам напісалі расійскамоўную кніжку „История Беларуси: Вопросы и ответы", што выйшла прыкметным накладам, 50 тысяч паасобнікаў. Падобную дыдактычную мэту мелі ўкладзеныя Іванам Саверчанкам і Змітрам Санько „100 пытанняў і адказаў з гісторыі Беларусі", частка якіх напачатку публікавалася ў адпаведных газетных рубрыках. У гэткай самай меры нацыянальнаму імпэту новай беларускай гістарыяграфіі адпавядалі рукапісы лекцыяў Леаніда і Тамары Лойкаў 1990—1992 г., з якіх пачынаўся трэціх дапаможнік па гісторыі Беларусі, выдадзены ў 1993 г. Апошні таксама прызначаўся для „выкладчыкаў сярэдніх школаў і ВНУ, вучняў старэйшых класаў, студэнтаў і ўсіх, хто цікавіцца гісторыяй". Ва ўсіх трох названых зборніках групы беларускіх гісторыкаў даступнымі ім сродкамі спрабавалі задаволіць патрэбу ў папулярна выкладзенай літаратуры па прынцыповых гістарычных пытаннях. У названых выданнях адсутнічалі якія-кольвечы спісы крыніц, дапаможнай літаратуры, а інтэрпрэ-

[179] Параўн. інтэрв'ю з Навіцкім у: Звязда, 17.08.1993. С.1. На беларускай мове выдадзеныя: Пляшэвіч У.К., Жытко А.П., Белая В.Л. Мая Радзіма — Беларусь. Вучэбны дапаможнік для вучняў 4 класа. Мінск, 1993; Штыхаў Г.В., Пляшэвіч У.К. Гісторыя Беларусі: Старажытныя часы і сярэднявечча. Вучэбны дапаможнік для 5—6 класаў. Мінск, 1993; Лойка П.А. Гісторыя Беларусі. Вучэбны дапаможнік для 7 класа сярэдняй школы. Мінск, 1993; Біч М.В. Гісторыя Беларусі: Канец XVIII ст.— 1917 г. Вучэбны дапаможнік для вучняў 8 класа. Мінск, 1993; Сідарцоў У.Н., Фамін В.М. Гісторыя Беларусі: 1917—1992 г. Вучэбны дапаможнік для 9 класа сярэдняй школы. Мінск, 1993; Біч М.В., Сідарцоў У.Н., Фамін В.М. Гісторыя Беларусі: XX стагоддзе. Вучэбны дапаможнік для 10—11 класаў сярэдняй школы. Мінск, 1993 (2-е выд.); нанова быў перавыдадзены падручнік падсавецкага часу: Баранава М.П., Загарульскі Э.М., Паўлава Н.Г. Гісторыя Беларусі: Падручнік для 8—9 класаў сярэдняй школы. Мінск, 1993 (5-е выд.). „Найменшая колькасць хібаў" прызнавалася за дапаможнікам для 7 класа П.А.Лойкі. Гэта засведчана ў: Барыс Сымон. Новыя кнігі // БГЧ. 1993. № 4. С.108.

[180] Националистический дух надо выветривать // Советская Белоруссия, 20.08.1994. С.1.

тацыя гістарычных фактаў у значнай ступені знаходзілася пад уплывам нацыянальнай эйфарыі пачатку 90–х г.[181].

Не менш важнай справай, чым распрацоўка навучальных дапаможнікаў па гісторыі, было ажыццяўленне адпаведных праграм павышэння кваліфікацыі й перападрыхтоўкі настаўнікаў базавай і сярэдняй школы. У розных установах павышэння кваліфікацыі педагагічных кадраў у 1993 г. чыталіся курсы, прысвечаныя „новаму зместу адукацыі ў сярэдняй школе". У сярэдзіне снежня 1993 г. у Мінску, акрамя ўсяго, прайшла міжнародная навуковая канферэнцыя на тэму „Адукацыя ў XXI стагоддзі", пад час якой разглядаліся праблемы падрыхтоўкі выкладчыцкіх кадраў для школы і ВНУ[182]. Пры ўсіх амбіцыйных планах гістарычная адукацыя й выхаванне заставаліся залежнымі ад недахопу матэрыяльных і духоўных рэсурсаў. Фінансавыя і тэхнічныя праблемы кнігадруку, у той самы час, вызначалі выразныя межы для далёкасяжных планаў[183].

Толькі з прыватнай ініцыятывы амбітных настаўнікаў рэалізоўваліся праекты кшталту стварэння кабінета гісторыі ў адной з сярэдніх школаў Баранавіцкага раёна. Абсталяваны цягам 1992/1993 навучальнага года, гэты кабінет стаўся сапраўднай галерэяй нацыянальных міфаў. Тут можна ўбачыць даты і „герояў гісторыі", гэтаксама як і паасобнікі найважнейшых публікацыяў дасавецкага і БССРаўскага часоў. Новаабраны беларускі прэзідэнт стаў часовым канцавым пунктам нацыянальнай галерэі родапачынальнікаў, у той час як гісторыя Беларусі, што знаходзілася на пятым этапе свайго „шляху да незалежнасці" — ад 1917 г., года Першага Ўсебеларускага кангрэсу, да 10 ліпеня 1994 г., дня абрання прэзідэнта — здавалася, прыйшла, да свайго прыміральнага завяршэння. На напісанай ад рукі „лініі часу" Кастрычніцкая рэвалюцыя паказаная ўжо не была[184].

Настаўніцкую ініцыятыву іншага кшталту праявіў слонімскі настаўнік гісторыі Васіль Ракуць. Выказаўшы метадалагічныя меркаванні адносна перапрацоўкі падручніка гісторыі Беларусі для 6–га класа, уведзенага ва ўжытак у 1993 г., ён, супольна з вядомым археолагам і аўтарам першага варыянта дапаможніка Г.Штыхавым, пазней падрыхтаваў новую версію, якая, пачынаючы з 1994 г., з працягам друкавалася ў „Беларускім гістарычным часопісе", прычым публікацыя не была спыненая і пасля вядомага прэзідэнцкага распараджэння ад жніўня 1995 г.[185]. Фактам ёсць тое, што настаўнікі гісторыі належаць да прафесійных групаў, у найбольшай ступені закранутых запозненай зменай сістэмы. За апошнія пяць гадоў кіраўнічыя ўказанні адносна зместу іх штодзённай працы цягам „аднае начы" мяняліся тры разы: у 1988—1991 г. (нацыянал–камуністычная версія гісторыі эпохі

[181] История Беларуси: Вопросы и ответы. Составители Г.Я.Голенченко, В.П.Осмоловский. Минск, 1993; Крыжовы шлях. Дапаможнік для вывучаючых гісторыю Беларусі / Укл. Лойка Л., Лойка Т. Мінск, 1993.

[182] Настаўніцкая газета, 6.10.1993. С.1.

[183] Гэтак сцвярджаецца ў: Андраюк Серафім. Без кніг мы ніколі не выберамся з дрыгвы // ЛіМ, 8.10.1993. С.5, 12.

[184] Параўн.: Хітрык Уладзімір. Кабінет гісторыі Беларусі // БГЧ. 1994. № 3. С.74—83.

[185] Ракуць Васіль. Як дапаможніку стаць падручнікам // Тамсама, с.84—90, а таксама: № 4. С.91—97. У часе з восені 1994 да 1996 г. у гэтым часопісе, акрамя таго, з'явіліся шматлікія паасобныя раздзелы новых праектаў падручнікаў.

перабудовы), у 1992—1995 г. (нацыянальная гістарычная канцэпцыя незалежнай рэспублікі) і пачынаючы з траўня 1995 г. (рэсаветызаваны погляд на гісторыю эпохі Лукашэнкі). Да гэтага дадаваліся навацыі, дасягнутыя праз „народнае волевыяўленне", што змушала рабіць указанні кшталту наступнага:

> „**Ад рэдакцыі.** *У сувязі з рашэннем рэферэндуму, што адбыўся 15 мая 1995 г., аб змене дзяржаўнай сімволікі прапануем настаўнікам на занятках унесці адпаведныя карэктывы ў змест матэрыялаў падручнікаў і дапаможнікаў, якімі цяпер карыстаюцца вучні*"[186].

Распараджэнне прэзідэнта Лукашэнкі, зробленае 16 жніўня 1995 г., за два тыдні перад пачаткам новага навучальнага года, пра тое, каб „выдаліць з сістэмы беларускай школьнай і вышэйшай адукацыі" выдадзеныя ў 1992—1995 г. падручнікі і навучальныя дапаможнікі па дысцыплінах грамадазнаўчай сферы, належала да ліку найбольш выразных мерапрыемстваў па стварэнні перашкод фармаванню нацыянальнага бачання гісторыі. Названае распараджэнне выглядала абсурдным не ў апошнюю чаргу таму, што ад беларускага дзяржаўнага бюджэту пры стане свабоднага падзення эканомікі чакаліся дадатковыя выдаткі ў суме 226 мільярдаў беларускіх рублёў на выданне 225 новых найменняў падручнікаў агульным накладам 19 мільёнаў паасобнікаў[187]. Пры гэтым у школьныя класы вярталіся падручнікі падсавецкага часу. Тым самым, пачынаючы з 1995/96 навучальнага года, ва ўжытку часова знаходзіліся тры генерацыі падручнікаў: познесавецкія падручнікі гісторыі, не скасаваныя канчаткова падручнікі выпуску 1992—1995 гадоў выдання і першыя наноў створаныя падручнікі і дапаможнікі. Цяжка сабе ўявіць большую збянтэжаиасць школьнікаў і настаўнікаў, бо ўсе тры генерацыі кніг менавіта па гісторыі будаваліся на цалкам розных пастулатах. На думку намесніка міністра адукацыі і навукі Генадзя Дыляна, да 1997 г. мелася быць завершаным выданне „першага пакалення новых нацыянальных падручнікаў і дапаможнікаў па гісторыі", угрунтаваных „на раней выдадзеных эксперыментальных вучэбных дапаможніках"[188]. Дасягнуць гэтай мэты, аднак, не ўдалося.

[186] Заўвага рэдакцыі „Беларускага гістарычнага часопіса" ў: БГЧ. 1995. № 2. С.138. Паводле іроніі лёсу і ў звязку з затрымкай друку спецыяльнага часопіса атрымалася так, што менавіта ў гэтым нумары выйшаў артыкул, прысвечаны вывучэнню сімволікі пад час па-новаму зарганізаваных заняткаў па гісторыі, які цяпер вымушана меўся быць актуалізаваны. Гл.: Вабішчэвіч Віктар. Вывучэнне сімволікі ў школе // Тамсама, с.130—138.

[187] Да пачатку 1996 г. з 225 найменняў удалося выдаць каля 130, агульны наклад якіх склаў прыкладна 10 мільёнаў паасобнікаў. 84 найменні знаходзіліся ў працэсе вытворчасці, у той час як праз недахоп неабходных сродкаў у Міністэрства адукацыі ад выпуску 16 найменняў кніг давялося на той час адмовіцца зусім. За ўжо надрукаваныя 130 найменняў кніг Міністэрства і так здолела разлічыцца прыкладна напалову. Да агульнай сумы запазычанасці ў памеры 50 мільярдаў беларускіх рублёў (БРБ) за выпушчаныя кнігі ў сярэдзіне 1996 г. дадаліся штрафныя сумы за ўзятыя крэдыты ў памеры яшчэ 300 мільёнаў БРБ. Звесткі прыводзяцца паводле: Белорусская деловая газета, 12.08.1996. С.3.

[188] Дылян Генадзь. Праблемы гістарычнай адукацыі ў агульнаадукацыйных школах Рэспублікі Беларусь // БГЧ. 1996. № 3. С.5—13, у гэтым выпадку с.10. Тут таксама апраўдвалася ўжыванне „менш палітызаваных падручнікаў савецкага часу" па ўсе-

У пачатку 1996 г. Міністэрства адукацыі і навукі зацвердзіла план перапрацоўкі дапаможнікаў па гісторыі ўзору 1993 г., згодна з якім праз новы конкурс мелася быць апрацаваная праграма падрыхтоўкі і выдання новых навучальных кніг. Зробленая ва ўступнай частцы гэтай пастановы спасылка на дзейны Закон „Аб адукацыі" ўзору 1991 г., паводле якога прыярытэтнай задачай прызнавалася „фармаванне і ўмацаванне нацыянальнай самасвядомасці грамадзян", у вушах беларускай нацыянальнай інтэлігенцыі, вядома, гучала нібы здзек. Тым не менш, ад супрацоўніцтва адмовіцца яна не магла. Гэтак, пры Нацыянальным інстытуце адукацыі была створаная рабочая група з гісторыкаў і спецыялістаў у галіне выкладання гісторыі пад кіраўніцтвам дырэктара ІГ АНБ М.П.Касцюка, якой была даручана распрацоўка канцэптуальных пачаткаў працы, якія б маглі наблізіць падыходы да застыглых, падобных да дрэварытаў, гістарычна–палітычных поглядаў прэзідэнта. Той самы Інстытут, які ў 1991 г. распрацоўваў нацыянальную канцэпцыю беларускай гісторыі і, тым самым, заклаў падмурак стварэння дапаможнікаў па гісторыі, цяпер зноў быў пастаўлены перад задачай адліць матрыцу для новых падручнікаў. Паралелі з доўгім шляхам стварэння першай „Истории БССР" узору 1954 г. уражвалі. Ніл Гілевіч нават параўнаў сітуацыю з тым становішчам, што існавала ў школе на пачатку 1941 навучальнага года, калі з пачаткам часу нямецкай акупацыі школы раптам апынуліся без навучальных дапаможнікаў, а вучні цягам цэлага года мусілі набываць веды па гісторыі з прапагандысцкіх артыкулаў газет[189].

Нацыянальны інстытут адукацыі і якраз ІГ АНБ меліся, акрамя таго, у сталай рубрыцы, публікаванай у „Настаўніцкай газеце", даваць „навукова–метадычныя парады", якія б служылі даведачным матэрыялам пры часовым выкарыстанні навучальных дапаможнікаў трох пакаленняў. Адзін прыклад павінен праілюстраваць той факт, што пры распрацоўцы другога пакалення падручнікаў гісторыі, побач з фінансавымі і палітычнымі няпэўнасцямі, даводзілася пераадольваць таксама шматлікія перашкоды з гледзішча зместу. У гэтым сэнсе дапаможнікі па гісторыі ўзору 1993 г. былі прасякнутыя духам эйфарычнай гістарыяграфіі нацыі пачатку 1990–х г., якая рабіла стаўку не гэтулькі на ўгрунтаваныя на выніках апераджальных навуковых даследаванняў веды, колькі, у значнай ступені, на пастулатах „адраджэнскага" руху. Гэтак, у своеасаблівым перапляценні савецкіх і нацыянальна–гістарычных аргументаў у дапаможніку для 8–га класа сцвярджалася, што, маўляў, Беларусь з канца XVIII да пачатку XX ст. належала да ліку „калоніяў Расійскай імперыі". У сваім крытычным водгуку на гэтае ды іншыя „памылковыя вызначэнні" гісторык з ІГ АНБ Андрэй Кіштымаў выразна паказаў, што стасаванне паняцця калоніі, якое ў аднолькавым сэнсе ўжываецца ў Леніна і Аляксандра Цвікевіча, у дачыненні да гаспадарчага, сацыяльна-

агульнай гісторыі Старажытнага свету і Сярэднявечча, а таксама падручніка па гісторыі Беларусі ад найстаражытнейшых часоў да канца XIX ст. Апошні быў упершыню выпушчаны ў 1989 г. і яшчэ раз перавыдадзены ў 1993 г.

[189] Гілевіч Ніл. Падручнікі для выхавання... каго? Манкуртаў ды Іванаў без роду–племені? Выступленне на нарадзе навукоўцаў і педагогаў, арганізаванай Камісіяй Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны // ЛіМ, 29.09.1995. С.2.

га і культурнага жыцця на беларускіх землях у названым перыядзе часу выклікае пытанні. Праўдай ёсць тое, што яшчэ за польскім панаваннем скасоўвалася гарадское самакіраванне і нівеляваліся прынцыпы Літоўскага Статута. Адначасна, маўляў, трэба адзначыць уздым беларускага прадпрымальніцтва ды іншыя тэндэнцыі капіталізацыі. Да таго ж, не варта было б забываць паступовае ўзнікненне данавуковага краязнаўства і гістарыяграфіі, а таксама свайго ўласнага мастацтва, самастойнага літаратурнага жыцця і палітычна-патрыятычных амбіцыяў[190]. Якраз з тае прычыны, што Кіштымаву залежала на тым, каб нацыянальная свядомасць глыбока пранікала ў нутраны свет вучняў, на яго погляд, умяшальніцтвы гэткага кшталту мусілі б паспрыяць вызваленню падручнікаў ад элементаў нацыяналістычнае рыторыкі. Супрацоўнікі ІГ АНБ, якія прамаўлялі „павучальныя" словы на старонках „Настаўніцкай газеты", неўзабаве пачулі на свой адрас крытыку з пісьменніцкіх шэрагаў. Гэта адбылося не толькі таму, што тут былі паддадзеныя сумневу паасобныя пастулаты нацыянальна-гістарычнай канцэпцыі. Сваімі артыкуламі гісторыкі, маўляў, перадусім меліся спрыяць таму, каб пераскочыць праз беспадручнікавы час і гэтым дапамагчы „шкодным планам" Міністэрства.

Насамрэч, з'ініцыяваная прэзідэнтам ды Міністэрствам адукацыі замена падручнікаў па гісторыі, літаратуры ды іншых дысцыплінах унесла дадатковы раскол у шэрагі інтэлігенцыі. Калі пісьменнікі з Беларускага ПЭН-цэнтра на чале з Быкавым і Арловым, а таксама Гілевіч ды іншыя яшчэ ў снежні 1995 г. выступілі з рэзкім пратэстам супраць гэткага кшталту распараджэнняў і звязанымі з імі спробамі „павярнуць гісторыю назад"[191], шмат хто з гісторыкаў, што займалі дзяржаўныя пасады, хутчэй прамаўчалі; яны, не ў апошнюю чаргу менавіта праз атрыманне заданняў на стварэнне новых падручнікаў, разлічвалі на сякую-такую фінансавую падтрымку свайго, увогуле вартага жалю, матэрыяльнага існавання. Гэта ні ў якім разе не сведчыла пра падтрымку прэзідэнцкіх ініцыятываў. Найбольш выразныя словы сярод гісторыкаў знайшліся ў прафесара Біча, якога — як аднаго з галоўных аўтараў пакалення падручнікаў 1993/94 г. — прэзідэнцкія дзеянні мусілі закрануць у найбольшай ступені. Ён цвёрда адстойваў змест і структуру дапаможнікаў і падкрэсліваў, што яны мусяць быць напісаныя, абмеркаваныя і апублікаваныя без адыходу ад „нацыянальнай канцэпцыі". Да гэтага часу, маўляў, Міністэрства адукацыі ніякім чынам не давала зразумець, што яно не згоднае з гэтымі падручнікамі па гісторыі й літаратуры; гэта ёсць для Біча доказам таго, што ў гэтым выпадку прэзідэнт умяшаўся мэтанакіравана, падтрыманы актывістамі Славянскага Сабору „Белая Русь" і шмат разоў тут згадванага клуба „Исторические знания" пры Мінскім доме ветэранаў[192].

Супрацьстаянне прадоўжылася, калі на пачатку 1997 г. нанова напісаныя падручнікі па беларускай гісторыі паступова былі ўведзеныя ў школьны

[190] Кіштымаў Андрэй. Аб характары становішча Беларусі ў складзе Расійскай імперыі // Настаўніцкая газета, 10.02.1996. С.3.

[191] Замах на будучыню нацыі // ЛіМ, 25.08.1995. С.3.

[192] Якім быць падручніку па гісторыі. Завочны „круглы стол" „Беларускага гістарычнага часопіса" і „Настаўніцкай газеты" // БГЧ. 1995. № 4. С.5—29, у гэтым выпадку с.25—29.

ўжытак[193]. Разлом паміж пакаленнямі падручнікаў 1993/94 і 1996/97 г. быў відаць ужо з вонкавага афармлення. Калі першая частка кнігі па гісторыі для 10-га класа яшчэ мела бела-чырвона-белую вокладку, дык новыя выданні ўжо былі нейтральна-зялёныя альбо карычневыя. Да пачатку 1997/98 навучальнага года, аднак, у школах па-ранейшаму выкарыстоўвалася некалькі пакаленняў падручнікаў і дапаможнікаў. У 5-х, 6-х і 9-х класах ужо вучылі паводле дапаможнікаў выпуску 1996/97 г., у той час як у 7-х і 8-х класах усё яшчэ карысталіся дапаможнікамі 1993 г. выдання. Гэтыя дапаможнікі былі задуманыя *expressis verbis* [выразным чынам] „на пераходны перыяд". У іх адсутнічалі „гэткія важныя для падручнікаў элементы, як перадрукаваныя фрагменты дакументаў, хstation налагічныя табліцы, спісы літаратуры і першакрыніц, ілюстрацыі"[194]. Падручнікі савецкага часу з гэтага моманту больш не былі афіцыйнымі дапаможнікамі для правядзення заняткаў. Тым не менш, і па сённяшні ў пэўных аддаленых ад цэнтра вясковых школах можна знайсці падручнікі і дапаможнікі з познесавецкага часу.

Прэзідэнцкая камісія па пытаннях падручнікаў цвёрда ўзяла ў свае рукі цуглі арганізацыйнага, а перадусім змястоўнага забеспячэння розных ступеняў школы навучальнымі матэрыяламі. Старшыняванне ў названай камісіі ў ліпені 1997 г. пераняў намеснік прэм'ер-міністра У.П.Замяталін, які да таго паспеў здабыць сабе сумнеўную славу ў якасці старшыні Дзяржаўнага камітэта па друку[195]. Камісія ў справе падручнікаў працавала на секцыйным, разбітым паводле спецыялізацыяў узроўні. Клопат пра падручнікі гісторыі ўзялі на сябе перадусім гісторыкі марксісцка-ленінскага, а хутчэй, брэжнеўска-савецкага кшталту. Для студэнтаў гістарычных спецыяльнасцяў універсітэтаў ды інстытутаў да 1998 г. не было афіцыйна і паўнавартасна зацверджанага навучальнага дапаможніка. Двухтамовыя „Нарысы гісторыі Беларусі", што былі ў 1994 г. рэкамендаваныя Міністэрствам адна-

[193] У 1997 г. у сярэдніх школах выкарыстоўваліся дзяржаўныя і недзяржаўныя падручнікі і дапаможнікі па гісторыі Беларусі: **Пачатковая школа, 4 клас:** Бутрамееў У. Вялікія і славутыя беларускай зямлі. Мінск, 1995 (XI—XVI ст.); Белая В.Л., Жытко А.П., Пляшэвіч У.К., Траяноўскі А.П. Мая Радзіма — Беларусь. Падручнік для 4 класа. Зацверджана Міністэрствам адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь. Мінск, 1996 (IX ст.— 1991 г.). **Базавая, сярэдняя школа (5—11 класы), дапаможнікі для паступлення ў ВНУ:** Штыхаў Г.В., Пляшэвіч У.К., Фядута В.У. Гісторыя Беларусі старажытных часоў. Вучэбны матэрыял для вучняў 5 класа. Дапушчана Міністэрствам адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь у якасці вучэбнага матэрыялу. Мінск, 1995 (Беларусь у старажытнасці); Дапаможнік па гісторыі Беларусі для паступаючых у вышэйшыя навучальныя ўстановы. Пад рэд. А.Г.Каханоўскага, Ю.Л.Казакова, У.А.Сосны, П.А.Лойкі, В.І.Менькоўскага. Мінск, 1995 (ад пачаткаў да 1995 г.); Гісторыя Беларусі: Канец XVIII ст.—1996 г. Вучэбны дапаможнік для вучняў 11 класа. У дзвюх кнігах. Кн. 1. Пад рэд. прафесара Я.К.Новіка, дацэнта В.А.Цяпловай. Мінск, 1996 (канец XVIII ст.— 1914 г.); Штыхаў Г.В., Ракуць В.У. Гісторыя Беларусі ў сярэднія вякі. Падручнік для 6 класа. Зацверджана Міністэрствам адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь. Мінск, 1996 (ад пачаткаў да XV ст.); Гісторыя Беларусі. Вучэбны дапаможнік. Для ліцэяў, гімназій і школ з паглыбленым вывучэннем гуманітарных дысцыплін. Пад рэд. Ю.Л.Казакова, А.Г.Каханоўскага, П.А.Лойкі, В.І.Менькоўскага, У.А.Сосны. Мінск, 1996 (дапоўнены і дапрацаваны варыянт выдання 1995 г. — ад пачаткаў да 1995 г.).

[194] Бич М.О., Сидорцов В.Н., Фомин В.М. История Беларуси. XX век. Учебное пособие для 10—11 классов средней школы. Мінск, 1992. С.3 і наст.

[195] RFE / RL NEWSLINE. Vol.1. #74. Part II, 16.07.1997.

часова для школьнікаў ды студэнтаў, афіцыйны бок залічыў да прадукцыі „нацыяналістычнае школы“. Што праўда, у ВНУ яны ў сваёй бальшыні выкарыстоўваліся і надалей. Пэўныя універсітэты — як, да прыкладу, універсітэт імя Янкі Купалы ў Гродне — малымі накладамі выдалі гектаграфічным спосабам зборнікі лекцыяў. Падрыхтоўчыя курсы універсітэтаў і студэнты негістарычных спецыяльнасцяў найчасцей мелі ва ўжытку выдадзены ў 1996 г. аднатамовы падручнік „Гісторыя Беларусі“. Гэтая калектыўная праца пакуль што рэпрэзентавала памяркоўнае нацыянальнае гісторыяпісанне ў Беларусі. У кнізе, аднак, адсутнічала пазнака, што ён рэкамендаваны альбо дапушчаны Міністэрствам адукацыі[196]. Побач з традыцыйнымі дапаможнікамі ў 1995 г. у школьныя класы таксама патрапіла першая беларускамоўная, распрацаваная адмыслова для сярэдняй школы „Гісторыя мастацтваў“, у якой аднучасова разглядаліся беларускае і сусветнае мастацтва, хоць і тут поўнага адыходу ад савецкіх гісторыка-мастацкіх традыцыяў не назіралася. Менавіта з гэтай прычыны вытлумачальным быў той факт, што гэтак глабальна задуманы дапаможнік па гісторыі ўвогуле здолеў трапіць у продаж якраз у часе выключнага крызіснага становішча ў гістарыяграфіі[197]. З нядаўняга часу сталі выкарыстоўвацца і найноўшыя сродкі трансляцыі гістарычных ведаў. Група вынаходлівых спецыялістаў у галіне кампутарнай тэхнікі на чале з С.В.Пановым распрацавала навучальныя праграмы для персанальных кампутараў для заняткаў па гісторыі Беларусі і размеркавала матэрыялы курса для паасобных класаў. Нягледзячы на недастатковае тэхнічнае забеспячэнне школаў і слабасці ў змесце праграмы („Было Полацкае княства ў IX—XII ст. залежным альбо незалежным ад Кіеўскай дзяржавы? — Шчоўкніце на: „так“ альбо „не“!), трэба спадзявацца, што постсавецкая адукацыйная і навуковая палітыка Беларусі ў развіцці дапаможных навучальных сродкаў не дапусціць гэткага самага прамаруджвання ў часе, як у пазбаўленні сябе ад уздзеяння тых ці іншых догмаў у змесце дысцыплін[198].

## 3.2. Канон тэмаў нацыянальнае гісторыі

Надалей мы ў агульных рысах паспрабуем даць агляд тых дыскусійных тэмаў, што, пачынаючы з 1991 г., у прыярытэтным парадку абмяркоўваліся ў спецыяльных выданнях і гістарычнай перыёдыцы, на занятках гісторыі, семінарах у ВНУ. Тут будуць толькі закранутыя стрыжнявыя тэмы найноўшай беларускай гістарыяграфіі — гэткія, як зацягнутая ў часе пераацэнка гісторыі Другой сусветнай вайны ды партызанскага руху альбо таксама гісторыя ўзаемадачыненняў БНР і новапаўсталай савецкай дзяржавы[199]. Мы разгледзім пэўныя пытанні

[196] Гісторыя Беларусі. Вучэбны дапаможнік... (op. cit.). Гл. апошняе ўказанне ў зносцы 195.

[197] Лазука Б.А. Гісторыя мастацтваў: Вучэбны дапаможнік. Мінск, 1996. Параўн. таксама крытычныя рэцэнзіі ў: НН, 27.03.1996. С.3, 22. Кніга была выпушчаная галоўным чынам за сродкі Беларускага Фонду Сораса.

[198] Паноў Сяргей. Камп'ютэр на ўроках гісторыі Беларусі // БГЧ. 1994. № 4. С.115—116; Сідарцоў Уладзімір. Пакет навучальных праграм па школьнаму курсу гісторыі Беларусі // БГЧ. 1995. № 3. С.186—195.

[199] Пра гістарыяграфію Другой сусветнай вайны і перыяду акупацыі параўн.: Chiari, Bernhard. Mythos und Alltag: Voraussetzungen und Probleme eines west-östlichen Dialogs zur Historiographie des Zweiten Weltkrieges // MGM 54 (1995) 2. C.535—563.

развіцця нацыянальнае гістарыяграфіі й гістарычнай публіцыстыкі, прычым тут будуць ахопленыя далёка не ўсе значныя манаграфіі ды артыкулы. Дзе гэта было магчыма, з мэтай унавочнення будуць прыводзіцца найбольш красамоўныя прыклады, у той час як не будзе згадана пра шматлікія „някідкія“, але салідныя працы.

### 3.2.1. Этнагенез і „Белая Русь“

Пытанне этнічнага паходжання беларусаў далёка не сёння зрабілася пытаннем самавызначэння для шмат якіх мінскіх этнографаў і гісторыкаў. Ад пачатку стагоддзя археолагі і гісторыкі намагаліся вызначыць паходжанне беларускага этнасу на грунце „даіндаеўрапейскага змяшэння народаў“, якое з сярэдняга каменнага веку насяляла прастору паміж Дзвіною, Дняпром ды Нёманам. З тае пары славяне, фіны, балты ў разнастайных камбінацыях вызначаюцца як продкі сучасных беларусаў, прычым навукоўцы ўвесь час спрабавалі абапірацца на матэрыяльныя знаходкі і моўна-гістарычныя звесткі. У той час як нацыянальная тэорыя этнагенезу 20-х г. узносіла беларускі этнас як „найчысцейшы“ — побач з польскім — сярод славянскіх, а савецкая канцэпцыя грунтавалася на прызнанні існавання „старажытнарускага“ агульнага этнасу, этнографы, пачынаючы з канца 60-х г., пачалі расстаўляць акцэнты па-іншаму[200].

Апублікаваная ў 1967 г. праца маскоўскага эархеолага В.В.Сядова стала пралогам да дэбатаў пра пытанне „балцкага субстрату“ ў этнічнай перадгісторыі беларусаў. Гэтай тэорыі было наканавана ў наступных дзесяцігоддзях зрабіцца аб'ектам прынцыповых дыскусіяў і падставай для палітычнага ўмяшальніцтва з боку партыі. Паняцце „субстрат“ Сядоў ужываў не без элемента палемікі з вучонай думкай наконт „славянскага субстрату“, якую, не ў апошнюю чаргу, адстойваў акадэмік М.С.Дзяржавін:

> „Вынікам славянізацыі балцкага насельніцтва, а таксама яго змешвання з прышлымі носьбітамі славянскіх моваў магло б, відавочна, зрабіцца выдзяленне часткі ўсходнеславянскага насельніцтва, што, урэшце, прывяло да ўтварэння беларускай мовы і беларускай народнасці. Паводле археалагічных звестак, славянізацыя балтаў мела месца ў перыядзе з VII—VIII да XIII ст. на тэрыторыях, дзе пазней распаўсюдзілася беларуская гаворка“[201].

[200] Найлепшая на сёння бібліяграфія найноўшых даследаванняў у пытаннях этнагенезу прапанавана ў: Мацвеева Т.Р. Вытокі. Да пытання этнагенезу беларусаў... Рэкамендацыйны бібліяграфічны спіс // Новыя кнігі Беларусі. 1996. № 9. Дадатак. С.1—16. Для агульнага ўяўлення пра погляд з найноўшага небеларускага гледзішча параўн.: Григорьева Р.А. Краткий очерк этнической истории // РАН, Институт этнологии и антропологии им. Н.Н.Миклухо-Маклая (выд.). Белоруссы: Кн. 1: Историко-этнографический очерк традиционной культуры (Материалы к серии „Народы и культуры“, т.26). Москва, 1992. С.5—20; Семушин Дмитрий. История Белоруссии (VI—X вв.) [черновик, 1995]. С.1—21 (неапублікаваны рукапіс, праект „Гісторыі Беларусі“, што мае выйсці на венгерскай мове).

[201] Седов В.В. Славяне Верхнего Поднепровья и Подвинья. Москва, 1970. С.186. Найперш выйшла: *Яго ж.* К происхождению белорусов // Советская этнография. 1967. №2. С.112—129. У постсавецкай публіцыстыцы: Сядоў В. Беларусы — славяна-балты?

Праведзеная часопісам „Советская этнография“ прынцыповая дыскусія, натуральна, не мела для маскоўскіх і ленінградскіх гісторыкаў таго палітычнага значэння, якое яно мела для беларускай гістарыяграфіі[202]. Хоць Л.Абэцэдарскі ды І.Ігнаценка з найвышэйшага яруса беларускай гістарыяграфіі адразу ж адкінулі выказванні Сядова як „неправдзівыя“ і „беспадстаўныя“[203], сярод супрацоўнікаў ІГ АН БССР знайшоўся ў асобе Г.В.Штыхава чалавек, які з тае пары выявіў сябе як адзін з найактыўнейшых прыхільнікаў тэорыі „балцкага субстрату“, у т.л. і пасля 1991 г. Яшчэ ў 1972 г. ён не пакідаў ніякага сумневу ў сваіх сапраўдных перакананнях: „На глебе балцкага субстрату ўзніклі розныя племянныя аб'яднанні — гэткія, як полацкія і смаленскія крывічы, радзімічы і дрыгавічы, продкі сучасных беларусаў“[204]. Як ужо згадвалася вышэй, тэза пра „балцкі субстрат“ павінна была зрабіцца аб’ектам дыскусіяў пад час запланаванай на 1973 г. у тагачасным ІГ АН БССР, а ўрэшце адкліканай паводле хісткіх абгрунтаванняў, канферэнцыі. Паколькі яна несла з сабою пагрозу перакуліць усе ранейшыя ўяўленні пра „старажытнарускую агульную народнасць“, а тым самым, і тэорыю пра „братні народ“, у наступным годзе беларускі партыйны шэф Машэраў нават палічыў сваім абавязкам выступіць на пленуме ЦК КПБ супраць „нацыяналістычных гісторыкаў“.

Разам са Штыхавым як „нацыяналіст“ у шэрагах АН БССР быў заклікаными партыяй да парадку таксама археолаг М.Чарняўскі, бо яго тэорыя пра „славянізацыю балтаў“ як зыходны пункт беларускага этнагенезу выклікала дадатковае незадавальненне. Гэтая тэорыя вяла да таго, каб паказваць беларусаў, называных у розных часах насамрэч этнонімамі „ліцвіны“ ці „русіны“, славянізаваным пачаткова балцкім племем. У гэтым сэнсе, як і чакалася, выказаўся ў 1990 г. і Мікола Ермаловіч, які ўжо тады не прапускаў нагоды для дыстанцыявання паміж

// ЛіМ, 30.04.1993. С.16. Працы-папярэднікі: Голубовский П.В. История Смоленской земли. Киев, 1895; Брага С. Балцкі элемэнт пры паўстаньню беларускага народу. Мюнхэн, 1950. Адносна тэрміна „славянскага субстрату“, што прысутнічае ў сучаснай беларускай народнасці, параўн.: Державин Н.С. Происхождение русского народа. Москва, 1944. С.90.

[202] Найважнейшыя публікацыі па гэтым пытанні: Третьяков П.Н. Восточные славяне и балтийский субстрат // Советская этнография. 1967. № 4. С.69—82; Жучкевич В.А. К вопросу о балтийском субстрате в этногенезе белорусов // Тамсама. 1968. № 1. С.107—113; палітычна-гістарычная абарона падсавецка-беларускай канцэпцыі прапанавана ў: Гринблат М.Я. К происхождению белорусской народности // Тамсама. 1968. № 5. С.79—92; на гэта яшчэ адзін адказ Сядова: Седов В.В. Еще раз о происхождении белорусов // Тамсама. 1969. № 1. С.105—121. Ужо само ўжыванне тэрмінаў „белорусы“ альбо „белоруссы“ ў расійскамоўнай „Советской этнографіі“ было светапоглядна вызначанай з'явай.

[203] Абэцэдарскі Л. У святле неабвержных фактаў. Мінск, 1969. С.12 і наст.; Гісторыя Беларускай ССР. Т.1. Пад рэд. І.М.Ігнаценкі. Мінск, 1972. С.175. Параўн.: Грынблат М.Я., Капыскі З.Ю., Перцаў У.М. Утварэнне беларускай народнасці. Тут гаворыцца, што „канцэпцыя пра рашаючую ролю балцкага субстрату“ ва ўзнікненні беларускага народа і ўтварэнні яго этна-культурных асаблівасцяў „не мае пад сабою ніякіх падстаў“.

[204] ИИАН БССР (выд.). Очерк по археологии Белоруссии. Ч.2. Под ред. Г.В.Штыхова, Л.Д.Поболя. Мінск, 1972. С.214.

вялікарасійскай і беларускай гісторыяй. У сваёй працы, прысвечанай раннебеларускай гісторыі, ён нават папярэджваў пра недапушчальнасць пераацэнкі „ролі балцкага субстрату ў этнагенезе беларусаў“, „бо беларусы хутчэй за ўсё з'яўляюцца не балтызаванымі славянамі, а аславяненымі балтамі“[205]. Ніякае іншае сцверджанне гісторыкаў нацыянальнай школы адносна беларускай гісторыі не адрознівалася гэткім прынцыповым чынам ад меркаванняў іх калегаў 20-х г. Шлях ад міфа пра „найчысцейшы“ ўсходнеславянскі народ да міфа пра „аславяненых балтаў“ быў, бясспрэчна, шляхам на Захад — шляхам, які вядзе прэч ад вялікарасійскасці, што стаіць за досведам савецкага часу, у кірунку еўрапейскай цывілізацыі.

Дэбаты наконт „балцкай тэорыі“ працягваліся. Акрамя блытаных і нярэдка слабаабгрунтаваных на крыніцах этна-гістарычных дапушчэнняў адносна прадаўняе гісторыі, яны пастаянна ўплывалі на ацэнкі храналагічна пазнейшых палітычных і грамадскіх падзеяў і працэсаў. Падштурхоўваная „новай канцэпцыяй“ дыскусія набыла новыя маштабы на пачатку 1990-х г.[206]. На старонках першага нумара новазаснаванага часопіса „Беларуская мінуўшчына“ дырэктар Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі й фальклору АНБ Міхась Піліпенка абагульніў тэзы, выказаныя ім у шырокавядомай манаграфіі 1991 г. Згодна з імі, можна адзначыць балцкія ўплывы яшчэ на плямёны крывічоў, радзімічаў і дрыгавічоў, што пасяліліся на гэтых землях пачынаючы з VI ст. н.э. У адпаведнасці са сваім узроўнем развіцця гэтыя этнічныя супольнасці — што складаліся ў роўнай меры са славянскіх і балцкіх элементаў — меліся быць азначаныя як „протанароднасці“ раннефеадальнага грамадства.

Гэта супадала з тэзай, сфармуляванай Чаквіным і Церашковічам, у адпаведнасці з якой беларуская народнасць узнікла на грунце „зямляцкіх і субэтнічных групаў“, кожная з якой паасобку яшчэ ў часы старажытнай Русі мелася сама ўтвараць субэтнічныя супольнасці з выразна выяўленай сацыяльнай структураю, са сваімі асаблівасцямі мовы, культуры і самасвядомасці[207]. Беспасярэдняя пераемнасць навачасных беларусаў з гэтымі плямёнамі перапыняецца прамежкавай стадыяй існавання старажытных беларускіх групаў насельніцтва, якія, паводле знаходак, мусілі паходзіць таксама з Палесся. Акрамя таго, Піліпенка звярнуў увагу на пазнейшы, сярэднявечны ўдзел заходнеславянскіх (польскіх), татарскіх і германскіх этнасаў у фармаванні беларускага народа[208]. У кожным разе для яго відавочным было, што пачаткі беларускай мовы і звязанай з гэтым культурнай традыцыі трэба адносіць, самае ранняе, да XVI ст. Маўляў, толькі з гэтага

[205] Параўн. пазнейшае абагульненне тэзаў: Чарняўскі М. Вытокі // БД. 1992. №2. С.62—69. Ермаловіч Мікола. Старажытная Беларусь: Полацкі і новагародскі перыяды. Мінск, 1990. С.46.

[206] Пилипенко М.Ф. Возникновение Белоруссии: Новая концепция. Мінск, 1991.

[207] Чаквин И.В., Терешкович П.В. Из истории становления национального самосознания белорусов... (op. cit.). С.43. Пашыраны выклад у: Чаквін І.У. Этнічная гісторыя Беларусі эпохі феадалізму (XIV—першая палова XVII ст.). Аўтарэферат дыс. докт. гіст. навук. Мінск, 1995.

[208] Піліпенка Міхась. „Дзе зямля наша будзе, дзе Айчына ў нас?“. „Скуль і якога мы роду?“ // БМ. 1993. № 1. С.5—8. Тут таксама выразна вылучаюцца і прускія крыжакі.

часу можна весці гаворку пра Беларусь як этнічна вызначаную тэрыторыю „новага ўсходнеславянскага народа", а таксама, уласна, пра „беларускі этнас"[209]. Дыскусія пра беларускі этнагенез, якая ўсё яшчэ здаецца гэткай самай амбівалентнай, як і яе аб'ект, закранула, гэткім чынам, перыяд часу да пачатку XVII ст. улучна. Толькі на пераломе XVI і XVII ст. розныя этнічныя групы, што мелі ўдзел у этнагенезе беларусаў, былі „паўналікімі". З гэтым звязаныя таксама новыя антрапалагічныя гіпотэзы, што грунтуюцца на вызначэнні ўплыву балцкіх элементаў на вонкавы тып „дабеларускіх этнасаў"[210].

У той час, калі раздзелы апошняй на момант напісання гэтай кнігі сінтэзы беларускай гісторыі, прысвечанай найдаўнейшай гісторыі, усё яшчэ прасякнутыя духам дыскусіі пра славян і балтаў, а маладзейшыя аўтары таксама абвяшчаюць тэзы пра „балцкі субстрат" альбо пра „сімбіёз балцкай і славянскай культур" шматкроць даказанымі, Піліпенка робіць яшчэ адзін крок далей[211]. Яго намаганнямі вывучэнне беларускае перадгісторыі цяпер пачало ў большай ступені ўлічваць храналагічны аспект, праз які не адкідаліся, але храналагічна сістэматызаваліся розныя канцэпцыі. Паводле гэткага падыходу, спачатку фіна-ўгорцы, потым балты, пасля крывічы, радзімічы і дрыгавічы — як старажытнаславянскі пераходны этап — утваралі тую этнічную масу (Gemenge), якая пасля завяршэння наступнага прамежкавага этапу спарадзіла навачасных беларусаў. Вырашальны імпульс для таго, каб распачаліся дэбаты, зыходзіў ад Піліпенкі, новая канцэпцыя якога была новай таму, што ў ёй утрымоўваўся пошук кампрамісу[212]. Заплечча новага звароту да пытання этнагенезу палягала — як гэта засведчыла дыскусія — не толькі ў жывым чыста даследніцкім інтарэсе, але і ў латэнтным, свядомым ці несвядомым пошуку этнічных, моўных альбо гістарычных аргументаў дзеля адмежавання ад вялікарасійскасці.

Наўрад ці ў гадах пасля абвяшчэння незалежнасці якое-небудзь іншае пытанне абмяркоўвалася гэтак ажыўлена, як пытанне пра паходжанне назвы „Белая Русь"[213]. Мы не будзем тут спыняцца на гэтым падрабязна, бо стан вывучэння крыніц пакуль што адназначнага і пераканаўчага адказу не дае. Урэшце, нас цікавіць толькі адна з семантычных стратэгіяў інтэрпрэтатараў крыніц. Тое, якія

[209] Пилипенко М.Ф. Возникновение Белоруссии... (op. cit.). С.32 і наст., 107 і наст.

[210] Штыхаў Г.В. Перадумовы фарміравання беларускага этнасу ў раннім сярэднявеччы (VI—XII ст.) // Гістарычная навука і гістарычная адукацыя ў Рэспубліцы Беларусь... (op. cit.). С.10—13.

[211] Нарысы гісторыі Беларусі. Т.1. Мінск, 1994. С.40—50; Мядзведзеў Аляксандр. Насельніцтва Беларусі ў жалезным веку (VIII ст. да н.э.—VIII ст. н.э.) // БГА. 1994. Т.1. Сш.1. С.15—37; Дучыц Людміла. Балты і славяне на тэрыторыі Беларусі ў пачатку II тысячагоддзя // БГА. 1995. Т.2. Сш.1. С.15—30; Піліпенка М.Ф. Паходжанне беларусаў // Дапаможнік па гісторыі Беларусі... (op.cit.). С.15—23, у гэтым выпадку с.20—23.

[212] Паводле тэорыі Генрыка Пашкевіча (*Henryk Paszkiewicz*) расійцы, па сутнасці, ёсць чыстымі вугра-фінамі. Параўн.: *Яго ж.* The Origins of Russia. New York, 1954. Пра неправамернасць перабольшвання ролі этнічнага змяшэння ў славянскім этнагенезе папярэджваў львоўскі гісторык Яраслаў Ісаевіч — гл.: Isajewytsch, Jaroslaw. Die mittelalterlichen Wurzeln der ukrainischen Nation // Hausmann G., Kappeler A. (рэд.). Ukraine: Gegenwart und Geschichte eines neuen Staates. Baden-Baden, 1993.

[213] Аўтарамі робяцца ўсё новыя і новыя спробы даць „канчатковае" тлумачэнне — параўн.: Рогалев А.Ф. Белая Русь і белорусы. В поисках истоков. Гомель, 1994.

шляхі і сляпыя завулкі вялі тых, хто займаўся гэтай праблемай, паказаў выступ у друку Алега Трубачова. Ён даў паняццю „Белая Русь", якое бальшынёю гісторыкаў узводзіцца ад факта нераспаўсюджання ў Сярэднявеччы мангола-татарскага ўладарання на тэрыторыі сённяшняй Беларусі, новае этымалагічнае тлумачэнне, спаслаўшыся пры гэтым на старажытную каляровую сімвалізацыю краін свету, паводле якой „белы" заўсёды значыць „заходні"[214]. Як сімбіёз славянскай і балцкай культур і вызначанай як „заходняй" нацыянальнай знакавай сістэмы Беларусь павінна быць павернутая „да Еўропы".

### 3.2.2. Полацк як „першая беларуская дзяржава"

Пасля таго як за падсавецкім часам зрабілася прынятым вызначаць нацыю толькі з улікам моўных, культурных і фальклорных традыцыяў, з канца 80-х г. прыхільнікамі нацыянальнага адраджэння шукаліся тыя перыяды ў гісторыі краіны, у якіх нацыянальная прыналежнасць і ўласная дзяржаўнасць у найбольшай ступені ідэнтыфікуюцца паміж сабою. Полацкае княства было выбудавана даследчыкамі старадаўняе гісторыі як (храналагічна) першы аргумент супраць сцверджанняў, нібыта беларусы да 1991 г. не мелі дзяржаўнай традыцыі. Усходнеславянскі гандлёвы цэнтр і месца рэзідэнцыі князёў Полацк, які ў часе з XI да XIII ст. перажыў свой гаспадарчы і палітычны росквіт, пачынаючы з 1990 г. натхняе беларускіх гісторыкаў на распрацоўку смелых і маштабных тэорыяў.

У развіццё полацкага міфа дасавецкага часу, які быў сфармуляваны ў працах Ластоўскага, для нацыянальна арыентаваных гісторыкаў — гэткіх, як, да прыкладу, М.Чарняўскі — сярэднявечнае княства „было цалкам самастойнай старабеларускай дзяржавай з усімі адпаведнымі атрыбутамі — суверэннай уладай князя і веча, адміністрацыяй, сталіцай, войскам, грашовай сістэмай"[215]. Але першапраходцам у стварэнні старой-новай інтэрпрэтацыі Полацка ў гісторыі зрабіўся яшчэ за тры гады перад тым Мікола Ермаловіч, якому прыхільныя да яго калегі тым часам надалі тытул „патрыярха" беларускага нацыянальнага гісторыяпісання, хоць яго і не выпадае прылічваць да акадэмічнае гістарыяграфіі. У двух апублікаваных у 1990 і 1991 г. працах гэты гісторык-медыявіст агаломшыў вучоны свет тэзаю пра тое, нібыта значныя дзяржаўныя ўтварэнні на тэрыторыі сённяшняй Беларусі складаліся з племянных княжанняў крывічоў і дрыгавічоў — г.зн., старабеларускіх этнічных супольнасцяў. Акрамя таго, для Ермаловіча не выклікаў ніякага сумневу пастулат наконт таго, што напрыканцы перыяду росквіту Полацкага, Турава-Пінскага і Наваградскага княстваў у XIII ст. (1263—1264 г.) не было ніякага заваявання „Беларусі" літоўскімі князямі, а меў месца пераход улады да памацнелых наваградскіх князёў у Літве — тым рэгіёне, дзе ўзаемна перакрыжоўваліся ўладанні полацкіх, турава-пінскіх ды наваградскіх князёў. Калі, апроч таго, падтрымаць гіпотэзу Ермаловіча адносна таго, што су-

[214] Трубачоў Алег. Не ад белай адзежы і светлых вачэй. Погляд на этнагенез беларусаў // БМ. 1993. № 1. С.8.

[215] Чарняўскі Міхась. Якія беларускія дзяржавы былі ў старажытнасці? // 100 пытанняў і адказаў з гісторыі Беларусі. Укладальнікі Іван Саверчанка, Зміцер Санько. Мінск, 1993. С.3—4.

еднія і звязаныя дынастычнымі повязямі княскія дамы, а таксама насельніцтва іх уладанняў „генетычна“ супадалі, тады першы этап утварэння Вялікага Княства Літоўскага мусіў адбыцца дзякуючы беларускай ініцыятыве, якая, маўляў, надала новапаўсталай дзяржаве „беларускі характар“[216].

Усе войны, што вяліся перад тым і пасля таго супраць Кіева і „паўднёварускіх княстваў“, з гэтага гледзішча лёгка маглі падавацца як „змаганне за незалежнасць“ ад „шматковай кіеўскай імперыі Рурыкавічаў“. Але Ермаловіч — як хутка высунулі тэзу яго крытыкі — не ёсць беларускай гістарычнай навукай. Маўляў, з навуковым дыскурсам, што вёўся ў беларускіх ВНУ і АНБ ён — каго А.Кіштымаў назваў „нашым апошнім летапісцам“ і „першым інтуітывістам беларускай гістарыяграфіі“ — не меў нічога агульнага[217].

Важнейшым за спрэчкі навукоўцаў быў, між іншым, той факт, што аўтары амаль усіх навучальных дапаможнікаў, якія выйшлі ў 1990—1993 г., бачылі ў Полацкім княстве ўвасабленне раннебеларускай дзяржаўнасці[218]. Пры гэтым з да- і раннесавецкай гістарыяграфіі былі ўзятыя міфы пра першага полацкага князя Рагвалода і ягоную дачку Рагнеду, пра князя Ўсяслава Брачыслававіча ды яго пасляховае княжанне, а таксама пра Еўфрасінню Полацкую — гэтаксама як пра ўзвышаны ў вечавым ладзе „раннедэмакратычны характар“ Полацкай дзяржавы, які выразна адрозніваўся ад кіеўскага і пазнейшага маскоўскага ладу[219].

У дачыненні да гістарыяграфіі Полацка прыкладна з 1994—1995 г. пачалася дэміфалагізацыя (Versachlichung) і больш выразная дыферэнцыяцыя поглядаў.

[216] Ермаловіч Мікола. Старажытная Беларусь... (op. cit.); *Яго ж.* Па слядах аднаго міфа. Мінск, 1992 (2-е выд.). Падагульненне яго пазіцыі адносна „міфа заваявання Беларусі“ літоўцамі параўн., акрамя таго: *Яго ж.* Ці праўда, што літоўцы заваёўвалі Беларусь? // 100 пытанняў і адказаў з гісторыі Беларусі... (op. cit.). С.10—11.

[217] Найбольш выразны адказ на тэзы Ермаловіча гл. у: Залоска Юрась. „Можа быць, нам удасца прагаварыць традыцыю“. Гутарка з гісторыкам Андрэем Кіштымавым // ЛіМ, 8.07.1994. С.4—5, у гэтым выпадку с.4. Бібліяграфічнае абагульненне даробку Ермаловіча з нагоды яго 75-годдзя прапанавана ў: Новыя кнігі Беларусі. 1996. № 2. С.16—18. Дваістае стаўленне беларускіх гісторыкаў да працаў прэтарыянца беларускай нацыянальнай гістарыяграфіі з Маладзечна засведчыла апытанне, праведзенае ўвосень 1994 г. рэдакцыяй „Нашай Нівы“ сярод 36 гісторыкаў адносна найлепшых кніг па беларускай гісторыі, апублікаваных у Беларусі і за мяжою ў 1945—1994 г. Першыя пяць месцаў размеркаваліся тут наступным чынам: 1. Мікола Ермаловіч. „Старажытная Беларусь“ (1990) — 25 згадванняў; 2. Юры Туронак. Беларусь пад нямецкай акупацыяй (1993) — 17; 3. Мікола Ермаловіч. Па слядах аднаго міфа (1989) — 9; 4. Н.Н.Улащик. Очерки по археографии и источниковедению истории Белоруссии феодального периода (1973) — 8; Н.Н.Улащик. Введение в изучение белорусско-литовского летописания (1985) — 7. Параўн.: Беларуская гістарычная літаратура // НН, 1994. № 10. С.8—9. Ашаламляльны поспех Ермаловіча быў пракаментаваны як відавочнае „дамінаванне інтуітывісцкай гістарыяграфіі ў Беларусі“ — гл.: Тамсама, с.10.

[218] Пра гэта гаворыцца ў: Штыхаў Георгій. Вытокі беларускай дзяржаўнасці // БГЧ. 1993. № 1. С.25—33.

[219] Параўн. тэрміналогію, ужываную ў: Чарняўскі Міхась. Якія беларускія дзяржавы былі ў старажытнасці? (op. cit.); Лойка Л., Лойка Т. Сучасны погляд на гісторыю Беларусі // Крыжовы шлях (op. cit.). С.6 і наст., альбо: История Беларуси. Вопросы и ответы... (op. cit.). С.6.

З гэтага часу Полацк зрабіўся адным з „феадальных княстваў на тэрыторыі Беларусі“ альбо, таксама, „першай паўнавартаснай дзяржавай на беларускіх тэрыторыях“. Акрамя таго, раз-пораз назіралася пэўнае змешванне састарэлай марксісцкай і нацыянальна-гістарычнай тэрміналогіяў — як, да прыкладу, у інтэрпрэтацыі А.П.Ігнаценкі, які называў „час феадальнай раздробленасці“ ў XII і XIII ст. „заканамерным этапам пераходу ад пачатковай дзяржаўнасці Полацкай і Тураўскай зямель да больш высокага ўзроўню кансалідацыі ў Вялікім Княстве Літоўскім“. Рэч тут не ў працягу ўжывання марксісцкай метадалогіі й сістэмы паняццяў. У куды большай ступені бянтэжыць тая прэтэнзія на выключнасць, якая цяпер зноў прызнавалася за нацыянальнай канцэпцыяй[220]. Сінтэзу ўяўлення пра Полацк у новай гістарыяграфіі Беларусі, якая зрэдукавала да мінімуму эйфарычныя элементы пачатку 90-х г. і на першы план высунула цвярозую фактаграфію, прапануюць Т.М.Каробушкіна і Г.В.Штыхаў у напісаным імі раздзеле „Нарысаў гісторыі Беларусі“. Вядома ж, і тут — як вынік таго, што ў падмурак двухтамовай калектыўнай працы ІГ АНБ была пакладзена „нацыянальная канцэпцыя“ — можна было прачытаць пра Полацк як „зыходны пункт беларускай дзяржаўнасці“. Але адначасова аўтары трымаліся формулы „самастойнай дзяржавы на тэрыторыі паўночнай Беларусі“:

> „Такім чынам, вытокі беларускай дзяржаўнасці адносяцца да часу ўтварэння Полацкага і Тураўскага княстваў (IX—X ст.), а пазней у XII—XIII ст. Гарадзенскага, Наваградскага, Смаленскага ды іншых. Дасягнуты ўзровень сацыяльнага і палітычнага развіцця гэтых дзяржаў стаў падмуркам дзяржаваўтваральных працэсаў у беларускіх землях на працягу ўсяго перыяду Сярэднявечча“[221].

Тое, што новае гістарыяграфічнае ўшанаванне Полацка магло абапірацца на паважную рэгіянальна-даследніцкую традыцыю, а таксама на найноўшыя праекты полацкіх навукоўцаў, настаўнікаў гісторыі альбо пісьменнікаў гістарычнае тэматыкі, рабіла справу лягчэйшай. Мініяцюры пра „таямніцы полацкай гісторыі“ да 1917 г., што склалі кнігу Ўладзіміра Арлова з гэткай назвай, адлюстроўваюць аб'яднаную агульнай ідэяй навукова-папулярную гісторыю горада Полацка і яе значных у палітычным і культурным жыцці асоб. Акрамя ўсяго гэтага, кніга прапануе якраз узор беларускай інтэрпрэтацыі гісторыі першай паловы 90-х г. Ілюстраваная, змястоўна і моўна даступна апрацаваная нацыянальная гісторыя, „не падручнік і не навуковае даследаванне“, якая, аднак, магла сказаць „шмат новага, знаёмага дагэтуль толькі вузкаму колу гісторы-

[220] Параўн. раздзел: Ігнаценка А.П. Феадальная раздробленасць у XII—XIII ст. // Дапаможнік па гісторыі Беларусі... (op. cit.). С.32—35, у гэтым выпадку с.35. Папярэднія заўвагі адносяцца перадусім да публікацыяў: Тарасаў С.В. Полацкае княства // Тамсама, с.24—29, а таксама: *Яго ж.* Тураўскае княства // Тамсама, с.29—31. Больш памяркоўна пададзена ў: Голубеў В.Ф., Крук У.П., Лойка П.А. Ці ведаеце Вы гісторыю сваёй краіны? Мінск, 1994. С.10 і наст. Больш прыземленая пазіцыя таксама прэзентаваная ў: Мельнікаў Аляксей. „Жыціе“ і жыццё Еўфрасінні, ігуменні Полацкай // Грыцкевіч А.П. (рэд.). Адраджэнне. Гістарычны альманах. Вып.1. Мінск, 1995. С.9—22.

[221] Каробушкіна Т.М., Штыхаў Г.В. Ранняе сярэднявечча. Пачатак пераходу да класавага грамадства. Узнікненне беларускай дзяржаўнасці (VI— першая палова XIII ст.) // Нарысы гісторыі Беларусі. Т.I (op. cit.). С.51—113, у гэтым выпадку с.59, 92 і наст., цытата на с.104.

каў" — гэтая форма папулярнага гісторыяпісання, здавалася, мусіла адпавядаць запатрабаванням здэзарыентаванага, але ўсё ж такі ахвотнага да чытання і набыцця адукацыі беларускага грамадства[222]. Арлоў належаў да тых, хто вельмі хутка знайшоў неабходную танальнасць у размове з чытачом, але і адначасна спрабаваў захаваць мінімальна неабходную меру навуковай грунтоўнасці; у кожным разе, гэты пісьменнік-гісторык, які ахвотна называе Полацк „радзімай сваёй душы", заўсёды быў актыўна запрошваны для выступаў на розных імпрэзах і канферэнцыях. Галоўная мэта кнігі палягала ў тым, каб выразна паказаць моц уздзеяння Полацка на падзеі беларускай і ўсходнееўрапейскай гісторыі не толькі ў тыя часы, калі ён быў сядзібай князёў. Тут знайшлася магчымасць расповеду таксама пра святую горада Еўфрасінню, пра Скарыну ды Сімяона Полацкага, пра ролю Полацка як цэнтра ордэна езуітаў і месцазнаходжання заснаванага ў 1835 г. кадэцкага корпуса, які ў 1865—1882 г. працаваў як ваенная гімназія.

Акрамя таго, з 1992 г. у Полацку пачаў выходзіць гістарычна-літаратурны гадавік; яго выдаўцы паставілі сабе за мэту паказаць горад і колішняе Полацкае княства значным цэнтрам беларускай і ўсходнееўрапейскай гісторыі. У яго першых двух выпусках была зроблена спроба — і гэта ўпершыню ў найноўшай постсавецкай гістарыяграфіі — публікаваць паралельна навуковыя тэксты з дасавецкага часу і з актуальнага беларускага гісторыяпісання і, тым самым, забяспечыць зразумелую пераемнасць традыцыі. У гістарычнай частцы новага альманаха пачалі друкавацца фрагменты з „Полоцко-Витебской старины", з часоў да 1918 г., і артыкулы яе выдаўца А.П.Сапунова побач з працамі сучасных гісторыкаў Полацка. Апроч таго, выдаўцы гадавіка, плануючы публікацыю, ад самага пачатку імкнуліся вытрымліваць узважаныя суадносіны паміж артыкуламі навукоўцаў ды краязнаўцаў і дакументамі-першакрыніцамі. „Полоцкий летописец" стаў першым рэгіянальна-гістарычным перыядычным выданнем новай беларускай гістарыяграфіі. Тым часам, услед за ім з'явіліся новыя выданні падобнага кшталту[223].

### 3.2.3. Вялікае Княства як „Беларуска-Літоўская дзяржава"

Дзяржаўнае ўтварэнне ў выглядзе Вялікага Княства Літоўскага, якое вырашальным чынам уплывала на палітычную геаграфію ўсходнесярэднееўрапейскага рэгіёну ў XIII—XVI ст., з пачаткам змянення беларускай канцэпцыі гісторыі й у працяг традыцыяў да- і раннесавецкай гістарыяграфіі зноў стала абвяшчацца стрыжнявым пытаннем беларускай гісторыі[224]. Увага гісторыкаў да гэтага пы-

[222] Арлоў Уладзімір. Таямніцы полацкай гісторыі. Мінск, 1994. С.5 і наст. Наклад кнігі памерам больш за 450 старонак склаў, у кожным разе, 15 тысяч паасобнікаў.

[223] Полоцкий летописец. Историко-литературный журнал. Вып.1: 1992; вып.1(2): 1993. Дзіўным чынам, гэты гадавік пачаў выходзіць на расійскай мове. Напэўна, гэтым самым падкрэслівалася пераемнасць з традыцыяй выдання „Витебской старины" і „Полоцко-Витебской старины", на што выдаўцы выразна спасылаліся ў прадмове да першага выпуску новага альманаха.

[224] Крытычны разгляд канцэпцыі Ермаловіча з украінскай перспектывы цяпер прапануецца ў: Шевченко В.К. Білорусько-Літовська держава: нові концептуальні засади сучасної білоруської історіографії // УЇЖ. 1997. № 2. С.55—67.

тання хутка ўзрастала (1990 г. — 47 назваў публікацыяў; 1991 г. — 100; 1992 — 183 і г.д.), прычым яны імкнуліся здабыць доказы таго, што гэтая вялікая дзяржава якраз не была тэрыторыяй пад літоўскім прыгнётам — як патрабавалася ад іх паказваць у савецкіх варунках; маўляў, літоўская доля насельніцтва, гаспадарчага ўкладу і складу войска вагалася толькі ў межах 15—20%[225]. Увесь час наперад выстаўляліся чатыры аргументы, якія меліся сведчыць пра перавагу славянскага, а тым самым, беларускага, кантынгенту ў дзяржаўным уладкаванні: землі вакол Наваградка — першае сталіцы ВКЛ — як яго першапачатковыя карэнныя тэрыторыі; старабеларуская мова як афіцыйная мова дзяржавы; праваслаўнае ў сваёй бальшыні насельніцтва (яно дамінавала ў Вільні яшчэ на пачатку XVI ст.), а таксама ўжыванне законаў і праравых актаў, заснаваных на праравых нормах Русі. Акрамя таго, быў апрацаваны ёмісты пералік сведчанняў высокага ўзроўню развіцця гэтай сярэднявечнай дзяржавы: наданне гарадам магдэбургскага права, зафіксаваная ў Статутах Вялікага Княства Літоўскага 1529, 1566 і 1588 г. „шляхецкая канстытуцыя", у якой, маўляў, ужо ўтрымоўваліся элементы, тыповыя для праўнай дзяржавы; аграрная рэформа 1557 г., паводле якой сяляне надзяляліся зямлёй і якую можна было б назваць „першай буржуазнай рэформай ва Ўсходняй Еўропе". Пры нагодзе ўказвалася на тое, што ў Расіі падобную рэформу, маўляў, толькі ў 1906 г. правёў Сталыпін[226].

З гледзішча постсавецкіх беларускіх нацыянальных гісторыкаў ніводная іншая еўрапейская дзяржава ў XVI ст. не мела гэткай развітой праўнай сістэмы, як „Літоўска-Беларускае княства"[227]. Мінскі гісторык права Язэп Юхо ў 1993 г. нават убачыў у Літоўскім Статуце 1529 г. „першую беларускую канстытуцыю", хоць — як ён зрабіў агаворку — „зыходным момантам у развіцці канстытуцыйнага права ў нашай дзяржаве паслужыў прывілей вялікага князя Казіміра 1447 года". Далей тут сцвярджалася:

> „Наш Статут значна ўплываў на заканатворчасць іншых народаў: яго выкарыстоўвалі пры кадыфікацыі прускага права, ён быў крыніцаю права ў Польшчы і на Украіне, ужываўся ў судах Латвіі і Эстоніі. Многія артыкулы Статута без зменаў перайшлі ў расейскае Саборнае ўлажэнне.
>
> Усё гэта сведчыць пра высокі ўзровень развіцця юрыдычнай думкі і дзяржаўных інстытутаў Беларусі ў яе «залатую пару»"[228].

Гісторыя Вялікага Княства Літоўскага была літаральна зманапалізаваная беларускай гістарыяграфіяй пачатку 90-х г., пры гэтым тэматычная блізкасць з гісто-

[225] Гэтыя лічбы называліся Адамам Мальдзісам пад час прывітальнай прамовы ў красавіку 1992 г. — гл.: Беларусь у Вялікім княстве Літоўскім... (op. cit.). С.6. Павел Лойка, ацэньваючы тэрытарыяльную долю ўсходніх славян у ВКЛ, называе лічбу 9/10, а долю ўсходнеславянскага насельніцтва вызначае як 8/10. Параўн.: *Яго ж.* Место Великого княжества Литовского, Русского, Жемойтского в системе восточно-европейских государств XIII—XVI вв. (неапубл. рукапіс).

[226] Гэтыя характарыстыкі можна знайсці ў: Лойка Л., Лойка Т. Сучасны погляд на гісторыю Беларусі // Крыжовы шлях (op. cit.). С.14 і наст.

[227] Гэтак выказваецца Міхась Ткачоў — гл.: Беларусь у Вялікім княстве Літоўскім... (op. cit.). С.28.

[228] Юхо Язэп. Калі была створана першая беларуская канстытуцыя? // 100 пытанняў і адказаў з гісторыі Беларусі (op. cit.). С.25—26.

рыяй культуры падштурхоўвала рабіць свае каментары таксама навукоўцаў — неспецыялістаў у галіне гісторыі. Іван Саверчанка, старшы навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры АНБ, мастацкай прозаю напісаў пра Вялікае Княства як „сярэднявечную Беларускую дзяржаву, што паўстала ў XIII—XIV стагоддзях на эканамічным і культурным грунце старадаўніх княстваў“, сцвярджаючы, што „азначэнне гэтай дзяржавы як беларускай мае пад сабою дастатковыя падставы“. Падтрымліваючы тэзу Ермаловіча пра беларускую ініцыятыву ў стварэнні ВКЛ, Саверчанка выходзіў з таго, што заснаванне Вялікага Княства, маўляў, „дыктавалася інтарэсамі беларускіх феадалаў“. Акрамя таго, выказваліся ўжо вядомыя аргументы пра львіную долю ўдзелу беларусаў у станаўленні дзяржавы ды й саміх беларускіх земляў у фармаванні яе тэрыторыі. Амаль што з любоўю пра Вялікае Княства Літоўскае як „нашу дзяржаву“[229] пісаў не толькі гэты аўтар. Хоць у навукова-папулярным зборніку „100 пытанняў і адказаў з гісторыі Беларусі“ побач з гісторыкамі-аматарамі былі рэпрэзентаваныя таксама знакамітыя гісторыкі-навукоўцы, а таксама маладыя даследчыкі, выказванні кшталту вышэйпрыведзенага і тых, што будуць пададзеныя ніжэй, маглі быць беспрашкодна апублікаваныя. Дух часу патрабаваў простых і выразных тлумачэнняў гісторыі — гэткіх як у Вітаўта Чаропкі, які пісаў пра Вялікае Княства наступнае: „Менавіта пры вялікім князі Вітаўце (1350—1430) Беларускае гаспадарства стала найбуйнейшай еўрапейскай дзяржавай“[230].

Іншыя аўтары абмяркоўвалі пытанне, што сярэднявечная дзяржава, якая ўзнікла на тэрыторыі Літвы, Беларусі й Украіны, у новым гісторыяпісанні атрымала зусім розныя назвы, у той час як сучасныя крыніцы ў асноўным ужываюць тэрмін „Вялікае Княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае“ (рас. „Великое княжество Литовское, Русское и Жемойтское“). Геаграфічны дадатак „Жамойцкае“, маўляў, з'явіўся толькі ў 1410/11 г. пасля пераможнай для войскаў пад сцягам „Пагоні“ Грунвальдскай бітвы супраць Тэўтонскага ордэна, калі заходняя частка сённяшняе Літвы (Жмудзь, Жамойць, лац. Samogitia) пасля 12-гадовага перапынку зноў увайшла ў Вялікае Княства. У кнізе „История Беларуси. Вопросы и ответы“ (1993) аўтары зусім адмовіліся ад фармулёўкі „Беларуская дзяржава“[231]. Паўсюдна прысутнае ў пісьмовых крыніцах XV—XVI ст. паняцце „рускі“, між тым, стала прынятым перадаваць як „беларускі“, з чаго, відавочна, былі ўтвораныя часта ўжываныя кампрамісныя фармулёўкі „Вялікае Княства Літоўскае“ і „Руская (Беларуска-Літоўская) дзяржава“[232]. У эміграцкай літаратуры, якую няма магчымасці тут аналізаваць падрабязна, разгляд праблемы Вялікага Княства прымушаў да ўжывання альтэрнатыўных фармулёвак. Гэ-

[229] Саверчанка Іван. Што такое Вялікае Княства Літоўскае? // Тамсама, с.26—27, у гэтым выпадку с.26.

[230] Чаропка Вітаўт. Дзе падзелася каралеўская карона Вітаўта Вялікага? // Тамсама, с.16.

[231] Параўн.: История Беларуси: Вопросы и ответы (op. cit.). С.9.

[232] Гэтак чытаем у: Грыцкевіч Анатоль. Барацьба Вялікага княства Літоўскага і Рускага (Беларуска-Літоўскай дзяржавы) з Тэўтонскім ордэнам у канцы XIV— першай палове XV ст. // Адраджэнне. Гістарычны альманах (op. cit.). С.36—61; Лойка Алег. Дзеля чаго існуе адраджэнне? // Тамсама, с.82—93, у гэтым выпадку с.83.

так, Ян Станкевіч яшчэ ў 70-я г. спрабаваў увесці як аб'ект дэбатаў паняцце „Вялікалітва—Беларусь". У найноўшых працах, што былі напісаныя ў Амерыцы, Англіі альбо іншых асяродках дыяспары, тым не менш, замацавалася паняцце „Grand Duchy of Lithuania, Rus', and Samogitia"[233].

Акрамя пытання найменя пунктам дыскусіяў сярод беларускіх гісторыкаў стала праблема ўзнікнення і нацыянальнага складу Вялікага Княства. Спектр думак быў вельмі шырокі. Тут будуць прыведзеныя толькі супрацьлеглыя версіі.

*Па-першае.* Тэза Ермаловіча адносна вырашальнай канструктыўнай ролі беларускіх князёў пры збіранні земляў вакол Наваградскага княства ў сярэдзіне XIII ст. падзялялася, як гэта ўжо было паказана вышэй, таксама іншымі аўтарамі, што пісалі на гістарычную тэму — гэткімі, як Іван Саверчанка, які, не спасылаючыся наўпрост на Ермаловіча, у сваю чаргу гаварыў пра „наваградскі перыяд" у гісторыі „нашай старажытнай дзяржавы". У сваёй апублікаванай у 1994 г. працы пра наступны, „віленскі перыяд" Ермаловіч сцвярджаў, што перанясенне сталіцы з Наваградка ў Вільню — „якая была спрадвечным беларускім горадам" — „не толькі не магло паўплываць на беларускі характар Княства, але яшчэ больш падкрэслівала яго"[234].

Дзеля пошуку доказаў беларускага характару Вялікага Княства быў задзейнічаны таксама комплекс сімвалаў. Маўляў, герб „Пагоня", да прыкладу, быў вядомы як старабеларускі вайсковы сімвал з канца XIII ст. і ў тэкстах крыніц згадваўся ўпершыню пад 1270 г. як княскі герб наваградскіх уладароў. Тым самым ён адназначна меўся несці з сабою беларускія традыцыі. Другім канфліктным полем, якое трапляе ў сённяшні літоўска-беларускі, дый таксама ва ўласнабеларускі гістарычны дыскурс, была гісторыя другой сталіцы Вялікага Княства — Вільні. Тое, што старадаўняя Вільня цягам найдаўжэйшага перыяду сваёй гісторыі была „беларускай", не выклікае ніякіх сумневаў сярод беларускіх інтэлектуалаў-віленчукоў — а таксама некаторых патрыётаў беларускай „карэннай зямлі" — не толькі пачынаючы з 1991 г. Францішак Скарына, які ў 1522—1525 г. надрукаваў тут першыя кнігі на старабеларускай мове, мае быць толькі самай вядомай сярод шэрагу асоб, што робяць Вільню да XX ст. трывалай часткай беларускай гісторыі. Помнікі самага рознага кшталту меліся нагадваць пра тое, што Беларусь цягам стагоддзяў „належала да дзяржаўнага ўтварэння, сталіцай якога была Вільня", дзе яна адыгрывала вырашальную ролю і магла развіваць „сваю культуру, пісьмовасць і родную мову"[235].

З факта супольнае гісторыі Беларусі і Літвы, што круцілася вакол Вільні, беларуская меншыня ў сённяшняй Літве адначасова чэрпае аргументы дзеля фармулявання сваіх адукацыйна- і культурна-палітычных патрабаванняў[236]. Ад па-

[233] Параўн.: Станкевіч Я. Нарысы з гісторыі Вялікалітвы — Беларусі. New Jersey, 1978. Zaprudnik, Jan. Belarus... (op. cit.). С.20 і наст.

[234] Саверчанка Іван. Вялікае Княства Літоўскае: утварзине дзяржавы // Спадчына. 1993. № 2. С.11—17, у гэтым выпадку с.11. Ермаловіч Мікола. Старажытная Беларусь. Віленскі перыяд. Мінск, 1994. С.5, 84.

[235] Луцкевіч Лявон. Беларуская Вільня // Беларусь. 1993. № 4. С.25.

[236] Вільня павінна стаць адкрытай для Беларусі. Ліст Таварыства беларускай культуры ў Літве да грамадскасці краіны // НГ, 15.07.1993. С.2.

чатку 90-х г. беларускія гісторыкі не раз паўтаралі тэзы пра тэрытарыяльныя і семантычныя адрозненні паміж той Літвою, з якой нарадзілася Вялікае Княства, і сённяшняй Літвою — „Летувою". Тэрміналагічнае размежаванне мелася пацвердзіць высновы пра тое, што гістарычнае паняцце адносілася да непараўнальна большай тэрыторыі, чымся тая, якую займае сёння Літоўская дзяржава. У звязку з узрастаннем колькасці палітычна-матываваных спрэчак унутры цэха беларускіх гісторыкаў, дыскусіі паміж беларускімі і літоўскімі інтэлектуаламі, што з запалам вяліся ад часу абвяшчэння незалежнасці краін, цяпер працягваюцца на пабочных тэатрах дзеянняў. Яны засяроджваюцца на чатырох гістарычных праблемных вузлах: 1) Дзе геаграфічна пачыналася летапісная Літва, хто яе заснаваў і як называлася яе сталіца? 2) Якое паходжанне мела палітычная эліта дзяржавы — хутчэй літоўскае ці беларускае? 3) Як увогуле трэба называць гэтую дзяржаву? 4) Каму належыць Вільня?[237].

Гісторыя Вялікага Княства, выкладзеная з нацыянальна-гістарычных пазіцыяў, заўсёды выкарыстоўвалася для інтэрпрэтацыі гісторыі, скіраванай супраць Масквы. Побач са згадваннем пра ўзровень развіцця мастацкай і праўнай культуры, увага неаднаразова прыцягвалася да найважнейшых ваенных падзеяў, кшталту бітвы пад Оршай, што мела месца 8 верасня 1514 г. і ў якой ліцвінска-беларускія войскі здолелі разбіць маскоўскае войска. Да святкавання гэтай даты ў 1994 г. былі прымеркаваныя шматлікія публікацыі ў гістарычных часопісах, вытрыманыя ў духу нацыянальна-гістарычнай інтэрпрэтацыі. У гэтым звязку гаворка йшла, паміж іншага, пра „патрыятызм беларускіх ваяроў", якія „абаранілі краіну ад нашэсця маскоўскага войска". Акрамя таго, гэтая бітва мелася стаць „славутай старонкай беларускай ваеннай гісторыі" і ўвайсці ў „агульны шэраг гераічных перамог беларуска-літоўскага войска на працягу некалькіх стагоддзяў пад час існавання самастойнай, незалежнай і моцнай дзяржавы беларускага народа — Вялікага Княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага (Беларуска-Літоўскай дзяржавы)"[238]. Стратэгічна важная роля, якую адыгралі ў гэтай бітве польскія войскі, натуральна, засталася тут гэтаксама не ўзгаданая, як і захоп Полацка Іванам Жахлівым, што меў месца ў 1563 г., праз няпоўныя 50 гадоў, ды заключаная праз шэсць гадоў пасля таго Люблінская унія.

*Па-другое.* Адыход беларускай гістарыяграфіі посткамуністычнага пакліканя ад кананізаванай у У.Ц.Пашуты („Образование Литовского государства". Москва, 1959) савецкай інтэрпрэтацыі гісторыі заснавання Вялікага Княства Літоўскага, вядома ж, давала магчымасці іншага тлумачэння праблемы, чым у „псеўданавуковых фантазіях" пэўнага Ермаловіча (Думін). Сцвярджэнню больш памяркоўнага погляду на беларускую гісторыю істотным чынам паспрыялі публічныя дыскусіі беларускіх гісторыкаў з польскімі, літоўскімі, а таксама заходнееўрапейскімі калегамі, якія не належаць да дыяспары[239]. На думку мінскага

[237] Беларуска-літоўскі канфлікт. Гутарка гісторыкаў літаратуры: Дарыюс Куоліс (АН Літвы) і Сяргей Шупа („Наша Ніва") — гл.: НН, 22.03.1996. С.20—21.

[238] Грыцкевіч Анатоль. Бітва пад Оршай 8 верасня 1514 г. // Спадчына. 1992. № 6. С.4—11.

[239] Наше исследование: Великое княжество Литовское // Родина. 1993. № 3. С.81—94. У дыскусіі бралі ўдзел гісторыкі з Расіі, Беларусі, Літвы і Польшчы. Дадаткова ў ма-

акадэмічнага гісторыка М.Спірыдонава, заснаванне Вялікага Княства павінна разглядацца як працэс, які істотным чынам падштурхоўваўся літоўскай арыстакратыяй і быў вынікам узаемадзеяння ваенных і дыпламатычных захадаў. З гледзішча „характару" дзяржавы — гэтак зазначаў гістарыёграф і крыніцазнаўца Г.Я.Галенчанка з ІГ АНБ — у першую чаргу пад увагу мусяць брацца не вынікі даследаванняў ментальнасці, культуры, тэрыторыі альбо этнаграфіі, а адказ на пытанне пра „палітычныя механізмы і сілы, якія іх кантралююць":

> „У звязку з гэтым павінны даследавацца роля і функцыя ўсіх дзяржаўных інстытуцыяў, пачынаючы ад найвышэйшае ўлады, заканадаўства, землеўладання (як матэрыяльнага выразу палітычнае ўлады), а таксама эвалюцыі суадносін палітычных сілаў паміж беларуска-ўкраінскімі («рускімі») і літоўскімі феадаламі у розных перыядах гісторыі Вялікага Княства — г.зн., у першую чаргу павінна ажыццяўляцца вывучэнне палітычнага механізму і толькі пасля мае сэнс гаварыць пра тэрыторыю ды мову"[240].

Калі мець яшчэ на ўвазе тое, што Спірыдонаў рашуча выступіў супраць палітызаванае канцэпцыі „беларуска-літоўскай дзяржавы" як „гістарычнага сляпога завулка" і назваў яе „штучнай і ненавуковай кампраміснай формулай зноў абуджаных эпігонаў старой беларускай гістарыяграфіі", дык хутка стане зразумелым, што тут можна весці гаворку пра іншы полюс беларускай нацыянальнай гістарыяграфіі. Спірыдонаў у 1993 г. выказаў сваю перакананасць у тым, што „насуперак шырока распаўсюджаным думкам [вышэйзгаданых эпігонаў — **Р.Л.**] магнаты Вялікага Княства Літоўскага ў сваёй большыні, паводле этнічнага паходжання, былі літоўцамі, а паводле веравызнання, адпаведна, католікамі"[241]. З гэтым сваім выказваннем супрацоўнік ІГ АНБ зноў далучыўся да традыцыі Л. Абэцэдарскага і да тэзаў кнігі апошняга „У святле неабвержных фактаў". У савецкага гісторыка Абэцэдарскага таксама гаварылася пра тое, што да 1569 г. дзяржаўная ўлада ў Вялікім Княстве знаходзілася ў руках літоўскіх магнатаў"[242].

У дыяпазоне вышэйапісанага спектра нацыянальнае гістарыяграфіі тым часам пазначылася сярэдняя пазіцыя. Павел Лойка, спецыяліст у галіне сацыяльнай гісторыі XV і XVI ст., выказваўся наконт „добраахвотна-дагаворнай асновы" ўваходжання беларускіх земляў у склад Вялікага Княства. Аўтаномія Полацка і Віцебска, маўляў, асабліва выразна выяўлялася ў іх праве на самастойны

тэрыялы пра ходу дыскусіі былі ўключаныя паведамленні ўдзельнікаў мінскага круглага стала 1992 г. („Беларусь у Вялікім княстве Літоўскім"). Галенчанка, акрамя таго (гл. с.83), нагадаў, што падрыхтаваная за 15—20 гадоў перад тым у ІГ АН БССР калектыўная манаграфія „Беларусь у складзе Вялікага княства Літоўскага" не змагла ўбачыць свет.

[240] Гл. артыкул Г.Галенчанкі ў: Наше исследование... (op. cit.). С.85.

[241] Папярэднія цытаты Спірыдонава гл.: Тамсама, с.86.

[242] У 1995 г. у „Беларускай мінуўшчыне" быў, аднак, передрукаваны ва ўрыўках дадзены свайго часу адказ Паўлы Урбана, беларускага эміграцыйнага гісторыка, на згаданую брашуру Абэцэдарскага, дзе было заўважнае імкненне аўтара давесці, што беларускія (альбо, прынамсі, праваслаўныя) шляхецкія роды мелі немалую долю ў агульнай колькасці знакамітых, заможных і ўплывовых сем'яў. Параўн.: Урбан Паўла. Хто панаваў у Вялікім княстве? // БМ. 1995. № 5. С.16—21.

выбар сваіх ваяводаў. Хоць тут таксама, як і ў іншых надрукаваных у той час навучальных дапаможніках, узнікае „прагматычны“ тэрмін пра „Літоўска-Беларускую дзяржаву“, з гэтага не рабілася выснова пра этнічнае дамінаванне беларускага элемента ў шматнацыянальнай дзяржаве. Найменне — гэтак у 1996 г. імкнуўся зґладзіць вастрыню сітуацыі дырэктар ІГ АНБ Касцюк у адказ на закіды ў „палітызацыі гісторыі“ — маўляў, мае на мэце перадусім адлюстраваць палітычна-праўны характар Вялікага Княства[243]. А паміж вышэйзгаданай дэфініцыяй Беларусі як „найбуйнейшай дзяржавы“ тагачаснае Еўропы і ацэнкай, што падаецца ніжэй, існуе якаснае адрозненне:

> „Вялікае Княства Літоўскае, Рускае, Жамойцкае XVI ст. увайшло ў сусветную гісторыю як адна з першых еўрапейскіх дзяржаў, што стварыла унікальны ўзор палітычнага і грамадскага ладу, прававой дэмакратыі, мірнага суіснавання і супрацоўніцтва розных народаў і царкоўна-рэлігійных сістэм“[244].

Адначасова крытычную ўвагу калегаў прыцягнула да сябе параўнальна выкладзеная без залішніх эмоцыяў гісторыя Полацкага княства і Вялікага Княства Літоўскага. У дзяржаўным „Беларускім гістарычным часопісе“, які, пачынаючы з 1995 г., усё больш трымаўся настрою Міністэрства адукацыі й навукі, аўтарам рабіўся закід у палітызаваным падыходзе, праз які, маўляў, занадта моцна падкрэсліваюцца ўласна-дзяржаўніцкія аспекты гісторыі Полацка і ў якасці зыходнага пункту бярэцца дамінаванне беларускага элемента ў поліэтнічным Вялікім Княстве Літоўскім. Акрамя таго, выключная ўвага да беларускага этнасу ў гэтым кантэксце мелася звужваць погляд на агульную гісторыю дзяржавы. Ад гэтых закідаў ні ў якім разе немагчыма проста адмахнуцца, толькі ўзнікае падазрэнне, што выказаныя пярэчанні фармуляваліся перадусім пад знакам усеагульнай крытыкі любога адстойвання нацыянальна-гістарычных пазіцыяў[245].

### 3.2.4. Нацыянальная самасвядомасць і „беларуская місія“

Ад пачатку 90-х г. у Беларусі ў цэнтры дэбатаў гісторыкаў знаходзілася не толькі асэнсаванне ўласных дзяржаўных ды культурных традыцыяў. Акрамя таго, ставілася пытанне, у чым выяўляе сябе асаблівасць беларускае нацыі і як трэба гіста-

[243] Касцюк Міхась. Палітызаваная гісторыя не можа быць сапраўднай навукай (ор. cit.). С.3.

[244] Лойка Павел. Унутры- і знешнепалітычнае становішча Вялікага Княства Літоўскага ў XIV— першай палове XVI ст. // Дапаможнік па гісторыі Беларусі... (ор. cit.). С.54—58, у гэтым выпадку с.58. Пра заснаванне Вялікага Княства Літоўскага параўн.: *Яго ж.* Палітычныя адносіны ў Вялікім Княстве Літоўскім // Нарысы гісторыі Беларусі. Т.1 (ор. cit.). С.114—139, у гэтым выпадку с.115. Акрамя таго, гл.: Голубеў В.Ф., Крук У.П., Лойка П.А. Ці ведаеце Вы гісторыю сваёй краіны? (ор. cit.). С.22 і наст. Больш-менш памяркоўная тэрміналогія ўжываецца ў гродзенскім дапаможніку для падрыхтоўчых курсаў: Коўкель І.І., Крэнь І.П., Палуцкая С.В., Сяльверстава С.Я., Фёдараў І.А. Гісторыя Беларусі ў 3-х частках. Навучальны дапаможнік для слухачоў факультэта давузаўскай падрыхтоўкі і падрыхтоўчага аддзялення. Гродна, 1994. С.48 і наст.

[245] Люты А.М., Фамін В.М. „Нарысы гісторыі Беларусі“. У 2-х ч. Ч.1. Мінск, 1994. Ч.2. Мінск, 1995 // БГЧ. 1995. № 5 (рэцэнзія). С.186—192, у гэтым выпадку с.187.

рычна вызначаць „беларускасць". Яшчэ напрыканцы 1992 г. з'явіўся падставовы артыкул мінскага філосафа Ўладзіміра Конана, які прапанаваў у абагульняльным выглядзе кірунак дыскусіяў для часоў нацыянальнай эйфарыі. Хоць толькі частка гісторыкаў успрыняла яго выказванні ў якасці пацверджання ўласнага гледзішча, Конан звярнуў увагу на тое, што беларусы цяпер пакліканыя дзеля пошуку не толькі свайго месца ў гісторыі, але і — праз рэтраспектыву — адначасна сваёй ролі ў еўрапейскім кантэксце[246]. Урэшце, працяглае ўваходжанне ў розныя дзяржаўныя ўтварэнні сярэднявечнай і найноўшай гісторыі здолела, маўляў, толькі ў малой ступені сфармаваць нацыянальныя і ўласна-дзяржаўніцкія традыцыі беларускага народа.

На гэтым тле незалежнасць у вачах нацыянальнай інтэлігенцыі павінна была выглядаць шанцам для гістарычнага новага пачатку. Невыпадкова і тагачасная палітычная верхавіна новай Беларусі на чале з кіраўніком парламента Шушкевічам абвясціла пра сваю прыхільнасць да вонкавага нейтралітэту. У Конана ды іншых гістарычнае „ваганне" паміж Усходам і Захадам падавалася як дабратворная нейтральнасць і свядомая нявызначанасць, з якой беларусы дацягнулі да сённяшняга дня, не далучыўшыся канчаткова ні да аднаго з бакоў. Адзін з заснавальнікаў мінскага Скарынаўскага цэнтра ў звязку з гэтым ставіў пытанне:

> „У чым жа гістарычная місія Беларусі і беларускага народа? Які змест яго нацыянальнай ідэі? Аргументаваны адказ на гэта пытанне дасць, зразумела, толькі грунтоўнае даследаванне філасофіі — нашай гісторыі і беларускага культурна-гістарычнага тыпу".

І далей тамсама ён сцвярджаў:

> „Аднак ужо сёння з улікам гістарычнага вопыту беларусаў можна сказаць: гістарычнае прызначэнне Беларусі — гэта будаванне духоўна-культурнага і геапалітычнага «моста» паміж Усходам і Захадам, расійскай Еўра-Азіяй з аднаго боку, Заходняй і Цэнтральнай Еўропай, з другога. [...] Самабытнасць беларускага народа ў тым, што ён не прыстаў ні да аднаго з гэтых полюсаў, адмаўляе іх крайнасці, не прыняў іх месіянства, імкнуўся сінтэзаваць пазітыўныя дасягненні «ўсходняй» і «заходняй» культуры"[247].

Спасылаючыся на чатыры гістарычныя спробы ўзаемнага збліжэння Захаду і Ўсходу, што мелі месца ў XVI—XVII ст., Конан намагаўся пераканаць чытачоў у гістарычнай „беларускай пасярэдніцкай ролі": гаворка йдзе пра рэфарматарскую місію Скарыны ў Маскве пасля 1525 г., ідэю Берасцейскай уніі 1596 як аб'яднання каталіцкай і праваслаўнай цэркваў, праекты канцлера ВКЛ Льва Сапегі, скіраваныя на яднанне польска-літоўскай і маскоўскай дынастыяў, а таксама місіянерскі пераезд у Маскву беларускага паэта й асветніка Сімяона Полацкага. До-

[246] Конан Уладзімір. Беларуская ідэя і місія Беларусі // БД. 1992. №11—12. С.10—14. У іншым месцы гаворка нават ідзе пра „беларускі парадак", які мае запанаваць, перш чым можна будзе спадзявацца на нейкія змены. Зрэшты, кожны этнас, маўляў, мае свой уласны парадак. Параўн. па гэтым пытанні: Паўлоўскі Сяргей. Беларускі парадак // НН. 1993. № 12. С.3.

[247] Конан Уладзімір. Беларуская ідэя і місія Беларусі (op. cit.). С.12.

казаў сапраўднай бесперапыннасці кантактаў з замежжам Конану — як і да яго яшчэ ў 1921 г. Ігнату Абдзіраловічу ў віленскім эсэ апошняга — натуральным чынам бракавала. Тым не менш, гэтая, ні ў якім разе не новая канцэпцыя, згодна з якой Беларусь абвяшчалася духоўна-культурным мастом паміж Усходам і Захадам, знайшла мноства прыхільнікаў. У аднаго з іх, Уладзіміра Арлова, Беларусь увогуле ўзнялася да становішча „фарпосту эпохі Асветніцтва", якая гэтаксама мала закранула Расію, як Рэфармацыя ды Контррэфармацыя. Маўляў, Беларусь, наадварот, увесь час знаходзілася ў рэчышчы еўрапейскай гісторыі ды яе культурных каштоўнасцяў"[248].

Развіваючы думкі Абдзіраловіча, Арлоў і Конан адкідаюць якраз любую форму „месіянства", уласцівага, маўляў, суседнім заходняму і ўсходняму народам. Разам з тым, прызнаецца пэўная „беларуская місія", „нацыянальная ідэя", праз якую Беларусь з прычыны свайго „унікальнага менталітэту", маўляў, робіцца здольнай выконваць палітычную і культурніцкую пасярэдніцкія ролі. Каб напраўду магчы адпавядаць гэтай ролі, ёй патрэбнае — гэтак лічаць названыя аўтары — развіццё нацыянальнай свядомасці беларусаў. Адкіданне „імперскіх месіянстваў" на карысць уласнае „місіі" не толькі выявіла поўнае недаацэньванне новай філасофіяй культуры і гісторыяпісаннем канкрэтных гістарычных варункаў, але і адначасна заблакавала прыняццё надзейных крытэрыяў аналізу ў гістарычных даследаваннях. У той час як Конан атаясамляе „місію" беларушчыны з „нацыянальнай ідэяй" народа, іншыя аўтары — гэткія, як Генадзь Кісялёў — адносяць паняцце „нацыянальнай ідэі" да ідэальнага стану беларускае нацыі:

> „...Гэта ідэя суверэннасці беларускага народа, самакаштоўнасці яго унікальнага менталітэту і культуры. Ідэя права і абавязку беларусаў — імкнуцца да такіх сацыяльных і дзяржаўных формаў, якія найлепшым чынам маглі б забяспечыць захаванне і далейшае развіццё нацыі, яе ўклад у скарбніцу ўсяго чалавецтва"[249].

Гістарычна-тэрміналагічная дынамізацыя цягам стагоддзяў палітычна змаргіналізаванай усходнееўрапейскай правінцыі, якая праз гістарычнае пераасэнсаванне робіцца місіянерскім актыўным суб'ектам, непазбежная тады, калі выяўляецца памкненне пераадолець адставанне ў працэсе нацыятворчасці. У той самы час яна скіравала погляд постсавецкай беларускай гістарыяграфіі на тое, што гэтая памежная і пераходная прастора не можа быць гістарычна асэнсаваная, калі не браць пад увагу этнічна-рэлігійнай перамяшанасці яе жыхарства, пастаяннага імперскага чужога ўздзеяння на самавызначэнне яе грамадства і яе гістарычна-сацыялагічных асаблівасцяў як пазбаўленай элітаў нацыянальнай супольнасці падданых вялікай імперыі.

Калі беларускай гісторыі была вызначаная ўласная „місія", нікога не павінна здзіўляць тое, што ў працах філосафаў і пісьменнікаў можна пастаянна натыкацца на цесную знітаванасць нацыя- і міфатворчасці. Міфы і міфалагізацыя,

[248] Арлоў Уладзімір. У палоне гістарычных міфаў // Голас Радзімы, 15.06.1995. С.3, 5, у гэтым выпадку с.5.
[249] Кісялёў Генадзь. Каліноўскі і беларуская нацыянальная ідэя // Голас Радзімы, 11.01.1996. С.1, 6, у гэтым выпадку с.1.

гэткім чынам, утвараюць найбольш улюбёную сферу нацыянальна-гістарычнай сістэмы аргументацыі. Калі на пачатку 90-х г. Конан выразна выказваўся за рэабілітацыю пазітыўных элементаў паняцця „міф", маючы пры гэтым на ўвазе „паданні і легенды", Валянцін Грыцкевіч у сярэдзіне таго самага дзесяцігоддзя гаварыў пра небяспеку існавання парэшткавых міфаў падсавецкае эпохі, якія ўсё яшчэ, нібы здані, апаноўваюць свядомасць шмат каго з беларусаў[250]. Стварэнне міфаў дамінавальнай у свой час імперскай ідэалогіяй, якое папярэднічала ўзнікненню актыўнага вялікарасійскага месіянізму, ані ў 1992, ані ў 1996 г. не было проціпастаўленае магчымай нацыянальнай міфатворчасці. Перспектыва, хутчэй, была абмежаваная пастаноўкаю пытання: „якім чынам месіянісцкі міф пра здамінаваную вялікарасійцамі імперыю альбо міфы пра «братні народ» ды «інтэрнацыяналізм» увогуле здолелі трапіць на Беларусь. У гэтай інтэрпрэтацыі сапраўднымі міфатворцамі былі не дылетанты, расійскія імператары ды іх ідэолагі Уваравы ды Пабеданосцавы, якія яшчэ „называлі рэчы сваімі імёнамі", а — куды ў большай ступені бальшавікі ды іх ідэолагі, якія „маскавалі сваю імперыялістычную сутнасць інтэрнацыяналісцкай фразеалогіяй"[251]. У сваім перадусім тэарэтычным экскурсе на тэму міфаў, легендаў і стэрэатыпаў беларускі гісторык і выкладчык з Санкт-Пецярбурга Валянцін Грыцкевіч звярнуў увагу не толькі на тое, што міфы належаць да традыцыйных культурных каштоўнасцяў усіх нацыяў. Адначасова ён выступіў супраць міфалагізацыяў гістарычнай свядомасці, зазначаючы, што ўзнікненню міфаў „спрыяюць адзінкі і грамадскія групы, слаба інфармаваныя і з недастатковым грамадскім досведам" і што „гэта звязана з псіхічнымі працэсамі забывання, фантазіі, дэфармацыі памяці". З гледзішча Валянціна Грыцкевіча гэта датычыць, у дачыненні да Беларусі, выключна міфалагізацыяў царскай альбо савецкай ідэалогіі. Гэткім чынам, гістарычнае мысленне, маўляў, неабходна вызваліць ад савецкіх і „русіфікацыйных" гістарычных міфаў мінулага, да якіх ён прылічвае, побач з міфам пра „сілу партыі", таксама легенды Другой сусветнай вайны і „чорныя" стэрэатыпы ўспрымання немцаў. Апошнія не мусілі б азмрочваць гістарычны вобраз, бо, маўляў, немцы жылі ў Беларусі цягам стагоддзяў, „нямецкая мова дала пачатак пэўным словам беларускай мовы" і да т.п.[252].

Патрэба ў арыенцірах і хранічная метадалагічная слабасць[253] прафесійных гісторыкаў, а таксама абуджаная туга па нацыянальных міфах з канца 80-х г.

[250] Конан Уладзімір. Архетыпы беларускага менталітэту: Спроба рэканструкцыі паводле нацыянальнай міфалогіі і казачнага эпасу // Б/А. 1993. Вып.2. С.18—28, у гэтым выпадку с.19; Грыцкевіч Валянцін. Міфы і гісторыя // Спадчына. 1996. №2. С.56—88; упершыню надрукавана ў: ЛіМ, 6.01.1995. С.14—15 і 13.01.1995. С.14—15. Для Украіны ў гістарычнай перспектыве гл.: Armstrong, John A. Myth and History in the Evolution of Ukrainian Consciousness // Potichnyj, Peter J. etc. Ukraine and Russia in their Historical Encounter. Edmonton, 1992. С.125—139.

[251] Грыцкевіч Валянцін. Як месіяніцкі міф насаджаўся ў Беларусі // Спадчына. 1996. № 3. С.124—136, у гэтым выпадку с.132.

[252] *Яго ж.* Міфы і гісторыя (op. cit.). С.82 і наст.

[253] Несумненна, што 60-я і 70-я г. паспрыялі прафесіяналізацыі акадэмічнае гістарыяграфіі. Аднак пераважная частка гісторыкаў заставалася пад уплывам метадалогіі марксісцкай сацыяльнай гістарыяграфіі. Першы за постсавецкім часам заду-

спрыялі ўзнікненню ў грамадскасці асаблівай цікавасці да тэкстаў пісьменнікаў гістарычнае тэмы — гэткіх, як Уладзімір Арлоў альбо Кастусь Тарасаў. Іх высокая агульная эрудыцыя ў гістарычных пытаннях не магла скампенсаваць пагрозы таго, што рэальная „нацыянальная гісторыя" магла знікнуць за паданнямі і легендамі пра герояў ды рэквізітамі прыгожага пісьменства. Як гэта мела месца ў расійскай і ўкраінскай гістарыяграфіі й гістарычнай публіцыстыцы, частка беларускага вобраза гісторыі нават пераўвасобілася ў „Памяць пра легенды" (назва кнігі К.Тарасава). Лейтматывам яе набліжэння да беларускай нацыянальнай гісторыі ёсць „любоў да Радзімы". Назіральніку мрояцца паралелі з патрыётамі „Нашай Нівы". Тут зусім не месца каментаваць апраўданне эмацыйнай гістарыяграфіі ў постсавецкай эпосе. Аднак нельга не заўважыць, што перадусім у дачыненні да тэматыкі „нацыі" і „нацыянальнай ідэнтычнасці" ў грамадскім успрыманні няма лініі падзелу паміж папулярызатарскай і акадэмічнай гістарыяграфіяй[254]. Тое, што легенды — як некалі савецкія міфы — у грамадскім успрыманні адразу ж траплялі на спрыяльную глебу і апярэджвалі навуковае асэнсаванне гісторыі, натуральна, не бралася пад увагу.

Каб вымераць нацыянальны маштаб гісторыі, новабеларускія нацыянальныя гісторыкі ад пачатку звярнуліся да пытання „нацыянальнага самаўсведамлення" і ўжо ў 1992 г., уласна, зарганізавалі канферэнцыю на гэтую тэму. Хоць у выніку ўзнікнення ў той час валу іншых праблем у шырэйшых колах насельніцтва наўрад ці можна заўважыць якую-кольвечы нацыянальную заангажаванасць, адметная нацыянальная свядомасць ды яе гістарычнае развіццё — паводле абранай праблематыкі форуму — мусілі належаць да стрыжнявых пытанняў новай беларускай гістарычнай навукі. Пры гэтым на парадку дня мелася стаяць задача замацаваць гістарычную беларускую нацыю — што традыцыйна разумелася як моўная супольнасць — не толькі ў асяроддзі інтэлігенцыі ды „тутэйшых" сялян. У гэтым аспекце Ян Запруднік назваў гістарычнай памылкай увязванне беларускасці толькі з сялянска-аселым традыцыяналізмам ды рэгіянальнай вясковай культурай. Маўляў, увесь час існавала беларуская шляхта, якая ў XIX ст. займела дастаткова моцы, каб быць носьбітам культуры будучае нацыі[255].

Іншыя аўтары ў пошуках каранёў нацыянальнае свядомасці зрабілі стаўку на палеаліт. „Ужо ў гэтыя часы ўзнікаюць, пастунова развіваюцца і фарміруюцца пачуццёвыя і разумовыя ўзаемаадносіны да навакольнага свету і на гэтай аснове выпрацоўваюцца розныя формы свядомасці чалавека". У выглядзе „міфа-

маны для студэнтаў гістарычных спецыяльнасцяў ВНУ метадычны дапаможнік выйшаў у 1996 г. — гл.: Методология истории / Под ред. А.Н.Алпеева и др. Мінск, 1996. Для беларускай гістарыяграфіі гэта была наогул першая кніга, прысвечаная спецыяльна пытанням метадалогіі гісторыі.

[254] Тарасаў Кастусь. Памяць пра легенды. Постаці беларускай мінуўшчыны. Мінск, 1994 (2-е дапоўн. выд.). Бібліяграфічны агляд да тэмы „Беларусь у легендах і паданнях" гл. у: Мамедава Т.Я. Беларусь у легендах і паданнях. Бібліяграфічны агляд // Новыя кнігі Беларусі. 1996. № 1 (дадатак). С.1—16. Адзіным да сёння спецыяльным часопісам, які практыкуе выключна акадэмічны падыход да гістарыяграфіі, застаецца выдаваны Г. Сагановічам „Беларускі Гістарычны Агляд".

[255] Запруднік Я. Дваранства і беларуская мова // Б/А. Вып.2. Мінск, 1993. С.29—36. Параўн. зноску 168.

вая роля. Тое, чаго не выпадала сказаць у гістарычнай кнізе, павінен быў ажыццяўляць музей — рабіць нагляднай блізкасць паміж сабою беларускай і расійскай сацыял-дэмакратыі, КП(б)Б і маскоўскіх бальшавікоў. Ніводзін іншы помнік горада не рэпрэзентаваў гэтак выразна, як названы музей, інтэрпрэтацыйныя мэты новай генерацыі гісторыкаў, якія, у сваю чаргу, у 1998 г., на сотыя ўгодкі расійскай сацыял-дэмакратыі, быў паказаны публіцы ў новым бляску. Гэтага захацелася постсавецкай гістарычнай палітыцы Беларусі.

Заклапочанасць партыі сітуацыяй з музеямі ў БССР у значнай ступені вынікала са стану Беларускага Дзяржаўнага музея. Тут, з дня 19 лістапада 1922 г., калі ён быў адчынены, назбіралася зашмат матэрыялу, які нельга было беспасярэдне дапасаваць да гісторыі рэвалюцыі і ўзнікнення БССР. У кожным разе мусіла быць апраўданым, што ў музеі захоўваліся манетныя багацці Вялікага Княства Літоўскага, альбо абразы старабеларускай іканаграфічнай школы, ці рукапіснае Слуцкае Евангелле з 1580 г. На вялікай экспазіцыйнай плошчы быў сабраны разам нацыянальны культурны скарб, дастаўлены сюды з экспазіцыяў ды архіваў разнастайных колішніх музеяў ды гістарычных таварыстваў Менска ды іншых гарадоў. Менскае таварыства гісторыі і старажытнасцяў перадало музею экспанаты, здабытыя ў часе раскопак, тады як з зачыненага ў 1921 г. Менскага гарадскога і абласнога музея калекцыю папоўнілі рэдкія друкаваная выданні і манеты. Да гэтага дадаліся экспанаты былога Царкоўнага гістарычна-археалагічнага музея: камітэт сельскай гаспадаркі і ЦВК БССР разам з Саўнаркамам перадалі калекцыю партрэтаў, зборы золата, срэбра ды іншыя экспанаты. У 1927 г. Белдзяржмузей меў сем аддзелаў (гістарычна-археалагічны, нумізматычна-сфрагістычны, мастацкі, царкоўна-археалагічны, этнаграфічны, старабеларускай зброі, габрэйскі), уласную бібліятэку, музейны архіў, а таксама свае філіі ў Віцебску, Магілёве ды Гомелі. У 1926 г. музей быў уключаны ў лік цэнтральных дзяржаўных установаў. Але будучыня музея знаходзілася пад нядобрым знакам, і гэта ўсё выразней было відаць, чым бліжэй да свайго канца падыходзіла беларусізацыя[310].

2 траўня 1926 г. у Менску быў адчынены Музей рэвалюцыі. Пад яго нават вызначылі адмыслова ўзведзены будынак у цэнтры горада. Тут была прэзентаваная афіцыйная версія гісторыі, у якой вялікая ўвага аддавалася сялянскім паўстанням на чале з Пугачовым і Разіным, дзейнасці дзекабрыстаў, а таксама бліжэйшай партыйнай ды рэвалюцыйнай гісторыі. Праз год увазе наведнікаў прапаноўвалася ўжо каля 10 000 экспанатаў[311]. Адкамандзіраваныя сюды Гістпартам арганізатары экспазіцыі на чале з Агурскім і Гельтманам ганарыліся тым, што, у адрозненне ад аналагічных рэвалюцыйных музеяў у Маскве і Ленінгра-

[310] Да пяцігадовага юбілею ў прэсе з'явіліся два ўшанаванні: Ластоўскі В. Беларускі Дзяржаўны Музэй // Наш Край. 1927. № 10. С.47—52, а таксама: Харламповіч П. Пяцігодзьдзе Беларускага Дзяржаўнага Музэю // Тамсама. 1927. №1(16). С.11—16. Акрамя таго, гл.: Weissruthenische Kultur: 1. Sammlung von Aufsätzen aus dem Gebiet der weissruthenischen Kultur // Weissruthenische Gesellschaft für kulturelle Verbindung mit dem Auslande (выд.). Minsk, 1928. С.55—61.

[311] Сацункевіч Ю. Музэй рэволюцыі к дзесяцігодзьдзю Кастрычніка // Наш Край. 1927. № 10. С.53 і наст.

цыі" — ні былі ў цэнтры ўвагі даследчыкаў, усё адно гісторыкі, этнографы, мастацтвазнаўцы, філолагі ды філосафы імкнуліся выявіць наступствы гісторыі тых альбо іншых падзеяў для нацыянальнага самаўсведамлення. З усіх аспектаў гісторыі грамадства, ад асаблівасцяў галаўных аздобаў у беларусак ранняга Сярэднявечча да твораў нацыянальных паэтаў XIX ст., цяпер збіралася ўсё, што магло быць карысным дзеля ўмацавання хранічна-слабай нацыянальнай ідэнтычнасці.

Раз-пораз увесь „тэкст" нацыі (мова, літаратура, гісторыя, культура, рэлігія, і г.д.) цалкам прывязваўся до моўнага аспекту:

> „...Нягледзячы на антрапалагічную блізкасць да рускіх ці палякаў, беларусы, размаўляючы на адметнай ад гэтых роднасных ім народаў мове, не маглі не вызначаць па ёй і сваёй этнічнай прыналежнасці, не жадалі адносіць сябе ні аднаго з іх, чым выяўлялі і сцвярджалі далучанасць да пэўнай канкрэтнай этнічнай супольнасці людзей — беларускай нацыі. Гэты каштоўнейшы *моўны* (вылучана аўтарам. — *Заўвага перакладчыка*) урок з мінулага можа быць добрым компасам пры пошуках шляхоў адраджэння і захавання самабытнасці беларускай нацыі і на яе сучасным этапе"[260].

Часавыя межы нацыянальнага „адраджэння" можна акрэсліць праз дзве рамкавыя даты. Калі 1990 г. і прызнанне беларускае мовы ў якасці адзінай дзяржаўнай мовы былі яго зыходным пунктам, дык 14 траўня 1995 г. і дасягнутая праз рэферэндум (53 працэнты ад колькасці дарослага насельніцтва) рэабілітацыя расійскай мовы як другой дзяржаўнай значылі датыхчасовае заканчэнне „адраджэння". Беларуская інтэлігенцыя ахарактарызавала вяртанне да афіцыйнага білінгвізму не толькі як дачасны канец „нацыянальнага абуджэння", але як абсалютна бессэнсоўную, пасля чатырох гадоў значнага сваімі матэрыяльнымі выдаткамі перабудоўвання на беларускую дзяржаўную мову, акцыю, якая, да таго ж, нагадвала канец кампаніі беларусізацыі ў пачатку 30-х г. і старт „контрбеларусізацыі"[261]. Асцярожны аптымізм адносна далейшых перспектываў „нацыянальна-культурнага адраджэння", які яшчэ адчуваўся ў артыкулах зборніка Леаніда Лыча „Беларуская нацыя і мова" (1994), цяпер адышоў у нябыт. Калі да гэтага часу можна было весці гаворку пра адраджэнне „нацыянальнай самасвядомасці" пасля доўгага этапу яе „дэградацыі", дык пачынаючы з 1995 г. тэмы і стаўленне шмат якіх гісторыкаў да нацыянальнага пытання пачалі мяняцца. Беларуская нацыя пачала ўспрымацца ў кантэксце ўсведамлення „пагрозы" яе існаванню. Цэнтральным паняццем гістарычнае публіцыстыкі цяпер зрабілася „дэнацыяналізацыя".

З тае пары, без якога-кольвечы згадвання цяперашняй канстытуцыі дзяржавы, пачалі браць слова знакамітыя і менш вядомыя гісторыкі, пастаянна праводзячы паралелі з савецкай эпохай. Пры гэтым яны асабліва адзначалі падабенства сфераў і стратэгіяў дэнацыяналізацыі. Гэтак, няможна было не разгле-

[260] Лыч Леанід. Нацыянальная самасвядомасць беларусаў: дэградацыя і адраджэнне // *Яго ж.* Беларуская нацыя і мова (op. cit.). С.21—102, у гэтым выпадку с.25.

[261] Гэтае паняцце сустракаецца, сярод іншага, у: Дубянецкі Эдуард. Менталітэт беларусаў: спроба гісторыка-псіхалагічнага аналізу // Б/А. Вып.2. Мінск, 1993. С.192—201, у гэтым выпадку с.193. Дубянецкі пашырае часавыя межы гэтага працэсу да 80-х г.

На пачатку дзейнасці „ИИП ЦК КПБ“ быў у сваёй сутнасці інстытуцыяй у справе змястоўнай і тэхнічнай арганізацыі маючых адбыцца партыйных юбілеяў, а таксама бюро перакладаў, якое займалася падрыхтоўкай выданняў класікаў на беларускай мове[29]. У 60–я г., насамрэч, спраўдзілася тое, што было вырашана на гістарычным форуме 1960 г.: тэхнічна і кадрава забяспечаны, існуючы ў якасці філіі маскоўскага „Інстытута Маркса—Энгельса—Леніна“ беларускі Інстытут выдаў двухтамовую „Гісторыю КПБ“, а таксама шматлікія зборы дакументаў ды манаграфіі. Пераакцэнтаванне дзейнасці беларускай гістарычнай навукі завяршылася цягам дзесяцігоддзя, паміж 1960 і 1970 г. Сапраўды, партыйнае гісторыяпісанне, маючы агульнасаюзную тэматычную ды інстытуцыянальную адзінаўзорнасць ды дапасавальнасць, аўтанамізавалася настолькі, што на пачатку 80–х г. займела нават сваю ўласную „метадалогію“[30].

Пры ўсім тым гісторыя БССР як асобны аб’ект даследавання таксама не выйшла з моды. І можна было прадбачыць, што пад знакам барацьбы супраць культу асобы большыня працаў беларускай гістарыяграфіі, выдадзеных да 1960 г., і „асабліва тых, што выйшлі да 1953 г.“, *in toto* мусіць быць адкінутая праз іх тэндэнцыёзнасць. Калі на іх выразна і не праглядалася пячатка культу асобы, аўтару рабіліся папрокі, прынамсі, у недастатковым асвятленні „ролі народных масаў“ альбо ў тым, што „недастаткова глыбока прадумана адлюстроўвалася кіраўнічая роля партыі ў сацыялістычным будаўніцтве“. Да таго ж, па–ранейшаму лічыліся цалкам незадавальняльна распрацаванымі гэткія тэматычныя блокі, як, да прыкладу, „заканамернасці развіцця сацыялістычнага грамадства“ альбо „пытанні паступовага пераходу да камунізму“. З гэтых настойлівых пажаданняў на названым форуме гісторыкаў БССР быў сфармуляваны „доўг“, які гісторыкі Беларусі „меліся сплачваць народу“[31]. З квазінацыянальным акцэнтаваннем у гэткі спосаб меўся адбыцца мабілізацыйны штуршок, які б спрыяў належнаму ідэалагічнаму забеспячэнню гістарычнае навукі: гэтая стратэгія мусіла дасягнуць сваёй мэты. Больш нікчэмным разрыў са сталіншчынай выглядаць проста не мог.

У 60–х г. агульны аб’ём навуковых даследаванняў у БССР інтэнсіўна павялічваўся[32]. Толькі ў прамежку паміж 1961/62 і 1967/68 навучальнымі гадамі кан-

[29] Да 40–гадовага юбілею „ИИП ЦК КПБ“, які меўся быць адзначаны ў 1969 г., параўн. урачысты выступ тагачаснага дырэктара: Игнатенко И. Важная дата. 40–летие Института истории партии при ЦК КПБ // КБ. 1969. № 6. С.27—32. У 1917—1965 г. у БССР было апублікавана 98 кніг твораў Маркса і Энгельса агульным накладам 811 000 асобнікаў, з якіх 88 кніг (374 000 экз.) былі надрукаваныя на беларускай мове. Творы Леніна выдаваліся ў 374 кнігах агульным тыражом 4 239 000 паасобнікаў, у т. л. пабеларуску 353 кнігі (4 110 000 экз.). Параўн.: Тамсама, с.29.

[30] Азбука партыйнай гістарыяграфіі была створаная на аснове дыскусіі па метадалагічных пытаннях, што вялася ў 1976—1978 г. на старонках часопіса „Вопросы истории“, гл.: Маслов Н.Н. Марксистско–ленинские методы историко–партийного исследования. Москва, 1983. Параўн. рэцэнзію Л.Раманавай у: ВИ. 1984. № 10. С.123—126.

[31] За глубокую разработку вопросов истории БССР и Компартии Белоруссии // КБ. 1960. № 6. С.72—77, у гэтым выпадку с.73.

[32] Колькасць навукоўцаў у БССР за перыяд часу з 1960 да 1988 г. вырасла істотна: з 6 840 да 44 072. Самая высокая дынаміка прыросту назіралася ў 1962 г. (36%). Агляд пытання гл. у: Корзенко Г.В. Научная интеллигенция Белоруссии в 1944—1990 г. (подготовка, рост, структура). Мінск, 1995. С.67. Пра далейшае інстытуцыянальнае

„На самай жа справе беларускі народ меў у мінулым не менш слаўную і багатую гісторыю дзяржавы і права, нічым не горшую, чым у іншых народаў. Аднак каб яе пазнаць, трэба спачатку ўсвядоміць, як мяняліся імёны нашага народа, як узніклі дзяржавы на нашай тэрыторыі, як ішлі працэсы росту і развіцця гэтых дзяржаў, як выпрацоўвалася сваё, нацыянальнае права"[264].

Закід на адрас ранейшых аўтараў, відавочна, датычыў не псеўдадзяржаўнасці ў выглядзе падсавецкай рэспублікі, а таго, што ў згаданай калектыўнай працы — як гэта Юхо намерваўся зрабіць сам — пачаткі нацыянальнае дзяржаўнасці і нацыянальнага права беларускага народа не былі перасунутыя ў найстаражытнейшыя часы. Тое, што было далей пададзена ў кнізе Юхо, уяўляла з сябе сінтэзу нацыянальна-гістарычных тэзаў даследнікаў ад Ластоўскага да сучаснасці, прычым аўтара „Нарыса" ні ў якім разе немагчыма папракнуць у паказе генезы адміністрацыйных і прававых структураў, дачыненняў унутры ўлады ці агульных, шмат у чым вельмі цікавых беларускіх традыцыяў палітычнае, гаспадарчае, культурнае альбо моўнае гісторыі ў часе паміж IX і XX ст. Закіды могуць быць апраўданыя там, дзе ўтрымліваюцца сцвярджэнні пра абавязковыя ды спецыфічныя з'явы беларускай дзяржаўнай і прававой культуры, у той час як фактычна па-за ўвагаю застаецца ўдзел у гэтых працэсах дамінантных небеларускіх найвышэйшых станаў грамадства. Іншую якасць мела даследаванне разумення ідэі дзяржаўнасці ўнутры беларускага нацыянальнага руху ў XIX і на пачатку XX ст. у тым выглядзе, у якім яго выканаў Міхась Біч. Хоць і ён выступаў супраць тэзы падсавецкае гістарыяграфіі пра „бездзяржаўнасць" Беларусі ў дасавецкім часе і называў Полацкае, Турава-Пінскае, Смаленскае ды іншыя княствы, а таксама „Беларуска-Літоўскую дзяржаву" XVI ст. „формамі" дзяржаўнасці беларускага народа, усё ж такі яго праца ў меншай ступені, чым іншыя, уяўляла сабою далейшае развіццё беларускага дзяржаўніцкага міфа. У ёй пераважна ўтрымліваліся рэфлексійныя моманты. Тым не менш, яго памяркоўны выклад камбінаванай сацыяльна-нацыянальнай пратэставай гісторыі беларускіх тэрыторыяў цягам доўгага XIX ст., якая сягала ад чыннасці паўстанцкіх аддзелаў „ліцвіна-беларуса" Тадэвуша Касцюшкі праз Каліноўскага да крызісу БНР і разважанняў Доўнара-Запольскага наконт „асноваў дзяржаўнасці Беларусі", яшчэ раз зрабіў відавочным той факт, што часта бывае досыць самой ідэі, каб стварыць гістарычную дзяржаву[265].

У якасці падагульнення трэба зазначыць, што ва ўсіх нацыянальных гістарыяграфіях у цэнтры ўвагі апынуліся паняцці „нацыя", „нацыянальная самасвядомасць", а таксама традыцыі ўласнае „дзяржаўнасці". Але ўжо досыць працяг-

[264] Юхо Язэп. Кароткі нарыс гісторыі дзяржавы і права Беларусі. Мінск, 1992. Параўн., акрамя таго: ИИАН БССР (выд.). История государства и права Белорусской ССР. Т.1: 1917—1936. Мінск, 1970. С.11.

[265] Біч Міхась. Эвалюцыя ідэі дзяржаўнасці ў вызваленчым руху Беларусі ў канцы XVIII— пачатку XX ст. // Голас Радзімы, 28.03.1996. С.1; 4.04.1996. С.4; 11.04.1996. С.5. У якасці прыкладу дыскусіі зусім падобнага кшталту наконт праблем „нацыянальнага самаўсведамлення" і „дзяржаўнасці" тут звяртаем увагу толькі на найноўшы львоўскі зборнік: Національна Академія наук України. Інститут українознавства ім. І.Крип'якевича (выд.). Україна: культурна спадчина, національна свідомість, державність. Збірнік наукових праць. Випуск 2. Львів, 1995.

лы час беларускае нацыянальнае гісторыяпісанне знаходзіцца ў сапраўды выключным становішчы: у адрозненне ад усіх іншых краін — спадкаемцаў Савецкага Саюзу, тут, пачынаючы з 1995 г., з боку дзяржаўнае ўлады не выяўлялася вялікае зацікаўленасці ў нацыянальнай сэнсатворчасці праз гісторыю, мову ды культуру. Палітыка Лукашэнкі ў дачыненні да гісторыі, хутчэй, была скіраваная на ўзнаўленне важных сегментаў савецкага вобраза гісторыі. Рэзкі паварот нацыянальна арыентаваных гісторыкаў да супрацьлеглых савецкаму гістарычнаму канону постацяў гісторыі, адпаведным чынам, меў не толькі гістарычныя, але й актуальныя прычыны. Як і ў дачыненні да гістарычных міфаў, у пантэоне гісторыі постсавецкага часу ўпоперак дарогі стаялі састарэлыя і нанова адкрытыя „гістарычныя постаці".

### 3.2.5. У пантэоне нацыянальнае гісторыі

Агульнай прыкметай працаў постсавецкага гісторыяпісання ёсць яго вялікая схільнасць да персаналізацыі гісторыі ды біяграфіяў. Не варта было дзівіцца з таго факта, што пасля працяглага дамінавання дэіндывідуалізаванай гісторыі фармацыяў, дзе ўвесь час разглядаліся абстрактныя вялікія групы людзей, кшталту „рабочага класа", „буржуазіі", „шляхты" альбо „феадалаў", а таксама культавыя постаці — носьбіты пэўнай ідэалогіі, цяпер аб'ектам даследавання зрабіліся тыя асобы мінуўшчыны, чые біяграфіі можна было дадаць да новай нацыянальнай гістарыяграфіі. Здэградаваная да банальнасці формула сацыялістычнае рыторыкі „без чалавека няма гісторыі" цяпер набыла зусім новае значэнне. Хоць ад пачатку 90-х г. нацыянальна-гістарычная перспектыва імкнулася прыцягнуць на свой бок вялікую частку гісторыкаў, вышэйзгаданая патавая сітуацыя існавання розных версіяў гісторыі ў 1989—1992 г. мела сваім вынікам тое, што традыцыйная гістарыяграфія таксама займалася кароткімі альбо менш кароткімі біяграфіямі рэвалюцыянераў, палітыкаў, партыйных функцыянераў, ідэолагаў і тэарэтыкаў дасавецкага і савецкага часу, якія без ваганняў і цалкам усвядомлена яшчэ ў 1993 г. называліся „отечественной историей"[266]. Традыцыяналісты ў постсавецкім гісторыяпісанні лічылі неабходнымі пэўныя пераацэнкі і ліквідаванне пэўных нешматлікіх „белых плямаў". Вядома ж, пры гэтым яны імкнуліся да рэфармавання савецкага гісторыяпісання, але не да адмаўлення ад яго ці замены яго нацыянальнай гістарыяграфіяй.

Як намі будзе паказана ніжэй, самае позняе пасля юбілею Скарыны, што адзначаўся ў 1990 г., энтузіясты нацыянальнае гісторыі заняліся стварэннем пантэона беларускай гісторыі. Толькі ў часе з 1989 да 1993 г. на беларускім і міжнародным кніжным рынку, на старонках публіцыстычных выданняў з'явілася 1070 назваў публікацыяў, якія ў вузкім альбо шырокім сэнсе асвятлялі жыццё і „эпоху Скарыны"[267]. Хуткі рост цікавасці грамадства да гістарычных

[266] Имена в истории. Краткий биографический справочник. Авторы-составители П.И. Бригадин, Г.И.Ильящук, Ю.Л.Казаков, В.И.Медяник, И.Ф.Романовский. Мінск, 1993, у гэтым выпадку с.13.

[267] Параўн.: Беларускі інстытут навукі і мастацтва / Нацыянальная бібліятэка Рэспублікі Беларусь / Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Ф.Скарыны (выд.).

пытанняў і датуль амаль невядомыя альбо да непазнавальнасці скажоныя вобразы гістарычных постацяў стваралі мажлівасць аператыўнага апублікавання невялікіх працаў. Гістарычныя часопісы „Спадчына", „Беларуская мінуўшчына" ці „Беларускі гістарычны часопіс", альбо таксама нацыянальна і культурніцка арыентаваныя тыднёвікі кшталту „Літаратуры і мастацтва" ці „Нашага слова", цяпер не абыходзіліся без рубрык, дзе друкаваліся індывідуальна-біяграфічныя мініяцюры, у якіх гаворка йшла пра постаці ад вялікіх князёў Літоўскага Княства да нацыянал-дэмакратаў 20-х г. ды прыпісанага да „пазітыўных" асоб савецкай гісторыі партыйнага кіраўніка і папулярную асобу Пятра Машэрава, які ў 1980 г. загінуў пры загадкавых акалічнасцях.

Акрамя таго, далейшыя перавагі для паказу „гісторыі ў асобах" стваралі заснаваная ў 1988 г. Акадэміяй навук БССР серыя брашур „Нашы славутыя землякі", выдаваная з 1992 г. серыя „Святыя зямлі Беларускай", а таксама шматлікія персаналіі гісторыі ў выкладзе пісьменніка-гісторыка Уладзіміра Арлова. Тым самым гісторыяпісанне ў першую чаргу зрэагавала на ўзрастанне запатрабавання навукова-папулярных адукацыйных прапановаў — у тым сэнсе, як іх у той самы час у Расіі пачаў рэалізоўваць нацыянальна-гістарычны часопіс „Родина". З гэтым свядома прынятым „папулізмам" гістарычнага цэху, на які часта рабіліся нараканні, у гэткай самай меры змяняліся публікацыйныя традыцыі. Вядома ж, колькасць манаграфічных біяграфіяў, што рыхтаваліся гісторыкамі пачынаючы з 1988 г., была не надта вялікаю таксама з фінансавых прычын. Калі аўтар усё-ткі рабіў біяграфію тэмай асобнага даследавання, ён мусіў як найболей аддаляцца ад традыцыйных метадаў паказу асобы, прынятых у манаграфіях. Выйсце ў гэтым выпадку прапаноўвалі літаратурна-кампазіцыйныя альбо асаблівыя літаратурна-мастацкія сродкі, што падвышалі спажывецкую альбо рынкавую вартасць кнігі[268].

Як гэта было тыповым для позне- і постсавецкай гістарыяграфіі ў цэлым, у Беларусі таксама адбываліся гістарычныя дыскусіі ў публіцыстыцы, у часопісах і зборніках, а таксама ў энцыклапедычных сінтэзах. Нашмат больш выразна, чым у не надта масава чытаных манаграфіях, тут было зафіксаванае *Who is who?* беларускай нацыянальнай гісторыі. Гэта была тая самая рэдакцыя „Беларускай савецкай энцыклапедыі" і пазнейшай „Беларускай энцыклапедыі", што мусіла здзяйсняць „персанальныя змены" ў пантэоне беларускай калектыўнай памяці. З аднаго боку, неабходна было даследаваць біяграфіі „новых" альбо наноў адкрытых гістарычных асоб, а з іншага боку, „старыя" біяграфіі павінны былі паддавацца крытычнаму перагляду[269].

Францыск Скарына. Жыццё і дзейнасць. Паказальнік літаратуры. Дадаткі за 1530—1988 г., 1989—1993 г. Мінск, 1995.

[268] Параўн. па гэтым пытанні багата ілюстраваную працу: Шалькевич В.Ф. Кастусь Калиновский. Страницы биографии. Мінск, 1988, а таксама гістарычную аповесць: Якутов Владимир. Пётр Машеров. Художественно-документальная повесть. Мінск, 1992.

[269] Параўн. біяграфічныя альбо аўтабіяграфічныя артыкулы ў зб.: З гісторыяй на „Вы". Публіцыстычныя артыкулы. Выпуск 2 / Укладальнік Уладзімір Арлоў. Мінск, 1994; На суд гісторыі. Успаміны, дыялогі / Укладальнік Барыс Сачанка. Мінск, 1994; Адраджэнне. Гістарычны альманах (op. cit.); Мысліцелі і асветнікі Беларусі. Энцыклапедычны даведнік / Рэдкал.: Сачанка Б.І. і інш. Мінск, 1995.

Паварот беларускай гістарыяграфіі да нялюбых асобаў сацыялістычнай версіі гісторыі суправаджаўся дзвюма спецыфічнымі з'явамі, якія адначасова трэба разглядаць у якасці характарыстык новых постсавецкіх дзяржаўных гісторыяў.

*Па-першае.* Нацыянальна-беларускі вобраз гісторыі хутка выявіў „каланізатарскія" рысы. Можна было прадбачыць, што з набыццём Беларуссю, Літвою, Украінай і Расіяй сваёй дзяржаўнай незалежнасці, а таксама ў звязку з суседствам Польшчы будуць узноўленыя ўзаемныя гістарычныя прэтэнзіі; не толькі на тэрыторыі, але, перадусім, на комплекс традыцыяў і, у больш вузкім сэнсе, на гістарычных асоб. Калі беларускія гісторыкі ў дачыненні да Літвы ўвесь час рабілі намёкі пра „беларускую сутнасць" Вялікага Княства Літоўскага ды яго эліты, дык польскія гісторыкі і літаратуразнаўцы час ад часу бачылі сябе „абрабаванымі" — калі гаворка йшла пра іх нацыянальных святых Адама Міцкевіча ды Тадэвуша Касцюшку. Пры гэтым увага звярталася не толькі на „беларускую радзіму" абодвух герояў [„Радзіма героя (у гэтым выпадку Касцюшкі — Р.Л.) — Беларусь"], але, да прыкладу, і на тое, што Касцюшка нарадзіўся 4 лютага 1746 г. у „спаланізаванай сям'і збяднелага беларускага шляхціча". Калі ўжо няма магчымасці зусім забраць для беларускай нацыянальнай гісторыі „сына Беларусі", „нашага Касцюшку" — гэтак гучалі тэзы ўрачыстае імпрэзы ў Мінскім Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі з нагоды 250-х угодкаў Тадэвуша Касцюшкі, — дык яго спадчыну трэба хоць бы падзяліць:

> „Вялікія, гістарычныя імёны ёсць у гісторыі кожнага народа. Але часам здараецца так, што пэўныя героі перарастаюць нацыянальныя межы і робяцца прыналежнымі да розных народаў і нават да розных кантынентаў"[270].

Для Анатоля Ростава, аўтара часопіса „Беларуская мінуўшчына", у юбілейным 1994 г. пытанне падзелу спадчыны ўжо не стаяла. Тут Касцюшка ўшаноўваўся як „самы ўслаўлены ў свеце беларус"[271]. Калі б польскі міф Касцюшкі не быў гэткім непахісным, якім ён ёсць насамрэч, такога кшталту нацыянальна-гістарычныя стратэгіі збірання маглі б, вядома, дасягнуць яшчэ большага. Але і праз дзвесце гадоў — гэта засведчыла юбілейная канферэнцыя польскіх, швейцарскіх, паўночна-амерыканскіх, канадскіх, брытанскіх і нямецкіх гісторыкаў — геройчны чын „апошняга рыцара і першага грамадзяніна ва Ўсходняй Еўропе" застаўся незламаным. Польскія гісторыкі, відавочна, захапляюцца таксама каранямі свайго польскага нацыянальнага героя — гэтай „мешанкі з ліцвінска-спаланізаваных сем'яў беларускага і ўкраінскага паходжання"; варта толькі звярнуць увагу на „шырыню і мультыэтнічны ды шматкультурны характар старой дзяржавы,

[270] Шалькевіч Вячаслаў. Герой двух кантынентаў // Наша слова, 15.02.1996. С.1, 7; 22.02.1996. С.7; 29.02.1996. С.1, 7 (цытата падаецца ў зваротным перакладзе з нямецкай мовы. — *Заўвага перакладчыка*). Параўн., акрамя таго, генеалагічнае даследаванне: Касьцюшка, сын Беларусі // Спадчына. 1994. № 1. С.15—23. Сінтэтычны паказ жыцця Касцюшкі з беларускага гледзішча прапанаваны нядаўна ў: Юхо Я.А. Касцюшка Андрэй Тадэвуш Банавентура // Мысліцелі і асветнікі Беларусі (op. cit.). С.226—235.

[271] Ростаў Анатоль. „Русін племені беларусаў" // БМ. 1994. № 1. С.18—20, у гэтым выпадку с.18.

што мае назоў *Rzeczpospolita Szlachecka*". „Тыповы аздоблены калонамі фальварак, шляхецкая сядзіба, у букалічнай адасобленасці, дзе «пан Тадэвуш» пражывае свае дзяцінства", да таго ж, маўляў, быў „добрым месцам для нараджэння будучага польскага героя"[272].

З узгадваннем „Пана Тадэвуша" быў названы сваім імем яшчэ адзін падзелены міф, які з не меншай сур'ёзнасцю абраняла як нацыянальную спадчыну беларускае літаратуразнаўства і гісторыяпісанне — Адам Міцкевіч. Як і Касцюшка, народжаны ў „спаланізаванай беларускай сям'і" і ўслаўлены як „польскі паэт беларускага паходжання", Міцкевіч прыкметным чынам займеў падрабязны біяграфічны артыкул у энцыклапедычным даведніку „Мысліцелі і асветнікі Беларусі". Паводле гэтага артыкула, у ранніх вершах паэта адлюстраваны „прывабны вобраз рамантычнага героя–барацьбіта за свабоду і шчасце народаў Літвы і Беларусі". Гэтым духам меліся быць прасякнутыя таксама буйныя творы паэта. На думку гродзенскага прафесара Аляксея Пяткевіча, паэма Міцкевіча „Пан Тадэвуш" цалкам ёсць „выразам беларускага светабачання"[273]. Падобныя стратэгіі збірання можна было цяпер заўважыць і на іншых „памежных тэрыторыях" канкурэнтных паміж сабою нацыянальных гісторыяў; гэтак здаралася, што коронная тэма найноўшай беларускай нацыянальнай гісторыі, аздобленая тэрміналагічнымі арнаментамі кшталту „ранняя дэмакратыя" і „ўкраінская дзяржаўнасць", рабілася „важным этапам беларускай гісторыі".

*Па–другое.* У сваім больш ці менш свядомым адыходзе ад палітычна–ідэалагічных пастулатаў савецкай гістарыяграфіі ды яе культу ніжэйшых станаў шмат хто з моладанацыянальных гісторыкаў цяпер паддаўся таму захапленню, якое, здаецца, першапачаткова зыходзіла ад элітаў дасавецкага часу. Атачэнне вялікага князя „Беларуска–Літоўскай дзяржавы", „беларуская шляхта" з яе ідэнтыфікацыйна–стваральнай, яшчэ ўсведамляльнай у выглядзе замкаў Міра альбо Нясвіжа культурай, альбо таксама „беларускае прадпрымальніцтва" XIX— пачатку XX ст., здавалася, у большай ступені захоўвалі ў сабе субстанцыю, вартую вывучэння, чым пралетарыят і сялянства беларускіх гарадоў і вёсак. Вышэйшыя станы палітычнага, гаспадарчага альбо культурніцкага паходжання, якія раней трактаваліся як эксплуатататарскі клас, цяпер вылучалі з сваіх шэрагаў яскравых асоб беларускае гісторыі. У празаічных нарысах у часе эйфарычнага нацыянальнага гісторыяпісання Скарына з „полацкага буржуа" (Пічэта) зрабіўся „тытанам эпохі Адраджэння" (Мальдзіс), а канцлер Леў Сапега з „літоўскага магната"

[272] Вышэйпрыведзеныя цытаты паходзяць з: Koestler, Nora. Tadeusz Kosciuszko — Held zweier Welten // Haumann H., Skowronek J., unter Mitarbeit von Held T. und Schott C. (выд.) „Der letzte Ritter und erste Bürger im Osten Europas" (Basler Beiträge zur Geschichtswissenschaft, Bd.169). Basel—Frankfurt am Main, 1996. C.29—39, у гэтым выпадку с.30. Цытата і назва канферэнцыі ў: Michelet, Jules. Kosciuszko. Legenda demokratyczna. Paris, 1851. C.1.

[273] Далей ідуць цытаты з: Масляніцына І.А. Міцкевіч Адам // Мысліцелі і асветнікі Беларусі (op. cit.). C.498—505; Сіцько Здзіслаў. Аляксей Пяткевіч: „Паэма Адама Міцкевіча «Пан Тадэвуш» — адбітак беларускага светаадчування" // Наша слова, 28.12.1994. C.6. Да пытання ўслаўлення Касцюшкі і Міцкевіча, акрамя таго, гл.: Тарасаў Кастусь. Начальнік паўстання // *Яго ж.* Памяць пра легенды (op. cit.). C.199—210; *Яго ж.* „...Айчына дум маіх" // Тамсама, c.213—228.

стаў „бліскучым канцлерам" (Саверчанка)[274]. Уладзімір Арлоў таксама неаднаразова захапляўся канцлерам Вялікага Княства, „вялікі патрыятызм і палітычная мудрасць якога" магла б быць прыкладам для сённяшніх галоўных дзейных асоб у палітыцы, бо Сапега, маўляў, напраўду, у першую чаргу дбаў пра інтарэсы сваёй дзяржавы. Ствараючы біяграфічную серыю беларускіх герояў, асветнікаў, літаратараў, навукоўцаў і палітыкаў альбо коміксы пра герояў у тыднёвіку „Наша Ніва", гісторыкі постсавецкага часу спрабавалі прабіцца да гістарычна-зацікаўленай публікі[275].

З таго самага часу асаблівая ўвага аддавалася роду князёў Радзівілаў, без якіх — „некаранаваных каралёў Вялікага Княства Літоўскага", што мелі свае галоўныя рэзідэнцыі ў Беларусі — немагчыма было абысціся пры фармаванні абрысаў новай нацыянальнай гісторыі[276]. Дзейнасць і лёс сям'і Радзівілаў былі неўзабаве скарыстаныя таксама для абгрунтавання геаграфічна-дэтэрмінаванага пераасэнсавання гісторыі. Калі „адзін з найслыннейшых родаў еўрапейскае арыстакратыі" знаходзіўся ў гэткай шчыльнай лучнасці з Беларуссю і, да таго ж, меў тут свае карані, дык у пэўнай інтэрпрэтацыі беларускую гісторыю культуры можна крыху перасунуць на захад, а Расію, наадварот, пакінуць далей, у Азіі. Надалей у гэтым кантэксце мы паспрабуем коратка спыніцца на „геапалітычных" імплікацыях новай беларускай гістарыяграфіі.

### 3.2.6. „Цэнтр Еўропы": гісторыя як геапалітыка

З пачаткам 90-х г. і вяртаннем нацыянальна-дзяржаўніцкай думкі ва ўнутраныя рэгіёны здэмантаванага Савецкага Саюзу катэгорыя „геапалітыкі" знайшла прыхільную глебу для таго, каб быць успрынятай у колах стваральнікаў постсацыялістычнай гістарычнай навукі і гэтак званай „паліталогіі", якая ў цэлым была прадуктам марксісцка-ленінскіх інстытуцыяў ды кафедраў універсітэтаў і акадэміяў. Гэтым самым усходнееўрапейскія калегі-спецыялісты ў адпаведнай галіне толькі ідуць следам за тэндэнцыяй, якая і ў заходняй гістарыяграфіі канца XX ст. прывяла да „збліжэння гісторыі й геаграфіі"[277]. Ва Украіне і ў Беларусі, якія, з'яўляючыся ўскраінамі заняпалай імперыі, мелі за сабой гісторыю бездзяржаўнасці і перамяшчэння межаў, а цяпер у якасці краін, што праводзяць сваю ўласную знешнюю палітыку, прымалі амерыканскага прэзідэнта і ўваходзілі ў заходнееўрапейскія ды міжнародныя арганізацыі, навукоўцы-грамадазнаўцы і

[274] Из тьмы веков светлеющие лики... / Сост. Ю.Я.Гуторенко, Т.И.Улевич. Мінск, 1994.

[275] Арлоў Уладзімір. У палоне гістарычных міфаў (op. cit.). С.5; Праз смугу стагоддзяў. Школьнікам аб гісторыі Беларусі / Укладальнік М.Багадзяж. Мінск, 1993.

[276] Усе паасобныя публікацыі беларускай гістарыяграфіі роду Радзівілаў гл. у: Шышкова К.І. Некаранаваныя каралі Вялікага княства Літоўскага. Радзівілы ў гісторыі Беларусі. Бібліяграфічны спіс // Новыя кнігі Беларусі. 1995. № 1 (дадатак). С.1—16.

[277] Мы можам тут толькі зрабіць пабежную згадку. Больш падрабязна пра рэнесанс геапалітычных ідэяў гл. у: Osterhammel, Jürgen. Raumerfassung und Universalgeschichte im 20. Jahrhundert // Hübinger G., Osterhammel J., Pelzer E. (выд.). Universalgeschichte und Nationalgeschichten. Freiburg im Breisgau, 1994. С.51—72. Акрамя таго, гл.: Walther, Rudolf. Man braucht mehr Platz // Die Zeit, 21.07.1995. С.28.

часткі палітычнае эліты сталі падатлівымі да ўспрымання геапалітычных тэорыяў мінулага і сучаснасці[278]. Калі ў 1994 г. Анатоль Грыцкевіч нават распачаў гаворку пра „гісторыю геапалітыкі Беларусі" з XIII ст. да 1945 г., ён меў пры гэтым на мэце адначасова засведчыць актыўную знешнепалітычную ролю Беларусі з часоў Сярэднявечча:

„Першыя фэадальныя дзяржавы беларусаў ад самага пачатку мусілі весьці самастойную палітычную лінію ў дачыненьнях між сабой і суседзямі, блізкімі і больш далёкімі, такімі як Візантыя. Асабліва актыўную палітыку ў XI—XII стст. праводзіла Полацкае княства, самая моцная беларуская дзяржава ў той час. [...] Першыя дзяржавы беларусаў, як і іншыя тагачасныя беларускія дзяржавы, часам вялі мірную палітыку, а часам ваявалі"[279].

З гледзішча А.Грыцкевіча, пра геапалітыку гаворка можа ісці толькі ў дачыненні да „Беларуска-Літоўскай дзяржавы", Вялікага Княства, калі гэткія валадары, як Міндоўт і Вітаўт, пачалі праводзіць „актыўную знешнюю палітыку на некалькіх кірунках" і абараняць самастойнасць „Беларуска-Літоўскай дзяржавы" і ад маскоўскіх вялікіх князёў, а пазней цароў, і ад тэўтонскіх рыцараў, і таксама ад татараў. Калі абвастрыўся канфлікт з Масквою ў XV і на пачатку XVI ст. і тым самым узмацнілася „пагроза з Усходу", дзяржаве літоўскіх вялікіх князёў заставалася толькі ажыццяўляць „еўрапейскую стратэгію"; пры гэтым Грыцкевіч рабіў спасылку на ўсталяванне дзяржаўных повязяў паміж Польшчай і Літвою. З гэтага гледзішча „палітыка" Вялікага Княства Літоўскага паўстае як кантраляваны працэс, ініцыятыва якога зыходзіла ад віленскіх уладароў.

Заснаваная ў 1569 г. федэрацыя з Польшчай у гістарычнай версіі А.Грыцкевіча ўжо не была — як гэта мела месца ў Доўнара-Запольскага (1909 г.) — „канцом беларускай гісторыі" альбо „зыходным пунктам трагедыі"[280] — як пісаў Вітаўт Чаропка, — а ўсвядомленым знешнепалітычным актам „Беларуска-Літоўскай дзяржавы". Маўляў, хаўрус з Польшчай умацаваў адпорнасць беларусаў знешнім ворагам. Акрамя таго, „вялікае значэнне" „для наладжвання ўнутрыпалітычных дачыненняў" меўся набыць рыма-каталіцкі касцёл. У адрозненне ад аўтараў папярэдніх сінтэтычных працаў па гісторыі Беларусі, у якіх сведчылася пра важныя атрыбуты дзяржаўнасці таксама ў дачыненні да перыяду пасля 1569 г., Анатоль Грыцкевіч з упэўненасцю прафесійнага гісторыка канстатаваў, што „абедзве дзяржавы, што ўвайшлі ў склад Рэчы Паспалітай", захавалі за сабою ўласную адміністрацыю, свае войска, свае суды і законы, свае грошы і ўлас-

[278] У дачыненні да Украіны: Левандовский Вадим. Украина в геополитических концепциях первой трети XX века // Политическая мысль / Політична думка / Political Thought. 1994. № 2. С.75—84; № 3. С.59—69. Акрамя таго, параўн.: дыскусійныя выступы падчас круглага стала: Украина в геополитическом интерьере конца XX века. Материалы дискуссии открытого заседания Киевского международного клуба „Политическая мысль" // Тамсама. № 3. С.70—82.

[279] Грыцкевіч Анатоль. Гісторыя геапалітыкі Беларусі // Спадчына. 1994. № 1. С.85—93, у гэтым выпадку с.85; № 3. С.39—51; № 4. С.48—61. Хутчэй памяркоўны пункт погляду на знешнепалітычны патэнцыял „Беларусі" прадэманстраваны ў: Снапкоўскі Уладзімір. Геапалітычнае становішча Беларусі ўчора і сёння // БМ. 1994. №3. С.36—37.

[280] Параўн.: Чаропка Вітаўт. Люблінская унія // БМ. 1995. № 2. С.31—34.

ную сімволіку. Праз супольна выпрацаваную знешнюю палітыку краіна здолела „яшчэ больш пашырыць свае геапалітычныя інтарэсы“ і „яшчэ больш актыўна зблізіцца з Заходняй Еўропай“[281]. Гэтая гістарыяграфічная дынамізацыя беларускай гісторыі перыяду да канца XVIII ст., якая, вядома ж, сустракаецца не толькі ў А.Грыцкевіча, можа разглядацца ў якасці яшчэ аднае характэрнае рысы новага самаўсведамлення нацыянальнае гістарыяграфіі ў першай палове 90–х г. Аўтары кшталту Чаропкі гэтым часам працягвалі не без слязлівасці апісваць беларускую гісторыю пераважна як гісторыю працяглага заняпаду, тым самым падтрымліваючы дасавецкую тэзу пра „падвойнае зло“, што мела сваёй прычынай беспасярэдняе гістарычнае суседства з Польшчай і Расіяй[282].

Гістарыяграфія ў былых савецкіх рэспубліках, што атрымалі незалежнасць, напачатку цалкам заглыбілася ў пошукі перыядаў альбо элементаў даўнейшае дзяржаўнасці. Гэта датычыла і Беларусі й, у прыватнасці, яе „геаграфічна–дэтэрмінаванай гісторыі“. У цесным дачыненні са знешнепалітычнымі канцэпцыямі Рэспублікі Беларусі — гэткімі, як канстытуцыйна гарантаваны нейтралітэт дзяржавы і палітыка, звернутая як да Еўропы, гэтак і да Расіі — гістарыяграфія ўсвядоміла сябе гістарычнай геапалітыкай. У адпаведнасці са сваімі палітычнымі перакананнямі гісторыкі новай Беларусі згуртаваліся на адным альбо на другім баку. Адначасова нацыянальна–арыентаваныя гісторыкі падкрэслівалі функцыю дзяржавы як „моста“ ў мінулым і ў сучаснасці, а таксама геаграфічнае ды геапалітычнае становішча Беларусі ў „цэнтры Еўропы“. У той час, калі на пачатку 90–х г. ідэя „Балтыйска–Чарнаморскага Саюза“, народжаная, паводле Андрэя Кіштымава, „у Беларусі“, абмяркоўвалася ў міністэрствах замежных спраў Польшчы, прыбалтыйскіх дзяржаваў, Беларусі й Украіны, каб пазней, урэшце, быць ахвяраванай Варшавай, Кіевам ды сталіцамі краін Балтыі на карысць як найхутчэйшага збліжэння з Еўразвязам і НАТО, не толькі беларускія гісторыкі звярталі ўвагу на супольныя традыцыі з часоў Вялікага Княства Літоўскага[283]. Аднак прапанаваная кіраўніком БНФ Пазьняком у 1993 г. антырасійская сістэма бяспекі, у якой праглядваліся пэўныя паралелі са спраек-

[281] Грыцкевіч Анатоль. Гісторыя геапалітыкі Беларусі // Спадчына. 1994. №3. С.40 і наст. З канца XVIII ст. гаворка ўжо не йшла пра „беларускую геапалітыку“, а пра „геапалітычнае становішча Беларусі“ — параўн.: Грыцкевіч Анатоль. Гісторыя геапалітыкі Беларусі // Тамсама. № 4. С.48 і наст.

[282] Гэткая самая думка ў: Смалянчук Аляксандр. Паміж „двух зол“. Вобраз „ворага“ ў беларускай нацыянальнай гістарыяграфіі другой паловы XIX— пачатку XX ст. // ЛіМ, 11.10.1996. С.14—15.

[283] У якасці падагульнення параўн. артыкул, апублікаваны ў рубрыцы „Беларусь і геапалітыка“ ў выдаваным з 1930 г. часопісе „Беларусь“: Кіштымаў Андрэй. Каб выконваць ролю „моста“, дзяржава мусіць быць магутнай // Беларусь. 1994. № 5. С.24—25. У сваім геапалітычным аналізе аўтар ідзе таксама прыгодніцкімі шляхамі, вызначаючы геапалітычнае месца дзяржаваў у адпаведнасці з іх падзелам на „класічныя сухапутныя і водныя дзяржавы“ („тэлуракратыя“ і „таласакратыя“). Сухапутныя краіны, акрамя таго, падзяляюцца, на субцывілізацыі стэпу, лясоў, гор, далін, пустэльні і льдоў. Гэтак, той факт, што Беларусь ёсць краінай лясоў, тлумачыць не толькі „фенаменальны гістарычны сімбіёз з яе геапалітычнымі братамі — літоўцамі“, але і „беларуска–літоўскі саюз у пару росквіту Вялікага Княства Літоўскага“, а таксама „падтрымку Літвы з боку БНР“. Параўн.: Тамсама, с.24.

таванай тагачасным украінскім прэзідэнтам Краўчуком „зонай бяспекі і стабільнасці“, не ўлучала ў сябе Польшчу:

„Неабходна аднавіць раўнавагу на ўсходзе Еўропы, разбураную дзвесце гадоў назад. Размова ідзе пра Балтыйска–Чарнаморскую садружнасць (асацыяцыю) дзяржаў (Эстонія, Латвія, Літва, Беларусь, Украіна, Малдова). Гэта шлях да стабільнасці і раўнапраўнага супрацоўніцтва, гарантыя суверэнітэту“[284].

Ужо з прычыны свайго ізаляцыяніісцкага характару і адмежавання ад Усходу і Захаду названая прапанова не была падтрыманая ані тагачасным спікерам парламента Шушкевічам, ані — у з針ененай форме, з улучэннем Польшчы — пазнейшым прэзідэнтам Лукашэнкам. Дэталёва прамаляваная рупнымі картографамі тэрытарыяльна–гістарычная перарыўнасць і прыналежнасць да зусім розных дзяржаўных утварэнняў ды вялікіх імперыяў паказвалі новую Беларусь у святле даўно вядомай тэорыі „моста“, гэтаксама як жаданую пераходную прастору ды буферную зону найноўшага еўрапейскага дзяржаўнага парадку[285].

Падкрэсліванне геаграфічнага становішча „паміж усходам і захадам“ тым самым зрабілася найважнейшай „геапалітычнай“ інтэрпрэтацыйнай фігурай, што — як мы бачылі вышэй, калі гаворка йшла аб працах Ігната Абдзіраловіча і Уладзіміра Конана — мела таксама культурна–, рэлігійна– і менталітэтна–гістарычныя грані. Калі ў Абдзіраловіча ды Конана размова яшчэ ішла, хутчэй, пра абстрактную „беларускую місію“, спадарыня рэктар Беларускага універсітэта культуры на тле еўрапейскіх палітычных патрабаванняў да Беларусі спадзявалася на тое, што з дапамогай „беларускай ментальнасці“, стылізаванай пад асаблівасць нацыянальнага характару „талерантнасці“ і „культурнага паслання Беларусі“ можна будзе ажыццявіць яе „паступовую еўрапеізацыю“[286]. Уражвальным у топасе „еўрапеізацыі“ быў факт, што аўтары спрабавалі выразна даць зразумець, што ў часы Вялікага Княства „еўрапейскасць“ і „беларускасць“ ужо ўтваралі адзінства і што цяперашні шлях у Еўропу — гэта, маўляў, усяго толькі вяртанне туды[287]. Геаграфічнае становішча Беларусі цягам стагоддзяў мелася спрычыніцца да выяўлення ўласнай беларускай ментальнасці, якая ўвесь час праз паланізацыю ды русіфікацыю выпрабоўвалася й апыналася ў небяспецы. Гэткія якасці, як ужо вышэй згаданая „нацыянальная і рэлігійная талерантнасць, гатовасць да кампрамісаў, схільнасць да пантэізму, дзіўная «паэтычнасць душы» народа, яго гасціннасць ды працавітасць“, зачаравалі гісторыкаў і праз гэта адначасова расчынілі ўсе дзверы і брамы перад гістарыяграфіяй стэрэатыпаў. Нават

[284] Пазьняк Зянон. Беларусь, Расія, СНД // НГ, 14.01.1993. С.3.

[285] Казлоў Л., Цітоў А. Беларусь на сямі рубяжах. Мінск, 1993; Цітоў Віктар. Беларусь на гістарычных картах // Голас Радзімы, 21.09.1995. С.4.

[286] Грыгаровіч Ядвіга. Еўрапеізацыя — шлях паступовы. Аднак пажадана, каб ён меў апераджальны тэмп // Беларусь. 1994. № 9. С.16—17.

[287] Гэтак сцвярджаецца ў: Анціпенка Алесь. Еўрапейскасць і хрысціянская ідэя беларускасці (op. cit.). С.259—262. Паводле слоў гэтага аўтара, яшчэ Статут Вялікага Княства Літоўскага быў дакументам, у якім зафіксаваная „сучасная еўрапейская дактрына недатыкальнасці правоў асобы на свабоду сумлення, дактрына прававой дзяржавы“ — гл.: Тамсама, с.261.

пошукі адпаведных асаблівасцяў „народнай душы" і спробы вывесці прыкметы народнага характару з гучання нацыянальнай мовы — як гэта прапаноўваў у сваёй пазітывісцкай „Псіхалогіі народаў" ляйпцыгскі псіхолаг і філосаф Вільгельм Вунт (*Wundt*) — да сярэдзіны 90-х г. трымалі ў сваім палоне пэўных шукальнікаў нацыі[288].

Другая стрыжнявая тэза геапалітычнай гістарыяграфіі і паліталогіі, уплыў якой моцна аслабеў у працэсе рэсаветызацыі палітыкі за прэзідэнтам Лукашэнкам, развівала ідэю „еўрапеізацыі Беларусі". Сюды падпадае не толькі ўзвышанае праз тэзу пра „балцкі субстрат" раннегістарычнае збліжэнне протабеларускіх племянных супольнасцяў да „арыйскага абшару", але і тыповая для сучаснае гісторыі тэза пра беларускі „цэнтр Еўропы". Хоць апошняя дыскутавалася, хутчэй, пабочна і нярэдка рабілася аб'ектам іроніі й цынічных характарыстык — іначай немагчыма інтэрпрэтаваць выступ аднаго расійскага гісторыка, які здзекліва гаварыў, маючы на ўвазе Беларусь, пра „Азію ў «цэнтры Еўропы»"[289] — гэтая геапалітычна ўкшталтаваная формула знайшла вялікую колькасць прыхільнікаў.

Нават тагачасны віцэ-прэзідэнт АНБ і прэзідэнт Згуртавання беларусаў свету „Бацькаўшчына" прафесар Радзім Гарэцкі, які яшчэ раней неаднаразова ахвотна гаварыў пра „тысячагадовую гісторыю дзяржаўнасці ў Беларусі", у 1994 г. адстойваў пункт погляду наконт таго, што, маўляў, „цэнтр кантынентальнай Еўропы знаходзіцца ў сярэдзіне трохкутніка гарадоў Чэрвень—Асіповічы—Клічаў, два кіламетры на паўднёвы захад ад вёскі Чыжахі на Бярэзіне"[290]. Тое, што тут увесь час скрыжоўваліся не толькі значныя каардынаты, але і шляхі гісторыі, меўся засведчыць топас пра Беларусь як „заўсёдны тэатр ваенных дзеянняў", што мусіў надаць большай пераканаўчасці амбівалентнаму вобразу Беларусі як „цэнтра Еўропы". Гэтая аргументацыя, запазычаная з традыцыі савецкае гістарыяграфіі, была тым часам дапоўненая „спісам войнаў, бітваў і паўстанняў, у якіх бралі ўдзел беларусы", што пачаўся з захопу і разбурэння Полацка ноўгарадскімі князямі ў 980 г. і заканчваўся беларускімі ўдзельнікамі вайны ў Афганістане ў 1989 г.[291]. „Геапалітычныя" элементы ў гісторыяпісанні Беларусі да гэтага часу захапляюць. Гэтаксама як у планавых гульнях палітолагі спраўджвалі магчымыя знешнепалітычныя стратэгіі Рэспублікі Беларусі, рупныя гісто-

[288] Дубянецкі Эдуард. Менталітэт беларусаў: спроба гісторыка-псіхалагічнага аналізу (op. cit.). С.193 і наст., 199. Гісторыя ментальнасці ў іншых аўтараў таксама часта блытаецца з рамантычна-пазітывісцкімі пошукамі народнага характару — паўсюдна згадванымі характэрнымі рысамі беларусаў ёсць: талерантнасць, добразычлівасць, сумленнасць, цярплівасць, адкрытасць, шчырасць, пакорлівасць і рахманасць. Параўн.: Тамсама; гл., акрамя таго: Кляўчэня Аляксандр. Ля вытокаў нацыянальнай свядомасці беларусаў (op. cit.). С.86, а таксама высновы ў падраздзеле 3.2.4 гэтага раздзела.

[289] Разанін Яраслаў. Азія ў „цэнтры Еўропы" // Наша слова, 22.11.1995. С.5.

[290] Гарэцкі Радзім. Дзяржаўнасць на Беларусі мае больш чым тысячагадовую гісторыю // БМ. 1994. № 1. С.4—6; Шаруха Ігар. Геаграфічны цэнтар Эўропы — у Беларусі // Спадчына. 1994. № 6. С.109—110.

[291] Тарасаў Кастусь. Кароткі спіс войнаў, бітваў, паўстанняў, у якіх удзельнічалі беларусы // Спадчына. 1995. №1. С.92—101.

У „Расійска-крыўскім (беларускім) слоўніку" Ластоўскім было завострана абвешчана: „Мы крывічы, а не Русь Літоўская, Варажская ці Маскоўская, Белая ці Чорная, мы асобны славянскі народ"[336]. Калі Ластоўскі, прыхільнік гэткіх поглядаў, у 1927 г. быў пакліканы на працу ў Інбелкульт і справакаваў там вялікую дыскусію пра „крывічоў" як продкаў беларусаў, гэта, вядома, не засталося без адказу. Разам са сваімі калегамі Шлюбскім ды Каспяровічам Ластоўскі зрабіўся ўвасабленнем акадэмічнага „нацыянал-дэмакратызму", які нібыта падтрымлівае найшчыльнейшыя сувязі з „нацыянал-фашызмам" ва ўсходняй Польшчы. Старадаўняя гісторыя, якая раней была сферай вывучэння этнографаў, цяпер зрабілася справай партыі. Канчаткова заклеймаваны далейшы лёс „нацыянал-дэмакратаў" быў пасля выхаду яго гэткай самай непрыхаванай і прынцыповай крытыкі падсавецка-расійскай дзяржаўнай канструкцыі:

> „Культура Бялінскіх, Чарнышэўскіх, Пляханавых і Леніных павінна і будзе панаваць над культурамі ўсіх народаў, што жывуць у СССР [...] і праз пэўны час таксама ва ўсім свеце. [...] Гэта значыць, што дух пыхлівага маскоўскага імперыялізму за апошнія сто гадоў не толькі не выветрываўся, але, хутчэй, фармаваўся і распаўсюджваўся. Ён цяпер ужо не абмяжоўвае сябе славянствам, але імкнецца пашырыцца на ўвесь свет"[337].

Вяртанню Ластоўскага папярэднічалі выдадзены ў 1923 г. указ аб амністыі, а таксама Берлінская канферэнцыя 1925 г. Пасля таго, як Рада БНР на гэтай сустрэчы афіцыйна адмовілася ад антысавецкай барацьбы і абвясціла Менск „адзіным цэнтрам нацыянальна-дзяржаўнага адраджэння Беларусі", нават сябры Рады атрымалі права прыехаць у БССР. У той час як Ластоўскі, Цвікевіч і Краскоўскі належалі да другой групы вяртанцаў, Смоліч, Лёсік і Някрашэвіч былі амніставаныя яшчэ раней, што і стымулявала вяртанне. [С.Некрашэвіч і Я.Лёсік у эміграцыі фактычна не былі і ўжо ў 1920 г. працавалі ў БССР; А.Смоліч вярнуўся ў БССР з Вільні ў 1922 г. — *Заўвага перакладчыка.*] Усе названыя асобы атрымалі працу адпаведна іх кваліфікацыі, а Ластоўскі і Некрашэвіч у 1928 г. нават сталі акадэмікамі БАН[338].

лёнізацыя // Тамсама, с.28—36. [Зваротны пераклад з нямецкай мовы. — *Заўвага перакладчыка.*]. Між тым, упершыню перадрукаваная створаная ў 1921 г. Ластоўскім першая „Энцыклапедыя гісторыі Беларусі": Ластоўскі Вацлаў. Нарысы з беларускай гісторыі // Спадчына. 1996. № 4. С.5—52 (з працягам). Рукапіс гэтай дагэтуль невядомай працы быў знойдзены ў 1990 г. у архіве рукапісаў Цэнтральнай бібліятэкі Літоўскай Акадэміі навук у Вільні; падрыхтаваны да друку Аляксеем Каўкам. Складзены з лексічных запісаў тэкст уяўляе сабою далейшае рамантычнае паглыбленне „крыўскай тэзы".

[336] Ластоўскі В. Падручны расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік. Коўна, 1924. С.XI. [Цытата падаецца паводле: Ластоўскі В. Выбраныя творы. Мінск, 1997. С.366. — *Заўвага перакладчыка.*]. Параўн. таксама: *Яго ж.* Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі. Коўна, 1926. На гэтую тэму гл.: Bartoszewicz. On Vacłau Łastoŭski's „Historyja biełaruskaj (kryŭskaj) knihi" // JBS 7 (1984) 3—4. С.28—32. Пра асобныя аспекты дзейнасці Ластоўскага параўн.: Вынікі навуковай канферэнцыі „Вацлаў Ластоўскі — выдатны дзеяч Беларускага адраджэння"... (op. cit.).

[337] Ластоўскі В. Больш сьцісласьці ў тэрмінолёгіі // Крывіч. 1927. № 12. С.78. [Зваротны пераклад з нямецкай мовы. — *Заўвага перакладчыка.*]

[338] Параўн. па гэтай тэме: Король А.С. Белорусизация: 20—30-е г. (op. cit.). С.148 і наст., а таксама раздзел пра БАН.

# V. Падагульненне

Даследаванне „Гісторыкі і ўлада“ на прыкладзе даўно забытай на Захадзе нацыі канцэнтруе ўвагу на гістарычна–ўкаранёных праблемах сучаснага нацыятворчага працэсу. Якраз у малых народаў Усходняй Еўропы нацыянальныя канцэпцыі гісторыі й міфы як неад'емныя складнікі калектыўнага аўтапартрэта не супадалі з афіцыйнай інтэрпрэтацыяй гісторыі. У Беларусі таксама ўжо даўно выявіў сябе канфлікт паміж дзяржаўна–ўладнай інтэрпрэтацыяй і нацыянальнымі памкненнямі. Да канца XX ст. дзяржава і нацыя тут так і не сышліся разам. Эпоху нацыянальных дзяржаваў гэтая краіна пражыла як перыферыя. У выніку сваёй прыналежнасці да розных імперыяў і дзяржаўных утварэнняў нацыятворчы працэс у Беларусі ўвесь час перапыняўся. З гэтай прычыны сапраўдная беларуская гістарычная ідэнтычнасць у большыні заставалася абмежаванай ініцыятыўнымі альбо дыскурсавымі групамі, прасякнутымі патрыятычнымі альбо нацыянальнымі ідэямі і толькі часова пашыралася на іншыя часткі грамадства. Ад пачатку нацыянальнага гісторыяпісання гісторыкі былі падзеленыя, а іх бачанне гісторыі — паддадзенае палітычнаму кантролю. Пераважная частка даследнікаў мінуўшчыны ад познецарскага часу да канца Савецкага Саюзу знаходзілася ў полі моцнага гравітацыйнага прыцягнення вышэйпастаўленых даследчых цэнтраў і фабрык думкі. Адначасова яны таксама — як і гісторыкі іншых перыферыйных рэгіёнаў — мелі на мэце свае пастаноўкі спецыфічных гістарычных і культурніцкіх пытанняў і ўваходзілі ва ўнутраныя канфлікты.

Папярэдні выклад быў прысвечаны ў вузкім сэнсе гістарыяграфіі й гістарычнай культуры ў іх узаемадачыненнях з палітыкай улад у Беларусі цягам мінулага стагоддзя. У цэнтры ўвагі аўтара, побач з гістарычнымі канцэпцыямі, разглядам інстытуцыянальных рамкавых варункаў і індывідуальна–біяграфічнымі перадумовамі стварэння гістарычнай навукі ў Беларусі, знаходзіліся механізмы ажыццяўлення палітычнай улады ў дачыненні да гісторыкаў і гісторыі. Пры гэтым акадэмічная і неакадэмічная гістарыяграфія апісвалася на тле зменлівых дачыненняў унутры самой улады. Да найважнейшых высноваў працы належыць тое, што ў Беларусі — у не меншай ступені, чым у іншых перыферыйных краінах Еўропы — канструявалася і дэканструявалася нацыянальная гісторыя. Напрыканцы XX ст. сябе выяўляе падзелены вобраз гісторыі, у якім адно аднаму процістаяць комплексы ўспамінаў і міфаў, якія своеасабліва супернічаюць міжсобку. Як пацвярджае прыклад Беларусі, народнасці, што маюць у заплеччы перапыненую і незавершаную нацыянальную генезу ў сваёй сучаснай гісторыі, у асаблівай ступені схіляюцца да стварэння ўласнага каталогу міфаў. Да іх належаць у большыні міфы паходжання, заснавання дзяржаўнасці, міф айчыны, гэтаксама як „залаты век“ у гісторыі, міф вынішчэння і змрочнае ўспрыманне чужога.

У той самы час у афіцыйным гісторыяпісанні царскага і савецкага часу, гэтаксама як і незалежнай Беларусі з сярэдзіны 90-х г., дамінавалі гістарычныя праекцыі, у якіх гісторыя Беларусі ўвесь час паказвалася ў імперскім кантэксце

дачыненняў з уладай у Расіі. Інтэграцыйныя міфы акцэнтавалі, з аднаго боку, супольнае паходжанне ўсходнеславянскіх „братніх" народаў і праваслаўную пабожнасць, супольны вобраз ворага ў асобе заходняга агрэсара, супярэчную з прыродай прыналежнасць усходнеславянскіх тэрыторыяў да літоўска-польскага кантэксту, разнастайныя акты ўз'яднання ў часе паміж 1654 і 1939 г. і, урэшце, інтэграцыйны досвед „Вялікай Айчыннай вайны".

Гэтак, у позненарскай імперыі, а таксама ў ранне- і постсавецкім часе ўсе тэматычныя палі беларускай гісторыі мелі падвойную інтэрпрэтацыю, у якой адлюстроўваліся ўсе супярэчнасці паміж нацыянальным ды імперскім вобразам гісторыі. Паводле яго Беларусь магла мець у заплеччы альбо традыцыю тысячагадовае дзяржаўнасці, альбо выглядала як правінцыя ў доўгім цені гісторыі польскай, расійскай ці савецкай імперыяў. З таго часу гэтая падвойная культура гісторыі ды гістарычнае памяці рабіла пераакцэнтаванне погляду на сапраўдную гісторыю беларускіх земляў. Нацыянальная і царысцкая ды падсавецкая імперская гісторыі былі палітычна матываванымі канструкцыямі, што нярэдка гвалтоўным чынам адмаўлялі само права на існаванне. Гэткім чынам, розныя культуры гісторыі, што рабілі націск на нацыянальную і ненацыянальную інтэграцыю, мелі выразныя рысы ўзаемавыключэння.

Хоць беларуская нацыя напрыканцы XIX ст. наўрад ці ўяўляла сабою нешта большае, чым вялікую, пераважна сялянскую, супольнасць, з'яднаную роднай мовай і народнай культурай, і тут таксама вузкае кола нацыянальных „абуджальнікаў" ды прафесійных гісторыкаў пачало паварочвацца да гісторыі ўласнага народа і ствараць нацыянальныя альтэрнатыўныя гісторыі. Малой групай інтэлектуалаў рабіліся спробы у гістарычных прэтэнзіях на сучаснасць зняць напружанасць дачынення паміж этнічнай і палітычнай дэфініцыямі гэтай прасторы. Тым не менш, беларускае гісторыяпісанне на сваім пачатку толькі вельмі павольна рабіла пераход ад публіцыстыкі з выкарыстаннем крыніц да рэфлексійнай гістарыяграфіі й доўга мусіла атрымліваць навуковыя імпульсы звонку; да таго ж, ёй, у звязку з зацягненасцю працэсу фармавання беларускае нацыі, было наканавана сутыкацца з слабым успрыманнем з боку насельніцтва. Але і ў дачыненні да паўночна-заходніх правінцыяў царскай імперыі слушным ёсць сцверджанне Хагена Шульцэ (*Schulze*), што паўсюды ў Еўропе XIX ст. было стагоддзем „пераможнага паходу нацыянальнай гістарыяграфіі", якая нават „негістарычным" малым нацыям „прымервала гістарычныя строі"[1].

У даследаваннях увага канцэнтравалася на тым, каб прасачыць за станам гістарычнай самасвядомасці беларускіх гісторыкаў цягам стагоддзя й ахарактарызаваць розныя погляды адносна „гістарычнасці" і „гістарычнай легітымнасці" „беларускай нацыі". Як паказана вышэй, „малыя нацыі" гістарыяграфіямі суседніх дзяржаваў часта дыскваліфікоўваліся і абвяшчаліся „негістарычнымі". У звязку з адсутнасцю, у значнай ступені, нацыянальнай эліты гістарычны працэс развіцця беларускага народа доўгі час быў „нябачны", але перадусім „не апісаны"[2].

[1] Schulze, Hagen. Staat und Nation in der europäischen Geschichte. München, 1995.
[2] Линднер Райнер. Лидирующие группы в Беларуси в прошлом и настоящем // Вектор (Минск). 1997. № 2. С.11—16.

Гэтак, не існавала не толькі беларускай гістарычнай хранiстыкі да найшоўшага часу, але адсутнічаў і неабходны для гэтага нацыянальны пантэон. Гэты стан справаў істотным чынам наклаў свой адбітак як на першапачатковую, гэтак і на наступныя стадыі развіцця беларускай гістарыяграфіі ХХ ст. Тое датычыла ў роўнай ступені як стварэння нацыянальнай гістарыяграфіяй міфа мінуўшчыны, гэтак і рэдукавання беларускага мінулага падсавецкай гістарыяграфіяй да гісторыі беларуска-расійскіх дачыненняў.

Нацыянальны ўзор інтэрпрэтацыі гісторыі, нягледзячы на змены эпох, заставаўся ў ценю „заходнерускай", „вялікарасійскай", „савецка-патрыятычнай" альбо „русафільска-панславянскай" канцэпцыяў. На этапах аслаблення палітычнага кіраўніцтва і зменшанага ідэалагічнага ўплыву цэнтра — як, прыкладам, у 1905 г., у 20-я г. альбо пад час агоніі савецкай імперыі — нацыянальная гістарыяграфія здолела выяўляць сябе як самабытны спосаб выкладу падзеяў і спрабавала асэнсаваць гістарычны працэс, паказаны з нацыянальных пазіцыяў. У гэтым часе роля гісторыяпісання як нацыятворчай сілы выяўлялася асабліва выразна. Аўтары схіляліся да змястоўнай і храналагічнай „дынамізацыі" беларускай гісторыі. У гэткай самай ступені ў гісторыкаў і публіцыстаў гістарычнай тэмы пераважала абарончае разуменне гісторыі, праз якое рабіліся магчымым успрыманне і паказ беларускай гісторыі перадусім як гісторыі ахвяр. Праз гэта гістарычны аптымізм падсавецкага гісторыяпісання быў ім у значнай меры чужы, альбо ён фактычна знікаў у светабачанні, скіраваным унутр, на нацыянальную будучыню.

Наяўная да канца 20-х г. у Беларусі канкурэнцыя нацыянальна-гістарычных канцэпцыяў і савецка-марксісцкага ўнармавання свету, якая потым знікла ва уніфікаваным вобразе гісторыі, вярнулася ў канцы 80-х г. і яшчэ сёння тут прысутная. Ва ўсіх даследаваных перыядах часу беларускія гісторыкі рухаліся ў полі палітычнае напругі. Калі беларуская нацыянальная гістарыяграфія імкнулася набыць сваё аблічча пераважна як гістарыяграфія пратэсту і адмежавання, падсавецкія гісторыкі мусілі адпавядаць патрабаванням, што да іх ставіліся партыяй, дамінантнай ідэалогіяй, і дэманстраваць апераджальную лаяльнасць. Ад сярэдзіны 30-х г. яны належалі да носьбітаў ідэяў і праваднікоў савецкай сістэмы. Сталінізм праз рытуальную крытыку ды індывідуальны тэрор прынцыпова змяніў гісторыяпісанне ды вобразы гісторыі ранняга Савецкага Саюзу і Беларусі. Важнай высновай гэтага даследавання ёсць адначасна тое, што нацыянальны вобраз гісторыі быў прысутны да часу, калі на пачатку 30-х г. сталі ўжывацца фізічны гвалт і высылкі гісторыкаў, пазбаўленых пасад ва універсітэцкіх ды акадэмічных інстытутах. Да таго часу беспартыйны гісторык быў хутчэй правілам, чым выняткам.

Як спецыфічная рыса гістарыяграфіі ў падсавецкіх рэспубліках, а таксама ў постсавецкай гістарычнай навуцы выступае метадалагічная слабасць. Нешматлікія і ў рэдкіх выпадках плённыя тэарэтычныя дыскусіі ў падсавецкай гістарыяграфіі, як правіла, дазваляліся ў цэнтры і адбываліся пры актыўным удзеле ЦК партыі ў галаўных інстытутах Масквы альбо Ленінграда. Навуцы ў правінцыі практычна надаваўся ўсяго толькі ранг гістарычнага рэгіёназнаўства.

І пасля краху падсавецкай цэнтралізаванай навукі ў новых дзяржавах не адбывалася ніякіх інавацыйных метадалагічных дыскусіяў, якія б выходзілі за межы спробаў тлумачэння змены савецкага вобраза гісторыі на нацыянальны. Замена адной датуль прынятай канцэпцыі на другую не прывяла да ўзнікнення шматмернага гістарычнага аналізу. Гэтак, напачатку амаль не ўспрымаўся міжнародны даследніцкі ландшафт. Гістарычныя спробы інтэрпрэтацыі з боку заходніх даследнікаў у значнай ступені ігнараваліся. Толькі ў другой палове 90-х г. і ў Мінску ад маладзейшага пакалення гісторыкаў пачалі выходзіць імпульсы для ўспрымання метадалагічных прапановаў ды вынікаў заходніх даследаванняў. Першае ў беларускай гістарыяграфіі даследаванне метадалогіі гісторыі з'явілася ў 1996 г.

Прычыны структурнай слабасці відавочныя. Напачатку беларуская гістарычная навука мусіла ліквідоўваць кадравае адставанне. Толькі пачынаючы з 1921 г. у Мінску ўвогуле пачалі рыхтаваць гісторыкаў. У раннесавецкім часе навукоўцы з Кіева і Масквы пераводзіліся ў Мінск, каб дапамагчы гістарычнай навуцы выйсці з цяжкога становішча. Сталінскія рэпрэсіі супраць нацыянальнай інтэлігенцыі ў гуманітарных навуках сталі сапраўдным кровапусканнем, вынішчэннем спецыялістаў. Канчаткова аслаблымі гістарычныя навукі апынуліся пасля Другой сусветнай вайны. Толькі ў 50—70-я г. сярод мінскіх і гродзенскіх гісторыкаў пачала назірацца тэндэнцыя да новай прафесіяналізацыі, што перадусім датычыла галін сацыяльнай і аграрнай гісторыі. У той самы час беларуская гістарыяграфія заставалася правінцыйнай. У постсавецкай эпосе разам з крахам цэнтралізаванай савецкай навуковай палітыкі перапыніліся таксама ўзаемадачыненні гісторыкаў правінцыі з маскоўскімі ды ленінградскімі/санкт-пецярбургскімі інстытутамі і з краінамі „блізкага замежжа“. Гэта прывяло да спынення абмену часопісамі і недасылання запрашэнняў на канферэнцыі. Пры ўсім пашырэнні даляглядаў — не ў апошнюю чаргу на Захад — распад Савецкага Саюзу ў значнай ступені спаралізаваў колішнія ўнутрысавецкія навуковыя кантакты.

Для інстытуцыянальнай гісторыі беларускай гістарычнай навукі вельмі істотнае, доўгатэрміновае значэнне мела тое, што Інстытут гісторыі Акадэміі навук БССР альбо гістарычны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта дзейнічалі ў адпаведнасці з палітычнымі дырэктывамі часу альбо, здаралася, іх апярэджвалі. Шмат якія гісторыкі з правінцыі выразна акрэслівалі свае пазіцыі ў духу партыйных патрабаванняў, а нямала навукоўцаў падтрымлівала нефармальныя кантакты з людзьмі ў мінскім ЦК. „Апякунства“ над інстытутамі з боку партыі з прычыны не залішне вялікага памеру сістэмы вышэйшай адукацыі ажыццяўляць было значна прасцей, чым, да прыкладу, у Маскве ці ў Кіеве. Параўнальна невялікі працэнт членаў партыі сярод гісторыкаў, з аднаго боку, сведчыў пра пэўны патэнцыял выяўлення нязгоды; з іншага боку, выяўляецца, што навуковая сфера рэспублікі да канца 20-х г. у меншай ступені падлягала партыйнаму кантролю ды рэгламентацыі, чым гэта, прыкладам, мела месца ў навукова-даследчых установах Украіны.

Той факт, што праз пятнаццаць гадоў пасля заканчэння Другой сусветнай вайны быў, нарэшце, дапрацаваны першы сінтэтычны выклад „Гісторыі БССР“

з „марксісцка-ленінскага гледзішча“, значыў дзве рэчы. *Па-першае*: адзінае савецкае бачанне гісторыі сцвердзіла сябе ў Беларусі толькі пасля атрымання ваеннага досведу і канчатковага ўсталявання савецкага патрыятызму як інтэрпрэтацыйнай дактрыны сучаснае гісторыі. *Па-другое*: да другой паловы 40-х г. актыўнымі заставаліся гэткія гісторыкі, як Пічэта, што атрымоўвалі адукацыю ва універсітэтах царскай імперыі й доўгі час лічыліся „буржуазнымі спецыялістамі“. Пераважна маладыя аўтары новай сінтэтычнай працы — акадэмічныя выкладчыкі позне- і постсавецкай генерацыі навукоўцаў — з таго часу клапаціліся пра тое, каб Беларусь надалей заставалася ў гравітацыйным полі расійскай імперскай тэорыі і каб нават не заходзіла гаворкі пра які-кольвечы заходні ўплыў на яе палітычнае альбо культурнае жыццё. Пасля таго як на пачатку 60-х г. санкцыянаваны партыяй вобраз гісторыі стабілізаваўся, да сярэдзіны 80-х г. адно за адным пачалі з'яўляцца шматлікія выданні аднатамовікаў і шматтамовікаў, а таксама падручнікаў па беларускай гісторыі.

Як сведчыць беларускі прыклад, змена дамінантнай гістарычнай канцэпцыі ў падсавецкіх рэспубліках была ў большай ступені прадвызначаная зменай пакаленняў сярод гісторыкаў, чым беспасярэдне зменай палітычнай сістэмы. Калектыўна-біяграфічнае даследаванне супольнасці беларускіх гісторыкаў выявіла выразнае ўзаемадачыненне паміж рознымі пакаленнямі і рознымі ўзорамі інтэрпрэтацыі. Пры гэтым варта заўважыць, што беларускія навукоўцы-гісторыкі пры пераходзе ад царскай да савецкай сістэмы ўлады мянялі ідэалогію не з гэткім энтузіязмам, як яны гэта рабілі пры распадзе савецкай імперыі — калі толькі меншыня засталася зацягнутай у гарсэт савецкага разумення гісторыі, а бальшыня ахвотна павярнулася да нацыянальнае гісторыі.

З гледзішча інтэнсіўнасці працэсу адпаведнага нацыянальнага адраджэння немагчыма вызначыць істотнай розніцы паміж гісторыкамі краін — спадчынніц савецкай імперыі. Розніца паміж беларускай і расійскай гістарыяграфіяй нацыянальнай арыентацыі, аднак, відавочная. Беларускі нацыяналізм, прыхільнікі якога бачаць у ім „стваральную сілу“[3], не мае нічога агульнага з панславісцкай ідэалогіяй новага расійскага нацыянал-кансерватызму. У той час як пісьменнікі ды публіцысты гістарычнай тэмы кшталту Аляксандра Салжаніцына альбо Ігара Шафарэвіча, працягваючы ў сваіх працах прапаганду аджылых нацыянал-кансерватыўных стэрэатыпаў, выклікаюць духі ўсходнеславянска-расійскай сістэмы каштоўнасцяў[4], беларускія „нацыяналісты“ сярод гісторыкаў глядзяць у заходнім кірунку альбо падкрэсліваюць асаблівасць „беларускае місіі“ для еўразійскай прасторы. Гэтую гістарычна абгрунтаваную розніцу варта яшчэ раз вылучыць, гледзячы ў перспектыву будучыні абедзвюх дзяржаваў: патрыёты ў Беларусі і Расіі не маюць нічога, што б іх яднала між сабою; іх гістарычныя канцэпцыі выключаюць адна адну.

[3] Гэтак гаворыцца ў артыкуле аднаго з тагачасных і пазнейшых лідэраў Народнага Фронту: Хадыка Юры. Нацыяналізм як канструктыўная сіла // ЛіМ, 3.05.1995. С.4.
[4] Lindner, Rainer. Die Väter Solshenizyns. Bemerkungen zum russischen Konservatismus in Geschichte und Gegenwart // Osteuropa. 1994. Nr 12(44). С.578—590.

Парадыгма нацыянальнага на пачатку 90-х г. была не толькі важным кампанентам постсавецкай ідэнтычнасці, але і канцэптуальным падмуркам новай гістарыяграфіі ў колішніх падсавецкіх рэспубліках. Найперш сярод інтэлектуалаў гэтак званых „малых" і „негістарычных" народаў у варунках намінальнай незалежнасці сфармавалася новае разуменне гісторыі, што выявіла сябе ў адпаведных тэкстах гісторыкаў ды пісьменнікаў, а таксама ў праграмных заявах новых палітычных партыяў. Калі для шмат каго постімперская гістарычная навука й адыход ад ранейшай уладнай ідэалогіі стварылі новыя спадзяванні і сталі абаронцамі нацыянальнай ідэі, іншыя надалей глядзелі на такіх гісторыкаў як на здраднікаў ідэі адзінага савецкага народа. Насамрэч, далейшае існаванне Савецкага Саюзу было рэальнасцю самае позняе на той момант, калі грамадства як у цэнтры, гэтак і на перыферыі адкрыта пачало дыскутаваць пра сваю гісторыю. Гэтая дылема была характэрная для развіцця ў Беларусі да 1995 г., а потым прывяла да рэсаветызацыі канцэпцыі гісторыі й культуры гістарычных даследаванняў і цягам кароткага часу — да адкрытай спрэчкі паміж нацыянальна арыентаванымі гісторыкамі і новымі прыдворнымі гісторыкамі прэзідэнта Лукашэнкі. Рыторыка гэтай постсавецкай „спрэчкі гісторыкаў" мала чым адрознівалася ад рытуалаў крытыкі падсавецкага часу. Тут зрабіўся відавочным той факт, што аспекты пераемнасці паміж падсавецкім і постсавецкім гісторыяпісаннем усё яшчэ былі выразнейшымі, чым тыя змены, што прынёс з сабою крах імперыі.

У дыяпазоне паміж палкімі заклікамі і рэвізіяй ранейшых пазіцыяў дыскусія прафесійных гісторыкаў працягвалася на ўсіх франтах. Сінхроннасць існавання нацыянальнага ды інтэграцыйнага варыянтаў беларускай гістарыяграфіі будзе мець месца і ў далейшым. Палітычны інтарэс панавальнай улады і надалей будзе прыхільны да аднаго альбо да другога вобраза гісторыі і заклапочаны тым, каб гісторыя заставалася функцыяй палітычнага аспекту жыцця. Дагэтуль, у параўнанні з іншымі постсавецкімі дзяржавамі, як выяўляецца, Беларусь ідзе сваім асобным шляхам, бо тут палітычная эліта адцуралася ад нацыянальнай гістарыяграфіі, а рэжым прэзідэнта Лукашэнкі робіць стаўку на канон гістарычных і маральных каштоўнасцяў познесавецкага часу. Як і пры сваім пачатку, беларускі вобраз гісторыі напрыканцы XX ст. знаходзіцца пад падзеленым небам. Гістарыяграфія надалей існуе ў полі рознасці патэнцыялаў паміж навукова-даследніцкімі зацікаўленасцямі і палітычнымі патрабаваннямі дня.

Застаецца спадзявацца, што ўсё больш і больш гісторыкаў з Мінска, Гродна альбо Гомеля будуць выпрабоўваць канкурэнтныя канцэпцыі бачання мінулага на наяўнасць у іх рацыянальнага стрыжня і паказваць гісторыю Беларусі такой, якой яна ёсць: гісторыяй этнічна, культурна і рэлігійна адмежаванай гістарычнай прасторы, якая — у выніку сваёй прыналежнасці да Кіеўскае Русі, да Вялікага Княства Літоўскага, да Рэчы Паспалітай, да царскай імперыі і да Савецкага Саюзу — увасабляе цэнтральна-ўсходнееўрапейскія і ўсходнееўрапейскія традыцыі мінулага тысячагоддзя ва ўсёй сваёй разнастайнасці, з усімі крызісамі і перыпетыямі. Палітычная і культурная будучыня маладой Рэспублікі Беларусі не ў апошнюю чаргу залежыць ад успрымання гэтай багатай гісторыі.

# Дадатак

## Спіс скарачэнняў

| | |
|---|---|
| АН БССР | *Акадэмія навук БССР* |
| АНБ | *Акадэмія навук Беларусі* |
| АН | СССР *Акадэмія навук СССР* |
| Б/А | *„Беларусіка / Albaruthenica"* |
| БАН | *Беларуская Акадэмія навук* |
| БГА | *„Беларускі Гістарычны Агляд"* |
| БГЧ | *„Беларускі гістарычны часопіс"* |
| БД | *„Беларуская думка"* |
| БДУ | *Беларускі дзяржаўны універсітэт* |
| БЕЛТА | *Беларускае тэлеграфнае агенцтва* |
| БМ | *„Беларуская мінуўшчына"* |
| БРГ | *Беларуская рэвалюцыйная грамада* |
| БСГ | *Беларуская сацыялістычная грамада* |
| БСЭ | *„Большая Советская Энциклопедия"* |
| Веснік БДУ | *Веснік Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Серыя III* |
| Весці АН БССР | *Весці Акадэміі навук Беларускай ССР. Серыя грамадскіх навук* |
| ВИ ( | *„Вопросы истории"* |
| ВИ (БССР) | *„Вопросы истории (БССР)"* |
| ВКП(б) | *Всесоюзная коммунистическая партия (большевиков)* |
| ГрДУ | *Гродзенскі дзяржаўны універсітэт* |
| ІГ АНБ, ІГ АН БССР | *Інстытут гісторыі Акадэміі навук Беларусі (БССР)* |
| ИИАН БССР | *Институт истории Академии наук БССР* |
| ИИАН СССР | *Институт истории Академии наук СССР* |
| ИИПЦК КП(б)Б | *„Институт истории партии при ЦК КПБ"* |
| ИИПОР | *Институт истории партии и Октябрьской революции при ЦК КП(б)Б* |
| ИМ | *„Историк–марксист"* |
| Інбелкульт | *Інстытут беларускай культуры* |
| „Истпарт" | *Камісія па вывучэнні гісторыі партыі і Кастрычніцкай рэвалюцыі* (назва ўжывалася ў 1922—1929 г.) |
| КБ | *„Камуніст Беларусі" / „Коммунист Белоруссии"* |
| КПБ | *Камуністычная партыя Беларусі* |
| КП(б)Б | *Камуністычная партыя (бальшавікоў) Беларусі* |
| КПСС | *Коммунистическая партия Советского Союза* |
| ЛіМ | *„Літаратура і мастацтва"* |
| МА РБ | *Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь* (з 1991 г.) |
| МСЭ | *„Малая Советская Энциклопедия"* |
| НАН РБ | *Нацыянальная Акадэмія навук Рэспублікі Беларусь* |
| НАРБ | *Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь* |
| Наркамасветы | *Народны камісарыят асветы* |
| Наркамнац | *Народны камісарыят нацыянальнасцяў* |

| | |
|---|---|
| НГ | *„Народная газета"* |
| НД | *„Наша Доля"* |
| НН | *„Наша Ніва"* |
| РАН | *Российская Академия наук* |
| РАНИОН | *Российская ассоциация научно–исследовательских институтов общественных наук* |
| РЦХИДНИ | *Российский центр хранения и изучения документов новейшей истории* |
| Саўнаркам | *Савет народных камісараў* |
| УІЖ | *„Український історічний журнал"* |
| ЦВК | *Цэнтральны Выканаўчы камітэт* |
| ЦГАДА | *Центральный государственный архив древних актов* |
| ЦДІАУ | *Центральний державний історічний архів України* |
| ЦК | *Центральный комитет* |
| ЭГБ | *Энцыклапедыя гісторыі Беларусі* |

| | |
|---|---|
| AfS | *Archiv für Sozialgeschichte* |
| BiOSt | *Bundesinstitut für Ostwissenschaftliche und Internationale Studien (Köln)* |
| BR | *Belorussian Review* |
| Cahiers | *Cahiers du Monde russe* |
| CSS | *Canadian Slavic Studies* |
| FOG | *Forschungen zur osteuropäischen Geschichte* |
| GWU | *Geschichte in Wissenschaft und Unterricht* |
| HUS | *Harvard Ukrainian Studies* |
| HZ | *Historische Zeitschrift* |
| JBfGOE | *Jahrbücher für Geschichte Osteuropas* |
| JBS | *The Journal of Byelorussian Studies* |
| JfhK | *Jahrbuch für historische Kommunismusforschung* |
| MGM | *Militärgeschichtliche Mittaeilungen* |
| NN | *Nasza Niwa / Naša Niva* |
| NP | *Nationalities Papers* |
| NPL | *Neue Politische Literatur* |
| OMRI | *Open Media Research Institute* |
| ЦОН | *Österreichische Osthefte* |
| PSSS | *Project on the Soviet Social System* (1950—52) |
| RR | *The Russian Review* |
| SEER | *The Slavonic and East European Review* |
| SRU | *Slavische Rundschau* |
| SS | *Soviet Studies* |
| ZfG | *Zeitschrift für Geschichtswissenschaft* |

# Пералік табліц

# Спіс крыніц і літаратуры

У працах, якія датычаць гісторыі гістарыяграфіі, самі даследаванні гісторыкаў робяцца крыніцамі. Бываюць выпадкі, што паасобныя даследаванні выкарыстоўваюцца і як дакументы свайго часу, і як крыніца інфармацыі — г.зн., як „другасныя" крыніцы. У прыведзеным ніжэй спісе ў якасці крытэрыю вызначэння, як правіла, прыярытэт аддаецца выкарыстанню той альбо іншай крыніцы ў якасці першаснай.

## *1. Недрукаваныя крыніцы*

Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь, г.Мінск (НАРБ)

| | |
|---|---|
| „Отдел народного образования": | фонд 3, вопіс 4, справы 12, 14, 15 |
| ЦК КПБ / КП(б)Б: | ф.4, воп.2, спр.218; ф.4, воп.3, спр.2, 16, 20, 22, 29, 31, 32, 33, 34, 38, 41, 42, 150, 166, 1177; ф.4, воп.7, спр. 41, 48, 156, 170, 194, 195, 276; ф.4, воп.8, спр.13, 22; ф.4, воп.47, спр.148; ф.4, воп.14, спр.1; ф.4, воп.17, спр.4; ф.4, воп.20, спр.96; ф.4, воп.23, спр.3470; ф.4, воп.26, спр.42; ф.4, воп.47, спр. 5, 12, 85, 116, 117, 120, 122, 148, 183; ф.4, воп.61, спр.382; ф.4, воп.81, спр.6, 42, 58, 70, 80, 118, 223, 814, 838 |
| „Особый сектор": | ф.4, воп.21, спр.200, 362, 363, 364, 365, 396, 490, 548, 549, 1400, 2041 |
| „Комиссия партийного контроля при ЦК КП(б)Б по БССР (1918—1947)": | ф.15, воп.28, спр.9, 10, 14, 21, 22 |
| „Истпарт" (1921—1938): | ф.60, воп.3, спр.81, 126, 128, 460, 499, 567, 777; ф.60, воп.5, спр.43 |
| „БНР": | ф.62, воп.1, спр.174 |
| „ИИПОР" (1946—1991): | ф.4683, воп.3, спр.660 |
| „У.М.Ігнатоўскі": | ф.4935, воп.1, спр.24 |

Цэнтральны дзяржаўны гістарычны архіў Украіны, г.Кіеў

| | |
|---|---|
| „М.В.Доўнар-Запольскі": | ф.262, оп.1, д.1, 2, 10, 12, 22, 25, 96, 162, 170, 194 |

Widener Library, Harvard University, Cambridge, Mass.

Kluckhohn, Clyde / Inkeles, Alex / Bauer, Raymond. The Russian Research Center, Harvard University under contract with The Human Resources Research Institute, Air University, Maxwell Air Force Base, Alabama, AF 33 (038)—12909; Project on the Soviet Social System (PSSS)

| | |
|---|---|
| Schedule A: | vol.1, #9 RF; vol.11, #142 ML; vol.23, # 468 RS; vol.36, #142 (NY) 1664 JF; vol.35, #104 |
| Schedule B5: | vol.7, #45 JR, #427 JR, # 431 JR; vol.8, #495 JR, # 497 JR |
| Schedule B11: | vol.7, #424 MF; vol.21, #64 |

## *2. Бібліяграфіі*

Белоруссия в печати XIX— начала XX столетия. Библиография на иностранных языках. Ч.1 / II. Мінск, 1980/1983 (издание Государственной библиотеки БССР им. В.И.Ленина)

Бібліяграфія па гісторыі Беларусі. Феадалізм і капіталізм. Мінск: (выд. ІГ АН БССР і інш.), 1969

Бягун Н.І. Заходняя Беларусь: гісторыя і сучаснасць. Рэкамендацыйны бібліяграфічны спіс // Новыя кнігі Беларусі. 1996. Вып. 6. С.1—16 (дадатак)

Вацлаў Ластоўскі // Новыя кнігі Беларусі. 1994. № 2. С.9—12

Владимир Иванович Пичета. Библиографический указатель. Мінск, 1978 (выд. БДУ)

Деятели белорусской науки. Библиографический указатель, 1974—1990 / Сост. Василевская А.Д. Мінск: (Центральная научная библиотека АН БССР им.Я.Коласа), 1992

Докторские и кандидатские диссертации по историческим наукам БССР 1944—1987 гг.: Библиогр.указатель (2-е изд.) / Сост.В.Н.Михнюк, Л.Н.Новицкая. Издание Государственной библиотеки им.В.И.Ленина и Ин-та истории АН БССР, Мінск, 1988

Збралевич Л.И., Федулова С.В. Библиография белорусской советской библиографии, 1922—1961: Указ. библиогр. материалов, изд. в БССР. Мінск, 1963

История исторической науки в СССР. Дооктябрьский период. Библиография. Москва, 1965

История исторической науки в СССР. Советский период. Октябрь 1917—1967. Библиография. Москва, 1980.

Кнігі Беларусі, 1517—1917. Зводны каталог. Мінск, 1986

Летапіс друку БССР. Мінск, 1946 і наст. (выданне працягваецца пад назвай: Летапіс друку Беларусі)

Летапіс часопісных артыкулаў, 1928—1933 гг. Рэтраспектыўны бібліяграфічны паказальнік. У дзвюх частках. Мінск, 1992

Летапіс беларускага друку. Менск, 1927 і наст.

Мацвеева Т.Р. Вытокі. Да пытання этнагенезу беларусаў... Рэкамендацыйны бібліяграфічны спіс // Новыя кнігі Беларусі. 1996. № 9. Дадатак. С.1—16

Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь / Дзяржаўная бібліятэка Рэспублікі Беларусь (выд.). Новая літаратура па гісторыі і гістарычных навуках Беларусі 1990. Бібліяграфічны паказальнік. Мінск, 1992; Новая літаратура па гісторыі і гістарычных навуках Беларусі, 1991: Бібліяграфічны паказальнік. Мінск, 1993 (укладальнік Г.І.Антонава); Новая літаратура па гісторыі і гістарычных навуках Беларусі, 1992: Бібліяграфічны паказальнік. Мінск, 1994; Новая літаратура па гісторыі і гістарычных навуках Беларусі, 1993: Бібліяграфічны паказальнік. Мінск, 1995

Мітрафан Доўнар–Запольскі // Новыя кнігі Беларусі. 1992. .№ 4. С.14—16
Уладзімір Пічэта // Новыя кнігі Беларусі. 1978. № 7. С.18—20 і: Тамсама. 1988. № 8. С.15—16
Усевалад Ігнатоўскі // Новыя кнігі Беларусі. 1991. № 2. С.17—19

Bibliographie zur Geschichte und Archäologie in Weißrußland für 1928/29 // SRU 2 (1930) 2. С.218
Kipel, Zora and Vitaut (рэд.). Byelorussian Statehood. Reader and Bibliography. New York, 1988
Vakar, Nicholas P. A Bibliographical Guide to Belorussia (Russian Research Center Studies, vol.220. Cambridge, MA., 1956

## 3. Друкаваныя крыніцы

А.С. Белая Русь // Энциклопедический словарь Брокгауза—Ефрона. Т.5. С.173 і наст.
А.С. Белоруссы // Тамсама. С.232—234
Аб Віленскім унівэрсітэце // НН. № 12, 6.06.1908. С.5—6
Аб „Белорусском Обществе“ // НН. № 3, 15.01.1909. С.39
Аб выбарах у Гасударственную Думу // Тамсама, № 5, 18.11.1906. С.2
Аб культурным будаўніцтве БССР. Пастанова аб'яднанага пленуму ЦК і ЦКК КП(б)Б // Савецкая краіна. 1932. № 4(18). С.3—16
Абдзіраловіч Ігнат. [Адвечным шляхам:] Дасьледзіны беларускага сьветагляду. Вільня, 1921 [перавыданне: Мінск, 1993]
Абецедарский Л.С. Борьба белорусского народа за воссоединение Белоруссии с Россией в середине XVII века // 300 лет. Воссоединение Украины с Россией, 1654—1954. Москва: Институт славяноведения АН СССР / Институт истории УССР, 1954. С.178—222
Абмеркаванне макета „Гісторыі БССР“ // Весці АН БССР. 1949. № 2(10). С.144—148
Абэцэдарскі Л. У святле неабвержных фактаў. Мінск, 1969
Абэцэдарскі Л.С., Баранава М.П., Паўлава Н.Г. Гісторыя БССР / Вучэбны дапаможнік для вучняў сярэдняй школы. Мінск, 1968 (7–е выд.; першае выд.: 1960)
Агурский С. Революционное движение в Белоруссии (1863—1917 г.). Менск, 1928
Академическое дело 1929—1931 г. Документы и материалы следственного дела, сфабрикованного ОГПУ. Вып. 1: Дело по обвинению академика С.Ф.Платонова. Санкт–Петербург: [Изд. Российской Академии наук], 1993
Акіншэвіч А. Казацка–сялянскія войны на Беларусі ў XVII стал. у характарыстыцы акад. М.Грушэўскага // Савецкая краіна. 1931. № 5(7). С.22—27
Актуальныя пытанні гісторыі БССР. Савецкі перыяд. Дапаможнік для настаўнікаў і вучняў старэйшых класаў / Склад. В.М.Фамін, В.Ф.Кушнер, Н.М.Ганушчанка. Мінск, 1991.
Алексиевич Светлана. „Я — не писатель катастроф. Просто жизнь вокруг нас катастрофична до бессмысленности“ // НГ, 13.04.1996 (дадатак). С.7
Алексиевич Светлана. „Нас так долго учили любить человека с ружьем“ // Известия, 29.02.1996. С.3
Алексютовіч М.А. Скарына. Яго дзейнасць і светапогляд. Мінск, 1958
А–н–а [Антон Навіна — Р.Л.]. З нашага жыцьця. „Маладая Беларусь“ // НН. № 44, 3.11.1911. С.566—568
Андраюк Серафім. Без кніг мы ніколі не выберамся з дрыгвы // ЛіМ, 8.10.1993. С.5, 12
Антонович В.Б. Монографии по истории Западной и Юго–западной России. Киев, 1885
Антонович В., Иловайский Д. История Великого Княжества Литовского. Санкт–Петербург, 1887
Анціпенка Алесь. Еўрапейскасць і хрысціянская ідэя беларускасці // Б/А. Вып.2. Мінск, 1993. С.259—262

Аркас М.М. Історія України-Русі. Санкт-Петербург, 1908 [перавыданні: Київ, 1991 і Одеса, 1994]

Арлоў Уладзімір. Таямніцы полацкай гісторыі. Мінск, 1994

Арлоў Уладзімір. У палоне гістарычных міфаў // Голас Радзімы, 15.06.1995. С.3, 5

Аслёзаў С.А. Вытокі // Самы галоўны ўрок. Мінск, 1994 (2-е выд.). С.163—189

Б.Л. Супроць буржуазнай мэтодолёгіі ў вывучэньні гісторыі Беларусі // Савецкая краіна. 1931. № 2(4). С.54—57

Бабровіч Л., Шпілеўскі Ів. Супроць контр-рэволюцыйных нацдэмаўскіх тэорый у этнографіі // Савецкая краіна. 1931. № 1(3). С.42—55 і: № 2(4). С.46—53

Багатыроў Анатоль і інш. Аднавіць будзе цяжэй, чым захаваць... Адкрыты ліст старшыні Дзяржаўнага камітэта па друку Рэспублікі Беларусь сп. Бельскаму У.П. // ЛіМ, 12.07.1996. С.1

Багдановіч Я. На жыццёвым шляху: Успаміны. Мінск, 1992

Байдаков А.И. Коммунисты — организаторы и руководители Осиповичского партизанского соединения Белоруссии в борьбе с немецко-фашистскими захватчиками. Дисс. канд. ист. наук. Минск: БГУ, 1953

Барабой А. К вопросу о причинах присоединения Украины к России в 1654 году // Историк-марксист. 1939. № 72. С.87—111

Бараг Л.Г., Меерович М.С. Белорусские народные предания и сказки-легенды о Заслонове и Ковпаке // Советская этнография. 1948. № 2. С.148—154

Баранава М.П., Загарульскі Э.М., Паўлава Н.Г. Гісторыя Беларусі: Падручнік для 8—9 класаў сярэдняй школы. Мінск, 1993 (5-е выд.)

Баранова М.П., Павлова Н.Г. История БССР: Учебное пособие для учащихся 7—8 классов восьмилетней школы. Под ред. Н.В.Каменской. Перевод с белорусского. Мінск, 1965 (4-е перапрацаванае і пашыранае выд.)

Барыс Сымон. Новыя кнігі // БГЧ. 1993. № 4. С.108

Белая В.Л., Жытко А.П., Пляшэвіч У.К., Траяноўскі А.П. Мая Радзіма — Беларусь. Падручнік для 4 класа. Зацверджана Міністэрствам адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь. Мінск, 1996

Беларуска-літоўскі канфлікт. Гутарка гісторыкаў літаратуры: Дарыюс Куоліс (АН Літвы) і Сяргей Шупа („Наша Ніва") // НН, 22.03.1996. С.20—21

Беларуская гістарычная літаратура // НН, 1994. № 10. С.8—9

Беларуская Савецкая энцыклапедыя. Т.1—12 / Рэд. Броўка П.У. і інш. Мінск, 1969—75

Беларусь у Вялікім княстве Літоўскім. Стэнаграма пасяджэнняў Міжнароднага круглага стала, якія адбыліся ў Мінску 6—7 красавіка 1992 г. // Беларусістыка. Мінск, 1992

Беларусь. Нарысы гісторыі, экономікі, культурнага і рэвалюцыйнага руху. Калектыўная праца пад агульнай рэд. А.Сташэўскага, З.Жылуновіча і У.Ігнатоўскага. Менск, 1924

Беляев А.Г. Партизанское движение в Могилевской области в годы Великой Отечественной войны Советского Союза. Дисс. канд. ист. наук. Москва: МГУ, 1950

Беляев И.Д. История Полоцка, или Северо-Западной Руси, от древнейших времен до Люблинской унии. Москва, 1872

Беляев И.Д. Очерк истории Северо-Западного края России. Вильно, 1867

Белорусская ССР. Краткая энциклопедия. Т.1—5. Мінск, 1978—82

Белорусская ССР за пятьдесят лет. Статистический сборник. Мінск, 1968

Белорусский научно-литературный кружок студентов С.-Петербургского университета. Санкт-Петербург., 1913 — 1914

БЕЛТА: Общественное обсуждение тезисов по основным вопросам истории БССР // Советская Белоруссия, 6.10.1948 г. С.1

Без-Корнилович М.О. Исторические сведения о примечательнейших местах в Белоруссии с присовокуплением и других сведений, к ней же относящихся. Санкт-Петербург, 1855 (рэпрынтнае выданне: Мінск, 1995)

Бібліологічні вісти. 350 років українського друку (1574—1924). Київ, 1924

Бітва на полі гісторыі (Інтэрв'ю з П.Ц.Петрыкавым) // Голас Радзімы,18.07.1996. С.3

Біч М.В., Сідарцоў У.Н., Фамін В.М. Гісторыя Беларусі: XX стагоддзе. Вучэбны дапаможнік для 10—11 класаў сярэдняй школы. Мінск, 1993 (2-е выд.)
Біч М.В. Гісторыя Беларусі: Канец XVIII ст.—1917 г. Вучэбны дапаможнік для вучняў 8 класа. Мінск, 1993
Біч Міхась. Аб нацыянальнай канцэпцыі гісторыі і гістарычнай адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь // БГЧ. 1993. № 1. С.15—24
Біч Міхась. Эвалюцыя ідэі дзяржаўнасці ў вызваленчым руху Беларусі ў канцы XVIII—пачатку XX ст. // Голас Радзімы, 28.03.1996. С.1; 4.04.1996. С.4; 11.04.1996. С.5
Біч Міхась. Туман дылетанцтва і тэндэнцыйнасці // Тамсама, 12.09.1996. С.3, 5
Богданович А.Е. Пережитки древнего миросозерцания у белоруссов. Этнографический очерк. Гродна, 1895
Божанов В.А. Традиции большевизма и взаимосвязь современной белорусской политической практики // Восточная Европа. Политический и социокультурный выбор. Материалы международной научно-практической конференции. Мінск, 1994. С.78—80
Бондаренко В.А. Задачи культурного строительства в БССР на современном этапе // Сборник материалов научно-теоретической конференции „XXIV съезд КПСС и социально-политическое развитие советского общества" (выд. Магілёўскага абкама КП Беларусі й Абласнога метадычнага савета выкладчыкаў грамадазнаўчых навук). Горкі, 1972. С.75—88
Бочаров Ю. Задачи преподавания истории // ИМ. 1934. № 37. С.85—92
Брага С. Балцкі элемэнт пры паўстаньню беларускага народу. Мюнхэн, 1950
Брянцев Н.Д. История Литовского государства с древнейших времен. Вильно, 1889; *Яго ж.* Очерк Древней Литвы и Западной России. Вильно, 1891
Будзіловіч Л. Азірнемся! // Раніца. Думкі беларускай студэнцкай моладзі. Санкт-Пецярбург, чэрвень 1914. С.2—5.
Бульба А. Памяці Тараса Шаўчэнкі // НН, 24.02.1911. С.113—119.
Бурбіс А. Беларуская сацыялістычная грамада ў першым перыядзе яе працы (1903—1907) // Беларусь. Нарысы гісторыі, экаиомікі, культурнага і рэвалюцыйнага руху. Менск, 1924. С.177—181
Бутрамееў Ул. Вялікія і славутыя беларускай зямлі. Мінск, 1995
Быкаў Васіль. Горкі смак перамогі (травень 1995 г.). Тут цытуецца паводле: Быкаў В. Крыжовы шлях. Мінск, 1998. С.240—245.
Бядуля З. Жыды на Беларусі. Бытавыя штрыхі. Менск, 1918
Вабішчэвіч Віктар. Вывучэнне сімволікі ў школе // БГЧ. 1995. № 2. С.130—138
Варонко Я. Беларускі рух ад 1917 да 1920 году: Кароткі агляд. [2-е выд.]. Коўна, 1920
Василенко Николай. Литовско-Русское государство // Энциклопедический словарь Брокгауза—Ефрона. Т.27-А. С.817—827
Васілеўскі Д. Сталецьце краязнаўчай працы на Беларусі // Наш Край. 1926. № 2—3. С.3—14
Ваупшасов С.А. На тревожных перекрестках. Записки чекиста. Москва, 1988 (3-е выд.; першае выйшла ў 1946 г.)
Ведаць гісторыю — бачыць будучыню // БМ. 1993. № 1(1). С.3—4
Вільня павінна стаць адкрытай для Беларусі. Ліст Таварыства беларускай культуры ў Літве да грамадскасці краіны // НГ, 15.07.1993. С.2
Витебская летопись. Составленная Витебскими мещанами: Михаилом Панцырным, 896—1709, Иваном Чарновским, 1601—1757, Гаврилом Кириловичем Аверкою и Стефаном Гавриловичем Аверкою, 1578—1768 // Сборник летописей, относящихся к истории южной и западной Руси, изданный комиссией для разбора древних актов, состоящей при Киевском, Подольском и Волынском Генерал-Губернаторе. Киев, 1888 (таксама надрукавана як: Slavica-Reprint. Nr.62. Unveränderter fotomechanischer Nachdruck der Originalausgabe von 1888. Düsseldorf—Vaduz, 1970). С.213—236.
Вихарев С.Р. Суверенитет БССР в составе СССР. Мінск, 1958
Владимирский-Буданов М.Ф. Немецкое право в Польше и Литве. Санкт-Петербург, 1868
Власт. Кароткая гісторыя Беларусі // НН. 1910. № 1 і наст. С.5 і наст.

